# МЫСЛІЦЕЛІ І АСВЕТНІКІ БЕЛАРУСІ

## X–XIX СТАГОДДЗІ

ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК



МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
1995

ББК 87.3 я2
М 95
УДК 1(091) (031)

Навуковыя кансультанты:
М.Б. БАТВІННІК, Э.К. ДАРАШЭВІЧ,
С.Ф. ДУБЯНЕЦКІ, Г.В. КІСЯЛЁЎ,
У.М. КОНАН, А.С. МАЙХРОВІЧ,
В.П. ОРГІШ, С.А. ПАДОКШЫН,
К.С. ПРАКОШЫНА, Я.А. ЮХО

Складальнік Г.А. МАСЛЫКА

Мастак Э.Э. ЖАКЕВІЧ

М 95 Мысліцелі і асветнікі Беларусі: Энцыкл. даведнік / Беларус. Энцыкл.; Гал. рэд. «Беларус. Энцыкл.»: Б.І. Сачанка (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э.Э. Жакевіч. — Мн.: БелЭн, 1995. — 671 с.: іл.

ISBN 985-11-0016-1

«Мысліцелі і асветнікі Беларусі» — першы ў Рэспубліцы Беларусь энцыклапедычны даведнік, у якім змешчаны матэрыялы пра жыццёвы шлях і дзейнасць прадстаўнікоў філасофскай і грамадскай думкі і асветнікаў краіны ад старажытных часоў да пачатку 20 стагоддзя. У даведніку змешчаны больш за 650 персаналій. Выданне багата ілюстравана партрэтамі дзеячаў, выявамі мясцін, звязаных з іх жыццём і творчасцю, рэпрадукцыямі з іх твораў і карцін. Выданне разлічана на масавага чытача.

М $\frac{1091000000-017}{М\ 318\ (03)-95}$ 8—95

ББК 87.3 я2

ISBN 985-11-0016-1

# ПРАДМОВА



У энцыклапедычным даведніку «Мысліцелі і асвенікі Беларусі» зроблена спроба сабраць пад адну вокладку ўсё сузор'е асветнікаў, прадстаўнікоў філасофскай і грамадска-палітычнай думкі зямлі Беларускай ад старажытных часоў да пачатку 20 стагоддзя. Гэта своеасаблівы экскурс у складаны шлях гісторыі фарміравання беларускай нацыі, яе культуры і дзяржаўнасці, выкладзены ў біяграфіях яе дзеячаў. Тут змешчаны біяграфіі дзяржаўных, грамадска-палітычных і рэлігійных дзеячаў, філосафаў і педагогаў, вучоных розных галін навукі і вынаходнікаў, пісьменнікаў і мастакоў, кампазітараў і музыкантаў, выдаўцоў і бібліятэкараў, прыродазнаўцаў, падарожнікаў і краязнаўцаў, удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, грамадскай пазіцыі і светапогляду, якія неслі ў скарбонку айчыннай і сусветнай культуры свае веды, думкі і талент, сцвярджалі аўтарытэт беларускага народа і веліч нацыянальнай ідэі. Падмурак, закладзены ў свой час гэтымі асобамі, у рэшце рэшт стаў той асновай, якая прывяла Беларусь да ажыццяўлення гэтай ідэі — адраджэння і набыцця ёю незалежнасці.

Адзін з галоўных крытэрыяў, якім кіраваліся складальнікі даведніка пры змяшчэнні звестак пра таго ці іншага дзеяча ў гэтае выданне, — факт яго нараджэння на этнічнай тэрыторыі Беларусі незалежна ад месца, дзе праходзіла яго жыццядзейнасць. Вядома, што нашы землякі працавалі не толькі дзеля развіцця сваіх нацыянальнай свядомасці і культуры, але многія з іх, працуючы па-за межамі бацькаўшчыны, пакінулі прыкметны след у культуры іншых краін і народаў, зрабілі важкі ўклад у сусветную культуру. У кнізе чытач знойдзе шмат такіх прыкладаў, асабліва сярод выхаванцаў і выкладчыкаў віленскіх універсітэта і медыка-хірургічнай акадэміі, якія пазней працягвалі сваю асветніцкую і грамадскую дзейнасць у іншых навучальных установах і навуковых цэнтрах. Адначасова ў даведнік уключаны імёны і тых дзеячаў, якія, хоць і не былі ўраджэнцамі Беларусі, значную частку свайго жыцця правялі на яе тэрыторыі, плённа развівалі яе навуку, культуру, неслі асвету яе народу і праз гэта заслужылі яго ўдзячнасць, набылі сабе вядомасць.

Прымаючы пад увагу неаднастайнасць і своеасаблівасць гістарычных перыядаў, якія прайшла наша бацькаўшчына ў сваім развіцці, складальнікі гэтага

даведніка выкарысталі храналагічную дыферэнцыяцыю размяшчэння звестак пра асоб па асноўных эпохах гісторыі Беларусі. Выданне мае 4 раздзелы: эпоха Полацкага і Тураўскага княстваў (10—12 ст.); эпоха Вялікага княства Літоўскага (13—16 ст.); эпоха Рэчы Паспалітай (17—18 ст.); Беларусь у складзе Расійскай імперыі (19 ст.).

У кожным з гэтых раздзелаў артыкулы пра тагачасных дзеячаў размешчаны ў алфавітным парадку. Усведамляючы пэўную ўмоўнасць такога спосабу размяшчэння, складальнікі зыходзілі з інтарэсаў чытача, якому б хацелася бачыць развіццё грамадскай думкі Беларусі ў гістарычнай паслядоўнасці. У выпадках, калі жыццё і дзейнасць асобы прыпадалі на стык эпох, перавага аддавалася таму перыяду, у які праходзіла найбольш актыўная і плённая яе дзейнасць.

Усяго ў даведніку змешчана больш за 650 персаналій. У біяграфічных звестках апрача апісання жыццёвага і творчага шляху аналізуюцца светапогляд асобы, асноўныя друкаваныя ці рукапісныя працы, змяшчаецца (пры наяўнасці) бібліяграфія пра яе. Многія артыкулы ілюструюцца фрагментамі з твораў гэтай асобы. Даведнік забяспечаны імянным паказальнікам, тлумачальным слоўнікам тэрмінаў і філасофскіх паняццяў, што сустракаюцца ў тэксце. У якасці пасляслоўя ў кнізе змешчаны артыкул доктара філасофскіх навук А.С.Майхровіча «Ля вытокаў нацыянальнага адраджэння». Выданне даволі багата праілюстравана партрэтамі асоб, выявамі мясцін, з якімі звязана іх дзейнасць, фамільнымі гербамі, тытульнымі лістамі твораў і інш. Усяго змешчана больш за 350 ілюстрацый.

Даведнік падрыхтаваны калектывам аўтараў з ліку вучоных Беларусі і блізкага замежжа, супрацоўнікаў выдавецтва БелЭн. Непасрэдная работа па падборы, складанні і рэдагаванні матэрыялаў праведзена навуковай рэдакцыяй філасофіі, права і эканомікі БелЭн.

Даведнік разлічаны на шырокае кола чытачоў, якіх цікавіць гісторыя нашай краіны. Мы разумеем, што ў аднатомны даведнік уключаны імёны далёка не ўсіх, хто таго заслугоўвае. Таму мэта гэтага выдання — не толькі пазнаёміць чытача з жыццём і творчай дзейнасцю прадстаўнікоў асветы, філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі, але і падштурхнуць навуковыя колы краіны да больш дэталёвага і глыбокага даследавання, да папулярызацыі жыццёвага шляху і творчай спадчыны выдатных, але яшчэ мала вядомых дзеячаў нашай мінуўшчыны. Будзем удзячныя ўсім за заўвагі і пажаданні як адносна змешчаных у даведніку матэрыялаў, так і за прапановы па дапаўненні новымі прозвішчамі.

*Рэдакцыйная калегія.*



# ЭПОХА ПОЛАЦКАГА І ТУРАЎСКАГА КНЯСТВАЎ

| | |
|---|---|
| **862 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Полацк. |
| **2-я палова 10 ст.** | Утварэнне Полацкага княства. |
| **980 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Тураў. |
| **992 г.** | Утварэнне хрысціянскай епархіі ў Полацку. |
| **1050—1055 гг.** | Будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора. |
| **1067 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Мінск і Оршу. |
| **11 ст.** | Утварэнне Смаленскага княства, у склад якога ў розныя часы ўваходзілі землі Беларусі. |
| **1128 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гродна і Клецк. |
| **1142 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гомель і Рагачоў. |
| **Пасля 1187 г.** | Стварэнне «Слова аб паходзе Ігаравым» — выдатнага помніка літаратуры ўсходніх славян. |



## АЎРАМІЙ СМАЛЕНСКІ (ПРАЦАЛЮБІВЫ)

Асветнік, рэлігійны і грамадскі дзеяч, мастак. Нарадзіўся ў сярэдзіне 12 ст. ў Смаленску ў заможных бацькоў, якія да яго мелі 12 дачок. З дзяцінства выхаваны ў духу строгай хрысціянскай набожнасці і прывучаны да сістэматычных кніжных заняткаў. Калі Аўрамій дасягнуў сталага ўзросту, ён адмовіўся жаніцца і вырашыў прысвяціць сябе справе рэлігійнага служэння і асветы. Пасля смерці бацькоў раздаў усю іх маёмасць манастырам, цэрквам і бедным, а сам пайшоў у манастыр, размешчаны ў ваколіцах Смаленска. Тут ён старанна вывучаў творы Іаана Златавуста, Яфрэма Сірына, жыціі святых: Антонія Вялікага, Яўхімія, Савы, Феадосія Палесцінскіх, Антонія і Феадосія Пячэрскіх і інш., займаўся зборам і перапісваннем кніг. У гэты час смаленскі князь Раман Расціслававіч (памёр у 1170) заснаваў у горадзе вучылішча, у якім навучаліся па славянскіх, грэчаскіх і лацінскіх кнігах. Аўрамій актыўна садзейнічаў росквіту гэтага вучылішча, дапамагаў фарміраваць яго бібліятэчны фонд. Пасля 30 гадоў манаскага служэння ў 1198 ён прыняў сан прэсвітэра і стаў шырока вядомы як прапаведнік і настаўнік не толькі для манаскай браціі, але і для недухоўных асоб. Гэта выклікала зайздрасць у часткі духавенства, і Аўрамію давялося перайсці ў Крыжаўзвіжанскі манастыр у Смаленску. Сюды да яго пачало прыходзіць яшчэ больш людзей за духоўнай парадай, настаўленнем. Ён актыўна ўдзельнічаў у аздабленні храма, намаляваў для яго 2 абразы. Няспынныя пропаведзі і поспех у веруючых зноў выклікалі зайздрасць у духавенства і гарадской знаці. Прэсвітэра абвінавацілі ў ерасі і распаўсюджванні забароненых кніг, а таксама ў спакушэнні жанчын і параманьванні духоўных дзяцей. На судзе, які ўзначальвалі князь і епіскап, ён змог апраўдацца, але яму забаранілі свяшчэннадзейнічаць і загадалі вярнуцца ў той жа самы манастыр. Але папулярнасць Аўрамія ў народзе была такой вялікай, што царкоўныя ўлады вымушаны былі адмяніць сваю забарону на прапаведніцтва і прызначылі яго ігуменам новага манастыра. Па-ранейшаму да яго сыходзіліся баяры і простыя людзі, багатыя і жабракі, каб паслухаць разумныя парады і настаўленні. Аўрамій заклікаў смалян няўхільна прытрымлівацца маральных прынцыпаў хрысціянства, клапаціцца пра духоўнае ўдасканаленне жыцця, увесь час помніць пра Бога, маліцца дзень і ноч, каб не быць асуджаным на судзе Божым. Памёр ён да 1224, пражыўшы ў манастве 50 гадоў. Пасля смерці, як і пры жыцці, Аўрамія шанавалі смаляне як нястомнага прапаведніка рэлігійнага пакаяння і непазбежнасці страшнага суда. За актыўнае прапаведаванне хрысціянства і ўзорнае жыццё праваслаўная царква кананізавала яго. Яго вучань манах Яфрэм напісаў «Жыціе прападобнага Аўрамія Смаленскага».

*Літ.*: Четии-Минеи: (Книга житий святых). Кн. 1—4. М., 1829; Жития святых Российской церкви. Также Иверских и славянских и местно чтимых подвижников благочестия, составленные А.Н.Муравьёвым. Т. 1—18. Спб., 1855—68; Барсуков Н. Источники русской агиографии. Спб., 1882; Филарет, архиепископ Черниговский. Жития святых чтимых Православной Церковию, со сведениями о праздниках Господских и Богородничных, и о явленных чудотворных иконах. 3 изд. Спб., 1900; Голубинский Е. История канонизации святых в Русской Церкви. 2 изд. М., 1903.

*В.П.Оргіш.*



## ГАРДЗІСЛАВА Святаслаўна (у манастве Еўдакія; пасля 1110 — ?)

Асветніца, дачка полацкага князя Святаслава-Георгія Усяславіча; малодшая сястра Прадславы (*Ефрасінні Полацкай*), адна з яе бліжэйшых паплечніц і прадаўжальніца спраў. Каб выбраць сабе памочніцу, Ефрасіння Полацкая, відаць, кіравалася тым, што Г. была дастаткова ўспрымальная, па-

слухмяная і мела здольнасці да навук, а паводзіны старэйшай сястры заўсёды былі для яе ўзорам высокай духоўнасці і самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне. Заснаваўшы паблізу Полацка Спасаўскі манастыр (не пазней 1128), Ефрасіння папрасіла бацьку прыслаць да яе сястру Г. для навучання грамаце. Як паведамляецца ў «Жыціі Ефрасінні Полацкай», ігуменння «рупна вучыла яе ратаванню душы, а тая рупна прымала, нібы ўрадлівая ніва, памякчыўшы сэрца сваё і кажучы гэтак: «Госпад Бог хай наставіць мяне на ратунак душы тваімі святымі малітвамі, панна». У хуткім часе адбылося тайнае пастрыжэнне Г. ў манашкі і яна атрымала імя Еўдакія. Праз пэўны час ёй было даверана вядзенне ўсіх гаспадарчых спраў святога жытла, і шмат гадоў гэта было асноўным яе абавязкам. Калі пад канец свайго жыцця Ефрасіння Полацкая вырашыла накіравацца ў паломніцтва ў Іерусалім, то яна, паводле «Жыція...», даручыла «ўладарыць і ладзіць сястры сваёй Еўдакіі абодва манастыры». Гэта было сведчаннем таго, што Г. ўзяла на свае плечы кіраўніцтва не толькі жаночым, але і мужчынскім манастыром, таксама заснаваным Ефрасінняй. Пасля смерці Ефрасінні, верагодна, Г. вяла яшчэ і летапісы. Г. — Еўдакія не толькі захоўвала ўсё, што было зроблена намаганнямі Ефрасінні, але і развівала, узбагачала яе пачынанні. Мяркуюць, што дарадчыкам новай ігуменні ў многіх пытаннях быў *Кірыла Тураўскі*, які стаў епіскапам у Тураве крыху раней, чым Еўдакія настаяцельніцай у Полацку. І калі існавала пастаянная перапіска паміж такімі буйнымі цэнтрамі культуры, якімі былі ў той час тураўская епархія і полацкія манастыры, то, найбольш верагодна, яна вялася не паміж Кірылам Тураўскім і Ефрасінняй, як прынята лічыць, а паміж «тураўскім златавустам» і Еўдакіяй. Ёсць падставы сцвярджаць, што Г. была адной з першых, хто пачаў дамагацца кананізацыі Ефрасінні Полацкай.

*Літ.*: Аповесць жыція і смерці святой Ефрасінні Полацкай // Спадчына. 1989. №1; Арлоў У.А. Еўфрасіння Полацкая. Мн., 1992; Ігнатоўскі І. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5 выд. Мн., 1991; Полное собрание русских летописей. Т. 35. М., 1980.

*М.Багадзяж.*

# Е



## ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

[свецкае імя Прадслава, 1110 (?) — 23.5.1173]



Прадстаўніца хрысціянскага культурна-асветніцкага руху ў Полацкім княстве 12 ст. Першая жанчына гэтага перыяду, прылічаная да святых. На-

радзілася ў Полацку. Дачка полацкага князя Георгія Усяславіча, малодшага сына князя *Усяслава Брачыславіча.* У 2-й палове 11 — 1-й палове 12 ст. полацкае княства як самастойная і моцная дзяржава дасягнула высокага ўзроўню і ў культурным жыцці. Трывалымі былі гандлёвыя і культурныя сувязі Полацкага княства з краінамі Усходу і Захаду. Культурным сувязям з Візантыяй спрыялі сваяцкія адносіны полацкіх князёў з візантыйскім імператарскім домам. Менавіта ў гэтыя часы ў Полацку пабудаваны Сафійскі сабор і іншыя манументальныя царкоўныя пабудовы. Ёсць звесткі пра наяўнасць тут свайго летапісання. У духоўна-культурным жыцці Полацкага княства ўмацоўвалася хрысціянская ідэалогія, хоць язычніцкія ўяўленні былі яшчэ даволі моцныя нават у княжацкім асяроддзі. Аднак хрысціянская ідэалогія заваёўвала ўсё больш прыхільнікаў, якія імкнуліся сцвердзіць у жыцці ідэі падзвіжніцтва, асветы і кніжнасці. Асабліва важную ролю ў гэтым працэсе адыграла Е.П., звесткі пра дзейнасць якой дайшлі да нас з «Жыція Ефрасінні Полацкай», створанага, відаць, неўзабаве пасля яе смерці (старэйшы з вядомых спісаў датуецца 14 ст.). «Жыціе...» было шырока вядомае і папулярнае ў старажытнабеларускі перыяд. Стварэнне ў Полацкім княстве свайго «Жыція...» — важнае сведчанне культурнай суверэннасці дзяржавы, яе значнасці і сілы. Калі адлюстраванне дзяржаўна-палітычнай ролі княства знаходзіла сваю фіксацыю ў галіне летапісання, то ў духоўнай сферы гэта замацавана найперш у самім факце стварэння «Жыція...». Арыгінальнасць гэтага твора — у сцвярджэнні неабходнасці ведаў, любові да кнігі, у ідэі духоўнага ўдасканалення, праслаўленні падзвіж-



*Крыж Ефрасінні Полацкай. Майстар-ювелір Л.Богша. 1161.*



*Полацк часоў Ефрасінні Полацкай. Гравюра 19 ст. са старажытнага абраза.*

ніцтва, самааддданым служэнні вышэйшым маральным ідэалам.

Ефрасіння рана пастрыглася ў манахіні насуперак волі бацькоў, якія хацелі аддаць яе замуж. Пасяліўшыся ў келлі Сафійскага сабора, яна занялася перапіскай твораў рэлігійна-маральнага зместу. Гэта, відаць, былі пераважна пераклады з грэчаскіх арыгіналаў. Ёсць падставы меркаваць, што на той час у храме існавала майстэрня, дзе ствараліся і па-мастацку ўпрыгожваліся рукапісы, былі падрыхтаваны майстры і спецыяльнае абсталяванне. Відаць, яшчэ да прыходу Ефрасінні быў пакладзены пачатак вядомай бібліятэкі Полацкага Сафійскага сабора, якая паступова ператварылася ў буйны культурны цэнтр Полаччыны, дзе ствараліся і захоўваліся нацыянальныя духоўныя каштоўнасці, у т.л. летапісы і творы грэчаскай патрыстыкі. Ефрасіння заснавала ў Полацку жаночы і мужчынскі манастыры, была фундатарам пабудовы каля 1160 царквы святога Спаса (цяпер Спаса-Ефрасіннеўская), дзе размяшчаліся келлі Ефрасінні і яе сястры, і царквы Багародзіцкай. Спаская царква была багата ўпрыгожана фрэскамі, якія маюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасць. Па заказе Ефрасінні полацкім майстрам Лазарам Богшам у 1161 быў зроблены напрастольны шасціканцавы крыж для царквы святога Спаса. Ён быў з кіпарысу, да яго пярэдняй і адваротнай паверхняў прымацаваны залатыя, да бакавых — сярэбраныя пласціны. Крыж быў аздоблены каштоўнымі камянямі, упрыгожаны выявамі евангелістаў, заснавальнікаў праваслаўя, святых Ефрасінні і яе бацькоў. Гэты выдатны ўзор прыкладнога мастацтва 12 ст. стаў найкаштоўнейшай нацыянальнай святыняй (у час другой сусветнай вайны крыж украдзены з Беларусі). Па

† въ лѣ҃ ,ѕ҃ · и · х҃зо покладаѥть ѡфро-
синьа чьстьнѣи кр҃тъ · въ манастꙑри сво-
ѥмь · въ цркви · ст҃го сп҃а · чьстьноѥ дрѣво
бесцѣньно ѥсть · а кованьѥ ѥго · злато · и
серебро · и камѣньѥ · и жьнчюгъ · въ · р҃ гри-
венъ · а др . . . . . м҃ · гривнъ · да нѣизне-
сеться из манастꙑра · никогдаже ѩко
ни продати · ни ѿдати · аще се кто прѣ-
слоушаѥть · изнесѣть и ѿ манастꙑра
да не боуди ѥмоу помощникъ · чьстьнѣи
кр҃тъ ни въ сь вѣкъ ни въ боуд . щии ·
и да боудеть проклѧтъ ст҃ою живоѡтво-
рѧщею троицею · и ст҃ыми ѡтци · т҃ · и · ı҃
семию съборъ ст҃ыхъ отць · и боуди
ѥмоу часть съ июдою · иже прѣда х҃а ·
кто же дрьзнеть сътворити . . . . властe-
линъ · или кназь · или пискоупъ · или
игоумѣнья · или инъ которꙑи любо чл҃вѣкъ
а боуди ѥмоу клятва си · ѡфросинья же
раба х҃ва · сътѧжавши кр҃тъ сии · приим-
меть вѣчную жизнь съ всѣ . и с҃ . . . . .

*Тэкст з крыжа Ефрасінні Полацкай.*



*Іерусалім. Фотаздымак 1869.*




*Мошчы Ефрасінні Полацкай у Кіева-Пячэрскай лаўры. З малюнка 19 ст.*

просьбе Ефрасінні візантыйскі імператар Мануіл Комнін прыслаў для царквы святога Спаса адзін з трох абразоў (эфескі) Маці Боскай, створаных, паводле падання, евангелістам Лукою. Па яе загадзе гэты абраз быў упрыгожаны золатам, серабром і каштоўнымі камянямі (зараз знаходзіцца ў Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу). У канцы жыцця Ефрасіння здзейсніла паломніцтва ў Іерусалім, дзе і памерла. У 1187 яе мошчы былі перанесены ў Кіева-Пячорскую лаўру, а ў пач. 20 ст. — у Полацк.

«Жыціе Ефрасінні Полацкай» прасякнута пафасам сцвярджэння хрысціянскіх светапоглядных уяўленняў і імкненнем давесці іх ісціннасць. У ім даецца дастаткова разгорнутая змястоўна-паняційная аргументацыя і пра эфемернасць «славы зямной», і пра сутнаснае размежаванне свету тленнага і свету вечнага, і пра славутую, але няўстойліва-зніклівую прыгажосць бачнага свету гэтага. Відавочна цікавасць аўтара гэтага твора да шырокіх светапоглядных пытанняў эпохі сярэднявечча, хоць у жыццеапісанні выразна прысутнічае вузкацаркоўны і нават вузкаманаскі пласт зместу, спецыфічных павучанняў і норм, што, зразумела, сведчыць пра асяроддзе, у якім стваралася «Жыціе...». Актыўным суб'ектам сцвярджэння ісціннасці як ідэй і ўяўленняў шырокага светапоглядпага плана, так і канкрэтных прадпісанняў дабрачыннасцей рэлігійнага служэння выступае ў творы сама Ефрасіння.

У адпаведнасці з законамі агіяграфічнага жанру ў «Жыціі...» паслядоўна апавядаецца пра бацькоў Ефрасінні, пра тое, як рана выявіліся ўстойлівыя духоўна-маральныя асновы яе чалавечай натуры. Паведамляецца, што ў яе рана выявілася любоў да ведаў і што хутка і шырока разышліся весткі пра яе мудрасць і прыгажосць. Асаблівая ўвага звяртаецца на ўнутраныя духоўныя рысы Ефрасінні, найперш на яе інтэлектуальную адора-



*Труна Гасподняя ў Іерусаліме. Малюнак Г.Майра. 1838.*

насць: «Дан бяше таков дар Еуфросинии от Бога: аще кто ея вопрошаше о которой вещи, она же ему разрешаше чему есть быти». Хоць індывідуальна-асобасная характарыстыка ў абмалёўцы героя выходзіла за межы такога кананічнага жанру, у гэтым творы спалучэнне ўнутраных якасцей гераіні і патрабаванняў жанру ўспрымаецца арганічна. У духоўным свеце Ефрасінні на першае месца ставілася ідэя служэння Богу і вышэйшым духоўным каштоўнасцям, а яе дар — спасціжэння рэчаў і людзей, беспамылковага распазнання тых, хто ўнутрана схільны да служэння Богу і царкве — набываў рэлігійна-ідэалагічную інтэрпрэтацыю. «Дан бысть дар блаженой Ефросинии от Бога: аще кого узрит очима своима, то разумеваше в коем человеце сосуд избран хощеть быти Богови». У 12 гадоў Ефрасіння зрабіла найважнейшы свой духоўна-маральны выбар, які вызначыў увесь далейшы яе кірунак дзейнасці і сэнс жыццёвага шляху. Рашэнне пайсці ў манастыр і прысвяціць сябе служэнню Богу яна прыняла насуперак волі бацькоў, якія ўжо думалі



*Унутраны выгляд царквы, дзе захоўваліся мошчы Ефрасінні Полацкай. Здымак 1910.*

пра хуткае замужжа Прадславы. Так перад ёй узнікае першая калізія: зямное каханне ці любоў да Бога, нявеста князя ці нявеста Хрыста. Ефрасіння цвёрда заявіла пра сябе як пра нявесту Хрыстову. Гэта калізія — вытворная ад фундаментальнага хрысціянскага разумення ўсяго існуючага, ад



*Кіева-Пячэрская лаўра. З малюнка 19 ст.*



*Прыбыццё мошчаў Ефрасінні Полацкай у Быхаў (па шляху да Полацка). 1910.*

уласцівага хрысціянству прынцыповага падзелу быцця на духоўнае і матэрыяльнае, боскае і зямное, абсалютна ісціннае і мінуча-часовае. Абгрунтоўваючы правільнасць свайго выбару, Ефрасіння нагадвае вопыт жыцця сваіх продкаў: яны жаніліся і выходзілі замуж, княжылі, дабіваліся славы і паміралі, але жыццё іх было пазбаўлена подыху вечнасці і слава іх гінула як прах, як павуцінне. Выбар паміж «княжением», «славой мира сего» і духоўным служэннем, супрацьпастаўленне жыцця продкаў, якое прайшло ў пагоні за эфемернымі зямнымі дабротамі, і жыцця ісціннага з'яўляецца вельмі паказальным для ўнутранай змястоўнасці вобраза Ефрасінні.

Супрацьпастаўленне канкрэтна-зямнога існавання і духоўнага падзвіжніцтва несла адбітак рэальнага гістарычнага проціборства хрысці-



*Прыбыццё мошчаў Ефрасінні Полацкай у Полацк. 1910.*

янства са старажытнаславянскімі міфалагічнымі ўяўленнямі. Як вядома, праявы язычніцкага светапогляду на пач. 12 ст. былі яшчэ даволі выразнымі ў розных сацыяльных пластах Полацкага княства, і натуральна, што канкрэтную духоўную мэту і сэнс свайго служэння Ефрасіння бачыла ў сцвярджэнні новых, хрысціянскіх маральных прынцыпаў існавання чалавека. Выбар Ефрасінні — гэта выбар паміж свецкім, людскім (багаццем і славай) і цяжарам манаскага быцця, выбар, заснаваны на супрацьпастаўленні зямнога, рэальнага і духоўнага. Яна настойліва прыводзіць аргументы на карысць правільнасці свайго рашэння. Першы раз — калі павінна зрабіць выбар паміж замужжам і манаствам, любоўю зямною і любоўю да Бога, у другі — калі ўжо рашэнне прынята, і яна пераконвае ігуменню манастыра прыняць яе ў сваё асяроддзе. У адказ на словы ігуменні, што яна яшчэ маладая і не адолее цяжкасці манаства, ды і наогул, навошта ёй адракацца ад радасцей жыцця, Прадслава ў поўнай адпаведнасці з хрысціянскай ідэяй сцвярджае пафас веры і падзвіжніцтва ў імя вечнасці, нятленнасці. «Вся видимая мира сего и краная суть и славна, но вскоре минует, яко сон, яко цвет уведает. Вечная же и невидимая во векы пребывають...» У гэтым фрагменце хрысціянскія ўяўленні пра вышэйшую духоўную рэальнасць як сапраўдную сутнасць быцця суседнічаюць і спалучаюцца з паэтычнай вобразнасцю, што перадае пачуццё зачараванасці прыгажосцю рэальнага свету.

Знаходжанне Ефрасінні ў манастыры было пачаткам яе ператварэння ў падзвіжніцу, часам збірання духоўных сіл. Мінуў пэўны час, і яна просіць дазволу пасяліцца ў келлі Сафійскага сабора. Ведучы манаскі, аскетычны лад жыцця, Ефрасіння занялася перапіскай кніг. «И нача книгы писати своими руками». Ідэал ведаў і асветы, любоў да кнігі і найперш да Бібліі ў сярэднявеччы былі шляхам спасціжэння Божай мудрасці, твораў тэалагічнага характару. У «Жыціі...» падкрэсліваецца, што ў Прадславы з маленства была прага да ведаў. Яе імкненне вучыцца падаецца адначасова і як вытворнае ад любові да Бога, і як шлях унутранага ўдасканалення, дасягнення ідэалу. Сцвярджаючы ідэю самааддананага духоўнага служэння ў зямным жыцці і ўспамінаючы словы Хрыста, сказаныя апосталам: «Не носите с собою ничто же, токмо жезл един!», — Ефрасіння гаворыць, што ў яе нічога няма, акрамя слова Боскага і кніг. «И еще же за все имение имею книги сея. Ими же утешает ми ся душа и сердце веселится». Шлях дасягнення ідэалу неадлучны ад боскага слова і ведаў, занатаваных у кнігах Свяшчэннага пісання. Перапіска, распаўсюджванне кніг — адна з найважнейшых і богаўгодных місій чалавека. У гэтым


*Пячаткі Ефрасінні Полацкай.*


*Сярэбраная рака для мошчаў Ефрасінні Полацкай.*

сэнс дзейнасці Ефрасінні па перапісванні кніг.

Будаўніцтва царквы святога Спаса апісваецца ў «Жыціі...» як найважнейшая справа Ефрасінні, а яго завяршэнне — як усеагульнае свята: «... Видевши церковь совершеную, возрадавася душею» Ефрасіння, «и бысць священие и велиа радость всем крестьянам. И собрашась князи и силнии мужи, черноризици и черноризци, и простие людие. И бысть радость велиа. И праздноваша дни мнози». Гэта кульмінацыйная падзея ў «Жыціі...», калі суб'ектыўнае жаданне і імкненне Ефрасінні ператварылася ў агульнае свята, свята далучэння ўсіх да царквы і Бога. Заўважаецца тэндэнцыя паказаць індывідуальнае (бо яно з'яўляецца ўзорам) як найбольш поўны выраз імкненняў і патэнцый, схаваных у чалавечай супольнасці. Роля ж і значэнне выключнай індывідуальнасці Ефрасінні ацэньваюцца ў «Жыціі...» як роля выдатнага носьбіта святла, адухоўленасці, асветы: «Еуфросиниа — неопарный орел, попаривши от Запада и до Востока, яко луна солнечная, просветивши всю землю Полоцкую». Разам з тым размова ідзе пра канкрэтную людскую супольнасць, духоўна-культурнае адзінства, пэўнасць якой выразна ўсведамляецца, гэта — Полацкая зямля. І праслаўленне ў «Жыціі...» Полацкай зямлі і горада Полацка — «А мы же хвалим блажен еси ты граде Полоцкий... Блажены людие, живущии в нем!» — адзначана высокай адухоўленасцю патрыятычнага пачуцця.

Дзейнасць Е.П. — яскравы адбітак кардынальных духоўных зрухаў, што адбываліся ў культурна-грамадскім жыцці Беларусі на працягу 12 ст., калі закладваўся і мацаваўся фундамент новага разумення свету, ствараліся перадумовы развіцця індывіда як непаўторнай асобы, сцвярджэння духоўна-маральнай самакаштоўнасці чалавека. Духоўны ўплыў беларускай асветніцы Е.П. далёка выйшаў за межы старажытнай эпохі. Яе імя, справы і вобраз падзвіжніцы крышталізаваліся ў часе і набылі найвышэйшую якасць нацыянальнага сімвала самаадданага служэння высакародным ідэалам, вернасці сваёй радзіме.

*Літ.*: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Майхрович А.С. Поиск истинного бытия и человека: Из истории философии и культуры Беларуси. Мн., 1992; Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев. 1896; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX—XII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.

*А.С.Майхровіч.*

## ЕФРАСІННЯ РАГВАЛОДАЎНА
(у манастве Еўпраксія; каля 1170—1243)

Асветніца, полацкая князёўна з роду *Усяслава Чарадзея*, дачка князя Рагвалода Барысавіча, пляменніца *Ефрасінні Полацкай*, у гонар якой атрымала сваё імя. Уся маладосць Е.Р. праходзіла ў арэоле святасці цёткі, што не магло не выхаваць у яе набожнасці, павагі да старэйшых, дабрыні да людзей. Яна была аддадзена замуж, але хутка заўдавела; другім мужам Е.Р. стаў заўдавелы сын пскоўскага князя Уладзіміра — Яраслаў, з якім яна пражыла больш за 20 гадоў. Пасля смерці бацькі Яраслаў Уладзіміравіч прэтэндаваў на пскоўскі прастол, але пскавічы не прынялі яго. Гэта прымусіла Яраслава шукаць дапамогі ў Рызе, дзе ў яго сярод крыжакоў былі родзічы. Лічаць, што Е.Р. таксама паехала за мужам у Рыгу. Але шэраг фактаў, прыведзеных у царкоўнай літаратуры, абвяргаюць гэтую думку і даюць магчымасць сцвярджаць, што яна была пакінута мужам або засталася ў Пскове па сваёй волі, не жадаючы далучацца да ганіцеляў сваіх адзінаверцаў. Усе свае зберажэнні і тое, што засталося ў Пскове пасля Яраслава, Е.Р. аддала на пабудову велічнага храма Іаана Хрысціцеля на рацэ Вялікай, а пазней і жаночага манастыра пры ім. Яна перасялілася з багатага церама ў манастырскую келлю і чакала мужа. Але Яраслаў пайшоў па шляху здрады; у 1233 ён спрабаваў завяваць Пскоў з дапамогаю лівонцаў, трапіў у палон, збег з яго і зноў пачаў рыхтавацца да паходу супраць адзінаверцаў. Тады Е.Р. канчаткова вырашыла пастрыгчыся ў манашкі і стала ігуменняй манастыра. Усяго 2 гады спатрэбілася ёй для таго, каб манастыр праславіўся гэтак жа, як і манастыр Ефрасінні Полацкай. Пад кіраўніцтвам маці Еўпраксіі жытло

святых сясцёр стала найбуйнейшым культурным цэнтрам Пскова. Намаганнямі ігуменні ўдалося захаваць каштоўнасці манастыра і бібліятэку ў час акупацыі Пскова крыжакамі ў 1240. У 1243 Яраслаў, які на той час быў ужо жанаты з іншай жанчынай (немкай), выклікаў Е.Р. да сябе ў горад Одэнцэ. Характар сустрэчы, мэта яе візіту да Яраслава невядомыя, але скончыўся ён смерцю ігуменні ад рук Яраслававага пасынка. Цела маці Еўпраксіі было прывезена манашкай Сандуліяй у Пскоў і пахавана на тэрыторыі манастыра. Е.Р. — асветніца Пскоўскай зямлі, кананізавана, яе імя папоўніла пантэон пскоўскіх святых.

*Літ.*: Мельнікаў А. Найпадобная Еўпраксія, ў манастве Ефрасіння, князёўна полацкая, княгіня пскоўская // Беларусь. 1992. №5; Карамзин Н.М. История государства Российского. Т. 1—2. М. 1993. *І.А.Масляніцына.*



## ЗВЕНІСЛАВА Барысаўна (у манастве Еўпраксія; пасля 1110—1202)

Асветніца, дачка полацкага князя Барыса. Нарадзілася яна на некалькі гадоў пазней за сваіх дваюрадных сясцёр, дачок малодшага полацкага князя Святаслава Прадславы (*Ефрасінні Полацкай*) і *Гардзіславы* . Калі 12-гадовая Прадслава прыняла манаскі пострыг і новае імя Ефрасіння, З. было, пэўна, не больш як 4 гады. Адна з прычын, што прымусілі З. пакінуць свецкае жыццё і пайсці ў манастыр, была тая, што пасля смерці князя Барыса (1128) кіеўскі князь захапіў Полацк і саслаў усю сям'ю князя Барыса, у т.л. бацьку Ефрасінні — Святаслава, у Візантыю. На чужыне, пазбаўленая бацькоўскай апекі і высокага становішча, яна наўрад ці магла мець надзею на прыстойнае замужжа. І калі ўжо так трагічна склаўся яе лёс, то за лепшае палічыла пайсці ў манастыр і жыць у родным горадзе, сярод людзей, якія памятаюць славу роду Усяслава, пад апекай дваюраднай сястры знакамітай Ефрасінні. Усе грошы і каштоўнасці, што прызначаліся З. на пасаг, яна перадала ў манастырскую казну. Менавіта на гэтыя сродкі і быў пабудаваны славуты Спаса-Ефрасіннеўскі храм у Полацку. «Пані й сястра! Уся прыгажосць гэтага свету мне не патрэбная. Аддаю ўсё гэта святому Спасу, а сама хачу схіліць галаву пад ярмо Хрыстовае». Духоўнае імя для З. Ефрасіння выбрала сугучнае свайму — Еўпраксія. З першага ж дня сястра Еўпраксія паглыбілася ў манастырскае жыццё. З цягам часу яна стала своеасаблівым духоўным лідэрам, а неўзабаве і намесніцай ігуменні Ефрасінні. Мяркуюць, што менавіта Еўпраксія непасрэдна кіравала працай сясцёр-манашак па перапісванні кніг для манастырскай бібліятэкі і вяла заняткі ў заснаванай Ефрасінняй школе для дачок багатых палачан у той час, калі сама ігумення займалася больш адказнымі справамі: будаўніцтвам храмаў і манастыроў, наладжваннем духоўных сувязей паміж Полацкім княствам і Візантыяй, вядзеннем Полацкага летапісу, прынцыповымі спрэчкамі з Дыянісіем — настаяцелем мужчынскага манастыра ў Полацку.

Еўпраксія была, несумненна, адна з самых адукаваных жанчын свайго часу. Яна не магла не разумець, што справа асветніцтва, якую ўсклала на свае плечы Ефрасіння, вельмі цяжкая для аднаго чалавека, і таму лічыла сваім абавязкам па магчымасці дапамагаць ёй. З. была сярод тых нешматлікіх вернікаў, якія суправаджалі Ефрасінню ў яе паломніцтве ў Іерусалім, да Труны Гасподняй. Там яна была побач з ігуменняй да апошняга яе ўздыху і ўзяла на сябе ўсе клопаты, звязаныя з пахаваннем святой Ефрасінні. Вярнуўшыся ў родны Полацк пасля пахавання Еўпраксія, відаць, адразу распачала жыццеапісанне сваёй духоўнай настаўніцы, каб расказаць усяму свету пра «святло дрыготкай зоркі» Ефрасінні. На карысць такога меркавання сведчыць уважлівы аналіз твора «Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Ефрасінні, ігуменні манастыра святога Спаса і Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку. Благаславі, Ойча!» (скарочана — «Жыціе Ефрасінні Полацкай»). Афіцыйна аўтар гэтага твора лічыцца невядомым. Спе-

цыялістам амаль дакладна ўстаноўлена, што напісаны ён у канцы 12 ст. Падрабязнасці ж, звязаныя з многімі момантамі жыцця святой ігуменні, не пакідаюць сумнення ў тым, што пісаў «Жыціе...» чалавек, блізка знаёмы з Ефрасінняй. У творы мала расказваецца пра тое, што адбывалася за сценамі манастыра, але шмат месца адводзіцца пераказу настаўленняў ігуменні сёстрам у Хрысце, прыводзяцца даслоўна яе маленні. Тут зусім не адлюстраваны ўдзел Ефрасінні ў палітычным жыцці княства, але ўзносіцца хвала яе духоўным подзвігам. Таму свецкі чалавек або той, які ўсё жыццё быў свецкім і толькі ў старасці прыняў духоўнае імя, не можа з'яўляцца аўтарам гэтага твора. Значыць, пісаў блізкі паплечнік, які прыняў пострыг яшчэ ў маладым узросце. З твора вынікае, што пісала яго жанчына-манашка: чыста па-жаноцку зроблены адбор эпізодаў, пасля суровых аскетычных радкоў роздуму Ефрасінні над філасофіяй чалавечага існавання ідзе амаль меладраматычны эпізод — плач князя Святаслава аб лёсе дачкі, якую замест шлюбнага балю і радасці мацярынскай чакае жыццё ў пастах і маленнях. І гэта аплакванне маладосці паўтараецца ў «Жыціі...», як і ў былінах, тройчы: другі раз — пасля эпізоду гвалтоўнага пострыгу Ефрасінняй роднай сястры Гардзіславы, трэці — пасля пастрыжэння Ефрасінніных пляменніц Вольгі і Кіраанны. Так востра адчуваць тое, чым даводзіцца ахвяраваць дзеля ведаў і веры, магла толькі жанчына, якая сама прыйшла ў манастыр праз пакуты і з-за адсутнасці іншага выбару. А менавіта так стала манашкай З. У той частцы твора, які датычыцца іерусалімскага паломніцтва, аўтар не забывае ні аднаго факта, пачынаючы ад узнёслага малення Ефрасінні перад далёкай дарогай і канчаючы дакладнай справаздачай пра хваробу ігуменні: «І ляжала ў хваробе сваёй 24 дні, і, даведаўшыся пра сваю смерць, сказала: «Паклічце да мяне прэсвітэра, каб даў мне прычасці святых тайнаў, бо Вяшчальнік стаіць ужо блізка, чакаючы наказу Уладара». І прыйшоў прэсвітэр, несучы прычасць. Ефрасіння ж узнялася і пакланілася тройчы і, прыняўшы найчысцейшае цела і святую кроў Хрыстовую, лягла на ложак свой і перадала душу сваю ў рукі Бога жывога 24 дня месяца мая і ўвайшла ў пакоі нябесныя. Давыд жа з Еўпраксіяй і з іншымі пахавалі цела яе чэсна». З кнігі «Жыціе...» можна даведацца пра тое, каго сустракала Ефрасіння па дарозе ў Іерусалім, якім святыням і як пакланялася там, у якім храме набыла залатое кадзіла і фіміям. Падрабязна апісаны ў ёй нягоды спадарожнікаў па наладжванні пахавання полацкай ігуменні, калі тамтэйшыя манахі забаранілі пакласці цела Ефрасінні (як таго яна сама жадала) у лаўры святога Савы. Усё гэта таксама пацвярджае, што аўтар «Жыція...» быў разам з Ефрасінняй удзельнікам святога паломніцтва. І найбольш верагодна, што ім была «цень вялікай асветніцы» — Еўпраксія. Яе зорным часам і стаў час напісання «Жыція...» — першага гістарычнага твора беларускай літаратуры, які па сваіх вартасцях набліжаецца да твораў тураўскага «*Златоуста*» Кірылы і «Слова аб палку Ігаравым». Як ацанілі працу Звеніславы — Еўпраксіі яе сучаснікі, можна меркаваць па тым, што Радзівілаўскі летапіс, у якім нават няма ўпамінання пра Ефрасінню Полацкую, дакладна адзначае дату смерці Еўпраксіі — 1202. Згодна з гэтым летапісам, памерла яна ў даволі старым узросце, у сяле Кідэкла, што на рацэ Нерль у Суздальскай зямлі. Пэўна, да свайго скону Еўпраксія працягвала справу асветы сярод святых сясцёр, перададзеную ёй Ефрасінняй. Цела асветніцы было перавезена на родную Полацкую зямлю і пахавана ў Бельчыцкім манастыры Барыса і Глеба, заснаваным яе бацькам.

*Літ.*: Аповесць жыція і смерці святой Еўфрасінні Полацкай // Спадчына. 1989. №1; Мельнікаў А. Помнік беларускай агіяграфіі // Тамсама; Арлоў У.А. Еўфрасіння Полацкая — Евфросиния Полоцкая. Мн., 1992. Пушкарева Н.Л. Женщины древней Руси. М., 1989.

*І.А.Масляніцына.*

# К

## КІРЫЛА ТУРАЎСКІ
(каля 1130—каля 1182)



Старажытнарускі (старабеларускі) пісьменнік, прапаведнік, царкоўны дзеяч. Звестак пра яго жыццё няшмат. У рукапісных пралогах захавалася яго «Жыціе» — кананічная царкоўная біяграфія: «Гэты шчасны Кірыла, — гаворыцца ў ёй, — нарадзіўся і выхаваўся ў горадзе Тураве. Сын заможных бацькоў, ён не любіў, аднак жа, багацця і тленнай славы гэтага свету; але найперш стараўся спасцігнуць вучэнне боскіх кніг і добра напрактыкаваўся ў святых пісаннях». Атрымаў добрае хатняе выхаванне, пазней спасціг вышэйшыя навукі і мастацтвы ад грэчаскіх настаўнікаў. Па-майстэрску валодаў народнай вобразнай і старaславянскай мовамі, глыбока ведаў візантыйскую культуру, асабліва паэзію і красамоўства. Рана стаў паслушнікам аднаго з тураўскіх манастыроў. «Пасля гэтага, — піша аўтар яго «Жыція», — імкнучыся да большага подзвігу, ён зачыніўся ў стоўпу і прабыў там пэўны час, працуючы ў посце і малітвах, напісаў тут шмат якія пісанні боскія». К.Т. быў першым вядомым на Русі «стоўпнікам» (зачыніўся ў манастырскай вежы, каб поўнасцю аддацца роздуму і малітвам). Там ён не толькі сузіраў свет Божы і маліўся: у затвор малады паслушнік перанёс багатую на той час бібліятэку і напісаў там свае першыя творы.

Каля 1169 князь Юрый Яраславіч з тураўскімі старэйшынамі ўпрасілі Кірылу-мніха прыняць епіскапства. Сваю пасаду ён разглядаў як нялёгкі абавязак хрысціяніна і асветніка, бо яго ўзнёсла-паэтычная натура не была схільнай да іерархічнай кар'еры і царкоўнага адміністратарства. У першы год свайго служэння тураўскі епіскап набыў вядомасць удзелам у т.зв. «справе Феадорца». Нейкі Фёдар з Уладзіміра-Суздальскага княства, выкарыстаўшы славалюбівыя планы князя Андрэя Багалюбскага, пачаў раскол да гэтага часу адзінай праваслаўнай царквы на Русі. К.Т. дасціпна выкрыў ерась Феадорца і пракляў яго, а да Андрэя Багалюбскага напісаў шмат пасланняў па гэтай справе, якія, аднак, не захаваліся. На думку даследчыка спадчыны Кірылы епіскапа Яўгенія, сваімі пасланнямі да Андрэя Багалюбскага асветнік імкнуўся па-хрысціянску паўплываць на князя цэнтральнай Русі, куды перамяшчаўся цэнтр будучай Расіі.

На думку даследчыкаў (І.Яроміна, В.Чамярыцкага), да літаратурнай спадчыны К.Т. належаць 8 слоў-казанняў, 2 прытчы пра душу і цела, альбо пра сляпога і кульгавага (кароткая і поўная рэдакцыі), 2 казанні пра манаскі чын і ангельскі вобраз, 2 пасланні да Васіля ігумена Пячорскага, 2 каноны і каля 30 спавядальных малітваў, дзе з найбольшай глыбінёй выявіліся асоба пісьменніка, яго духоўныя перажыванні. Апошнія творы К.Т. напісаў, верагодна, ужо пасля таго, як зноў адышоў ад грамадска-царкоўнай дзейнасці, жыў у келлі пры царкве св. Міколы ў Тураве, засяродзіўшыся на малітвах і багаслоўскай творчасці. Памёр асветнік у апошняе дзесяцігоддзе 12 ст. Яго памяць царква шануе 28 красавіка па старому стылю.

Творы К.Т. набылі вялікую папулярнасць на Русі і распаўсюджваліся ў спісах 12—17 ст. Яго малітвы друкаваліся на Беларусі ў «Евангелии учительном» (Заблудаў, 1569) І.Фёдарава і П.Мсціслаўца, у «Молитвах повседневных» (Еўе, 1615; Вільня, 1635) і інш. выданнях. У 1821 К.Калайдовіч выдаў 15 твораў Кірылы ў «Помніках расійскай славеснасці XII ст.». Пазней епіскап мінскі і тураўскі Яўгеній выдаў зборнік яго твораў у перакладзе на рускую мову (Кіеў, 1880). Акадэмічнае выданне літаратурнай спадчыны беларускага асветніка ажыццявіў І.Яромін у 1956—58. Ю.Лабынцаў перавыдаў факсімільным спосабам (1992) малітоўныя творы Кірылы з віленскага выдання «Молитвы повседневные» (1956).

Казанні, альбо «Словы», св. Кірылы ахопліваюць велікодны цыкл нядзельных і святочных дзён ад Вербніцы («нядзелі Вайі») да Ушэсця. Кожнае з іх, з'яўляючыся класічным творам красамоўніцкага мастацтва, адлюстроўвае пэўную грань багаслоўска-філасофскіх і грамадска-этычных поглядаў пісьменніка. Калі тэалагічныя ідэі К.Т. адлюстраваны відавочна і не заўсёды ўзгадняюцца з артадаксальным праваслаўным багасловем, то сацыяльна-філасофскае вучэнне прысутнічае ў яго творах у скрытых формах прытчаў, мастацкіх вобразах і сімвалах. Ён нідзе не сцвярджае, што Бог стварыў сусвет з «нічога», з нейкай пустаты, як гэта прыпісваецца яму даследчыкамі хрысціянскай філасофскай анталогіі. Услед за ўсходнімі айцамі царквы ён упадабляе Бога-Дэміурга мастаку і дойліду, які стварыў дасканалы твор — космас, зямлю і неба, расліны і жывёлы, урэшце чалавека — вянец гэтага тварэння. Распавядаючы пра цэнтральную падзею вербнага тыдня — трыумфальны ўезд Хрыста ў Іерусалім за тыдзень да яго смяротных пакут і ўваскрэсення, пісьменнік усклікае: «Ныне шествует в Іерусалім — измеривый небо пядію и Землю дланію». Таму і паслядоўнікаў Хрыста, духоўных кіраўнікоў хрысціянства — патрыярхаў, архірэяў, ігуменаў, іерэяў «і ўсіх царкоўных вучыцеляў» ён называе «ўмелымі будаўнікамі слаўнага і вельмі чэснага дому» («Слова ў нядзелю Вайі»).



*Тураўскі замак у 12—13 ст.*

У «Слове на антыпасху» пісьменнік кідкімі жывапіснымі метафарамі малюе веснавое абнаўленне прыроды як урачысты гімн прыгожага тварэння свайму Творцу: «Ныне солнце красуяся к высоте восходить и, радуяся, землю огреваеть: взиде бо нам от гроба праведное солнце Хрыстос и вся верующая Ему спасаеть. (...) Днесь весна красуеться, оживляюши земное естьство, и бурніи ветри, тихо повевающе, плоды гобозують (спеляць) і земля семена питающе зеленую траву рождаеть. Весна убо красная вера есть Христосова, якоже крещеніем поражаеть человеческое паки естьство; бурніи же ветры — грехотворніи помыслы, иже покоянием претворившеся на добродетель — душеполезныя плоды гобозують. Земля же естьства нашаго, акы семя Слово Божіе пріимши (...), дух спасенія рождаеть». У «Слове пра паралізаванага» аўтар ад імя гэтага пакутніка выказвае думку пра асноўную прыкмету боскай прыроды Хрыста: ён не чарадзей, нават не ангел, але сам Бог, таму што «слова яго сталася справай». Бог жа адносна створанай ім прыроды выступае як вярхоўны заканадаўца, які ўтрымлівае быццё ў стане дынамічнай, рухомай гармоніі («Слова пра сляпога»).

Законы прыроды, паводле К.Т., ёсць тое, што на метафарычнай мове багаслоўя называецца «страхам боскім», ім «движется земля, расседается каменіе, животная трепещють, горы куряться, светила раболепно служать, облаци и воздушная тварь повеленіе творять» («Прытча пра чалавечую душу і цела»). Вось чаму ўваскрэсенню Хрыстоваму радуецца ўся зямля, неба ўпрыгожваецца светачамі-зоркамі, і ўся прырода красуецца, прасветленая Збавіцелем Хрыстом, які, учалавечыўшыся, прыйшоў у свет зямнога жыцця, каб абнавіць яго, прасвятліць боскім святлом. У пакаяльных малітвах паэт бачыць прамудрасць, дабрату і красу Бога-Стваральніка паводле дасканаласці яго тварэння — Сусвету, падпарадкаванага законам боскай гармоніі. Боскай воляю зямля трымаецца ні на чым, мора абмежавана пяском, ёю праведзеныя рэчышчы вялікіх і малых рэк, вада хмараў трымаецца ў паветры, сонца гарыць няспынна, месяц свеціць



*Тураў. З малюнка 19 ст.*

са страхам і зорка здзяйсняе свой мудры дух.

Такім чынам, філасофскія погляды К.Т. — тэацэнтрызм, які толькі па аналогіі можна было б назваць аб'ектыўным ідэалізмам, бо завершаная сістэма аб'ектыўнага ідэалізму Гегеля грунтуецца на канцэпцыі абсалютнай ідэі як асновы быцця.

К.Т. развівае багаслоўскую традыцыю ўсходніх айцоў хрысціянскай царквы, паводле якой Бог ёсць непазнавальны ў паняццях, трансцэндэнтны (па-за межамі людскога вопыту) Дух як абсалютны суб'ект, які сімвалічна пазнаецца праз пазнанне і ўмілаванне створанага ім дасканалага сусвету, праз веру і любоў да Яго адзінароднага і аднаіснага з ім Сына Ісуса Хрыста, праз якога адбылася тайна спалучэння Духа і цела, Бога і чалавека, трансцэндэнтнага і іманентнага светаў. А праз гэту тайну стала магчымым выратаванне чалавека і ўсёй «плоці» прыроды, іх далучэнне да трэцяй іпастасі Святой Тройцы — да Святога Духа, стала рэальнай перамога жыцця над смерцю, святасці над грахом. Багаслоўская канцэпцыя К.Т. грунтуецца на гэтых асноўных пастулатах хрысціянскага светапогляду.

У сваім арыгінальным творы «Прытча пра чалавечую душу і цела» ён абвяргае наіўны анапацэнтрызм «бытавога» хрысціянства, папярэджваючы ад спакусы, літаральна тлумачыць сімволіку біблейскіх кніг, асабліва вядомыя боскія словы: «Створым чалавека па вобразу Нашаму, падабенству Нашаму». Падабенства гэтае, на думку аўтара, — «не вобразам, а прытчаю», гэта значыць, іншасказальнае і сімвалічнае. Ён назваў ерассю погляды тых, хто насуперак здароваму сэнсу ўяўляе бесцялеснага Бога цялесным. Бога нельга апісаць альбо вызначыць мераю. Тут асветнік не мог не заўважыць супярэчнасці сваёй рэлігійнай антрапалогіі, бо сам прыкладаў да чалавека толькі цялесную і душэўную меркі, забыўшыся на трэцюю людскую іпастась — дух. Толькі духоўнасцю чалавек апраўдвае біблейскія словы пра богападобнасць і свой вобраз Божы. Гэта духоўнае адзінства Бога з чалавекам увасобілася ў богачалавечай постаці Хрыста — другой іпастасі святой Тройцы.

Дарэчы, у творах самога асветніка ёсць шмат красамоўных вобразных думак пра ўчалавечанне Сына Божага, які жыў з людзьмі і самаахвяраваўся для іх духоўнага абнаўлення. У «Слове на святы Вялікдзень» ён красамоўна пацвярджае богачалавечнасць Хрыста евангельскімі сведчаннямі: «Пред вчерашним днем Господь наш Исус Христос яко человек распинаем бе, и яко Бог и солнце помрачи и луну в кровь преложи, и тма бысть по всей земли: яко человек, воспив, и спусти дух, но яко Бог землю потрясе, и каменье распадеся...». Як чалавек — памёр, а як Бог уваскрэс на трэці дзень, перамог пекла смерці. А ў «Слове на трэці тыдзень пасля Вялікадня» асветнік зноў звяртаецца да сваіх слухачоў: «Вам хотю тайны поведати Божія человеколюбія, яже за Адама, въ тлю падша, пострада. Того бо ради с небесе сниде и въпльтивься, и бысть человек, да истлѣвъшаго обновить и на небеса възведеть. Он [Адам] послушав с[о]вета вражія, восхоте быти Бог и проклят бысть, се же [Хрыстос], послушав Отца, Бог сы бысть человек, да змія погубить и человека обожить».

Хрысталагічная праблема надае разнастайным жанрам спадчыны беларускага асветніка светапоглядную цэласнасць, аб'ядноўвае яго філасофскія, сацыяльна-палітычныя, этычныя, эстэтычныя погляды, злучае яго аксіялогію з хрысціянскай тэалогіяй. Ён жыў у эпоху, калі хрысціянства на Русі яшчэ сутыкалася з жывой язычніцкай плынню ў народнай культуры, а ўсяленская царква яшчэ не закончыла барацьбу з уплывамі праціўніка Хрыста — так званымі «старазапаветнікамі», з разнастайнымі рэлігійна-філасофскімі школамі гнастыцызму, прыхільнікі якога спалучалі хрысціянскія догматы з эліністычнымі філасофскімі сістэмамі.

У царкоўным асяроддзі сярэдневяковай Русі склалася негатывісцкая канцэпцыя язычніцкай культуры, паводле якой паганскія багі ёсць «бесы» альбо іхнія слугі, іх неабходна выкрываць, па магчымасці не ўпамінаць іх імён. На гэтым ідэалагічным фоне асветніцтва К.Т. вызначаецца сваёй памяркоўнасцю, цярпімасцю да народнай культуры. Паганская міфалогія ўяўля-

лася яму верай у створаную прыроду, а не ў самога Творцу.

Абвяржэнню арыянства, прыхільнікі якога адмаўлялі саму найглыбейшую існасць хрысціянства — боскую прыроду Хрыста і яго богачалавечую місію на зямлі, К.Т. прысвяціў твор «Слова на пахвалу 318-ці айцоў Нікейскага сабору». Гэты першы ўсяленскі сабор асудзіў антытрынітарызм арыянства і зацвердзіў асновы хрысціянскага Сімвала веры — траістасць Бога і аднасутнасць Сына з Айцом. Нягледзячы на свой пафас нецярпімасці да арыянскай ерасі, асветнік дакладна вызначыў сутнасць вучэння «папы Александрыйскай царквы» Арыя (не толькі Хрыстос, але і ўсё створанае Богам — людзі і прырода — іншасказальна могуць называцца «сынамі Божымі», адмаўленне спрадвечнасці Хрыста і Яго аднасутнасці з Айцом і да т.п.) і нават прызнаў філасофскую «злохітрасць» ерэтыка: «Велик бо бе воевода сатанин Арій, но цесарь его уже бе связан, тем и воинства его не твердо боряшеся...» Аднак у адпаведнасці з жанрам урачыстага і разам з тым выкрывальніцкага твора, звернутага да народа, К.Т. рэдка карыстаўся лагічнымі довадамі ці хоць бы спасылкамі на аўтарытэты, спадзяваўся на сугестыўнасць (унушальнасць) вытанчаных сродкаў паэзіі і аратарскага майстэрства. На яго думку, «храбрыя і вялікія ваяводы Божыя» на Нікейскім саборы заслугоўваюць большай пахвалы ад «летописьцев и песнотворцев», чым геранчныя справы цароў і палкаводцаў. Сам аўтар гэтага «Слова...» не паскупіўся на вытанчаныя красамоўніцкія тропы-вобразы, каб узвысіць святых айцоў («Вы есте реки разумьнаго рая, напоивъше мир весь спасенаго ученія і греховную скверну струями вашего наказанія омывающе! Земніи ангели, Божіему престолу присно предъстояще!...») і прынізіць Арыя, яго шматлікіх тагачасных і будучых паслядоўнікаў («Новый Каине, вторый Іюдо, плътяный демоне..., церковъный всеми ведомый тати, необратьный разбойниче...»).

Істотная прыкмета багаслоўскіх поглядаў К.Т. — не барацьба супраць ерасей, а апафеоз евангельскай багадаці, вастрыня адчування духоўнага нараджэння ў Хрысце.

Эпіграфам да антрапалагічнай канцэпцыі К.Т. маглі б стаць яго словы з

*«Слова» Кірылы Тураўскага. Першая старонка.*

паэтычнай малітвы ў нядзелю пасля ранішняй літургіі: «Ведаю, што Ты прывёў мяне з нябыту ў быццё і ўпрыгожыў падобнасцю да вобраза Свайго, надзяліў мяне словам і розумам. Ты ўзнёс мяне вышэй за ўсё жывое і паставіў мяне валадаром усяго тварэння». З найвялікшай паэтычнай экспрэсіяй хрысціянскую думку пра супярэчлівасць чалавека, яго высокую духоўную місію на зямлі і яго падзенне праз грахі і спакусы зямныя пісьменнік выявіў у «Слове пра паралізаванага», драматызаваўшы вядомы евангельскі эпізод. Матыў палярнасці, амбівалентнасці чалавечага быцця задаецца першым радком твора: «Неизмерьна небесная высота, ні испытана преисподняя глубина, ниже сведомо Божія смотренія таиньство». Як паэт К.Т. дапоўніў эпічна спакойны расказ евангеліста пра сустрэчу чалавекалюбцы Хрыста і безнадзейна хворага пакутніка, які 38 гадоў чакае цуду збаўлення ад сваёй немачы. Паралізаваны пачынае з любімай паэтамі споведзі ў сваіх грахах: «Усё цела маё расслаблена грахамі, а душа ўкушана ганебнымі страсцямі, і няма чалавека, які пашкадаваў бы мяне». У адказ чуе ад Хрыста: «Што ты кажаш — чалавека не маю? Я дзеля цябе пакінуў скіпетр нябеснага царства, прыйшоў на зямлю, каб выратаваць людзей. Бог стварыў свет для цябе, чалавек: «Тебе ради солнце светом и теплотою служить, и луна съ звездами нощь обеляеть. Тебе для облаци дождемь землю напаяють и земля всяку траву семениту и древа плодовитая на твою службу израстають. Тебе ради реки рыбы носять, и пустыни звери питаеть».

Спавядальныя малітвы К.Т. — шчырае лірычнае самараскрыццё душы чалавека перад сваімі нябеснымі бацькамі — Богам Айцом, Сынам Божым, Маці Боскай і заступнікамі людзей перад Богам, яго святымі: «Знаю, — кажа спавядальнік словамі паэта, — што Ты прывёў мяне з небыцця ў быццё і ўпрыгожыў падабенства Свайго вобраза, даўшы ў дар мне слова і розум. Ты ўзнёс мяне вышэй за жывёлу і паставіў валадаром усяго тварэння. І вось я, як дзіця, падмануты ворагам маім, і падпаў пад уладу крайняй пагібелі (...) Хоць я ўвесь нячысты і апаганены, але спадзяюся на Тваю літасцівасць, бо Ты не адхіліў дзве лепты ўдавы, але пахваліў яе перавапіна перад іншымі, а таксама і мытара, што маліўся са скрухаю, апраўдаў». Бог, кажа паэт у сваіх малітвах, стварыў чалавека самаўладным, а ён падпарадкаваўся граху і нячысціку, зацямніўшы сваю першастворaную красу. І вось чалавек просіць Хрыста ўкрыжаваць цела яго страхам боскім, вызваліць думкі ад усяго зямнога і далучыць да нябеснага, а Багародзіцу моліць заступіцца за яго перад нябесным Царом. Цыкл малітваў завяршае «Канон маліто́ўны» — своеасаблівы паэтычны «магістрал», які падсумоўвае страсны самааналіз чалавека, самавыкрыццё яго неспакойнай душы, якая імкнецца да неба, але крылы яе абцяжараныя зямнымі страсцямі — самалюбствам, зайздрасцю, злосцю, варожасцю, непрымірымасцю ды іншымі грахамі душы і цела.

Праблему чалавека ў яго грамадскім быцці К.Т. сімвалічна выявіў у дзвюх прытчах (кароткай і падрабязнай) пра сляпога і кульгавага, альбо пра чалавечую душу і цела. Як і ў іншых сваіх творах, пісьменнік выкарыстаў як сюжэтную аснову евангельскае апавяданне пра «дамавітага» гаспадара, які насадзіў вінаград і паставіў варту ля яго варотаў. Але развіў гэты сюжэт у складаны красамоўніцкі твор дыдактычна-філасофскага і сацыяльна-этычнага зместу. Дамавіты гаспадар тут сімвалізуе Бога, стваральніка сусвету, сад-вінаград (вертаград) — зямля і «свет гэты», кульгавы — цела чалавека, а сляпы — яго душа, агароджа вакол саду — законы і запаведзі Божыя, а незачыненыя вароты, якія вядуць у сад, — шлях да пазнання Творцы і створанага ім сусвету. Сляпы і кульгавы, аб'яднаўшы свае сілы (сляпы нёс кульгавага, а кульгавы паказваў дарогу), самавольна трапілі ў сад, каб паспрабаваць забароненых пладоў. «Сляпая» душа і «кульгавае» цела сімвалізуюць недасканаласць чалавечага грамадства, якое «кантрабандай» авалодала тайнамі боскага тварэння, не ў стане (па сваёй грахоўнасці і маральнай недасканаласці) выкарыстаць іх для дабра.

У апошніх творах красамоўніцкага жанру (пасланнях да ігумена Кіева-Пячорскага манастыра Васіля), арыгінальных прытчах К.Т. раскрыў глыбокі сацыяльна-этычны сэнс манаскага жыцця і ўскосна выкрыў недаскана-

ласць дзяржаўнага ладу, зямной улады наогул, якая служыць грахоўнай прыродзе чалавека, а не яго духоўнаму ўдасканаленню. Тут, сярод чалавечай улады, выяўляецца духоўная місія «манаскага чына» — даць чалавеку і грамадству ўзоры быцця з Богам і для боскага промыслу, жыцця паводле вядомай малітвы: ціхага і мірнага, у чысціні і ў адпаведнасці з боскай праўдай.

Для хрысціянскай культуры таго часу багаслоўская паэтычная, красамоўніцкая і асветніцкая творчасць К.Т. была сапраўдным адкрыццём красы і мастацкай выяўленчай сілы роднай мовы. Пісьменнік добра ведаў класічную візантыйскую рыторыку і паэтыку, творча выкарыстаў гэту багатую эстэтычную традыцыю, узбагаціўшы культуру і мову свайго народа. З пазнейшых беларускіх асветнікаў бадай што адзіны Сімяон Полацкі дасканала валодаў красамоўніцкім майстэрствам, хоць і ўступаў свайму выдатнаму папярэдніку ў сіле і прыгажосці лірычнага самавыяўлення.

*Тв.*: (Творы). М.; Л., 1956—58. Т. 12—13, 15; Творения святого отца нашего Кирилла епископа Туровского. Киев, 1880; Слово о премудрости (притча) // Крыніца. 1994. 1(7); Слова ў нядзелю Святога Фамы /Пер. А.Разанаў // Там жа.

*Літ.*: Ерёмин И.П. Литературное наследие Кирилла Туровского // Тр. Отд. древнерус. литературы. М.; Л., 1955; Його ж: Ораторское искусство Кирилла Туровского. Тамсама. 1962. Т. 18; Лабынцаў Ю. «Напой росою благодати...». Мн., 1992; Надсон А. і інш. Кірыл Тураўскі // Крыніца. 1994. 1(7). *У.М.Конан.*

## КЛІМЕНТ СМАЛЯЦІЧ
### (? — пасля 1164)

Царкоўна-палітычны дзеяч, мысліцель і асветнік. Нарадзіўся ў 1-й палове 12 ст. ў Смаленску. Быў манахам Зарубскага манастыра каля Кіева. Стаў вядомы дзякуючы сваёй рознабаковай адукаванасці, рэдкай эрудыцыі, выдатнаму літаратурнаму таленту. Як сцвярджае Іпацьеўскі летапіс, К.С. «быў кніжнік і філосаф, якіх у Рускай зямлі не бывала». Высокую на той час адукацыю ён, верагодна, атрымаў у Канстанцінопалі. Як прыхільнік развіцця ўсходнеславянскай культуры, змагар супраць засілля ў рускай царкве грэчаскага духавенства К.С. актыўна агітаваў за царкоўную аўтакефалію. Ён нястомна даказваў, што назначэнне мітрапалітаў для Кіеўскай Русі — унутраная справа рускага праваслаўя, і дыктат Візантыі ў гэтым пытанні пярэчыць інтарэсам народа, царквы, дзяржавы. Паводле яго пераканання, мітрапаліты-грэкі, якія дрэнна валодалі славянскай мовай, не маглі даць столькі карысці для царкоўнага ўпарадкавання і народнай асветы, колькі можна было чакаць ад мітрапалітаў мясцовага паходжання. Назначэнне мітрапалітаў-чужаземцаў без адабрэння княжацкай улады было знявагай для апошняй, служыла зручнай падставай для ўмяшання грэчаскіх імператараў у справы славянскіх дзяржаў. Патрыятычнасць і шчырае імкненне вучонага манаха садзейнічаць развіццю мясцовых традыцый у жыцці ўсходняга славянства выклікала прыхільнасць да яго мясцовай улады. Невыпадкова знаёмы з яго прамовамі князь Ізяслаў Мсціславіч, які заняў у 1146 велікакняжацкі прастол, паступіў, як яго продак Яраслаў Мудры. У 1147 ён склікаў у Кіеве епіскапскі сабор і прапанаваў удзельнікам выбраць першасвяшчэнніка для Кіеўскай Русі без адабрэння канстанцінопальскага патрыярха. Пры гэтым Ізяслаў Мсціславіч назваў К.С. самым дастойным кандыдатам. Так «кніжнік і філосаф» стаў другім на Русі (пасля Іларыёна Кіеўскага) мітрапалітам славянскага паходжання. Узвядзенне яго на Кіеўскую кафедру праходзіла не гладка. Прыцыўнікі царкоўнай самастойнасці напачатку адмовіліся прызнаць яго мітрапалітам без волі на тое патрыярха. Зламаць супраціўленне прагрэчаскі настроеных іерархаў дапамаглі настойлівасць Ізяслава і рашучая падтрымка чарнігаўскага епіскапа Ануфрыя. Становішча новага мітрапаліта было нялёгкім. Яго дзейнасць ухваляў толькі князь Ізяслаў Мсціславіч. Пасля смерці Ізяслава (1154), калі велікакняжацкі прастол заняў былы смаленскі князь Расціслаў Мсціславіч, К.С. у яго асобе таксама атрымаў саюзніка, гатовага змагацца за самастойнасць рускай царквы. Аднак і на гэты раз частка епіскапаў на чале з Ніфантам Ноўгарадскім не падтрымала мітрапаліта Клімента. Ніфант ад свайго імя і ад імя іншых епіскапаў заявіў:

«Мы не станем табе кланяцца, не будзем служыць з табой, таму, што ты не ўзяў благаславення ў святой Сафіі і ад патрыярха». Узнікла рэальная пагроза ўнутрыцаркоўнага расколу. Разумеючы, да якіх вынікаў можа прывесці гэты канфлікт ва ўмовах раздробленасці Русі, князь Расціслаў заклікаў абедзве партыі да стрыманасці і развважлівасці. Нельга, казаў ён, каб безупыннае крывавае саперніцтва ўдзельных князёў за валоданне Кіевам узмацніла барацьбу за права той ці іншай княжацкай кааліцыі ўзводзіць у мітрапаліты свайго чалавека, абцяжарыла разладамі на рэлігійнай глебе жыццё рускага грамадства, якое і без таго вельмі пакутуе ад палітычных усобіц. Аднак утаворы і заклікі Расціслава не былі пачуты.

У сак. 1155 кіеўскі трон заняў правізантыйскі настроены суздальскі князь Юрый Даўгарукі, які саслаў мітрапаліта Клімента ва Уладзімір Валынскі, а мітрапаліцкую кафедру аддаў назначэнцу патрыярха Канстанціну. Аднак праз 3 гады новы кіеўскі князь Мсціслаў Ізяславіч аднавіў К.С. на гэтай пасадзе. Барацьба за мітрапаліцкае месца выклікала царкоўную смуту. Грэчаскі стаўленік імкнуўся аддаліць ад царкоўных спраў прыхільнікаў Клімента, у сваю чаргу Клімент не мілаваў тых, хто быў на баку яго праціўніка. Каб спыніць разлад, князі Расціслаў і Мсціслаў адхілілі ад спраў абодвух мітрапалітаў і прызначылі ў жн. 1161 на мітрапаліцкае месца Феадора, які праз некалькі месяцаў памёр. Расціслаў зноў прапанаваў кандыдатуру К.С. Каб надаць справе законны выгляд, ён паслаў прасіць благаславення для Клімента ў патрыярха. Але канстанцінопальскі патрыярх накіраваў у Кіеў мітрапалітам Іаана IV. Расціслаў, кіруючыся меркаваннямі царкоўнага міру, не хацеў ускладняць і без таго цяжкія палітычныя абставіны на Русі, неахвотна прыняў новага назначэнца, але наказаў перадаць у Канстанцінопаль: «На гэты раз, дзеля павагі і любові царскай, прыму, але калі надалей без нашага ведама і жадання патрыярх назначыць на Русь мітрапаліта, то не толькі не прымем яго, а пастановім за нязменнае правіла выбіраць і ставіць мітрапаліта епіскапам рускім па загаду вялікага князя». У выніку дзяржаўнай мудрасці і дыпламатычнай гібкасці Расціслава барацьба вакол самага прынцыповага для царкоўнага жыцця пытання сціхла. Так скончылася гісторыя з узвядзеннем на мітрапаліцкі прастол К.С., які звязаў сваё жыццё і дзейнасць з барацьбой за царкоўную незалежнасць ад Візантыі. Права прысылаць у Кіеў першасвяш-




*Смаленск у пачатку 17 ст. Са старажытнай гравюры.*

чэнніка захавалася за патрыярхам. І ўсё ж ідэя рускай праваслаўнай аўтаноміі, якую так энергічна адстойваў вучоны манах са Смаленска, не памерла, але здзейснілася на практыцы толькі ў канцы 16 ст.

Да нас дайшоў толькі адзін твор К.С. (у тлумачэнні манаха Афанасія) — «Пасланне Фаме прэсвітэру». У гэтым «Пасланні...», разглядаючы тэарэтычныя пытанні, К.С. абвяргае высунутыя супраць яго абвінавачванні, прыводзіць аргументы ў абарону свайго права кіраваць царквой. Асноўныя разыходжанні, што служылі падставай для дыскусій паміж Кліментам і Фамой, — рознае разуменне таго, як і да якіх межаў можна інтэрпрэтаваць тэксты Свяшчэннага пісання, ці правамерна наогул яго пашыранае, сімвалічнае тлумачэнне. Паводле меркаванняў К.С., важнае не толькі літаральнае, але і сімвалічнае разуменне біблейскіх тэкстаў, іх творчая інтэрпрэтацыя. Ён вымушаны быў абгрунтоўваць сваё права «даследаваць іншасказальна... усе гэтыя боскія адзнакі і цуды Госпада нашага Ісуса Хрыста», свае доказы падмацоўваць аўтарытэтам айцоў царквы: «Калі святыя і боскія айцы нашы дабавілі нешта падобнае да Гасподніх слоў, каб растлумачыць і выкласці іх, то гэта вельмі карысна, добра і пахвальна».

У развіцці чалавечай гісторыі К.С. вылучае тры паслядоўныя перыяды — «Запавет», «Закон» і «Дар Божы». Значэнне першых двух у тым, што яны рыхтуюць перамогу абсалютнай ісціне, якая адкрываецца ў хрысціянстве. Паводле яго слоў, «Хрыстос Бог наш, сонца праведнае, асвяціў нас боскімі зорамі і прасвяціў сваім хрышчэннем, і вось усе старое прайшло, і стала ўсё новае, і ўжо не месціцца ў законе чалавецтва, але пад боскай ласкаю свабодна ходзіць...» У гэтай сувязі К.С. падкрэслівае, што некаторыя язычнікі, якія жылі па-за законам і да закону, «вылучаліся набожнасцю, жывучы не па законе, але па веры», таму ім лягчэй атрымаць дабрадзейства боскае, чым іудзеям, якія не могуць «пайсці» далей закону Майсеевага, што заступае шлях да дабрадзейства. Для распрацоўкі і выкладання ўласных поглядаў К.С. шырока выкарыстоўвае працы Феадарыта Кірскага, Нікіты Гераклійскага, рацыяналістычныя метады для тлумачэння рэлігійных тэм. Апісваючы сваё ўяўленне пра сусвет, ён спасылаецца не толькі на хрысціянскіх, але і антычных аўтараў — Гамера, Платона, Арыстоцеля. Яго асноватворнае ўяўленне пра сусвет — гэта перакананне ў тым, што ўсё існае мае мэтазгодную будову, «усё ўладжваецца, падтрымліваецца і мае поспех сілай боскай, бо няма другой дапамогі, акрамя дапамогі боскай, і іншай сілы, акрамя сілы боскай». Мысліцель характарызуе Бога як непазнавальную абсалютную істоту, якая, аднак, пазнаецца ў сваіх тварэннях. Чалавек, які адкрывае для сябе разумную пабудову свету, становіцца, такім чынам, на шлях пазнання Бога-творцы, знаходзіць вышэйшы сэнс свайго існавання. Боская арганізацыя быцця дае чалавеку магчымасць сваімі ўчынкамі далучацца да Бога ці, наадварот, аддаляцца ад яго. Бог, са свайго боку, гатовы садзейнічаць збліжэнню з чалавекам, ратаванню яго, калі той праяўляе імкненне да гэтага. У разважаннях пра Грыгора Багаслова, прарока Іона, траіх отракаў, расказах пра фантастычных жывёл К.С. настойліва праводзіць думку пра тое, што «нішто не пагарджанае ў Госпада: усё бачыць яго бяссоннае вока, усё назіраецца, пры ўсім стаіць, даючы кожнаму выратаванне». Валодаючы найвышэйшым дарам — свабоднай воляй — чалавек можа дзейнічаць, як яму хочацца. Але дараваная яму свабода ўчынкаў — адначасова і напамін пра тое, што чалавеку, як вянцу тварэння, як асноўнаму цэнтру сусвету, створанаму па ўзоры і падабенстве боскаму, належыць імкнуцца да маральнага ўдасканалення, безагаворачна давяраць боскаму промыслу, «праслаўляць і дзякаваць» Творцу. Такім чынам, як і Іларыён Кіеўскі, *Кірыла Тураўскі* і інш. мысліцелі эпохі Кіеўскай Русі, К.С. развіваў антрапацэнтрычныя ідэі, падкрэсліваў духоўна-маральную прыроду чалавека. Але гэтыя аспекты сярэдневяковага светапогляду ён фармуляваў больш выразна і тэарэтычна абгрунтавана, чым яго папярэднікі. Важнае месца ў светапоглядзе К.С. займае ідэя няхцівасці. Яго адмова ад усяго, уключаючы царкоўную маёмасць, у той час як многія манастыры, цэрквы, асобныя свяшчэннаслужыцелі з'яўляліся буй-

нымі ўласнікамі, была не зусім тыповая. Акцэнт на духоўным, вечным, асуджэнні скнарнасці характарызуе ўсё сярэдневяковае светасузіранне ўсходніх славян. Але ў 12 ст., бадай, толькі К.С. ясна і дакладна выказаў гэту думку. Яго заклік захаваць маральную чысціню думак і ўчынкаў, духоўнае памкненне да найвышэйшых каштоўнасцей быццё гучыць вельмі сучасна і надзённа: «І як мы атрымалі закон і благадаць Свяшэннага пісання ад агульнага Уладыкі, Госпада нашага Ісуса Хрыста Збавіцеля і Кіраўніка нашых душ, і святых і боскіх яго апосталаў, па дары і благадаці і сіле Духа, будзем трымацца, любыя, за гэту будучую надзею, не адхіляючыся ні ўлева, ні ўправа, каб не зваліцца нам на самае дно пагібелі. Але пайшоўшы следам за ісцінным і сумленным царкоўным свяціцелем, такім чынам дасягнем найвышэйшай светласці ў будучым царстве Госпада нашага Ісуса Хрыста...».

*Літ.*: Никольский Н.К. О литературных трудах митрополита Климента Смолятича, писателя XII в. Спб., 1892; Его ж. Материалы для истории древнерусской духовной письменности. Спб., 1907; Лавровский Л.Я. Послание митрополита Климента Смолятича к Фоме, пресвитеру Смоленскому, как историко-литературный памятник XII в. Смоленск, 1893; Памятники литературы Древней Руси, XII в. М., 1980; Становление философской мысли в Киевской Руси. М., 1984.

*В.П.Оргіш.*

# П

## ПРАДСЛАВА, гл. *Ефрасіння Полацкая*

# Р

## РАГНЕДА РАГВАЛОДАЎНА [960(?)—1000]

Полацкая князёўна, асветніца. Дачка полацкага князя Рагвалода, жонка вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча (Уладзіміра Хрысціцеля); маці князёў Ізяслава Уладзіміравіча (полацкі князь з 988 па 1001), Яраслава Мудрага (вялікі князь кіеўскі з 1019 па 1054), Усевалада (князь уладзіміра-валынскі), Мсціслава (князь цьмутараканскі), а таксама князёвен Прадславы і Праміславы. Яе бацька Рагвалод, паводле адной з гіпотэз — вараг, запрошаны ў Полацк на княжанне, паводле другой — сын полацкай княгіні Прадславы, які пасля смерці маці прыняў княжанне, вярнуўшыся ў вотчыну «из заморья». У Іпацьеўскім і Ларэўнцьеўскім спісах «Аповесці мінулых гадоў» ёсць звесткі, што ў 980 (паводле Цвярскога летапісу — не пазней 976) Рагнеда павінна была стаць жонкай вялікага князя кіеўскага Яраполка. Але ў Полацк прыехалі сваты і ад наўгародскага князя Уладзіміра Святаславіча. Рагнеда адмовіла новаму прэтэндэнту: «Не хачу разуць сына рабыні, а Яраполка хачу». Такая адмова выглядала абразліва ў адносінах да маці Уладзіміра Малушы, якая была неафіцыйнай жонкай Святаслава і як дачка пераможанага драўлянскага князя Маная лічылася ключніцай у Кіеўскім княжацкім двары. Абражаны адмовай Уладзімір пайшоў паходам на Полацк, разбіў войска Рагвалода, захапіў горад, забіў бацьку, маці і двух братоў Рагнеды, а яе гвалтоўна зрабіў сваёй жонкай і даў ёй імя Гарыслава. У гэтым жа годзе Уладзімір здзейсніў паход на Кіеў, забіў брата Яраполка і заняў велікакняжацкі прастол. Рагнеду ён перавёз у Кіеў (разам з другой сваёй жонкай, скандынаўкай Аловай). Пасля нараджэння першага сына Ізяслава і дачкі Прадславы Уладзімір падарыў Рагнедзе вёску Прадславіна ў наваколлі Кіева. Верагодна, тут нарадзіліся і іншыя дзеці Рагнеды. У 988 Уладзімір, каб прыняць хрысціянства, вырашыў ажаніцца з візантыйскай царэўнай Аннай, а Рагнедзе прапанаваў развод і замужжа з любым з яго баяраў. Рагнеда адмовілася. Яе словы «Княгіняй была, не хачу быць рабыняй» настолькі ўразілі яе хворага сына Яраслава (прысутнічаў пры размове бацькоў), што ён вылечыўся ад паралічa ног. Верагодна, непасрэдна пасля гэтых падзей Рагнеда зрабіла замах на жыццё мужа. Ноччу, калі ён спаў,



*Заслаўскі замак.*

яна кінулася на Уладзіміра з кінжалам, князь прачнуўся і паспеў адвесці ўдар. Спроба Рагнеды забіць мужа разглядаецца многімі даследчыкамі не як праява рэўнасці, а як помста забойцу яе бацькоў і разбуральніку Полацка. Уладзімір наважыўся пакараць Рагнеду смерцю, але за маці ўступіўся старэйшы сын Ізяслаў. Тады Уладзімір саслаў жонку і сына ў Полацк. У 990 тут Рагнеда прыняла хрысціянства і пастрыглася ў манахіні пад імем Анастасія. Яна шчыра прыняла гэту новую веру, пашырала яе сярод сваіх суродзічаў-крывічоў павольна, абдумана, высвятляючы сутнасць Хрыстовай навукі. Дзякуючы Рагнедзе з Полацка хрысціянства пашырылася спачатку на Полаччыну, а потым на Смаленшчыну і інш. крывіцкія землі. Пазней для Рагнеды і яе сына быў пабудаваны горад Ізяслаўль (названы імем старэйшага сына Ізяслава, цяпер г. Заслаўе). Тут у заснаваным ёю манастыры Рагнеда памерла. Яна была першай жанчынай-манахіняй у Старажытнай Русі. Выхаваны ў духу хрысціянскай маралі яе 11-гадовы сын Ізяслаў быў абраны на княжацкі трон у Полацку і тым самым была адноўлена дынастыя полацкіх князёў Рагвалодавічаў. Другі яе сын Яраслаў (за разумнае праўленне празваны Мудрым) за 35 гадоў княжання ў Кіеўскай Русі ўзняў дзяржаву да вяршыні магутнасці, пакінуў нашчадкам першы на Русі збор законаў — «Праўду Яраслава», пабудаваў у Кіеве Сафійскі сабор, заснаваў Кіеўскую мітраполію. Яго постаць найбольш яскравая ў дынастыі Рурыкавічаў.

*Літ.*: Двинская Я. Легенды Полоцкой земли. Рига, 1991; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990; Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5 выд. Мн., 1991; Чамярыцкі В. Рагнеда і Уладзімір // Спадчына. 1989. №1; Штыхаў Г. Ажываюць сівыя стагоддзі. 2 выд. Мн., 1982; Рагач П. Кароткі агляд гісторыі Беларусі для беларускіх дапаўняльных школаў. Кліўленд; Нью-Йорк; Талін, 1990.

*І.А.Масляніцына.*

І. Г. Маслыка

У

## УСЯСЛАЎ БРАЧЫСЛАВІЧ
Чарадзей
(? — 14.4.1101)



Князь полацкі. Яго бацька быў славуты князь Брачыслаў Ізяславіч, унук Рагнеды, адважны воін і мудры правіцель; імя маці гісторыя не захавала. Паводле легенд, паходжанне У.Б. прыпісвалася чарадзейным сілам (верагодна, таму і празваны Чарадзеем). У 1044 пасля смерці бацькі стаў полацкім князем. Гады яго праўлення ў Полацкім княстве пазначаны падзеямі і славутымі, і трагічнымі. Пры ім у Полацку пабудаваны новы замак-дзядзінец, славуты Полацкі Сафійскі сабор, распачата ўзвядзенне і іншых манументальных пабудоў. У якасці ўзору для сабора князь абраў канстанцінопальскую Сафію. Да Полацка аналагічны будынак быў пастаўлены толькі ў Кіеве, і завяршалася будаўніцтва ў Ноўгарадзе. Гісторыі захавала імёны тагачасных дойлідаў, што працавалі ў Полацку: Давыд, Таўма, Мікула, Капес. Ёсць сведчанне, што князь будаваў і ўмацоўваў не толькі сваю сталіцу, але і іншыя гарады Полацкай зямлі: Браслаў, Друцк, Заслаўе, Лагойск, Копысь, Оршу, Менск. У сваёй сталіцы У.Б. прымаў вядомага ў Старажытнай Русі паэта-спевака Баяна. Акрамя таго, ён стварыў моцнае, добра падрыхтаванае войска, здольнасці якога праверапы ў час паходу на торкаў у саюзе з кіеўскімі князямі. У 1065 пачалася другая крывавая братазабойчая вайна паміж Кіевам і Полацкам. У.Б. хадзіў паходам на Пскоў, пасля — на Ноўгарад, які яму ўдалося захапіць. У адказ на гэта тры кіеўскія князі, браты-суправіцелі, нашчадкі Яраслава-Мудрага, павялі свае войскі на Менск. Крывавая бітва адбылася на рацэ Нямізе. Апавядаючы пра трагізм Нямігскай бітвы 1067, аўтар «Слова аб палку Ігаравым» з сардэчнай цеплынёй і спачуваннем намаляваў вобраз У.Б. як яскравую гістарычную асобу, мудрага і дзейнага валадара, князя-чарадзея і адначасова як несправядліва пакрыўджанага, няшчаснага чалавека. «На Немізе снопы стелютъ головами, молотятъ цепы харалужъными, на тоце живот кладутъ, веютъ душу от тела. Немизе кровави брезне балогом бяхуть посеяни, посеяни костьми Руськых сынов. Всеслав князь людем судяше, князем грады рядяше, а сам в ночь вълком рыскаше: из Кыева дорыскаше, до кур, Тьмутораканя; великому Хърсови вълком прерыскаше. Тому в Полотьсте позвониша заутренюю рано у святыя Софеи, а он в Кыеве звон слышаше.

Аще и веща душа в друзе теле нъ часто беды страдаше. Тому вещий Боян и първое припевъку смысленый рече: «Ни хытру, ни горазду, ни птичу, горазду суда Божия не минути».

Хутчэй за ўсё страты ў гэтай бітве былі вялікія з абодвух бакоў, бо Яраславічы не адважыліся ісці на Полацк і праз 4 месяцы пасля бітвы запрасілі У.Б. на перагаворы. Летапісец так расказвае пра гэта: «Цалавалі крыж чэс-



СЛОВО

О ПЛЪКУ ИГОРЕВѢ, (а)

ИГОРЯ СЫНА

СВЯТЪСЛАВЛЯ,

ВНУКА ОЛЬГОВА.

Нелѣполи ныбяшетъ, братіе, начяти старыми словесы трудныхъ повѣстій о пълку Игоревѣ, Игоря Святъславлича! начати же ся тъй пѣсни по

ПѢСНЬ

О ПОХОДѢ ИГОРЯ,

СЫНА СВЯТОСЛАВОВА,

ВНУКА ОЛЬГОВА.

Пріятно намъ, братцы, начать древнимъ слогомъ прискорбную повѣсть о походѣ Игоря, сына Святославова! начать же сію пѣснь по бытіямъ того времени, а не по

*Старонка першага выдання «Слова аб паходзе Ігаравым». 1800.*

ны Усяславу, казалі: «Прыйдзі да нас, а мы не зробім табе благое». Але кіеўскія князі ашукалі У.Б. Прыбыўшы на перагаворы, ён быў схоплены, як толькі У.Б. ступіў з чоўна на другі бераг Дняпра каля Оршы. Яго адвезлі ў Кіеў і разам з двума малалетнімі сынамі кінулі ў цямніцу-поруб. Князь прабыў у зняволенні больш за 14 месяцаў. Але ў гэты час на Кіеўскую зямлю напалі полаўцы, разбілі войска Яраславічаў, і тыя ў паніцы збеглі хавацца ў розныя гарады сваёй дзяржавы. Абураныя іх паводзінамі кіяўляне ўзнялі мяцеж, выпусцілі з вязніцы У.Б. з сынамі і пасадзілі полацкага князя на кіеўскі прастол. На вялікакняжацкім прастоле У.Б. прабыў 7 месяцаў. За гэты час ён разбіў полаўцаў, ажыццявіў паход на Тмутаракань. Аднак у хуткім часе паявіўся выгнаны ў час мяцяжу з Кіева Ізяслаў Яраславіч з набраным у Польшчы войскам. У.Б. з кіяўлянамі пайшоў яму насустрач, каб даць бой. Але, не жадаючы пачынаць братазабойную вайну, У.Б. нечакана для ўсіх ноччу пакінуў войска і збег у родны Полацк. Даследчыкі да гэтага часу спрачаюцца аб прычынах такога ўчынку князя. Верагодна, яны былі дастаткова важкімі, бо У.Б. ніяк нельга лічыць баязліўцам ці здраднікам.

Неўзабаве кіеўскі князь Ізяслаў вярнуў сабе прастол і зноў напаў на Полацкія землі. Не паспеўшы арганізаваць добрую абарону Полацка, У.Б. пакінуў горад і знайшоў прытулак у племені водзь, дзе збіраў сілы, каб вярнуць страчаную ўладу. У 1068 на чале водскага войска ён з'явіўся пад Ноўгарадам. У баі з наўгародцамі У.Б. трапіў у палон. У хуткім часе яго чамусьці адпусцілі. У 1071, сабраўшы войска з прадстаўнікоў балцкіх плямён, У.Б. урэшце вярнуў свой полацкі прастол. Да 1084 кіеўскія князі неаднаразова спрабавалі захапіць Полацк і скінуць У.Б. з прастола. Але полацкі князь адстаяў свае землі і трывала трымаўся на троне сваіх бацькоў. Дзякуючы ваеннаму майстэрству і мудраму кіраўніцтву У.Б. з 1084 да самай яго смерці (1101) Полацкае княства



*Бітва на Нямізе ў 1067 г. Малюнак М.С.Басалыгі. 1985.*

існавала без войнаў, Полацк развіваўся як гандлёвы і культурны цэнтр. У.Б. меў 6 сыноў — Давыда, Глеба, Рамана, Расціслава, Святаслава-Георгія, Рагвалода-Барыса, якіх ён выхаваў як вы-датных воінаў, палітыкаў і шчырых патрыётаў сваёй бацькаўшчыны.

*Літ.*: Т а р а с а ў С.В. Чарадзей з сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. Мн., 1991. *Г.Масляніцына.*

# ЭПОХА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА



| | |
|---|---|
| **1203, 1206, 1216 гг.** | Паходы полацкіх дружын супраць крыжакоў. |
| **1230—1240-я гады** | Утварэнне Вялікага княства Літоўскага са сталіцай у Навагрудку. |
| **1252 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Слонім і Ваўкавыск. |
| **1307 г.** | Уваходжанне Полацкай зямлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. |
| **1323 г.** | Горад Вільня становіцца асноўнай сталіцай Вялікага княства Літоўскага. |
| **1355 г.** | Далучэнне да Вялікага княства Літоўскага Бранскага княства. |
| **1385 г.** | Крэўская унія — дагавор пра саюз Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства. |
| **14—16 ст.** | Эпоха Адраджэння, якая характарызавалася росквітам навукі, літаратуры і мастацтва. |
| **1404 г.** | Уключэнне г. Смаленска ў склад Вялікага княства Літоўскага. |
| **1410 г., 15 ліпеня** | Грунвальдская бітва. |
| **1413 г.** | Гарадзельская унія — саюз Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам. |
| **1446 г.** | Стварэнне Беларуска-літоўскага летапісу. |
| **1504—1507 г.** | Утварэнне Віцебскага і Навагрудскага ваяводстваў. |
| **1517 г., 6 жніўня** | Ф.Скарына выдаў у г. Прага першую кнігу Бібліі на тагачаснай беларускай мове. |
| **1522—1525 г.** | Дзейнасць у Вільні друкарні, заснаванай Ф.Скарынай; выдадзены кн. «Апостал», «Малая падарожная кніжка». |
| **1529 г.** | Увядзенне 1-га Статута Вялікага княства Літоўскага. |

| | |
|---|---|
| **1566 г., 11 сакавіка** | Зацвярджэнне 2-га Статута Вялікага княства Літоўскага. |
| **1569 г., 1 ліпеня** | Люблінская унія — аб'яднанне Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. |
| **1588 г., 28 студзеня** | Зацвярджэнне 3-га Статута Вялікага княства Літоўскага. |
| **2-я палова 16 ст. — пачатак 17 ст.** | Стварэнне Баркулабаўскага летапісу. |
| **1579 г.** | Заснавана Віленская акадэмія (з 1803 — Віленскі універсітэт). |

# А

## АБРАМОВІЧ [Абрагамовіч (Ян); ? — 19.4.1602]

Староста лідскі, ваявода мінскі (1593) і смаленскі (1596), пісьменнік. Паходзіў са старажытнага роду Абрагамовічаў, якія славіліся багаццем і адукаванасцю. Удзельнічаў у кальвінісцкіх дыспутах з езуітамі, у Торунскім сінодзе (1595), у нарадах з праваслаўнымі ў Вільні (1599). Выдаў у Вільні (1598) евангелічны «Катэхізіс», які змяшчаў да 300 рэлігійных песень. Яму таксама прыпісваюць аўтарства твора «Погляды літвіна на танную куплю і даражэйшы продаж збожжа» (1595, на польск. мове), дзе аўтар выступае асветным тлумачальнікам і абаронцам свабоды гандлю. У Варнянах (Гродзенская вобл.) заснаваў кальвінісцкі сабор, бальніцу, школу, якія існавалі да сярэдзіны 17 ст.

## АГРЫПА Вацлаў (Венцлаў; ?—1597)

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, дыпламат, палеміст. Вучыўся ў Кракаўскім і Вітэнбергскім ун-тах. Спачатку працаваў каралеўскім сакратаром у Польшчы, быў пасланнікам у Вене, потым інфлянцкім польным пісарам, маршалкам сойма; з 1575 — пісар Вялікага княства Літоўскага. У 1586 займаў пасаду мінскага кашталяна, у 1590 — смаленскі кашталян. Удзельнічаў у паходах *Стафана Баторыя*. Прыхільнік партыі Радзівілаў, лютэранін. Складаў палемічныя трактаты. Прымаў удзел у стварэнні Статута Вялікага княства Літоўскага 1588.

## АЛЕЛЬКАВІЧ Аляксандр (Алелька; ?—1454)

Палітычны дзеяч, военачальнік, дыпламат Вялікага княства Літоўскага. Другі сын кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча, заснавальнік роду



Алелькавічаў, якія займалі прывілеяванае становішча ў Вялікім княстве Літоўскім, удзельны князь слуцкі і капыльскі, князь кіеўскі (з 1441). У 1417 ажаніўся з Настассяй, дачкой вялікага князя маскоўскага Васіля І і Соф'і Вітаўтаўны (дачка Вітаўта). Меў 3 дачкі, сыноў Сямёна і Міхаіла. Удзельнічаў у паходах Вітаўта на Ноўгарад, у абароне паўднёвых рубяжоў Вялікага княства Літоўскага. Ва ўзброенай барацьбе за велікакняжацкі прастол з 1431 падтрымліваў Свідрыгайлу, потым Жыгімонта Кейстутавіча, з 1433 зноў Свідрыгайлу. Арыштаваны Жыгімонтам і зняволены ў Кернаве. Пасля забойства Жыгімонта прысягнуў вялікаму князю Казіміру. Паводле некаторых звестак, у 1440 — рэальны прэтэндэнт сярод «літоўскай» арыстакратыі на велікакняжацкі прастол. Маючы асноўныя ўладанні ў «рускіх» (беларуска-ўкраінскіх) рэгіёнах Вялікага княства Літоўскага, падтрымліваў праваслаўныя цэрквы і манастыры, не забываў і каталіцкія храмы (зацвердзіў прывілей каталіцкага касцёла св. Мікалая ў Кіеве). У процівагу велікакняжацкай уладзе, якая падтрымлівала кандыдатуру саборнага папы, у 1441 рашуча выказаўся за прызнанне царкоўных і ўладальніцкіх правоў уніяцкага

мітрапаліта Ісідора. Пахаваны А. ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

Пад апекай А. працавалі розныя кнігапісцы і скрыпторыі, праўда, дакладных звестак пра іх дзейнасць амаль не захавалася. На Лаўрышаўскім Евангеллі 13—14 ст. выяўлены тэкст ягонага дару манастыру: «Се язь князь Олексанъдр Володимерович и с своею княгинею московъкою и своими детми дал есмь десятину в св[вя]тей б[огороди]цы у Лаврашов манастырь с Турца у веки». Магчыма, адзін з кодэксаў, што ўзнік у часы А., пазней быў перапісаны і ўпрыгожаны знакамітым слуцкім дзякам У.Яцкавічам. На думку П.А.Гільтэбранта і А.Л.Міратворцава, у Слуцку ў пач. 15 ст. вялося летапісанне. Пра гэта сведчыць знойдзены імі ў 1867 у Нясвіжскім архіве Радзівілаў фрагмент старажытнага рукапісу, які дайшоў да нас у лацінскай транскрыпцыі 18 ст. У ім паведамляецца пра заснаванне Новага «града» ў Слуцку побач са Старым, будаўніцтва ў 1409 царквы св. Багародзіцы ў Высокім горадзе на «дытынцу» (у замку). Паводле Улашчыка, гэты тэкст хутчэй за ўсё напісаны ў пач. 16 ст., але магчыма, на аснове летапісных слуцкіх запісаў у пач. 15 ст.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Грицкевич А.П. Слуцк: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1970; Wolff J.Kniaziowie litewsko-ruscy od Końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

*Г.Я.Галенчанка.*

## АЛЬГЕРД
## [1296(?) — май 1377]

Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1345—1377; адзін з найвыдатнейшых палкаводцаў, правіцеляў, збіральнікаў і ахоўнікаў старажытнай Літоўска-Беларускай дзяржавы, за што быў празваны Альгердам Вялікім. Сын *Гедзіміна*. Пражыў больш за 80 гадоў, правіў дзяржавай 32 гады; бацька 12 сыноў, у т.л. Ягайлы, Андрэя Полацкага, Свідрыгайлы, Скіргайлы, Уладзіміра. У 1318 ён ажаніўся з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай, а ў 1320 пасля смерці віцебскага князя атрымаў гэта княства ў спадчыну. У 1341 Гедзімін падзяліў свае ўладанні паміж сынамі. А. акрамя Віцебскага



княства атрымаў славутую крэпасць Крэў і землі на р. Бярэзіна. У 1345 у саюзе з братам Кейстутам скінуў віленскага князя — свайго малодшага брата Яўнуція (Яўнуту) і стаў вялікім князем. Яўнуцій атрымаў Заслаўе, адкуль потым уцёк у Маскву, а затым зноў вярнуўся ў Заслаўе. А. паспяхова змагаўся супраць агрэсіі Тэўтонскага ордэна (бітвы 1345, 1347, 1348, 1352, 1365, 1370 і інш.), у т.л. выйграў цяжкую бітву ў крыжакоў на р. Стрэва ў 1348. У 1341 А. аказаў дапамогу Пскову ў барацьбе супраць крыжакоў. Ён вёў паспяховую палітыку, накіраваную на далейшае аб'яднанне, эканамічнае і культурна-этнічнае збліжэнне ўсходнеславянскіх зямель у адзінай дзяржаве. Калі быў віцебскім князем, авалодаў Мажайскам. У 1340-я г. далучыў да Літоўска-Беларускай дзяржавы Чарнігава-Северскае княства. У палітычнай залежнасці ад яго апынулася і Смаленскае княства (1350-я г.). Каля 1355 далучыў да сваёй дзяржавы Бранскае княства, у 1356, 1359 і 1362 — гарады Ржэў, Мсціслаў, Тарапец. З 1351 пастаянна вёў барацьбу з татарамі; у 1361—62 адваяваў у Залатой Арды Кіеўскае княства, усю Севершчыну і інш. землі. У канцы 1362 у вялікай бітве на р. Сінія Воды (каля Паўднёвага Буга) ён разграміў войскі трох татарскіх князёў — васалаў Залатой Арды і далучыў да Вялікага княства

Літоўскага Прычарнаморскія землі ў вусці р. Серат, басейнах Днястра і Паўднёвага Буга, паўднёвае Падняпроўе, Падольскую, Пераяслаўскую і Валынскую землі. Удзельным князем Кіева ён пасадзіў свайго сына Уладзіміра, Падолле аддаў у кіраванне навагрудскім князям Карыятавічам, войскі якіх складалі галоўную сілу ў бітве на р. Сінія Воды; з 1342 яго сын Андрэй Полацкі стаў пскоўскім князем. У процівагу аб'яднаўчай палітыцы маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога А. падтрымліваў сепаратысцкую барацьбу цвярскіх князёў. Каб замацаваць саюз з Цвярскім княствам, ён пасля смерці першай жонкі ажаніўся з князёўнай Ульянай Аляксандраўнай Цвярской. Намер А. заключыць антымаскоўскі саюз з ханам Джанібекам скончыўся няўдачай. Ён учыніў тры паходы на Маскву (1368, 1370, 1372). Аўтар «Хронікі Быхаўца» з захапленнем адзначыў уменне А. паставіць свайго праціўніка ў безвыходнае становішча і такім чынам прадыктаваць яму сваю волю. У патрэбны момант ён дзейнічаў рашуча і вынаходліва. Вось як летапісец апісвае завязку паходу А. на Маскву. Маскоўскі князь Дзмітрый Іванавіч «без каждое прычыны, опустошивши докончания и приязнь и прыслал до великого князя Ольгерда посла своей со отповедию, а прыслал к нему огонь и саблю» і перадаў, што будзе ў Літве летам. У адказ А. перадаў маскоўскаму князю: «Я, дасть Бог, и него буду на Велик день, а поцалую его красным яйцом через шчыт сулицою». І сапраўды, раніцай на Вялікдзень ён нечакана з'явіўся на Паклоннай гары пад Масквой. Захоплены знянацку маскоўскі князь вымушаны быў прасіць літасці і міру. А. спрабаваў падпарадкаваць Літоўскай Русі Пскоў і Ноўгарад (у 1342 пскавічы прынялі на княжанне яго сына Андрэя — вядомы ў гісторыі як Андрэй Полацкі), вёў барацьбу з Польшчай за Валынь і Падляшша (1349—51, 1366). Такім чынам, яму прыйшлося ваяваць на поўдні — з татарамі, на захадзе — з Польшчай, на ўсходзе — з Масквой, на паўночным захадзе — з крыжакамі, на паўночным усходзе — з Ноўгарадам, Псковам і Цвер'ю. Гэта патрабавала тытанічнага напружання і ўмення. Галоўнае было апярэдзіць праціўніка, перамагчы яго малой сілай.

За час праўлення А. тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага павялічылася ўдвая і яно стала самай вялікай і магутнай дзяржавай сярэдневяковай Еўропы. А. быў не толькі выдатным палкаводцам, але і мудрым дзяржаўным дзеячам, меў выключныя дыпламатычныя здольнасці, набыў славу выдатнага будаўніка дзяржавы, які дбаў не толькі пра яе моц, але і пра росквіт. У летапісе Паўночна-Усходняй Русі так характарызавалі яго высокія маральныя якасці і здаровы лад жыцця: «... Ён, не піў ні віна, ні піва, меў вялікі розум і падпарадкаваў многія землі, у тайне рыхтаваў свае паходы, ваюючы не столькі колькасцю, колькі ўменнем» (апошнія словы гэтага выказвання і ўзяў сабе на ўзбраенне А.В.Суворaў).

У часы яго праўлення ўсходнеславянскія народы складалі пераважную большасць насельніцтва краіны, таму ў Вялікім княстве Літоўскім дамінавала іх культура. Пры А. так званая «руская» мова ў яе беларускім варыянце была афіцыйна прызнанай агульнадзяржаўнай мовай справаводства і велікакняжацкага двара. Беларуская мова паспяхова абслугоўвала ўсе сферы грамадскага жыцця і ўсе класы.



*Крэўскі замак.*

Па-беларуску пісаліся шматлікія акты, граматы, статуты і інш. Яна пранікла і ў царкоўна-рэлігійную сферу. На беларускую мову перакладаліся аповесці рэлігійнага зместу, ствараліся жыції і т.зв. «Хаджэнні» ў Палесціну і Царград. Самым значным жанрам беларускай літаратуры заставаліся летапісы і хронікі, якія былі люстэркам грамадска-палітычнага жыцця тагачаснай Беларусі.

*Літ.:* А н т о н о в и ч В.Б. Монография по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885; Л ю б а в с к и й М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Хроника Быховца. М., 1966.

*І.П. Хаўратовіч.*

## АЛЯКСАНДР
(5.8.1461 — 19.8.1506)



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1492—1506, кароль польскі ў 1501—1506. Нарадзіўся ў Кракаве. Сын *Казіміра IV*, унук *Ягайлы*. Жанаты з дачкой маскоўскага вялікага князя Івана III Аленай. Выбранне яго на польскі трон (1501) азначала аднаўленне перапыненай амаль на 10 гадоў персанальнай уніі паміж Польшчай і Літоўска-Беларускай дзяржавай. У выніку паражэння ў войнах з Вялікім княствам Маскоўскім (1492—94, 1500—03) вымушаны быў прызнаць пераход пад уладу маскоўскага князя зямель Вялікага княства Літоўскага ў вярхоўях Акі, Дзясны, Дняпра і на Сажы з гарадамі Чарнігаў, Вязьма, Бранск, Дарагабуж, Любеч, Пуціўль, Мцэнск, Ноўгарад Северскі, Сярпейск, Рыльск, Гомель і інш. Саюзнік Маскоўскай дзяржавы крымскі хан Менглі-Гірэй неаднаразова спусташаў гарады Вялікага княства Літоўскага на Валыні і ў Галіцыі, а таксама Брэст. Аднак у жніўні 1506 беларуска-літоўскае войска на чале з М.Глінскім ушчэнт разбіла татарскае войска пад Клецкам.

Гісторыкі называюць А. заканадаўцам. У 1492 ён даў феадалам сваёй дзяржавы прывілей, якім абавязаўся не прымаць важных рашэнняў без згоды велікакняжацкай рады. Гэты акт, які ўвайшоў у гісторыю як Аляксандраў прывілей, далей развіваў ідэі, закладзеныя ў прывілеі 1447 Казіміра IV, аб абмежаванні ўлады вялікага князя панамі-радай, што выбіраліся з асяроддзя феадалаў. Ён замацаваў прынцыпы міжнароднай палітыкі дзяржавы, вызначыў асновы цывільнага і крымінальнага права. Фактычна гэта была своеасаблівая канстытуцыя Вялікага княства Літоўскага. Па ўказанні А. Петракоўскі (1503 і 1504) і Радамскі (1505) соймы займаліся зборам і пераглядам усіх узаканенняў, выдадзеных яго папярэднікамі. Былі прыняты таксама пастановы, паводле якіх усе былыя каралеўскія і велікакняжацкія маёнткі аб'яўляліся ўласнасцю рэспублікі і вялікія князі (каралі) не мелі права ні дарыць іх, ні аддаваць у заклад без згоды сойма. У 1505 А. увёў Радамскую канстытуцыю, якая яшчэ больш пашырыла правы шляхты. У сваім статуце 1505 ён абяцаў за сябе і за сваіх пераемнікаў не рабіць нічога новага ў кіраванні дзяржавай без усеагульнай згоды сойма. Менавіта з гэтага часу Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае пачалі называцца рэспублікай — Рэччу Паспалітай. Пахаваны А. у Вільні.

*Літ.:* Л ю б а в с к и й М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915.

*І.П.Хаўратовіч.*

## АМЕЛЬЯНОВІЧ Васіль Мікалаевіч, гл. *Цяпінскі* Васіль Мікалаевіч

## АНІСІФАР
(? — 1592 ці 1594)

Мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі ў 1579—89. Сапраўднае прозвішча Дзевачка. Правіў праваслаўнай царквой у Вялікім княстве Літоўскім, у т.л. і на Беларусі, у перыяд цяжкага ўнутранага крызісу, наступу каталіцызму, пратэстантаў і прыхільнікаў царкоўнай уніі. Пасля 1568 — архімандрыт Лаўрышаўскага манастыра. У 1579 абраны мітрапалітам і жыў пераважна ў Новагародку (Навагрудку). З імем А. звязана выданне ў Віленскай друкарні Мамонічаў «Службоўніка» (1583). Ад караля Рэчы Паспалітай *Стафана Баторыя* атрымаў у пажыццёвае валоданне і кіраванне Віленскі Святатраецкі манастыр, у 1584 — права зацвердзіць пры манастыры праваслаўнае брацтва, у 1585 — пацвярджэнне прывілея Жыгімонта І Старога аб незалежнай юрысдыкцыі праваслаўнай царквы, а ў 1586 — дазвол адзначаць праваслаўныя царкоўныя святы паводле юліянскага календара. Па яе хадайніцтве кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза забараніў у 1589 пасля смерці духоўнай асобы аддаваць яе маёмасць свецкім уладам, і спадчыну сталі перадаваць пераемніку пасады. У ліпені 1589 канстанцінопальскім патрыярхам А. скінуты, а мітрапалітам прызначаны прыхільнік царкоўнай уніі М.*Рагоза*. У 1590 А. адмовіўся ад правоў на Святатраецкі манастыр, але застаўся архімандрытам Лаўрышаўскага манастыра, дзе і памёр. *М.В.Мікалаеў.*

## АРЦЕМІЙ (?—1570)

Рускі царкоўны дзеяч і публіцыст, прадстаўнік рэлігійнага вальнадумства, прыхільнік несцяжацеляў. З 1536 манах у Парфір'евай пустыні каля Кірыла-Белазерскага манастыра. Узвысіўся пры цару Іване IV Жахлівым, перапісваўся з ім. У 1551 прызначаны ігуменам Тройца-Сергіева манастыра, у 1552 самавольна вярнуўся ў Парфір'еву пустынь. Выступаў супраць прыхільнікаў манастырскага землеўладання. У 1553 выкліканы на царкоўны сабор сведкам па справе рускага вальнадумца М.Башкіна. У 1554 абвінавачаны ў ерасі, адлучаны ад царквы і сасланы ў Салавецкі манастыр. Каля 1554—55 уцёк у Вялікае княства Літоўскае. Спачатку жыў у Віцебску, дзе зноў зблізіўся з Феадосіем *Касым* , які таксама ўцёк сюды са зняволення. Пасля выгнання з Віцебска пасяліўся ў Слуцку пры двары князя Юрыя Алелькі. Займаўся літаратурнай дзейнасцю, вёў барацьбу супраць каталіцтва і лютэранства ў абарону праваслаўя. Быў асабіста знаёмы з прадстаўнікамі беларускага рэфармацыйнага руху (С.*Будным*, К.*Каладынскім*, І.Зарэцкім), выступаў супраць антытрынітарыяў. У 1562 С.Будны паслаў А. свой «Катэхізіс», выдадзены ў Нясвіжы. А. адказаў яму некалькімі пасланнямі «до Сімона еретика Будного» (захаваліся два), у якіх папракаў за памылковыя думкі і заклікаў адмовіцца ад ерасі, адначасова высока ставіў С.Буднага як чалавека з найвышэйшым сэнсам і розумам. А. — аўтар 16 пасланняў, 9 з якіх напісаны ў Слуцку. Зарэкамендаваў сябе таленавітым публіцыстам, быў пад моцным уздзеяннем патрыстыкі. Адстойваў ідэі духоўнага самаўдасканалення, чалавекалюбства, цярпімасці да «ератыкоў», разумнага пераканання, любові да «кожнага слова». Пасланні А. — каштоўны помнік руска-беларускай палемічнай літаратуры сярэдзіны 16 ст. і гістарычная крыніца аб падзеях і ідэйных працэсах таго часу на Беларусі.

*Тв.*: Послания Старца Артемия, XVI века // Русская историческая библиотека. Пб., 1878. Т. 4.

*Літ.*: Зимин А.А. И.С.Пересветов и его современники. М., 1958; Вилинский Г.С.Послания старца Артемия (XVI века). Одесса, 1906; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

## АСТРАВІЦКІ Павел Каспаравіч

Грамадскі, палітычны і дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага 16 ст. Паходзіў з шляхты Ашмянскага пав. Звестак пра даты нараджэння і смерці не захавалася. У 1563 уваходзіў

у склад дэлегацыі Віленскага сойма на Варшаўскі сойм для перагавораў аб уніі Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. У 1566 вялікі князь Жыгімонт II Аўгуст прызначыў яго маршалкам Ашмянскага пав., потым суддзёй віленскім. Пазней служыў у ваяводы віленскага М.Радзівіла, перакананага прыхільніка кальвінізму, актыўнага дзеяча Рэфармацыі. Гэта дае падставу меркаваць, што А. падзяляў погляды рэфарматараў і быў прыхільнікам кальвінізму. Добра знаёмы з судовай практыкай і яе патрэбамі, ён бачыў недасканаласць тагачаснага заканадаўства, устарэлыя элементы Статута Вялікага княства Літоўскага 1529, іх неадпаведнасць узроўню развіцця грамадскіх адносін. Таму ахвотна прыняў прапанову ўдзельнічаць у дапрацоўцы Статута, які быў выдадзены ў 1566. Паводле рашэнняў Віленскага сойма 1551 праект Статута выпрацоўваўся камісіяй з 5 членаў каталіцкага і 5 членаў праваслаўнага веравызнання. Сойм зацвердзіў А. членам Статутнай камісіі каталіцкага веравызнання. Як дасведчаны судовы практык і актыўны ўдзельнік шляхецкага руху сярэдзіны 16 ст. праводзіў ідэі суверэннасці Вялікага княства Літоўскага, умацавання яго дзяржаўнасці і рэфармавання грамадства ў інтарэсах шляхты.

*Г.В.Дзербіна.*



*Замак і вежа князёў Астрожскіх у г. Астрог. З гравюры К.Рыхтэра. 19 ст.*

## **АСТРОЖСКІ** Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч (1527—21.3.1608)

Палітычны і культурны дзеяч Украіны, Беларусі, Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся ў радавым маёнтку Дубна (Валынь) у сям'і старажытнага княжацкага роду, які паходзіў ад князёў тураўскіх. Яго бацька Канстанцін Іванавіч — найвышэйшы гетман Вялікага княства Літоўскага, славуты пераможца ў Аршанскай (1514) і Камянецкай (1527) бітвах, адзін з найбуйнейшых магнатаў княства. Меў маёнткі на Валыні, на Беларусі ў Мінскім, Мазырскім, Навагародскім паветах і ў інш. землях. Прыхільнік праваслаўя, фундатар храмаў у Навагрудку, Смалявічах, Тураве, удзельнік дыпламатычных перагавораў з суседнімі дзяржавамі. Маці — княгіня Аляксандра Слуцкая. А. атрымаў добрую хатнюю адукацыю, з 1540-х гадоў выконваў розныя гаспадарскія даручэнні (»службы»), з 1550 — староста ўладзімірскі, маршалак валынскай шляхты, з 1559 і да канца жыцця — кіеўскі ваявода. Значна памножыў уладанні, што атрымаў у спадчыну. Паводле некаторых звестак, у 1603 яму належала 59 гарадоў і мястэчак, 857 вёсак, 111 фальваркаў — амаль 1/3 частка Валыні, землі Кіеўскага, Падольскага, Рускага ваяводстваў, Беларусі, Малой Польшчы.

Як і большасць самых уплывовых магнатаў Вялікага княства Літоўскага, А. быў праціўнікам Люблінскай уніі, асцерагаўся непажаданых змен у статусе і прывілеях буйных землеўласнікаў, хоць выступаў за пашырэнне палітычных і гандлёвых сувязей з Польшчай, Рускай і інш. дзяржавамі, асабліва са славянскімі. У канцы 1580-х гадоў, у перыяд чарговага міжкара-

леўя, падтрымліваў планы перадачы велікакняжацкага прастолу ў Вільні расійскаму цару Фёдару. Магнаты Вялікага княства Літоўскага, а таксама ўкраінскіх зямель, што лічыліся ў складзе Польшчы, разлічвалі такім чынам умацаваць свае пазіцыі ў Рэчы Паспалітай. Ён прымаў у Астрозе пасланцаў Барыса Гадунова, перапісваўся з ім, падкрэсліваючы сваё імкненне актыўна процістаяць каталіцкай экспансіі. Агульная палітычная праграма А. была даволі памяркоўнай, бо сацыяльна-палітычны лад Рэчы Паспалітай задавальняў у цэлым прывілеяваныя слаі грамадства. А. дамагаўся пашырэння аўтаноміі для беларускіх і ўкраінскіх зямель, стварэння еўрапейскай антытурэцкай лігі, распрацоўваў свой праект рэлігійнай уніі на аснове адноснай незалежнасці праваслаўнай царквы з кананічным зацвярджэннем яе на праваслаўным саборы. Незадаволены тайнай дзейнасцю праваслаўных епіскапаў, якія падтрымлівалі рымска-каталіцкія планы уніі, і рэлігійнай палітыкай вярхоўнай улады, перайшоў у антыуніяцкую апазіцыю. А. — адзін з асноўных свецкіх арганізатараў і апекуноў Берасцейскага праваслаўнага сабора 1596, які катэгарычна асуджаў царкоўную унію. Праваслаўны сабор адбыўся адначасова з уніяцкім, нарады праходзілі ў Бярэсці ва ўласнай камяніцы А. У 1599 ён падтрымаў канфедэрацыю (палітычны саюз) праваслаўных і рэфарматараў, якая праклaмавала мір і згоду паміж абедзвюма канфесіямі і сумесныя дзеянні ў абарону рэлігійнай талерантнасці. А. прыкметна адрозніваўся ад многіх магнатаў Рэчы Паспалітай шырынёй і нестандартнасцю сваіх поглядаў, верацярпімасцю. У яго акружэнні было заўсёды шмат прадстаўнікоў розных канфесій, пісьменнікаў, педагогаў, слуг. Здаецца, што і ў прыватным жыцці ён аддаваў большую ўвагу сацыяльна-эканамічным і сацыяльна-палітычным аспектам шлюбных сувязей. Яго жонка, дачка кракаўскага кашталяна Соф'я Тарноўская, была каталічкай, як і сын Януш, дочкі выйшлі замуж за пратэстантаў з вельмі высокіх і ўплывовых колаў (Крыштоф Радзівіл, Януш Кішка). Палітычны і рэлігійны прагматызм А., яго актыўная культурна-асветніцкая дзейнасць не перашкаджалі прымаць самыя жорсткія захады ў тых выпадках, калі пад пагрозай аказваліся яго ўласныя інтарэсы. Украінскія ўладанні А. знаходзіліся ў асабліва важных ваенна-стратэгічных рэгіёнах Рэчы Паспалітай. Значнае войска, якое ён выстаўляў у час ваеннага ліхалецця, выкарыстоўвалася не толькі для абароны паўднёвых рубяжоў дзяржавы ад турэцка-татарскіх нашэсцяў, але і для задушэння небяспечных сацыяльных рухаў, казацкіх паўстанняў К.Касінскага, С.Налівайкі.

Пад апекай А. ў яго радавым маёнтку Астрог у сярэдзіне 1570-х гадоў узнікла першая на Украіне школа вышэйшага ўзроўню — славяна-грэка-лацінская калегія, т.зв. Астрожская акадэмія, друкарня, заснаваная ў 1578 Іванам *Фёдаравым*, сфарміравалася ўстойлівае згуртаванне пісьменнікаў, літаратараў, настаўнікаў, навукоўцаў, штоператварылі Астрог у буйны культурна-асветніцкі цэнтр. Астрожскае згуртаванне шмат у чым нагадвала падобныя культурна-асветніцкія цэнтры, якія раней узніклі на Беларусі (князёў Алелькавічаў у Слуцку, Радзівілаў у Брэсце і Нясвіжы, Кішак у Лоску). У дзейнасці А. выразна адлюстраваліся беларуска-ўкраінскія культурныя, а ў пэўным сэнсе і рэлігійна-палітычныя сувязі. Дзеячы культуры з Астрога аб-



*Кніжны герб К.Астрожскага.*

меньваліся выданнямі і нават выконвалі заказы беларускіх брацтваў, дапамагалі арганізоўваць і ўдасканальваць школьныя справы, падтрымлівалі соймавыя і інш. грамадска-палітычныя акцыі, накіраваныя супраць дыскрымінацыі праваслаўнага насельніцтва Украіны і Беларусі. Сярод найбольш прыкметных удзельнікаў Астрожскага культурна-асветніцкага цэнтра былі беларускі шляхціц, празаік і паэт Андрэй *Рымша*, дзяк мясцовай школы Ц.М.Аніч, выдатны дыпламат, пісар Вялікага княства Літоўскага Міхаіл *Гарабурда*, малады «словаліцец» з Заблудава Грынь Іванавіч (адліваў шрыфты Фёдараву і віленскім друкарам *Мамонічам*). Нейкім чынам у Астрозе апынуліся і друкарскія матэрыялы Пятра *Мсціслаўца* (не выключана, што і сам ён працаваў там у апошнія гады свайго жыцця). У Астрозе выдадзены першыя друкаваныя школьныя дапаможнікі, якія сталі важнай крыніцай больш позніх шматлікіх выданняў «Азбук» і «Буквароў», надрукаваных у Вільні, Еўі, Куцейне. Галоўнай рэлігійна-ідэалагічнай акцыяй Астрожскага згуртавання была падрыхтоўка і выданне ў 1581 першай ва Усходняй Еўропе поўнай Бібліі, у падрыхтоўцы тэкстаў якой выкарыстоўваліся і кнігі Ф.*Скарыны*. А. падтрымліваў немалымі фундушамі ўкраінскія і некаторыя беларускія праваслаўныя цэрквы, заснаваў школы ў Слуцку, Тураве і інш. месцах, меў багатую бібліятэку, цікавіўся выяўленчым мастацтвам, перапісваўся з многімі мясцовымі і замежнымі культурнымі і палітычнымі дзеячамі, царкоўнымі іерархамі. Пасля смерці А. (пахаваны ў Астрозе каля царквы Святога Богаяўлення) і пераходу яго нашчадкаў у каталіцызм Астрожскі культурна-асветніцкі цэнтр, Астрожская акадэмія і друкарня страцілі сваё былое значэнне.

*Літ.*: Максимович М. Письма о князьях Острожских к графине А.Д.Блудовой. Киев, 1866; Быков Н.П. Князья Острожские и Волынь. Пг., 1915; Исаевич Я.Д. Братства та їх роль в розвитку української культури XVI—XVII ст. Київ, 1966; Яго ж. Преемники первопечатника. М., 1981; Фёдоровские чтения, 1981. М., 1985; Мицько І.З. Острозька слов'яно-греко-латинська академія (1576—1636). Київ, 1990; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Krejcar J. Konstantin Basil Ostrożski and Rome in 1582—1584 // Orientalia christiana periodica. Roma, 1969. Vol. 35, fasc. 1.

*Г.Я.Галенчанка.*

## АЎРААМКА

Кніжнік-летапісец канца 15 ст. Дакладных біяграфічных звестак пра яго не захавалася. Вядома, што жыў у Смаленску і склаў там ці перапісаў у 1495 летапісны звод, які ўвайшоў у навуковую літаратуру як Летапіс Аўраамкі. Смаленск у той час быў у складзе Вялікага княства Літоўскага і з'яўляўся своеасаблівым цэнтрам беларускага летапісання. У прыпісцы да свайго летапісу А. прыгадвае кіраўніка дзяржавы вялікага князя літоўскага



*Летапіс Аўраамкі. 1495.*

Аляксандра і смаленскага епіскапа Іосіфа, па загадзе якога ён складаў гэты летапіс. А. выкарыстаў летапісны звод, складзены ў Пскове або ў Ноўгарадзе на аснове больш старажытных рускіх летапісных крыніц. Летапіс ахоплівае падзеі да 1469. У ім адлюстравана гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі, Ноўгарада, часткова Вялікага княства Літоўскага, барацьба ўсходніх славян супраць іншаземных захопнікаў. Найбольш каштоўныя матэрыялы за 14—15 ст., а таксама прыкладзеныя да летапісу юрыдычныя артыкулы, у т.л. «Руская праўда». Звод быў пашыраны на Беларусі. Выкарыстаны пры складанні Віленскага спіса, дзе змешчаны тэкст «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх». Звесткамі Летапісу Аўраамкі часткова карыстаўся і складальнік Супрасльскага летапісу. Надрукаваны ў Поўным зборы рускіх летапісаў (т. 16, 1889).

*Літ.*: Бугославский Г.К. О смолянине Авраамке и его летописи конца XV в., а также несколько слов о смоленском епископе Иосифе Болгариновиче. Смоленск, 1900; Шахматов А.А. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М.; Л., 1938. С. 231—255.



## **БАЗЫЛІК** Цыпрыян [Кіпрыян; Bazylik Cyprian; 1535(?) — пасля 1600]

Дзеяч культуры, паэт, перакладчык, друкар, кампазітар. Нарадзіўся ў мяст. Серадз (Польшча) у мяшчанскай сям'і. У матрыкуляцыйных кнігах Кракаўскага універсітэта за 1550—51 запісаны як Cyprianus Mathiae Syradiensis. У сярэдзіне 1550-х гадоў прыняў кальвінізм, працаваў у велікакняжацкай канцылярыі ў Вільні. Пры двары *Жыгімонта II* Аўгуста сустрэўся з уладаром грэчаскіх астравоў Парас і Самас (на той час яны былі захоплены асманамі) Якабам Базылікам Гераклідасам, які пазней стаў малдаўскім гаспадаром. Уражаны здольнасцямі «...Кіпрыяна з Серадзея, юнака, надзеленага высокімі годнасцямі, выдатна адукаванага ў свабодных навуках, а асабліва ў паэзіі і музыцы...», Гераклідас правам, дадзеным яму імператарам Карлам V, дараваў яму тытул «poeta laureatus» і шляхецкае званне. Ад Гераклідаса Б. пераняў герб і другое імя — Базылік.

З 1558 Б. працаваў у прыдворнай музычнай капэле галоўнага пратэктара Рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім Мікалая *Радзівіла* Чорнага. Песні і псалмы шырока выкарыстоўваліся ў пратэстанцкім набажэнстве, а ў перыяд росквіту Рэфармацыі шматгалосыя спевы атрымалі найбольшае пашырэнне. Верагодна, Б. аўтар 4-галосых пратэстанцкіх песень, выдадзеных у 1556 у Кракаве. У 1558 з Брэсцкай кальвінісцкай друкарні, якая існавала пад апекай Радзівіла Чорнага, выйшаў «Брэсцкі канцыянал» (або «Песні хвал боскіх») Яна Зарэмбы — першы друкаваны нотны зборнік на Беларусі. Музыку для яго напісалі Вацлаў з Шамотул і Б. У прадмове да «Канцыянала» адзначалася, что песні прызначаюцца для тэнара і аматараў «фігурных» спеваў. У некаторыя песні Б. уводзіў складаны кантрапункт. У 1560, каб мець падтрымку прускага князя Альбрэхта, Б. паслаў яму ў Крулявец рукапіс з некаторымі сваімі песнямі. Невядома, дзе Б. атрымаў музычную адукацыю, але яго музычныя творы напісаны на даволі высокім мастацкім і прафесійным узроўні. Устаноўлена 12 назваў шматгалосых музычных твораў. Амаль усе яны напісаны ў 1550-я гады.

З 1560-х гадоў пачынаецца росквіт літаратурнай дзейнасці Б., у асноўным як перакладчыка. Першы вядомы твор — верш на смерць жонкі яго патрона Радзівіла Чорнага Альжбеты з Шыдлоўца (1562, Брэст). З гэтага часу дзейнасць Б. звязана з Брэсцкай друкарняй. Верагодна, ён прымаў удзел у стварэнні славутай кальвінісцкай Біблії (1563). Б. — аўтар невялікіх вершаваных твораў: верш на герб Радзівілаў, змешчаны ў Брэсцкай біблії, у ананімным творы «Пратэй, або Пярэварацень» (1564). Вершам у кнізе «Другія кнігі св. Лукі» звяртаўся да Мікалая *Радзівіла* Рудога з заклікам, каб той пасля смерці свайго брата Радзівіла Чорнага прадоўжыў апеку над рэфармацыйным рухам у Вялікім княстве Літоўскім. Некаторыя даслед-

чыкі (А.Брукнер, С.Кот) прыпісваюць Б. аўтарства антыкаталіцкай сатыры «Пратэй, або Пярэварацень» (выйшла ананімна, без выхадных звестак) і багатага фальклорнымі матывамі ананімнага твора «Працэс чарцей супраць людскога роду» (1570).

Неўзабаве пасля смерці Радзівіла Чорнага (1565) Б. стаў кіраўніком ці ўладальнікам Брэсцкай друкарні. У 1567 у яго перакладзе і з яго прадмовай выйшаў кампілятыўны твор «Гісторыя жорсткіх ганенняў царквы боскай», у якой з гуманістычных пазіцый асуджаецца нецярпімасць да царкоўна-рэлігійных адносін у некаторых еўрапейскіх дзяржавах, праследаванні іншадумцаў, дзеячаў Рэфармацыі. Адна з гравюр кнігі адлюстроўвае пакаранне смерцю Яна Гуса, выдатнага чэшскага рэфарматара. Выданне прысвечана новаму патрону, серадзскаму ваяводу Альбрыхту Ласкаму, у якога Б. нейкі час быў асабістым сакратаром. У 1569 у яго перакладзе выйшла кніга М.Барлетыуса «Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Георгія Кастрыёта, звычайна званага Скандэрбергам» з дадаткам аб асадзе і ўзяцці горада Шкодры. У прадмове Б. значна папоўніў біяграфію Кастрыёта, змясціўшы звесткі, запазычаныя з твораў розных гісторыкаў 15—16 ст. «Гісторыя Кастрыёта» — першае выданне, якое Б. пазначыў сваім сігнетам і імем — «у друкарні Кіпрыяна Базыліка». У кнізе змешчаны таксама тэкст каралеўскага прывілея ад 27.3.1569, які гарантаваў Б. выключнае права выпускаць кнігі на працягу 15 гадоў пры ўмове, што ён не будзе друкаваць антыкаталіцкія выданні. З гэтага часу ў Брэсцкай друкарні выходзілі творы выключна свецкага і гістарычнага характару. Ёсць звесткі, што ў 1570 Б. меў поўны пераклад «Хронікі» М.Кромера, але не надрукаваў яго. Апошнія вядомыя тэксты выйшлі ў 1570. Пасля 1570 Брэсцкая друкарня, відаць, перастала існаваць, таму наступныя пераклады выходзілі ў іншых друкарнях М.Олаха — «Пра Атылу, караля угорскага» (1574, Кракаў), пра набегі гунаў; вядомы твор А.Фрыча Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577, Лоск; выйшла без кнігі пра касцёл, прадмова напісана С.*Будным*).

С.Кот называе Б. найлепшым перакладчыкам 16 ст. з латыні, маючы на ўвазе чысціню мовы, трапнасць выразаў. Менавіта пераклад «Пра Атылу...», зроблены Б., з'явіўся асновай для перакладу аповесці на беларускую мову ў канцы 16 ст., а кніга «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» была перакладзена ў Расіі ў канцы 17 — пач. 18 ст.

*Тв* .: Pieśni. Kraków, 1958.

*Літ.*: Парэцкі Я.І. Антырэлігійная сатыра Брэсцкага друкарскага двара ў XVI ст. // Беларуская літаратура. Мн., 1979. Вып. 7; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Wrocław; Krakow, 1959. Z. 5. S. 45—52; Literatura staropolska w kontekście europejskim. Wrocław etc., 1977. S. 162, 187. *Л.І.Іванова.*

## БЕКЕШ Каспар (Bekiesz Gaspar; 1520—1579)

Ваенны, палітычны дзеяч, атэіст і матэрыяліст 16 ст. Паходзіў са старадаўняга венгерскага роду. Бацька, Уладзіслаў, віцэбан лугоскі і нямецкі, шляхціц з мясцовасці Бекеш (адсюль прозвішча). З 1557 служыў у Сямігроддзі пры двары Яна Жыгімонта. У 1565 узначальваў пасольства ў Канстанцінопаль, каб атрымаць ваеннапалітычную дапамогу ад турэцкага султана супраць цэсара Свяшчэннай Рымскай імперыі. Падтрымліваў нацыянальна-вызваленчы рух у цэсарскай Венгрыі. У канцы 1560-х гадоў уступіў у новую палітычную кааліцыю і падтрымліваў Габсбургаў у імкненні падначаліць сабе Сямігроддзе (дагавор падпісаны 16.8.1570 у Спіжы). Пасля элекцыі (абрання) *Стафана Баторыя* каралём Рэчы Паспалітай у 1571 удзельнічаў у няўдалых палітычных інтрыгах і спрабаваў ваенным шляхам рэалізаваць свае планы. У 1575 яго войскі ўшчэнт разбіты, а досыць значныя зямельныя ўладанні канфіскаваны. Памірыўшыся са Стафанам Баторыем, Б. стала асеў у Рэчы Паспалітай. Ваеннымі талентамі і асабістай мужнасцю вызначыўся ў абароне Эльбланга ў 1577 і ў полацкай кампаніі 1579. У час штурму Полацкай крэпасці ўзначальваў венгерскія харугвы і артылерыю. Карыстаўся павагай Стафана Баторыя. Па хадайніцтве мясцовай шляхты ў 1579 атрымаў шляхецтва Вялікага княства Літоўскага, дадат-

ковыя маёнткі, у т.л. ў Гарадзенскім пав. Памёр у Гародні, пахаваны ў Вільні на Лысай гары, якую пазней назвалі Бекешавай (як арыянін пахаваны па-за межамі хрысціянскіх храмаў). На думку даследчыкаў, у апошнія гады жыцця належаў да найбольш радыкальных атэістаў і матэрыялістаў Беларусі і Вялікага княства Літоўскага. Яму прыпісваецца ўласны надмагільны надпіс, дзе ён рэзка адмаўляецца ад асноўных рэлігійных догматаў.

«Усё маю з сябе, не веру ў Бога,
Не прагну яго неба,
не баюся пекла, ...
Жыў заўсёды сам па сабе
і быў заўсёды стараннмм.
Не турбуюся пра божы суд,
Не трывожуся пра цела
і тым больш пра душу,
Якая памерла разам са мной...»

*Літ.*: Сербента В.А. Видные атеисты и материалисты Белоруссии второй половины XVI в. // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962; Merczyng H. Polscy deisci i wolnomysliciele Jagiellonow // Przeglad Historyczny. 1911. T. 12. Nr 3; Szadeczrky Z. Kornyati Bekes Gaspar 1520—1579. Budapest, 1887. *Г.Я.Галенчанка.*

## БРАНЕЎСКІ М., гл. *Філалет Хрыстафор*

## БУДНЫ Сымон (каля 1530—13.1.1593)



Беларускі мысліцель-гуманіст эпохі Адраджэння, рэлігійны рэфарматар, тэолаг, філолаг, гісторык, паэт, філосаф, педагог, прадаўжальнік культурна-асветніцкай, нацыянальна-патрыятычнай і філасофскай традыцыі Ф.*Скарыны* .

Пытанні пра месца нараджэння і нацыянальнасць Б. застаюцца дыскусійнымі. Дакладна не высветлена, беларус ён ці паляк, нарадзіўся ў Будах беларускіх ці ў Будах, што знаходзяцца на тэрыторыі Польшчы (Мазовія). Аднак нават тыя, хто лічыць Б. палякам, пагаджаюцца, што вельмі многія факты сведчаць на карысць яго беларускага паходжання: добрае веданне беларускай мовы, жыцця, нораваў, звычаяў, рэлігійных уяўленняў беларусаў, значная колькасць беларускіх слоў, фразеалагізмаў, народных прымавак і прыказак у яго творах, напісаных на польскай мове, беларускі патрыятызм і да т.п.

Каля 1544 Б. паступіў на факультэт свабодных мастацтваў Кракаўскага універсітэта, дзе атрымаў грунтоўную гуманітарную і багаслоўскую адукацыю. У яго творах сустракаюцца імёны Арыстоцеля, Платона, Гамера, Дэмасфена, Вергілія, Тэрэнцыя, Сенекі, Цыцэрона, Плінія Старэйшага, Ціта Лівія, Салюстыя, Аўгусціна, Фамы Аквінскага, Ларэнца Валы, Эразма Ратэрдамскага, Скарыны, М.Лютэра, Ж.Кальвіна, М.Сервета і інш. філосафаў, вучоных, пісьменнікаў, багасловаў. Магчыма, пасля Кракава ён працягваў вучобу ў Базельскім пратэстанцкім універсітэце. У 1558 Б. прыехаў у сталіцу Вялікага княства Літоўскага — Вільню, дзе заняў пасаду катэхізіста (настаўніка пратэстанцкай беларускай суполкі) з абавязкам выкладаць асновы кальвініскага вучэння дзецям і дарослым. У выніку гэтай дзейнасці, якая працягвалася 2 гады, склалася яго першая праца на беларускай мове — «Катэхізіс». Гэта — аргумент на карысць беларускага паходжання Б.: каб адразу выкладаць на беларускай мове, неабходна было добра яе ведаць. У 1560 ён прызначаны прапаведнікам у Клецк. Сумесна з нясвіжскім намеснікам Мацеем *Кавячынскім* і яго братамі, а таксама з кальвініцкім міністрам (прапаведнікам) Лаўрэнціем *Крышкоўскім* Б.



*Нясвіж. Ратуша (галоўны фасад).*

заснаваў у Нясвіжы друкарню, пры якой была пабудавана і паперня (майстэрня па вырабе паперы). Падтрымку, у т.л. і фінансавую, беларускім кнігавыдаўцам аказвалі ўладальнік Нясвіжа Мікалай *Радзівіл* Чорны і будучы канцлер Вялікага княства Літоўскага Астафій *Валовіч*. Па загадзе апошняга з Вільні ў Нясвіж былі перавезены шрыфты Ф.Скарыны. 10.6.1562 у Нясвіжскай друкарні выйшла першая кніга — «Катэхізіс». Аўтарамі гэтай кнігі лічацца Б., Кавячынскі і Крышкоўскі, аднак галоўная роля ў яе напісанні належала Б. У кастр. 1562 у Нясвіжскай друкарні выйшаў другі беларускі твор таго ж аўтарскага калектыву «Об оправдании грешного человека перед Богом». Яшчэ ў пач. 19 ст. яго трымаў у руках В.С.Сопікаў, аднак да нашага часу ён не захаваўся.

На працягу 1563—64 Б. вёў перапіску з рускім праваслаўным багасловам *Арцеміем*, які ў 1555 разам з Феадосіем *Касым* і яго паплечнікамі ўцёк з Расіі на Беларусь ад праследавання царквы і царскай улады. Б. прыслаў Арцемію ў Слуцк першыя беларускія кнігі. Лісты Б. Арцемію да нас не дайшлі, але захаваліся 2 пасланні апошняга да беларускага мысліцеля, надрукаваныя ў «Рускай гістарычнай бібліятэцы» (т. 4, 1878). Б. быў таксама асабіста знаёмы з Іванам *Фёдаравым* і Пятром *Мсціслаўцам*, пра што пісаў у прадмове да Новага запавету (выд. 1574).

Б. належаў да памяркоўнай рэлігійна-рэфармацыйнай плыні, блізкай да кальвінізму, якая на Беларусі і ў Літве называлася евангелічнай. Але ў пач. 1560-х гадоў у яго ўзніклі сумненні наконт трактоўкі асноўных палажэнняў хрысціянскай дагматыкі — догмата Тройцы і прыроды Хрыста. 18.4.1563 ён накіраваў з Клецка вядо-



*Нясвіж. Гравюра пачатку 17 ст.*

маму цюрыхскаму тэолагу Генрыху Булінгеру ліст, у якім ставіў пад сумненне догмат Тройцы ў каталіцкай і кальвіністцкай інтэрпрэтацыі і крытыкаваў яго з пазіцый фармальнай логікі. Спробай пераацэнкі хрысціянскага веравучэння тлумачыцца зварот Б. да вывучэння патрыстычнай літаратуры, г.зн. рэлігійнай філасофіі таго перыяду, калі хрысціянства яшчэ не было дагматызавана. У 1564 сумесна з Крышкоўскім Б. пераклаў на польскую мову і выдаў у Нясвіжы «Гутаркі святога Юсціна, філосафа і пакутніка з Трыфанам-іудзеем».

У сярэдзіне 1560-х гадоў Б. — адзін з ідэолагаў антытрынітарызму, радыкальнай плыні беларуска-літоўскай Рэфармацыі. Ён удзельнічаў у рабоце сінодаў — з'ездаў беларускіх, літоўскіх і польскіх арыян (антытрынітарыяў), або літоўскіх і польскіх братоў, дзе ў вострых дыскусіях абараняў сваё рэлігійна-філасофскае і сацыяльна-палітычнае вучэнне. У 1565, пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага, Б. пакінуў Клецк і пераехаў у Холхла, куды яго запрасіла Ганна Кішка — удава віцебскага ваяводы. У гэты час у асяроддзі беларускіх і літоўскіх антытрынітарыяў узмацнілася дыскусія аб адносінах да феадальнага грамадства і дзяржавы, уласнасці, прыгоннага права, вайны і г.д. Як ідэолаг правага крыла літоўскіх братоў (беларускіх і літоўскіх антытрынітарыяў) Б. займаў у спрэчках памяркоўна-гуманістычную пазіцыю. Апраўдваючы грамадскія і дзяржаўныя асновы Вялікага княства Літоўскага, ён у той жа час патрабаваў змякчэння феадальнай эксплуатацыі, рэфармавання сацыяльна-палітычных інстытутаў: заканадаўства, судаводства, школьнай адукацыі, царкоўнага жыцця і да т.п. Пра змест гэтых дыскусій сведчыць сінод у Іўі, які адбыўся ў студзені 1568 (пра яго Б. падрабязна апавядае ў сваім творы «Пра свецкую ўладу»). Але галоўнымі ў яго творчай дзейнасці гэтага часу былі пераклад на польскую мову і крытычнае даследаванне Біблії. У пошуках яе аўтэнтычнага тэксту і сэнсу яму давялося вывучыць і супаставіць паміж сабою вялікую колькасць біблейскіх кніг, напісаных на старажытнаяўрэйскай, старажытнагрэчаскай, лацінскай, царкоўнаславянскай, польскай, чэшскай, нямецкай, французскай, беларускай («Біблія» Скарыны) мовах, тэалагічных і філасофскіх трактатаў многіх старажытных, сярэдневяковых і рэнесансавых аўтараў. Гэта істотна пашырыла яго эрудыцыю і паўплывала на рэлігійна-філасофскія погляды.

На думку польскага даследчыка Г. Мерчынга, Новы запавет з прадмовай і каментарыямі быў гатовы ўжо да 1570 і пачаў друкавацца ў Нясвіжскай друкарні. Аднак у сувязі з тым, што Нясвіж у 1571 перайшоў у валоданне каталіцкага біскупа Мікалая *Радзівіла* Сіроткі, Кавячынскі перавёз Нясвіжскую друкарню ў свой маёнтак Узда (Слуцкі пав.). У 1572 Будны з Холхла пераехаў у Заслаўе (пад Мінскам), бліжэй да месца выдання Біблії. У гэтым жа годзе Біблія ў поўным аб'ёме выйшла ў свет. Месца выдання на ёй не пазначана. Прадмова Кавячынскага пазначана Уздой, прадмова Буднага — Заслаўем, і таму яе можна назваць нясвіжска-ўздзенска-заслаўскай Бібліяй. Аднак выдаўцы браты Кавячынскія, а таксама рэдактары Л.Крышкоўскі і Л.Вінклер не змясцілі «Прадмовы» і «Каментарыяў» да Новага запавету, у якіх быў навукова-крытычны аналіз біблейскіх тэкстаў. Акрамя таго, яны ўнеслі значныя змены ў аўтарскі пераклад, не дапусцілі перастаноўкі некаторых частак Біблії і інш. Рэдактарскае самавольства абясцэніла шматгадовую працу Б., пазбавіла яго пераклад наватарскай тэалагічнай і філасофскай інтэрпрэтацыі. Усё гэта прымусіла Б. адмовіцца ад аўтарства, і творчы саюз яго з сааўтарамі распаўся.

У гэты перыяд у лёсе Б. адбыўся пералом. Ён знайшоў новага мецэната ў асобе беларускага магната-арыяніна Яна *Кішкі*. Восенню 1573 апошні прапанаваў яму пасаду міністра (прапаведніка) у Лоску, заснаваў там друкарню і аддаў яе ў поўнае распараджэнне Б. У 1574 у Лоскай друкарні выйшаў Новы запавет з прадмовай і каментарыямі Б., што былі апушчаны ў нясвіжска-ўздзенска-заслаўскай Біблії. Вялікая прадмова, у якой аўтар выказаў ідэі прынцыповага метадалагічнага значэння, грунтоўныя каментарыі да евангельскіх тэкстаў зрабілі гэта выданне унікальным, выдатным помнікам не толькі беларускай, але і еўрапей-

скай думкі. Б. не імкнуўся да адмаўлення хрысціянства і аўтарытэту Бібліі. Наадварот, яго мэтай было аднаўленне ісціннага хрысціянскага веравучэння, першапачатковага, сапраўднага сэнсу Свяшчэннага пісання. Аднак радыкалізм яго вывадаў, рацыяналістычныя, натуралістычныя і атэістычныя тэндэнцыі, якія ў іх прысутнічалі, падрывалі асновы рэлігійна-тэалагічнага светапогляду.

Выхад у свет з Лоскай друкарні Новага запавету з прадмовай і каментарыямі Б. выклікаў бурную рэакцыю ў асяроддзі тэолагаў і рэлігійных філасафаў усіх кірункаў — ад каталіцкіх і пратэстанцкіх да яўрэйскіх. У прыватнасці, швейцарскі тэолаг Сімлер крытыкаваў Б. за тое, што ён «не імкнецца спасцігнуць сэнс Свяшчэннага пісання з яго самога, але прыносіць у яго сваё індывідуальнае разуменне». Да Свяшчэннага пісання, сцвярджаў тэолаг, нельга дастасоўваць прыродазнаўчыя і філасофскія аргументы, яно не падуладна філасофскаму аналізу. У той жа час рэлігійна-філасофскія ідэі Б. падтрымалі многія беларускія антытрынітарыі, у прыватнасці яго сябра Васіль *Цяпінскі* .

Вялікае значэнне Б. надаваў прапагандзе сваіх рэлігійна-філасофскіх ідэй і на Захадзе. На працягу 1574 ён выдаў у Лоскай друкарні на лацінскай мове некалькі твораў: «Аб дзвюх прыродах Хрыста», «З нагоды аргументаў Сімлера», «Кароткі доказ, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа богам, як бацька» і інш. Большасць з гэтых трактатаў стала вядома толькі ў 1974, калі італьянскі вучоны Масіма Фірпа надрукаваў іх як дадатак да сваёй кнігі «Антытрынітарыі Усходняй Еўропы ў XVI стагоддзі. Новыя тэксты Сымона Буднага, Міколы Паруты і Якуба Палеалога» (Фларэнцыя, 1977). Вясной 1574 Б. ў Лоску наведаў купец з Англіі Ральф Рытэр. Ён павёз з сабой ліст Б. да вядомага англійскага тэолага і гісторыка Джона Фокса, у якім беларускі мысліцель выкладаў асноўныя палажэнні сваёй дактрыны.

У 1576 у Лоску выйшаў у свет галоўны рэлігійна-філасофскі твор Б. «Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры», у якім ён абагульніў свае радыкальныя ідэі. Ва ўводзінах да гэтага выдання Б. паведамляў, што трактат ён стварыў па просьбе «нейкай суполкі», якая прапа-




Клецк. Гравюра пачатку 17 ст.

навала яму выкласці свае меркаванні адносна галоўных догматаў хрысціянскай веры — «адзінага Бога і яго Сына». Меркавалася (Г.Мерчынг), што гэтай суполкай была віленская абшчына беларускіх пратэстантаў, у якой раней Б. працаваў катэхізістам. Аднак, як даказаў сучасны польскі даследчык прафесар Л.Шчуцкі, гэта была кальвіністкая суполка ў Заслаўі, дзе Б. жыў з 1571 па 1573 і рыхтаваў да друку Біблію. Там ён пасябраваў з уладальнікам Заслаўя кашталянам мінскім кальвіністам Янам Глябовічам, які падараваў яму некалькі вёсак. Менавіта Глябовічу і прысвяціў Б. свой твор «З нагоды аргументаў Сімлера».

Трактат Б. «Пра найбольш важнейшыя палажэнні хрысціянскай веры» пераважна палемічны. У ім аўтар дыскутуе не толькі з трынітарыямі, але і з прыхільнікамі дытэізму (двухбожжа) — Пятром з Ганёндза і Станіславам Фарноўскім. У гэтым творы ён распрацоўвае унітарную канцэпцыю Бога і натуралістычную версію паходжання Хрыста. Паводле Б., богам з'яўляецца толькі Бог Айцец, Святы Дух — сіла боская. Хрыстос жа наогул не мае ніякіх адносін да боскай супольнасці, паколькі па сваім паходжанні ён натуральны чалавек, узведзены ў боскі сан дзякуючы сваім высокім маральным якасцям і заслугам у прапагандзе хрысціянства. Гэта была не тэалагічная, а тыповая філасофска-рацыяналістычная інтэрпрэтацыя, якая разбурала традыцыйны асноватворны хрысціянскі догмат.

У гэтым жа 1576 у Лоскай друкарні ў перакладзе Б. выйшла ў свет кніга Э.Фрыза (сапраўднае імя — Франсуа Готман, французскі правазнавец і публіцыст) «Пра фурыі, або Вар'яцтвы французскія», у якой апісаны падзеі Варфаламееўскай ночы. На думку Б., гэтыя падзеі павінны былі паслужыць перасцярогай феадальнаму грамадству Вялікага княства Літоўскага, паказаць, да якіх крывавых падзей могуць прывесці рэлігійная нецярпімасць, ганенні на іншадумцаў. Верагодна, Б. быў ініцыятарам выдання ў Лоску твора А.Фрыча Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577) і аўтарам прадмовы да яго.

З сярэдзіны 1560-х гадоў у асяроддзі беларускіх, літоўскіх і польскіх антытрынітарыяў ішла вострая сацыяльна-



«Катэхізіс» С.Буднага. Тытульны ліст. Нясвіж. 1562.

палітычная дыскусія «аб свецкай уладзе», у якой Б. адыгрываў адну з вядучых роляў. Ён з'яўляўся ідэолагам правага крыла беларускіх і літоўскіх антытрынітарыяў, што насуперак левым апраўдвалі існуючыя грамадска-дзяржаўныя інстытуты, аднак патрабавалі іх істотнага рэфармавання. Левыя ж заклікалі да разбурэння асноў не толькі феадальнага, але і ўсякага грамадства: прыватнай маёмасці, саслоўнай і наогул сацыяльнай няроўнасці, існуючых дзяржаўных устаноў, судаводства, арміі і г.д. У 1578 у Лоск прыехаў ідэолаг левых Марцін *Чаховіц*. Даведаўшыся, што многія з беларускіх антытрынітарыяў, у т.л. Б. і Цяпінскі, валодаюць уласнасцю, прыгоннымі, а таксама ўдзельнічаюць у органах свецкай улады, ён пераконваў іх адмовіцца ад усяго гэтага ў адпаведнасці з афіцыйным сацыяльна-этычным вучэннем беларускіх, літоўскіх і польскіх радыкальных рэфарматараў. Аднак Б. і Цяпінскі ў дыспуце з Чаховіцам даказвалі, што займанне дзяржаўных пасад, валоданне ўласнасцю і прыгоннымі, зварот у суды, удзел у

вайне не супярэчаць духу Евангелля. Больш таго, Б. разгарнуў энергічную прапаганду сваіх сацыяльна-палітычных поглядаў, нягледзячы на забарону кіраўніцтва антытрынітарыяў. У 1580 ён апублікаваў у Лоску матэрыялы сацыяльна-палітычнай дыскусіі свайго аднадумца Якуба Палеалога з левым ідэолагам Паўлам з Бжэзін пад загалоўкам «Абарона сапраўднага вучэння пра свецкую ўладу». Кіраўніцтва антытрынітарыяў не падзяляла таксама і рэлігійна-філасофскага радыкалізму Б. У адносінах да яго былі ўжыты крайнія меры: у 1582 рашэннем сінода ён зняты з пасады міністра ў Лоску. Аднак Б. не склаў зброі. Каб апраўдаць сваю дзейнасць, ён у 1583 апублікаваў твор «Пра свецкую ўладу», які з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі беларускай Рэфармацыі і грамадска-філасофскай думкі. За такое не санкцыяніраванае кіраўніцтвам выступленне ў друку яго ў 1584 выключылі з брацкай абшчыны. Характэрна, што гэтаму рашэнню падпарадкаваўся беларускі магнат-антытрынітарый Ян Кішка: з вялікім жалем ён развітаўся са сваім любімцам і выслаў яго з Лоску. Барацьба Б. супраць левых была прынцыповай, сумленнай ідэйнай барацьбой чалавека, які адстойваў свае погляды, ідэйна-філасофскую пазіцыю, быў перакананы ў дапушчальнасці плюралізму думак у адзінай арганізацыі.

Апошнія гады Б. жыў пры дварах выпадковых мецэнатаў. Відаць, памірыўся з кіраўнікамі абшчыны, пра што сведчыць падрыхтаваная ім другая рэдакцыя Новага запавету (1589), выпраўленая і перапрацаваная. У прадмове да гэтага выдання ён знайшоў кампраміс са сваімі ранейшымі апанентамі. У тым жа 1589 Б. разам са сваім сябрам Фабіянам *Даманеўскім* удзельнічаў у дыспуце супраць езуітаў, які адбыўся ў Полацку. Ён супрацоўнічаў з пачынаючым пісьменнікам, настаўнікам іўеўскай школы *Ліцыніем Намыслоўскім* Янам. У кнізе апошняга «Сентэнцыі, карысныя ў жыцці» (Лоск, 1589) змешчаны вершы Б.

Да 1956 дакладная дата смерці Б. не была вядома. Яе ўстанавіў Станіслаў Кот. У каралеўскай бібліятэцы Капенгагена ён знайшоў выдадзены ў 1603 у Вільні Міхалам Алясніцкім твор, накіраваны супраць антытрынітарыяў. Аўтар піша: «Смерць Сымона Буднага, правадыра і кіраўніка перахрышчэнцаў Літвы, якая наступіла 13 студзеня 1593 у Вішневе, была жудаснай і агіднай. Ужо за два гады да смерці ён зусім звар'яцеў, не хацеў нічога чуць і ведаць пра Бога і Хрыста. Нават за тры дні да смерці раздаваўся яго страшэнны крык, які напаўняў двор пана Льва Маклока (беларускі шляхціц, што даў прытулак Б. — рэд.) і яго суседзяў. А калі цівун пан Віткоўскі пераконваў яго, каб у апошнія свае дні ён звярнуўся да Бога, ён злавіў яго руку і сказаў: «Клянуся, я не ведаю ніякага Бога і ніякага Хрыста». Прыблізна тое ж самае пра смерць Б. паведамляе Марцін Лашч (Жаброўскі). Паведамленні гэтыя яўна тэндэнцыйныя, паколькі належаць яго ідэйным праціўнікам.

Рэлігійна-філасофскія ідэі Б. (канцэпцыя Бога, хрысталогія, анталогія) былі наватарскія і не мелі прэцэдэнта ў еўрапейскай думцы. Ён спрабаваў рэвізаваць артадаксальнае вучэнне пра Бога ў духу дэізму. Адхіляў традыцыйнае вучэнне пра Тройцу і абвяшчаў сапраўдным богам толькі Бога Бацьку. «Дух» ператварыў з самастойнай і раўназначнай субстанцыі ў атрыбут «Бацькі», яго творчую сілу, боскую свядомасць і волю. Найбольш радыкальна ён абышоўся з Хрыстом: выключыў яго з надсусветнага пачатку, абверг яго боскае паходжанне і звышнатуральнае нараджэнне. На аснове вялікай колькасці лагічных, гістарычных і філалагічных аргументаў ён прыйшоў да высновы, што Хрыстос з'яўляўся не Богам, а самаадданым прапаведнікам, высокамаральным чалавекам, за што і быў надзелены боскімі ўшанаваннямі, здольнасцю тварыць цуды. Ён адхіліў думку пра тое, што ў Старым запавеце ёсць указанне пра будучае нараджэнне Хрыста. Прарокі, сцвярджаў Б., нічога не ведалі і не маглі ведаць пра Хрыста. Гэты тэкст— вынік падробкі, на што яшчэ раней звярнулі ўвагу Эразм Ратэрдамскі і Себасцьян Кастэлія. Адмаўленне Б. спрадвечнага існавання Хрыста як «боскай ідэі» падрывала канцэпцыю сярэдневяковага рэалізму, паводле якой агульнае паняцце існуе анталагічна і папярэднічае канкрэтнай

рэчы, сцвярджала памяркоўна-наміналістычную тэндэнцыю ў філасофіі.

Істотны момант рэлігійна-філасофскіх поглядаў Б. — натуралістычная інтэрпрэтацыя біблейскіх цудаў, адмаўленне замагільнага свету і бессмяротнасці душы. «Многія вучоныя людзі, — пісаў ён у трактаце «Пра найважнейшыя палажэнні хрысціянскай веры», — лічаць, што пасля смерці душа чалавека будзе прыпадобнена цялеснай субстанцыі, якая ці пераносіць пакуты, ці зазнае асалоду, вандруючы з месца на месца, але гэта паганская, яўрэйская і паэтычная памылковая думка... мёртвыя не валодаюць ведамі, паколькі душы пасля смерці нічога не адчуваюць. Пасля смерці кожнага чалавека, як святога, так і бязбожніка, душа яго нічога не ведае ні аб сабе, ні аб кім-небудзь іншым, нічога не адчувае, не пераносіць ні пакуты, ні ўцехі... Памылковай з'яўляецца агульнапрынятае ўяўленне людзей пра душы, быццам яны жывуць пасля смерці, пераносяць пакуты ці маюць асалоду. Душа — гэта не што іншае, як чалавечае жыццё...». Гэта была матэрыялістычная трактоўка псіхафізічнай праблемы, уласцівая шэрагу філосафаў эпохі Адраджэння — П'етра Пампанацы, Гжэгажа Паўла з Бжэзін і інш. Натуралістычна вытлумачваючы біблейскія цуды, Б. прадбачыў некаторыя вывады Б.Спінозы, у прыватнасці яго думку, «што ўсё, аб чым расказваецца ў Пісанні, адбылося натуральным шляхам».

Метадалагічныя і гнасеалагічныя погляды Б. — адлюстраванне развіцця культуры і думкі эпохі Адраджэння. Б. — пераважна тэолаг, аднак ён не ігнараваў філасофію і імкнуўся выкарыстаць яе ў творчай дзейнасці. ~~Як і Фама Аквінскі,~~ ён меркаваў, што вера можа быць абгрунтавана рацыянальным спосабам, аднак лічыў, што ў выпадку канфлікту паміж розумам і верай вырашальнае слова належыць розуму. Сутнасць метаду Б. — у яго герменеўтычным майстэрстве, або вучэнні аб інтэрпрэтацыі Бібліі, выкладзеным у прадмове да лоскага выдання Новага Запавету (1574). Гуманісты і рэфарматары эпохі Адраджэння сцвярджалі, што да Свяшчэннага пісання трэба падыходзіць як да любога тэксту — гістарычнага, філасофскага і інш. Ісціна, паводле Б., знаходзіцца ў Свяшчэнным пісанні ў згорнутым выглядзе і яе адтуль неабходна здабыць і адэкватна перадаць. Дзеля гэтага чалавеку патрэбна пэўная культура, адукаванасць. Б. ўспрыняў выпрацаваны Л.Вала і Эразмам Ратэрдамскім рацыяналістычны метад, які дазваляў пры даследаванні біблейскіх тэкстаў праводзіць лагічны, філалагічны, гістарычны і натуралістычны аналізы. Атрыманне з Бібліі ісціны, г. зн. такога палажэння, каб яно не супярэчыла розуму і вопыту чалавека, магчыма толькі на аснове вывучэння як мага большай колькасці фактаў, усведамлення ўсёй карціны з'явы. Б. настойваў на кантэкстуальным асэнсаванні Бібліі, якое зробіць непатрэбнымі алегарычны і вербальны метады яе інтэрпрэтацыі. Неабходна вывучаць, лічыў Б., як і кім пісаліся і ствараліся біблейскія кнігі, прычыны іх скажэння і фальсіфікацыі. Трэба не літаральна разумець тое ці іншае палажэнне, а імкнуцца зразумець яго сэнс у агульным кантэксце, выразны тэкст параўноўваць з менш выразным, заблытаным, звышнатуральныя сітуацыі вытлумачваць у адпаведнасці з розумам, логікай, рэальным вопытам і ведамі чалавека і г.д. Рацыяналістычна-натуралістычны спосаб выяўлення ісціны, выкарыстаны перш за ўсё ў адносінах да біблейскіх сітуацый, адкрываў магчымасць такой інтэрпрэтацыі прыроды, грамадства і чалавека.

Б. рашуча асуджаў аўтарытарызм і дагматызм у мысленні, інтэлектуальную нецярпімасць і рэлігійны фанатызм каталіцкіх і пратэстанцкіх царкоўных і палітычных дзеячаў, тэолагаў, якія «не толькі пяром, але і агнём і мячом» укаранялі сваё вучэнне. «Суполка, — лічыў ён, — павінна быць аб'яднана духам вучэння, а не аўтарытэтам асобы». Нельга «што-небудзь прыняўшы, прытрымлівацца гэтага пастаянна і абараняць любымі сродкамі». Ён рашуча асуджаў Жана Кальвіна за тое, што па яго віне загінуў іспанскі вучоны Мігель Сервет. Лічыў, што спрэчныя пытанні павінны свабодна абмяркоўваць вучоныя і невучоныя людзі, настаўнікі і вучні, прапаведнікі і прыхаджане, багатыя і бедныя — дзе

гэтай свабоды няма, там няма свабоды наогул.

Паводле Б., індывідуальны розум — найбольш важны інструмент пазнання. Аднак паняцці не прыроджаныя, а фарміруюцца на аснове пачуццёвага вопыту, ведання канкрэтных, адзінкавых рэчаў. Б., як і яго папярэднікам (Л.Вала, Рудольф Агрыкола, П'ер дэ ля Рамэ), уласціва арыентацыя на натуральнае мысленне і натуральную мову. Шляхам семантычнага і этымалагічнага аналізу ён імкнуўся дакладна вызначыць змест слова, адпаведнасць яго рэчы («логас», «рай», «парог», «жораў», «піла» і інш.), што сведчыла аб наміналістычнай, рэнесансава-гуманістычнай тэндэнцыі ў яго гнасеалогіі і яе антысхаластычнай накіраванасці. З гэтага аспекту ён разглядаў і арыстоцелеўскую логіку (называў яе «дыялектыкай»). «Што да таго, — пісаў Б., — што я свае довады будую ў форме сілагізмаў, то я гэта раблю для лепшага разумення і сувязі. Хай мае паважаныя апаненты ведаюць і памятаюць, што навука гутаркі (логікі), якая пагрэчаску называецца дыялектыкай, не выдумана філосафамі, як гэта звычайна мяркуюць, а дадзена чалавеку Богам як асаблівы дар і звязана з яго прыродай. Усё гэта, вывучаючы і наглядаючы, разумныя людзі падвялі пад асобыя правілы і вытлумачылі. У далейшым бязбожнікі сказілі гэтае вучэнне і ператварылі яго ў сафістыку, якой цяпер многія займаюцца... У дыспутах Апосталаў знойдзеш такія довады, як быццам бы іх пісалі Парфірый ці сам Арыстоцель... Нават у дыспутах самога Ісуса Хрыста можна ўбачыць дыялектычныя сілагізмы».

Этыка Б. — тэндэнцыя да рэвізіі некаторых палажэнняў традыцыйнай хрысціянскай маральнай дактрыны, узбагачэння яе новымі ідэямі, узгадненне з філасофска-этычнымі вучэннямі Адраджэння і Рэфармацыі. Адной з такіх ідэй была ідэя маральна-духоўнай свабоды чалавека. Погляд Б. на Хрыста як на выдатнага чалавека, які за свае высокія маральныя якасці быў удастоены «боскасці», падводзіў да думкі, што гэтая магчымасць патэнцыяльна зберагаецца за кожным смяротным чалавекам, які імкнецца дасягнуць маральнага ўдасканалення. Хрысталогія Б. — своеасаблівае адлюстраванне рэнесансавай канцэпцыі (Піка дэ ла Мірандала і інш.) пра тое, што чалавек намаганнем асабістай волі можа зраўняцца з Богам. Але ж ідэя маральнай свабоды мела і свой «адваротны бок», яна служыла крыніцай канцэпцыі «ўседазволенасці».

Асноўная этычная ідэя, выкладзеная Б. у «Катэхізісе», — ідэя рэлігійна-маральнага адраджэння. У прадмове ён пісаў пра скажэнне сапраўднага хрысціянства ў каталіцтве і праваслаўі, падмену свядомай і шчырай веры і маралі фармальнай і паказной. Таму ў духу пратэстантызму ён акцэнтаваў увагу на асабістай рэлігійнасці і маральнасці чалавека. Асновай веры, паводле Б., з'яўляюцца не дагматыка, абрады і літургія, а этыка, якая змяшчаецца ў боскім адкрыцці, г. зн. у Бібліі. Сваім свецкім жыццём, штодзённай дзейнасцю, працавітасцю, сумленнасцю чалавек заслугоўвае выратавання, бо ён нясе асабістую маральную адказнасць перад Богам за свае ўчынкі. У этыцы Б. заўважаюцца рысы новай, буржуазна-дэмакратычнай маральнай свядомасці, якая зыходзіла з прыярытэту правоў чалавека, асобы, што праз два стагоддзі было геніяльна зафіксавана ў этыцы І.Канта.

Сацыяльна-палітычныя погляды Б. — адлюстраванне памяркоўнай апазіцыі ў беларускім рэфармацыйна-гуманістычным руху. Памяркоўныя мысліцелі-гуманісты, у іх ліку і Б., абгрунтоўвалі шэраг характэрных для эпохі Адраджэння і Рэфармацыі праблем аднаўлення, рэфармавання існуючых грамадскіх інстытутаў, сацыяльна-палітычнага ідэалу, нацыянальнай культуры, рэлігійнай свабоды і інш. Асаблівасцю праграмы памяркоўнай апазіцыі з'яўляліся пазітыўныя ў сваёй аснове адносіны да існуючых грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў. Пераўтваральная дзейнасць меркавалася ў межах наяўнага соцыуму, змяненню падлягала не сістэма цалкам, а яе элементы. Прызнаваў Б. і прыватную ўласнасць. «Абы кожны чалавек, — пісаў ён у «Катэхізісе», — маетность свою мел у моцы своей». Разам з тым ён прапанаваў радыкальную рэформу ўсёй сістэмы царкоўнага землеўладання: зямля павінна належаць не манастырам, а царкоўным абшчынам, даходы ад яе павінны ісці на

школьную адукацыю, утрыманне настаўнікаў, бедных вучняў, прапаведнікаў, будаўніцтва бальніц і дамоў для састарэлых. Ухваляў ён і існуючыя феадальныя адносіны, нават прыгонніцтва, быў рашучым праціўнікам супраціўлення сялян сваім гаспадарам, аднак не апраўдваў крайнасцей феадальнага ладу, яго найбольш жорсткіх праяў. «А кто таков теперичи ест до подданных, абы не драл, абы дивных формтылев ко вылупенью их маетнасти не вымышлял, — пісаў ён пра беларускіх паноў і шляхту. — А кто на старых, а звыклых павинностях переставаеть! Вси на тое ся удали, абы великие доходы мели... А тое всё от поту, або радней от крави убогих людей мусить господар силою, або хитростию вылупити». Б. быў прыхільнікам сацыяльнай гармоніі, мірнага суіснавання ўсіх саслоўяў феадальнага грамадства. Высока ставіў працу гарадскіх рамеснікаў, прадпісваў «честь отдавати» майстрам «заровно» з феадаламі. Кожны, лічыў ён, павінен займаць пэўнае, адведзенае яму гістарычнымі абставінамі месца ў грамадстве. Дзяржаўная ўлада — боскае ўстанаўленне, і ёй неабходна падпарадкавацца. «Сапраўдны хрысціянін», на думку Б., мог займаць дзяржаўныя пасады, звяртацца ў суды, паколькі гэтыя інстытуты не супярэчаць евангельскаму вучэнню. Палітычны ідэал яго — «філосаф на троне», г.зн. асветны манарх, які «павінен акружаць сябе мудрымі і вучонымі людзьмі, з якімі б ён мог параіцца, як дзейнічаць у цяжкіх абставінах». Войны ён падзяляў на справядлівыя, у якіх рэкамендаваў прымаць удзел, і несправядлівыя, якія асуджаў.

У «Катэхізісе» ў духу Скарыны заклікаў пануючыя колы, у прыватнасці князёў Радзівілаў, клапаціцца аб развіцці беларускай культуры, адукацыі, роднай мовы. «Абы ваши княжацкие милости, — пісаў ён, — не только в чужоземских языцех кохали, але бы си теж... и того здавна славного языка словенского розмиловати и оным ся бавити рачили». Ідэі Б. аб развіцці беларускай мовы, культуры — адзін з фактараў станаўлення нацыянальнай свядомасці. Разам з тым ён сцвярджаў неабходнасць засваення ўсёй сукупнасці еўрапейскай культуры, асуджаў езуітаў за іх рэлігійную нецярпімасць, папракаў тых праваслаўных дзеячаў, якія імкнуліся адмежавацца ад заходнееўрапейскай адукаванасці.»

Б. — таленавіты празаік, паэт, перакладчык; пісаў на беларускай, польскай і лацінскай мовах. Абгрунтоўваў думку пра пазнавальнае значэнне мастацтва і яго маральна-выхаваўчую ролю. У палеміцы з Арцеміем ён адстойваў прынцып рэнесансавага рэалізму. Разуменне Б. прыгожага мела рацыяналістычны характар: прыгожае тое, што ісціннае. Ён аддаваў перавагу прыгажосці зместу перад прыгажосцю формы. Лічыў, што толькі на аснове свабоды магчыма поўнае самавыяўленне асобы, росквіт яе здольнасцей.

*Тв.:* Катихисис то ест наука стародавная христианьская от светого писма для простых людей языка руского в пытаниах и отказех събрана. Несвиж, 1562; Из предисловия к переводу Нового Завета; Приписки к переводу некоторых мест Нового Завета; Из письма к Фоксу // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962; [Ліст С.Буднага да Г.Булінгера] // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1978. №5; O przedniejszych wiary chrystyjańskiej artykulech. Warszawa; Lodz, 1989; Urzędzie miecza używajacem. Warszawa, 1932.

*Літ.:* Алексютович Н.А. Будный — идеолог гуманизма и реформации в Белоруссии и Литве // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962; Подокшин С.А. Скорина и Будный: Очерк филос. взглядов. Мн., 1974; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Парэцкі Я.І. Сымон Будны. Мн., 1975; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстет. мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Саверчанка І.В. Сымон Будны: Гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993.

*С.А.Падокшын.*

## **БЯЛІНСКІ** (Bielinski) Даніэль (? — 1591)

Дзеяч рэфармацыйнага руху ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. Паходзіў з сілезскіх мяшчан ці шляхты. З 1554 вучыўся ў Кракаўскім універ-

сітэце. Служыў казнадзеем (прапаведнікам) пры касцёле св. Барбары ў Кракаве. У канцы 1550-х гадоў адкрыта перайшоў у Рэфармацыю. Выконваў абавязкі прапаведніка і святара («міністра») пры рэфармацыйных зборах у Бжэзінах, Кракаве, з 1563 у Шыдлоўцы, маёнтку Мікалая Радзівіла Чорнага, з 1570 у Олтушы. У 2-й палове 1570-х гадоў вярнуўся ў Кракаў. У канцы жыцця пераехаў у Вільню, дзе і памёр.

Сваю рэфармацыйную дзейнасць распачаў пад уплывам Гжэгажа Паўла. Сярод антытрынітарыяў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага вылучаўся найбольш радыкальнымі поглядамі: ад трыдэізму эвалюцыяніраваў да дытэізму, унітарызму і анабаптызму. За свой твор, у якім паказаў шматлікія супярэчнасці Новага Запавету ў параўнанні са Старым, часова быў адлучаны ад кальвінісцкага руху. Кнігі Б. не захаваліся і вядомы толькі па звестках іншых аўтараў, апанентаў і палемістаў. У прыватнасці С.*Будны* рэзка крытыкаваў творы Б. ў сваёй кнізе «Пра найважнейшыя артыкулы хрысціянскай веры». З канца 1570-х гадоў Б. прытрымліваўся даволі памяркоўных кальвінісцкіх поглядаў. У 1603 яго творы ўвайшлі ў Індэкс забароненых кніг Рэчы Паспалітай.

*Літ.:* Парэцкі Я.І. Сымон Будны. Мн., 1975; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — нач. XVII в.). Мн., 1970; Merczyng H. Polscy deiści i wolnomyśliciele za Jagiellonów // Przegląd Historyczny. 1911. T. 12, 3.

*Г.Я.Галенчанка.*

# В

## ВАЛАДКОВІЧ Марцін

Дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага сярэдзіны 16 ст. Звесткі пра даты яго нараджэння і смерці не захаваліся. Паходзіў з баярскага роду на Віцебшчыне. У 1559 працаваў пісарам канцылярыі Вялікага княства Літоўскага, быў земскім пісарам, земскім суддзёй Мінскага павета, мінскім гараднічым. У першыя гады Лівонскай вайны выконваў адказныя даручэнні ў перагаворах з Масквой, быў гаспадарскім паслом на Мінскім павятовым сойміку 1566 і на Люблінскім сойме 1569. Па даручэнні Мсцібогаўскага з'езда Вялікага княства Літоўскага ў 1576 член пасольства Вялікага княства Літоўскага да *Стафана Баторыя*. Пасады, якія займаў В., яго ўдзел у дыпламатычных місіях даюць падставу меркаваць, што ён меў добрую юрыдычную адукацыю, быў здольны, дасведчаны, дзелавіты. Прымаў удзел у стварэнні Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1566 і 1588. Унёс у іх практычны вопыт дзяржаўна-адміністрацыйнай і судовай работы, выражаў грамадска-палітычныя інтарэсы шляхты, якія аформіліся ў закон, праводзіў канцэпцыю суверэннасці Вялікага княства Літоўскага.

*Г.В. Дзербіна*

## ВАЛОВІЧ
Астафій Багданавіч (каля 1520—1587)



Дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага, гуманіст, мецэнат-асветнік. Нарадзіўся на Гродзеншчыне. Паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду. Перша-

пачатковую добрую адукацыю атрымаў у бацькаўскім доме. Потым, як мяркуе даследчык Г.Саверчанка, вучыўся ў адным з нямецкіх пратэстанцкіх універсітэтаў, ёсць звесткі, што скончыў Падуанскі універсітэт. У 1540-я гады служыў сакратаром у віленскага ваяводы Яна Глябовіча. У 1552 ажаніўся з Фядорай, дачкой Сапегі. Пасада маршалка дворнага дала яму права ўвайсці ў склад гаспадарскай рады. У 1552 каралеўскі пісар. У 1553 В. з полацкім намеснікам С. Давойнам і крамянецкім старостам, пісарам П. Сямашкам быў пасланы ў Маскву, каб заключыць мірнае пагадненне. У час перагавораў дэлегацыя Вялікага княства Літоўскага рашуча выступіла супраць імперскіх прэтэнзій Івана IV Грознага называцца «царом усяе Русі», г. зн. не толькі рускіх, але беларускіх і ўкраінскіх зямель. В. і яго паплечнікі даказвалі, што не толькі Смаленск, але Ноўгарад, Пскоў, Вялікія Лукі і інш. гарады спакон веку належалі Вялікаму княству Літоўскаму. Нягледзячы на супярэчнасці, 12.9.1553 было падпісана перамір'е да 25.3.1556. Як узнагароду за гэта В. атрымаў ад *Жыгімонта II* Аўгуста Магілёўскае староства. За паслугі каралеве Боне Сфорца ў правядзенні аграрнай рэформы В. атрымаў Усвяцкае і Езярышчанскае староствы. У 1558 разам са сваім аднаверцам, евангелікам-рэфарматарам, віленскім ваяводам *Радзівілам* Чорным В. вёў перагаворы з маскоўскім паслом Алфёравым, пераконваючы апошняга ў неабходнасці міру паміж Рускай і Беларуска-Літоўскай дзяржавамі, саюзу хрысціянскіх народаў супраць Крымскага ханства і Турцыі. Але Іван IV у 1558 паслаў сваё войска на заваёву Інфлянтаў (Лівоніі). У выніку ўзнікла рэальная пагроза суверэнітэту Беларуска-Літоўскай дзяржавы, бо на падставе пагаднення з Інфлянтамі ў лістападзе 1559 туды быў накіраваны беларуска-літоўскі корпус на чале з Я.Хадкевічам і Ю.Зяновічам. Усведамляючы, да чаго можа прывесці гэты канфлікт, дальнабачны В. усяляк імкнуўся яго нейтралізаваць. У Маскву з мірнай місіяй прыбыў велікакняжацкі пасол М.Валадковіч, які перадаў Адашаву, што «віленскі ваявода Мікалай Радзівіл ды велікакняжацкі пісар Валовіч моцна стаяць на тым, каб між нашымі гаспадарамі панавалі мір і згода». Падтрымліваючы намер Івана IV узяць шлюб з сястрой Жыгімонта II, В. абумоўліваў гэту акцыю падпісаннем «вечнага міру» і захаваннем правоў Вялікага княства Літоўскага на Інфлянты. Аднак Іван IV здолеў уладзіць канфлікт са Швецыяй і ўзнавіў вайну. Вялікае княства Літоўскае вымушана было ў 1562 уступіць у вайну з Маскоўскай дзяржавай, якая ў хуткім часе захапіла Віцебск, Оршу, Дуброўна, Копысь, Шклоў, а 13.2.1563 — і Полацк. Зацяжная Лівонская вайна востра паставіла пытанне пра дзяржаўную унію Вялікага княства Літоўскага з Польшчай. Паміж беларускімі і літоўскімі магнатамі, з аднаго боку, і польскімі феадаламі, з другога, разгарнуліся спрэчкі наконт прынцыпаў аб'яднання. Разам з Радзівілам Чорным, Р.*Хадкевічам* і інш. В. быў сярод лідэраў беларуска-літоўскай апазіцыі, якая намагалася максімальна захаваць асноўныя атрыбуты дзяржаўнай незалежнасці Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў складзе Рэчы Паспалітай. На вальным сойме 1569 у Любліне В. з іншымі членамі беларуска-літоўскай дэлегацыі (віленскі ваявода і канцлер *Радзівіл* Руды, жамойцкі староста Я.Хадкевіч, падскарбі Нарушэвіч) прапанавалі «Праект уніі» з 15 артыкулаў, якія гарантавалі адносную незалежнасць Вялікага княства Літоўскага. Аднак польскія магнаты і шляхта настойвалі на ўтварэнні унітарнай дзяржавы, што і было зафіксавана ў заключным «Акце аб уніі». У далейшым В. прыкладаў шмат намаганняў, каб аднавіць некаторыя яго пункты. Актыўны ўдзел ён прымаў у аграрнай, судова-адміністрацыйнай і інш. рэформах 1550—60-х гадоў. В. разам з юрыстамі А.*Ратондусам* і П.*Раізіем* рыхтаваў 2-е выданне Статута Вялікага княства Літоўскага, зацверджанага 1.3.1566 на Віленскім вальным сойме. Па яго прапанове ў тэкст Статута быў уключаны артыкул, якім «заграннічнікам» (перш за ўсё меліся на ўвазе феадалы Польшчы) забаранялася набываць землі і займаць дзяржаўныя пасады ў межах Вялікага княства Літоўскага (раздзел 3, арт. 4). З 1561 В. займаў пасады маршалка дворнага, падскарбія земска-

га, падканцлера. Па яго ініцыятыве на мірныя перагаворы ў Маскву былі накіраваны 2 пасольствы (1566 і 1569). У складзе велікакняжацкай дэлегацыі В. прымаў удзел у выбары новага караля Генрыха Валуа. Подпіс падканцлера стаіць пад вядомай Варшаўскай канфедэрацыяй, паводле якой прадстаўнікі ўсіх веравызнанняў атрымлівалі роўныя правы ў Вялікім княстве Літоўскім і Кароне. У 1576 каралём і вялікім князем стаў *Стафан Баторый*, што прынесла Вялікаму княству значныя палітычныя і ваенныя поспехі і карэнны перелом у Лівонскай вайне. Актыўны ўдзел прымаў В. у ваенных дзеяннях, у прыватнасці ў вызваленні Полацка (1579), узяцці Вялікіх Лук (1580) і інш. Разам з Л.*Сапегам* ён стварыў у 1581 Трыбунал — вышэйшы апеляцыйны судовы орган Вялікага княства Літоўскага.

В. — адна з найбольш выдатных постацей у беларускай гісторыі 2-й паловы 16 ст.: памяркоўны і разважлівы дзяржаўны дзеяч, тонкі дыпламат, рэфарматар, мецэнат-асветнік, талерантны чалавек, хоць сам быў евангелік-рэфармат (кальвініст) і застаўся верным гэтаму веравызнанню да смерці. Ён шмат зрабіў для пашырэння на роднай зямлі адукацыі, ведаў, кнігадрукавання. Разам з Радзівілам Чорным, яго братам Радзівілам Рудым, Янам *Кішкам* і інш. В. быў апекуном беларуска-літоўскага рэфармацыйнага руху. На яго сродкі ў 1559 зроблены пераклад твора швейцарскага тэолага-кальвініста Генрыха Булінгера «Пра праўдзівае прыняцце цела і крыві Ісуса Хрыста». На сродкі В. заснавана друкарня ў Нясвіжы. Ён дапамог С.*Буднаму*, М.*Кавячынскаму* і Л.*Крышкоўскаму* прывезці з Вільні скарынаўскі шрыфт, каб у 1562 у Нясвіжы быў надрукаваны беларускі «Катэхізіс». В. фінансаваў і іншыя беларускія кнігі, у т.л. «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам», у прадмове да якой С.Будны пісаў: «Часто бо от своей милости слышал есм, якобы рад есть мел подданым своим учителей верных и на размножение книг добрых, накладов обецуеш не жаловати. А не только обецуеш, но и початок сее друкарні нашее твоей милости наклады исперва ещё, якое некое основание уготовали и укрепили». Паводле сцвярджэння С.Буднага, у адным з маёнткаў В. прапаведнікам быў вядомы на Беларусі сацыяльны радыкал *Якуб з Калінаўкі*, які сцвярджаў: «Не павінна быць сярод сапраўдных хрысціян розніцы паміж свабодным і нявольнікам, яўрэем і грэкам, а ўсе няхай будуць роўныя». В. падтрымліваў добрыя адносіны і перапісваўся з рускім праваслаўным багасловам *Арцеміем*, які жыў у Слуцку пад апякунствам князя Ю.*Алелькавіча*, прыязна ставіўся да рускага эмігранта праваслаўнага князя А.*Курбскага*. Калі гаворка ішла пра рэлігійныя погляды або светапоглядныя і палітычныя прынцыпы, не баяўся ўступіць у канфлікт нават з каралём. Так, ён адмовіўся зацвердзіць прывілей С.Баторыя на адкрыццё езуіцкай акадэміі ў Вільні. У тастаменце (завяшчанні) В. запісана, каб уфундаваныя ім «школу ды шпіталь не ліквідавалі», а калі «хтосьці з уладальнікаў наважыцца тое змяніць, дык у гэтым выпадку Сідранскі маёнтак з усімі землямі павінен перайсці на агульнагаспадарскі рахунак», г.зн. стаць дзяржаўнай маёмасцю. Гуманістычны хрысціянскі запавет «любові да бліжняга» ён распаўсюджваў і на сваіх падданых, чэлядзь, сялян. У тастаменце пісаў, што ва ўсіх яго маёнтках «нявольнікі ды іншыя несвабодныя паводле дзедзічнага права людзі, мужчыны і жанчыны, нават калі яны вязні ці даўжнікі, аб'яўляюцца вольнымі. Яны маюць права вольна служыць альбо пайсці туды, куды пажадаюць». І далей: «...адносна маіх казнадзеяў для хвалы Божай, школ ды шпіталяў пастанаўляю: паўсюль, дзе іх маю, лік іх ні пры якіх умовах не змяншаць. Наадварот, належыць пашыраць іх... На шпіталь даваць чыншу 12 коп грошаў... Для школы выдзяляць 40 залатых польскіх. Бакалаўру, годнаму і вучонаму чалавеку, які будзе вучыць маіх нашчадкаў і падданых, даваць на пражыццё...»

Памёр В. у канцы 1587 ці на пачатку 1588 і пахаваны ў Сідранах «в склепе мурованом» побач з евангелісцка-рэфармацкім зборам.

*Тв.:* Тэстамент // Саверчанка І. Астафей Валовіч: (Гіст.-біягр. нарыс). Мн., 1992; Testament // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1962. T. 7.

*Літ.:* Дневник Люблинского сейма 1569 г. Спб., 1869; Вилинский С.Г. Посла-

ния старца Артемия (XVI века). Одесса, 1906; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI — нач. XVII в.). Мн., 1970; Кміта-Чарнабыльскі Ф.С. Лісты // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975; Саверчанка І. Астафей Валовіч: (Гіст.-біягр. нарыс). Мн., 1992. *С.А.Падокшын.*

## **ВАЯВОДКА** (Wojewodka) Бярнард (? — ліпень 1554)

Матэматык, друкар і перакладчык. Нарадзіўся ў Кракаве. Аўтар кнігі па матэматыцы «Алгарытм — навука лічбы» (Кракаў, 1553). Па запрашэнні дзеяча рэфармацыі Мікалая *Радзівіла* Чорнага ў 1553 пераехаў у Брэст, дзе ўзначаліў першую на тэрыторыі Беларусі друкарню, якая дзейнічала ў 1550—70-я гады. Першыя выданні друкарні (Вялікі і Малы Катэхізісы, перакладныя тэалагічныя творы Крыштафа Імлера, Урбана Рэгіуса) адпавядалі патрэбам рэфармацыйнага руху, які быў накіраваны супраць каталіцкай царквы і меў антыфеадальны характар. На думку даследчыкаў, В. прымаў таксама ўдзел у падрыхтоўцы да выдання Брэсцкай біблії 1563 — помніка польскамоўнага кнігадрукавання на Беларусі.

*Літ.:* Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. L. 5. Wielkie Ksiestwo Litewskie. Wrocław; Krakow. 1959, S. 248—255.

## **ВІТАЎТ** (у хрышчэнні Аляксандр; 1350—27.10.1430)



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1392—1430. Сын князя Кейстута. Напачатку быў князем гарадзенскім (гродзенскім), потым князем трокскім. Калі польскія феадалы, выкарыстоўваючы Крэўскую унію 1387 і каранацыю вялікага князя *Ягайлы* на польскі трон, наважыліся падпарадкаваць сабе літоўскія, беларускія і ўкраінскія землі, Вітаўт узначаліў супраць іх барацьбу патрыятычных сіл Беларуска-Літоўскай дзяржавы. З дапамогай рыцараў Лівонскага ордэна ён скінуў намесніка Ягайлы на літоўскі трон — свайго дваюраднага брата Скіргайлу і стаў правіць дзяржавай незалежна ад польскага караля. У выніку ўзброенай барацьбы, а потым кампраміснага пагаднення 1392 з Ягайлам беларуска-літоўскія феадалы адстаялі сваю самастойнасць, а Вітаўт пажыццёва прызначаны гаспадаром (вялікім князем) Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Ён праводзіў палітыку цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацавання велікакняжацкай улады. Да дзяржаўнага кіравання (удзел у соймах і радзе) ён далучаў ваенна-служылае саслоўе, за службу раздаваў шляхце землі. Вёў актыўную знешнюю палітыку. Падтрымліваў сепаратысцкія тэндэнцыі рускіх княстваў (Цвярскога, Разанскага), што выступалі супраць аб'яднаўчай і цэнтралізаванай палітыкі Масквы. Ён умешваўся ў справы нямецкага ордэна і неаднаразовымі перамогамі ледзь не ліквідаваў яго. Для дасягнення палітычных мэт і замацавання саюзу з Тэўтонскім ордэнам двойчы (у 1384 і 1389) аддаваў яму Жмудзь. Вёў пастаянную барацьбу супраць татараў, ачысціў ад іх усю тэрыторыю паміж Дняпром і Азоўскім морам і адтуль некалькі тысяч татараў перасяліў у Літву. У 1399 пацярпеў паражэнне ад тамерланаўскага палкаводца Эдыгея на р. Ворскла, у выніку праваліліся яго планы панавання над усімі землямі Русі і Залатой Арды. Нягледзячы на гэта, Вітаўт захаваў кантроль Беларуска-Літоўскай дзяржавы над Паўночным Прычарнамор'ем. Але паражэнне на Ворскле выкарыстала Польшча, прымусіўшы Вітаўта падпісаць новую унію. Падпісаўшы пад націскам польскага кліру ў 1401 Віленска-Радамскую, а ў 1413 Гарадзельскую уніі, Вітаўт фактычна даў католікам пера-

вагі ў дзяржаўным жыцці краіны, што стала адной з прычын працяглай нацыянальна-рэлігійнай барацьбы ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве і значна аслабляла яе. Каб дагадзіць праваслаўнай большасці насельніцтва Літоўскай Русі, ён заснаваў у Вялікім княстве Літоўскім пасаду мітрапаліта незалежна ад Маскоўскай дзяржавы. Першым мітрапалітам праваслаўнай царквы Княства на Новагародскім саборы быў выбраны былы кіеўскі мітрапаліт Грыгорый *Цамблак*. Вітаўт значна пашырыў тэрытарыяльныя межы дзяржавы. У 1395 ён уключыў у склад сваёй дзяржавы г. Смаленск, у выніку вайны з Вялікім Маскоўскім княствам у 1408 вызначыў мяжу па рэках Угра і Ака. У час Грунвальдскай бітвы 1410 Вітаўт узначальваў літоўска-беларускія войскі (Полацкая, Віцебская, Гарадзенская, Пінская, Ваўкавыская, Лідская, Новагародская, Смаленская, Слонімская, Старадубская, Кіеўская, Мсціслаўская і інш. харугвы), якія былі асноўнай сілай у разгроме крыжакоў. Пасля гэтай перамогі паводле Мельнскага дагавора 1422 Вялікаму княству Літоўскаму вернута Жмудзь. Пры В. Беларуска-Літоўская дзяржава дасягнула найбольшай магутнасці і памераў: ад Пскоўскай мяжы да Чорнага мора і ад Акі і Курска да Галіцыі. З мэтай узмацніць міжнародны прэстыж дзяржавы і сваё становішча ён двойчы (у 1429 і 1430) рабіў захады і ўчыняў з'езды наймагутнейшых правіцеляў Еўропы, каб прыняць каралеўскі тытул і карону. Але гэтаму перашкаджалі магнаты Польшчы, якія не адмовіліся ад намеру аб'яднаць Польшчу з Літоўскай Руссю. Падчас княжання Вітаўта беларускім гарадам Брэсту (1390), Гродна (1391) і інш. прадастаўлена самакіраванне паводле магдэбургскага права. У 1420-я гады



*Грунвальдская бітва (фрагмент). Гравюра 16 ст.*

Віцебск, Полацк і сталіцу Беларуска-Літоўскай дзяржавы — Вільню наведаў Іеранім Пражскі — паплечнік Яна Гуса. У 1422 на дапамогу нацыянальна-вызваленчаму руху гусітаў у Чэхію прыбыў намеснік Вітаўта, унук Альгерда, Жыгімонт Карыбутавіч з 5-тысячным беларускім войскам. На чале сваіх гусіцкіх паплечнікаў у 1424 ён заняў Прагу, дзе абвясціў сябе каралём і пэўны час імкнуўся ўмацаваць сваю ўладу. Але з-за ўскладненай сітуацыі ў Вялікім княстве Літоўскім вярнуўся на бацькаўшчыну. Пасля смерці Вітаўта вялікім князем быў прызначаны Скіргайла. У хуткім часе яго скінуў і заняў велікакняжацкі трон брат Вітаўта *Жыгімонт І* Стары.

*Літ.:* Барбашев А. Витовт и его политика до Грюнвальдской битвы (1410 г.). Спб., 1885; Его же. Витовт: Последние двадцать лет княжения, 1410—1430. Спб., 1891; Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Полное собрание русских летописей. Т. 17. Спб., 1907; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 99—119; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

*І.П.Хаўратовіч.*

## **ВІТЭЛІЙ** (Vitellius) Эразм [Цёлк; 1474(?) — 9.9.1522]

Дзяржаўны, рэлігійны і культурны дзеяч Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, публіцыст; адзін з высокаадукаваных людзей свайго часу, мецэнат. Нарадзіўся ў Кракаве ў беднай мяшчанскай сям'і. У 1487 скончыў Ягелонскі універсітэт у Кракаве ў званні бакалаўра; у 1491 атрымаў навуковую ступень магістра. З 1492 жыў у Літве. Быў служыцелем культу ў Вільні і Плоцку, сакратаром велікакняжацкай канцылярыі. У віленскі перыяд жыцця, паміж 1492—1501, завязалася дружба з М.*Гусоўскім*, які быў яго сакратаром і якога ён апекаваў. Як фаварыт вялікага князя *Аляксандра* В. хутка зрабіў бліскучую кар'еру — ад канцылярыста да біскупа, палітыка, дыпламатычныя здольнасці якога высока цанілі ў заходнееўрапейскіх краінах. Неаднаразова (у 1501, 1505, 1518—21) узначальваў дыпламатычныя місіі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ў Ватыкан з мэтай стварыць кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі і Крымскага ханства. Бліскучыя палітычныя прамовы В. ў Ватыкане ў 1501, 1505 і ў Аўсбургу ў 1518 садзейнічалі росту яго вялікага міжнароднага аўтарытэту як дыпламата і прамоўцы. Вядомыя італьянскія і нямецкія паэты і вучоныя прысвячалі яму свае працы. На яго пасольскі двор, дзе знаходзіліся школа-інтэрнат, багатая асабістая бібліятэка, з'язджаліся славутыя людзі з Італіі, Германіі, Польшчы, Беларусі. Сваёй дзейнасцю, узвышэннем, дасягнутым дзякуючы ўласным здольнасцям, ён паказваў прыклад служэння радзіме, адстойваў прынцып сацыяльнай роўнасці людзей у адпаведнасці з натуральным правам. Польская арыстакратыя і шляхта не маглі гэтага дараваць В. і, калі ён пачаў дамагацца пунсовай мантыі кардынала, паўсталі супраць яго кандыдатуры на Петракоўскім сойме (1519). У 1521 Жыгімонт І вызваліў В. ад абавязкаў пасла ў Рыме, і ён застаўся там як палітычны эмігрант. На грабніцы В. ў храме св. Марыі дэль Попала ў Рыме выбіта эпітафія, напісаная Гусоўскім. В. славіўся як збіральнік рукапісаў. У яго бібліятэцы захоўваўся помнік беларуска-літоўскага летапісання 15 ст. «Origo regis». У публіцыстыцы выявіў рэнесансава-гуманістычныя грамадска-палітычныя погляды, абараняў прынцып роўнасці ў нацыянальных адносінах. Адной з найважнейшых сваіх задач лічыў папулярызацыю на агульнаеўрапейскай арэне гісторыі і культуры Усходняй Еўропы, у прыватнасці беларускага і літоўскага народаў, увядзенне іх у летапіс гуманістычнай культуры Еўропы. Услаўляў гісторыю, побыт і культуру Беларусі і Літвы. Любіў Беларусь, шмат падарожнічаў, наведаў Мір, Слонім, інш. гарады і мястэчкі, пра што сведчаць запісы ў яго дзённіку за 1499—1508. Яго эпісталярная спадчына, дыпламатычныя прамовы і выступленні ў 1518 і 1519 выдадзены на лацінскай мове ў Аўсбургу і Рыме, а пазней у «Актах Таміцыяна» і інш. выданнях.

*Літ.:* Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979.

*З.П.Кузьмічэнка.*

## **ВОЛАН** (Волян) Андрэй (1530—1610)

Палітычны дзеяч, філосаф і правазнаўца, адзін з заснавальнікаў свецкага кірунку ў сацыяльна-палітычнай думцы, ідэолаг рэфармацыйнага руху на Беларусі і ў Літве. Адукацыю атрымаў ва універсітэтах Франкфурта-на-Одэры і Кёнігсберга. Выбіраўся паслом ад шляхты Ашмянскага пав. ў сойм Рэчы Паспалітай. Быў сакратаром у вялікага князя літоўскага і караля Польшчы *Жыгімонта II* Аўгуста. Зрабіў значны ўклад у развіццё грамадскай, палітычнай і прававой думкі на Беларусі і ў Літве. Аўтар каля 30 прац (палеміка-тэалагічныя творы, палітыка-прававыя і этычныя трактаты, прамовы). Пісаў на лацінскай мове. У рэлігійна-палемічных творах з пазіцый кальвінізму рэзка крытыкаваў асноўныя догмы, арганізацыйную будову каталіцкай царквы і папскай улады. Адстойваў прынцыпы верацярпімасці. Вёў палеміку з езуітамі, выкрываў рэакцыйны характар іх дзеянняў. Яго творы былі занесены ў Індэкс забароненых кніг. Антыкаталіцкія працы В. перавыдаваліся гугенотамі Францыі і пратэстантамі Германіі. Гуманістычную накіраванасць маюць яго працы: «Пра палітычную або грамадзянскую свабоду» (Кракаў, 1572), «Прамова да сената...» (1572, выд. 1906, Кракаў), «Пра шчаслівае жыццё, або Найвышэйшае чалавечае дабро» (Вільня, 1596), «Пра гасудара і ўласцівыя яму дабрачыннасці» (Гданьск, 1608). У іх выступаў за рэформы ў сацыяльных і палітычных адносінах, праве і дзяржаўным кіраванні, распрацоўваў канцэпцыю свабоды чалавека (абарона маёмасці, асабістай бяспекі, усеагульнай згоды і міру ў грамадстве). У творчасці В. развіты некаторыя ідэі, выказаныя ў свой час Ф.*Скарынам*. Ён імкнуўся да вырашэння грамадскіх супярэчнасцей на маральным, фармальна-юрыдычным узроўні, рацыянальнай і мэтанакіраванай дзейнасці саслоўяў, сацыяльных груп, кіруючых колаў на чале з манархам. Ідэалагічнымі лозунгамі абвяшчаў агульную карысць і сацыяльную гармонію. Звяртаўся да тэорыі натуральнага права і выкарыстоўваў для яе характарыстыкі раннехрысціянскі маральны прынцып: «І гэтак ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так і вы абыходзьцеся з імі». В. не абмяжоўваўся аналізам сацыяльнай рэчаіснасці праз прызму абноўленага хрысціянства і асветніцтва, а імкнуўся знайсці натуральныя прычыны існавання рэчаў і з'яў. Таму дзяржаву, права і інш. сацыяльна-палітычныя інстытуты ён разглядаў як вынік чалавечай дзейнасці, аб'екты ўвасаблення рацыянальных пошукаў і мудрасці людзей, што падкрэслівала яго прыхільнасць да свецкага складу мыслення.

*Літ.:* Сокол С.Ф. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974; Падокшын С.А., Шатон В.К. Андрэй Волан і яго трактат «Пра шчаслівае жыццё, або Найвышэйшае чалавечае дабро» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. №1. *С.Ф.Сокал.*

# Г 

## ГАБРЫЛОВІЧ Станіслаў (? — каля 1579)

Дзяржаўны і царкоўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага 16 ст. Звестак пра дату і месца нараджэння не захавалася. Архідыякан віленскі. Добра ведаў тэалогію, кананічнае і, магчыма, свецкае права, таму што ў 16 ст. сярод віленскіх канонікаў былі вучоныя спецыялісты ў розных галінах навуковых ведаў. Меў вялікую бібліятэку, якая пасля яго смерці дасталася Віленскай капітуле. Прымаў удзел у стварэнні Статута Вялікага княства Літоўскага 1588, праца над якім была выклікана разуменнем мэтазгоднасці і неабходнасці рэформ, што адпавядалі інтарэсам шляхты, для ўмацавання саслоўнай дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага. *Г.В.Дзербіна.*

## ГАЛЬШАНСКІЯ

Старажытны княжацкі род, прадстаўнікі якога займалі высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім і адыгралі значную ролю ў развіцці культуры і асветы. Іх радавым гняздом быў Гальшанскі замак недалёка ад Ашмян. Найбольш вядомыя прадстаўнікі роду: Іван (упамінаецца ў крыніцах у 1379—1401), Андрэй Вязынскі [каля 1365(?) — каля 1410], Ся-

мён Люты (? — 1433), Міхаіл (? — 1433), Аляксандр (каля 1440—1511), Соф'я [1405(?) — 21.9.1461], Сямён Трабскі (? — ?), Юрый (каля 1410 — каля 1457), Сямён (каля 1445 — 1505), Юрый (каля 1480—1536), Павел (каля 1490—1555), Януш Дубровіцкі (каля 1505—49), Сямён [каля 1515(?) — 1556], апошні мужчынскі прадстаўнік роду Г.

Іван, сын Альгімунта, першы вядомы прадстаўнік роду Г., прыхільнік Вітаўта ў час яго барацьбы за велікакняжацкую ўладу, двойчы суправаджаў яго ў эміграцыю ў Прусію. Узначальваў пасольства, што адвозіла ў Маскву дачку Вітаўта Соф'ю, нявесту вялікага князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча. З 1392 — адзін з прыбліжаных вялікага князя Вітаўта, уваходзіў у велікакняжацкую раду. З 1396 — намеснік у Кіеве. Атрымаў ад Вітаўта вялікія воласці Глуск і Парэчча на р. Пціч, Дубровіцкае княства на р. Гарынь (Украіна). Яго дачка Ульяна з 1418 была жонкай вялікага князя Вітаўта.

Павел, сын Аляксандра, адзін з найбольш таленавітых прадстаўнікоў роду Г. У 1504 вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, дзе праявіў вялікія здольнасці да філасофіі. Пазней вучыўся ў Рыме (упамінаецца ў 1512). Пасля вяртання ў Вялікае княства Літоўскае стаў прэлатам-архідыяканам касцёла святога Станіслава ў Вільні. Выхавацель будучага вялікага князя Жыгімонта Аўгуста. З 1530 — біскуп луцкі, з 1536 — віленскі. Адыгрываў значную ролю ў дзяржаўным і грамадскім жыцці Вялікага княства Літоўскага, актыўна супрацьдзейнічаў Рэфармацыі. Ад бацькі і маці ўнаследаваў вялікую частку радавых вотчын Г. і судзімонтаўскай спадчыны (Воўпа, Лебедзева, Дунілавічы, Хожава, Станькава, Жыцін), якія ён разам з інш. маёнткамі завяшчаў вялікаму князю.



*Кракаўскі універсітэт.*

*Літ.:* Хроника Быховца. Мн., 1966; Polski slownik biograficzny. T. 9/4. z. 43. Wrocław, etc., 1961; Ochmański J. Biskupstwo wilenskie w sredniowieczu. Poznan, 1972. S. 16—17. *В.Л.Насевіч.*



*Гальшанскі палац. З малюнка Н.Орды. 19 ст.*

## ГАРАБУРДА
## Васіль Міхайлавіч

Беларускі друкар і кнігавыдавец 16 ст. Большасць даследчыкаў лічаць яго сынам дыпламата, дзяржаўнага сакратара Вялікага княства Літоўскага Міхайлы *Гарабурды*. Аднак у завяшчанні апошняга Васіль названы «сыноўцам» (пляменнікам). Праўдападобна, што Васіль — сын Анцуты (Міхайлы) Гарабурды, дробнага гаспадарскага шляхціца, уладальніка маёнтка Макрэц (Гродзенскі пав.). Гарабурды мелі цесныя сувязі з І.*Фёдаравым*, П.*Мсціслаўцам*, *Мамонічамі*, А.*Курбскім*, А.*Валовічам* і інш. культурнымі і палітычнымі дзеячамі, якія падтрымлівалі беларускае кнігадрукаванне і асвету. Пры іх дапамозе, магчыма, пры непасрэдным удзеле Мамонічаў, Г. арганізаваў друкарню ў Вільні. Каля 1580 выдаў «Евангелле вучыцельнае» — блізкую копію заблудаўскага 1569, у 1582 — «Актоіх» («Васьмігалоснік») з пасляслоўем, падпісаным ім. Г. працягваў выдавецкія традыцыі Заблудаўскай друкарні, выдаваў кнігі на царкоўнаславянскай мове буйным фарматам, у 2 колеры. Раслінны арнамент заставак у кнігах нагадвае львоўска-маскоўскія ўзоры Фёдарава. Выхадныя звесткі кнігі «Васьмігалоснік» дадзены ў двух каляндарных стылях, як у некаторых віленскіх выданнях Скарыны. Захавалася каля 35 экземпляраў кніг Г. Друкарня яго перайшла да Мамонічаў, якія з 1583 узнавілі выдавецкую дзейнасць. Не выключана, што Г. — адзін з тых друкароў, якім гэта друкарня была абавязана сваім доўгім і прадукцыйным існаваннем.

*Літ.:* Анушкин А.И. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Зернова А.С. Типография Мамоничей в Вильне (XVII) // Книга: Исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1. *Г.Я.Галенчанка.*

## ГАРАБУРДА Міхаіл
## (? — 12.7.1586)

Дыпламат і выдавец, дзяржаўны сакратар Вялікага княства Літоўскага, кашталян менскі (1585), адзін з кіраўнікоў праваслаўнай партыі. Як член пасольства Вялікага княства Літоўскага вёў мірныя перагаворы з рускай дзяржавай. На сустрэчы з Іванам IV Грозным (1579) дамаўляўся аб выбранні яго ці яго сына Фёдара каралём Рэчы Паспалітай. У 1581—83 удзельнічаў у мірных перагаворах з рускай дзяржавай, якія прывялі да заканчэння Лівонскай вайны. У 1584 вёў перагаворы з рускім пасольствам, якое прыехала да караля Стафана Баторыя, у 1585 ездзіў у Маскву, каб абгаварыць умовы магчымага аб'яднання Вялікага княства Літоўскага і рускай дзяржавы. Удзельнічаў у выданні Астрожскай бібліі (1581), у аснову якой быў пакладзены спіс Генадзеўскай бібліі, вывезены ім з Масквы.

*Літ.:* Соловьёв С.М. История России с древнейших времён. Кн. 3 (т. 5—6). М., 1960.

## ГАШТОЛЬД Альбрэхт
## (? — 1539)

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Паходзіў з магнацкага (з 1529 графскага) роду, прадстаўнікі якога ў 14—16 ст. займалі высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім і валодалі буйнымі маёнткамі ў Літве і на Беларусі. У 1503—06 намеснік навагрудскі, у 1505—08 падчашы літоўскі; ваявода навагрудскі з 1508, полацкі з 1513, трокскі з 1519, віленскі і канцлер Вялікага княства Літоўскага з 1522, староста мазырскі ў 1515, барысаўскі ў 1525. У 1507 удзельнічаў у абароне Смаленска ад маскоўскага войска, прымаў удзел у бітве пад Оршай (1508). У 1511 неабгрунтавана абвінавачаны ў сувязі са змовай М.Глінскага і зняволены ў турму, але на Брэсцкім сойме апраўданы. На Віленскім сойме 1529 абвясціў *Жыгімонта II* Аўгуста наследнікам трона Вялікага княства Літоўскага. Як прадстаўнік алігархіі Вялікага княства Літоўскага стаяў за незалежнасць княства ад Польшчы. Быў у апазіцыі да польскай каралевы Боны і ў процівагу імкнуўся зблізіцца з Габсбургамі і прускім князем Альбрэхтам. У 1536 у звароце да Боны выказаўся супраць увядзення ў Вялікім княстве Літоўскім польскай судовай сістэмы. Удзельнічаў у рэдагаванні Статута Вялікага княства Літоўскага 1529. Быў мецэнатам мастакоў і аматарам мастацтва Адраджэння. Меў багатую бібліятэку, у якой былі кнігі лацінскія, польскія, чэшскія, а найбольш кірылічныя славянскія. Кнігазбор Г. перайшоў у віленскую біблі-

ятэку Жыгімонта II Аўгуста. Заснаваў капліцу Гаштольдаў пры Віленскім кафедральным саборы. *Г.А.Маслыка.*

## ГВАНЫНІ (Guagnini) Аляксандр (1534—1614).

Гісторык. Нарадзіўся ў г. Верона, Італія. З 1550-х гадоў служыў ротмістрам у войску Вялікага княства Літоўскага. Удзельнік Лівонскай вайны 1558—83, камендант Віцебска. Выдаў «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі» на лацінскай (1578, 1581) і польскай (1611) мовах, у якой даў шмат звестак па гісторыі і геаграфіі Вялікага княства Літоўскага. Ёсць апісанні матэрыяльнай і духоўнай культуры, звычаяў і абрадаў насельніцтва Беларусі, галоўным чынам Верхняга Падняпроўя, гарадоў і крэпасцей Беларусі. Гістарычныя звесткі пра Беларусь у асноўным запазычаны з «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М.*Стрыйкоўскага.*

*Літ.:* Витебская старина (Сост. А.П.Сапунов. Т. 4. Витебск, 1885; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. *І.У.Чаквін.*




Старажытны герб Вільні.

## ГЕДЗІМІН [1275(?) — 1341]

Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1316—41. Найбольш верагодна, паходзіў ад полацкіх князёў. Яго брат Воін (хрысціянскае імя Васіль) быў полацкім князем. Велікакняжацкі прастол Г. заняў пасля смерці брата Віценя. Княжыў 15 гадоў,



Руіны замка на гары Гедзіміна ў Вільні.

бацька сямі сыноў, у т.л. *Альгерда*, Кейстута, Яўнуты, Любарта. Заснавальнік дынастыі Гедзімінавічаў. Яго палітыка была накіравана галоўным чынам на ўнутранае і знешняе ўмацаванне Беларуска-Літоўскай дзяржавы і расшырэнне яе тэрыторыі. Галоўнай знешняй пагрозай на той час была агрэсія Тэўтонскага ордэна, што вымусіла Г. заключыць у 1322 саюз з мазавецкім князем, а ў 1325 — з каралём Польшчы. Выкарыстоўваючы супярэчнасць паміж Рыгаю і ордэнам, Г. нанёс крыжакам шэраг паражэнняў, у т.л. найбольшае ў 1331. У сваёй дзейнасці ўлічваў інтарэсы беларускіх феадалаў і арыентаваўся пераважна на іх падтрымку. Беларускіх феадалаў (Давыда Гарадзенскага, Васіля Полацкага і інш.) прызначаў на важныя пасады, даваў дыпламатычныя і вайсковыя даручэнні. Усё гэта спрыяла мірнаму далучэнню да Беларуска-Літоўскай дзяржавы Віцебскай, Берасцейскай, Мінскай, Турава-Пінскай і інш. зямель Беларусі. Ён фактычна завяршыў аб'яднанне беларускіх і літоўскіх зямель, пачатае вялікімі князямі Міндоўгам [каля 1230—63] і Віценем [1203—1315]. Меў уплыў на Кіеў і Смаленск, з 1340 на Валыні княжыў яго сын Любарт. Супрацьстаяў аб'ядначай палітыцы маскоўскага князя Івана Каліты, змагаўся за ўплыў на Пскоў і Ноўгарад. У 1323 ён перанёс сталіцу Вялікага княства Літоўскага з Навагародка (Навагрудка) у Вільню, размешчаную на літоўска-беларускім этнічным памежжы. Тытулаваў сябе «вялікім князем літоўцаў і рускіх». Удасканальваў вайсковую справу, будаваў манументальныя крэпасці, культавыя пабудовы (пры ім на Беларусі заснаваны Лідскі, Крэўскі, Навагрудскі, Гродзенскі, Віленскі і інш. замкі). У гэты час ствараліся выдатныя творы прыкладнога мастацтва, скульптуры, багатыя рукапісныя кнігі (Аршанскае, Мсціслаўскае, Друцкае, Лаўрышаўскае евангеллі, Смаленскі псалтыр), летапісы і інш. У гарадах Г. сяліў замежных рамеснікаў (з гэтым звяртаўся да ганзейскіх гарадоў), заключыў некалькі гандлёвых пагадненняў з Рыгаю, расшырыў дыпламатычныя сувязі з інш. дзяржавамі. Палітычная цэнтралізацыя ў дзяржаве паскорыла сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё Беларуска-Літоўскай дзяржавы, спрыяла фарміраванню беларускай, літоўскай і ўкраінскай народнасцей. Хоць быў язычнікам (ёсць звесткі, што ў канцы жыцця прыняў хрысціянства паводле каталіцкага абраду), вёў палітыку верацярпімасці, 5 яго сыноў прынялі праваслаўе. Загінуў пры асадзе нямецкай крэпасці Баербург. Улада ў дзяржаве з гэтага часу стала спадчыннай. Пасля смерці Г. вялікім князем стаў яго малодшы сын Яўнут, а з 1345 — другі сын Альгерд.



*Пахаванне Гедзіміна.*

*Літ.:* Д а ш к е в и ч Н. Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885; Л ю б а в с к и й М.К. Очерки истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; П а ш у т о В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959; В а с и л е в с к и й В.Г. Обращение Гедымина в католичество // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1846. Ч. 49, февр.

*І.П.Хаўратовіч.*

## ГУСОЎСКІ Мікола [1470(?) — 1533(?)]



Паэт-гуманіст і асветнік эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай усходнееўрапейскай школы, дзеяч славянскай культуры. З сям'і паляўнічага. Адукацыю атрымаў на Беларусі, паглыбляў веды ў Вільні, Польшчы, Італіі. Вялікую ролю ў яго лёсе адыграў мецэнат Э.Вітэлій — сакратар вялікакняжацкай канцылярыі, біскуп плоцкі. У 1518 у складзе польска-літоўскай дыпламатычнай місіі, якую ўзначальваў Вітэлій, Г. трапіў у Рым. У Італіі канчаткова сфарміраваліся яго творчыя індывідуальнасць і літаратурнае крэда. Выконваючы заказ Вітэлія для папы Льва X, які хацеў пачуць праўдзівае паэтычнае слова пра паляванне на зуброў, Г. стварыў у 1522 у Рыме свой лепшы твор «Carmen de statura feritate ac venatione bisontis» («Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго»), дзе выклаў шматгранную ідэйна-эстэтычную, педагагічна-асветніцкую праграму. У 1528 у Кракаве выдаў у друкарні Ераніма Віетэра паэтычны зборнік «Песня пра зубра», які складаўся з празаічнага прысвячэння, аднайменнай паэмы і 11 вершаў, напісаных пераважна ў рымскі перыяд. У прысвячэнні, адрасаваным каралеве Боне, паэт прасіў яе ўзяць на сябе дзяржаўнае апякунства над таленавітымі і спрактыкаванымі ў навуцы і мастацтве людзьмі. Паэт змог прыўзняцца над вузкасаслоўным, каставым мысленнем і выступіў як выразнік перадавых грамадска-палітычных і эстэтычных поглядаў таго часу і папулярызатар гісторыі і культуры Беларусі і Літвы на сусветнай арэне, прадстаўнік рэнесансавага рэалізму. У паэме яскрава выражаны патрыятычны заклік да яднання і дружбы розных па веры і культуры еўрапейскіх народаў перад пагрозай турэцкага і татарскага нашэсця, услаўленне дзейснай, свабоднай, гарманічна развітой і мужнай асобы, ідэя патрыятызму і антываенны пафас, рэнесансава-утапічная канцэпцыя гарманічных узаемадачыненняў чалавека, грамадства і прыроды, міждзяржаўных адносін. Усе часткі твора аб'яднаны тэмай лёсу радзімы, адданасці роднай зямлі. Г. стварыў мастацка-гістарычны гімн прыгажосці сваёй зямлі. Зубр у паэме — алегарычны вобраз роднага краю, сімвал яго былой магутнасці. Вялікая заслуга Г. ў пастаноўцы ім праблемы аховы прыроды, беражлівых адносін да яе, рацыянальнага выкарыстання і памнажэння прыродных багаццяў радзімы. Для Г. прырода — усенародны здабытак і крыніца здароўя, радасці, выхавання высокіх патрыятычных і эстэтычных пачуццяў. Паэт першы ў славянскай літаратуры ўбачыў і адлюстраваў пачатак крызісу сацыяльна-палітычнага ладу Вялікага княства Літоўскага, крытыкаваў сацыяльна-класавую палітыку Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, быў выразнікам настрояў баяр, шляхты і гараджан. Унутраная супярэчлівасць светапогляду Г. ў абстрактнасці яго гу-




*«Кармэн» («Песня пра зубра») М.Гусоўскага (вокладка). 1523.*

манізму, супярэчнасці паміж верай і ведамі, артадоксіяй і вальнадумствам, ідэалізмам і стыхійным матэрыялізмам. З абурэннем паэт пісаў пра пакуты простага народа. З мэтай маральна-этычнага ўдасканалення грамадства, павышэння яго адукаванасці Г. прапагандаваў сістэму лацінскай еўрапейскай адукацыі («сем свабодных навук»).

У войнах паэт бачыў адну з найважнейшых прычын няшчасцяў чалавецтва, пакут радзімы і народа. Ён заклікаў спыніць міжусобіцы паміж уладарамі хрысціянскай Еўропы, прапаведаваў роўнасць народаў. Грамадзянскай пазіцыяй пісьменніка ён лічыў абуджэнне нацыянальнай свядомасці свайго народа. Г. даў цудоўныя ўзоры грамадзянскай патрыятычнай лірыкі. Заклікаў суайчыннікаў задумацца над цяжкім становішчам радзімы, усвядоміць, што галоўны яе біч — гэта палітыка ўладароў. Пясняр прыроды, працы і свабоднага чалавека ў беларускай і ўвогуле ўсходнееўрапейскай літаратуры, Г. выказаў замілаванасць і гарачую любоў да роднай зямлі. Ярка паказаў жыццё мужных, працавітых людзей, паляўнічых, ратнікаў, ботнікаў, аратых, іх працоўную і ратную дзейнасць, побыт і звычаі, ідэалізаваў вобраз вялікага князя Вітаўта. У народнай мудрасці ён бачыў невычэрпную крыніцу паэзіі, інфармацыі і адну з прычын стойкасці народнага духу. Паэт паклаў пачатак збіранню народнай мудрасці беларусаў. Ён авалодаў скарбамі беларускага народнага гумару, прынцыпамі яго выкрывальнага ўздзеяння, выступаў супраць тых, хто лічыў, што вучоная лацінская паэзія па сваім характары несумяшчальная з творчасцю народа. «Песня пра зубра» напісана ім на класічнай латыні, але ў ёй ёсць прыкметы жывой беларускай мовы. Паэзія Г. паўплывала прама ці апасродкавана на станаўленне гістарыяграфіі Вялікага княства Літоўскага, росквіт лацінскай, уласнабеларускай, польскай і польска-беларускай літаратур, на развіццё такіх жанраў ва ўсходнееўрапейскай літаратуры, як лірыка-эпічная, гістарычная і сатырычная паэма, элегія, эпіграма.

Г. — таксама аўтар паэмы «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы» (Кракаў, 1524), створанай ім за дзень па гарачых слядах падзей. Напісаная хворым, спакутаваным ад неўладкаванасці жыцця чалавекам, яна здзіўляе сілай мастацкага асэнсавання народнага подзвігу. Паэт ганарыцца, што перамога над туркамі пад Трамбоўлем здабыта народным апалчэннем. Гэты твор зрабіў прыкметны ўплыў на развіццё жанру гераічнай паэмы і хронікі ў літаратурах Беларусі, Польшчы і Літвы.

У кракаўскі перыяд ім створана і паэма «Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта» (1525). У яе прысвячэнні кракаўскаму ваяводу Хрыстафору з Шыдлоўца паэт гаворыць пра неабходнасць «адкрыцця» спраў славутых людзей мінулага для папулярызацыі іх жыцця. У гэтым дыдактычна-рэлігійным творы аўтар прапаведаваў хрысціянска-гуманістычны подзвіг як служэнне народу. У разуменні Г. Польшча і Русь складаюць адзінае цэлае — славянскі рэгіён.

Таму вобраз Гіяцынта, дзейнасць якога праходзіла ў Польшчы і на Русі, дарагі сэрцу паэта ідэйнай сутнасцю. Многія радкі паэмы — гімн чалавечаму розуму, духоўнай велічы. Паэма сцвярджала адзінства лепшых прынцыпаў раннехрысціянскай маралі, ідэалаў народнай этыкі і рэнесансавых элементаў і адмаўляла мараль пануючых класаў. У гэтым выявіліся дэмакратызм, народнасць светаўспрымання, публіцыстычнасць і грамадзянская мужнасць Г.

*Тв.:* Песня пра зубра / Пер. з лац. Я.Семяжон. Мн., 1973; Песня пра зубра. Мн., 1980.

*Літ.:* Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстет. мысли в Белоруссии в XIV—XVIII вв.). Мн., 1978; Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979; Порецкий Я.И. Николай Гусовский. Мн., 1984.

*В.І.Дарашкевіч.*



## ДАМАНЕЎСКІ (Даманоўскі) Фабіян

Беларускі мысліцель-гуманіст і паэт эпохі позняга Адраджэння і барока, ідэолаг нонадарантызму 2-й паловы 16 ст. Крытыкаваў Біблію, лічыў Хрыста не Богам, а простым чалавекам, адмаўляў неўміручасць душы. У 1589 разам з С.*Будным* вёў дыспут з езуітамі ў Полацку, даказваў, што душа чалавека пасля смерці гіне разам з целам. У спрэчцы Буднага з плябейска-сялянскімі ідэолагамі антытрынітарызму пра свецкую ўладу падтрымліваў пункт погляду Буднага. Аўтар верша на польскай мове «Эпіграма на герб Лясот», надрукаванага ў кнізе С.Буднага «Пра свецкую ўладу» (1583). У творы выказваў думку, што ўлада ў сваіх учынках павінна кіравацца розумам і маральнымі дабрачыннасцямі.

*Літ.:* Подокшин С.А. Скорина и Будный: Очерки филос. взглядов. Мн., 1974. С. 121—122.

## ДАМАНЕЎСКІ Ян (? — 1563)

Прававед, рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага 16 ст. Звестак пра час і месца нараджэння не захавалася. Быў суддзёй Віленскага апеляцыйнага суда для гарадоў з магдэбургскім правам. Прымаў удзел у распрацоўцы праекта Статута Вялікага княства Літоўскага 1566. Магчыма, Д. як радны пан (член рады) быў старшынёй Статутнай камісіі, зацверджанай Віленскім соймам 1551 для распрацоўкі праекта новага Статута. Узначаліць Статутную камісію мог хутчэй за ўсё чалавек, які карыстаўся аўтарытэтам як палітык, дзяржаўны дзеяч, прафесіянал, валодаў царкоўна-адміністрацыйным вопытам і ведамі кананічнага і магдэбургскага права. Д. не змог закончыць работу па рэформе заканадаўства (памёр у 1563), але бясспрэчна, што з яго ўдзелам вызначана канцэпцыя новага заканадаўства Вялікага княства Літоўскага, якая адпавядала патрабаванням свайго часу і абараняла суверэнітэт дзяржавы. *Г.В.Дзербіна.*

## ДАНІЭЛЬ З ЛАНЧЫЦЫ,

гл. *Ланчыцкі* Даніэль

## ДАРАГАСТАЙСКІ Крыштоф Мікалай (мянушка Манавід, граф Лялiва; 2.3.1562 — 3.8.1615)

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, кальвініст. Адукацыю атрымаў у Страсбургу і Фрыбуры (Швейцарыя). З 1597 займаў пасады маршалка вялікага літоўскага, старосты ваўкавыскага, шарашоўскага, лепельскага. Аўтар кнігі «Гіпіка» — першага ў Рэчы Паспалітай дапаможніка па конегадоўлі (1603, Кракаў; у 17—18 ст. неаднаразова перавыдавалася). У гэтым творы выкарыстаны звесткі старажытных вучоных, шмат спасылак на Плінія, Арыстоцеля, Гіпарха, ва ўласным перакладзе прыведзены ўрыўкі паэтычных твораў Вергілія. Кніга ілюстравана выдатнымі гравюрамі Т.*Макоўскага.* Каля 1615 у маёнтку Ашмяна Мураваная (каля в. Мураваная Ашмянка Ашмянскага раёна) на яго сродкі заснавана друкарня, у якой у тым жа годзе выдадзена 6 палемічных кніг мясцовага казнадзея (прапаведніка-евангеліка) В.Салінарыуса

«Цэнзура», накіраваных супраць выданняў ракаўскіх сацынян.

*Літ.:* Парэцкі Я.І. «Гіпіка» Дарагастайскага // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. №3. *Я.І.Парэцкі.*

# Е



## ЕЎЛАШОЎСКІ

(Еўлашэўскі) Фёдар Міхайлавіч (7.2.1546 — пасля 1616)

Мемуарыст, беларускі грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Ляхавічах у мнагадзетнай праваслаўнай сям'і. Яго бацька Міхаіл — прадстаўнік даўняга баярскага роду, які з часам збяднеў, але пры фарміраванні шляхецкага саслоўя здолеў атрымаць набілітацыю, карыстаўся ўласным гербам. Надзелены ад прыроды кемлівым розумам, Е. шляхам самаадукацыі яшчэ ў юнацтве набыў параўнальна шырокія і глыбокія веды ў матэматыцы, справаводстве і юрыспрудэнцыі, дзякуючы чаму карыстаўся выключнай павагай у сучаснікаў. З 18 гадоў пачаў самастойнае жыццё, тады ж стаў прыхільнікам, хоць і непаслядоўным, моднага ў той час пратэстантызму. Адукаваны юнак хутка звярнуў на сябе ўвагу не толькі мясцовых паноў і падпанкаў, але і такіх знатных магнатаў, як М.Радзівіл, Я.*Хадкевіч*, К.*Астрожскі*, якія, не зважаючы на яго адносную беднасць, даручалі яму весці важныя судовыя справы ва ўсіх інстанцыях. Прымаючы пад увагу юрыдычныя здольнасці і багаты практычны вопыт свайго земляка, яго вядомасць пры каралеўскіх дварах *Жыгімонта II* Аўгуста, *Стафана Баторыя* і Жыгімонта III Вазы, а таксама ўдзел у Люблінскім сойме 1569, навагрудская шляхта ў 1579 паслала Е. сваім павятовым паслом на Варшаўскі вальны сойм. Там яму як дзяржаўнаму чыноўніку (паводле каралеўскага прывілея Стафана Баторыя ён з 1577 займаў пасаду пінскага і сервецкага мастаўнічага) разам з навагрудскім суддзёй А.Трызнам было даручана прыняць удзел у выпрацоўцы тэксту «Трыбунала Вялікага княства Літоўскага». А калі ў 1592 у навагрудскім земскім судзе аказалася вакантным месца падсудка, у ліку чатырох іншых прэтэндэнтаў ваяводская шляхта абрала яго сваім кандыдатам. З іх Жыгімонт III выбраў менавіта Е., які займаў гэту пасаду да 1613.









*Пячатка Ф.Еўлашэўскага.*

У 1603 Е. ўзяўся за пяро, каб пакінуць нашчадкам звесткі пра сваё жыццё, асабістыя ўражанні ад грамадска-палітычных падзей, якія здаваліся вартымі ўвагі. У яго ўспамінах створана цэлая галерэя вобразаў дробнай і сярэдняй шляхты Вялікага княства Літоўскага 2-й паловы 16 — пач. 17 ст. Мемуары носяць пераважна аўтабіяграфічны характар, факты ў іх пададзены ў строга храналагічнай паслядоўнасці, што паслужыла падставай пазнейшым даследчыкам называць іх дзённікам. З твора вынікае цікавасць мемуарыста да побыту сярэдняга чалавека, да поглядаў сваіх суайчыннікаў, іх сацыяльнага жыцця і грамадскіх узаемаадносін.

Жыў Е. ў складаны і напружаны час, калі Вялікае княства Літоўскае было арэнай вострых саслоўна-класавых супярэчнасцей і непрымірымай ідэалагічнай барацьбы, калі пытанні рэлігіі вылучаліся на авансцэну дзяржаўнай палітыкі Рэчы Паспалітай, што выклікала незадаволенасць у розных слаёў грамадства і вяло да ўзнікнення сялянска-казацкіх паўстанняў і шляхецкіх мяцяжоў. Аднак, як сведчыць

тэкст успамінаў, аўтар не выказаў асаблівай цікавасці да палітычных падзей таго часу, хоць яму паводле характару службы часта даводзілася сутыкацца з featuresнымі дзеячамі Рэчы Паспалітай. Пытанні вялікай палітыкі ён адносіў да кампетэнцыі вялікіх паноў, выбраных дзеля гэтага самім Богам. Таму, нават закранаючы некаторыя падзеі палітычнага жыцця, сваю абыякавасць да іх ён тлумачыў тым, што не мае намеру паўтараць сказанае іншымі людзьмі, абмяжоўваўся заўвагай: «Опускаю то, яко ведучы, достаточне то от иншых выписано». Мемуары сведчаць аб памяркоўным лібералізме аўтара, яго падкрэсленым мясцовым патрыятызме. Усведамляючы сябе грамадзянінам Вялікага княства Літоўскага, Е. ганарыўся яго грамадскімі дзеячамі і пры кожным зручным выпадку імкнуўся проціпаставіць сваё, мясцовае, польскаму.

«Успаміны» Е. — своеасаблівы гісторыка-мемуарны зборнік цікавых, месцамі сюжэтна разгорнутых бытавых навел, у цэнтры якіх жывы, рэальны чалавек з уласцівымі яму рысамі характару і псіхалогіяй. Перад чытачом паўстае выразны вобраз самога аўтара — прыкладнога шляхціца, цудоўнага сем'яніна, пяшчотнага сына, які паважае бацькоў, любіць сваіх дзяцей, перажывае за іх лёс, не шкадуе часу, энергіі і сродкаў, каб лепш уладкаваць іх дабрабыт, хоць гэта і перашкодзіла здзейсніць яго юнацкую мару — наведаць іншыя краіны, папоўніць там свае веды, авалодаць рознымі рамёствамі. Вось чаму, калі ў канцы 16 ст. ў сувязі з падрыхтоўкай Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 у краіне разгарнулася ўпартая рэлігійная барацьба, калі пад уздзеяннем новых гістарычных умоў ламаліся старыя, традыцыйныя шляхецкія ўяўленні, калі ў грамадска-палітычным, нацыянальным, рэлігійным і культурным жыцці краіны «залаты век» шляхецкай вольнасці спараджаў непажаданыя парасткі сацыяльнага эгаізму і неўтаймаванага анархізму, супрацьстаяць якім быў бяссільны нават сам кароль, памяркоўна ліберальны Е. з асаблівай прыемнасцю ўспамінаў пра нядаўнія часы, поўныя рэлігійнай верацярпімасці.

Рукапіс мемуараў Е. збярогся ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Упершыню апублікаваны (са значнымі папраўкамі) у 1886 украінскім гісторыкам У.Антановічам.

*Тв.:* Дневник Новогородского подсудка Федора Евлашевского (1564—1604 года) // Киев. старина. 1886. Т. 14, янв.

*Літ.:* Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 59—60; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 206—209.

*А.Ф.Коршунаў.*

# Ж

## ЖЫГІМОНТ I (Зыгмунт Сігізмунд) Стары (1.1.1467—1.4.1548)



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы ў 1506—48, сын *Казіміра IV*, унук *Ягайлы*, малодшы брат *Аляксандра*. Мянушка «Стары» дадзена з прычыны, што яшчэ пры сваім жыцці (у 1530) дамогся каранацыі 10-гадовага сына, таксама Жыгімонта, які ўвайшоў у гісторыю як

*Жыгімонт II* Аўгуст. Ж. I не імкнуўся набываць новыя землі і расшыраць межы дзяржавы, а хацеў прывесці Беларуска-Літоўскую дзяржаву і Польшчу ў «добраўпарадкаваны стан». Як высакародны і мудры дзяржаўны правіцель ён найбольш клапаціўся пра дабрабыт і асвету сваіх падданых. Але жыццё вымушала яго адбіваць амаль пастаянныя нашэсці суседніх дзяржаў. Каля 10 гадоў вёў вайну з маскоўскім князем Васілём Іванавічам, у выніку якой рускія войскі ў 1514 захапілі Смаленск, Себеж і Завалочча. Пры далейшым іх наступленні палкаводзец Канстанцін Астрожскі на чале беларуска-літоўскага войска 8.9.1514 ушчэнт разбіў 80-тысячнае маскоўскае войска пад Оршай на р. Крапіўна. Гэту бліскучую перамогу над агрэсарам святкавала амаль уся Еўропа. Аднак паводле ўмоў мірнага дагавора 1522 Смаленск застаўся за Масквой. Ваенныя сутычкі адбываліся і з крыжакамі, нягледзячы на тое, што гросмайстрам нямецкага ордэна Ж. I паставіў свайго пляменніка Альбрэхта. Каб канчаткова прывязаць Альбрэхта да Польшчы, Ж. I даў яму званне князя прускага і зацвердзіў герб Прусіі — чорны арол. Такім чынам крыжацкі Тэўтонскі ордэн быў канчаткова пераўтвораны ў свецкае Прускае герцагства, у пэўнай ступені падвасальнае Польшчы і Вялікаму княству Літоўскаму. Лютэранства, прынятае ў Германіі і Прускім княстве, пачало хутка пашырацца ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. Са смерцю ў 1526 апошняга мазавецкага князя Мазовія таксама была далучана да Польшчы. Ж. I адмовіўся ад прапанаванай яму венгерскай кароны, што стала адной з прычын пераходу Венгрыі і Чэхіі да Габсбургаў.



*Жыгімонт I Стары дае прывілеі акадэмікам.*



Ніжні замак. Рэзідэнцыя вялікіх князёў ВКЛ у Вільні.

У 1509, калі на ўкраінскія землі напаў малдаўскі гаспадар Багдан, каронны гетман М.Камнецкі ўчыніў рэйд па Малдавіі, а потым разбіў малдаўскае войска на Днястры. У час другога нападу Багдана Ж. I абвясціў паспалітае рушэнне (усеагульнае ўзбраенне) і сабраў супраць яго 150-тысячнае войска. У 1512 К.Астрожскі разбіў войска крымскіх татараў пад Вішняўцом. Вольнае казацтва паўднёвай Украіны і Запарожжа Ж. I рэарганізаваў у рэстравае войска, цэнтрам якога стала Запарожская Сеч. Паводле яго ўказа казацкі атаман Е.Ражанскі падзяліў рэстравых казакоў на 20 палкоў (па 2 тыс. чалавек, а палкі — на сотні). З гэтага часу казацтва стала заслонай ад пастаянных набегаў з поўдня — Крыма, Малдавіі, Турцыі.

Вялікую «цвёрдасць душы і мудрасць» Ж. I выявіў у тым, што за часы яго доўгага княжання не было ганенняў на іншаверцаў. Узнагароды за заслугі (староствы, маёнткі, пасады, чыны і званні) ён раздаваў вартым таго, не звяртаючы ўвагу на веравызнанне. Так, у 1522 ён прызначыў праваслаўнага князя К.Астрожскага ваяводам трокскім. Пры ім беларуская і украінская шляхта праваслаўнага веравызнання дабілася роўных правоў з магнатамі-католікамі. Шляхта дамаглася і выбарнасці (замест прызначэння) дэпутатаў у сойм. Ваенныя і фінансавыя рэформы з мэтай умацавання дзяржаўнай улады выклікалі ў 1537 супраць яго ўзброенае выступленне — пратэст магнатаў і шляхты (т.зв. «курыная вайна»). Дбаючы пра асвету сваіх падданых, Ж. I асабліва апекаваў Кракаўскі універсітэт, дзе былі выхаваны ў той час многія выдатныя паэты-лацiністы, багасловы, вучоныя, у іх ліку М.Капернік, Ф.Скарына. Прафесарам універсітэта ён дараваў правы высакародства (nobilitatis).

Для Беларусі перыяд праўлення Ж. I быў часам развіцця вытворчых сіл феадальнага грамадства, пэўнага эканамічнага прагрэсу. У барацьбе з буйнымі магнатамі ўзмацніла свае эканамічныя і палітычныя пазіцыі шляхта. Раслі і развіваліся гарады, многія з якіх набывалі самакіраванне паводле магдэбургскага права. У гарадах узніклі карпарацыйныя арганізацыі рамеснікаў — цэхі. З асяроддзя шляхты і гараджан пачала фарміравацца сацыяльная праслойка інтэлігенцыі. У гэты час практычна завяршыўся працэс фарміравання беларускай народнасці, з чым непасрэдна звязана развіццё беларускай культуры — літаратуры, мастацтва, архітэктуры. З гушчы рамёстваў вырастала мастацтва жывапісу, скульптуры, кнігадрукавання. У архітэктуры поруч з традыцыйнымі стылямі ўзніклі і развіваліся



Супрасльскі манастыр. Гравюра В.Грзнова. 19 ст.



*Супрасль. З малюнка 19 ст.*

рэнесансавыя элементы (замкі ў Міры і Вільні, цэрквы-крэпасці ў Сынкавічах, Супраслі, Маламажэйкаве, Заслаўі і інш.). На Беларусь усё больш шырока пранікалі ідэі заходняга Адраджэння, яго гуманізм, вальнадумства, патрыятызм. Развівалася і ўдасканальвалася беларуская мова — афіцыйная дзяржаўная мова Вялікага княства Літоўскага, на якой вялося дзяржаўнае і грамадскае справаводства, пісаліся заканадаўчыя акты, ствараліся мясцовыя і агульнадзяржаўныя летапісы. Патрэбнасць у адукаваных людзях абумовіла развіццё школьнай справы, ствараліся бібліятэкі. Заможная моладзь вучылася пераважна ў Кракаўскім універсітэце, а таксама ў іншых універсітэтах Заходняй Еўропы. Ствараліся бібліятэкі. Найбольш значная з'ява духоўнай культуры гэтага часу — узнікненне беларускага кнігадрукавання — першага сярод усходніх славян. Заснавальнікам быў Ф.Скарына, які на працягу 1517—20 выдаў у Празе 23 кнігі Бібліі на беларускай мове. У 1522 ён заснаваў друкарню ў Вільні і выдаў там «Малую падарожную кніжку» (1522) і «Апостал» (1525). У Кракаўскай друкарні, створанай у 1503, першая кніга на польскай мове надрукавана ў 1522. Да ліку найважнейшых фактараў развіцця права адносіцца зацвярджэнне ў 1529 адзінага кодэкса законаў — першага Статута Вялікага княства Літоўскага.

*І.П.Хаўратовіч.*

## ЖЫГІМОНТ II (Зыгмунт, Сігізмунд) Аўгуст (1.8.1520—23.6.1572)

Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1548—72(каранаваны ў 1530) і кароль Польшчы з 1548 . Сын *Жыгімонта I* Старога і каралевы Боны. У першыя гады княжання ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве знаходзіўся пад уплывам магнатаў, асабліва Радзівілаў. Пасля смерці першай жонкі Лізаветы тайна ад бацькоў і ад сената ажаніўся з удавою трокскага ваяводы С.Гаштольда Барбарай Радзівіл (праз 6 месяцаў яна памерла, паводле версіі атручана свякрухай Бонай). Праўленне Ж. II супала з перыядам найбольшых поспехаў у краіне Рэфармацыі. Пратэстанцтва так хутка пашыралася, што ў сойме ўсе сенатары (апрача епіскапаў)

былі пратэстантамі. Кароль сам вагаўся ў веры і даваў пратэстантам розныя прывілеі як у Польшчы, так і ў Вялікім княстве Літоўскім, дзе галоўнымі абаронцамі Рэфармацыі былі Мікалай Радзівіл Чорны і Мікалай Пац. Кароль дазваляў будаваць лютэранскія і кальвінісцкія храмы. У барацьбе паміж прыхільнікамі Рэфармацыі і каталіцкай царквы Ж. II доўгі час трымаўся нейтралітэту. Але ў апошнія гады пад націскам вярхоў каталіцтва вымушаны быў згадзіцца на абмежаванне дзейнасці пратэстантаў і дапусціў у краіну езуітаў (1564), што стала пачаткам каталіцкай рэакцыі. Па патрабаванні маці Ж. II ажаніўся трэці раз з Кацярынай, удавой князя Ганзага, якая ў хуткім часе з'ехала ў Вену. У выніку бяздзетны кароль стаў апошнім прадстаўніком дынастыі Ягелонаў, якая правіла ў Польшчы 186 гадоў. У часы яго праўлення ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве пачала ажыццяўляцца аграрная рэформа, вядомая ў гісторыі як валочная памера. У выніку гэтай рэформы, якая вялася з 1530-х гадоў да сярэдзіны 17 ст., упарадкавана землекарыстанне, ліквідавана цераспалосіца сялянскіх зямель і уніфікаваны феадальныя павіннасці сялян, усталяваліся і сталі пашыранымі фальваркі, уводзілася падворнае землекарыстанне, сяляне надзяляліся стандартнымі зямельнымі ўчасткамі — валокамі, замацавана трохпольная сістэма земляробства. Усё гэта павысіла прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі. Ж. II вярнуў у склад дзяржавы каралеўскія землі, незаконна раздзеленыя магнатам яго папярэднікамі ў 1-й палове 16 ст. Пры ім уведзены ў дзеянне Статут Вялікага княства Літоўскага 1566.


SIGISMVNDVS AVGVSTVS DEI gratia Rex Poloniæ, magnus Dux Lituaniæ, Rusiæ, Prusiæ, Masouiæ, Samogitiæ &c.

Ж. II ваяваў з Лівонскім ордэнам, які да гэтага часу прыняў лютэранства. У сувязі з тым, што палякі адмовіліся ўдзельнічаць у паспалітым рушэнні і ваяваць з ордэнам, Ж. II пайшоў на Лівонію толькі з беларуска-літоўскім войскам і прымусіў ордэн прасіць міру і прызнаць сябе даннікам Літвы (пад уладу Беларуска-Літоўскай дзяржавы адышла Ліфляндыя, у ленную залежнасць трапіла Курляндскае герцагства, пад апеку Польшчы — Эстляндыя). На Лівонію квапіўся і Іван IV Грозны, які ў 1558 распачаў вайну. У выніку пачалася Лівонская вайна, якая цягнулася амаль 25 гадоў (1558—83). У 1563 войскі Маскоўскай дзяржавы захапілі Полацк. Сабраўшы 100-тысячную армію, Ж. II рушыў супраць Івана IV Грознага, але беспаспяхова — армія, якой доўга не плацілі грошы, разышлася па хатах. Саюзніца Польшча ў вайне не ўдзельнічала, а патрабавала папярэдняй згоды на поўнае аб'яднанне абедзвюх дзяржаў, бо баялася, што пасля смерці старога і бяздзетнага Ж. II Беларуска-Літоўская дзяржава можа адысці ад Польшчы зусім. Але гэтаму процістаяла літоўска-беларуская партыя на чале з канцлерам Мікалаем Радзівілам, найбольш уплывовым дзеячам Княства, які паўтараў: «Палякі ліпнуць да Літвы, як пчолы да кветак, каб высаўшы мёд, кінуць іх». Пасля смерці М.Радзівіла па ініцыятыве Ж. II у студзені 1569 у Любліне скліканы вялікі сойм з прадстаўнікоў абедзвюх дзяржаў. Многія феадалы Княства не пайшлі на сойм, многія пакінулі яго, «не адвітаўшыся з каралём». Скарыстаўшы аслабленне Вялікага княства Літоўскага ў выніку Лівонскай вайны, Ж. II падпісаў акты аб далучэнні да

Польшчы Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны. У гэтых цяжкіх умовах намаганнямі ўплывовых князёў, у т.л. Канстанціна *Астрожскага* і Аляксандра Чартарыйскага, акт аб уніі дзвюх дзяржаў 1.7.1569 быў падпісаны. Такім чынам, паводле Люблінскай уніі Каралеўства Польскае і Вялікае княства Літоўскае аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Паводле гэтага акта Вялікае княства Літоўскае і Польшча не павінны былі выбіраць сабе асобных правіцеляў, а агульнага караля (ён жа і вялікі князь Вялікага княства Літоўскага), склікаўся і агульны сойм (у Варшаве) з роўнай колькасцю прадстаўнікоў абедзвюх частак новай дзяржавы. Прызнаваліся роўныя правы абедзвюх дзяржаў, прадугледжвалася адзіная грашовая сістэма, агульная знешняя палітыка. Фактычна Беларуска-Літоўская дзяржава і пасля уніі захавала пэўную самастойнасць: уласнае войска, асобнае заканадаўства, суд, казну і інш. Адзінага ўрада фактычна не было. Афіцыйнай дзяржаўнай мовай у княстве заставалася беларуская. Польскім феадалам па-ранейшаму забаранялася займаць дзяржаўныя пасады ў княстве, Лівонія абвяшчалася агульным здабыткам абедзвюх дзяржаў.

*Літ.:* История Польши. Т. 1. 2 изд. М., 1956. *І.П.Хаўратовіч.*



## **ЗІЗАНІЙ** Лаўрэнцій [Тустаноўскі; ? — 1634(?)]

Беларускі педагог-гуманіст, царкоўны дзеяч, мовавед, перакладчык. Паводле адных звестак паходзіў з дробнамаянтковай шляхты Трокскага ваяводства, паводле другіх — з мяст. Тустынь на Валыні. Брат С.*Зізанія*. Адукацыю атрымаў у Астрожскай школе на Валыні. Працаваў настаўнікам царкоўнаславянскай і грэчаскай моў у Львоўскай (да 1592), Брэсцкай (1592—95), Віленскай (1595—97) брацкіх школах. Калі быў у Брэсце, падрыхтаваў вучэбныя кнігі «Азбука з Лексісам» і «Грамматіка словенска совершенного искусства осми частиі слова...» (Вільня, 1596). Яго «Азбуку» можна ўмоўна падзяліць на 3 часткі: матэрыял, які вучыць чытаць і пісаць; дапаможны лексічны матэрыял; царкоўныя палемічныя тэксты і малітвы. Таму кніга магла выкарыстоўвацца і ў царкоўным, і ў свецкім навучанні. Складальнікам першых дзвюх частак быў З., апошняй — С.Зізаній. Пры выданні «Азбукі» выкарыстаны клішэ з выданняў Ф.Скарыны. У «Лексіс» — беларускі слоўнік (1061 слова) — уключаны словы з народнай гутарковай мовы, што спрыяла развіццю мовы, якая потым стала часткай літаратурнай, свецкай, прыведзены самыя разнастайныя звесткі па ваеннай гісторыі, прававым становішчы розных сацыяльных груп насельніцтва ў дзяржаве, па філасофіі, геаграфіі, этнаграфіі, біялогіі, медыцыне. Слоўнік З. — сведчанне рацыяналістычнага падыходу З. да вывучэння розных з'яў рэчаіснасці; адна з крыніц уяўлення пра ўзровень тагачасных ведаў аб развіцці рамёстваў, аб прафесіях, вырабах і гандлі ў сярэдневяковых гарадах. Яго гуманістычныя тэндэнцыі выявіліся ў раскрыцці ўсяго навучальнага метаду для простых людзей. Тлумачэнні, якія З. робіць у сваім слоўніку, далёкія ад навуковага аналізу ўсіх з'яў паняццяў, але ён імкнецца проста, без спасылак на звышнатуральныя сілы растлумачыць многія словы і паняцці, што ў пэўнай ступені набліжае яго да матэрыялістычнага кірунку мыслення. Слоўнік З. — значная культурна-асветніцкая з'ява ў гісторыі Беларусі.

12.2.1596 у друкарні Віленскага Святадухаўскага брацтва выдадзена «Грамматіка словенска...» З. Яна складаецца з уводзін, арфаграфіі, этымалогіі, прасодыі. Сінтаксіс даецца невялікімі часткамі ва ўсіх раздзелах. У кнізе на кожнае правіла прыведзена шмат прыкладаў і практыкаванняў для замацавання навучальнага матэрыялу. На першых старонках вучням тлумачыцца неабходнасць свецкіх ведаў. «Граматыку словенску совершенного искуства осми частій слова...» З. лічыў тым падмуркам, на якім можа трымацца далейшае вывучэнне розных навук. Імкнучыся па-філасофску асэнсаваць ролю граматыкі як навукі ў сярэдневя-

ковай сістэме ведаў, З. раскрываў арганічную сувязь граматыкі з рыторыкай, філасофіяй і багаслоўем, праяўляў цікавасць да розных філасофскіх праблем, якія бралі свой пачатак ад антычных вучоных, звяртаўся да спадчыны Арыстоцеля, Эпікура, Катона Старэйшага і інш. Вывучэнне антычнасці ўзбагачала светапогляд вучонага-педагога, давала магчымасць па-новаму падысці да вырашэння розных праблем.

Выданне «Грамматікі...» замацавала агульнаграмадскую думку пра неабходнасць вывучэння «сямі вольных мастацтваў», падкрэслівала іх вялікую ролю ў развіцці адукацыі. Гэтым З. звярнуў на сябе ўвагу многіх князёў, якія імкнуліся даць добрую адукацыю сваім дзецям. У 1597—1600 З. быў хатнім настаўнікам ў крычаўскага старосты Б. Саламярэцкага ў маёнтку Баркулабава, потым 2 гады працаваў у князя А.К.Астрожскага. Пасля яго смерці З. нейкі час працаваў святаром у Яраслаўскай царкве на Валыні. У 1612 ён запрошаны хатнім настаўнікам да дзяцей князя Я.Карэцкага ў маёнтак Карэц на Валыні. Каб забяспечыць настаўніка матэрыяльна, князь запісаў на З. вёску з фальваркам, млынам, царквой і некалькімі дзялянкамі зямлі. 18.5.1618 З. выступіў на пахаванні княгіні Соф'і Чартарыйскай з казаннем, якое мела характар павучання пра нормы паводзін. Выкарыстаўшы вопыт лацінскай гамілетыкі і антычнай філасофіі, ён выступіў і супраць этычных поглядаў Эпікура. У 1619 архімандрыт Елісей Пляцінецкі запрасіў З. ў Кіева-Пячэрскую лаўру, дзе ён адразу заняў адпаведнае месца ў вучоным гуртку, працаваў настаўнікам у школе і рэдагаваў кнігі, якія рыхтаваліся да выдання ў друкарні, займаўся перакладамі з грэчаскай мовы. Там ён пераклаў і адрэдагаваў «Беседы св. Иоанна Златоуста на Послание св. апостола Павла» (Кіеў, 1623), «Толкованія на Апокаліпсіс св. Андрэя Кесарыйскага» (Кіеў, 1625). У прадмове да апошняй сучаснікі і калегі далі высокую ацэнку дзейнасці і ведам З., адзначалі яго аўтарытэт як моваведа і прапаведніка.

Верагодна, у 1620—23 З. працаваў над «Катэхізісам Вялікім», у якім выкладзены не толькі догматы праваслаўя ў пытаннях і адказах, але і веды па гісторыі, прыродазнаўстве, астраноміі і інш. навуках. Рукапіс кнігі быў зроблены на беларускай мове. Аднак у Кіеве ён не змог выдаць гэтую кнігу, бо на той час у Вялікім княстве Літоўскім распачалася жорсткая барацьба паміж праваслаўем і каталіцызмам. З. вырашыў паспрабаваць надрукаваць кнігу ў Маскве. Разам са сваімі сынамі Іванам і Аляксандрам у красавіку 1626 ён прыехаў у Пуціўль і заявіў, быццам ў Рэчы Паспалітай яго прыгняталі, таму ён едзе з лістамі да цара і патрыярха. Пра рукапіс «Катэхізіса» нічога не сказаў, бо ведаў, з якім недаверам ставілася маскоўскае духавенства да рукапісаў і кніг з Украіны, Беларусі і Літвы. Праз месяц З.


ЛЕКСИС
Сирѣчъ Реченіѧ, Въкратъцѣ събранны. И из словенскаго ѧзыка, на просты Рускій Діалєктъ Истолкованы. Л, Z.

А
Адана, гь, па.
Авіє, заразъ.
Авва, тато, ѡтецъ.
Аггелъ, вѣстник албо повѣда.
Агнецъ, баранокъ.
Агніца, молодаѧ овєка.
Адъ, тємность, недо

недовѣдомоє мѣсце, преиспо нѧѧ. погрецку адн, наиднсъ.
аеръ, въздухъ.
азъ, ѧ.
аллилуіѧ, хвала богу. Герман патрмахъ втолкованіи литургіаском мовитъ.
аллилуіѧ, бли
А

«Лексіс» Л.Зізанія. 1596.



«Катэхізіс» Л.Зізанія (загаловачны ліст). 1626.

з сынамі дазволілі ехаць ў Маскву. Цар і патрыярх узялі іх на ўтрыманне. З. часта сустракаўся з царом Міхаілам Фёдаравічам і патрыярхам Філарэтам, што сведчыць пра добрае стаўленне да яго і вялікую пашану з боку высокіх асоб Рускай дзяржавы. Для друкарскай справы З. атрымаў 150 рублёў. У студзені 1627 разам з Ц.Аладзіным і перакладчыкам Б.Багамольцавым наведаў друкарскі двор. Пра тое, што «Катэхізіс» быў надрукаваны ў Маскве, сведчыць апісанне бібліятэкі патрыярха Філарэта і «Запісная кніга маскоўскага друкарскага архіва», у якой ёсць звесткі, што друкаванне кнігі закончана каля 27.1.1627. Але яна, відаць, не была прызнана афіцыйнаю царквой, таму, верагодна, Філарэт загадаў спаліць усе надрукаваныя кнігі. Цудам захавалася толькі 5 дэфектных экземпляраў, а новыя выданні (1783, 1787 і 1788, Гродна; 1784, Пскоў) зазналі значную рэдакцыйную праўку і недакладна перадаюць погляды З. Для вывучэння светапогляду З. найбольш цікавае абмеркаванне «Катэхізіса» ў Маскве 18—19.2.1627. У абмеркаванні ад імя і па даручэнні патрыярха Філарэта ўдзельнічалі ігумен маскоўскага Богаяўленскага манастыра Ілья, кніжны спраўшчык Р.Анісімаў, князь І.Б.Чарскі і думны дзяк Ф.Ліхачоў. Маскоўскае духавенства, як гэта відаць з пратакола пасяджэння, добра падрыхтавалася да дыспуту, таму вытрымаць дыскусію было цяжка. З. не быў гарантаваны і ад таго, што з ім не расправяцца, як з ерэтыкам. Дасведчаны і ўпэўнены ў ведах, З. на першым пасяджэнні трымаўся свабодна і нават гарачыўся. На пасяджэнні ў ніжняй палаце аўтар усе хібы ў кнізе звальваў на перакладчыка. Пры абмеркаванні «Катэхізіса» З. спрабаваў абагаўляць самога чалавека, узяўшы для гэтага ідэю аб самаўладдзі з Другазаконня. Але прадстаўнікі патрыярха Філарэта адхілілі яго прапанову. У поўнай згодзе з Другазаконнем і царкоўнай традыцыяй З. заявіў маскоўскім апанентам, што «самовластием человек обращается к добродетелем, яко же и злобам. Им же (самаўладдзем. — Аўт.) почтен бысть Адам от бога». З. быў упэўнены ў сіле розуму і душы чалавека, лічыў, што чалавек створаны Богам і з'яўляецца гаспадаром самога сябе. Гэта ідэя пераклікаецца з ідэямі гуманістаў Італіі. Праваслаўныя царкоўнікі, якія строга сачылі за догматамі трохадзінства божай оутнасці, абвінавацілі З. ў замаху на адзінства тройцы, падзяліўшы яе на тры часткі і паставіўшы Бога-бацьку вышэй за ўсіх. З. прама заяўляў: «Тако аз исповедую Отец есть начало всему божеству сиречь сыну і духу святому». Але ў далейшым пад націскам маскоўскіх апанентаў, якія абвінавацілі З. ў ерасі, яму давялося адступаць. Зразумеўшы сваё небяспечнае становішча, ён стаў паводзіць сябе больш стрымана, спрабаваў апраўдвацца ў памылках і заявіў, што прыехаў у Маскву вучыцца, дзякаваў за выпраўленне яго кнігі. З пратакола дыспуту відаць, што абодва бакі добра ведалі грэчаскую філасофію. У «Катэхізісе» З. знайшлі месца і тагачасныя прыродазнаўчыя веды. Светапогляд З. характарызуе рацыяналістычны падыход да тлумачэння розных з'яў прыроды. На заўвагу, што некаторыя звесткі ў «Катэхізісе» запазычаны з астралогіі, якая ўзята ад

вешчуноў елінскіх і ідаласлужыцеляў, З. адказаў: «Ни по звездам правления житию нашему, толко аз написал ведомости ради, чтобы человек ведал яко есть тварь божия, а то и мы о том немудрствуем, чтобы звездам правитися житию нашему». Вядома, прыродазнаўчыя звесткі З. далёкія ад навуковых, але ў іх выявіліся рацыяналістычны падыход да тлумачэння гэтых з'яў, імкненне пашырыць кола чалавечых ведаў. Дзейнасць З. ішла ў рэчышчы рэфармацыйнага руху. Гэтым і багатай эрудыцыяй тлумачацца яго рацыяналістычныя адносіны да пэўных з'яў прыроды і грамадскага жыцця. Светапогляд З. быў дуалістычны. З аднаго боку, вучоны схіляўся да тэалогіі, з другога — выказваў рацыяналістычныя думкі, якія былі вынікам высокай эрудыцыі. Маскоўскае духавенства не магло пагадзіцца з такімі думкамі, бо гэта супярэчыла тэалагічным поглядам аб будове сусвету і Бібліі.

19.2.1627 З. вярнуўся ў Кіеў, дзе разам са слуцкім пратапопам А.Мужылоўскім павінен быў разгледзець кнігу М.Сматрыцкага «Апалогія», выдадзеную на польскай мове ў Львове. На Кіеўскім саборы 13.8.1628 З. выклаў супраць аўтара кнігі 105 пунктаў абвінавачання, і М.Сматрыцкаму давялося прызнаць крытыку і пакаяцца. Апошняе ўпамінанне пра З. адносіцца да 8.2.1634 у Луцкай гарадской кнізе, дзе пазначана, што ён праз свайго дружбака М.Федаровіча звярнуўся да намесніка Луцкага староства М.Крынскага з нагоды юрыдычнага абгрунтавання яго права на маёмасць, адпісаную яму князем Я.Карэцкім. Сам З. на той час быў хворы і слабы. Гэты дакумент сведчыць, што З. быў небагаты чалавек, усё жыццё працаваў і жыў за кошт сваіх мецэнатаў.

Заслуга З. ў стварэнні навукова-педагагічнай літаратуры, што адкрывала шлях да свецкай адукацыі. Асаблівае значэнне мела яго творчасць, у якой пашыраліся гуманістычныя погляды на шэраг з'яў у прыродзе і быў новы падыход да вывучэння праблем мовы ў брацкіх школах Беларусі і Украіны.

*Тв.:* Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962. С. 138—143; Лексис Лаврентія Зизанія. Синоніма славенороссская. Київ, 1964.

*Літ.:* Возняк М.С. Граматика Лаврентія Зизанія з 1596 р. // Зап. Навук. Тов-ва ім. Т.Шевченка. 1911. Т. 101—102, кн. 1—2; Подокшин С.А. Рационалистические и гуманистические идеи во взглядах Стефана и Лаврентия Зизаниев // Вопросы философских наук. Мн., 1965; Ботвинник М.Б. Лаврентий Зизаний. Мн., 1978. *М.Б.Батвіннік.*

## ЗІЗАНІЙ (Тустаноўскі) Стафан

Беларускі педагог-гуманіст, пісьменнік-палеміст, прапаведнік 16 — пач. 17 ст. Брат Л.*Зізанія.* Скончыў Астрожскую школу на Валыні. Выкладаў царкоўнаславянскую і грэчаскую мовы ў Львоўскай (з 1586, з 1592 рэктар) і Віленскай (у 1593—99) брацкіх школах. Ён быў высокаадукаваным чалавекам, дасканала ведаў рыторыку, логіку, гамілетыку. Яго казанні былі накіраваны супраць уніятаў, езуітаў і вышэйшага праваслаўнага духавенства. Прапаведаваў ён у гарадской ратушы, на вуліцах і пляцах. Але 25—27.1.1596 сабор у Навагрудку, на які нават не запрасілі З., асудзіў яго за тое, што ён у сваіх выступленнях «аргументирует не писмом слова щыраго божего... а только силогизмою». У жыцці З. адмоўную ролю адыграў мітрапаліт М.*Рагоза,* які напачатку дазволіў настаўнікам брацкіх школ займацца казаннямі, а потым напісаў данос на З. каралю Жыгімонту III. 28.5.1596 кароль граматай адзначыў «блюзнерства великое не только с казанья, але и с писанья и выданья книг до друку своволне» З. і загадаў вывесіць гэтую грамату ва ўсіх людных месцах, злавіць і асудзіць адступніка. Віленскае брацтва апратэставала рашэнне Навагрудскага сабора. На Брэсцкім саборы З. апраўдалі і было заяўлена, што яго выданні зроблены паводле канонаў праваслаўя. Пасля прыходу да ўлады уніяцкага мітрапаліта І.*Пацея* становішча З. ў Вільні значна пагоршылася. Восенню 1599 ён вымушаны быў пайсці ў Свята-Троіцкі манастыр, дзе прыняў імя Сільвестра. Там ён збіраўся адкрыць школу, але уніяцкае духавенства забараніла гэта. Кароль падтрымаў уніятаў і граматаю ад 29.9.1599 выступіў супраць віленскіх мяшчан,

якіх аштрафаваў на 3 тыс. коп літоўскіх грошай за тое, што яны дазволілі З. прапаведаваць у Троіцкай царкве, хоць архімандрыт даў згоду на яго выступленне. Прыхільнікі уніі прыйшлі ў Свята-Троіцкі манастыр, каб расправіцца з З., але яму ўдалося ўцячы. Пра далейшае жыццё З. дакументаў няма, ёсць толькі паведамленне, што ён быў забіты ў час паломніцтва ў 1600.

Творчасць і дзейнасць З. звязана з Вільняй. Тут ён разам з братам Лаўрэнціем стварыў «Азбуку» (Вільня, 1596), напісаў у яе раздзел «Изложение о православной вере. Коротким пытаньем и отповеданьем для латвейшаго выразуменя христіянскім детем», у якім катэхізісным спосабам (пытанне — адказ) падаваліся асноўныя догматы праваслаўя. Гэта яму няцяжка было зрабіць, бо яшчэ ў 1595 ён выдаў «Катэхізіс» на польскай і старажытнабеларускай мовах. Кнігу знішчылі езуіты, але пра яе змест можна даведацца з брашуры езуіта М.Лашча (Ф.Жабroўскі), у якой прыводзіліся фрагменты з гэтага «Катэхізіса» дзеля крытыкі і доказу, быццам аўтар кнігі — ерэтык. Лашч пісаў, што З. сваім вучэннем «души христианские словно ядом заражает». Нават М.*Сматрыцкі* ў «Апалогіі...» (Кіеў, 1628) заявіў, што «зизаниева ересь у нас беспрестанно на устах, а наука божия, истинная, в пренебрежении... наши лжеучители (Стефан Зизаний и др.) отвергают все догматы разом». Выступленні З. супраць папы рымскага і вышэйшага праваслаўнага духавенства знайшлі адлюстраванне ў яго працы «Лист Іеремеи патріархи Константинопольского напоминалный» (напісаны і выдадзены ў 1599) і кнізе «Казанье святого Кирилла...», у якой змешчаны таксама прысвячэнне князю К.*Астрожскаму*, напісанае 20.5.1596, і польскія сілабічныя вершы на яго герб. У апошняй кнізе паралельна надрукаваны тэксты на польскай і старажытнабеларускай мовах. У некаторых месцах палемічнага памфлета выкарыстоўваўся ці толькі польскі, ці толькі беларускі тэкст. Пазней кніга перавыдавалася стараверамі (карысталася ў іх вялікім аўтарытэтам), у Маскве ў 1644, у Гродне ў 1786 і 1791. Маскоўскае выданне называлася «Книга Кириллова», гродзенскае — «Кириллова книга».

Асновай рэлігійна-філасофскіх і сацыялагічных поглядаў З. з'яўляецца вучэнне пра Хрыста і Антыхрыста (пад апошнім ён разумеў папу рымскага). Паводле яго сцверджанняў, Хрыстос — абаронца прыгнечаных, сее дабро і справядлівасць, Антыхрыст разносіць зло і несправядлівасць, памагаты багатых магнатаў і езуітаў. З. крытыкуе і адхіляе сцвярджэнне каталіцкай царквы, быццам папа — намеснік Хрыста на зямлі. Хіліястычная ідэя З. пра хуткі прыход Хрыста і ўстанаўленне царства роўнасці і брацтва была даведзена да гараджан і рамеснікаў Беларусі і Украіны. Такім вучэннем З. падрываў асновы феадальнага ладу. У яго казаннях гучалі матывы верацярпімасці, што было звязана з гуманістычнымі традыцыямі. Але ён самастойна даваў тлумачэнне Бібліі, выступаў у рэчышчы еўрапейскіх рэфармісцкіх плыняў на Беларусі і Украіне, што выклікала абурэнне ў праваслаўнага духавенства. Пра гэта сведчыць і тое, што ён зрабіў спробу рацыяналістычнага падыходу да вучэння пра Тройцу, сцвярджаючы, што Бог-айцец стаіць вышэй за Ісуса Хрыста. Гэтым ён адмаўляў божую сутнасць Хрыста, ставячы яго бліжэй да чалавека і, такім чынам, падзяляючы ўсю Тройцу. Такое вучэнне З. было не даспадобы і каталіцкай, і праваслаўнай царкве. Ён поўнасцю адмаўляўся прызнаваць царкоўны догмат пра існаванне несмяротнай душы асобна ад цела чалавека, аднак прызнаваў другое прышэсце Хрыста, уваскрэсенне з мёртвых, страшны суд і сцвярджаў, што душа і цела павінны разам прайсці суд. Страшны суд у адпаведнасці з хіліястычным вучэннем і антыуніяцкай дзейнасцю З. — гэта сацыяльная акцыя, на якой павінны быць пакараны памагатыя Антыхрыста — папы рымскага — уніяты, езуіты і той з праваслаўных, хто здрадзіў свайму веравызнанню. Такое вольнае тлумачэнне Бібліі выклікала крытыку і з боку католікаў, асабліва езуітаў, і з боку вышэйшых праваслаўных іерархаў. Пра вучэнне З. езуіт М.Лашч пісаў: «Тры палажэнні абгрунтоўвае тут Стафан Зізаній. Першае, што пасля смерці няма ніякага божага суда. Другое, што душы грэшных пасля смерці ніякіх мук не церпяць. Трэцяе, што душы праведных пе-

рад судным днём не атрымліваюць ніякіх узнагарод». Пра сувязь палажэнняў, выказаных З., з вучэннем антытрынітарыяў сведчыў і М.Сматрыцкі: «Зизаний богохульствует, как какой-либо нечестный ариянин». Кніга «Казанье святого Кирилла...» мела не толькі антыкаталіцкую і антыуніяцкую накіраванасць. У ёй З. выступаў і супраць праваслаўнага артадаксальнага духавенства з яго застылымі догмамі. Ён стаў ў апазіцыю да духоўных феадалаў, якія мелі ўладу, і нават да караля. Таму яны лічылі яго ерэтыкам і нават злачынцам. З. быў адным з тых, на каго зрабіла ўплыў радыкальна-рэфармісцкае вучэнне гуманістаў Заходняй Еўропы. Кнігі і пропаведзі З. карысталіся папулярнасцю ў Вялікім княстве Літоўскім. Яго выступленні садзейнічалі нацыянальна-вызваленчаму руху на Беларусі і Украіне. Адзін з яго апанентаў сказаў, што З. «так тою проклятою ересью своею еще неслыханною Русь поблазнил, же его кніжкам баламутным лепей ниж евангелия верят». Хоць аб'ектыўна вучэнне З. было ерэтычнае, сам ён лічыў сябе праваслаўным і не меў намеру наносіць удар па асноўных догматах гэтага веравызнання. Яго палемічныя творы, накіраваныя супраць каталіцкай і уніяцкай царквы, падрывалі аўтарытэт і праваслаўнай царквы. Рацыяналістычныя і радыкальна-рэфармісцкія погляды З. адыгралі важную ролю ў развіцці гуманізму і асветы на Беларусі і Украіне.

*Літ.:* Алексютович Н.А. Культурно-просветительская деятельность братьев Зизаниев // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. Мн., 1962; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая пол. XVI — нач. XVII в.). Мн., 1970. С. 182—197.

*М.Б.Батвіннік.*



## ІВАНОВІЧ Грынь

Друкар і гравёр 16 ст. Нарадзіўся ў мяст. Заблудаў (Беластоцкае ваяв., Польшча). Каля 1570 І.*Фёдараў* узяў І. да сябе ў Заблудаўскую друкарню. У Львове ён аддаў яго вучыцца да майстра Філіповіча. Пасля двухгадовага навучання І. рабіў шрыфты Фёдараву ў Львове і Астрозе. Там яны з іншымі майстрамі выдалі «Біблію» і «Азбуку» (першае выданне «Азбукі» выйшла ў 1574 у Львове). У 1582 І. працаваў у К.Мамоніча ў Вільні. У 1583 вярнуўся ў Львоў да Фёдарава і паводле дагавору павінен быў зрабіць яму новыя шрыфты. Пасля смерці Фёдарава (1583) звестак пра І. няма.

*Літ.:* Сидоров А.А. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951. С. 111—115; Батвіннік М. Друкар з Гродзеншчыны // Беларусь. 1968. №1.

*М.Б.Батвіннік.*



## КАВЯЧЫНСКІ Мацей (канец 1520-х гадоў — 1-я палова 1572)

Кнігавыдавец, перакладчык, рэфармацыйны дзеяч. У 1540-я гады вучыўся ў Вітэнбергскім універсітэце, з канца 1550-х гадоў жыў на Беларусі. Нясвіжскі намеснік («справца всех замков и дворов») М.Радзівіла Чорнага. Заснаваў порт на р. Узда, паперню ў Нясвіжы. Удзельнічаў у кальвінісцкім, пазней у арыянскім руху на Беларусі, у Літве і Польшчы. У 1561—62 з С.*Будным* і Л.*Крышкоўскім* заснаваў друкарню ў Нясвіжы, дзе ў 1562 выдадзены першыя на тэрыторыі Беларусі выданні на беларускай мове — «Катэхізіс» 1562 і «Об оправдании грешного человека перед Богом» Буднага. Аўтар некаторых прадмоў да нясвіжскіх выданняў. У пачатку сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці пад значным уплывам Буднага намагаўся распаўсюджваць выданні сярод «русского» (беларускага і ўкраінскага) насельніцтва. Большасць кніг друкарні выходзіла ў афармленні, падобным да скарынінскага. Паводле рускіх бібліёграфаў В.Сопікава і І.Каратаева, К. пры дапамозе падскарбія земскага літоўскага А.*Валовіча* перавёз з Вільні ў Нясвіж кірыліцкія шрыфты Ф.*Скарыны* (тыпаметрычны аналіз не пацвярджае гэтай гіпотэзы). Пасля смерці К. маёмасць перайшла яго братам, а друкарню купіў Я.*Кішка*. *Г.Я.Галенчанка.*

## **КАЗІМІР IV**, Ягелончык (1427—92)



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (з 1440), кароль Польшчы (з чэрвеня 1447). Малодшы сын *Ягайлы* і княӟоўны Соф'і Друцкай. Выбраны вялікім князем Беларуска-Літоўскай дзяржавы. К. доўгі час не згаджаўся быць каралём Польшчы, а калі пад уплывам маці даў на гэта згоду, то яго доўга не адпускала шляхта, якая не жадала аб'яднання з Польшчай. Прысягаючы на вернасць сваёй дзяржаве, ён абяцаў не аддаваць Валынь, Падолле і Кіеў, якіх дамагалася Польшча. І стрымаў прысягу. Польшчы ён прысягнуў толькі ў 1453. У знешняй палітыцы К. імкнуўся да захавання цэласнасці тэрыторыі Княства. У 1444 ён вярнуў у склад Беларуска-Літоўскай дзяржавы Дарагічынскую зямлю, раней захопленую Польшчай. Да польскай дзяржавы далучыў былыя самастойныя Асвяцімскае і Мазавецкае княствы. У выніку 13-гадовай вайны з крыжакамі (1454—66) і Торуньскага дагавора 1466 Польшча вярнула свае паморскія землі і Заходнюю Прусію, а Тэўтонскі ордэн трапіў у васальную залежнасць ад Польшчы. К. давялося адбіваць амаль штогод татарскія набегі (пазней іх замянілі туркі, якія, заснаваўшы Асманскую імперыю, пастаянна парушалі паўднёвыя граніцы дзяржавы).

Ва ўнутранай палітыцы намаганні К. былі скіраваны на ўмацаванне велікакняжацкай улады. Аднак гэтага ён не дамогся, а, наадварот, вымушаны быў пастаянна пашыраць правы феадалаў і шляхты. У 1441 ён задушыў паўстанне смаленскіх гараджан, у 1490—92 — украінскіх і малдаўскіх сялян. Выдадзены ім у 1447 заканадаўчы акт, вядомы ў гісторыі як Казіміраў прывілей, расшыраў правы феадалаў Беларусі, Літвы і Украіны, гарантаваў права ўласнасці на зямлю, свабоду выезду за мяжу, права судзіць залежных ад іх людзей, найперш — сялян. З мэтай не дапусціць пранікнення ў Княства польскіх феадалаў і захаваць яго самастойнасць у прывілеі прадугледжвалася палажэнне, паводле якога зямлю, дзяржаўныя пасады, ганаровыя званні і чыны ў Вялікім княстве Літоўскім маглі атрымліваць толькі мясцовыя феадалы, грамадзяне Княства. Гэты прывілей забараняў прымаць да сябе «чужых» сялян, што фактычна было пачаткам афармлення прыгоннай залежнасці сялян ад феадалаў (у Польшчы аналагічны акт, паводле якога сяляне страцілі асабістую свабоду і права ўласнасці на зямлю, прыняты ў 1496 пры каралю Яне-Альбрэхту). Пры К. вырасла роля дарадчага органа — паноў-рады і ўзмацніўся яе ўплыў на вялікага князя. Выданнем Няшаўскага статута К. фактычна зацвердзіў палітычнае панаванне ў Польшчы шляхецкага саслоўя. У 1468 ён выдаў беларускі судзебнік, вядомы ў гісторыі як статут Казіміра, у якім вызначаны адзіныя віды, спосабы і меры пакарання за злачынствы супраць уласнасці, зменены існаваўшы раней парадак судаводства. Гэта была першая спроба кадыфікаваць крымінальнае і працэсуальнае права Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Дбаючы пра асвету сваёй дзяржавы, ён выдаў у 1457 акт, якім заахвочваў беларускую і літоўскую моладзь да навучання ў заходніх універсітэтах: «Також прызваляем, абы княжата, рыцары, баяры дабравольна мелі бы моц выехаці з нашых зямель Княства вялікага для лепшага шчасця набыцця, альбо ўчынкаў рыцарскіх да каждых зямель, старон, толькі выменяючы непрыяцельскае». Князь не скупіўся і на матэрыяльную дапамогу студэнтам з дзяржаўнага скарбу.

У працэсе цэнтралізацыі ўлады ў 1471 канчаткова ліквідаваны ўдзель-

ныя княствы, у т.л. Кіеўскае (пераўтворана ў ваяводства). Праваслаўныя князі (праўнукі *Альгерда*) Трубяцкія, Гальшанскія, Бельскія, Алелькавічы, а таксама Адоеўскія і Варатынскія, незадаволеныя перавагамі, якія мелі феадалы-католікі, у 1480-я гады арганізавалі змову супраць К. з намерам захапіць уладу ў княстве, а ў выніку няўдачы далучыць частку зямель (пераважна на Севершчыне) да Маскоўскай дзяржавы. Змова была выкрыта і задушана, але частка зямель адышла да Маскоўскай дзяржавы. Няўдалымі былі і намеры наўгародскіх баяр на чале з Марфай Барэцкай (Пасадніцай) далучыцца да Вялікага княства Літоўскага — Іван III пасля доўгай асады захапіў Ноўгарад і жорстка расправіўся з баярамі.

Памёр К. на 43-м годзе княжання і 36-м годзе каралявання. У часы яго праўлення Вялікае княства Літоўскае фактычна пачало ператварацца ў рэспубліку. Палякі ўвесь час раўнiва ставіліся да К. за яго вялікую прыхільнасць да Беларуска-Літоўскай дзяржавы; буйныя феадалы паважалі яго за дадзеныя ім вялікія правы, але папракалі за ўступкі на карысць маламаёмнай шляхты. Ён меў 6 сыноў: Уладзіслаў (з 1471 кароль чэшскі), Казімір (быў выбраны каралём Венгрыі), Ян-Альбрэхт (з 1490 кароль Венгрыі, з 1492 кароль Польшчы), *Аляксандр*, *Жыгімонт I*, Фрыдэрык (епіскап кракаўскі, кардынал). Так склалася, што тры яго сыны адначасова правілі ў 4 суседніх дзяржавах: Аляксандр — у Вялікім княстве Літоўскім, Ян-Альбрэхт — у Польшчы і Венгрыі, Уладзіслаў — у Чэхіі.

*І.П.Хаўратовіч.*

## **КАЛАДЫНСКІ** Кузьма (Андрэй)

Рэлігійны дзеяч 16 ст., антытрынітарый. Паходзіў з Віцебска. Напачатку быў дыяканам у праваслаўнай царкве, потым прымкнуў да антытрынітарыяў і ў 1563—64 па іх даручэнні выступаў з пропаведзямі ў Віцебску. Каля 1567 апынуўся ў Перамышльскай і Сандамірскай абласцях, дзе спрабаваў прапагандаваць свае погляды сярод праваслаўных. Не дамогшыся жаданых вынікаў, сваю кар'еру скончыў простым слугою ў аднаго з мясцовых паноў. На думку гісторыка царквы І.І.*Малашэўскага* аўтар апакрыфічнага помніка «Ліст полаўца Смеры да цара Уладзіміра Кіеўскага». Прозвішча К. як чалавека, які нібыта знайшоў і пераклаў з рускай мовы на польскую «Ліст...», згадваецца ў творы пратэстанта-антытрынітарыя Х.Санда «Nucles historiae ecolesiasticoe» («Асновы рэлігійнай гісторыі»), апублікаваным у 1669—75 у Амстэрдаме і Кёльне разам з лацінскім перакладам гэтага «Ліста...», зробленым А.*Вішаватым*.


*Герб Віцебска. 1597.*

Смера (Іван) — выдуманы лекар князя Уладзіміра, па паходжанні полавец. Князь Уладзімір, тады яшчэ язычнік, у 980 быццам бы накіраваў Смеру ў Канстанцінопаль для даследавання хрысціянскай веры. Пасля працяглага і цяжкага вандравання Смера дасягнуў Александрыі, прыняў там хрысціянства і ў 990 прыслаў адтуль ліст да Уладзіміра, а сам ужо не вярнуўся. У сваім лісце Смера крытыкаваў грэчаскую веру і заклікаў князя не прымаць яе, а аддаць перавагу другой, якую ён быццам бы спазнаў там і якая з'яўляецца падабенствам будучай пратэстанцкай плыні хрысціянства. Пазней сапраўднасць «Ліста...» абвергнута гісторыкамі, пачынаючы з М.М.Карамзіна, якія выявілі ў ім прыкметы звычайнага падлогу. Аднак пісьменнікі антытрынітарыі надалі «Лісту...» значэнне сапраўднага помніка, бо ён запаўняў прагал, які яны адчувалі ў гісторыі сваёй плыні на працягу не-



*Канстанцінопаль (пасля 1453 Стамбул). Храм Сафіі (у 15 ст. ператвораны ў мячэць).*

калькіх стагоддзяў. Нападкі ў «Лісце...» на грэкаў і іх паслядоўнікаў пераносіліся ў свядомасці антытрынітарыяў на праваслаўную і каталіцкую цэркві. Падрыхтаваны антытрынітарыем з беларусаў «Ліст...» стаў вельмі прыдатны для тутэйшых антытрынітарыяў і таму імі захаваны і выдадзены. Гэты «Ліст...», выкладзены К. на тагачаснай беларускай мове, прызначаўся для тых мясцін, дзе ён прапаведаваў. Падставай для падлогу стала летапіснае сказанне пра пасольствы князя Уладзіміра для выпрабавання розных веравызнанняў, у выніку чаго была аддадзена перавага хрысціянству па грэчаскім узоры. Як антытрынітарый з былых праваслаўных і, безумоўна, чалавек у свой час добра адукаваны К. выдумаў свой дадатак да летапіснага сказання з мэтай падарваць думку, што грэчаскае веравызнанне аднагалосна ўхвалілі паслы.

*Літ.:* Малышевский И. Подложное письмо половца Ивана Смеры к великому князю Владимиру святому // Тр. Киевской духовной академии. 1876. Т. 2—3; Немировский Е.Л., Горбачевский Б.С. С книгой через века и страны. М., 1964. С. 42—44.

*Г.А.Маслыка.*

## **КАРЦАН** Ян (?—каля 1611)

Друкар і кнігавыдавец на Беларусі і ў Літве. Друкарскаму майстэрству навучыўся ў Кракаве. З 1576 друкар Лоскай друкарні, выдаў 7 кніг на польскай і лацінскай мовах, у т.л. трактат «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры» С.*Буднага* (1576), творы М.*Чаховіца*, Я.Палеалога, А.Маджэўскага Фрыча. З 1580 уладальнік друкарні ў Вільні, дзе выдаў больш за 100 кніг на польскай, лацінскай і грэчаскай мовах, у т.л. творы Цыцэрона, І.Флавія, Геліядора, Эразма Ратэрдамскага, «Апафегматы» Б.*Буднага* (1599), «Масковію» А.Пасевіна (1586), паэму Я.Казаковіча «Арэх валоскі» (1603), навукова-вучэбныя і медыцынскія дапаможнікі, панегірыкі, календары. Ва ўмовах вострай рэлігійнай палемікі выдаваў творы і рэфармацыйных (А.*Волана*, Рыгора з Жарнаўца, С.Судроўскага), і каталіцкіх (Пасевіна, А.Юргевіча) аўтараў. Кнігі вылучаліся высокім узроўнем друкарскага рамяства.

*Літ.:* Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977. С. 16—40; Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970. С. 80—112.

*Л.С.Іванова.*

## **КАСОЙ** Феадосій

Рускі рэлігійны прапаведнік, вальнадумец і ідэолаг сялянска-плебейскай ерасі сярэдзіны 16 ст. Біяграфічныя звесткі пра яго вельмі скупыя. Вядома, што ён быў прыгонным у маскоўскага вяльможы. Не вытрымаўшы прыгнёту і здзекаў, збег ад яго на Белае возера, дзе зблізіўся з *Арцеміем* і інш. старцамі, што былі ў апазіцыі да пануючай царквы. У 1553 разам з іншымі ерэтыкамі схоплены, зняволены ў адзін з маскоўскіх манастыроў і прыцягнуты да суда па справе Башкіна і Арцемія. Не чакаючы суда, ён разам з сябрамі ўцёк, а ў 1555 перабраўся ў Вялікае княства Літоўскае. Некаторы час прапаведаваў у Віцебску, потым падаўся ў глыб Беларусі, дзе прапагандаваў свае антыпрыгонніцкія і антыклерыкальныя ідэі. Калі і дзе памёр, невядома. Князь А.Курбскі ў сваіх «Сказаннях...» паведамляў, што ў 1575 К. жыў і прапаведаваў разам са сваім сябрам Іпаціем у

маёнтку пана Чапліча. Творы К. невядомы, але яго вучэнне выкладзена ў выкрывальных творах манаха Зіновія Атэнскага «Истины показания к вопросам о новом учении» і «Послание многословное... на зломудрие Косого и иже с ним», напісаных ў 1560-я гады. Падставай для напісання першага твора стала сустрэча Атэнскага з «крылагіянамі» Старарускага Спасавага манастыра манахамі Герасімам, Афанасіем і іканапісцам Фёдарам. «Крылагіяне», якія захапляліся прыродным розумам, мужнасцю і сумленнем К., папрасілі Атэнскага, каб той выказаў сваё меркаванне аб «новым вучэнні». Другі твор Атэнскага — гэта адказ на «Грамату», дасланую яму праваслаўнымі беларусамі. Асноўныя пункты сацыяльна-філасофскай пазіцыі К. ў «Грамаце» выкладзены ў выглядзе пытанняў, на якія павінен быў даць адказ Атэнскі. У аснове вучэння К. ляжала рацыяналістычная крытыка царкоўных устаноў і хрысціянскіх догмаў. Ён прапаведаваў, што царква і манастыры з іх таінствамі і набажэнствамі ўстаноўлены не Богам, а людзьмі. Для духавенства цэрквы сродак узбагачэння і апраўдання прыгнёту народа. Усім вядомы падман, крывадушнасць, прагнасць і вымаганне, дармаедства і ханжаства папоў і манахаў, якія клапоцяцца выключна аб сваім дабрабыце, адышлі ад «правой веры», «имениа забираюць, ядять и пиють много и по евангелию не учат, учат человеческая предаииа». К. называў царкоўнікаў ілжывымі настаўнікамі, ідалавымі жрацамі, маньякамі і мучыцелямі. Аб парушэнні евангельскіх запаведзяў пісаў і Арцемій, але ні ён, ні яго папярэднікі не патрабавалі ліквідацыі царкоўна-манастырскіх устаноў. Толькі К. прыйшоў да такіх смелых на той час вывадаў. Ён лічыў злачынствам утрымліваць у грамадстве тысячы гультаёў — манахаў і папоў, якія вядуць паразітычнае жыццё за кошт эксплуатацыі захопленых у сялян земляў. На думку К., духавенства павінна быць скасавана разам з цэрквамі і манастырамі. К. адмаўляў не толькі царкоўную іерархію, але і абрадавы бок хрысціянства, яго традыцыйную мараль. Ён лічыў, што людзям не патрэбны малітвы, прычасці, пасты, царкоўныя ахвяраванні, хрышчэнне, споведзі, памінкі, бо ўсё гэта «беснословие», «развращенное человеческое предание», прыдуманае духавенствам, каб трымаць народ у пакоры і страху. «Человеческим преданием» К. лічыў абразы, крыжы і сцвярджаў, што абразы, зробленыя рукамі людзей з золата, серабра і дрэва, — гэта ідалы, якім не варта пакланяцца. К. высмейваў папоўскія легенды пра вылечванне хворых, заклікаў «сокрушати» крыжы і абрады, адхіляў усё тое, што мае дачыненне да хрысціянства, за выключэннем веры ў Бога і запаведзі аб любові да бліжняга. З кніг Свяшчэннага пісання К. прызнаваў толькі Пяцікніжжа Майсеева, Евангелле і Апосталаў. Астатнія біблейскія кнігі называў «ложным преданием», якім умела карыстаюцца царкоўнікі. Ён прызнаваў адзінага Бога-айца, абвяргаючы царкоўныя догматы пра боскасць Багародзіцы і Хрыста, якіх лічыў звычайнай жанчынай і заснавальнікам хрысціянскага вучэння. З гэтага Атэнскі рабіў вывад, што К. наогул не верыць у Бога. У пацвярджэнне прывёў такі аргумент, як адмаўленне вальнадумцам бессмяротнасці душы і замагільнага жыцця як месца, дзе людзі расплачваюцца за зямныя грахі. Апрача таго, К. падзяляў меркаванні элінскіх філосафаў аб сусвеце, якія сцвярджалі, што ўсё жывое створана не па чыёйсьці волі, а ўзнікла з 4 стыхій: агню, паветра, вады і зямлі, а чалавек зарадзіўся натуральным шляхам і, як усё жывое, смяротны. Ніякіх выключэнняў для асноўнага закону жыцця быць не можа, усё ідзе сваім парадкам. Як да, так і пасля прышэсця Хрыстова людзі нараджаліся, хварэлі, паміралі і парахнелі. К. не адмаўляў існавання Бога, але прапаведаваў непавагу да афіцыйнай рэлігіі і яе канонаў, не верыў у бессмяротнасць душы, у замагільнае жыццё, страшны суд, пекла і рай.

Такім чынам, калі верыць Атэнскаму, К. быў непаслядоўны ў сваіх меркаваннях, выступаў з пазіцый дэізму. З аднаго боку, ён лічыў, што сусвет узнік «самабытна», а з другога — дапускаў існаванне Бога, за якім пакідаў толькі акт стварэння свету, адмаўляючы яго ўплыў на ход гісторыі. Царкву і дзяржаву ён уяўляў як адзіны складаны механізм, дзе царква — нейкі

асаблівы рычаг, які прыводзіць у дзеянне сістэму прыгнёту. Выкрываючы рэакцыйную ролю духавенства ў закабаленні і прыгнёце народа, К. адзначаў, што яно прымушае народ пад страхам кары боскай падпарадкоўвацца сабе і ўладам, якія быццам бы ад Бога, працаваць на іх. З гэтага К. робіць высновы, што трэба адмовіцца ад ілжывай царквы і ўвогуле змяніць грамадскія парадкі. Ён паўставаў супраць цывільных і ваенных улад, асуджаў рабства, войны і да т.п., таму, што гэта супярэчыць хрысціянству. Замест феадальных парадкаў К. прапаведаваў ідэю стварэння грамадства «бесцарных» людзей, г. зн. такога грамадства, дзе адзіны ўладар — сам Бог. Менавіта ў гэтым ён бачыў сутнасць хрысціянства, а не ў выкананні абрадаў. Зыходзячы з хрысціянскага вучэння аб любові да бліжняга, свабодзе і роўнасці, ён прыйшоў да вываду аб неабходнасці стварэння грамадства, якое аб'ядноўвала б не толькі хрысціян, але ўсіх людзей. У ім павінна быць агульная маёмасць і роўнасць яго членаў, бо перад Богам усе людзі роўныя незалежна ад паходжання, веравызнання і нацыянальнай прыналежнасці. Асноўнымі прынцыпамі перабудовы грамадства і духоўна-маральнага адраджэння чалавека К. абвяшчаў роўнасць, брацтва, чалавекалюбства і міралюбнасць.

На Беларусі ў К. было шмат паслядоўнікаў. Яго вучэнне «множеми похваляемо и приемлемо и любимо от многих и познаваемо, яко истинно...». З гэтай прычыны Атэнскі са злосцю заўважае, што «...як Магамет разбэсціў сваім вучэннем усход, Лютэр — захад, так Феадосій — Літву». Пра пашырэнне поглядаў К. на Беларусі сведчаць многія крыніцы. А.Курбскі і тлумачыў гэта тым, што ерась К. сустрэлася і аб'ядналася тут з блізкімі ёй мясцовымі ерасямі, рознымі антытрынітарнымі вучэннямі.

К. — адзін з самых радыкальных «ерэтыкоў» 16 ст., вучэнне якога адлюстроўвала настрой народных мас.

*Літ.*: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962.

*Р.Н.Дожджыкава.*

## КАШУЦКІ (Koszutski) Станіслаў (?—4.4.1559)

Паэт, перакладчык твораў лацінскіх аўтараў. Біяграфічных звестак захавалася вельмі мала. Вядома, што ў 1544 вучыўся ў Вітэнбергу і атрымаў добрую гуманітарную адукацыю. Быў паслядоўным прыхільнікам Рэфармацыі. З 1547 на службе ў Радзівілаў. Відаць, па просьбе сваіх гаспадароў напісаў у 1548 эпіталаму (на лацінскай мове) з нагоды жаніцьбы маладога караля Жыгімонта II Аўгуста з удавой Гаштольда — Барбарай Радзівіл. Аднак гэты твор застаўся ненадрукаваны і, магчыма, нават не прачытаны маладажонам, бо адкрытая непрыязнасць насельніцтва Вялікага княства Літоўскага да гэтага шлюбу паўплывала на тое, што яго адзначалі вельмі сціпла. Як сакратар каралевы Барбары ў 1549 К. суправаджаў яе ў падарожжы да Кракава. Пасля смерці каралевы застаўся ў Вільні на пасадзе бібліятэкара Жыгімонта II Аўгуста. Ён склаў каталог каралеўскага кнігазбору, падзяліў яго на 3 часткі паводле фарматаў, а літаратуру — паводле зместу: анатацыі, каментарыі, лекцыі, трактаты, тлумачэнні, слоўнікі і інш. Менавіта на час яго працы бібліятэкарам (1551—59) прыпадае асноўная літаратурная і перакладчыцкая дзейнасць. Ён пераклаў на польскую мову твор Цыцэрона «Пра абавязкі» з дадаткам жыццяпісу антычнага філосафа (Лоск, 1575), твор Рэйнхарда Ларыхіўса «Кніга пра выхаванне і навучанне...».

## КІПРЫЯН (каля 1330—1406)

Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі. Па паходжанні серб або балгарын. Рэлігійнае служэнне пачаў на Афоне. Сваёй набожнасцю і адукаванасцю прыцягнуў увагу канстанцінопальскага патрыярха Філафея. У 1373 патрыярх накіраваў яго ў Вялікае княства Літоўскае як свайго ўпаўнаважанага прадстаўніка з надзеяй, што К. як славянін здолее прымірыць і аб'яднаць духавенства Кіева-Літоўскай мітраполіі і мітрапалітаў Масквы, якія прэтэндавалі на валоданне кіеўскай мітрапаліцкай кафедрай. Яшчэ раней, у 1364, каб прымірыць мітрапаліта мас-

коўскага Алексія і вялікага князя літоўскага *Альгерда* і зацвердзіць адзінства рускай мітраполіі, патрыярх адмовіў у назначэнні асобнага мітрапаліта для Вялікага княства Літоўскага, г. зн. фактычна скасаваў Літоўскую мітраполію. Прыбыўшы на месца і азнаёміўшыся з сітуацыяй, К. прыйшоў да высновы, што праваслаўныя Вялікага княства Літоўскага і Галіччыны не павінны залежаць ад маскоўскага рэлігійнага цэнтра. Свой пункт погляду ён выказаў Альгерду і паабяцаў давесці яго да ведама патрыярха канстанцінопальскага. Вялікі князь станоўча паставіўся да пазіцыі К. і прапанаваў яму заняць месца літоўскага мітрапаліта. У Канстанцінопаль было накіравана адпаведнае хадайніцтва, у якім мелася і пагроза, што калі і на гэты раз патрыярх адмовіць, то Альгерд будзе прасіць мітрапаліта ў рымска-каталіцкай царквы. Супраціўляючыся падзелу рускай мітраполіі, патрыярх у 1375 пасвяціў К. як «мітрапаліта Кіева і Літвы», а Канстанцінопальскі сабор пастанавіў «быць яму пасля смерці свяціцеля Алексія мітрапалітам усяе Русі». Астаяваўшыся ў Навагрудку, мітрапаліт К. разгарнуў дзейнасць па ўмацаванні ролі Літоўскай мітраполіі ў рэлігійным жыцці ўсходніх славян. Але маскоўскія іерархі і велікакняжацкі двор адмовіліся прызнаць яго мітрапалітам «усяе Русі». У выніку інтрыг і націску Масквы патрыяршы сінод надаў К. тытул «мітрапаліта Малой Русі і Літвы». Калі ў 1377 памёр Альгерд, яго пераемнік *Ягайла*, каб заняць польскі прастол, заключыў з Польшчай у 1385 дынастычную унію, згодна з якой сам прыняў каталіцтва і абавязваўся схіліць да гэтай веры сваіх падданых. У выніку хрышчэння літоўцаў-язычнікаў каталіцтва было абвешчана дзяржаўнай рэлігіяй. Праваслаўная царква, пазбаўленая апекі вялікага князя, пачала траціць сваё пануючае становішча ў дзяржаве. Мітрапаліт К. па меры сіл супраціўляўся такому павароту ў рэлігійным жыцці Вялікага княства Літоўскага. Не маючы магчымасці процістаяць экспансіі заходняй царквы, ён выехаў у Канстанцінопаль. Пасля смерці ў 1389 маскоўскага мітрапаліта Пімена К. прыбыў у Маскву як першасвяшчэннік. У тым жа годзе ён зноў


Застаўка да рукапісу з творамі Кіпрыяна. 14 ст.

прыехаў у Літоўскую мітраполію. Аналіз палітычнай і рэлігійнай сітуацыі ў Вялікім княстве Літоўскім і перагаворы з Ягайлам пераканалі яго ў неабходнасці шукаць рэлігійнага кампрамісу. К. не адхіліў царкоўную унію, але вырашэнне гэтага пытання лічыў правам канстанцінопальскага патрыярха. У сваіх лістах патрыярху і Ягайлу К. ухваляў ідэю аб'яднання цэркваў. Шмат увагі аддаваў ён духоўнай асвеце насельніцтва Вялікага княства Літоўскага. Вядомы яго працы па перакладзе і распаўсюджванні тут богаслужэбных кніг. Да нашых дзён дайшлі аўтографы некаторых яго прамоў, якія сведчаць пра высокую філалагічную і багаслоўскую культуру аўтара. У сваіх пастырскіх пасланнях К. заклікаў народ да маральнага і рэлігійнага ўдасканалення, сцвярджаў веліч і выратавальную сілу хрысціянскай веры, абараняў спіртуалістычныя пачаткі хрысціянства.

*Літ.*: Словарь книжников и книжности

Древней Руси. Вып. 2 (вторая пол. XIV—XVI в.). Ч. 1. Л., 1988. *В.П.Оргіш.*

## КІШКА Ян (?—26.7.1592)

Магнат Вялікага княства Літоўскага, асветнік. Меў маёнткі на Беларусі (Іўе, Лоск, Любча, на Падляшшы). Вучыўся ў 1563 у Базелі, з 1564 у Цюрыху, потым у Рыме, Неапалі і Балоны. З 1569 крайчы літоўскі. У час Лівонскай вайны ў 1580 на чале свайго атрада ўдзельнічаў у паходзе караля Стафана Баторыя на Вялікія Лукі. З 1579 падчашы літоўскі і староста жмудскі (з 1579 сенатар Рэчы Паспалітай), з 1588 кашталян віленскі, з 1589 ваявода брэсцкі, дзяржаўца быстрыцкі і цівун эйрагольскі. У сваіх маёнтках пашыраў арыянства, замяняючы кальвіністцкіх міністраў (пастараў) арыянскімі. У Іўі заснаваў арыянскую акадэмію, у Венграве на Падляшшы — друкарню (1570), якую перавёў у Лоск (існавала ў 1574—92). На арыянскіх сінодах у Лоску ў 1578 і 1581, а таксама ў 1582 у Любчы выступіў супраць левага радыкальнага цячэння ў арыянскім руху. Аўтар некалькіх рэлігійных трактатаў. На сойме 1589 выступіў у абарону верацярпімасці. У кнігадрукаванні працягваў традыцыю Ф.*Скарыны.*

*А.П.Грыцкевіч.*

## КМІТА-ЧАРНАБЫЛЬСКІ Філон Сямёнавіч (каля 1530—29.11.1587)

Ваенна-палітычны дзеяч Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, аўтар эпісталярных твораў. Паходзіў са шляхецкага роду Кмітаў, аселага ў Кіеўскім ваяводстве. Філон быў сынам беларускіх шляхціцаў Сямёна Кміты і Таццяны Крошынскай. У 1562 арандаваў замак Асцёр каля Кіева, удзельнічаў у войнах супраць Маскоўскай дзяржавы. Узначальваючы невялікі атрад коннікаў, разбіў адзін з буйных варожых атрадаў, узяў штурмам Чарнігаў. Правёў шэраг іншых ваенных аперацый на руска-беларускім памежжы. У студзені 1564 са сваім 2-тысячным атрадам прыкрываў наступленне галоўных сіл Вялікага княства Літоўскага супраць групы рускіх войск, сканцэнтраваных у Полацку пад камандай князя І.Шуйскага, не дапусціў злучэння гэтай групы з арміяй князя Сярэбранага Абаленскага, якая рухалася з Вязьмы да Оршы. Потым, выкарыстаўшы перамогу князя Радзівіла над Шуйскім у бітве на Іванаўскім полі, паспяхова здзейсніў акцыю, у выніку якой маскоўская армія адступіла на Смаленск. Летам 1565 напаў на Севершчыну, узяў г. Почап і вярнуўся ў Асцёр. За ваенныя заслугі кароль *Жыгімонт II* Аўгуст паводле прывілея ад 26.3.1566 падараваў яму ў вечнае карыстанне Чарнабыльскае ўладанне ў Кіеўскім ваяводстве. Ад назвы замка Чарнобыль і паходзіць яго другое прозвішча — Чарнабыльскі. У 1566 ён атрымаў Аршанскае староства. Як староста абараняў межы дзяржавы, аднačасова праводзіў ваенную разведку, інфармаваў Вільню пра ўнутраныя справы і палітычныя планы Івана Грознага, вёў дыпламатычныя перагаворы. У 1568 правёў на Смаленшчыне шэраг наступальных аперацый. У прыватнасці, выманіў у поле і разбіў частку смаленскага гарнізона, спустошыў землі аж да Вязьмы. Прымаў удзел у вайне з Масквой (1579—82). У 1579 у час паходу на Полацк прыкрываў галоўныя сілы з боку Смаленска. У тым жа годзе прызначаны смаленскім ваяводам. У верасні 1580 *Стафан Баторый* назначыў яго камендантам крэпасці Вялікія Лукі. У 1580—81 працягваў ваенныя дзеянні на памежжы з Маскоўскай дзяржавай. Потым атрады, што знаходзіліся пад камандай аршанскага старосты, вярнуліся абараняць прыдняпроўскія землі.

Кміта-Чарнабыльскі — аўтар цікавага помніка беларускай эпісталярнай літаратуры, т. зв. водпісаў. Збераглося 30 лістоў, якія ён дасылаў з Оршы ў Вільню членам дзяржаўнай рады Вялікага княства Літоўскага. Першы з іх датаваны 1573, астатнія 1574. Гэта службовыя данясенні пра ваенна-палітычную сітуацыю на ўсходніх межах краіны, становішча ў Маскоўскай дзяржаве, намеры Івана Грознага, руска-татарскія адносіны і інш. У некаторых лістах аўтар характарызуе ўнутрыпалітычнае жыццё Рэчы Паспалітай таго часу, закранае вострыя сацыяльныя праблемы, выкрывае і асуджае пануючы клас, яго маральнае разлажэнне, абыякавасць да лёсу Радзімы. Вылучаюцца лісты да трокскага кашта-

ляна Я.Валовіча, у якіх выразна паўстае асоба аўтара, яго індывідуальны стыль, адлюстравана жыццё і побыт служылай шляхты, паказаны характар чалавека, яго перажыванні і адносіны да навакольнай рэчаіснасці. Яны напісаны добрай беларускай мовай, з выкарыстаннем прыказак і прымавак, народных сродкаў гумару і сатыры. Лісты — каштоўны гісторыка-літаратурны дакумент часу, прыкметная з'ява ў развіцці старажытнай беларускай пісьменнасці. Упершыню апублікаваны ў 1844, найбольш поўна, з навуковымі каментарыямі, выдадзены А.Ф.Коршунавым у «Помніках старажытнай беларускай пісьменнасці» (1975).

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1. С. 246—254; Майхровіч С.К. Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст. Мн., 1980. С. 183—186. *В.А.Чамярыцкі.*

## **КРЫШКОЎСКІ** Лаўрэнцій

Дзеяч рэфармацыйнага руху, гуманіст, пісьменнік 2-й паловы 16 ст. У 1550-я гады прыхільнік вучэння Чэшскіх братоў у Вялікай Польшчы. У 1558 у друкарні г. Шаматулы (Польшча) выдаў кнігу «Размова чатырох братоў закону хрысціянскага». З 1561 кальвінісцкі прапаведнік у Нясвіжы. У 1562 у Нясвіжскай друкарні разам з С.*Будным* і М.*Кавячынскім* выдаў на беларускай мове «Катэхізіс», «Об оправдании грешного человека перед Богом». Каля 1563 перайшоў на пазіцыі антытрынітарызму, пазней падтрымліваў рэлігійныя і сацыяльныя ідэі анабаптызму. Пры дапамозе Буднага пераклаў і выдаў на польскай мове «Гутаркі святога Юсціна філосафа...» (Нясвіж, 1564). У сваіх пропаведзях К. выступаў з крытыкай прыгонніцтва як ганебнай формы феадальнага грамадства, адстойваў прынцыпы верацярпімасці, прапагандаваў грамадскакарысную працу. Паводле ацэнкі К.Ф.Калайдовіча, Будны, Кавячынскі і К. «зрабілі беларускую мову кніжнай», а кнігу даступнай шырокаму колу чытачоў. Выкарыстанне жывой народнай мовы ў рэлігійнай пісьменнасці і царкоўным богаслужэнні было важным сродкам уздыму і далейшага развіцця нацыянальнай культуры.

*Літ.:* Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: Вторая половина XVI—нач. XVII в. Мн., 1970; Gorski K. Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI w. Krakow, 1949. *Г.Я.Галенчанка.*

## **КУРБСКІ** Андрэй Міхайлавіч (1528—83)

Князь, расійскі баярын і ваявода, палітычны дзеяч і пісьменнік. Паходзіў са смаленска-яраслаўскай лініі роду Рурыкавічаў. Прымаў дзейны ўдзел ва ўзяцці Казані, задушэнні паўстання народа мары, у шэрагу паходаў супраць татараў і ў Лівонскай вайне 1558—83, дзе ён узначальваў рускія войскі і меў некалькі перамог. Прыбліжаны цара Івана IV Грознага, член групы яго дарадцаў, якую ён сам называў «Выбранай радай». У сакавіку 1563 пакінуты ваяводам у заваяваным Дэрпце (Тарту, Эстонія). Праз год пасля гэтага ноччу 30.4.1564 разам з некалькімі паплечнікамі з ліку баярскіх дзяцей К. тайна збег да польскага караля і вялікага князя літоўскага *Жыгімонта II* Аўгуста. У сваіх творах і пасланнях не растлумачваў прычын такога ўчынку. Мяркуюць, што да гэтага К. прымусіла нетрываласць яго становішча пры цару, які караў смерцю аднаго за другім сваіх дарадцаў, паплечнікаў і сяброў без усялякіх на гэта прычын. Няўдалы паход да Невеля і беспаспяховыя перагаворы пра здачу некалькіх лівонскіх гарадоў у любы момант маглі быць вытлумачаны царом як здрада і стаць падставай для смяротнай кары. Пакінутая ў Маскве сям'я К. (яго жонка і сын) была зняволена ў турму і закатавана. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст шчодра абдарыў К. землямі: ён атрымаў Крэўскае староства, на Валыні горад Ковель, мястэчкі Віжва і Мілянавічы з дзесяткам вёсак. Спачатку гэтыя памесці і маёнткі былі дадзены К. ў «пажыццёвае валоданне», а потым «за добрую цнатлівую, верную і мужную службу» ў час паходу з корпусам войска Вялікага княства Літоўскага да Вялікіх Лук у 1565 былі замацаваны за ім на правах спадчыннай уласнасці. У 1575 К. хадзіў з войскам на Валынь, каб абараніць яе ад татараў. У 1576 узначальваў вялікі атрад у складзе арміі *Стафана Баторыя* і змагаўся супраць



*Герб А.Курбскага.*

маскоўскіх палкоў пад Полацкам і Сокалам. У 1581 К. выступіў у 2-і паход Стафана Баторыя супраць Масквы, але на мяжы з Маскоўскай дзяржавай знясілены ад гадоў баявога жыцця і раненняў К. занядужаў, вярнуўся ў Ковель і праз 2 гады там памёр. Пахаваны ў манастыры в. Вербкі пад Ковелем. На Беларусі К. быў двойчы жанаты на прадстаўніцах радавітых мясцовых сем'яў і меў ад першага шлюбу сына Дзмітрыя, які перайшоў у каталіцтва.

Апрача таленту военачальніка, К., маючы добрую адукацыю (вывучаў граматыку, рыторыку, астраномію і філасофію), валодаў літаратурнымі здольнасцямі і напісаў шэраг літаратурных твораў на даволі высокім узроўні. На фарміраванне яго светапогляду вялікі ўплыў зрабіў Максім Грэк, якога ён лічыў сваім улюбёным настаўнікам. Вывучаў Арыстоцеля, Цыцэрона, перакладаў з лацінскай мовы творы Іаана Златавуста, Грыгорыя Багаслова, Васіля Вялікага, Дыянісія Арэапагіта, быў прыхільнікам ідэй Асветніцтва, выкрываў невуцтва панруючага саслоўя, змагаўся за чысціню праваслаўнай веры, выступаў супраць езуіцка-каталіцкай экспансіі на землі Беларусі. Адмоўна ставіўся да рэфармацыйна-гуманістычнага руху, ідэй Феадосія *Касога* і яго паслядоўнікаў, быў праціўнікам жывой гутарковай мовы ў рэлігійных кнігах, таму крытыкаваў скарынінскія выданні. З пазіцый артадаксальнага праваслаўя абвінавачваў Скарыну ў «злачыннай сувязі» з Рэфармацыяй, скажэнні традыцый праваслаўнага веравызнання, за ерэтычны спосаб мыслення. «Біблію» Скарыны лічыў «разбэшчвальнай» і супярэчнай «усім апостальскім і святым уставам» і ва ўсім згоднай з «Бібліяй» М.Лютэра. У выніку К. апазіцыйна ставіўся да ўсёй рэнесансава-гуманістычнай традыцыі асветніцкага тлумачэння біблейскіх кніг у беларускай культуры 16 ст., якая пачыналася з прац беларускага першадрукара.

К. перапісваўся з князем Канстанцінам *Астрожскім* з нагоды выхаду кнігі П.*Скаргі* «Пра еднасць касцёла Божага» (1577). Сябраваў з беларускімі кнігавыдаўцамі братамі Кузьмой і Лукашом *Мамонічамі*. К. — аўтар паслання да Івана IV (1564—79), «Гісторыі пра вялікага князя маскоўскага» (1573) і інш. У сваіх паслан-



*Царква ў в. Вербкі паблізу Ковеля, дзе быў пахаваны А.М.Курбскі. З гравюры 1848.*

нях, якія сталі пачаткам вядомай перапіскі паміж К. і царом, ён абвінавачваў апошняга ў жорсткасці, неапраўданых пакараннях смерцю, высмейваў яго літаратурную манеру. У «Гісторыі...» адлюстроўвалася і выкрывалася ідэалогія буйной арыстакратыі, што выступала супраць узмацнення самадзяржаўнай улады ў Маскоўскай Русі. Адначасова гэты твор — сведчанне сучасніка аб паўстанні 1547 у Маскве, узяцці Казані, дзейнасці ўрада А.Ф.Адашава («Выбранай рады»), аб Лівонскай вайне і інш. падзеях. Наогул творам К. уласцівы вера ў сілу «кніжнага слова», разумнае перакананне аргументамі, імкненне да рацыяналістычнага тлумачэння падзей.

*Тв.*: Соч. Т. 1. Сочинения оригинальныя. Спб., 1914.

*Літ.*: Скрынников Р.Г. Переписка Грозного с Курбским. Л., 1973; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968.



## **ЛАНЧЫЦКІ** (Lęczycki) Даніэль [Даніэль з Ланчыцы; 1530(?)—1600(?)]

Друкар, прадаўжальнік традыцый Ф.*Скарыны* ў кнігадрукаванні. Выдаваў кнігі на польскай і лацінскай мовах. Працаваў у Пінчове (1558—62), Нясвіжы (1562—71), Заслаўі (ці Уздзе). У 1572—76 кіраваў Лоскай друкарняй. У 1576—80 працаваў у друкарні М.Радзівіла ў Вільні, у 1594—1600 трымаў уласную друкарню. Выдаваў кнігі С.*Буднага*, Пятра з Ганёндза і інш. У выданнях Буднага выкарыстоўваў элементы аздобы кніг Скарыны.

Пасля смерці Л. абсталяванне яго друкарні, верагодна, адышло да акадэмічнай друкарні.

*Літ.:* Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970.

## **ЛАСІЦКІ** (Lasicki) Ян (1534—1605)

Гісторык, бібліёграф, пратэстанцкі рэлігійны дзеяч. Нарадзіўся ў Польшчы ў незаможнай шляхецкай сям'і. У 1556—61 суправаджаў аднаго з маладых паноў у вандроўках па краінах Заходняй Еўропы, слухаў лекцыі ва універсітэтах Гейдэльберга, Страсбурга, Жэневы, Лазаны, Цюрыха, Падуі і інш. Цікавіўся матэматычнымі і тэхнічнымі навукамі, астраноміяй, у якой быў прыхільнікам геліяцэнтрычнай сістэмы сусвету. Перапісваўся з заходнееўрапейскімі рэфарматарамі па розных багаслоўскіх і царкоўных пытаннях, якія ў той час пачалі цікавіць польскіх пратэстантаў, і прымаў удзел у барацьбе з антытрынітарскім рухам. У 1567 наведаў Чэхію, дзе пазнаёміўся з членамі рэлігійнай секты Чэшскіх братоў, і быў у захапленні ад арганізацыі іх царквы; напісаў пра іх сачыненне (захаваўся невялікі ўрывак), якое ў рукапісе паслаў швейцарскім рэфарматарам, у прыватнасці Безэ. У 1571 Л. зноў наведаў Чэшскіх братоў і пасля гэтага напісаў гісторыю секты (выдадзена толькі ў 1649).

У 1580 пераехаў у Вялікае княства Літоўскае і з 1581 працаваў у Вільні хатнім настаўнікам і выхавальнікам сыноў мінскага кашталяна Я.Глябовіча, якія пад яго наглядам навучаліся ў кальвінісцкіх школах. У Вільні Л. пазнаёміўся і блізка сышоўся з кіраўнікамі мясцовых кальвіністаў — А.*Воланам*, С.Судроўскім і інш. Да гэтага Л. пазбягаў удзелу ў палемічных дыспутах, але, зыходзячы з сяброўскіх пачуццяў і падзяляючы погляды Волана, у 1583 выступіў у падтрымку апошняга ў яго спрэчках з езуітамі і папістамі. Апошнія гады жыцця правёў у Заслаўі каля Мінска ў доме свайго выхаванца М.Глябовіча.

Л. быў чалавекам шырокага кругагляду. Займаўся кнігазнаўствам, напісаў некалькі кніг па гісторыі вывучэння рэлігіі, цікавіўся этнаграфіяй народаў, якія насялялі тэрыторыю Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, тэорыяй культуры. Пісаў на лацінскай мове. Аўтар прац «Пра рэлігію, ахвярапрынашэнне, вясельныя і пахавальныя абрады русінаў, маскавітаў і татараў...» (1582), у якой апісваў сямейныя абрады, народнае адзенне, стравы, матэрыяльную культуру беларусаў, асаблівасці архітэктуры Полацка, Вільні і інш. гарадоў. У творы «Пра багоў са-

магітаў, іншых сарматаў і несапраўдных хрысціян» (выд. ў 1615) шырока асвятліў міфалогію і ўяўленні пра свет язычніцкіх вераванняў жыхароў тагачаснай Літвы.

*Літ.:* Barycz H. Jan Lasicki: Studium z dziejów polskiej kultury naukowej XVI wieku. Wrocław etc., 1973. *Г.А.Маслыка.*

**ЛІТВІН** Міхаіл (сапр. Цішкевіч Міхайла)

Беларускі гуманіст і мысліцель 16 ст. Звесткі пра час і месца нараджэння і смерці не захаваліся. Вядома, што паходзіў са збяднелай беларускай шляхты. У 1553 ажаніўся з князёўнай Глінскай, у пасаг за якой атрымаў некалькі маёнткаў у Ваўкавыскім пав. Каля 1538—40 пасол Вялікага княства Літоўскага пры двары крымскага хана Сахіп-Гірэя. Л. хваляваў лёс чалавека, умовы яго свабоднага развіцця, узаемаадносіны з дзяржавай і грамадствам. Каля 1550 ён напісаў сацыяльна-палітычны трактат «Аб норавах татараў, літоўцаў і масквіцян» (выдадзены ў 1615 у Базелі на лацінскай мове), у якім параўноўваў звычаі, законы і норавы, арганізацыю кіравання і суда ў татарскай, літоўскай і Маскоўскай дзяржавах, звязваў моцную дзяржаўнасць з разумнасцю законаў, а мараллю штодзённага жыцця грамадства, стабільнасцю сям'і. Адлюстраваў погляды тых, хто кіраваўся у сваёй дзейнасці нацыянальнымі інтарэсамі Вялікага княства Літоўскага, быў сапраўдным патрыётам. У трактаце Л. ставіў пытанні сацыяльна-палітычнага ўдасканалення грамадства, рэфармавання існуючых грамадскіх інстытутаў. Аснову гарманічнага грамадства бачыў у маёмаснай роўнасці, прытрымліваўся канцэпцыі ідэальнага правіцеля, справядлівага кіравання і правасуддзя. Грамадскія праблемы разглядаў з пазіцый проціпастаўлення дрэнных і добрых звычаяў. Так, імкненням да багацця і раскошы проціпастаўляў самаабмежаванне, памяркоўнасць, устрыманне. Пашырэнне добрых звычаяў звязваў з утылітарна-практычнай неабходнасцю нармальнага і разумнага існавання грамадства (напр., «каб ні адзін бедны не паміраў з голаду або холаду»). Крытыкаваў маральныя заганы шляхты Вялікага княства Літоўскага, выступаў супраць заняволення адных людзей другімі. Л. закранаў праблемы сацыяльнай роўнасці перад законам, аднолькавага прынцыпу абкладання



*Падуя. Гравюра 16 ст.*

падаткамі простага чалавека і шляхціца: чым большая маёмасць, тым большым павінен быць падатак. Шмат месца ў трактаце адведзена пытанням удасканалення правасуддзя. Асноўнае з іх — ахова жыцця простага чалавека; прынцып «кроў за кроў» павінен быць аднолькавы да ўсіх злачынцаў незалежна ад іх сацыяльнага становішча. З гэтай прычыны лічыў неабходным вызваліць працоўнае насельніцтва з-пад юрысдыкцыі феадалаў, а права на вынясенне смяротнай кары дазволіць толькі вышэйшым судам, прапаноўваў увесці агульнасаслоўныя суды. Лічыў, што суду павінны падпарадкоўвацца нароўні з простымі людзьмі вяльможы і правадыры, бо ўсе маюць аднолькавыя правы. Да недахопаў судовай сістэмы, яе прынцыпаў, працэсуальных нормаў, што вядуць да самавольства ў судах і яшчэ больш псуюць норавы грамадства, ён адносіў: адсутнасць апеляцыйных судоў, галоснасці, хібы сістэмы паказанняў сведак, адсутнасць нормаў судовай пісьменнасці. Падкрэсліваў, што сістэма непадзельнасці судовай і адміністрацыйнай улад, сумяшчэнне адной асобай некалькіх адміністрацыйных пасад вядуць да страты самой ідэі справядлівасці і незалежнасці суда. Праблемы, узнятыя Л. у трактаце, часткова былі вырашаны ў час судовай рэформы 1564: удасканалена дзяржаўнае кіраванне і правасуддзе, працэдура судовага разбору, створана апеляцыйная судовая інстанцыя, падрыхтаваны кваліфікаваныя ўраднікі дзяржаўнага кіравання і суда.

Л. крытыкаваў карыслівасць і распусту духавенства, падтрымліваў ідэю верацярпімасці, рэлігійнай талерантнасці, выступаў супраць умяшання каталіцкай царквы ў свецкія справы. Погляды Л. дастаткова блізкія да кірунку «грамадзянскага гуманізму», прасякнуты рэфармацыйна-гуманістычным пафасам эпохі Адраджэння.

*Тв.*: О нравах татар, литовцев и москвитян [10 урыўкаў] / Рус. пер. // Архив историко-юридических сведений, относящихся до России. М., 1854. Кн. 2, пол. 2.

*Літ.*: Любавский М.К. Кто был Михайло Литвин, написавший в половине XVI в. трактат «О нравах татар, литовцев и москвитян» // Уч. зап. Ин-та истории. 1929. Т. 4; Сокол С.Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI—первой половины XVII в. Мн., 1984. С. 50—106; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі. Мн., 1990. С. 157—198. *Г.В.Дзербіна.*

## ЛІЦЫНІЙ НАМЫСЛОЎСКІ Ян (пач. 1560-х гадоў— каля 1635)

Мысліцель-гуманіст, пісьменнік, педагог. Паходзіў з сілезскага г. Намыслаў. Вучыўся ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. У 1585 прызначаны рэктарам арыянскай школы ў Іўі, заснаванай паплечнікамі С.*Буднага*, рэфармацыйным дзеячам Лаўрэнціем *Крышкоўскім*. З 1593 прапаведнік абшчыны арыян у Навагрудку. Паводле сцверджання сілезскага паэта Ш.Пісторыя, галоўнымі прычынамі, што прымусілі Л.Н. пакінуць родныя мясціны, былі «пачуццё абавязку і прага служэння ісціне». Сваю асветніцкую дзейнасць ён прысвяціў барацьбе за здзяйсненне ідэй левага рацыяналістычнага крыла Рэфармацыі, якое на Беларусі ўзначальваў С.Будны. У 1592 Л.Н. выдаў твор «Анатомія і гарманічнасць хрысціянскага чалавека» (на польскай мове, не збярогся, у 1636 перакладзены на нямецкую мову). У 1597 надрукаваў «Зварот да братоў-евангелікаў», у якім выказаў свае рацыяналістычныя рэлігійна-філасофскія погляды. У палемічным творы «Каталісіс» (1598) ён выступаў супраць кальвініскай шляхты. З лацінскай мовы пераклаў на польскую трактат А.Бусбеквіса аб турэцкай палітыцы (Вільня, 1598). Светапоглядную пазіцыю Л.Н., заснаваную на прынцыпе дэізму, адлюстроўвае яго вусная і пісьмовая палеміка з езуітамі М.Сміглецкім (1594) і М.Фрыбеліусам (1603), кальвіністамі А.Воланам і Г.Жарноўскім (1603). У 1615 за атэістычныя погляды Навагрудскі сінод адлучыў Л.Н. ад сацыніянскай абшчыны. Памёр у Навагрудку.

Л.Н. — адзін з пачынальнікаў свецкай адукацыі на Беларусі. Працуючы і Іўеўскай школе, ён напісаў падручнік па логіцы пад назвай «Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля» і надрукаваў яго ў Лоску ў 1586 на лацінскай мове пад псеўданімам Gracianus Prosper. У гэтай кнізе шмат яскравых узораў лагічных разважан-

няў, у якіх крытыкаваліся асноўныя догмы хрысціянскай рэлігіі. Багаслоў Ф.Юніус у сваёй кнізе, выдадзенай у 1596 у Лейдэне (Галандыя), адкрыта выступіў з крытыкай поглядаў Л.Н. і перасцерагаў аб небяспечнасці распаўсюджвання яго ідэй. У 1589 у Лоскім друкарскім двары выдадзены другі вучэбны дапаможнік Л.Н. «Сентэнцыі, неабходныя ў грамадскім жыцці» — адзіны ў сваім родзе зборнік маралізатарскіх выказванняў, часткова арыгінальных думак, часткова запазычаных з іншых літаратурных крыніц і апрацаваных у вершаванай форме. Гэту кнігу можна лічыць першым падручнікам жывых замежных моў у тагачаснай Беларусі, таму што тут чаргаваліся розныя, але аналагічныя паводле зместу выказванні на лацінскай, польскай і нямецкай мовах. У кнізе 255 вершаваных павучанняў трох тыпаў, вытрыманых у духу Адраджэння: лацінскія набраны антыквай, польскія — гатычным шрыфтам і нямецкія — курсівам. Большасць лацінамоўных павучанняў напісана ў форме элегічнага двуверша, асобныя — чыстым гекзаметрам або сапфічнай страфой, зрэдку — адзінаццаціскладовікам. Польскія і нямецкія выказванні рыфмуюцца, іх метрычны памер звычайна трынаццаціскладовік. Кожная сентэнцыя мае загаловак і парадкавы нумар. У 110 павучаннях ёсць спасылкі на крыніцы (псалмы, прытчы, Кніга пракокаў, Евангелле і інш.). Увогуле ж сентэнцыі, вершаваныя Л.Н., — арыгінальныя і не маюць аналогій у працах тагачасных еўрапейскіх паэтаў. Вось некалькі прыкладаў у перакладзе Я.Парэцкага, Ю.Свіркі, А.Міхневіча. Так, у сентэнцыі «Спадчына» (18) ён ставіў жыццёва важнае пытанне: «Ці можаш пакінуць ты спадчыну лепшую, // Чым удзячнасць дзяцей за беззакорнасць тваю?»; у сентэнцыі «Карысць» (30) сцвярджаецца сацыяльная вартасць творчай працы чалавека: «Той больш прыносіць карысці, хто з розумам робіць работу, // Чым той, хто працуе бяздумна, выконвае слепа загад»; у выслоўі «Высакародны розум» (37) багаццю проціпастаўляецца розум чалавека: «Не, не багацце дае высакароднаму розуму сілу, // Розум жа сам найкаштоўнейшы ў свеце са скарбаў зямных»; у павучанні «Язык» (51) маральнае папярэджванне зламыснікам і нядобразычліўцам: «Раніць бязлітасны меч цела жывое не гэтак, // Як нявіннага ядам смяртэльным злачынны язык». Ёсць у кнізе нямала аптымістычных сентэнцый, у якіх выказваецца вера ў стваральна-творчыя магчымасці нацыі, у духоўную сілу чалавека. У адной з іх — «Надзея» (66) гаворыцца: «Доўга маркоціцца нельга, губляць не патрэбна надзею; // Знай: калі цяжка сягоння, хутка будзе лягчэй». Спецыяльныя сентэнцыі Л.Н. прысвечаны і такім маральным вартасцям і заганам, як паслухмянасць, непакой, памяркоўнасць, вытрымка, п'янст-



*Ягелонскі (Кракаўскі) універсітэт. З літаграфіі 19 ст.*

ва, помста, мудрасць і інш. Для ўсіх выслоўяў характэрны розныя адценні адной і той жа думкі на лацінскай, польскай і нямецкай мовах, што яшчэ шырэй раскрывае абрысы задумы аўтара, яго поглядаў і высноў. Напрыклад, сентэнцыя пра любоў да радзімы ў лацінскім варыянце гучыць так: «Кожны, хто сумленны, так палка любіць радзіму, што кіне беззбройнае цела ў агонь кастра»; у польскім — «Кожны, хто доблесны, так любіць сваю радзіму, што гатовы згарэць у агні дзеля таго, каб яна засталася некранутай»; у нямецкім — «Кожны годны чалавек любіць сваю радзіму і ахвотна прыме смерць за яе шчасце». Лацінскі варыянт сентэнцыі пра тыранаў гучыць так: «Тыранаў чакае смерць, і не меней жахлівая, чым тых, хто мірна праводзіць свае дні»; польскі — «Не лягчэйшая смерць знаходзіць жорсткіх людзей, чым мірных, і тых, хто бедны»; нямецкі — «Тыранам наканавана стаць прахам нароўні з тымі людзьмі, хто мірна жыве на зямлі». Параўнальны аналіз разнамоўных сентэнцый дае магчымасць паглыбіць нашы ўяўленні аб іх філасофскай, маральнай і жыццёвай значнасці і тым самым аб светапоглядзе і дыдактычных прынцыпах аўтара.

Цікавае ў навуковым плане параўнанне Л.Н. з творчым набыткам маралістаў Еўропы, у прыватнасці з «Максімамі» Ларошфуко, першае выданне якіх з'явілася ў Францыі ў 1665 г. (г. зн., што выслоўі іўеўскага настаўніка надрукаваны на 76 гадоў раней за «Максімаў», прычым у вершаванай форме на трох мовах). Апрача таго, афарызмы французскага мысліцеля больш складаныя па структуры, чым «Сентэнцыі» Л.Н., у іх часам даволі цяжка «вылушчыць зерне» ісціны. Думкі Л.Н. больш простыя і даступныя чытачу. Напрыклад, Ларошфуко «Самалюбства» вызначае як любоў да сябе і да ўсіх рэчаў, «якія табе карысныя». Л.Н. пра «Самалюбства» піша так: «Ісціннае слова распаўсюджана ў вуснах народа: кожны лічыць за лепшае дабро сабе, чым іншым». Дабрадзейнасцю Л.Н. лічыць мэтанакіраванае дзеянне, а не выпадковую ўдачу, хоць менавіта недальнабачны карыслівец імкнецца да выпадковага поспеху. Ларошфуко прытрымліваўся падобнай жа думкі: «Прыстойныя людзі паважаюць нас за нашыя дабрадзейнасці, а натоўп — за прыхільнасць лёсу». Аўтар «Максімаў» выказвае думку, што адрозніць хлусню ад праўды вельмі цяжка, а аўтар «Сентэнцый» перасцерагае, што хлусня ўласціва людзям, і таму не трэба здзіўляцца падманам. Разам з тым першы з'едліва заўважаў: «Сваім недаверам мы апраўдваем чужую хлусню», а другі павучаў, што «толькі той, хто не можа даказаць праўду, карыстаецца хлуснёй». Калі супаставіць «Максімы» з «Сентэнцыямі», то высвятляецца, што абодва аўтара імкнуліся да абагульнення асабістага жыццёвага вопыту, назапашанага ў выніку намаганняў зразумець супярэчнасці сучаснага ім грамадства і акалічнасцей уласных поспехаў і няўдач. Спадчына Л.Н. і сёння мае філасофскае, маральнае і літаратурна-мастацкае значэнне.

*Літ.*: Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: Вторая половина XVI—нач. XVII в. Мн., 1970; Парэцкі Я.І. Іўеўскі педагог Ян Ліцыній Намыслоўскі // Бел. літ. 1983. Вып. 11; Яго ж. Сентэнцыі іўеўскага педагога // Полымя. 1988. № 8; Яго ж. Іўеўскі Ларошфуко // Культура. 1992. № 17, май.

*Я.І.Парэцкі, А.Я.Міхневіч.*

## **ЛОВАН** Стэфан Рыгоравіч (Ян Лавейка)

Мысліцель-атэіст 2-й паловы 16 ст. Дата і месца яго нараджэння невядомыя, а пра час смерці можна меркаваць толькі прыблізна (каля 1595), бо езуіт С.Рэшка ў кнізе «Аб атэізме і скажэннях евангелікаў», выдадзенай у 1596, гаварыў пра Л. як пра памерлага. Захаваўся дакумент — «Пазоў аднаму рускаму секты эпікуравай» — пра выклік Л. ў 1592 у Галоўны трыбунал Вялікага княства Літоўскага за пашырэнне атэістычных поглядаў. Выклікалі яго ў суд па даносе шляхціца С.В.Лозкі, які паведамляў каралю Рэчы Паспалітай Жыгімонту III, што земскі суддзя Мазырскага пав. Л. не прызнае Бога, таму не павінен займаць гэту пасаду. У каралеўскім «Пазове...» пералічваюцца адступленні Л. ад хрысціянскай рэлігіі: не прызнае хрысціянскую Тройцу — трыадзінага Бога, не лічыць Хрыста сынам Божым, вызва-

ліцелем і збавіцелем грахоўнасці людзей, адмаўляе пекла, рай, існаванне ў чалавека душы і яе бессмяротнасць, не верыць ва ўваскрэсенне з мёртвых, не прызнае дзень страшнага суда, тым самым адмаўляе ўсе галоўныя пастулаты хрысціянскай рэлігіі. Сведчанняў пра тое, ці адбыўся гэты суд, не знойдзена. Але ў Літоўскай метрыцы за 1594 ёсць запіс пра каралеўскі суд над Янам Лавейкам па скарзе таго ж С.В.Лозкі (другі разбор: запісы пра першы разбор гэтай справы таксама не знойдзены). У сувязі з гэтым існуе здагадка, што Ян Лавейка і быў Стэфанам Лованам і што гэтыя два працэсы звязаны паміж сабой. З запісаў таксама вынікае, што скаржнік Лозка, як і ў першы раз, на суд не з'явіўся і што Лавейку ў чымсьці перашкаджалі пры выкананні ім у Мазыры сваіх службовых абавязкаў. Кароль прызнаў выстаўленыя супраць Лавейкі абвінавачванні недаказанымі і вынес рашэнне пакінуць яго на ранейшай пасадзе. Знойдзены і запісы пра зямельныя і даўгавыя спрэчкі Лавейкі з тым жа Лозкам, удзел у пасяджэннях Віленскага трыбунала ў якасці суддзі мазырскага маршалка Яна Лавейкі (ёсць і ўласнаручны яго подпіс).

Погляды Л. і ў каралеўскай «Пазове...», і ў кнігах С.Рэшкі «Аб атэізме і скажэннях евангелікаў» і М.Жаброўскага «Рэцэпт на пластыр Чэхаўца» (абедзве 1597) у асноўным супадаюць. Толькі Рэшка дадае, што Л. быў спачатку іудзеем, потым хрысціянінам-арыянцам, потым цвінгліянцам і ўрэшце стаў атэістам. У названых крыніцах найбольш падкрэсліваецца, што ён адмаўляў стварэнне свету і лічыў, што свет так «стаіць ад веку»; усё, што мы бачым, што адбываецца вакол нас, не мае патрэбы ў дапушчэнні звышнатуральнага творцы-Бога, што свет існаваў «ад веку» і «так векі векам будзе». У той жа час з іх вынікае, што Л. не прытрымліваўся погляду на поўную нерухомасць свету. З «Позвы...» відаць, што ён дапускаў развіццё ўсяго існуючага на свеце: «Зямля, дрэвы, вада і інш. рэчы — усё само праз сябе... сталася». Л. не верыў у Бога, у існаванне асобнай, нецялеснай душы, не бачыў прынцыповай розніцы паміж чалавекам і жывёлінай: «Чалавек жа, як і сабака або скаціна, крывёю сыходзіць», «душы ў чалавека, раю і пекла няма і суднага дня не будзе». У адпаведнасці з эпікурэйскай канцэпцыяй душы і цела ён атаясамліваў душу з дзейнасцю жывога арганізма, падкрэсліваў падабенства псіхафізіялагічных функцый чалавека і жывёлы.

Сацыяльна-палітычныя погляды Л. вызначаліся рацыянальным, гуманістычным падыходам да вырашэння жыццёвых праблем, верай у перамогу дабра над злом. Ён асуджаў існуючую ў грамадстве несправядлівасць, страшэннае бяспраўе і беднасць адных і неабмежаваную ўладу і багацце другіх. Асуджаючы несправядлівы парадак, ён выказваў надзею на магчымасць лепшай сацыяльнай арганізацыі свету, лічыў, што паколькі, акрамя вечна існуючага свету, няма іншага быцця, то і сацыяльна-этычныя адносіны складаюцца на рэальнай, матэрыяльна-зямной аснове. Тым самым ён адвяргаў рэлігійна-тэалагічнае вучэнне аб боскім паходжанні маралі, замагільнай адплаце і г.д. Як К. *Лышчынскі* і К.*Бекеш*, Л. сцвярджаў ідэю зямнога прадвызначэння чалавека, мірскога шчасця, безрэлігійнай, натуральнай маралі.

У тагачаснай Беларусі шмат хто падзяляў ідэі Л. Так Жаброўскі, асуджаючы ідэі Л., адзначаў наяўнасць вялікай колькасці падобных позваў, запісаў і шматлікіх выклікаў у суд за атэістычныя перакананні многіх гараджан Беларусі і Літвы. Віленскі войт Ратондус паведамляў у 1567 кардыналу Гозію, што ў Гродне надрукавана кніга, у якой ухваляецца ідэя свабоднай барацьбы веравызнанняў, адмаўляецца «ўсякая ўлада», прапаведуецца «агульнасць маёмасці, ліквідацыя саслоўных адрозненняў паміж каралём і народам, паміж шляхтай і плебеямі, паміж пануючымі і падданымі».

*Літ.*: Бодянский О.М. О поисках моих в Познанской публичной библиотеке. М., 1846; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Яго ж. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: Вторая половина XVI—нач. XVII в. Мн., 1970; Позов одному русскому секты епикуровой // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI—нач. XIX в. Мн., 1962; Сер-

бента В.А. Видные атеисты и материалисты Белоруссии второй половины XVI в. // Тамсама.



## МАМОНІЧЫ

Беларускія выдаўцы і грамадскія дзеячы Вялікага княства Літоўскага, купцы. На іх сродкі П. *Мсціславец* у сярэдзіне 1570-х гадоў заснаваў у Вільні друкарню, якая мела важнае грамадскае і культурнае значэнне ў жыцці Беларусі, адыграла прыкметную ролю ў справе асветы, у далейшым развіцці беларускага кнігадрукавання, садзейнічала пашырэнню беларускай мовы і пісьменнасці сярод суайчыннікаў, росту міжнародных і культурных узаемасувязей. Пры Мсціслаўцу ў гэтай друкарні былі выдадзены «Часоўнік» [1574—76(?)], «Евангелле напрастольнае» (1575), «Псалтыр» (1576). М. імкнуліся поўнасцю ўзяць кнігадрукаванне ў свае рукі. У выніку канфлікту паміж імі і Мсціслаўцам друкарня ў 1576 спыніла дзейнасць. У 1583 яе дзейнасць адноўлена. Друкарню ўзначальвалі віленскі бурмістр Кузьма Іванавіч Мамоніч і яго брат Лукаш — скарбны Вялікага княства Літоўскага. Фінансавую падтрымку ім аказвалі праваслаўныя шляхціцы Зарэцкія. З 1593 у рабоце друкарні ўдзельнічаў Лявон Кузьміч Мамоніч, а пасля смерці Лукаша (1606) і ўзначаліў яе. Пры падтрымцы канцлера Вялікага княства Літоўскага *Л.Сапегі* ў 1586 і 1593 М. атрымалі прывілеі, што дазволіла ім часова манапалізаваць выданне кніг на беларускай і царкоўнаславянскай мовах. З М. супрацоўнічаў віленскі друкар Васіль *Гарабурда*, які ў пач. 1580-х гадоў выпусціў некалькі выданняў. У мястэчку Павільна (каля Вільні) М. мелі сваю паперню. Друкары М. улічвалі запатрабаванні і культурныя традыцыі розных пластоў насельніцтва. Большая частка іх выданняў 16 ст. прызначалася для патрэб праваслаўных брацтваў, іх школ, царквы, мяшчанства. Гандлёвыя сувязі М. з Украінай, Рускай дзяржавай, Польшчай скарыстоўваліся для кніжнага ўзаемаабмену. Выпускаліся багаслоўскія літургічныя выданні, кнігі для чытання, публіцыстычныя творы, падручнікі, у т.л. «Граматыка славянская» (1586), «Дыялектыка» І.Спангенберга (каля 1586), «Буквар» (1590-я гады, 1618, 1621). Гэта была адзіная беларуская друкарня, якая выпускала зборнікі заканадаўчых актаў, выданні прававога характару, у т.л. «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588, кірыліцай; 1614, на польскай мове), «Трыбунал абаваталям Вялікага княства Літоўскага» (1586), канстытуцыі вальных соймаў, шэраг палемічных твораў у абарону уніі, галоўным чынам напісаных І.*Пацеем*. Усяго друкарня да 1623 выпусціла каля 50 кірыліцкіх і 35 выданняў на польскай мове. Кнігі ад-



*«Трыбунал Вялікага княства Літоўскага» (тытульны ліст). Вільня. 1586.*

метныя высокім паліграфічным і мастацка-арнаментальным афармленнем. Тут упершыню выкарыстаны зробленыя Грынем Івановічам курсіўныя шрыфты, якія ўзнаўлялі графіку канцылярскага пісьма. Выкарыстоўваліся ў друкарні і свецкія гравюры (партрэт Сапегі, сойм Рэчы Паспалітай і інш.). Друкарскія матэрыялы М. часткова перайшлі ва ўласнасць Віленскай Троіцкай друкарні.

*Літ.:* Зернова А.С. Типография Мамоничей в Вильне (XVII век) // Книга: Исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1; Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс. 1970. С. 54—79; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984.

*Г.Я.Галенчанка.*

## МАСКВІЦІН Іван Фёдаравіч, гл. *Фёдараў* Іван

## МСЦІСЛАВЕЦ Пётр Цімафеевіч

Адзін з усходнеславянскіх першадрукароў і гравёраў 16 ст. Нарадзіўся ў г. Мсціслаў. Адукацыю атрымаў у Пустынскім або Тупічаўскім праваслаўных манастырах. Рамесніцкую вывучку набыў на радзіме. З друкаванай кнігай і друкарскай справай пазнаёміўся на Беларусі, дзе раней працаваў і выдаваў кнігі беларускі гуманіст і першадрукар Ф.*Скарына.* Верагодна, М. быў знаёмы і з кнігамі, выдадзенымі кірыліцай у Кракаве Ш.Фіёлем. У Маскве ён апынуўся дзякуючы сталым сувязям Мсціслава з Масквой. У Маскве жыў князь Ф.М.Мсціслаўскі і яго чэлядзь. Верагодна, праз іх і былі наладжаны дзелавыя сувязі, якія прывялі ў Маскву да І.*Фёдарава* і М. Тут яны па даручэнні цара Івана IV Грознага і мітрапаліта Макарыя стварылі друкарню. Пра гэта паведамляюць пасляслоўе да выдадзенага імі ў 1564 «Апостала», а таксама і два «Сказанія... о воображении книг печатного дела» 1630—40, у якіх адзначана высокае майстэрства кнігадрукароў: «Іван Грозны і мітрапаліт Макарый начаша изысковати мастерства печатных книг кто бы смыслен и розумен к такому делу обрелся: и обретеся некто смыслен и розумен к такому орудию, Николы Чудотворца Гостунского... диекон был званием Иоанн Федоров сын, да другий клеврет его Петр Тимофеев сын Мстиславец, искусни бяху и смыслени к такому хитрому делу». З 19.4.1563 да 1.3.1564 Фёдараў і М. друкавалі ў Маскве першую ў расійскай дзяржаве дакладна датаваную кнігу «Апостал» на царкоўнаславянскай мове ў рускай рэдакцыі. Пра вялікую тэксталагічную і рэдакцыйную працу над гэтай кнігай сведчыць С.Будны ў прадмове да Новага запавету (Лоск, 1574). Тэкст «Апостала» быў удакладнены і звераны з артадаксальным рукапісным арыгіналам, бо нават нязначныя адхіленні ад канона Свяшчэннага пісання ім не даравала б маскоўскае духавенства. У 1565 з іх друкарні выйшла і кніга «Часоўнік», якая выкарыстоўвалася для навучання чалавека ў духу хрысціянскай маралі. Аднак у сувязі з неспрыяльнымі ўмовамі (кансерватыўнае духавенства і апазіцыйныя колы свецкай знаці выступілі супраць друкароў) яны вымушаны былі пакінуць Маскву і шукаць прытулку на Беларусі ў гетмана Вялікага княства Літоўскага Р.Хадкевіча, які ў 1566 запрасіў Фёдарава і М. ў сваё мястэчка Заблудаў. Тут яны стварылі новую друкарню, выкарыстаўшы свой вопыт, прылады і матэрыялы, прывезеныя з Масквы. Хадкевіч прапанаваў ім выдаць кнігу «Евангелле вучыцельнае» на простай беларускай мове. У прадмове да «Евангелля...», надрукаванага ад імя Хадкевіча, так пераказана гэта жаданне: «Помыслил же был есми и се, иже бы сихо книгу выразумения ради простых людзей преложити на простую мову и имел есми о том попечении великое». Аднак пад націскам артадаксальнага духавенства друкары вымушаны былі выдаць яе на царкоўнаславянскай мове. Мяркуюць, што да гэтай справы меў дачыненне і князь А.Курбскі, які прытрымліваўся артадаксальнага праваслаўя. 17.3.1569 у Заблудаўскай друкарні выйшла «Евангелле вучыцельнае», якое павінна было «рассеваць духоўныя семена» сярод праваслаўнага насельніцтва Беларусі, Украіны і Літвы. У гэтай кнізе друкары прадоўжылі пошук новых шляхоў удасканалення сваёй працы, выкарыстаўшы дасягненні кніжнай культуры Беларусі, Заходняй Еўропы і Польшчы. «Евангелле вучыцельнае» мае тытульны ліст, геральдычную гравюру мецэната гет-



*Мсціслаў. З малюнка 19 ст.*

мана Вялікага княства Літоўскага Р.Хадкевіча, фаліяцыю, канцоўкі (зроблены з драўляных дошак ксілаграфіяй).

У двух маскоўскіх выданнях («Апостал» і «Часоўнік») і ў заблудаўскім «Евангеллі вучыцельным» прозвішчы кнігадрукароў Фёдарава і М. стаяць побач як выканаўцаў гэтай складанай справы — выдання духоўных кніг, што распаўсюджвалі дабрачыннасць, асвету, хрысціянскую мараль, чалавечую годнасць. У прадмовах і пасляслоўях друкары прасілі ў чытачоў прабачэння за магчымыя памылкі і недахопы ў выдадзеных імі кнігах.

Кнігавыдавецкая дзейнасць М. і Фёдарава набыла шырокую вядомасць на землях Вялікага княства Літоўскага і за яго межамі. Калі віленскія купцы Мамонічы вырашылі распачаць выданне кніг, яны запрасілі М. ў Вільню для заснавання тут друкарні. У вялікім горадзе было больш магчымасцей для стварэння лепшай друкарні і пашырэння друкаваных кніг. Гэта акалічнасць, як і тое, што пасля Люблінскай уніі 1569 Хадкевіч ужо не мог сваім аўтарытэтам падтрымліваць друкароў праваслаўных кніг, прымусіла М. прыняць запрашэнне. 16.1.1576 М. у друкарні Мамонічаў выдаў кнігу «Псалтыр». У пасляслоўі да гэтага выдання М. адзначаў і ролю віленскіх заможных праваслаўных гараджан у стварэнні друкарні: «умышлением и промышлением его милости пана скарбнага, старосты упицкага, Ивана Семеновича Зарецкого, и брата его пана Зенона, бурмистра места виленского». Названыя асобы сапраўды садзейнічалі стварэнню друкарні, а іх гурток, у які, верагодна, уваходзіў і М., павёў барацьбу з езуітамі. «Псалтыр» прызначаўся для пачатковага навучання грамаце і выхавання навучэнца ў духу хрысціянскай маралі, што спрыяла пашырэнню асветы сярод праваслаўнага насельніцтва Беларусі, Украіны і Літвы. 30.3.1575 намаганнямі М. выдадзена «Евангелле». У пасляслоўі да гэтага выдання М. зноў выказваў удзячнасць за матэрыяльную падтрымку мецэнатам братам Зарэцкім і братам Мамонічам: «пану



*«Евангелле вучыцельнае». Заблудаў. 1569.*

Иоанну и пану Зеновию, таже и Козме и Лоукашу Мамоничам, с благоволением нас приемлющим и почином в дому их, сие дело строих...». Даследчыкі лічаць, што ў гэтай друкарні М. выдаў і «Часоўнік». Гэта выданне фігуруе ў матэрыялах Віленскага гарадскога суда, які разглядаў у 1576 справу аб раздзеле маёмасці друкарні паміж М. і віленскім мешчанінам К. Мамонічам і пастанавіў перадаць М. ўсе друкарскія прылады і яшчэ 30 коп грошай, а Мамонічу — усе наяўныя экземпляры кніг «Евангелля», «Псалтыроў» і «Часоўнікаў». У 1577 гэту цяжбу разглядалі і ў Віленскай ратушы паны бурмістры. Іншых звестак пра жыццё і дзейнасць М. не захавалася. Выданні М. аказалі значны ўплыў на кнігадрукаванне ў Вялікім княстве Літоўскім. Яны распаўсюджваліся на Беларусі, Украіне, у Маскоўскай Русі і адыгралі вялікую ролю ў развіцці асветы. Вядома, што выдадзенае М. «Евангелле» пазней капіравалі ў друкарнях Мамонічаў і В.Гарабурды і што Віленская Святадухаўская брацкая і Астрожская друкарні выкарыстоўвалі яго друкарскія матэрыялы.

*Літ.*: Зернова А.С. Первопечатник Пётр Тимофеев Мстиславец // Книга: Исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9; Ялугин Э.В. Иван Фёдоров и Пётр Мстиславец // Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984; Литовские епархиальные ведомости. 1883. № 41. С. 336—368; Hyaszewicz T. Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Wilno, 1938. *М.Б.Батвіннік.*

## МУРМЭЛІУС Станіслаў

Друкар і кнігавыдавец 16 ст. Паходзіў з Польшчы. У 1558 запрошаны канцлерам Вялікага княства Літоўскага М.*Радзівілам Чорным* узначаліць Брэсцкую друкарню, якая пасля смерці Б.*Ваяводкі* бяздзейнічала. Першай кнігай, выдадзенай М. да лістапада 1558, быў зборнік рэлігійных песень С.Зарэмбы «Песні хвал боскіх». Усяго ім на працягу 1558—61 надрукавана 16 твораў на польскай мове. З іх вядомы: «Два пасланні» (1559) — адказ папскаму нунцыю Ліпамано, дзе рэзка крытыкавалася царкоўна-рэлігійная палітыка рымскай курыі, яе бесцырымоннае ўмяшанне ў справы іншых краін: «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчына» (1560); збор прававых сачыненняў Б.Граіцкага «Артыкулы права Магдэбургскага», «Судовы працэс» (1560) і інш. Магчыма, М. прымаў удзел і ў падрыхтоўцы да выдання Брэсцкай біблії (1563). Каб палепшыць фінансавае становішча друкарні, М. выдаваў сваім коштам хадавыя кнігі свецкага зместу, не пазначаючы месца выдання і іх выдаўца. На публікацыю рэлігійнай літаратуры сродкі даваў Радзівіл. Якасць выданняў М. сведчыць пра дасканаласць яго выдавецкага і друкарскага майстэрства. З 1570 знаходзіўся ў Кракаве, дзе трапіў у даўгавую турму, адкуль яго вызваліў выдавец М.Шарфенберг. Далейшы лёс М. невядомы.




## ПАВЕЛ З ВІЗНЫ

Радыкальны сацыёлаг-гуманіст, антытрынітарый 16 ст. Быў віленскім су-

перінтэндантам, «міністрам». Іншых біяграфічных звестак пра яго амаль не захавалася. Як ідэолаг антыпрыгонніцкай партыі беларускіх і літоўскіх антытрынітарыяў рашуча выступаў на сінодзе ў Іўі (1568) супраць феадальнай эксплуатацыі і прыгоннай залежнасці сялян. Асуджаў існуючую сацыяльную несправядлівасць і тых, хто «валодаў падданымі», трымаў нявольную чэлядзь у рабстве. Лічыў, што гэта супярэчыць слову Божаму, што «праведнаму не трэба мець падданых, а тым больш рабоў і рабынь. Гэта язычніцтва — панаваць над сваім братам, карыстацца яго потам і кроўю». Падкрэсліваў, што «Бог з адной крыві стварыў увесь род чалавечы, таму ўсе мы роўныя; і, калі ўсе мы з адной крыві, значыць, мы ўсе браты; і калі мы браты, то як можа брат над братам панаваць?» Быў упэўнены, што панаванне над людзьмі пайшло ад злога чалавека, якога звычайна называлі тыранам. Гаварыў пра вялікія падаткі, якія вымушаны былі плаціць сяляне, іх дрэннае харчаванне і цяжкую працу на паноў без адпачынку.

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (Вторая половина XVI—нач. XVII в.). Мн., 1970. С. 121—122.

## **ПАВЕНСКІ** Пётр, гл. *Скарга* Пётр

## **ПАЦЕЙ** Іпацій (свецкае імя Адам Львовіч; 1541—1613)



Пісьменнік-палеміст, дзяржаўны, палітычны і царкоўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся на Брэстчыне. Скончыў Кракаўскую акадэмію. Быў каралеўскім сакратаром. У 1580—89 брэсцкі земскі суддзя, з 1589 сенатар Рэчы Паспалітай і брэсцкі кашталян. У 1590 пастрыгся ў манахі і ў 1593 узначаліў Уладзіміра-Брэсцкую епіскапскую кафедру. Неаднаразова мяняў веравызнанне і палітычна-рэлігійныя погляды. З 1599 кіеўскі уніяцкі мітрапаліт. Адзін з арганізатараў і ідэйных натхняльнікаў Брэсцкай царкоўнай уніі 1596. Вядомы як аўтар палемічных твораў на беларускай і польскай мовах у абарону уніі («Унія...», 1595; «Размова берасцяніна з братчыкам», 1603; «Уваскрэшаны Налівайка», 1607; «Ерасі, невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва», «Гармонія...», «Рэляцыя», усе 1608), вялікай колькасці прамоў і павучанняў. Яго лісты да князя Астрожскага сталі прычынай палемікі П. з Клірыкам Астрожскім, у выніку чаго ён выдаў «Водпіс на ліст нейкага Клірыка Астрожскага безыменнага» (1599). Мяркуюць, што яму належыць «Антырызіс» (1599).

Кніга «Унія...» з'явілася пасля таго, як П. разам са сваім аднадумцам К.Тарлецкім, маючы дамоўленасць з каралём Жыгімонтам III Вазай адносна ўмоў царкоўнай уніі, накіраваўся ў Рым, дзе тайна ад сваёй духоўнай паствы прысягнуў папе Клiменцію VIII на вечны саюз з каталіцкай царквой. Змова стала вядомая і выклікала абурэнне праваслаўных. Тады, каб апраўдаць пераход ад уніяцтва, П. выступіў у друку з гэтай кнігай, у якой найперш імкнуўся даказаць, што паміж каталіцкім і праваслаўным веравызнаннямі існуе толькі ўяўная розніца і склалася яна ў выніку прапаведніцкай дзейнасці невукаў, не дасведчаных у справах царквы і гісторыі яе развіцця. Разам з тым П. даволі аб'ектыўна паказаў цяжкае становішча праваслаўнай царквы, неадпаведнасць яе духавенства свайму прызначэнню, пазнаёміў чытачоў з атмасферай жорсткай рэлігійнай, нацыянальнай і антыфеадальнай барацьбы праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны, адначасова выказаў і свае адмоўныя адносіны да гэтай барацьбы. Яго абураў кантроль праваслаўных



*К.Тарлецкі І.Пацей у рымскага папы. З малюнка 19 ст.*

брацтваў над дзейнасцю епіскапаў. З гневам ён абрынуўся на просты народ, які ў яго інтэрпрэтацыі выступаў носьбітам бунтарскіх настрояў. Тым самым П. адмаўляў народу ў праве мець свае думкі, меркаванні ў пытаннях багаслоўя і царкоўнай арганізацыі з-за поўнай некампетэнтнасці і пагардліва кідаў выклік паспрачацца ў пытаннях багаслоўскай навукі. Адзін з тых, хто прыняў выклік і распачаў палеміку з П., быў *Зізаній*. Адказам на пагарду да традыцый праваслаўя з'явіліся таксама выступленні гарадскіх нізоў Вільні, Гродна і інш.

*Літ.*: Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд. Мн., 1985. С. 209—210.

## ПЕЛЬГЖЫМОЎСКІ
(Pielgrzymowski) Гальяш
(?—1604)

Грамадскі дзеяч і пісьменнік 16 ст. Нарадзіўся ў Польшчы. Вучыўся ў кальвінісцкай школе. З 1586 пісар Вялікага княства Літоўскага. У 1583 па даручэнні польскага караля *Стафана Баторыя* наведаў Івана IV Грознага. У 1600—01 сакратар пасольства Рэчы Паспалітай у Маскве, удзельнічаў у перагаворах з Барысам Гадуновым, потым (у 1602) з рускім пасольствам у Вільні. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1583. Пісаў на беларускай, лацінскай і польскай мовах. Аўтар паэтычных і празаічных панегірыкаў (на лацінскай мове), дыярыушаў пра перагаворы ў Маскве (на польскай мове, часткова апублікаваны ў 1846 у Гродне пад назвай «Пасольства Льва Сапегі ў 1600 годзе ў Маскве паводле дыярыуша Гальяша Пельгжымоўскага, сакратара пасольства, з рукапісу, выпадкова знойдзенага, Уладзіславам Трэмбіцкім апісанае»). У дыярыушы былі тэксты і на беларускай мове: праект дагавора паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, пералік падарункаў рускаму цару, яго сыну і інш. Блізкая да вытокаў беларускай паэзіі паэма П. «Гутарка аднаго паляка з маскалём у Маскоўскім замку ў годзе 1601», напісаная на руска-беларускай і польскай мовах (рукапіс зберагаецца ў Публічнай бібліятэцы Рачынскіх у Познані, Польшча). Героі паэмы — прадстаўнік літоўскага пасольства Іван і рускі баярын Ігнат — дыскутуюць па агульных і прыватных пытаннях, часткова звязаных з дыпла-

матычнай місіяй, пра якую, аднак, канкрэтна не гавораць. У дыялогу раскрываюцца іх погляды на міждзяржаўныя ўзаемаадносіны, міжнароднае становішча, свабоду сумлення. Асабліва цікавы вольны, часам з'едліва-гумарыстычны характар іх разважанняў пра рэлігію, які выяўляе свядомасць і светапогляд чалавека эпохі Адраджэння. *У.М.Казбярук.*

## ПЁТР З ГАНЁНДЗА

(Пётр Гезка з Ганёндза, Петрус Ганезіус, Каніза, Каніскі; ?—1573)

Тэолаг і пісьменнік, ідэолаг антытрынітарызму — левай, плебейска-сялянскай плыні радыкальна-рэфармацыйнага руху на Беларусі і ў Літве. Нарадзіўся ў мястэчку Ганёндз на Падляшшы, якое да Люблінскай уніі 1569 уваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае і належала Радзівілам. Паходзіў з беларускай сялянскай сям'і. Нямецкі гуманіст і тэолаг Меланхтон, якога Пётр наведаў у 1556, называў яго літвінам (так у той час называлі ўсіх жыхароў Вялікага княства Літоўскага). Пётр скончыў Кракаўскі універсітэт у 1551, пасля на сродкі віленскага біскупа Паўла Гальшанскага быў накіраваны за мяжу для ўдасканалення ведаў. Пабываў у Італіі, Швейцарыі, Маравіі. Знаёмства з рэлігійна-філасофскім вучэннем М. Сервета і сацыяльна-палітычнымі ідэямі мараўскіх анабаптыстаў адыграла значную ролю ў фарміраванні яго светапогляду. У 1554 Пётр выкладаў сафістыку ў Падуанскім універсітэце. Пасля вяртання на радзіму ў 1556 ён па рэкамендацыі Мікалая Радзівіла Чорнага прыняў удзел у Сяцымінскім сінодзе польскіх, беларускіх і літоўскіх пратэстантаў, дзе выступіў з прамовай і выказаў свае погляды. Яго смелая рацыяналістычная крытыка догмата тройцы выклікала перапалох сярод членаў сінода. Гэта выступленне стала пралогам радыкальнай Рэфармацыі на Беларусі і ў Літве і зрабіла вялікі ўплыў на фарміраванне поглядаў будучых ідэолагаў антытрынітарызму. «...Я лічу, — казаў на сінодзе Пётр, — што траістасць асоб, адзінасутнасць, злучэнне існасці і іншае, унесенае ў царкву школамі, ёсць выдумка чалавечага розуму і таму павінна быць па справядлівасці абвергнутым, каб вярнуцца выключна толькі да Свяшчэннага пісання, якое з'яўляецца самым надзейным падмуркам веры». Сінод пастанавіў накіраваць Пятра ў Вітэнберг да Меланхтона, каб той даў сваё заключэнне пра такія ерэтычныя погляды. Пераканаўшыся ў тым, што Пётр — прапаведнік анабаптысцкага толку, Меланхтон не даў яму магчымасці наладзіць у Вітэнбергу дыспут пра сутнасць свайго вучэння і неадкладна справадзіў вальнадумца. Вярнуўшыся на радзіму, Пётр пасяліўся ў Венграве, якое належала ўдаве віцебскага ваяводы Ганне Кішка, і распачаў энергічную прапаганду свайго вучэння ў Вялікім княстве Літоўскім. Паслядоўнікамі Пятра сталі *Якуб з Калінаўкі*, *Павел з Візны*, М.*Чаховіц* і інш. Весткі пра антытрынітарскую прапаганду Пятра дайшлі да Жэневы. Кальвін у адным са сваіх лістоў пісаў: «Пётр Ганыза зноў аднаўляе пашырэнне на Літве блюзнерскага вучэння Сервета». Пётр удзельнічаў у антытрынітарскіх сінодах, вёў палеміку з С.*Будным*. Ён выдаў некалькі твораў на лацінскай («Супраць боскасці Ісуса Хрыста», Брэст, 1557; «Аб першахрысціянскай царкве», 1564; не збераглісяі) і польскай («Пра трох», «Пра сына божага», «Пра хрысціянскае хрышчэнне», усе 1570) мовах. У гэтых творах ён адмаўляў царкоўна-тэалагічную і філасофскую схаластычную традыцыю. Асноўнымі аўтарытэтамі для яго былі Свяшчэннае пісанне і чалавечы розум. Але калі розум супярэчыў канонам Бібліі, аддаваў перавагу апошняй. Ён быў адным з самых адукаваных людзей свайго часу, дасканала ведаў лацінскую, грэчаскую і яўрэйскую мовы. Актыўна выступаў супраць прыватнай уласнасці, сацыяльнай няроўнасці, свецкай улады, войнаў, феадальнага права, пакарання смерцю. Памёр у Венграве ў час эпідэміі.

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая пол. XVI—нач. XVII в.). Мн., 1970.

## ПРАТАСОВІЧ

### Ян Бенядзіктавіч (?—?)

Беларускі пісьменнік і перакладчык канца 16—пач. 17 ст. Нарадзіўся ў в. Магільна на Піншчыне. Яго бацька Бенядзікт Васілевіч належаў да служылай шляхты Вялікага княства Літоўскага, пэўны час займаў пасады войскага гродзенскага і ключніка трокскага. П., відаць, меў на Піншчыне невялікі маёнтак, але сродкаў на жыццё атрымліваў мала. У прадмове да адной з сваіх кніг ён адзначаў, што не мае «ні золата, ні серабра». Ён быў чалавекам адукаваным, ведаў лацінскую, грэчаскую і заходнееўрапейскія мовы, творы свае пісаў па-польску. Найбольш верагодна, што атрымаў адукацыю ў якім-небудзь заходнееўрапейскім універсітэце дзякуючы падтрымцы багатых мецэнатаў (магчыма, Радзівілаў або Скумініх). У 1570—80-я гады П. займаў пасаду віленскага гарадскога суддзі. Мяркуюць, што з канца 1580-х і да сярэдзіны 1590-х гадоў ён жыў у сваёй вёсцы на Піншчыне. Тут былі задуманы і напісаны яго маральна-павучальныя і навуковыя творы, для публікацыі якіх ён прыязджаў «у слаўнае места Віленскае». У час сваёй службовай дзейнасці П. найбольш бываў у асяроддзі чыноўнікаў гарадскога самакіравання і служылай шляхты. Стаўшы аўтарам кнігі, ён увайшоў у гуманістычны гурток разначыннай інтэлігенцыі, што групавалася вакол друкарні і выдавецтва «віленскага Альда» Яна *Карцана*.

Літаратурную дзейнасць П. пачаў з невялікай кніжкі «Паранімфус» (Вільня, 1595), прысвечанай уступленню ў шлюб Я.Скуміна. З гэтага твора відаць, што аўтар добра ведаў Біблію і герояў Старога запавету, «Іліяду» Гамера, творы Сафокла, Герадота, старажытнагрэчаскую міфалогію. Вобразы антычнай Грэцыі П. выкарыстоўваў, каб паказаць людзям узоры, на якія варта раўняцца. У 1597 ён выдаў 4 творы, у т.л. «Ялмужнік» («Чалавек, які раздае міласціну»), «Контэрфет чалавека старога», прысвечаныя тэме маралі. Ім уласцівыя выразная маралісцка-павучальная тэндэнцыя і гуманізм, услаўляюцца высакародныя чалавечыя якасці і ўчынкі. Асноўная думка «Ялмужніка» — неабходнасць дапамагаць няшчасным, бедным, каб зрабіць іх долю крыху лягчэйшай. У гэтым творы П. намагаецца паўплываць на багатых, каб яны дапамагалі бедным. Ён рэзка крытыкуе сквапнасць багацеяў, выкрывае крывадушнасць прыхільнікаў рэлігійна-хрысціянскага светапогляду. Ставіць у прыклад багацеям-хрысціянам — сваім сучаснікам старажытных філантропаў і дабрадзеяў-язычнікаў. «Ялмужнік» папярэднічаў «Апафегматам» Б.*Буднага*, надрукаваным Карцанам у 1599. У «Контэрфеце...» П. выказвае матэрыялістычны погляд на жыццё і прыроду, стварае мастацкі вобраз чалавечага жыцця: малады чалавек падобны вясне, сярэдніх гадоў — лету, а стары — восені, багатай сваім ураджаем. У творы «Эпіцэдыум», прысвечаным памяці М.Вайнянкі, якая памерла «ў квітнеючым узросце», аўтар падае сентэнцыі з яе жыцця, падмацаваныя спасылкамі на філасофію антычных мысліцеляў, выказвае матэрыялістычны погляд на чалавечае жыццё і прыроду («усё цячэ, усё мяняецца»), таму смерць — з'ява зусім натуральная, «несмяротных людзей няма». У ім П. выказвае і свае дэмакратычныя погляды, па-свойму выкрывае няроўнасць людзей у тагачасным грамадстве, крытыкуе грамадства, у якім «аднаму дастаецца ўсякага дабра і багацця, а ў другога і хлеба няма!». У творы «Вобраз дастаслаўных жанчын» шмат прыкладаў жаночай дабрачыннасці, гераізму і самаахвярнасці. Над апошнім сваім творам «Інвенторэс рэрум» («Вынаходнікі рэчаў», Вільня 1608), выдадзеным Карцанам, П. натхнёна і карпатліва працаваў некалькі гадоў. Скарацiўшы і перапрацаваўшы папулярны ў той час твор Вергілія Палідора Урбінскага, П. пераклаў яго вершамі з італьянскай мовы, дадаў свае каментарыі са спасылкамі на мясцовую рэчаіснасць (часам мелі сатырычную накіраванасць). Тут ён выступіў як палымяны маралiст, перакананы вораг усяго злога, розных чалавечых заган, паўстаў супраць п'янства і распусты, супраць напышлівасці, асудзіў падаткі і паборы. Атрымаўся па сутнасці новы, арыгінальны твор, своеасаблівая энцыклапедыя ведаў, якая знаёміць чытача з паходжаннем многіх рэчаў, з'яў грамадскага і культурнага жыцця. Большасць кніг П.

прысвечана розным магнатам-мецэнатам (напр., Войнам, Скуміным, Радзівілам, Палубенскім). Амаль усе творы надрукаваны ў друкарні Карцана, маюць выдатнае мастацкае афармленне.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 112; Анушкін А.І. Ян Пратасовіч з Піншчыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 4.

## **ПЯНТКОЎСКІ** (Piontkowski) Каспар (1554—1612)

Польскамоўны драматург. Паходзіў з Вялікага княства Літоўскага. Выкладаў у Віленскай езуіцкай акадэміі, для якой на пачатак школьнага года напісаў п'есу «Цімон Гардзілюд» (каля 1584), куды ўвайшла першая інтэрмедыя на беларускай мове. Сюжэт узяты пераважна з навакольнай рэчаіснасці. Галоўны герой п'есы, віленскі шавец, які гаворыць па-беларуску, выкрывае псеўдавучонасць і чалавеканенавісніцтва, увасобленыя ў постаці філосафа Гардзілюда. Камічны эфект ствараецца спалучэннем антычных і мясцовых элементаў. П. — аўтар драматычнага твора «Дыялог аб міры для караля Стафана» (паст. 1582), у якім асуджаюцца крывавыя захопніцкія войны, а таксама інтэрмедыі «Лікус, Скева, Секстус» (1584). На погляды П. зрабіла ўплыў еўрапейскае Адраджэнне.

*Тв.*: У кн. Dramaty staropolskie: Antologia. Warszawa, 1961. T. 4.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 166—168.



## **РАГОЗА** Міхаіл (?—1599)

Рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, кіеўскі мітрапаліт. Паходзіў з зямян Мінскага пав. У 1579 узведзены ў сан архімандрыта мінскага Вазнясенскага манастыра, а ў 1582 і 1589 атрымаў пад кіраўніцтва яшчэ 2 манастыры ў Слуцку. У 1589 Жыгімонт III Ваза даў яму прывілей на Кіеўскую мітраполію і Р. быў пасвячоны ў мітрапаліты патрыярхам Іераміяй, які, аднак, зрабіў агаворку, што здымае з сябе адказнасць за такі выбар. Існавала думка, што Р. выхаванец езуітаў і праведзены імі ў мітрапаліты з мэтай увядзення уніі. На самай жа справе Р. доўга вагаўся, перш чым прымкнуць да ініцыятараў уніі К.Тарлецкаму і І.Пацею. Нават пасля падпісання акта уніі і артыкулаў, якія трэба было прадставіць папе, Р. працягваў утойваць сваё адступніцтва ад усходняй царквы. Толькі на Брэсцкім саборы 1596 ён адкрыта выступіў прыхільнікам уніі. Праваслаўнае духавенства і прадстаўнікі ўсходніх патрыярхаў абвясцілі аб пазбаўленні яго сану мітрапаліта і прасілі Жыгімонта III прызначыць новага мітрапаліта, аднак той прадпісаў усім праваслаўным падпарадкоўвацца Р. як законнаму кіраўніку заходнерускай царквы.

## **РАДЗІВІЛ** Мікалай Крыштоф Сіротка (12.7.1549—28.2.1616)





Нясвіжскі замак Радзівілаў.

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся ў Нясвіжы, сын Радзівіла Мікалая Чорнага. Вучыўся ў пратэстанцкай гімназіі, заснаванай яго бацькам, потым у Страсбургскім і Цюрынгскім універсітэтах (Германія). Падарожнічаў па Аўстрыі, Францыі, Італіі. Пад уплывам папскага нунцыя кардынала Камедоні і езуіцкага прапаведніка П.*Скаргі* ў 1567 перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва і быў прыняты ў рады мальтыйскіх рыцараў. У 1569 атрымаў пасаду надворнага літоўскага маршалка. У 1574 у час выбараў на сойме новага караля Рэчы Паспалітай Р. падтрымліваў кандыдатуру Генрыха Валуа і, калі той уцёк у Францыю, двойчы ездзіў да яго з запрашэннем вярнуцца і папярэдзіць, што калі ён не вернецца, то будзе пазбаўлены кароны. У 1579 атрымаў пасаду маршалка вялікага літоўскага. Удзельнічаў у Лівонскай вайне ў складзе войска *Стафана Баторыя*. Пад Полацкам быў цяжка паранены.

У 1583—84 падарожнічаў па Блізкім Усходзе, вёў дзённік. Пасля падарожжа распачаў шырокае будаўніцтва ў Нясвіжы. Замест драўлянага бацькаўскага замка паставіў мураваны, пабудаваў у горадзе шэраг архітэктурных комплексаў: езуіцкі, бенедыкцінскі і дамініканскі манастыры. Для праектавання і ўзвядзення гэтых пабудоў запрасіў з Італіі архітэктара Дж.(Ян) М.Бернардоні. У 1586 Р. заснаваў Нясвіжскую ардынацыю. Дамогся ад караля прывілея на наданне Нясвіжу магдэбургскага права і герба. У гэты ж час распачаў актыўную барацьбу супраць рэфармацыйнага руху. У сваіх уладаннях замяняў пратэстанцкіх прапаведнікаў каталіцкімі святарамі. У 1590 атрымаў пасаду трокскага ваяводы. Да 1595 перапрацаваў свой дзённік падарожжаў і выдаў яго ў 1601, каб «пашырыць кругагляд землякоў». У прадмове ён падкрэсліваў, што піша толькі пра тое, што бачыў сваімі вачыма, а не вычытаў у кнігах іншых падарожнікаў, хоць быў добра знаёмы з літаратурай пра Блізкі Усход. У яго кнізе мноства спасылак на гэту літаратуру, але ён не капіраваў іншых, а сам аналізаваў прачытанае. Часта выказвае нязгоду з тымі ці іншымі аўтарамі. Апісваючы храмы, палацы, руіны, Р. найперш расказвае пра іх месцазнаходжанне, вонкавы і ўнутраны выгляд, матэрыял, з якога яны зроблены, часта параўноўвае ўбачаныя пабудовы з італьянскімі і французскімі. Неаднойчы ён абвяргае сцвярджэнні з Бібліі. Так, убачыўшы крыніцу, у якой нібыта апостал Філіп



Нясвіжскі замак. Уязная брама.

Нясвіж. Фарны касцёл.

хрысціў еўнуха царыцы Кандацеі, Р. заўважае: «... крыніца з цеснай скалы выходзіць і такая бедная, што абедзвюх ног не было б чым паліць. Таму хутчэй трэба казаць, што святы апостал галаву яму паліў і так яго хрысціў». Паэтычна апісвае Мёртвае мора: «Гэта мора... сярністае, мае і каменні навокал сябе, якія, калі іх запаляць, гараць, як дрэва... Іосіф Флавій праўдзіва гэта возера апісвае, а асабліва тое, што тройчы яно змяняецца ў дзень, гэта я добра бачыў, бо зранку вада была чарнаватай, да поўдня, калі сонца яго нагрэе (бо там моцная спёка), дык блакітнявее ўся вада накшталт блакітнага сукна, к падвячорку ж, перад захадам сонца, калі сонечная спёка спадзе, вада становіцца чырванаватай або рудой, быццам яе з глінай змяшалі». Нават пры наведванні Іерусалімскага храма Труны Гасподняй Р. звярнуў увагу не столькі на старажытную архітэктуру, колькі на над-



Уязная брама і Нясвіжскі парк.



*Нясвіж. Плошча з гандлёвымі радамі і ратушай.*

магільныя пліты гістарычных асоб — кіраўнікоў крыжаносцаў. Яго цікавілі таксама прыродныя ўмовы, гаспадарка і земляробства тых мясцін, дзе ён пабываў. Напрыклад, на Крыце ён бачыў, як бавоўну сеюць, ад чаго прыбыткі дзіўныя штогод ідуць, бо караблі адтуль нічога іншага не бяруць, акрамя солі і бавоўны. Апісваючы Сірыю, Ліван, Егіпет, ён шмат месца адводзіць іх гаспадарцы, дзівосным жывёлам, адзначае вялікае значэнне разліваў Ніла для гаспадарчай дзейнасці ў Егіпце. Аглядаючы сфінкса і піраміды са старажытнымі пахаваннямі, ён цікавіўся саставам, пры дапамозе якога робяцца муміі, і адзначаў: «Штосьці асаблівае гэта павінна быць, бо і зараз, праз тры тысячы гадоў і больш, як гісторыя піша, не дазволіла малейшай частцы згніць». Апісаў ён таксама народныя звычаі і святы, адносіны паміж markрознымі народамі. Часта нагадваў пра жорсткасць туркаў у адносінах да жыхароў пакораных Турцыяй народаў, пра рознагалоссі паміж туркамі і арабамі. Кніга Р. карысталася вялікім попытам, вытрымала 19 перавыданняў на польскай, нямецкай, лацінскай і рускай мовах.

*Літ.*: Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968; Багадзяж М. Нясвіжскі пілігрым // Маладосць. 1992. № 5. *М.К. Багадзяж.*

**РАДЗІВІЛ** Мікалай Чорны (4.2.1515—29.5.1565)



Палітычны, культурны і рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся ў Нясвіжы. Яго бацька Ян Мікалай быў трокскім кашталянам, маці Ганна — з роду Кішкаў. Адукацыю ён, верагодна, атрымаў толькі хатнюю. Юнацтва правёў пры каралеўскім двары ў Кракаве, дзе адбылося яго сяброўскае збліжэнне з буду-

чым вялікім князем літоўскім і каралём польскім *Жыгімонтам II* Аўгустам. Рэнесансавая атмасфера каралеўскага двара адбілася на яго густах і звычках. Імклівае ўзнясенне па службе Р. пачалося пасля 1544, калі на Берасцейскім вальным сойме быў прыняты акт, паводле якога *Жыгімонт I* Стары перадаваў поўную ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім свайму сыну Жыгімонту II Аўгусту. У гэты час Р. атрымаў уплывовую пасаду земскага маршалка, якая давала магчымасць часта бываць пры велікакняжацкім двары. Ён удзельнічаў у пасольскіх місіях у іншыя дзяржавы. У 1574 у час падарожжа ў Аўтсбургу атрымаў ад імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла V права на княжацкі тытул для сябе і асобных прадстаўнікоў свайго роду. З гэтага часу ён стаў называцца князем «на Алыцэ і Нясвіжы». У 1549 Р. удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць татараў на Валыні. У 1550 атрымаў пасаду канцлера Вялікага княства Літоўскага. Уплыў Р. на палітыку велікакняжацкага ўрада быў такі значны, што ў 1551 атрымаў права на захоўванне найважнейшых дзяржаўных актаў у сваім архіве. Асаблівую ўвагу ён звяртаў на дакументы, якія пацвярджалі даўнія дзяржаўныя прывілеі Вялікага княства Літоўскага. У 1553 Р. выязджаў з дыпламатычнай місіяй да Габсбургаў, каб прадухіліць магчымы габсбургска-маскоўскі саюз, які мог ускладніць становішча на ўсходніх межах Вялікага княства Літоўскага. Галоўнай сферай дыпламатычнай дзейнасці Р. былі адносіны з Лівоніяй, вынікам яго стала ў 1561 інкарпарацыя Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім большай яе часткі і ліквідацыя там Ордэна мечаносцаў. Р. ажыццяўляў і адміністрацыйную ўладу ў Лівоніі. У 1555—56 ён удзельнічаў у падрыхтоўцы і здзяйсненні аграрнай ("валочнай") рэформы ў гаспадарскіх уладаннях Вялікага княства Літоўскага. Р. быў шчырым прыхільнікам незалежнасці Вялікага княства Літоўскага ад Польшчы. На соймах, якія абмяркоўвалі праекты уніі дзвюх дзяржаў, ён выступаў за суверэннасць Вялікага княства ў складзе Рэчы Паспалітай. Яго «сепаратызм» — прычына каралеўскай няміласці. Пазіцыя Р., якую падтрымлівалі многія магнаты, улічвалася нават пры заключэнні (ужо пасля яго смерці) Люблінскай уніі 1569.

З яго імем звязана распаўсюджанне і прапаганда рэфармацыйных ідэй, арганізацыя рэфармацыйнай царквы ў Вялікім княстве. Палітычны ўплыў і аўтарытэт Р., які першы з магнатаў прыняў пратэстанцкае веравызнанне ў пач. 1550-х гадоў, абумовілі пераход значнай часткі шляхты ў пратэстантызм. Спачатку ён схіляўся да лютэранства, але з сярэдзіны 1550-х гадоў прыняў кальвінізм, які атрымаў найбольшае пашырэнне ў Вялікім княстве. Р. падтрымліваў сувязі з прадстаўнікамі асноўных пратэстанцкіх плыняў (лютэранамі, кальвіністамі, антытрынітарыямі), стаў галоўным пратэктарам Рэфармацыі. Валодаючы вялізнымі маёнткамі на Беларусі, Літве і Польшчы, ён заснаваў там пратэстанцкія цэрквы — зборы. У 1553 першы на Беларусі рэфармацыйны збор Р. залажыў у сваім замку ў Бярэсці. Каля 1557 пры яго ўдзеле арганізавана галоўная рэфармацыйная абшчына Вялікага княства Літоўскага ў Вільні. Першы Віленскі збор размяшчаўся ў радзівілаўскім палацы на Лукішках. Некаторы час Р. быў прыхільнікам стварэння Народнага сабора — свайго роду дзяржаўнай царквы, якая б аб'ядноўвала ўсіх хрысціян Вялікага княства Літоўскага і Польшчы і была б больш незалежнай ад Ватыкана. У апошнія гады свайго жыцця Р. падтрымліваў антытрынітарыяў, якія ў рэлігійна багаслоўскіх і сацыяльных пытаннях займалі найбольш радыкальныя пазіцыі. У 1563 у падляшскім мястэчку Морды, што належала яму, адбыўся сінод, дзе большасць прысутных ухвалілі ідэі антытрынітарызму. Р. выношваў планы аб'яднання кальвінісцкай і антытрынітарскай плыняў.

Яго дзейнасць адыграла вялікую ролю ў развіцці мецэнацтва ў розных сферах культуры Беларусі і Літвы, найбольш у арганізацыі кнігадрукавання. Працяглае знаходжанне за мяжой і знаёмства з заходнееўрапейскай культурай спрыялі разуменню ролі кнігадрукавання ў грамадска-палітычным і культурным жыцці. У 1553 для прапаганды рэфармацыйных ідэй Р. заснаваў пры Берасцейскім зборы першую на тэрыторыі Беларусі друкарню, у якой працавалі запроша-

ныя ім з Польшчы друкары Бярнард Ваяводка, Станіслаў Мурмэліус, паэт, перакладчык і кампазітар Ц.*Базылік*. Тут друкавалася не толькі рэлігійная, але і свецкая літаратура. У 1563 на сродкі Р. выдадзены польскі пераклад поўнага зводу Бібліі, найбуйнейшага па аб'ёме і аднаго з лепшых па мастацкіх і паліграфічных якасцях рэнесансавага выдання. У гісторыю беларускага кнігавыдання яна ўвайшла пад назвай «Брэсцкая, ці Радзівілаўская біблія». З імем Р. звязана таксама выданне арыгінальнага публіцыстычнага твора — пасланне папскаму нунцыю ў Польшчы Алаізію Ліпаману, напісанага, верагодна, яго асабістым сакратаром, вядомым польскім лексікографам Янам Манчыньскім, дзе змешчаны рэзкія антыкаталіцкія і антыпапскія выпады. Пад апекай Р. дзейнічала пратэстанцкая друкарня і ў Нясвіжы, у арганізацыі якой прымалі ўдзел вядомыя дзеячы Рэфармацыі — Сымон *Будны*, Мацей *Кавячынскі*, Лаўрэнцій *Крышкоўскі*. Многія выданні выходзілі з прысвячэннем знатнаму патрону. Некаторыя свае творы яму прысвячаў Жан Кальвін. Шчодрасцямі радзівілаўскага двара карысталіся такія відныя тэолагі, як С.Будны, Марцін *Чаховіц*, паэты Андрэй Тшэцэскі, кампазітары Кіпрыян Базылік, Вацлаў з Шамотул і інш. Жонка Р. Альжбета была дачкой аднаго з буйнейшых польскіх мецэнатаў — каронпага гетмана Крыштафа Шыдлавецкага. Памёр Р. ад пакутлівай хваробы і пахаваны разам з жонкай пры Віленскім зборы. У 1647 астанкі Р. і яго жонкі ўрачыста перанесены з Вільні ў Дубінкі (Літва). Пасля смерці ўсе яго дзеці пад уплывам палітычных абставін перайшлі ў каталіцтва. Дзейнасць Р. як вялікага рэфарматара кардынальна паўплывала на царкоўнарэлігійнае і культурнае жыццё Вялікага княства Літоўскага.

*Літ.*: Jasnouski J. Mikolaj Czarny Radziwill (1515—1565). Warszawa, 1939; Augustyniak U. Testamenty ewangelikow reformowanych w Wielkim Ksiestwie Litewskim. Warszawa, 1992.

*А.С.Іванова.*

## **РАДЗІВІЛ** (Алелька-Радзівіл) Соф'я (1585—19.3.1612)



Асветніца, прылічаная да святых. Нарадзілася ў сям'і слуцкага князя Юрыя Алелькавіча і Кацярыны з роду магнатаў Кішкаў. У 1586 на першым годзе яе жыцця адзін за адным памерлі бацькі, і дзяўчына адразу атрымала ў спадчыну трэцюю частку радавога багацця. Потым на працягу некалькіх гадоў памерлі яе бяздзетныя дзядзькі Аляксандр і Ян Сымон, у выніку Соф'я стала самай багатай нявестай у Вялікім княстве Літоўскім. Апекунамі непаўналетняй Соф'і былі прызначаны магнаты Хадкевічы. Яны выхавалі дзяўчынку і ў 1600 выдалі яе замуж за Януша Радзівіла. Напярэдадні вяселля Хадкевічы так пасварыліся з Радзівіламі, што апошнім давялося адсуджваць нявесту і адваёўваць пры дапамозе гармат. Перад узяццем шлюбу Соф'я паставіла ўмову, каб яе будучыя дзеці былі хрышчаны паводле праваслаўнага абраду. Сваё патрабаванне яна тлумачыла тым, што род Алелькавічаў заўсёды быў апорай праваслаўнай веры на Беларусі. Нязменнасць духоўным ідэалам была гонарам для слуцкіх князёў. Гэта традыцыя павінна была захоўвацца, пакуль быў жывы хоць адзін прадстаўнік іх роду. Таму абраная Алелькавічамі вера пасля Соф'і павінна была перайсці яе дзецям. Януш згадзіўся і на такія ўмовы. Адразу пасля шлюбу малады муж накіраваўся на шведскую, а потым на маскоўскую вайну. Соф'я падоўгу заставалася адна і цалкам сябе прысвячала дабрачыннай дзейнасці:

раздавала грошы бедным, дапамагала хворым, апекавала гнаных аднаверцаў. Шмат ахвяравала яна на праваслаўныя манастыры і цэрквы, матэрыяльна падтрымлівала царкоўныя брацтвы, распачала будаўніцтва некалькіх шпіталяў для бедных, паломнічала па святых мясцінах. Слуцкія цэрквы атрымалі ад Соф'і некалькі шыкоўных залатых рыз, вышытых яе ўласнымі рукамі. Вакол сябе яна бачыла ганенні на праваслаўных беларусаў, якіх гвалтоўна пераводзілі ва уніятаў, бачыла, як былыя праваслаўныя храмы ператваралі ва уніяцкія. Яе сур'ёзна непакоіў лёс Случчыны, большасць насельніцтва якой былі праваслаўныя. Праз мужа яна дамагалася каралеўскага рашэння пра забарону гвалтоўнага далучэння слуцкіх праваслаўных да уніі. Соф'я памерла ў час родаў (не выжыла і яе дачка), і яе як апошнюю з роду Алелькавічаў пахавалі ў Слуцкім Свята-Троіцкім манастыры. Кананізаванне яе было сімвалічнае, бо ім царква прызнала заслугі перад Богам усяго роду Алелькавічаў, які на працягу стагоддзяў па сутнасці быў сям'ёй рыцараў праваслаўя.

*Літ.*: Брянцев П.Д. История Литовского государства с древнейших времён. Вильна, 1889; Грицкевич А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985; Родчанка Р. Слуцкая старасветчына: (факты і развважанні). Мн., 1991; Мельнікаў А. Праведная Сафія, княгіня Слуцкая // Беларусь. 1992. № 8. *І.А.Масляніцына.*

## РАІЗІЙ Пётр (?—1571)

Пісьменнік, прававед, адзін з заснавальнікаў навуковай школы юрыспрудэнцыі ў Вялікім княстве Літоўскім. Па паходжанні італьянец. Вучыўся ў Падуі і Балоньі. Выкладаў права ў Кракаўскім універсітэце. Перасяліўшыся ў Вялікае княства Літоўскае, служыў у жамойцкага біскупа Я.*Дамагеўскага*, быў канонікам у Варнянах, архіпрэсвітэрам касцёла св. Яна ў Вільні, з 1567 канонік віленскага капітула. Пакінуў вялікую літаратурна-прававую спадчыну, у якой звяртаўся да актуальных праблем, пераважна звязаных са спадчынным правам. У паэме «Да польскіх магнатаў пра каралеўскі шлюб» (1553) ён выступіў як прыхільнік спадчыннай манархіі, неабходнасць якой абгрунтоўваў інтарэсамі стабілізацыі становішча ў дзяржаве. Твор закранаў актуальную праблему, бо тагачасны вялікі князь і кароль *Жыгімонт II* Аўгуст быў бяздзетным удаўцом. Прымаючы пад увагу цяжкія ваенна-палітычныя абставіны для краіны напярэдадні Люблінскай уніі 1569, аўтар паэмы падкрэсліваў неабходнасць новага шлюбу, бо толькі нараджэнне наследніка магло пазбавіць краіну ад непрадбачаных выпадковасцей, спрэчак і войнаў. Такая трактоўка фарміравання вярхоўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы не адпавядала настрою шляхты, якая бачыла ў выбарнасці вярхоўнага правіцеля адзін з элементаў шляхецкай вольнасці.

Актыўнай была і практычная дзейнасць Р. У 1561 ён склаў для жамойцкага біскупства Канстытуцыю і Навелы — законапалажэнні і правілы, якімі павінна яно карыстацца. У Вільні ён уваходзіў у склад дворнага гаспадарскага суда, што разглядаў апеляцыі ад гарадоў з магдэбургскім правам. Набыты ім значны вопыт дастасавання такога права паслужыў падставай для напісання працы «Заключэнне Пятра Раізія, каралеўскага юрысконсульта, аб справах, што слухаліся на судовых пасяджэннях Літвы, і аб абскарджанні судовых рашэнняў» (выдадзена ў 1563 у Кракаве, у 1570 у Франкфурце-на-Майне, у 1572 у Венецыі). Гэта праца сур'ёзны тэарэтычны аналіз судовай практыкі па прыватным праве. З імем Р. звязана заснаванне ў Вільні ў 1563 першай школы права (яе назва засведчана ў дакументах як «школа права цывільнага, рымскага, саксонскага, магдэбургскага, літоўскага пад кіраўніцтвам П.Раізія»). Гісторык Т.Нарбут лічыць, што Р. выкладаў у школе рымскае, саксонскае, магдэбургскае права. Паводле меркавання Я.Курчэўскага, гэта школа існавала пры касцёле св. Яна з 1513, і ў ёй выкладаліся лацінская і нямецкая мовы, а Р. у 1563 увёў выкладанне рымскага і літоўскага права, грэчаскай мовы. Прыходскую школу Р. ператварыў у вучылішча юрыспрудэнцыі, дзе арганізаваў падрыхтоўку суддзяў, адвакатаў і інш. судовых чыноўнікаў. Такім чынам, ён быў у ліку заснавальнікаў першай навуковай школы юрыспрудэнцыі ў Вялікім княстве Літоўскім. Як вучонага-юрыста і сама-

га адукаванага чалавека яго добра ведалі Я.Даманеўскі, А.*Ратондус* і інш. дзяржаўныя, палітычныя і грамадскія дзеячы Вялікага княства Літоўскага. Добрая тэарэтычная падрыхтоўка, веданне рымскага, магдэбургскага, кананічнага права, высокі аўтарытэт вучонага абумовілі далучэнне Р. да работы над Статутам Вялікага княства Літоўскага 1566. Запрашэнне іншаземца ў склад Статутнай камісіі было рэдкім выпадкам, бо камісія зацвярджалася соймам і ў яе склад старанна адбіраліся прадстаўнікі з улікам веравызнання, прадстаўніцтва ад «Станаў» насельніцтва, кампетэнтнасці і інш. Сваёй практычнай і навуковай дзейнасцю Р. зрабіў значны ўклад у развіццё права і культуры ў Вялікім княстве Літоўскім.

*Літ.*: Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie... Wilno, 1921.

## РАТОНДУС (Мялецкі Аўгусцін ?—1582)

Прававед, грамадскі і дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага сярэдзіны 16 ст. Звесткі пра час і месца нараджэння не захаваліся. Існуе некалькі версій адносна яго паходжання: 1) паляк з Кракава, але служыў у Вялікім княстве літоўскім; 2) італьянец з Авеліна; 3) ліцвін (беларус) з Вільні або з мястэчка Вялюны. Вядомы толькі асобныя факты з яго біяграфіі, у асноўным яго літаратурная і дзяржаўная дзейнасць. У 1536 ён займаў пасаду віленскага войта. У 1538 упамінаецца ў ліку студэнтаў Вітэнбергскага універсітэта, а ў 1542 — як доктар «обоего» (кананічнага і свецкага) права. Пры вялікім князі *Жыгімонце I* Старым ён займаў пасаду сакратара, якая, як і праца ў каралеўскай канцылярыі, патрабавала добрай адукацыі і дасканалага ведання лацінскай мовы. У перыяд росквіту класічнай латыні Р., адзін з найлепшых знаўцаў і стылістаў, стварыў выдатныя ўзоры літаратурнай мовы. Літаратурную каштоўнасць маюць яго працы і перапіска. У лістах да Гозія і Пратасевіча ён выступае як перакананы католік. Аднак у 1572 да яго звярнуўся вядомы прыхільнік Рэфармацыі, ідэолаг кальвінізму А.*Волан* з просьбай адрэдагаваць трактат і выказаць сваё меркаванне. Р. згадзіўся, хоць зноў пацвердзіў сваю прыналежнасць да каталіцкай царквы. У разнавер'і ён бачыў небяспеку для дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Такім чынам, прыхільнасць Р. да каталіцызму — не столькі выбар веравызнання, колькі ацэнка правазнаўцам і дзяржавазнаўцам ролі царквы ў дзяржаве таго часу. З гэтых пазіцый ён спрабаваў уплываць на *Жыгімонта II* Аўгуста і М.*Радзівіла* Чорнага.

Зыходзячы з палітычных пазіцый Р., яго адносін да царквы, ведання кананічнага і рымскага права, А.Брукнер і Г.Каржанеўскі прыпісвалі яму 2 ананімныя творы палемічнага характару: «Размову паляка з ліцвінам» (1564) і «Думку аб выбранні новага караля» (1573). Але І.І.Лапо і іншыя даследчыкі лічаць гэтыя творы калектыўнай працай, а супадзенні з палітычнай пазіцыяй Р. могуць сведчыць толькі пра яго сааўтарства.

Як вучоны-юрыст Р. зарэкамендаваў сябе, калі быў віленскім войтам. Сваю добрую юрыдычную падрыхтоўку і судовы вопыт ён спалучаў з адміністрацыйнай практыкай. Займаўся сістэматызацыяй магдэбургскага права, у 1552 апрацаваўількер г.Вільні (Збор прававых актаў). Гэта унікальная праца, якая патрабавала добрай юрыдычнай падрыхтоўкі, ведаў судовай практыкі і мясцовых звычаяў,— з'ява ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Удзел Р. ў рабоце дзвюх статутных камісій сведчыць, што ён — адзін з аўтараў канцэпцыі дзяржаўнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, абарону якой абгрунтаваў у новай сістэме права і законе. Высокая тэарэтычная падрыхтоўка членаў камісіі відаць у агульнай сістэме Статута 1566, у справе кадыфікацыі заканадаўства, у паслядоўнасці раздзелаў і артыкулаў. Члены камісіі ўдасканалілі і адрэгулявалі шэраг новых прынцыпаў прававаадносін, кампетэнцыі судовых органаў і судоў (земскага, гродскага, падкаморскага, павятовага), зрабілі якасныя змены ў працэсуальным і матэрыяльным праве. Добра знаёмыя з вучэннем аб законе і дзяржаве Арыстоцеля і Цыцэрона, яны дакладна акрэслілі канцэпцыю законнасці, якая мела пераважнае значэнне для стабільнасці і гарманічнасці грамадства і

дзяржавы. Складальнікі Статута здолелі ўзняць закон на ўзровень тагачаснай еўрапейскай думкі. У рабоце над праектамі Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1566 і 1588 Р. у поўнай меры выкарыстаў свае веды і вопыт. Мяркуецца, што пераклад Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 на лацінскую мову для *Стафана Баторыя* таксама зроблены Р. Такая думка пацвярджаецца не толькі тым, што ён быў сакратаром С.Баторыя і складальнікам Статута, добрым лацiністам і юрыстам, а і самой пазіцыяй Р. адносна таго, што мовай заканадаўства павінна быць менавіта лацінская мова. Р. быў пераканаўчы прыхільнік агульнай юрыдычнай тэрміналогіі (на лацінскай мове), выкарыстання рымскага права як дапаможнага. Ва ўводзінах да Статута аўтар вельмі адкрыта выразіў нацыянальную свядомасць шляхецкага руху Вялікага княства Літоўскага, г. зн., што аўтарам быў «тутэйшы абывацель» Вялікага княства Літоўскага. Сваёй літаратурнай, навуковай і практычнай дзейнасцю Р. зрабіў значны ўклад у развіццё культуры, гісторыі і навукі Вялікага княства Літоўскага.

*Г.В.Дзербіна.*

## РЫМША Андрэй (каля 1550—пасля 1595)

Паэт. Нарадзіўся ў маёнтку Пянчын Навагрудскага ваяводства (цяпер Баранавіцкі раён Брэсцкай вобл.) у шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Астрожскай школе на Валыні. Там у друкарні князя Канстанціна (Васіля) Астрожскага ў 1581 выдаў свой першы вучнёўскі верш «Храналогія» — дванаццаць пар зарыфмаваных двухрадкоўяў, дзе сцісла выкладзены біблейскія падзеі, што адбыліся ў пэўным месяцы года. Варта адзначыць, што назвы месяцаў у творы даюцца на трох мовах — беларускай літаратурнай мове 16 ст., старажытнаяўрэйскай і простанароднай, блізкай да мовы тагачасных канцылярскіх папер. Са скупых біяграфічных звестак пра Р. вядома, што з 1572 ён знаходзіўся на прыдворнай службе ў палявога гетмана Вялікага княства Літоўскага Крыштофа Радзівіла Перуна. Пэўна, у той час завязаліся сяброўскія адносіны з польскамоўнымі паэтамі Янам Казаковічам і Янам Радаванам. Відаць, пад уплывам іх творчасці ён пачаў пісаць на польскай мове. Разам са сваім мецэнатам Р. прымаў удзел у аблозе Пскова войскамі Стафана Баторыя. У 1583, калі быў падстарастам маёнтка К.Радзівіла, напісаў значную па памерах паэму на польскай мове, якая ў 1585 выдадзена ў Вільні пад загалоўкам «Decretewi acroama, або Дзесяцігадовая аповесць пра ваенныя справы Крыштофа Радзівіла». У гэтым творы, прысвечаным вайне 1572—82 паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, удзельнікам якой быў і сам паэт, цэнтральнай фігурай з'яўляецца К.Радзівіл, панегірычнае праслаўленне якога складае аснову аўтарскай задумы. Р. ўдалося пераканальна апісаць цяжкасці ваенных паходаў, умовы жыцця ў лагерах, даць дэталёвае апісанне асобных батальных сцэн, што сведчыць пра здольнасць аўтара да стварэння буйнамаштабных і складаных па кампазіцыі твораў. Пасля напісання паэмы Р. склаў тры эмблематычныя вершы-панегірыкі ("эпикграммы") на беларускай мове, прысвечаныя буйным дзяржаўным дзеячам Вялікага княства Літоўскага — падканцлеру Я.*Валовічу*, былому падканцлеру, складальніку Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 Л.*Сапегу* і навагрудскаму ваяводу Ф.Тышкевічу. Гэтыя вершаваныя «эпикграммы» на гербы пералічаных асоб выдадзены ў Віленскай друкарні Мамонічаў адпаведна ў 1585, 1588 і 1591. У ідэйна-эстэтычным плане асабліва цікавы змест «эпикграммы» на герб Л.Сапегі, дзе паэт услаўляе гэтага магната як патрыёта і абаронцу Вялікага княства Літоўскага, якому пануючыя вярхі Рэчы Паспалітай, зыходзячы з актаў Люблінскай уніі 1569, адмаўлялі ў праве на дзяржаўную самастойнасць і адносную незалежнасць ад Польшчы. Аўтар салідарны з «адрасатам» верша ў пытанні правоў Вялікага княства Літоўскага адносна экспансіўных дамаганняў кіруючых колаў польскай шляхты. Па сваім змесце надзвычай блізкі да гэтай эпіграмы верш, прысвечаны гербу Ф.Скуміна, дзе Р. ўзнёсла апявае патрыятычныя подзвігі роду Скумінаў, якія «веру с мужеством отчизне сваей заховали». Апошняй дакладнай звесткай з біяграфіі Р. з'яўляецца тое, што ў 1593 ім быў зроблены, а ў 1595 надрукаваны ў

Вільні пераклад з лацінскай мовы на польскую твора А.Поляка «Харагафія, або Тапаграфія... Святой зямлі, апісаная надзейнымі людзьмі, што там бывалі» (у 17 ст. гэты твор быў перакладзены на рускую мову ў Маскве).

*А.Ф.Коршунаў.*

## РЫСІНСКІ

### Саламон Фёдаравіч [1560(?)—13.11.1625]

Філосаф, паэт, педагог, вучоны-фалькларыст і этнограф. Нарадзіўся ў в. Рысін на Полаччыне (цяпер Себежскі раён Пскоўскай вобл.). Працаваў настаўнікам у аддаленых вёсках. Невядома, у якім узросце і ў якасці каго ўпершыню трапіў за мяжу. У адным са сваіх лістоў ён паведамляў, што ў 1582 прыбыў у Лейпцыг, дзе меў зносіны з вучонымі. У наступныя гады, да 1587, жыў у вёсках паўднёвай Польшчы, настаўнічаў у Гданьску, вандраваў, працуючы выхавацелем шляхецкіх дзяцей, па гарадах Германіі. У 1585—86 знаходзіўся ў Альтдорфе з сынамі польскага дыпламата Я.Бучынскага. Пасля 1600 служыў у князёў Радзівілаў. Праца прыдворным паэтам і выхавацелем княжацкіх дзяцей знайшла адлюстраванне ў яго творчасці. У вершаванай форме ён апісваў ваенныя паходы Радзівілаў, складаў эпітафіі для членаў княжацкай сям'і і некаторых знатных асоб, займаўся перакладамі. Пераклаў псалмы Давіда на польскую мову (першыя радкі перададзены на стараславянскай мове).

Асноўнае ў творчасці Р. — даследаванні ў галіне гісторыі старажытнарымскай паэзіі, адлюстраваныя ў яго «Пісьмах» (Альтдорф, 1587), у працы «Кан'ектуры да пісьмаў Л.А.Сенекі» (Нюрнберг, 1620), у рукапісе «Пошукі па Аўзонію» і ў «Зборніку прыказак» (Любча, 1618). З прадмоў Р. да сваіх твораў відаць, што ён пакланяўся навуковай думцы, а не тым, хто меў уладу. Невыпадкова прадмовы да выданняў «Кан'ектуры...» і «Зборнік прыказак» звернуты не да князёў, а да вучоных: Бусерэцыя (рэктара Альтдорфскай акадэміі ў Германіі), Рэма Георгія (палітычнага і навуковага дзеяча 16—17 ст. ў Норыкуме, сучасная Аўстрыя) і інш. Ва ўступным слове да выдання «Пошукі па Аўзонію» ён звяртаецца да вучонага Посція, галоўнага прыдворнага ўрача 16 ст. Рэйнскага Пфальца (Баварыя). Апошнюю працу Р. рыхтаваў разам са сваім сябрам, нямецкім юрыстам і паэтам К. Рытэрсгузіусам, якому прысвяціў хвалебныя вершы.

Кола навуковых інтарэсаў Р. было вельмі шырокае. Дыялектыка старажытнагрэчаскіх філосафаў Геракліта, Эмпедокла, Арыстоцеля і тагачасных (Ф.Бэкана) служыла яму апорай для вывадаў пра ўдасканаленне чалавецтва. Шырокія веды ў галіне гісторыі, літаратуры, міфалогіі, моў характэрныя для яго прац розных гадоў. Р. схіляўся да матэрыялістычнага тлумачэння з'яў прыроды (напр., гук тлумачыў як дрыжанне паветра). Пытанне пра паходжанне жыцця і ўзнікненне свету выклікала ў яго сумненне: ён верыў у «Бога-творца», але адначасова выказваў думку, што сама прырода — стваральнік свету.

Р. меў цесныя сувязі з прыхільнікамі левага крыла Рэфармацыі — арыянамі. Блізкасць да Віленскага евангелічнага сінода не зрабіла яго свяшчэннаслужыцелем. Розум быў той святыняй, якую ён бясспрэчна прызнаваў і якой пакланяўся. Ён ненавідзеў войны, жорсткасць і кровапраліцце, выступаў супраць прыгнёту сялян, быў глыбока ўпэўнены, што ўсе народы дастойныя павагі. Лічыў, што неабходна вывучаць усе мовы свету як неад'емную частку чалавечай культуры, бо ў моўнай абалонцы захоўваецца «сок і ядро» народнай мудрасці — прыказкі і прымаўкі. Больш за ўсё ён любіў скарбніцу сармацкай гаворкі, пад якой разумеў сям'ю славянскіх моў. Ён бачыў у роўнасці славян агульнасць гістарычнага лёсу, нацыянальнага характару і мовы. Глыбока і ўсебакова адукаваны гуманіст, Р. ў сваіх выказваннях рассейваў у сучаснікаў сумненні адносна будучага росквіту культуры, лічыў, што навука павінна быць даступная ўсім, незалежна ад паходжання. Сваю Радзіму Р. называў Лейкарасіяй, г. зн. Беларуссю ("лейкос" у перакладзе з грэчаскай мовы — «белы»).

*Літ.*: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 89.

*Я.І.Парэцкі.*

# С

## **САПЕГА** Леў Іванавіч (1557—1633)



Палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, дыпламат, мысліцель. Паходзіў са старажытнага роду аршанскіх баяр. Нарадзіўся ў радавым маёнтку Астроўна (цяпер Бешанковіцкі раён Віцебскай вобл.). Малалетнім яго аддалі на выхаванне ў Нясвіжскі двор Мікалая Радзівіла Чорнага, які потым паслаў 13-гадовага юнака на вучобу ў Лейпцыгскі універсітэт. На працягу свайго жыцця С. займаў буйныя і самыя высокія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. У 1581 пасля заканчэння універсітэта каралеўскі пісар пры двары *Стафана Баторыя*. У 1585 прызначаны падканцлерам Вялікага княства Літоўскага, а ў 1589 — канцлерам. З 1621 віленскі ваявода, з 1625 гетман Вялікага княства Літоўскага. На гэтых пасадах С. паказаў сябе як таленавіты палітык. На апошнім этапе Лівонскай вайны (1558—83) праславіўся як ваенны дзеяч і дыпламат. Сфарміраваўшы за свой кошт гусарскі полк, ён звярнуў на сябе ўвагу паспяховымі дзеяннямі ў бітвах пры Завалаччы, Вялікіх Луках, пры аблозе Пскова. Пасля заканчэння вайны С. ўзначаліў пасольства Рэчы Паспалітай у Маскву, дзе падпісаў з царом Фёдарам Іаанавічам мірнае пагадненне на 10 гадоў. У 1600 зноў ездзіў з пасольствам у Маскву, дзе з рускім царом Барысам Гадуновым было падпісана чарговае мірнае пагадненне на 20 гадоў. Нягледзячы на тое, што паміж Расійскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім частымі былі ваенныя і розныя дыпламатычныя сутыкненні і асабістыя адносіны С. да Масквы не заўсёды былі дружалюбнымі, пасля смерці караля Стафана Баторыя яго апанавала думка пра аб'яднанне Рэчы Паспалітай з Расіяй. Аб'яднанне славянскіх народаў і абранне імі адзінага манарха, на яго думку, спрыяла б росту іх эканамічнага і ваеннага патэнцыялу, забяспечыла б трывалы мір. Калі ў 1620-я гады ў межы Вялікага княства Літоўскага ўварваліся шведы, састарэлы С. зноў стаў на абарону свайго краю і прыняў удзел у ваенных дзеяннях, вылучыўшы на гэтыя справы значную частку сваіх уласных сродкаў.

Апошнія гады жыцця С. правёў у Вільні, дзе актыўна займаўся ўпарадкаваннем архіваў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага (работу над рэестрамі дакументаў архіўнага збору ён распачаў яшчэ ў 1594). Памёр і пахаваны ў Вільні ў касцёле св. Міхаіла.

З імем С. звязана падрыхтоўка і выданне 3-га Статута Вялікага княства Літоўскага (1588) і стварэнне ў 1581 Трыбунала Вялікага княства Літоўскага — найвышэйшай судова-апеляцыйнай інстанцыі дзяржавы. Філасофска-прававыя погляды С. значна паўплывалі на змест гэтага Статута. Пры яго выданні С. змясціў як прадмову да Статута зварот да вялікага князя Жыгімонта III Вазы і насельніцтва Вялікага княства Літоўскага, дзе абгрунтаваў неабходнасць гэтага новага збору законаў. Важнай крыніцай вывучэння сацыялагічных



*Руіны Ружанскага (Сапегава) палаца.*

поглядаў С. з'яўляюцца таксама яго лісты. Светапогляд і грамадска-палітычная дзейнасць С. даволі супярэчлівыя. Як буйны землеўладальнік ён абараняў інтарэсы свайго класа, як чалавек вялікай эрудыцыі і дальнабачны палітык ён не мог не ўспрымаць тых прагрэсіўных працэсаў, што адбываліся ў грамадстве і ідэалогіі. Кампраміс з прагрэсіўнымі ідэямі дазваляў С. даволі эфектыўна праводзіць сваю галоўную лінію — процiборства гегеманісцкім намерам царквы, бо прэтэнзіі духавенства на вядучую ролю ў дзяржаве выклікалі незадаволенасць у часткі феадалаў. Усведамляючы класавую сутнасць феадальнага грамадства і дзяржавы, ён адстойваў права шляхты на палітычнае панаванне і ў той жа час выступаў прыхільнікам унутрана адзінай, цэнтралізаванай, шляхецка-дэмакратычнай дзяржавы. С. быў пераканаiы, што права павінна абараняць падданых ад злоўжыванняў з боку манарха і тым самым засцерагаць ад тыраніі, а закон павінен забяспечыць дзяржаве парадак, спакой і сацыяльны мір. Таму лічыў, што неабходна мець адзіны закон і для правячых вярхоў, і для падданых. С. выступаў як прыхільнік незалежнасці і свабоды чалавека, для ўдакладнення сутнасці свабоды спасылаўся на Цыцэрона. Асаблівую ўвагу звяртаў на тое, што паводзіны чалавека ў грамадстве павінны вызначацца не яго ўнутранымі пажаданнямі, а ўстаноўленымі рамкамі закону. У поглядах С. на права натуральна-прававы падыход супадае з пастулатамі, што значна пазней з'явіліся ў краінах Заходняй Еўропы. Права ён разглядаў не як прадукт боскага адкрыцця, а дзейнасці чалавечага розуму. Абсалютнасць і аб'ектыўнасць права, вяршэнства закону яскрава выявіліся ў артыкулах распрацаванага ім Статута, дзе закон — «найвышэйшы вартавы ўсеагульнай свабоды».

Палітычная і творчая дзейнасць С. адбывалася ў перыяд, калі Вялікае княства Літоўскае і Польшча знаходзіліся ў «вечным саюзе» (уніі) пад вяршэнствам адзінага караля і сойма. Аднак феадалы Польшчы выношвалі агрэсіўныя намеры ў адносінах да Вялікага княства Літоўскага. С. актыўна процідзейнічаў ім. Яго намаганні былі скіраваны на забеспячэнне дзяржаўнай годнасці і суверэнітэту княства і тым самым абаранялі інтарэсы беларускага і літоўскага народаў. У аснове барацьбы супраць экспансіяніцкіх задум польскіх феадалаў было нежаданне правячых колаў Вялікага княства Літоўскага аддаць ім на сваёй тэрыторыі частку палітычнай улады і асцярога быць пацяснёнымі ў эканамічных інтарэсах. Процідзеянне польскім намерам выявілася ў барацьбе супраць шэрага палажэнняў уніі 1569, якія прыніжалі палітычнае і самастойнае значэнне Вялікага княства Літоўскага. У адпаведнасці з гэтымі палажэннямі і канстытуцыямі сойма нормы новага Статута 1588 павінны былі адпавядаць рашэнням Люблінскай

уніі. Ажыццяўляць распрацоўку Статута ў 1586 было даручана С. Яго намаганнямі, дыпламатычнымі здольнасцямі і наперакор пастанове Люблінскага сойма ў 1588 Статут быў зацверджаны каралём Жыгімонтам III Вазай і замацаваны пячаткай толькі Вялікага княства Літоўскага за подпісамі Л.Сапегі і пісара Габрыэля Войны. Нават гэтым С. імкнуўся падкрэсліць незалежнасць Вялікага княства Літоўскага ад польскай Кароны ў справах, якія тычыліся яго ўнутранага ўладкавання. У Статуце 1588 замацаваліся артыкулы, якія абвяшчалі аўтаномны палітыка-прававы статус Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай. Статут забараняў польскім феадалам атрымліваць пасады і землі ў княстве, патрабаваў уводзіць тут дзяржаўнае справаводства на беларускай мове. С. садзейнічаў распрацоўцы і выданню Статута на беларускай мове друкаваным спосабам.

Прымаў удзел С. і ў рэфармацыйным руху. У рэлігійных адносінах ён не вызначаўся паслядоўнасцю. Двойчы ён мяняў веравызнанне: спачатку перайшоў з праваслаўя ў пратэстантызм, а потым у каталіцтва. Талерантны палітык і прыхільнік верацярпімасці. ён падтрымліваў утварэнне уніяцкай царквы на Беларусі, але быў катэгарычным праціўнікам гвалту і насілля як сродкаў яе ўмацавання. Паводле яго меркаванняў, рэлігійнае адзінства спрыяла б умацаванню дзяржавы і пазбавіла б яе ад многіх унутраных канфліктаў. Але калі на тагачаснай арэне рэлігійнага змагання за унію з'явілася асоба святара І.*Кунцэвіча*, які вызначаўся сваёй нецярпімасцю да праваслаўных, што пацягнула самыя непажаданыя вынікі для спакою і бяспекі ў Вялікім княстве Літоўскім, С. вымушаны быў умяшацца ў такі ход падзей. Трэба было спыніць згубную дзейнасць фанатычнага святара. Паміж С. і Кунцэвічам узнікла вострая палеміка. Каб стрымаць Кунцэвіча, С. выкарыстоўваў і сваё высокае дзяржаўнае становішча. Але той, карыстаючыся падтрымкай караля, у сваю чаргу востра выступаў супраць С. Свае погляды на рэлігійную праблему С. выказаў у вядомым пасланні да Кунцэвіча ад 22.3.1621: «...Я сам прыкладаў намаганні па ўвядзенні уніі і спыніць яе ўвядзенне было б справай неразумнай. Аднак ніколі мне не прыходзіла думка, каб Ваша міласць вырашыла прыводзіць людзей да яе гэткімі



*Мінскі дом Сапегаў.*



Герб Л.Сапегі.

гвалтоўнымі спосабамі. Вы Вашымі неразважнымі гвалтамі ўзбурылі і, дадам, прымусілі народ рускі да адпору... Што тычыцца небяспекі, якая пагражае Вашаму жыццю [Кунцэвіч скардзіўся С., што яму пагражаюць праваслаўныя], то можна сказаць: «Кожны сам прычына сваёй бяды... Трэба выкарыстоўваць спрыяльныя абставіны, але нельга паддавацца неразумнаму захапленню, асабліва калі справа ідзе пра веравызнанне... Калі гвалціце людскія сумленні, калі замыкаеце цэрквы, калі людзі без набажэнства, абрадаў хрысціянскіх павінны гінуць, як няверуючыя, калі самавольна дамагаецеся любові і павагі да гаспадара, тады абыходзіцеся без нас. Калі ж з прычыны ўціскаў у народзе паўстане непакой, які трэба ўціхамірваць, тады намі [г. зн. свецкай уладай] добра дзверы запхнуць. ...Калі Вы на гэтым маім напамінанні не распячатаеце і не адчыніце цэрквы, тады я сам загадаю іх распячатаць і праваслаўным аддаць». Аўтар паслання сцвярджаў, што рэлігійная цярпімасць — аснова ўсякай цывілізаванай дзяржавы, а рэлігійны выбар — неад'емнае права чалавека ў грамадстве.

Сваімі поглядамі на рэлігійную праблему С. апярэдзіў эпоху на сотні гадоў. Ён — прыклад справядлівасці і сапраўднай талерантнасці.

Кунцэвіч не прыслухаўся да разважлівага папярэджвання С. І як вынік — паўстанне віцебскіх гараджан і забойства імі уніяцкага святара (1623). Удзельнікі сурова пакараныя, прычым расследаванне гэтай справы ўзначаліў С., які на гэты раз дзейнічаў ужо як суровы суддзя. У такой сітуацыі яму давялося змірыцца з суровай сацыяльна-палітычнай рэчаіснасцю і, магчыма, не без ваганняў і ўнутранага болю адмовіцца ад некаторых сваіх асветніцка-гуманістычных ідэалаў. С., безумоўна, быў прадстаўніком і выразнікам інтарэсаў свайго асяроддзя. Ён належаў да той яго часткі, што імкнулася выкарыстаць у сваіх мэтах новыя дасягненні ў грамадскай думцы. Яго дзейнасць аб'ектыўна спрыяла развіццю і ўмацаванню на Беларусі ў 2-й палове 16 ст. прагрэсіўнай свецкай сацыяльна-палітычнай думкі.

*Літ.*: Archiwum domu Sapiehów... Lwów, 1892. T. 1. S. 119; Archiwum domu Radziwillow. Kraków, 1885. S. 195; L i k o w s k i E. Historya unii kościola ruskiego z kościolem rzymskim. Poznan, 1875. С о к о л С.Ф. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974. С. 127—141.

*С.Ф.Сокал.*

## СКАРГА (П а в е н с к і) Пётр (1536—12.9.1612)



Рэлігійны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, адзін з ініцыятараў і прапагандыстаў ідэй Брэсцкай уніі 1596, пачынальнік польскай аратарскай прозы. Паходзіў з Мазовіі. Адукацыю атрымаў у Кракаве, Вене і Рыме. У 1568 уступіў у ордэн езуітаў. З 1573 змагаўся супраць рэфарматараў у Літве і на Беларусі. Настаўнічаў у заснаваных ім калегіумах у Вільні, Полацку і інш. Пасля смерці караля Рэчы Паспалітай *Стафана Баторыя* падтрымаў кандыдатуру на каралеўскі трон Жыгімонта III Вазы, пазней быў у яго прапаведнікам. Аўтар рэлігійна-палітычных твораў: «Пра еднасць касцёла Божага...» (1577), «Жыціі святых» (1579), «Соймавыя казанні» і «Брэсцкі сінод» (1597), «На трэны і лямант Феафіла Арфалога» (1690) і інш. Паводле сваіх палітычных поглядаў быў прыхільнікам неабмежаванай манархіі. Абвінавачваў шляхту ў распаўсюджванні рэфармацыйных ідэй, крытыкаваў за злоўжыванне саслоўнымі прывілеямі і лічыў яе ніжэйшым саслоўем, здольным толькі на «ваеннае рамяство». На яго думку, свецкая ўлада павінна падпарадкоўвацца царкоўнай, а кароль — папу рымскаму. Адзін з першых, хто прадказаў заняпад Рэчы Паспалітай. Насуперак сваёй волі аб'ектыўна паказваў сацыяльную няроўнасць у дзяржаве, выкрываў эксплуатацыю сялян.

У кнізе «пра еднасць касцёла Божага» С. падхапіў і развіў ідэю езуіта Бенядзікта Гербста аб неабходнасці новай царкоўнай уніі з Рымам у інтарэсах праваслаўнай царквы Вялікага княства Літоўскага. С. налічыў 19 «памылак» праваслаўнай царквы, што вялі да скажэння «сапраўднага» хрысціянскага веравызнання. Ён заклікаў князя К.*Астрожскага*, які на той час быў уплывовым патронам праваслаўнага веравызнання і якому была адрасавана гэта кніга, а разам з ім і ўсе ўсходнеславянскія народы да царкоўнай уніі з Рымам. С. прапанаваў шляхі пераадолення рэлігійнай варожасці, што перашкаджалі аб'яднанню цэркваў, паказваў на тыя выгоды, якія атрымаюць праваслаўныя ад гэтага духоўнага саюзу з католікамі. Ён імкнуўся давесці і даказаць, што сапраўднае хрысціянскае веравызнанне ідзе ад рымска-каталіцкай царквы, якая з'яўляецца пераемніцай і носьбітам апостальскіх традыцый і таму мае законнае права быць галавой сярод усіх хрысціянскіх веравызнанняў. Ён лічыў, што з прыняццем рэлігійнага саюзу будуць створаны ўмовы для развіцця і росквіту сапраўднай навукі і належнай асветы для народа і гэта прывядзе да знікнення адасобленасці і варожасці, якая ўсё яшчэ падзяляе праваслаўных і католікаў у Рэчы Паспалітай. У выніку, на яго думку, праваслаўная шляхта заслужыць большы давер і атрымае значныя дзяржаўныя пасады, а дзяржава дзякуючы царкоўнай уніі замацуе сваю маналітнасць і набудзе палітычную магутнасць, так неабходную для яе барацьбы са знешнімі ворагамі. Гэта кніга выклікала бурную нянавісць да С. з боку праваслаўнага лагера. Яе тыраж, паводле сцвярджэння аўтара, быў вельмі хутка скуплены і амаль цалкам знішчаны багатай часткай праваслаўнага беларускага і ўкраінскага насельніцтва. Апрача таго, кніга выклікала палеміку з прадстаўнікамі праваслаўя, якая працягвалася да 1596.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 154—156.

## **СКАРЫНА** (Скарыніч) Францыск [Францішак; 1490(?)—1551(?)]



Беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, мысліцель-гуманіст, асветнік, вучоны і пісьменнік эпохі Адраджэння. Нарадзіўся ў Полацку ў сям'і купца Лукі Скарыны. Пачатковую адукацыю атрымаў у Полацку і,



*Схематычны выгляд Полацка ў 1579. Са старажытнай гравюры.*

відаць, у Вільні. Вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта, дзе атрымаў вучоную ступень бакалаўра філасофіі. У 1507—11, на думку даследчыкаў, працаваў і вучыўся ў Заходняй Еўропе. У 1512 атрымаў у Падуанскім універсітэце ступень доктара медыцыны. Меў таксама ступень доктара вольных навук. Пры матэрыяльнай падтрымцы віленскіх мецэнатаў Якуба Бабіча і Багдана Онькава ён стварыў у Празе першае ў гісторыі беларускае выдавецтва. На аснове параўнальнага аналізу лацінскіх, чэшскіх, старажытнаяўрэйскіх і царкоўнаславянскіх тэкстаў пераклаў на мову, набліжаную да мовы беларускага пісьменства, а ў 1517—19 пракаменціраваў і надрукаваў 23 кнігі Бібліі пад агульным загалоўкам «Бивлия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению». Вярнуўшыся не пазней 1521 на радзіму, С. стварыў у Вільні новае выдавецтва, абсталяваў у доме Бабіча друкарню, пракаменціраваў і выпусціў на царкоўнаславянскай мове некалькі выданняў пад агульным загалоўкам «Малая падарожная кніжка» (каля 1522), дзе аб'яднаны Псалтыр, Часасловец, Шасцідневец, 8 акафістаў, 10 канонаў, Саборнік (уключае «Святцы» і Пасхалію са звесткамі з астраноміі і грамадзянскага календара, пасляслоўе); у 1525 апублікаваў «Апостал».

Адначасова С. служыў сакратаром і ўрачом у віленскага біскупа, разам з братам Іванам займаўся камерцыйнымі справамі. Даследчыкі (А.В.Флароўскі, І.І.Первольф) лічаць, што ў канцы 1520-х гадоў С. наведаў Маскву, дзе спрабаваў зацікавіць рускі ўрад кнігавыдавецкай справай. У 1530 па запрашэнні прускага герцага Альбрэхта Гагенцолерна наведаў Кёнігсберг, у сярэдзіне 1530 вярнуўся ў Вільню. Каля 1535 выехаў у Прагу, дзе працаваў каралеўскім батанікам; там і памёр, пакінуўшы спадчыну сыну Сімяону.

С. ажыццявіў першае ў гісторыі ўсходнеславянскай культуры навукова-рэнесансавае выданне Бібліі, якую ён разглядаў як вынік шматвяковага духоўнага вопыту чалавецтва, крыніцу

мудрасці, навукі, тэарэтычнай і практычнай (маральнай) філасофіі. Асветніцкай дзейнасці С. папярэднічала шматвяковае развіццё старажытнарускай і старабеларускай культур, якія праз Біблію, творы «айцоў» царквы, перакладную і арыгінальную літаратуру і фальклор успрынялі здабыткі антычнай і сярэдневяковай думкі і мастацкай творчасці. Светапогляд папярэднікаў С. — хрысціянскіх асветнікаў — склаўся пад уплывам хрысціянскай філасофіі з яе пастулатам духоўна-боскай сутнасці (субстанцыі) быцця, на аснове стыхійна-рэалістычнага фальклорнага ўяўлення пра жыццё як адвечную барацьбу святла і цемры, дабра і зла, праўды і несправядлівасці. Арыгінальнасць С. як пісьменніка і мысліцеля абумоўлена гэтай айчыннай літаратурна-філасофскай традыцыяй, яго асабістым талентам і самаахвярнасцю. Засвоіўшы дасягненні культуры Адраджэння, ён узняў духоўныя здабыткі свайго народа на больш высокую ступень, надаў Адраджэнню нацыянальна своеасаблівы характар.

С. — пачынальнік папулярных у 16—17 ст. жанраў беларускай літаратуры: прадмоў, пасляслоўяў, публіцыстыкі, акафіста, сілабічнай паэзіі. Прадмова ўзнікла ў сярэдневяковай літаратуры і прыжылася ў айчыннай пісьменнасці 10—14 ст. Аднак самастойнае значэнне яна набыла з развіццём кнігадрукавання і ростам аўтарскага самаўсведамлення. С. добра ведаў «прадмоўніцкую» традыцыю заходнееўрапейскіх і славянскіх літаратур, увёў гэты жанр у шырокі ўжытак, надаў яму філасофска-асветніцкі, навучальна-дыдактычны і маральна-этычны змест. Ён адмовіўся ад сярэдневяковых ананімна-этыкетных прадмоў, яскрава раскрыўся ў прадмовах як творчая асоба — пісьменнік, перакладчык, філосаф і вучоны. Ён не любіў аднастайнасці, шукаў варыянты сваіх прадмоў, называючы іх то «предъсловиями», то «сказаниями» або усім па-сучаснаму — «предмовами». Звычайна «предъсловия» вызначаюцца падрабязнасцю апісання і нават светапогляднай канцэптуальнасцю. Яны складаюцца з пэўных частак ці кампанентаў: абагульняльнай думкі філасофскага, асветніцкага, маральна-дыдактычнага зместу; гістарычных, філалагічных, юрыдычных, тэалагічных каментарыяў да адпаведных кніг Бібліі; падрабязнай анатацыі, асабліва да кніг апавядальна-гістарычнага ці сюжэтна-фабульнага зместу; тлумачэнняў адносна прынцыпаў перакладу і выдання. Так, у прадмове да Псалтыра ён зазначыў, што пераклаў і надрукаваў на палях тэксту паасобныя словы, незразумелыя «для людзей простых». Часам у прадмовах вызначалася кола чытачоў, якім адрасавана кніга. Кнігу шматпакутнага Іова, на яго думку, «всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и немощах положены...». У заключэнні прадмовы С. раскрываў сваё аўтарства, сваю кампетэнтнасць, мэту, як перакладчыка, выдаўца і асветніка.

»Сказанні» С. — гэта кароткія прадмовы, абмежаваныя анатацыяй кнігі і лаканічнымі тлумачэннямі навукова-інфармацыйнага характару. Яго 2 «предмовы» (да кніг «Ісусе Сірахаў» і «Дзяянні апостальскія») адрозніваюцца ад «предъсловий» большай самастой-



*Кракаўскі універсітэт.*



*Падуанскі універсітэт.*

насцю, канцэптуальнасцю, пэўным вальнадумствам. Асабліва адзначаў асветнік некананічную, маральна-філасофскую паводле зместу, створаную ў кантэксце позняй элiністычнай культуры кнігу Прамудрасці Ісуса, сына Сірахава — прыхільніка кніжнай мудрасці, які «болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою, нежели во тленных великих царских сокровищах». У прадмове да «Апостала» С. даў параўнальна-крытычную ацэнку кніг Новага запавету: на яго думку, «великий Лука Антиохийский в лекарских науках доктор» пісаў пра слова Божае «навышшей, наистей и нарядней» (г. зн. больш узнёсла, поўна і прыгожа), чым іншыя. Падрабязныя прадмовы С. пісаў пераважна да малавядомых простаму чытачу, але важных для маральнага выхавання кніг Старога запавету, а кароткія нататкі анатацыйнага зместу — да кніг Новага запавету, добра знаёмых хрысціянам з евангельскіх і апостальскіх царкоўных чытанняў. Не вельмі паглыбляўся ён у старажытнаяўрэйскую гісторыю і літаратуру, бо вобразы і сюжэты іх успрымаліся хрысціянамі пераважна ў алегарычным і сімвалічным сэнсе. Такія кнігі, як «Быццё», пачатак і канец кнігі прарока Езекііля і «Песня песняў», на думку С., «суть трудны ко зрозумению». Гэтыя і некаторыя іншыя кнігі Біблii, зазначаў ён, напісаны «внутрь и зовнутрь», г. зн. маюць літаральнае значэнне і апасродкаваны сэнс: першае вядома не толькі «дактарам і людзям вучоным», але і «простым і паспалітым» людзям; другі ж, сімвалічны сэнс, неадназначны і не ўсім зразумелы без адпаведных каментарыяў.

Лаканічныя пасляслоўі С. не маюць назваў, па форме гэта кароткія допісы. Аднак ім С. надаваў не толькі інфарматыўныя, але ідэалагічныя і эстэтычныя функцыі. Яны падзяляюцца на поўныя, скарочаныя, кароткія і нават аднасказавыя. Агульным для ўсіх пасляслоўяў з'яўляецца паведамленне пра заканчэнне кнігі. Аднак гэта не толькі інфармацыя. Паняцце закончанасці (прынцып «finito») — важны кампанент рэнесансавай эстэтыкі, арыентаванай на класічную завершанасць мастацкага твора.

Тып скарочаных пасляслоўяў мае некалькі варыянтаў. Адны з іх апрача паведамлення пра заканчэнне кнігі маюць звесткі пра выдаўца, перакладчыка і рэдактара, пра яго радзіму. У 2 пасляслоўях адзначаюцца 2 вучоныя ступені С.: «в науках вызволеных и в лекарстве доктор». Яшчэ ў 2 пасляслоўях аўтар называе сябе «в науках и в лекарстве учителем». Поўныя пасляслоўі змяшчаюць своеасаблівы «сімвал веры» пісьменніка, нярэдка са спасылкай на хрысціянскі догмат траістасці Бога (»с помощию Бога во Троици единаго», «ка Богу во Троици единому и пречистой матери Марии»), указанне на месца выдання. Ёсць варыянты пасляслоўяў, якія завяршаюцца кароткай малітвай Хрысту, змяшчаюць каментарыі гістарычнага, семантычнага ці іншага характару. Поўныя пасляслоўі змяшчаюць і тлумачэнні пра мэту выдання, характарыстыку грамадскага значэння кнігі, яе асветніцкай і духоўнай каштоўнасці.

С. — заснавальнік яшчэ аднаго «мікражанру» ў беларускай літаратуры — анатацыі да кнігі. Адрасуючы плён сваёй «пільнасці і працы» шырокаму дэмакратычнаму чытачу, ён кла-

паціўся пра яе даступнасць, тлумачыў сюжэт, кампазіцыю, галоўныя вобразы. Яго анатацыі сведчаць пра асветніцкі, «вучыцельны» кірунак першадрукаваных беларускіх кніг. У сваёй сукупнасці анатацыі ствараюць «поліфанію» галасоў-думак, раскрываюць дыялагічнасць і супярэчлівасць ісціны, праўды, дабра, красы. Кожны персанаж кнігі «Іоў» сцвярджае тую ці іншую грань ісціны ў яе палемічнай завостранасці. Сам шматпакутны Іоў скардзіцца на трагедыю жыцця. Сябры, якія наведалі хворага Іова, імкнуцца апраўдаць дысгармонію жыцця і пакуты прапаведнікаў на зямлі вышэйшай справядлівасцю на небе, заклікаюць пакутніка да пакаяння і цярплівасці, выкрываюць зло, прадказваюць пагібель грэшнікаў і выратаванне праведнікаў. Аднак Іоў перамагае ў спрэчцы, ён схіляецца да песімізму і нават багаборніцтва. Ён шкадуе, што нарадзіўся на свет, дзе пакутуюць добрыя і перамагаюць злыя. Перад тварам гэтай усеагульнай несправядлівасці знікае розніца паміж дабром і злом. Каб падсумаваць спрэчку і раскрыць ісціну ў паўнаце, у размову ўключаецца юнак Еліуд. Паводле анатацыі С. сутнасць спрэчкі ў наступным: «Людская добрата Богу не помагаеть, но самому человеку. Те же злоба не досаждает Богу, но токмо человеку». Карамі, няшчасцямі і хваробамі Бог напамінае не злым, а добрым людзям, каб яны сталелі духоўна, падымаліся ад зямлі да неба: «чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб узнімацца ўверх». У анатацыі да кнігі «Эклезіяст» С. сцвярджае перавагу духоўных каштоўнасцей над матэрыяльнымі патрэбамі. Адносна кнігі «Ісус Сірахаў» у анатацыях гаворыцца, што ў ёй даследуюцца «зачала» (вытокі) мудрасці, справядлівасці, сціпласці, літасці, дабрыні, якая забараняе радавацца смерці сваіх ворагаў.

Літаратурнай спадчыне С. уласцівы стылявыя адзнакі сінкрэтызму: у ёй спалучаецца традыцыйная тэалогія з характэрным для эпохі Адраджэння вальнадумствам, а каментарыі да старажытных тэкстаў пазбаўляюцца сярэдневяковага аскетызму, перарастаюць ва ўзнёслае красамоўства. Творчасць яго ярка публіцыстычная, бо друкарскую справу, тэксталогію, філасофію, літаратурную і нават тэалагічную інтэрпрэтацыю біблейскіх кніг ён імкнуўся наблізіць да актуальных нацыянальных маральных, прававых і асветніцкіх праблем свайго часу. С. не прафесійны тэолаг, а хутчэй асветнік, настаўнік і грамадскі дзеяч, папулярызатар айчыннай і агульначалавечай культурнай спадчыны. ~~Ён першы прас~~пяваў гімн беларускай мове, пераконваў чытачоў у яе грамадскай і духоўнай каштоўнасці. Там, дзе рамкі прозы аказваліся недастатковымі для выяўлення пачуццяў прыгожага і ўзнёслага, аўтар уводзіў у тэксты сілабічныя вершы, напрыклад эпіграф да кнігі «Іоў». Вершаваныя фрагменты ёсць і ў прадмове да кнігі «Эсфір» у форме разгорнутай прымаўкі, і ў вольным пераказе 10 запаведзяў. Унутраная сэнсавая і фанетычная рытміка прозы С. адчуваецца чытачом, не абыякавым да музыкі слоў. Гэта дало падставу беларускаму паэту Алесю Разанаву перакласці прадмовы С. на сучасную беларускую мову белымі вершамі.



*Прага. Ратуша Старога горада.*

Бясспрэчна, С. валодаў паэтычным талентам. Пра гэта сведчаць яго вершы, напісаныя ў традыцыях паэтыкі візантыйскай гімнаграфіі (акафісты Іаану Хрысціцелю, «пресладкому імени Господа Нашего Ісуса Христа»).

Аналіз эстэтычных ацэнак С. сведчыць, што ён арганічна спалучаў хрысціянскі маральны рыгарызм з рэнесансавым артыстызмам. Паняццем красы і яго мадыфікацыямі ён карыстаўся ў разнастайных атрыбутыўных значэннях (эстэтычных, этычных, практычных), а не ў сэнсе гранічна шырокай філасофскай катэгорыі. Аднак і ў такой тэарэтычна не завершанай форме С. валодаў шырокім дыяпазонам сэнсавых адценняў катэгорыі прыгожага, спалучаючы ў сваіх поглядах элементы народна-сузіральнай (фальклорнай), хрысціянскай, антычнай і рэнесансавай эстэтыкі. Услед за патрыятычнай літаратурай ён тлумачыў паняцце духоўнай красы ў значэнні цэласнага, духоўна-прыроднага праяўлення жыцця. Паняцце «красны» ў С. зместам блізкае да рэнесансавай яго канцэпцыі як боскага атрыбута — дасканаласці Тварца і яго тварэнняў. Краса — «душа» быцця, яго жыватворны пачатак. У анатацыі да 3-га раздзела кнігі «Эклезіяст» ён пісаў: «И господь Бог учинил красно в час свой». Але краса, як і ўсе іншыя «рэчы» пад Сонцам, мае абмежаваны час квітнення і свой час смерці. Цэнтральная для антычнай культуры эстэтычная катэгорыя меры ў С. інтэрпрэтуецца ў традыцыях праваслаўных, славянавізантыйскіх і пазначаецца тэрмінам «чын». У анатацыі да 7-га раздзела кнігі «Эклезіяст» С. пісаў: «Иже не годится людем искати больших и вышщих речи над чин свой». Гэта ж стараславянская эстэтыка адчуваецца ў тлумачэнні красы і мастацтва як элементаў упрыгажэння, гарманізацыі быцця, маралі і культуры. У такім сэнсе ён разумеў і эстэтычную функцыю псалмоў: яны ўпрыгожваюць святы і яны ж «женам набожная маолитва и покраса». Літаратурны і свецкі аспекты прыгажосці падкрэсліваюцца ім у характарыстыцы старажытнагрэчаскіх пісьменнікаў — «мудрелюбцев и краснословцев». С. не схіляўся да спірытуалізму хрысціянскай эстэтыкі, не быў прыхільнікам сярэдневяковай «бесцялеснай» красы, якая вяла да страты адноснай самакаштоўнасці эстэтычнай сферы жыцця і свядомасці, у т.л. мастацтва. Ён не асуджаў тых, хто бачыў сваё шчасце «в красоте и крепости телесной». Аднак жыццёвая краса ўспрымалася ім не толькі ў эмпірычным, натуралістычным плане, яна сімвалізавала адраджэнне, узыход на новую, больш высокую ступень жыцця.

Агіднае процілеглае прыгажосці С. звычайна абазначаў тэрмінамі «мерзость», «мерзкый». Катэгорыю ўзнёслага ў адпаведнасці з традыцыяй хрысціянскай эстэтыкі ён ужываў звычайна як боскі, нябесны атрыбут. Карыстаўся ён і шматлікімі яе сінонімамі, «мадуляцыямі», напр. «высокость», «великоможность», «навышшый» і г.д. Кніга «Прытчы Саламона» вучыць мудрасці, каб «...Милостивого Бога хвалили, потому яко же прилежить на великую высокость и велеможность имени Его святого». У прадмове да кнігі «Іоў» С. развіваў хрысціянскую дыялектыку ўзаемапераходу процілегласцей — малога і вялікага, нізкага і высокага. Той, хто непрыкметны «ў свеце гэтым», падымаецца на вышыню сваім духоўным подзвігам. Катэгорыя ўзнёслага паслужыла С. для апалогіі розуму, мудрасці, культуры, духоўнасці, бо яны паднімаюць дух і душу чалавека да нябеснай вышыні. Ёсць у С. і патрыятычны нацыянальна-адраджэнскі сэнс паняцця ўзнёслага: тытуламі «вялікі» і «вялікаслаўны» пісьменнік надзяляе родныя яму гарады Полацк, Вільню і гасцінную Прагу. Сустракаюцца ў С. агідныя або камічныя «планы» хутчэй напышлівага, чым узнёслага, асабліва калі гутарка ідзе «о повышении безумного и раба» — недалёкага чалавека, нявольніка сваёй або чужой непрасветленай волі.

Катэгорыя трагічнага ў творах С. выяўлена пераважна сюжэтна як жыццёвая сітуацыя «бедаў і немачы». Паводле хрысціянскіх ідэалаў, спасціжэнне трагічнасці зямнога жыцця — адна з прыкмет мудрасці. Галоўным матывам выдання кнігі «Іоў» на роднай мове С. называў сваё веданне таго, што «ест найвышшая мудрость розмышление смерти» і пакутлівы шлях да духоўнай вышыні. Паняцце камічнага, як процілеглае трагічнаму, не выявілася ў літаратурнай спадчыне

С., і ў гэтым нельга не заўважыць хрысціянскі рыгарызм пісьменніка.

Сярэдневяковае хрысціянскае мастацтва, у т.л. беларускае, было сімвалічнае, усе яго кампаненты служылі сродкамі выяўлення духоўнага сэнсу. Нават з'явы прыроды (напр., у творах Кірылы Тураўскага) тлумачыліся сімвалічна, бо ў іх бачыўся знак вышэйшага, нябеснага сэнсу. С., верагодна, упершыню шырока карыстаўся паняццем сімвала, абазначыўшы яго тэрмінамі «знамя», «знаменаваць», «знаменаванне» і вытворнымі ад іх. Ён развіваў і патрыстычную традыцыю тлумачэння кніг Бібліі. Іх сюжэты, вобразы і дзеючыя асобы разглядаліся ім не ў простым фабульным, а найперш у пераносным, сімвалічным значэнні, якому надаваўся маральна-этычны, радзей эстэтычны сэнс. У выніку амаль усе падзеі і матывы старазапаветнай Бібліі ў інтэрпрэтацыі С. набылі выгляд «люстэркавай сіметрыі» — паралельнай суадпаведнасці матэрыяльнага і духоўнага, чалавечага і боскага, «ветхага» і «новага», зямнога і нябеснага, іманентнага і трансцэндэнтнага, таго, што адбываецца ў канкрэтна-гістарычных часе і прасторы, і таго, што знаходзіцца па-за часам і прасторай. Напрыклад, 12 суддзяў Ізраілевых, якія кіравалі народам на аснове родаплемяннай дэмакратыі, на яго думку, сімвалізавалі будучых 12 апосталаў Ісуса Хрыста. У прадмове да кнігі «Плач Ераміі» ён раскрыў сімвалічнае значэнне назваў кожнай літары старажытнаяўрэйскага алфавіта. Адну з самых паэтычных кніг Бібліі, славутую «Песню песняў», С. лічыў сімвалічнай ва ўсіх тэмах, вобразах і матывах: «жаніх» сімвалізуе Ісуса Хрыста, «нявеста» — яго царкву, жаніхова дружына — апосталаў, «отроковици» — дзяцей царквы і г.д.

Сімволіка ў творах С. мае пэўны мастацкі і маральна-этычны змест, з'яўляецца сродкам эстэтычнай інтэрпрэтацыі. У яго каментарыях няма размежавання паняццяў рэлігійнай, маральнай і мастацкай сімволікі, што сведчыць пра сінкрэтызм светапогляду. Аднак аналіз пэўнага кантэксту, у рамках якога С. карыстаўся гэтым паняццем, дазваляе адзначыць мастацка-эстэтычны і этычны аспект катэгорыі сімвала. Сімвалічнае значэнне С. надаваў найпершым біблейскім кнігам, якія вызначаліся найбольшай маральнай нарматыўнасцю, мастацкай вобразнасцю і эстэтычнай каштоўнасцю, напр. «Песні песняў». У прадмове да Псалтыра ён пазбег паняцця сімвала, аднак у няяўнай форме разглядаў яго як гранічна абагульненае сімвалічнае выяўленне маральных, пазнавальных, эстэтычных і тэалагічных каштоўнасцей усёй Бібліі. Псалтыр у С. — сімвал усіх духоўных каштоўнасцей, драматычнае станаўленне якіх адлюстравала Біблія, падсумаваўшы вынікі ўсёй старажытнай культуры. С. зазначыў, што трагічнае жыццё Іова сімвалізуе пакуты спасціжэння ісціны, таму і самога героя гэтай трагедыі сімвалічна называюць прарокам у тым сэнсе, што ён пакутамі сваімі быццам бы прадугадаў будучыя падзеі ста-



*Помнік Ф.Скарыну ў Полацку.*

наўлення хрысціянскай рэлігіі. З найбольшай паўнатой сімвалізм выявіўся ў прыказках і прымаўках, вядомых старажытным кніжнікам як жанр прытчы. С. першы ў айчынным літаратуразнаўстве звярнуў увагу на іх сімвалічна-пераносны сэнс, бо «всегда иную мудрость и науку знаменують и иначей ся разумеють, нежели молвены бывають, и болши в собе сокритых тайн замыкають, нежели словами пишуть». Ён часта выкарыстоўваў паняцце сімвала, каб адзначыць двоісты сэнс т. зв. «экзатэрычных» (тайных, даступных толькі дасведчаным) кніг — унутраны, сімвалічны, вядомы толькі мудрым, і вонкавы, агульнадаступны.

Сентэнцыі «Эклезіяста», якія быццам бы пярэчаць адна адной, на самай справе, як справядліва адзначаў С., у сімвалічнай форме выяўляюць неаднолькавыя маральна-эстэтычныя арыентацыі розных людзей і таго ж чалавека ў розныя перыяды яго жыцця. Сімвалічны вобраз ён параўноўваў з люстэркам, у якім відаць усё багацце яго канкрэтнага, зямнога зместу. Гераічны ўчынак Юдзіфі, на думку С., сімвалізуе натуральную для ўсіх людзей любоў да сваёй айчыны, да зямлі, дзе мы «зродилися и ускормлены суть». Паводле С., Біблія сімвалізуе, з аднаго боку, усё быццё і найперш гісторыю чалавецтва, а з другога — кожная з яе кніг выступае як сімвал канкрэтнай навукі ці пэўнага мастацтва — граматыкі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі, этыкі і інш.

У прадмове да кнігі «Быццё» С. наблізіўся да сімвалічнай інтэрпрэтацыі, уласцівай светапогляду рэнесансавых гуманістаў. «Неабходна ведаць, — пісаў ён, — што з усіх кніг старога закону (маецца на ўвазе старазапаветная частка Бібліі) кніга «Быццё», пачатак і канец кнігі прарока Езекііля і «Песня песняў» Саламонацара найбольш цяжкія для разумення. Вось чаму і яўрэі не давалі іх чытаць маладым людзям да трыццаці гадоў, таму што ў гэтых кнігах ёсць вялікія тайны, што пераўзыходзяць людскі розум. Бо хто з філосафаў мог бы зразумець, што Гасподзь Бог словам сваім з нічога стварыў усё яўнае і няяўнае, калі мець на ўвазе словы старэйшыны іх Арыстоцеля: «Нішто з нічога не бывае». Гутарка ідзе не пра вонкавы, апавядальны змест гэтых кніг, які зусім просты і агульназразумелы. С. меў на ўвазе іх унутраны, пераносны, «духоўны», г. зн. сімвалічны, сэнс. У той жа час С. не прызнаў выключна сімвалічнага значэння многіх сюжэтаў, вобразаў і міфаў Бібліі, спасылаўся на хрысціянскую веру ва ўсемагутнасць «во троици единаго Бога, в шести днех сотворившего небо и землю и вся, еже суть в них». Сімвалічнае значэнне біблейскіх сюжэтаў і вобразаў ён тлумачыў у адпаведнасці з хрысціянскімі традыцыямі. Ва ўсіх выпадках, калі гутарка ішла пра сімвалічнае значэнне мастацкіх вобразаў, біблейскіх сюжэтаў і міфаў, ён падкрэсліваў іх унутраны, нябачны, духоўны сэнс. З улікам светапогляду С., паводле якога Біблія ўяўлялася нібы двоістым сімвалам — рэальнай гісторыі чалавецтва і сукупнасці навук і мастацтваў, можна меркаваць, што культура бачылася яму ў двух сваіх аспектах: вонкавым, які адлюстроўваў паверхневы гістарычны пласт быцця, і ўнутраным, які накіроўвае нас на пазнанне яго скрытага, духоўнага, этычнага і эстэтычнага сэнсу.

На пераклад Бібліі паўплывала духоўная атмасфера эпохі Адраджэння, своеасаблівы артыстызм і погляд на культуру з эстэтычнага боку. У выніку гэтага шмат якія маральна-тэалагічныя ацэнкі кананічнага перакладу біблейскіх кніг у С. набылі эстэтычны сэнс. Параўнаем 2 фрагменты з кнігі «Іоў» у стараславянскім зводзе і адпаведныя вершы з Бібліі С.: «Азьже видех безумных укореняющихся, но абие поядено бысть их жилище». — «Азъ видех безумнаго укорененнаго, и злоречих *красоте* его скоро» [эстэтычныя паняцці ў перакладзе С. падкрэслены намі] ... «Прiими же высоту и силу, и в славу же и в честь облейцыся». — «Облеци на ся красу и на вышиню воздвигнися, и буди славный, и в *красныя* облецися ризы». Такі «эстэтычны ўхіл» можна знайсці амаль у кожным раздзеле перакладзеных ім кніг. Вось славутае «зачало» (першы радок) Бібліі ў рэдакцыі С.: «В начале сотвори Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не *украшенна*». У царкоўнаславянскай рэдакцыі зямля — «невидима и недостроена», у расійскім пе-



*Полацк. З малюнка 19 ст.*

ракладзе — «безвидна и пуста». Астрожская Біблія пад рэдакцыяй Івана Фёдарава таксама пачынаецца са Скарынавага радка: «Искони сотворил Бог небо и землю, земля же бе неплодна и не украшенна».

Тым звяном, якое злучае дабро з красою, для С. быў ідэал дасканалага чалавека. Хрысціянскую гармонію Бога і яго тварэння — Сусвет ён хацеў дапоўніць рэнесансавай зладжанасцю паміж духам і целам, асобай і грамадствам, народам і дзяржавай. І тут ён імкнуўся ўсяму надаць меру. У кнізе «Ісус Сірахаў», пісаў С., ёсць таксама вучэнне пра мернасць. Але для высокага недастаткова меры, раўнавагі, для гераічнага патрэбна бязмернасць з далятным знакам. Ён схіляўся хутчэй да ўзнёслага гераізму, чым да ўраўнаважанасці і «самаспакою» рэнесансавага ідэалу.

С. быў выразнікам духоўных патрэб тых грамадскіх колаў, у светапоглядзе якіх пад уплывам эканамічных, сацыяльна-палітычных і культурных зрухаў эпохі Адраджэння намеціўся некаторы адыход ад артадаксальна-сярэдневяковых уяўленняў. Характар філасофска-этычных поглядаў С. выявіўся ў своеасаблівым сінтэзе хрысціянскіх, антычных і рэнесансава-гуманістычных ідэй. Істотна паўплывала на яго светапогляд старажытная народна-этычная і эстэтычная, а таксама літаратурна-філасофская спадчына. Біблейская традыцыйна хрысціянская этыка мадэрнізуецца і адаптуецца С. у адпаведнасці з ідэйнымі запатрабаваннямі эпохі Адраджэння, актуальнымі сацыяльна-палітычнымі і нацыянальна-культурнымі задачамі беларускага, украінскага і рускага народаў. У цэнтры яго ўвагі — праблема чалавека і грамадства. С. разглядаў і вырашаў пытанні сэнсу жыцця, духоўнага свету, годнасці чалавека, паходжання маральных уяўленняў, духоўна-маральнай свабоды, агульнага і індывідуальнага дабра, грамадзянскай актыўнасці і інш. Ён зрабіў спробу перагледзець артадаксальна-сярэдневяковую трактоўку праблемы чалавечага існавання, паводле якой зямное жыццё чалавека — толькі падрыхтоўка да жыцця на тым свеце. Сцвярджаючы самакаштоўнасць чалавечага жыцця, ён рэабілітаваў зямное быццё. Этыка С. арыентуе чалавека на грамадска карыснае зямное жыццё, служэнне «пожитку посполи-

тому», пастаяннае інтэлектуальна-маральнае ўдасканаленне, «абы научившися мудрости» людзі «добре жили на свете». Праблемы сэнсу жыцця і вышэйшага дабра С. разглядаў у прадмовах да кніг «Прытчы Саламона», «Ісус Сірахаў», «Эклезіяст» і інш. У іудзейскай традыцыі гэтыя кнігі лічыліся філасофскімі і не былі ўключаны ў канон. Такія ж адносіны да іх былі і ў Старажытнай Русі. Так, кніга «Ісус Сірахаў» была вядома старажытнаму рускаму чытачу і разглядалася ім як свецкі маральна-дыдактычны твор. У «Прытчах Саламона» высокае прызнанне набывае розум, сцвярджаецца каштоўнасць рэальнага жыцця і інш. Негатыўныя адносіны да таго свету, пропаведзь зямнога шчасця і асалоды змешчаны ў «Эклезіясце». У кнізе «Ісус Сірахаў» выяўляецца адсутнасць веры ў жыццё на тым свеце, сцвярджаецца самакаштоўнасць быцця. Многія з гэтых ідэй адлюстраваны ў прадмовах С. У прадмове да кнігі «Прытчы Саламона» ён сцвярджае, што галоўнае прызначэнне чалавека ва ўдасканаленні зямнога жыцця, «яко ся имамы справовати и жити на сем свете». У каментарыях да «Эклезіяста» С. адзначае плюралізм яго каштоўнасных арыентацый.

С. быў добра знаёмы з антычнымі філасофска-этычнымі канцэпцыямі вышэйшага дабра, напр. з арыстоцелеўскай, эпікурэйскай, стаічнай і інш. Аднак ён не прымаў этычнай канцэпцыі эпікурэізму, спрабаваў сінтэзаваць хрысціянскія маральныя нормы з маральнымі прынцыпамі арыстоцелізму і памяркоўнага стаіцызму. Ён адзначыў дыялектычны характар разважанняў Саламона, у якіх адлюстравана супярэчлівасць маральнай свядомасці і паводзін чалавека ў рэальным жыцці, разнастайнасць жыццёвых пазіцый, складанасць быцця чалавека, што не ўкладваецца ў дагматычную схему пэўнай этычнай канцэпцыі. С. з разуменнем ставіўся да рэальнай, зямной маралі людзей і ўсё ж маральным ідэалам лічыў гуманістычна мадэрнізаваную хрысціянскую этычную канцэпцыю жыцця. Для С. вышэйшае дабро — інтэлектуальна насычанае, маральна дасканалае і грамадска карыснае жыццё. Служэнне Богу праяўляецца праз служэнне людзям і «паспалітаму добраму». У цэнтры ўвагі С. духоўны свет чалавека, яго каштоўнасці, ідэалы, прызначэнне. «Да совершен будет человек божий, — пастуліруе ён, — и на всяко дело добро уготован, яко святый апостол Павел пишеть. И сего ради святые писма уставлена суть к нашему навчению, исправлению, духовному и телесному, различными обычаи». С. уласцівы яскрава выяўлены інтэлектуалізм, погляд на пазнанне як на адну з істотных функцый духоўнай прыроды чалавека. У аснове яго этычнай канцэпцыі думка пра неабходнасць пастаяннага ўдасканалення чалавечай прыроды, ад якога залежыць дасканаласць грамадскага жыцця. С. сцвярджаў ідэал мыслячага, інтэлектуальна накіраванага чалавека. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці ён трактаваў як набытыя, як функцыю актыўнай разумна-пазнавальнай і грамадска-практычнай дзейнасці чалавека. Ён услаўляў людзей, якія імкнуліся да пазнання і аддавалі перавагу асалодзе духа перад усімі іншымі асалодамі, напр., цар Саламон, які «не просил еси собе дней многых, ни богатества», а «мудрости и разума» цара Пталамея II Філадэльфа, уладальніка Александрыйскай бібліятэкі, у якой было, паводле С., больш за 40 тыс. кніг. «Таковый убо был милосник науки и мудрости, иже болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царских сокровищах». Імкненне да інтэлектуальна-творчага самавыяўлення С. лічыў адной з найлепшых дабрачыннасцей чалавека. Ісус Сірахаў, уражаны кніжным багаццем Александрыйскай бібліятэкі, пісаў С., «узрел ест тамо множество книг различных и межи ими видел писмо и книгы деда своего... И возревновал ест тому, дабы оставил теже и по собе паметь, яко и предков его оставили суть, дабы паметь его не загинула во веки». У аснове інтэрпрэтацыі гэтага сюжэта думка С. пра тое, што бяссмерце чалавека ў памяці нашчадкаў забяспечваецца добрымі дзеяннямі, служэннем «пожитку посполитому». Гэта не адпавядала артадаксальнаму погляду. Жаданне славы, вядомасці, памяці ў нашчадкаў — уласцівасць рэнесансавай свядомасці, яно не характэрна для сярэдневяковай

культуры, прасякнутай духам ананімнасці. Тут выяўлена думка пра каштоўнасць індывідуальнага чалавечага існавання. Ідэалам С. быў чалавек, які спалучаў біблейскую і філасофскую мудрасць, «духа святога и филасофии исполненный». Ва ўяўленні С. мудрасць — гэта не толькі вера, маральнасць, але і веды. Ён разумеў яе ў арыстоцелеўскім сэнсе, як веды існага: «Мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у вореху. Кто ю знайдеть, сей знайде милость и достанеть благословения от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею, хвала и честь безчисленая моция ея, — она убо есть мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению». Веды С. разглядаў і як умову маральна-прыгожага жыцця. Адукацыя і культура, паводле С., пазначаюць чалавеку шлях да індывідуальнага і грамадскага дабра, з'яўляюцца асновай маральных дабрачыннасцей і зямнога шчасця. Доступ да маральнага ідэалу адкрыты кожнаму чалавеку, бо дабрачыннасці можна навучыцца. Звяртаючыся да ўнутранага свету чалавека, клапоцячыся пра яго інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці, С. сцвярджаў адзін з прагрэсіўных, рэнесансава-гуманістычных прынцыпаў, паводле якога сапраўдная годнасць і высакароднасць чалавека не ў паходжанні, не ў знатнасці і грамадскім становішчы, а ў такіх якасцях, як інтэлект, маральнае аблічча, здольнасці, дзякуючы якім ён прыносіць рэальную карысць грамадству. Паняцці маралі, паводле С., маюць дваістую аснову: індывідуальны розум і боскае адкрыццё. Прыродны маральны закон «прежде всех законов или прав писаных... всем людем от Господа Бога дан ест». Гэты закон «написан есть в серци единого каждого человека», дзякуючы гэтаму чалавек здольны прымаць свядомае маральнае рашэнне. «От зачала убо веков, — пісаў С., — егда сотворил Бог первого человека, написал ест закон сей в серци его». Асноўны пастулат «прироженого» маральнага закону — «то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных иметь». На гэтым маральным прынцыпе, паводле С., заснаваны ўсе «писаныя» маральныя законы, у т.л. і закон Старога і Новага запаветаў. Гэтым маральным законам, які вынікае з прыроднага розуму, кіраваліся і кіруюцца людзі на працягу ўсёй гісторыі. «Тым же обычаем, — пісаў С., — и ныне единый кажный человек, имея розум познаеть, иже непослушание, убийство, прелюбыдеание, ненависть, татба, несправедливость, злоимание, неволя, досаждение, гордость, злоречение, нелютость, клеветание, зависть и иная тым подобная злая быти, понеже сам таковых речей от иных не хощеть терпети». С. імкнуўся знайсці універсальны, прымальны для ўсіх людзей незалежна ад сацыяльнага статуса і канфесійнай прыналежнасці рацыянальны маральны прынцып, на аснове якога можна было б рэгуляваць грамадскае жыццё. Гэта не толькі ўплыў евангельскай этыкі, але і адлюстраванне шматвяковага пошуку сусветнай філасофска-этычнай думкі, якая імкнулася знайсці катэгарычны імператыў сацыяльна-маральных паводзін чалавека. Пісьмовай крыніцай маральных норм, паводле С., з'яўляецца Біблія. З рэлігійна-этычнага вучэння С. вынікае, што чалавек праз Біблію вядзе прамы і інтымны дыялог з Богам. Ён самастойна, без царкоўнага пасрэдніцтва можа разабрацца ў маральна-этычным сэнсе «боскага адкрыцця» і дасягнуць маральнай дасканаласці індывідуальнымі намаганнямі, у выніку самастойнага вывучэння Бібліі, асабістай веры. Зыходныя палажэнні маралі ў С. асэнсоўваюцца чалавекам і выступаюць як наказ маральнага абавязку і сумлення. Ён сцвярджаў інтравертны, арыентаваны знутры характар крыніцы веры і чалавечай маралі, абгрунтоўваў думку пра асабістую адказнасць чалавека за свае дзеянні.

Рэлігійна-маральную пазіцыю С. можна разглядаць як выяву рэнесансавага індывідуалізму. С. — адзін з першых еўрапейскіх рэфарматараў рэлігіі і маралі. У яго каментарыях назіраецца тэндэнцыя да разрыву сувязі паміж мараллю і афіцыйнай царквой. Крыніцу маральных паняццяў С. імкнуўся выявіць найперш у самім чалавеку, яго розуме, асабістых адносінах да Бога. Менавіта таму ў сваіх каментарыях ён акцэнтаваў увагу на маральна-этычнай сутнасці Бібліі. У

рэлігіі С. імкнуўся раскрыць не знешні, дагматычна-абрадавы бок, а зразумець яе ўнутраную сутнасць, пераважна філасофска-этычную, асэнсаваць некаторыя акумуляваныя хрысціянствам фундаментальныя агульначалавечыя маральныя каштоўнасці. Рэнесансава-гуманістычная тэндэнцыя да пераадолення залежнасці вучэння пра мараль ад афіцыйнай царкоўна-рэлігійнай дактрыны пашырылася ў філасофска-этычнай думцы Беларусі 2-й паловы 16—17 ст.

С. ставіў і вырашаў адну з найважнейшых філасофска-этычных праблем— праблему суадносін індывідуальнага і агульнага дабра. Чалавека ён разглядаў як істоту грамадскую. Яго этыцы ўласціва сцвярджэнне прымату агульнага дабра перад індывідуальным. Паняцце агульнага дабра ў творах С. выступае пад тэрмінам «посполитое доброе». Толькі ў грамадстве, лічыў ён, жыццё чалавека мае сапраўдны сэнс, таму людзі павінны навучыцца «вкупе жити». Грамадскае жыццё патрабуе ад чалавека бескарыслівага служэння «пожитку посполитому», выкарыстання ўсіх сваіх здольнасцей і талентаў у інтарэсах агульнага дабра. «Единому каждому, — пісаў С., — не хвалитися самому в себе божественными духовными даровании. Но яко уды разно имуще в теле деание, вси вкупе собе суть помощни, тако каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть». Сваё разуменне грамадскага абавязку С. сфармуляваў у прадмове да кнігі «Эсфір»: «Не толико бо сами народихомся на свет, но более ко службе божией и посполитого доброго». І сваю ўласную дзейнасць С. найперш разглядаў як служэнне агульнаму дабру, як выкананне свайго абавязку перад народам і радзімай. Гэту думку ён падкрэсліваў амаль у кожнай прадмове і пасляслоўі. З этычнага вучэння С. ўскосна вынікала, што людзей павінна аб'ядноўваць ідэя агульнага дабра. Грамадскія інтарэсы павінны быць вышэй за канфесійныя рознагалоссі, таму рэлігійная верацярпімасць — найбольш разумны спосаб суіснавання людзей.

Характэрная асаблівасць этыка-гуманістычнага светапогляду С. — патрыятызм. С. — заснавальнік нацыянальна-патрыятычнай традыцыі ў гісторыі беларускай культуры і грамадскай думкі. Калі большасці сярэдневяковых мысліцеляў быў уласцівы хрысціянскі касмапалітызм, то для С. на першы план выступалі інтарэсы свайго народа і айчыны, пачуццё абавязку перад радзімай і «братьями русью, людьми посполитыми». Патрыятычны пачатак у светапоглядзе С. — вынік канкрэтызацыі ідэі «агульнага дабра», адна з найбольш яркіх выяў беларускай нацыянальнай свядомасці свайго часу, якая сфармулявана ў наступных словах: «Понеже от прироження звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имеють». Этыка С. выхоўвала ў чалавеку грамадзяніна і патрыёта, фарміравала ў яго якасці, неабходныя для актыўнай грамадска-практычнай дзейнасці на карысць свайго народа і радзімы. С. не абсалютызаваў «агульнае дабро» на шкоду дабру індывідуальнаму, а імкнуўся гарманічна вырашыць праблему ўзаемаадносін паміж дзвюма маральна-этычнымі дабрачыннасцямі. Каб быць карысным грамадству, садзейнічаць яго аздараўленню, удасканаленню, захаванню яго цэласнасці, чалавек павінен пастаянна развіваць сваю духоўнасць, выхоўваць у сабе маральныя якасці, неабходныя для грамадскага жыцця. У адпаведнасці з хрысціянскай этыкай найважнейшай маральнай дабрачыннасцю чалавека С. лічыў любоў. Евангельскае паняцце «любоў да блізкага» С. гуманістычна пераасэнсоўваў. На яго думку, чалавекалюбства — вышэйшы прынцып узаемаадносін паміж людзьмі, універсальны закон прыватнага і грамадскага жыцця, аснова ўсіх дабрачыннасцей. «Каждый християнин, — пісаў С., — ...наиболей любовь ко всим да соблюдаеть, еже есть совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест». У іерархіі маральных каштоўнасцей «вера» ў С. стаіць пасля «любві». Прынцып любві ён пашыраў не толькі на прадстаўнікоў хрысціянскага веравызнання, але звяртаў «ко

всякому человеку» незалежна ад яго становішча ў грамадстве, веравызнання, нацыянальнага паходжання. Яму ўласціва глыбокая павага да «простого и посполитого человека», высокае разуменне яго годнасці, якая заключаецца ў інтэлекце, маралі, грамадскай актыўнасці, а не ў багацці, уладзе і саслоўнай прыналежнасці. Справядлівасць, паводле С., таксама з'яўляецца боска-прыродным маральным паняццем, а чалавекалюбства — галоўны крытэрый маральных паводзін чалавека. Менавіта на базе чалавекалюбства і справядлівасці С. фармулюе свой маральны імператыў, на якім павінны грунтавацца маральныя ўзаемаадносіны паміж людзьмі, асноўвацца законы, правасуддзе, дзяржаўнае кіраванне і палітыка. Хоць С. і прызнаваў важнасць самапаглыбленасці і сузіральнасці, але перавагу аддаваў сацыяльна актыўнаму, дзейсна-практычнаму жыццю. Інтэлектуальныя і маральныя дабрачыннасці чалавека толькі тады істотныя, калі служаць «посполитому доброму», калі людзі ў імя агульнага дабра, «отчины своея» аддаюць сябе цалкам і поўнасцю «розмножению мудрости, умения, опатренности, розуму и науки», не шкадуюць «всякого тружания и скарбов». Сцвярджэнне ідэалу актыўнага і грамадска карыснага свецкага жыцця — выяўленне самасвядомасці гандлёва-рамесных колаў гарадскога насельніцтва, адзін з момантаў раннебуржуазнай ідэалогіі Адраджэння. Служэнне агульнаму дабру, айчыне, «людем посполитым» С. ўводзіў у ранг падзвіжніцтва. У гэтым ён карэнным чынам разыходзіўся з сярэдневяковым хрысціянствам. Калі для сярэдневяковых мысліцеляў і царкоўных дзеячаў падзвіжніцтва — гэта ў асноўным рэлігійная аскеза, служэнне Богу і царкве, то для С. падзвіжніцтва — гэта перш за ўсё свецкая грамадска карысная дзейнасць: служэнне грамадству, радзіме, простым людзям.

Палітычны ідэал С. — асветная, гуманная і моцная манархічная ўлада. Ідэальнымі правіцелямі ён лічыў старажытнаўсходніх манархаў Саламона і Пталамея Філадэльфа, старажытнагрэчаскіх і рымскіх цароў і заканадаўцаў Салона, Лікурга, Нуму Пампілія і інш. На яго думку, правіцель павінен быць набожным, мудрым, адукаваным, дабрачынным, чулым, справядлівым да сваіх падданых. Ён абавязаны кіраваць краінай у строгай адпаведнасці з законамі, сачыць за правільным выкананнем законаў. Адначасова правіцель павінен быць моцным і грозным, умець у неабходным выпадку абараніць свой народ. Перавагу С. аддаваў «мірнаму гасудару». Не адмаўляў ён і існавання ў грамадстве класавых супярэчнасцей, хоць лічыў, што ўзаемаадносіны паміж «богатыми» і «убогими» павінны складвацца на аснове «братолюбия», «друголюбия». Чалавечае грамадства грунтуецца на міры і згодзе, «с нея же все доброе всякому граду и всякому собранию приходит, незгода бо и найбольшие царства разрушаеть». С. пераконваў людзей ставіцца «спомогающе друг другу со всякою любови» і вучыў, што «богатии, обидяще убогих приимут отмщение». «Убогим» жа С. рэкамендаваў «все до часу терпети и на Бога вскладати». У адпаведнасці з «Пасланнем апостала Паўла да селуян» С. асуджаў тых, хто «суть безчинии и празнующе», і сцвярджаў: «кто не хощет делати, да не ясть и к делу приставаен будет». Усведамляючы адрозненне паміж рэальнай сацыяльнай рэчаіснасцю эпохі і ідэалам, С. лічыў ідэальным раннехрысціянскі прынцып «ровная свобода всем, общее имение всех», для яго сацыяльная і маёмасная роўнасць не гістарычная перспектыва, а далёкае мінулае, часы раннехрысціянскіх абшчын. Сацыяльны ідэал С. сведчыць пра ўплыў на яго светапогляд радыкальна-рэфармацыйных ідэй. Яму ўласцівы сацыяльны дэмакратызм, арыентацыя на «людей простых, посполитых». Далёкі ад пачуцця элітарнасці, выбранасці, ён звяртаўся да народа як роўнага, верыў у яго інтэлектуальныя і маральныя магчымасці, высокія грамадзянскія пачуцці.

Новыя прававыя ідэі, якія прапаведаваў С., найбольш поўна адлюстраваны ў Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529. Ідэя патрыятызму, заснаванага не на канфесійнай або этнічнай, а на геаграфічнай і дзяржаўнай палітычнай прыкмеце, адлюстравана ў 3-м артыкуле 3-га раздзела гэтага Статута, дзяржаўны суверэнітэт замацаваны ў 1-м жа артыкуле таго ж раздзела. С. прытрымліваўся ідэі вяршэнства наро-

да ў дзяржаве і правтворчасці, што значна апярэджвала свой час і не адпавядала тагачаснай рэчаіснасці, але ўплывала на будучае заканадаўства. Ужо 2-і Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 змяшчаў норму, у якой сцвярджалася, што гасудар абавязваўся ахоўваць усе слаі насельніцтва, у т.л. простых («паспалітых») людзей, «пры свабодах і вольнастях хрестиянских», хоць на практыцы такая норма не выконвалася і простыя людзі палітычнымі правамі ў феадальнай дзяржаве не карысталіся. Абвяшчаючы новыя ідэі аб заканадаўстве, С. лічыў неабходным, каб закон быў «почтивый, справедливый, можный, потребный, пожиточный подлуг прирожения, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожий, явный не имея в собе закритости, не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написаный». У гэтым запісе цэлы комплекс прававых прынцыпаў, заснаваных на тэорыі натуральнага права. Само абвяшчэнне ідэі добрапрыстойнасці і справядлівасці права змяшчала крытыку феадальнага права, якое не было ні добрапрыстойным, ні справядлівым у адносінах да простых людзей. Закон павінен быць годным для выканання, карысным для насельніцтва і адпавядаць звычаям, часу і месцу. С. абвяргаў дамаганні духавенства на пашырэнне норм рымскага ці візантыйскага права або чужых насельніцтву норм польскага ці нямецкага права. Гэтыя ідэі аб прыярытэце мясцовага права, заснаванага на звычаёвым праве і судова-адміністрацыйнай практыцы, а таксама аб адзінстве права для ўсіх людзей упершыню адлюстраваны ў Статуце 1529. Абвяшчэнне ў Статуце роўнасці для ўсіх людзей перад законам, аднак, не азначала рэальнай роўнасці, паколькі самі законы не былі роўнымі для розных класаў і саслоўяў. Цікавыя погляды С. на класіфікацыю права. Паводле С., натуральнае права ўласціва кожнаму чалавеку ў роўнай ступені і кожны ім надзелены ад нараджэння. Пісанае ж права ён падзяляў на боскае, царкоўнае і земскае. Боскае і царкоўнае права ён ставіў на другое месца пасля натуральнага. Пастаноўка на першае месца натуральнага права перад Бібліяй і кананічным правам сведчыць пра гуманістычныя погляды С. і яго вальнадумства. У перыяд феадалізму тэорыя натуральнага права была ідэйнай зброяй, накіраванай супраць саслоўнай няроўнасці.

У земскім праве С. ў залежнасці ад грамадскіх адносін, што рэгуляваліся пэўнымі нормамі, вылучаў: паспалітае права, якое ўключала ў сябе нормы цывільнага і сямейнага права; міжнароднае, дзяржаўнае і крымінальнае, ваеннае («рицерскае»), гарадское («меское») і гандлёвае права. Такі падзел права ў значнай ступені спрыяў развіццю прававой тэорыі, якая набыла закончанае выяўленне толькі ў 19 ст. Прапанаваная С. класіфікацыя была выкарыстана пры падрыхтоўцы Статута 1529. Глыбокі тэарэтычны і практычны сэнс мела размежаванне земскага права з боскім і царкоўным, таму што не прызнаваліся дамаганні духавенства на кіраўніцтва заканатворчасцю і судовай практыкай. Выказваўся С. і па адным з найбольш важных пытанняў крымінальнага права — аб мэце пакарання. На яго думку, мэта крымінальнага пакарання — застрашванне злачынцы і адначасова папярэджанне іншым асобам, здольным на злачынства.

С. быў не толькі вучоным-прававедам, але і юрыстам-практыкам. Ён неаднаразова выступаў у судах як абаронца асабістых інтарэсаў і інтарэсаў сваіх блізкіх. Так, у пач. 1530-х гадоў ён выступаў як уладальнік спадчыны сваёй жонкі ў Віленскім судзе, потым у судзе віленскага біскупа і ў велікакняжацкім судзе. З мэтай абароны ад праследаванняў розных суцяжнікаў С. атрымаў у 1532 спецыяльны прывілей, паводле якога вызваляўся ад юрысдыкцыі ўсіх мясцовых судоў і ўсе абвінавачванні і іскі супраць яго маглі прад'яўляцца толькі ў велікакняжацкі суд. Аналіз асноўных дзяржаўна-прававых ідэй С. сведчыць аб яго рэнесансава-гуманістычных поглядах і аб значным укладзе, які ён зрабіў у беларускую прававую навуку, асабліва ў тэорыю дзяржавы і права. Супастаўленне яго прававых ідэй са зместам Статута 1529 дазваляе прыйсці да высновы пра яго магчымы ўдзел у распрацоўцы гэтага зводу законаў.

*Тв.*: Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969; Творы. Мн., 1990.

*Літ.:* Владимиров П.В. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык. Спб., 1888; Алексютовіч М.А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстет. мысли в Белоруссии в XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Юхо Я. Грамадскія і прававыя погляды Скарыны // Полымя. 1967. №6; Подокшин С.А. Франциск Скорина. М., 1981; Спадчына Скарыны: Зб. матэрыялаў першых Скарынаўскіх чытанняў (1986). Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. давед. Мн., 1988; Францыск Скарына: Зб. дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988; Скарына і яго эпоха. Мн., 1990; Булыка А.М., Жураўскі А.І., Свяжынскі У.М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990; Немировский Е.Л. Франциск Скорина: Жизнь и деятельность белорусского просветителя. Мн., 1990; Галенчанка Г.Я. Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993; Şokolov,a F. Nad některými problémy Života a dila Francyska Skoryny // Slavia. 1978. №3;

*У.М.Конан, С.А.Падокшын, І.А.Юхо.*

## **СМАТРЫЦКІ** Мялецій (свецкае імя Максім Герасімавіч; 1575—27.12.1633)



Грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, мысліцель, пісьменнік-палеміст. Нарадзіўся ў мяст. Смотрыч (цяпер Дунаявецкі раён Хмяльніцкай вобл.) у шляхецкай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў пад кіраўніцтвам бацькі — вядомага палеміста, аўтара антыкаталіцкіх твораў, рэктара Астрожскай школы, дзе С. «абучаны славянскі, грэчаскі і лацінскі», а таксама грэка Кірылы Лукарыса — featuring разнабакова адукаванага чалавека, будучага канстанцінопальскага патрыярха. Скончыўшы філасофскі факультэт Віленскай езуіцкай акадэміі, С. займаўся педагагічнай дзейнасцю ў праваслаўных брацкіх школах Вільні, Мінска, Кіева. Паводле Баркалабаўскага летапісу, князь Б.Саламарэцкі па рэкамендацыі К.*Астрожскага* ў 1600 запрасіў С. настаўнікам да свайго сына Багдана: «ўзяўшы сына ад Лаўрэнція зараз дано да навукі лацінскія да пана Максіма Герасімавіча Сматрыцкага». З гэтага часу С. надоўга звязаў свой лёс з сям'ёй памянёнага князя, часта жыў у яго маёнтках Саламарэчча пад Мінскам і Баркалабава на Магілёўшчыне. Разам з сынам князя ён прадаўжаў адукацыю ў розных гарадах Сілезіі, Славакіі, Германіі, слухаў лекцыі ва універсітэтах Лейпцыга, Нюрнберга, Вітэнберга, дзе жыў і прапаведаваў Лютэр. Відаць, за мяжой С. атрымаў ступень доктара медыцыны, пра што сведчыць тытульны ліст яго «Апалогіі» (1629, Львоў). Вярнуўшыся з-за мяжы, С. жыў у таго ж князя пад Мінскам. У той час ішло бязлітаснае змаганне дзвюх цэркваў — каталіцкай і праваслаўнай, за якім выразна праглядваліся сацыяльна-палітычныя і нацыянальныя інтарэсы кожнага з бакоў. Распачатая бязлітасная рэлігійна-нацыянальная канфрантацыя мела канфесіяльную накіраванасць і рэлігійную форму. Палемісты абвінавачвалі адзін аднаго ў ерасі, аблудах, богаадступніцтве. Але за пытаннямі дагматыкі, веры, стану царкоўнага жыцця стаялі рэальныя жыццёвыя патрабаванні і палітычныя сілы са сваімі інтарэсамі. Цяжкае ўражанне на С. зрабілі езуіцка-уніяцкая нецярпімасць, беззаконне і разгул фанатызму ў адносінах да мясцовага насельніцтва «русінаў». Уключыўшыся ў гэту барацьбу, С. напісаў шэраг брашур, у

якіх не прызнаваў правамоцнасць уніі (супраць «Разговоров Брестянина с братчиком» і супраць «Воскресшего Наливайко»), даваў парады пра спробы супраціўлення распаўсюджванню уніяцкага веравызнання, наладжваў сувязі з іншымі цэнтрамі праваслаўя (Вільня, Львоў), садзейнічаў стварэнню ў Мінску праваслаўнага брацтва. Антыезуіцкая накіраванасць яго твораў і дзейнасці выклікала да С. павагу і давер насельніцтва, якое бачыла ў яго асобе свайго абаронцу. Езуіцкі гісторык Я.Суша быў вымушаны сведчыць: «К няму як аракулу сцякаліся людзі з усіх старон». Неўзабаве С. перабраўся ў Вільню, дзе ад імя праваслаўнага віленскага брацтва ў 1608 напісаў «Антыграфі, або Адказ на з'едлівы трактат» супраць твораў І.Пацея «Ерасі...». Абараняючы дагматыку праваслаўя, адстойваючы годнасць і права на свабоду веравызнання, у прадмове да гэтага твора ён заяўляў пра гістарычную і прыродную праўду тых, над кім робяць насілле: «Такава сіла праўды — чым больш яе імкнуцца задушыць, тым больш яе замацоўваюць». На падставе юрыдычных дакументаў С. абвяргаў абвінавачванні уніяцкіх аўтараў у парушэнні праваслаўнымі законаў і ўтварэнні імі беспарадкаў, апісваў «беззаконнасць, свавольствы і эксцэсы», якія чыняць уніяты і католікі, парушаючы ўсе «боскія і чалавечыя ўстанаўленні». Так С. апынуўся ў цэнтры разгорнутага грамадска-рэлігійнага руху. Яго творы даволі дакладна перадаюць гістарычныя абставіны часоў усталявання уніі, прычыны яе ўзнікнення, напал страсцей у супраціўленні ёй. Адзін з лепшых яго тагачасных твораў па змесце, форме і перадачы пачуццяў — «Трэнас, альбо Лямант усходняй царквы» (1610), за прыгожы і вобразны стыль якога С. называлі Златавустам. У цэнтры вобраз праваслаўнай маці-царквы, якая плача і пакутуе. У ім адлюстраваны трагічны лёс народа, разбурэнне жыцця грамадства, смута і спусташэнне ў краі: «Гора мне няшчаснай... з усіх бакоў абрабаванай... выстаўленай на ўсеагульную знявагу... Рукі ў аковах, ярмо на шыі, путы на нагах, двухбаковавостры меч над галавой, глыбокая вада пад нагамі, нязгасны агонь па баках. Адусюль крыкі, адусюль страх, адусюль ганенне». Гэты плач і пакуты — трагедыя народа, які плача ад бяссілля ў няроўнай барацьбе з тонка спланаваным і арганізаваным каталіцка-уніяцкім наступам, ад гаротнага становішча і пакут праваслаўных, што церпяць ганенні, ад пагрозы разбурэння дзяржавы і гібелі ў ёй няпольскіх народаў. Галоўная тэма «Трэнаса...» — усебаковая крытыка каталіцкай царквы ад яе догматаў да маральнага абрысу яе святароў. Гэта вымагала ад С. смеласці, глыбокіх ведаў гісторыі і здольнасці паказаць яе, бо менавіта на фактах гісторыі раскрываў ён імкненне каталіцкай курыі ўсталяваць сваю ўладу ў свеце. Паводле прызнання езуіцкага гісторыка Сушы: «Ніколі ніхто з ерытыкоў не рабіў на св. прастол такіх злосных нападкаў, якімі напоўнены «Трэнас». Тут што ні слова, то язва, што ні думка, то атрута, тым больш згубныя, што аўтар разбавіў іх прывабнасцю стылю». Падкрэсліваючы згубнасць уплыву каталіцтва на жыццё дзяржаў і грамадстваў, дзе ён пануе, С. параўноўваў жыццё ў іх з рабствам, ад якога народы імкнуцца вызваліцца. «Гэтага рабства пазбавіліся многія народы і цяпер радуюцца сваёй волі. Англія, Нарвегія, Данія, Галія і многа іншых вядомых каралеўстваў Еўропы ўдзень і ўначы нібы выгукаюць: няхай будуць усім папярэджаннем нашы няшчасці, не аддавайце сябе ў рабства». І далей аўтар падкрэслівае, што ў Рымскай курыі тонка плятуць змовы, каб скарыць дзяржавы і народы, што гэта частка яе планаў да сусветнага панавання, што яна — нешта «няшчырае, прытворнае, надуманае, ні тое, ні сёе», а прыхільнікі уніі «не жадаюць бачыць сваёй гермафрадыцкай ганьбы, што яны ні тое, ні другое, ні птушка, ні звер, г. зн. не з'яўляюцца прыхільнікамі ні грэчаскай, ні рымскай рэлігіі». Ніхто з праваслаўных палемістаў так глыбока, як С., не раскрываў сутнасці трагічнага становішча народа, рэструктыўнай ролі каталіцкай царквы, езуітаў і уніяцкага веравызнання. Асаблівую ўвагу звяртаў С. на абвяржэнне аднаго з догматаў каталіцкай царквы пра бязгрэшнасць папы, сцвярджаючы, што папа — «звычайны чалавек... аблудная, як і іншыя, авечка, не бязгрэшны, не ўсемагутны, але грэш-

ны, смяротны, які не можа прыбавіць сабе ні локця росту», і што «ўсе памылкі і бязбожнасці рымска-каталіцкай царквы зыходзяць ад яе самой». Высокага накалу дасягае яго крытыка пры выкрыцці маральнага аблічча каталіцкага духавенства, якое заражана духам скнарнасці і нажывы, а ўся яго царква, прадажная, карыслівая, стараецца атрымаць з усяго барыш, чаго і не спрабуе ўтойваць. У пацвярджэнне гэтага С. прыводзіць гістарычныя факты і выказванні каталіцкіх аўтараў. Сілу сваёй логікі аўтар «Трэнаса...» абрушвае на папства і каталіцкую царкву не з жадання выкрыць іх памылкі, а паводле закону барацьбы за выжыванне. Так, догмат бязгрэшнасці і верхавенства рымскіх пап стаў тым палітычным «лозунгам», вакол якога разгарнулася жорсткая палеміка. На думку езуіцкіх гісторыкаў, «знішчальная» крытыка С. прычыняла каталіцтву маральны ўрон і спрыяла актывізацыі супраціўлення праваслаўных уніяцтву, бо ён не проста канстатаваў язвы каталіцкай царквы, а заклікаў праваслаўных не падпарадкоўвацца «папачкам», «скідаць з сябе іх ярмо».

Адно з галоўных пытанняў, якія абмяркоўвалі тагачасныя палемісты, было пытанне аб прычынах ажыццяўлення Брэсцкай уніі. Яно хвалявала ўсё грамадства. Многія аўтары бачылі іх у прыгнечаным і гаротным становішчы праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Падзяляючы гэты погляд, С., як ніхто іншы, пераканаўча і найбольш поўна абгрунтаваў яго. Ён усебакова паказаў агульны стан праваслаўя, непаладкі яго структуры, супярэчнасці і ўнутраныя разлады, дэмаралізацыю, крайняе невуцтва вышэйшага і ніжэйшага духавенства, бяспраўе і прыгнечанае становішча ў грамадстве. Характарызуючы маральнае аблічча епіскапаў, што падпісалі дакументы Брэсцкай уніі (М.Рагоза, І.Пацей, полацкі Герман, пінскі Габот, холмскі і луцкі ўладыка Тарлецкі), С. аб'ектыўна адзначае станоўчыя якасці кожнага з іх, але агульны вывад сведчыць пра іх разбэшчаны розум, сумніцельнасць веры, славалюбства, карыслівыя мэты і імкненне да багацця. З пачуццём жалю і смутку С. абвінавачвае іх у здрадніцтве і заклікае да пакаяння. Прычыны ўвядзення уніі С. бачыў у маральным разлажэнні духавенства, што спрыяла ажыццяўленню карыслівых планаў рымскіх паноў. Выкрываючы жыццё святароў манастыроў і ўсёй царквы, С. даў ім трапную характарыстыку: «Ні жыццё, ні звычаі, ні паводзіны, ні адзенне не робяць вас настаўнікамі... У жыцці вы шынкары і купцы, па звычках — лежабокі, у размове — невукі, у абыходжанні — крывадушныя, а па адзенні — драпежныя ваўкі, вашы забавы — распусныя. Гэта ўсё губіць і вас саміх, і тых, хто вас пераймае». Пасля выдання «Трэнаса...» паводле ўказа Жыгімонта III на праваслаўнае брацтва абрынуліся рэпрэсіі: яго друкарня была зачынена, кнігі і шрыфт знішчаны, накладзены штраф у 5 тыс. злотых, карэктар Л.Карповіч быў зняволены ў турму, аўтара ад пакарання

*«Граматыка славенская...». Вільня. 1619.*

выратаваў псеўданім (Феафіл Арфалог). У час выдання гэтага твора войскі Рэчы Паспалітай на чале з Жыгімонтам III знаходзіліся пад Смаленскам. Таму невыпадкова яго аўтара абвінавачвалі ў здрадзе і палітычнай ненадзейнасці. Каб нейтралізаваць у грамадстве ўражанне ад «крамольнай кнігі», езуіты і уніяты адразу выдалі некалькі твораў супрацьлеглага зместу, у т.л. «Перастарогу» П.Скаргі (1610), «Перыгорыю» І.Марахоўскага (1612) і інш. Яны называлі С. здраднікам айчыны, агентам Масквы, вучнем Лютэра і інш. Але сіла довадаў, логікі і пачуццяў «Трэнаса...» была такая, што яго прыцягальная моц не страціла свайго значэння на працягу ўсяго стагоддзя, пазначанага супраціўленнем нацыянальна-рэлігійнаму насіллю. Твор захоўвалі, перадавалі як святыню з пакалення ў пакаленне, перапісвалі ад рукі. Сваю антыкаталіцкую і антыуніяцкую дзейнасць у духу «Трэнаса...» С. працягваў і надалей. Пасля смерці Карповіча ён быў абраны настаяцелем Святадухаўскага манастыра (прыняў манаства ў 1617), узначаліў праваслаўнае брацтва ў Вільні.

Яго дзейнасць як педагога і вучонага-філолага на працягу ўсяго жыцця была цесна звязана з праваслаўнымі брацтвамі ў Вільні, Мінску, Кіеве і інш. У брацкіх школах ён выкладаў стараславянскую, грэчаскую і лацінскую мовы, быў рэктарам брацкай школы ў Кіеве (1616—17). Абагульненнем навуковай працы і педагагічнай практыкі С. з'явілася «Грамматики славенския правилное синтагма», выдадзеная ў Еўі (каля Вільні) у 1619. Яе выданнем С. фактычна працягваў барацьбу супраць польска-каталіцкага засілля, адстойваў і сцвярджаў правы беларусаў на захаванне сваёй мовы як асновы культуры, спрыяў умацаванню нацыянальнай самасвядомасці, абараняў мову і самабытную культуру ад нападкаў каталіцкіх палемістаў. Так, апалагет царкоўнай уніі езуіт Скарга лічыў стараславянскую мову непрыдатнай «для навукі, для ўжывання ў высокіх сферах духоўнага жыцця». У процівагу такім сцверджанням у прадмове да «Грамматики...» С. выказаў надзею, што на зганьбаванай езуітамі мове будуць чытаць лекцыі, вучыць «майстэрству добра пісаць і правільна выкладаць думкі». З выданнем «Грамматики...» гаворка пра беларускае пісьменства з абстрактнай катэгорыі станавілася практычным здабыткам народа. З «Грамматики...» С. робіць спецыяльную вытрымку пад назвай «Алфавітар» — навучальны дапаможнік для пачатковай адукацыі. У ёй С. прааналізаваў шматлікія формы граматычных законаў і правіл царкоўнаславянскай мовы з улікам змен, што адбыліся ў мове за апошнія стагоддзі, якія адлюстраваны ў летапісах, у рукапісах 15—16 ст. У вытрымцы прысутнічалі таксама розныя формы народных гаворак, дыялектаў, запазычанні з польскай мовы і г.д. На першае месца ён ставіў практычнае яе прызначэнне — навучыць правільна гаварыць і пісаць («што ёсць граматыка: ёсць вядомае майстэрства блага і глаголеці і пісаці навучаючае»). Па аналогіі з грэчаскай мовай С. падзяліў граматыку на арфаграфію, этымалогію, сінтаксіс і прасодыю. У 1-й частцы разглядаецца сістэма правіл напісання і вымаўлення слоў, менавіта С. увёў 10 знакаў прыпынку, якія захаваліся да нашага часу. 2-я частка граматыкі прысвечана аналізу 8 часцін мовы. Вучэнне пра дзеяслоў як часціну мовы аўтар характарызуе як «дзейства ці страсць», класіфікуе і моўныя катэгорыі, што характарызуюць гэту часціну мовы. Знойдзеная С. галоўная прыкмета падзелу дзеясловаў на спражэнні захоўвае сваё значэнне да нашага часу. У 3-й частцы — сінтаксісе — даюцца правілы спалучэння 8 часцін мовы. У апошняй частцы «Грамматики...» С. падводзіць вынікі і сцвярджае, што на стараславянскай мове можна ствараць паэтычныя творы. Ён прапануе правілы вершаванага мастацтва, уводзіць метрычны размер, што спрыяла вызваленню ад сілабічнага ладу, чужога ўсходнеславянскім мовам. «Грамматика...» С. абагульніла ўжо вядомыя і стварыла новыя правілы і законы выкарыстання моўных форм. Як філолаг С. глыбока пранікаў у лад мовы, адчуў яе натуральныя ўласцівасці, выявіў яе нормы, заканамернасці і ўнутраныя магчымасці. Пра высокі ўзровень граматычнай думкі, выказаной С., сведчыць сам факт захавання навуковага значэння яго «Грамматики...» на працягу амаль 150 гадоў. Ад

падобных ёй дапаможнікаў і граматык, у т. л. і ад сваёй папярэдніцы «Грамматики славянской» Л.Зізанія, яна адрозніваецца багаццем граматычнага аналізу, выяўлення прыроды моўнага строю, слова, лексікі, стылю і г.д. Амаль усе наступныя выданні граматык у розных краінах былі або скарачэннямі, або малазначнымі перапрацоўкамі, ці прамым капіраваннем «Грамматики...» С. («Грамматика...» Аф.Пузіны, Крамянец, 1638; «Буквар» В.Бурцава, Масква, 1634; «Граматично исказание...» Ю.Крыжаніча, 1666; перадрукі самой «Грамматики...» С. ў Маскве ў 1648, 1651, 1721, 1723, у Сербіі ў 1775). «Грамматика...» С. стала ўзорам для стварэння граматык рускай мовы (Г.В.Лудольфа, 1698, І.Капіевіча, 1706, В.Ададурава, 1731, М.Гранінга, 1750). Нават у «Грамматике русского языка» М.Ламаносава адчуваўся непасрэдны ўплыў працы С. Па граматыцы С. вучыўся Ламаносаў, які называў яе поруч з «Арыфметыкай» Л.Магніцкага і «Псалтирью рифмотворной» *Сімяона Полацкага* «вратами своей учёности». Стварэннем «Грамматики...» С. паказаў, як на справе трэба служыць рэальным, а не абстрактным патрабаванням грамадства і часу.

У сувязі з назначэннем у 1620 С. ўпаўнаважаным канстанцінопальскага патрыярха ў Кіеве разгарнулася новая хваля антыуніяцкага руху. Да гэтага часу ў праваслаўнай царквы не засталося ніводнай епіскапскай кафедры, не занятай уніятамі. З 1618 архіепіскапам полацкім быў уніят Іасафат *Кунцэвіч*. Аднаўленне праваслаўнай епархіі ў Полацку было сустрэта насельніцтвам з энтузіязмам. Разгарнула сваю дзейнасць і Віленскае брацтва. С. і іншыя братчыкі аднавілі актыўную антыуніяцкую дзейнасць. Яны выступалі з пропаведзямі, рассылалі ганцоў з пісьмамі, кнігамі і іншымі тэкстамі з заклікам не падпарадкоўвацца уніятам. Католікі і уніяты за дапамогай звярталіся да караля, *Л.Сапегі*, І.В.*Руцкага*, скардзіліся на С., які словам і справай аспрэчваў полацкую епіскапскую кафедру. У каралеўскіх граматах (1621 і інш.) С. і мітрапаліт Барэцкі аб'яўляліся самазванцамі, змоўшчыкамі, ворагамі дзяржавы. Спецыяльны каралеўскі ўказ патрабаваў ад віленскага магістрата пакараць С. як шпіёна і бунтара. Была нават створана следчая камісія, тройчы С. выклікалі на суд, але ён на яго не з'явіўся. На працягу 1621—23 ім напісаны і выдадзены адно за адным наступныя творы: «Апраўданне нявіннасці», «Абарона апраўдання» (абодва 1621), «Выкрыванне з'едлівых твораў», «Абгрунтаванне нявіннасці» (абодва 1622), «Прашэнне» (1623). У іх С. адлюстроўваў новыя хвалі рэпрэсіі, стойкасць насельніцтва, абвяргаў абвінавачванні, сцвярджаючы, што менавіта уніяты-адступнікі з'яўляюцца віноўнікамі хваляванняў на Беларусі. Палітыку насільнага акаталічвання ў Рэчы Паспалітай ён расцэньваў як згубную для лёсу дзяржавы: «Вось ужо 28 гадоў гарыць іскра ўнутраных смут, не прыносячы нікому карысці» Ён даказваў, што ўсе народы Рэчы Паспалітай павінны быць свабоднымі і раўнапраўнымі ва ўсім з польскім народам, а свецкая і духоўна-каталіцкая ўлады робяць усё, каб «у Русі не было русінаў, каб руская вера не была ў царкве; спроба змяніць веру... з'яўляецца імкненнем знішчыць народ, а імкненне знішчыць народ — з'яўляецца вар'яцтвам». Кульмінацыяй гэтай барацьбы было паўстанне ў 1623 гараджан Віцебска, у выніку якога быў забіты епіскап-уніят І.Кунцэвіч. С. быў аб'яўлены саўдзельнікам забойства свайго саперніка па епіскапскай кафедры. Яго жыццю пагражала небяспека і ён тайна з'ехаў з Вільні ў Кіеў, адтуль — у Палесціну, Егіпет, Грэцыю, дзе прабыў 3 гады. У 1626 ён вярнуўся ў Кіеў, потым жыў у Баркалабаве ў князя Саламарэцкага. Уніяты аднавілі кампанію ганення на яго, і ён вымушаны быў пакінуць Беларусь. Але спляценне розных абставін прывяло яго самога ў унію (чэрвень 1627). Апошнія гады жыцця правёў у Дзерманскім манастыры. Лісты таго часу адлюстроўваюць яго душэўны неспакой і разгубленасць. У творах, выдадзеных у 1628—29 («Апалогія...», «Парэнэзіс...» і «Экзетэзіс...»), сваю пазіцыю С. тлумачыў тым, што супраціўленне уніі парушае спакой у дзяржаве, з'яўляецца марнай тратай сіл, бо на яе баку стаяць магутныя сілы караля і папы. Гэтыя матывы раскрываюць усю глыбіню асабістай трагедыі С. Але ідэі абароны і апраўдання уніі яе ранейшым гарачым крытыкам не атрымалі

таго грамадска-палітычнага водгуку, на які разлічвалі уніяцка-каталіцкія колы.

С. займае значнае месца ў гісторыі грамадска-палітычнай думкі Беларусі і Украіны 1-й чвэрці 17 ст. як рэлігійны дзеяч, таленавіты пісьменнік-публіцыст, як філолаг і педагог. Яго антыуніяцкія творы і творы ў абарону уніі — гэта летапіс ганення на праваслаўнае насельніцтва Беларусі, крыніца доказу гістарычнай трагедыі народа, яго пакут і барацьбы, яго ахвяр за правы і свабоды, за сваё жыццё і выжыванне. У іх С. заклікаў у сведкі ўсіх людзей: «Слухайце маю сумную аповесць усе народы...» Яго біяграфія — цікавая старонка тагачаснай гісторыі Беларусі. Больш за 30 гадоў ён пражыў у розных гарадах і мястэчках Беларусі, у Вільні — цэнтры нацыянальна-рэлігійнага і грамадскага руху як актыўны яго ўдзельнік і сведка цяжкай і ўпартай барацьбы «русінаў» за сваё выжыванне.

*Літ.*: Еленевский К. Архиепископ Полоцкий // Православное обозрение. 1861. Т. 5, 6, 7, 8; Засадкевич Н.М. Смотрицкий как филолог. Одесса, 1883; Коялович М.О. Литовская церковная уния. Т. 2. Спб., 1861; Осинский А.С. Мелетий Смотрицкий, архиепископ Полоцкий. Киев, 1912; Прокошина Е.С. Мелетий Смотрицкий. Мн., 1966; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — нач. XIX в. Мн., 1962. С. 144—185.

*К.С. Пракошына.*

## СОЦЫН (Socino, Sozzini) Фауст (5.12.1539—3.3.1604)

Філосаф, гуманіст, тэолаг-антытрынітарый, заснавальнік сацыніянства. Нарадзіўся ў Сіене (Італія). Пасля заканчэння факультэта права ў Ліёне служыў сакратаром пры двары фларэнційскага князя Казімы І Медычы. У 1574 пакінуў прыдворную службу і, каб цалкам прысвяціць сябе рэфарматарскай дзейнасці, пераехаў у Базель, тагачасны цэнтр рэлігійнага вальнадумства. У 1579 прыехаў у Кракаў і актыўна ўключыўся ў радыкальна-рэфармацыйны рух Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Аўтар шматлікіх трактатаў і лістоў на тэалагічныя і філасофска-рэлігійныя тэмы, якія былі апублікаваны ў двух першых тамах выдання «Бібліятэка польскіх братоў» (Амстэрдам, 1665—68). Асновы сваёй дактрыны выклаў і апублікаваў у раздзеле Proelectiones theologicae (т. зв. «Лекцыі кракаўскія»). Памёр у Луславічах каля Тарнава (Польшча).

У ідэйных спрэчках правага і левага крыла антытрынітарыяў С. займаў цэнтрысцкія пазіцыі. Ён успрыняў і развіў некаторыя сацыяльныя і рэлігійна-філасофскія ідэі С.Буднага, з якім быў асабіста знаёмы. Аднак асуджаў вучэнне Буднага пра натуральнае паходжанне Хрыста і выступаў супраць атэістычных тэндэнцый у беларускім антытрынітарызме. Лічыў, што вырашальны крытэрый у ацэнцы Бібліі— індывідуальны чалавечы розум, што вера залежыць ад свабоднай волі чалавека, яго маральнай пазіцыі і сілай навязаць веру чалавеку не мае права ні царква, ні дзяржава. Ён вучыў, што ў жыцці чалавека вырашальнае значэнне маюць не рэлігійныя перакананні, а маральныя прынцыпы (так вучыў і Ф.*Скарына*). Каштоўнасць чалавека вызначаецца не канфесіянальнай прыналежнасцю, а высокамаральным жыццём. С. даказваў, што чалавек валодае свабоднай воляй, якая кіруе розумам і мараллю. Таму ва «ўратаванні» чалавека, у дасягненні ім шчасця вызначальную ролю адыгрываюць не вонкавыя абставіны (царкоўныя прадпісанні, вера, боская ласка), а свабодны выбар. Сапраўднасць гэтага выбару, меркаваў С., спасылаючыся на Платона, залежыць ад узроўню ведаў чалавека пра навакольны свет і самога сябе. Антрапалагічнаму песімізму кальвініскага вучэння С. проціпастаўляў гуманістычны аптымізм, лічыў, што кожны чалавек (а не выбраныя) здольны заслужыць уратаванне пры дапамозе індывідуальных духоўна-маральных намаганняў. У той жа час этыка С. не была атэістычнай, паколькі з яе вынікала рэлігійнасць, якая хоць і не з'яўлялася абавязкам, але была актам добрай волі і маральнасці чалавека.

У 1588 на сінодзе ў Брэсце прыхільнікі С. атрымалі ідэйную перамогу. З гэтага часу С. становіцца ідэолагам польскага і беларускага антытрынітарызму. Агульным цэнтрам сацыніянства ў той час быў г. Ракаў Сандамірскага ваяводства, а цэнтрам

беларускага сацыніянства — г. Навагрудак. Для гэтай плыні характэрна далейшая рацыяналізацыя рэлігійнай філасофіі антытрынітарыяў, паступовае ператварэнне рэлігійнай дактрыны ў філасофскую. Сацыніяне патрабавалі верацярпімасці, аддзялення царквы ад дзяржавы, надавалі вялікую ўвагу развіццю прыродазнаўства, матэматыкі, асветы. У пач. 17 ст. ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім існавала каля 150 сацыніянскіх суполак. Ідэйную глебу для ўзнікнення сацыніянства тут падрыхтавала рэлігійна-філасофская творчасць С.Буднага. Значнымі прадстаўнікамі гэтай філасофскай плыні на Беларусі былі *Ліцыній Намыслоўскі* Ян, Язэп Даманеўскі і інш. У сувязі з наступленнем Контррэфармацыі сацыніянства ў Польшчы зазнала ганенні: у 1638 закрыты друкарні і акадэмія сацыніян у Ракаве, на працягу 1658—60 сацыніяне былі выгнаны і эмігрыравалі ў Германію, Англію, Галандыю. Іх ідэі пашыраліся ў гэтых і некаторых іншых краінах Заходняй Еўропы, зрабілі ўплыў на філасофію Спінозы, Дз.Лока, англійскіх дэістаў.

*Літ.*: Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990. *С.А.Падокшын.*

## СТАФАН БАТОРЫЙ
(Batory Istwan;
27.9.1533—12.12.1586)



Кароль Рэчы Паспалітай (выбраны ў снежні 1575, каранаваны 1.5.1576), вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (з чэрвеня 1576). Нарадзіўся на тэрыторыі Румыніі. Паходзіў са знатнага румынскага роду Баторыяў Шомліа. З 15 гадоў на ваеннай службе ў караля Чэхіі і Венгрыі Фердынанда І. Разам з ім быў у Італіі, вучыўся ў Падуанскім універсітэце. Пазней служыў у трансільванскага князя Іаана Сігізмунда Запольскага, быў паслом пры нямецкім каралі Максіміліяне II. Пасля разрыву зносін паміж гэтымі краінамі немцы 3 гады трымалі яго закладнікам. Час вымушанага бяздзеяння выкарыстаў для самаадукацыі: шмат чытаў, асабліва творы па гісторыі, а запіскі Юлія Цэзара вывучыў на памяць. Пасля смерці І.С.Запольскага стаў князем Трансільваніі (1571—76). Калі польскі кароль Генрых Валуа ўцёк у Францыю (1574), С.Б. выставіў сваю кандыдатуру на трон Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тое што сенат абвясціў каралём Максіміліяна II, на элекцыйным сойме 15.12.1575 дробная шляхта выбрала каралём С.Б. з умовай, што ён ажэніцца з Ганнай Ягелонкай, 54-гадовай сястрой *Жыгімонта II* Аўгуста. Напярэдадні каранацыі ён пацвердзіў умовы кантракта (pacta conventa), паводле якога не меў права прызначаць пасля сябе наследнікаў ні пры жыцці, ні пасмяротна, карыстацца тытуламі «пан» і «дзедзіч», без згоды сойма і сената ні пачынаць, ні спыняць вайны, абкладаць дадатковымі падаткамі, накіроўваць

паслоў у іншыя дзяржавы, браць новы шлюб, прымушаць іншаверцаў прымаць каталіцтва. Калі ж кароль не стрымае свайго слова, падданыя вызваляюцца ад прысягі яму на вернасць і паслушэнства. Больш таго, С.Б. абавязаўся заплаціць даўгі Рэчы Паспалітай, вярнуць землі, захопленыя Масквой, узмацніць межы дзяржавы ад набегаў крымскіх татараў і выкупіць у іх палонных. На каранацыйным сойме кароль прысягнуў рэспубліцы, а рэспубліка — каралю. Абвяшчэнню яго вялікім князем Беларуска-Літоўскай дзяржавы папярэднічалі працяглыя перагаворы і выданне спецыяльнай граматы ад 29.7.1576, у якой пацвярджалася, што Польшча і Вялікае княства Літоўскае з'яўляюцца раўнапраўнымі і незалежнымі ў складзе федэратыўнай дзяржавы. Ён абавязваўся захоўваць самастойнасць Вялікага княства Літоўскага, пашыраць яго межы, не прызначаць у Беларуска-Літоўскай дзяржаве военачальнікамі палякаў, агульныя соймы склікаць па чарзе то ў Польшчы (Кароне), то ў Вялікім княстве Літоўскім (Княстве). У далейшым кожны 3-і сойм Рэчы Паспалітай адбываўся ў Гародні. На працягу 1579—82 С.Б. удзельнічаў у Лівонскай вайне, пасля шэрага паспяховых аперацый вярнуў Вялікаму княству Літоўскаму Полацк і Вялікія Лукі. Хоць аблога Пскова скончылася безвынікова, але яна паскорыла заканчэнне вайны і заключэнне 10-гадовага Ям-Запольскага перамір'я (1582).

Ва ўнутранай палітыцы С.Б. імкнуўся да ўмацавання каралеўскай улады, устанаўлення ў Польшчы наследнага прастола, разам з тым падтрымліваў шляхту. У вырашэнні ідэалагічных канфліктаў аддаваў перавагу мірнаму шляху, разумнаму кампрамісу. Выбраны каралём намаганнямі дробнамаянтковай шляхты, С.Б. у знак удзячнасці даў ёй многія прывілеі. У пытаннях правасуддзя прытрымліваўся прынцыпаў высокай справядлівасці. Гісторыя яго праўлення ведае прыклады, калі кароль караў злачынцаў, нягледзячы на іх мінулыя заслугі, вяльможнасць і нават жаданне сойма. Пры С.Б. рэарганізавана судовая сістэма дзяржавы. Замест каралеўскага суда як вышэйшай судовай інстанцыі былі зацверджаны шляхецкія выбарныя трыбуналы (для шляхты Польшчы ў 1578, Вялікага княства Літоўскага ў 1581). У 1584 афіцыйна абяцаў зацвердзіць папраўкі да Статута Вялікага княства Літоўскага 1566. Ёсць падставы лічыць, што тэкст Статута Вялікага княства



*Гродзенскі Стары замак. Фота 1970.*



*Стафан Баторый заснаўвае Віленскую акадэмію. Карціна В.Смакаўскага.*

Літоўскага 1588, прынятага Жыгімонтам III, складзены ад імя С.Б.

Афіцыйна С.Б. вымушаны быў падтрымліваць каталіцкую царкву і езуітаў, якія выступалі супраць Рэфармацыі і магнатаў-рэфарматараў. Віленскі езуіцкі калегіум ён ператварыў у 1579 у акадэмію (пазней Віленскі універсітэт), дазволіў заснаванне езуіцкіх калегіумаў у Рызе (1580), Полацку (1581), Дэрпце (Тарту, 1584). Па яго ініцыятыве створаны езуіцкі калегіум у Гародні. Але С.Б. не змог прадбачыць, што ордэн езуітаў з цягам часу, разам з пашырэннем асветы, распачне актыўнае праследаванне іншаверцаў. Сам ён не толькі не праследаваў, але часта і апекаваў іх. Сведчаннем таму З'яўляецца выдадзены ім каралеўскі прывілей на штогадовую грашовую дапамогу на ўтрыманне гродзенскай праваслаўнай Прачысценскай царквы. Сваю рэзідэнцыю С.Б. трымаў у Гародні ў Старым замку. Тут ён прымаў пасольствы, вырашаў дзяржаўныя справы, правёў раду сенатараў па разглядзе дамаганняў Швецыі (1582) і інш. Жыхарам Гародні ім былі дадзены пэўныя льготы. Калі яго папракалі за патуранне іншаверцам, ён звычайна адказваў: «Я пастаўлены каралём над людзьмі, а не над іх сумленнем». Ён падтрымліваў сяброўскія адносіны з вальнадумцам К.Бекешам.

Мудры палітык, выдатны дзяржаўны дзеяч і здольны военачальнік, С.Б. зрабіў значны ўклад ва ўмацаванне Рэчы Паспалітай, спрыяў падняццю яе аўтарытэту ў Еўропе. Вялікае значэнне ён надаваў развіццю навукі і асветы, у кнізе бачыў крыніцу культуры і ведаў. Нездарма, як сведчыць пра гэта гісторык Р.Гердэнштэйн, вернутыя ў час Лівонскай вайны кніжныя зборы Полацкага Сафійскага сабора С.Б. лічыў амаль самай каштоўнай ваеннай здабычай. Наступную характарыстыку даў яму гісторык І.Пасторый: «Баторый быў у касцёле больш чым святар, у рэспубліцы больш чым сенатар, у судзе больш чым адвакат, у войску больш чым гетман, у баі больш чым салдат, а ў перанясенні непрыемнасцей, у цярплівасці, дабраце і ў прабачэнні асабістых абраз — больш чым чалавек».

Памёр у Гародні. У сувязі з тым што паміж прыдворнымі медыкамі ўзнікла спрэчка аб прычынах яго смерці, 15.12.1586 у Гародні было праведзена

першае на тэрыторыі Усходняй Еўропы анатаміраванне яго трупа.

*Літ.*: Кулжинский И. История Польши: (Очерк). Киев, 1864. С. 106—112.

## СТРЫЙКОЎСКІ Мацей [1547(?) — 1593(?)]

Гісторык і паэт. Нарадзіўся ў мяст. Стрыкаў у Польшчы ў сям'і судовага вознага. Пачатковую адукацыю атрымаў у парафіяльнай школе. У 1567—70 вучыўся ў Кракаўскім універсітэце і атрымаў там званне бакалаўра. З 1570 жыў на Беларусі (Слуцк, Сямяцічы) і ў Літве. У 1572 служыў у войску пад камандаваннем А.*Гваньіні*. У 1574—75 быў у складзе пасольства ў Турцыі. Пасля вяртання адтуль склаў карту Турцыі і план г. Адрыянопаль. У 1580 — пач. 1590-х гадоў працаваў канонікам у Жамойціі. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. Аўтар вершаванай хронікі «Ганец цноты...» (1574), прысвечанай гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, антытурэцкага гістарычнага твора «Пра вольнасць Кароны польскай і Вялікага княства Літоўскага...» (1575), шэрага вершаў і паэм. Напісаў патрыятычную празаічна-вершаваную хроніку «Пра пачатак, паходжанне, мужнасць, рыцарскія і грамадзянскія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага» (1575—78; надрукавана ў 1978 у Варшаве), якую прысвяціў князю Ю.Слуцкаму. Яна ахоплівае перыяд ад легендарных часоў да ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Матэрыяламі да яе паслужылі шматлікія гісторыка-літаратурныя крыніцы, польскія і нямецкія хронікі, старажытныя рускія, беларускія і літоўскія летапісы, у т.л. Хроніка Быхаўца. Самы значны і вядомы твор — «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582). Яна ўпершыню апублікавана ў Караляўцы, дзе С. сам назіраў за яе друкаваннем. Для яе стварэння, як і для вершаванай хронікі «Пра пачатак...», С. выкарыстаў шмат дакументальных крыніц, летапісы, творы антычных гісторыкаў. У «Хроніцы...» апісваецца палітычная гісторыя Польшчы, Вялікага княства Літоўскага і Русі. Яна вылучаецца шырынёй ахопу падзей, асвятляе праблемы паходжання славян, сцвярджае іх адзінства, услаўляе гістарычнае мінулае ўсходнеславянскіх народаў і іх гераічныя справы. У «Хроніцы...» даволі падрабязна выкладзена гісторыя Вялікага княства Літоўскага ад паўлегендарнага Палемона да часоў *Стафана Баторыя*, змешчаны звесткі пра культуру Беларусі, яе помнікі археалогіі, архітэктуры і жывапісу. Ёсць у «Хроніцы...» вершаваныя ўстаўкі пра асобныя падзеі на Беларусі, а таксама аўтарскія прысвячэнні беларуска-літоўскім мецэнатам. Гэты твор карыстаўся вялікай папулярнасцю на Беларусі, Украіне і ў Літве, быў добра вядомы ў Расіі, дзе некалькі разоў перакладаўся. Ён паслужыў непасрэднай крыніцай для «Хронікі Польшчы» М. і І.Бельскіх, апошняй рэдакцыі «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» А.Гваньіні і многіх іншых твораў польскіх, украінскіх, рускіх, літоўскіх храністаў і гісторыкаў. На беларускую мову «Хроніка...» С. перакладзена ў канцы 16 — пач. 17 ст. і склала аснову «Хронікі літоўскай і жамойцкай». Пазней да яе неаднойчы звярталіся вядомыя пісьменнікі (М.Карамзін, А.Міцкевіч і інш.). У поглядах С. спалучаліся сярэдневяковыя і рэнесансавыя тэндэнцыі, агульнаславянскі патрыятызм з патрыятызмам дзяржаўным і шляхецкім.

*Літ.*: Рогов А.И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения: (Стрыйковский и его «Хроника»). М., 1966.

# Ф 

## ФЁДАРАЎ (Хведаровіч) Іван (каля 1510—83)

Кнігавыдавец-асветнік, заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне. Месца яго нараджэння невядома, але, зыходзячы з геральдычнай трактоўкі друкарскага знака Ф., некаторыя вучоныя лічаць, што ён паходзіць з беларускага роду Рагозаў. Паводле некаторых звестак, вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, дзе ў 1532 атрымаў ступень бакалаўра. У 1550-я гады працаваў у т. зв. ананімнай друкарні ў Маскве. З 19.4.1563 да 1.3.1564 разам з Пятром



*Мсціслаўцам* выдаў у Маскве першую дакладна датаваную рускую друкаваную кнігу «Апостал» (захаваўся 61 экз.). Рыхтуючы яе да выдання, першадрукары правялі вялікую тэксталагічную і рэдактарскую работу, аб чым сведчыць С.Будны ў прадмове да Новага Запавету (Лоск, 1574). 48 заставак гэтай кнігі, надрукаваных з 20 дошак, 22 буквіцы і іншыя друкарскія аздабленні вызначаюцца высокім мастацкім майстэрствам і працягваюць традыцыі арнаментальнага ўбранства старажытнарускіх рукапісных кніг школы Феадосія Ізографа. Перапрацаваўшы арнаментальныя прыёмы гэтай школы, Ф. і Мсціславец стварылі т. зв. старадрукарскі стыль, які потым атрымаў вялікае пашырэнне ў мастацкім афармленні друкаваных і рукапісных кніг. Шрыфт «Апостала», які выкарыстоўваў Ф. і ў іншых сваіх выданнях, створаны на аснове маскоўскага паўустава канца 15 — пач. 16 ст. 29.9 і 30.10.1565 Ф. і Мсціславец выпусцілі ў Маскве 2 выданні «Часоўніка» (зберагліся 6 экз.) — кнігі для пачатковага навучання грамаце. У 1566 з-за ганенняў з боку рэакцыйных свецкіх і царкоўных колаў Ф. і Мсціславец пакінулі Маскву і накіраваліся на Беларусь. Новую друкарню яны заснавалі ў Заблудаве (зараз Беластоцкае ваяводства ў Польшчы) у маёнтку гетмана Вялікага княства Літоўскага Р.А.Хадкевіча. У Заблудаўскай друкарні ў 1568—69 імі надрукавана «Евангелле вучыцельнае» (захаваліся 44 экз.) — зборнік гутарак і павучанняў з тлумачэннем евангельскіх тэкстаў. У ім змешчана таксама «Слова на Ушэсце» *Кірылы Тураўскага* — першы друкаваны помнік старажытнай усходнеславянскай літаратуры. На адвароце тытульнага ліста кнігі ў тэхніцы ксілаграфіі змешчаны герб Хадкевіча. Потым гэта кніга неаднаразова перавыдавалася на Беларусі і ў Літве. Пасля ад'езду Мсціслаўца ў Вільню Ф. надрукаваў у Заблудаве ў 1569—70 Псалтыр з Часасłоўцам (зберагліся 3 экз.). У канцы гэтай кнігі змешчана Пасхалія ў табліцах. Складаючы яе, Ф., відаць, выкарыстаў Пасхалію з «Малой падарожнай кніжкі» Ф.Скарыны, выдадзенай каля 1522 у Вільні. Паколькі Хадкевіч рашыў спыніць выдавецкую дзейнасць, Ф. у канцы 1572 — пач. 1573 пераехаў у Львоў і заснаваў там першую на Украіне друкарню, дзе ў 1574 выдаў першую ўкраінскую дакладна датаваную друкаваную кнігу «Апостал» (захавалася 97 экз., што сведчыць пра вялікі першапачатковы тыраж кнігі). Гэта кніга была паўторам маскоўскага выдання 1564 з дапаўненнем некаторых уступных тэкстаў і пасляслоўяў «Повесть... откуду начася и како свершися друкарня сия». Гэта пасляслоўе — першы друкаваны твор рускай мемуарнай літаратуры. У кнізе змешчаны 3 гравюры, кожная на старонку: герб Хадкевіча, выява апостала Лукі, геральдычная кампазіцыя з гербам г. Львова і друкарскім знакам Ф. У тым жа 1574 Ф. надрукаваў у Львове «Азбуку» («Буквар») — першы друкаваны рускі падручнік з практыкаваннямі для навучання грамаце, прыкладамі спражэння дзеясловаў, скланення назоўнікаў і прыметнікаў, выкарыстання «прасодый» (узоры выкарыстання над- і падрадковых знакаў). Кнігу завяршаюць тэксты для замацавання і развіцця навыкаў чытання і пісьма, т. зв. тлумачальная азбука, шырока вядомыя малітвы. Урыўкі з біблейскіх кніг у «Азбуцы» падабраны





*«Апостал». 1564.*

так, што яны фармулююць мэтанакіраваную гуманістычную праграму пачатковай школьнай адукацыі (адзін экзэмпляр гэтай кнігі захоўваецца ў бібліятэцы Гарвардскага універсітэта, ЗША, другі — у Лондане). У 1575 князь Канстанцін *Астрожскі* запрасіў Ф. на службу да сябе, дзе Ф. выконваў абавязкі аканома Дзерманскага манастыра. Каля 1578 К.Астрожскі заснаваў у Астрогу друкарню, у якой 18.6.1578 выйшла новае выданне «Азбукі», дапоўненае ў параўнанні з выданнем 1574 паралельнымі грэка-славянскімі тэкстамі, каб дапамагчы вучням авалодаць грэчаскай мовай (захаваліся 2 экз.: у Капенгагене і Гоце, Германія; невялікі яе фрагмент — у Дзяржаўнай Расійскай бібліятэцы ў Маскве). У гэтым выданні ўпершыню надрукаваны помнік старажытнабалгарскай літаратуры «Аб писменах» Чарнарызца Храбра пад назвай «Сказание како состави святый Кирил Философ азбуку по языку словеньску». У 1580 Ф. надрукаваў у Астрогу Псалтыр і Новы Запавет элегантным малым фарматам (у «васьмёрку»; зберагլося 68 экз.). Кнігу адкрывае прыгожы тытульны ліст, заключаны ў гравіраваную па дрэве рамку. Гэта трэці ва ўсходнеславянскай кнізе кірыліцкага шрыфту прыклад выкарыстання такіх рамак пасля тытульнага ліста Бібліі і «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны. У тым жа годзе Ф. выдаў паказальнік да гэтых кніг: «Кніжку, збор рэчаў самых патрэбных...» — першы ў гісторыі айчыннай бібліяграфіі і дакументалістыкі алфавітна-прадметны паказальнік і аднaчасова зборнік афарызмаў і крылатых слоў (зберагլося 16 экз.). 5.5.1581 у Астрогу лістоўкай Ф. надрукаваў «Храналогію» Андрэя *Рымшы* — першы ўсходнеславянскі друкаваны каляндар і першы асобна выдадзены твор беларускай паэзіі (адзіны экзэмпляр зберагаецца ў Санкт-Пецяр-



*Маскоўскі друкарскі двор. Малюнак 17 ст.*

бургу). Да 12.8.1581 надрукаваў 1-е поўнае выданне славянскай Біблii кірыліцкага шрыфту, т. зв. «Астрожскую біблію» (захавалася 275 экз.). У яе змесце і аздабленні адчуваецца ўплыў выданняў Скарыны. Арнаментальнае аздабленне Біблii зроблена таксама пад пэўным уплывам арнаментыкі скарынінскіх выданняў. Прасочваецца тоеснасць і ў некаторых загалоўных літарах (у Дзяржаўнай Расійскай бібліятэцы зберагаецца экзэмпляр гэтай Біблii, дапоўнены рукапіснымі копіямі прадмоў і пасляслоўяў Біблii Скарыны). З 1582 Ф. зноў у Львове. Імкнучыся сабраць сродкі на адкрыццё новай друкарні, Ф. адліваў гарматы, вынайшаў шматствольную марціру з узаемазаменнымі часткамі. У 1583 ён пабываў у Кракаве, Вене і, магчыма, у Дрэздэне. Захавалася пісьмо Ф. саксонскаму курфюрсту Аўгусту, напісанае з Вены 23.7.1583. У канцы 1583 Ф. вярнуўся ў Львоў, дзе захварэў і памёр. Пахаваны ў Ануфрыеўскім манастыры. На яго надмагільнай пліце, якая захоўвалася да 1883, быў выбіты надпіс: «Друкар кніг дагэтуль нябачаных». Дзейнасць Ф. адыграла значную ролю ў гісторыі айчыннай культуры, у развіцці руска-беларускіх і руска-ўкраінскіх культурных сувязей. Вучні



*Выдавецкі знак І. Фёдарава.*

Іс ха даеъвлндетъ
Възлюбленыи чтныи
Хрістіаньскіи рускіи на
роде, греческаго закона.
сіа еже писахъ вам, не
ѿсебе, но ѿбжтвеных
аплъ и бгоносныхъ стыхъ
оцъ оученіа, и преподо
бного оца нашего Іѡанна
дамаскина, ѿграмати
кін, мало нечто. ради
скораго младенческаго
наоученіа. въмале съ
кратив сложих. аще
сін труды моа благоуго

дны будутъ вашей лю
бви. пріимѣте сіа съ лю
бовію. а и иныхъ пи
саніихъ благоугодныи съ
вожделѣніе потрудити
са хощу. аще благоволи
бгъ, вашими стыми
молитвами
аминь.





Выдрукована во львовѣ,
року, ҂а, фод.

*Пасляслоўе да «Буквара» І. Федарава, выдадзенага ў Львове ў 1574.*

Ф. і Мсціслаўца прадаўжалі друкарскую дзейнасць у Расіі, на Украіне і Беларусі. Помнікі Ф. пастаўлены ў Маскве і Львове. У 1977 у Львове адкрыты Музей І.Фёдарава. З 1959 (з 1973 штогод) праводзяцца Фёдараўскія чытанні, якія ў 1977 былі прысвечаны Скарыне.

*Літ.*: Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984; Запаско Я. Мистецька спадщина Івана Федорова. Львів, 1974; Першодрукар Іван Федоров та його послідовники на Україні (XVI — перша половина XVII ст.): Зб. документів. Київ, 1975; Первопечатник Иван Фёдоров: Описание изданий и указ. лит. о жизни и деятельности. Львов, 1983; Острожская азбука Ивана Фёдорова: Исслед. Словоуказ. М., 1983. *Я.Л.Неміроўскі.*

## ФІЛАЛЕТ ХРЫСТАФОР
(Бранеўскі Марцін; ? — 1624)

Беларускі і ўкраінскі царкоўна-рэлігійны дзеяч і пісьменнік. Звестак пра час і месца яго нараджэння не захавалася. Быў палемістам вялікай эрудыцыі. У 1597 выдаў у Вільні на польскай мове твор «Апокрысіс, або Адказ на кніжкі пра сабор Берасцейскі» (перавыдадзены на старабеларускай мове ў 1598). «Апокрысіс» напісаны ў адказ на кнігі П.*Скаргі* і І.*Пацея* і скіраваны супраць Брэсцкай уніі 1596. Абапіраючыся на факты, Ф.Х. пераканаўча даказваў, што саюз уніяцкіх епіскапаў з рымска-каталіцкай царквой быў абумоўлены выключна зямнымі інтарэсамі: жаданнем дамагчыся матэрыяльных выгод, высокіх дзяржаўных пасад, рэлігійных прывілеяў і палітычных правоў. Бязлітасна крытыкаваў ён і пап рымскіх. Добра ведаючы царкоўную і свецкую гісторыю, Ф.Х. у сваім выкрыцці Ватыкана шырока выкарыстоўваў думкі многіх лацінскіх і грэчаскіх аўтараў, аўтарытэты якіх лічыліся агульнапрызнанымі. Не без падстаў ён лічыў, што гвалтоўнае пашырэнне царкоўнай уніі і абмежаванне правоў праваслаўнага беларускага насельніцтва могуць падштурхнуць дзяржаву ў полымя сялянскай вайны, падкрэсліваў, што знявага інтарэсаў праваслаўнай апазіцыі і здзекі над яе сумленнем непазбежна прывядуць да класавага антаганізму, у выніку якога рэлігійная барацьба перарасце ў барацьбу сацыяльную, барацьбу народных мас супраць феадалаў незалежна ад іх веравызнання. Каб нейтралізаваць уплыў «Апокрысіса...» на народныя масы і выратаваць царкоўную унію ад распаду, яе ідэолагі скуплівалі гэту кнігу і знішчалі. Кіраўнік уніяцкага епіскапата Пацей выдаў «Антыкрысіс», у якім спрабаваў дыскрэдытаваць антыуніяцкі рух, а Ф.Х. называў дзяржаўным злачынцам. «Апокрысіс...» Ф.Х. — цікавая і яскравая старонка антыуніяцкай публіцыстыкі канца 16 ст. *Г.А.Маслыка.*

# Х



## ХАДКЕВІЧ
Рыгор Аляксандравіч (? — 12.11.1572)



Гетман Вялікага княства Літоўскага, асветнік. Паходзіў з беларускага магнацкага роду Хадкевічаў, радаслоўная якога вялася ад вядомага ў пач. 15 ст. баярына Ходара Юр'евіча, празванага Ходкам. У сярэдзіне 16 ст. Х. займаў высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім: з 1554 ваявода віцебскі, з 1559 кашталян трокскі, з

1561 гетман польны літоўскі, з 1564 кашталян віленскі, з 1566 гетман вялікі літоўскі. Ваяваў у Лівоніі. Як актыўны змагар за самастойнасць Вялікага княства Літоўскага ён быў праціўнікам Люблінскай уніі 1569, выступаў супраць аб'яднання Беларуска-Літоўскай дзяржавы з Польшчай у федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую. У 1569 у знак пратэсту супраць такога аб'яднання адмовіўся ад усіх дзяржаўных і адміністрацыйных пасад.

У 1568 ён заснаваў друкарню пры праваслаўным манастыры ў мястэчку Заблудава Гродзенскага пав. (цяпер Беластоцкае ваяводства Рэспублікі Польшча). У наладжванні друкарскай дзейнасці яму дапамагалі І.*Фёдараў* і П.*Мсціславец*, якія вярнуліся з Масквы. Напачатку Х. меў намер друкаваць кнігі ў перакладзе на «рускую», г. зн. беларускую, мову. Аднак боязь выклікаць гнеў з боку прыхільнікаў артадаксальнага праваслаўя і «ўхіліцца ў бок» ад іх моўных догмаў прымусілі яго друкаваць кнігі на царкоўнаславянскай мове. У 1568—69 названыя першадрукары выдалі ў Заблудаўскай друкарні «Евангелле вучыцельнае», якое было першым кірылічным друкаваным выданнем 2-й паловы 16 ст. Кніга ўяўляла сабой зборнік гутарак і павучанняў з тлумачэннем евангельскіх тэкстаў (да нашага часу захаваліся 44 экзэмпляры заблудаўскага выдання гэтай кнігі). На яе старонках было змешчана і «Слова на Ушэсце» *Кірылы Тураўскага* — першы друкаваны помнік старажытнай усходнеславянскай літаратуры. На адвароце тытульнага ліста кнігі ў тэхніцы ксілаграфіі змешчаны герб Х. Пазней гэта кніга неаднаразова перавыдавалася на Беларусі і ў Літве. Пасля ад'езду П.Мсціслаўца ў Вільню І.Фёдараў некаторы час яшчэ заставаўся ў Заблудаве і ў 1569—70 надрукаваў там Псалтыр з Часаслоўцам (захаваліся 3 экз.). У аздабленні заблудаўскіх выданняў спалучаліся рысы расійскага і беларускага кнігадрукавання, а самі выдаўцы мелі намер выкарыстаць у сваіх працах моўныя традыцыі Ф.Скарыны. Пра гэта яны абвяшчалі ў прадмове, напісанай імі ад імя Х.: «Помыслил же быхъ если и се, иже бы сию книгу выразумення ради простых людей переложити на простую мову и имел есми о том попечение великое». Але ажыццявіць пераклад на беларускую мову, як відаць з прадмовы, адраілі «люди мудрые в том письме оученые». Сваёй падтрымкай «маскоўскага» друкара і славянскага (значыць, праваслаўнага) кнігадрукавання стары гетман Х., які прытуліў І.Фёдарава і нават падарыў яму «на заспакненне» немалую вёску, верагодна, выклікаў супраць сябе незадавальненне каталіцкага духавенства і каталіцкай шляхты. Гэта і прымусіла Х. ў 1570 пакінуць апекаванне клапатлівай друкарскай справы. У выніку І.Фёдараў вымушаны быў пакінуць Заблудаў і пераехаць у Львоў, дзе заснаваў першую на Украіне друкарню. Заснаваная Х. друкарня адыграла значную ролю ў станаўленні і развіцці кнігадрукавання на Беларусі. Пазней падобныя друкарні дзейнічалі ў Куцейне (пад Оршай), Буйнічах (пад Магілёвам), у Мінску, Гродне, Полацку і інш.

*Літ.*: Полевой П.Н. История русской словесности с древнейших времен до наших дней. Т. 1. 2 изд. Спб., 1903; Зернова А.С. Первопечатник Петр Тимофеев Мсциславец // Книга: Исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9; Запаско Я. Мистецька спадщина Івана Федорова. Львів, 1974; Иван Фёдоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984.

## ХВЕДАРОВІЧ
Іван Фёдаравіч, гл. ***Фёдараў* Іван**

# Ц



## ЦАМБЛАК Грыгорый [1364(?) — 1450(?)]

Рэлігійны дзеяч, пісьменнік, першы мітрапаліт у Вялікім княстве Літоўскім. Нарадзіўся ў г. Вяліка-Тырнава, Балгарыя. Яго творы на царкоўнаславянскай мове адносяць да літаратур балгарскай, сербскай, малдаўскай, румынскай, старажытнарускай і старабеларускай. Прозвішча яго таксама пішуць па-рознаму: Цамвлак, Цымівлак, Сімівлак, але часцей —



Цамблак, пазначаюць і толькі манастырскае імя Грыгорый. Паходзіў са знатнага балгарскага, а дакладней асլавяненага валашскага роду. Адукацыю атрымаў у Канстанцінопалі, гуманітарную падрыхтоўку — у Тырнаўскім манастыры Святой Тройцы пад кіраўніцтвам патрыярха Яўхімія. Яго светапогляд і аратарскі талент сфарміраваліся ў атмасферы грамадскага і рэлігійнага жыцця паўднёвых і ўсходніх славян канца 14 ст., якія знаходзіліся тады пад уплывам візантыйскай культуры. У час турэцкай экспансіі на Балканах вымушаны быў пакінуць радзіму (1394). Вёў прапаведніцкую дзейнасць у манастырах Візантыі, пэўны час жыў у Сербіі (ігумен Дзечанскага манастыра), быў «прэсвітэрам вялікай царквы Малдаўскай» (у Сучаве). Упершыню беларускія землі наведаў у 1406, калі ехаў праз іх у Маскву да мітрапаліта ўсяе Русі Кіпрыяна (даводзіўся яму дзядзькам, у Вільні даведаўся пра яго смерць). З 1409 ён пасяліўся ў Кіеве. Тут Ц. стварыў «Надмагільнае слова

*Канстанцінопаль. З гравюры 18 ст.*

мітрапаліту Кіпрыяну», пазнаёміўся з вялікім князем *Вітаўтам*, які меў намер стварыць у сваёй дзяржаве асобную ад Масквы праваслаўную мітраполію. Па яго прапанове ў 1414 сабор заходнерускіх праваслаўных епіскапаў вылучыў Ц. на пасаду мітрапаліта Вялікага княства Літоўскага. Для пасвячэння ў гэты сан Ц. накіраваўся ў Канстанцінопаль, але там яму было адмоўлена ў гэтым. У 1415 Ц. выбраны мітрапалітам кіеўскім. Вітаўт паўторна накіраваў пасольства ў Канстанцінопаль, але і яно было безвыніковым. Тады сабор заходнерускіх епіскапаў, нягледзячы на анафемы канстанцінопальскіх патрыярхаў і новага рускага мітрапаліта Фоція, 15.11.1415 зацвердзіў Ц. мітрапалітам кіеўскім і літоўскім. Вясной 1416, калі Кіеў спаліў хан Эдыгей, Ц. заснаваў сваю кафедру ў Вільні пры Багародзіцкай царкве, а сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Навагародак (Навагрудак). У 1418 на чале дэлегацыі з 300 прадстаўнікоў Літоўска-Беларускай дзяржавы, Ноўгарада, Малдавіі і Вялікай Арды Ц. прымаў удзел у Канстанцкім саборы, дзе выступіў з дзвюма прамовамі: «Прывітальнае слова папу Марціну V» і «Прывітальнае слова айцам Канстанцкага сабора».

Даследчыкі лічаць Ц. аўтарам больш як 40 твораў, збераглося і вядома каля 26. Першыя ўрачыстыя словы напісаны ім у Візантыі і Малдавіі ў 1397—1406. У так званы літоўскі перыяд ім напісана каля 10 твораў. Гэта пераважна дыдактычна-панегірычныя, урачыстыя словы на розныя святы і асобныя выпадкі рэлігійнага жыцця. У іх ліку «Пахвальнае слова Яўфімію Тырнаўскаму», «Надмагільнае слова святому Дзмітрыю», палемічнае слова «Як трымаюць веру немцы», словы на царкоўныя святы (на Ушэсце, Прачыстую, Адсячэнне галавы Іаана Хрысціцеля і інш.), стыхіра «На Прачыстую». Ён займаўся таксама перапісваннем богаслужэбных кніг, прымаў удзел у складанні «Акруговай граматы» і «Апраўдальнага паслання заходнярускіх епіскапаў». На Беларусі ён працягваў і развіваў традыцыі ўрачыстага красамоўства, закладзеныя *Кірылам Тураўскім*, узнімаў пытанні шырокага грамадскага значэння. Актуальнасць і глыбокая патрыятычнасць яго твораў павялічваецца, калі браць пад увагу, што ён абараняў родную веру і культуру, услаўляў нацыянальна-культурных дзеячаў ва ўмовах турэцкага нашэсця і панавання над значнай часткай хрысціянскага свету татара-манголаў.

У той час Ц. — найбольш вядомы прадстаўнік царкоўнага красамоўства на Беларусі і ў Літве. Яго творы (пропаведзі, пахвальныя і палемічныя словы, павучанні, жыціі), напісаныя вобразнай мовай, насычанай метафарамі, параўнаннямі, рознымі складанымі фігурамі, карысталіся вялікай павагай ва ўсім славянскім свеце. Але Ц. занадта наследаваў візантыйскім узорам



*Жыровічы.*
*З малюнка 19 ст.*

і ў сваіх пропаведзях даходзіў да такой напышлівасці, што яны часам станавіліся цяжка зразумелымі. Гэты стыль называўся «пляценне славес». Пропаведзі і словы Ц. станоўча паўплывалі на развіццё тагачаснай і больш позняй беларускай аратарскай прозы, спрыялі ўмацаванню культурных сувязей усходніх і паўднёвых славян, пашырэнню паўднёваславянскіх уплываў на літаратуру Беларусі.

У Маскве падзел праваслаўнай мітраполіі быў успрыняты рэзка адмоўна. Ц. вінавацілі ў тым, што ён выступае заадно з папам рымскім, яго імя было ўключана ў артыкул пракляццяў. Большасць даследчыкаў лічаць, што Ц. памёр у 1419. Аднак некаторыя выказваюць меркаванне, што пад уплывам пагроз і ганенняў той часткі праваслаўных епіскапаў, якія не жадалі аддзялення ад Маскоўскай мітраполіі, Ц. пакінуў літоўска-беларускую дзяржаву каля 1420 і з'ехаў у Малдавію, дзе пражыў у манастыры да 1450.

Яго літаратурная спадчына, пазначаная перадрэнесансавымі павевамі, захавалася ў шматлікіх рукапісных зборніках 15—19 ст. — «Таржэственніках», «Жыціях святых», «Чэццяхмінеях», у «Саборніку» 1642. Пропаведзі і жыціі Ц. актыўна перапісваліся ў беларускіх манастырах (Супрасльскім, Слуцкім, Свята-Троіцкім, Жыровіцкім, Аршанскім, Лаўрышаўскім і інш.), былі своеасаблівым узорам для мясцовых кніжнікаў і казнадзеяў, духоўна ўзбагачалі беларускіх чытачоў. Яго спадчына адыграла важную ролю ў гісторыі беларускай літаратуры, асабліва ў перыяд жорсткай палемічнай барацьбы 16—17 ст. за захаванне нацыянальных традыцый і культуры.

*І.П.Хаўратовіч.*

## ЦЯПІНСКІ

### (Амельяновіч) Васіль Мікалаевіч [каля 1540 — 1603 (?)]

Беларускі гуманіст-асветнік, пісьменнік і кнігавыдавец. Нарадзіўся ў сям'і дробнага гаспадарскага баярына Полацкага пав. Мікалая Амельяновіча. Імя Васіля Ц. разам з братамі Жданам і Іванам Войнамі ўпершыню




ўпамінаецца ў дакументальных крыніцах 1560-х гадоў (завяшчанне маці 1563, працэс 1564 з Ю.Осцікавічам, які зрабіў напад на маёнтак Ц. — Свіраны). Жонка Ц. Соф'я Данілаўна паходзіла з роду князёў Жыжэмскіх. Ц. меў радавы маёнтак Цяпіна (каля Лепеля), спадчынныя і набытыя ўладанні ў Мінскім, Лідскім, Ашмянскім, Віленскім пав. У 1567 служыў малодшым афіцэрам коннай роты аршанскага старосты Ф.Кміты-Чарнабыльскага. Прымаў удзел у Лівонскай вайне 1558—63. Служыў у падканцлера Вялікага княства Літоўскага Астафія Валовіча, пратэктара рэфармацыйнага руху, які падтрымліваў кнігавыдавецкую і асветніцкую дзейнасць на Беларусі і ў Літве. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў пачатку 1570-х ён жыў на Валыні. У канцы жыцця Ц., відаць, не захаваў за сабой усіх маёнткаў, бо ў студзені 1604 Полацкі гродскі суд разглядаў справу паміж яго сынамі і жонкай пра падзел толькі Цяпіна. Астатнія маёнткі, магчыма, былі прададзены ім на пакрыццё

Ганёндза, наведаў адну з анабаптысцкіх суполак у Маравіі і падрабязна пазнаёміўся з яе вучэннем і ладам жыцця. Відавочна, што Ч. хвалявалі сацыяльныя ідэі анабаптыстаў. Пасля вяртання ў Вільню ён атрымаў пасаду прапаведніка ў кальвінісцкім зборы і пачаў энергічную прапаганду сацыяльнага радыкалізму: выступаў з пропаведзямі, браў удзел у сінодах беларускіх і літоўскіх антытрынітарыяў, дзе абараняў сацыяльныя палажэнні анабаптызму. Супраць Ч. выступілі памяркоўныя прапаведнікі. У 1564 на працягу трох дзён ён вёў дыспут з Мікалаем Вендрогоўскім, абараняючы ідэі анабаптызму. Ч. падрыхтаваў да друку кнігу «Трохдзённая спрэчка аб хрышчэнні дзяцей», аднак смерць яго апекуна Радзівіла парушыла планы выдання кнігі, і яна выйшла толькі ў 1583. Пад націскам кальвіністаў і гарадскога магістрата Ч. пакінуў Вільню і выехаў у Польшчу. Пасяліўся ён у Куявіі ў маёнтку свайго аднадумца Яна Немаеўскага — заможнага шляхціца, суддзі і соймавага пасла. Там яны арганізавалі арыянскую суполку. Каля 1570 пад уплывам сацыяльных ідэй Ч. Немаеўскі і група куяўскіх шляхціцаў адмовіліся ад усіх дзяржаўных пасад, прадалі свае маёнткі, маёмасць і раздалі грошы бедным. Ч. і Немаеўскі пераехалі ў Люблін і сталі на чале вялікай брацкай суполкі, членамі якой былі мясцовыя гараджане, шляхта, навакольныя сяляне. Пасля смерці Немаеўскага пад націскам памяркоўнага крыла арыян Ч. пакінуў сваю справу, аднак да канца жыцця вёў спрэчкі з прыхільнікамі Соцына, палемізаваў з кальвіністамі і езуітамі. У 1581 у Лоску (каля Валожына) ён вёў палеміку з С. *Будным*. Ч. аўтар твора «Хрысціянскія размовы» (1575), рэлігійных песень, вершаванага выкладання Новага Запавету (1570), а таксама яго перакладу з грэчаскай мовы (1577). Веру ён лічыў асабістай справай чалавека, патрабаваў рэлігійнай верацярпімасці, выступаў супраць феадальна-каталіцкай рэакцыі і езуітаў на Беларусі. Выступаў супраць феадальнага ладу, прыгонніцтва, адмаўляў свецкую ўладу, войны, царкву.

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая пол. XVI — нач. XVII в.). Мн., 1970.

# Я

## ЯГАЙЛА [у хрышчэнні — Якаў, у каранацыі на польскі трон — Уладзіслаў II; 1348(?) — 1.6.1434]



Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага ў 1377—92, кароль Польшчы ў 1386—1434. Сын *Альгерда* (малодшы з 11 яго сыноў) і цвярской князёўны Ульяны, унук *Гедзіміна*. Заснавальнік дынастыі Ягелонаў. На велікакняжацкі прастол прызначаны воляю бацькі. Быў саюзнікам Залатой Арды, аднак у час Кулікоўскай бітвы 1380 не аказаў дапамогі Мамаю. У 1380 заключыў сепаратныя пагадненні з Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі, апошняму перадаў землі Жмудзі. Аднак пастаянныя пагрозы з боку крыжакоў і Маскоўскага княства вымусілі Я. пайсці на саюз з Польшчай. У 1386 Я. ажаніўся з польскай каралевай Ядвігай (каранавана ў 1384) і выбраны каралём Польшчы. Напярэдадні каранацыі ён вымушаны быў паўторна прыняць хрышчэнне (у праваслаўі быў хрышчаны пад імем Якава) паводле каталіцкага абраду пад імем Уладзіслава. Пры каранацыі абяцаў аб'яднаць сваю дзяржаву з Польшчай, далучыць да рымска-каталіцкай царквы не толькі язычніцкую Жмудзь, якая складала каля 8% насельніцтва



*Шлюб Ягайлы з Ядвігай.*

княства, але і праваслаўных беларусаў. У 1377 заключыў з Польшчай т. зв. Крэўскую унію (у замку Крэва, цяпер Ашмянскі р-н). У саюзе з Беларуска-Літоўскай дзяржавай палякі бачылі залог утварэння вялікай і магутнай Польшчы, сродак уратавання сваёй краіны ад анархіі, што ўзнікла ў перыяд міжкаралеўя. У хуткім часе пасля каранацыі і падпісання Крэўскай уніі Я. з Ядвігай прыехалі ў Вільню, дзе знішчылі язычніцкія сімвалы (непагасны агонь у гонар Перуна, абагаўляемых змей, высеклі свяшчэнныя гаі), раздавалі навахрышчаным белыя суконныя світкі, скураныя боты і грошы (таму асобныя язычнікі хрысціліся па 2 разы і больш). У Вільні Я. заснаваў каталіцкія біскупства і 7 плебаній (прыходаў). У час паездак па Беларусі ён закладваў касцёлы і кляштары, напр., у мяст. Абольцы (Талачынскі р-н), в. Быстрыца (Астравецкі р-н), якія пашыралі тут каталіцкую веру. Вяртаючыся ў Польшчу, Я. пакінуў намеснікам у Літоўскай Русі свайго брата Скіргайлу. З мэтай умацавання сваёй апоры і пашырэння каталіцтва сярод феадалаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы Я. выдаў у 1387 прывілей, паводле якога феадалам, што прынялі каталіцтва, даваліся дадатковыя правы і вольнасці. Гэта выклікала незадавальненне праваслаўных феадалаў Беларусі і часткі Літвы, што выкарысталі князі Кейстут і яго сын *Вітаўт*. Я. зняволіў іх у Крэўскім замку, дзе Кейстут памёр, а Вітаўт уцёк адтуль і з дапамогай крыжацкага войска захапіў уладу ў Вялікім княстве Літоўскім, а Скіргайлу саслаў намеснікам у Кіеў. Зімой 1390 войскі Я. пасля 10-дзённай аблогі авалодалі Брэсцкім замкам, які абаранялі воіны Вітаўта. У выніку кампраміснага Астраўскага пагаднення 1392 Я. адмовіўся ад велікакняжацкай пасады і прызнаў пажыццёвым гаспадаром (вялікім князем) Беларуска-Літоўскай дзяржавы Вітаўта (у хрышчэнні Аляксандр), а сам застаўся ў Каралеўстве Польскім. У 1387 яго намаганнямі да Польшчы далучана частка Галіцкай Русі, што да таго належала Венгрыі. У 1400 ён рэарганізаваў Кракаўскі універсітэт (заснаваны ў 1364 Казімірам III) на ўзор Парыжскага універсітэта і з таго часу ён называецца Ягелонскім. На працягу 1409—11 Я. вёў «вялікую вайну» супраць нямецкіх рыцараў, якія захапілі паўночна-ўсходнія землі Польшчы. У час Грунвальдскай бітвы (22.7.1410) ён узначальваў усе саюзныя войскі (91 харугва, каля 32 тыс. чалавек). У выніку гэтай бітвы армія крыжакоў была разгромлена і фактычна перастала існаваць, загінула 50 тыс. нямецкіх рыцараў, у т.л. гросмайстар У.Юнгінген. Вынікі перамогі замацаваны Тарунскім мірам 1411. Гэта спыніла агрэсію Тэўтонскага ордэна і абумовіла яго хуткі заняпад як дзяржавы, садзейнічала эканамічнаму развіццю Польшчы і Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якія атрымалі магчымасць шырэй удзельнічаць у міжнародным гандлі на Балтыйскім моры.

На Гарадзельскім сойме 1413, які юрыдычна замацоўваў саюз Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, было вырашана, што Вялікае княства Літоўскае без волі караля і сената не выбірае сабе князя, у сваю чаргу Польшча без ведама Вялікага княства



*Абоз Ягайлы. З малюнка 19 ст.*

Літоўскага не выбірае сабе караля. Адна з грамат гэтай уніі прадугледжвала прыём у польскія гербавыя брацтвы 47 сем'яў феадалаў Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Адначасова Я. і Вітаўт абяцалі прызначаць на дзяржаўныя пасады пераважна феадалаў-католікаў, якія прынялі польскія гербы, і даваць ільготы каталіцкім установам. Але унія гарантавала захаванне адасобленасці ўлады вялікага князя. І тым пакладзены пачатак палітычнага саюзу Польшчы з Беларуска-Літоўскай дзяржавай. Пасля смерці Вітаўта вялікім князем у Беларуска-Літоўскай дзяржаве стаў брат Ягайлы Свідрыгайла, які быў заступнікам праваслаўнай царквы і распачаў вайну з Польшчай. Супраць яго выступіў падтрыманы палякамі брат Вітаўта Жыгімонт Кейстутавіч, які абвясціў сябе вялікім князем, а Свідрыгайлу выгнаў у Малдавію. Я. абяцаў, што не будзе пераўтвараць праваслаўныя цэрквы ў касцёлы, дасць усім свабоду веравызнання і пакіне ўсе саслоўі ў іх правах. Я. памёр на 86-м годзе жыцця ў час міжусобіц паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам І. Ад першых дзвюх жонак (Ядвігі і Ганны) Я. не меў дзяцей, ад жонкі Соф'і Друцкай меў 2 сыноў — Уладзіслава і Казіміра. Першы сын у 10-гадовым узросце быў выбраны каралём Польшчы (пад апекаю маці) пад імем Уладзіслава III, у 15-гадовым узросце стаў каралём і Венгрыі, а ў 21 год загінуў у баі супраць туркаў пад Варнай. Другі сын у 1440 выбраны вялікім князем Вялікага княства Літоўскага, а ў 1444 пад імем *Казіміра IV* выбраны каралём Польшчы. 48-гадовае караляванне Я. было перыядам значных палітычных, эканамічных і культурных поспехаў у гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Гісторыкі славяць Я. за шчодрасць, цвярозасць (піў толькі ваду), аднак папракаюць за тое, што занадта прыслухоўваўся да парад вяльможаў і шляхты.

*Літ.:* Хроника Быховца. М., 1966; Смирнов М.П. Ягелло-Яков-Владислав и первое соединение Литвы с Польшею. Ч. 1. Одесса, 1968.

*І.П.Хаўратовіч.*

## ЯКУБ З КАЛІНАЎКІ
(Каліноўскі, Калінуўка, Каліновіус; ? — 1583)

Беларускі гуманіст, ідэолаг левай, плебейска-сялянскай плыні радыкальна-рэфармацыйнага руху на Беларусі ў 2-й пал. 16 ст., антытрынітарый. Паслядоўнік *Пятра з Ганёндза* і М.*Чаховіца*. Паходзіў з сялян ці дробнай шляхты з Падляшша. Мяркуюць, што напачатку ён быў ніжэйшым касцёльным служкай. З 1560 прапаведнік у магната-кальвініста Яўстафія Валовіча. У 1568 пакінуў гэту службу, верагодна, з прычыны свайго актыўнага ўдзелу ў антытрынітарскім руху ў Вялікім княстве Літоўскім. З 1567 удзельнічаў у арыянскіх сінодах у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. На сінодзе ў Скрынску (пад Радамам) абраны прадстаўніком ад уніятаў на дыспут з дытэістамі, што сведчыць пра яго шырокую арыентацыю ў тэалагічных справах. У 1568 разам з *Паўлам з Візны* палемізаваў з С.*Будным* на сінодзе ў Іўі (каля Валожына). У 1569 выехаў у Польшчу і там з групай сваіх прыхільнікаў з Вялікага княства Літоўскага заснаваў у Ракаве рэлігійную суполку. Каля 1575 знаходзіўся ў Любліне. На радзіму, напэўна, ён так і не вярнуўся.

Якуб меў значны аўтарытэт сярод радыкальных польскіх братоў і нават сярод сваіх непрыяцеляў, якія вымушаны былі паважаць яго як віднага члена суполкі. Ён выступаў супраць эксплуатацыі, свецкай улады, войнаў, адстойваў сацыяльную і нацыянальную роўнасць, свабоду веравызнання. «Не можа і не павінна быць сярод сапраўдных хрысціян адрозненне паміж яўрэем і грэкам, паміж рабом і свабодным — усе павінны быць роўныя. ... Ці ж можна назваць хрысціянскім тое грамадства, дзе людзі валодаюць нявольнікамі, а брат пануе над братам і загадвае яму». Крыніцай сацыяльнай несправядлівасці лічыў прыватную ўласнасць.

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая пол. XVI — нач. XVII в.). Мн., 1970.



## Эпоха Рэчы Паспалітай

| | |
|---|---|
| **1616—1733 гг.** | Дзейнасць у Магілёве брацкай друкарні. |
| **1630—1654 гг.** | Дзейнасць друкарні ў мястэчку Куцейна (каля Оршы). |
| **1648 г.** | Адкрыццё ў Оршы брацкай школы. |
| **1686 г.** | Мірны дагавор («Вечны мір») паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, паводле якога да Расіі адышлі Смаленскія землі. |
| **Канец 17 ст. — пачатак 19 ст.** | Стварэнне Гродзенскіх філасофскіх рукапісаў. |
| **1703 г., вясна.** | Утварэнне ў Вялікім княстве Літоўскім Генеральнай канфедэрацыі, якая абвясціла саюз з Расіяй. |
| **1753 г.** | Заснаванне Віленскай абсерваторыі. |
| **1762—1785 гг.** | Дзейнасць у Гродне балетнага вучылішча. |
| **1769—1780 гг.** | Дзейнасць у Гродне тэатра Тызенгаўза. |
| **1772 г.** | Першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй, уключэнне ўсходняй часткі Беларусі ў склад Расійскай імперыі. |
| **1773—1794 гг.** | Дзейнасць у Рэчы Паспалітай Адукацыйнай народнай камісіі, якая адкрыла ў Беларусі 20 акруговых і падакруговых школ. |
| **1775 г.** | Заснаванне ў Гродне медыцынскай акадэміі, у 1781 г. пераведзена ў Вільню, дзе створаны медыцынскі факультэт універсітэта. |
| **1776—1783 гг.** | Выданне «Gazety Grodzienskiej» — першага перыядычнага выдання на Беларусі. |
| **1780 г.** | Заснаванне ў Магілёве тэатра. |
| **1791 г., 3 мая.** | Прыняцце соймам Рэчы Паспалітай новай Канстытуцыі. |
| **1793 г.** | Другі падзел Рэчы Паспалітай — уключэнне цэнтральнай часткі Беларусі ў склад Расійскай імперыі. |
| **1795 г.** | Трэці падзел Рэчы Паспалітай — уключэнне заходняй часткі тэрыторыі Беларусі ў склад Расійскай імперыі. |

# А

## АБРАМОВІЧ Адам (1710—?)

Царкоўны прапаведнік і палеміст на Беларусі. У сярэдзіне 18 ст. быў рэктарам езуіцкіх навучальных устаноў у Вільні, Нясвіжы, Полацку, Мінску. Аўтар рэлігійна-маралізатарскага твора «Нядзельныя пропаведзі» (Вільня, 1753). Стаяў на пазіцыях адкрытага тэізму. Вучэнне Дэмакрыта і Эпікура аб вечнасці атамаў і ўзнікненні рэчаў з іх камбінацый называў «байкамі і выдумкамі». Адмаўляў ён і пантэістычнае атаясамліванне Бога і прыроды. На яго думку, залежнасць душы ад цела трэба разумець не абсалютна, а ўмоўна, бо душа звязана з целам толькі пры жыцці чалавека. Бог паклапаціўся аб бессмяротнасці душы таму, што гэта дазваляе яму найлепшым чынам праяўляць справядлівасць: узнагароджваць за добрыя і караць за кепскія справы. У сваіх пропаведзях узнімаў праблемы грамадскага жыцця (у прыватнасці, сацыяльнай няроўнасці), заклікаў прыхаджан да пакоры і цярплівасці. Падзел людзей на багатых і бедных тлумачыў як вынік мэтавай дзейнасці Бога, які рабіў гэта дзеля гармоніі ў адносінах паміж людзьмі, каб «убогія маглі служыць багатым, багатыя — карміць убогіх». У той жа час А. абураўся, што вынікі «крывавай працы бедных» дастаюцца багатым, якія, як п'яўкі, смокчуць кроў сваіх ахвяр. Пагражаючы божымі карамі, заклікаў багатых аддаваць бедным хоць бы частку таго, што яны зарабілі ўласнымі рукамі.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 171—173.

## АБУХОВІЧ Міхал Лявон (?—22.10.1668)

Дзяржаўны і ваенны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, пісьменнік-мемуарыст. Нарадзіўся ў сям'і П.К.*Абуховіча.* Скончыў філасофскі факультэт Віленскай акадэміі. У час вучобы пісаў панегірычныя вершы. Служыў пры двары караля Яна Казіміра Вазы. У



*Герб роду Абуховічаў.*

1650 і 1653 каралеўскі дыпламатычны ганец у Маскве. У 1656 удзельнічаў у бітвах супраць шведаў пад Варшавай. Пасля смерці бацькі 6.9.1656 камандаваў яго палком. Тады атрымаў ад караля маёнткі Цырын (цяпер Карэліцкі р-н) і Гожу (Гродзенскі р-н). У адным з баёў захапіў частку архіва Я. і Б. Радзівілаў. 21.1.1660 у бітве з рускімі войскамі пад камандаваннем князя П.Хаванскага атрад А. быў разбіты, а сам ён узяты ў палон і вывезены ў Маскву. У 1662 А. абмянялі на 6 рускіх военачальнікаў. У 1662 ён заняў пасаду мазырскага, у 1665 навагрудскага падкаморага. У 1665 і 1666 ездзіў да караля Рэчы Паспалітай як пасол ад вялікакняжацкага войска. У 1668 прызначаны стражнікам войска Вялікага княства Літоўскага. У той жа год захварэў у Дорагаве (цяпер Карэліцкі р-н) і пасля працяглай хваробы памёр. Пахаваны ў езуіцкім касцёле ў Навагрудку. А. — аўтар 2 «Дыярыушаў» на польскай мове. У першым, які ахоплівае час ад 21.1.1660 да 16.7.1662, даў бытавыя замалёўкі маскоўскіх звычаяў і традыцый. У другім, што пачынаецца з 1663 і даведзены да 3.7.1665, апісаў ваенны паход на Севершчыну ў 1664. У творах пададзены эпізоды з соймаў Рэчы Паспалітай, паказана палітычная атмасфера ваеннага часу, падрыхтоўка, ход і вынік ваен-

ных акцый, у якіх удзельнічаў аўтар. «Дыярыушы», хоць і напісаны з пазіцый шляхецкага патрыятызму, маюць пазнавальнае і гісторыка-літаратурнае значэнне як творы мемуарнай літаратуры. Надрукаваны М.*Балінскім* у кнізе «Гістарычныя нататкі да тлумачэння грамадскіх пытанняў у Польшчы XVII ст...» (Вільня, 1859).

## АБУХОВІЧ Піліп Казімір (? — 6.9.1656)

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, дыпламат, пісьменнік. Паходзіў з мазырскай шляхты, якая пазней асела на Навагрудчыне. Спадчынным уладаннем А. была в. Ліпа ў Навагрудскім ваяв. (цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.). Закончыўшы Замойскую акадэмію, служыў пры двары віленскага ваяводы, канцлера Вялікага княства Літоўскага Л.*Сапегі*. Вызначаўся выключным майстэрствам рыторыкі, пра што сведчаць яго прамовы на лацінскай і грэчаскай мовах у гонар Я.Замойскага (апубл. ў 1617). Быў намеснікам мазырскага кашталяна. У 1632 выбраны паслом ад Мазырскага пав. ў Трыбунал Вялікага княства Літоўскага. На Віленскім канвакацыйным сойме 1634 выступаў як прадстаўнік Мазырскага пав., а на соймах 1638, 1639, 1640, 1645, 1646 — як пасол ад Навагрудскага ваяв. На канвакацыйным сойме 1648 выбраны прадстаўніком ад Вялікага княства Літоўскага ў раду пры прымасе (гнезненскім архібіскупе) М.Лубенскім, на выбарчым сойме — маршалкам пасольскай палаты. Яго лічылі дзеячам вялікага розуму і рэдкага красамоўства, ён быў разважлівы і вынаходлівы пры ўладкаванні канфліктаў у складаных сітуацыях. На каранацыйным сойме 1649 у Кракаве адкрываў цырымоніі як маршалак папярэдняга сойма, выбраны ў камісію па перагаворах са Швецыяй. У 1651 прызначаны вялікім паслом ад Вялікага княства Літоўскага да цара Аляксея Міхайлавіча, каб заключыць дагавор з Расіяй супраць татар. З 1653 А. — ваявода смаленскі. У 1654 ён узначальваў абарону Смаленска і пасля доўгай аблогі вымушаны быў здаць горад рускім войскам. За гэта абвінавачаны ў здрадзе. Па руках пачалі хадзіць зласлівыя «пашквілі», у т.л. «Ліст да Абуховіча», напісаны 6.7.1655 у Тулянах Іванам-Цыпрыянам Каманякам (Каманэнькам). У маі 1655 А. быў выкліканы на сойм наконт здачы смаленскай крэпасці. Кароль даў магчымасць А. даказаць сваю вернасць дзяржаве і даверыў яму камандаванне літоўскімі палкамі ў бітве супраць шведаў пад Варшавай. У ліпені 1656 А. накіраваўся са сваім атрадам пад Брэст, дзе захварэў і памёр. Пахаваны ў сямейным склепе ў езуіцкім касцёле ў Навагрудку. Намаганнямі сыноў быў апраўданы на надзвычайным сойме 1658. А. пакінуў пасля сябе польскамоўны «Дыярыуш», які ахоплівае падзеі 1630—54 (апубл. ў 1859 М.*Балінскім*), а таксама запісы пра абарону Смаленска і шляхецкія выбары 1632. Мемуары маюць гістарычную каштоўнасць, расказваюць пра войны, пасяджэнні соймаў, пасольства ў Маскву, услаўляюць дабрачыннасць Сапегаў, даюць звесткі пра анамаліі ў надвор'і, пра хваробы, сведчаць пра тое, што А. быў патрыётам аб'яднанай Рэчы Паспалітай, фанатычным каталікам. Бацькаву справу працягвалі сыны — М.Л.*Абуховіч* і Т.Г.*Абуховіч*, якія таксама вялі дзённікавыя запісы.

*А.Ф.Коршунаў.*

## АБУХОВІЧ Тэадор Геранім (1642—14.4.1707)

Пісьменнік-мемуарыст, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Малодшы сын П.К.*Абуховіча*, брат М.Л.*Абуховіча*. У 1657—69 служыў пры двары караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра Вазы. Суправаджаў яго ў час ваеннай экспедыцыі за Дняпро (1664). Пасля адрачэння караля ад трона (1669) паехаў з ім у Францыю. У 1670 разам з І.Сангушкам і групай каралеўскай шляхты вярнуўся морам, праз Гамбург, на радзіму, у радавы маёнтак Дорагава каля мяст. Карэлічы (цяпер Гродзенская вобл.). У 1672 у шэрагах шляхецкага апалчэння накіраваўся ў ваенны паход супраць туркаў, удзельнічаў у бітве пад Хоцінам (1673). У 1674 здзейсніў паломніцтва ў Рым, вяртаючыся назад, наведаў Ларэта, Балонню і Вену. У 1672, 1678—1700 на навагрудскіх сойміках неаднаразова выбіраўся паслом на соймы, дзе выконваў розныя даручэнні: падкаморы

(1693), кашталян (1700). Быў адзіным спадчыннікам радавых маёнткаў Ліпа і Дорагава Навагрудскага ваяв. і Горбавічы Мазырскага пав., трымаў у арэндзе Цырын (Гродзенскай вобл.). У апошнія гады жыцця А. напісаў на польскай мове ўспаміны, у якіх расказаў пра найважнейшыя падзеі ў тагачаснай Рэчы Паспалітай, пра сваё жыццё. Яго мемуары надрукаваны М.Балінскім у кнізе «Гістарычныя нататкі да тлумачэння грамадскіх пытанняў у Польшчы XVII ст. ...» (Вільня, 1859).

*Літ.:* Polski slownik biograficzny. T. 23/3, z. 98. Wrocław, 1978. *М.П.Барташэвіч.*

## **АГІНСКІ** Багдан (? — 1625)

Дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага, асветнік. Паходзіў з старадаўняга магнацкага роду. З 1580 падкаморы трокскі, староста Віленскага праваслаўнага брацтва, удзельнік мірных перагавораў у Маскве ў 1587 і 1612. Пасля забароны дзейнасці брацкай беларускай Святадухаўскай друкарні ў Вільні ён заснаваў у 1610 друкарню Віленскага праваслаўнага брацтва ў сваім уладанні — мяст. Еўі (цяпер г. Вевіс у Літве). Гэта друкарня праіснавала да сярэдзіны 17 ст. і выпусціла больш за 25 выданняў, у т.л. «Новы запавет з Псалтыром» (1611), «Дыёптру» (1612), «Буквар славянскай мовы» (1618), «Граматыку» М.Смятрыцкага (1619) і інш. Кірылічныя кнігі Еўінскай друкарні вызначаліся высокімі мастацка-паліграфічнымі якасцямі. Кнігавыдаўцы прадаўжалі і развівалі традыцыі Ф.Скарыны (прадмовы, пасляслоўі, каментарыі і да т.п. рабіліся на беларускай мове). Як і выданні Скарыны, кнігі Еўінскай друкарні прызначаліся для шырокіх колаў насельніцтва і выкарыстоўваліся беларускімі і ўкраінскімі брацтвамі ў навучальна-асветніцкай і царкоўна-рэлігійнай дзейнасці. У прадмовах выдаўцы падкрэслівалі патрыятычныя матывы сваёй дзейнасці, намер распаўсюджваць кнігі на ўсе «рускія» краіны, садзейнічаць развіццю «народа рускага». Выданні разыходзіліся на Беларусі, Украіне, часткова вывозіліся ў Расію. Апрача кірылічных кніг друкарня выпускала ў 1-й палове 17 ст. польскія выданні, якія адыгрывалі пэўную ролю ў грамадска-палітычным і духоўным жыцці Рэчы Паспалітай.



*Герб роду Агінскіх.*

## **АГІНСКІ** Міхал Казімір [1760 (або 1728) — 31.5.1800]



Вялікі гетман літоўскі, мецэнат. Прадстаўнік старадаўняга магнацкага роду: яго бацька, Юзаф, быў ваяводам трокскім, маці, Ганна — з роду магнатаў Вішнявецкіх. З 1748 А. — чашнік літоўскі, пісар польны і генерал-маёр

войск літоўскіх. У 1746 на сойме быў пасалом ад Пінскага, у 1748 ад Старадубскага пав. У 1753—61 падарожнічаў па Еўропе, быў у Дрэздэне, Вене, Парыжы. Ажаніўшыся з дачкою вялікага канцлера літоўскага М.Чартарыйскага, атрымаў Слонімскую эканомію. З 1764 ваявода віленскі, з 1768 гетман вялікі літоўскі. Пасля смерці караля Аўгуста III адзін з кандыдатаў у каралі Рэчы Паспалітай. У 1771 перайшоў на бок Барскай канфедэрацыі, але яго 3-тысячны атрад разбіў Сувораў пад в. Сталовічы (цяпер Баранавіцкі р-н). У выніку А. быў вымушаны эміграваць, а яго маёнткі ва ўсходняй Беларусі, ужо далучаныя да Расіі ў 1772, былі канфіскаваны. Вярнуўся на радзіму ў 1774. Пабудаваў у Слоніме некалькі прамысловых прадпрыемстваў, друкарню, тэатр. Па сваёй ініцыятыве пачаў пракладваць Агінскі канал, які злучыў рэкі Ясельду са Шчарай і тым самым р. Нёман Балтыйскага басейна з р. Прыпяць Чарнаморскага басейна.

А. быў добра адукаваным і таленавітым чалавекам, пісаў вершы, аповесці, маляваў, сачыняў музычныя творы, іграў на кларнеце, скрыпцы, арфе і клавікордах (ігры на скрыпцы вучыўся ў Дж. Віёці). Пры сваім двары ў Слоніме ў 1765 ён стварыў вядомыя на той час оперны тэатр і капэлу. Для падрыхтоўкі балетных артыстаў і музыкантаў з прыгонных арганізаваў школу. Яго лічаць аўтарам выдадзеных у Варшаве пад псеўданімам «Слонімскі грамадзянін» перадавых для свайго часу зборнікаў «Гістарычныя і маральныя аповесці» (1782), «Байкі і небайкі» (1788). У апошні зборнік увайшлі вершы з «Песень пана Міхала графа Агінскага, гетмана Вялікага княства Літоўскага, укладзеныя ў верасні 1770 г. ў Слоніме». Выказвалася думка, што ў літаратурнай працы яму дапамагаў Ф.К.Хамінскі, аднак гэта меркаванне абвяргаюць сучасныя даследчыкі. Вядомы ён і як оперны кампазітар — аўтар пастаўленых на сцэне яго опер «Зменены філосаф» (1771), «Елісейскія палі» (1788; верагодна пісаў з дапамогай Ф.Марыні), а таксама «Сілы свету», «Становішча саслоўяў» (1784). Пісаў таксама скрыпічныя п'есы. У 1778 адкрыў для сваіх прыгонных школу — «Дэпартамент балетных дзяцей», дзе акрамя танцаў дзяцей вучылі чытанню і пісьму.

У 1781 А. прызначаны намеснікам Літоўскай правінцыі, у 1782 выехаў за мяжу, быў у Бруселі, Амстэрдаме, Берліне, потым у Англіі. Прасіў дапамогі ў прускага караля Фрыдрыха Вільгельма II, каб вярнуць свае маёнткі ў Расіі. У 1793 адмовіўся ад вялікай гетманскай булавы, выехаў у Вену, у 1795 прысягнуў на вернасць Кацярыне II. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве, дзе і памёр.

*Літ.:* Мальдзіс А.І. Традыцыі польскага асветніцтва ў беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1972; Яго ж. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992; Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992.

*А.М.Філатава.*

## АГІНСКІ Міхал Клеафас [7.10(25.9).1765—15.10.1833]



Дыпламат, кампазітар, вялікі падскарбі літоўскі. Прадстаўнік старадаўняга магнацкага роду: яго бацька, Андрэй, быў ваяводам трокскім, маці, Паўла — з роду магнатаў Шэмбекаў. Нарадзіўся ў Гузаве, недалёка ад Варшавы. Атрымаў добрую хатнюю адукацыю, меў выдатныя здольнасці да музыкі і замежных моў. У 1786 пасол на сойме, у 1788 камісар скарбовай камісіі Вялікага княства Літоўскага, у 1789 літоўскі мечнік, у 1789 надзвычайны пасланнік у Галандыі. У 1791 вярнуўся на радзіму, займаўся пытаннямі спадчыны маёнткаў М.К.Агін-

скага на Беларусі, якія адышлі да Расіі. Быў дэпутатам Гродзенскага сойма 1793. У 1793—94 вялікі падскарбі літоўскі. У 1794 удзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам А.Т.*Касцюшкі*, уваходзіў у Найвышэйшую раду літоўскага народа. Ахвяраваў на патрэбы паўстання 188 тыс. злотых, кіраваў 480 стральцамі. Двойчы са сваім атрадам спрабаваў прабіцца ў Мінскую губ., каб падняць паўстанне. Змагаўся супраць прускіх войск. Пасля таго як расійскія войскі ўзялі Вільню, А. выехаў у Варшаву. За ўдзел у паўстанні яго маёнткі былі канфіскаваны царскімі ўладамі. Жыў у Вене, Венецыі, Парыжы. Дзякуючы намаганням князя А.*Чартарыйскага* атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму і ў Гродне прысягнуў на вернасць Аляксандру I. У 1802—06 жыў у маёнтку Залессе Ашмянскага пав., дзе пабудаваў новы палац, парк у англійскім стылі, аранжарэі, звярынец, сабраў вялікую бібліятэку. Залессе стала адной з найпрыгажэйшых магнацкіх рэзідэнцый на Беларусі. У 1807 у Італіі быў прыняты Напалеонам I. У 1810 у Пецярбургу атрымаў ад цара званне сенатара і тайнага саветніка, ордэны Св. Уладзіміра і Аляксандра Неўскага. У маі 1811 падаў цару праект пра заснаванне Вялікага герцагства Літоўскага. Напярэдадні вайны 1812 услед за Аляксандрам I прыехаў у Вільню, потым вярнуўся ў Пецярбург, дзе знаходзіўся да канца вайны. У 1817 у Вільні надрукаваў 2 зборнікі сваіх твораў. У 1823 выехаў у Італію, жыў у Фларэнцыі, дзе і памёр.

Вядомы як музыкант і кампазітар. А. захапляўся італьянскай і французскай операй, іграў на скрыпцы і клавікордах. Кампазітарскую дзейнасць пачаў у 1790-я гады стварэннем шматлікіх маршаў і баявых песень, пашыраных сярод паўстанцаў 1794. Яму прыпісваецца аўтарства музыкі песні «Ячшэ Польшча не загінула», якая стала польскім нацыянальным гімнам. У залескі перыяд пераважна займаўся музыкай; у гэты час напісаны славуты паланез «Развітанне з Радзімай». Галоўнае ў творчай спадчыне А. — фартэпіянныя п'есы, паланезы, мазуркі, маршы, вальсы і рамансы. Аўтар музыкі і лібрэта оперы «Зеліда і Валькур, або Банапарт у Каіры», трактата «Лісты пра музыку» (1828). У 1826—27 у Парыжы выдадзены 4-томныя «Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 па 1815 г.».

*Тв.:*Pamiętniki... T. 1—4. Poznan, 1870—73.

*Літ.:* Polski slownik biograficzny. T. 23/3—4, z. 98, 99. Wrocław etc., 1978; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX ст. Мн., 1969; Бэлза И. Михал Клеофас Огиньский. 2 изд. М., 1974; Энгель А.М. Архив Виленского генерал-губернаторства. Т. 2, ч. 1. Вильна, 1870.

*А.М.Філатава.*

## АДАМ (Adamus) Рэйнальд [1602—1656(?)]

Дзеяч рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім, педагог. Паходзіў з Рэйнскага Пфальца. Тэалогію вывучаў у Лейдэнскім універсітэце. Паводле звестак А.Вянгерскага, А. пэўны час быў рэктарам Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, створанай у сярэдзіне 20-х гадоў 17 ст. пад патранатам польнага гетмана Крыштофа II Радзівіла як школа новага тыпу з разнастайнай праграмай навучання, настаўнікам сына Крыштофа — Януша Радзівіла, будучага вялікага гетмана літоўскага, удзельніка шведскага «патопу». У 1630 атрымаў сан міністра (пратэстанцкага святара) і пакінуў гімназію. Крыштоф II Радзівіл даручыў яму разам з кальвінісцкім дзеячам А.Пшыпкоўскім суправаджаць Януша ў час яго навучання за мяжой ва універсітэтах у Ліпску, Лейдэне, Альтдорфе. Разам са світай Я.Радзівіла А. наведаў многія краіны Еўропы. У 1633 вярнуўся ў Вялікае княства Літоўскае, быў прыдворным прапаведнікам у Я.Радзівіла. У 1636 пасланы з місіяй у Парыж, дзе ўручыў вядомаму галандскаму палітычнаму мысліцелю і гуманісту Гуга Гроцыю пасланні з Польшчы. Па даручэнні Віленскай евангелісцка-рэфармацыйнай абшчыны ў 1642 інспектаваў асноўныя кальвінісцкія школы ў Вялікім княстве Літоўскім — Слуцкую і Кейданскую. Нейкі час жыў пры двары Я.Радзівіла ў Кейданах, быў бібліятэкарам, займаўся справамі Кейданскай школы (у 1647 склаў для яе праграму навучання). Прысутнічаў на генеральным сінодзе пратэстантаў Польшчы і

Вялікага княства Літоўскага, які прахodзіў у 1644 у Орлі (на Падляшшы).

А. разам з А.Дабжаньскім і А.Музоніем быў аўтарам статута Слуцкай школы («Ordo scholae Slucensis», выдадзены ў 1628 у Любчы). Статут уключаў зварот да чытача, праграму 4 класаў, метадычныя ўказанні, апісанне пазашкольных заняткаў, правілы паводзін для вучняў і настаўнікаў. Асноўная ўвага ў Слуцкай школе звярталася на гуманітарныя навукі, вывучэнне твораў Вергілія, Гарацыя, Цыцэрона, лацінскай і грэчаскай мовы, логікі і рыторыкі. У статуце падкрэслівалася, што асноўная задача настаўніка — выхоўваць шаноўных грамадзян незалежна ад іх веравызнання і сацыяльнага становішча: «Адчынены дзверы, якія вядуць да нашых грацый і муз, для ўсіх сумленных і шчырых людзей. Узрост, становішча, веравызнанне не маюць для нас ніякай розніцы. Месца на гэтых школьных лавах дадзена бедняку не менш, чым Крэзу, католіку не менш, чым прыхільніку Рэфармацыі» (пераклад з лацінскай мовы Я.Парэцкага). Статут Слуцкай школы сведчыў аб пранікненні новых прагрэсіўных, гуманістычных тэндэнцый у рэфармацыйную педагогіку таго часу.

У 1629 на Віленскім сінодзе быў ухвалены і зацверджаны да друку напісаны А. падручнік рыторыкі «Слуцкі кампендыум». Доўгі час даследчыкі лічылі, што з-за фінансавых цяжкасцей ён не быў надрукаваны, але ў 1971 беларускі даследчык Ю.Прэнская ў бібліятэцы Чартарыйскіх у Кракаве знайшла твор «Compendium rhetoricum... in usum Scholae Slucensis» («Кароткі дапаможнік па рыторыцы... для карыстання ў Слуцкай школе»), выдадзены ў Любчы каля 1630. «Слуцкі кампендыум» змяшчае тры асноўныя часткі: «Метад, пытанні і каноны», «Азначэнні ўсяго мастацтва красамоўства», «Спецыяльная рыторыка». Для яго характэрны нагляднасць, незвычайнасць і даходлівасць прыкладаў, гуманістычная накіраванасць. У «Звароце да чытача» аўтар піша: «Жыццё найбольш плённае ў школах — гэтых майстэрнях чалавечых душ, — тут найменш зламыснікаў, тут зберагаюцца годнасць і талент чалавека». Верагодна, што «Слуцкі кампендыум» і ёсць той самы падручнік рыторыкі. Рэлігійная і педагагічная дзейнасць А. пакінула пэўны след у гісторыі рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім.

*Літ.:* Порецкий Я.И. Слуцкий компендиум по риторике // Педагогика и психология. Вып. 9. Вопросы истории школы и педагогики в БССР. Мн., 1976; Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 92—101. *Л.С.Іванова.*

## **АЛІЗАРОЎСКІ** Аарон (Адам, Аляксандр; 1618—1659)

Правазнавец, палітолаг, сацыёлаг. Нарадзіўся на Віцебшчыне ў праваслаўнай сям'і. Вучыўся ў навучальных установах Беларусі, Польшчы, Аўстрыі, Германіі, Італіі. Доктар права (1645), прафесар права Віленскай акадэміі. Адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў свецкага кірунку ў сацыялагічнай і палітыка-прававой думцы Беларусі 17 ст. Аўтар працы «Аб палітычнай супольнасці людзей» (выдадзена ў 1651 у Гданьску на лацінскай мове). Метадалагічны прынцып А.: ісці за прыродай як лепшай правадыркай. Ён шырока ўжываў эмпірыка-індуктыўны і рацыяналістычны метады пры распрацоўцы і абгрунтаванні тэорыі натуральнага права і грамадскага дагавору, на аснове якой вёў крытыку сучаснай яму рэчаіснасці. Пры аналізе палітычных і прававых праблем імкнуўся не выкарыстоўваць пануючых на той час тэалагічных падыходаў і ацэнак, хоць і не адвяргаў рэлігійных і тэалагічных канцэпцый, лічачы іх карыснымі толькі ў акрэсленых сферах грамадскага жыцця. Ён стаяў на пазіцыі дваістай ісціны, гнасеалагічнага і анталагічнага дуалізму. Гэта выяўлялася пры трактоўцы сутнасці і прызначэння права. Ён нават не ўспамінаў пра вечнае права (Lex alterna), якое, паводле вучэння Фамы Аквінскага, лічылася законам вышэйшай боскай мудрасці і крыніцай усіх іншых відаў права. Паводле класіфікацыі А. існуюць боскае (Lex divina), натуральнае і права народаў. Пры гэтым боскае і натуральнае права знаходзяцца не ў падпарадкаванні другога першаму, а выступаюць як самастойныя віды і дапаўняюць адзін аднаго. А. пазбягаў спецыяльнага аналізу ролі і

прызначэння боскага права, а калі вымушаны быў да яго звяртацца, то даваў даволі нетрадыцыйнае тлумачэнне: «Боскае права забараняе несправядлівасць, прыгнечанне бедных і ўсялякія крыўды». Ён аналізаваў пераважна натуральнае права, якое прырода закладвае ўчалавеку як сацыяльнай і біялагічнай істоце. У сацыяльным аспекце прынцыпы натуральнага права выяўляюцца праз развіццё і ўдасканаленне сацыяльнай арганізацыі жыцця людзей: сям'я, фальварак, паселішча, грамадства, дзяржава. З біялагічнага пункту погляду правы чалавека вызначаліся яго агульнасцю з жывёльным светам і знаходзілі ўвасабленне, у прыватнасці, у праве самаабароны, праве распараджэння сабой, імкнення да супрацоўніцтва (зносін) з сабе падобнымі і інш.

У натуральна-прававым вучэнні А. адводзіць значнае месца побач з прыродай розуму і рацыянальным якасцям чалавека. Прырода і розум выступаюць у яго як зыходныя ўзаемадапаўняльныя перадумовы права. Абгрунтаванне натуральна-прававых ідэй дазваляла яму развіваць новае буржуазнае разуменне свабоды і роўнасці. Паводле канцэпцыі А., існуюць тры віды свабоды: прававая, філасофская і палітычная. Прававая свабода — гэта здольнасць людзей у адпаведнасці з прыроднай і агульнай годнасцю распараджацца сваім жыццём паводле ўласнага разумення і патрабаванняў закону. Філасофская — улада розуму над эмоцыямі і імкненнямі. Палітычная — панаванне ў грамадстве права і закону, а не самавольства манарха. А. распрацаваў гуманістычную канцэпцыю Новага часу — грамадскага дагавору, паводле якога прызначэнне і мэты дзяржавы звязваюцца з агульнаграмадзянскай карысцю і ўзаемазацікаўленасцю людзей у стварэнні палітычных саюзаў — супольнасцей. Перадумовы гэтага складваюцца ў рэгуляванні адносін у сям'і, двары (сукупнасць некалькіх сем'яў) або панскім фальварку, паселішчы, дзе ў рознай ступені фарміруюцца інстытуты ўлады: бацькоў над дзецьмі, пана над падданымі і інш. Дзяржаву А. вызначае «як створаны з мноства паселішчаў саюз і аб'яднанне людзей, якія звязаны правам, што і ўвайшлі ў згоду ў імя добрага і шчаслівага жыцця». Яе праблемы ён цесна звязвае з пытаннямі грамадзянства. Паводле тагачаснай шляхецкай палітычнай ідэалогіі сапраўднымі грамадзянамі была толькі шляхта, арганізаваная ў замкнёнае каставае кола. А. лічыў, што грамадзянамі дзяржавы з'яўляюцца ўсе жыхары, акрамя рабоў і іншаземцаў. Пры гэтым адзначаў, што ў грамадстве існуюць вышэйшыя і ніжэйшыя саслоўі, але для кожнага павінен існаваць свабодны пераход з аднаго саслоўя ў другое, і грамадзяне ўсіх саслоўяў роўныя перад законам.

Ігнараванне прынцыпаў грамадскага дагавору, паводле А., вядзе да гібелі дзяржавы. Разбуральнымі фактарамі з'яўляюцца дзеянні людзей, якія парушаюць чалавечыя сувязі, дрэннае кіраванне, адсутнасць законнасці і справядлівасці, няроўнасць, эгаізм пануючых саслоўяў, несправядлівае выкарыстанне права, асабліва ў судах. Ён прытрымліваўся думкі, што дасканаласць дзяржавы залежыць ад найбольш рацыянальна выбранай формы кіравання. Сімпатыі А. былі на баку спадчыннай манархіі, і ў той жа час ён быў праціўнікам тыраніі. На яго думку, у выключных выпадках у народа павінна існаваць права на паўстанне і забойства тырана. А. з абурэннем пісаў пра неабгрунтаванасць прысваення сабе панамі права на жыццё і смерць сялян. У сваіх працах ён шырока выкарыстоўваў сучасную яму і старажытную літаратуру, цытаваў і аналізаваў творы больш як 250 аўтараў. Яго творчасць — сведчанне далейшага развіцця на Беларусі 17 ст. палітычнай і прававой думкі, пацвярджэнне таго, што інтэлектуальнае жыццё нашага народа арганічна звязана з агульнаеўрапейскім прагрэсам. *С.Ф.Сокал.*

## **АЛЬШЭЎСКІ** Якуб (каля 1586—1634)

Езуіцкі прапаведнік на Беларусі, філасаф, педагог. Паходзіў з Польшчы. Вучыўся ў Віленскай акадэміі (1605—08), багаслоўскай школе ў Нясвіжы (1610—13), пасля заканчэння якой быў пасвечаны ў ксяндзы. Педагагічную кар'еру пачаў з выкладання рыторыкі ў Браневе, а потым у Віленскай акадэміі, дзе чытаў таксама лекцыі па

логіцы, фізіцы, філасофіі. У 1618 атрымаў ступень магістра філасофіі. У 1620—31 займаў пасаду прафесара схаластычнай тэалогіі ў Віленскай акадэміі. У філасофіі прытрымліваўся поглядаў Ф.Суарэса і Фамы Аквінскага. Захаваліся яго лекцыі з каментарыямі да галоўных твораў Фамы Аквінскага «Сума тэалогіі» і «Сума супраць язычнікаў». На працягу 1627—34 А. быў прапаведнікам у акадэмічным касцёле св. Яна ў Вільні. Яго пропаведзі вылучаліся асаблівым красамоўствам. Пры жыцці А. выдаў 11 сваіх пропаведзяў, у т.л. на смерць С.Паца, Я.Валовіча, Жыгімонта III і інш. Апрача тэалагічных разважанняў пропаведзі змяшчалі багатую генеалагічную інфармацыю і раскрывалі грамадска-палітычныя погляды пэўных асоб. З пазіцый асветніка падкрэсліваў неабходнасць належнага выхавання, без якога нават самае знатнае паходжанне траціць сваё значэнне. Соймавым паслам (дэпутатам тагачаснага парламента) раіў кіравацца думкай большасці, а не інструкцыямі, атрыманымі на папярэдніх павятовых сойміках.

Памёр і пахаваны ў Вільні.



*І.І.Аляшкевіч. Мадонна з дзіцем. 1830.*

## **АЛЯШКЕВІЧ** Іосіф Іванавіч (1777 — 5.10.1830)



Мастак. Нарадзіўся ў мяст. Шылува (цяпер Літва) у сям'і беднага музыканта з мяст. Радашковічы Мінскай губ. У 1800 паступіў у Віленскую мастацкую школу, быў вучнем прафесара Ф.*Смуглевіча*. У 1803 паехаў за мяжу, удасканальваў сваё майстэрства ў Дрэздэне і Парыжы. Пасля вяртання нейкі час жыў на Валыні і рыхтаваўся да заняткаў у Віленскім універсітэце. Але ў 1810 адмовіўся ад гэтага намеру і пераехаў у Пецярбург, дзе займаўся галоўным чынам жывапісам. За карціну «Апека сірот» яму нададзена званне акадэміка жывапісу. Часта прыязджаў на Беларусь, стварыў тут шэраг партрэтаў у стылях позняга класіцызму і рамантызму. Сярод іх: «Групавы партрэт», партрэты Л.Сапегі, М.Радзівіла, А.Чартарыйскага, А.Міцкевіча і інш. Вядома таксама яго карціна «Развітанне гетмана Хадкевіча з маладой жонкай перад адпраўленнем пад Хоцін». Сярод сучаснікаў А. вылучаўся прыродным розумам, энцыклапедычнымі ведамі, арыгінальным ладам жыцця і ўдзелам у масонскім руху. У 1822 яго абралі старшынёй масонскай ложы Белага Арла, якая лічылася ў Пецярбургу галоўнай. Ён быў вельмі набожны, шчодры, добразычлівы, прапаведаваў гуманнасць і стрыманасць. Гэтыя душэўныя якасці і выклікалі да



*І.І.Аляшкевіч. Групавы партрэт. 1813.*

яго павагу і сімпатыі ва ўсіх, хто яго акружаў. Быў знаёмы з А.Міцкевічам, які прысвяціў яму адзін са сваіх вершаў. А. спрабаваў таксама пісаць літаратурныя творы, дзе сцвярджаў, што чалавецтва перажыло свае вясну і лета, настае яго восень і таму яно павінна паклапаціцца пра назапашванне таго, што можа выратаваць ад заўчаснай гібелі. Памёр у Пецярбургу і пахаваны на Смаленскіх могілках.

## АНДРУШКЕВІЧ Ф.

Філасаф 1-й паловы 18 ст. Даты жыцця, месца нараджэння і смерці невядомы. У курсе філасофіі, якую выкладаў А. у 1730-я гады ў Гродне, пераважалі арыстоцелеўская логіка і метафізіка. Курс логікі пачынаўся раздзелам «Малая логіка, або Дыялектыка». Потым ішла «Вялікая логіка, або Проста логіка». У дыялектыку А. уключаў вучэнне пра тры дзеянні розуму (пра паняцці, суджэнні і вывады), а таксама вучэнне пра метад, дзе выкладаліся прыёмы навучання логіцы. У 2-й частцы ён разглядаў універсаліі, іх адносіны да рэчаіснасці, праблемы агульнага і адзінкавага, г. зн., па сутнасці, тэарэтыка-пазнавальныя праблемы. Значную частку курса дыялектыкі займалі аперацыі мыслення. Першым разглядалася паняцце. У яго разуменні суадносін знака, сэнсу, значэння, вобраза і паняцця, вызначэнні тэрміна выяўлялася філасофская арыентацыя на пазіцыі памяркоўнага наміналізму.

## АНЦУТА Ежы Казімір (?—1737)

Каталіцкі палеміст на Беларусі і ў Літве. Займаў пасады віленскага біскупа-суфрагана, рэферэндарыя Вялікага княства Літоўскага. У 1719 выдаў у Вільні кнігу «Поўнае права каталіцкай рэлігіі ў Польскім Каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім...» (некаторыя даследчыкі лічаць сааўтарам езуіта С.Сакульскага). У гэтым творы А. абвяргаў законнасць тых рашэнняў соймаў Рэчы Паспалітай, якія ў перыяд уздыму рэфармацыйнага руху абвяшчалі верацярпімасць і пацвярджалі розныя правы дысідэнтаў. Спасылаючыся на Біблію, папскія булы і соймавыя пастановы 17 ст., ён імкнуўся даказаць, што праваслаўныя і пратэстанты паводле боскага, царкоўнага, цывільнага і палітычнага права з'яўляюцца ерэтыкамі і таму павінны быць пазбаўлены ўсіх цывільных і палітычных правоў. Сялянскія казацкія паўстанні, змовы і падпалы ён лічыў справай рук дысідэнтаў. Свой твор А. заканчваў заклікам да караля, сената і шляхты весці свяшчэнную барацьбу з дысідэнтамі. Творы А. і іншых каталіцкіх палемістаў тэарэтычна абгрунтоўвалі гвалтоўнае насаджэнне каталіцызму, пацвярджалі нацыянальны і рэлігійны ўціск у Рэчы Паспалітай.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 148—149.

## АРЛЯ-АШМЯНЕЦ Фердынанд Францавіч (1775—?)

Педагог, пісьменнік. Нарадзіўся на Беларусі. Пасля заканчэння Галоўнай Полацкай школы быў настаўнікам у Дынабургскім, потым у Віцебскім і Аршанскім павятовых вучылішчах. У 1800—08 працаваў настаўнікам у Полацкім, Рагачоўскім і Камянецкім вучылішчах, у 1808 перайшоў у Курскую гімназію. У 1813 пераехаў у г. Арол, дзе выкладаў статыстыку, гісторыю, геаграфію, старажытнасці, міфалогію і лацінскую мову. Тут ён распачаў два перыядычныя выданні: «Друг россиян и их единомышленников...» (выйшла ў канцы 1816) і «Отечественный памятник, посвященный дружелюбному соединению российских и польских народов» (кн. 1—3, 1817—18), якія друкаваліся ў Маскве. Абодва выданні мелі на мэце «змацаваць у вечным саюзе непарушнай дружнасці розумы і сэрцы славяна-расійскіх і польскіх народаў праз асвету і дабрачыннасць». З Арла А.-А. пераехаў у Магілёў, дзе пэўны час быў выкладчыкам гімназіі, а ў 1818 пераведзены ў Маладзечанскае вучылішча настаўнікам гісторыі права, лацінскай мовы.

## АСКЕРКА Сцяпан Міхаіл (1712—?)

Эканаміст-утапіст. Нарадзіўся на Навагрудчыне ў сям'і навагрудскага кашталяна — заможнага, уплывовага шляхціца, які вылучаўся верацярпімасцю: будучы каталіком, ён ажаніўся з пратэстанткай Грабоўскай, збудаваў у Невелі праваслаўную царкву, у Слуцку бальніцу, дапамагаў пратэстантам; езуіты абвінавачвалі яго ў сімпатыях да праваслаўя. Сцяпан А. быў першым дзіцем і ў адпаведнасці са шлюбнай дамоўленасцю павінен быў узяць веру маці. Яна з дзяцінства хавала сына ад ксяндзоў і, каб не трапляў ім на вочы, аддала вучыцца ў Слуцкую гімназію. Потым ён працягваў вучобу ў Берліне, але з-за ганення езуітаў вымушаны быў вярнуцца на радзіму і адрачыся ад пратэстанцкай веры, пасля чаго яго паслалі ў кляштар. У 1733 А. уцёк за мяжу і парваў з каталіцтвам. Далейшы яго лёс звязаны з Германіяй. Там ён стаў саветнікам юстыцыі караля Фрыдрыха II, у 1760 напісаў сваё эканамічнае даследаванне «План, які не з'яўляецца нормай» («Unmaßgeblicher Plan...») і выдаў яго ў Бернбергу. Гэта быў амаль утапічны план перабудовы грамадства. Аўтар меркаваў усталяваць такі грамадскі лад, які б садзейнічаў уздыму жыццёвага ўзроўню, культуры і асветы народа. У прадмове да гэтага твора А. пісаў, што ён вінаваты перад людзьмі, якія ўратавалі яго, і поўны жадання аддзячыць ім. Для гэтага ён выкладаў свой план аднаўлення і перабудовы Нямеччыны — «сваёй другой радзімы». Асабістыя перажыванні і ганенні з боку езуітаў умацавалі дэмакратычныя і ліберальныя перакананні А. У «Плане...» ён неаднаразова спасылаецца на Д.Юма і Ш.Мантэск'е і перакананы, што змена грамадскіх адносін залежыць ад добрай волі грамадзян. Немцам ён ставіў у прыклад парадкі,

што панавалі ў яго на радзіме — у Вялікім княстве Літоўскім, даказваючы, што там шляхта больш ініцыятыўная і карыстаецца павагай ў сваіх падданых. А. прапанаваў увесці працоўныя і ашчадныя кніжкі для кожнага рабочага; увесь заробак і зберажэнні трымаць у дзяржаўных банках, там жа весці і ўлік грамадскага прыбытку. Ён прадугледжваў шэраг захадаў супраць марнатраўства: сачыць за гэтым павінны па-новаму арганізаваныя судовыя ўстановы і грамадскія ўпарадкавальнікі, якія кіруюцца законамі аб спадчыне, выдачы пазык, штрафах і г.д. Арганізатары грамадства і кіраўнікі вытворчасці павінны ўтрымлівацца абшчынамі, ім даецца ў карыстанне гаспадарка і жыллё. За гультайства і неахайнасць неабходна накладваць штрафы на рабочых, спісваць з іх кніжак сродкі, каб пасля, калі яны выправяцца, вярнуць ім зноў. Усіх сялян неабходна вучыць рамяству і інш. спецыяльнасцям. Дзеці з 5-гадовага ўзросту абавязаны хадзіць у платную школу. А. склаў праект дакладна рэгламентаванага працоўнага дня як у адносінах працягласці, так і аплаты. Насельніцтву прадугледжваліся прэміі за пасадку дрэў, для яго павінна быць арганізавана лекарская дапамога і збудаваны бальніцы; абшчыны адпускаюць сродкі на ўтрыманне манастыроў і вучоных. Марачы пра новую канстытуцыю для Нямеччыны, А. спрабаваў надаць свайму плану канкрэтныя формы, каб можна было адразу распачаць яго ажыццяўленне. У творах Фрыдрыха II «План...» А. не ўпамінаецца, але верагодна, што кароль прыслухаўся да голасу саветніка юстыцыі і пачаў ажыццяўляць яго задуму «па-пруску». «План...» папярэднічаў працам сацыялістаў-утапістаў Л.Сен-Сімона, Ш.Фур'е, Р.Оўэна.

# Б

## БАБОЛЯ Андрэй (1591—1657)

Езуіцкі манах, прапаведнік. Актыўна прапагандаваў каталіцтва ў Бабруйску і Пінску, за што празваны «пінскім



А.Баболя.

апосталам». У час казацкага паўстання (1657) захоплены і пасля катаванняў забіты. Пахаваны ў Пінску. У 1827 яго мошчы перанесены ў Полацк. Кананізаваны папам Піем IX (1853).

## БАБРОЎСКІ Міхаіл Кірылавіч [8(19).11.1784 (ці 1785) — 21.9(3.10).1848]

Беларускі славіст і арыенталіст. Нарадзіўся ў в. Вулька Бельскага пав. (цяпер Польшча). Доктар тэалогіі (1823). Член Археалагічнай акадэміі ў Рыме, Парыжскага і Лонданскага азіяцкіх навуковых таварыстваў, Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце. Паходзіў з даўняга беларускага шляхецкага роду, бацька — уніяцкі святар. Вучыўся ў Драгічынскім вучылішчы піяраў, скончыў Беластоцкую гімназію (1806), Галоўную духоўную семінарыю пры Віленскім універсітэце (1812). З 1817 канонік брэсцкі. У 1817—22 у замежнай навуковай ка-

мандзіроўцы ад Віленскага універсітэта. У 1822—24, 1826—33 прафесар экзегетыкі і герменеўтыкі Віленскага універсітэта, у 1824—26 у ссылцы ў базыльянскім манастыры ў Жыровічах на Слонімшчыне. З 1833 жыў у мяст. Шарашова Пружанскага пав., дзе атрымаў прыход. Памёр ад халеры.

Юнаком пачаў вывучаць старажытныя славянскія рукапісы і старадрукі ў цэрквах і манастырах. Яшчэ гімназістам зацікавіўся архівам і бібліятэкай Супрасльскага манастыра, дзе ў 1822 адкрыў Супрасльскі рукапіс. Даследаваў гісторыю славянскага кнігадрукавання, збіраў матэрыялы пра дзейнасць Ш. Фіёля, Ф.*Скарыны*, І.*Фёдарава*, П.*Мсціслаўца.* У час замежнай камандзіроўкі ўдасканальваў веды ў галіне славянскіх, усходніх і старажытных моў, археалогіі, гісторыі, літаратуры, сабраў вялікі навуковы матэрыял, вывучыў і апісаў многія славянскія старажытнасці. Зрабіў навуковае апісанне старажытных кірылічных і глагалічных літаратурных помнікаў Ватыканскай бібліятэкі (надрукавана яе галоўным хавальнікам А.Маі ў 1831). Увёў у навуковы ўжытак шэраг найважнейшых помнікаў гісторыі і культуры, у т.л. першую глагалічную друкаваную кнігу «Місал па закону Рымскага двара» (Служэбнік, 1483), што захоўвалася ў Ватыканскай бібліятэцы. Справаздачы, якія ён дасылаў на імя рэктара Віленскага універсітэта (частка іх захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта), дазваляюць меркаваць пра яго навуковую дзейнасць у Аўстрыі, Італіі, Францыі, на землях заходніх і паўднёвых славян, лужыцкіх сербаў. Сябраваў з вядомымі славістамі Б.Капітарам, І.Добраўскім, В.Ганкаю і інш. Ёсць падставы сцвярджаць, што Б. — адзін з першых беларускіх скарыназнаўцаў. Яго знаёмства з кнігамі Скарыны адбылося ў супрасльскім кнігазборы. Дасягнуўшы, як і Скарына, найвышэйшых вучоных ступеняў, ён прысвяціў сябе вывучэнню старажытнай культуры беларусаў і ўсяго славянства. Яго працы і дзейнасць сталі пачаткам сусветнага славяназнаўства. Як ніхто іншы, Б. спрыяў узнікненню асобнага кірунку ў гуманітарных навуках — беларусазнаўства, абуджэнню сярод еўрапейскіх навукоўцаў цікавасці да гістарычнага лёсу яго роднага народа. Разам з І.Даніловічам быў адным з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Менавіта Б. нанава адкрыў для беларускай і еўрапейскай навукі імя і справу Скарыны, звесткі пра якога даследчык збіраў усё сваё жыццё і ўключыў у «Гісторыю славянскіх друкарняў у Літве» («Историю славянских книгопечатен в Литве»), што так і не была надрукавана. Пра гэту працу сярод навукоўцаў хадзілі легенды. Першым у друку ў 1870 яе згадаў польскі бібліёграф К.Эстрайхер. Вучоны-патрыёт, Б. адчуў тое сапраўды нацыянальнае, а галоўнае стратэгічна адпаведнае для паспяховага развіцця роднай культуры, што пакінуў у спадчыну Скарына, які на досвітку Адраджэння абвясціў старабеларускую мову і беларускі народ цалкам раўнапраўным і сярод іншых еўрапейскіх моў і народаў. Б. сабраў багатую бібліятэку. Яна стала першым спецыяльным зборам помнікаў беларускай старадрукаванай літаратуры. Асобныя кнігі з яго калекцыі зберагаюцца ў сховішчы Вільні, Масквы, Санкт-Пецярбурга. Пры жыцці Б. ўдалося надрукаваць толькі некалькі сваіх прац. Частка рукапіснай спадчыны знікла адразу пасля яго смерці, другая трапіла да бібліяфіла Ф.Транбіцкага, а потым разышлася па розных сховішчах. Большасць яе загінула ў гады 2-й сусветнай вайны.



Уцалелі толькі асобныя яго лісты, нататкі, матэрыялы, прызначаныя іншым асобам, якія зберагаюцца ў зборах Вільні, Кракава, Варшавы, Масквы, Санкт-Пецярбурга і інш.

*Літ.:* Бобровский П.О. М.К.Бобровский (1785—1848), учёный славист-ориенталист. Спб., 1889; Яго ж. К биографии М.К.Бобровского (славянского филолога-ориенталиста). Спб., 1890; Францев В.А. Польское славяноведение конца XVIII и первой четверти XIX ст. Прага, 1906; Станкевіч А. Магнушэўскі; Паўлюк Багрым; Баброўскі: (Да вытокаў бел. адраджэння). Вільня, 1937; Лабынцев Ю.А. Издания Франциска Скорины и других славянских первопечатников в библиотеке Супрасльского монастыря // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Яго ж. Михаил Бобровский — первый исследователь болгарского «Абагара» 1651 г. // Русско-болгарские связи в области книжного дела. М., 1981; Яго ж. Первая книга, напечатанная глаголицей, и её исследователь Михаил Бобровский: (К 500-летию начала книгопечатания глаголическим шрифтом) // Сов. славяноведение. 1983. №4; Яго ж. Пачатае Скарынам. Мн., 1990; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 38, 40—44.

*Ю.А.Лабынцаў.*

## **БАГАМОЛЕЦ** (Bohomolec) Францішак (29.1.1720 — 24.4.1784)

Драматург, публіцыст, выдавец. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Пасля заканчэння Віленскай акадэміі, дзе ўступіў у ордэн езуітаў, нейкі час працаваў настаўнікам. У 1747—49 вывучаў багаслоўе ў Рыме. Пасля вяртання з-за мяжы ўзначаліў групоўку езуітаў, якая імкнулася да пераўтварэнняў у народнай асвеце, да адраджэння польскага грамадства. Выкладаў рыторыку ў Віленскай, а з 1752 у Варшаўскай езуіцкіх калегіях. У Варшаве згуртаваў вакол сябе суполку з ліку свецкіх і духоўных прыхільнікаў рэформ, т. зв. «кузню Багамольца». Б. вылучаўся шматбаковай дасведчанасцю, добрым характарам, чулымі адносінамі да людзей. Адстойваў навуковыя здольнасці польскага народа, выступаў за адраджэнне польскай мовы. Заснаваў і рэдагаваў у Варшаве час. «Wiadomości Uprzywilejowane Warszawskie» («Варшаўскія прывілейныя навіны») і «Kurier Warszawski» («Варшаўскі кур'ер»), у якіх змяшчаў матэрыялы з Беларусі. Збіраў беларускія прыказкі і прымаўкі, якімі хацеў дапоўніць зборнік С.*Рысінскага*. Стварыў больш як 20 камедый для школьнага тэатра («Модныя кавалеры», «Хітры гаспадар», «Польскі парыжанін» і інш.), у якіх з пазіцый памяркоўнага асветніцтва крытыкаваў норавы ў Рэчы Паспалітай, заганы шляхты. Апублікаваў у серыі «Збор польскіх летапісаў» (т. 1—4, 1764—88) хронікі Бельскага, М.*Стрыйкоўскага*, Кромера, А.*Гваньіні*; выдаў пісьмы Я.Каханоўскага, П.Каханоўскага, Любамірскага, М.*Сарбеўскага*. Складаў таксама вершы.

## **БАГУСЛАЎСКІ** (Bogusławski) Канстанцін (12.9.1754 — 14.3.1819)

Рэлігійны і грамадскі дзеяч, філосаф, правазнавец, тэолаг, калекцыянер. Месца нараджэння невядома. Працаваў пераважна ў Вільні. Прафесар Галоўнай школы Вялікага княства Літоўскага, член Адукацыйнай камісіі. Закончыўшы курс навук у грамадскім вучылішчы ў Злачаве на Харкаўшчыне, уступіў у ордэн піяраў і быў выкладчыкам у іх школах у Міжрэччы на Валыні і ў Варшаве. У 1790 прызначаны прафесарам багаслоўя ў Віленскі універсітэт, у якім з 1804 па 1812 быў дэканам факультэта багаслоўскіх і маральных навук, і адначасова капеланам. Перайшоў па дазволе папы ў свецкае духавенства. Склаў зборнік біяграфій дзяржаўных дзеячаў Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай (Варшава, 1788, 2-е выд., Вільня, 1814). Сабраў больш за 200 партрэтаў знакамітых людзей краю. Пабудаваў для гэтай калекцыі асобны дом у Вільні. Пасля смерці Б. калекцыя была распрададзена з публічных таргоў. Аўтар кнігі «Пра дасканалае заканадаўства» (1786), у якой поруч з натуральным правам як асновай справядлівага заканадаўства разглядаў чалавека як адзінства двух субстанцый — матэрыяльнай і духоўнай. Падзяляў асветніцкае палажэнне пра рашаючую ролю адукацыі і навукі ў жыцці грамадства, што чым больш будзе адукаваны народ, тым дасканалей будуць яго законы. Б., як і

І.*Страйноўскі*, абгрунтоўваў неабходнасць канстытуцыйных форм кіравання, крытыкаваў самадзяржаўе і арыстакратычную алігархію. Асветніцкая накіраванасць адчувалася ва ўсёй яго творчасці, лекцыйным курсе і ў рабоце адукацыйнай камісіі.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 224—225; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977; Бирало А.А.Философские проблемы в науке эпохи Просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## БАЗІЛЕВІЧ Мануіл (?—?)

Усходнеславянскі драматург і паэт 18 ст. Верагодна, паходзіў з Беларусі. Вучыўся ў Кіева-Магілянскай акадэміі. У 1750 па просьбе смаленскага епіскапа Г.Вішнеўскага разам з іншымі навучэнцамі накіраваны ў Смаленскую духоўную семінарыю, дзе выкладаў курс паэтыкі і рыторыкі. На ўзор твораў сваіх настаўнікаў В.Лашчынскага і Г.*Каніскага* тут ён напісаў з пазіцый царкоўна-рэлігійнай маралі і хрысціянскіх ідэалаў дыдактычную драму-маралітэ «Дэкларацыя». Карыстаючыся алегарычнымі вобразамі (Цнатлівасць, Чысціня, Асалода) і міфічным вобразам Вакха, аўтар выступаў супраць такіх адмоўных сацыяльных з'яў, як п'янства, грашалюбства і прадажнасць суддзяў, спачувальна ставіўся да бедных і зняважаных, сцвярджаў думку пра неабходнасць маральнага ўдасканалення чалавека. Пастаноўка гэтай п'есы суправаджалася сатырычна-гумарыстычнымі інтэрмедыямі з развітым дыялогам, якія разыгрываліся ў перапынках паміж дзеячамі драмы. Захаваліся 2 інтэрмедыі на гутарковай беларускай мове, выпісаныя з рукапісаў, што бытавалі ў смаленскай школе. Яны створаны самім Б. або яго вучнямі. Гэтыя творы вылучаюцца сацыяльнай завостранасцю, рэлігійным скептыцызмам, цеснай сувяззю з рэальным жыццём. Не апублікаваны яго твор «Паэтыка» захаваўся ў некалькіх рукапісах (курсы, што чыталіся ім у 1752—53 і 1753—54 навучальных гадах), адзін з іх у Маскве ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Расіі.

*Тв.:* Драматическое произведение XVIII века, найденное в рукописях Смоленской духовной семинарии // Киевская старина. 1897. №7—8, 9; [Селянін у касцёле; Селянін на споведзі]: (Інтэрмедыі) // Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959; [Урывак з паэтыкі]; «Signo sanctae cvucis vincituv hostis animae», «Eiusdem cavminis polonica carmina», «Judici inigua», «Epitaphia infantibus»: [Вершы] // Lewin P. Wyklady poetyki w uczelniach rosyjskich XVIII w. [1722—1777] a tradycje polskie. Wrocław etc., 1972.

*Літ.:* Ахрыменка П. Летапіс братэрства. Мн., 1973. С. 45—46; Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 316—319; Усікаў Я. Беларуская камедыя: Літ.-крытыч. нарысы. Мн., 1979. С. 61—64.

*З.У.Драздова.*

## БАКА Юзаф (18.3.1707—2.5.1780)

Паэт, каталіцкі прапаведнік. Нарадзіўся на Міншчыне ў сям'і мсціслаўскага скарбніка Адама Бака. У 1740-я гады жыў у Мінску. Потым вёў місіянерскую дзейнасць у Навагрудку і Вільні. Аўтар напісанага ў стылі барока паэтычнага зборніка «Заўвага аб непазбежнай смерці» (1766), дзе побач з усхваленнем звышнатуральных сіл і асуджэннем «марнасці быцця» крытыкаваў прыгоннікаў, якія не дбаюць пра сваіх сялян. Быў папулярны на Беларусі і ў Літве ў 18 ст. Стыль вершаскладання Б. выкарыстоўвалі В.*Дунін-Марцінкевіч* і У.*Сыракомля*.

## БАНДЗЕВІЧ Антон (?—?)

Выкладчык філасофіі і логікі ў Гродне ў 18 ст. У 1751 ён прачытаў у Гродне курс лекцый «Філасофія арыстоцеліка-скотаўская...», а ў 1757 выдаў пад такой жа назвай трактат, у якім своеасабліва тлумачыліся асобныя праблемы логікі і натурфіласофіі. У гэтым курсе ў адрозненне ад папярэдніх услед за логікай выкладалася натуральная філасофія, ці навука аб целах, — фізіка. Аўтар падрабязна разглядае сістэмы Гасендзі і Дэкарта і падкрэслівае, што мэтай логікі з'яўляецца ўказанне агульных шляхоў да ісціны. Абапіраючыся ў сваіх пошуках на працы Арыстоцеля, Б.Скота і найноўшых філосафаў, Б. распрацоўваў сістэмы ўзаемаадносін простых, складаных, мадальных, часовых, гіпатэтычных і інш. тыпаў выказванняў.

Ён ускладніў заканамернасці іх адносін у лагічным квадраце: уводзіў у сярэдзіну кантрарных ці кантрадыкторных адносін кан'юнкцыю і дыз'юнкцыю (напр., «І Пётр чытае і Павел гаворыць», «Або Пётр чытае, або Павел гаворыць»). Разглядаў і схемы процілеглых выключэнняў («Толькі Пётр бяжыць, і толькі Пётр бяжыць і ніхто іншы не бяжыць»), кантрарныя выказванні («Толькі Пётр не бяжыць і Пётр не бяжыць і кожны іншы не бяжыць»), кантрадыкторныя меркаванні («Не толькі Пётр бяжыць, ці не Пётр бяжыць, ці ніхто не бяжыць») і г.д. Тут кан'юнкцыя, дыз'юнкцыя, некаторыя функтары, паняцці нулявых мностваў ужываюцца ва ўскладненых спалучэннях. У 2-й частцы яго твора традыцыйна разглядаецца праблема універсаліі. Адхіляючы асноўныя канцэпцыі (платанічную, тамістычную і наміналістычную), Б. спыняецца на супярэчнасці паміж наміналізмам і рэалізмам. Калі Фама Аквінскі прыпісаў любой «натуры» трайное існаванне (да адзінкавых рэчаў, у час і пасля іх існавання), дык Б. сцвярджаў, што універсаліі не існуюць па-за адзінкавымі рэчамі, яны не існуюць і да рэчаў. На наміналістычную пазіцыю Б. паўплывалі развіццё прыродазнаўства і новая метадалогія даследаванняў.

Філасофскія погляды Б. выкладзены ў раздзеле «Натуральная філасофія, або Навука аб целах, — фізіка». Тут ён адстойвае існаванне першапрычыны і першарухавіка, прытрымліваючыся поглядаў Арыстоцеля, не пагаджаецца з сістэмамі атамістаў Леўкіпа, Дэмакрыта, Эпікура і Гасендзі, з меркаваннем «новых аб першай матэрыі», выказвае думку пра існаванне некаторых пунктаў сіл прыкладання, г. зн. развівае тэорыю дынамізму. З пункту погляду Б., тэорыя «элементаў матэрыі», якая ўзыходзіць да антычнасці, у прынцыпе можа быць абвергнута «вучэннем атамістаў аб атамах», таму што яна недастаткова зручная. Пасля вывучэння тэорыі Р.Дэкарта ён прыйшоў да высновы, што «сістэма Дэкарта або элементы сістэмы Картэзія — гэта фікцыя». Разглядаючы розныя сістэмы пабудовы сусвету, Б. схіляўся да прызнання сістэмы Ціха Браге, але не асуджаў і вучэнне Каперніка, ён імкнуўся знайсці кампраміснае рашэнне, вызначаючы абедзве сістэмы як магчымыя гіпотэзы. У радзеле «Псіхалогія» аўтар трактата разважаў пра сутнасць душы, разглядаючы яе як самастойную, незалежную субстанцыю, якая падаравана чалавеку Богам. *Р.Н.Дожджыкава.*

## БАРТАШЭВІЧ (Bartoszewicz) Антоні (13.6.1726—20.10.1768)

Педагог, доктар філасофіі, выкладчык граматыкі, рыторыкі і гісторыі езуіцкіх калегій у Вільні і Слуцку. Нарадзіўся на Віленшчыне. У 1764 — кіраўнік друкарні ў Нясвіжы. У сваіх прамовах, апублікаваных у 1759, выказаў думку пра навучанне і выхаванне моладзі. Лічыў, што ў рэфармаваных езуіцкіх навучальных установах робіцца ўсё магчымае для найлепшага навучання і выхавання. Абвінавачваў шляхту ў занядбанні школьнай справы, лічыў, што пашыранае ў той час дамашняе выхаванне прывівае моладзі негатыўныя адносіны да навукі і школы.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971. С. 127.

## БАРТОЛЬД Кароль (1680—1745)

Выкладчык езуіцкіх навучальных устаноў Рэчы Паспалітай. Нарадзіўся ў Мазовіі. На працягу многіх гадоў выкладаў у навучальных установах Варшавы і Вільні. У 1735—37 быў рэктарам Віленскай акадэміі, у 1738—41 займаў пасаду правінцыяла Літоўскай правінцыі езуітаў. Б. накіроўваў барацьбу езуітаў з піярамі за ўплыў на народную асвету. Па яго ініцыятыве ў езуіцкіх навучальных установах уведзена выкладанне гісторыі і геаграфіі як асобных прадметаў. У 1721, калі быў прафесарам Віленскай акадэміі, у Брунсбергу выйшаў яго твор «Апісанне дзяржаўнага ладу Польскага каралеўства...», які ўяўляў сабой кароткую гісторыю Польшчы. Пра цікавасць да гэтага твора ў Рэчы Паспалітай сведчыць тое, што ён вытрымаў 5 выданняў. Б. не ўзнімаў пытанне пра змену дзяржаўна-прававога ладу Рэчы Паспалітай, выступаў за захаванне шляхецкіх свабод.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971. С. 43—44.

## **БАРЭЙКА** Юзаф (1729—1762)

Прафесар красамоўства Віленскай шляхецкай калегіі, перакладчык Цыцэрона на польскую мову. Месца нараджэння невядома. У 1763 у Вільні выйшла яго праца «Навука пра красамоўства» (выходзіла двойчы), якая складалася з трох самастойных частак: свабоднага выкладання рыторыкі Цыцэрона, разважанняў пра карысць, што прыносіць моладзі вывучэнне красамоўства, і падборкі ўзорных прамоў дзяржаўных дзеячаў Рэчы Паспалітай. Асновы красамоўства выкладзены Б. уперамежку з разважаннямі пра значэнне і мэты навучання і выхавання, пра ролю настаўніка, месца навукі ў жыцці грамадства, неабходнасць палітычных рэформ. З роспаччу гаварыў пра заняпад Рэчы Паспалітай. Глыбока ўсведамляючы неабходнасць выхаду духоўнай культуры Рэчы Паспалітай са стану дэпрэсіі, лічыў за неабходнае павышаць ролю навукі ў жыцці грамадства, гаварыў пра непазбежнасць рэформ. У канцы кнігі заклікаў моладзь настойліва авалодваць ведамі, бо гэта дасць магчымасць з часам упарадкаваць дзейнасць сеймаў і сеймікаў і іншых дзяржаўных органаў, умацаваць міжнародны аўтарытэт Рэчы Паспалітай. Усё гэта збліжае Б. з асветнікамі Беларусі і Літвы апошняй трэці 18 ст. Ідэі перадавых прадстаўнікоў грамадскай думкі па пытаннях народнай асветы, выхавання, навукі і культуры атрымалі далейшае развіццё ў асветніцкай ідэалогіі.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971. С. 128—129.

## **БЕКЮ** Аўгуст (3.5.1771 — 26.7.1824)



Урач, педагог. Нарадзіўся ў г. Гродна. Айчым польскага паэта Ю.Славацкага. Вучыўся ў Гродне і Кёнігсбергу. Скончыў Галоўную Віленскую школу (з 1803 — Віленскі імператарскі універсітэт), дзе ў 1789 атрымаў ступень доктара філасофіі, у 1793 — доктара медыцыны. З 1797 працаваў там віцэ-прафесарам паталогіі, тэрапіі і фармакалогіі, з 1806 прафесар паталогіі, філасофіі, гігіены. У 1804 пасланы ў Шатландыю для даследавання прышчэпкі воспы. Вярнуўшыся адтуль, першы на Беларусі і ў Літве пачаў вакцынацыю супраць воспы. У 1807—12 быў членам школьнай камісіі, у 1809 папячыцелем школ. Асноўныя свае працы па шпітальнай справе і гігіене друкаваў у часопісе «Dziennik Wileński» («Дзённік Віленскі»). Удзельнік ліквідацыі тайнага патрыятычнага таварыства філаматаў у Віленскім універсітэце. Сярод абвінавачаных за прыналежнасць да філаматаў быў і А.*Міцкевіч*, які ў драматычнай паэме «Дзяды» вывеў Б. пад імем доктара, якога за непрыстойныя ўчынкі забівае маланка. Б. сапраўды загінуў ад удару маланкі.

*Тв.:* O wakcynie cili tak zwanej ospie krowiej. Wilno, 1803; Rozprawa doskonalości szpitalów. Wilno, 1807; O porządnem utrzymywaniu spitalów. Wilno, 1807; O łączeniu medycyny z chirurgią. Wilno, 1817.

*Літ.:* Bieliński J. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1—2. Kraków, 1899—1900.

**БЕЛАБЛОЦКІ** (магчыма, Белабоцкі) Андрэй (да праваслаўнага хрышчэння Ян) Хрыстафоравіч

Усходнеславянскі паэт і філосаф 2-й паловы 17 — пач. 18 ст. Скончыў слуцкую кальвіністкую гімназію, вучыўся ў Францыі, Італіі, Іспаніі, дзе авалодаў многімі мовамі. Быў кальвіністкім прапаведнікам у Слуцку, настаўнікам у Магілёве. З прычыны праследаванняў езуітамі вымушаны быў пераехаць у Смаленск, а ў 1681 — у Маскву, дзе прыняў праваслаўнае веравызнанне і змяніў сваё ранейшае імя (1682). У Маскве займаўся перакладчыцкай і літаратурна-педагагічнай дзейнасцю. У 1686—91 як перакладчык з лацінскай мовы з пасольствам Ф.Галавіна наведаў Кітай. Аўтар твораў «Кароткая гутарка літасці з ісцінай» (1685), «Вялікая навука Раймунда Люлія» і «Кніга філасофская» (1698—99) і інш. Да пераходу ў праваслаўе не прызнаваў афіцыйнай царквы, падвяргаў крытыцы Біблію. Веру лічыў асабістай справай кожнага чалавека. Філасофію ставіў вышэй за багаслоўе. У яго філасофскіх поглядах перапляталіся ідэі рацыяналізму, дэізму і пантэізму. Адстойваў адзінства душы і цела. Галоўны паэтычны твор Б. — паэма «Пентатэугум, або Пяць кніг кароткіх» — напісаны на стараславянскай мове, у якім адчуваецца ўплыў беларускай мовы. Крыніцамі пры напісанні «Пентатэугума» паслужылі творы нямецкіх паэтаў-лацiністаў М.Радэра, І.Ніса і Я.Бальдэ, а таксама іх польскія апрацоўкі. У паэме асуджаецца марнасць зямнога быцця, несправядлівы падзел даброт пры тагачасным ладзе, паразітызм пануючага класа, прадстаўнікі якога заканамерна павінны трапляць у пекла. «Пентатэугум» напісаны эмацыяльным, тыпова барочным стылем. Пяру Б. належаць пераклад першых дзвюх кніг трактата Фамы Кемпійскага «Аб наследаванні Хрысту». У розных крыніцах Б. часта блытаюць з польскім паэтам Янам Белабоцкім (каля 1600 — пасля 1661), які не меў дачынення ні да Беларусі, ні да Расіі.

*Тв.:* Краткая беседа милости со истиною: О божии милосердии и учении. [М.], 1712; Памятники древней письменности. Т. 18. М., 1878; Пентатеугум // Русская силлабическая поэзия XVII—XVIII вв. Л., 1970.

*Літ.:* Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 53—57, 59—61; Прашковіч М. Ян (Андрэй) Белабоцкі // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1; Горфункель А. «Пентатеугум» Андрея Белобоцкого // Тр. Отдела древнерусской литературы. М.; Л., 1965. Т. 21; Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 104—105; Подокшин С. Вольнодумец из Белоруссии Ян Белобоцкий // Молодые учёные и современная философская наука. Мн., 1964; Його ж. ...Ян Белобоцкий // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

**БЕРАНТ** (Berendt) Андрэй (1734—1805)

Дзеяч рымска-каталіцкай царквы на Беларусі. У маладыя гады прыбыў у Вільню і тут у 1754 уступіў у ордэн езуітаў. Быў настаўнікам у школах езуітаў у Навагрудку, Мінску, прафесарам філасофіі і матэматыкі ў Полацку. Пасля ліквідацыі ордэна езуітаў (дата ?) застаўся ў Мсціславе прыходскім ксяндзом. Адсюль С.І.*Богуш-Сестранцэвіч* перавёў яго ў Магілёў, наблізіў да сябе і прызначыў канонікам толькі што арганізаванага магілёўскага капітула. У далейшым Б. фактычна кіраваў епархіяй. Пасля ўвядзення Богуша-Сестранцэвіча ў сан мітрапаліта быў прызначаны ў 1797 генеральным вікарыем, а затым магілёўскім епіскапам-суфраганам. За год да смерці пакінуў справы і жыў у вёсцы.

**БЖАЗОЎСКІ** (Brzozowski) Тадэвуш [24.10.1749—24.1(5.2).1820]

Дзеяч каталіцкай царквы, генерал ордэна езуітаў (з 1805), педагог. Нарадзіўся ў Польшчы. Уступіў у ордэн у 1765. Вывучаў мовы, філасофію і прыродазнаўчыя навукі ў езуіцкіх школах у Слуцку і Нясвіжы, скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1775). Быў настаўнікам у ваяводскай школе ў Мінску. У 1782 перасяліўся ў Полацк, дзе выкладаў у езуіцкім навіцыяце, займаўся перакладамі, стаў вядомы як

прапаведнік. З 1797 сакратар, з 1802 асістэнт ордэна. Узначаліўшы ордэн пасля смерці Г.Грубера, Б. працягваў яго палітыку актыўнага пашырэння ўплыву езуітаў у Расіі і прапаганды каталіцызму шляхам утварэння новых і ўмацавання існуючых місій, калегій, навучальных установ ордэна, для чаго выкарыстоўваў пэўныя сімпатыі да езуітаў ва ўрадавых колах (А.К.Разумоўскі, А.М.Галіцын) і езуіцкай партыі ў Пецярбургу (сардзінскі пасланнік і публіцыст Ж. дэ Местр, блізкі да Аляксандра I сенатар А.І.Ілінскі і інш.). У выніку яго намаганняў у 1808 з Пінска ў Полацк былі перанесены астанкі езуіта А.Баболі, закатаванага ў 1657 казакамі. Вяршыняй поспехаў Б. было ўтварэнне ў 1812 Полацкай езуіцкай акадэміі і вывядзенне навучальных установ з падпарадкавання Віленскай навучальнай акрузе. У час Айчыннай вайны 1812 езуіты трымаліся падкрэслена лаяльна: Б. пераехаў з Полацка ў Пецярбург, езуіцкія ўстановы ў Полацку, Віцебску, Оршы з набліжэннем французаў зачыняліся. Аднак з 1813 адносіны ордэна з расійскім урадам пагоршыліся. Б. адмовіўся стаць членам Біблейскага таварыства, куды па жаданні цара ўвайшлі многія праваслаўныя іерархі, а таксама каталіцкі мітрапаліт С.*Богуш-Сестранцэвіч*. Пры аднаўленні ў 1814 ва ўсім свеце ордэна езуітаў Б. захаваў сваё месцазнаходжанне ў Пецярбургу. У снежні 1815 езуітаў выслалі з Пецярбурга, і цэнтральная адміністрацыя ордэна вярнулася ў Полацк, дзе Б. памёр. Неўзабаве пасля яго смерці 13(25).3.1820 быў прыняты закон аб высылцы езуітаў з Расіі.

*Літ.:* Wiadomośc o zyciu, pismach i smierci J.X.Tadeusza Brzozowskiego, generała jezuickego // Miesięcznik połocki. 1820. №2; M a i s t r e J. de. Lettres et opuscules inédits. T. 1—2. Paris, 1851.

*Б.В.Антонаў.*

### **БЖАСТОЎСКІ** (Brzostowski) Павел Ксаверы (30.3.1739—17.11.1827)

Грамадскі і дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага і Польшчы 2-й паловы 18 ст., аўтар аграрных рэформ. Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду, прадстаўнікі якога ў 16—19 ст. адыгрывалі значную ролю ў дзяржаўным і грамадскім жыцці Беларусі, Літвы, Польшчы. Быў віленскім канонікам (1755). Каб атрымаць вышэйшую адукацыю, паехаў у Рым, дзе прабыў 3 гады. Пасля вяртання на радзіму прызначаны вялікім пісарам літоўскім. У 1767 купіў маёнтак Мерач у Віленскім ваяв. Убачыўшы забітасць, цемнату і беднасць купленых ім сялян, Б. вырашыў заняцца паляпшэннем жыцця сваіх прыгонных. У 1769 стварыў у сваім маёнтку нешта накшталт рэспублікі, дзе сяляне карысталіся асабістай свабодай і самі кіравалі сваёй абшчынай; прэзідэнтам абшчыны быў сам Б. Заканадаўчая ўлада ў ёй належала сойму. Тут існавалі «міністэрства фінансаў», свае грошы, войска і іншыя інстытуты, а прынятая «канстытуцыя Мерачы», перайменаваная потым у гонар гаспадара ў Паўлаву, была зацверджана ў 1791 каронным соймам. Паншчына ў Мерачы (пазней Паўлава) была заменена чыншам, існавалі школа і лекарская дапамога. Падзеі, што адбываліся ў т. зв. «Паўлаўскай рэспубліцы», адлюстраваны ў творы невядомага аўтара пад загалоўкам «Паўлава ад 1767 да 1795, адным хатнім прыяцелем апісанае» (Варшава, Вільня, 1811, на польскай мове). У 1794 Б. прадаў маёнтак, некалькі гадоў вандраваў за мяжой, потым вярнуўся на радзіму, дзе і памёр. Аўтар публіцыстычных твораў і генеалагічнага нарыса пра Бжастоўскіх (Вільня, 1776).

### **БЖАСТОЎСКІ** Цыпрыян Павел (1612—1688)

Дзяржаўны дзеяч, дыпламат. Нарадзіўся ў сям'і палкоўніка войска Вялікага княства Літоўскага. Адукацыю атрымаў у Віленскай акадэміі. Служыў пры двары канцлера Вялікага княства Літоўскага Альбрэхта Радзівіла. З 1648 віленскі стольнік, з 1650 рэферэндар літоўскі, з 1684 ваявода трокскі, староста мядзельскі, ашмянскі, быстрыцкі, дэпутат сойма ад Упіцкага пав. У 1658, 1661—64 у складзе дыпламатычных місій (у 1667 як камісар Рэчы Паспалітай) удзельнічаў у перагаворах з Рускай дзяржавай, якія скончыліся Андрусаўскім перамір'ем 1667. Быў прыхільнікам кандыдатуры рускага цара на польскі трон. У 1671—72 і 1679 выязджаў у

Маскву, каб заключыць саюз супраць Турцыі, удзельнічаў у падпісанні «вечнага міру» 1686. Ад маскоўскага цара атрымаў багата аздоблены абраз прасвятой Багародзіцы, які потым падараваў мінскім езуітам (яго сын Антон быў рэктарам Мінскай езуіцкай калегіі). Памёр у Варшаве, пахаваны ў Вільні. Пры жыцці вёў дзённікі пасольстваў, збіраў пісьмы, рэляцыі і інш. дакументальныя крыніцы. Пасля яго засталося 13 тамоў дакументальнага матэрыялу, які адышоў каралю Станіславу Аўгусту *Панятоўскаму*. Лёс гэтага збору невядомы.

## БІЛЕВІЧ Тэадор [сярэдзіна 17 ст. (?) — пач. 18 ст.]

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, філосаф. Адукацыю атрымаў у Віленскай акадэміі (1672—75). Займаў пасаду стольніка, потым земскага суддзі ў Заходняй Літве (на Жмудзі). У 1675 выдаў у Вільні сваю магістарскую дысертацыю «Філасофія рацыянальная, натуральная і маральная ў трох частках», напісаную пад кіраўніцтвам прафесара І.Садкоўскага. У 1677 Б. у складзе світы падканцлера Вялікага княства Літоўскага Міхала Казіміра Радзівіла падарожнічаў па Германіі, Чэхіі, Італіі. У Венецыі ён пакінуў світу і працягваў падарожжа самастойна, наведаў Францыю, Нідэрланды і Англію. У 1678 вярнуўся на радзіму і паступіў на дзяржаўную службу. Вёў «Дзённік», у якім апісваў свае ўражанні. Фрагменты «Дзённіка» выдадзены ў 1929.

Б. не быў прафесійным філосафам. Яго «Філасофія...» — гэта хутчэй за ўсё пераказ курса філасофіі, якую ён вывучаў у Віленскай акадэміі. Але такая падача матэрыялу мае пэўную каштоўнасць, паколькі дае ўяўленне пра змест тых праблем, што разглядаліся на філасофскім факультэце, і пра адзін з кірункаў філасофскай адукацыі ў Літоўска-Беларускай дзяржаве ў 2-й палове 17 ст. Праца цікавая яшчэ тым, што Б. разглядаў філасофію з пункту погляду «грамадскага дабра». Ён імкнуўся акцэнтаваць увагу на праблемах сацыяльна-этычных, даказаць «карысць» філасофіі ў справе выхавання асабістых і грамадскіх дабрачыннасцей. У гэтым сэнсе яго можна лічыць прадаўжальнікам традыцыі, якая ў 1-й палове 17 ст. была прадстаўлена М.К.*Сарбеўскім*, С.*Лаўксмінам*, Л.*Залускім*. З усіх філасофскіх дысцыплін Б. аддае перавагу «філасофіі маральнай». Найбольш адэкватна ён імкнецца перадаць арыстоцелеўскае паняцце этычных праблем, у прыватнасці арыстоцелеўскага эўдэманізму, часта звяртаючыся да самога тэксту «Нікамахавай этыкі». У палітычнай праблематыцы ў Б. адчуваецца ўплыў ідэй Э.Ратэрдамскага, Меланхтона, Юста Ліпсія, Бадэна. Гэта тычыцца ў першую чаргу тэорыі «асветнага абсалютызму». Фізічная і лагічная праблематыка яго мала цікавілі.

*Літ.:* Чернышева Л.А. Латиноязычная традиция в культуре белорусского барокко // Белороссика. Мн., 1980; Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 154—155; Polski słownik biograficzny. Krakow, 1936. T. 11/1, 2. S. 101—102.

*Л.А.Чарнышова.*

## БІСІС Стафан (Bisio Stefan Wawrzyniec; каля 1720 — каля 1784)

Вучоны медык, філосаф, прадстаўнік прыродазнаўчага матэрыялізму на Беларусі 2-й паловы 18 ст. Нарадзіўся ў Венецыі. Вывучаў медыцыну ў Павіі, дзе ў 1746 абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны і філасофіі. Каля 1748 быў прафесарам лекарскага калегіума ў Турыне, потым займаўся ўрачэбнай практыкай у Венецыі. У 1763 па запрашэнні прыехаў у Вялікае княства Літоўскае і працаваў спачатку хатнім урачом у маёнтку каля Драгічына, потым у К.Радзівіла, празванага Пане Каханку. Каля 1772 быў урачом пры Віленскай акадэміі. У час знаходжання на Беларусі з 1770 выкладаў у Нясвіжы на секцыі паталагічнай анатоміі, эксперыментаваў на жывёлах у Вільні, меў дачыненне да стварэння анатамічнага кабінета пры Віленскім універсітэце. У 1779—80 у Львове. Пасля рэформы Віленскай акадэміі і стварэння асобнага медыцынскага калегіума ў 1781 прызначаны яго прафесарам і да 1782 узначальваў кафедру тэорыі ўрачэбнай анатоміі, а пазней кафедру фізіялогіі і анатоміі. У

1787 пакінуў універсітэт і вярнуўся на радзіму ў Італію. Аўтар некалькіх медыцынскіх трактатаў. Рашуча выступаў супраць умяшання рэлігіі ў медыцыну. Апублікаваў на лацінскай мове твор «Адказ С.Бісіса, доктара філасофіі і медыцыны, сябру філасофу на пытанні адносна меланхоліі, магіі і каўтуна» (1772), у якім з навукова-матэрыялістычных пазіцый падыходзіў да этыялогіі шэрага нервова-псіхічных захворванняў, тлумачыў іх паходжанне пэўнымі паталагічнымі зменамі нервовай сістэмы. Б. лічыў, што галоўную ролю ў псіхіцы адыгрывае мозг, асабліва яго крывяносныя сасуды. Нягледзячы на тое, што аб'ектыўнае яго вывучэнне вышэйшай нервовай сістэмы ў той час было ў зародкавым стане, погляды Б. можна безумоўна разглядаць як спробу матэрыялістычнага тлумачэння духоўнай сферы.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 236.

## **БОГУШ** Францішак Ксаверы Міхал (1.1.1746—4.4.1820)



Філасаф, гісторык, тэолаг, пісьменнік Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся ў Вількамірскім пав. Віленскага ваяв. Скончыў езуіцкі калегіум і Віленскую езуіцкую акадэмію. Пасля забароны ордэна езуітаў (1773) працаваў хатнім настаўнікам у А.*Тызенгаўза*, наведаў разам з ім Германію, Францыю, Італію. Пасля адстаўкі Тызенгаўза жыў у Вільні, быў прэлатам, каад'ютарам віленскім, прэзідэнтам Трыбунала цывільнага, займаўся навукай. Выступаў супраць Таргавіцкай канфедэрацыі. За ўдзел у Барскай канфедэрацыі (быў яе генеральным сакратаром) і ў паўстанні А.Т.*Касцюшкі* быў інтэрніраваны ў Смаленску. Пасля вяртання ў Вільню стаў прэлатам, з 1803 — генеральным інспектарам літоўскіх школ. З 1804 жыў у Варшаве, цалкам прысвяціў сябе навуцы. Ганаровы член шматлікіх еўрапейскіх навуковых таварыстваў. Аўтар твораў «Філасаф без рэлігіі» (1785), «Пра пачатак народа і мовы літоўскай» (1808), «Літаратурнае жыццё М.Пачобута», «Пахвала Іахіму Храптовічу», «Успаміны пра Антонія Тызенгаўза» (1820) і інш.

У ліку найважнейшых светапоглядных пазіцый Б. былі наступныя: вызваліць сялянства з-пад прыгону, наблізіць мяшчан у іх прававым становішчы да шляхты, заахвочваць духавенства да таго, каб веданне рэлігійных догматаў пашыралася, а вера была адзінай, г. зн. каталіцкай, і такім чынам аб'яднаць край на аснове аднадумства. Склаў план напісання гісторыі польскага народа, але здзейсніць яго не паспеў. З мэтай лепшага вывучэння мінулага лічыў неабходным праводзіць археалагічныя раскопкі, у прыватнасці, на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Многія працы Б. засталіся неапублікаваныя. Пісаў на польскай мове. Памёр у Варшаве.

*Г.А.Маслыка.*

## **БОГУШ-СЕСТРАНЦЭВІЧ** Станіслаў Іванавіч (3.9.1731—1.12.1826)

Беларускі палітычны і царкоўны дзеяч, вучоны-славіст, пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Занкі Ваўкавыскага пав. Гродзенскага ваяв. (цяпер Свіслацкі р-н) у сям'і шляхціцаў пратэстанцкага веравызнання. Дзядзька В.*Дуніна-Марцінкевіча*. Вучыўся ва універсітэтах Круляўца (цяпер Калінінград), Франкфурта, Амстэрдама, Лондана.

Пасля вучобы ў Франкфурцкім універсітэце служыў афіцэрам у прускім гусарскім палку, а потым перайшоў у Літоўскую гвардыю. У 1761 выйшаў у адстаўку і займаўся выхаваннем дзяцей князя Радзівіла, у доме якога перайшоў у каталіцтва. Пасля заканчэння ў 1763 Галоўнай школы піяраў у Варшаве пасвечаны ў ксяндзы. Служыў настаяцелем у Гомелі і Бабруйску, канонікам у Вільні, дзе ўзведзены ў сан епіскапа-суфрагана. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) і далучэння ўсходняй часткі Беларусі да Расіі прызначаны епіскапам беларускім, у 1782 — архіепіскапам, кіраўнікам беларускай каталіцкай епархіі, а потым мітрапалітам усіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі. Кацярына II дамаглася для яго ад рымскага папы правоў на знак кардынала, Павел I узвёў яго ў званне камандора Вялікага Крыжа св. Іаана Іерусалімскага. Нягледзячы на самыя высокія рангі і саны ў царкоўнай іерархіі, быў абыякавы да рэлігіі, выступаў супраць разумовага прыгнёту і схаластыкі ў навуцы. Выступаў праціўнікам езуітаў і, апіраючыся на падтрымку расійскіх імператараў, вёў барацьбу з экспансіяй Ватыкана на ўсход. Намаганнямі езуітаў у 1800 Б.-С. высланы з Пецярбурга, але праз год вярнуўся і стаў папскім прымасам. Быў шырока адукаваным чалавекам, дасведчаным у літаратуры, гісторыі, аграноміі і медыцыне, займаўся даследаваннем многіх гуманітарных праблем. У коле яго навуковых інтарэсаў былі праблемы паходжання славян, прапаганда ідэй асветніцтва і гуманізму. Асаблівую ўвагу надаваў даследаванню Беларусі. З 1813 — прэзідэнт Вольнага эканамічнага таварыства, член Расійскай акадэміі навук і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Свае аўтарытэт, высокія пасады па лініі духоўнай службы і сродкі ён часта выкарыстоўваў на пашырэнне асветы. Яго намаганнямі адкрыта значная колькасць новых школ на Беларусі, ахвяраваў свой дом у Пецярбургу пад гімназію. На свой кошт Б.-С. пабудаваў у Пецярбургу касцёл св. Станіслава. У перыяд знаходжання на пасадзе магілёўскага архіепіскапа (з 1782) заснаваў у Магілёве друкарню (Магілёўская прыдворная друкарня;



*Магілёўскі архіепіскапскі палац.*

дзейнічала ў 1774—97), дзе выдадзена больш за 50 назваў кніг на рускай, польскай, лацінскай і французскай мовах. Тут Б.-С. напісаў, паставіў і выдаў у 1783 трагедыю «Гіцыя ў Таўрыдзе». У 1793 выдаў у гэтай друкарні сваю гісторыка-краязнаўчую працу «Аб Заходняй Расіі», прысвечаную пытанням гісторыі ўсходнеславянскіх народаў, абгрунтаванню гістарычнай еднасці беларусаў, украінцаў і рускіх. Ён быў ініцыятарам выдання календароў («Каляндар беларускіх намесніцтваў на 1783 г.», «Каляндар беларускі» 1784—95). Сярод яго найбольш грунтоўных даследаванняў і выданняў «Гісторыя Таўрыды» (т. 1—2, Браўншвейг, 1800, рускі пераклад, Спб., 1806), «Гісторыя сарматаў і славян» (т. 1—4, Спб., 1812), «Даследаванне аб паходжанні рускай мовы», «Літоўская граматыка» (мелася на ўвазе граматыка беларускай мовы; не выдадзена). Ёсць падставы сцвярджаць, што Б.-С. аўтар «Беларускай граматыкі» (рукапіс пакуль не знойдзены). Ён напісаў шмат вершаў, драматычных твораў на польскай і лацінскай мовах, выдаў значную колькасць твораў у сваім перакладзе з еўрапейскіх моў. Спадчыну Б.-С. часткова выдаў у 1872 А.*Вярыга-Дарэўскі.*

*Літ.:* Краткое начертание деятельной и трудовой жизни... Станислава Богуша-Сестренцевича. Спб., 1825; Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974.

*І.П.Хаўратовіч.*

## БРЭТЭ Якуб Антоні [Briôtet Jakub Antoni (1746—25.5.1819)]

Вучоны медык, хірург, прадстаўнік прыродазнаўчага матэрыялізму на Беларусі канца 18 ст. Паходзіў з Францыі. Працаваў хірургам у шпіталі ў Ліёне. З 1768 на працягу 10 гадоў быў празектарам і дэманстратарам анатоміі ў шпіталі ў Парыжы, а затым у 1777 у Вільні, пры Галоўнай літоўскай школе, дзе ў 1780 выкладаў хірургію. З 1781 выконваў абавязкі дэманстратара пры кафедры фізіялогіі і анатоміі, набыў вялікую папулярнасць як выдатны хірург і акушэр. У 1787 атрымаў дыплом доктара медыцыны і хірургіі і пасаду прафесара практычнай хірургіі, у 1791 — патэнт генеральнага хірурга



войск Вялікага княства Літоўскага. Член-карэспандэнт Парыжскага медыцынскага таварыства, член Віленскага таварыства ўрачоў. Па даручэнні Віленскага універсітэта заснаваў у 1808 хірургічную клініку, якой кіраваў да 1811. Па ўласнай ініцыятыве арганізаваў навучанне малодшага медыцынскага персаналу, пры гэтым заняткі па анатоміі праводзіў на польскай мове. У далейшым многія з яго вучняў сталі знакамітымі ўрачамі. У 1788—89 апублікаваў на французскай мове свае лекцыі па практычнай хірургіі і назіранні за хворымі. Насуперак поглядам рэлігіі на хваробу як боскую кару сцвярджаў, што захворванні выклікаюцца пэўнымі матэрыяльнымі прычынамі. Памёр і пахаваны ў Вільні.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 235.

## БУДЗІЛА Іосіф (?—?)

Беларускі мемуарыст 17 ст., мазырскі харунжы, адзін з кіраўнікоў маскоўскага гарнізона войск Ілжэдзмітрыя II. Меў багаты жыццёвы і вайсковы вопыт. У 1611—12 удзельнічаў у захопе і ўтрыманні Масквы. Пасля здачы Масквы сасланы ў Ніжні Ноўгарад і зняволены (1612—19). У выніку абмену палоннымі вярнуўся на

радзіму. Адзін з аўтараў «Дзённіка падзей, что адносяцца да «Смутнага часу» (1603—13) — своеасаблівага летапісу ваенных паходаў і баёў, якія адбыліся з часу з'яўлення на палітычнай арэне Лжэдзмітрыя I і да разгрому абложаных у Маскоўскім Крамлі польска-літоўскіх войск апалчэннем К.Мініна і Дз.Пажарскага. Уласнае апавяданне Б. пачынаецца ў гэтым летапісе з запісу ад 6.9.1607, г.зн. з часу з'яўлення яго ў стане войск Ілжэдзмітрыя II, вядомага ў расійскай гісторыі як «самазванец» і «тушынскі злодзей». Аўтар — здольны апавядальнік, мог зацікавіць чытача сваімі асабістымі назіраннямі, а часам і скалыхнуць уяўленне тымі жахамі, сведкам якіх ён быў, як, напрыклад, страшэнная карціна голаду ў стане абложаных, дзе даходзіла да канібалізму.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 211—212.

## **БУДНЫ** Беняш

Дзеяч беларускай культуры канца 16 — пач. 17 ст., пісьменнік, перакладчык і каментатар твораў антычных аўтараў. Нарадзіўся, верагодна, у мяст. Лоск (уладанне Кішкаў) або паблізу яго на Віленшчыне, пра што сведчаць яго словы з прадмовы да трактата Цыцэрона «Пра дружбу»: «У мяне перад вачыма заўсёды стаіць прыклад добрай памяці яснавяльможнага пана Кішкі, кашталяна віленскага, майго і шматлікіх іншых годных людзей апекуна». Скончыў Кёнігсбергскі пратэстанцкі універсітэт, дзе ў 1588 запісаўся як «Веніямін Будны, родам з Літвы». Жыў пры двары беларускіх магнатаў — навагародскага ваяводы Фёдара Скуміна і яго пляменніка Адама Храптовіча. З 1594 служыў аканомам у Мікалая Крыштофа Радзівіла. Вызначаўся мяккім памяркоўным характарам, гуманна абыходзіўся з сялянамі, пра што сведчаць яго лісты да Радзівіла. Займаўся пераважна пісьменніцкай і перакладчыцкай дзейнасцю. Пераклаў на польскую мову трактат Цыцэрона «Пра старасць» і выдаў яго з прадмовай у 1595 у Вільні ў друкарні Яна Карцана. У 1603 выйшла 2-е выданне гэтага трактата. У 1599 у той жа карцанаўскай друкарні выйшла фундаментальная праца Б. «Кароткія і ясныя аповесці, якія па-грэчаску называюцца Апафегматамі». Гэта філасофска-этычныя сентэнцыі з нагоды вучэння ці жыцця антычных філосафаў і палітычных дзеячаў. Крыніцай «Апафегматаў» паслужылі творы антычных пісьменнікаў Дыягена Лаэрцкага, Плутарха, Цыцэрона і інш. Другое выданне «Апафегматаў», як мяркуе даследчык А.І.Анушкін, выйшла таксама ў Віленскай друкарні Карцана ў пач. 17 ст. У 1614 гэта кніга выдадзена ў трэці, а потым і ў чацвёрты раз у беларускім мястэчку Любча ў друкарні Пятра Кміты. Любчанскае выданне значна пашырана за кошт дадатковых філасофскіх матэрыялаў. «Выдаючы зноў гэтыя кнігі, — пісаў П.Кміта, — я дапоўніў іх апісаннем жыццяпісаў і вучэнняў некаторых філосафаў, якіх раней не было». Пасля Любчы «Апафегматы» Б. перавыдаваліся 6 разоў у Кракаве. У пачатку 18 ст. на буднаўскія «Апафегматы» звярнуў увагу Пётр I. Па яго загадзе яны былі перакладзены на рускую мову і ў 1711 надрукаваны ў Маскве. У 1712 выйшла 2-е, а ў 1716 3-е і 4-е рускія выданні гэтага твора. Потым «Апафегматы» перавыдаваліся ў Расіі яшчэ некалькі разоў. У 1603, а потым і ў 1606 у друкарні Карцана надрукаваны перакладзены Б. на польскую мову твор Цыцэрона «Пра дружбу».

Свае погляды Б. выкладаў у прадмовах і каментарыях, таму стыль яго свабодны, імправізаваны. Думкі свае ён выказваў «з нагоды», «на маргінесе», у працэсе інтэрпрэтацыі думак і твораў антычных пісьменнікаў і мысліцеляў. Характар пісьменніцкай дзейнасці Б., яго творы сведчаць пра секулярызацыю грамадскага жыцця і культуры Беларусі канца 16 — пач. 17 ст., усё большую цікавасць да свецкай думкі, антычнай філасофіі. Характэрная асаблівасць інтэрпрэтацыі Б. — тэндэнцыя да хрысціянізацыі антычнай этыкі, збліжэння яе з біблейскім маральным вучэннем. Ён мадэрнізаваў вучэнне антычных філосафаў, набліжаў яго да хрысціянства. «Калі Фалеса запыталі, — пісаў Б., — што было раней за ўсё, той адказаў: Бог, бо ён не мае пачатку». У адносінах да грамадскага жыцця Старажытнай Грэцыі і Рыма Б. ўжываў такія тэрміны, як «гетман», «пан», «бурмістр», «кароль», «касцёл» і да т.п. Але ж гэта было не

сведчаннем адсутнасці ў мысліцеля пачуцця гістарызму, а імкненнем злучыць эпохі, знайсці ў іх нешта агульнае, вечнае. Як і іншыя беларускія мысліцелі (С.Кашуцкі, С.Будны, А.Волан, Я.Казаковіч, Сімяон Полацкі і інш.), Б. спрабаваў на аснове сінтэзу духоўных каштоўнасцей антычнасці і хрысціянства выпрацаваць агульначалавечыя прынцыпы і нормы маралі, карысныя для ўсіх эпох. Гэтыя экуменічная і гуманістычная тэндэнцыі зафіксаваны ў яго прадмове да «Апафегматаў»: «У гэтых кнігах (маюцца на ўвазе кнігі антычных пісьменнікаў і філосафаў. — рэд.) змяшчаюцца вучэнне і прыклады, вельмі карысныя для ўсіх саслоўяў. Дзіўна тое, што яны і нам, хрысціянам, здаюцца ісціннымі... Гэтыя людзі, якія яшчэ не азораны вучэннем хрысціянскага Евангелля і валодаюць толькі святлом прыроднага розуму, не толькі самі дабрачынна жылі, але і вялі і падахвочвалі да ўсялякіх дабрачыннасцей, прыгажосці і прыстойнасці іншых людзей». У выніку Б. прыходзіць да высновы, што, каб весці дабрачыннае жыццё, не абавязкова быць хрысціянінам. Натуралізм — характэрная рыса этычных поглядаў Б. Як і стоікі, ён лічыў, што чалавек павінен жыць у адпаведнасці са сваёй прыродай, г.зн. разумна і маральна. Розум павінен спалучацца з ведамі. У пацвярджэнне гэтай думкі Б. прыводзіў прыклад, што Арыстоцель часта гаварыў сябрам і вучням: як позірк атрымлівае святло ад паветра, так і розум атрымлівае святло ад ведаў. Этычны ідэал Б. — мудрэц-філосаф. Менавіта філасофія ўзнімае чалавека да ўзроўню ідэалу, вучыць правільна паводзіць сябе ў жыцці. «Філосаф, — пісаў Б. ў «Апафегматах», — не баіцца нікога і нічога, нават смерці. Ён павінен гаварыць праўду нават наймагутнейшаму чалавеку, таму што філосаф — свабодны чалавек». Аспектам мудрасці ён лічыў уменне проціпаставіць сваё, ісціннае суджэнне агульнапрынятым, але памылковым думкам ці поглядам натоўпу. Дабрачыннасці — гэта пераважна набытыя якасці. Яны фарміруюцца ў выніку пазнання, самавыхавання, маральнага самаўдасканалення, выпрацоўкі ўмення падпарадкаваць афекты розуму. Толькі той, хто пануе над сваімі пачуццямі, падпарадкоўваючы іх розуму, можа дасягнуць сапраўднай свабоды і шчасця. Каштоўнасць жыцця, паводле Б., у свабодзе і годнасці: «Дзе няма свабоды, там няма і шчасця». «Многія, — пісаў Б., — лічылі шчаслівым Калісфена, які быў у вялікай ласцы ў Аляксандра. Дыяген жа гаварыў пра яго: ён няшчасны жабрак, бо вымушаны абедаць і вячэраць тады, калі гэта захочацца цару».

Шчасце знешняе (багацце, слава, знатнасць), сцвярджаў Б., — нетрывалае. Напр., Салон адмовіў Крэзу ў праве называцца шчаслівым чалавекам і аказаўся пракрокам: Кір разбурыў яго царства і адабраў у яго ўсё багацце. Толькі неразумны аддае перавагу матэрыяльным і вонкавым каштоўнасцям перад духоўнымі. Разумна ісці ўслед за лёсам — гэта значыць клапаціцца не пра багацце і славу, а пра дабрачыннасць, веды, духоўнасць. Б. не адмаўляў зусім неабходнасці матэрыяльнага дабрабыту дзеля свабоднага і шчаслівага жыцця, але лічыў яго другарадным у параўнанні з дабрачыннасцямі і духоўнасцю. У адпаведнасці з хрысціянскай і стаічнай этыкай ён лічыў, што чалавек павінен задавальняцца тым, што мае, ведаць меру ў карыстанні матэрыяльнымі каштоўнасцямі. У вершы «На герб паноў Храптовічаў» сярод найбольш важных дабрачыннасцей Б. называў мужнасць, мудрасць, годнасць, чалавечнасць, шчодрасць, а таксама саслоўны гонар і знатнасць. Маральнымі заганамі лічыў непамяркоўнасць, несправядлівасць, баязлівасць, марнатраўства, сквапнасць і інш. Разам з тым Б. выказваў пэўную маральную талерантнасць, спасылаючыся на Гарацыя, які пісаў: «Хто без заган нараджаецца?! Той лепшы за іншых, у кім іх меней». Б. быў прыхільнікам ідэі адзінства маральнай свядомасці і паводзін чалавека. Услед за Сакратам, а таксама за евангелістам Матфеем ён сцвярджаў: рабі тое другому, што самому сабе жадаеш. Менавіта на гэту этычную максіму ў свой час спасылаўся і Ф.Скарына. Адной з цэнтральных катэгорый этыкі Б. лічыў дружбу, якую ў прадмове да цыцэронаўскага трактата «Пра дружбу» назваў вялікай дабрачыннасцю. У якасці прыкладу спасылаўся на дружбу Арэста і Пілада, Ахіла і Патрокла, Палук-

са і Кастара і інш. Цікавіла яго таксама праблема старасці. У прадмовах да твора Цыцэрона «Пра старасць» («Фёдару Скуміну» і «Да Сарматыі») Б. пісаў, што старасць будзе падобная да маладосці, калі чалавек з юнацкіх гадоў паводзіць сябе дабрачынна і паміркоўна. А калі стары чалавек хворы ды яшчэ жыве ў галечы, то лепш яму памерці. Перавагу ён аддаваў хрысціянскай маралі, імкнучыся спалучыць яе з этычным вучэннем стоікаў, у прыватнасці Цыцэрона. Аднак пазітыўна ставіўся ён і да некаторых элементаў эпікурэізму, напр. падзяляў сцвярджэнне Эпікура пра тое, што пажадана пазбягаць пакут, што празмерная асалода не прыносіць чалавеку задавальнення. Лепей праводзіць свой час «у добрапрыстойных сяброўскіх гутарках», чым «у вясёлай кампаніі з жанчынамі».

Спрабаваў Б. асэнсаваць і такі грамадскі інстытут, як мецэнацтва. Звяртаючыся да Фёдара Скуміна, ён пісаў: «Сярод людзей, якія займаюцца навукамі, існуе старажытны звычай: кнігі, што выдаюцца, прысвячаць сваім дабрадзеям, пра якіх ходзіць чутка, што яны вельмі паважаюць музы і навукі... Так, знакаміты філосаф Арыстоцель прысвячаў некаторыя працы свайму гаспадару, Вергілій свае «Георгікі» — вяльможнаму пану Мецэнату. Цыцэрон таксама прысвячаў свае творы знатным людзям. І я вырашыў пайсці па гэтым шляху і прысвяціць свае кнігі Вашай міласці... Неабходна, каб людзі бачылі, што навука і чытанне займаюць у Вашай дзейнасці не апошняе месца. Вядома, што простым людзям падабаецца займацца тым, што паважаюць знатныя асобы і паны». У прадмове, прысвечанай Адаму Храптовічу, Б. пісаў, што быць апекуном вучоных і пісьменнікаў — гэта вялікі гонар. Толькі дабрачынны, адукаваны чалавек, які любіць сваю Бацькаўшчыну, можа заслужыць такі гонар. У сваю чаргу пісьменнікі, мастакі, вучоныя, прысвячаючы мецэнатам свае творы, робяць іх імёны бессмяротнымі. Так, Храптовіча ён называў «высакародным рымлянінам», у доме якога звілі гняздо сяброўства і добразычлівасць, пачцівасць і шчоднасць побач з іншымі добрымі якасцямі».

Б. не толькі імкнуўся зрабіць чалавека лепшым, чым ён ёсць, але і лічыў яго найвялікшай каштоўнасцю. «Забіць чалавека, — пісаў ён, — або адняць у яго здароўе невялікі подзвіг. Гэта можа зрабіць просты разбойнік або атрута з цыкуты. Вялікім можна было б назваць таго, хто вынайшаў спосаб вярнуць чалавеку жыццё».

*Літ.*: Анушкін А. Лёс аднае кнігі // Полымя. 1969. №9; Порецкий Я., Пренская Ю. «Апофегматы» Беняша Будного // Неман. 1970. №11; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977. С. 36—51; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн.,1990; Лужный Р. Древнепольская традиция в литературе русского Просвещения // XVIII век. Сб. 10. Русская литература XVIII в. и ее международные связи. Л., 1975; Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki: W kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. Poznań, 1965. *С.А.Падокшын.*

## БЫКОЎСКІ Ігнацій Якса (1750—1817)

Паэт, пісьменнік, драматург, перакладчык, мемуарыст, асветнік. Нарадзіўся ў в. Пяцеўшчына Мінскага р-на. Сын Мацея Быкоўскага — падстолія браслаўскага і Багумілы з Свентаржэцкіх. Вучыўся ў езуітаў у Мінску, з 1765 у піяраў у Віцебску разам з польскім паэтам Ф.Д.*Князьніным*, які адыграў значную ролю ў творчасці Б. У 1772—75 служыў у расійскай арміі, што пад кіраўніцтвам А.Суворава ваявала супраць туркаў. У гэтай вайне загінуў яго родны брат, а ён сам цяжка захварэў і быў адпраўлены на лячэнне ў родныя мясціны. З выздараўленнем адбылося і духоўнае адраджэнне: ён пачаў пісаць вершы, паэмы, займацца перакладамі (часта раіўся з Князьніным, захаваліся лісты, якія характарызуюць духоўны настрой Б.). У 1787—88 надрукаваў цыкл вершаў «Вясковыя вечары» (ч. 1—2) у духу сентыменталізму. Адначасова перакладаў з французскай, рускай і нават з усходніх моў. Б. — аўтар паэтычнага зборніка «Вершы» (1798), паэмы «Вясковыя ночы» (1788), аповесці «Клаўдзіна» (1799), успамінаў «Жыццё Ігнацыя Быкоўскага...» (1806) і інш. На польскую мову ў 1788 ён пераклаў творы А.Сумарокава «Мсціслаў» і

А.Попа «Украдзены локан», у 1799 — Вальтэра «Наніна», Ж.Мармантэля «Велізарый». Некаторыя арыгінальныя і перакладныя кнігі Б. выдадзены на Беларусі: «рускі раман» А.Канстанта д'Арвіля «Эма і Лемазаў» (Гродна, 1787), «Батмендзі, персідская аповесць» (Мн., 1790), «Сцежка да шчасця, мала каму вядомая» (Гродна, 1803). Многія творы Б. засталіся ў рукапісах. Як літаратар шмат у чым наследаваў класікам сентыменталізму. Самастойны характар маюць яго філасофскія разважанні «Праблема, прапанаваная для вырашэння...» (Мн., 1790), у якіх ён падзяляе ідэі французскіх асветнікаў і матэрыялістаў (асабліва К.А.Гельвецыя), асобныя іх сюжэты ўключыў у твор цалкам. Б. — гуманіста і пісьменніка з чулым сэрцам — абражае празмернае багацце адных і пакуты простага чалавека, які не можа знайсці нідзе паратунку (у гэтым адчуваецца нешта «тутэйшае», што пазней натхняла вялікіх дэмакратаў Беларусі ад *К.Каліноўскага* да Я.Купалы). Таму светапогляд Б. можна разглядаць як мясцовы асветніцка-сентыментальны варыянт арыгінальнай думкі. Чалавек — частка прыроды, адносна ўраўнаважаная сістэма, у якой спалучаюцца пазітыўныя і адмоўныя эмоцыі. Чалавек створаны так, што не можа не спачуваць іншаму чалавеку, толькі сапсаваная яго сутнасць можа мець задавальненне ці нават асалоду ад пакут сабе падобнага. Для Б. каштоўнасць чалавека абсалютная, ніякія догмы і «вышэйшыя меркаванні» не вартыя таго, каб пазбавіць чалавека жыцця. Нават Бог не можа быць апраўданы, калі ён патрабуе ахвяры. Адзін з герояў яго твора «Жыццё Зараастра, ці Паходжанне гвебраў» трапляе ў краіну, дзе народам кіруюць фанатычныя жрацы. І калі ў адным з гарадоў наважыліся прынесці ў ахвяру жыццё дзяўчыны, Зараастр спыняе забойства прамовай: «Не ведаю яшчэ ні законаў вашых, ні багоў, але калі яны патрабуюць крывавых злачынстваў, то яны не што іншае, як хімера, створаная ўяўленнем». Гэта ўжо асветніцкі гуманізм, які не можа нікому дараваць замах на чалавечае жыццё, нават багам. Цікавасць да чалавечай сутнасці бярэ верх над павагай да Свяшчэннага пісання. Б. выступаў супраць усякага зла ці злачынства, што творыцца па рэлігійных матывах. У трагедыі «Саул» ён асуджаў жорсткасць і амаральнасць некаторых персанажаў Бібліі. Святло эпохі Асветніцтва адбілася на светапоглядзе Б. і на яго творчасці. Па духу думкі і сэрца яму блізкія такія паэты, як Ф.*Карпінскі* і Князьнін, з якімі ён быў добра знаёмы, якія склалі на Беларусі своеасаблівае духоўнае супольніцтва і зрабілі прыкметны ўплыў на «тутэйшы» сентыменталізм. Мабыць, яны адчулі пэўныя імпульсы беларускай ментальнасці і часткова яе ўвасобілі ў сваіх творах філасофска-публіцыстычнага жанру. Паэтычна-экзістэнцыянальным жалем аб загубленым жыцці прасякнуты радкі аўтабіяграфіі Б. «Жыццё...» (засталося ў рукапісе), у якім паказаны абсурднасць шмат чаго з пераж ытага, панаванне несправядлівасці, удачы несумленных і гора прыстойных людзей. У лістах да Князьніна Б. скардзіцца на калечанне дзіцячых душ у езуіцкім ордэне (у Віцебскай езуіцкай школе), з чым пагаджаецца і Князьнін у сваіх вершаваных фрагментах у лісце да Б. Гэты духоўны канфлікт адбіўся на ўсім жыцці паэта. У канцы жыцця ён апынуўся перад безданню духоўнага крызісу. Але праз трагізм існавання ў Б. льецца святло надзей на чалавечую годнасць, шляхетнасць, прыстойнасць, мужнасць і справядлівасць.

*Літ.*: Mikulsky T. Ze studiów nad Oświeciniem: Zagadnienia i facty. Warszawa, 1956. *Э.К.Дарашэвіч.*

## **БЯРЫНДА** Памва [? — 13(23).7.1632]

Дзеяч усходнеславянскай культуры, вучоны-лексікограф, друкар, гравёр, пісьменнік. Звестак пра адукацыю, месца вучобы, нацыянальнасць, месца нараджэння не захавалася. Пісаў вершы, лісты, празаічныя прадмовы і пасляслоўі. З апошніх відаць, што Б. валодаў беларускай, старaславянскай, украінскай, грэчаскай, лацінскай, яўрэйскай і інш. мовамі. Пэўны час займаўся выдавецкай справай у Львове, потым быў архітыпографам славянскай друкарні пры Кіева-Пячэрскай лаўры. Кніга Б. «На рождество господа бога и спаса нашего Іісуса Христа вѣршѣ» (Львоў, 1616) акрамя калядных вершаў уключыла творы «На Стефана



ЛЕѮІКОНЪ,
Славенороссскій.
Именъ толкованіе,
Велицѣстнымъ отцемъ Кѵр: Памвон Берындою
Протосѵнкелломъ Ѳрон: Іерлимского,
Згромаженый.
А за позволеніемъ старшихъ, Первіе в Кіевѣ: Е: Вѣ:
Лаври Печерскіа Кіевскіа.
А теперъ з Типографіи Общежителнаго
Монастыра:
КУТЕИНСКАГО.
Тщаніемъ тоежде Обители Іноков,
Типомъ издася.
В лѣто: ѿ Р. Хва, ахнг.
Мца Септ: ві дна.

«Лексікон» П.Бярынды (тытульны ліст). 1653.

Первомученика», «На обрѣзаніе господне», «З евангеліа на обрѣзаніе господне», «З ламенту над Васіліем вешким», «На святыя Феофаніа альбо богоявленіа». Яна мае прысвячэнне львоўскаму епіскапу Ераміі Цісароўскаму, у канцы якога аўтар выказвае думку пра патрэбу кнігадрукавання: «Кгды бы ся с книг хвала божаа помножала!» Верш «На Стефана Первомученика» характарызуе Б. як паэтаграмадзяніна. Евангелічная гісторыя сведчыць, што Стафан быў асвечаным элліністам, горача прапаведаваў новае вучэнне, за што царкоўныя фанатыкі абвінавацілі яго ў богазневажанні. З евангельскага апавядання Б. бярэ толькі вобраз мужнага байца «Кротый крви своеі для вѣры не лѣтовал // и для гонитв менжых сам ся впрод короновал. // Вшелякую боязнь от себе отложивши, // З непрятальми ся Христовыми зразивши, // Фуріи ся орхіереов не боячи, // анѣ о их ласку и бы наймнѣй стоячи». Вобраз Стафана-першапакутніка выклікаў у сучаснікаў асацыяцыю з пісьменнікам-палемістам С. *Зізаніем* , які першы ўзняўся супраць украінска-беларускіх царкоўных іерархаў, што далі згоду на унію праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. У вершы «На обрѣзаніе господне» Б. звяртаецца да дзяцей з просьбаю не забываць хрысціян, герояў і рабіць такія патрыятычныя ўчынкі, як яны. У Кіеве Б. выдаў «Анфалагіён» (1619), «Гутаркі Іаана Златавуста на 14 пасланняў апостала Паўла» (1623) і інш. Самы значны твор Б., над якім ён працаваў 30 гадоў, — двухмоўны «Лексіконъ славенороссскій и имен тлъкованіе» (Кіеў, 1627, 2-е выд. ў 1653 у Куцейне каля Оршы, пад рэдакцыяй і з прадмоваю І.*Труцэвіча* ).

У 16—17 ст. на Беларусі і Украіне шырока карысталіся кнігамі на царкоўнаславянскай мове. У школах на ёй выкладалі розныя дысцыпліны, вывучалі яе і як асобны прадмет. Але для шырокага кола чытачоў многія словы і формы царкоўнаславянскай мовы былі незразумелыя. Выкладчыкам і вучням брацкіх школ і наогул пісьменным людзям патрэбны быў перакладны слоўнік. Такія слоўнікі пачынаюць з'яўляцца ў 2-й палове 16 ст. Адной з найлепшых, самых поўных прац усходнеславянскай лексікаграфіі 17 ст. стаў «Лексіконъ...» Б., які змяшчае каля



Аршанскі Куцеінскі манастыр. З малюнка 19 ст.

7000 слоўнікавых артыкулаў. У ім 2 часткі — перакладны слоўнік іншамоўных слоў, агульных і уласных імёнаў, што сустракаліся ў тагачаснай літаратуры. Ён мае рысы тлумачальнага, энцыклапедычнага і этымалагічнага слоўнікаў. Асноўны матэрыял аўтар сабраў з друкаваных і рукапісных царкоўнаславянскіх кніг, але выкарыстоўваў і шмат даступных яму лексікаграфічных прац цалкам (напрыклад, «Лексіс» Л.*Зізанія*), кнігі Максіма Грэка, візантыйскага аўтара 15—18 ст., Мануіла Рытара, а таксама глосы (тлумачэнні на палях) з выданняў Ф.*Скарыны*, усходнеславянскія азбукоўнікі, заходнееўрапейскія лексіграфічныя выданні. Рэестр 1-й часткі слоўніка Б. складаюць царкоўнаславянскія і старарускія словы, сустракаюцца таксама словы з польскай, чэшскай, нямецкай, грэчаскай і лацінскай моў, шмат слоў беларускіх і ўкраінскіх. Наяўнасць іх тут сведчыць аб тым, што дзеячы культуры 17 ст. не заўсёды маглі правесці мяжу паміж царкоўнаславянскай і жывою народнай мовай, бо царкоўнаславянская зазнала значны ўплыў жывой народнай мовы, асабліва літаратурнай, якой карысталіся на беларускіх і ўкраінскіх землях у Вялікім княстве Літоўскім. Абсалютная большасць 2-й часткі слоўніка — словы іншамоўнага паходжання. Б. не толькі прыводзіць, але і тлумачыць фразеалагізмы царкоўнаславянскай мовы. Праца Б. — важная крыніца вывучэння слоўнікавага складу беларускай і ўкраінскай моў 17 ст. Яна мае вялікую каштоўнасць і таму, што ў ёй раскрываецца змест, які ўкладвалі ў царкоўнаславянскія словы культурныя дзеячы 16—17 ст. на Беларусі і Украіне, з'яўляецца добрым дапаможнікам для чытання беларускіх, украінскіх, рускіх помнікаў, пісаных царкоўнаславянскай мовай. Як важны помнік усходнеславянскай лексікаграфіі і крыніца для вывучэння старажытнай лексікі «Лексіконъ...» Б. перавыдадзены з выдання 1627 факсімільным спосабам у Кіеве (1961).

*Літ* .: Сычевская А.И. Памва Берында и его Вирши на рождество Христово и др. дни // Чтения в историческом обществе Нестора летописца. 1912. Кн. 23. Вып. 1; Коляда Г.И. Памва Берында и его «Лексикон славенороссийский» // Уч. зап. гос. пед. ин-та им. Т.Г.Шевченко. Филол. сер. Сталинабад, 1953. Вып. 3; Питання східно-слов'янської лексикографії XI — XVII ст.: Матеріали симпозіуму. Київ, 1979.

*І.У.Саламевіч.*

# В



## ВАЎЖЭЦКІ Тамаш (паміж 1753 і 1759 — 5.8.1816)

Грамадска-палітычны і вайсковы дзеяч Вялікага княства Літоўскага, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794. Нарадзіўся ў Браслаўскім пав. Харунжы браслаўскі. З маладых гадоў, калі працаваў у земскіх судах, набыў вядомасць як выдатны знаўца права і практык-юрыст. З 1782 падстароста, з 1784 падкаморы ковенскі. Пасол ад Браслаўскага пав. на Чатырохгадовым сойме 1788—92. На сойме далучыўся да дэмакратычнай плыні і разам з Ю.*Нямцэвічам* выступаў за паляпшэнне становішча сялян. У сваім маёнтку ліквідаваў паншчыну і даў сялянам волю. Адстойваў пашырэнне правоў мяшчанства. Разам з пінскім паслом Бутрымовічам распрацаваў ухваленую соймам (1789) рэформу мясцовага адміністрацыйнага кіравання ў Вялікім княстве Літоўскім і Кароне шляхам утварэння ваяводскіх і павятовых цывільна-вайсковых парадкавых камісій (пазней выкарыстаны А.Т.*Касцюшкам* як мясцовыя органы па кіраўніцтве паўстаннем 1794). Не жадаючы ўмешвацца ў барацьбу магнацкіх партый у Вялікім княстве Літоўскім, адмовіўся ад пратэкцыі польскага караля Станіслава Аўгуста *Панятоўскага* ў набыцці ўплывовай пасады падскарбія літоўскага. З 1790 харунжы літоўскі. У снежні 1790 выбраны ў склад дэпутацыі сейма па выпрацоўцы законапраекта аб правах «дысідэнтаў» (праваслаўных і пратэстантаў) у Рэчы Паспалітай. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792 быў радцам камандуючага літоўска-беларускай арміяй генерал-лейтэнанта Ю.Юдыцкага. Удзельнічаў у бітве пад Мірам. Актыўны ўдзельнік паўстання 1794 на Беларусі і ў Літве. 24.4.1794 пасля перамогі паўстання ў

Вільні ўвайшоў у склад Найвышэйшай Літоўскай рады — рэвалюцыйнага ўрада Літвы і Заходняй Беларусі. Прымаў удзел у арганізацыі віленскай муніцыпальнай гвардыі. З сярэдзіны мая 1794 адзін з кіраўнікоў паўстання на Жмудзі і ў Курляндыі. У канцы мая Касцюшка прызначыў яго сябрам Найвышэйшай Нацыянальнай рады ў Варшаве — галоўнага органа па кіраўніцтве паўстаннем у Рэчы Паспалітай. 20.6.1794 атрымаў ад Касцюшкі патэнт на званне генерал-лейтэнанта. У канцы верасня пад націскам намнога большых сіл расійскага войска вывеў рэшткі сваіх атрадаў са Жмудзі пад Гродна. Пасля паланення Касцюшкі выбраны «вышэйшым начальнікам» — кіраўніком паўстання на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Пасля капітуляцыі Варшавы трапіў у палон і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, дзе напісаў успаміны пра паўстанне. У снежні 1796 па амністыі імператара Паўла І вызвалены, вярнуўся на радзіму. З 1808 старшыня судова-адукацыйнай камісіі Віленскага універсітэта, адначасова ўзначальваў дабрачыннае таварыства ў Вільні. У канцы 1811 прымаў удзел у антынапалеонаўскім з'ездзе шляхты ў Вільні. У 1812 узначаліў Літоўскі цывільны камітэт па забеспячэнні харчаваннем расійскага войска. У час Айчыннай вайны 1812 знаходзіўся ў Санкт-Пецярбургу. Пасля вайны быў міністрам юстыцыі і пажыццёвым ваяводам у Каралеўстве Польскім. Памёр у Варшаве, пахаваны ў г.п. Відзы Браслаўскага р-на.

*Літ.*: Szynaeer B. Towasz Wawrzecki: Ostatni naczelnik powstania. Kosciuszkowskiego. Warszawa, 1976; Пракопчык Л. Генерал касінераў // Пракопчык Л. «Дрэмле памятка дзён...» Мн., 1991.

*У.П.Емельянчык.*

## ВАШЧАНКА Васіль Максімавіч (2-я палова 17 — 1-я палова 18 ст.)

Беларускі друкар, ксілограф, адзін з асноўных прадстаўнікоў магілёўскай школы гравіравання. Сын М.Я.*Вашчанкі*. Працаваў у 1694—1730 у друкарні Магілёўскага Богаяўленскага брацтва. Творы з подпісам «Василий В.», «Василий Вошчанка» сустракаюцца ў 7 кірылічных выданнях друкарні яго бацькі і Магілёўскага Богаяўленскага брацтва, датаваных 1699—1754. Аднак арыгінальныя падпісаныя гравюры В. змешчаны ў выданнях 1699—1730, а ў трох наступных выданнях выкарыстаны старыя формы. Чатыры падпісаныя дрэварыты В. ўпрыгожваюць тытульныя лісты кніг Іаанікія Галятоўскага «Неба новае» (1699), Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага «Перла мнагацэннае» (1699), Дзмітрыя Растоўскага «Жыціі святых» (1702), «Актоіх» (1730). Рамка тытульнага ліста да кнігі «Неба новае» вызначаецца незвычайнай кампазіцыяй у форме падвойнага круга з відарысамі сонца, месяца і зорак (побач з цытатамі з біблейскіх тэкстаў); у верхняй частцы змешчана выява Багародзіцы з анёламі. Рамку тытульнага ліста да кнігі «Жыціі святых» таксама вылучае трохчастковая




*Тытульны ліст кнігі «Жыціе святых».*

шматфігурная кампазіцыя, фігуры анёлаў і прапаведнікаў ствараюць своеасаблівы пастамент, над якім узвышаецца «антаблемент» — Св. Тройца. У ніжняй частцы выгравіравана рэдкая ў кірылічным друку свецкая мініяцюра з выявай Богаяўленскага брацкага манастыра, некаторых гарадскіх камяніц і надпісам «Град Могилев». Больш традыцыйна, у пэўнай ступені пад уплывам куцеінскіх выданняў, аформлены тытульны ліст да кнігі «Перла мнагацэннае» — у выглядзе трохбаковай рамкі з медальёнамі, у якіх змешчаны выявы святых, арханГела Гаўрыіла, Багародзіцы; у верхняй частцы Св. Тройца на своеасаблівым прастоле ў сонейкавым ззянні. Гэту гравюру ў спрошчаным выглядзе крыху нагадвае рамка тытульнага ліста да кнігі «Актоіх» з выявамі евангелістаў, Іаана Прадцечы, Багародзіцы і Хрыста. Акрамя рамак тытульных лістоў В. належаць яшчэ 2 падпісаныя ілюстрацыйныя гравюры: «Нараджэнне Хрыста» — добра скампанаваны маляўнічы дрэварыт з выявамі Багародзіцы, Св. Іаана, вешчуноў, укленчаных над спавітым дзіцем, а таксама буйнамаштабная ксілаграфія з відарысам Іаана Дамаскіна. Гэта лепшая з гравюр па выразнасці, экспрэсіўнасці, тэхніцы штрыхавога мадэліравання. Паводле мастацка-стылявых прыкмет працамі В. лічаць яшчэ 15 дрэварытаў, змешчаных у памянёных выданнях і ў кнігах «Дыоптра» (1698), «Акафісты ўсесядмічныя» (1698), «Благавешчанне», «Уваскрэсенне», «Успенне», «Тайная вячэра», «Страшны суд» і інш. Дрэварытам В. ўласцівы пластычнасць, кампазіцыйная разнастайнасць, перавага постацей чалавека над іншымі планамі, своеасаблівая тэхніка гравіроўкі, прастата ў трактоўцы вобразаў людзей, што набліжае іх да народнага выяўленчага мастацтва. У некаторых даследаваннях да гравюр В. памылкова залічваюць ананімныя дрэварыты іншых магілёўскіх майстроў [напр., «Успенне Багародзіцы» ў кнізе «Акафісты» (1698) мае подпіс магілёўскага гравёра Фёдара Ангілейкі]. Цікавым прыкладам выяўленчага мастацтва В. з'яўляецца «Палажэнне ў труну Хрыста» — антымінс 1708, надрукаваны ў той жа брацкай друкарні.

*Літ.*: Ж у д р о Ф. История Могилевского богоявленского братства. Могилев, 1890; Ш ч а к а ц і х і н М. Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII — пач. XVIII ст. Мн., 1925; Ш м а т а ў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI — XVIII стагоддзяў. Мн., 1984.

*Г.Я.Галенчанка.*

## ВАШЧАНКА
### Максім Ярмалініч (сярэдзіна 17 ст. — 1708)

Беларускі кнігавыдавец, друкар, гравёр. Паходзіў са старажытнага магілёўскага мяшчанскага роду. Яго бацька Ярмола Амяльянавіч быў радцам магілёўскага магістрата, гандляваў бабровым і інш. футрам з Масквой і інш. гарадамі. Купецкімі справамі займаўся і В., член магістрата, які збіраў падаткі з гараджан, суправаджаў абозы ў Варшаву з «квотай свентаянскай». Вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе атрымаў ступень бакалаўра філасофіі і вольных мастацтваў (1672), званне магістра навук (1673). У канцы 17 ст. В. наладзіў сувязі з Магілёўскім Богаяўленскім брацтвам, якое пасля Андрусаўскага перамір'я (1667) атрымала магчымасць узнавіць сваю друкарскую дзейнасць. Паводле прывілея караля і вялікага князя літоўскага Яна Сабескага (1676), брацтву дазвалялася заснаваць у «эканамічным горадзе» Магілёве друкарню для «вольнага» выдання кніг на польскай і «рускай» (беларускай, царкоўнаславянскай) мовах. На сродкі старэйшага і малодшага брацтваў друкарня была падрыхтавана да працы і часова перададзена пад кіраванне «шляхетнаму пану», радцу В. Ён перавёз друкарню ў свой дом і з 1690 перастаў плаціць за арэнду. Калі быў паслом ад Магілёва на каранацыі Аўгуста II (1698), атрымаў каралеўскі прывілей на друкарню. Пачалася доўгая цяжба з брацтвам. 10.12.1701 брацтва дамаглося новага прывілея на друкарню, у якім была засведчана юрыдычная неправамоцнасць іншых актаў. За процідзеянне брацтву ў яго друкарскай дзейнасці згаданы прывілей прадугледжваў значны штраф. Відаць, і пазней В. парушаў фінансавыя правы брацтваў, нягледзячы на тое, што ў справу ўмешваўся мітрапаліт. У снежні 1704 брацтва выклікала В. на новы судовы працэс, абвінаваціўшы яго ў прысваенні прывілея

брацтва і парушэнні ягоных фінансавых інтарэсаў за апошнія 14 гадоў. Старасты старэйшага і малодшага брацтваў прасілі зачыніць друкарню. Асабліва іх непакоілі звесткі пра тое, што В. выпрашыў распачаць новыя выданні: «Так как сейчас на погибель церковную решил друковать книг на несколько тысяч злотых, из-за чего сам обогащается, а церковь божия из-за недобора провенту значительно несет потери». У апошнія гады жыцця ён быў адхілены ад кіраўніцтва друкарскімі справамі. Заняпад дзейнасці друкарні пасля смерці В. сведчыць пра тое, што ў значнай ступені яна працавала дзякуючы яго нястомнай энергіі і сродкам. Захавалася 16 выданняў, надрукаваных В. у 1693—1704. На тытульных лістах 4 кніг ёсць адзнакі «з друкарні Максима Вошчанки»: «Диоптра, или Зерцало живота во мире сем человеческаго» (1698; твор амаль поўнасцю ўзнаўляе папярэдняе куцеінскае выданне); «Небо новое з новыми звездами сотворенное» (1699; побач з палемічнымі тэкстамі ўключала апокрыфы, легенды, фальклорныя сюжэты); «Перло многоценное» (1699); «Ирмолой, или Осмогласник» (1700). Разам з літургічнай і вучэбнай літаратурай В. друкаваў павучальныя творы рэктара Кіеўскага брацтва, украінскага пісьменніка Іаанікія Галятоўскага, чарнігаўскага архімандрыта і прапаведніка Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага. Мяркуючы па прадмове, выданне Стаўравецкага прызначалася прапаведнікам, шкалярам і студэнтам, якія «могут себе с той книги святой выбирать верши себе на потребу и творити з них орации розмаитые», а таксама ўсім іншым для богаўгоднага чытання і настаўлення. На большасці магілёўскіх выданняў канца 17 — пач. 18 ст. былі адзнакі: «в богоспасаемом граде Могилёве в друкарни братства Богоявления господа Бога нашего Исуса Христа тщанием Максима Вошчанки» ці «...стараням и коштом Максима Вощанки». Верагодна, канфлікт з брацтвам вымусіў В. выпусціць адно выданне з фальшывымі выхаднымі звесткамі: «Кірыл Транквіліён Стаўравецкі. Евангелле вучыцельнае. З друку на свет ново выдана. За позволенем старших в маетности еи милости княгине Вишневецкой Михайловой в Рохманове от Създания миру 7128, а от въплощения господня 1619». Фактычна, як устанавіў С.Маслаў, гэты збор пропаведзяў на царкоўныя святы надрукаваны ў Магілёве ў друкарні В. каля 1697.

Выданні В. ўпрыгожаны разнастайнымі застаўкамі, арнаментам, ініцыяламі, канцоўкамі; выкарыстоўваўся друк у 2 фарбы; пераважалі малыя, нават мініяцюрныя фарматы кніг (у $4^o$, $8^o$, $12^o$, $16^o$, $24^o$). Толькі 3 выданні выйшлі фарматам ў $2^o$: «Евангелле вучыцельнае» (1697), «Жыціі святых» (каля 1697) і асноўны твор Дзмітрыя Растоўскага, надрукаваны па благаслаўленні мсціслаўскага, аршанскага, магілёўскага епіскапа Серафіёна Палхоўскага. Як гравёр В. працаваў пераважна ў тэхніцы медзярыту. На думку В.Шматава, з гэтай тэхнікай В. пазнаёміўся ў Віленскай акадэмічнай друкарні. У адным толькі выданні «Акафісты і каноны» (1693) змешчаны 3 ілюстрацыі-ксілаграфіі (адбіткі) і 42 металагравюры. Большасць гравюр па медзі пазначаны ініцыяламі або подпісам: «M.W.», «Seulp M.W.», «Maximus Woszczunka Inwen et Seulp».

Гравюры, што ілюструюць евангельскія тэмы, выкананы ў стылі барока, маюць відавочную сувязь з нацыянальнымі жывапіснымі і іканапіснымі традыцыямі. Найбольш раннія з магілёўскіх медзярытаў В. датуюцца канцом 1670 — пач. 1680-х гадоў. У гэты ж перыяд сваёй дзейнасці ён актыўна супрацоўнічаў са Слуцкай друкарняй, якую ўзначальваў Казімір *Клакоцкі*. В. выканаў заказ на афармленне кнігі сакратара англійскага пасла ў Турцыі Поля Рыкота, які пакінуў адно з найбольш дакладных, цікавых і разнастайных апісанняў Атаманскай Порты 2-й паловы 17 ст. Медзярыты для «Манархіі Турэцкай, напісанай Рыко» (Слуцк, 1678) В. выконваў у Магілёве. У сукупнасці гэтыя ілюстрацыі ствараюць арыгінальны цыкл розных груп турэцкага насельніцтва. Усе яны выкананы на асобных аркушах (19 ілюстрацый), вызначаюцца дакладнай кампазіцыяй, пластычнасцю форм, маляўнічасцю. Многія гравюры В. (магілёўскіх цыклаў) выкарыстоўваліся ў брацкіх магілёўскіх выданнях да канца 1820-х гадоў. В. — заснавальнік магілёўскай школы гравіравання, якая ў значнай ступені абапіралася на мясцовыя тра-

дыцыі выяўленчага мастацтва і «артыстычнага» рамяства. З ім супрацоўнічалі яго сын Васіль, Фёдар Ангілейка і інш. майстры-ксілографы. Упершыню ў беларускім кнігадрукаванні гравёры пачалі сістэматычна падпісвацца пад сваімі творамі, змяніўся знешні выгляд кнігі, тэхніка і стыль афармлення.

*Літ.*: Жудро Ф.А. Богоявленский братский монастырь в г.Могилёве. Могилёв, 1899; Маслов С. К истории западнорусских типографий XVII века // Тр. XIV Археол. съезда в Чернигове 1909 г. М., 1911; Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки. Мн., 1969; Парэцкі Я., Прэнская Ю. Слуцкія гравюры Максіма Вошчанкі // Беларусь. 1969. №6; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны кат. Мн., 1986. С. 127—133. *Г.Я.Галенчанка.*

## ВІШАВАТЫ Андрэй (26.11.1608 — 29.7.1678)

Рэлігійны мысліцель і філасоф, адзін з вядучых дзеячаў беларускага, украінскага і польскага сацыніянства. Нарадзіўся ў маёнтку Філіпава Трокскага ваяв. ў шляхецкай сям'і. Бацька Станіслаў паходзіў з Падляшша, маці Агнешка — адзіная дачка Ф.*Соцына* і шляхцянкі са знатнага роду Марштынаў. У 1619—30 вучыўся ў вядомай Ракаўскай акадэміі (школа ў Сандамірскім ваяв.), рэктарамі і выкладчыкамі якой былі сацыніянскія тэолагі Я.Крэль, М.Руар і інш. Скончыўшы вучобу, В. працаваў хатнім настаўнікам у доме люблінскага ваяводы П.Тарлы. У 1631, атрымаўшы спецыяльную стыпендыю, разам з іншымі здольнымі выпускнікамі Ракаўскай акадэміі выехаў за мяжу, каб прадоўжыць адукацыю. У Гамбургу сустракаўся з Г.Гроцыем і вёў з ім рэлігійна-філасофскія размовы. Некалькі гадоў вывучаў вольныя навукі і тэалогію ў Лейдэнскім універсітэце. Пасля заканчэння універсітэта наведаў Амстэрдам, у 1637 быў у Англіі, потым у Парыжы, дзе сябраваў з французскімі вучонымі і філосафамі Гасендзі і Мерсенам, наведваў лекцыі, удзельнічаў у навукова-рэлігійных дыскусіях. У 1640—42 разам са сваім вучнем кальвіністам А.Сухадольскім падарожнічаў па Германіі, Галандыі, Францыі. Вярнуўшыся на радзіму, займаў пасаду міністра (прапаведніка) сацыніянскага збору ў маёнтку Шэршні Кіеўскага ваяв., прапаведаваў у зборах на Валыні (у Галічанах, Іваніцах, Кіселіне). Пасля забароны Люблінскім трыбуналам сацыніянскіх збораў і школ В. ў 1648 пасяліўся з сям'ёй у Седлішчы. У час ваенных дзеянняў казацкіх войск Б.Хмяльніцкага супраць Рэчы Паспалітай, вайны з Расіяй і Швецыяй, сялянскіх бунтаў і паўстанняў В., ратуючы жыццё сваёй сям'і, пераязджаў з месца на месца, страціў маёмасць, у т.л. бібліятэку. У 1655—57 ён жыў у Кракаве і працаваў над каментарыямі да Свяшчэннага пісання. Пасля прыняцця Варшаўскім соймам пастановы пра выгнанне сацыніян з Рэчы Паспалітай заставацца на радзіме стала небяспечна. У сакавіку 1660 ён удзельнічаў у дыспуце яго аднадумцаў з езуітам М.Ціхоўскім і інш. па пытаннях інтэрпрэтацыі Свяшчэннага пісання і Боскай Тройцы. Гэты дыспут апісаў А.Вянгерскі ў сваёй кнізе «Рэфармаваная Славонія». Пасля дыспуту адзін з езуітаў сказаў: «Калі б з пекла з'явіўся д'ябал, ён бы не змог больш цвёрда і ўмела абараняць сваю веру, чым Вішаваты». Кашталян, які прысутнічаў на дыспуце, прапанаваў В. прыняць каталіцызм і застацца на радзіме і нават хацеў падарыць яму фальварак Гродзек, але той адказаў, што лічыць за лепшае «страціць маёмасць і грамадзянскі гонар, чым чыстае сумленне».

У 1660 В. разам з сям'ёй перабраўся ў Сілезію, потым у Венгрыю, Германію, у 1666 — у Амстэрдам. Галоўнай рысай рэлігійна-інтэлектуальнага жыцця гэтага горада была талерантнасць, што абумовіла наяўнасць тут людзей розных веравызнанняў, філасофскіх поглядаў, шматлікіх канфесійных плыняў і сектаў. Менавіта тут знайшлі прытулак многія сацыніяне з Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Апошнія 12 гадоў жыцця, якія В. правёў у Амстэрдаме, былі найбольш плённыя ў яго творчасці. Тут напісаны асноўныя рэлігійна-філасофскія творы. Ён падрыхтаваў і на працягу 1665—69 выдаў на лацінскай мове фундаментальную серыю твораў многіх сваіх аднаверцаў пад назвай «Бібліятэка Польскіх Братоў» («Bibliotheca Fratrum Polonorum»), якая стала шыро-

ка вядомая ў Заходняй Еўропе. Каля 1677 В.напісаў свой галоўны твор «Аб рэлігіі, згоднай з розумам» («Preligio rationalis...», выдадзены ў 1685 пасля смерці аўтара). В. — аўтар шэрага прац па праблемах этыкі, логікі і філасофіі, з якіх захаваліся толькі асобныя. Перад смерцю ён раіў сваім сынам: «Трымайцеся ў жыцці, як і я, праўды і дабра».

Як мысліцель В. — прадаўжальнік рацыяналістычных рэлігійна-філасофскіх традыцый ранняга польскага і беларуска-літоўскага антытрынітарызму, галоўным чынам С.*Буднага*, а таксама свайго дзеда Соцына. На яго тэалагічныя і філасофскія погляды паўплывалі найбуйнейшыя філосафы і вучоныя, у т.л. Галілей, Дэкарт, Гасендзі, Спіноза, Кеплер і інш., творы якіх ён уважліва вывучаў. Рэлігійна-філасофская дактрына беларускіх, літоўскіх і польскіх радыкальных рэфарматараў (антытрынітарыяў, або арыян, якія ў канцы 16 ст. атрымалі назву сацыніян) была рацыяналістычна-гуманістычнай рэакцыяй на тэалагічнае вучэнне пануючай у той час каталіцкай царквы і сярэдневяковай схаластыкі. Яна была скіравана супраць традыцый і царкоўнага аўтарытэту, даючы індывіду права самастойна вырашаць рэлігійна-філасофскія і маральна-этычныя праблемы. На іх думку, змест і сутнасць тэалагічна-рэлігійных паняццяў павінны быць простыя, згодныя з розумам і тэкстамі Свяшчэннага пісання. Аднак і Свяшчэннае пісанне В. лічыў толькі нормай веры, згодна з якой індывідуальны розум можа мець сваё меркаванне, як у юрыспрудэнцыі, дзе норма права інтэрпрэтуецца суддзёй. У хрысціянскай супольнасці звычайна спасылаюцца на тры аўтарытэты, якія выносяць свой вырак ісціннасці Свяшчэннага пісання: папы або царкоўнага сабора (праваслаўныя, каталікі), Св. Духа (містыкі) і нармальнага, непашкоджанага розуму чалавека. В., як і ў свой час С.Будны, прыходзіць да высновы, што розум у стане аддзяліць рэлігійную ісціну ад памылковага погляду. Але ж ён мае свае межы, і таму боскае Адкрыццё, або Свяшчэннае пісанне, патрэбна для пазнання чалавекам таямніц веры, якія хоць і перавышаюць розум, але не супярэчаць яму. У рэшце рэшт розум здольны дайсці да галоўных рэлігійных ісцін уласнымі сіламі, кіруючыся натуральнымі сродкамі. Каб гэта адбылося, ён павінен быць вызвалены ад афектаў і забабонаў. Паводле В., аб'ект веры ёсць ісціна пра боскія рэчы, адкрытыя праз Бога ў Свяшчэнным пісанні. Хто не прымае ісціны Адкрыцця, таго можна пераканаць толькі лагічнымі, разумовымі аргументамі. Чалавечы розум — гэта натуральны інструмент, дадзены Богам для пазнання праўды і адрознення яе ад фальшу. Ён з'яўляецца інтэлектуальным святлом, унутраным вокам, таму абсурдным будзе прымаць за праўду тое, што супярэчыць розуму. Такім чынам, працэс веры В. параўноўваў са звычайнай інтэлектуальнай дзейнасцю. Што датычыць звышнатуральных таямніц, то іх праўдзівасць грунтуецца на наступных лагічных перадумовах: усё, што сказаў Бог, ёсць праўда; што змяшчаецца ў Свяшчэнным пісанні, сказаў Бог. Як філосаф В. прыходзіць да высновы, што розум можа дайсці да метафізічных ісцін і без дапамогі Адкрыцця. Але як хрысціянін ён лічыць, што ў справах веры Свяшчэннае пісанне неабходнае і патрэбнае. Пад уплывам Дэкарта В. пастуліруе, што ісціна ёсць тое, што мае рысы відавочнасці — выразнасць і зразумеласць (яснасць). Гэтымі рысамі валодаюць пэўныя ідэі і паняцці, якія маюць аксіяматычны характар і агульныя для ўсіх людзей. Менавіта яны адыгрываюць ролю крытэрыяў ісціны (праўды). Пад уплывам рацыяналізму 17 ст. В. паступова пераходзіць з тэалагічных на філасофскія пазіцыі, прызнаючы, што па-за Свяшчэнным пісаннем і незалежна ад яго чалавечы розум здольны да пазнання праўды і што гэта праўда, або ісціна, грунтуецца на падставах, уласцівых самому розуму. Па сутнасці гэта было абгрунтаванне незалежнасці філасофскага і наогул навуковага мыслення. У духу картэзіянскай філасофіі В. зрабіў спробу выкласці некаторыя лагічныя, метафізічныя і натуралістычныя аксіёмы розуму (тройчы адзін — тры, тры плюс адзін — чатыры, цэлае заўсёды большае за частку, душа без цела не з'яўляецца чалавекам і г.д.), на што звярнуў увагу П.Бейль. З поглядамі В.

наконт Святой Тройцы палемізаваў Г.Лейбніц. З рацыяналістычных пазіцый В. вырашаў пытанні. даверу да індывідуальнага розуму, памылак у пазнанні, адносін філасофіі да рэлігіі і інш. Аспрэчваючы думкі сваіх апанентаў, В. сцвярджаў: адны лічаць, што магчымасці чалавечага пазнання абцяжараны першародным грахом, другія — што абмежаваны боскай воляй, трэція — што чалавечы розум схільны да памылак. Тым не менш, мяркуе В., усе яны здольныя пазнаць аб'ектыўную ісціну, пра што сведчаць поспехі навукі — матэматыкі, фізікі, астраноміі і інш. Пры вырашэнні той ці іншай праблемы перш чым зрабіць выснову, неабходна грунтоўна і дакладна ўзважваць усе аргументы «за» і «супраць». Гэта тычыцца не толькі навукова-філасофскіх, але і рэлігійна-тэалагічных пытанняў. Таямніцы веры могуць перавышаць здольнасці чалавечага розуму, але яны яму не супярэчаць. «Так, — піша В., — вечнасць Бога або стварэнне з нічога (неіснаванне пачатку) ёсць таямніца, паколькі некаторыя мяркуюць, што інтэлект не здольны гэтага зразумець. Аднак розум даказвае, што гэта не толькі магчыма, але і неабходна як першапрычына. Тое, што Бог стварыў неба, зямлю, зоркі і да т.п., — гэта праўда, недаступная чалавечаму розуму, аднак якая не супярэчыць яму, асабліва, калі мы лічым, што Бог стварыў Сусвет не з нічога, а з неўпарадкаванай матэрыі». Рацыяналістычна-натуралістычны характар несла інтэрпрэтацыя сацыніянамі, і ў прыватнасці В., праблемы цудаў. І ў гэтым пытанні яны ішлі па слядах С.Буднага і па шляху Б.Спінозы, імкнучыся надаць біблейскім цудам натуралістычныя рысы. Так, В. наступным чынам тлумачыць евангельскі эпізод, калі раптоўна знікла сонца, каб супакоіць распятага на крыжы Хрыста: «Гэта магло адбыцца таму, што або сонца закрылася хмарамі, або з прычыны выпарэнняў, якія некаторыя матэматыкі называюць сонечнымі плямамі». Такая пазіцыя не была выпадковай, а сведчыла пра тое, што В. набліжаўся да вытлумачэння навакольнага свету ў духу сучаснай яму новай філасофіі і прыродазнаўства. У лістах да свайго калегі С.Любянецкага-малодшага ў 1665—66 ён сцвярджаў, што філасофія Арыстоцеля мала дапамагае тым, «хто дамагаецца пазнаць натуральныя рэчы на падставе даследавання саміх гэтых рэчаў і сузірання развіцця Вялікай кнігі Прыроды». Натуральныя з'явы, лічыў В., трэба інтэрпрэтаваць толькі пры дапамозе натуральных прычын. У прыватнасці, ён адхіляў думку тых вучоных, якія лічылі нябесныя каметы з'явай звышнатуральнай, а рух іх тлумачылі дзеяннем вышэйшых сіл (анёльскіх духаў). Падставай прыроды, паводле меркавання В., з'яўляецца яе ўнутраны рух, а не якія-небудзь вонкавыя, знешнія прычыны. Не адмаўляючы аўтарытэту Свяшчэннага пісання, В. тым не менш лічыў, што ўсе таямніцы Адкрыцця, якія не адпавядаюць патрабаванням выразнасці і яснасці, г.зн. асноўным прынцыпам рацыянальнага мыслення, павінны быць адкінуты. Менавіта гэтыя падставы розуму з'яўляюцца для В. крытэрыямі ісціны. В. крытычна ставіўся да ўсіх, хто імкнуўся розум падпарадкаваць веры. Ён быў перакананы, што сляпая вера не сапраўдная вера, а толькі легкавернасць і легкадумнасць, бо вера абапіраецца галоўным чынам на аўтарытэт, а веды — на прычынна-выніковыя сувязі. Нягледзячы на гэта, яны павінны не супярэчыць, а ўзаемна ўдакладняць адно другое. Так, існаванне Бога абгрунтоўваецца не толькі Біблiяй, але і аргументамі розуму. І звышнатуральнае (вера) і натуральнае (розум) святло паходзяць з адной крыніцы — ад Бога.

На думку В., ісцінная філасофія не можа супярэчыць вучэнню Хрыста. Калі антырацыяналісты спасылаюцца пры гэтым на словы паслання апостала Паўла да Каласянаў: «Глядзіце ж, как хто не захапіў вас філасофіяй», яны не ўлічваюць, што апостал яшчэ дадае «пустымі спакусамі», пад чым ён разумеў не праўдзівую філасофію, а псеўдафіласофію, сафістыку, якая сапраўды не адпавядае вучэнню Хрыста. Пад псеўдафіласофіяй В. разумеў галоўным чынам схаластыку. Філасофія ж не толькі не перашкаджае, але і дапамагае пазнаваць тэалагічныя рэчы. Той, хто адукаваны, ведае логіку, матэматыку і інш. натуральныя навукі, здольны пазнаць таямніцы рэлігіі, недаступныя чалавеку неадукаванаму.

Глыбокае пазнанне боскіх рэчаў немагчыма без ведання філасофіі. Больш таго, В. схіляўся да думкі, што чалавечы розум незалежна ад боскага Адкрыцця прыходзіць да некаторых метафізічных ісцін, якія маюць фундаментальнае значэнне ў справе пазнання. Хоць Свяшчэннае пісанне змяшчае ў сабе галоўным чынам маральнаэтычныя прынцыпы, тым не менш яно, на думку В., з'яўляецца разам з розумам асноватворнай падставай поглядаў на свет і чалавека. Такім чынам, погляды В. сведчаць, што думка сацыніян непасрэдна наблізілася да філасофіі і навукі Новага часу.

*Тв.*: O religii zgodnej z rozumem. Warszawa, 1960; Filozofia i myśl społeczna XVII wieku. Cz. 1—2. Warszawa, 1979.

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI — начало XVII в.). Мн., 1970; Его ж. Философские взгляды социниан // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Chmaj L. Andzej Wiszowaty jako działacz i mysliciel // Bracia Polscy. Ludzie. Idee. Wpływy. Warszawa, 1957; Ogonowski Z. Socynianizm polski. Warszawa, 1960; Яго ж. Socynianizm a Oświecenie. Warszawa, 1966.

*С.А.Падокшын.*

## ВОЛЬСКІ Мікола (1762—1803)

Мысліцель, гісторык, літаратар. Паходзіў са шляхецкай сям'і. Навучаўся ў Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага, дзе дзякуючы сваім станоўчым якасцям (добразычлівасці, добрай памяці і інш.), захапленню астраноміяй звярнуў на сябе ўвагу М.Пачобута-Адляніцкага стаў яго любімцам. Не адну ноч правялі яны ва універсітэцкай абсерваторыі, назіраючы за зорным небам. В. — аўтар вершаў, перакладаў і твораў па гісторыі. Яшчэ студэнтам ён апублікаваў свой першы твор «Mowa zowierająca uwagi nad pierwiastekowemi dziejami swiata...» («Прадмова, якая мае заўвагі пра першапачатковую гісторыю сусвету», Вільня, 1784). Пісаў вершы-панегірыкі, прысвечаныя Т.Масальскаму, А.Сапегу і інш., перакладаў з Юнга, Вергілія, Бамаршэ. Па рэкамендацыі Пачобута І.Храптовіч запрасіў В. на работу бібліятэкарам сваёй бібліятэкі ў Шчорсах. Праз жаніцьбу з Красуцкай, якая была прыяцелькай «першай кракаўскай пані» І.Бранеўскай, і не без пратэкцыі Пачобута В. наблізіўся да каралеўскага двара і ў хуткім часе ўвайшоў у ласку да Станіслава Аўгуста *Панятоўскага*, які надаў яму тытул камергера і прыцягваў да выканання розных даручэнняў ва ўрадавых камісіях, у прыватнасці да распрацоўкі мытных тарыфаў, цывільнага і крымінальнага кодэксаў. В. прымаў удзел у палітычнай барацьбе, пісаў публіцыстычныя творы, у якіх адстойваў праграму рэформ Рэчы Паспалітай, прапанаваную каралеўскім дваром. З Панятоўскім пасля яго адрачэння ад прастола ў 1795 накіраваўся ў Пецярбург і знаходзіўся пры былым каралі да яго смерці. Пакінуў у рукапісе ўспаміны пра апошнія дні караля. У канцы жыцця В. жыў у Беластоку, дзе і памёр.

Прысвячэнне «Прамовы...», з якім ён звяртаўся да сваіх калег па вучобе ў Галоўнай школе, В. пачынаў словамі: «Няма больш страшных для грамадзяніна свабоднага народа тыранаў, чым увядзенне ў зман і неасвечанасць». Па яго перакананні, нізкі ўзровень культуры і няведанне мінулага абарачаецца для народа вялікімі бедствамі. Гісторыю, лічыў ён, трэба вывучаць не дзеля забавы ці пашырэння сваіх ведаў, а каб надаць гэтай навуцы прыкладны характар, шырока выкарыстоўваць атрыманыя вынікі для ўдасканалення сацыяльнага жыцця. Гісторыя павінна накіроўваць свае намаганні на пазнанне «чалавечай прыроды», высвятленне прычын шчасця або гора людзей, павелічэнне трываласці дзяржаў ці іх заняпаду, «адшуканне ісціны і выкарыстанне яе з карысцю». В. зрабіў спробу адказаць на пытанні пра пэўныя прычыны развіцця чалавечага грамадства і паходжанне дзяржавы. Ён лічыў найважнейшай задачай высветліць, у якой ступені са старажытных часоў рэлігія, земляробства, урад, гандаль, рамяство, мастацтва і навукі ўплывалі на ўдасканаленне чалавецтва. Ён надаваў вялікае значэнне ролі матэрыяльнай вытворчасці ў развіцці чалавецтва. В. настойваў на крытычных адносінах да кожнай гіпотэзы наконт старажытнай гісторыі, патрабаваў рашуча адкідаць

здагадкі і зыходзіць з фактаў у пошуках праўды. У адпаведнасці з натуральным правам В. называў прычыны, якія ўплываюць на ход гісторыі чалавецтва: нязменную прыроду чалавека, акалічнасці, у якіх ён знаходзіўся, і лёс ці нечаканасці, ад якіх ён залежаў. Чалавек яму ўяўляўся не вынікам гістарычнага развіцця, а яго зыходным пунктам, чалавечую прыроду выкладаў абстрактна ад сацыяльнай структуры грамадства і пэўнага дзяржаўнага ладу. Акалічнасці, у якіх жыве чалавек, паводле В., не аднолькавыя і не пастаянныя. Чалавек жыве ў розных прыродных умовах, набывае неабходныя прадукты ў працэсе працы, яго здольнасці не заўсёды выкарыстоўваюцца належным чынам, а некаторыя схільнасці накіраваны на зло. Таму немагчыма, каб усе былі роўныя, багатыя і шчаслівыя. Лёс жа ў многім вызначаў і вызначае жыццё людзей і народаў. Паводле В., жыць асобна, без дапамогі іншых людзей чалавек не можа, таму людзі з самага пачатку жылі супольна. Нават у першапачатковым, прыродным стане людзі жылі гуртам. Яны аб'ядноўваліся для задавальнення элементарных патрэб, сярод якіх першай была ежа. Толькі сыты чалавек мог займацца іншымі справамі. У сваім развіцці чалавецтва прайшло тры вялікія стадыі: паляванне, пастухоўства і земляробства. Пераход да земляробства В. тлумачыў павелічэннем колькасці насельніцтва, збядненнем прыродных паляўнічых і пашавых угоддзяў, неабходнасцю аседлага жыцця. З павелічэннем колькасці выробленых прадуктаў і рэчаў узнікла патрэба ў іх абмене, што дало пачатак гандлю. Гандаль памнажаў багацце, багацце нараджала новыя патрэбы, у т.л. тыя, што прыносяць уцехі. Маёмасная няроўнасць, рознасць інтарэсаў і варожасць выклікалі неабходнасць усталявання парадку і правоў. Так узнікла дзяржава. У «Прадмове...» В. на прыкладах Асірыі, Егіпта, Персіі і інш. («Што значаць законы там, дзе самадзержац гуляе лёсам і жыццём чалавека?») асуджаў дэспатычныя рэжымы і войны. Выказаныя ім смелыя погляды ў час, калі ў Рэчы Паспалітай дасягнула вяршыні магнацкая алігархія, гучалі своечасова і садзейнічалі росту прагрэсіўных тэндэнцый і грамадскай думкі Беларусі і Літвы.

*Літ.*: Б і р а л о А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979. С. 109—118.

*С.В.Кузьмін.*

## ВЫРВІЧ Кароль (1717—93)

Педагог, філосаф. Нарадзіўся ў Браслаўскім пав. ў беднай шляхецкай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў у езуіцкіх калегіумах Пінска і Дынабурга. Пасля ўступлення ў ордэн езуітаў некаторы час выкладаў у пачатковых класах навучальных устаноў ордэна ў Вільні і Пінску. У 1746 скончыў Віленскую акадэмію. З 1747 прафесар рыторыкі ў Крожскім, з 1749 прафесар рыторыкі, гісторыі і геаграфіі ў Навагрудскім езуіцкіх калегіумах. У 1751—57 выхавацель сына віленскага ваяводы Яна Гільзена. Жыў пры яго двары ў Дынабургу і Полацку, разам са сваім выхаванцам быў у Францыі, Галандыі і Германіі, дзе вывучаў арганізацыю асветы. У 1757 прызначаны езуітамі прафесарам Варшаўскага Collegium Nobilium — узорнай на той час навучальнай установы, дзе вучыліся сыны магнатаў і багатай шляхты. Пазней В. стаў рэктарам гэтага калегіума, прымаў актыўны ўдзел у рэформе езуіцкіх навучальных устаноў, уваходзіў у бліжэйшае акружэнне караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Аўтар двух падручнікаў па гісторыі на французскай мове: «Паходжанне сучасных дзяржаў і народаў» (Варшава, 1769) і «Кароткае сістэматычнае выкладанне ўсеагульнай гісторыі» (т. 1—2, Варшава, 1766—71). У калектыўным творы «Палітычная гісторыя старажытных дзяржаў» (Варшава, 1772) В. змясціў свой пераклад з французскай мовы на польскую некалькіх вытрымак з кнігі Ш.Мантэск'е «Пра дух законаў».

Як гісторык В. зазнаў уплыў французскай асветнай гісторыяграфіі, асабліва Ш.Мантэск'е і Вальтэра. Ён адмоўна ставіўся да традыцыйнага разумення гісторыі як гісторыі палітычных падзей і войнаў; тлумачыў гісторыю народа як сукупнасць змен у палітычным жыцці, звычаях, рэлігіі, навуцы, мастацтве, эканоміцы; падкрэсліваў, што вывучэнне гісторыі дазваляе атрымаць веды, неабходныя для

накіраванай змены ладу сучасных дзяржаў.

Шырокую вядомасць В. атрымаў дзякуючы сваім падручнікам па геаграфіі, якія адыгралі важную ролю ў пашырэнні геаграфічных ведаў у Польшчы, Літве і на Беларусі. У 1786 ён выдаў у Варшаве «Сучасную геаграфію» (у 1794 перавыдадзена ў Вільні), што паводле задумы павінна была скласці 1-ы том усеагульнай шматомнай геаграфіі. У 1773 у Варшаве выйшаў другі падручнік «Усеагульная геаграфія», у якім быў вялікі самастойны раздзел «Аб палітыцы». Палітыку В. лічыў навукай, блізкай да геаграфіі, і выкладаў яе ў той меры, у якой яна ўваходзіла ў геаграфію. У гэтым раздзеле асвятляліся асновы прыродазнаўчага права, права народаў, цывільнага і царкоўнага правоў, апісаны дзяржаўны лад еўрапейскіх дзяржаў, іх рэлігіі, секты і інш. Усё гэта дазволіла выкарыстоўваць кнігу як падручнік палітычнай эканоміі.

Светапогляд В. супярэчлівы. У яго творах перакрыжаваліся традыцыйныя тэалагічныя і прагрэсіўныя асветніцкія тэндэнцыі: з аднаго боку, ён далучаўся да тэалагічных асноў навучання ордэна езуітаў; з другога — разумеў, што ва ўмовах пашырэння рацыяналістычнай філасофіі актыўнае адлюстраванне тэалагічнага тлумачэння з'яў прыроды і грамадскага жыцця можа прывесці да адваротных вынікаў. Таму ён аддаваў перавагу кампраміснай пазіцыі і вельмі часта проста замоўчваў прынцыповыя праблемы ў светапоглядзе.

Важнае месца ў яго працах займалі пытанні ролі эканомікі ў жыцці грамадства, а таксама эканамічнага развіцця Рэчы Паспалітай. Вялікае значэнне ён надаваў гандлю, у якім бачыў галоўную крыніцу багацця краіны. На яго погляд, сродкам пашырэння гандлю з'яўляецца развіццё прамысловасці і земляробства; асуджаў вываз сыравіны за межы краіны і выступаў за стварэнне ўласных мануфактур па яе перапрацоўцы.

*Літ.*: Б и р а л о А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979. С. 41—49.

## ВЯЖБІЦКІ (В я р ж б і ц к і; Wiezbicki) Казімір (1704—55)

Прафесар Віленскай акадэміі. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Вывучаў рыторыку, філасофію, тэалогію ў Вільні, быў рэктарам вучылішча ў Жодзішках. У сваёй «Логіцы...», выдадзенай у 1738 у Вільні, крытыкаваў вучэнне памяркоўных рэалістаў пра рэальнасць універсалій і іманентнасць іх рэчам пачуццёвага свету. Адхіляючы пункт погляду крайніх наміналістаў, якія ператваралі універсаліі ў простыя знакі, фікцыі, В. сцвярджаў, што універсаліі ўзнікаюць у розуме ў выніку абстрагавання падобных рысаў рэальна існуючых асобных рэчаў. У тэорыі пазнання В. падзяляе многія палажэнні вучэння Дунса Скота. У яго выразна выступае эмпірычная і сенсуалістычная тэндэнцыі. Пачаткам пазнання В. лічыў дзейнасць органаў пачуццяў. У адрозненне ад тамістаў, якія з недаверам ставіліся да паказанняў органаў пачуццяў, ён сцвярджаў, што пачуццямі можна пазнаваць рэчы навакольнага свету. Калі б было інакш, то, паводле яго слоў, розум апынуўся б не ў стане што-небудзь сказаць пра рэчы. Розум, які валодае дзейнай сілай, пераўтварае пачуццёвыя вобразы ў пазнанне. В. прызнаў за аксіёму вядомую формулу сенсуалізму: «Няма нічога ў розуме, чаго раней не было б у пачуццях».

*Літ.*: Б и р а л о А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971. С. 35—36.

# Г



## ГАЛОЎКА (Hołowka) Казімір (1718 — пасля 1773)

Педагог і выдавец, прадстаўнік свецкага кірунку ў гістарычнай і геаграфічнай навуцы Беларусі і Літвы. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудку і Гродне. Пасля заканчэння Віленскай акадэміі выкладаў у езуіцкіх навучальных установах Варшавы, Вільні, Пінска. Аўтар падручніка па геаграфіі, кніг «Геаграфія Польшчы» (1744), «Геаграфічныя карты Галіі, Германіі, Польшчы і Вялікага княства Літоўскага» (1750) і інш. Па-

чынаючы з 1747 на працягу 8 гадоў выдаваў з асветніцкай мэтай «Гістарычныя календары». Быў прыхільнікам парламенцкай формы праўлення. У 1753 апублікаваў кнігу «Сеймуючая Еўропа», у якой параўноўваў еўрапейскі і польскі парламентарызм. У прадмове да гэтай кнігі ён адзначыў, што параўноўвае формы праўлення розных краін Еўропы з мэтаю палітычнай асветы моладзі. Ён таксама падрабязна апісаў структуру і правілы дзейнасці сойма Рэчы Паспалітай, дзяржаўны лад якой у той час знаходзіўся у стане поўнага развалу.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971. С. 115—116.

## ГАЛЯНСКІ Піліп Нерыуш (1753—1824)

Тэарэтык літаратуры, педагог, перакладчык. Нарадзіўся ў Кракаўскім ваяв. Скончыў піярскі калегіум, пасля працаваў выкладчыкам піярскіх школ у Польшчы, Літве і на Беларусі (1783—87). У 1787 віцэ-прафесар, з 1792 прафесар рыторыкі і паэтыкі Галоўнай Літоўскай школы (з 1803 Віленскага універсітэта). Вітаў прагрэсіўныя рэформы ў Рэчы Паспалітай 1791, апублікаваў сваю прамову перад прыняццем прысягі вайсковымі карпусамі ў Вільні... на вернасць Канстытуцыі 1791. У 1803—12 быў прафесарам тэалогіі і царкоўнага красамоўства, дэканам факультэта вольных навук і мастацтваў (1817—19) гэтага універсітэта, цэнзарам, касцёльным прапаведнікам, інспектарам школ Віленскай навучальнай акругі. За даследаванне «Пра красамоўства і паэзію» (Вільня, 1786, перавыд. ў 1788 і 1808) узнагароджаны каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім залатым медалём. Паводле светапогляду Г. — прадстаўнік асветніцкай плыні, падтрымліваў школьную рэформу, якую праводзіла Адукацыйная камісія, удзельнічаў у рабоце Варшаўскага таварыства прыхільнікаў навукі. Перакладаў «Паралельныя жыццеапісанні» Плутарха (т. 1—4, 1801—05, пад назвай «Жыццё вялікіх людзей», перавыд. ў 1921). Аўтар публіцыстычных і дыдактычных нарысаў «Кітайская літаратура для літаратарак і літаратараў у Еўропе» (1810), «Філосаф і антыфілосаф» (1811). На думку біёграфаў, Г. не быў арыгінальным мысліцелем, але набыў вядомасць як эрудыт, прыхільнік асветы і прагрэсу, праціўнік ханжаства, фанатызму і схаластыкі. Праграма яго лекцый (1793—94) сведчыць, што ён займаў кампрамісную пазіцыю паміж нарматыўнай эстэтыкай класіцызму і новымі асветніцкімі ідэаламі. Паводле тэзісаў яго лекцый паэтычная дасціпнасць грунтуецца на развагах розуму. Без кіраўніцтва з боку логікі і «цвярозай філасофіі» няма паэзіі. Усё, што даступна разуменню, можа быць аб'ектам «вольных навук», сярод якіх цэнтральнае месца займае «красамоўства» — па тагачасных паняццях — не толькі аратарскае мастацтва, але і ўсе віды і жанры мастацкай прозы, публіцыстыкі і літаратурна-мастацкай крытыкі. Ад прыгожай прамовы людзі адчуваюць такую ж эстэтычную асалоду, як і ад музыкі ці іншых мастацтваў. Красамоўства квітнее там, дзе людзі кіруюцца перакананнем, а не прымусам, г.зн. у вольных дзяржавах.

Літаратурна-эстэтычныя погляды Г. адлюстроўвалі якасныя змены, што адбыліся ў навуковай думцы эпохі Асветніцтва. Тэарэтычны дыяпазон традыцыйных курсаў паэтыкі і рыторыкі пашыраўся за кошт «асіміляцыі» сумежных навук, якія знаходзіліся ў стадыі станаўлення (эстэтыка, крытыка, стылістыка, гісторыя літаратуры, фалькларыстыка). Універсітэцкія курсы паэтыкі сталі своеасаблівымі энцыклапедыямі агульных ведаў пра мастацкую культуру, а ў сваёй спецыяльнай частцы — падручнікамі па літаратуразнаўстве. Гэта быў ужо не ранні сінкрэтызм, характэрны антычнай, сярэдневяковай і часткова рэнесансавай навуцы, а ў пэўным сэнсе інтэграцыя адносна самастойных ведаў пра мастацкую творчасць, кампедыум эстэтычнай прапедэўтыкі і літаратуразнаўства. Такую навуку стваралі ў Віленскім універсітэце Г., Э.Славацкі (бацька польскага паэта Ю.Славацкага) і Лявон *Бароўскі*.

У 18 — пач. 19 ст. мастацкая проза была менш распрацаваная, чым паэзія. У традыцыйных курсах паэтыкі яна выпадала з аб'екта даследавання. Прозаю займалася «сястра» паэтыкі — ры-

торыка. Не было адзінага паняцця прозы як віду літаратурнай творчасці, «празаічныя выказванні» ў залежнасці ад іх зместу залічваліся да красамоўства, гісторыі, геаграфіі і інш. навук. Адсутнасць агульнага паняцця мастацкай літаратуры тлумачылася кансерватызмам традыцыйнай паэтыкі: яна арыентавалася на класічныя роды літаратуры — лірычную, эпічную і драматычную, а яны да эпохі Асветніцтва развіваліся пераважна ў вершаванай форме.

З даследаванняў Г. пачыналася размежаванне літаратуразнаўства і рыторыкі. Агульныя «рытарычныя» праблемы паклалі пачатак тэарэтычнай эстэтыцы і мастацтвазнаўству. Яго курс грунтуецца яшчэ на антычнай класіцы (рыторыцы і паэтыцы Цыцэрона, Квінтыліяна, Гарацыя), але ўлічвае даследаванні новага літаратуразнаўства, у прыватнасці, французскага крытыка Ж.Марманталя (1723—99), паслядоўніка Вальтэра. Г. адмовіўся ад нарматыўных правіл рыторыкі. На яго думку, умовы красамоўства — шырокая эрудыцыя, лагічнасць думкі, развіты густ і дабрачыннае жыццё. Першай гістарычнай формай красамоўства была паэзія, яна развівала густ, фантазію і дасціпнасць. Пад красамоўствам Г. разумеў не толькі ўсе роды «прыгожага пісьменства» — аратарскае мастацтва, публіцыстыку і літаратурна-мастацкую крытыку, але і філасофію, навуковыя і дыдактычныя творы. Тэорыя рыторыкі, на яго думку, не апрыёрная, таму што грунтуецца на аратарскім вопыце. У падручніку Г. няма шматлікіх іерархічных класіфікацый, дэфініцый і апісанняў рытарычных фігур; гутарка ідзе галоўным чынам пра ўмовы, якія садзейнічаюць развіццю паэзіі і красамоўства. Здольнасць да красамоўства, сцвярджаў аўтар, ёсць ва ўсіх народаў розных гістарычных эпох, яно — дар прыроды. Аднак толькі ў свабодных народаў яно развіваецца, толькі там квітнее, дзе кожны грамадзянін вольна выяўляе свае думкі і пачуцці. У заняволеных, прыгнечаных тыраніяй грамадствах няма аратараў, таму што красамоўства там прызначана для ўсхвалення дзяржаўных кіраўнікоў.

Важнае значэнне Г. надаваў выхаванню эстэтычнага густу. Яго крытэрыі — прырода («натуральнасць») і агульны ўзровень гуманітарнай культуры. Ён адзначаў цыклічнасць: эпохі ўздыму змяняюцца перыядамі заняпаду, якія наступаюць тады, калі ў красамоўства, паэзію, мастацтва і штодзённы побыт пранікаюць вычварнасць, штучнасць, празмернасць. Густ выяўляецца ў стылі красамоўства і паэзіі. Ён можа быць высокі, нізкі, сярэдні, фамільярны, празаічны і паэтычны. Для пісьменніка і аратара важна, каб паказная прыгажосць формы не адводзіла чытача і слухача ад сутнасці зместу. Творчая фантазія — гэта пачатак навукі і мастацтва, яго імпульс. Так, жывапісец чэрпае прыгажосць з прыроды, але толькі праз уяўленне ён надае ўзятаму з жыцця матэрыялу стройную форму і гармонію. У трактоўцы суадносін красы і праўды Г. прытрымліваўся прынцыпаў класіцызму; мастацтва заклікана ўпрыгожыць праўду, стварыць нешта накшталт зачараванага палаца, у якім надоўга не застанешся, але затое перажывеш цудоўныя імгненні. Асноўныя эстэтычныя катэгорыі ён тлумачыў у адпаведнасці з класічнымі традыцыямі: прыгожае — як меру і гармонію, адпаведныя нашаму ўспрыманню; узнёслае — як вялікае, што не можа быць ахоплена нашым зрокам або слыхам. Цікавую думку сфармуляваў Г. пра скаладаныя суадносіны красы прыроды і прыгажосці. Карціны прыроды прыгажэйшыя за іх адлюстраванні ў мастацтве. Чым больш дасканала мастацтва наследуе прыродзе, тым яно больш прыемнае для публікі. Але і красу прыроды глыбей успрымаюць тыя, хто спасціг прыгажосць мастацтва.

На думку Г., творы, пазбаўленыя паэтычнай фантазіі, не паэзія; затое твор, напісаны ў жанры прозы, але напоўнены жывым уяўленнем, напр. раман, адносіцца да паэзіі. Найвышэйшым яе жанрам з'яўляецца эпапея, гераічны эпас, які патрабуе вялікага розуму і багатай фантазіі. Апрача эпічных паэтаў Старажытнай Грэцыі (Гамер) і Рыма (Гарацый) Г. высока цаніў новаеўрапейскіх (Тасо, Арыёст, Мільтан, Шэкспір, Карнегі, Расін) і польскіх (Ян Каханоўскі) паэтаў. Тэорыя паэзіі і красамоўства Г. выкарыстоўвалася ў школах Беларусі ў канцы

18 —1-й палове 19 ст., яна паўплывала на станаўленне асветніцкай эстэтыкі Беларусі.

*Літ.*: Bielinski J. Uniwersytet Wilenski (1579—1831). T. 2. Krakow, 1899—1900; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 282—287. *У.М.Конан.*

## ГІЦІХ Міхаіл (? — 1654)

Літаратар, палеміст. Нарадзіўся на Беларусі. Выхоўваўся ў духу арыянства. З 1607 вучыўся ў Альтдорфскай гімназіі (Германія), адкуль выключаны за прапаганду прагрэсіўных ідэй. У 1611 вярнуўся на Беларусь і жыў у Навагрудку. Паслядоўнік С.*Буднага*. Вядомы філасофскімі трактатамі, палемікай і перапіскай з сябрамі. Пісаў на лацінскай мове. У 1612 напісаў трактат «Аб задавальненні Хрыста». Палеміка Г. з альтдорфскім прафесарам Л.Люцыусам надрукавана пад назвай «Аб задавальненні... паміж М.Гіціхам, сацыніянам, і Л.Люцыусам, артадоксам» (Базель, 1628). У 1649 склаў алфавітны даведнік «Багаслоўскія зборнікі». У перапісцы з польскімі мысліцелямі Я.Крэлем, І.Маскажэўскім, М.Руарам выказаў думкі пра сілу чалавечага розуму і законы прыроды (апубл. ў Амстэрдаме, 1677).

*Я.І.Парэцкі.*

## ГЛУСК (Глоск) Аба

Яўрэйскі асветнік 2-й паловы 18 ст. Паводле адной версіі нарадзіўся ў Глоску, прадмесці Любліна, паводле другой — у мястэчку Глуск Мінскай губ. Лічаць устаноўленай тоеснасць Г. з вальнадумцам-прапаведнікам Аўрамам з Глуска, вядомым пад прозвішчам «Глускер магід», творы якога былі спалены на сінагагальным двары ў Вільні. Шляхам самаадукацыі Г. набыў грунтоўныя філасофскія веды. Ён выступаў з вострай крытыкай пісанняў яўрэйскіх мудрацоў, чаго яму не маглі даравацъ віленскія равіны. Пад пагрозай праследавання і кары за вальнадумства вымушаны быў пакінуць радзіму і пасля доўгіх вандраванняў трапіў у Берлін, дзе зблізіўся з пісьменнікам М.Мендэльсонам, які высока цаніў яго як глыбокага мысліцеля. Але старэйшыны яўрэйскай абшчыны і тут звярнуліся да адміністрацыі Берліна з просьбай выслаць яго з горада. Толькі дзякуючы заступніцтву Мендэльсона ён быў пакінуты ў Берліне. Найбольш прыгнятала Г. тое, што ён не мог адкрыта прапагандаваць асветніцкія ідэі сярод аднаверцаў. «Калі ты, — казаў ён Мендэльсону, — пачнеш хаваць праўду і я таксама, набраўшыся цярплівасці, моўчкі абыду ўсе адмоўныя з'явы жыцця, дык хто ж, урэшце, будзе накіроўваць аднаверцаў і навучаць іх розуму?» Пакінуўшы Берлін, Г. доўга блукаў па краінах Заходняй Еўропы, потым вярнуўся на радзіму, дзе звесткі пра яго далейшае жыццё губляюцца. Вядомы паэт А.Шамісо прысвяціў Г. паэму (1832).

*Літ.*: Шахнович М.И. Реакционная сущность иудаизма. М.; Л., 1960. С. 200.

*Г.А.Маслыка.*

## ГРАТКОЎСКІ Табіяш (? — 1822)

Паэт, педагог. Паходзіў са Случчыны. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі, Кёнігсбергскім, потым у Лейдэнскім (Нідэрланды) універсітэтах. У 1758 карабель, на якім Г. плыў з Антверпена ў Гданьск, пацярпеў крушэнне. Выратаваўшыся і вярнуўшыся ў Слуцк, апісаў гэтае здарэнне ў паэме «Марское падарожжа» (1760). З 1761 быў рэктарам Слуцкай гімназіі.

## ГРОДЭК (Croddeck) Годфрыд Эрнест (17.11.1762—11.4.1825)



Філолаг, даследчык старажытнай грэчаскай гісторыі і літаратуры. Вучыўся ў Гётынгенскім універсітэце. Спачатку быў настаўнікам-выхавацелем і бібліятэкарам у князя Чартарыйскага, потым — прафесар Віленскага універсітэта. Меў вялікі ўплыў на сваіх слухачоў, сярод якіх быў і А.*Міцкевіч*. Не выключана, што менавіта Г. абудзіў у будучага паэта любоў да класічнай паэзіі і дапамог яму набыць глыбокія філалагічныя веды. Г. належыць шэраг навуковых прац па археалогіі, класічнай літаратуры і гісторыі на лацінскай, нямецкай і польскай мовах.

## **ГУСАРЖЭЎСКІ** Тамаш (1732—1807)

Гісторык, педагог, прадстаўнік асветніцкага кірунку ў гістарычнай навуцы Польшчы, Літвы, Беларусі. Нарадзіўся ў Варшаве ў шляхецкай сям'і, якая паходзіла з Вялікага княства Літоўскага. Адукацыю атрымаў у Варшаве, дзе стаў ксяндзом-місіянерам. У 1756—69 выкладаў у духоўных семінарыях Варшавы і Вены. Больш за 20 гадоў займаў пасаду рэгента Віленскай епархіяльнай семінарыі, у 1783—1805 быў прафесарам кафедры ўсеагульнай гісторыі Віленскага універсітэта. Аўтар працы «Прадмова пры пачатку публічных лекцый па ўсеагульнай гісторыі ў Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага» (Вільня, 1783). Пад кіраўніцтвам Г. навучэнцы Віленскай епархіяльнай семінарыі склалі і апублікавалі твор «Уступ да ўсеагульнай гісторыі ў царкоўнай асаблівасці» (1775), у якім адлюстраваны і погляды Г. За час выкладчыцкай дзейнасці, якая працягвалася амаль 50 гадоў, погляды Г. зазналі значную эвалюцыю. Спачатку ён прытрымліваўся прынцыпаў схаластычнай філасофіі, пазней успрыняў ідэі асветніцкай філасофіі і кіраваўся імі ў сваёй навуковай і выкладчыцкай дзейнасці, што было прычынай яго канфліктаў з царкоўнымі вярхамі. Аднак ён канчаткова не парваў з феадальнай ідэалогіяй і часам імкнуўся прымірыць рацыяналістычнае і рэлігійнае тлумачэнне з'яў прыроды і грамадства.

Зрухі ў сацыяльна-эканамічным жыцці садзейнічалі фарміраванню ў Г. і яго вучняў перакanання ў тым, што чалавецтва развіваецца па ўзыходнай лініі і разам з прагрэсам грамадскай свядомасці расце зацікаўленасць да мінулага. У духу свайго часу яны лічылі, што гістарычная навука павінна канцэнтраваць асноўную ўвагу на дзейнасці выдатных асоб, аднак гісторыю яны разглядалі як апісанне шляху, пройдзенага ўсім чалавецтвам. Гістарычная навука — гэта «грамадская памяць», і яе задача высветліць прычыны ўзнікнення, развіцця, узвышэння і заняпаду дзяржаў. Г. падзяляў прыняты ў асветніцкай літаратуры падыход да яе як да навукі, якая мае адказныя і высакародныя мэты. На яго думку, гістарычная навука павінна таксама займацца вывучэннем права і звычаяў, побыту і рэлігіі, палітыкі і культуры, навукі і мастацтва, быць маральнай і палітычнай навукай, што прыносіла б грамадству рэальную карысць. Г. і аўтары «Уступу...» зрабілі смелую на той час спробу секулярызацыі гісторыі, абвясціўшы незалежнасць свецкай гісторыі ад гісторыі царквы. У адрозненне ад большасці гісторыкаў таго часу, якія бралі ў якасці крыніц толькі хронікі і старажытныя летапісы, Г. і яго вучні самымі дакладнымі крыніцамі лічылі дакументы, ставілі пытанне пра абавязковы навуковы аналіз крыніц, крытычны падыход да іх. Аўтары «Уступу...» імкнуліся даць больш абгрунтаваную перыядызацыю ўсеагульнай гістрыі, высветліць асаблівасці кожнага з трох вызначаных імі перыядаў — старажытнай гісторыі, сярэднявечча і найноўшай гісторыі (раней перыядызацыя зводзілася да 2 перыядаў: старажытнага і новага). Г. і яго вучні станоўча ацэньвалі развіццё сучаснай ім Еўропы і, спадзеючыся на асветніцтва, аптымістычна глядзелі ў будучыню. Аднак грамадства будучыні яны не ідэалізавалі, не ўяўлялі яго як нешта свабоднае ад супярэчнасцей і ўзрушэнняў. Праект вечнай згоды, прапанаваны Сен-П'ерам, Г., напрыклад, назваў утопіяй.

Г. зрабіў значны ўплыў на фарміраванне гісторыка-сацыялагічнай канцэпцыі І.*Лялевеля*, які студэнтам у 1804—05 навучальным годзе наведваў яго лекцыі і ў час прыватных кансуль-

тацый распытваў прафесара пра тэарэтычныя праблемы гістарычнай навукі і метады даследавання. Лялевель лічыў сябе вучнем Г. і сваю тэарэтычную працу «Гісторыка» прысвяціў менавіта яму. Педагагічная дзейнасць Г. садзейнічала пашырэнню ў Польшчы, Літве і на Беларусі асветніцкіх ідэй.

*Тв.*: Raport... o Kursie historii starożytnej w r. akademickim 1802—1803. Wilno, 1930.

*Літ.*: Б и р а л о А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979. С. 103—109.

# Д



## ДАБШЭВІЧ (Dobszewicz) Бенядзікт (12.3.1722 — каля 1794)



Прадстаўнік эклектычнай філасофіі на Беларусі і ў Літве, езуіт. Нарадзіўся каля Навагрудка. Адукацыю атрымаў у Навагрудскай калегіі і ў Віленскай акадэміі, у якіх пазней выкладаў філасофію і тэалогію. Перыяд яго выкладчыцкай дзейнасці ў Навагрудку — цікавы эпізод асветы на Беларусі. Паводле шматлікіх звестак у 2-й палове 18 ст. ў Навагрудку быў вельмі высокі на той час узровень выкладання, у вялікай пашане былі дакладныя навукі, існавалі добра абсталяваныя фізічныя і інш. кабінеты. Адначасова з Д. тут працаваў С.*Шадурскі*. Галоўная праца Д. «Погляды новых філосафаў...» фактычна складаецца з лекцый у Навагрудскім езуіцкім калегіуме, дзе ён выкладаў фізіку, матэматыку, філасофію і тэалогію. З 1758 Д. стаў выкладчыкам Віленскай езуіцкай акадэміі, з 1773 — дэкан тэалагічнага факультэта гэтай акадэміі. Дакладных звестак пра яго далейшы лёс не знойдзена. Але можна меркаваць, што яму не даравалі занадта смелыя выступленні супраць схаластыкі і падтрымку новай філасофіі (многімі тэолагамі атаясамлівалася з атэізмам). Ён вымушаны быў пакінуць працу ў акадэміі і перабрацца ў мястэчка Кражай (на захадзе Літвы), дзе і памёр.

Жыццё і творчасць гэтага мысліцеля мала вывучаны, хоць апрача беларускіх даследчыкаў яго філасофскімі поглядамі зацікавіліся вядомы германскі даследчык, гісторык, акадэмік Э.Вінтэр, польскія даследчыкі, у т.л. Л.Хмай. Арыгінальнасць Д. ў тым, што ў перыяд амаль поўнага панавання на Беларусі схаластыкі і каталіцкай ідэалогіі ён па сутнасці праводзіў некаторыя ідэі ранняга Асветніцтва: павага да навукі (перш за ўсё аб прыродзе), да выхавання і адукацыі ў новым сэнсе, падзел сфер навукі, філасофіі і рэлігіі і да т.п. Светапогляд Д. рэлігійна-ідэалістычны. Але аб'ектыўна ён пашыраў на Беларусі новую прагрэсіўную філасофію, натуразнаўства і своеасаблівае асветніцтва (у тым сэнсе, у якім Вінтэр выкарыстоўваў тэрмін «рэлігійнае асветніцтва»). Гэты кірунак ішоў з Заходняй Еўропы, дакладней з Італіі, Рыма, дзе ў нетрах каталіцкай іерархіі нараджаліся новыя рэфармацыйныя плыні (творы Фартуната Брэшскага і Антонія Генуэзскага). У гэтай плыні паступова і не заўсёды пажадана ўзнікалі «крамольныя» ідэі, нават на мяжы з пантэізмам і матэрыялізмам, якія стыхійна пранікалі ў іх курсы і кнігі праз «philosophia recentiorum». Так здарылася і з Д., што, магчыма, трымала яго ў псіхічным напружанні, як і яго паслядоўніка А.*Доўгірда*. Д. напісаў некалькі спецыяльных кніг па логіцы, у т.л. «Лекцыі па логіцы...,

напісаны А(йцом) Бенядзіктам Дабшэвічам... доктарам і прафесарам філасофіі на аснове ўхваленых меркаванняў старажытных і больш новых мысліцеляў для выкарыстання служкамі філасофіі» (Вільня, 1761). Найбольш плённымі былі 1760—61-я гады, калі Д. напісаў 3 кнігі. Усяго ён надрукаваў больш за 10 прац (у рукапісах засталося, відаць, больш), у якіх разглядаў амаль усе існуючыя ў тагачаснай еўрапейскай думцы значныя ідэі, тэорыі, творы, аргументацыі [Платон, Арыстоцель, Дэмакрыт, Эпікур, Эмпедокл, Анаксімен, Секст Эмпірык, крытычны скептыцызм, стаіцызм, айцы царквы (т.зв. патрыстыка), Ф.Бэкан, М.Капернік, Г.Галілей, Р.Дэкарт, Б.Спіноза, Г.Лейбніц, М.Мальбранш, Х.Вольф, Маперцью і інш.]. Справа ў тым, што езуіцкі ордэн амаль да 1760-х гадоў не прызнаваў філасофіі Новага часу, змагаўся нават з Дэкартам. Таму лекцыі і творы Д. выяўлялі пэўную апазіцыю і наватарства. Паводле Вінтэра, Д. быў першы ў Рэчы Паспалітай, хто так рушыў да новага, а ў яго творы «Тэзісы ва універсальную філасофію» (1771) сістэма філасофіі пабудавана на аснове сістэмы Дэкарта. Такія філосафы, як Д., сярод езуітаў былі выключэннем, бо кіраўніцтва ордэна рашуча змагалася з Асветніцтвам, г.зн. і з філасофіяй новых («philosophia recentiorum»).

У кнізе «Погляды новых філосафаў» Д. па сутнасці разгарнуў сістэму поглядаў, якія абапіраюцца на новыя філасофскія і натуральныя тэорыі. Як і ўсе тагачасныя вучоныя, што імкнуліся ўсё вырашыць дакладнымі матэматычнымі падыходамі, Д. падкрэсліваў вялікую ролю матэматыкі для філасофіі. «Калі б мы пажадалі пазбавіць філасофію гэтай яе асновы — матэматыкі, — сцвярджаў ён, — дык гэта азначала б па сутнасці выступіць супраць самой яе прыроды, бо пазбавіць філасофію яе матэматычнай асновы тое ж самае, што чалавеку паспрабаваць хадзіць без ног. Гэта таксама было б падобна да таго мастака, які выкінуў усе прылады, неабходныя для ажыццяўлення мастацкай задумы, і тым не менш намагаецца яе ажыццявіць». Аднак Д. не абмяжоўваўся панегірыкамі матэматыцы і натуразнаўству, ён упарта шукаў сувязі паміж імі і філасофіяй ва ўсіх сваіх працах. Ён лічыў логіку першай з навук, здатных да ўмацавання гэтых сувязей, каб адшукаць ісціну. Задача яе «надзейна адчыняць дарогу да вывучэння ўсіх навук і даваць спосаб удалага параўнання». Фундаментальнымі прынцыпамі логікі Д. лічыў прынцып дастатковай падставы і прынцып сумнення. Ён самастойны ў выбары канцэпцый, не згодны з Х.Вольфам, што крытэрый — гэта толькі лагічнае паняцце, прымаў канцэпцыю Лейбніца аб дзвюх ісцінах: неабходнай (крытэрыем можа быць толькі розум) і выпадковай (крытэрый — індукцыя, вопыт). Логіка Д. адлюстроўвае, з аднаго боку, яго эрудыцыю, а з другога — адчуванне неабходнасці ўлічыць у ёй вопыт, эксперымент. Так, ён заўважае, што «правіла Арнольдзі, якое патрабуе, каб адна пасылка паказвала вывад, які будзе змяшчацца ў другой, хаця і не выклікае сумнення, але гэта меркаванне не тлумачыць прыроду ў поўнай меры». Але гэта тонкае і справядлівае адчуванне яшчэ не сфармулявана Д. Больш распрацавана ў яго тое, што мае адносіны да аналізу паняццяў, тое, што мы ўяўляем як семантыку, прагматыку, семасіялогію і г.д. Ён паказвае, як адно і тое ж матэматычнае паняцце можна выказаць па-рознаму, напр., прамая лінія, паводле Эўкліда — карацейшая адлегласць паміж двума пунктамі; паводле Платона — такая лінія, канцавыя пункты якой абмяжоўваюць сярэдзінныя пункты; або такая лінія, усе часткі якой падобныя. Вывад Д. зводзіцца да таго, што намінальныя вызначэнні адной і той жа рэчы адвольныя, пад рознымі назвамі — адзін і той жа змест. Цікавымі з'яўляюцца і яго асэнсаванні праблем метаду: «Метад — гэта такая функцыя розуму, з дапамогай якой шмат якія паняцці, многія меркаванні і мноства разважанняў так зводзяцца ў ясныя і пэўныя правілы, што або выяўленыя ісціны яны (гэтыя правілы) раскрываюць іншым, або з іх дапамогай выяўляюцца да гэтага часу невядомыя [ісціны]». Наконт прынцыпу сумнення Д. заўважаў: «Метадычнае сумненне (пад гэтай назвай маецца на ўвазе больш дасканалае даследаванне) азначае, што мы не асуджаем, не падумаўшы, погляды іншых, але спакой-

на ўзважваем розумам усе гэтыя заявы, што здаюцца нам непрымальнымі палажэннямі, якія не маюць ніякай асновы, пытаннямі і абставінамі..., а старанна вывучаем гэтыя палажэнні, як быццам бы яны былі карысныя...» Такіх тонкіх хадоў у логіцы ў Д. нямала. Больш традыцыйна ў яго творах падаецца метафізіка, якую ён падзяляў на анталогію (вучэнне пра быццё), этыялогію (вучэнне аб прычыннасці), натуральную тэалогію, пнеўматалогію (пра духаў), якая ў сваю чаргу падзяляецца на натуральную тэалогію, псіхалогію і касмалогію. Псіхалогія ў сістэме Д. разглядалася як самастойная частка, але па сутнасці звязаная з метафізікай і натуральнай тэалогіяй. І тут выяўляецца прамежкавасць яго светапоглядных уяўленняў: з аднаго боку — натураліста-даследчыка, з другога — тэолага-прафесіянала. Такі сплаў наогул характэрны для «эклектычнай філасофіі». З аднаго боку, ён разглядаў душу як духоўную субстанцыю, звязаную з Богам, а з другога — звязаную вельмі цесна з целам (з нервамі і г.д.). Д. прызнаваў прыроджаныя здольнасці і адначасова схіляўся да прыняцця локаўскага сенсуалізму, пагаджаўся з т.зв. «сістэмай фізічнага ўздзеяння» французскага філосафа Турнеміна, сцвярджаючы, што, «калі ў органах пачуццяў адбываюцца змены пад уздзеяннем аб'ектаў, якія знаходзяцца па-за намі, тады з дапамогай руху, які бесперапынна перадаецца праз нервы ў мозг, уяўленне аддрукоўваецца ў душы». Гэты падыход ужо выходзіць за межы схаластыкі і нават тэалогіі таго часу, душа (гэта частка боскага) рэальна становіцца часткай матэрыі прыроды чалавечага цела, таму ў раздзеле «Пра адчуванні» ён разглядаў аргументы сувязі душы з целам праз нервы, прымаў зыходныя даныя анатоміі, фізіялогіі і крытыкаваў нават тэорыю картэзіянцаў аб шышкападобнай залозе як цэнтры душы. Д. цікавілі і дакладныя навукі. Ён быў у курсе развіцця сучасных яму праблем фізікі, як агульнай тэарэтычнай, так і эксперыментальнай. Вядома, гэта была яшчэ пераходная фізіка ад старой арыстоцелеўскай да новай, але ў ёй пераважала новая. Таму, напр., у касмалогіі (як частцы фізікі) Д. разглядаў розныя сістэмы будовы сусвету (Пталамея, Ціха Браге), але спецыяльна вылучаў сістэму Каперніка (геліяцэнтрычную). Гэту сістэму ён лічыў вельмі верагоднай гіпотэзай, якая, аднак, не павінна прымацца як абсалютная ісціна: «Сістэма Каперніка можа абараняцца як гіпотэза..., бо ў сістэме Каперніка тлумачацца ўсе з'явы нябесных цел... і да таго ж проста і адпаведна законам прыроды... Сістэма Каперніка не павінна абараняцца як тэорыя, г.зн. не трэба гаварыць, што сусвет пабудаваны так, як лічыў Капернік». У гэтым супярэчлівасць думак Д.

Фізіку ён падзяляў на гістарычную і этыялагічную (раскрыццё прычын фізічных з'яў), агульную і выключную, на касмалогію і стэхіялогію (навука пра элементы), мінералогію, гідралогію і фіталогію (навука пра расліны), заалогію і антрапалогію. У агульнай фізіцы Д. разглядаў праблемы рэальнага існавання цел, крытыкаваў суб'ектыўных ідэалістаў, якія адмаўлялі іх рэальнае быццё (Берклі і інш.). Галоўныя ўласцівасці цел ён выводзіў з прыроднай іх неабходнасці, але асэнсаванне іх лічыў недасягальным (у гэтым Д. салідарызуецца з Фартунатам Брэшыянскім). Пункт погляду Дэкарта адносна прыроды цела ў суцэльнай працягласці Д. лічыў недастатковым. У гэтым пытанні выявілася яго абмежаванасць, прыхільнасць да кампрамісу з рэлігійным светапоглядам. Ён шмат у чым абвяргаў схаластыку, але ў некаторых прынцыповых пытаннях сам не мог без яе абысціся. Гэта — хвароба росту і характэрная прыкмета чалавека на рубяжы эпох. Д. імкнуўся быць канфармістам, не парушыць традыцыю, а толькі «апрануць яе ў новую вопратку», хоць гэта не заўсёды атрымлівалася. Таму ён не адкідаў цалкам арыстоцелеўскія паняцці (напр. форма і змест), а толькі іх рэфармаваў, далучаў да іх новыя, напр. фізічная прырода, механічная форма, атамы ці мікрачасцінкі і г.д. У крытыцы перыпатэтыкаў, якія ні на пядзю не жадалі адступаць ад Арыстоцеля, Д. схіляўся да канцэпцыі Платона і яго паслядоўнікаў у Новы час: «Форма — гэта адзінае, як тое — парадак і музыка, альбо што-небудзь з такіх паняццяў, што завуцца падобным чынам». Такі прынцыповы зварот да

Платона знамянальны: Д. шукае філасофскае абгрунтаванне разумнай будовы свету, у рэшце рэшт — Вялікага Майстра, бо разумная будова свету ці законы свету без яго немагчымыя. Для яго свет — гэта тварэнне Бога, таму што з маленства і да смерці малітва была заўсёды з ім, нават тады, калі ён часам у логіцы, філасофіі ці ў фізіцы пагаджаўся з матэрыялістамі — Эпікурам, Гасендзі ці нават з самім Спінозам. Супярэчлівасць душы і часу, ведаў і малітвы, рацыянальнасці і містыкі былі адметнымі рысамі думкі гэтай пераходнай эпохі. Для яго сучаснікаў гэта здавалася збіраннем карыснага з усіх крыніц, таму адзін з іх пісаў пра Д., што ён «наследуе філопісаў пра Д., што ён «наследуе філасафам Новага часу», не прытрымліваецца думак аніводнага з іх, а карыстаецца іх працамі, «як пчала, якая збірае мёд з розных кветак».

*Тв.*: Theoremata, problemata quaesita ex arithmetica communi ac spatiosa et geometria... Vilnae, 1754; Theses Mathematicae ex Arithmetica tam communi guam speciosa, Geometria plana Geodesia... Vilnae, 1756 (1766); Theoremata, Problemata, Quaesita ex Geometria, et Cosmographia. Vilnae, 1757; Placita recentiorum philosophorum explanata nec non phenomenis physicis, demonstrationibus mathematicis, resolutionibus problematam, observationibus, ac axperimentis adoranta. Vilnae, 1760; Praelectiones Logicae ex probatis veterum recentirumque platicis conscriptae in usum philosophiae auditorum. Vilnae, 1761; Theses philosophicae ex physica generali. Vilnae, 1762; Theses philosophia... Vilnae, 1763; Propositiones philosophiae ex universa philosophia. Vilnae, 1763; Conclusiones theologicae scolastico-dogmaticae. De gratia et peccatis. Vilnae, 1766.

*Літ.*: Цукерман А.Я. Бенедикт Добшевич (1722—ок. 1794) // Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991; Дорошевич Э. Натурфилософские взгляды Добшевича // История и методология естествознания. Мн., 1966; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## ДАМАНЕЎСКІ

(Даманоўскі) Язэп (канец 16—1-я палова 17 ст.)

Філосаф-мараліст і паэт-гуманіст. Сын Ф.*Даманеўскага*. Як сацыніянін, ён разам з Янам *Ліцыніем Намыслоўскім* удзельнічаў 25.1.1594 у Навагрудку ў дыспуце з езуітам М.Смігледкім. З пазіцый наміналізму адмаўляў існаванне Хрыста. У канцы 1590-х гадоў схіляўся да атэізму, за што ў 1600 выключаны з сацыніянскай абшчыны. Пісаў на польскай і лацінскай мовах. На працягу 1620—23 надрукаваў у Любчы свае маральна-павучальныя вершаваныя творы: «Жыццё сельскае і гарадское», «Перасцярога і заахвочванне тым, хто многа гаворыць і думае, але нічога не робіць», «Суцяшэнне тым, каму мужы перашкаджаюць паводзіць сябе з годнасцю», «Некаторыя эмблемы», «Афарызмы Саламона ў паэтычным выкладанні». У іх адлюстраваны філасофска-этычныя погляды Д. і творчы метад у духу эстэтыкі барока. Тэарэтычнай асновай яго этыкі, як і светапогляду ў цэлым, з'яўляецца сінтэз рэлігійна-філасофскага вучэння кальвінізму аб божай наканаванасці з сацыніянскай рэнесансава-гуманістычнай канцэпцыяй маральнай свабоды чалавека. Паводле Д., светам і чалавечым лёсам кіруе Бог, таму чалавек робіць у жыцці не так, як яму хочацца, а як яму дыктуе божая неабходнасць, ці «няволя». Аднак, лічыў ён, памыляецца той, хто ўсё ўскладае на Бога, бо фартуна спрыяе толькі дзейнаму чалавеку. У этыцы Д. працавітасць — галоўная сацыяльна-маральная дабрачыннасць чалавека, асноўная ўмова шчаслівага жыцця, крыніца багацця; таго, хто не працуе, нельга назваць дабрадзейным, пустая летуценнасць, гультайства робяць жыццё нешчаслівым. Высокі маральны статус працавітасці Д. абгрунтоўваў прыкладамі з Бібліі і грамадзянскай гісторыі і сцвярджаў, што тыя цары і дзяржаўныя дзеячы, якія любілі і паважалі працу, былі не толькі мудрымі кіраўнікамі, але добрымі і беражлівымі гаспадарамі. Імкнучыся вывесці шляхту са стану маральнага і сацыяльнага заняпаду, ён асуджаў яе паразітызм і сцвярджаў, што праца не можа знева-

жаць шляхецкую годнасць. Дармаедству і марнатраўству феадальнага саслоўя Д. процівпастаўляў працавітасць і беражлівасць сялян, гарадскіх рамеснікаў і гандляроў. Найбольш прыдатнай сферай прыкладання сіл і здольнасцей шляхецкага саслоўя Д. лічыў сельскую гаспадарку. Вясковае жыццё ён ідэалізаваў як увасабленне «натуральнага стану» чалавека, гарадское ж трактаваў як «супрацьнатуральнае», чужое прыродзе чалавека, як крыніцу амаральнага пачатку, зла, якое садзейнічала разбэшчванню чалавечай асобы, дэфармацыі яго першапачатковай прыроды. Каларытна апісваў жыццё беларускіх гарадоў пач. 17 ст., выкарыстоўваючы канкрэтна-гістарычныя бытавыя дэталі, фальклор, народны гумар. Услед за Ф.*Скарынам*, С.*Будным*, А.*Воланам* і іншымі айчыннымі гуманістамі Д. падпарадкоўваў індывідуальныя інтарэсы чалавека інтарэсам агульнага дабра.

*Літ.*: Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990. С. 144—148.

## **ДАМАШЭВІЧ** Марыян

Выкладчык філасофіі ў Гродне ў 2-й палове 18 ст. Пра яго жыццё і дзейнасць звестак не выяўлена. Захаваўся толькі рукапіс лекцый па філасофіі ў «Курсе агульнай фізікі», напісаных на лацінскай мове. У іх Д. падкрэсліваў значэнне назапашанага філасофіяй вопыту, рабіў спасылкі на мысліцеляў антычнасці і Новага часу, асабліва адзначаў заслугі Х.Вольфа і выказваў думкі, блізкія яго ідэям. У спецыяльным раздзеле курса даў апісанне «секты схаластыкаў», галоўнымі прадстаўнікамі якой лічыў Альберта Вялікага, Фаму Аквінскага, Дунса Скота, вылучыў тры асноўныя кірункі схаластычнай філасофіі — перыпатэтычны, тамістычны, скатысцкі, хоць і лічыў яе заняпалай. Філасофскі трактат Д. сведчыць пра новы кірунак пераходнага перыяду — пачатак новай эклектычнай філасофіі 2-й паловы 18 ст. Ён падкрэсліваў, што заняпад схаластыкі пачаўся пасля вялікіх адкрыццяў натуралістаў: «Галілей да сярэдзіны 18 ст. абверг схаластычную недарэчнасць і адкрыў новую эру. Яго падтрымалі вучоныя і філосафы Гасендзі, Картэзій, што пайшлі за філасофіяй, атрыманай у спадчыну ад Дэмакрыта і Эпікура, якой пагарджалі шмат стагоддзяў і якая (цяпер), ачышчаная і ўдасканаленая, уведзена ў новыя сістэмы». Гэта выказванне Д. па сутнасці з'яўляецца прызнаннем вартасцей матэрыялістычнага светапогляду. Парадаксальна, але праўда, што ніякія аргументы, акрамя розуму, ужо не аўтарытэты. Цяжка нават уявіць, што такое было б магчыма паўстагоддзя назад, каб напісаць такое: «Сёння прытрымліваюцца такой філасофіі, якая не скавана ніякім аўтарытэтам, прытрымліваюцца толькі правіл розуму і выбіраюць сабе ясныя і празрыстыя прынцыпы». Разглядаючы праблему сутнасці цел, пранікальнасць ці непранікальнасць цел, мяжу дзялення цел, Д. не пагаджаўся з канцэпцыямі Дэкарта і Гасендзі: «Нельга пагадзіцца з Гасендзі, — пісаў ён, — атаясамліваючага прыроду фізічнага цела і працягласць». Д. лічыў, што ёсць такія (канчатковыя) элементы, якія не маюць працягласці.

Д. аналізуе шэраг філасофскіх сістэм разумення карціны сусвету. «Для Сакрата і Платона, — піша ён, — свет — матэрыя і ідэя; для Піфагора і піфагарыйцаў — Бог, матэрыя і лічбы; для Арыстоцеля — матэрыя, форма і змена». У выніку супастаўлення гэтых поглядаў робіць выснову: «Прынцыпы Арыстоцеля з'яўляюцца ісцінными прынцыпамі цел у метафізічным сэнсе». На яго думку, такой жа пазіцыі прытрымліваліся Эпікур, Дэкарт і інш. філосафы. Гэта азначае, што ў некаторых пытаннях натурфіласофіі Д. імкнецца ўтрымаць тэалагічныя традыцыі, але не паўсюдна, а толькі там, дзе гэта ўдаецца. Таму па сутнасці ён выступае супраць атамістычнай пазіцыі, якая тлумачыць будову сусвету з матэрыяльных часцінак, не пагаджаецца ні з Дэкартам, ні з іншымі філосафамі ў тым, што атамы ці малекулы — аснова будовы цел, а тэорыя Дэкарта — «вынік уяўлення». Д. схіляецца да канцэпцыі Г.Лейбніца, да яго «манадалогіі». Яго задавальняюць «манады» — гэтыя духоўныя адзінкі, што змацоўваюць увесь свет. Менавіта таму Д. лічыць, што «Лейбніц пайшоў па новым шляху развіцця прынцыпаў цел і ачышчэння (тэорыі пра іх) ад забабо-

наў». У «Псіхалогіі» як частцы курса разглядаецца паняцце душы і яе праяў. Тут погляды Д. вельмі супярэчлівыя. Душа — асобная субстанцыя, яна ж існуе і як праяўленне дзейнасці цела, найперш мозга, без якіх як бы не існуе. Д. адмаўляе прыроджаныя ідэі. Шмат у чым ён падобны да Б.*Дабшэвіча* і А.*Доўгірда* — яны адзіная нітка асветніцкага кірунку ў каталіцкай філасофіі на Беларусі.

*Тв.*: Institutiones philosophiae naturalis seu physica. Grodno, 1787—89.

*Літ.*: Дорошевич Э.К. Новая философия в рукописных трактатах // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## ДЗМІТРОВІЧ Павел (?—1641)

Пісьменнік, педагог. Нарадзіўся ў сям'і беларускага дробнага шляхціца. Навучаўся ў кальвінісцкай гімназіі ў Вільні. У час замежнага падарожжа, якое ён ажыццявіў як выхавацель у С.Прылюбскага, слухаў лекцыі ва універсітэтах Франкфурта-на-Одэры, Ліпска, Гейдэльберга, Інгальштата, Альтдорфа (1611—13). Пасля вяртання з-за мяжы быў памочнікам рэктара (1615), кіраўніком двух вышэйшых класаў (1616), потым рэктарам кальвінісцкай гімназіі ў Вільні. Пазней выконваў функцыі выхавацеля І.Радзівіла ў Слуцку (1627), потым — В.Радзівіла. Пад канец жыцця быў святаром у Дубінках і куратарам Слуцкай гімназіі. Большую частку свайго жыцця быў звязаны з мецэнатамі Радзівіламі; разам з Д.*Набароўскім* і С.*Рысінскім* належаў да вядучых літаратараў з акружэння К.Радзівіла. Пісаў пераважна на лацінскай мове. Апрача шэрага твораў, прысвечаных Крыштофу і Янушу Радзівілам, выдаў на базе Віленскай гімназіі панегірыкі (з уласнымі прадмовамі) знакамітым родам Вялікага княства Літоўскага і інш. асобам (Галаўчынскім, А.Храпавіцкаму, М.С.Масальскаму). У 1625 закончыў парадыйнае сачыненне «Кампендыум, або Кароткае апісанне як князёў і каралёў польскіх, так і іх спраў, асобных выпадкаў і даўніх падзей у Каралеўстве Польскім паводле хронікі М.Кромера, біскупа вармянскага, і іншых».

*Тв.*: Oratio de ss. theologiae ab Omnibus tractanda. Altdorf, 1613.

## ДЗЮПРЭ (Dupre) Луі Максіміліян

Танцоўшчык, балетмайстар і педагог 18 ст. Гады нараджэння і смерці невядомыя. Адзін з заснавальнікаў мужчынскага сцэнічнага танца. Вучыўся ў Французскай акадэміі музыкі. У 1730—51 саліст тэатра «Каралеўская акадэмія музыкі і танца» ў Парыжы (»Гранд-Апера»). Гастраліраваў у Лондане, Варшаве, Дрэздэне, Вене. У 1756 запрошаны Г.Ф.Радзівілам у яго прыдворны тэатр у Слуцку, разам з А.Пуціні стаў стваральнікам мясцовага балета, у 1756—58 выкладаў у Слуцкай балетнай школе, выступаў у Слуцку і ў Белым (Бяла-Падляска, Польшча). У сакавіку 1758 пераехаў у Нясвіж, дзе паводле дагавору з М.К.*Радзівілам* Рыбанькай павінен быў да 1761 не толькі выступаць на сцэне, але і падрыхтаваць да тэатра 8 дзяцей і вучыць танцам усіх, каго яму дадуць.

## ДОГЕЛЬ (Dogiel) Мацей (6.8.1715—24.2.1760)



Гісторык-археограф, прававед. Нарадзіўся ў в. Гембулы Лідскага пав. ў сям'і дробнага шляхціца. Пасля заканчэння піярскай школы ў Шчучыне ўступіў у ордэн піяраў і займаўся вы-

кладчыцкай дзейнасцю. Уладальнік мяст. Шчучын надворны маршалак Вялікага княства Літоўскага Сцыпіа дэ Кампа даручыў яму выхаванне свайго сына. Разам са сваім выхаванцам Д. выязджаў за мяжу, наведваў лекцыі ў Лейпцыгскім і Парыжскім універсітэтах, удасканаліў свае веды ў філасофіі, міжнародным праве і матэматыцы. Пасля вяртання на радзіму з канца 1740-х гадоў Д. — рэктар піярскага калегіума ў Вільні, заснавальнік школы з асобным інтэрнатам для шляхецкай моладзі. У апублікаваным «Паведамленні» пра адкрыццё гэтай школы Д. падкрэсліваў вялікую ролю асветы ў справе маральнага ўдасканалення народа. Шмат падарожнічаў. У 1748 як пасол Рэчы Паспалітай меў магчымасць працаваць у архівах і бібліятэках Германіі, Францыі, Галандыі. Выкарыстоўваў таксама рэдкія, маласвядомыя або нават сакрэтныя афіцыйныя дакументы, што захоўваліся ў каралеўскім архіве Кракава і Нясвіжскім архіве. Сабраў шмат гістарычных і дыпламатычных матэрыялаў і дакументаў. З васьмі запланаваных тамоў выдаў толькі тры пад назвай «Дыпламатычны кодэкс Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага». Нявыдадзеныя матэрыялы (5 тамоў) у рукапісах паступілі ў Каралеўскую бібліятэку (Варшава), потым у Віленскі універсітэт, адтуль у Пецярбургскую публічную бібліятэку. Д. выдаў таксама збор дакументаў па размежаванні дзяржаўнай граніцы Вялікага княства Літоўскага з Польшчай у сярэдзіне 16 ст. Яго зборнікі матэрыялаў па гісторыі міжнародных адносін Польшчы, Літвы і Беларусі за 13—18 ст. як гістарычныя крыніцы не страцілі свайго значэння да нашых дзён.

*Тв.*: Codex diplomaticus Regni Polomiae et Magni Ducatus Lituaniae. Vilnae. t. 1, 1758; t. 5, 1759, t. 4. 1764; Limites Regni Poloniae et Magni Ducatus Lituaniae. Vilnae, 1758.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971. С. 121—125.

*Г.Я.Галенчанка.*

## ДОЎГІРД Самуіл

Паэт канца 16—пач. 17 ст. Паходзіў з Ашмяншчыны. У 1624 выдаў твор на біблейскія тэмы «Гісторыя пра Сусанну», а ў 1626 — гістарычную паэму «Генеалогія, або Кароткае апісанне вялікіх літоўскіх князёў і ўчыненых імі значных і мужных подзвігаў» (паводле М.Стрыйкоўскага), у якой апісаны бітвы з татарамі за Мінск, Друцк, Віцебск, падзеі ў Навагрудку, Гродне, Полацку, Пінску, Тураве, уславіў мужнасць і гераізм беларуска-літоўскіх воінаў. Творы Д. друкаваліся ў Любчанскай друкарні.

## ДУБОВІЧ Іван (?—1646)

Пісьменнік, грамадскі і царкоўны дзеяч. Прыхільнік царкоўнай уніі 1596. У палемічных творах «Правільны каляндар» (Вільна, 1644), «Пра вярхоўную ўладу ў царкве божай» (Львоў, 1644) шырока выкарыстоўваў беларуска-літоўскія і ўкраінскія летапісы, маскоўскія хронікі, заходнееўрапейскія літаратурныя крыніцы. Высока цаніў каляндарна-астранамічныя даследаванні М.Каперніка, але адмаўляў яго геліяцэнтрычную тэорыю.

*Літ.*: Харлампович К.В. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века... Казань, 1898; Далматов Н. Супрасльский Благовещенский монастырь. Спб., 1892.

*Г.Я.Галенчанка.*

## ДУЛЕВІЧ Уладзіслаў

Матэматык, прафесар філасофіі. Гады нараджэння і смерці невядомыя. Паходзіў з Вялікага княства Літоўскага. У 2-й палове 18 ст. быў настаўнікам у манастырскіх школах княства, у т.л. ў галоўнай францысканскай школе ў Гродне, дзе выкладаў філасофію і матэматыку (1768—69). Аўтар падручніка па матэматыцы і геаметрыі (захаваўся ў рукапісе).

## ДЭШНЕР (Deszner) Саламея (1759—20.3.1809)

Польская артыстка драмы і оперы, рэжысёр і антрэпрэнёр. Нарадзілася ў Беластоку. Стваральніца першага пастаяннага тэатра ў Гродне. Выканаўца роляў маладых гераінь і субрэтак. З 1777 у Варшаўскім тэатры. У 1784 выступала ў Гродне ў былым каралеўскім манежы ў складзе трупы артыстаў пад кіраўніцтвам В.Багуслаўскага. У 1785—90 працавала ў тэатрах Львова, Дубна

(Ровенская вобл., Украіна), Вільні, у 1790—94 — Варшавы. З 1794 у Гродне, дзе ў чэрвені 1802 стварыла тэатр. Ад афіцыйных устаноў яна атрымала дазвол на «дзесяцігадовае ўтрыманне» будынка гродзенскага тэатра. Некалькі месяцаў кіравала тэатрам на парытэтных асновах разам з заезджым акцёрам і антрэпрэнёрам Я.Шыманскім. Іх трупы igpaлi папераменна, але Шыманскі прэтэндаваў на непадзельнае валоданне будынкам гродзенскага тэатра. Восенню 1803 Д. і Шыманскі, аб'яднаўшы 2 творчыя калектывы, стварылі тэатральную суполку. Шыманскі выступаў як акцёр. У Д. быў вопыт працы на сталічнай і правінцыяльнай сцэнах, багаты рэпертуар. Выхаванка, партнёрка і добрая сяброўка Багуслаўскага, яна вельмі патрабавальна ставілася да сваёй творчасці і да сябе, вышэй за асабісты поспех у глядзельнай зале цаніла агульныя інтарэсы трупы, тэатра, мастацтва. Заўчасная смерць Д. спыніла яе плённую акцёрскую і тэатральна-арганізатарскую дзейнасць. Яна была дзелавітым антрэпрэнёрам, любіла тэатр і, паводле Багуслаўскага, «высока трымала сцяг мастацтва». Яе дзейнасць мела культурна-асветніцкае значэнне: тэатр станавіўся адной з актыўных форм духоўнага жыцця людзей.

*Літ.*: Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1983. Т. 1. С. 226, 229. *В.В.Краснова.*

# Ж



## ЖАБА (Żaba) Ігнацы (10.8.1713—1799)

Тэолаг, педагог, рэлігійны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся ў сям'і мінскага ваяводы Яна Казіміра. Навучаўся ў езуіцкіх школах у Гродне, на філасофскім факультэце Віленскай акадэміі (1731—34). З 1735 займаўся багаслоўскімі навукамі, з 1740 выкладаў паэтыку, красамоўства і філасофію ў езуіцкіх калегіумах, у 1748 выконваў функцыі прапаведніка пры двары свайго старэйшага брата Яна Антонія. У 1752 абараніў доктарскую дысертацыю. У 1753—54 прафесар тэалогіі ў Вільні, пракуратар Літоўскай правінцыі. У 1756—60 член прадстаўніцтва Рэчы Паспалітай пры генеральнай курыі ў Рыме. Пасля вяртання з-за мяжы прызначаны рэктарам Віленскай акадэміі (1760—69), узначальваў калегіумы ў Гродне (1763—66), Жодзішках (1766—69) і Браневе (1770—72), быў настаяцелем у Мітаве (Елгаве). У 1774 пры падтрымцы І.Масальскага зноў прызначаны на пасаду рэктара Віленскай акадэміі, якую займаў да выхаду ў адстаўку ў 1779. Памёр і пахаваны ў Вільні. Звесткі пра яго літаратурную спадчыну адсутнічаюць.

## ЖАБРОЎСКІ (Żebrouzki) Тамаш (1714—1758)



Матэматык і астраном, прафесар матэматыкі і філасофіі ў Віленскай акадэміі. Нарадзіўся ў Вялікім княстве Літоўскім. Пасля заканчэння Віленскай акадэміі ў 1732 накіраваны за мяжу для ўдасканалення ведаў. У час стажыроўкі ў Пражскім універсітэце вывучаў матэматыку і астраномію, выдаў 2 кароткія падручнікі па арыфметыцы і геаметрыі, астранамічны твор «Аб сапраўднай вышыні полюса горада Вільні». У 1753 узначаліў будаўніцтва Віленскай астранамічнай абсерваторыі, для якой прывёз з Англіі неабходнае

абсталяванне. У 1755 абсерваторыя была адкрыта, і Ж. распачаў сістэматычныя астранамічныя назіранні. Адначасова на працягу 6 гадоў ён выкладаў у Віленскай акадэміі матэматыку і філасофію. Ж. ўспрымаў геліяцэнтрычную сістэму як навуковую гіпотэзу. Ён быў прыхільнікам новай філасофіі прыроды і поспехі яе тлумачыў укараненнем матэматычных метадаў даследавання.

## ЖЫЛІБЕР (Gilibert) Жан Эмануэль (1741—1814)

Вучоны-прыродазнавец, урач, мысліцель; заснавальнік першай на Беларусі медыцынскай акадэміі ў Гродне (1775—81). Нарадзіўся ў Францыі непадалёку ад Ліёна. Медыцынскую адукацыю атрымаў ва універсітэце Манпелье і працаваў прафесарам медыкаветэрынарнай школы ў Ліёне. У 1775 запрошаны А.*Тызенгаўзам* для заснавання ў Гродне медыцынскай школы (акадэміі). Кіраваў Гродзенскай медыцынскай акадэміяй (1775—81), заснаваў у Гродне акушэрскую і ветэрынарную школы, клінічны шпіталь, анатамічны тэатр, батанічны сад, уладкаваў тут багатую навуковую бібліятэку. У акадэміі і школах Ж. выкладаў медыцыну, мінералогію, хімію, батаніку. Напачатку (кастрычнік 1775) у медыцынскай школе было 12 вучняў. У 1778 пры школе створана аддзяленне на 10 вучняў «добрага паходжання і выдатных здольнасцей», дзе рыхтавалі ўдасканаленых урачоў для гарадоў, і аддзяленне на 20 чалавек для «правінцыяльных лекараў і хірургаў» (паводле звестак швейцарскага вучонага І.Бернулі); у аддзяленні «спавівальнага мастацтва» выкладчыкам была акушэрка з Парыжа. З гэтага часу школа стала называцца акадэміяй. Тут навучаліся пераважна дзеці рамеснікаў і сялян (шляхціцы лічылі медыцынскую справу нешляхетным заняткам). Як чалавек прагрэсіўных, дэмакратычных і рацыянальных поглядаў Ж. спачуваў простым людзям. Ён быў самастойным мысліцелем і, відаць, падзяляў погляды французскіх асветнікаў і матэрыялістаў. Усё гэта не падабалася клерыкальным колам у Вільні, куды ў 1781 была пераведзена медыцынская акадэмія з Гродна і дзе на яе аснове створаны медыцынскі факультэт пры Віленскім універсітэце. Езуіты і наогул каталіцкія колы насцярожана, нават варожа ставіліся да вучонага. Яны перашкаджалі дзейнасці Ж. ў т.зв. анатамічным тэатры, хоць гэта было прынята ў практыцы навучання медыкаў у тагачасных перадавых краінах. Матэрыялы сведчаць і пра нейкую інтрыгу, у якую была ўцягнута і жонка Ж. Акадэмічная адміністрацыя вымушана была забараніць лекцыі і творы вучонага (нават з універсітэцкай бібліятэкі былі забраны 4-ы і 5-ы тамы яго твораў). Справа скончылася разводам і ад'ездам у 1783 Ж. на радзіму.

Ж. напісаў шмат прац па флоры Беларусі, Літвы, Польшчы, па эпідэміялогіі эндэмічных хвароб у гэтых краінах. У прадмове да сваёй кнігі «Флора Літвы» (1781) ён разважаў аб прынцыпах класіфікацыі раслін К.Лінея, Турнефора і інш. Ж. аддаваў перавагу поглядам Турнефора, а да Лінея ставіўся крытычна. Ён пісаў: «...Не заўсёды мы адносіліся з поўным даверам да законаў бессмяротнага настаўніка... Як мне, так і ўсім падобным мне натурам многія прынцыпы Лінея ўяўляюцца каштоўнымі, але яго нельга ніякім чынам без доказу назваць мужам глыбокіх дараванняў... ён занадта сістэматычны і абвясціў без усякага разбору зусім адвольныя законы, якія супярэчаць прыродзе». 2 тамы гэтай грунтоўнай працы выйшлі яшчэ ў Гродне, а наступныя 3 у Вільні. На той час кніга была навукова абгрунтаваным даследаваннем, ёю зацікавіліся і вучоныя Расійскай акадэміі навук. Ж. меў добрыя адносіны з акадэмікам П.С.Паласам, які прысылаў яму ў Гродна шматлікія расліны для даследавання. Пра вынікі сваіх доследаў Ж. паведамляў і ў Расійскую акадэмію (у 1780 у «Акадэмічных весцях» надрукавана яго праца на рускай і французскай мовах).

Светапогляд Ж. адлюстраваны ва ўсёй яго дзейнасці, у т.л. і ў натуралісцкіх творах. Раслінны і жывёльны свет вучоны разглядаў як тварэнне прыроды-маці, якая ўсё нараджае. Ён адмаўляў існаванне «жыццёвых духаў», лічыў, што ўсё заключаецца ў прыроднай жыццядзейнасці арганізмаў. У сваіх поглядах на арганічнае жыццё Ж. прытрымліваўся стыхійна-

матэрыялістычных пазіцый: «У свеце існуе мноства відаў жывёлін і раслін, іх зараджэнне, развіццё і харчаванне падпарадкоўваюцца натуральным законам». Ён лічыў, што класіфікацыя жывёльнага і расліннага свету павінна быць натуральнай, а не штучнай, што пры сістэматызацыі раслін найперш трэба ўлічваць натуральныя сувязі, і абгрунтаваў слушныя палажэнні пра ўсебаковы ўлік якасцей і ўласцівасцей арганічнага свету. З гэтых пазіцый Ж. крытыкаваў Лінея за штучнасць яго класіфікацыі: «Праўда, ён нам прапанаваў свой метад, але, па-першае, вельмі цяжкі на практыцы, па-другое, ён мае шмат адхіленняў ад нормы і ламае натуральныя сувязі». У сваёй практычнай дзейнасці па класіфікацыі раслін беларускай і літоўскай флоры Ж. выкарыстоўваў і метады Лінея, але кіраваўся пераважна сваім метадам, які абапіраўся не столькі на фармальныя адзінкі, колькі зыходзіў з умоў жыцця раслін і іх натуральных відавых прыкмет. Светапогляд Ж. ў сваёй аснове адлюстроўвае стыхійна-матэрыялістычныя імкненні вучонага, які высока ставіў эксперымент і назіранне. Як батанік-сістэматык Ж. даў пачатак сістэматычнаму вывучэнню флоры Беларусі, распрацаваў планы сумеснага са студэнтамі шырокага вывучэння мясцовай флоры, фауны і мінералаў (была сабрана значная калекцыя) і тым самым заклікаў да даследавання самой прыроды, яе законаў. Ён аб'ектыўна садзейнічаў пераадоленню рэлігійна-тэалагічнага светапогляду (ва ўсякім разе ў яго найбольш кансерватыўных формах). Логіка натуральна-навуковага светапогляду падводзіла яго фактычна да адмаўлення некаторых палажэнняў тэалогіі. Так, у нарысе «Даследчыкі прыроды Літвы» (1781) ён па сутнасці адмаўляе тэалагічную (ці спірытуальную) трактоўку паняцця душы. Абапіраючыся на эксперыментальны дослед 5-месячных зрослых блізнят (адзін з іх без галавы і ног), Ж. зрабіў выснову, што «жыццёвы пачатак, які кіруе харчаваннем, цалкам незалежны ад разумнай часткі душы». Аб'ектыўнасць вывучэння біялагічных працэсаў — галоўны прынцып вучонага. У гэтых жа нарысах ён правёў параўнальны аналіз анатоміі ваўка і чалавека, прааналізаваўшы агульнае і рознае ў іх будове. Ж. заклікаў вывучаць рэальныя прычыны хвароб людзей, ісці да ісціны, не зважаючы на забабоны. Над уваходам у анатамічны тэатр ён зрабіў шыльду: «Тут сама смерць павінна прыносіць карысць чалавецтву».

Светапогляд Ж. і яго навуковая дзейнасць не падабаліся экс-езуітам (К.Богуш, А.Стрэцкі і інш.), якія абвінавачвалі вучонага ў падрыве веры і маралі (напр., вызначэнне полу кветак лічылі ганебным заняткам). Усё гэта вымусіла Ж. вярнуцца ў Францыю, дзе ён удзельнічаў у рэвалюцыі 1789—94.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Historia nauki polskiej. T. 2. Wrocław etc., 1970. *Э.К.Дарашэвіч.*

## ЖЭРА (Żera) Кароль Антоні (1.9.1743—пасля 1798),

Польскі і беларускі празаік, педагог. Нарадзіўся ў в. Тварогі Выпыхі на Падляшшы (цяпер Польшча) у сям'і дробнага шляхціца. З 1751 вучыўся грамаце ў бацькі, з 1754 — у Драгічынскай езуіцкай калегіі. У 1765 у Пінску ўступіў у ордэн францысканцаў і прыняў манаскае імя Гаўдэнцій. Пазней, калі жыў у г.Сянно на Віцебшчыне, працаваў выкладчыкам у канвенце (школе з інтэрнатам) бернардзінцаў.

Асноўны твор Ж. — зборнік фацэцый (анекдотаў) «Торба смеху», датаваны прыблізна 1773—98. У яго ўключаны 233 анекдатычныя, пацешныя і павучальныя гісторыі, якія здарыліся на Піншчыне, Лепельшчыне, у Гродне, Драгічыне, Сянне і ў інш. мясцінах Беларусі і Польшчы. Некаторыя з фацэцый пададзены на беларускай мове. Змест зборніка, часта антыпрыгонніцкі і антыклерыкальны, сведчыць, што Ж. быў прыхільнікам ідэй Асветніцтва, рацыяналістам. «Торба смеху» распаўсюджвалася ў рукапісах. Адзін з яе спісаў знойдзены і апублікаваны З.Глогерам (1893). Другі выяўлены ў Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу А.Мальдзісам. Гэты ж спіс паслужыў літаратуразнаўцу К.Жукоўскай асновай для варшаўскага выдання (1980).

*Літ.*: Артымовіч Е. Кароль Жэра // Ніва. 1984. 11 лістап.; Мальдзіс А.

«Торба смеху» Караля Жэры // ЛіМ. 1984. 5 кастр.; Krzyzanowski J. Dawna facecja. Warszawa, 1960. S. 136—139.

*А.В.Мальдзіс.*

# З 

## **ЗАВІША** (Zawisza) Крыштаф Станіслаў (20.4.1666—15.8.1721)

Пісьменнік-мемуарыст, перакладчык, аратар, дзяржаўны дзеяч Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся на Слонімшчыне ў сям'і пісара Вялікага княства Літоўскага і мінскага старосты А.Завішы. Страціўшы ў раннім дзяцінстве бацьку, знаходзіўся пад апекай дзядзькі канцлера Марцыяна Агінскага. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, потым у Кракаве. З 1685 староста мінскі, з 1720 ваявода мінскі. Прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці, удзельнік пасольства К.Гржымалтоўскага ў Маскву, некалькі разоў быў паслом і маршалкам сойма (1697, 1718, 1720). Неаднаразова мяняў палітычную арыентацыю. Спачатку быў прыхільнікам караля Аўгуста І, у час Паўночнай вайны прыняў бок Станіслава Ляшчынскага. У 1686 у выніку жаніцьбы з Тэрэзіяй Тышкевіч атрымаў багаты пасаг, што дало яму магчымасць заняцца ў вясковай цішы літаратурнай дзейнасцю. Аўтар пераробкі італьянскага рамана «Любасць без перамен» (1688), шэрага прамоў на соймах, сабраных яго дачкой Б.Радзівіл (Завішай) у кнізе «Водгук прыемных мелодый» (Варшава, 1728), і інш. Найбольш значныя ў яго літаратурнай спадчыне «Успаміны» (Варшава, 1862), дзе апісаны норавы і ўклады жыцця беларускай шляхты канца 17—пач. 18 ст., гістарычныя падзеі, да якіх аўтар меў непасрэднае дачыненне.

## **ЗАГУРСКІ** Антоні

Вучоны правазнавец у Вялікім княстве Літоўскім у 2-й палове 18 ст.; адзін з першых свецкіх прафесараў Віленскай акадэміі, дзе выкладаў цывільнае права. Выступаў з крытыкай судаводства і некаторых іншых бакоў палітычнага жыцця Літоўска-Беларускай дзяржавы. Яго погляды выкладзены ў прамове «Пра высакароднасць, неабходнасць і карысць юрыспрудэнцыі ці прававой разважлівасці», сказаной ім 21.7.1761 у Віленскай акадэміі (прамова надрукавана ў тым жа годзе). У адпаведнасці з тагачаснай прыродазнаўча-прававой дактрынай ён лічыў, што «ўсякае права можна назваць «боскім». Асновай прыроднага права З. лічыў боскі закон — вечны і універсальны закон Сусвету, да якога павінна дапасоўвацца чалавечае заканадаўства. Таму юрыспрудэнцыю ён тлумачыў як навуку аб боскіх і чалавечых законах, закліканых вызначаць, што справядліва, а што не. Ён быў упэўнены, што веданне юрыспрудэнцыі неабходна ўсім людзям, якія выконваюць грамадскія і дзяржаўныя абавязкі, асабліва суддзям. Ён рэзка крытыкаваў пагарду да прававой навукі, з трывогай адзначаў, што права не вывучаецца ні ў адной школе Літоўска-Беларускай дзяржавы. Становішча ў судаводстве ацэньваў як крызіснае. Узвышэнне ролі прававой навукі ў жыцці грамадства і імкненне паставіць закон на месца самавольства сведчылі пра наспелую тэндэнцыю да перагляду асноў феадальнага права. Гэта дае падставы гаварыць, што З. — адзін з папярэднікаў прыродазнаўча-прававога вучэння ў асветніцкай думцы Беларусі і Літвы апошняй трэці 18 ст. Яго меркаванні адносна неаходнасці прававой адукацыі ўсяго насельніцтва дзяржавы адпавядаюць патрабаванням нашай сучаснасці.

## **ЗАЛУСКІ** Лука (1604—76)

Філосаф, педагог. Нарадзіўся на Міншчыне ў шляхецкай сям'і. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце. Выкладаў паэтыку, рыторыку, філасофію, тэалогію ў гэтым і інш. універсітэтах Рэчы Паспалітай. Выкладчыцкую дзейнасць сумяшчаў з царкоўна-адміністрацыйнай. Пад прозвішчам свайго вучня М.Мнішкі (відаць, Мнішка быў мецэнатам З.) выдаў у Вільні ў 1640 твор пад назвай «Агульная філасофія...», які з'яўляецца цікавай крыніцай філасофскай культуры 17 ст. Поруч са змястоўным выкладаннем шырокага кола праблем, што звычайна разглядаліся ва універсі-

тэцкіх курсах філасофіі, твор адлюстроўвае выразную індывідуальную філасофскую пазіцыю аўтара. Гэта 3-гадовы курс філасофіі, прачытаны З. у Віленскім універсітэце ў 1638—40. Складаецца з 2 частак: «Практычнай філасофіі» і «Тэарэтычнай філасофіі». Першая прысвечана пытанням маральна-сацыяльнага характару і ўключае раздзелы «Этыка», «Эканоміка», «Палітыка». Другая змяшчае «Логіку», «Натуральную філасофію» і «Метафізіку». З. фармальна выкарыстаў арыстоцелеўскі падзел філасофіі на практычную і тэарэтычную. Але ў адпаведнасці з уласнымі ўяўленнямі пра ролю філасофскіх ведаў і канчатковую мэту ён паставіў на першы план навукі пра чалавека, а не навукі пра прыроду і спосабы пазнання. Ён адышоў ад афіцыйна прынятай у позняй схаластыцы метадалогіі, якая прадпісвала вывучэнне філасофіі пачынаць з логікі, затым пасля года яе вывучэння пераходзіць да філасофіі прыроды, да метафізікі і толькі, калі застанецца час, сцісла выкладаць этыку. У гэтым прадпісанні праяўлялася арыентацыя, якую на сучаснай мове назвалі б саентыстыкай. З. арыентаваўся на гуманістычны ідэал ведаў. Для яго філасофія не столькі навука, колькі мудрасць, «настаўніца ў норавах». Адсюль адпаведнае разуменне філасофіі: ён лічыць яе прызванай служыць удасканаленню чалавечай маралі і грамадскага жыцця людзей. Што тычыцца тэарэтычнай філасофіі, то ў гэтым раздзеле З. выкладае традыцыйную для позняй схаластыкі сістэму ведаў. Яна ўключае 3 часткі: рацыянальную філасофію, або логіку, натуральную філасофію, ці фізіку, і метафізіку. Логіка па сутнасці змяшчае фармальна-лагічную праблематыку, элементы тэорыі пазнання, філасофіі і мовы.

*Літ.*: Чернышева Л.А. Латиноязычная традиция в культуре белорусского барокко // Белоруссика. Мн., 1980; Яе ж. «Практычная філасофія» Лукі Залускага // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. № 2; Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XIII в. Мн., 1991. С. 91—92; Bieliński J. Uniwersytet Wileński (1579—1831). Krakow, 1899—1900. T. 2. S. 394; T. 3. S. 360—361.

*Л.А.Чарнышова.*

## ЗЯНОВІЧ Крыштоф (1589—1630)

Ваявода берасцейскі. Паходзіў з дваранскага роду Вялікага княства Літоўскага. Аўтар рукапіснага твора на польскай мове «Трагедыя, альбо Пачатак значнага ўпадку ў доме княства Літоўскага», у якім апісана сварка паміж віленскім ваяводам Крыштофам Радзівілам і віленскім кашталянам Іеранімам Хадкевічам. Рукапіс на пачатку 20 ст. захоўваўся ў Пецярбургскай публічнай бібліятэцы.

# І



## ІЯЎЛЕВІЧ (Яўлевіч) Ігнацій (26.9.1619—каля 1686)

Педагог-асветнік, пісьменнік, грамадскі і царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і небагатага магілёўскага мешчаніна. Першапачатковую адукацыю атрымаў у г.Шклоў. Потым вучыўся ў розных бакалаўраў Магілёўскай брацкай школы, тры гады вывучаў тэалогію і медыцыну ў Замойскай акадэміі (Польшча). Пасля вучобы працаваў выкладчыкам у Кіева-Магілянскай калегіі, быў прафесарам свабодных навук. Разам з рэктарам гэтай калегіі С.Пачаскім удзельнічаў у арганізацыі ў Ясах (цяпер Румынія) славяна-грэка-лацінскай акадэміі — першай буйной малдаўскай навучальнай установы, якая адкрылася ў 1640. Калі быў студэнтам 2-га курса філасофіі, 31.8.1647 пастрыгся ў Кіеве ў манахі. Пэўны час жыў у Львове, Яраслаўлі (у Галіцыі), Кракаве, Скіце, Камянцы, Сочаве (у Валахіі), Оршы і інш. месцах. З 1655 жыў у Полацку, быў ігуменам Богаяўленскага манастыра, пры якім адкрыў школу і бібліятэку. У 1660 стаў таксама архімандрытам Полацкага Барысаглебскага манастыра. Жывучы ў Полацку, апекаваў мясцовых паэтаў і Філарэта Утчыцкага, і *Сімяона Полацкага*, падтрымліваў прыязныя адносіны з тагачаснымі рускімі дзяржаўнымі і культурнымі дзеячамі Ф.Рціщчавым і Л.Ардын-Нашчокіным. У час прыезду ў Полацк цара Аляксея Міхайлавіча (1656) выступіў з прамовай. Прымаў

актыўны ўдзел у Маскоўскім царкоўным саборы 1660 па справе патрыярха Нікана. Апошнія звесткі пра І. ўтрымліваюцца ў перапісцы з маскоўскім патрыярхам Іаакімам за студзень—сакавік 1686.

З літаратурнай спадчыны І. да нашага часу дайшла яго аўтабіяграфічная запіска на польскай мове (апублікавана ў 1886 С.Голубевым), у якой прыведзены важныя матэрыялы па гісторыіі гарадской адукацыі 2-й чвэрці 17 ст. і пра цесныя культурныя і педагагічныя ўзаемасувязі беларускага і ўкраінскага народаў. Захаваліся яго прамовы з нагоды розных рэлігійных і палітычных падзей таго часу і некалькі лістоў І. да Сімяона Полацкага. Вядомы таксама яго дэкламацыя на прыезд у Магілёў віцебскага, аршанскага, мсціслаўскага і магілёўскага епіскапа Іосіфа Гарбацкага (4.8.1650) і некалькі элегічных вершаў, створаных на ўзор элегій Авідзія. У паэзіі І. яскрава выявіліся рысы сілабізму.

*Тв.:* [Творы] // Древняя российская вивлиофика... 2 изд. М., 1788. Ч. 3. С. 309—312, 116—322, 335—337, 367—369, 372—374, 392.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1. С. 363—364. *А.Ф.Коршунаў.*

## ІЯЎЛЕВІЧ Фама

Беларускі пісьменнік і педагог 1-й паловы 17 ст. Нарадзіўся ў Магілёве. Вучыўся ў Магілёўскай брацкай школе, у сярэдзіне 1620-х гадоў — у Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. З канца 1620—пач. 1630-х гадоў рэктар Кіеўскай брацкай школы, з 1632 займаўся педагагічнай дзейнасцю ў Магілёўскім, а ў 40-я гады ў Слуцкім брацтвах. Аўтар кнігі «Лабірынт, або Заблытаная сцежка, у якой прыгожая Мудрасць паказвае найкарацейшы шлях магіляўчанам і іншым ва ўсіх іх пачатках. Напісана студэнтам філасофскага факультэта Фамой Іяўлевічам» (Кракаў, 1625, на польскай мове). Гэта маналог Мудрасці, звернуты да маладшага Магілёўскага брацтва і наогул да ўсяго беларускага мяшчанства і славян, якія насялялі Беларусь і Украіну. Твор вылучаецца свецкай, дэмакратычнай накіраванасцю, пазбаўлены тэалагічнага пакрыцця, прасякнуты ідэямі сацыяльнай перавагі. На першым плане ў ім актыўнасць асабістага і грамадскага быцця, мудрасць, на яго думку, даецца не дзеля боскіх адкрыццяў ісцін, а для разумення ўсяго існуючага, пазнання самога сябе, прыроды, грамадства. Яна дазваляе адказаць і на самыя складаныя філасофскія, і на простыя пытанні, практычныя патрэбы людзей. Галоўнай ідэяй твора з'яўляецца патрыятычная ідэя адраджэння «славянскага народа», духоўнай асветы моладзі. Аўтар заклікаў аб'яднаць намаганні ў ратаванні краіны, вывесці яе са складанага і заблытанага шляху нягод і ўзрушэнняў.

*Літ.:* Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI—середине XVII в. Мн., 1989. С. 121—124.

# К



## КАЖЫНСКІ (Kazyński) Мацей (1767—29.3.1823)



Спявак, акцёр, рэжысёр і антрэпрэнёр; стваральнік першага пастаяннага тэатра ў Мінску (на польскай мове). Акцёрскую дзейнасць пачаў у Любліне (1786). З 1793 працаваў у Гродне, Мінску і Вільні, як акцёр выконваў камедыйныя ролі ў п'есах Мальера, В.Багуслаўскага, Ф.Багамольцава і інш. У 1797—1801, 1802—05 антрэпрэнёр, рэжысёр і акцёр Мінскага, у 1801—02, 1805—16 Віленскага тэатраў. Гастраліраваў з Мінскім тэатрам у Полацку, Віцебску, Бешанковічах (1805) і ў

Маскве (1797, 1805), з Віленскім тэатрам — у Мінску і ў Пецярбургу (1807).

## **КАМЕНСКІ** Адам (Каменскі-Длужык, Длужык-Каменскі; ?—27.1.1667)

Пісьменнік-мемуарыст 17 ст. Паходзіў з заходніх зямель Беларусі. Аўтар унікальнага па змесце «Дыярыуша», апублікаванага ў 1874 А.Марыянскім па копіі, зробленай у Гембіцах (Польшча) у прыватнай бібліятэцы ксяндза П.Кушынскага нейкім шляхціцам Панінскім. Мяркуючы па мове твора, К. выйшаў з асяроддзя спаланізаванай заходнебеларускай шляхты. Тэкст «Дыярыуша» выяўляе ў ім добра адукаванага чалавека, здольнага апавядальніка з вострай і тонкай назіральнасцю, рамантычнай узнёсласцю і адначасова з цвярозым, гаспадарскім поглядам на жыццё. Як відаць з мемуараў, у час руска-польскай вайны 1654—67 у канцы 1657 К. трапіў у рускі палон. З-пад Шклова Магілёўскага ваяв. ён адпраўлены пад канвоем у Якуцк, адтуль у Запаляр'е і Прымор'е. Быў там зборшчыкам ясака (падатку) сярод мясцовага насельніцтва. З павагай ставіўся да тамашніх народаў, асабліва да прыангарскіх тунгусаў.

«Дыярыуш» — самы ранні з усіх вядомых пісьмовых помнікаў пра Сібір (калі не лічыць, відаць, ужо страчанага апісання гэтага рэгіёна, зробленага ў 1655 навагрудскім езуітам Кавячынскім). К. пачаў сваё вымушанае падарожжа па сібірскіх землях на 17 гадоў раней, чым перакладчык рускага пасольства ў Кітаі Н.Спафарый. «Дыярыуш» адрозніваецца ад апісання Спафарыя не толькі ў геаграфічным і этнаграфічным плане, але і большай вобразнасцю, глыбінёй асэнсавання рэчаіснасці, што надае яму характар мастацкага твора. «Дыярыуш» з поўным правам можна назваць энцыклапедыяй ведаў пра Сібір 17 ст. Аўтара цікавіла ўсё: адлегласць паміж населенымі пунктамі, навакольная фауна і флора, заняткі мясцовага насельніцтва, яго побыт і звычаі, эканамічны. стан, размяшчэнне гарадоў і мястэчак, здабыча солі і яе кошт, багацці рэк і лясоў. Пабач з апісаннем побыту сібірскіх абарыгенаў твор змяшчае і цікавыя звесткі пра лад жыцця рускіх пасяленцаў Заходняй і Усходняй Сібіры, цікавыя характарыстыкі многіх сібірскіх гарадоў і апорных абарончых пунктаў, так званых астрогаў. Усё гэта робіць «Дыярыуш» каштоўным помнікам мемуарнай літаратуры 2-й паловы 17 ст., у якім упершыню пытанні геаграфіі і этнаграфіі Сібіры сталі прадметам мастацкага апавядання.

*Літ.:* Коршунаў А.Ф. «Дыярыуш» Адама Каменскага Длужыка // Беларуская літаратура і літаратуразнаўства. Мн., 1974. Вып. 2.

## **КАНІСКІ** Георгій (20.11.1717—13.2.1795)



Архіепіскап беларускі, рэлігійны палеміст, філасоф і пісьменнік. Нарадзіўся ў Нежыне Чарнігаўскай вобл. ў дваранскай сям'і. Пры хрышчэнні атрымаў імя Рыгор. У 11-гадовым узросце адпраўлены ў Кіеўскую акадэмію, дзе навучаўся 15 гадоў. Пасля сканчэння акадэміі ў 1744 пастрыжаны ў манахі пад імем Георгія і пакінуты выкладчыкам акадэміі пры кафедры красамоўства. З 1747 на працягу 5 гадоў узначальваў кафедру філасофіі, адначасова быў прэфектам. З 1751 рэктар

акадэміі, прафесар багаслоўя, а з 1752 адначасова і архімандрыт Кіева-брацкага вучылішчнага манастыра. З 1755 пачынаецца новы перыяд яго жыцця і дзейнасці: К. прызначаецца беларускім епіскапам і пераязджае ў Магілёў. З гэтага часу ўся яго дзейнасць цесна звязана з палітычным і ідэйным жыццём беларускага грамадства. З 1783 ён беларускі праваслаўны архіепіскап, член св. Сінода. К. пакінуў значны след у гісторыі грамадскай думкі Беларусі. Многія свае ідэі ён выказваў у публічных прамовах і царкоўных пропаведзях. Усяго ім складзена каля 80 (апублікавана 78) прамоў і пропаведзяў («слоў»). Ён распаўсюджваў ідэі кіева-магілянскіх асветнікаў, імкнуўся да пашырэння рускай пісьменнасці на Беларусі, выступаў супраць Ватыкана і Брэсцкай уніі 1596, супраць каталіцтва і царкоўнай уніі, прапагандаваў ідэю аб'яднання беларускага народа з рускім і ўкраінскім народамі. У некаторых пытаннях адыходзіў ад тэалогіі, паважліва ставіўся да вучэння М.Каперніка і Г.Галілея. У яго этыцы сустракаюцца элементы народнага светапогляду. К. — аўтар курсаў паэтыкі («Правілы паэтычнага мастацтва») і філасофіі (на лацінскай мове), гістарычных запісак пра Магілёўскую епархію, інтэрмедый, вершаў, казанняў, прамоў. У трагікамедыі «Уваскрэсенне мёртвых...» (1746, пастаўлена ў 1747) з пазіцый артадаксальнай праваслаўнай царквы трактаваў вострую сацыяльную тэму эксплуатацыі працоўных. На лацінскай мове ў Магілёве выдаў курс паэтыкі Ф.Пракаповіч («De arte poetica», 1786). У большасці сваіх твораў усхваляў Бога і існуючы грамадскі лад, заклікаў строга прытрымлівацца канонаў веры. Разам з тым К. прапагандаваў неабходнасць скасавання феадальнай анархіі і абмежавання самавольства феадалаў, усталявання ў краіне цэнтралізаванага



*Магілёў. З малюнка 19 ст.*

парадку і законнасці. Ён быў ідэолагам сярэдніх слаёў пануючага класа сучаснага яму грамадства, якое было зацікаўлена ў абмежаванні магутнасці буйных феадалаў, упарадкаванні дзяржаўнай улады, развіцці асветы. Гэтыя погляды супадалі з інтарэсамі новага класа, што нараджаўся ў той час, — класа буржуазіі, які нёс ідэалогію асветніцтва. У 1757 К. звярнуўся з граматай да беларускага праваслаўнага духавенства, у якой пераконваў, што павучаць народ ёсць найпершая і галоўная справа пастырская, бо без павучання не будзе веры. Адстойваючы правы на асвету ўсіх слаёў насельніцтва, у т.л. і простага люду, К. ў тым жа годзе адкрыў у Магілёве вучылішча на ўзор Кіеўскай акадэміі і ставіў сваёй мэтай зрабіць яго апорай асветы шырокіх колаў беларускага грамадства. У 1767 беларускі асветнік адзначаў у сваёй пропаведзі цяжкае становішча праваслаўнага насельніцтва Беларускай епархіі: «Маглі вы яшчэ бачыць у ёй нейкую колькасць цэркваў праваслаўных, але і тыя на пуні і хлеўнікі жывёльныя падобны, а не на храмы хрысціянскія... Адняты ў іх святло навучання: школам і семінарыям быць не дапушчальна, а таму не толькі ніжэйшага саслоўя людзі, але і само дваранства ў крайняй прастаце і невуцтве вымушана быць. Таму ж дваранству забаронены доступ да чыноў і годнасці. Двараніна ад селяніна цяжка распазнаць...» К. звязваў грамадскі прагрэс з развіццём навукі, з распаўсюджваннем адукацыі на ўсе слаі насельніцтва і энергічна праводзіў у жыццё свае ідэі: адчыняў школы і семінарыі, пісаў і выдаваў навуковыя і мастацкія творы, крытыкаваў крайнасці феадалізму, жорсткую эксплуатацыю і прыгнёт народа, невуцтва, забабоны, духоўную галечу тых, хто мае ўладу. Калі ў 1787 імператрыца Кацярына II была ў Мсціслаўлі, К. пры сустрэчы выказаў кароткую прывітальную прамову, якая ўзрушыла найвысачэйшую асобу сваёй філасофскай глыбінёй. Выданню твораў К. садзейнічаў протаіерэй І.*Грыгаровіч*, які ў 1835 выдаў поўны збор твораў — яго бліскучыя прапаведзі. Творы К. высока ацэньваў А.С.Пушкін. Паводле яго меркавання, «Георгій ёсць адзін з самых памятных дзеячаў мінулага (18) стагоддзя. Жыццё яго належыць гісторыі».

*Тв.*: Собр. соч. Ч. 1—2. Спб., 1835; Записки преосвященного Георгия Конисского о том, что в России до конца XVI века не было никакой унии с римскою церковью. М., 1847; Слова и речи Георгия Конисского, архиепископа Могилёвского. Могилёв-на-Днепре, 1892.

*Літ.*: Костомаров Н.И. Исторические произведения; Автобиография. 2 изд. Киев, 1990; Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен. Спб., 1873; Филарет Гумилевский, архиепископ Черниговский. История Русской Церкви. 5 изд. М., 1888. Кашуба М.В. Георгий Конисский. М., 1979.

## КАПІЕВІЧ (Капіеўскі) Ілья Фёдаравіч (каля 1651—1714)

Пісьменнік, выдавец, асветнік, энцыклапедыст. Нарадзіўся на Беларусі (найбольш верагодна на Брэстчыне ці Случчыне). У час вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй падлетка К. звёз з сабой «боярский сын з Бежыцкия пятины», г. зн. з Ноўгарада. Праз 6 гадоў К. разам з мсціслаўскім ваяводам М.Цеханавецкім вярнуўся на Беларусь. Вучыўся ў Слуцкай кальвінісцкай школе, якая ў той час была цэнтрам культуры, што мела вырашальнае значэнне для фарміравання і эвалюцыі поглядаў маладога К. Верагодна, тут ён атрымаў добрыя веды і вывучыў замежныя мовы. Яшчэ ў час навучання ў школе К. як здольны вучань заняў тут у 1674 пасаду лектара (настаўніка малодшых класаў). Дакладна невядома, як К. трапіў у Галандыю (верагодна, па канфесійных матывах), але ўстаноўлена, што там ён займаўся выдавецкімі справамі. Захаваліся яго лісты да Лейбніца, які прапаноўваў К. супрацоўнічаць у справе выдання кніг. У 1697 у час прыбыцця ў Галандыю расійскага вялікага пасольства пад кіраўніцтвам Пятра I К. быў кандыдатам-пастарам пры Амстэрдамскім саборы. Як знаўца многіх моў быў настаўнікам Пятра I і іншых удзельнікаў пасольства. З гэтага часу К. усё сваё жыццё прысвяціў асветніцкай справе на карысць усходнеславянскіх народаў. Ён складаў планы выдання падручнікаў, якія, відаць, абмяркоўваў з

Пятром I, а потым выдаў іх у друкарні І.А.Тэсінга, а з 1700 — у сваёй. У 1699—1706 К. падрыхтаваў, пераклаў і выдаў каля 20 кніг асветніцкага характару па гуманітарных, прыродазнаўчых, тэхнічных і вайсковых галінах ведаў. Найбольш вядомыя з іх: «Введеніе краткое во всякую историю...»(1699), «Краткое и полезное руковедение во арифметику» (1699), «Уготование и толкование ясное и зело изрядное, краснообразного поверстания кругов небесных...» (1699), «Краткое собрание Льва Миротворца», «Номенклятор (лексикон) на русском, латинском и немецком языке», «Грамматика латинская» (усе 1700), «Морского плаванія книга» (1701), «Святцы, или Календарь» (1702), «Руковедение в грамматику славено-российскую» (1706) і інш. К. шмат вандраваў па Еўропе са сваёй друкарняй, а калі вырашыў перавесці яе ў Расію, то быў перахоплены піратамі. У 1708 ён разам з расійскімі войскамі прыбыў у Варшаву. Некалькі гадоў служыў у Пасольскім прыказе перакладчыкам. К. — вучоны з шырокім кругаглядам, патрыёт і прыхільнік навучання народа паспалітага, прадаўжальнік справы Ф.Скарыны. Ён адзін з першых (калі не першы) распрацаваў для ўсходніх славян навуковую тэрміналогію па многіх галінах ведаў. Падрыхтаваныя і выдадзеныя ім падручнікі асабліва былі карысныя для юнацтва, якое прысвяціла сябе навуцы, тэхніцы, мараходству ці вайсковай справе. Значны час гэтымі падручнікамі карысталіся ў расійскіх школах.

Па сваіх поглядах К. — актыўны прыхільнік рэформ Пятра I, якія ламалі руцінныя формы грамадскага жыцця. Ён вітаў імкненне славянскіх народаў да аб'яднання, называў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў «славянарускім народам». К. быў перакананы ў неабходнасці адукацыі, падкрэсліваў вялікае значэнне рознабаковага навучання: «Ничто же полезнейшее есть в сем житии, как познание и умелость писмен. Сие приношает величество и славу, сие неизреченную красоту воздает, сие государства укрепляет и расширяет, и прославляет — всякому человеку во всяком чине полезно. Писмена разум исправляют и обучают, и утешают...» («Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии». С. 324). Ён лічыў, што матэматыка вельмі карысная ў марской справе, у падарожжах, у горназдабыўной справе («вникнувший в математические книги, помощь обретеш»), астраномія дапамагае ў навігацыі, гісторыя — у пазнанні грамадскага жыцця і чалавека («Введение краткое во всякую историю...». С. 3—4). Асаблівае значэнне надаваў ён граматыцы: «тщетный есть всяк труд без грамматики».

Галоўную этыка-эстэтычную каштоўнасць К. бачыў у мудрасці і асвеце. Гэта думка выказана ім у арыгінальнай сентэнцыі «Пра кура», які, разграбаючы кучу смецця, выкідвае алмаз. Пад «курам» ён меў на ўвазе чалавека «маларазумнага», які не любіць «свабодных навук прамудрасці» («Притчи Езоповы...», Амстэрдам, 1700. С. 8). К. — аўтар «Рыторыкі» і «Паэтыкі» (не захаваліся). Значную ролю ў асветніцкай дзейнасці адыгралі яго творы па гісторыі: «Хроніка», «Часаапісанне», «Летапісы ці дзеянні», «Хроніка дня», «Уладаапісанне» (пра палітычнае жыццё), «Жыццеапісанне» (пра асобных людзей і здарэнні). К. тлумачыць, што «хроніка па-грэчаску таксама параліпаменон. У ёй жа дзеянні або справы ратныя, па парадку часоў размеркаваныя, апісваюцца добрасумленна, па ўсіх стагоддзях. Напрыклад, што перад патопам і што пасля патопу здарылася ва ўсялякі час... Летапісамі завуцца кнігі, дзе ўсялякага красамоўства і мастацтва і без тлумачэння прычын усялякага роду здарэнні апісваюцца». Такі разгляд гісторыі быў, напэўна, крокам наперад у параўнанні з ранейшымі сярэдневяковымі і тэалагічнымі канцэпцыямі. Магчыма, што на яго гістарычныя погляды паўплывалі не толькі заходнія (Лейбніц), але і ўсходнеславянскія гісторыкі (Стрыйкоўскі, Тацішчаў, Каменскі і інш.).

Паводле звестак самога К., ён адправіў у Маскву наступныя кнігі: «Риторическое собрание вместе с красноречием кратчайшее», «Политик, ученый и ученоблагочестивый, переданный польскими стихами», «Хронология священнополитическая от создания мира до разрушения Иерусалима, порусски и по-польски» (гэта і наступ-

ныя былі падрыхтаваныя К. да друку, лёс іх невядомы), «Квинт Курцый Руф о делах Александра Великого, по-русски», «Образцы склонений, спряжений, по-латыни, немецки и русски», «Немецкая грамматика с русским толкованием», «Введение Коменского, по-латыни, немецки и русски», «Семейные беседы, разделенные на 40 глав, по-латыни, немецки и русски», «Словарь полатински и русски», «Священная Библия на славянском языке, по порядку или стихами изданная», «Полная славянская грамматика».

Уплыў К. на беларускую культуру мала вядомы, але ў яго лексіконе выразна адчуваюцца беларускія моўныя ўздзеянні.

*Тв.*: Номенклятор на русском, латинском и голландском языках. Амстэрдам, 1700; Слава Торжеств. Амстэрдам, 1700; Книга, учащая морского плавания... Амстэрдам, 1701; Latina grammatica in usum scholarum celeberrimae gentis Slavonicae. Amsterdami, 1700.

*Літ.*: Описание изданий, напечатанных кириллицей, 1689—январь 1725 г. М.; Л., 1958; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985. С. 149—151; Дорошевич Э.К. Илья Копиевич, Георгий Конисский // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Антология педагогической мысли БССР. М., 1986. С. 134—138.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## КАРПІНСКІ (Karpiński) Францішак (4.10.1741—16.9.1825)

Паэт-сентыменталіст, асветнік, жыццё і творчасць якога звязаны з беларускай культурай. Нарадзіўся ў в.Галаскоў Каламыйскага р-на Івана-Франкоўскай вобл. (Украіна). Вучыўся ў езуіцкіх школах Станіслава і езуіцкай акадэміі ў Львове. У 1770—71 жыў у Вене, з 1780 — у Варшаве, дзе быў прыняты ў двары Чартарыйскага, удзельнічаў у творчых сустрэчах. Вакол яго як вядучага паэта польскага сентыменталізму групаваліся дзеячы культуры Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку І.*Быкоўскі*, Ф.*Князьнін*. Напачатку пісаў псалмы народнага тыпу, потым, адыходзячы ад лірычна-любоўнага кірунку, стварыў простыя народныя песні («Свецкія песні»); у аснову адной з іх паклаў беларускую народную песню «Пайшла дзеўка ў рэчку па ракі». Яго ўсё больш цікавілі фальклорныя матывы, і ён выкарыстоўваў іх у розных жанрах («Падарожжа па зачараванай краіне»). У 1781—82 К. наведаў Гродна і Вільню. Больш як 30 гадоў ён арандаваў зямлю на Гродзеншчыне і Пружаншчыне. У 1819 набыў ва ўласнасць фальварак Хорашаўшчына ў Ваўкавыскім пав. (цяпер Свіслацкі р-н), дзе пачаўся прынцыпова новы этап жыцця і творчасці паэта. Ён гаспадарыў на ўласным кавалку зямлі, разам з сялянамі працаваў у полі, вучыў сялянскіх дзяцей у школе, адкрытай ім у Хорашаўшчыне. Сяляне спявалі яму песні, расказвалі быліны, казкі, і К. старанна пранікаў у новы свет жыцця беларускага народа. Вакол яго групаваліся мясцовыя літаратурныя сілы. З ім падтрымлівалі сяброўскія сувязі сын мінскага войскага, перакладчык «Інкаў» Ж.Мармантэля С.*Клакоцкі*, астраном М.*Пачобут-Адляніцкі*, К.Хадкевіч, І.Кулакоўскі. Тут ён стварыў некалькі глыбока філасофскіх твораў пра сутнасць жыцця, простыя чалавечыя радасці і каштоўнасці, у т.л. «Размову Платона са сваімі вучнямі» (Гродна, 1803). Карыстаючыся добрымі адносінамі з гродзенскім губернатарам Д.Кошалевым, К. прапанаваў яму некалькі праектаў сацыяльных рэформ (удасканаленне землекарыстання, судоў). Цікавіўся творчасцю маладых пісьменнікаў, якія пісалі на беларускай мове. Напр., ён збіраў вершы Ф.Рысінскага з намерам выдаць іх, перапісваўся з паэтам-публіцыстам, палітычным і культурным дзеячам Беларусі і Літвы І.*Храптовічам*, лісты да якога, напісаныя ў вершаванай форме, прасякнуты філасофскім роздумам. Цікавіўся К. праблемамі духоўнага жыцця краю, прымаў удзел у педагагічных дыскусіях. У некаторых творах («Да Станіслава Малахоўскага», «Чынш») ён выказваў спачуванне сялянам, заклікаў улады да вызвалення іх ад паншчыны. Займаўся перакладам на польскую мову твораў французскага пісьменніка-асветніка Ж.Дэліля. Творчасць К. паўплывала на творчасць В.*Дуніна-Марцінкевіча*.

Дэмакратычна-асветніцкі светапогляд К. з ухілам да эмацыянальна-ма-

ральных дамінантаў адбіўся на яго паэтычна-пісьменніцкай дзейнасці і выявіўся ў спецыяльных філасофска-этычных і эстэтычных творах («Пра красамоўства ў прозе ці вершах», «Пра шчасце чалавека» і інш.). Найбольш цікавіла асветніка філасофская праблема чалавека і яго становішча ў свеце. На яго погляды паўплывала заходнееўрапейская філасофская і грамадская думка, але погляды К. былі больш самастойныя, чым у іншых асветнікаў Беларусі. Ён апіраўся ў асноўным на асабістае жыццё, на сваё арыгінальнае і вельмі асабістае бачанне свету і чалавека, яго мараль і інш. Чалавек, паводле К., атрымаў ад прыроды процілеглыя часткі спадчыны: страсці, чуласць сэрца, што адпавядаюць эмацыянальнай чуласці, і розум. Страсці — гэта пачатак і зародак усялякага зла, а «чулае сэрца» — наадварот, натуральная якасць чалавека, аснова і ўмова дабрачыннасці. Па сутнасці, гэта пазіцыя, блізкая да Русо, у якога проціпастаўлялася прырода і культура. Штучныя формы грамадства псуюць першапачатковую добрую прыроду чалавека. Зварот чалавека да ўласнага «чулага сэрца» і пазнанне самога сябе — гэта сапраўдны шлях да нармалізацыі чалавечых адносін і выпрамлення самой асобы. Наогул, лічыў К., трэба больш натуральнасці, талерантнасці, чалавечай лагоднасці і спачування, што, відаць, блізка да беларускай ментальнасці ці менталітэту. Такім чынам, у поглядах К. «чуласць» — першапачатковая якасць чалавека і вырашальны элемент міжчалавечых сувязей — стала цэнтральным паняццем, а таксама вызначальнікам яго эстэтычных і мастацка-творчых поглядаў, а «чулае сэрца» — інструментам сапраўднай каштоўнасці паэтычнага твора.

*Тв.*: Dziela. T. 1—4. Warszawa, 1806; Pamietniki. Warszawa, 1898.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Kostrzewiczowa T. Model liryki sentymentalnej w tworczosci Franciszka Karpińskiego. Wrocław etc., 1964.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## КАРПОВІЧ Лявонцій (свецкае імя Лонгін, Логін; пасля 1580—верасень 1620)

Пісьменнік-палеміст, педагог, царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і святара. Адукацыю атрымаў у Астрожскай школе на Валыні. Выступаў супраць Брэсцкай уніі 1596. У 1609 на Варшаўскім вальным сойме як віленскі дэпутат выступіў з прамовай у абарону праваслаўя. Садзейнічаў выданню «Фрынаса» і «Граматыкі» М.*Смятрыцкага.* У 1610 за выданне «Фрынаса» і іншых палемічных твораў па загадзе караля Жыгімонта III Ваза на 2 гады зняволены ў турму. З 1613 архімандрыт Віленскага Святадухаўскага манастыра. Узначальваў навучальную і выдавецкую дзейнасць праваслаўнага брацтва ў Вільні і Еўі, быў рэктарам брацкай школы. Аўтар твораў «Казанне двое...» (Еўе, 1615), «Казанне на пахаванне князя В.В.Галіцына» (Вільня, 1619), прадмовы да кнігі манаха Фікарыя «Вертаград душэўны» (Вільня, 1620) і прадмовы да выдання перакладу тлумачэнняў Златавуста на «Отча наш». З рукапісных твораў К. вядомы казанне «У нядзелю перад нараджэннем Хрыстовым» і некалькі лістоў за 1619 год, пасланых ім ад імя Віленскага брацтва Львоўскаму брацтву і манахам на Афон.

Казанні К. адметныя ўзнёслым, тыпова барочным стылем. Яны глыбока эмацыянальныя і прасякнутыя духам царкоўнай ідэалогіі. Катэхізісная форма (пытанне — адказ), выкарыстанне рэлігійнай сімволікі, вобразных параўнанняў надавалі яго творам дынамічнасць і эмацыянальна ўздзейнічалі на чытача і слухача. К. імкнуўся выклікаць у кожнага глыбокае разважанне і змагаўся з пункта погляду хрысціянскіх ідэалаў за маральную чысціню чалавека. Адсюль у казаннях падкрэсленая прыхільнасць да царкоўнай і свецкай дыдактыкі як сродку грамадскага выхавання. Адзін з нямногіх публіцыстаў таго часу, якія звярталіся да жывой народнай мовы, што ў сваю чаргу з'яўлялася важным сродкам у развіцці нацыянальнай культуры. Памяці К. прысвечаны «Казанне на чэснае пахаванне... Лявонція Карповіча» М.Сматрыцкага (Вільня, 1620) і паэтычны твор «Лямант у свеце ўбогіх на жаласную смерць... Лявонція Карповіча» (Вільня, 1620).

*Літ.*: Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и нача-

ла XVII в. Казань, 1898. С. 397—399; Карский Е.Ф. Белорусы. Пг., 1921. Т. 3, [Вып. 2]. С. 135—140; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 172—174, 224—225; Українські письменники. Київ, 1960. Т. 1. С. 358—361.

*М.Б.Батвіннік, Г.Я.Галенчанка.*

## **КАРПОВІЧ** Міхаіл Францішак (4.10.1744—5.11.1803)



Палітычны і царкоўны дзеяч, багаслоў-асветнік. Нарадзіўся ў мястэчку Камянец Берасцейскага ваяводства ў дробнашляхецкай сям'і. Адукацыю атрымаў у Брэсцкім езуіцкім калегіуме (1751—61). З 1767 прафесар філасофіі ў Варшаўскай семінарыі, з 1771 выкладаў багаслоўе ў Кракаве, у 1772—74 багаслоўе і царкоўную гісторыю ў епархіяльнай семінарыі пры касцёле св. Казіміра ў Вільні. У 1774 быў дэлегатам правінцыяльнага канвента ў Варшаве. Яго погляды на духоўнае і свецкае выхаванне — спроба дастасаваць вальнадумства да рэлігійнага аскетызму. З 1783 прафесар дагматычнай тэалогіі ў Галоўнай літоўскай школе ў Вільні. Займаўся таксама прапаведніцкай дзейнасцю, пісаў вершы з нагоды розных падзей у жыцці мясцовых магнатаў, прапагандаваў ідэі французскіх асветнікаў. К. адзін з першых на Беларусі і ў Літве распачаў крытыку прыгону і жорсткага абыходжання паноў з сялянамі. Ён быў прыхільнікам Канстытуцыі 3-га мая 1791, накіраванай на ліквідацыю феадальнай анархіі, палітычнае і эканамічнае ўмацаванне Рэчы Паспалітай, змагаўся за ажыццяўленне яе прынцыпаў. У час паўстання 1794 уваходзіў у паўстанцкі ўрад. Пасля задушэння паўстання царскія ўлады выдалі загад на яго арышт. Пэўны час К. хаваўся ў Варшаве. Потым паўлегальна жыў у маёнтку Гражышкі на Сувальшчыне, які атрымаў ад біскупа І.Масальскага. Сабраў там багатую бібліятэку.

## **КАРСКІ** Мацей (1662—1717)

Прадстаўнік схаластычнай філасофіі на Беларусі і ў Літве. Біяграфічных звестак пра яго амаль не захавалася. Невядома і яго месца нараджэння, аднак устаноўлена, што ён быў доктарам філасофіі і тэалогіі, у 1696—99 — прафесарам Віленскай акадэміі. Ад традыцыйнага выкладання схаластыкі часта адступаў, уводзячы элементы прыродазнаўства, спасылаўся на некаторых філосафаў і вучоных Новага часу. Аўтар некалькіх навуковых прац, у тым ліку «Курса філасофіі і логікі...» (1696, рукапіс захоўваецца ў Навуковай бібліятэцы Вільнюскага універсітэта), трактата «Аб праве і справядлівасці». «Курс філасофіі і логікі» падзелены на трактаты: «Логіка як мова навукі», «Фізіка як скарбніца навук», «Трактат аб метэорах», «Трактат пра пачатак і гібель або нараджэнне і заняпад», «Трактат аб элементах», «Трактат пра душу», «Першая навука метафізіка», «Тайны навукі этыкі». У трактаце «Пра душу» значная ўвага ўдзяляецца аналізу пачуццяў, уяўленняў і інш. элементаў псіхалогіі; падрабязна апісаны розныя органы пачуццяў, што сведчыць пра адыход ад схаластычнай філасофіі. Праблемы права і справядлівасці разглядаў з абстрактных пазіцый.

*Літ.:* История философии в СССР. М., 1968. С. 428. Т. 1; Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971. С. 18—19.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## КАРЫЦКІ Міхал [7.9.1714—10.3.1781 (паводле іншых звестак у 1784 або 1791)]

Паэт, грамадскі дзеяч, педагог. Пісаў на лацінскай мове. Нарадзіўся ў в.Дзітрыкі Лідскага пав. Віленскага ваяв. (цяпер Лідскі р-н). Паходзіў са шляхецкага роду, якому належаў маёнтак Дзітрыкі. Сярэднюю адукацыю атрымаў у школе Бабруйскай езуіцкай рэзідэнцыі. Уступіўшы ў 1730 у ордэн езуітаў і адбыўшы двухгадовы навіцыят у Вільні (1730—31), скончыў Слуцкую семінарыю ў 1733. У 1733—36 вучыўся ў Віленскай акадэміі на курсе філасофіі. Два гады ў гэтай акадэміі выкладаў лацінскую граматыку, а потым у Варшаўскім калегіуме — паэтыку. Праз год паступіў на курс тэалогіі ў тым самым калегіуме, вувучаў яе і ў Віленскай акадэміі. Выявіў выдатныя навуковыя здольнасці і паэтычны талент, што засведчана ў дакументах Віленскай акадэміі. У 1745 атрымаў ступень магістра філасофіі і вольных навук, а каля 1750 — доктара філасофіі. У ліку яго настаўнікаў былі М.Быстрыцкі (матэматык з еўрапейскай вядомасцю) і педагог С.Гаслоўскі, вучыўся разам з будучым тэарэтыкам педагогікі А.*Скарульскім* і паэтам-лацiністам Д.Сестравітоўскім. Вучнем К. ў Вільні быў вядомы паэт А.*Нарушэвіч*. Сувязі з перадавымі людзьмі свайго часу, хуткае распаўсюджанне ідэй Асветніцтва ў беларускіх калегіумах, першыя вынікі рэформы піярскіх і езуіцкіх школ — усё гэта паўплывала на фарміраванне светапогляду паэта ў перыяд яго навучання. Працуючы выкладчыкам у калегіумах Мінска і Драгічына, Віленскай акадэміі, ён намагаўся палепшыць адукацыю ў краі. Пры рэктарстве К. дасягнула росквіту Варшаўская школа (1763—66), дзе на той час склаўся гурток славутых асветнікаў Ф.*Багамолец*, С.*Лускіна*, К.*Вырвіч*, А.Нарушэвіч. Прымаючы пад увагу яго перадавыя погляды на асвету і багаты педагагічны вопыт, Камісія нацыянальнай адукацыі, створаная ў Рэчы Паспалітай у 1773, прызначыла яго рэктарам Мінскай ваяводскай школы, дзе ён самаахвяравана працаваў да самай смерці і завяшчаў ёй маёмасць. Паэтычны талент К. развіўся яшчэ ў час навучання. Аднак першым друкаваным творам, вядомым сёння, лічыцца элегія «Да Анджэя Младзяёўскага», якая выйшла асобным выданнем у 1764. Многія яго вершы змешчаны ў паэтычных зборніках, складзеных польскім бібліёграфам Я.Яноцкім. Пры жыцці паэта выдадзены 25 яго вершаў. Пасля смерці яго паэтычная спадчына была выдадзена Полацкай езуіцкай акадэміяй пад назвай «Песні» (1817). Творчасць К. пачалася на мяжы дзвюх процілеглых эпох — Контррэфармацыі і Асветніцтва — і спалучала ў сабе іх асноўныя рысы. У яго вершах яшчэ адчуваецца ўплыў барока, але ёсць ужо рысы сентыменталізму, ракако і нават першыя прыкметы перадрамантызму. Асноўным творчым метадам К. быў класіцызм, які выяўляўся ў ідэйным змесце, тэматыцы і стылістыцы, кампазіцыі твораў. Арыгінальна трактаваў паэт тэмы прагрэсу, патрыятызму, міру. Большасць яго твораў прысвечана тагачасным грамадскім і культурным дзеячам Беларусі, мясцовым гістарычным падзеям. Высокімі мастацкімі вартасцямі вызначаюцца яго эпічная паэма «Птушыны сойм», дзе паказаны крызісны стан Рэчы Паспалітай напярэдадні яе падзелаў, камічна-інтымная элегія «Да Касакоўскага» і аўтабіяграфічная «Да брата Караля», прыродаапісальная ода «Да Зімы», некаторыя эпіграмы. Паэзія К. зрабіла ўплыў на развіццё літаратуры Беларусі эпохі Асветніцтва (пераважна ў яе «высокім штылі»), на навалацінскую паэзію Польшчы, Літвы і Украіны. Некаторыя тэндэнцыі, распачатыя ў лацінскіх вершах паэта, далей развіты ў творах новай беларускай літаратуры, у прыватнасці ў паэмах «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат».

*Літ.*: Жлутко А.А. Міхал Карыцкі — лацінамоўны паэт Беларусі эпохі Асветніцтва // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 5; Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Парэцкі Я. Тры вершы Міхаіла Аляксандравіча Карыцкага // Беларуская літаратура. Мн., 1981. Вып. 9. *А.А.Жлутко.*

## **КАСЦЮШКА** Андрэй Тадэвуш Банавентура (30.11.1745—15.10.1817)



Палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794.

Нарадзіўся ў небагатай сям'і беларускага шляхціца, фамільны маёнтак якога знаходзіўся ў в.Сяхновічы Кобрынскага пав. (цяпер Жабінкаўскі р-н Брэсцкай вобл.). Выказана меркаванне, што ён нарадзіўся 4.2.1746. Гэту дату гісторык Т.С.*Корзан* назваў зыходзячы з запісаў у метрыцы, з якой відаць, што яго хрысцілі ў Косаўскім касцёле 12.2.1746. Аднак больш праўдападобна, што спачатку яго хрысцілі ў праваслаўнай царкве і назвалі Андрэем у гонар апостала Андрэя Першазваннага, свята якога прыпадае на 30 лістапада. Таму датай яго нараджэння можна лічыць 30.11.1745. Такое меркаванне грунтуецца на тым, што яго маці Фёкла (Тэкля) была праваслаўнай і паходзіла з вядомага на Беларусі роду Ратамскіх. У пасаг яна атрымала невялічкі маёнтак Дразы ў Барысаўскім пав. Яе родны брат Марцін быў падкаморым Аршанскага пав. Вядома, што Ратамскія разам з Агінскімі і інш. праваслаўнымі шляхціцамі Менскага ваяв. ахвяравалі грошы на будаўніцтва ў Менску на Верхнім рынку (Саборная плошча, цяпер Плошча Свабоды) праваслаўнага сабора Пятра і Паўла. Пра тое, што дзяцей, раней хрышчоных у праваслаўных цэрквах, потым паўторна хрысцілі ў каталіцкіх касцёлах або проста складалі фіктыўныя каталіцкія метрыкі, сведчаць гістарычныя крыніцы (Холмская Русь. Историческая судьба русского забужья. Спб. 1887). Узаемны ўплыў каталіцызму, праваслаўя і уніяцтва — прычына таго, што на працягу ўсяго жыцця А.Т.Касцюшка абыякава ставіўся да рэлігійнага пытання, хоць і вучыўся ў каталіцкай канфесіянальнай школе.

Імкнучыся сказіць беларускае паходжанне К., нават у сучасных энцыклапедыях (польскай і Вялікай Савецкай) сцвярджаецца, што ён нібыта нарадзіўся на Валыні, якая ў 1569 была далучана да Польшчы, і тым самым прылічваюць яго да палякаў. Сам К. называў сябе літвінам, як называлі сябе ў той час усе беларусы. Былі спрэчкі і пра месца яго нараджэння. На думку адных біёграфаў, ён нарадзіўся ў в. Сяхновічы, што пацвярджаецца надпісам каля партрэта на медалі, зробленым у Парыжы ў 1818: Thaddeus Kósciuszko (Тадэвуш Касцюшка), а на адвароце — Natus an M. DCC. XLVI. Siechnowież Ducat. Lithvie.. obit an M. DCC. XVII (нарадзіўся ў 1746 Сяхновічы княства Літоўскае... памёр у 1817). Іншыя сцвярджаюць, што ён нарадзіўся ў маёнтку Мерачоўшчына каля г.Косава (цяпер Івацэвіцкі р-н Брэсцкай вобл.). Аднак у абодвух выпадках размова ідзе пра Беларусь, а не пра Валынь ці Польшчу. У гістарычных дакументах Беларусі прозвішча Касцюшка сустракаецца з 1458.

Продкі К. займалі сціплае становішча ў грамадстве. Яго прадзед Аляксандр Іван быў падсудкам, а дзед Амбражэй пісарам у Брэсцкім земскім судзе. Бацька Людвік ніякіх пасад не займаў, а меў званне мечніка Брэсцкага ваяв. і палкоўніка, хоць у арміі ніколі не служыў. У сям'і Тэклі і Людвіка Касцюшкаў было 4 дзяцей: Ганна, Юзаф, Кацярына і Андрэй Тадэвуш. Да 9 гадоў Андрэй Тадэвуш выхоўваўся дома, як і ўсе дзеці дробнамаянтковай шляхты, без якіх-небудзь гувернёраў і настаўнікаў, г. зн. яго ранняе дзяцінства прайшло ў беларускай вёсцы. У 9 гадоў яго аддалі ў школу манаскага ордэна піяраў у м. Любешава Пінскага пав., дзе ён вучыўся 5 гадоў, да 1760. Вывучаў

лацінскую, польскую, французскую і нямецкую мовы, атрымаў пачатковыя веды па матэматыцы. Пасля заканчэння школы ён вярнуўся ў родную в. Сяхновічы і 5 гадоў дапамагаў маці па гаспадарцы. Яго бацька ў 1758 быў забіты ўзбунтаванымі сялянамі. Матэрыяльнае становішча бацькоў К. было вельмі сціплае. Бацькаў маёнтак Сяхновічы за даўгі быў закладзены за 20 тыс. злотых. Ажаніўшыся з Тэкляй, Людвік прадаў яе маёнтак Дразы за 12 тыс. злотых і адначасова трымаў у закладзе фальварак Мерачоўшчыну. Большая частка Сяхновіцкага маёнтка (Вялікія Сяхновічы) была ўласнасцю іншай праваслаўнай лініі Касцюшкаў (Паўла Касцюшкі), а Людвіку належала в. Малыя Сяхновічы (19 сялянскіх двароў). Людвік жыў у Мерачоўшчыне, а гаспадарку ў Малых Сяхновічах вяла маці Андрэя Тадэвуша, а пасля яе смерці — брат Юзаф.

Значны ўплыў на лёс К. зрабіла выбранне ў 1764 на каралеўскі прастол ураджэнца Беларусі Станіслава Аўгуста *Панятоўскага*, пляменніка канцлера Вялікага княства Літоўскага Міхала Чартарыйскага. Сям'і К. спрыяў прыхільнік Чартарыйскіх пісар польны Вялікага княства Літоўскага Юзаф Сасноўскі, пазней ваявода полацкі. Дзякуючы яго пратэкцыі 18.12.1765 К. быў прыняты ў зноў створанае Варшаўскае ваеннае вучылішча (Рыцарскую школу, што называлася Кадэцкім корпусам Яго Каралеўскай Міласці і Рэчы Паспалітай), у якое прымалі толькі выхадцаў з багатых сем'яў. Прыкладна ў той жа час у корпусе кадэтаў вучыліся князі Казімір Сапега, Антон Радзівіл, Мацвей Яблонаўскі і магнаты Валовіч, Чацвярцінскі і інш. Ён быў заснаваны восенню 1764 і знаходзіўся ў распараджэнні самога Панятоўскага, які лічыўся яго шэфам. Непасрэдным начальнікам корпуса быў Адам Казімір Чартарыйскі. Налічвалася 80 кадэтаў (К. быў у спісе 79-м), пазней іх колькасць скарочана да 60. Кадэты падзяляліся на брыгады па 20 чалавек, у кожнай былі брыгадзір і падбрыгадзір. Яны займаліся страявой падрыхтоўкай, коннай яздой, вывучалі артылерыю, фехтаванне, тактыку, літаратуру і гісторыю, лацінскую, нямецкую, французскую мовы, арыфметыку, фізіку, геаметрыю і вышэйшую матэматыку, палітычную эканомію, маральныя навукі, танцы, маляванне. У 1767—68 навучальным годзе з кадэтаў была выдзелена спецыяльная група (займалася ваенна-інжынернымі дысцыплінамі), у якую быў уключаны і К. Асаблівая ўвага ў групе надавалася вывучэнню геаграфіі, трыганаметрыі і маляванню.

Упартыя заняткі і выдатныя здольнасці дазволілі К. стаць адным з лепшых кадэтаў, і 20.12.1766 ён атрымаў афіцэрскі патэнт і званне харунжага. Яшчэ ў час вучобы ён быў прызнача-



*Сяхновіцкі сядзібны дом. З малюнка 1880.*

ны на пасаду падбрыгадзіра з акладам у 72 злотых у месяц. Пра яго поспехі ў далейшай вучобе і службе сведчыць тое, што ў 1769 ён атрымліваў ужо 200 злотых у месяц.

Каб стаць больш дасканалым у ваенных навуках і асабліва ў ваенным і цывільным будаўніцтве, у 2-й палове 1769 К. па ўказанні і пры матэрыяльнай падтрымцы караля і князя Чартарыйскага выехаў на вучобу ў Францыю. У Парыжы ён браў урокі па ваеннай архітэктуры, артылерыі і тактыцы, наведваў заняткі ў Акадэміі жывапісу і скульптуры. Па рэкамендацыі Чартарыйскага вывучаў там будаўніцтва мастоў, шлюзаў, дарог, каналаў, плацін. Пяцігадовае знаходжанне ў Францыі па часе супала з рэвалюцыйнай сітуацыяй, што складвалася там. Велізарны ўплыў на яго зрабілі працы прагрэсіўных французскіх асветнікаў (Вальтэр, Мантэск'е, Ж.Ж.Русо), у якіх крытыкаваўся феадальны лад, асабліва «Вялікая Французская Энцыклапедыя» і працы Русо «Аб грамадскім дагаворы, або Прынцыпы палітычнага права» і «Меркаванні аб спосабе кіравання ў Польшчы і аб праекце яго змянення, складзеным у красавіку 1772 года». Гэта спрыяла фарміраванню ў К. рэспубліканскага светапогляду і засваенню ім новай грамадска-палітычнай думкі, якая абвяшчала найважнейшыя буржуазныя лозунгі — свабоду, роўнасць і брацтва.

Пасля кароткага падарожжа ў Англію, Італію, Швейцарыю і Германію летам 1774 К. вярнуўся ў Рэч Паспалітую. Аднак ні ў корпусе кадэтаў, ні ў арміі афіцэрскай пасады яму не прапанавалі. Яе ў той час можна было толькі купіць за 18 тыс. злотых. Такіх грошай у К. не было. Цяжкае матэрыяльнае становішча вымусіла яго пайсці хатнім настаўнікам да смаленскага ваяводы, а з 1775 да гетмана польнага Вялікага княства Літоўскага (з 1781 ваяводы полацкага) Юзафа Сасноўскага і вучыць маляванню і жывапісу яго дачок Людвіку і Кацярыну. Старэйшая Людвіка, равесніца К., закахалася ў яго, і ён адказаў ёй узаемнасцю. Яны вырашылі пажаніцца. Але бацькі Людвікі былі супраць шлюбу сваёй дачкі з бедным шляхціцам. Маладыя вырашылі абвянчацца ўпотай, але іх намер стаў вядомы бацьку і шлюб быў разладжаны. Лічаць, што тады і з'явілася вядомае выказванне гетмана: «Галубкі не для вераб'ёў, а дочкі магнатаў не для шляхцюкоў».

Не знайшоўшы сабе годнага занятку на радзіме, К. ўвосень 1775 зноў выехаў у Францыю, а адтуль — у Паўночную Амерыку, дзе якраз пачалася вайна супраць англійскага каланіяльнага ўладарніцтва, якая па сваёй сутнасці была буржуазнай рэвалюцыяй і выклікала да жыцця моцны дэмакратычны рух. Несумненна, рэвалюцыйныя ідэі барацьбы за незалежнасць і свабоду амерыканскага народа былі блізкія К. У жніўні 1776 ён прыбыў у Амерыку і 18 кастрычніка залічаны ў амерыканскую армію ў званні палкоўніка. На працягу 7 гадоў змагаўся ў радах амерыканскай арміі. Асабліва каштоўнымі былі яго веды як ваеннага інжынера, бо амерыканская армія, што складалася ў асноўным з фермераў і простых гараджан, мела вострую патрэбу ў прафесійных ваенных і ваенных інжынерах. Першым выпрабаваннем яго таленту было складанне праекта і будаўніцтва ўмацаванняў на берагах р. Дэлавер для аховы Філадэльфіі, дзе у той час было сканцэнтравана кіраўніцтва барацьбой за незалежнасць і якая на працягу 10 гадоў была сталіцай дзяржавы. К. выдатна справіўся з заданнем, за што Савет Бяспекі штата Пенсільванія выдаў яму ва ўзнагароду пэўную грашовую суму. Вясной 1777 галоўная небяспека для Злучаных Штатаў навісла з поўначы, з Канады і Нью-Йорка, адкуль англічане рыхтаваліся разграміць армію паўстанцаў. У сувязі з гэтым рашэннем Кангрэса была ўтворана армія поўначы, у якую К. быў прызначаны галоўным інжынерам. Армія поўначы ў бітве пад Саратогай разбіла буйное злучэнне англійскіх войск. Гэта перамога, у значнай ступені дасягнутая дзякуючы добрым фартыфікацыйным умацаванням, пераадолець якія англічанам не ўдалося, стала пачатковым этапам паражэння Англіі ў вайне. Яна ўзняла дух амерыканскай арміі, павысіла яе аўтарытэт у Еўропе і садзейнічала афіцыйнаму прызнанню еўрапейскімі дзяржавамі дзяржаўнай самастойнасці ЗША. Пасля гэтай бітвы Дж.Вашынгтон у лісце ад 10.11.1777

пісаў старшыні Кангрэса, што К. «з'яўляецца чалавекам навукі і вышэйшых якасцей. Згодна з атэстацыяй, якую маю аб ім, заслугоўвае, каб мець яго на прыкмеце». У пачатку 1778 Кангрэс прыняў рашэнне стварыць крэпасці на ўзбярэжжы р. Гудзон. Вашынгтон прапанаваў на пасаду галоўнага інжынера кандыдатуру К., які і быў зацверджаны Кангрэсам. На працягу 2,5 года К. кіраваў будаўніцтвам самай вялікай крэпасці Злучаных Штатаў Вест Поінт, дзе пэўны час знаходзілася і штаб-кватэра Вашынгтона. Пасля паражэння на поўначы англічане наважыліся дамагчыся поспеху на поўдні, куды і былі перанесены галоўныя ваенныя дзеянні. Для арганізацыі аховы паўднёвых штатаў Кангрэс арганізаваў паўднёвую армію, галоўным інжынерам у якую быў прызначаны К. У паўднёвай арміі К. не толькі займаўся інжынернымі работамі (умацаваннямі, мастамі, пераправамі), але і камандаваў баявымі лінейнымі часцямі. За баявыя заслугі К., у ліку 3 іншаземцаў, атрымаў самую высокую баявую ўзнагароду ЗША — ордэн Цынцынаці і прыняты ў склад таварыства Цынцынатаў, ганаровым членам якога быў Вашынгтон. К. атрымаў таксама амерыканскае грамадзянства, пажыццёвую пенсію і зямельны надзел, а ў асабісты падарунак ад Вашынгтона — пару пісталетаў. У Злучаных Штатах К. пасябраваў з многімі выдатнымі дзеячамі краіны. Ён актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці, быў блізка знаёмы з многімі ваеннымі і палітычнымі дзеячамі, у т.л. з Т.Джэферсанам, аўтарам Дэкларацыі незалежнасці, абраным у 1800 прэзідэнтам ЗША. Ідэі амерыканскай рэвалюцыі поўнасцю супадалі з поглядамі К.

Вяртанне ў 1784 на радзіму было бязрадасным. Родны маёнтак у Сяхновічах быў абцяжараны даўгамі. Месца ў арміі Рэчы Паспалітай для аднаго з самых адукаваных і вопытных генералаў не знайшлося. У краіне панавала засілле каталіцкага духавенства і свавольства магнатаў, а народ знаходзіўся пад цяжкім прыгнётам прыгоннага права. Застаўшыся без спраў, баявы генерал на працягу 5 гадоў займаўся сельскай гаспадаркай у родных Сяхновічах. У апошняй чвэрці 18 ст. ў Рэчы Паспалітай узмацніўся працэс разлажэння прыгонніцтва, актывізавалася



Вашынгтон. Капітолій.

дзейнасць прыхільнікаў рэформ дзяржаўнага ладу: С.Сташыца, Г.Калантая, К.*Нарбута*, І.*Храптовіча* і інш. У сувязі з рашэннем сойма павялічыць армію прыкладна ў 5 разоў (да 100 тыс. салдат і афіцэраў) К. прапанавалі пасаду камандзіра брыгады ў польскай арміі, хоць ён жадаў служыць у арміі Вялікага княства Літоўскага. У лісце ад 7.2.1790 ён прасіў генерала Несялоўскага вярнуць яго ў Вялікае княства Літоўскае: «Хіба Вы адмаўляецеся ад мяне і лічыце няздольным служыць Вам? Кім жа я з'яўляюся? Хіба я не літвін, Ваш зямляк, Вамі абраны? Каму павінен дзякаваць (за рэкамендацыю Брэсцкага сойміка), калі не Вам? Каго павінен абараняць, калі не Вас і сябе самога? Калі гэта Вас не кране для ўнясення прапановы пра мяне на сойме, каб вярнуўся, то я сам буду вымушаны, бачыць Бог, што-небудзь кепскае сабе ўчыніць! Таму, што злосць мяне бярэ: каб з Літвы ў Кароне служыў, калі вы не маеце трох генералаў. Калі вас вешаць на вяроўцы будуць гвалтаўнікі, тады толькі адумаецеся і пра сябе пачнеце клапаціцца». Нягледзячы на такі адчай, К. не ўдалося перавесціся з польскай арміі ў армію Вялікага княства Літоўскага.

14.7.1789 пачалася Вялікая французская буржуазная рэвалюцыя, якая аказала рэвалюцыянізуючы ўплыў на многія еўрапейскія народы, у т.л. і Рэчы Паспалітай. Сойм Рэчы Паспалітай прыняў шэраг важных законаў, накіраваных на ўмацаванне органаў дзяржаўнай улады: у студзені 1791 за-

кон аб кардынальных правах, які прадугледжваў прызнанне пануючага становішча за каталіцкай царквою, непарыўнасць саюзу Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, незалежнасць і суверэннасць Рэчы Паспалітай, свабоду слова і друку, у сакавіку 1791 закон аб сойміках, паводле якога беззямельная шляхта была пазбаўлена выбарчых правоў, у красавіку — закон аб гарадах, паводле якога за мяшчанамі прызнана права асабістай недатыкальнасці, права набыцця маёнткаў, пашыраліся і іншыя іх правы. Гэтыя законы сталі пачаткам буржуазных рэфом у Рэчы Паспалітай. Завяршэннем іх стала прынятая 3.5.1791 Канстытуцыя Ustawa Rzadowa (Закон аб урадзе), паводле якой усталёўваліся новыя асновы арганізацыі вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання, пабудаваныя на прынцыпе падзелу ўлад. Дзяржаўны лад вызначаўся як канстытуцыйная манархія, але ўлада караля была абмежавана соймам (складаўся з палаты дэпутатаў і сената), якому належала заканадаўчая ўлада. Найбольш важным новаўвядзеннем была адмена «ліберум вета» і стварэнне адзінага ўрада для ўсёй Рэчы Паспалітай. Урад (называўся «Варты правоў») складаўся з караля як старшыні ўрада, кіраўніка каталіцкага духавенства — прымаса як старшыні камісіі асветы і 5 міністраў [паліцыі, пячаткі (унутраных спраў), ваеннага, фінансаў, замежных спраў], якіх прызначаў і здымаў кароль. На пасяджэнні ўрада маглі прысутнічаць з дарадчым голасам нашчадак прастола і старшыня (маршалак) сойма. Прадугледжвалася стварэнне судоў, незалежных ад адміністрацыі, і выданне новых цывільнага і крымінальнага кодэксаў. Канстытуцыя 3-га мая — гэта вынік кампрамісу класа феадалаў з буржуазіяй, якая нараджалася. Прагрэсіўныя дзеячы Рэчы Паспалітай бачылі ў Канстытуцыі толькі пачатак і падрыхтоўку да рэвалюцыйных пераўтварэнняў і цалкам яе падтрымлівалі. Як перакананы рэспубліканец і праціўнік усякай манархіі К. без ваганняў прыняў прысягу на вернасць Канстытуцыі 3-га мая і распарадзіўся, каб яе прынялі і падпарадкаваныя яму афіцэры, нягледзячы на тое што Канстытуцыя прадугледжвала захаванне манархіі. Рэакцыйныя і клерыкальныя элементы разглядалі новую Канстытуцыю як здзейсненую рэвалюцыю. Вясной 1792 яны абвясцілі акт Таргавіцкай канфедэрацыі, выступілі супраць Канстытуцыі і звярнуліся за дапамогай да суседніх дзяржаў, учыніўшы тым самым акт дзяржаўнай здрады. Скарыстаўшы такую зачэпку, Расія аб'явіла вайну Рэчы Паспалітай. Фактычна гэта была нічым не прыкрытая агрэсія. У абарону Канстытуцыі выступілі слабыя і раз'яднаныя часці войск Рэчы Паспалітай. Адна з першых бітваў, у якой вызначылася дывізія пад камандаваннем К., адбылася каля в. Дубенкі на Заходнім Бугу. У гэтай бітве К., маючы пад сваім камандаваннем каля 5 тыс. салдат і афіцэраў, стрымаў націск 20-тысячнага рускага войска, што дало магчымасць усёй паўднёвай арміі пад камандаваннем князя Ю.Панятоўскага адысці на новыя пазіцыі. Аднак лёс гэтай кампаніі быў прадвызначаны, бо многія магнаты, шляхта і сам кароль перайшлі на бок таргавічан. Варшаву занялі таргавічане і царскія войскі. І хоць К. за ваенныя заслугі ў кампаніі 1792 быў узнагароджаны ордэнам «Віртуці Мілітары» і атрымаў званне генерал-лейтэнанта, ён 30.7.1792 у знак пратэсту супраць змовы таргавічан з каралём падаў у адстаўку і выехаў за мяжу. 26.8.1792 заканадаўчы Сход Францыі прысвоіў К. званне ганаровага французскага грамадзяніна.

Прагрэсіўныя дзеячы Рэчы Паспалітай у канцы 1792 і пач. 1793 пачалі рыхтаваць народнае паўстанне супраць таргавічан і замежных акупантаў. У жніўні 1793 К. пад чужым імем прыехаў у Гродна, дзе сустракаўся з генераламі Бышэўскім, Грахоўскім і інш. вайскоўцамі. Падрыхтоўкай да паўстання кіравала група патрыётаў, вымушаных пакінуць краіну і выехаць у Лейпцыг і Дрэздэн. Сярод іх былі Г.Калантай, І.Патоцкі і Касцюшка. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай дзейнічалі тайныя саюзы і таварыствы прыхільнікаў паўстання, якія ўзначальвалі І.Дзялынскі, Я.Ясінскі і інш. К. разумеў, што пры слабасці гарадской буржуазіі і забітасці паднявольных сялян да барацьбы неабходна далучыць патрыятычна настроеную шляхту. Аднак гэта вяло да кампрамісаў і ў пэўнай ступені адштурхоўвала сялян ад актыўнай барацьбы,

бо нават прагрэсіўная шляхта не хацела сацыяльнай рэвалюцыі, а імкнулася толькі да аднаўлення парадкаў у адпаведнасці з Канстытуцыяй 3-га мая. Гэта асабліва выявілася ў час паўстання.

24.3.1794 у Кракаве ўспыхнула паўстанне, у якім прынялі ўдзел шляхта, мяшчане і часткова сяляне. Паўстанне ўзначаліў К., абвешчаны «вышэйшым і адзіным начальнікам нашых узброеных сіл і кіраўніком усяго нашага паўстання». У гэты ж дзень быў абнародаваны «Акт паўстання грамадзян, жыхароў Кракаўскага ваяводства» і К. прысягнуў не выкарыстоўваць даверанную яму ўладу ў чыіх-небудзь асабістых інтарэсах, «а толькі для абароны цэласнасці граніц, вяртання самаўладдзя народа і ўстанаўлення ўсеагульнай свабоды». У «Акце...» выкрываліся подласць, ілжывасць і вераломства царыцы Кацярыны II і прускага караля Фрыдрыха Вільгельма, адзначалася, што галоўнай мэтай Кацярыны II і Фрыдрыха было жаданне «распаўсюдзіць панаванне тыраніі» і задушэнне свабоды не толькі ў сваіх дзяржавах, але і ў суседніх народаў. «Акт...» яшчэ раз выкрыў перад усім светам паказаны лібералізм Кацярыны II. Палітычнае кіраўніцтва паўстаннем ускладалася на Вышэйшы нацыянальны савет. Надзвычайнымі мясцовымі органамі былі Камісіі кіравання ў ваяводствах, якія ў сваю чаргу стваралі «дазорныя ўпраўленні». Кожнае ўпраўленне ахоплівала 1000—1200 сялянскіх гаспадарак. Ствараліся новыя рэвалюцыйныя суды, якія павінны былі разглядаць крымінальныя справы аб злачынствах, накіраваных супраць паўстання. Выданне «Акта...» мела выключнае значэнне для мабілізацыі прагрэсіўных сіл на барацьбу з унутранай рэакцыяй і замежнымі захопнікамі. «Акт...» абавязваў К. і Вышэйшы нацыянальны савет выпускаць як мага часцей пракламацыі і звароты да народа, паведамляць яму пра сапраўднае становішча спраў. У гэтым таксама выяўляліся дэмакратычныя прынцыпы паўстання і імкненне прыцягнуць да ўдзелу ў ім самыя шырокія масы народа. У першы ж дзень паўстання К. звярнуўся з адозвамі «Да арміі», «Да грамадзян», «Да духавенства», «Да жанчын». Кожная з іх глыбока эмацыянальна і пераканаўча заклікала стаць на абарону свабоды і айчыны. Энергічная ідэалагічная падрыхтоўка паўстання і арганізацыйная работа па ўцягненні простых людзей у барацьбу за свабоду напачатку мелі пэўны поспех. Каб далучыць сялян да паўстання, К. лічыў неабходным адмяніць прыгоннае права, таму Канстытуцыя 3-га мая, якая захоўвала саслоўную няроўнасць і прыгонную залежнасць сялян, не была яго ідэалам. Але «Акт...» не закранаў пытання пра аднаўленне Канстытуцыі, а канчатковае вызначэнне дзяржаўнага і грамадскага ладу адносіў да часу заканчэння рэвалюцыйнай вайны.

Усе, хто асабіста быў знаёмы з К., падкрэслівалі яго ваенны талент, высокую адукацыю, нястомную энергію і дастойную прастату. Падскарбі Вялікага княства Літоўскага, удзельнік паўстання, кампазітар М.К.Агінскі пісаў, што К. «карыстаўся вялікай пашанай усёй Еўропы, быў гразой для ворагаў і бажаством для народа; узвышаны да ранга Начальніка, не ведаў іншага гонару, як служыць Айчыне і змагацца за яе, які захоўваў заўсёды сціплыя паводзіны... не насіў ніякіх знакаў вышэйшай улады, хадзіў у сурдуце з дрэннага шэрага сукна і які меў стол сціпла забяспечаны, як кожны з яго простых афіцэраў».

Успрыняўшы вучэнне французскіх рэвалюцыйных і радыкальных пісьменнікаў, філосафаў і публіцыстаў, а таксама амерыканскіх буржуазных прагрэсіўных дзеячаў, К. выпрацаваў самастойную дзяржаўна-прававую канцэпцыю палітычнага і грамадскага развіцця Рэчы Паспалітай. Ідэалам ён лічыў грамадства, якое складалася з вольных сялян, уласнікаў зямлі, рамеснікаў, купцоў пры захаванні памешчыцкага землеўладання, заснаванага на свабодным найме рабочай сілы. Лепшую форму дзяржаўнага кіравання бачыў у рэспубліцы, тэарэтычныя асновы якой спрабаваў выкласці ў Паланецкім універсале. Аднак ажыццявіць гэтыя ідэі яму не ўдалося.

Ваенная і палітычная сітуацыя складалася не на карысць паўстання. У пачатку чэрвеня аб'яднаныя руска-прускія войскі (24 тыс. чалавек) у бітве каля мястэчка Шчакоціны прымусілі армію К. (12 тыс. чалавек) адступіць. 15 чэрвеня прускія войскі за-

нялі Кракаў, і К. вымушаны быў пакінуць горад. У сярэдзіне ліпеня да Варшавы падышлі прускія войскі і рускі корпус пад камандаваннем генерала Ферзена. Гераізм абаронцаў Варшавы і ўмелыя дзеянні К. ў жніўні— верасні прымусілі гэтыя войскі адысці ад горада. Аднак становішча паўстанцаў пагоршылася, калі Аўстрыя, пашыраючы тэрыторыю сваёй акупацыі, пачала наносіць удары з поўдня. К. спрабаваў адбівацца на ўсе бакі. У верасні ён прыбыў на Беларусь, каб сфарміраваць тут новыя атрады, а заадно наведаць родныя мясціны. Да гэтага часу на Беларусі дзейнічала ўжо некалькі атрадаў, якія падтрымлівалі паўстанне. Але ў верасні 1794 на тэрыторыю Заходняй Беларусі быў перакінуты моцны корпус пад камандаваннем А.Суворава. Нечаканае з'яўленне рускіх войск паставіла ў крытычнае становішча паўстанцаў пад камандаваннем Ю.Серакоўскага, якія панеслі цяжкія страты і пачалі адыходзіць на захад. Другі рускі корпус пад камандаваннем генерала Ферзена пачаў наступленне з паўднёвага захаду. Супраць яго К. выставіў рэшткі атрада Серакоўскага і частку свайго рэзерву. На дапамогу яму павінна была падысці дывізія пад камандаваннем генерала Понінскага, але той не выканаў загаду К. і да месца бітвы дывізія не прыйшла. 10 кастрычніка корпус Ферзена ў бітве пад в. Мацяёвіцы нанёс паражэнне войскам паўстаўшых, а сам К., паранены ў галаву і левае сцягно, быў узяты ў палон. Паланенне К. выклікала катастрафічны ўпадак маральнага духу паўстання і прадвызначыла зыход усёй барацьбы.

Замест К. начальнікам узброеных сіл 12.10.1794 вышэйшы Савет прызначыў Томаша Ваўжэцкага. 4 лістапада войскі пад камандаваннем Суворава авалодалі ўмацаваным прыгарадам Варшавы Прагай, пасля чаго кароль Рэчы Паспалітай і яго прыхільнікі настаялі на капітуляцыі Варшавы. За паспяховае задушэнне паўстання Сувораў атрымаў як узнагароду ва ўласнасць з Брэсцкай эканоміі 13 279 прыгонных сялян.

Паражэнне паўстання 1794 было непазбежным, бо яго не падтрымалі шырокія масы сялянства. Слабай аказалася і буржуазія, а шляхецка-буржуазны блок, які кіраваў паўстаннем, імкнуўся не дапусціць рэвалюцыйнага выступлення гарадскіх нізоў і сялян. Акрамя таго, сабатаж і невыкананне распараджэнняў К., а часта і адкрытая здрада падрывалі сілы паўстання.

На працягу ўсёй сваёй палітычнай дзейнасці К. глыбока паважаў і быў паслядоўным прадаўжальнікам вызваленчых, антыфеадальных ідэй Ж.Ж.Русо, Ш.Мантэск'е, Т.Джэферсана і інш. прагрэсіўных дзеячаў. Яго светапогляд, грамадска-палітычныя і прававыя ідэі найбольш поўна былі выкладзены ў брашуры пад назвай «Ці могуць палякі дабіцца незалежнасці», выдадзенай на польскай мове ананімна ў Парыжы ў 1800, з фіктыўнымі ананімнымі данымі: «У Прыкопе на Доне». Мяркуецца, што запіс ідэй і разважанняў К. быў ажыццёўлены яго сакратаром Ю.Паўлікоўскім. Брашура ўяўляе сабой навуковы трактат, у якім разглядаюцца слабыя і моцныя бакі вызваленчага руху ў Рэчы Паспалітай. Складаецца з прадмовы, частак і заключэння. У прадмове аўтар папярэджвае сваіх землякоў, каб не спадзяваліся на замежную дапамогу, а калі хочуць «шчасця, гонару і славы... неабходна карыстацца сродкамі і сіламі, якія прырода дала чалавеку... пажадаем толькі — і мы станем свабоднымі, бо шаснаццацімільённы народ не можа быць народжаны для рабства». Вызначаючы колькасць насельніцтва ў 16 мільёнаў чалавек, К. меў на ўвазе не толькі палякаў, але і беларусаў, украінцаў і літоўцаў, якія насялялі ў той час Рэч Паспалітую. Ён адзначае, што першай прычынай заняпаду краіны з'яўляюцца страта народам сілы духу і веры ў свае сілы, а таксама антынародная палітыка магнатаў, калі яны пачалі «імкнуцца не да дабрабыту, а да задавальнення ганарыстасці магнацкіх прозвішчаў... Магнаты былі зацікаўлены ў тым, каб пераканаць нацыю ў яе нікчэмнасці і слабасці, упэўніць яе ў тым, быццам яна нічога не можа дасягнуць сваімі ўласнымі сіламі, без дапамогі суседняй дзяржавы, бо яны ўзбагачаліся, гандлюючы яе крывёю ля падножжа тронаў. Магнаты былі зацікаўлены ў аслабленні духу сваіх суайчыннікаў, у прыніжэнні іх годнасці для таго, каб, не ведаючы сваёй сілы, яны не маглі скінуць з сябе га-

вочваць выкарыстанне наёмных работнікаў на палявых работах, быць суровым да бадзяг, п'яніц, дармаедаў, якіх трэба выкарыстоўваць на грамадскіх работах, будаўніцтве дарог, каналаў, брукаванні вуліц у гарадах з выплатай памяркоўнай узнагароды. Ён раіў развіваць прамысловасць, адкрываць новыя фабрыкі: суконныя, папяровыя, металургічныя, шкляныя і інш., прапаноўваў прымаць меры, каб з цягам часу ўсе сяляне маглі вызваліцца ад залежнасці і атрымаць ва ўласнасць зямлю. Гэты ліст быў пасланы Чартарыйскаму, але фактычна ён адрасаваны ўсяму народу Рэчы Паспалітай і сведчыць, што галоўная мэта жыцця К. — садзейнічаць паляпшэнню жыццёвых умоў простага народа.

Памёр К. 15.10.1817 у Швейцарыі ў Салюры (каля г. Залатурна). Пахавалі яго там 19 кастрычніка. У 1818 астанкі К. ўрачыста перанесены ў Кракаў і змешчаны ў каралеўскім замку Вавелі. Яго смерць выклікала шырокі водгук ва ўсім свеце. У многіх краінах, дзе жылі эмігранты з былой Рэчы Паспалітай, ушанавалі памяць К. памінальнымі службамі ў касцёлах і сходамі.

Свой жыццёвы шлях К. прайшоў як сапраўдны народны герой, які стаў яшчэ пры жыцці легендарным. Імя К. ўвайшло ў гісторыю вызваленчага руху Амерыкі і Еўропы. Яго справу барацьбы за свабоду, дэмакратыю і гуманізм прадоўжылі інш. дзеячы. К. і яго паплечнікам не ўдалося дамагчыся вызвалення народа ад ланцугоў феадальнага прыгнёту і засілля манархічных дзяржаў, але яны абудзілі ў народзе дух барацьбы за свабоду, усялялі ў яго веру ў свае сілы.

*Тв.*: Рус. пер. — у кн.: Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. М., 1956. Т. 1. С. 493—584.

*Літ.*: Dihm J. Kosciuszko nieznfny. Wrocław etc., 1969. S. 20, 384; Korpczewski J.S. Tadeusz Kościuszko w historji i tradycji. Warszawa, 1968. S. 140—142, 360; Korzon T. Kościuszko, biografia z dokumentów wysnuta. Kraków; Warszawa, 1894. S. 206; Niemcewicz J.V. Pamietniki-czason moich. Paryż. 1848. S. 56; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajow słowianskich. Warszawa, 1889. T. 10. S. 488; Volumina Legum. Kraków, 1889. T. 9. S. 203—204, 215—219.

*Я.А.Юхо.*

## КАХЛЕЎСКІ Пётр (?—1647)

Палітычны і рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, асветнік і паэт. Паходзіў з сілезскага роду фон Фалькенаў, якія аселі ў в. Кахлеў на Віленшчыне (адсюль прозвішча). Меў уладанні і ў Брэсцкім пав. Атрымаў добрую адукацыю, быў кваліфікаваным юрыстам, ведаў антычную філасофію, літаратуру, гісторыю. У маладосці служыў пры двары Крыштофа Радзівіла. Удзельнік ліфляндскай вайны 1621—22 і войнаў са шведамі 1622 і 1624. Скампраметаваў сябе як удзельнік змовы за дэтранізацыю Жыгімонта III Вазы на карысць Гастона Арлеанскага, у сувязі з чым вымушаны быў адысці ад палітычнага жыцця. У час бескаралеўя 1632 зноў вярнуўся на палітычную арэну. Быў дэпутатам канвакацыйнага і элекцыйнага сойму 1632, паслом ад Брэсцкага ваяв. на каранацыйны сойм 1633. З 1635 брэсцкі войскі, з 1638 земскі суддзя Брэсцкага пав. Адначасова займаўся і царкоўнай дзейнасцю: быў пастаянным удзельнікам віленскіх правінцыяльных сінодаў (1633—45) і частым дэлегатам на генеральным сінодзе. Паводле веравызнання быў кальвіністам. У адным са сваіх уладаняў (в. Нурцы) у 1638 пабудаваў кальвінскі збор, пры ім школу і шпіталь, фінансаваў іх дзейнасць. Атрымаў вядомасць як аўтар твора «Перасцярога і напамінак братам-евангелікам», у якім намаляваў карціну жорсткага разгулу каталіцкай рэакцыі на Беларусі. Яму прыпісваюць аўтарства ананімна выдадзенага твора «Погляд безыменнага евангеліка аб рэлігійнай талерантнасці ў Польшчы», які прама заклікаў да ўзброенага адпору духавенству, асабліва езуітам. Пісаў таксама паэмы, эпітафіі і інш. паэтычныя творы.

Пра гуманістычны характар светапогляду К. сведчаць не толькі яго творы, але і палітычная дзейнасць. У абставінах узмоцненай рэакцыі і рэлігійных ганенняў ён імкнуўся да ўсталявання ў Рэчы Паспалітай цярпімасці да ўсіх без выключэння рэлігій, быў адным з нешматлікіх соймавых паслоў, якія выказалі пратэст адносна расправы каралеўскай улады з арыянскай супольнай у Ракаве. Паказваючы занепад Рэфармацыі, асветніцтва, культурнага

жыцця на Беларусі і ў Літве, К. называў галоўнымі віноўнікамі такога становішча каталіцкае духавенства і езуітаў, якія здзекаваліся над іншавернікамі, груба парушалі прывілеі і пастанову Варшаўскай канфедэрацыі аб свабодзе веравызнання, знішчалі пратэстанцкія школы і друкарні. Усё гэта, як адзначаў К., робіцца на вачах караля, які першым павінен быў стаць на абарону закона. Ён лічыў, што езуіты ашукалі караля і той на ўсе рэчы і падзеі пачаў глядзець вачамі езуіцкіх дарадчыкаў. К. прапанаваў мірныя шляхі і сродкі адпору контррэфармацыі. Ён апеляваў да той часткі магнатаў і шляхты, якая не падзяляла палітыкі рэлігійнай нецярпімасці і рэпрэсій, а таксама да замежных пратэстантаў, заклікаў беларускіх і літоўскіх пратэстантаў павысіць свой маральны ўзровень, каб не даваць католікам падстаў для ганенняў.

К. быў асабіста знаёмы з чэшскім педагогам Янам Амосам Каменскім, які да 1645 быў выхавацелем яго старэйшага сына, падзяляў педагагічныя ідэі чэшскага асветніка. Незадоўга да сваёй смерці ён напісаў завяшчанне пад назвай «Мемарыял, або Напамінак жонцы і маім дзеткам», у якім выклаў праграму шляхецкай гуманістычнай адукацыі, разлічаную на падрыхтоўку маладога чалавека да актыўнага свецкага жыцця. Паводле К., адукацыя павінна быць глыбокай, усебаковай і грунтоўнай; пасля яе завяршэння малады чалавек павінен прымаць актыўны ўдзел у жыцці грамадства на карысць сваёй Радзіме.

*Літ.*: Trawicka Z. Działalność polityczna i reformacyjna Piotra Kochlewskiego // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1963. T. 8.

## КАЯЛОВІЧ Альберт (1609—77)

Гісторык, філосаф, тэолаг, літаратар, рэлігійны палеміст. Нарадзіўся ў г. Коўна (Каўнас) у шляхецкай сям'і. У 1627 уступіў у ордэн езуітаў. У 1629—32 вывучаў філасофію ў Нясвіжы, затым тэалогію ў Віленскім універсітэце. Выкладаў рыторыку, паэтыку, філасофію, тэалогію ў Смаленску, Браневе, Вільні, Брэсце і інш. гарадах. Прайшоў шлях ад выкладчыка калегіума да рэктара Віленскага універсітэта. Быў арганізатарам і актыўным удзельнікам дыскусій з кальвіністамі пры двары Радзівілаў. Шмат ездзіў па Беларусі, збіраў матэрыялы па геральдыцы. Меў вялікую калекцыю гербаў Вялікага княства Літоўскага. Аўтар 2-томнай «Гісторыі Літвы» (на лацінскай мове), у якой крытычна выкарыстаў «Хроніку...» М.*Стрыйкоўскага*, але быў самастойны ў трактоўцы асноўных падзей і ў форме падачы матэрыялу. Яго «Гісторыю Літвы» можна разглядаць як літаратурны помнік стылю барока з характэрнай для яго параднасцю, вытанчанасцю мовы і вялікай увагай да дэталяў. У працы «Мешаніна рэчаў» (»Miscellanea rerum») К. расказаў пра розныя мясціны Вялікага княства Літоўскага, гісторыю хрысціянства ў гэтым краі, людзей, школы і інш. Ён распрацаваў курс лекцый па філасофіі, які чытаў у Віленскім універсітэце ў 1641—44. У 1648 у Вільні выдаў кнігу «Зрок, удакладнены розумам, ці Як наглядны доказ з цудоўнымі з'явамі пустаты абвергнуты віленскім перыпатэтыкам пры дапамозе доказу рацыянальнага». Гэта быў адказ на публікацыі італьянца-капуцына В. Магні. К. з пазіцый арыстоцелеўскай фізікі абвяргаў магчымасць пустаты ў прыродзе, наяўнасць якой спрабаваў «наглядна» даказаць у сваіх публічных эксперыментах Магні. У тэарэтычнай аснове спрэчкі ляжыць супярэчнасць паміж «эмпірызмам» (Магні) і рацыяналізмам (К.), характэрная для культуры 17 ст., а таксама ў поглядзе на прыроду сувязі матэрыі і прасторы. К. адстойваў непарыўнасць сувязі матэрыі і прасторы. Ён зыходзіў з тых жа фізічных і метафізічных прынцыпаў, што і Дэкарт, які застаўся ў пытанні аб пустаце перыпатэтыкам і «пленістам», нягледзячы на свой эксперымент са з'явай, названай потым «тарычэлевай пустатой». У адрозненне ад Тарычэлі Магні не змог растлумачыць фізічную прыроду з'явы, якую назіраў у доследзе: дзеянне атмасфернага ціску на трубку з разрэджаным паветрам.

*Тв.*: Historiae Lithuaniae pars prior: de rebus Lithuanorum ante susceptam christianam religionem, conjuctionem Magni Lithuaniae Ducatus cum regno Poloniae, libri novem. Gdansk, 1650; Historiae Lithuaniae... a conjunctione Magni Ducatus

cum Regno Poloniae ad Unionem eorum Dominiorum, libri octo. Antverpiae, 1669; Miscellanea rerum. Vilnae, 1669; Colloquia theologi cum politico de electione prudenti unius verae christianae religionis. Vilnae, 1640; O rzeczch do wiary należących. Rozmowy Theologa z róznemi wiary prawdziwej przeciwnikami. Kraków, 1671; Kalisz, 1758; Lwów, 1780; Herbars rycerstwa W.X. Litewskiego... Kraków, 1897.

*Літ.*: Чернышева Л.А. Латиноязычная традиция в культуре белорусского барокко // Белороссика. Мн., 1980.

*Л.А.Чарнышова.*

## КАЯЛОВІЧ (Kojałowicz) Войцех Віюк (1609—6.10.1677)

Пісьменнік, палеміст, гісторык. Нарадзіўся ў Коўна ў шляхецкай сям'і. Вывучаў філасофію ў Нясвіжы (1629—32), потым займаўся ў класе паэзіі ў Смаленску і ў Віленскай акадэміі. У 1634—38 навучаўся на тэалагічным факультэце Віленскай акадэміі, дзе пасля абароны дысертацыі на званне магістра філасофіі (1641) выкладаў логіку, фізіку і метафізіку, а таксама этыку. Быў прафесарам і рэктарам Віленскай акадэміі (1653—55), а пазней рэктарам дома езуітаў-прафесараў у Вільні. Апрача значнай колькасці палемічных твораў, накіраваных супраць кальвіністаў і наогул некатолікаў, а таксама розных багаслоўскіх трактатаў і біяграфій езуітаў, К. пакінуў шэраг твораў па гісторыі Беларусі і Літвы. Галоўныя з іх: «Гісторыя Літвы...» (ч. 1, Гданьск, 1650; ч. 2, Антверпен, 1669, на лац. мове), «Радзівілаўскі летапіс» (Вільня, 1653, на лац. мове). Яго «Гісторыя...» была выкладзена ў пэўнай ступені па «Хроніцы...» М.*Стрыйкоўскага* і з'явілася першым творам, які данёс да замежнага чытача звесткі пра гістарычныя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім. З яго генеалагічных прац найбольш вядомы гербоўнік беларускай і літоўскай шляхты «Nomenclator» (Вільня, 1656). Памёр у Варшаве.

## КЕРСНІЦКІ (Kierśnicki) Анастаз Людвік (1678—1733)

Педагог, каталіцкі публіцыст на Беларусі канца 17—пач. 18 ст. Нарадзіўся ў в. Гальшаны Ашмянскага пав. Вучыўся ў Вільні і Пінску. Выкладаў у езуіцкіх калегіумах у Гродне, Варшаве, Драгічыне, Слуцку, а таксама ў Віленскай акадэміі. За красамоўства сучаснікі называлі яго Перыклам. Вядомы як непрымірымы працаўнік культуры гуманізму і ідэалогіі рэфармацыйнага руху. Найбольш значныя творы К. «Ключ да скарбаў сардэчных» (Слуцк, 1723; Вільня, 1725) і «Вольны голас нядзельных прамоў» (Варшава, 1727). У творах ёсць асобныя крытычныя заўвагі ў адрас грамадскага і дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. З горыччу ён піша пра заняпад дзяржавы і страту многіх тэрыторый, бездапаможнасць соймаў, на якіх «шмат пачыналі, але мала заканчвалі», крывавыя сутычкі шляхецкіх груповак на соймах і сойміках. Сустракаюцца і антымагнацкія выпады, але якіх-небудзь прапаноў пра змену існуючага ладу К. не выказваў і заклікаў падданых цярпець усе нягоды. Настойліва праводзіў ідэю боскага ўмяшання ў дзейнасць людзей, «боскага промыслу», бо лічыў, што «Бог заўсёды за добрыя ўчынкі шчодра плаціць» і праз сваіх нябесных служак, анёлаў, накіроўвае развіццё падзей. У гэтай сувязі ён крытыкаваў Дэмакрыта, Эпікура, Лукрэцыя Кара і інш. антычных філосафаў, якія быццам бы «ўсе поспехі людзей прыпісвалі лёсу, фатуму і выпадку». Шмат твораў К. засталося ў рукапісах.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971. С. 52—55.

## КІНІКСМАН Францыск (?—?)

Выкладчык філасофіі ў сярэдзіне 18 ст. ў Мінску. Біяграфічных звестак пра яго не захавалася. Курс яго лекцый «Крыніца навук, або Дыялектыка», запісаны ў Мінску ў 1759 Казімірам Вярыгам, атрымаў назву «Мінскі трактат». У ім аўтар падзяляе філасофію на логіку, фізіку, метафізіку і этыку, якія ў сваю чаргу на разважанні, пытанні, тэзісы, доказы, пярэчанні. Трактат пабудаваны паводле прынцыпу «за» і «супраць». У раздзеле «Погляды картэзіянцаў» разглядаў зыходныя прынцыпы вучэння Дэкарта аб цялеснай субстанцыі (прастора і працяглясць), яго палажэнні аб сувязях душы і цела і інш. Курс логікі пачынаўся звычайна з раздзела «Малая логіка»,

або «Дыялектыка», потым ішла «Вялікая логіка», або проста «Логіка». У «Дыялектыку» ўключалася вучэнне аб трох дзеяннях розуму, г. зн. аб паняцці, суджэнні і. вывадзе, а таксама ўваходзіла вучэнне аб метадзе, дзе выкладаліся прыёмы навучання логіцы. У 2-й частцы «Логікі» разглядаліся універсаліі, іх адносіны да рэчаіснасці, праблемы агульнага і адзінкавага, па сутнасці — тэарэтыка-пазнавальныя праблемы. Як і іншыя аўтары трактатаў па логіцы, К. разглядаў праблему агульнага і адзінкавага з пазіцый памяркоўнага наміналізму. Ён сцвярджаў, што універсаліі не з'яўляюцца застылымі духоўнымі сутнасцямі, якія маюць бытнасць да рэчаў і пасля рэчаў, г. зн. незалежна ад рэчаў. К. адрозніваў простыя, складаныя, пазітыўныя, негатыўныя і змешаныя тэрміны, адзначаў наяўнасць «пустых» тэрмінаў, якія вызначаюць нулявое мноства (напр., ніхто). У раздзеле трактата «Крыніца навук, або Дыялектыка» выказваецца думка пра аб'ектыўнасць фармальна-лагічных пабудоў: суб'ект і прэдыкат (адна з частак суджэння, якая раскрывае асаблівасці прадмета гаворкі) могуць з'яўляцца аб'ектыўнымі, г. зн. ім адпавядаюць рэальныя прадметы; яны могуць разглядацца як фармальныя — без напаўнення іх канкрэтным зместам. К. адзначаў, што існуе і такое вызначэнне, як «тэрмін ёсць знак, які выкарыстоўваецца ў меркаваннях», хоць паняцце, на яго думку, сапраўды перадаецца праз знак і ў ім заключана тое важнае, чаго няма ў знаку як такім. У трактаце гаворыцца таксама пра выкарыстанне знакаў у фізіцы і інш. навуках, пра межы іх выкарыстання. Разам са змястоўным аналізам ён дапускаў разгляд суб'екта і прэдыката як фармальных знакаў, якія ў выказваннях рэпрэзентуюць адносіны аб'ектаў, лічыў, што найвышэйшая ступень абагульненняў дасягаецца ва універсальных тэрмінах. Такое яго разважанне можна кваліфікаваць як элемент матэрыялістычнага абгрунтавання логікі, бо лагічны тэрмін разглядаецца ў сувязі з аб'ектыўным прадметам. Разглядаючы «мультыплікацыйныя» паняцці, ён тлумачыў, што ў іх абагульняюцца фантастычныя ўяўленні, якім у рэчаіснасці не адпавядаюць рэальныя прадметы. Напрыклад, існуе толькі адзін хрысціянскі Бог; язычніцкі ж бог — гэта мультыплікацыйнае паняцце, гэта «ёсць хімера». У курсе логікі К. высвятляецца паходжанне і дыферэнцыяцыя ідэй, сувязь уяўленняў і паняццяў, узаемадзеянне доследу і логікі, якая ўсё больш збліжалася з прыродазнаўствам, тэорыяй пазнання і псіхалогіяй.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 173—175, 178.

*Р.Н.Дожджыкава.*

## **КЛАКОЦКІ** Казімір Крыштоф (каля 1625—24.10.1684)

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, заснавальнік друкарні, збіральнік кніг. Нарадзіўся ў в. Старынкі на Міншчыне. У 1645—47 навучаўся ў акадэміі ў Арлеане, дзе з 1645 быў бібліятэкарам нямецкай бібліятэкі. З 1657 выконваў функцыі аканома ва ўладаннях Радзівіла на Беларусі. У 1663 па пратэкцыі Б. Радзівіла заняў пасаду губернатара Капыльскага і Слуцкага княства. Па яго ініцыятыве ў 1665 у Слуцку была заснавана друкарня для патрэб мясцовых кальвіністаў. Для гэтай друкарні ў 1665—66 ён набыў у Варшаве неабходнае абсталяванне, і з 1672 тут пачалося выданне кніг. Найбольш інтэнсіўная друкарская дзейнасць прыпадае на 1673—78, калі пасля смерці Б.Радзівіла (1669) К. як апякун непаўналетняй дачкі Радзівіла Людвікі Караліны набыў значную самастойнасць. Вядомы 29 выданняў Слуцкай друкарні, частка з якіх мела на тытульных лістах надпіс «Gypis Stucensibus» або «Drukarnia Słucka» («Слуцкая друкарня»). К. многае зрабіў для паляпшэння якасці сваіх выданняў. Тут выдаваліся кнігі як рэлігійнага, так і свецкага зместу, але пераважалі кнігі кальвінісцкага характару. Сярод выданняў К. «Слаўная перамога» З.Марштына (1674), «Турэцкая манархія» Р.Рыкота (1678), панегірык «Жалобныя слёзы над незваротнай стратай...» (1681), календары, буквары і інш. выданні. У 1682 К. пакінуў адміністрацыйную службу ў Радзівілаў, але арганізаваная ім друкарская справа нейкі час працягвалася. У 1685 у памяць аб нябожчыку К. надрукаваў жалобныя панегірыкі І.Касцюшкевіча і

М.Кухарэвіча. У хуткім часе друкарня была перавезена ў Крулявец, а ў 1711 перайшла ва ўладанне І.Д.Цэнкера.

К. на працягу многіх гадоў з захапленнем збіраў уласную бібліятэку. Набываць кнігі яму дапамагалі сябры. Кнігі паступалі з Гданьска, Круляўца і Франкфурта-на-Одэры. К. скупіў кнігазборы некаторых памерлых арыян. У яго бібліятэцы былі рэлігійныя, юрыдычныя, гістарычныя, навуковыя (на польскай, нямецкай, французскай і лацінскай мовах) кнігі, апісанні падарожжаў. Пасля смерці К. яго сын ахвяраваў рукапісы з гэтага збору бібліятэцы езуіцкага калегіума ў Слуцку, адкуль пазней яны перавезены ў Вільню, а потым трапілі ў Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве.

## **КМІТА** Пётр Бластус (? — 1629 або 1632)

Друкар і кнігавыдавец на Беларусі і ў Літве, літаратар. Быў звязаны з арыянскім асяроддзем. Працаваць пачаў у Вільні ў друкарні свайго цесця Яна *Карцана*. У 1611—12 у Вільні дзейнічала ўласная друкарня К., у якой ён выдаў 5 кніг, у асноўным панегірыкі. Усе віленскія выданні падпісаны яго імем па бацьку Бластусовіч ці Бластус, да якога пазней (у 1614) ён дадаў прозвішча Кміта. У 1612 К. перавёз друкарню ў мяст. Любча (Навагрудскі пав.). Пакінуць Вільню і асталявацца пад апекай пратэктара кальвінізму гетмана польнага Крыштофа Радзівіла яго вымусіла, верагодна, нарастанне контррэфармацыйных тэндэнцый у грамадска-палітычным і рэлігійным жыцці Вялікага княства Літоўскага. У 1-й палове 17 ст. Любча стала галоўным выдавецкім цэнтрам рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім. Любчанская друкарня дзейнічала амаль паўстагоддзя. Але яе асветніцкія і гуманістычныя тэндэнцыі найбольш яскрава праявіліся ў перыяд, калі яе ўзначальваў К. Да канца 1620-х гадоў К. выдаў у Любчы больш за 50 кніг на польскай і лацінскай мовах, некаторыя — за ўласны кошт. Гэта былі пераважна рэлігійныя творы рэфармацыйнага кірунку і разнастайная свецкая літаратура: антычныя і гістарычныя творы, «Гісторыя іудзейскай вайны» І.Флавія (1617), першае на Беларусі выданне М.*Стрыйкоўскага* («Генеалогія, альбо Кароткае апісанне вялікіх князёў літоўскіх», 1626), творы па геаграфіі, медыцыне і ветэрынарыі, паэтычныя зборнікі (»Жыццё сельскае і гарадское», 1620, «Прытчы Саламона» ў паэтычным выкладанні Язэпа *Даманеўскага*, 1623). У 1628 тут надрукаваны Статут кальвініскай гімназіі ў Слуцку. Выдаваліся тут і творы дзеячаў рэфармацыйнага руху: сеньёра навагрудскага дыстрыкту Яна Зыгровіуса, рэктара віленскай школы Пятра Сестранцэвіча, беларускага парэміёлага і паэта Саламона *Рысінскага* («Прыказкі польскія», 1618). Супрацоўнічаў К. з Адамам Уладзіславіушам з Кракава, прадстаўніком т. зв. мяшчанскай літаратуры. Ажыццявіў ён выданне з уласнымі дапаўненнямі адной з самых папулярных у Вялікім княстве Літоўскім кніг 17 ст. «Апафегматы» Б.*Буднага* (1614). Уласныя вершы і прысвячэнні К. змяшчаў у выданнях: палемічным творы Яна *Ліцынія Намыслоўскага* «Katalysis» (»Каталісіс», Вільня, 1598), «Прыказках польскіх» С.Рысінскага, у творы М. Рэя «Люстэрка» (Вільня, 1606) і інш. Друкарская і кнігавыдавецкая дзейнасць К. мела выразна рэнесансавы характар, садзейнічала пашырэнню і папулярызацыі свецкай літаратуры. Пасля яго смерці друкарня перайшла да яго сына Яна Даніэля Кміты.

*Літ.*: Kawecka-Gryczowa A. Kmita Piotr Blastus // Polski słownik biograficzny. Wrocław, etc., 1967—68. T. 13; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959. *Л.С.Іванова.*

## **КМІЦІЦ** Мікалай (1601—24.2.1632)

Паэт, педагог. Нарадзіўся на Віцебшчыне. У 1617 уступіў у ордэн езуітаў у Вільні. У 1619—21 у Полацкай семінарыі вывучаў паэтыку пад кіраўніцтвам М.*Сарбеўскага* і рыторыку. У 1621—24 вучыўся ў філасофскай студыі Пултуска, пасля заканчэння якой вярнуўся ў Полацк і працаваў выкладчыкам паэтыкі. Праз год яго запрасілі выкладаць паэтыку ў Віленскай акадэміі, дзе Сарбеўскі быў прафесарам рыторыкі. У акадэміі па ініцыятыве К. склаўся гурток гуманістычнага кірунку, у які ўвайшлі

найбольш здольныя знаўцы красамоўства і паэзіі (С.*Лаўксмін*, Я.Рывецкі, Т.Клаг і інш.). Як вынік дзейнасці гуртка — створаныя яго ўдзельнікамі паэтычныя творы, якія выдаваліся пад агульнай назвай ад імя акадэміі. Частка твораў была надрукавана, астатнія засталіся ў рукапісах, і лёс іх невядомы. У 1628—32 К. слухаў лекцыі па багаслоўі ў Віленскай акадэміі. Памёр і пахаваны ў Вільні. Аўтар гераічнай паэмы пра смерць І.*Кунцэвіча* (Вільня, 1627), панегірыкаў у гонар Сарбеўскага, Т.Тышкевіча і інш. Талент К. высока цаніў Сарбеўскі. Даследчыкі польскай літаратуры В.Каяловіч, Ф.Бянтоўскі адносяць К. да відных дзеячаў Віленскай акадэміі, а Каяловіч параўноўваў яго паэзію з паэзіяй Сарбеўскага.

*Літ.:* B e n t k o w s k i F. Historya literatury polskiej. T. 1—2. Warszawa; Wilno, 1814.

## **КНЯЗЬНІН** Францішак Дыянізы (1750—1807)

Паэт, драматург, перакладчык. Нарадзіўся ў Віцебскай губ. ў дваранскай сям'і. Паходзіў з таго ж дваранскага роду, што і рускі пісьменнік Я.Б.Княжнін. Вучыўся ў езуіцкіх школах Полацка, Нясвіжа і Слуцка (1764—70). З 1770 у Варшаве. Адтуль часта прыязджаў у в. Воўчын (цяпер Камянецкі р-н). З 1775 сакратар князя А.К.*Чартарыйскага*, з 1783 прыдворны паэт Чартарыйскіх у Пулавах (Люблінскае ваяв.). Адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму. Пісаў паэмы, ідыліі, элегіі, оды, байкі (зборнік «Любоўныя вершы або песні ў анкрэатычным родзе», т. 1—2, 1779; «Вершы», 1783; «Паэзія», т. 1—3, 1787—89), гераічна-патрыятычныя п'есы («Маці-грамадзянка», «Гектар», «Фемістокл») і лібрэта опер. Опера «Цыганы» (музыка М.К.*Агінскага*) у 1786 ставілася ў Слонімскім тэатры Агінскага. У лірычных вершах паэтызаваў пачуццёвае каханне, «натуральную» прыроду, у элегіях і ідыліях славіў край свайго дзяцінства — Віцебск і Віцебшчыну. Цікавіўся беларускім фальклорам і выкарыстоўваў яго ў сваіх творах. Збіраў беларускія прыказкі, рабіў фальклорныя запісы з «польска-рускага памежжа». Некаторыя героі яго твораў гавораць на скажонай беларускай мове. Паводле М. Федароўскага, верш К. «Кросенкі» ў канцы 19 ст. выконваўся на Беларусі як народная песня. Перакладчык заходнееўрапейскай паэзіі. Трагічны лёс Польшчы (чарговы яе падзел у 1794) давёў успрымлівага К. да вар'яцтва.

*Тв.:* Wubdr poezji. Wrocław, 1948; Utwory dramatyczne. Warszawa, 1958.

*Літ.:* K o s t k i e w i c z o w a T. Kniaznin jako poeta liryczne. Wrocław, 1971.

## **КОПАЦЬ** Юзаф (16.5.1762—1827)

Мемуарыст, удзельнік вызваленчага руху. Нарадзіўся на Піншчыне. За ўдзел у паўстанні 1794 сасланы царскім урадам на Камчатку. Свае ўражанні ад знаходжання на паўвостраве апісаў у «Дзённіку падарожжа ўздоўж усёй Азіі па сушы да порта Ахоцк, акіянам праз Курыльскія астравы да Ніжне-Камчацка...» (Вроцлаў, 1817, на польскай мове). З павагай пісаў пра камчадалаў, чукчаў, якутаў, буратаў і прыводзіў пра іх этнаграфічныя звесткі. Вярнуўшыся са ссылкі ў 1796, жыў на Валыні, у Нясвіжы, Варшаве.

*Тв.:* Описание путешествия Иосифа Копца вдоль всей Азии... // Ист. вестн. 1896. Т. 66.

## **КОСАЎ** Сільвестр (?—23.4.1657)

Рэлігійны і грамадскі дзеяч, пісьменнік-публіцыст. Нарадзіўся ў в. Жыровічы пад Слонімам. Скончыў Віленскую брацкую школу, Люблінскую езуіцкую калегію, Замасцянскую акадэмію. З 1633 епіскап магілёўскі, аршанскі і мсціслаўскі. З 1647 кіеўскі мітрапаліт. Выяўляючы інтарэсы вышэйшага ўкраінскага духавенства, якое выступала супраць вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54, праводзіў згодніцкую палітыку з польскай шляхтай. Быў праціўнікам Брэсцкай уніі 1596, дамагаўся роўных правоў для праваслаўнага і каталіцкага духавенства. Пісаў на польскай і царкоўнаславянскай мовах. У 1635 выдаў кнігу «Экзегерзіс...», у якой выступіў у абарону праваслаўных лацінскіх школ, за-

крытых у 1634 па хадайніцтве уніятаў і католікаў. У тым жа годзе з'явіўся на польскай мове «Пацерыкон, або Зборнік жыцій святых пячэрскіх айцоў» (перавыдадзены на царкоўнаславянскай мове ў 1661 і 1678). У Куцеінскай друкарні (пад Оршай) надрукаваў з рэлігійна-асветнымі мэтамі кнігу на царкоўнаславянскай мове — «Дидаскаліа, албо Наука... о седми сакраментах, албо ли тайнах».

## **КРЭЎЗА** Леў (Лявон) Жавускі (?—1638)

Пісьменнік-палеміст 1-й паловы 17 ст., смаленскі уніяцкі архіепіскап. Паходзіў з дробнай беларускай шляхты на Падляшшы (па мянушцы Бэйда). Пастрыгся ў манахі Віленскага манастыра св. Тройцы і прыняў імя Леў. У 1617 без ведама і санкцыі мітрапаліта Іосіфа Вельяміна *Руцкага* паслушнікі выбралі яго архімандрытам. Ведаючы здольнасці і стараннасць К., мітрапаліт не аспрэчваў гэта рашэнне. І новы архімандрыт апраўдаў давер. Ён стаў падтрымліваць палітыку Руцкага, скіраваную на сцвярджэнне уніяцтва, наладзіў у Вільні публічны дыспут з антыуніятамі. Каб даказаць гістарычную заканамернасць і пераемнасць традыцый Фларэнційскага сабора 1439, удзельнікі якога заклікалі да аб'яднання праваслаўных патрыярхаў з папам рымскім, К. ўзяўся за пяро, імкнучыся знайсці ў далёкай гісторыі пачынаючы ад часоў хрышчэння Кіеўскай Русі факты, якія б сведчылі пра адзінства хрысціянскай царквы. Ён напісаў на польскай мове палемічны твор «За сінодам Фларэнцкім» (не збярогся), накіраваны супраць ананімнага праваслаўнага апалагета Клірыка Астрожскага (паводле сведчання М.Возняка, пад гэтым псеўданімам схаваў сваё імя Гаўрыіл Дарафеевіч), які ў 1598 надрукаваў антыуніяцкую «Гісторыю аб разбойніцкім Фларэнційскім саборы». У абарону Брэсцкай уніі 1596 скіраваны і яго палемічны твор «Абарона царкоўнай еднасці, або Доказы, якія сведчаць, чаму грэчаская царква павінна быць аб'яднана з лацінскай». Гэты твор рэкамендаваны да друку мітрапалітам Руцкім, выдадзены ў 1617 у Вільні ў друкарні Л.*Мамоніча*. У ім К. пераказаў гісторыю уніі, змясціў звесткі пра ўсіх кіеўскіх мітрапалітаў і выказаў думку, што многія з іх імкнуліся да адзінства з Рымам. Друкуючы «Абарону...» на польскай мове, аўтар абяцаў у хуткім часе перавыдаць яе на старабеларускай. (Ці ажыццявіў сваё абяцанне К., невядома, але такое выданне пакуль не знойдзена.) Апрача названых выданняў К. пакінуў пасля сябе польскамоўны рукапіс «Абарона манастыра св. Тройцы» (надрукаваны толькі ў 1702). Ён рэкамендаваны мітрапаліту і ордэну базыльян, паслужыў у свой час падставай для выбрання К. протаархімандрытам (генералам) ордэна базыльян на кангрэгацыі 1621 у Лаўрышаве. Праз 4 гады мітрапаліт Руцкі прызначыў яго архіепіскапам



*Слонім. З малюнка 19 ст.*

смаленскім і чарнігаўскім. У Смаленску ён пражыў каля 15 гадоў і пэўны час быў уніяцкім канкурэнтам праваслаўнага епіскапа Ісаіі Капінскага. Але канкурэнцыя была нядоўгай: калі ў 1631 памёр праваслаўны мітрапаліт Іоў Барэцкі, І.Капінскі быў выбраны кіеўскім мітрапалітам і пакінуў Смаленск. К. застаўся адзін і прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх справах уніяцкай царквы. Адсюль у 1629 ён ездзіў на сінод у Львоў, дзе меркавалася прымірыць праваслаўных з уніятамі. Памёр у Смаленску. *А.Ф.Коршунаў.*

## **КУЛЕША** Ян Алаізій (1660—1706)

Каталіцкі палеміст канца 17—пач. 18 ст. Нарадзіўся на Палессі. Быў нейкі час місіянерам у Маскве. Аўтар твора «Праваслаўная вера» (Вільня, 1704), у якім прасачыў гісторыю праваслаўнай царквы да канца 17 ст. Насуперак ісціне ён сцвярджаў, што пры князю Уладзіміру «Русь прыняла рымска-каталіцкую веру» і першыя кіеўскія мітрапаліты не былі ў схізме (царкоўным расколе). Аднак пазней Русь апынулася ўцягнутай у схізму. Адна яе частка была спустошана татарамі, а другая падпарадкавана язычніцкай Літве. Падкопамі схізматыкаў-раскольнікаў тлумачыў К. паўстанне ў Віцебску 1623, а таксама антыфеадальную і нацыянальна-вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Крытыка «страшэнных памылак схізматыкаў» і ўзвелічэнне «праўдзівай рымска-каталіцкай царквы» суправаджаліся ў К. апраўданнем польска-каталіцкай агрэсіі супраць рускага, беларускага і ўкраінскага народаў. Як і іншыя каталіцкія палемісты, К. тэарэтычна абгрунтаваў і апраўдваў гвалтоўнае насаджэнне каталіцызму, нацыянальныя і рэлігійныя ганенні ў Рэчы Паспалітай.

## **КУЛЬЧЫНСКІ** Ігнат (1707—каля 1747)

Гісторык, царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ў наваколлі Гродна. У 1727—35 знаходзіўся ў Рыме, дзе атрымаў званне доктара багаслоўя, займаўся гісторыяй царквы, шмат пісаў і выдаваў багаслоўскія працы. У 1735 пакінуў Рым і вярнуўся на радзіму, дзе стаў архімандрытам гродзенскага Каложскага базыльянскага манастыра. Вывучаў гісторыю Гродна, вёскі Жыровічы на Слонімшчыне, даследаваў Каложскую царкву, склаў яе інвентар. «Інвентар Гродзенскага Каложскага манастыра..., складзены ў 1718» створаны ім на аснове дэтальнага вывучэння манастырскага архіва з прыцягненнем даных пра рэчавыя помнікі. К. апісаў храм у цэлым, яго вонкавы і ўнутраны выгляд, алтары. Працягваючы працаваць у манастырскім архіве, К. склаў яшчэ «Хроніку ігуменаў, архімандрытаў, царкоўных старост і заступнікаў Каложскага манастыра». Напісаныя з добрым веданнем справы, працы К. з'яўляюцца асноўнай крыніцай па гісторыі Каложскай царквы. Апрача вывучэння яе гісторыі К. прымаў дзейсныя меры па захаванні царквы, якая да гэтага часу знаходзілася ў стане разбурэння. К. вывучаў таксама Гродзенскі Стары замак. Нейкі час ён жыў у полацкай Сафіі, якая ў той час належала базыльянам. Убачыўшы там крыж Ефрасінні Полацкай, апісаў яго ў сваіх працах, дзякуючы чаму гэтая рэліквія стала вядомая на Захадзе.

*Тв.*: Specimen Ecclesice Ruthenice. Roma, 1733; Menologium Basilianskie. Wilno, 1741.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1870. Т. 9. С. 409—412.

## **КУНЦЭВІЧ** Іасафат (1580—12.11.1623)

Уніяцкі царкоўна-палітычны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, святы пакутнік. Нарадзіўся ва Уладзіміры-Валынскім у збяднелай шляхецкай сям'і, якая выехала туды з Беларусі. Пачатковую адукацыю атрымаў у віленскай праваслаўнай школе. Паводле сведчання біёграфаў, К. з дзяцінства вылучаўся цягай да малебнаў і экзальтаваным настроем. Каля 1599 прыняў унію і пад уплывам езуітаў стаў яе гарачым прыхільнікам. Пасля прыняцця манаства ў 1604 уступіў у базыльянскі ордэн і накіраваны І.*Пацеем* у Віленскі Свята-Траецкі манастыр. Шчыры аскет у штодзённым жыцці К. у вольны ад малітваў і набажэнства час чытаў



свяшчэнныя кнігі і складаў свае, накіраваныя супраць праваслаўя. У канцы 1608 ці ў пач. 1609 пасвечаны ў святары. Ён блізка сышоўся з І.В.*Руцкім* (пазней віленскім мітрапалітам), разам з якім вёў гарачыя спрэчкі з праваслаўнымі. У 1613 К. прызначаны ігуменам Быценскага манастыра, у тым жа годзе стаў і быў да 1617 архімандрытам Віленскага Свята-Траецкага манастыра. За гэты час ён многа зрабіў для добраўпарадкавання манастыра, арганізацыі базыльянскага ордэна. Па рэкамендацыі Руцкага ў 1617 прызначаны епіскапам віцебскім і адначасова каад'ютарам да полацкага архіепіскапа Гедэона Бральніцкага, чалавека старога і слабага. Пасля смерці Бральніцкага ў канцы 1618 К. стаў полацкім архіепіскапам. У Полацк ён прыбыў са спецыяльнай місіяй ад мітрапаліта Руцкага — падняць унію ў гэтым краі. Гэта адпавядала і яго жаданню, таму ён з запалам пачаў выконваць даручаную яму місію, не спыняючыся нават перад гвалтоўнымі метадамі ўвядзення уніі. Непамяркоўнасць К. выклікала пратэст з боку праваслаўных. Нават уніяты і католікі асуджалі яго метады і перасцерагалі ад непажаданых вынікаў. Канцлер *Л.Сапега* спрабаваў праз Руцкага крыху ўтаймаваць К., сам асабіста ўшчуваў яго. У сваім лісце да К. ад 22.3.1621 Сапега, у прыватнасці, пісаў: «Вы Вашымі неразважнымі гвалтамі падбухторылі і, скажу, прымусілі народ рускі да адпору і зламання ўчыненае яго каралеўскай міласці прысягі». Але К. не прыслухаўся да разумных парад і перасцярог. Ён зачыняў праваслаўныя цэрквы, не дазваляў праваслаўным выконваць набажэнствы нават у дамах ці ў будынках па-за населенымі месцамі, хапаў іх святароў і кідаў у турмы, здзекаваўся над праваслаўнымі святынямі. Насельніцтва Полацка яшчэ не было уніяцкім, аднак не супраціўлялася ўвядзенню уніі, даволі пакорна прыняло К. і арганізавала яму ўрачыстую сустрэчу. Напачатку спакойна прыняў яго і Віцебск, але ён адчуваў, што вялікай прыязні да уніі тут няма. Зусім інакш павялі сябе жыхары Магілёва, дзе было праваслаўнае брацтва. Калі К. з атрадам пад'ехаў да гарадской брамы, яна аказалася зачыненай, а насельніцтва падрыхтавалася да ўзброенага адпору місіі новага архіепіскапа. К. паскардзіўся каралю Жыгімонту III, які жорстка расправіўся з непакорным горадам: кіраўнікоў паўстання пакаралі смерцю, на гараджан налажылі штраф, а ўсе праваслаўныя цэрквы перадалі уніятам. Адпор К. далі і жыхары Оршы. Адтуль ён накіраваўся ў Віцебск, дзе таксама пачаў ганенні на праваслаўных. Цярпенню гараджан прыйшоў канец, і 13.11.1623 яны забілі К., а яго цела кінулі ў Зах. Дзвіну. За забойства К. ўлады жорстка расправіліся з жыхарамі Віцебска: 19 адсеклі галовы, каля 100 з тых, што паспелі збегчы, былі завочна прыгавораны да пакарання смерцю, а іх маёмасць была канфіскавана. Горад быў пазбаўлены ўсіх правоў самакіравання, яго ратуша разбурана, з цэркваў зняты званы. Папа рымскі Урбан VIII ухваліў жорсткія меры караля Жыгімонта III Вазы. К. быў абвешчаны пакутнікам, а ў 1867 папа Пій IX прылічыў яго да святых як «патрона для Расіі і Польшчы».

К. — аўтар палемічных і багаслоўскіх твораў «О фальшованю писм словеньских...», «Правілы для уніяцких



*Забойства І.Кунцэвіча. Малюнак Зімлера. 1865.*

прэсвітэраў», «Катэхізісу», 6 артыкулаў у кнізе Л.Крэўзы «Абарона еднасці...» (1617) і інш. У сваім сачыненні «Пра хрышчэнне св. Уладзіміра» К. даказваў, нібыта руская царква першапачаткова былі каталіцкай.

*Літ.*: Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893. С. 389—392; Говорский К. Иоасафат Кунцевич, полоцкий униатский архиепископ. Вильна, 1865.

*Г.А.Маслыка.*



## **ЛАЎКСМІН** Сігізмунд (1596—1670)

Філосаф, тэолаг, літаратар. Нарадзіўся ў Заходняй Літве ў шляхецкай сям'і. У Полацку вывучаў рыторыку (1618—19). Скончыў Віленскі універсітэт. Выкладаў рыторыку ў Полацку (1629—31), паэтыку ў Нясвіжы (1631—35), філасофію ў Віленскім універсітэце (1635—38); а таксама тэалогію і кананічнае права ў Вільні. Бранёве, Полацку, Пінску. Быў рэктарам Полацкага калегіума, віцэ-рэктарам і праканцлерам Віленскага універсітэта, наведваў з афіцыйнай місіяй Рым. Л. займаўся грэчаскай мовай, тэорыяй літаратуры, маральнай філасофіяй, музычнай і літаратурнай творчасцю. Аўтар першых айчынных падручнікаў па грэчаскай мове, музыцы, рыторыцы. У філасофскай і літаратурнай дзейнасці арыентаваўся на некаторыя ідэалы, уласцівыя гуманізму паўночнага Адраджэння: філасофія, тэорыя асветніцкага абсалютызму, гісторыя антычнай літаратуры, выкананне асветніцкай праграмы пры дапамозе адукацыі і інш. Аўтар працы «Практычнае красамоўства, або Правілы рытарычнага мастацтва...», якая ў 17—18 ст. выкарыстоўвалася як падручнік рыторыкі (2 разы выдавалася ў Рэчы Паспалітай, 11 разоў за яе межамі — у Мюнхене, Празе, Вене, Франкфурце-на-Майне, Кёльне і інш.). Узорам для напісання гэтай працы быў падручнік Кіпрыяна Саарэса «Аб мастацтве рыторыкі, заснаванай на выкладанні рытарычных тэорый Арыстоцеля, Цыцэрона і Квінтыліяна». Але Л. прапанаваў прынцыпова новыя структуры і методыку курса рыторыкі. Каб узмацніць значэнне практычнага боку справы, ён увёў вялікі эмпірычны матэрыял, самастойна распрацаваныя практыкаванні, якія заканчвалі кожную главу пад назвай «Практыка тэорыі», і ўзоры прамоў, напісаных у 3 асноўных родах красамоўства: дарадчым, судовым і ўрачыстым. «Прамовы» Л. адрозніваюцца ад прамоў аратараў барока І.Рывоцкага, К.Каяловіча і інш. натуральнасцю стылю, змястоўнай глыбінёй прамовы, чысцінёй мовы. Ён прапанаваў арыгінальную распрацоўку некаторых тэарэтычных праблем неалацінскай літаратуры. У кнізе шырока выкарыстаны творы антычных аўтараў Арыстоцеля, Вергілія, Гарацыя і інш. У адрозненне ад Саарэса, які абмяжоўваўся выкладаннем толькі рытарычнай тэорыі, Л. уключыў у кнігу матэрыял «навукі аб доказе» — логікі, што было выклікана яго перакананнем пра цесную сувязь гэтых навук. Асноўнай сферай распаўсюджання «Практычнага красамоўства...» была класічная адукацыя, і гэта кніга доўга служыла ўзорам новалацінскай

творчасці. Падручнік Л. страціў сваю папулярнасць толькі ў канцы 18 ст., калі з'явілася новая сістэма адукацыі і ўзніклі новыя школы філолагаў-класікаў. Л. — аўтар невялікай працы «Сутнасць дыялектыкі...», якая ўяўляла сабой кампедыум асноўных пытанняў фармальнай логікі і філасофіі мовы, распрацаваных познасхаластычнымі філосафамі Таледа, Фансекам і інш. на аснове лагічных тэорый Арыстоцеля.

*Літ.*: Вайткунас Г. Очерк развития эстетической мысли в Литве. М., 1972; Чернышева Л.А. Латиноязычная традиция в культуре белорусского барокко // Белороссика. Мн., 1980.

*Л.А.Чарнышова.*

## ЛУСКІНА Стафан (11.12.1725—21.8.1793)

Журналіст, публіцыст, астраном. Паходзіў з беларускай шляхты Віцебшчыны. Працаваў выкладчыкам матэматыкі і астраноміі, потым рэктарам Варшаўскага езуіцкага калегіума. Пасля забароны ордэна езуітаў у 1773 атрымаў манапольнае права на выданне газеты «Gazeta Warszawska» («Варшаўская газета») і быў яе рэдактарам да самай смерці. Газета мела ў асноўным інфармацыйны характар, змяшчала пераклады замежных артыкулаў, адаптаваных для польскага чытача, і адлюстроўвала кансерватыўныя погляды яе рэдактара. Л. быў вядомы як рэакцыянер, варожа ставіўся амаль да ўсяго новага і прагрэсіўнага. Быў прыхільнікам Таргавіцкай канфедэрацыі, якая аб'ядноўвала рэакцыйную частку магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай і была накіравана на ліквідацыю прагрэсіўных рэформ у дзяржаве. У пісьме да А.*Плуга* (1883) А.Ф.*Рыпінскі* прылічваў Л. да пісьменнікаў, якія паходзілі з Беларусі або пісалі пра яе.

## ЛЫШЧЫНСКІ Казімір (4.3.1634—30.3.1689)

Мысліцель-атэіст, матэрыяліст, педагог і грамадска-палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў мяст. Лышчыцы на Брэстчыне. Пачатковую адукацыю атрымаў у мясцовай школе, потым вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме. Прымаў удзел у маскоўскай, шведскай, турэцкай ваенных кампаніях. У 1658 уступіў у ордэн езуітаў у Кракаве, адначасова вучыўся ў Кракаве, потым у Калішы ў 4-гадовай студыі, якая рыхтавала выкладчыкаў для езуіцкіх школ. Пасля заканчэння студыі нейкі час выкладаў у Львове, а з 1665 з'яўляўся памочнікам рэктара Брэсцкага езуіцкага калегіума. У 1666 выйшаў з ордэна езуітаў, ажаніўся, пакінуў Брэст і пасяліўся ў сваім радавым маёнтку Лышчыцы. Займаўся юрыдычнай практыкай, выбіраўся паслом ад шляхты Брэсцкага ваяводства на соймы ў Варшаве (1669, 1670, 1672, 1674). Прывілеем караля Яна III у 1682 прызначаны на пасаду брэсцкага падсудка. Аб'ектыўны і справядлівы, шмат судовых спраў ён правёў у карысць мяшчан і шляхты, якія судзіліся з езуітамі за захопленыя землі, даўгі і інш. Л. ўдзельнічаў таксама ў трыбунальскім судзе, быў пісарам каралеўскага суда. Грамадская дзейнасць прынесла яму аўтарытэт сярод брэсцкай шляхты.

У сваім маёнтку Л. адкрыў школу, вучыў дзяцей шляхты і сялян пісьму, лічэнню, выкладаў мовы і асновы навук. Школа была дэмакратычная па духу і свецкая па змесце. Пра характар выкладання сведчаць факты з прамовы пракурора С.Куровіча, які адзначаў, што гэты «бязбожны настаўнік» зняў у сваёй школе табліцу, на якой было напісана з думкай пра бога, пахрысціянску: «Калі сярод філосафаў узнімаецца пытанне аб вывучэнні прыроды багоў, то лепш за ўсё прызнаць, што мы пра гэта нічога не ведаем». У гэтай перафразаванай вытрымцы старажытнагрэчаскага філосафа Пратагора з твора «Пра багоў» відаць сумненне ў існаванні бога, за што яму і давялося паплаціцца жыццём. На гэты час Л. ўжо пераадолеў спектыцызм старажытнага мысліцеля і лічыў багоў хімерычным тварэннем людзей. Адкінуўшы езуіцкую педагогіку, у сваёй школе ён сцвярджаў зусім іншыя прынцыпы навучання і выхавання. Замест таго, каб вучыць дзяцей па Катэхізісе, як было ў тагачасных школах, ён аб'явіў рэлігійную мудрасць хлуснёй і свядомым падманам. Л. даваў дзецям веды пра прыроду і прыродазнаўчыя законы, па якіх яна развіваецца.

Усё жыццё Л. правёў у навуковых пошуках. Асабліва глыбока вывучаў філасофію, гісторыю і прыродазнаўства. Нямецкі гісторык Сейлер адз-

начаў, што яшчэ ў езуіцкім калегіуме Л. імкнуўся высветліць «усялякія грэшныя пытанні», выказваў парадаксальныя думкі пра бога, анёлаў, рэлігію. Ён глыбока вывучаў творы вучоных-мысліцеляў старажытнасці і сваіх сучаснікаў, але не слепа прытрымліваўся іх вучэнняў, а крытычна іх асэнсоўваў. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў яго рукапісным творы «Аб неіснаванні бога», напісаным на лацінскай мове (530 старонак). Творчая спадчына Л. невялікая. Частка яго рукапісаў была знішчана ў час пакарання, лёс астатніх невядомы. Да нас дайшло толькі 5 тэзісаў яго твора з матэрыялаў судовага працэсу, надрукаваных польскім гісторыкам А.Навіцкім у 1957, эпітафія, складзеная самім Л. Гэтыя крыніцы — яскравая старонка гісторыі айчыннай грамадскай думкі. Яны сведчаць пра прагрэсіўныя погляды Л., яго мужнасць, смеласць, цвёрдасць перакананняў паслядоўнага атэіста.

Атэістычныя ідэі Л. складаюць цэлую сістэму. Паслядоўна адмаўляючы ўсе рэлігійныя ідэі, ён абгрунтавана і лагічна даказваў неіснаванне бога, прапаведаваў сістэму ідэй, свабодную ад тэалагічных уяўленняў. Л. ўпершыню ўжыў тэрмін «атэісты» для вызначэння пэўнага кірунку ў сусветнай гісторыі філасофскай думкі, першы сказаў: «Мы — атэісты». Яго атэістычныя ідэі заснаваны на матэрыялістычных уяўленнях пра навакольны свет. Ён прызнаваў вечнае існаванне бясконцай прыроды, якая развіваецца па сваіх законах без умяшання бога, даў навуковае тлумачэнне сутнасці бога. На ўзроўні навукі свайго часу ён засвоіў асноўны матэрыялістычны тэзіс пра прыроду як рэальнасць, што знаходзіцца ў пастаянным руху і развіцці. Адмаўляючы бога як стваральніка свету, Л. прызнае ролю творцы за самой прыродай. Прырода прычына самой сябе, развіваецца па прыродных законах, і ёй не патрэбна ніякая звышнатуральная сіла.

Галоўнай ідэяй атэістычнай сістэмы Л., якая вынікала з яго стыхійна-матэрыялістычнага погляду на свет, з'яўляецца паслядоўнае адмаўленне існавання бога як рэальнасці. Першы яго тэзіс пра бога і чалавека «чалавек — творца бога, а бог — тварэнне і стварэнне чалавека...» нясе глыбокі філасофскі і рэлігійны сэнс. Гэта «чалавек — творца»; «бог — стварэнне чалавечага розуму, які не адпавядае нічаму ў прыродзе»; «бог — не рэальная сутнасць, а тварэнне фантастычнае, хімерычнае». Але сказаць, што бог — тварэнне чалавека, яшчэ не значыць раскрыць прыроду бога. Таму Л. канкрэтызуе, што бог тварэнне чалавека, але тварэнне хімерычнае, выдуманае, якое не мае рэальнай асновы, «бог — плён яго фантастычнага ўяўлення». У старажытнасці Хімерай называлі пачвару, якая спустошыла Лівію. У адным з трактатаў Л. піша: «Бог ёсць чыстая Хімера». Паводле Л., чалавек стварыў бога і надзяліў яго розньімі рысамі. У гэтым ён прытрымліваўся палажэнняў антычнага філосафа-атэіста Ксенафана, што людзі стварылі багоў па вобразе і падабенстве сваім. Але, прыпісаўшы богу негатыўныя характарыстыкі, Л. тым самым скідаў яго з п'едэстала, на які яго ўзвялі хрысціянскія тэолагі. Ды і самі тэолагі адмаўляюць бога ўжо тым, што характарызуюць яго супярэчліва. Адмаўленне існавання бога на аснове аналізу яго сутнасці — вышэйшае дасягненне атэіста Л., бо ён не проста адхіляе творцу-бога, але на яго месца ставіць чалавека. Чалавек — творца, бог — плод яго розуму, як панцце фантазіі і ўяўлення, як вобраз.

Матэрыялістычнае разуменне прыроды бога з'явілася высновай перагляду і іншых рэлігійных ідэй. Л. адхіляе несмяротнасць душы. Чалавек смяротны, як і ўсё жывое ў прыродзе, і гэтым ён не адрозніваецца ад жывёлы. Смяротная і яго душа, яна памірае разам з целам. Нічога іншага, ніякай асобнай духоўнай несмяротнай субстанцыі не існуе па-за светам самога чалавека. Не прызнаваў Л. і хрысціянскія догматы, аб'яўляючы іх бессэнсоўнымі і абсурднымі (тройца, бязгрэшнае зачацце дзевы Марыі, уваскрэсенне Хрыста і інш.). Паслядоўна адхіляе існаванне раю, пекла, чысцілішча, якія не маюць ніякай падставы ў прыродзе, анёлаў, чарцей, д'ябла і інш. звышнатуральных прыродных істот; сцвярджае, што няма ні добрай, ні дрэннай вечнасці, ні ўзнагароды добрым, ні пакарання злым. Асэнсоўваючы сацыяльную су-

вязь паміж палітычнай уладай і рэлігіяй, выявіў асобнае месца рэлігіі ў грамадстве: трымаць народ у страху і паслухмянасці. Л. адмаўляў праўдзівасць Старога і Новага запаветаў, творы багасловаў, якія ў сваіх інтарэсах стварылі розныя рэлігійныя ўстанаўленні. Як строгі бацька розгамі ўтрымлівае дзяцей ад дрэнных учынкаў, сцвярджаў Л., так і багасловы палохаюць людзей вечнымі мукамі, страшным судом за адступленне ад веры, за парушэнне «божых законаў».

Крытыкуючы духавенства, Л. вызначае галоўныя рысы, што складаюць маральную сутнасць служыцеляў культу: раменікі пустазвонства. Вучэнне пра бога настолькі «цёмнае», сцвярджаў ён, што яго зразумець немагчыма. Тэолагі не настаўнікі, а спакуснікі. У гэтай якасці духавенства выступае тады, калі хлусню выдае за ісціну. Абяцаюць яны райскае жыццё, узнагароду і вечную асалоду за грабам, таму што нічому добраму не могуць навучыць народ у гэтым жыцці, таму што яны далёкія ад жыцця, жывуць у свеце фантазіі і выдумак. Урэшце, яны — падманшчыкі, бо выхваляюцца тым, што валодаюць абсалютнай ісцінай і гэтым толькі адводзяць людзей ад ісціны, замяняюць ісціну выдумкай, абараняюць хімерычную сістэму рэлігіі — сістэму ўстарэлых памылак і недарэчнасцей. Асаблівае асуджэнне ў Л. выклікае свядомае «набожнае ашуканства» як вышэйшая амаральнасць: «ілжэмудрацы аблытваюць просты народ ілжывай верай у бога». Такое яго асэнсаванне ролі духавенства ў грамадстве.

У процівагу багасловам пра божае паходжанне хрысціянства і інш. рэлігій Л. сцвярджаў, што «вера, якую лічаць свяшчэннай, — гэта чалавечая гісторыя» і яе стварылі няверніки. Л. абвяргае таксама тэзіс багасловаў пра прыроджаныя рэлігійныя пачуцці, пра быццам бы ўласцівую людзям божую ідэю, якая сведчыць пра існаванне бога. Л. піша: «Але мы не знаходзім ні ў нас саміх, ні ў іншых гэтага паказу розуму, умацоўваючага нас у адкрыцці божым, бо калі б яно ў нас было, то ўсе б пагадзіліся, не сумняваліся і не пярэчылі б пісанню Маісея і Евангелля (якое памылковае) і не было б розных вынаходнікаў сект...». У сапраўднасці людзям не ўласціва гэта божаская ідэя, няма гэтага знака, значыць няма і бога. У гэтым тлумачэнні Л. стаіць на пазіцыі рэалізму і рацыяналізму.

«Тэорыя падману» ў трактоўцы паходжання рэлігіі, якую, як бачна з выказванняў, прапаведваў Л., у тыя часы была даволі распаўсюджанай і для свайго часу прагрэсіўнай, бо выкрывала сапраўдны падман духавенства, яго карыслівыя інтарэсы і садзейнічала тым самым барацьбе народных мас за духоўную свабоду.

Пра трываласць атэістычных перака-



*Пакаранне смерцю К. Лышчынскага. Карціна мастака А. І. Сільвестрава.*

нанняў Л. сведчыць і той факт, што ён прасіў пахаваць яго не па хрысціянскім звычаі, а спаліць цела, попел закапаць у роднай вёсцы і пакласці камень з эпітафіяй: «Гэй, вандроўнік, не праміні гэтых камянёў, не выбірай іншай дарогі. Ты на іх не спатыкнешся, калі не спатыкнешся на ісціне. Вучыся праўдзе ў камянёў, бо тыя людзі, што ведаюць гэтую ісціну, вучаць, што яна ёсць хлусня. Дактрына мудрацоў — свядомы падман».

Радыкалізм атэістычнай сістэмы Л. абумоўліваў радыкалізм сацыяльны. Ён разумеў, што адно адмаўленне бога не можа змяніць грамадства. Ён лічыў неабходным змену грамадскага ладу на больш справядлівых асновах, калі грамадства будзе існаваць «без правіцеля, горад без начальнікаў, народ без гаспадара, храмы без святароў, капітолій без суддзяў».

Паслядоўная логіка разважанняў атэіста Л. не пакідае ніякіх уступак рэлігійным аўтарытэтам, рэлігійным пачуццям, агульнапрынятым хрысціянскім традыцыям. Яна адкідвала ўсе лжывыя ўяўленні на шляху сапраўднай ісціны, праверанай вопытам чалавецтва, пацверджанай светам розуму чалавека.

Веды і энергія, здольнасці і розум Л., вольныя ад забабонаў, праявіліся і ў гаспадарчай дзейнасці. Атрымаўшы ў спадчыну невялікую частку вотчыннага маёнтка, ён становіцца багатым, дапамагае сваім братам, пазычае грошы суседзям. Гэтая дабрачыннасць адыграла ў яго лёсе злавесную ролю. Сябра і сусед Л. Ян Казімір Бжоска быў вінаваты яму значную суму грошай (100 тысяч талераў). Калі Л. папрасіў вярнуць доўг, Бжоска не хацеў гэта зрабіць. Ён выкраў у Л. частку (15 сшыткаў) яго рукапісаў «Аб неіснаванні бога», кнігу пратэстанцкага тэолага І.Г.Альстэда «Натуральная тэалогія» з паметамі Л. на палях: «мы, атэісты, так думаем», «значыць, я паказваю, што бога няма» і інш. На падставе гэтых матэрыялаў быў складзены данос на Л. і адпраўлены віленскаму епіскапу К.Бжастоўскаму. У хуткім часе Л. быў арыштаваны. «Я, знаходзячыся дома, нічога не ведаючы, абвінавачаны без апавяшчэння, без доказаў быў схоплены, абрабаваны і пасаджаны ў турму», — пісаў пазней Л. У 1687 духоўны суд прыняў рашэнне: за цяжкае злачынства — атэізм, спаліць Л. жывога на вогнішчы. Пастанова духоўнага суда выклікала сярод брэсцкіх мяшчан пратэст за парушэнне прывілеяў шляхты (па тагачасным праве шляхту нельга было судзіць духоўным судом). Падкаморы Пісаржэўскі нават абвінаваціў каталіцкае духавенства ў жаданні ўвесці ў Вялікім княстве Літоўскім. іспанскую інквізіцыю. Разгледзеўшы пратэст, Літоўскі трыбунал адмяніў прыгавор. Але гэта абазначала і асуджэнне духавенства. Епіскапы найбольш былі абураны тым, што трыбунал абараняў атэіста. Справа Л. была накіравана на сойм у Гродна (люты 1688), але там яна не разглядалася. Л. апынуўся на свабодзе. Епіскапы і даносчык Бжоска актывізаваліся. Яны перадалі справу Л. на соймавы суд у Варшаву (снежань 1688 — люты 1689), прыцягнулі ўплывовых духоўных саноўнікаў (17 епіскапаў) на чале з папскім нунцыем Дж.Кантэльмі, якія і вырашылі лёс Л. 28.2.1689 быў вынесены прысуд спаліць Л. Цэлы месяц Л. не паведамлялі пра гэта рашэнне, але і не давалі жыць спакойна — пераконвалі, прымушалі выконваць хрысціянскія прадпісанні і інш. Духавенства рыхтавала грамадскую думку да такога жорсткага прысуду, які быццам бы павінен папярэдзіць у дзяржаве «непазбежныя няшчасці». Калі 28.3.1689 прыгавор быў зачытаны, Л. папрасіў караля замяніць кару на адсячэнне галавы. Ян III даў згоду. Пакаранне адбылося 30.3.1689 на старым рынку ў Варшаве. Глыбока пераканаactive ў праваце сваёй справы і сваіх поглядаў, Л. прыняў смерць мужна. Так царкоўныя і свецкія вяльможы расправіліся з мысліцелем-самародкам, педагогам і грамадскім дзеячам, сумленным і добрым чалавекам.

Атэістычная сістэма Л. ўвабрала ў сябе прагрэсіўныя ідэі свайго часу, рэнесансавыя і асветніцкія ідэалы. Яна фарміравалася ў рэчышчы еўрапейскай і айчыннай матэрыялістычнай і атэістычнай традыцыі. Яго імя заслужана стаіць побач з такімі прадстаўнікамі гэтай традыцыі, як Дж.Бруна, Л.Ваніні, М.Сэрвет, Т.Кампанела, Б.Спіноза, С.Будны, К.Бенеш, С.Лован і інш.

*Літ.:* Д р у ж ч ы ц В. Казімір Лышчынскі — беларускі бязбожнік XVII веку // Полымя. 1927. №2; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; П р о к о ш и н а Е.С., Ш а л ь к е в и ч В.Ф. Казимир Лыщчинский. Мн., 1986; N o w i c k i A. Kazimierz Lyszczyński 1634—1689. Łódz, 1989.

*К.С.Пракошына.*

**ЛЯНЧЫЦКІ** Мікалай (10.12.1574 — 1653)



Дзеяч беларускай культуры 1-й паловы 17 ст. Нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, верагодна, на Беларусі. Адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце. Пасля пераходу ў каталіцтва прадоўжыў адукацыю ў Рымскім калегіуме езуітаў (1593—1601). Пасля гэтага быў прафесарам Віленскага універсітэта, потым выкладаў кананічнае права ў Нясвіжскім калегіуме, працаваў у інш. навучальных установах Польшчы, Літвы, Беларусі, Чэхіі. Ён паслядоўна выступаў за аб'яднанне навучальных устаноў розных канфесій, бо бачыў у гэтым шлях да павышэння ўзроўню адукацыі. Хоць займаў высокія пасады ў адміністрацыі каталіцкай царквы, быў прыхільнікам верацярпімасці, дамогся забароны для каталіцкіх прапаведнікаў і настаўнікаў выступаць супраць праваслаўных догматаў і літургіі. Яго творы пераважна прысвечаны пытанням маральна-рэлігійнага характару: «Аб правільна пражытым юнацтве», «Аб кіраванні чалавечымі пачуццямі», «Аб знешняй падрыхтоўцы цела». Але ідэалы практычнага дзейснага жыцця ён ставіў вышэй за сузіральныя ідэалы. Зборнік рэлігійна-маральных разважанняў Л. «Аб праведнай любві да Бога і небажыхароў» перакладаўся на нямецкую, польскую, французскую, англійскую і інш. мовы і карыстаўся вялікай папулярнасцю ў 17 ст. Яго 2-томны збор твораў выдадзены ў Антверпене ў 1650 пад назвай «Духоўныя творы» (у ім 21 твор).

# М



**МАЙМАН** (сапр. Х е й м а н) Саламон (1753 або 1754 — 22.11.1800)

Філосаф-асветнік 2-й паловы 18 ст. Нарадзіўся ў мяст. Мір (Карэліцкі р-н). Яго дзед і бацька былі арандатарамі ў адным з памесцяў князя Радзівіла. Пачатковую адукацыю атрымаў дома пад кіраўніцтвам бацькі, потым скончыў яўрэйскую школу ў Міры, працягваў навучанне ў івянецкай талмудычнай школе і да 9 гадоў спасцігнуў усе «прамудрасці талмудычнай вучонасці». Вельмі рана пачаў чытаць гістарычныя і астранамічныя кнігі, якія меліся ў багатай хатняй бібліятэцы і спадабаліся яму больш, чым Талмуд. М. не было яшчэ і 12 гадоў, калі яго ажанілі з дачкой гаспадыні заезнага двара ў Нясвіжы; у 14 гадоў ён ужо быў бацькам і зарабляў на хлеб выкладаннем Талмуда. Вывучыўшы, хоць і недасканала, нямецкую мову, ён адправіўся пешшу ў Слуцк да галоўнага рабіна, які атрымаў адукацыю ў Германіі, і ўзяў у яго навуковыя творы па фізіцы, оптыцы і медыцыне. «Калі я прачытаў гэтыя кнігі, — успамінаў пазней М., — то мне ад-

чыніўся новы свет. Я лічыў, што цяпер валодаю ўжо ключом да ўсіх тайнаў прыроды... Я ганарліва глядзеў на ўсіх тых, хто яшчэ не ведаў гэтага, смяяўся над іх забабонамі і выказаў гатоўнасць асведчыць іх паняцці і розум». Ва ўзросце каля 25 гадоў М. паехаў у Германію вывучаць медыцыну, філасофію, фізіку, матэматыку. Некаторы час жыў у Кёнігсбергу і Штэціне, потым перабраўся ў Берлін. Адтуль яго выслалі незадаволеныя кіраўнікі яўрэйскай абшчыны, якія палічылі яго намеры ерэтычнымі, і ён пасяліўся ў Познані. Тут М. на працягу 2 гадоў быў настаўнікам у багатай яўрэйскай сям'і, але ў 1780 пад націскам рэлігійных фанатыкаў Познані быў вымушаны пакінуць горад і вярнуцца зноў у Берлін. Тут пазнаёміўся з вядомым філосафам і пісьменнікам Мендэльсонам, доступ да. якога яму адчыніла напісаная на яўрэйскай мове філасофская манаграфія. М. настойліва вывучаў філасофію і фізіку, выявіў здольнасці ў матэматыцы і ў пэўнай ступені авалодаў французскай мовай. У жаданні М. паглыбіцца ў вывучэнне навук і «развіць свой розум і веды» набожныя яўрэі ўбачылі штосьці небяспечнае для рэлігіі і добрых нораваў, наракаючы за гэта на польскіх рабінаў, якія «шчаслівым выпадкам вызваліліся ад рабства забабонаў, раптам убачылі святло розуму і знялі ранейшыя кайданы». Пазбаўлены сродкаў існавання, М. у 1782 адправіўся ў Галандыю, але расчараваны вярнуўся ў Гамбург. Тут, каб атрымаць матэрыяльную падтрымку, ён наважыўся перайсці ў хрысціянства, хоць лічыў яўрэйскую рэлігію ў дагматычным плане больш чыстай, чым хрысціянскую, і таму больш сумяшчальнай з яго светапоглядам. Аднак адзін евангельскі святар адгаварыў яго ад гэтага кроку. Жывучы ў Гамбургу ў беднасці, М. моцна хварэў, але ў 30-гадовым узросце паступіў у гімназію ў Алтане, вывучаў філасофію, матэматыку, лацінскую, англійскую мовы. З Гамбурга М. пераехаў у Берлін, а адтуль у Брэслаўль. Тут ён пераклаў «Ранішнія часы» Мендэльсона, напісаў «Дапаможнік да прыродазнаўства і пачаткаў Ньютана». Пасля некалькіх гадоў вандраванняў і распаду сям'і М. зноў вярнуўся ў Берлін, дзе вывучаў Канта, Спінозу, Лока і ў 1790 выдаў першую сваю філасофскую працу «Спроба трансцэндэнтальнай філасофіі» на нямецкай мове. У гэты перыяд пашыраюцца яго сувязі з вядомымі філосафамі, вучонымі і пісьменнікамі канца 18 ст. Творы М. чыталі і высока ацэньвалі Кант, Гётэ, Шылер, Гумбальт; яго таленавітасцю захапляўся Фіхтэ, які ў сваёй філасофіі развіў далей асобныя яго ідэі. Свае апошнія гады з 1795 па 1800 М. правёў у маёнтку графа Калькрайта (каля Познані), высланага з Берліна за вальнадумства. Пахаваны ў Глогаве. Ёсць звесткі, што ўсе рэчы і творы М., якія знаходзіліся ў мясцовай абшчыне, былі ёю спалены.

У навуковай літаратуры М. называюць нямецкім, яўрэйскім або польскім мысліцелем, хоць вядома, што значную частку свайго жыцця ён правёў на Беларусі, дзе фарміраваўся яго светапогляд, дзе ён пачаў сваю выкладчыцкую і літаратурную дзейнасць. Станаўленне М. як філосафа непасрэдна звязана з асноўнымі перыядамі яго жыцця і дзейнасці на Беларусі, у Польшчы і Германіі. З дзіцячых гадоў ён быў сведкам сацыяльнай несправядлівасці, прыгнёту і бяспраўнага становішча сялян-беларусаў, сваіх землякоў-яўрэяў, самавольства і пагардлівых адносін да людзей з боку магнатаў і князёў. У сваёй «Аўтабіяграфіі» (1791) М. усебакова адлюстраваў жыццё і побыт насельніцтва Беларусі, надзённыя праблемы сацыяльна-эканамічнага і духоўнага жыцця грамадства. «Тагачасны лад нашай краіны наогул, — адзначаў ён, — і нашага народа, які, як асёл, стагнаў пад дзвюма ношамі — сваім уласным невуцтвам і забабонамі пануючага насельніцтва, няшчасці маёй сям'і — усё спалучылася разам, каб памяшаць майму развіццю і перашкодзіць праяўленню маіх прыродных здольнасцей». М. падкрэсліваў змешаны характар польскага і беларускага дваранства, сярод якога толькі нямногія маюць магчымасць прасвятліць сябе выхаваннем, навучаннем і мэтазгоднымі падарожжамі і садзейнічаюць такім чынам свайму агульнаму дабру і дабру сваіх падданых, а большасць праводзіць сваё жыццё ў невуцтве і амаральнасці, безразважна аддаецца самым гнюсным захапленням, якія гу-




*Берлін. З гравюры 18 ст.*

бяць тысячы іх падначаленых. «Яны, — пісаў М., — адзначаюцца тытуламі і ордэнамі, якія знеслаўляюць сваімі дзеяннямі, валодаюць велізарнымі маёнткамі, якімі не ўмеюць кіраваць, пастаянна вядуць паміж сабой сваркі, у выніку чаго дзяржава непазбежна становіцца здабычай суседзяў, што зайздросцяць яе вялікасці». У пацвярджэнне сваіх вывадаў М. прыводзіў шэраг канкрэтных прыкладаў жорсткасці і нядобразычлівых адносін да людзей з боку прадстаўнікоў улады, у тым ліку гетмана польнага і ваяводы літоўскага Радзівіла. У светапогляднай эвалюцыі М. паказальным з'яўляецца яго стаўленне да яўрэйскага рэлігійна-містычнага вучэння Кабалы, якое прыцягнула ўвагу прагнага да ведаў юнака найперш сваім метадам, што дазваляў развіваць новыя палажэнні з законаў Свяшчэннага пісання. Пазнаёміўшыся з асноўнымі палажэннямі гэтага вучэння, ён пераканаўся, што яно «ёсць не што іншае, як наданне тайнам прыроды формы баек і алегорый». Падобнымі тлумачэннямі М. выклікаў незадаволенасць з боку артадаксальных кабалістаў, якія сцвярджалі, што Кабала — гэта не чалавечая, а боская навука і тлумачыць яе тайны згодна з розумам і прыродай — значыць прыніжаць яе. М. зрабіў крытычны аналіз палажэнняў і практыкі хасідызму — рэлігійнага руху сельскага яўрэйскага насельніцтва Валыні і Падоліі, асноўная ідэя якога заключалася ў прынцыпе «літара мёртвая, дух жыватворны, мэта жыцця — злучэнне з Богам пры дапамозе малітвы». Выхаваны ў духу іудаізму, М. стаў гарачым прыхільнікам філасофіі яўрэйскага тэолага і ўрача 12 ст. Майсея Майманіда, таму і змяніў сваё прозвішча. Яшчэ ў Польшчы ён пазнаёміўся з найбольш вядомым творам Майманіда «Морэ Небухім» («Даведнік блукаючага») і напісаў да яго каментарый, у якім падкрэсліваў рацыяналізм свайго духоўнага настаўніка, яго імкненне абмежаваць веру на карысць ведаў, растлумачыць усё незразумелае і загадкавае натуральнымі законамі. Паводле ўласнага прызнання М., авалоданне вучэннем Майманіда стала паваротным момантам у станаўленні яго як мысліцеля, дало моцны штуршок развіццю яго здольнасцей. Пры гэтым, як адзначаў М., пераважны ўплыў на яго мела не ўласна філасофская сістэма Майманіда, а смелы палёт яго думак, яго любоў да ісціны, цвёрдасць у прынцыпах, строгі метад даследавання, энергічны пратэст супраць невуцтва і забабонаў. Праз Майманіда М. прыйшоў да арыстоцелевай філасофіі, што дазволіла яму пазней напісаць спецыяльную працу «Катэгорыі Арыстоцеля». Думкі Арыстоцеля аб прымаце формы над матэрыяй, а таксама вучэнне Платона аб ідэях сустракаюцца і ў «Трансцэндэнтальнай філасофіі» М. На станаўленне яго светапогляду на першым этапе паўплывала і знаёмства з філасофскай сістэмай Спінозы. «Глыбокія думкі гэтага філосафа, — пісаў М. у «Аўтабіяграфіі», — і яго любоў да ісціны мне моцна спадабаліся, і так як я ўжо ў Польшчы пры дапамозе кабалістычных кніг наткнуўся на яго

сістэму, то я зноў пачаў разважаць аб ёй і да таго пераканаўся ў ісціннасці яе, што ніякія старанні Мендэльсона не ў стане былі адцягнуць мяне ад яе». Уплыў Спінозы праявіўся і ў вучэнні М. аб бясконцым розуме, у яго спробах стварыць, падобна геаметрычнаму метаду Спінозы, сваю ідэальную, чыста аналітычную сістэму.

Пастаянным творчым пошукам, нястомнай працай у авалоданні асновамі навук, плённай асветніцкай дзейнасцю пазначаны другі перыяд жыцця і творчасці М., які пачаўся з другога наведвання Берліна (1780). Тут вырашальны ўплыў на яго зрабілі філасофскія погляды І.Канта, глыбокае вывучэнне яго сістэмы і абгрунтаваныя спробы ўдасканаліць яе. Спачатку М. склаў заўвагі да «Крытыкі чыстага розуму» Канта, потым на аснове гэтых матэрыялаў падрыхтаваў фундаментальную працу «Спроба трансцэндэнтальнай філасофіі», у якой найбольш поўна і грунтоўна выкладзены яго філасофскія погляды. Азнаёміўшыся з рукапісам М., Кант адзначаў, што ніхто з яго праціўнікаў не толькі не зразумелі яго і галоўнага пытання так добра, як М., але «вельмі нямногія асобы наогул валодаюць такой дасціпнасцю для падобнага роду даследаванняў». З пункту гледжання М., існуе толькі свядомасць з яе ўяўленнямі, якая з самой сябе па сваіх уласных законах упершыню стварае свой уласны прадмет і тым самым надае яму аб'ектыўнасць і рэальнасць, гэта значыць усеагульны і неабходны характар. Паводле М., усякае пазнанне магчыма толькі як пазнанне працэсу ўзнікнення прадмета: яно спасцігае толькі тое, што само стварае ў выглядзе сваіх аб'ектаў, надаючы ім характар неабходнасці. Законы ж прыроды вызначаюцца дзейнасцю розуму, а катэгорыі логікі з'яўляюцца ўмовамі існавання ўсіх прадметаў магчымага вопыту. У сваёй крытыцы філасофскай канцэпцыі Канта ён зыходзіць з палажэння аб тым, што па-за межамі нашай свядомасці нічога не можа існаваць, і таму з пункту гледжання тэарэтычнага розуму ўяўленне незалежнай ад свядомасці, без канкрэтных прыкмет «рэчы ў сабе» з'яўляецца неймаверным і немагчымым. «Усякая прыкмета, — пісаў М. у сваёй працы «Аб прагрэсе філасофіі», — пры дапамозе якой мы ўяўляем які-небудзь прадмет, знаходзіцца ў свядомасці, рэч у сабе павінна быць па-за свядомасцю і незалежнай ад яе: значыць, яна ёсць рэч без прыкметы, неўяўляемая, неймаверная рэч, бяссэнсіца. У паняцці рэчы ў сабе заключаецца цэнтр цяжару дагматычнай метафізікі, з ім яна стаіць і падае». Такім чынам, М. пераадольвае дуалізм Канта, суб'ектыўна-ідэалістычна лічыць, што існуе толькі адзін свет — свет свядомасці і як дадзенае не можа быць растлумачаны. Філосаф Вітэ адзначаў, што М. стаў «пачынальнікам таго філасофскага кірунку, у якім зыходзяцца Фіхтэ, Гегель і Шэлінг, ён з'явіўся пачынальнікам маністычнага ідэалізму, які ў 1-й палове нашага стагоддзя адыграваў вялікую ролю не толькі ў філасофіі, але ва ўсёй навуцы і вынікі чаго ўсё яшчэ відавочныя». Пэўны ўклад зрабіў М. у распрацоўку трансцэндэнтальнай дыялектыкі (вучэнне аб катэгорыях, аб антыноміях і паралагізмах і інш.), праблем логікі, этыкі і эстэтыкі. Як і іншыя вальнадумцы-асветнікі, М. сцвярджаў права людзей на жыццё, авеянае радасцю пазнання, напоўненае святлом розуму і ісціны. У адрозненне ад Мендэльсона, які патрабаваў ад яўрэйскай інтэлігенцыі «разумнай маралі» і «натуральнай рэлігіі», М. лічыў, што людзям найперш неабходна даць кнігі, у якіх галоўнае месца займалі б пытанні прыродазнаўства, матэматыкі і філасофіі. З уласцівай яму энергіяй М. узяўся за выданне навуковай літаратуры для польскіх яўрэяў, але адсутнасць сродкаў і адмова сяброў Мендэльсона фінансаваць такія выданні сарвалі гэта пачынанне. Адной з прычын такога становішча магло быць і тое, што, як пісаў М. у сваёй «Аўтабіяграфіі», пры тагачасным рэлігійным і палітычным становішчы яўрэяў частка адукаваных людзей не жадала вывучаць навуку па падручніках на яўрэйскай мове, «нязручнай для выкладання навуковых палажэнняў», а неадукаваная большасць народа лічыла ўсякую навуку, хоць і на яўрэйскай мове, забароненым плодам і займалася толькі вывучэннем Талмуда і яго шматлікіх каментарыяў. Асветніцтву М. адводзіў асабліва вялікую ролю ў вырашэнні надзённых праблем дня, рэфармаванні існуючай сістэмы

ўлады і грамадскіх адносін, маральным і духоўным узбагачэнні людзей.

*Тв.*: Uber die Progressen der philosophie... Berlin, 1793; Die Kategolen des Aristotele. Berlin, 1794; Versuch einer neuen Logik oder Theorie des Denkens. Berlin, 1794; Lebensgeschichte. Bd. 1—2. Berlin, 1911 (у рус. перакладзе гл. ў кн. Еврейская библиотека. Т. 1—2. Спб, 1871—72; Из автобиографии Соломона Маймона: Отрывки // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — начала XIX в. Мн., 1962; Из книги «Опыт трансцендентальной философии» // Тамсама.

*Літ.*: Фишер К. История новой философии. Т. 6, гл. 6—7, Спб., 1909; Яковенко Б. Философская концепция Соломона Маймона // Вопросы философии и психологии. 1912. Кн. 114(4)—115(5); Zubersky A.S. Maimon und der kritische Idealismus. Leipzig, 1925. Купчин Н.С. Философские взгляды Маймона // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — начала XIX в. Мн., 1962; Беленький М.С. Иудаизм. 2 изд. М., 1974; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. *С.Ф.Дубянецкі.*

## МАКОЎСКІ Тамаш (1562 ці 1575 — каля 1630)

Гравёр, картограф і друкар. Творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі, Літвы і Польшчы. Працаваў пры двары князя Радзівіла ў Нясвіжы (у пач. 17 ст. кіраваў друкарняй). Награвіраваў першую дакладную карту Вялікага княства Літоўскага (1613, Амстэрдам), да якой склаў тлумачальны тэкст, уключыўшы ў яго важнейшыя звесткі пра Беларусь, і даў агульную характарыстыку краю (захоўваецца ў бібліятэцы Вільнюскага універсітэта). М. — аўтар гравюр з відамі Масквы, Нясвіжа (каля 1600), Вільні, Трокаў, Клецка, серыі «Асада Смаленска» (1611), «Панегірыка братоў Скарульскіх — Яна, Захара і Мікалая» (1604, Нясвіж), «Панегірыка Казіміра» (Вільня, 1610), ілюстрацый да кніг «Вандраванні князя Мікалая Радзівіла-Сіроткі ў Ерусалім» (1601, Брунсберг), «Гіпіка» К.Дарагастайскага (1603, Кракаў; 1620, Познань). Работы падпісваў Маковіус, Макоўскі, Т.М. Гравюры сведчаць пра высокае майстэрства мастака.

*Літ.:* Шматаў В.Ф.Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984. *С.А.Акуліч.*



*Т.Макоўскі. Віленскія замкі. Гравюра. 1604.*

## МАРАХОЎСКІ Ілья (свецкае імя Стафановіч Ірахім; каля 1576—1631)

Пісьменнік-палеміст, палітычны і царкоўны дзеяч Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся ў Львове ў шляхецкай сям'і герба «Корчак». У канцы 1595, магчыма, з ганаровай світай уніяцкіх епіскапаў, уладзімірабрэсцкага І.Пацея і луцкага К.Тарлецкага, быў накіраваны ў Рым на вучобу ў папскі калегіум, куды быў залічаны ў 1596 па хадайніцтве кардынала Севярына. У Рыме займаўся на працягу 7 гадоў, вывучаў тэалогію і філасофію. У красавіку 1603 прыбыў у Польшчу з рэкамендацыйнымі лістамі да епіскапа Б.Мацяеўскага і папскага нунцыя Ранганега. Дзякуючы ім пасля прыезду ў Кракаў быў прадстаўлены каралю Жыгімонту III Вазе і мітрапаліту І.Пацею. Відаць, тады ж М. працаваў у канцылярыі мітрапаліта, выконваў функцыі сакратара. У 1608—09 па даручэнні Пацея ён займаўся вырашэннем спрэчкі паміж І.В.*Руцкім* і архімандрытам Віленскага манастыра св. Тройцы С.Сянчылам, які не прымаў

царкоўнай уніі 1596. Звязаўшы свой лёс з Пацеем, М. ў 1612 стаў членам уніяцкага ордэна св. Базыля. Мяркуюць, што ён у сааўтарстве з Пацеем напісаў кнігі «Гармонія» і «Рэляцыя», выдадзеныя ў Вільні ў 1608 і 1609. У 1609 Жыгімонт III прызначыў М. сваім сакратаром на Вялікае княства Літоўскае, а потым зрабіў его пераемнікам мітрапаліта на Уладзіміра-Брэсцкім епіскапстве. Пасля смерці Пацея (1613) Жыгімонт III выдаў М. свой прывілей на гэта епіскапства. Валынская шляхта, незадаволеная дзеяннямі епіскапа, на сойме 1616 дамагалася ад караля яго замены. М., калі быў епіскапам, прымаў актыўны ўдзел у з'ездзе уніятаў у Навагрудку (1624), дзе стаяла пытанне аб пашырэнні царкоўнай уніі за кошт далучэння да яе праваслаўных, а таксама ў рабоце Кобрынскага сінода 1626, на якім абяцаў выдаць 2000 злотых на стварэнне уніяцкай семінарыі. Разам з езуіцкім епіскапам Е.Пачапоўскім напісаў рэляцыю каралю і папскаму нунцыю ў Варшаву.

Аўтар «Перыгорыі...» (на польскай мове, Вільня, 1612) — твора, накіраванага супраць «Фрынаса» М.*Сматрыцкага*. М. ганьбіў праваслаўных манахаў, абураўся ідэолагамі брацкага руху, якія побач з іншымі абвінавачваннямі уніяцкіх святароў выдавалі за папоўскую выдумку і выкарыстанне імі ў сваіх пропаведзях жывой беларускай гутарковай мовы. Аўтар «Размовы пра пачатак адарвання грэчаскай царквы ад рымскага касцёла і хто быў яго прычынаю...» (на польскай мове, Замосце, 1622), «Паведамлення пра забойства... Іасафата Кунцэвіча» (на польскай мове, Замосце, 1624).

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968.

*А.Ф.Коршунаў.*

## МАРАШЭЎСКІ Каятан

Беларускі і польскі драматург, асветнік 18 ст. Час і месца нараджэння невядомыя. Працаваў прафесарам рыторыкі і паэтыкі ў Забельскай дамініканскай калегіі (каля Полацка), якая ў 1780—90-я гады з'яўлялася значным цэнтрам літаратурна-тэатральнага жыцця Полаччыны. Аўтар трагедыі «Свабода ў няволі» (у 1787 пастаўлена ў мясцовым школьным тэатры, на польскай мове) і «Камедыі», якая ўпершыню апублікавана ў 1911. У «Камедыі» апавядаецца пра цяжкі лёс селяніна Дзёмкі, што працуе ад ранку да позняй ночы, але застаецца бедным, не мае грошай, нават на сярмягу, а вінаватыя ў гэтым пан, карчмар і, нарэшце, чорт — вобразнае ўвасабленне ўсіх варожых сялянству сіл. М. даволі праўдзіва паказаў класавыя ўзаемаадносіны ў беларускай вёсцы, цяжкую працу беларускага сялянства, яго залежнасць ад паноў і арандатараў. Аднак сацыяльны канфлікт, які абазначыўся ў «Камедыі», падмяняецца ў канцы твора маральна-этычным. Прычынай усіх бедстваў абвяшчаюцца суб'ектыўныя якасці чалавека — яго недасканаласць, недастатковая сіла волі. Аўтар заклікае сялян слухацца пана, не красці яго маёмасці. Непаслядоўнасць, супярэчлівасць і асветніцкая абмежаванасць светапогляду М. асабліва выяўляюцца ў заключным павучальным маналогу Дзёмкі. У адным выпадку аўтар як прыхільнік ідэй Асветніцтва сцвярджае прыродную роўнасць усіх людзей, асноўным крытэрыем у ацэнцы чалавека абвяшчае яго розум, у другім — лічыць існуючае сацыяльнае становішча непахісным, дадзеным ад Бога. Нягледзячы на такую непаслядоўнасць, М. выявіў і пэўнае асветніцкае вальнадумства, паказваючы рэальныя супярэчнасці прыгоннай вёскі, умовы працы і побыту сялянства. Вельмі важным на той час было і тое, што галоўны станоўчы герой — просты селянін, а большасць сцэн напісана беларускай гутарковай мовай. Ідэі асветніцтва выказаны і ў трагедыі «Свабода ў няволі», дзе галоўны герой — рымскі палкаводзец Велізарый — інтарэсы Радзімы ставіць вышэй за свае асабістыя. Творы М. захаваліся ў рукапісным зборніку, які зберагаецца ў бібліятэцы АН Літвы.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 308—312; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 320—335.

## МАРКЕВІЧ Ануфрый [1750(?) — 1807(?)]

Асветнік, юрыст. Нарадзіўся на Навагрудчыне. Вучыўся ў Галоўнай школе ў Вільні. У адзінай вядомай сваёй

працы «Пра ўдасканаленне прыроды ў стварэнні чалавека» (Вільня, 1806) ён выклаў ідэі эвалюцыянізму, матэрыялізму ў антрапагенезе, антрапалагічнага гуманізму, абапіраючыся на даследаванні А.*Снядэцкага*, Ж.Б.Рабіне, Ж.Л.Бюфона і інш. мысліцеляў і прыродазнаўцаў. Чалавек для яго — вынік працяглай работы прыроды ў яе развіцці. М. выступаў супраць ненавуковых, містычна-тэалагічных домыслаў аб паходжанні чалавека. Ён аргументавана крытыкаваў зародкі расісцкіх канцэпцый, разглядаючы і белых, і каляровых як адзіны від homo sapiens. Адрозненні ў колеры скуры тлумачыў прыроднымі прычынамі. Выказаў матэрыялістычныя погляды на адзінства прыроды. Крытэрый праверкі ўсякай думкі бачыў у адпаведнасці яе законам прыроды. Паходжанне міфаў і рэлігій спрабаваў вытлумачыць умовамі (пераважна прыроднымі) жыцця старажытных народаў. Яго погляды паўплывалі на некаторых мысліцеляў на Беларусі (І.Ясінскі і інш.).

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 236; Идеи материализма и диалектики в Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1980.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## **МАРКЕЛ** (? — 1698)

Царкоўны дзеяч Расіі, асветнік. Паходзіў з Беларусі. Добра ведаў грэчаскую, лацінскую, нямецкую, польскую і татарскую мовы. Да пастрыжэння ў манахі быў перакладчыкам Пасольскага прыказа. Займаў пасады архімандрыта Бранскага Свенскага манастыра, потым епіскапа суздальскага і мітрапаліта пскоўскага. Адзін з самых адукаваных іерархаў свайго часу. Пасля смерці патрыярха Іакіма (1690) цар Пётр І меў намер прызначыць на яго месца М., але маскоўская стараруская партыя скарыстала ўвесь свой уплыў, каб патрыярхам быў прызначаны казанскі мітрапаліт Адрыян. М. заняў яго месца ў Казані. Там і памёр.

## **МАСАЛЬСКІ** Ігнацій Якуб (1729—1794)

Рэлігійны дзеяч, першы старшыня Камісіі народнай адукацыі па Беларусі і Літве. Нарадзіўся ў сям'і віленскага



кашталяна і гетмана Вялікага княства Літоўскага Міхаіла Іосіфа Масальскага. З маленства М. рыхтавалі да духоўнага сану. У 15-гадовым узросце стаў канонікам віленскага капітула, а пасля вучобы ў Рыме, дзе атрымаў ступень доктара тэалогіі і філасофіі, — рэферэндарыем літоўскім, пробашчам і прэлатам віленскім. У 1762 ён стаў членам Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай па Беларусі і Літве і першым старшынёй Камісіі народнай адукацыі. Адначасова ў 1774 быў і распарадчыкам фонду публічнага выхавання ў Літве.

М. быў прыхільнікам тэорыі фізіякратаў, у аснове якой ляжала ідэя натуральнай абумоўленасці грамадскіх адносін, звароту да вечных натуральных законаў быцця, сацыяльнай роўнасці і правоў чалавека. Па яго ініцыятыве гэтыя ідэі прапаведаваліся нават з касцёльных кафедраў. Захоплены ідэямі тагачасных эканамістаў, М. ў сваіх пастырскіх пасланнях гаварыў пра надзённыя інтарэсы людзей, падкрэсліваў неабходнасць пераадолення векавой адсталасці краіны, больш эфектыўнага выкарыстання зямлі і сялянскай працы як адзінай крыніцы ўсіх багаццяў. Паводле сведчання Р.Княжэвіча, які ў сваіх працах (1770) выклаў ідэі М., ён імкнуўся палеп-

шыць асвету і матэрыяльныя ўмовы жыцця земляробаў, таму што «ўдасканаленне земляробства з'яўляецца справай народа свабоднага, адукаванага, думаючага, упэўненага». М. лічыў неабходным забяспечыць усім сялянам свабоду, магчымасць валодаць і павялічваць сваю ўласнасць, імкнуўся пашыраць сярод іх веды. Ён выдаваў спецыяльныя інструкцыі для ніжэйшага духавенства, у якіх прадпісваў ім дапамагаць у асвеце сялян і адкрываць школы, спрабаваў наладзіць сумеснае навучанне дзяцей з сялянскіх і шляхецкіх сем'яў. У 1777 М. звярнуўся са спецыяльнай адозвай пра неабходнасць арганізацыі пачатковых (парафіяльных) школ для сялян, а ў інструкцыях для такіх школ рэкамендаваў пачынаць навучанне з уразумення рэчаў, што акружаюць дзяцей у іх жыцці. У Вільні ён заснаваў семінарыю і распачаў за свой кошт будаўніцтва кафедральнага сабора. Пад уплывам М. знаходзіўся арганізаваны пры Віленскім універсітэце гурток прагрэсіўных дзеячаў, якія цікавіліся эканамічнымі пытаннямі. Ён запрасіў у краіну віднага дзеяча школы фізіякратаў Бадо, які адыграў прыкметную ролю ў дзейнасці Адукацыйнай камісіі. Разам з іншымі членамі гэтай камісіі М. падтрымліваў непасрэдныя кантакты з французскімі асветнікамі, уваходзіў у парыжскі гурток фізіякратаў, выступаў супраць анархіі, за парламентарнае праўленне, сімпатызаваў рэспубліканскай форме ўлады. Ён часта наведваў салоны энцыклапедыстаў і блізкіх да іх людзей, сустракаўся і гутарыў з імі, у прыватнасці з Д.Дзідро. Актыўнымі прыхільнікамі светапоглядных ідэй і мерапрыемстваў М. былі М.*Карповіч*, В.Калінскі і інш. прадстаўнікі своеасаблівага кірунку мясцовага «асветніцкага гуманізму», якія лічылі, што пашырэнне асветы сярод усіх грамадзян магло б стаць асновай аздараўлення Рэчы Паспалітай, адным з важнейшых фактараў росту дабрабыту народа і ўсёй дзяржавы. Як удзельнік Таргавіцкай канфедэрацыі (саюзу магнатаў і шляхты, якія выступаў за ліквідацыю праведзеных у краіне прагрэсіўных рэформ) М. загінуў у час паўстання 1794 супраць інтэрвенцыі Расіі і Прусіі.

*Літ.:* Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

## **МАСКЕВІЧ** Багуслаў Казімір (1625—83)

Грамадскі дзеяч і пісьменнік-мемуарыст. Сын С.І.*Маскевіча*. Нарадзіўся ў в. Сэрвач на Навагрудчыне. Адукацыю атрымаў у Навагрудку. Служыў пры дварах харунжага Вялікага княства Літоўскага Б.Радзівіла, потым Ф.Забжыдоўскага на Пружаншчыне (1644—46), у 1946—48 у войску І.Вішнявецкага, з якім у 1647 пабываў у Запарожскай Сечы. У 1650 пакінуў вайсковую службу. Быў ашмянскім маршалкам. Аўтар двух «Дыярыушаў» (дзённікаў), напісаных на польскай мове. Першы з іх ахоплівае падзеі 1643—49, ваенныя дзеянні Вішнявецкага ва ўкраінскіх стэпах, М.Каліноўскага, М.Патоцкага супраць Б.Хмяльніцкага на Украіне і Я.Радзівіла на Беларусі (Мазыр, Бабруйск, Лоеў). Значнае месца адведзена падзеям, што адбываліся напярэдадні паўстання Хмяльніцкага, паказу жыцця магнацкага ходу нацыянальна-вызваленчай вайны. У гэтым «Дыярыушы» шмат партрэтных і пейзажных замалёвак, тонкіх назіранняў, праўдзівых апісанняў з'яў і паводзін людзей ва ўмовах вайны, іх узаемаадносін. Вайна адлюстравана з усёй яе жорсткасцю, разбурэннямі і незлічонымі ахвярамі. Асабліва праўдзіва намаляваны карціны злачынстваў у Мазыры, Бабруйску, пад Рэчыцай. Безумоўна, палітычныя сімпатыі аўтара на баку Рэчы Паспалітай, а не паўстаўшых казакоў, якія, паводле М., падрывалі адзінства дзяржавы. У другім «Дыярыушы» апісаны трыумфальнае шэсце рускага ваяводы І.Хаванскага па Беларусі ў пач. 1660 і разгром яго войскаў аб'яднанымі сіламі гетмана літоўскага П.Сапегі і ваяводы С.Чарнецкага ў Палонцы (каля Слоніма). Дыярыушы М. даюць аб'ектыўнае ўяўленне пра тагачасныя падзеі і факты ваеннага, палітычнага і грамадскага жыцця.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 215—216.

## МАСКЕВІЧ Самуіл Іванавіч [1580(?) — 1642]

Грамадскі дзеяч і пісьменнік-мемуарыст. Нарадзіўся ў в. Сэрвач на Навагрудчыне ў шляхецкай сям'і. Адукацыю атрымаў, відаць, у Навагрудку. У перапынках паміж вайсковай службай (1601—21) служыў пры дварах магнатаў А.Вішнявецкага і Радзівілаў. У 1617—18 дэпутат трыбунальскага суда ад Навагрудскага пав., потым навагрудскі земскі пісар. Аб'ехаў Прыбалтыку, Расію, Украіну. Багатыя ваенна-палітычныя ўражанні ляглі ў аснову яго «Дыярыуша» (дзённіка і мемуараў), які ахоплівае падзеі з 1594 па 1621. Аднак толькі падзеі 1594—1604 маюць характар дзённікавых запісаў. Апісанне фактаў пазнейшага часу больш разгорнутае, эмацыяльна насычанае. Храналагічная паслядоўнасць паведамлення сведчыць пра тое, што твор напісаны па ўспамінах, а не па свежых слядах падзей. Ён аднолькава праўдзіва характарызуе і сваіх сяброў, і ворагаў. Падрабязна апісваючы аблогу Смаленска, М. адначасова адзначае мужнасць і стойкасць абаронцаў горада, паказвае рускага ваяводу М.Шэйна як доблеснага воіна і вопытнага военачальніка. Аналізуючы складанасць ваенна-палітычнай сітуацыі ў Расіі, М. тлумачыць дзеянні розных баярскіх груповак, іх узаемаадносіны паміж сабой і іх дзеянні супраць каралеўскага войска. І на гэтым фоне ў негатыўным плане пададзены дзеянні военачальнікаў Рэчы Паспалітай. М. падрабязна апісвае побыт баяр, майстэрства маскоўскіх рамеснікаў. Яму імпанавалі цвярозыя меркаванні масквіцян, якія яны выказвалі наконт польскай шляхецкай вольнасці, бо лічылі гэта не вольнасцю, а самавольствам, дзе моцны прыгнятае слабага. Ён можа адабраць у слабага маёнтак і забіць самога, а калі шукаць справядлівасці, то «справа можа зацягнуцца на некалькі гадоў, а з іншага і нічога не спагоніш». Значнае месца ў «Дыярыушы» адведзена паказу некаторых рыс жыцця рускага сялянства і яго адносін да інтэрвентаў. Аўтар справядліва падкрэслівае, што менавіта войны зрабілі жорсткім просты народ і вымусілі яго ўключыцца ў барацьбу. Народная помста ў паказе М. хоць і страшная, але заканамерная, бо гэта рэакцыя ў адказ на прычыненае народу зло. Падрабязна апісваючы ўсё перажытае і ўбачанае, М. адкрыта выказвае сімпатыі і антыпатыі, пры гэтым не шкадуе ні дзяржаўных мужоў, ні сяброў, ні родзічаў. Самакрытычным ён быў і ў адносінах да самога сябе. Абмежаваны вузкасаслоўнымі каставымі ўяўленнямі засцянковай шляхты, ён пераважна турбаваўся пра свой матэрыяльны дабрабыт, а вырашэнне пытанняў вялікай палітыкі аддаваў магнатам. М. быў індыферэнтным і ў адносінах да рэлігіі. Відаць, таму ўсе падзеі апісаны ім аб'ектыўна без палітычный і рэлігійнай прадузятасці.

*Тв.:* Pamiętniki Samuela i Bogusława Kazimierza Maskiewiczów. Wroclaw, 1961; рус. пер. — Сказания современников о Дмитрии Самозванце. Ч. 5. Записки Маскевича. Спб., 1834.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 212—215.

## МАТУШЭВІЧ Марцін (1714—1773)

Дзяржаўны дзеяч, пісьменнік-мемуарыст, перакладчык. Нарадзіўся ў в. Ельня Брэсцкага пав. (непадалёку ад Камянца). Адукацыю атрымаў у езуіцкіх школах Драгічына і Брэста. Быў пісарам Брэсцкага гарадского суда, неаднаразова выбіраўся пасłом сойма Рэчы Паспалітай, займаў пасаду брэсцкага стольніка. У 1763—64 быў галоўным дарадчыкам К.Радзівіла, паслом вольнага сойма, на якім каралём выбраны Станіслаў Аўгуст *Панятоўскі*. У 1767 набыў вядомасць як дзеяч Радамскай канфедэрацыі, якую ўзначальваў К.Радзівіл, напісаў некаторыя акты гэтай канфедэрацыі, за што рашэннем сойма 1768 адзначаны вялікай грашовай прэміяй «За заслугі». У гэтым жа годзе атрымаў пасаду брэст-літоўскага кашталяна і стаў сенатарам Рэчы Паспалітай.

У мемуарных творах М. адлюстраваны многія праблемы гісторыі Рэчы Паспалітай, палітычныя, прававыя і этычныя погляды розных пластоў тагачаснага грамадства. Найбольш аналітычнага матэрыялу такога роду ў яго кнізе «Мемуары кашталяна брэсцка-літоўскага», выдадзенай у Варшаве (т. 1—4, 1876) А.Павінскім з грунтоўным уступным артыкулам «Пра

жыццё і творы Марціна Матушэвіча». У цэнтры ўвагі гэтага твора пануючае шляхецкае саслоўе, якое пісьменнік падзяляў на тры асноўныя групы: магнатаў, сярэднюю і дробную шляхту. Ён паказаў становішча ў грамадстве кожнай з гэтых груп, падкрэсліваючы іх маёмасную, сацыяльную і палітычную няроўнасць, намаляваў партрэтную галерэю буйнейшых магнатаў Рэчы Паспалітай саксонскага перыяду, прывёў біяграфічныя звесткі пра іх, падрабязна апісаў іх дзеянні і ўчынкі. Цэнтральныя персанажы кнігі — нясвіжскія князі Міхал і Кароль Радзівілы, канцлер Вялікага княства Літоўскага Міхал Чартарыйскі. Паводле значэння польскага даследчыка Б.Крулікоўскага, «паслужлівы панегірыст» М. з цяжкасцю адшукваў у сваіх герояў станоўчыя рысы, таму іх характарыстыкі найчасцей пачынаў з агульных фраз («набожны», «вялікага сэрца», «асаблівай дабраты» і г.д.) і толькі потым, у асцярожнай форме, маляваў іх сапраўднае аблічча. Напрыклад, пра магната Людвіка Пацея, брэсцкага падкаморыя, М. пісаў, што ён быў «дастаткова красамоўны», «меў дастаткова і сэрца», да таго ж быў «бязмежна шчодрым і гасцінным», аднак вылучаўся помслівасцю і звычайна гаварыў: «Калі ў мяне каменем кінуць — я яго схаваю, кінуць другім і трэцім — я і іх схаваю, але калі прыйдзе час, то, кінуўшы адразу ўсе тры камяні, абавязкова пападу ў свайго праціўніка». З «Мемуараў...» М. паўстаюць (часта не па волі аўтара) такія рысы магнатаў, як індывідуалізм, клопат найперш пра свае ўласныя інтарэсы, славалюбства, фанабэрыя, якія ў іх практычнай дзейнасці абарочваліся самавольствам, палітычным вераломствам і двурушніцтвам. Працэс выраджэння магнацтва прасочваецца ў «Мемуарах...» М. на прыкладзе роду Радзівілаў, які некалі даў шэраг вядомых дзяржаўных і ваенных дзеячаў Рэчы Паспалітай. Міхала *Радзівіла*, які ў сярэдзіне 18 ст. быў гетманам Вялікага княства Літоўскага, М. характарызуе як абмежаванага, слабахарактарнага і безыніцыятыўнага чалавека. Іеранім Радзівіл, брат Міхала, харунжы Вялікага княства Літоўскага, па сведчанні аўтара, праславіўся сваёй жорсткасцю. Марцін Радзівіл у сваім маёнтку ў Чарнаўшчах (на Брэстчыне) стварыў сапраўдны гарэм, здзекаваўся са сваіх вязніц, трымаў іх у холадзе і голадзе, а дзяцей іх забіваў. Караля Радзівіла, у якога М. шмат гадоў быў дарадчыкам і «прыяцелем» і якога пазней прызналі псіхічна хворым чалавекам, ён паказвае як авантурыста, скандаліста і п'яніцу. Напрыклад, М. апісвае такі эпізод: у 1755 К.Радзівіл як маршалак трыбунала ў Мінску запрасіў да сябе ў госці сваіх прыхільнікаў і прадстаўнікоў процістаячай партыі, якая падтрымлівала канцлера Чартарыйскага, і жорстка расправіўся з імі. Шмат увагі надаваў пісьменнік аналізу псіхалогіі сярэдняй шляхты, падкрэсліваючы яе бездапаможнасць і поўную залежнасць ад магнатаў. Калі аднойчы сам М. не паладзіў з М.Чартарыйскім, то ўсе ад яго адвярнуліся: «І застаўся я тады ў Навагрудку як бедная авечка ў воўчай пашчы».

Антымагнацкі настрой выразна праявіўся і ў трох арыгінальных «Дадатках» М. да зробленага ім перакладу на польскую мову «Сатыр» Гарацыя (1784). Калі ў «Мемуарах...» залежнасць ад магнатаў і паслужніцтва апісваецца ім як нешта само сабой зразумелае, то ў «Дадатках», напісаных у апошні перыяд яго жыцця, больш сур'ёзна крытыкуецца сквапнасць, прагнасць, свавольства і помслівасць буйных феадалаў. Так, у другім «Дадатку» ён адзначаў, што т. зв. «прыяцелі» магнатаў з ліку шляхты вымушаны былі пастаянна рабалепстваваць перад імі. Іх «дружба» з багацеямі «тужлівая», ніхто з іх «не свабодны сказаць смела праўду» і даводзіцца ім або «выконваць несправядлівыя загады», або «баяцца панскай помсты і крыўды». Аднак крытыка магнацкага свавольства ў М. спалучалася з абаронай «залатой вольнасці» шляхецтва. Праўда, у «Мемуарах...» параўнальна мала гаварылася пра дробную шляхту, да якой і сам М. як прадстаўнік сярэдняй шляхты ставіўся пагардліва. Што датычыць простых людзей, сялян, то пра іх ён згадваў вельмі рэдка, мімаходзь, толькі ў сувязі з апісаннем учынкаў магнатаў і шляхты. Але і тыя нешматлікія матэрыялы пра сялян сведчаць, што у маёнтках магнатаў і шляхты сістэматычна прыніжалі іх чалавечую годнасць, расплачваліся прыгоннымі за

ўзаемныя даўгі і паслугі, за самую нязначную правіннасць іх збівалі і катавалі.

Адно з цэнтральных месцаў у «Мемуарах...» М. адведзена павятовым соймікам і трыбуналам, якія адыгрывалі выключна вялікую ролю ў жыцці правінцыяльнай шляхты. З твора відаць, што магнаты выдзялялі значныя сумы на падачкі сваёй кліентуры, на подкуп паслоў з процілеглага лагера, за што тыя павінны былі паведамляць пра ўсё, што там адбывалася. Так, у 1757 І.Радзівіл асігнаваў на правядзенне брэсцкага сойміка грошы, з якіх на вярбоўку шляхты брэсцкія ротмістры Іеранім і Ян Дамброўскія атрымалі па тысячы злотых, брэсцкі харунжы Верашчака, які належаў да процілеглай партыі, — 2 тыс. злотых, брэсцкі пісар Букавецкі, пра якога было вядома, што ён «ад усіх браў, але ні да кога не быў добразычлівым», — 2 тыс. злотых. Найбольш важныя пытанні, паводле сведчання аўтара, вырашаліся не на саміх пасяджэннях, а за кулісамі. Амаль усе соймікі суправаджаліся ўсеагульнымі папойкамі, а то і крывавымі сутычкамі: не дапамагалі грошы і віно — у ход ішлі шаблі і пісталеты. Подкупам і спойваннем дэпутатаў, інтрыгамі і шантажом суправаджалася і дзейнасць трыбуналаў. Сам М. неаднаразова выбіраўся членам трыбунала, не раз выступаў там то ў ролі «істца», то ў ролі «адказчыка». Ён шчыра прызнаецца ў атрыманні «прэзентаў», якія давалі членам трыбунала, называе прозвішчы дэпутатаў і сумы грошай нават у тых выпадках, калі подкупам займаўся ён сам. Часам абставіны складваліся так, што ўдзельнікі судовых працэсаў упарціліся, цяжба зацягвалася, а, каб выйграць справу, дастаткова было толькі атрымаць перавагу ў адзін голас. У такіх выпадках рабіліся загады любым спосабам пазбавіцца ад аднаго з дэпутатаў, не спыняючыся нават перад злачынствам. І.М. прыводзіць такі прыклад: у 1755 у час Віленскага трыбунала пінскі падстароста Францэвіч запрасіў да сябе ў госці дэпутата Юзафа Валадковіча і разам са сваім прыяцелем напалі на яго. Валадковіч атрымаў 26 ран ад шабельных удараў і ледзьве выжыў. Расказваючы пра дзейнасць трыбунала ў Навагрудку (1757), якім верхаводзіў М.Чартарыйскі, М. адзначае, што дэпутаты «па загадзе князя канцлера ад хрысціянскай веры маглі б адступіць». Залежнасць судоў і трыбуналаў ад самавольства магнатаў М. паказваў і ў «Дадатках». Паводле яго слоў, у судзе магнат мог абвінаваціць свайго праціўніка ў нешляхецтве, абвясціць яго незаконнанароджаным, а папярэдне выкрасці дакументы ці зрабіць фальшывы запіс; ён «сумленне страціць», але «на чужой пагібелі разбагацее». У творах М. асвятлялася не толькі дзейнасць соймікаў і трыбуналаў, якія функцыяніравалі на ўзроўні паветаў, ваяводстваў і правінцыі, але і палітычнае супрацьстаянне магнатаў і шляхты на ўзроўні вышэйшых дзяржаўных інстытутаў Рэчы Паспалітай, іх барацьба за павелічэнне сваёй долі ў раскрадаемай дзяржаўнай маёмасці, за даходныя пасады. Знайшлі ў «Мемуарах...» адлюстраванне і кансерватыўна-рэлігійная ідэалогія шляхецтва, побыт і норавы царкоўнаслужыцеляў, здольнасць некаторых з іх знайсці самыя «высокамаральныя» аргументы ў абарону сваіх уласных, карыслівых інтарэсаў. Сярод духавенства нярэдка сустракаліся людзі невысокай маралі, а ў духоўных судах, як і ў свецкіх, працвіталі хабарніцтва, папярэдняя апрацоўка членаў суда, умяшанне магнатаў, несправядлівыя прыгаворы і г.д.

Прыведзеныя ў творах М. канкрэтныя факты сведчылі пра складаныя працэсы і супярэчнасці ў сацыяльна-эканамічным, палітычным і духоўным жыцці Беларусі і Літвы ў сярэдзіне 18 ст. Вядомы даследчык гісторыі Рэчы Паспалітай 18 ст. Ю.Барташэвіч назваў «Мемуары...» М. творам «неацэннага значэння ў гістарычных і бытавых адносінах». У артыкуле «Пра брэсцкага кашталяна Матушэвіча як паэта» (1759) ён даў высокую ацэнку яго паэтычнай і перакладчыцкай дзейнасці. В.Спасовіч напісаў спецыяльную працу «Марцін Матушэвіч як мемуарыст» (1881), у якой назваў яго галоўны твор «багацейшай крыніцай для пазнання маральнай фізіяноміі Польшчы сярэдзіны 18 ст.», а яго аўтара «адным з найбольш характэрных нашых прадстаўнікоў гэтага рухавага веку». Многія польскія гісторыкі выкарыстоўвалі творы М. для ўзнаўлення гістарычнага

фону даследуемых падзей, вывучэння псіхалогіі і побыту розных слаёў грамадства ў тагачаснай Рэчы Паспалітай. На жаль, да багатай спадчыны М. вельмі рэдка звярталіся беларускія вучоныя, хоць у яго «Мемуарах...» пераважаюць матэрыялы па гісторыі, звычаях і норавах насельніцтва беларуска-літоўскіх зямель.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971; Кутшеба С. Очерк истории общественно-государственного строя Польши: Пер. с пол. Спб., 1907; Krolikowski B. Marcina Matuszewicza o czasach saskich swiadectwe // Kwartalnik historyczny. 1968. №2; Яго ж. Marcin Matuszewicz zapomniany satyryk wzecnego Oświecenia // Przeglad Humanistyczny. 1965. №5.

## МЕЕР Андрэй Казіміравіч

Беларускі краязнавец, этнограф, гісторык 2-й паловы 18 ст. Складальнік «Батанічнага слоўніка» (кн. 1—2, 1781—83). Аўтар складзенай у 1786 працы «Апісанне крычаўскага графства або былога староства», у якой побач з характарыстыкай прыродна-геаграфічных умоў, стану сельскай гаспадаркі і мануфактурных прадпрыемстваў, складу насельніцтва па этнічнай і канфесіянальнай прыкметах апісаў народны побыт і культуру беларусаў, змясціў некалькі беларускіх фальклорных твораў. Насуперак рэакцыйным поглядам на народ М. станоўча характарызаваў беларускіх сялян. Гэта праца — каштоўная крыніца для вывучэння гісторыі і культуры Беларусі. Яна надрукаваная са скарачэннямі Е.Р.Раманавым у зборніку «Магілёўская даўніна» (вып. 2, 1901). Рукапіс захоўваецца ў архіве Казанскага універсітэта.

## МІЦКЕВІЧ Юзаф (1744—1817)

Фізік, асветнік. Нарадзіўся ў Гродзенскім пав. Больш за 20 гадоў працаваў прафесарам Віленскай акадэміі, а потым у Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага. Навуковых прац пасля сябе не пакінуў, але, нягледзячы на гэта, яго лічаць «бацькам фізікі ў Літве» за заслугі ў падрыхтоўцы кадраў і ўкараненне дасягненняў фізічнай навукі ў прамысловасць, будаўніцтва і рамяство. Курс фізікі, якую выкладаў М., уключаў асноўныя палажэнні ньютанаўскай механікі. Значную ўвагу ён звяртаў на праблемы выкарыстання фізікі ў гаспадарча-эканамічным і штодзённым жыцці, што адрознівала яго лекцыі ад лекцый іншых выкладчыкаў Віленскай акадэміі сярэдзіны 18 ст., у якіх курсы фізікі мелі абстрактны характар. М. падзяляў як моцныя, так і слабыя пазіцыі поглядаў паслядоўных прыхільнікаў Ньютана ў фізіцы. З аднаго боку, ён выступаў за навуковае пазнанне прыроды, якое грунтавалася на вопыце і прыносіла непасрэдную карысць, з другога — М. не парываў з рэлігіяй, бачыў у навуцы сродак умацавання веры ў Бога, называў фізіку навукай, якая непасрэдна вяла чалавека да пазнання Бога.

*Літ.:* Bieliński I. Universytet Wileński (1579—1831). T. 1—3. Krakow, 1899—1900; Бирало А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979. С. 36—37.

## МЛОЦКІ Тадэуш

Філосаф-асветнік 2-й паловы 18 ст. Біяграфічных звестак пра яго не захавалася. Вядома толькі, што ў 1799 ён выдаў у Вільні кнігу «Пасведчанне з вытокаў натуральнага права». У прадмове да гэтага твора М. паведамляў чытачам, што сабраў у ім думкі мудрых вучоных, якія найбольш грунтоўна пісалі пра дзяржаву і натуральнае права. Але «Пасведчанне...» не проста змяшчала вытрымкі з твораў розных філосафаў і прававедаў, а было самастойнай працай, у якой даваліся ацэнкі выказванняў і каментарыі да іх. У 1-й частцы кнігі «Аб пачатках натуральнага права» разглядаюцца пытанні аб прыродзе чалавека з пункту погляду права, сутнасці натуральнага права, як яно ўзнікла і да т.п. Натуральным правам, сцвярджаў М., з'яўляецца ўсё тое, што чалавечы розум прадпісвае людзям для надзейнага і ўпэўненага іх руху да мэты, якую яны сабе ставяць або павінны ставіць, г. зн. да сапраўднага шчасця. Навука пра натуральнае права ўключае ў сябе захаванне і функцыяніраванне добрых, найлепшых парадкаў у грамадстве. Таму «права народаў», грамадскае права, царкоўнае права — усё гэта натуральнае права». М. падкрэсліваў, што па

сваёй сутнасці натуральнае права адносіцца да чалавека таму, што яно кіруе яго справамі і накіроўвае яго да мэты, а зыходзячы з гэтага «кожны можа сабе ўсвядоміць, што пачатак гэтага права выводзіцца з самой прыроды і стану людзей».

Светапогляд М. дуалістычны, аднак часам ён пагаджаецца з палажэннямі матэрыялістычнага сенсуалізму. Паводле яго вызначэння, чалавек, «узяты ў сваёй цэласнасці, з'яўляецца разумнай жывой істотай, якая складаецца з матэрыяльнага цела і бессмяротнага духа». Апісваючы здольнасці людзей, аўтар падкрэслівае, што ўсе ўражанні чалавек атрымлівае з навакольнага свету праз органы пачуццяў з дапамогай мозга, гаворыць «аб вобразах, якія адлюстраваны ў мозгу». М. імкнецца знайсці крытэрый справядлівасці ў прававых адносінах, хоць гэтыя спробы давалі абстрактныя і далёкія ад канкрэтна-гістарычнага аналізу рэчаіснасці. Такім крытэрыем, на яго думку, з'яўляецца прынцып шчасця большасці. Свой крытэрый ён разгортвае ў палеміцы з іншымі філосафамі. Так, М. крытыкуе як памылковы і шкодны тэзіс Т.Гобса, што крыніцай панавання і права з'яўляецца перавага сілы, якой нельга процістаяць. Логіка пярэчання М. зводзіцца да наступнага: не ўсё тое, што прымушае людзей рабіць перавагай сілы, павінна быць імі ўсвядомлена; калі яны і вымушаны часова падпарадкавацца знешняй сіле, то ў іх застаецца права вызваліцца ад ярма, калі ўзнікнуць адпаведныя акалічнасці. У такім падыходзе выяўляецца ўплыў тэорыі «грамадскага дагавору» Ж.Ж.Русо, хоць аўтар не акцэнтуе ўвагі на «праве народа на паўстанне супраць самаўладдзя», якое з'яўляецца адным з асноўных палажэнняў гэтага філосафа.

*Літ.:* Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

*Р.Н.Дожджыкава.*

## **МУЖЫЛОЎСКІ** Андрэй (у манастве Антоній; 1580-я — 1640-я гады)

Пісьменнік-палеміст, рэлігійны дзеяч. Біяграфічныя звесткі пра М. амаль не захаваліся. Вядома толькі, што ён быў прэсвітэрам, а з канца 1620-х гадоў слуцкім пратапопам, што ў яго быў брат Стафан, які ў той час жыў у Астрогу. У 1620—21 М. прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі паездкі на Украіну і Беларусь іерусалімскага патрыярха Феафана, у выніку тут была адноўлена праваслаўная іерархія. У 1631 пастрыгся ў манахі, стаў іераманахам Кіева-Пячэрскага манастыра. Выступаў супраць Брэсцкай царкоўнай уніі 1596. Аўтар «Водпісу на ліст уніятаў віленскіх» (на старажытнай беларускай мове, 1616), дзе пад уплывам «Трэнаса» М.Сматрыцкага асуджаў учынкі «сына»-уніята, што здрадзіў інтарэсам праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў. У «Водпісе...» дадзена адмоўная характарыстыка духавенству рымска-каталіцкай царквы. З твора вынікае, што яго аўтар добра ведаў грэчаскую, лацінскую і польскую мовы, антычную і сучасную яму літаратуры. Выкрываў уніяцкія планы М.Сматрыцкага на праваслаўным Кіеўскім саборы 1628. У «Антыдотуме» (выдадзены ў 1629 на польскай мове), скіраваным супраць «Апалогіі» Сматрыцкага, М. падкрэсліваў станоўчае значэнне ранейшых антыуніяцкіх твораў свайго апанента, паказваў, якую шкоду прычыняе яго «Апалогія» барацьбе супраць уніі, асуджаў яго за тое, што ён нібыта перайшоў ва уніяцтва не па ідэйных перакананнях, а спакушаны абяцаннямі рымска-каталіцкай царквы. Адзін з першых спрабаваў аддзяліць царкоўна-багаслоўскую літаратуру ад свецкай, указваў на гістарычны характар творчасці *Філалета Хрыстафора*, Клірыка Астрожскага, абараняў іх ад нападкаў Сматрыцкага. На «Антыдотум» апошні адказаў з'едлівым «Экзэтэзісам» (1629). М. падтрымліваў цесныя сувязі з І.Барэцкім, П.Магілам, членамі праваслаўных брацтваў.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1. С. 306, 328.

*У.Г.Кароткі, Ю.А.Мыцык.*

## **МУСНІЦКІ** (Muśnicki) Нікодым (16.2.1765 — 16.1.1805)

Паэт, драматург, гісторык, педагог. Нарадзіўся ў Літве, жыў у Беларусі. Вучыўся ў Полацку і Оршы. Выкладаў

рыторыку, французскую мову і філасофію ў Мсціславе і Віцебску. З 1800 выкладчык тэалогіі ў Полацкай езуіцкай калегіі. Для полацкага школьнага тэатра пісаў камедыі («Дзівак», 1800); «Падазронасць», 1802) і трагедыі («Смерць Цыцэрона», «Флавій» і інш.). У Полацку выйшлі яго зборнікі «Тэатральныя забаўкі» (т. 1—2, 1803) і «Драбнейшыя паэтычныя забаўкі» (1804), у якіх выразна выявіліся стылявыя рысы класіцызму. Аўтар гісторыі езуітаў у Беларусі (рукапіс), падручнікаў. Эпічная паэма М. «Палтава» (Полацк, 1803), у якой праслаўляецца перамога рускіх войскаў над шведамі, выклікала ў 1817—18 вострую ідэйную палеміку паміж прыхільнікамі асветніцтва і езуітамі. Выступаў за пашырэнне асветы, збліжэнне Беларусі з Расіяй. *А.В.Мальдзіс.*

## **МЫШКОЎСКІ** Ю. (?—?)

Прафесар філасофіі ў Гродне ў 2-й палове 18 ст. Аўтар трактата «Філасофія розуму» (1790), у якім вывучэнне сусвету падзяляў на 2 прынцыпы — картэзіянскі і ньютаніянскі, найперш стасуючы іх да касмалогіі. Паводле яго меркавання, існуюць 2 гіпотэзы, якія тлумачаць прычыны руху планет: Картэзія і больш вядомая Ньютана. М. аддаваў перавагу другой, таму што яна, на яго думку, «адпавядае законам механікі і астранамічным назіранням». У гэтым трактаце М. прыводзіць звесткі, узятыя з розных крыніц, пра заселенасць планет. Ён узнаўляе напалову міфалагічныя ўяўленні піфагарэйцаў і платонікаў, якія заяўлялі, што бачылі на Месяцы пастухоў і ўючных жывёлін. Пераказваючы ідэю Х.Вольфа аб існаванні на планетах раслін, жывёлін і людзей, М. падкрэсліваў, што такі погляд адпавядае розуму і веры. Ён разглядаў таксама сцвярджэнні капернікаўцаў, што на планетах існуюць расліны, жывёлы, жыхары, і нават апісвалі іх постаці, норавы і грамадскую будову. Сам М. падыходзіў да гэтых сцвярджэнняў стрымана і больш цвяроза, бо лічыў, што як нельга цалкам адкідваць прыведзеныя меркаванні, так і няма вартых даверу звестак пра незаселенасць планет. На той час сапраўды нельга было даказаць верагоднасць сцвярджэнняў абедзвюх версій. Тым не менш М. не змог абысціся без тэалагічнай аргументацыі: «Бог мог зрабіць планеты заселенымі, хоць на іх, хутчэй за ўсё, ніхто не жыве». У заключэнні трактата аўтар выказваў упэўненасць, што ў будучым гэта праблема будзе вырашана. У раздзеле «Аб электрычнасці» М. разглядаў з'явы электрычнасці і магнетызму. З прычыны таго што электрычнасць найбольш праяўляецца ў бурштыне, ён называў яе бурштынавай сілай. Паводле М., электрычнасць надае целам здольнасць прыцягваць ці адштурхоўваць іншыя целы, ствараць святло з трэскам і інш. Ён называў таксама целы, якія валодаюць электрычнай сілай і пры набліжэнні да іх выкідваюць пякучую іскру, падобную да маланкі, а пры датыканні да іх частак цела ўзнікае адчуванне, падобнае на дакрананне да вострай палачкі. Яму быў вядомы і квадрат Франкліна.
*Р.Н.Дожджыкава.*

## **МЯЛЕШКА** Іван (? — 1622)

Дзяржаўны і ваенны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Паходзіў са шляхецкага роду на Слонімшчыне, дзе меў некалькі маёнткаў, у т.л. Жыровічы. У чэрвені 1593 кароль Жыгімонт III Ваза даў яму прывілей на пасаду стольніка Гродзенскага пав. З 1599 М. мазырскі падкаморы (галоўны межавы суддзя), у 1602 быў маршалкам слонімскім, у 1603—15 — кашталянам мсціслаўскім, брэсцкім. З 1615 займаў пасаду смаленскага кашталяна. Уваходзіў у Раду Вялікага княства Літоўскага ў 1613, займаўся размежаваннем зямель паміж Мазырскім пав. і Кіеўскім ваяв. (1598 і 1601). Яму прыпісвалі аўтарства сатырычнага твора «Прамова Івана Мялешкі, кашталяна смаленскага, на Варшаўскім сойме ў прысутнасці караля Жыгімонта III Вазы ў 1589 годзе». Але на падставе аналізу шматлікіх крыніц даследчыкі лічаць, што М. не з'яўляўся аўтарам «Прамовы...», хоць ён мог выступаць з ёю на сойме ў Варшаве ў 1609, а не ў 1589. Хутчэй за ўсё матэрыялам для «Прамовы...» паслужылі ўласнаручныя запіскі мсціслаўскага кашталяна Івана Мялешкі, напісаныя ім пасля Варшаўскага сойма 1609. Пазней ананімны аўтар надаў гэтым запіскам своеасаблівую літаратурную форму. Існуюць і яшчэ 2

версіі, чаму названы твор прыпісваўся менавіта М. У свой час М. быў папулярным дзяржаўным дзеячам за сваё шчырае непрыняцце і вострую крытыку польскага засілля на Беларусі. Яго прозвішча было пашыраным на землях Вялікага княства Літоўскага (асабліва на Украіне) і нярэдка выкарыстоўвалася для іранічнага абазначэння «пустамелі», што ў некаторай ступені адпавядала фрывольнаму, гумарыстычнаму характару «Прамовы...».

У 17 ст. «Прамова...» бытавала ў шырокіх колах грамадства, неаднаразова перараблялася і дапаўнялася. Існавала мноства разнастайных спісаў і рэдакцый «Прамовы...», але да нашага часу дайшлі толькі тры рэдакцыі. Упершыню яна надрукаваная польскім гісторыкам Ю.У.*Нямцэвічам* у 1822 у перакладзе на польскую мову. Наступныя выданні выходзілі ў сярэдзіне 19 — пач. 20 ст., прычым за аснову браліся розныя варыянты. Паводле зместу «Прамова...» — хутчэй палітычны памфлет, парадыйна-сатырычны літаратурны твор, а не соймавая прамова. Яе аўтар смела выступаў супраць узмоцненага польскага культурнага і палітычнага ўціску, асабліва пасля Люблінскай уніі 1569 і Брэсцкай царкоўнай уніі 1596, з'едліва высмейваў побыт і норавы апалячанай, акаталічанай беларускай і ўкраінскай шляхты. Галоўная мэта твора — супрацьпастаўленне Вялікага княства Літоўскага і Польскага Каралеўства, беларускага ўкладу жыцця і польскага, увогуле ўсяго роднага, беларускага і іншаземнага, чужога, а таксама аналіз сацыяльна-эканамічных умоў і праблем духоўнага развіцця грамадства. Раней, лічыў аўтар «Прамовы...», гаспадары княства (Жыгімонт I Стары і інш.) клапаціліся пра сваю зямельку, дабрабыт свайго народа, збіралі дзяржаўныя тэрыторыі, мужна бараніліся ад ворагаў з усходу і захаду, а потым «каралі больш немцаў, чым нас улюбілі, і зараз, што старыя нашыя сабралі, то ўсё нямцом раздалі». Вельмі адмоўна і непрыязна ацэньвалася і ўладаранне Жыгімонта II Аўгуста, якога нібыта «нечага і ў людзі лічыць», бо ён «Падлясьсе вынішчыў, ляхам менючыся». І ў тым, што Беларусь паступова падпала пад замежны ўціск, паводле «Прамовы...» «не так вінаваты кароль, як гэтыя радныя баламуты, што пры ім «сядзяць і круцяць», якія паддаліся нацыянальнаму нігілізму і інтарэсы Польшчы ставілі вышэй за інтарэсы і патрэбы сваёй Бацькаўшчыны. Сур'ёзную пагрозу дзяржаўна-палітычнай незалежнасці Беларусі, яе свабоднаму нацыянальна-культурнаму развіццю сатырык бачыў не толькі з боку польскай экспансіі і ўвогуле з захаду, але і з усходу, з боку Маскоўскай дзяржавы, якая на працягу многіх стагоддзяў вяла шматлікія войны з Вялікім княствам Літоўскім і Рэччу Паспалітай. Выйсце з такіх складаных для Айчыны абставін аўтар «Прамовы...» бачыў у як мага больш хуткім выгнанні ўсіх чужынцаў, што «да нас улезлі насупераk праву нашаму». Па сваёй аб'ектыўнай накіраванасці «Прамова...» — глыбока патрыятычны літаратурны твор, этапная з'ява ў развіцці беларускай літаратуры, узбагачэнні яе сацыяльнага і духоўна-маральнага зместу.

*Літ.:* Г а р э ц к і М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн., 1992. С. 138—141; Я г о ж. Хрэстаматыя беларускае літаратуры, XI век — 1905 год. Вільня, 1922. С. 38—40; І г н а т о ў с к і У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5 выд. Мн., 1991. С. 135—136; К р а п и в и н П. К вопросу о времени появления «Речи Ивана Мелешки» и ее авторства // Изв. АН БССР. 1955. №5; Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959. С. 357—361; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 269—271; М а й х р о в і ч С.К. Нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры XIV—XVIII ст. Мн., 1980. С. 191—196.

*Э.С.Дубянецкі.*

# Н 

## НАБАРОЎСКІ Даніла (1573—1640)

Урач, паэт, дыпламат. Нарадзіўся ў збяднелай шляхецкай сям'і ў Кракаве. Медыцыне, праву і гуманітарным навукам вучыўся ва універсітэтах Вітэнберга (Германія, 1590—93), Базеля (Швейцарыя), Арлеана (Францыя). Вывучаў таксама лацінскую, грэчаскую, нямецкую, французскую мовы. Як здольны настаўнік Н. быў прыняты на

службу ў сям'ю віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла выкладчыкам заходніх моў для сына Януша. Потым працаваў настаўнікам у сям'і магнатаў Ляшчынскіх. У 1601 навучаўся механіцы ў Падуі (Італія), слухаў лекцыі Галілея, стаў прыхільнікам яго вучэння. На аснове вучэння Галена напісаў 2 трактаты. З 1602 на працягу 30 гадоў Н. быў на службе ў свайго былога выхаванца, Януша Радзівіла, і амаль увесь час жыў на Беларусі: у Нясвіжы, Капылі, Станькаве, пад Навагрудкам. Ён падтрымліваў ідэю самастойнасці Вялікага княства Літоўскага, дапамагаў князю рыхтаваць выступленне пратэстанцкай шляхты супраць караля Жыгімонта III. Пасля задушэння выступлення суправаджаў князя ў эміграцыі. Яшчэ раз вымушаны быў эмігрыраваць у Заходнюю Еўропу разам з князем пасля яго адмовы ўдзельнічаць у паходзе Жыгімонта III на Рускую дзяржаву. Пасля вяртання на Беларусь Н. неаднаразова ездзіў з сакрэтнымі дыпламатычнымі даручэннямі Радзівілаў да еўрапейскіх уладароў. З 1633 жыў у Вільні, дзе быў абраны гарадскім суддзёй. На працягу ўсяго жыцця займаўся ўрачэбнай практыкай, удзельнічаў у барацьбе з эпідэміямі на Беларусі. Н. вядомы таксама як і паэт. У сваіх вершах і вершаваных лістах адлюстроўваў сацыяльныя супярэчнасці на Беларусі 16—17 ст., высмейваў рэакцыйную шляхту, езуітаў, духавенства. Як пратэстант цярпеў ганенні з боку каталіцкай царквы. У сваёй практычнай дзейнасці быў тыповым прадстаўніком гуманістычнага кірунку (у неўраджайны год адмовіўся спаганяць нядоімку з сялян Станькава, абараняў сялян ад рэвізораў князя Радзівіла). Н. перакладаў з лацінскай (М.*Сарбеўскага*), італьянскай (Петрарку), нямецкай і французскай моў.

*Тв.:* Poezje. Warszawa, 1961.

*Літ.:* Грыцкевіч В. Чатыры факелы ў цемры // Маладосць. 1972. №10.

## **НАРБУТ** Казімір (1738—1807)

Мысліцель-асветнік, прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва на Беларусі і ў Літве. Нарадзіўся ў маёнтку Яшнец у Лідскім павеце. Спачатку вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, потым у Любяшоўскім навіцыяце і ў піярскім калегіуме ў Дубровіцы. З 1759 удасканальваў свае веды па філасофіі і прыродазнаўчых навуках у піярскім калегіуме ў Вільні, каля 4 гадоў — у піярскім вучылішчы ў Рыме. Пасля вяртання на радзіму ў 1764 Н. прызначаны прафесарам і прэфектам піярскага калегіума ў Дубровіцы. Праз некалькі гадоў запрошаны ў Вільню, дзе чытаў лекцыі па філасофіі ў піярскім канвікце і быў прэфектам піярскай друкарні. З 1773 Н. разам з сынамі падскарбія М.Бжастоўскага знаходзіўся ў Германіі і Францыі. У 1769 выдаў у Вільні падручнік па логіцы («Логіка, або Навука разважання і разумнай размовы», на польскай мове). Аўтар курса «Эклектычнай філасофіі» і рукапісаў на лацінскай мове.

У «Логіцы...» Н. з гуманістычна-асветніцкіх пазіцый выказваўся за свабоду філасофствавання, звязваючы яго з пошукам ісціны і крытычных адносін да выказвання ўсіх мысліцеляў незалежна ад аўтарытэту. Ён больш паслядоўна, чым яго папярэднікі, выступаў супраць схаластаў, разумеючы, што схаластычная філасофія з'яўляецца перашкодай на шляху развіцця навукі і займаецца праблемамі, адарванымі ад практычнага жыцця чалавека і грамадства. Прызначэнне вучоных і філосафаў Н. бачыў у служэнні грамадству, у развіцці тых навук, што вымагала практыка жыцця. Філасофію ён лічыў найважнейшай дысцыплінай, добра асэнсоўваючы тое становішча, якое яна займала ў сярэднявеччы і наступных стагоддзях, калі была на паслугах у тэалогіі, радаваўся, што філасофія пачала скідаць з сябе гэтыя ланцугі. Асновай пазнання ён лічыў дакладнасць і відавочнасць ідэй, прытрымліваўся тых метадалагічных правіл адшукання ісціны, што і рацыяналіст Р.Дэкарт. Для ўстанаўлення ісціны Н. патрабаваў усебаковага і разнастайнага падыходу ў даследаванні з'яў. Верыў, што чалавек здольны спасцігнуць ісціну. Вера ў чалавека і яго розум — характэрная рыса гуманістычных поглядаў Н.

У прадмове да кнігі «Ваенная навука прускага караля для яго генералаў», якую Н. пераклаў з французскай мовы на польскую (Вільня, 1771), Н., закранаючы розныя грамадскія праблемы,

выказаў сваё захапленне грамадскімі мерапрыемствамі, што ажыццяўляліся ў тагачаснай Беларусі, у прыватнасці будаўніцтвам пінскага канала, які спрыяў зносінам паміж багатымі правінцыямі. У гэтым ён бачыў вялікую карысць для грамадства. Адначасова Н. падкрэсліваў, што разумныя і гуманныя тыя мерапрыемствы і тая палітыка, што накіраваны на карысць усіх людзей, спрыяюць развіццю мануфактур, горнай справы, удасканаленню сельскай гаспадаркі, развіццю ўнутранага рынка, зберажэнню сродкаў у краіне.

Думкі аб грамадскай прыродзе чалавека выказаны ў працах Н. пачатку 1770-х гадоў. Чалавек створаны для жыцця ў грамадстве — гэта ўласцівасць чалавечай прыроды (ідэя, блізкая да ідэй Г.Гроцыя і Д.Лока). З такіх пазіцый мысліцель імкнуўся паказаць і вярхоўную ўладу (дзяржаву) як арганізацыю, што ўзнікае ў інтарэсах усіх і кожнага паасобку і служыць на агульную карысць. На яго думку, вярхоўная ўлада існуе не вечна, а ўзнікае на пэўнай ступені развіцця грамадства. Аднак людзі пры гэтым захоўваюць свае прыродныя правы, якія ім і гарантуе вярхоўная ўлада. У грамадстве, як і ў любой суполцы, намаганні ўсіх павінны быць скіраваны на дасягненне ўсеагульнага шчасця, таму ў краіне неабходны законы, на якіх бы грунтавалася цэласнасць, бяспека, а разам з тым і шчасце грамадзян. Усё гэта Н. ускладаў на вярхоўную ўладу, якой адводзіў вельмі важную ролю: клапаціцца аб непарушнасці законаў, справядлівасці, роўнасці, свабодзе асобы.

Н. адстойваў думку пра неабходнасць шырокай свецкай адукацыі, сам, як член Адукацыйнай камісіі, непасрэдна займаўся рэформай школьнага навучання на Беларусі і ў Літве. Ён выступаў супраць такіх метадаў у практыцы навучання і выхавання маладога пакалення, як цялесныя пакаранні вучняў. Член «Таварыства па складанні элементарных кніг», Н. напісаў 2 раздзелы для школьнага «Статута парафіяльных школ» і настаўленне «Аб інспектаванні (візітацыі) школ», дзе патрабаваў, каб у школах Адукацыйнай камісіі навучалі неабходным практычным навыкам і ведам, якія былі б карысныя для чалавека капіталістычнай фармацыі, што толькі нараджалася. Асаблівую ўвагу звяртаў на неабходнасць памяркоўнага і гуманнага абыходжання настаўнікаў з вучнямі з бедных сем'яў, якія складалі асноўны кантынгент парафіяльных школ, на павагу да іх асабістай годнасці. Крытыкуючы саслоўную сістэму навучання і выхавання, асабліва сістэму адукацыі ў акадэміях і калегіумах ордэна езуітаў, ён выступаў за свецкую сістэму адукацыі, за адзіныя метады навучання, за школу, якая была б звязана з практыкай эканамічнага і сацыяльнага жыцця. Як асветнік-гуманіст ён клапаціўся аб фарміраванні ў вучню асобы, чалавека, цесна звязанага з практычнымі патрэбамі грамадства і часу. Н. імкнуўся ўвесці ў курс навучання свецкую этыку (не залежную ад рэлігіі), якая, на яго думку, з'яўлялася навукай маральнасці. Лічыў, што неабходна выкрываць і паказваць не толькі маральныя заганы чалавека, але і грамадства, бяспраўнае становішча сялян. Ён мужна адстойваў перадавыя, гуманістычныя ідэі свайго часу.

*Літ.:* Дубровский В.В. Казимир Нарбут — просветитель раннего периода эпохи Просвещения в Белоруссии и Литве середины XVIII в. // Молодые ученые и современная философская наука. Мн., 1964.

## **НАРВОЙШ** Франц Міліконт (15.1.1742 — 26.6.1819)

Багаслоў, філосаф, матэматык. Нарадзіўся ў Вількамірскім пав. Ковенскай губ. Скончыўшы ніжэйшае езуіцкае вучылішча, у 1756 перайшоў у езуіцкую калегію ў Шэнбергу. Там уступіў у ордэн езуітаў і паехаў у Вільню, куды ў гэты час прыбылі вядомыя матэматыкі, выгнаныя з Францыі, — езуіты Расаньёль і Флеры. У ліку нямногіх слухачоў ён быў дапушчаны да заняткаў вышэйшай матэматыкай пад кіраўніцтвам французскіх вучоных і дамогся вялікіх поспехаў у гэтай навуцы. Яму была прапанавана кафедра вышэйшай матэматыкі і прысвоены ступені доктара філасофіі і доктара багаслоўя. З-за непаразуменняў з кіраўніцтвам Н. быў пазбаўлены кафедры і пасяліўся ў Гродне, дзе выкладаў паэтыку. Пазней выкладаў ма-

тэматыку ў Нясвіжы, потым пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле праводзілася вызначэнне геаграфічных шырот многіх мясцовасцей Літвы і Беларусі. Быў кіраўніком работ па ўрэгуляванні рэчышча Нёмана і знішчэнні перашкод для суднаходства па гэтай рацэ. Пакінуў шмат цікавых карт па гідратэхніцы. Пасля скасавання езуіцкага ордэна Н. была прапанавана кафедра філасофіі ў Вільні, але ён адмовіўся і пайшоў на службу да А.*Тызенгаўза*, каб дапамагчы ў развіцці народнага гандлю і прамысловасці ў Гродне. Дзеля набыцця аптычных прыбораў для мяркуемай адкрыцца ў Гродне астранамічнай абсерваторыі ездзіў у Англію, Германію, Галандыю. Пасля вяртання з-за мяжы ўзначаліў кафедру вышэйшай матэматыкі ў Віленскім універсітэце, застаўшыся кафедральным віленскім канонікам і настаяцелем гродзенскага і сапоцкінскага прыходаў. На думку біёграфаў, гэта быў самы адукаваны з былых віленскіх езуітаў. Памёр у Вільні.

## НАРУШЭВІЧ

(N a r u s z e w i c z) Адам Станіслаў (20.10.1733—6.7.1796)



Польскі гісторык і паэт, асветнік. Нарадзіўся ў Пінскім пав. ў збяднелай шляхецкай сям'і. У 1748 скончыў Пінскі езуіцкі калегіум, паступіў у ордэн езуітаў і быў накіраваны працягваць адукацыю ў Ліёнскім езуіцкім калегіуме ў Францыі. Пасля вяртання на радзіму выкладаў паэтыку і рыторыку ў Віленскай акадэміі, потым у Варшаўскім езуіцкім калегіуме. Пазней на сродкі канцлера Вялікага княства Літоўскага Міхала Чартарыйскага здзейсніў другую замежную паездку для завяршэння адукацыі, наведаў многія навуковыя і навучальныя ўстановы Францыі, Італіі, Германіі. У 1762—73 зноў выкладаў у Варшаўскім езуіцкім калегіуме. У гэты час Н. стаў вядомы і папулярны як паэт, пісаў панегірычныя оды, лірычныя творы, ідыліі, байкі, сатыры («Убогі літаратар», «Маскарад», «Сапсаваны век» і інш.), рабіў пераклады з Гарацыя, Анакрэона, Тацыта. Быў адным з асноўных аўтараў і рэдактараў літаратурнага штотыднёвіка «Забавы прыемныя і карысныя» («Zabawy przjemne, i pożyteczne»). Творчасць Н. з'яўляецца пачаткам польскай асветніцкай паэзіі. У творах ён выказваў свае погляды на задачы літаратуры і яе грамадскую ролю, крытыкаваў самавольства магнатаў і шляхты, асуджаў прыгонніцтва. Яго філасофскія оды прасякнуты духам дэізму і рацыяналістычнай філасофіі. Лічыў, што свет створаны Богам, але накіроўваецца законамі прыроды. Грамадскае жыццё і чалавечая мараль, паводле Н., падуладныя розуму.

З пачатку 1770-х гадоў Н. усё больш цікавіўся праблемамі ўсеагульнай і айчыннай гісторыі. Ён прыняў удзел у стварэнні калектыўнай працы «Палітычная гісторыя старажытных дзяржаў», выдадзенай у Варшаве ў 1772. Яе аўтары лічылі галоўнай задачай высвятленне прычын развіцця і заняпаду дзяржаў. Менавіта тут выявіліся крытычныя адносіны Н. да гістарычных легенд, праўдзівасць якіх нельга ўстанавіць. Ідэалам Н. была асветная манархія. У сувязі з ліквідацыяй ордэна езуітаў і матэрыяльнымі цяжкасцямі Н. прыняў сан святара і па пратэкцыі караля Станіслава Аўгуста *Панятоўскага*, які пастаянна аказваў яму садзеянне ў літаратурнай і

навуковай дзейнасці, атрымаў прыход у Немянчыне пад Вільняй. Пазней ён стаў смаленскім біскупам з месцам знаходжання ў Пінску, а потым — луцкім біскупам. Гэтыя 6 гадоў, што Н. жыў і працаваў у Літве і на Беларусі, былі найбольш плённыя для яго як гісторыка. Тут ён працягваў распачатую яшчэ ў Варшаве працу над перакладам і па выданні твораў старажытнарымскага гісторыка Тацыта. Але ў цэнтры ўвагі Н. былі праблемы гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У 1773—76 ён напісаў сваю першую буйную гістарычную працу «Жыццё Яна Караля Хадкевіча, віленскага ваяводы, вялікага гетмана Вялікага княства Літоўскага» (Варшава, 1781). Пачатая ім падрыхтоўка твора пра Льва Сапегу засталася незакончаная. Па прапанове Панятоўскага і з яго дапамогай Н. стварыў «Гісторыю польскага народа» (выйшла ў свет пасля смерці аўтара), напісанню якой папярэднічала вялікая праца па зборы і сістэматызацыі шматлікіх гістарычных крыніц. Ён сабраў 231 том матэрыялаў (яны атрымалі назву «Папкі Нарушэвіча»), што маюць вялікую каштоўнасць нават для сучаснай гістарыяграфіі. Паколькі пад польскім народам Н. разумеў усе народы, аб'яднаныя ў адной дзяржаве Рэчы Паспалітай, то ў «Гісторыі...» даволі грунтоўна адлюстравана і гісторыя Беларусі і Літвы. У «Мемарыяле адносна напісання народнай гісторыі», які Н. накіраваў Панятоўскаму ў 1775 (апублікаваны ў 1836), аўтар выклаў свае погляды на гістарычны працэс у цэлым, на прадмет і метад гістарычнай навукі.

Упершыню ў гістарычнай навуцы Польшчы, Беларусі і Літвы Н. проціластавіў тэалагічнай гістарыяграфіі асветніцкае разуменне гісторыі як свецкай навукі, якая павінна мець пазнавальныя і маральна-палітычныя мэты. Ён адмаўляў умяшанне вярхоўнай істоты ў гістарычныя працэсы, даваў свецкае тлумачэнне гісторыі як выніку ўзаемадзеяння прыродных прычын, уласцівых чалавечаму грамадству, хоць і дапускаў у гэтым пытанні пэўныя ваганні з прычыны абвяшчэння Бога найвышэйшай інстанцыяй у гісторыі чалавецтва. На фарміраванне яго поглядаў паўплывалі ідэалогія і філасофія гісторыі Вальтэра, Мантэск'е і інш. французскіх асветнікаў, творы якіх у той час былі вядомыя ў Рэчы Паспалітай. Н. значна расшырыў прадмет гісторыі. На яго думку, прадметам гісторыі павінны быць не толькі дзеянні кіраўнікоў і военачальнікаў, але і жыццё ўсяго народа, усіх яго сацыяльных слаёў; гісторыя народа — гэта сукупнасць палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця грамадства. Галоўным рухавіком гістарычнага працэсу Н. лічыў чалавечы розум, асветніцтва. Практычнае значэнне гісторыі як навукі Н. нават ставіў на першы план: гісторыя павінна вучыць, як сябе паводзіць, каб пазбегнуць памылак продкаў, павялічыць моц дзяржавы, выправіць звычкі і норавы, зрабіць людзей шчаслівымі.

*Тв.:* Historya narodu Polskiego. T. 1—10. Lipsk, 1836—37; Satyry. Warszawa, 1962.

*Літ.:* Б и р а л о А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979. С. 91—103.

## НЕЗАБІТОЎСКІ Станіслаў Ян (24.9.1641—1717)

Мемуарыст. Паходзіў з Навагрудчыны. Вучыўся ў Навагрудскім езуіцкім калегіуме. Кальвініст. Служыў у Б.Радзівіла і кіраваў яго адміністрацыяй у Слуцкім княстве. Неаднаразова выбіраўся дэпутатам ад навагрудскай шляхты на сесіі Трыбунала Вялікага княства Літоўскага. Выконваючы абавязкі адміністратара, зрабіў шэраг паездак па Беларусі, Літве, Польшчы, Прусіі і Сілезіі. У 1682—1700 сістэматычна вёў дзённік, у які запісаў свае назіранні, уражанні, розныя падзеі і факты. Дзённік (дыярыуш) — рукапіс памерам каля 900 старонак — з'яўляецца багатай крыніцай для вывучэння жыцця, звычаяў і культуры шляхты Вялікага княства Літоўскага, асабліва Мінскага ваяводства, дзе аўтар меў уласны маёнтак Ятры. Рукапіс мемуараў, а таксама вялікая эпісталярная спадчына Н. (больш за 600 лістоў да розных асоб) зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве (архіў Радзівілаў).

## НЕСЯЛОЎСКІ Казімір Ігнацы [1676(?)—1754]

Дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага, пісьменнік.

Паходзіў з перамышльскіх зямель. Жыў у в. Варончы і Ясянцы на Навагрудчыне. Пасол на сойм Рэчы Паспалітай (1722). З 1733 маршалак навагрудскі. Пасля адрачэння ад прастолу Станіслава Ляшчынскага (1736) падтрымліваў кандыдатуру і даказваў паходжанне ад Ягелонаў саксонскага курфюрста Аўгуста, які ўрэшце і быў абраны каралём Рэчы Паспалітай пад імем Аўгуста III. У сваіх выступленнях і вершах з'едліва крытыкаваў няздольнасць Ляшчынскага правіць дзяржавай («хто да шапкі ёсць ствароны, не дасягне да кароны»). У знак удзячнасці за падтрымку Аўгуст III прапанаваў Н. Мсціслаўскае ваяводства, але той адмовіўся. Як сенатар неаднаразова ўдзельнічаў у соймах (1744, 1746, 1748). Быў прыхільнікам палітыкі расійскага імператара Пятра I, у 1737 наведаў Пецярбург. У канцы 1738 атрымаў пасаду кашталяна смаленскага. Часта наведваў Нясвіж, дзе сустракаўся з М.К.*Радзівілам* Рыбанькам, а апошні неаднаразова гасцяваў у яго маёнтку Варончы. Ва ўспамінах Радзівіл адзначыў, што ў час візіту ў Варончу 30.4.1752 ён застаў старога кашталяна зусім сляпым. Напэўна, гэты год і быў апошнім у жыцці Н.

Як пісьменнік Н. пакінуў пасля сябе два зборнікі — «Публічныя забаўкі» (Пінск, 1743) і «Хатнія забаўкі» (1752). Апрача вершаў і эпітафій, у зборніках змешчаны эпісталярная спадчына аўтара, яго ўспаміны, прамовы, пасланні, легенды, перадрукі розных дакументаў. Пісаў на польскай і лацінскай мовах.

# П



## ПАНЯТОЎСКІ Станіслаў Аўгуст (17.1.1732—12.2.1798)

Апошні кароль Рэчы Паспалітай [1764—95], асветнік, мецэнат. Нарадзіўся ў маёнтку Волчын пад Брэстам у шляхецкай сям'і Станіслава Панятоўскага і Канстанцыі Чартарыйскай. П. быў здольны юнак, атрымаў добрую адукацыю. Здзейсніў шэраг падарожжаў па Францыі і Англіі, знаходзіўся пад моцным уплывам асвет-



най культуры Еўропы. У палітычным жыцці краіны арыентаваўся на партыю прыхільнікаў Чартарыйскіх. З 1755 меў званне стольніка Вялікага княства Літоўскага. у 1755—56 і 1757—58 выконваў абавязкі сакратара англійскага пасольства ў Пецярбургу, пазней быў паслом ад Саксоніі. У гэты час ён блізка сышоўся з вялікай княгіняй Кацярынай, жонкай спадчынніка расійскага трона Пятра III, і быў у ліку яе фаварытаў. Стаўшы імператрыцай, Кацярына II выставіла кандыдатуру П. на трон Рэчы Паспалітай і пры падтрымцы прускага караля Фрыдрыха II ён 6.9.1764 быў абраны каралём. Першыя гады яго праўлення прайшлі даволі спакойна. Палякі былі задаволены, што іх каралём нарэшце стаў «прыроджаны Пяст», а не іншаземец. Склалася нават думка, што з часу праўлення П. ў Рэчы Паспалітай пачаўся «залаты век» Адраджэння. Шляхам маральнай і матэрыяльнай падтрымкі П. актывізаваў дзейнасць вучоных і літаратараў, асвету, заснаваў у Варшаве кадэцкі корпус, з якога ў далейшым выйшаў шэраг выдатных дзяржаўных дзеячаў (у т.л. А.Т.*Касцюшка, Я.Ясінскі*), у Вільні корпус інжынераў Вялікага княства Літоўскага, дапамагаў у дзейнасці Камісіі народнай адукацыі. Пад яго

эгідай пачаўся росквіт тэатра, у архітэктуры развілася плынь, якая вядома пад назвай «стыль Станіслава». Ён наводзіў парадак у гаспадарцы гмін і заняпалых гарадоў, дбаў пра развіццё прамысловасці і гандлю.

Яшчэ да ўступлення на прастол П. пачаў збіраць бібліятэку, калекцыю мастацкіх твораў, узораў прыкладнога мастацтва і нумізматыкі, якія значна папоўніліся за часы яго праўлення. Яго прыдворная бібліятэка налічвала каля 20 тыс. тамоў кніг і рукапісаў, ёй карысталіся прыдворныя, многія вучоныя і літаратары. Менавіта з дапамогай яго збораў створаў «Гісторыю польскага народа» А.*Нарушэвіч*. Традыцыйныя ў культурным жыцці краіны сталі «чацвяргі Панятоўскага», на якія збіралася эліта з інтэлігенцыі. Праўда, пазней гэтыя «чацвяргі» былі ацэнены як бессаромны разгул і распутства караля і знаці, што ў рэшце стала адной з прычын падзення нораваў і развалу дзяржавы.

Спробы П. ўмацаваць цэнтральную ўладу шляхам рэформ і абмежавання «ліберум вета» выклікалі незадаволенасць Расіі і Прусіі, а таксама мясцовых рэакцыйных магнатаў. А непаслядоўнасць і нерашучасць караля астудзіла першае захапленне ім шырокіх колаў і перарасло ў адкрытую варожасць. Найбольш энергічныя праціўнікі (Красінскія і Пулаўскія) стварылі ў 1768 супраць караля і Расіі Барскую канфедэрацыю — узброены саюз шляхты і патрыятычных колаў, якія выступалі за незалежнасць краіны. Барацьба канфедэратаў супраць каралеўскіх і расійскіх войск працягвалася да 1772 і фактычна падрыхтавала глебу да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай паміж суседнімі моцнымі дзяржавамі. У 1772 Расія, Прусія і Аўстрыя заключылі канвенцыю аб частковым падзеле Рэчы Паспалітай, занялі частку яе тэрыторыі і прымусілі сойм Рэчы Паспалітай прызнаць гэты падзел. Пад рэальнай пагрозай поўнай ліквідацыі дзяржаўнасці паскорыўся працэс выспявання нацыянальнай свядомасці народаў Рэчы Паспалітай. На 4-гадовым сойме 1788—92 склалася патрыятычная партыя, якая выпрацавала праграму палітычных і сацыяльных рэформ, умацавання дзяржавы. Сойм прыняў шэраг рэформ (умацаванне арміі, змена дзяржаўнага ладу і інш.), якія былі падсумаваны ў Канстытуцыі 3 мая 1791. Супраць Канстытуцыі выступілі рэакцыйныя магнаты. Яны стварылі ў 1792 Таргавіцкую канфедэрацыю, па закліку якой войскі



*Гродна. З малюнка 19 ст.*

Расіі і Прусіі акупіравалі краіну. Напачатку П. падтрымліваў Канстытуцыю, а потым далучыўся да таргавіцкіх канфедэратаў. Рэформы 4-гадовага сойма былі адменены, а сойм, скліканы ў Гродне ў 1793, зацвердзіў новы падзел краіны паміж Расіяй і Прусіяй. На пагрозу поўнай ліквідацыі нацыянальнай незалежнасці народы Рэчы Паспалітай адказалі паўстаннем пад кіраўніцтвам А.Т.Касцюшкі. Паўстанне 1794 напалохала П. Ён баяўся за свой лёс, і толькі ўпэўненасць у рыцарскім характары Касцюшкі давала яму надзею на спрыяльны зыход. Пасля задушэння паўстання ў 1795 адбыўся канчатковы падзел Рэчы Паспалітай, паводле якога да Расіі адышлі ўсе беларускія і ўкраінскія землі. Па патрабаванні Расіі П. пераехаў у Гродна і тут адрокся ад прастола. Апошнія гады пражыў у Пецярбургу ў поўнай раскошы і пасля сябе пакінуў вялікія даўгі. Мемуары П. выдадзены ў 1914—16 Расійскай акадэміяй навук. Значная частка яго бібліятэкі і нумізматычнай калекцыі ў 1805 праз Т.Чацкага была набыта для Крамянецкага ліцэя, пасля закрыцця якога трапілі ў Кіеўскі універсітэт (зараз у бібліятэцы АН Расіі).

*Літ.:* Кулжинский И. История Польши. Киев, 1864. С. 177—189; Słownik pracowników książki polskiej. Warszawa; Łódź, 1972. S. 846—848. *Г.А.Маслыка.*

## ПАПРОЦКІ Францішак (1723—90)

Выдавец, аўтар навуковых прац па геаграфіі, усеагульнай і айчыннай гісторыі. Нарадзіўся на Беларусі, вучыўся ў Польшчы, выкладаў філасофію, гісторыю і геаграфію ў Варшаве і Віленскай акадэміі, кіраваў шляхецкімі калегіямі ў Вільні і Камянцы. Пачынаючы з 1759, П. выдаваў у Вільні «Палітычныя каляндарыкі», з 1768 — «Віленскія календары». Гэтыя календары выгадна адрозніваліся ад большасці падобных выданняў сярэдзіны 18 ст., у якіх побач з рэлігійнай праблематыкай змяшчаліся звесткі па астралогіі, знахарстве, тлумачэнні сноў. Сваім добра аформленым «Палітычным каляндарыкам» П. надаў свецкі характар, змяшчаў у іх багатую інфармацыю пра бягучыя падзеі ў краіне і за мяжой, звесткі па фізіцы, механіцы, медыцыне і геаграфіі. У іх, напрыклад, змяшчаліся артыкулы аб выніках астранамічных назіранняў М.*Пачобут-Адляніцкага*, у якіх рашуча адхіляліся астралагічныя прароцтвы і інш. забабоны, «замоўчваліся» і біблейскія легенды. У «Палітычным каляндарыку на 1760 г.» П. змясціў кароткае апісанне найбуйнейшых тагачасных краін Еўропы. Характарызуючы Расію, ён адзначыў, што жыхары гэтай краіны «цярплівыя ў невыгодах і настомныя ў працы, асабліва ваеннай»; пачынаючы з царавання Пятра І, яны дасягнулі вялікіх поспехаў у навуках і змен у звычаях, разам з тым многія з іх вызначаюцца «схільнасцю да бунту, суровасцю, празмерным п'янствам» і інш. заганамі. У «Палітычным каляндарыку на 1764 г.» змясціў храналогію польскіх каралёў і князёў Вялікага княства Літоўскага, апісваў падзеі «бескаралеўя», што настала пасля смерці Жыгімонта Аўгуста III, паведамляў імёны імператараў, цароў і каралёў еўрапейскіх краін, тагачасных епіскапаў, сенатараў, міністраў і інш. службовых асоб Рэчы Паспалітай. У адным з артыкулаў расказвалася пра вынікі Сямігадовай вайны (1756—63), названы найважнейшыя паліт. падзеі 1763; прыведзена табліца ўсходу і заходу Сонца. У «Палітычным каляндарыку на 1765 г.» надрукаваны пастановы соймаў за 1764. «Каляндарык на 1766 г.» паведамляў пра землетрасенне ў Амерыцы і Сібіры, пра адкрыццё Расійскай купецкай кампаніяй Алеуцкіх астравоў, называліся новыя лекі. Цікавая была інфармацыя пра бунт 50 тысяч лонданскіх ткачоў з прычыны завозу ў Англію шаўковых тканін, з-за чаго «ткачы-шаўкапрады засталіся без сродкаў да жыцця і асуджаліся на галодную смерць». Гэтыя выданні П. мелі шмат агульнага з «Варшаўскімі календарамі», што выпускаў вядомы польскі вучоны і філосаф А.Вішнеўскі.

Папулярныя былі і творы П. па геаграфіі і гісторыі, у тым ліку падручнік геаграфіі «Еўропа — найлепшая частка свету» (1754, 1765), у якім даваўся аналіз геаграфічнага становішча, прыродных умоў, сацыяльна-эканамічнага і палітычнага ладу, складу насельніцтва, духоўнай культуры еўрапейскіх краін. З прац П., прысвечаных праблемам усеагульнай гісторыі, вылучаецца кніга «Найбольш

значныя войны...» (1763), напісаная на аснове твораў антычных і заходнееўрапейскіх гісторыкаў. У прадмове да яе аўтар адзначаў: «Няма нічога больш непрыемнага для народаў, чым войны, і ў той жа час веданне гісторыі войнаў дазваляе высветліць прычыны ўзвышэння і падзення дзяржаў і, што асабліва важна, шляхі ўмацавання свабоды і незалежнасці Айчыны». У такой форме П. знайшоў спосаб выказаць сур'ёзную занепакоенасць патрыятычных сіл лёсам Рэчы Паспалітай, якая набліжалася да свайго падзення. Трывогай за будучыню Рэчы Паспалітай прасякнута і праца П. «Аб рыцарскім пытанні ў Польшчы» (1776). На аснове аналізу прычын перамог і паражэнняў Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў мінулых войнах аўтар спрабаваў выказаць рэкамендацыі па ўмацаванні абароны дзяржавы і павышэнні баяздольнасці яе арміі. Дзве невялікія кнігі П. «Дамашнія весці аб Вялікім княстве Літоўскім» (1763) і «Дамашнія весці аб Польскім Каралеўстве» (1771) уяўляюць кароткія энцыклапедычныя даведнікі аб геаграфічным становішчы, прыродных умовах, гісторыі, дзяржаўным ладзе, судах, арміі і інш. атрыбутах названых краін. У першай з іх П. ўзнаўляе паданне пра перасяленне рымлян у басейн Нёмана, якое пакладзена ў аснову распрацаванай М.Длугашам, М.*Літвінам* і інш. гісторыкамі тэорыі пра лацінскае паходжанне літоўскага народа, што нібыта нейкі Палямон, сваяк Нерона, разам з 500 знатнымі рымлянамі ўцёк ад самавольства імператара ў чужыя краі і пасяліўся ў басейне Нёмана, і ад нашчадкаў гэтых рымлян пайшлі літоўская шляхта і літоўскі народ. Аналіз гістарычных твораў П. сведчыць, што іх аўтар зыходзіў з рацыяналістычнага разумення гістарычнага працэсу і сваёй дзейнасцю падрыхтаваў глебу для ўспрыняцця ідэі пра заканамернае развіццё гісторыі прадстаўнікамі грамадскай думкі Беларусі і Літвы апошняй трэці 18 ст.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1871; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

## ПАЧОБУТ-АДЛЯНІЦКІ
Марцін (30.9.1728—20.2.1810)



Беларускі асветнік, астраном. Нарадзіўся ў в. Сламянцы Гродзенскага пав. Вучыўся ў Гродзенскім езуіцкім калегіуме (1740—43). У 1745 насуперак волі бацькоў уступіў у ордэн езуітаў і адбываў у Вільні двухгадовы навіцыят. Потым вучыўся ў Слуцкай педагагічнай семінарыі і ў Полацкім езуіцкім калегіуме, дзе сумяшчаў заняткі па граматыцы і тэалогіі з наведваннем лекцый па філасофіі. У 1753—54 вывучаў філасофію ў Віленскім універсітэце. Тут ён зацікавіўся астраноміяй і для ўдасканалення ведаў накіраваўся ў Пражскі універсітэт. У 1756 П.-А. вярнуўся на радзіму і працягваў займацца тэалогіяй і астраноміяй. Атрымаўшы ў 1761 ступень бакалаўра тэалогіі, ён зноў выехаў на вучобу за мяжу, астранамічную практыку праходзіў у абсерваторыях Марселя, Авіньёна і Неапаля. Вынікі яго першых астранамічных назіранняў былі часткова апублікаваны французскім астраномам Э.А.Паліянам у кнізе «Мірны дагавор паміж Дэкартам і Ньютанам» (1763). Вярнуўшыся ў

Вільню, у 1764 атрымаў тытул магістра філасофіі і свабодных навук і стаў арганізатарам і першым дырэктарам (1765—1807) Віленскай астранамічнай абсерваторыі. З 1764 П.-А. працаваў прафесарам Віленскай езуіцкай акадэміі, якую ў 1780 рэарганізаваў у Галоўную школу Вялікага княства Літоўскага і быў яе рэктарам (1780—1803).

Пад яго кіраўніцтвам у астранамічнай абсерваторыі на працягу больш як 30 гадоў вяліся даследаванні ў галіне астранамічнай навукі і практыкі, у т.л. назіранні за зоркамі і планетамі Сонечнай сістэмы. П.-А. стаў заснавальнікам навуковай школы, у якую ўваходзілі аб'яднаныя вакол Віленскай абсерваторыі вучоныя-астраномы Я.*Снядэцкі*, А.Стжэцкі, М.*Глушневіч*, П.Смыслоў, В.Карчэўскі і інш. Прадстаўнікі гэтай школы прызнавалі аб'ектыўнасць навакольнага свету і магчымасць яго ўсебаковага вывучэння і пазнання. Вялікае значэнне яны надавалі эмпірычным і рацыянальным метадам даследавання, лічылі асвету і авалоданне ведамі асноўнымі сродкамі прагрэсу чалавецтва. П.-А. выказваўся за неабходнасць далейшага пранікнення ў таямніцы Сусвету, якія могуць быць раскрыты аб'яднанымі намаганнямі многіх людзей. Ён падтрымліваў ідэю існавання мноства сусветаў, падзяляючы гіпотэзу аб іх планетарнай будове. Зыходзячы з прызнання руху як неад'емнай уласнасці Сусвету, П.-А. імкнуўся выявіць і прааналізаваць фізічную прыроду рэальных працэсаў,ператварыць кожную прызнаную гіпотэзу ў стройную тэорыю, закон. Ён падкрэсліваў, што новая ідэя ці гіпотэза павінна быць пацверджана практыкай, а для ўстанаўлення сапраўднай прычыны руху Сонечнай сістэмы адносна іншых сусветаў патрэбны сістэматычныя і працяглыя назіранні. Нягледзячы на адсутнасць у яго працах канкрэтных выказванняў наконт вучэння М.Каперніка, П.-А. фактычна лічыў правільнай распрацаваную ім геліяцэнтрычную сістэму будовы Сусвету, прымаючы адначасова ўдзел у дыскусіях па вызначэнні паняцця «Бог».

Вынікі даследаванняў, якія пра-



*Віленскі універсітэт. Абсерваторыя.*

водзіліся ў Віленскай абсерваторыі, адлюстроўваліся ў спецыяльных рукапісных журналах назіранняў, якія сведчаць аб велізарнай працаздольнасці П.-А., яго навуковым фанатызме і адданасці выбранай справе. Штодзённа ў гэтых журналах ён і яго памочнікі фіксавалі становішча планет Сонечнай сістэмы, Месяца, удакладнялі элементы руху нябесных цел, становішча сузор'яў, аналізавалі даныя комплексных даследаванняў многіх праблем (напр., аднaчасовае вызначэнне рознымі назіральнікамі каардынат Вільні, Гродна, Кракава). Пасля наведвання ў 1768—69 абсерваторый Англіі, Даніі, Германіі, Галандыі і Францыі П.-А. арганізаваў даследаванні сонечных плям, спрабаваў вызначыць дакладную адлегласць ад Зямлі і Сонца, выкарыстаўшы надзвычай рэдкую з'яву — праходжанне Венеры паўз Сонца (гэтаму перашкодзіла дрэннае надвор'е). Ён вёў назіранні сонечных і месячных зацьменняў, даследаваў перамяшчэнне камет, вывучаў зацьменні кольцаў Сатурна і спадарожнікаў іншых планет, значную ўвагу надаваў вывучэнню сузор'яў Быка і Скарпіёна, а таксама астэроідаў, працягваў працу па вызначэнні і ўдакладненні геаграфічных каардынат розных мясцін. Найбольшы вынік далі яго спробы вызначыць размяшчэнне Меркурыя: яно было ўстаноўлена вельмі дакладна, і гэта паслужыла вядомаму французскаму астраному Ж.Ж.Лаланду матэрыялам для складання новых астранамічных табліц. Пра навуковую каштоўнасць даследаванняў Астранамічнай школы П.-А. французскі вучоны напісаў у сваёй кнізе «Астранамічная бібліяграфія разам з гісторыяй астраноміі, ад 1781 да 1802» (1803), дзе, у прыватнасці, адзначыў адкрыццё П.-А. новага сузор'я — Цяльца Панятоўскіх. 9.8.1773 П.-А. разам з Ю.Міцкевічам і А.Стжэцкім зафіксавалі адкрыццё новай зорнай асацыяцыі. Паведамляючы пра дзесятак новых, «дастаткова прыгожых зорак», яны пісалі ў сваім «Журнале назіранняў»: «Шчыт Сабескага, які зззяе побач з іншымі зоркамі, абуджае ў нас жаданне па прыкладзе вялікага польскага астранома аддаць належнае славе нашага гасудара» (адсюль і назва першай зоркі новага сузор'я — Цялец Каралеўскі). Адкрыццё П.-А. і яго аднадумцаў было зацверджана Парыжскай акадэміяй навук і ў 1878 уключана ў вядомы каталог Фламстэда. У 1793 П.-А. ўдзельнічаў у комплексным даследаванні сонечнага зацьмення, якое праводзілася аднaчасова ў некалькіх пунктах зямнога шара, у т.л. ў Вільні, Гродне, Варшаве і Кракаве. Ён напісаў спецыяльныя працы, у якіх тлумачыў сонечныя зацьменні, рух планет, расказваў пра выкарыстанне матэматычных метадаў у астраноміі, шмат увагі надаваў практычнаму выкарыстанню дасягненняў навукі. П.-А. займаўся таксама картаграфіяй, геадэзіяй і інш. У 1778 ён выбраны членам-карэспандэнтам Французскай акадэміі навук.

Прыкметны ўклад зрабіў П.-А. ў развіццё асветы ў родным краі, у папулярызацыю астранамічных і матэматычных ведаў. Як рэктар Віленскага універсітэта, ён прымаў удзел у дзейнасці Камісіі народнай адукацыі (Адукацыйнай камісіі) па Беларусі і Літве, у ажыццяўленні мер па ўдасканаленні навучальнага працэсу і выхавання навучэнцаў, дамогся перамогі над прыхільнікамі рэарганізацыі Віленскага універсітэта ў народны ліцэй (з прычыны доўгай адсутнасці медыцынскага факультэта і невялікіх кафедраў), арганізаваў ва універсітэце 2 аддзяленні — фізічнае (з факультэтамі матэматыкі, фізікі і медыцыны) і маральнае (з факультэтамі логікі і права), адкрыў 4-гадовую школу падрыхтоўкі настаўнікаў. У 1773 П.-А. распрацаваў праект заснавання ў Вільні спецыяльнага таварыства (накшталт акадэміі навук), які прадугледжваў развіццё як фундаментальных тэарэтычных канцэпцый, так і канкрэтных ведаў у галіне геаметрыі, механікі, земляробства, анатоміі і інш. навук. У мэтах пашырэння навуковых ведаў сярод насельніцтва і больш эфектыўнага кантролю за выдавецкай дзейнасцю ён узначальваў універсітэцкую друкарню, якая ў 1775 была набыта падскарбіем надворным літоўскім, кнігавыдаўцом А.Тызенгаўзам. Па яго прапанове на выкладчыцкую працу былі запрошаны вядомыя вучоныя Я.*Жылібер*, І.*Страйноўскі*, П.Галанскі, І.Багуслаўскі і інш.

*Літ.*: Дорошевич Э.К. «Cahiers des observations» Мартина Почобута и его школы // История и методология естествознания. М., 1966; Очерки истории фило-

софской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 235—239; Baliński M. Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862. S. 225—294.

*М.Я.Рыбко.*

## ПАШАКОЎСКІ Ян (1684—3.6.1757)

Педагог, выдавец. Паходзіў са шляхты Упіцкага пав. (цяпер Літва). Скончыўшы езуіцкую гімназію ў Коўне і прайшоўшы навіцыят у Вільні, у 1702—03 вучыўся ў Нясвіжскай педагагічнай семінарыі. Пазней скончыў Віленскую акадэмію па курсе філасофіі і выкладаў філасофію, граматыку і тэалогію. У 1713 пасвечаны ў святары. У 1714—15 выкладаў у Ковенскай гімназіі паэтыку і рыторыку, а ў 1717 стаў яе дырэктарам. Пасля 3-гадовай дактарантуры ў Віленскай акадэміі працаваў у Нясвіжы, адначасова быў выхавальнікам сыноў М.К.*Радзівіла* Рыбанькі і з адным з іх падарожнічаў па Еўропе. Багатыя бібліятэчныя зборы Радзівілаў, асабістыя кантакты і дыскусіі з кальвіністамі падштурхнулі П. да напісання трактатаў і сачыненняў багаслоўскага характару і перакладаў з лацінскай мовы. Ён цікавіўся не толькі хрысціянскімі рэлігійнымі канфесіямі, але вывучаў іслам, гісторыю і дактрыну янсенізму, складаў даволі дасканалыя панегірыкі. Галоўнай справай яго жыцця стала асветніцкая дзейнасць па стварэнні і выданні календароў. На працягу 1737—49 ён выдаў у Вільні 20 «Палітычных каляндарыкаў», якімі паклаў пачатак віленскага перыядычнага друку. У адрозненне ад каляндарнай традыцыі, якая існавала да яго, ён выключыў са сваіх выданняў астралогію, хірамантыю і інш. забабоны, а запоўніў іх добра выверанымі і карыснымі звесткамі з гісторыі і культуры Беларусі і Літвы. П. імкнуўся, каб яго календары ўсебакова выхоўвалі чытача, асабліва моладзь, пашыралі веды па гісторыі, астраноміі. Вельмі дбаў ён пра дакладнасць біяграфічных звестак. Апошнія гады жыцця працаваў над гісторыяй царквы ў Рэчы Паспалітай, якая засталася незавершаная. Паралізаваны, памёр у Нясвіжы.

*Літ.*: Janikowski E. Ks. Jan Poszakowski — polski apolageta XVIII w. // «Studia Theologica Varsaviensia». P. 16. 1978. Nr. 2. S. 91—109.

## ПАШКЕВІЧ Ян Казімір

Беларускі паэт 1-й паловы 17 ст. Біяграфічных звестак пра яго не захавалася. Верагодна, паходзіў са шляхецкага роду герба «Радван» з Ашмяншчыны. Захаваўся толькі адзін яго верш «Польска квітнет лаціною...», напісаны ў 1621 (апубл. ў 1842). Твор гэты — узор грамадзянскай патрыятычнай лірыкі, у ім выявіліся і асаблівасці сілабічнага вершаскладання. Паэт адзначае ролю роднай мовы ў грамадскім і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага, ганарыцца міжнароднай славай свайго народа, верыць у яго несмяротнасць. Як сведчаць змест, паэтычная форма і мова верша, аўтар быў чалавек свецкі, высокаадукаваны, патрыятычна настроены беларускі шляхціц або мешчанін. Твор захаваўся ў Слуцкім спісе Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 і датаваны 1621. У гэтым спісе змешчаны яшчэ 5 аўтографаў паэта, а таксама запісы іншых асоб, якія сведчаць, што ў 1-й палове 17 ст. рукапіс быў у Вільні, дзе, напэўна, і напісаны верш.



*Аўтограф верша Я.К.Пашкевіча «Полска квітнет лаціною...»*

## ПЕРАСВЕТАЎ
Іван Сямёнавіч

Публіцыст, прадстаўнік грамадска-палітычнай думкі 17 ст. Паходзіў з Вялікага княства Літоўскага, быў «каралеўскім дваранінам». Лічыў сябе нашчадкам бранскага манаха і баярына А.Перасвета, які па-геройску змагаўся з татарамі на Куліковым полі. Быў на службе ў войску *Жыгімонта I*, у атрадах Ф.Сапегі і А.Танчынскага, удзельнічаў у вайне за венгерскую спадчыну (1532—34). У канцы 1538 ці ў пачатку 1539 пераехаў на царскую службу ў Маскву, дзе яму быў падараваны маёнтак. У канцы 1549 П. перадаў Івану IV Грознаму свае «дзве кніжкі» (захаваліся ў спісах 17 ст.) — казанні пра ўзяцце Магмет-Султанам Царграда. У іх П. выкрываў баярства, выступаў прыхільнікам задавальнення асн. патрабаванняў дваранства. Ён лічыў, што поспехі па службе павінны залежаць ад асабістых заслуг, а не ад паходжання. Як прадстаўнік служылага дваранства, П. меў магчымасць назіраць на захадзе барацьбу каралеўскай улады з непакорнымі вяльможамі і на сабе зазнаў магнацкае свавольства. Быў перакананым прыхільнікам моцнай дзяржаўнай улады. У «Казанні пра Магмет-Султана» стварыў вобраз разумнага і моцнага правіцеля, які, пазнаёміўшыся з мудрасцю грэчаскіх кніг, увёў у сваёй краіне новыя парадкі: адмяніў прывілеі вяльможам, сістэму «кармленняў», жорстка змагаўся з хабарніцтвам, клапаціўся пра стварэнне ўзорнага войска, быў праціўнікам рабства, бо «ў тым царстве, дзе людзі заняволены, у тым царстве людзі не храбрыя і да бою нясмелыя супраць непрыяцеля». Выказваўся ён і супраць існавання ў Расіі халопства і кабальнай залежнасці, ставіў праўду вышэй за веру; адзначаў сімпатыі да Расіі з боку заняволеных туркамі славянскіх народаў. Верагодна, П. за свае празмерна смелыя думкі трапіў у няміласць вярхоўных улад і загінуў разам з іншымі западозранымі ў здрадзе. Пра гэта сведчыць «чёрный список Ивашки Пересветова да Петра Губастого и иные списки», які захаваўся ў «Вопісе царскага архіва» (1562—72).

*Тв.*: Сочинения. М.; Л., 1956.

*Літ.*: Зимин А.А. Пересветов и его время. М., 1956. *Г.А.Маслыка.*

## ПІЛЬХОЎСКІ Давыд Зыгмунт (15.12.1735—4.12.1803)



Дзеяч эпохі Асветніцтва на Беларусі, пісьменнік, перакладчык, выдавец. Нарадзіўся ў радавым маёнтку Руткішкі на Беласточчыне. Вучыўся ў езуіцкіх школах. Насуперак волі маці-дысідэнткі (бацьку страціў у раннім дзяцінстве) у 1752 уступіў у ордэн езуітаў. Навіцыят і філасофскую навуку прайшоў у Вільні, дзе з восені 1757 пачаў педагагічную дзейнасць як прафесар граматыкі і паэтыкі ў Віленскім езуіцкім калегіуме. Апрача польскай, ён добра ведаў лацінскую і нямецкую мовы. У 1760 апублікаваў у мясцовай друкарні свой верш на ўшанаванне памяці нябожчыка графа А.Салагуба і прывітальную прамову да біскупа Ю.Залускага (апошнюю напісаў сумесна з К.Марушэвічам і М.*Пачобутам-Адляніцкім*). Вывучаў тэалогію ў Віленскай акадэміі. На трэцім годзе навучання пасвечаны ў святары. У 1766, атрымаўшы ступені доктара філасофіі і магістра вольных навук, вярнуўся да педагагічнай дзейнасці. Выконваў абавязкі выхавальніка моладзі і спавядальніка. З 1767 выклад-

WIERSZE
POD CZAS WALNEGO u WW. XX. MISSIONARZOW WILEN.
POGRZEBU
JAŚNIE WIELMOŻNEGO JMci PANA
ANTONIEGO z URSYNOW
DOWOYNY
SOŁŁOHUBA
HRABI
GENERAŁA ARTYLLERYI y PUŁKOWNIKA
STAROSTY
ORDERU ORŁA BIAŁEGO KAWALERA
ZAŁOSNEY MAŁZONCE
JAŚNIE WIELMOŻNEY JeyMci PANI
BRIGICIE
z XIĄZĄT RADZIWIŁŁOW
SOŁŁOHUBOWEY
GENERAŁOWEY ARTYLLERYI W.X.Lit.
JOZEFOWI DOWOYNIE HRABI
SOŁŁOHUBOWI
ORDERU ORŁA BIAŁEGO KAWALEROWI
JANOWI y JERZEMU
BARBARZE, KATARZYNIE, y WINCENTYNIE
SOŁŁOHUBOM y SOŁŁOHUBOWNOM
PREZENTOWANE

*Верш на смерць графа Д.Салагуба (тытульны ліст). 1760.*

чык багаслоўя і прафесар красамоўства, а з 1768 — і паэтыкі. У тым жа годзе выдаў у Вільні свае першыя пераклады рымскага гісторыка Салюсты «Пра змову Катыліны» і «Югурцінская вайна». У 1768 падрыхтаваў для вучняў дапаможнік па рыторыцы (застаўся ў рукапісе, захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага універсітэта). У 1769 склаў з сябе абавязкі святара і ахвяраваў на бібліятэку калегіума 28 тысяч злотых са сваіх сродкаў. У 1771 у акадэмічнай друкарні надрукаваў свае пераклады Л.А.Сенекі «Пра міласць жыцця», «Пра жыццё шчаслівае», «Пра жыццё мудрае», «Пра спакой душы» і інш. З 1773, калі акадэмічная друкарня перайшла ў пажыццёвае ўладанне Пачобута-Адляніцкага, П. стаў яе дырэктарам. У 1775 ён выдаў свой чарговы пераклад з Сенекі «Пра ласкавасць і гнеў». У 1778 П. атрымаў ступень доктара кананічнага права. У 1781 ён пачаў выданне перакладаў «Лістоў да Люцылія» Сенекі (т. 1—4, Вільня, 1781—82), над якімі працаваў некалькі гадоў. Пераклад быў забяспечаны каментарыямі, якасць яго была вельмі высокая, і лічылася, што да перакладаў А.*Нарушэвіча* з Тацыта праца П. займала першае месца. Працу гэту ён прысвяціў каралю Станіславу *Панятоўскаму*.

У 1783 П. стаў супрацоўнікам Камісіі народнай адукацыі і генеральным інспектарам школ Вялікага княства Літоўскага. Інспектаваў навучальныя ўстановы на Міншчыне і Навагрудчыне. Ён склаў для камісіі грунтоўны даклад, на падставе якога распрацаваў інструкцыю для інспектараў. З восені 1783 выкладаў у Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага лацінскую і польскую літаратуру (да 1793), якія ведаў дасканала. У 1787—88 ён апекаваў кандыдатаў на настаўнікаў у Галоўнай школе. У 1793 яму было прапанавана рэктарства ў Галоўнай школе, але ён адмовіўся. У тым жа годзе сойм прызначыў яго членам літоўскай Адукацыйнай камісіі. Незадоўга да смерці ўстанавіў вечную фундацыю са свайго маёнтка ў Камаях і прыбытковага дома ў Вільні на падрыхтоўку 12 вучняў са збяднелых шляхецкіх і мяшчанскіх сем'яў. Мецэнацкая і асветніцкая дзейнасць П. была адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі Рэчы Паспалітай і Расіі. У 1800 ён абраны членам Варшаўскага таварыства сяброў навук.

Свае сацыяльныя погляды П. выклаў у кнізе «Адказ на пытанне: няўжо ў мінулыя стагоддзі нячуласць да прыгонных настолькі авалодала сэрцамі палякаў, што нават вучоныя заразіліся ёю? або дадатак да кнігі «Пра польскіх прыгонных» (Вільня, 1789, на польскай мове). П. быў салідарны з аўтарам кнігі «Пра польскіх прыгонных» Ю.Паўлікоўскім у тым, што прыгонніцтва антыгуманнае. Ён адзначаў, што многія прыгонныя гінуць не ад куль, не ад шабляў, не ад бізуноў: «Не карміілі, тым забілі. Псярня тлустая засталася, а палова вёскі ад голаду і нястачы вымерла. Такая наша чалавечнасць!»

*Літ.*: Januszkiewiczowa W. Dawid Pilchowski jako profesor literatury w Szkole Głównej W. Ks. Litewskogo // Księga pamiatkowa Ku uczczeniu 350 rocznicy założenia i 10 wsfzeszenia Uniwersytety Wileńskiego. Wilno, 1929.

# Р

## РАГОЎСКІ Казімір (9.6.1728—5.1.1810)

Тэолаг, філосаф, педагог. Нарадзіўся на Навагрудчыне. Вучыўся ў Слонімскім езуіцкім калегіуме, дзе ў 1735 уступіў у езуіцкі ордэн. Пасля праходжання 2-гадовага навіцыяту і вывучэння рыторыкі і філасофіі ў 1750—55 выкладаў у Навагрудскім езуіцкім калегіуме. Наступныя 3 гады вывучаў тэалогію і грэчаскую мову ў Полацку, дзе ў 1759 пасвячоны ў святары. У 1760—61 прапаведнік у Слоніме. Напісаў жалобныя элегіі на смерць падканцлера Вялікага княства Літоўскага М.Сапегі. У 1761—62 прафесар паэтыкі і старажытных моў у Віленскім езуіцкім калегіуме. У 1763—65 выкладаў філасофію ў Крошынскім калегіуме, у 1766—67 — рыторыку на віленскім семінары для езуіцкіх клірыкаў, у 1768—70 — філасофію, маральную і палемічную тэалогію ў Віленскай акадэміі, займаючы пасады п.а. сіндыка акадэміі, дэкана філасофскага факультэта, асістэнта, прафесара філасофіі, рыторыкі, грэчаскай і лацінскай моў. Клапоцячыся пра пашырэнне вывучэння моладдзю старажытных моў, зрабіў для слухачоў акадэміі моўны аналіз твораў Цыцэрона і Дэмасфена, знаёміў іх з творамі іншых класічных гісторыкаў і паэтаў старажытнасці. Чытаў таксама прыватныя лекцыі. З 1783 быў на пенсіі, займаўся перакладамі з лацінскай мовы.. У 1792 апублікаваў збор лацінскіх і грэчаскіх афарызмаў павучальнага характару для моладзі. У 1798 запрошаны на пасаду выкладчыка грэчаскай мовы, якую займаў да 1804.

## РАДЗІВІЛ Альбрыхт Станіслаў (1595—12.11.1656)

Прадстаўнік найбуйнейшага магнацкага роду на Беларусі, гісторык, аўтар мемуараў. Нарадзіўся ў Алыцы — адным з радавых маёнткаў. Ардынат алыцкі. З 1612 быў паслом ад ваяводы валынскага. У 1619—23 падканцлер літоўскі, з 1623 канцлер вялікі літоўскі, староста віленскі, пінскі, аканом кобрынскі. У маладосці падарожнічаў па Заходняй Еўропе. Быў жанаты з Кацярынай з роду Любамірскіх. Карыстаўся аўтарытэтам сярод магнатаў, заступніцтвам караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы, хоць быў паслядоўны абаронца прывілеяў Вялікага княства Літоўскага і адстойваў яго роўнасць з Польшчай. Як шчыры каталік імкнуўся перашкодзіць іншаверцам. Заснаваў касцёл у Алыцы і езуіцкі калегіум у Пінску. Р. — аўтар многіх твораў, напісаных на латыні, частка з якіх выдадзена ў Вільні і перавыдадзена ў Варшаве. Найважнейшыя з іх: «Мемуары пра галоўныя падзеі, якія адбыліся ў Польшчы пасля смерці Жыгімонта III, г. зн. з 1632 па 1652» (пераклад Рачынскага, Познань, 1839), «Набожны дыспут, сабраны з некалькіх слоў пра ўслаўленне прасвятой дзевы Марыі» (Вільня, 1635, 4-е выд., 1812), «Гісторыя пакут Хрыстовых» (3-е выд., Варшава, 1655; Вільня, 1831). Пісаў пра дзяржаўную міжнародную, рэлігійную, сацыяльную палітыку правячых колаў Рэчы Паспалітай, пра культуру, звычаі, побыт і жыццё шляхты і вышэйшых саслоўяў.

*Тв.*: Memoriale rerum gestarum in Polonia. 1632—1656. T. 1—5. Wroclaw, 1968—75; Pamiętnik o dziejach w Polsce. T. 1—3. Warszawa, 1980.

*М.К.Багадзяж.*

## РАДЗІВІЛ Людвіка Караліна (1667—95)

Асветніца і мецэнатка. Нарадзілася ў сям'і аднаго з найбуйнейшых магнатаў так званай «біржайскай лініі» роду Радзівілаў — Багуслава. Людвіка расла сіратой: яе маці памерла пры родах, а праз 2 гады памёр і бацька. Маленькую князёўну на выхаванне забралі родзічы ў сям'ю брандэнбургскага курфюрста ў Берлін. Там яна выйшла замуж за маркграфа, але хутка аўдавела. Другім яе мужам быў пфальцграф нейбургскі Карл Піліп. Жывучы ў Германіі, Людвіка ніколі не забывала пра сваю радзіму: вяла пастаянную перапіску з аканомамі сваіх маёнткаў, клапацілася пра сваіх падданых, жыхароў Слуцка, Копыся, Капыля, Любчы, Біржы, Койданава, Смалявіч, Невеля, Себежа. Час ад часу сама наведвалася ў свае беларускія ўладанні. Шмат увагі

яна надавала справе асветы і адукацыі, вельмі блізка да сэрца прымала патрэбы аднаверцаў-кальвіністаў, дапамагала і праваслаўным. Як і яе папярэдніца Соф'я *Радзівіл-Алелька*, Людвіка ахвяравала вялікія сродкі на слуцкія праваслаўныя царкву і манастыр. У 1690 яна дамаглася пацвярджэння прывілеяў, здабытых для праваслаўнага насельніцтва Случчыны намаганнямі Соф'і Алелькавіч. Прыхільнікі уніі, якія неаднаразова спрабавалі ўвесці сваё веравызнанне ў Слуцку і Капылі, не мелі падтрымкі з боку Людвікі, за што ад імя ўсіх праваслаўных Слуцка дзякаваў ёй архімандрыт Серапіён Волхаўскі. Усімі сіламі і сродкамі яна падтрымлівала рэфармацыйны рух на Беларусі, выступала апякункай кальвінісцкіх збораў Слуцка, Мінска і Койданава. Яна лічыла неабходным, каб яе землякі мелі магчымасць карыстацца паслугамі шырокаадукаваных пастыраў-кальвіністаў і каб тыя былі не з чужаземцаў. На яе сродкі (12 стыпендый) беларускія кальвіністы атрымалі магчымасць накіроўваць для навучання ў Кёнігсбергскі універсітэт тых, хто лічыў сваім прызваннем несці святло веры людзям. Каб павялічыць колькасць высокаадукаваных людзей са сваіх беларускіх падданых, Людвіка пасылала здольным да навук юнакам — выпускнікам Слуцкай кальвінісцкай гімназіі — грашовую дапамогу, на якую тыя працягвалі вучобу на больш высокім узроўні ў Оксфардзе, Берліне, Франкфурце-на-Одэры.

*Літ.*: Грыцкевіч А.П. Древний город на Случи. Мн., 1985; Марцінкевіч А. Ля Каменкі бруістай. Мн., 1992; Родчанка Р. Слуцкая старасветчына: (факты і разважанні). Мн., 1991.

*І.М.Масляніцына.*

## РАДЗІВІЛ Мацей (10.11.1749—2.9.1800)

Драматург, кампазітар. Нарадзіўся і жыў у Нясвіжы. З 1786 падкаморы Вялікага княства Літоўскага, з 1790 кашталян віленскі. Для Нясвіжскага тэатра Радзівілаў напісаў лібрэта аперэт «Агатка, ці Прыезд пана» (1784, музыка Я.Д.Голанда) і «Войт альбанскага сяла» (1786), якія захаваліся ў рукапісах. Р. пісаў паланезы, санаты, сэрэнады. Даследчыкі лічаць «Агатку» народнай аперэтай. У ёй апаэтызаваны



*Нясвіжская замкавая брама.*

людзі з народа, пераканаўча даводзіцца неабходнасць змены адносін да вясковага народа, аблягчэння яго долі; гаспадар маёнтка ўсведамляе, што цяжкая сялянская праца з'яўляецца асновай усеагульнага дабрабыту. У аперэце «Войт альбанскага сяла» правобразам войта з Альбы (ідылічнай «вёскі» каля Нясвіжа) быў сам Кароль Радзівіл. Але аўтар асуджаў яго жорсткае абыходжанне з сялянамі. У творчасці Р. сентыменталізм і класіцызм спалучаліся з перадрамантычнымі тэндэнцыямі.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.

## **РАДЗІВІЛ** Міхал Казімір Рыбанька (13.6.1702—15.5.1762)



Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, мецэнат. Паходзіў з найбуйнейшага магнацкага роду на Беларусі. Яго бацька Кароль І Станіслаў Радзівіл займаў пасаду канцлера, падкаморага і стольніка Вялікага княства Літоўскага. Маці Ганна Катажына з роду Сангушкаў. Як дзяржаўны дзеяч Р. з 1735 займаў пасады маршалка надворнага, літоўскага, з 1742 — кашталяна віленскага, з 1744 — ваяводы віленскага і гетмана вялікага літоўскага, быў старостам камянецкім і крычаўскім. У 1726 ён распачаў адбудову свайго Нясвіжскага замка, разбуранага шведамі ў 1706. Інтэнсіўна ён аднаўляў і разрабаваныя ворагамі каштоўнасці, у т.л. бібліятэку і калекцыі мастацкіх твораў. У 1750 ён аднавіў дзейнасць Нясвіжскай друкарні, абсталяванай у замку, адкрыў корпус кадэтаў, у якім рыхтаваў афіцэраў як для ўласнага войска, так і для войска Рэчы Паспалітай. Больш за ўсё ён праславіўся як мецэнат і стваральнік першых на Беларусі мануфактур. Мануфактуры «...ён вельмі любіў, ...на сваіх землях з карысцю заснаваў». Найбольш вядомымі былі першыя на Беларусі фаянсавая мануфактура, размешчаная ў в.Новы Свержань, нясвіжская габеленавая майстэрня і слуцкая персіярня (мануфактура шаўковых паясоў), дзе выраблялiся вельмі папулярныя ў той час залата- і срэбратканыя паясы. З вырабаў габеленавай майстэрні найбольшую вядомасць набыў серыял, які адлюстроўваў найважнейшыя эпізоды з гісторыі роду Радзівіла, у тым ліку «Наданне тытула князя Свяшчэннай Рымскай імперыі Мікалаю Радзівілу Чорнаму імператарам Карлам V у 1547 г.», «Каранацыя Барбары Радзівіл», «Бітва князя Януша Радзівіла пад Кіевам», «Уціхамірванне бунтаў пад Славечнай», «Агляд войска пад Заблудавам» і інш. Для арганізацыі і кіраўніцтва вытворчасцю слуцкай персіярні Р. запрасіў на службу са Стамбула высокакваліфікаванага майстра Яна Маджарскага. Дапамагалі яму мясцовыя майстры, частка з якіх была паслана для навучання ў г. Станіслаў (цяпер Івана-Франкоўск). Вырабы слуцкай мануфактуры сталі такія папулярныя, што ўладальнікі падобных мануфактур перайшлі да выпуску паясоў па слуцкіх узорах. Нават у Францыі некалькі шаўкаткацкіх прадпрыемстваў наладзілі вытворчасць падобных. Але дзе б яны ні выраблялiся, тып гэтых паясоў атрымаў назву «слуцкіх». Шмат увагі Р. аддаваў нясвіжскаму тэатру, які ён стварыў разам з жонкай Францішкай Уршуляй *Радзівіл*. Напачатку гэта быў аматарскі тэатр. Калі прыгонная трупа была папоўнена нанятымі акцёрамі, ён набыў характар прафесійнага. Р. стварыў у

Нясвіжы музычную, вакальную і балетную школы, для выкладання ў якіх запрасіў замежных спецыялістаў-настаўнікаў. Пры тэатры быў аркестр народных інструментаў, так званай літоўскай музыкі, была павялічана прыдворная капэла. Такім чынам, прыдворны тэатр стаў шматпрофільным і самым вялікім на Беларусі прафесійным тэатрам таго часу.

*Літ.:* Багадзяж М. Слуцкая персіярня // Зрок. 1991. № 6—7; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983; Шишигина К.Я. Музы Несвижа. Мн., 1986; Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853.

*М.К.Багадзяж.*

## РАДЗІВІЛ Удальрык (Ульрык) Крыштоф (19.2.1712—1763)

Пісьменнік. Нарадзіўся на Навагрудчыне. Паходзіў з магнацкага роду Радзівілаў. Займаў пасады ваяводы навагрудскага, з 1734 канюшага, з 1762 пісара Вялікага княства Літоўскага, мінскага старосты. Значную частку жыцця правёў у сваіх валынскіх уладаннях. Сучаснікі характарызавалі яго як дзівака і фантазёра, здольнага, вельмі начытанага, але схільнага да авантурызму. Горача абараняў права «ліберум вета», рабіў няўдалыя спробы ўмешвацца ў палітыку. Добра валодаў пяром і пакінуў пасля сябе даволі значную літаратурную спадчыну. Аўтар кніг: «Апісанне клопатаў людзей усіх саслоўяў» (1741), «Маральныя элегіі» (1752), «Агульная гісторыя» (т. 1—5, 1752) і інш. Перакладаў на польскую мову творы Сафокла, П.Карнеля, Ж.Расіна. Спрабаваў увесці ў спектаклях прыдворных тэатраў беларускую мову. Частка яго твораў засталася ў рукапісах.

## РАДЗІВІЛ Францішка Уршуля (1705—53)

Пісьменніца, педагог, кіраўніца Нясвіжскага тэатра. Нарадзілася ў сям'і прадстаўніка старадаўняга княжацкага роду Вішнявецкіх. З дзіцячых гадоў вызначалася дапытлівасцю і начытанасцю, у яе характары гарманічна спалучаліся прага да ведаў і набожнасць. Мела добрую адукацыю і літаратурныя здольнасці, пісала вершы на польскай мове (асяроддзе сям'і бы-



Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс.



ло пераважна польскамоўнае). У 20 гадоў выйшла замуж за нясвіжскага князя Міхаіла Казіміра Радзівіла Рыбаньку. Малады і прыгожы муж, якога Францішка вельмі любіла і раўнавала, часта адлучаўся з Нясвіжа, і яна засыпала яго лістамі ў вершаванай форме. Пазней гэтыя лісты былі выдадзены пад назвай «Лісты да мужа». Калі ў двухгадовым узросце памёр сын-першынец Мікалай Крыштоф, яна напісала цыкл вершаў. У дзіцячым узросце памёр і другі яе сын Януш Тадэвуш. Трэці сын Кароль Станіслаў рос хваравіты. Шмат намаганняў давялося прыкласці бацькам і настаўнікам для яго выхавання. На гэта быў выкарыстаны нават аматарскі тэатр, што існаваў пры іх двары. Мяркуюць, што захапленне Радзівілаў тэатрам пачалося ў 1740, калі іншаземнай трупай у Нясвіжскім замку быў пастаўлены першы спектакль па п'есе «Прыклад справядлівасці». Потым пастаноўкі наладжваліся сваімі сіламі. Прыдворны тэатр быў аматарскі. У спектаклях разам з прыгоннымі спевакамі, танцорамі, музыкамі ўдзельнічалі члены княжацкай сям'і, шляхта, выхаванцы кадэцкай школы, што існавала тады ў Нясвіжы. Спачатку спектаклі ставіліся ў так званым «Зялёным» тэатры, размешчаным за замкавым ровам на адным з пагоркаў (каля 1 тыс. месцаў). Фактычна гэта быў першы стацыянарны тэатр на тэрыторыі Беларусі. Шырокую вядомасць у Рэчы Паспалітай радзівілаўскі тэатр набыў з 1746, калі яго кіраўніком стала Францішка. Яна сама пісала творы для тэатра, перарабляла французскія п'есы, камедыі і трагедыі, выкарыстоўваючы сюжэты са славянскіх паданняў, твораў антычных аўтараў, зборніка арабскіх казак «Тысяча і адна ноч». П'есы Францішкі мелі пераважна павучальны характар. Відаць, яны былі разлічаны і на дзяцей Францішкі, якім падабалася ўдзельнічаць у спектаклях. Многія творы княгіні былі прысвечаны каханню: «Несумленнасць у пастцы», «Дасціпнае каханне», «Суцяшэнне пасля турбот» і інш. Гераіні яе камедый і трагедый — ахвяры мужчынскага падману, пяшчотныя, цудоўныя істоты, якія кахаюць сваіх мужоў, а тыя здраджваюць ім пры першай магчымасці. Княгіня, мабыць, жадала запэўніць мужа, што сямейная вернасць заўжды атрымае ўзнагароду ад лёсу, а здрада будзе жорстка пакарана. Падзеі п'ес часта пераносіліся ў сівую даўніну ці ў далёкія экзатычныя краіны, але гледачы і ўдзельнікі спектакляў разумелі, што тут адлюстроўвалася сучаснае іх жыц-



*Камін у Нясвіжскім палацы Радзівілаў.*

цё. Францішка спрабавала пісаць і оперныя лібрэта. Тагачасныя оперы былі больш падобныя да сучасных аперэт. Арыі, ансамблі і хоры перарываліся празаічнымі дыялогамі або танцавальнымі дзеямі.

Пад уплывам Францішкі ў Нясвіжы была аднаўлена замкавая друкарня, дзе выдаваліся кнігі, друкавалася газета, рэдактарам якой была таксама Францішка. Вядома, што прыдворны гравёр Г.Ляйбовіч выдаў у гэтай друкарні унікальную на тыя часы «Кнігу партрэтаў Радзівілаў». Францішка клапацілася і пра павелічэнне колькасці кніг у замкавай бібліятэцы, іх налічвалася да 20 тысяч тамоў. Па яе прапанове ў 1748 на беразе аднаго са штучных нясвіжскіх азёр, размешчаных на р. Уша, было пастаўлена спецыяльнае памяшканне для тэатра. Пасля смерці Францішкі адзін з акцёраў-аматараў, які жыў у Нявіжы, сабраў усе яе драматычныя творы і выдаў у 1754 асобнай кнігай. Зборнік, які складаецца з 16 п'ес і 17 оперных лібрэта, быў упрыгожаны гравюрамі М.Жукоўскага.

*Літ.*: Барышев Г.И., Егорова И.Ю. Театральные здания и сооружения XVIII в. в Белоруссии // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1982. № 1; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983; Шишигина К.Я. Музы Несвижа. Мн., 1986; Syrokomla W. Wędrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853.

*І.М.Масляніцына.*

## РУДНІЦКІ Дамінік (4.8.1676—10.10.1730)

Пісьменнік, педагог. Месца нараджэння невядома. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Працаваў настаўнікам у езуіцкіх калегіумах у Слуцку, Гродне, Мсціславе, Навагрудку. З 1720 у Варшаве, пракуратар Літоўскай правінцыі езуітаў. З 1728 рэктар калегіума ў Пултуску (Польшча). З 1730 жыў у Нясвіжы. У рукапісных зборніках Р. (збераваліся ў Пецярбургу, потым у Варшаве, дзе загінулі ў 1944), акрамя польскіх, змешчана 9 беларускіх вершаў, напісаных ім самім або апрацаваных народных песень. У творах сцвярджалася хуткаплыннасць і марнасць жыцця, шырока выкарыстоўваліся прыёмы гратэску, фальклорныя элементы. Р. прыпісваецца аўтарства беларускіх вершаваных «Вітанняў» з выпадкаў наведвання Вільні ў 1729 вармінскім біскупам Крыштафам і Пінска ў 1730(?) валынскім біскупам Стафанам, многіх гратэскавых твораў («Птушыны баль», «Камара цяжкі з дуба ўпадак» і інш.). У алегарычным апісанні злых прыгод птушак, насякомых і раслін угадваецца рэальнае жыццё дробнай шляхты — яе шумнае баляванне, судовыя спрэчкі, міжусобіцы. Аўтар інтэрмедый на польскай мове, казанняў. Погляды Р. супярэчлівыя: крайне варожыя адносіны да асветніцтва і навукі спалучаліся з элементамі ранняга Асветніцтва.

*Тв.*: Glos wolny w wiązanej mowie. Warszawa, 1741.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 72—78, 116—126.

## РУМЯНЦАЎ Мікалай Пятровіч [3(14).4.1754—3(15).1.1826]



Граф; расійскі дзяржаўны дзеяч, дыпламат, мецэнат, калекцыянер. Нарадзіўся ў Пецярбургу ў сям'і фельдмаршала П.А.Румянцава-Задунайскага. Атрымаў добрую дамашнюю адукацыю, слухаў лекцыі па гісторыі і пра-



*Гомельскі палац. З малюнка 19 ст.*

не ў Лейдэнскім універсітэце (1774). З 1776 служыў пры двары, быў старшынёй Дзяржаўнага Савета (1810—12), міністрам замежных спраў (1808—14), канцлерам (1809). Да пачатку Айчыннай вайны 1812 лідэр «французскай» партыі — прыхільнік цеснага збліжэння Расіі з Францыяй. Пасля вайны з Напалеонам ад палітычнай дзейнасці адышоў (з 1814 у адстаўцы) і пераключыў сваю велізарную энергію і здольнасці, падмацаваныя незлічоным багаццем, на арганізацыю і падтрымку навуковай дзейнасці, займаўся мецэнацтвам. Р. — своеасаблівая з'ява ў гісторыі расійскай навукі. Жывучы ў беларускім Гомелі, які належаў яму, ён збіраў рукапісныя і старадрукаваныя кнігі, дакументы і матэрыялы па гісторыі Расіі (у тым ліку ў архівах Беларусі, Літвы, Польшчы, Германіі, Італіі, Францыі, Швецыі і інш.), згуртаваў і матэрыяльна падтрымаў дзейнасць вучоных, аб'яднаў многіх з іх у т. зв. Румянцаўскі гурток, куды ўваходзілі такія вядомыя гісторыкі, археографы і мовазнаўцы, як Е.Балхавіцінаў, А.Х.Вастокаў, К.Ф.Калайдовіч, П.І.Кепен, І.М.Лабойка, П.М.Строеў, А.П.Ярмолаў, І.І.*Грыгаровіч* (апошні на сродкі Р. вучыўся ў 1815—19 у Пецярбургскай духоўнай акадэміі) і інш. З гэтым гуртком супрацоўнічала шмат славянскіх вучоных іншых краін (Бантке, І.Даніловіч, Й.Даброўскі, В.Караджыч, І.*Лялевель*, С.Ліндэ і інш.). Пры яго падтрымцы члены гуртка адкрылі многія помнікі славянскай гісторыі і літаратуры, прааналізавалі іх і зрабілі палеаграфічнае апісанне, чым заклалі пачатак навуковаму славяназнаўству. Р. знаходзіўся ў цэнтры навукова-выдавецкіх пачынаў і быў ініцыятарам многіх з іх. У 1811 ён заснаваў Камісію па друкаванні дзяржаўных грамат і дагавораў, удзельнічаў у выданні (на свае сродкі) такіх важных прац, як «Збор дзяржаўных грамат і дагавораў» (ч. 1—4, 1813—28), «Помнікі расійскай славеснасці XII ст....» (1821), «Беларускі архіў старажытных грамат» (1824). Сярод шмат-




*Герб М.П.Румянцава.*

лікіх прац, выдадзеных на яго сродкі, «Збор славянскіх помнікаў, якія знаходзяцца па-за межамі Расіі» П.І.Кепена (1827), «Іаан, экзарх балгарскі» К.Ф.Калайдовіча (1824), «Старажытныя расійскія вершы, сабраныя Кіршай Данілавым» (2-е выд., 1818). Р. вёў перагаворы з І.Лялевелем пра выданне яго твораў па гісторыі Польшчы, з І.*Даніловічам* пра выданне беларуска-літоўскіх летапісаў і Судзебніка Казіміра IV, выяўленых у Гомелі; планаваў выдаць сербскую хроніку архіепіскапа Даніїла, зборнік «Расійская дыпламатыка. Польскія і літоўскія крыніцы», «Ізборнік Святаслава», «Астрамірава Евангелле» і інш. Па яго даручэнні аналізаваліся мова, побыт і звычаі кашубаў і сербскія граматы. Па яго прапанове І.І.Грыгаровіч напісаў свой першы твор «Беларуская іерархія» (напісаны ў 1824, упершыню надрукаваны ў 1992), пазней распачаў працу над слоўнікам беларускай мовы.

З дапамогай вучоных ім сабрана надзвычай багатая бібліятэка рэдкіх кніг, унікальная калекцыя рукапісаў, этнаграфічных і нумізматычных матэрыялаў. Пасля смерці Р. гэтыя скарбы, у т.л. з Гомельскага палаца, склалі аснову Румянцаўскага музея, адкрытага ў Пецярбургу. У 1861 яны перавезены ў Маскву і сталі асновай «Маскоўскага публічнага музеума» (у 1921—27 расфарміраваны, калекцыі перададзены іншым музеям і карцінным галерэям Масквы). У 1826 з кніжнага фонду гэтага музея заснавана бібліятэка, якая ў 1925 паслужыла базай для стварэння Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна. Р. быў ганаровым членам многіх акадэмій, навуковых таварыстваў, універсітэтаў. Яго дзейнасць паклала пачатак традыцыі цеснага супрацоўніцтва славянскіх вучоных, што спрыяла развіццю славяназнаўства.

*Літ.*: Софинов П.Г. Из истории русской дореволюционной археографии. М., 1957; Кочубинский А.А. Начальные годы русского славяноведения. Одесса, 1887—88; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Попов Б.С. Польский учёный и революционер Иохим Лелевель. М., 1974.

*І.П.Хаўратовіч.*



*Старонка Румянцаўскага летапісу.*

**РУСЕЦКАЯ** Саламея Рэгіна (1718—пасля 1760)




Лекарка, асветніца. Нарадзілася на Навагрудчыне ў сям'і мешчаніна Яўхіма Русецкага. 14-гадовую дзяўчыну ў 1731 аддалі замуж за лекара-немца Якуба Хальпіра, і маладажоны адразу накіраваліся ў Стамбул, дзе Хальпір распачаў лекарскую дзейнасць. Саламея зацікавілася заняткамі мужа і неўзабаве пачала яму дапамагаць. Яна вызначалася назіральнасцю, розумам і здольнасцямі, таму даволі хутка авалодала метадамі лячэння і пачала практыкаваць самастойна. Знаёмы іракскі лекар раскрыў ёй спосабы і сродкі лячэння хвароб вачэй. Праз пэўны час яна набралася столькі ведаў і вопыту, што атрымала афіцыйна дазвол на лекарскую дзейнасць. Паводле мусульманскіх звычаяў мужчына, нават лекар, не меў права наведваць гарэм, а прававерныя мусульманкі не мелі права лячыць мужчын. Хрысціянка ж Р. магла практыкаваць і сярод мужчын, і сярод жанчын, і гэта спрыяла яе папулярнасці. Неўзабаве яна з мужам выехала ў Боснію. Па дарозе спынялася ў розных гарадах і лячыла дзяцей. Слуга Хальпіра, італьянец, навучыў Р. асновам лацінскай мовы, і яна змагла выпісваць рэцэпты. Набытыя кнігі па медыцыне і фармакалогіі



*Стамбул. Мячэць Султана Сулеймана. Гравюра 18 ст.*




*Запіскі Саламеі Русецкай (Стамбул, 1760). Тытульны ліст.*

дапамагалі ёй пастаянна ўдасканальваць свае веды. Пасля заўчаснай смерці мужа Р. атрымала ў спадчыну даволі значныя сродкі, якія яна расходавала ў асноўным на вандроўкі і справы міласэрнасці, у т.л. на выкуп палонных салдат. Сярод самых імянітых пацыентаў лекаркі ў гэты час быў трансільванскі князь Іожаф Ракачы, галоўны прэтэндэнт на венгерскі прастол. У якасці лекаркі яе запрасілі Радзівіл Міхал Рыбанька і яго жонка Уршуля. У Расіі імператрыца Ганна Іаанаўна наблізіла Р. да сябе, прыняла яе ў штат прыдворнай абслугі. Пэўны час Р. практыкавала ў Вене, лячыла членаў турэцкага пасольства. Апошняе вядомае месца яе лекарскай дзейнасці — Стамбул, з якога і пачыналася яе медыцынская кар'ера. На гэты раз сярод яе пацыентаў былі турэцкія саноўнікі, сёстры султана і жанчыны яго гарэма. У 1760 са Стамбула Р. накіравалася паломніцай у Святую Зямлю. У яе планы ўваходзіла наведанне Палесціны і Егіпта. Далейшы лёс невядомы.




*Стамбул. Мячэць Султана Акмеда. Гравюра 18 ст.*




*Стамбул. Уваходная брама ў сераль.*

Пасля сябе Р. пакінула надзвычай цікавы ўзор эпісталярнай спадчыны — дзённік-кнігу «Авантуры майго жыцця» (на польскай мове), падрыхтаваную для друку. У ім — успаміны і ўласныя разважанні наконт тагачасных падзей, цікавыя замалёўкі-партрэты людзей, якія сустракаліся ў час яе вандровак па краінах Захаду і Усходу. Шмат месца ў кнізе адведзена апісанню побыту і нораваў розных народаў, выкладзены метады лячэння розных хвароб. Лекарка шмат у чым апіралася на здабыткі народнай медыцыны, распаўсюджвала вучэнне пра гігіену і фізічнае выхаванне. Усё гэта ў сукупнасці з дасягненнямі фармакалогіі і хірургіі таго часу стварала бездакорную сістэму, у адпаведнасці з якой працавала Р. — «доктар медыцыны і акулістыкі», як яна сама сябе называла.

*Тв.*: Авантуры майго жыцця: Раман. Мн., 1993.

*Літ.*: Грыцкевіч В.П. Адысея навагрудскай лекаркі: Саламея Русецкая. Мн. 1989.

*М.К.Багадзяж.*

## **РУЦКІ** Іосіф Вельямін (1573 ці 1574—5.2.1637)

Пісьменнік-палеміст, царкоўна-палітычны дзеяч, уніяцкі мітрапаліт. Нарадзіўся ў в. Рута Навагрудскага ваяводства (цяпер в. Рутка ў Навагрудскім раёне) у шляхецкай пратэстанцкай сям'і, якой належала в. Рута. Па традыцыі ад назвы мясцовасці і пайшло яго прозвішча Руцкі. Пры хрышчэнні названы Янам. Паводле меркавання некаторых вучоных, яго продкам быў рускі дваранін Вельямінаў (або Веньямін), які ці то трапіў у палон ці быў перабежчыкам, але апынуўся ў Вялікім княстве Літоўскім; яго маці — Багуміла з Корсакаў. Пачатковую адукацыю Р. атрымаў у Навагрудку, потым скончыў Віленскую кальвінісцкую

школу. У сталіцы зблізіўся з езуітамі, наведваў іх дыспуты, якія зрабілі на яго вялікі ўплыў. У выніку стаў схіляцца да каталіцтва. У 1590 памёр яго бацька Фелікс Вельямін. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, насуперак волі маці здольны юнак вырашыў працягваць вучобу далей і выехаў за мяжу. Напачатку вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе, дзе канчаткова перайшоў у каталіцкую веру. Працягваў вучобу ў Вюрцбургскім універсітэце (Баварыя) і атрымаў там ступень доктара філасофіі. У 1599 (паводле іншых звестак у 1600) пехатой выправіўся ў Рым, дзе па настойлівай рэкамендацыі ордэна езуітаў і самога папы рымскага перайшоў у праваслаўе і паступіў у грэчаскую калегію, якая рыхтавала высокаадукаваных уніяцкіх місіянераў для праваслаўнага Усходу, будучых іерархаў уніяцкай царквы. У гэтай школе апрача тэалогіі і іншых багаслоўскіх дысцыплін грунтоўна вывучаліся грэчаская і лацінская мовы, антычная філасофія і літаратура. Паспяхова скончыўшы калегію, у 1603 пакінуў Рым і вярнуўся на радзіму. У Вільні зблізіўся з мітрапалітам Іпаціем *Пацеем*, які стаў схіляць Р. да пастрыжэння ў манахі базыльянскага ордэна. Неўзабаве ў сталіцу Вялікага княства Літоўскага прыехаў член ордэна кармелітаў босых Павел Шыман, якога папа рымскі пасылаў у Персію для арганізацыі лігі супраць варожых каталіцызму туркаў. Шлях папскага пасланца ляжаў праз Маскву. Р. ахвотна згадзіўся паехаць з ім як перакладчык і праваднік. Калі яны прыехалі ў Маскву, там на царскім троне быў польска-літоўскі стаўленік Ілжэдзмітрый, які ў Персію іх не пусціў, а загадаў вярнуцца назад. Восенню 1607, не без уплыву І.Пацея і Іасафата *Кунцэвіча*, Р. стаў манахам Святатроіцкага манастыра ў Вільні, неўзабаве быў пасвечаны ў сан дзяка, а затым прэсвітэра. Калі ж архімандрыт віленскага Святатроіцкага манастыра Самуіл Санчыла адмовіўся прыняць царкоўную унію, І.Пацей захапіў гэты манастыр і прызначыў на яго месца Р., маючы намер зрабіць яго сваім суфраганам (намеснікам). З таго часу пачалося цеснае супрацоўніцтва І.Пацея з Р., перад якім мітрапаліт адкрыў шырокае поле царкоўна-палітычнай і грамадскай дзейнасці. Надзелены паўнамоцтвамі намесніка, іераманах Р. атрымаў шырокую ўладу над усімі духоўнымі асобамі віленскай мітрапалітавай епархіі. Ён судзіў і караў, ажыццяўляў духоўную ўладу і карыстаўся даходамі са значнай тэрыторыі дзяржавы. Па хадайніцтве Пацея, які бачыў у Р. свайго надзейнага памочніка ў агульным кіраўніцтве уніяцкай царквой, кароль Жыгімонт III Ваза 16.6.1612 даў яму прывілей на епіскапства Галіцкае. Тады ж мітрапаліт пасвяціў Р. на гэту кафедру і дадаткова аддаў яму ў Навагрудскім пав. Лаўрышаўскі манастыр, якім раней валодаў сам. З таго часу Р. стаў фактычна правай рукой І.Пацея, яго галоўным пераемнікам на пасадзе уніяцкага мітрапаліта. Пасля смерці Пацея прывілеем ад 8.7.1613 кароль прызначыў на яго месца Р., які прыняў кіраўніцтва мітраполіяй толькі 14.6.1614, а 18 ліпеня зацверджаны на гэтай пасадзе папам рымскім Паўлам V. Хоць мітраполія па традыцыі яшчэ называлася Кіеўскай, аднак фактычна яе сталіцай была Вільня, а другім цэнтрам — г. Навагрудак, дзе яшчэ з часоў Грыгорыя *Цамблака* размяшчалася рэзідэнцыя праваслаўных мітрапалітаў Вялікага княства Літоўскага. Стаўшы уніяцкім мітрапалітам, Р. разгарнуў бурную дзейнасць па ажыццяўленні сваіх ідэй, якія выношваў яшчэ ў Рыме і пасля выклаў у спецыяльным трактаце «Разважанні нейкага русіна аб выпраўленні ладу грэчаскага абраду» (1605). Ён марыў пра пашырэнне уніі па ўсім праваслаўным Усходзе і з гэтай мэтай нават ездзіў у 1615—16 у Маскву, а таксама спрабаваў узмацніць уніяцкі ўплыў у Кіеве. Бачачы агульны заняпад праваслаўнай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім, быў апантаны ідэяй яе ўнутранай перабудовы, удасканалення і адраджэння на прынцыпах уніяцтва. З мэтаю падрыхтоўкі і выхавання патрэбных кадраў ён накіраваў сваю дзейнасць на развіццё школьнай справы, рэарганізацыю і ўмацаванне інстытута манаства. У 1607 Р. заснаваў у Вільні першую базыльянскую школу (духоўную семінарыю) і потым прыкладаў вялікія намаганні, каб пашырыць сетку такіх школ у краі. У іх выкладалі і «рускую» (беларускую) мову. Другой важнай справай, якой ён аддаў шмат сіл, было стварэн-

не ў Вялікім княстве Літоўскім ордэна Св. Базыля (Васіля Вялікага). Арганізацыйна ордэн аформлены ў 1617 на 1-й кангрэгацыі ў Навагрудку, а канчаткова створаны ў 1623, яго першым генералам абраны сам Р. З цягам часу ордэн утварыў на Беларусі і ў Літве разгалінаваную сетку сваіх манастыроў. Базыльянскі ордэн і школы ствараліся шмат у чым на ўзор школ і ордэна езуітаў, з якімі мітрапаліт спачатку супрацоўнічаў, а пасля ставіўся да іх больш стрымана, як да сапернікаў. Базыльянскі ордэн будаваўся і функцыяніраваў на прынцыпах самакіравання, імкнуўся быць незалежным ад свецкіх улад, белага духавенства і ўсіх вернікаў. Яго школу прайшлі не толькі іерархі уніяцкай царквы, але і нямала дзеячаў культуры, навукі, літаратуры Беларусі і Украіны эпохі барока, у т.л. *Сімяон Полацкі*. Ролю базыльянскага ордэна ў гісторыі уніяцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім справядліва параўноўвалі з роляй ордэна езуітаў ва ўмацаванні ў гэтай дзяржаве ідэй каталіцызму.

Р. вядомы і як пісьменнік-публіцыст, ён напісаў шэраг лістоў, пасланняў і палемічных твораў на беларускай і польскай мовах. Сярод іх «Двайная віна» (1621), «Экзамен абароны» (1622) і інш., якія сёння маюць гістарычнае значэнне як крыніцы пазнання эпохі. Складзены ім у канцы жыцця на лацінскай мове запавет быў выдадзены ў Кракаве ў 1637.

Шмат сіл і энергіі аддаваў Р. палемічнай барацьбе. Ён выступаў на дыспутах з праваслаўнымі і пратэстантамі, палемізаваў з Мялеціем *Сматрыцкім*, Іовам Барэцкім, дзеячамі брацкага руху, настойліва імкнуўся правесці уніяцкія ідэі ў жыццё. Клапаціўся пра павышэнне маральнага і інтэлектуальнага ўзроўню манахаў, духавенства і вернікаў. Быў своеасаблівым рэфарматарам. Пазней сцвярджалі: «Калі М.*Рагоза* аднавіў унію, Пацей яе ўтрымаў, то Руцкі яе ўмацаваў, пашырыў і зрабіў сапраўднай царквою». Пераемнік Р. уніяцкі мітрапаліт Рафаіл Корсак напісаў «Vita Josephi» («Жыццё Іосіфа»), якое зберагаецца ў адным з рукапісных зборнікаў у Бібліятэцы АН Расіі ў Санкт-Пецярбургу. Пахаваны ў Вільні ў Святатроіцкім манастыры.

*А.Ф.Коршунаў.*

## РЭШКА Ігнацій Якаўлевіч (1760—?)

Астраном, прафесар Віленскага універсітэта ў 18—19 ст. Паводле паходжання шляхціц Вялікага княства Літоўскага. Адукацыю атрымаў у Кракаўскім кадэцкім корпусе. Служыў у польскіх войсках паручнікам, меў ступень доктара вольных навук і філасофіі. З 1782 ад'юнкт Віленскай астранамічнай абсерваторыі. У 1798—1830 загадваў кафедрай Віленскага ун-та, быў візітатарам вучылішчаў Мінскай, Гродзенскай і Беластоцкай губерняў.

# С



## САКОВІЧ Фабіян [6.11.1742—1787(?)]

Паэт, перакладчык, педагог. Нарадзіўся на Беларусі. У 1759—62 вучыўся ў Віцебскай і Нясвіжскай езуіцкіх калегіях. Потым працаваў выкладчыкам у Нясвіжы. З 1766 жыў у Варшаве, у 1772—77 супрацоўнічаў у штотыднёвіку «Zabawy przyjemne i pozyteczne» («Забавы прыемныя і карысныя»), дзе апублікаваў большасць сваіх вершаў (некаторыя з іх прысвечаны ўраджэнцам і жыхарам Беларусі). На польскую мову пераклаў песні Гарацыя (т. 1—2, 1773—75). У 1777 жыў у маёнтку А.*Нарушэвіча* Павець (каля Пінска) і памагаў перапісваць тэксты яго «Гісторыі...». У 1778 пераехаў у в. Чарнаўчыцы (Камянецкі р-н).

## САКОЛЬСКІ Іван

Расійскі паэт, перакладчык, педагог канца 18 ст. Нарадзіўся ў Кіржацкім р-не Уладзімірскай вобл. Скончыўшы Пецярбургскую настаўніцкую семінарыю, у 1785—88 выкладаў у Маскоўскай Славяна-грэка-лацінскай акадэміі. У 1789—1796(?) працаваў настаўнікам Полацкага галоўнага народнага вучылішча. Выдаў у Маскве (1786, 1788) і Пецярбургу (1808) некалькі перакладных кніг і зборнікаў. Аўтар кнігі «Кабінетны і купецкі сакратар, ці

Збор найлепшых і ўжываемых пісьмаў» (1788, 2-е выд. 1795). Здольны паэт-класіцыст, актыўны праваднік ідэй рускага Асветніцтва на Беларусі, у сваіх одах з нагоды розных падзей у жыцці вучылішча падкрэсліваў карысць асветы і навукі. Асвету лічыў рухавіком прагрэсу. Надаваў вялікае значэнне філасофіі ў жыцці грамадства. Лічыў, што гэты прадмет ёсць найвышэйшы этап асветы асобы, але асвоіць філасофію нельга, не вывучыўшы гісторыі і мовы. Паводле С. першапачатковы стан чалавецтва быў блізкі да жыцця жывёл, у асяроддзі тагачасных людзей панавалі жорсткасць і насілле, закон сілы — вось светапогляд неадукаванага чалавецтва. Паступовае паляпшэнне нораваў і законаў супольнага жыцця было выклікана асветніцтвам. Узровень цывілізацыі, на яго думку, залежыць ад павелічэння аб'ёму і глыбіні ведаў. Крытыкаваў Ж.Ж.Русо, які лічыў, што развіццё навук і рамёстваў разбурыла добрыя норавы і звычаі чалавецтва. У одзе з нагоды адкрыцця народнага вучылішча ў Полацку С. пісаў:

Руссо, писатель знаменитый,
Желая разум показать,
Невежства во знак защиты
Дерзнул против наук сказать:
«Науки нравы развращают,
Пути к порокам отворяют».
Почто ж Руссо сам честность чтил?

У одзе ад 30.6.1794 С. асуджаў полацкіх багацеяў, якія не дапамагалі народу ў цяжкі час голаду на Беларусі. Спачувальна ставіўся да беларускага прыгоннага сялянства.

*Літ.:* Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971. С. 151—157.

## **САРБЕЎСКІ** Мацей Казімір (24.2.1595—2.4.1640)

Новалацінскі паэт, філосаф, тэолаг тэарэтык літаратуры і красамоўства Нарадзіўся ў фальварку Сарбева (каля Плоцка) у Польшчы. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што С. — «літвін паводле паходжання» (г.зн. жыхар Вялікага княства Літоўскага). Большую частку свайго жыцця ён правёў на Беларусі і ў Літве, у Полацку напісаў свае асноўныя творы па рыто-



рыцы, паэтыцы і антычнай міфалогіі, моцна паўплываў на беларускую лацінамоўную літаратуру, навуку і школьную адукацыю 17 ст. Таму зусім справядліва лічыць яго спадчыну агульным здабыткам трох народаў.

Вучыўся граматыцы і рыторыцы ў езуіцкай школе г. Пултуска. У 1612 прыняты ў ордэн езуітаў і паступіў у Віленскую езуіцкую акадэмію, дзе ў 1614—17 вывучаў філасофію (логіку, фізіку і метафізіку). Вершы на лацінскай мове пачаў пісаць са школьных гадоў. У 1617—18 працаваў настаўнікам граматыкі і рыторыкі ў езуіцкай гімназіі, заснаванай Я.К.Хадкевічам у Крожах (Літва). Важным этапам фарміравання яго як вучонага, літаратара і паэта была праца настаўнікам рыторыкі ў Полацкай езуіцкай калегіі (1618—20). Тут ён пачаў свае фундаментальныя даследаванні па тэорыі паэзіі і красамоўства. Два гады слухаў курс тэалогіі ў Віленскай езуіцкай акадэміі (1620—22), пасля чаго накіраваны ў Рым (1622—25). Там вывучаў метафізіку і тэалогію ў Германскай калегіі, рыхтаваў матэрыялы па гісторыі антычных старажытнасцей, напісаў арыгінальнае даследаванне «De acuto et arguto» («Пра жарт і дасціпнасць»). У Рыме быў прыняты пры

двары папы Урбана VIII, быў рэдактарам выдання царкоўных гімнаў, разам з А.Данатам выдаваў помнікі Старажытнага Рыма. Там праславіўся як аўтар эпіграм, одаў і гімнаў (упершыню апубл. ў Рыме, 1625) і ўзнагароджаны Урбанам VIII лаўровым вянком і медалём. Вярнуўшыся на радзіму (1625), пэўны час жыў у Нясвіжы (1625—26), відаць, працаваў там настаўнікам езуіцкай калегіі. У 1626 ён зноў прызначаны настаўнікам рыторыкі ў Полацкую калегію, дзе чытаў свае фундаментальныя універсітэцкія курсы (захаваліся ў рукапісных копіях) па тэорыі паэзіі, красамоўстве і антычных старажытнасцях. Упершыню яны апублікаваны тэматычнымі зборнікамі на лацінскай мове і ў перакладзе на польскую мову сучаснымі польскімі даследчыкамі пад назвамі «Пра дасканалую паэзію, або Вергілій і Гамер» (апубл. 1954), «Лекцыі па паэтыцы» (апубл. 1958), «Багі язычнікаў, або Тэалогія, філасофія прыроды і этыка, палітыка, эканоміка, астраномія і іншыя мастацтвы і навукі, якія змяшчаюцца ў міфах паганскай тэалогіі» (апубл. 1972). У 1627—28 гэтыя курсы С. прачытаў у Віленскай езуіцкай акадэміі. Пазней у той жа акадэміі ён быў прафесарам філасофіі (1628—31) і тэалогіі (1631—33), дэканам філасофска-тэалагічнага факультэта. З 1635 спалучаў выкладчыцкую працу з абавязкамі прапаведніка і тэолага пры двары караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV.

Прыдворнае жыццё яго не вабіла. У лісце да плоцкага епіскапа С.Любеньскага ён скардзіўся на розных кар'ерыстаў і зайздроснікаў пры двары, якія сачылі нават за яго асабістай перапіскай. Празмерная праца пагоршыла яго здароўе, ён прасіўся ў адстаўку, каб прысвяціць сябе літаратурнай і навуковай творчасці. Але каралю выгадна было трымаць пры сабе таленавітага паэта, вучонага, прамоўцу, музыканта. Перад самым ад'ездам С. з Варшавы кароль угаварыў яго апошні раз выступіць з казаннем. Тут ён занядужаў і памёр.

Тэарэтычная спадчына С. даследавалася з пачатку 20 ст., раней ён быў вельмі папулярны як выдатны навалацінскі паэт, паслядоўнік рымскай класікі і «славянскі Гарацый». Вядома каля 30 выданняў збору яго паэтычных твораў, у т.л. ў Вільні, Польшчы, Італіі, Францыі, Галандыі, Германіі і інш. У.*Сыракомля* па-мастацку пераклаў выбраныя оды, эпіграмы і іншыя вершы С. на польскую мову і апублікаваў у кн. «Пераклады польска-лацінскіх паэтаў эпохі Жыгмунтоўскай» (т. 6, Варшава, 1852) і ў 9-м т. збору сваіх твораў «Паэзія» (Вільня, 1851). Сапраўдным адкрыццём у навалацінскай еўрапейскай паэзіі стаў яго зборнік лірычных дыфірамбаў «Silviludia» («Лясныя гульні», 1637), напісаных пад уражаннем каралеўскага палявання. Сам паэт называў гэты цыкл паэтычным капрычыо, літаратурнай забавай для сяброў, адхіленнем ад класічных норм і таму не публікаваў іх. «Лясныя гульні» напісаны акцэнтным (танічным) вершам, іх мелодыка і рытміка максімальна набліжаны да народнай песні, карнавальнай музыкі.

З яго імем даследчыкі звязваюць паэтычную практыку і тэорыю барока як стылю мастацкай культуры 17—1-й паловы 18 ст. У 1892 польскае езуіцкае выдавецтва апублікавала збор паэтычных твораў С. — вялікі том (624 стар.) з біяграфіяй паэта і бібліяграфіяй яго друкаваных і рукапісных кніг. У ёй прадстаўлены ўзоры бадай усіх жанраў і стыляў барочнай паэтычнай культуры: свецкія оды і рэлігійныя гімны, панегірыкі, пастаралі, песні, эпіграмы, элегіі. На жаль, яны не перакладаліся на беларускую мову і таму яшчэ «не ўпісаліся» ў кантэкст нашай нацыянальнай літаратуры. Характэрная асаблівасць яго паэзіі — парадаксальнае спалучэнне вобразаў антычнай міфалогіі з хрысціянскімі ідэаламі і народнай песеннасцю. Ёсць у яго і палітычныя публіцыстычныя творы, у іх паэт заклікаў хрысціянскія дзяржавы аб'яднацца і вызваліць народы ад турэцкага панавання. Тут ён працягваў палітычную тэндэнцыю, пачатую М.*Гусоўскім* у «Песні пра зубра».

Літаратурная спадчына С. значна паўплывала на эстэтыку, паэтычнае і тэарэтычнае мастацтва Польшчы, Беларусі, Літвы, Расіі. Вялікае значэнне для гэтага рэгіёна мелі яго лекцыі і даследаванні па тэорыі літаратуры, рыторыцы і антычнай міфалогіі. *Сімяон Полацкі* ведаў паэзію і тэарэтычныя даследаванні С.; услед за ім

па-майстэрску спалучаў антычны эстэтызм і хрысціянскую рыгарыстычную мараль. Курсы паэтыкі і рыторыкі ў школах Беларусі 2-й паловы 17—18 ст. ў значнай меры грунтаваліся на канспектах рукапісных кніг С., хоць і адаптаваных, значна скарочаных, дапасаваных да школьнага выкладання. Гуманіст паводле светапогляду, С. жыў у складаны і супярэчлівы перыяд пераходу ад сярэднявечча да Новага часу, ад рэнесансавай культуры да «барочнага» стылю. Можа таму ў яго даследаваннях сумяшчаюцца смелая навуковая і літаратурная думка з сярэдневяковым традыцыяналізмам і схаластычным метадам спасылак на аўтарытэты Бібліі, Новага запавету, Арыстоцеля, Фамы Аквінскага. Аднак у аснову сваёй літаратурнай тэорыі С. паклаў рэнесансавыя курсы паэтыкі, і найперш папулярную ў Еўропе кнігу Ю.Скалігера «Сем кніг паэтыкі» (Ліён, 1561). Развіваючы думку пра аўтаномнасць і творчую прыроду мастацтва, С. зрабіў з яе радыкальныя высновы, якія супярэчылі сярэдневяковым уяўленням аб утылітарным прызначэнні мастацтва як «служанкі» рэлігіі. Паэзія, адзначаў ён, — гэта сфера творчай свабоды, яна не можа быць абмежавана кан'юнктурнымі фактарамі. Свабода творчасці рэалізуецца ў дзейнасці мастацкай фантазіі, пры дапамозе яе паэт вынаходзіць фабулу і сродкі яе ўвасаблення ў мастацкім творы. Гэты творчы акт адбываецца незалежна ад таго, існуюць ці не існуюць у рэчаіснасці рэальныя факты і з'явы, якія маглі б стаць прататыпам мастацкіх вобразаў і сюжэтаў. Канцэпцыя мастацкага свету як ідэальнай рэальнасці, створанай мастаком па аналогіі з божым тварэннем Сусвету, супярэчыла сярэдневяковаму ўяўленню пра мастакоў як рамеснікаў.

Асаблівасць аргументаў С. як тэарэтыка барока ў тым, што на шкале яго каштоўнасцей ёсць пэўны зрух ад рэальнасці да ідэалу. На яго думку, мастацтва, ідэальнае па сваёй прыродзе, выкарыстоўвае элементы рэальнага быцця толькі ў якасці крыніцы, аднак не залежыць ад яго. Антычнае паняцце «мімезіс» (наследаванне) С. разумеў не як перайманне мастацтвам рэальнасці, а як тварэнне (па аналогіі з божым тварэннем Сусвету) новай, ідэальнай рэальнасці. Людскія ўчынкі з'яўляюцца не адзіным, а толькі асноўным прадметам мастацкага выяўлення.

Найвышэйшым відам мастацтва ён лічыў паэзію, бо толькі яна набліжаецца да пазнання ў філасофіі і тэалогіі, выяўляе вонкавыя і ўнутраныя ўласцівасці прадметаў і падзей. Найбольш дасканалым родам літаратуры лічыў эпічную паэзію, бо яна спалучае «ўсе навукі і мастацтвы» і стварае ўражанне цэлага сусвету, народжанага фантазіяй паэта. Да «недасканалых» родаў літаратуры адносіў элегічную і часткова лірычную паэзію, таму што яны не маюць сваёй закончанай фабулы — «душы» мастацкай дасканаласці. Пашыраны ў той час жанр эпіграмы (сатырычнай, хвалебнай, панегірычнай), на яго думку, не адпавядаў паняццю паэзіі, бо быў моцна звязаны з канкрэтнай з'явай і не меў магчымасці выявіць ідэалы. Душой эпіграмы з'яўляюцца жарт і дасціпнасць, якія набліжаюць яе да красамоўства, выяўленага ў паэтычнай форме.

Асновай паэтычных твораў ён лічыў фабулу, а галоўнымі элементамі паэтычнай формы — мелодыю, рытм і метр. На яго думку, фабула найбольш характэрная для эпічнага роду паэзіі — вяршыні мастацтва. Мастацкая тыпізацыя разглядалася ім па аналогіі з лагічным мысленнем: спачатку ў паэта ўзнікае агульная задума дасканалага героя, пасля ён пераходзіць да яе ажыццяўлення, ствараючы экспазіцыю, завязку, эпізоды і інш. элементы фабулы. Майстэрства паэта, паводле С., заключаецца ў тым, каб у яго галоўным героі ўвасобілася паўната дасканаласці і каб у творы не было нічога лішняга, расцягнутага і нуднага. Ідэальнымі творамі сусветнага мастацтва С. называў «Іліяду» Гамера і «Энеіду» Вяргілія.

Літаратурная тэорыя С. спалучала эстэтычныя ідэалы і тэорыі трох гістарычных эпох — Адраджэння, барока і класіцызму. Арыентуючыся на чалавека і яго асяроддзе, ён працягваў традыцыі гуманістычнай культуры Адраджэння. Аддаючы перавагу ідэальнаму над рэальным, узнёсламу над прыгожым, складанасці і вытанчанасці над класічнай прастатой і закончанасцю, карыстаючыся складанай схаластычнай логікай для «канструявання»

тэорыі мастацкай творчасці, акцэнтуючы ўвагу на «паэтычнай дасціпнасці», паэт выступаў і тэарэтыкам барочнай культуры. Яго канцэпцыя іерархічнасці відаў мастацтва, родаў і жанраў паэзіі, арыентацыя на дасканалага, ідэальнага героя сведчылі, што ён быў папярэднікам класіцызму, абгрунтаваў зыходныя ідэі гэтага кірунку мастацкай культуры канца 17—пач. 19 ст.

Рэнесансавы гуманізм паэта і вучонага яскрава выявіўся ў яго тлумачэнні антычнай міфалогіі, якой ён прысвяціў спецыяльны трактат «Багі язычнікаў». Гэта, па сутнасці, першая на Усходняй Еўропе спроба звесці антычны пантэон да ідэалізаванай жыццядзейнасці антычнага чалавека. У рэлігіі і міфах ён бачыў усе праявы чалавечага жыцця — побыт, культуру, светапогляд, навуковыя ўяўленні, ідэалы і каштоўнасці жыцця. Крыніцай міфаў лічыў фантазію і паэтычную творчасць народа і быў перакананы, што ў народнай міфалогіі ў сімвалічнай, скрытай форме закладзены асновы ўсіх наступных цывілізацый.

С. быў выдатным педагогам, яго навуковая спадчына запісана ў форме універсітэцкіх і школьных лекцый, са шматлікімі прыкладамі і дэталёвым аналізам канкрэтнага літаратурна-мастацкага і навуковага матэрыялу.

Вось як, напрыклад, С. тлумачыў сваім полацкім і віленскім студэнтам адзін з прывідаў прарока Іезекііля (гутарка ішла пра эпізод біблейскай кнігі Іезекііля — матыў «чатырох жывёл» і чатырох колаў, якія рухаліся па складаных траекторыях): «Мікалай Капернік з Памор'я, самы таленавіты знаўца матэматычных навук мінулага стагоддзя, першы геніяльна разгадаў сапраўднасці гэтых рухаў і паказаў, што нябёсы рухаюцца ўласна ў гэтых чатырох супрацьлеглых напрамках, але не па прамой, а па касой лініі». Патрэбна была мужнасць вучонага, каб гаварыць вучням езуіцкай калегіі ў пач. 17 ст., праз 27 гадоў пасля расправы інквізіцыі над Джардана Бруна, пра геніяльнае адкрыццё Каперніка, хоць і ў прыкрытай форме, пад выглядам разгадкі сімвалічных прывідаў біблейскага прарока. Яго рукапісныя кнігі — гэта адначасова і школьныя дапаможнікі, і універсітэцкія курсы. Даследчыкі мяркуюць, што ўсе тры курсы лекцый запісаны навучэнцамі Полацкай калегіі пад дыктоўку прафесара і маюць навучальна-практычную мэту. У іх змешчаны розныя парады студэнтам, гатовыя схемы і ўзоры для самастойных практыкаванняў па вершаскладанні і падрыхтоўцы аратарскіх прамоў. Нягледзячы на пэўны груз схаластыкі, С. як вучоны, паэт, педагог, асветнік навукі і праграмы езуіцкай педагогікі развіваў гуманістычную навуку і мастацкую культуру эпохі Адраджэння. Яго спадчына — важная гістарычная традыцыя, якая сведчыць пра духоўнае ўзаемадзеянне беларускага, літоўскага і польскага народаў.

*Літ.*: Рязанов В.И. К истории русской драмы: Поэтика М.К.Сарбевского. Нежин, 1911; Конан У.М. Полацкі курс паэтыкі М.К.Сарбеўскага (1618—1627 гг.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1972. № 1; Яго ж. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978. С. 117—140; Яго ж. Гуманистическая интерпретация искусства и мифологии у М.К.Сарбевского // Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

*У.М.Конан.*

## **СЕМЯНОВІЧ** Казімір (каля 1600—пасля 1651)



Інжынер і тэарэтык артылерыі, мысліцель-гуманіст. Паходзіў з роду дробных князёў Семяновічаў, якія ў 14—16 ст. валодалі землямі на Віцебшчыне. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. Удзельнік вайны Расійскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай 1632—34 і аблогі маскоўскага гарнізона ў г. Белым (сакавік—май 1634), удзельнік бітвы 30.1.1644 войск Рэчы Паспалітай з татарамі пад Ахматавам, дзе быў сведкам дзеяння татарскіх феерверкаў. Выехаўшы ў Нідэрланды, у 1645 браў чынны ўдзел у аблогах розных гарадоў войскамі Фрыдрыха Генрыха Аранскага. У Нідэрландах С. атрымаў магчымасць пазнаёміцца з багатай еўрапейскай літаратурай пра артылерыю, піратэхніку, з кнігамі па гісторыі і культуры. Назапасіўшы практычны вопыт, распачаў свае ўласныя доследы з мэтай спасцігнуць «таямніцы парахавых сіл», авалодаць майстэрствам артылерыі і піратэхнікі. Настойліва вывучаў механіку, гідраўліку, пнеўматыку, грамадзянскую і ваенную архітэктуру, а таксама фізіку, хімію, матэматыку, асвоіў такія важныя рамёствы, як разьба па дрэве і метале, адліўка гармат з металаў і інш. Ёсць падставы меркаваць, што кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV апекаваў таленавітага феерверкера і даваў патрэбныя сродкі, каб С. меў магчымасць вывучаць зброю ў еўрапейскіх арсеналах. У 1646 кароль адклікаў С. з Нідэрландаў і прызначыў яго інжынерам у кароннай артылерыі. У 1648 С. прызначаны намеснікам начальніка артылерыі Польскага Каралеўства і разам з 12 гарматнікамі выязджаў на вайну з казакамі. Па ўласнай ініцыятыве, а часта і за свой кошт С. праводзіў эксперыменты па вонкавай і ўнутранай балістыцы, рабіў шматлікія запускі ракет. Пасля паражэння польскага войска пад Піляўцамі ён выйшаў у адстаўку ў званні генерал-лейтэнанта каронай артылерыі і атрымаў дазвол зноў выехаць у Нідэрланды. У 1650 у Амстэрдаме пры маральнай і фінансавай падтрымцы эрцгерцага Леапольда-Вільгельма Габсбурга выдаў на лацінскай мове трактат «Вялікае мастацтва артылерыі, частка першая». У 1651 гэта кніга была перавыдадзена на французскай мове з прадмовай аўтара, прысвечанай Вільгельму Фрыдрыху — начальніку артылерыі Рэспублікі Задзіночаных правінцый (такая тады была афіцыйная назва Нідэрландаў). Гэтая прадмова дагэтуль застаецца апошнім дакументальным сведчаннем жыцця С. Існуюць розныя версіі аб прычынах яго смерці, адной з якіх (паводле А.Штэрнфельда) магло быць забойства рамеснікамі-піратэхнікамі за тое, што ў кнізе ён выдаў сакрэты і таямніцы свайго майстэрства. Кніга С., перакладзеная на нямецкую, англійскую, галандскую, дацкую і інш. мовы, на працягу паўтара стагоддзя была адной з найважнейшых у Еўропе навуковых прац па артылерыі і піратэхніцы. С. падрыхтаваў да друку і другую частку сваёй працы, аднак выдаць не паспеў; захаваліся толькі звесткі пра існаванне такога рукапісу ў бібліятэцы Артылерыйскага музея ў Пецярбургу. У бібліятэцы Варшаўскага ліцэя (паводле сведчання гісторыка польскай літаратуры Фелікса Бянтоўскага) знаходзіўся бюст С., на якім ён паказаны з ордэнскай стужкай і ордэнам Зоркі на грудзях. Мяркуюць, што гэтым ордэнам вучоны быў узнагароджаны галандцамі за сваю выдатную працу «Вялікае мастацтва артылерыі», а магчыма, і за ўдзел у аблозе г. Гульста.

У сваім светапоглядзе на сусвет С. у асноўным прытрымліваўся канцэпцыі Арыстоцеля, сведчаннем чаго з'яўляюцца тыя месцы ў творы «Вялікае мастацтва артылерыі», дзе ён пераходзіў ад апісання эмпірычных вынікаў да іх інтэрпрэтацыі ці да агульных светапоглядных пытанняў. Яму былі добра вядомы і вучэнне старажытнагрэчаскіх філосафаў пра натуральныя і вымушаныя рухі, і тагачасная канцэпцыя «імпэтусу» — руху цела пад націскам іншага цела-рухача. Звяртае на сябе ўвагу высокі ўзровень агульнай культуры С., які добра ведаў і антычную літаратуру, і сучасныя яму тэхнічныя дасягненні, і працы тагачасных еўрапейскіх аўтараў, што выдаваліся на нямецкай, грэчаскай, лацінскай і інш. мовах. Польскі гісторык Г.Новак падлічыў, што ў кнізе С. цытуюцца больш за 200 аўтараў, выкарыстана каля 260 твораў, пераважна старажытныя трактаты, каля 40% складаюць кнігі эпохі Адраджэння і Новага часу; шырока выкарыстаны творы Платона, Арыстоцеля, Сенекі, Эўкліда,

Архімеда, Апалона з Пергама, знакамітых сярэдневяковых даследчыкаў, медыцынская і прыродазнаўчая літаратура, выданні па земляробстве, хіміі, тэхніцы, гісторыі. 'Але галоўнай адзнакай шматграннай даследчыцкай дзейнасці і творчых пошукаў С. было пачуццё чалавечай годнасці і прына- [illegible]

[illegible] лерыйскай справе і [illegible] прадстаўнікоў, якія «адхрышчваюцца ад тэорыі і прынцыпаў цудоўнай матэматыкі» і лічаць ганьбай для піратэхнікапрактыка выкарыстанне тэарэм Архімеда, Эўкліда ці іншых славутых вучоных, С. піша: «Менавіта тут крыніца гэтай новай навукі — «псеўдамеханікі», невядомай у мінулых стагоддзях. Балюча мне толькі за тое, што ўзвышаная навука піратэхнікі не толькі зняважана тымі, хто яе выкарыстоўвае (кажу тут пра гэтых практыкаў без практыкі) і хто адабраў у яе былую славу і прыгажосць, якую ёй надалі яе першыя адкрывальнікі. Балюча мне, што гэтую навуку адарвалі ад правільнай асновы — матэматыкі і запіхнулі паміж звычайнымі рамёстамі». Ён выказваў пажаданне, каб быў прыняты спецыяльны закон, паводле якога спецыялісты-піратэхнікі не дапускаліся б да работы без ведання асноў дакладных і прыродазнаўчых навук

Сам С. дамогся рэальных поспехаў менавіта таму, што яго высновы грунтаваліся не на агульнафіласофскіх рэчах аб праблемах руху, а на тэарэтычнай і матэматычнай інтэрпрэтацыі артыманых ім доследных звестак. У гэтым дачыненні характэрнымі з'яўляюцца вынікі праведзеных ім доследаў па стральбе з гармат, зараджаных двума ядрамі, на аснове якіх ён фармулюе закон абсалютнага няпругкага сутыкнення аднолькавых па велічыні, форме і рэчывах целаў. «У цэлым жа, — піша С., — ніякі рух не знікае, а толькі ад аднаго прадмета пераходзіць да другога. Таму адно і другое целы будуць рухацца адначасова, аднак у два разы павольней, чым да гэтага». Амаль за 35 гадоў да ўвядзення Лейбніцам паняцця «кінетычнай энергіі», зыходзячы з назіранняў за работай майстраў-ракетчыкаў пры запаўненні порахам ракеты, С. прыйшоў да высновы, што пры аднолькавай вуглавой скорасці лінейная скорасць молата прапарцыянальна квадрату даўжыні ручкі першай ступені вагі. Сустракаюцца ў яго кнізе і тыпова схаластычныя разважанні, асабліва ў спробах тлумачэння з'яў і працэсаў, разуменне якіх ляжала далёка па-за межамі тагачаснай навукі. Але ад большасці сваіх сучаснікаў і папярэднікаў С. адрознівала паслядоўная апора на doслед, эксперымент пры вывучэнні і тлумачэнні з'яў, за якімі вядзецца назіранне. Так падыходзіў ён і да выкладання тэарэтычных палажэнняў і метадаў вызначэння калібру гармат, радыусаў і вагі ядраў у залежнасці ад матэрыялаў, да раскрыцця хіміі і тэхналогіі вырабу розных гатункаў пораху, спосабаў праверкі яго баявых якасцей і захоўвання. Глыбока аналізаваў С. метады разліку разнастайных тыпаў ракет, што выкарыстоўваліся і ў вайсковай справе, і на цывільныя патрэбы. Ён даў апісанне канструкцый і спосабаў вырабу некалькіх дзесяткаў тыпаў ракет, у т.л. ракет з хвастатымі стабілізатарамі-крыламі, ракет, якія запускаліся са спецыяльных станкоў і інш. Асабліва цікавыя для сучасных гісторыкаў навукі і тэхнікі звесткі пра састаўныя (вязкі ракет) і шматступенныя ракеты. Некаторыя з апісаных С. ракет былі вядомы яму з літаратурных крыніц, многія, у т.л. і шматступенныя ракеты,

прапанаваны ім упершыню. Да вывучэння канструявання розных тыпаў ракет ён падыходзіў гэтак сама, як і да іншых пытанняў, што разглядаліся ў кнізе, — не як рамеснік, а як вучоны-прыродазнавец, эксперыментатар і практык. Погляды С. на прычыны руху ракеты, паводле яго сведчанняў, павінны былі быць выкладзены ў другой, страчанай частцы кнігі «Вялікае мастацтва артылерыі». Тут ён меркаваў зрабіць экскурс у гісторыю старажытнай ваеннай тэхнікі, сучасных яму сухапутных і марскіх гармат, апісаць працэс іх абслугоўвання, выкарыстання і способы абароны ад нападу праціўніка, архітэктурныя формы і тэхналогію пабудовы артылерыйскай тэхнікі. Згадваў ён і пра намер прысвяціць спецыяльны раздзел свайму новаму вынаходству, «у якім змешчаны ўсе нашы веды» і якое «перасягае шмат якія іншыя прыстасаванні і замяняе іх усе». Мяркуючы па ўсім, С. была вынайдзена аптычна-механічная прылада накшталт нівеліра, бусолі ці кіпрэгеля універсальнага характару. Ён меўся таксама разабраць шмат якія геаметрычныя праблемы, астранамічныя і геаграфічныя пытанні. «Як толькі ўсё гэта, — пісаў С., — у адпаведных месцах дойдзе да свядомасці кожнага, тады адбудзецца вера ў мае словы». Навуковыя працы і эксперыменты С. на многія гады прадвызначылі шляхі развіцця еўрапейскай артылерыі, былі з вялікай цікавасцю і ўвагай сустрэты ў Еўропе. А яго гуманістычны светапогляд, рашучае адмаўленне войнаў як найвялікшага няшчасця для чалавецтва служылі ўзорам высокай маральнасці і грамадзянскай адказнасці для многіх пакаленняў даследчыкаў і вучоных.

*Літ.:* Ивашкявичюс А. Казимир Семенович и его книга «Великое искусство артиллерии. Часть первая». Вильнюс, 1971; Цярохін С.Ф. Трактат аб артылерыі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. № 3; Бельскі А.М., Ткачоў М.А. Вялікае мастацтва артылерыі: Казімір Семяновіч. Мн., 1992. *М.А.Ткачоў.*

## СІМЯОН ПОЛАЦКІ

(сапр. Самуіл Гаўрылавіч Пятроўскі-Сітніяновіч, у манастве Сімяон; 1629—25.8.1680)



Беларускі і рускі пісьменнік, філосаф-асветнік, педагог, тэолаг, грамадскі і царкоўны дзеяч. Паходзіў, як мяркуюць даследчыкі, з купецкага саслоўя. У архіўных «роспісах двароў-палачан» род Пятроўскіх пазначаны поруч са Скарынамі і Цяпінскімі. Пачатковую адукацыю атрымаў у Полацку. Першым яго настаўнікам мог быць вядомы беларускі педагог і пісьменнік І.*Іяўлевіч*. У пач. 1640-х гадоў — студэнт Кіева-Магілянскай школы (пазней акадэміі), дзе сярод яго настаўнікаў былі выдатныя ўкраінскія вучоныя і пісьменнікі Пётр Магіла (заснавальнік школы і яе першы рэктар), Л.Барановіч, І.Гізель. У Кіеве атрымаў званне «дыдаскала» (настаўніка). Пазней, як мяркуюць даследчыкі, вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Захаваліся яго канспекты курсаў лекцый віленскіх філосафаў і тэолагаў А.*Каяловіча*, Л.Рудзінскага і інш. У Вільні

С.П. вывучаў рыторыку, тэарэтычную і практычную паэтыку, натурфіласофію і этыку. Рыторыку выкладаў вядомы прафесар С.*Лаўксмін*, а курсы паэтыкі і антычнай культуры грунтаваліся на фундаментальных працах новалацінскага паэта і тэарэтыка літаратуры М.*Сарбеўскага*. Акрамя роднай беларускай мовы, ён дасканала ведаў лацінскую, польскую і царкоўнаславянскую мовы, пісаў на гэтых мовах вершы, прамовы, навуковыя трактаты. На думку некаторых даследчыкаў (В.Былінін і інш.), у віленскі перыяд С.П. ўступіў ва уніяцкі ордэн Васіля Вялікага і стаў базыльянінам. Уніяцтва ў той час замацавалася на Беларусі, яго прыхільнікі па-свойму імкнуліся пераадолець рэлігійны раскол беларусаў на праваслаўных і католікаў, карысталіся беларускай моваю. Напачатку беларускія і ўкраінскія уніяты трапілі ў залежнасць ад каталіцызму. Аднак паводле ўмоў Брэсцкай уніі 1596 яны захавалі царкоўную аўтаномію і абрад паводле праваслаўнага чыну. Гэта дазволіла беларускім уніятам (а сярод іх было нямала аўтарытэтных рэлігійных, палітычных і культурных кіраўнікоў Беларусі) у 17—18 ст. наблізіць хрысціянскую царкву да беларускай нацыянальнай культуры. Як высокаадукаваны настаўнік і пісьменнік, С.П. аднолькава добра ведаў славянскую і заходнееўрапейскую культуры і імкнуўся да іх сінтэзу. Яго магла захапіць ідэя экуменізму — праграма з'яднання ўсіх хрысціянскіх цэркваў, але паэт ніколі не адмаўляўся ад праваслаўнага хрышчэння, і «базыльянства» не перашкодзіла яму быць лаяльным дзеячам праваслаўнай рускай царквы ў Маскве.

У час вучобы С.П. ў Кіева-Магілянскай школе (на ўзор езуіцкіх школ яна называлася калегіяй, мела 8 класаў: 4 малодшыя, 2 сярэднія і 2 старэйшыя) выкладаліся славянская, грэчаская, лацінская і польская мовы, граматыка, тэарэтычная і практычная рыторыка, паэтыка, у т.л. практыка вершаскладання, філасофія, арыфметыка, геаметрыя, астраномія, музыка, багаслоўе. У канцы навучальнага года наладжваліся публічныя дыспуты, на якіх студэнты выступалі з «казаннямі» на роднай мове і на латыні, чыталі напісаныя пад кіраўніцтвам настаўнікаў вершы, спрачаліся на філасофскія і багаслоўскія тэмы.

У 1-й палове 1650-х гадоў С.П. вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Якраз тады (1654) пачалася вайна Расіі з Рэччу Паспалітай, якая працягвалася з перапынкам да 1667 і закончылася Андрусаўскім перамір'ем, паводле якога да Расіі былі далучаны Левабярэжная Украіна і Смаленшчына, а Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага засталася ў Рэчы Паспалітай. У такіх трагічных умовах закончыўся беларускі перыяд творчасці С.П. Быў у яго і больш ранні, вучнёўскі этап творчасці, які прыпадае на дзесяцігоддзе вучобы ў Кіеве і Вільні (1643—53). Пісаў тады паэт на старабеларускай, старапольскай і лацінскай мовах. Большасць польскіх і лацінскіх яго вершаў належаць да т.зв. школьнай паэзіі: гэта «перакладыроўка» тагачаснай універсітэцкай навукі і маральнай філасофіі ў сістэму сілабічнай паэтыкі барочнага кірунку. Тады паэтычны талент пісьменніка выявіўся пераважна ў свецкай тэматыцы, у кантрастнай вобразнасці, спецыфічнай для паэтычнай культуры барока «паэтычнай дасціпнасці», якую даследаваў Сарбеўскі ў трактаце «Пра дасціпнасць і жарт» (1622—27).

**Сярод вядучых матываў школьнай паэзіі была вершаваная арыфмалогія — паэтыка-сімвалічнае тлумачэнне лічбаў, пераважна сакральных (3, 4, 7, 12 і інш.). Праграмны твор С.П. з арыфмалагічнага цыкла — верш «Сем вызваленых навук» — паэтычнае апісанне гуманітарнага «трывіума» (граматыка, дыялектыка, рыторыка) і «квадрывіума» (арыфметыка, геаметрыя, астраномія, музыка). Граматыка як пачатак усіх навук адчыняе «браму мудрасці». Пад дыялектыкай тады разумелі фармальную логіку, майстэрства спрэчак і доказаў. На думку пісьменніка, яна пачалася творчасцю філосафа Платона (428—348 да н.э.) і лічылася «маці ўсім навукам». Пад арыфметыкай мелася на ўвазе антычная піфагарыйская прагностыка, або прадбачанне на падставе сімвалічнага тлумачэння лічбаў. Геаметрыя вымярае даўжыню і вышыню «да самага неба». Астраномію ў позніх схаластаў замяніла астралогія — вызначэнне па зорках і планетах лёсу чалавека і грамадства. Нарэшце, музыка далучала да гармоніі і навучала «сімфоніі» — узгадненню гукаў, слоў і музычных ладоў.**

Каля 1656 С.П. вярнуўся ў родны Полацк, прыняў праваслаўнае манаства



*Маскоўскі Крэмль. З гравюры П.Пікара (каля 1707).*

і настаўнічаў у брацкай школе пры Богаяўленскім манастыры. Чалавек па натуры дзейсны, працавіты, ён выкарыстаў усе магчымасці для грамадскага і літаратурнага самавыяўлення. Былі ў яго жыцці хвіліны адзіноты і тугі, і тады пісаліся вершы-маленні з элегічным настроем. Напр., у «Малітве ў час смутку» паэт просіць Бога вызваліць яго ад цяжкіх клопатаў і напасцяў. З прыходам С.П. вакол Богаяўленскага манастыра згуртаваліся таленавітыя пісьменнікі, сярод іх і ранейшыя яго настаўнікі — іераманах Філафей Утчыцкі, Ігнацій Іяўлевіч, здольныя выхаванцы іх школы Васіль Яновіч, Сава Капусцін і інш. Гэта была, па сутнасці, полацкая школа беларускіх літаратараў і настаўнікаў, якая магла сапернічаць з тагачаснай Полацкай езуіцкай калегіяй.

С.П. больш стараўся для праваслаўнага брацтва, аднак прытрымліваўся талерантнасці, ухіляўся ад крытыкі каталіцызму, імкнуўся да ўзгаднення дагматычных разыходжанняў. Пісаў ён пераважна па-беларуску, кніжным урачыстым стылем, набліжаным да царкоўнаславянскай мовы. Характэрная рыса яго паэтычных твораў полацкага перыяду — патрыятызм, любоў і пашана да свайго народа, да роднага горада і краю. Сярод твораў на гэту тэму элегічная малітва пра забранне цудатворнага абраза Багародзіцы з Полацка ў Маскву (1663), «Прылог да прападобнай маці Ефрасінні» (1663), у якіх паэт просіць святую заступніцу Беларусі дапамагчы вярнуць «в страну Полотскую» народную святыню. Амаль што апакаліпсічны ваенны «патоп» 1650—60-х гадоў, рэлігійная вайна, казацка-сялянскія паўстанні, пагроза захопу шведамі Беларусі і Літвы пахіснулі веру С.П. ў стабільнасць Рэчы Паспалітай. Пісьменнік пачаў ускладаць надзеі, што яго Радзіму выратуе палітычны саюз з Расіяй. Таму, калі ў ліп. 1656 маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч прыбыў з войскам у Полацк, ён вітаў яго хвалебнымі «метрамі» — тэатралізаванымі сілабічнымі вершамі, якія зачыталі вучні паэта, праслаўляючы «вызваліцеля» беларускай зямлі, спадчынніка «польскай кароны». Пазней у тым жа панегірычным стылі ён напісаў «Вершы да гасудара Аляксея Мі-

хайлавіча Вялікія і Малыя і Белыя Русі самадзержца», «Вершы да гасударыні царыцы», «Вершы да гасударa царэвіча» і іншыя ўрачыстыя хваленні. Пра патрыятызм пісьменніка, якога ніколі не пакідала любоў да сваёй радзімы — Беларусі і Рэчы Паспалітай, сведчаць 2 яго польскамоўныя сатырычныя паэмы — «Роспач караля шведскага» і «Шведскі кароль шукае сваіх афіцэраў» (каля 1657—60). Ў гэтых таленавітых памфлетах выкрывалася заваёўніцкая авантура Карла Густава X, які ў сярэдзіне 17 ст. хацеў падзяліць Рэч Паспалітую, прыкрываючыся уніяй Швецыі і Вялікага княства Літоўскага. Вайна скончылася поўным паражэннем шведскай арміі. Гэтыя і іншыя творы беларускага перыяду (камічная дэкламацыя «Вітанне богалюбівага епіскапа Касліста Полацкага і Віцебскага...», «Лякарства на грахі», «Вершы ўцешныя да асобы адзінай») сведчаць, што ён карыстаўся выяўленчымі сродкамі народнага смеху — гратэскам і травестацыяй. Адначасова С.П. выявіў свой паэтычны талент у жанрах пастаралі (калядная вершаваная драма па матывах Евангелля ад Лукі «Гутаркі пастухоўскія»), оды («Вершы да гасударa цара Аляксея Міхайлавіча...», «Вершы да гасударыні царыцы», «Вершы да гасударa царэвіча», «Прывітанне нованароджанай царэўне Марыі», «Віншаванне новаабранаму патрыярху»), элегіі («Малітва ў смутку», на польск. мове).

Зімой 1664 С.П. прыняў запрашэнне пераехаць у Маскву. Меркаваў, што часова, а сталася — назаўсёды. Яму было даручана стварыць пры адным з маскоўскіх манастыроў лацінскую школу для падрыхтоўкі служачых Тайнага прыказа — асабістай канцылярыі цара. Пісьменніка пасялілі побач з царскімі палатамі і залічылі на дзяржаўнае забеспячэнне. Ён стаў разам з вучоным візантыйцам Паісіем Лігарыдам дарадцам цара па царкоўных справах, перакладчыкам і рэдактарам. Яго запрашалі на прыдворныя ўрачыстасці, дзе паэт чытаў свае віншаванні ў вершах. Калі ў 1665 у цара нарадзіўся сын Сімяон, паэт з гэтай нагоды напісаў верш «Добрае прывітанне» («Благоприветствование») у вытанчанай форме барочнай паэтыкі. Уплыў паэта на царскі двор асабліва ўзмацніўся пасля 1667, калі ён быў прызначаны выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей. Росту яго аўтарытэту садзейнічала актыўная палеміка з ідэолагамі стараабрадцаў і ўдзел у Вялікім царкоўным саборы (1666—67), які асудзіў патрыярха Нікана за тое, што той самавольна пакінуў патрыяршую пасаду з прычыны нязгоды з прэтэнзіямі вярхоўнай свецкай улады на кіраўніцтва праваслаўнай царквой. На саборы С.П. быў сакратаром і перакладчыкам мітрапаліта Паісія Лігарыда і двух усяленскіх патрыярхаў (александрыйскага і антыяхійскага). Па іх даручэнні ён напісаў супраць арганізатараў расколу палемічны трактат «Жазло праўлення» (1667).

У тым жа 1667 С.П. ўдзельнічаў у стварэнні палемічнага трактата супраць стараавераў пад назвай «Абвяржэнне чалабітнай папа Мікіты». Аўтары трактата прапанавалі таксама асветніцкую праграму, якая прадугледжвала адкрыццё на Русі школ. Услед за Скарынам яны раілі сваім суайчыннікам браць прыклад са старажытнага цара-кніжніка Пталамея, адкрываць у Маскве бібліятэкі. У дачыненні да старавераў С.П. і яго аднадумцы не заўсёды былі справядлівыя, бо часам выступалі з пазіцый праціўнікаў «іншадумання». Галоўны клопат беларускага пісьменніка ў Маскве — педагагічныя, асветніцкія і выдавецкія справы. Яму ўдалося ажыццявіць сваю даўнюю мару — заснаваць пры царскім двары («наверсе») т.зв. «Верхнюю друкарню», незалежную ад патрыяршай цэнзуры. Сярод першых надрукаваных у ёй кніг падручнік для дзяцей «Буквар мовы славенскай». У той час грамаце вучыліся звычайна па біблейскім зборніку гімнаў і песняў, вядомым пад назвай «Псалтыр». С.П. пераклаў яго сілабічнымі вершамі і выдаў у друкарні пад назвай «Псалтыр рыфматворны». Гэты твор стаў папулярным песеннікам у асяроддзі тагачасных адукаваных людзей.

За палітычнай і царкоўнай барацьбой пісьменнік не забываў пра сваё наканаванне — літаратурную творчасць. Амаль штодзённа ён пісаў палову сшытка вершаў, п'ес, твораў прамоўніцкай прозы. Яго царкоўныя «словы» і казанні служылі падручнікам


Букварь ѧзыка славенска, сиречь начало оучениѧ детем, хотѧщым оучитисѧ чтению писаний: Повелением благочестивейшагѡ великагѡ гдрѧ нашегѡ црѧ, и великагѡ кнзѧ Ѳеодѡра Алеѯиевича, всеѧ великиѧ, и малыѧ, и белыѧ рѡсии самодержца:

*«Буквар» Сімяона Полацкага. 1679. Тытульны ліст.*

для рускіх епіскапаў і святароў ніжэйшых званняў. Яны склалі рукапісныя зборнікі С.П. пад назвай «Абед душэўны» (1675) і «Вячэра душэўная» (1676). Кожны том — больш як 1500 старонак, што сведчыць пра надзвычайную працавітасць аўтара. Гэта быў узор высокага прамоўніцкага мастацтва ва ўсходнеславянскім рэгіёне, а таксама ўзор барочнай дасціпнасці і кантрастнай вобразнасці. Зборнік вершаў «Вертаград мнагацветны» (у перакладзе на сучасную мову — «Сад шматколерны») на той час служыў для рускай публікі сапраўднай энцыклапедыяй ведаў па гісторыі, антычнай міфалогіі, натурфіласофіі, касмалогіі, тэалогіі, маралі і хрысціянскай сімволіцы. Адначасова ў 1678 ён падрыхтаваў другі вялікі зборнік сілабічных вершаў «Рыфмалагіён, або вершаслоў», які складаўся пераважна з хвалебных эпіграм, панегірыкаў і элегічных фрэнаў (плачаў), напісаных «на выпадак». Ёсць у ім і буйныя творы новага для тагачаснай Расіі драматычнага жанру — п'есы «Камедыя прытчы пра блуднага сына» і трагедыя «Пра Навуходаносара цара...». З яго драматургіі ў Расіі пачынаўся прафесійны тэатр. Цыкл вершаў пад назвай «Фрэны, або Плачы» на смерць расійскай царыцы Марыі Ільінічны — адзін з лепшых твораў паэта.

Службу пры маскоўскім двары С.П. пачаў перакладчыкам і не пакідаў занятак да канца жыцця. Перакладаў з латыні і польскай мовы, літаратурна апрацоўваў папулярныя тады свецкія і царкоўныя творы. Пасля смерці ў 1675 яго былога настаўніка, галоўнага «спраўшчыка» (рэдактара) царкоўных кніг пры маскоўскім двары *Э.Славінецкага*, С.П. падключыўся да перакладу на рускую мову Бібліі. Ён быў пачынальнікам таго творчага перакладу, у якім дакладнасць спалучалася з літаратурным майстэрствам. «Грэкафілы» (пісьменнікі і царкоўныя дзеячы грэка-візантыйскай арыентацыі) не давяралі «лаціністу» і «заходніку» С.П., хоць паважалі яго талент і энцыклапедычную адукаванасць. Але гэтыя рознагалоссі не перашкаджалі яго дружбе са Славінецкім. На смерць свайго настаўніка С.П. напісаў 5 «эпітафій», упершыню ў беларускай і рускай літаратуры скарыстаўшы гэты вершаваны жанр. Вось адна з іх:

Здесь лежит честный отец Епифаний, // наследник правый священных писаний, // в многих языцех мнози его труди, // за что вечная память ему буди.

Сярод яго багаслоўскіх прац арыгінальнасцю вызначаецца кніга «Вянец веры кафаліцкія» (1670), гэта значыць веры сусветнай, якой лічыцца праваслаўе. Яна, відаць, была багаслоўскім падручнікам для царскіх дзяцей, вучняў пісьменніка. Гэтым творам зацікавілася царэўна Софія (1654—1704). Захаваўся верш, прысвечаны ўручэнню рукапіснай кнігі вялікай князёўне Софіі Аляксееўне. Гэта тыповы панегірык, верш-хваленне, у якім дасціпна выкарыстана семантыка яе імя (Софія ў перакладзе з грэчаскай — мудрасць).

Відавочна, што літаратурная і агуль-

накультурная праграма полацкага асветніка, накіраваная на кампраміснае далучэнне Расіі да еўрапейскага культурнага рэгіёна, паступова перамагала. На дварцовых абедах яго нярэдка садзілі на ганаровым месцы недалёка ад цара Аляксея Міхайлавіча, бацькі 12 дзяцей, выхаваннем і навучаннем якіх кіраваў «старац Сімяон». Захаваліся цікавыя запісы ў расходных кнігах «Казённага прыказа» (ведамства дзяржаўнай маёмасці), сярод якіх запіс пра багаты падарунак ад царэвіча Аляксея Аляксеевіча за яго працавітасць і самаахвярнасць. У Маскве ў адной сваёй асобе ён быў і «міністрам культуры», і «міністрам адукацыі», які сам «загадваў і сам жа выконваў загады». Адносіны паміж маскоўскімі артадоксамі і «лацiністамі», выхадцамі з Беларусі і Украіны, часта ўскладняліся. Патрыярх Іакім скардзіўся, што цар даручыў С.П. «всякая церковная дела писати». Справа даходзіла да канфліктаў з трагічным фіналам, пра што сведчыць лютае забойства стральцамі брата С.П., манаха Трубчэўскага манастыра Ісакія, якое адбылося ў 1674 ці 1675 у манастыры неўзабаве пасля вяртання Ісакія з кіеўскага паломніцтва. За год да смерці С.П. працаваў над праектам рускай вышэйшай школы на ўзор Кіева-Магілянскай акадэміі. Мелася на ўвазе выкладанне ў ёй не толькі грэчаскай мовы і багаслоўя, але дасягненняў еўрапейскай гуманітарнай навукі і культуры, лацінскай мовы і натурфіласофіі. Пісьменнік памёр на 51-м годзе жыцця.

Літаратурная, багаслоўская і навукова-асветніцкая спадчына С.П. шматгранная і не перастае здзіўляць даследчыкаў сваёй энцыклапедычнасцю. Сам пісьменнік паспеў надрукаваць толькі некаторыя свае творы.

Два вялікія зборнікі вершаў — «Рыфмалагіён», або «Вершаслоў» і «Вертаград мнагацветны» падрыхтаваны ім да друку. Энцыклапедычныя зборнікі яго царкоўна-хрысціянскіх «слоў» і «казанняў» («Абед душэўны» і «Вячэра душэўная») пасля смерці пісьменніка выдаў у 1681 і 1683 яго паслядоўнік і сакратар С.Мядзведзеў (1641—91). У 18—19 ст. зрэдку друкаваліся асобныя творы С.П. ў розных навуковых зборніках, якія даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, як і зборнікі і хрэстаматыі, дзе былі змешчаны асобныя творы паэта. У 1990 выд-ва «Мастацкая літаратура» ўпершыню апублікавала большасць вершаў паэта беларускага перыяду і частку твораў маскоўскага перыяду, якія былі вядомы толькі па рукапісных зборах.

Літаратурная спадчына С.П. была ля вытокаў беларускага і рускага барока — асноўнай плыні ў эстэтыцы і мастацкай культуры 2-й паловы 17 — 1-й паловы 18 ст. ва ўсходнеславянскім рэгіёне (у заходнееўрапейскім мастацтве барочны стыль выявіўся ў канцы 16 ст.). Тэарэтыкам барока ў Польшчы, Літве і на Беларусі ў яго заходнееўрапейскім, адносна закончаным, варыянце быў Сарбеўскі. У творчасці ж С.П. і яго паслядоўнікаў сфарміраваўся нацыянальны самабытны ўсходнеславянскі тып барочнай культуры, які грунтаваўся на двайным сінтэзе: спалучэнні сярэдневяковых і рэнесансавых ідэалагічных арыентацый і духоўных каштоўнасцей, з аднаго боку, і кампрамісе паміж праваслаўна-візантыйскім традыцыяналізмам і лаціна-еўрапейскім навуковым рацыяналізмам, з другога. На Беларусі С.П. працягваў традыцыі незакончанай эпохі Адраджэння, а ў Расіі ён мог абаперціся толькі на традыцыі старажытнарускай сярэдневяковай культуры і на пэўныя мясцовыя традыцыі сілабічнай паэзіі. На станаўленне яго як паэта значны ўплыў зрабіла і польская літаратурная традыцыя. У светапоглядных і эстэтычных адносінах яго творчасці была неаднародная. Яна адлюстравала познабеларускі рэнесансавы гуманізм, усходнеславянскі тып барочнай мастацкай культуры і станаўленне рускага класіцызму ў 1670-я гады. Сілабічная сістэма вершаскладання надавала яго шматжанравай паэзіі адноснае стылістычнае адзінства.

С.П. — класічны паэт-сілабіст ва ўсходнеславянскай паэзіі 17 ст. Ва ўсіх сваіх вершаваных творах — беларускіх, польскіх і рускіх, у дыдактычнай школьнай, сатырычнай, лірычнай і драматычнай паэзіі ён паслядоўна прытрымліваўся дакладнай сілабікі. У дыдактычных вершах, прызначаных для папулярызацыі навукі, паэт займаў кампрамісную пазіцыю паміж навукай і багаслоўскай схаластыкай. Ён грунтоўна ведаў антычную і сярэдневяко-

вую натурфіласофію, меў у сваёй хатняй бібліятэцы філасофскія і літаратурныя творы Цыцэрона, Эразма Ратэрдамскага, Фамы Аквінскага, даследаванні па касмалогіі, медыцыне, мінералогіі, фізіялогіі і астраноміі.

С.П. быў адным з паслядоўнікаў філосафа і вучонага, заснавальніка еўрапейскай астралогіі Альберта Вялікага (1193—1280). У каталогу яго хатняй бібліятэкі пазначаны «книга Альберта, ведение философское», а таксама «книга астрологическая, латинская». Цікавіўся ён і астралогіяй. Віншавальныя вершы, паднесеныя царскай сям'і ў дзень хрышчэння царэвіча Пятра Аляксеевіча (29.6.1662), сведчаць пра майстэрства ў жанры астралагічнай паэзіі: ён напісаў верш-гараскоп будучаму цару, прадказаўшы яго вялікую будучыню. Гэта дае падставу меркаваць, што С.П. быў знаёмы з творамі французскага паэта-астролага М.Настрадамуса (1503—66). Пашыраючы прыродазнаўчыя веды, С.П. часам выкрываў народныя прымхі і забабоны, напісаў супраць іх асобнае казанне пад назвай «Павучанне супраць забабонаў». Пісьменнік не прызнаваў народную «гіпнозатэрапію» — лячэнне «шэптамі» і «загаворамі». Праўда, ён аргументаваў сваю крытыку не навуковымі, а маральна-рэлігійнымі аргументамі. Выкрываў ён і рэшткі язычніцтва: у асяроддзі невуцтва «Христос изгоняется, а баба пустоголовая вводится, тайна святого крещения попирается, диавол ликует».

У 2-й палове 17 ст. ў Расіі ўзмацніліся ганенні на скамарохаў, народныя абрады, карнавалы, інш. святочныя «пацехі» — песні, карагоды, варажбу і «чарадзейства», выдаваліся строгія царскія ўказы супраць «язычніцкай нялепіцы». Улады праследавалі народных музыкантаў і артыстаў, адбіралі і палілі музычныя інструменты, разам з «прымхамі» адкідалі народную карнавальную культуру, якая заўсёды была «генератарам» фальклору. Як асветнік і гуманіст С.П. не спачуваў гвалтам, выступаў за мірнае, асветнае ўздзеянне на «цёмныя» масы. Але не заступаўся за пакрыўджаных, бо не бачыў карысці ад народных «гульбішчаў», адносіў іх да «забабонаў». Выкрываючы чарадзеяў і знахараў, ён падтрымліваў лекарскае майстэрства, прафесію ўрача. Сімпатыі да лекарскай прафесіі выявіліся ў яго зб. вершаў «Вертоград многоцветный». У яго бібліятэцы былі кнігі, пазначаныя ў каталогу кароткімі анатацыямі: «книга врачебная», «книга докторская, на польском языке», «книга о здравии, или естестве», «книга анатомия», сярод «лекарскіх кніг» у яго бібліятэцы быў і «траўнік польскі». Асуджаючы знахароў, ён паважаў традыцыйную народную медыцыну. У вершы «Паклёп» апавядаў пра мудрую жанчыну, якая лячыла травамі.

Філасофскія і эстэтычныя погляды С.П. грунтаваліся на хрысціянскіх духоўных каштоўнасцях іх гуманістычнай інтэрпрэтацыі. Але яны адлюстравалі і тагачасныя супярэчнасці. Размяжоўваючы «ўнутраную» і «вонкавую» мудрасць, рэлігію і навуку, ён імкнуўся да кампрамісу паміж пазнаннем і верай, што было тыповай адзнакай усходнеславянскай барочнай культуры. У цэнтры яго ўвагі заўсёды былі праблемы чалавека і яго маральнае аблічча. Найперш яго цікавіла ўсё, што карысна для душы чалавека, а не тое, што першаснае — матэрыя або ідэя. Для паэта духоўныя каштоўнасці заўсёды вышэйшыя за матэрыяльныя. І сама каштоўнасць чалавека, яго прыгажосць залежаць ад таго, які з гэтых пачаткаў пераважае ў штодзённым жыцці — духоўны ці матэрыяльны. Калі духоўны пачатак падпарадкоўвае сваёй уладзе прыроднае, матэрыяльнае быццё, то чалавек узнімаецца на высокую ступень божай красы. Гэта якраз тая ступень эстэтычнай іерархіі, якая сёння абазначаецца катэгорыяй узнёслага; наадварот, панаванне матэрыяльнай, «цялеснай» стыхіі ў жыцці людзей часта штурхае да агідных учынкаў.

Гістарычнае значэнне літаратурнай і філасофска-асветніцкай спадчыны С.П. ў духоўным развіцці ўсходнеславянскіх народаў тлумачыцца геапалітычным станам яго радзімы ў 14—17 ст., а таксама асаблівасцямі яго таленту як пісьменніка і мысліцеля. Беларусь у тагачаснай Еўропе была месцам сустрэчы двух тыпаў хрысціянскай цывілізацыі — заходняй, рымска-каталіцкай, і ўсходняй, славяна-расійскай, візантыйска-праваслаўнай. Суадносіны паміж імі не былі адназначныя і ваганіся ад канструктыўных кантактаў да сутыкнення і ўзаемнага адмаўлення. У канцы 16—17 ст. ў выніку палярызацыі двух ідэалагічных сістэм і палітычных сіл гэтыя супярэчнасці абвастрыліся. З аднаго боку, адбывалася станаўленне Расійскай імперыі, якая прэтэндавала на ўсходнеславянскую спадчыну і геапалітычнае першынство ва Усходняй Еўропе пад дэвізам «Масква — трэці Рым». З другога боку, пасля крызісу рэ-

фармацыйнага руху ў Еўропе каталіцызм імкнуўся вярнуць сабе страчаныя пазіцыі, абапіраючыся на езуітаў, на каталіцкія імперыі і Польскае каралеўства, дзе таксама ўзніклі тэндэнцыі да ўтварэння унітарнай дзяржавы за кошт былога канфедэрацыйнага саюзу з Беларуссю, Украінай і Літвой. Канструктыўным выхадам з гэтай тупіковай сітуацыі ўзаемнага абвінавачвання ў адыходзе ад сусветнага хрысціянства і схаваных за рэлігійна-ідэалагічным канфліктам геапалітычных амбіцый праваслаўнага і каталіцкага светаў мог быць толькі кампраміс: спачатку размежаванне «сфер уплыву», а пасля ўзаемапранікненне культур, сінтэз духоўных каштоўнасцей пры захаванні тыпалагічных асаблівасцей Усходу і Захаду, праваслаўя і каталіцызму, грэка-славянскай і рымска-каталіцкай разнавіднасцей хрысціянскай цывілізацыі. Ідэолагам гэтага рэлігійна-культурнага кампрамісу быў Пётр Магіла, прафесары і вучні створанай ім Кіева-Магілянскай калегіі, дзе сфарміраваўся С.П. як самабытны пісьменнік і асветнік трэцяй, кампраміснай арыентацыі. Яго творчасць, грамадска-палітычная і багаслоўская дзейнасць увабралі ў сябе праблемы і калізіі, характэрныя для працэсаў рэцэпцыі заходнееўрапейскай культуры ўсходнеславянскім светам.

Духоўны свет С.П. быў абумоўлены становішчам Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай і пэўным чынам «запраграмаваны» культурай барока як стылем эпохі. У яго светапоглядзе сумяшчаліся сярэдневяковы маральны рыгарызм і рэнесансавы эстэтызм; энцыклапедычная вучонасць гуманіста і еўрапейская неасхаластычная філасофія «накладваліся» на каноны славяна-візантыйскага праваслаўя. Традыцыйная для славяна-беларускага светапогляду арыентацыя на прыярытэт агульнанародных інтарэсаў (тэзіс Скарыны пра «паспалітае добрае») дапаўнялася напружаным адчуваннем каштоўнасці чалавечай асобы і зямнога быцця. Займаючы ў Маскве ключавую пазіцыю ў справе пашырэння заходнееўрапейскай культуры, папярэднік ідэолагаў асветнага абсалютызму эпохі Пятра І С.П. здолеў пераканаць кансерватараў-традыцыяналістаў пры двары Аляксея Міхайлавіча ў неабходнасці народнай адукацыі паводле еўрапейскага, школьна-універсітэцкага метаду, далучэння прыдворных да свецкай літаратуры, музыкі, тэатра.

Рэлігійная паэзія С.П. з яе біблейскім алегарызмам і рэнесансавай эрудыцыяй, шматлікімі вобразамі і алюзіямі з антычнай міфалогіі і літаратуры (»Вершы на Раство Хрыстова», «Вершы пра муку панскую...», «Вершы на Уваскрэсенне Хрыстова», «Гутаркі пастухоў...», польскія «Вершы ў Вялікую Пятніцу» і інш.) сведчаць пра яго артадаксальныя пазіцыі ў хрысціянскай тэалогіі, асабліва ў дачыненні да догматаў і фундаментальных праблем суадносін Бога і Чалавека, веры і пазнання, духа і матэрыі. Аднак наяўнасць у яго спадчыне шматлікіх фрагментаў антычнай культуры і натурфіласофскіх ведаў, лагічная і культурна-гістарычная аргументацыя асветных ідэй і канцэпцый збліжаюць беларускага пісьменніка з дзеячамі еўрапейскай культуры эпохі Адраджэння і барочнага Асветніцтва 17 ст. У праекце 1-га расійскага універсітэта ён звяртаў увагу на неабходнасць выкладання «натуральнай філасофіі», г.зн. асноў прыродазнаўства. Філасофію як навуку С.П. падзяляў на «разуміцельную» (логіку), «натуральную», або «фізіку» (прыродазнаўства), і маральную (этыку). У сваіх дыдактычных і асветніцкіх вершах ён даволі часта карыстаўся псіхалагічнымі аргументамі («Лякарства на грахі», «4 асноўныя тэмпераменты», «Вартавыя чыстаты», «Малюнак чалавечага жыцця», «Старайся выкараніць у пачатку» і інш.). Цыкл вершаў прыродазнаўчага зместу ён уключыў у энцыклапедычны зборнік «Вертаград мнагацветны». Пісьменнік часта выкарыстоўваў разнастайныя з'явы прыроды ў якасці хрысціянскіх сімвалаў, спасылаўся на прыродазнаўчыя кнігі антычных вучоных Арыстоцеля і Плінія Старэйшага. У астраноміі ён прытрымліваўся геацэнтрычнай сістэмы Арыстоцеля і Пталамея, хоць быў знаёмы з тэорыяй М.Каперніка.

У яго творчасці важнае месца займалі праблемы эстэтыкі. Крыніцамі яго эстэтычных поглядаў былі раннехрысціянская літаратура, антычная культура, фальклор. Суадносіны паміж імі неадназначныя — ад гармоніі да ўзаемнага адмаўлення. Дамінуе рэлігійна-хрысціянская, этычная канцэпцыя прыгожага і мастацтва, рэалістычная, пазбаўленая містыцызму плынь сярэдневяковай эстэтыкі, якая пазней увайшла ў гуманістычную тэа-

рыю мастацкай творчасці. З рэнесансавымі гуманістамі С.П. збліжае яго гомацэнтрычны светапогляд, паводле якога чалавек ёсць «мост» паміж матэрыяй і духам, прыродай і Богам. У сваім узнёслым казанні «Слова ў дзень Новага лета...» пісьменнік звяртаецца да слухачоў: «Кого ради солнце день творит, луна со звездами тму нощную озаряет? Ради человека. Кого ради сокровища злата и сребра, и камней честных в недрах земных, и бисеры в пучинах водных соблюдаются? Человека для. Паче же и ангелы, честнейшие естеством от человека, человеку на службу Богом уставишися... Яго же человек создан бысть Бога ради, да служит. Поставися убо человек в среде, да служит, и ему да служат, и все да востечет во добро человека... Разсмотряйте умы вашими, яко весь мир сей видимый... вас ради создася, и яко господская нейкая палата всяких утварей роды, всяческих сладостей, богатств и красот различием и обилием наполненная утвердися» («Вячэра душэўная»). Існаванне чыста духоўных «тварей» (істот) даказваў спасылкамі на антычных філосафаў, платонікаў і лагічнымі довадамі: «Ибо аще есть тварь весма плотская, и сложенная из плоти и духа, всячески нужда есть быти твари и чисте духовной» («Абед душэўны»). А калі духоўнасць ёсць у асобных істотах, з гэтага, паводле С.П., вынікае, што яна ёсць і ў сусвеце. Крыніцай духоўнай і пачуццёвай прыгажосці, сцвярджаў пісьменнік, з'яўляецца стваральнік свету Бог: «Аще любим красоту: что краснее есть Бога?.. Божией красоте дивится луна, и чюдится солнце, и бо та без конца паче всякую красоту всех вещей видимых и невидимых превосходит, нежели солнечное сияние всех звед блистание преодолевает». На гэтым тэзісе будаваў ён іерархічную сістэму прыгожага, паводле якой кожны больш высокі ўзровень быцця змяшчае ў сабе ўсе атрыбуты ніжэйшых узроўняў існавання: «Воистину убо совершеннейшая красота и всех красот украшение есть в Господе Боге. Всякая же созданная красота не точию по дробну, но и купно слученная, в сравнении с Божиею красотою есть яко капля едина противу всему океану, паче же и того меньше: ибо капли со океаном есть некое аще и нами непостижимое уравнение. Красоты же созданные с несозданною бесконечное есть разстояние». Гэтай несувымернасцю рэальнага адносна ідэальнага пісьменнік тлумачыць бясконцае імкненне чалавека ў вышыню, да нябеснай паўнаты быцця: «Оттуду убо есть, яко никоею красотою ум наш на земли довольствуется, но всегда лучших ищет, додеже достигнути ему оные красоты красот бесконечныя, яже едина желание наше насыщает и исполняет» («Абед душэўны»). Адрозніваў ён вонкавую матэрыяльную красу (сіметрыя, бляск, яркасць колераў, прыемная форма, мера) і духоўную прыгажосць. Суадносіны паміж імі неадназначныя. Яны могуць быць нейтральныя як рэчы рознага парадку. Пачуццёвая прыгажосць бывае вонкавым выяўленнем духоўнай. Вонкавая прыгажосць можа сведчыць не пра свет божы, а д'ябальскі, тады яна пераходзіць у сваю процілегласць — «скараднасць» (агіднае) і «мерзасць» (нізкае). Прызнаваў ён і карысць «цялеснай» красы. Але ў пагоні за прыгажосцю рэчаў людзі часта трацяць прыгажосць духоўную, божую, як гэта сталася з нашымі праайцамі Адамам і Евай. Не пахваляйся, заклінаў ён чытачоў, сілаю, маладосцю і красою, без любові і дабра яны часта прыкрываюць зло і агіду. Няхай хрысціянскія жанчыны «во укращении лепотном со стыдением и целомудрием, да украшают себя не во трефлении волос, ни златом, ни бисером или ризами многоценными», а добрымі справамі, а мужы няхай клапоцяцца аб прыгажосці душэўнай сваіх жонак і дочак, «да Богу красны будут, а не человеком». Вонкаваю, цялеснаю прыгажосцю, на яго думку, людзі надзелены не аднолькава. Але хто не мае ад прыроды «красноличия», няхай не бядуе, а падумае пра тое, што «красота спасает душевная, не телесная». Духоўная прыгажосць — маці «міласці» — у хрысціянскай любові да людзей. Свае думкі пра адноснасць прыгажосці зямной і несмяротнасць духоўнай ён выклаў у дыдактычным вершы «Прыгажосць»: «Аще тя красота лиц чуждых прелщает, // помяни, какова по смерти бывает... // Риза шелковая аще ти любися, // помни, шелк из червя скаредна родится... // Не шелком и златом

каждо красен буди, // но добродетели: ублажат тя люди... // Тленно благо красота, недолго блистает, // в един час огневица ону истребляет. // Многим красота лица погибель родила, // купно души с плотию смертно повредила». Звяртаючыся да сваіх вучняў і чытачоў, раіў ім: «Зря во зерцало, аще красна тебе зриши, // точне дела красная в мире да твориши: // Красная бо прекрасным дела подобляют, // скаредная же душу и плоть погубляют // Аще паки не красно лице ти узриши, // ту красотою нравов скудность да полниши//. Тако красен будеши. И во красном небе // красота превечная даруется тебе.»

Аднак сярод людзей нярэдка «доброта не зрится, красная риза паче человека чтится». Агіднае і нізкае часта скажае першастварэную паводле вобраза божага прыгажосць чалавека. Хоць пад вонкавай непрыгляднасцю часта хаваецца ўзнёслая краса. Агіднае ў жыцці шматаблічнае, яно найчасцей узнікае з грубага эгаізму і злой волі. Перамагаецца агіднае, як і ўсякае зло, толькі любоўю — найвышэйшай маральнай прыгажосцю. На пытанне, каго трэба любіць, ён адказваў: няхай ваша любоў будзе агульная да ўсіх, «кроме всякого возгляданія на лице, на достоинство, на красоту, на богатство». Трэба любіць і тых, хто крыўдзіць нас. Тут, на яго думку, мы павінны павучыцца ў прыроды, бо яна за «крыўды» аддзячвае дабром. Людзі «крыўдзяць» зямлю — рэжуць яе плугамі, раздзіраюць бараною, высякаюць дрэвы, забіраюць ураджай — а ў адказ зямля прыносіць нам усё новы плён і прыгажосць. Эстэтыка С.П. пераходзіць у этыку хрысціянскай любові, чалавечай салідарнасці: «Се что добро, или что красно, то еже жити братии вкупе». Ён прапанаваў своеасаблівую антыномію ўзнёслага: «Мал бе плотию, но велик духом... Мал бе количеством, но велик разумом... Мало убо телом, но высоко умом». Анёл (вобраз красы), які ўзвысіў сябе да неба, стаў д'яблам, скінутым у пекла (вобраз нізкага і агіднага), а Хрыстос прынізіў сябе, прыняў вобраз раба — і да неба ўзвысіўся.

Трагічнае пісьменнік тлумачыў як духоўнае адраджэнне і выратаванне праз пакуты і смерць. Праблема трагічнага здымаецца верай у немінучае ўваскрэсенне і вечнае жыццё. Зямное жыццё заўсёды трагічнае, затое і часовае, пераходнае. Усё, што створана на зямлі, пакутуе, пачынаючы ад былінкі і канчаючы чалавекам. Вось чаму плач больш да твару чалавеку, чым смех. Але плач няхай будзе «мерным и христианом подобным, не языческий». Ён прызнаваў маральную каштоўнасць трагічнага ў жыцці людзей, бо «многопечальных скорбей нападением высокоумных низлагаются мысли и гордокичливых могущественник мира суенадменныя смиряются сердца», а душы ачышчаюцца ад брыдкіх і нізкіх пачуццяў. Не хаваў ён ад сваіх чытачоў трагедыю штодзённага жыцця, дзе кожнаму наканавана несці свой крыж.

У шматжанравай літаратурнай спадчыне С.П. ёсць нямала твораў і фрагментаў з іх, дзе разглядаюцца ідэйна-філасофскія і эстэтычныя праблемы мастацкай творчасці — літаратуры, музыкі, жывапісу. У прадмове да зб. «Абед душэўны» ён, паводле прынятага тады этыкету, аддаваў перавагу праўдзе, а не красе і пераконваў чытачоў, што «удобе простое слово уразумеваемо есть в писании, неже красотами художественными покровенное». Красамоўна абгрунтоўваў ён думку пра духоўна-эстэтычную каштоўнасць музыкі, даказваў неабходнасць для царквы шматгалосых спеваў і «согласия органного», г.зн. гармоніі галасоў: «Яко царский вертоград многовидными украшается цветы, тако и невеста Христова, церковь, различными чтенми (чытаннямі) и пеюми (спевамі) благолепствуется... Грекове свой имеют обычай песнословия; болгари свой такжде... Малыя России жители особые имеют напевы. Наша паки Великая Россия свойственными прославляет Бога воспеванми. И тако в сем разноствии вели есть единство, и в единстве благолепое разнство...». Ладава-танальная разнастайнасць музыкі, адзначаў пісьменнік, дыктуецца яе выхаваўча-катарсічнай функцыяй; адзін лад спеваў «сердце в сокрушение приводит», другі — «ум от уныния освобождает», трэці весяліць, чацвёрты — «слезные из очес источники изводит». Антычную міфалогію С.П. называў мастацкай выдумкай, аднак прызнаваў яе дыдактычную і мастацкую каштоўнасць.

Паводле сярэдневяковай традыцыі ён карыстаўся паняццем мастацтва («художество») для абазначэння ўсякага прафесійнага ўмення і майстэрства, у т.л. рамяства. Аднак услед за рэнесансавымі гуманістамі адрозніваў «механічныя» віды «мастацтва» ад духоўнай творчасці, да якіх адносіў паэзію, музыку і іканапіс («вобразатворства»). Гуманістычная канцэпцыя мастацтва выявілася ў яго трактаце «Слова да шчырага іконнага пісання», якое, на думку даследчыкаў, было плёнам творчага супрацоўніцтва С.П. з расійскім жывапісцам С.Ушаковым. Аўтары «Слова» прапанавалі першую ва ўсходнеславянскім рэгіёне класіфікацыю выяўленчага мастацтва, узвысіўшы жывапіс да «сямі вольных мастацтваў» і нават на ўзровень вядучага («началодержательного») віду мастацкай творчасці. У вершы «Жывапісанне» паэт акцэнтаваў увагу на адпаведнасці мастацкіх вобразаў «правобразам» быцця — божага і прыроднага. Праблеме іканапісу ён прысвяціў некалькі красамоўных «слоў», што ўвайшлі ў зб. «Вячэра душэўная». Першым «вобразатворцам», на яго думку, быў Бог, калі стварыў дасканалы «твор» з нічога — увесь сусвет, адлюстраваў свой уласны вобраз у душах і на сэрцах людскіх. Ісус Хрыстос стварыў «на ўбрусе» першы нерукатворны абраз — свой уласны вобраз. «И егда поклоняемся образу Его Святому, не древу и не вапам, не средбру и злату, ниже бисером драгоценным покланяемся; но самому Господу Иисусу Христу... Честь по образу творимая на первообразное возносится». Абапіраючыся на рэнесансавую трактоўку язычніцкай міфалогіі і рэлігіі, у т.л., мабыць, на энцыклапедычны кампедыум Сарбеўскага «Багі язычнікаў» (Полацк, 1627, рукапіс), С.П. даказваў, што ідалы прыйшлі ў свет праз пакланенне продкам, радавым правадырам і абагаўленне з'яў прыроды. Што ж датычыцца іканаборцаў, якія адмаўлялі іканапіс на падставе «неапісальнасці» божай сутнасці, яе «неўмяшчальнасці» ў словах і вобразах, то ён абверг іх спасылкамі на пазнанне Бога-Стваральніка па яго стварэннях, увасабленні ў вобразе Хрыста, на рэлігійны вопыт, у якім божая сутнасць выяўляецца ў вобразах, сімвалах і прыпавесцях.

Прыгажосць, пераконваў ён, ёсць духоўная і душэўная «карысць» для людзей. Няма паэзіі без «красногласия», няма жывапісу, музыкі, разьбярства і дойлідства без гармоніі, прапорцыі і рытму. Паэзію ён параўноўваў з прыгожым садам, філасофію — з пчалой, што збірае «мёд мудрасці», не звяртаючы ўвагі на прыгажосць раслін і кветак. Прыгажосць царкоўнага мастацтва, на яго думку, неабходная для маральнага выхавання, бо праз яго ўздзеянне на душы людзей адбываецца выцясненне адмоўных афектаў станоўчымі пачуццямі: праз прыгажосць музыкі і слова незадаволеныя становяцца цярплівымі, гультаяватыя — працавітымі, гняўліўцы — лагоднымі, неразумныя — мудрымі, блудлівыя — чыстымі сэрцам. Багатая мастацкімі вобразамі біблейская кніга «Псалтыр» у вершаваным пераказе С.П. яшчэ больш «эстэтызавалася». Пераконвае ў гэтым параўнанне некалькіх фрагментаў «Псалтыра» царкоўнаславянскага зводу з адпаведнымі месцамі яго «сілабічнага» варыянта ў апрацоўцы С.П.: «Великолепие Твое превыше небес. — Ибо лепота твоя вознесется выше небесе... Положил еси на главе его венец от камене честна. — От тебе венцем глава честным украшается... Яко миросходящие на ометы одежды его. — И на риз ометы прекрасных цветы». Прасадычная структура сілабічнай паэтыкі, якая грунтавалася на ненаціскным вакалізме (пявучае вымаўленне складоў, слабая акцэнтацыя на націсканых галосных) перайшла ў «паэтычны сад» С.П. з традыцыйнай антычнай, фальклорнай і літургічна-хрысціянскай песенна-паэтычнай культуры. На яе грунце паэт імкнуўся прывіць беларускай і расійскай літаратуры свецкі паэтычны прафесіяналізм.

*Тв.*: Орел Российский. Спб.; 1915; Избр. соч. М., Л., 1953; Вирши. Мн., 1990.

*Літ.*: Татарский И. Симеон Полоцкий (Его жизнь и деятельность). М., 1886; Майков Л.Н. Симеон Полоцкий // Майков Л.Н. Очерки из истории русской литературы XVII и XVIII столетий. Спб., 1889; Пузікаў В.М. Новыя матэрыялы аб дзейнасці Сімеона Полацкага // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук, 1957. 4; Пушкарев Л. Симеон Полоцкий //

Жуков Д., Пушкарев Л. Русские писате XVII века. М., 1972; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Елеонская А.С. Русская публицистика второй половины XVII в. М., 1978; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстет. мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Званарова-Конан Л. Паэт, які адчыняў «вароты вучонасці» // Полымя. 1987. 5; Робинсон М.А., Сазонова Л.И. Заметки к биографии и творчеству Симеона Полоцкого // Рус. лит. 1988. 4; Званарова Л. Слоў і думак сейбіт // Беларусь. 1990. №10. *Л.У.Званарова, У.М.Конан.*

## СІТАНСКІЯ

Сям'я гродзенскіх музыкантаў і педагогаў.

Леан (каля 1745—1800) — скрыпач, дырыжор, педагог. Першы скрыпач і капельмайстар Гродзенскай капэлы А.*Тызенгаўза* (з 1765), кіраўнік Гродзенскай тэатральнай школы Тызенгаўза. У 1781 выступаў з канцэртамі ў Італіі. На думку сучаснікаў, быў выдатным музыкантам. Пад яго кіраўніцтвам Гродзенская капэла стала адной з лепшых у Еўропе. Жонка Леана Дарота, прыгонная Тызенгаўза і выхаванка яго балетнай школы, была танцоўшчыцай. Дачка Малгажата — спявачка, выступала пераважна ў камічных операх.

Барталамей (? — пасля 1785) — клавікардыст, педагог. Музыкант Гродзенскай капэлы Тызенгаўза ў 1776(?) — 81(?). Выкладаў ігру на клавікордзе, фагоце і скрыпцы ў Гродзенскай тэатральнай школе Тызенгаўза (працаваў у Гродне і Паставах).

Сымон (Шымон, ? — люты 1785) — музыкант. З 1771 працаваў у Гродзенскай капэле Тызенгаўза, выкладаў ігру на габоі і скрыпцы ў Гродзенскай тэатральнай школе Тызенгаўза. З 1781 у Нясвіжскай капэле Радзівілаў.

## СКАРУЛЬСКІ Антон (1715—80)

Філосаф. Вучыўся ў Вільні. Выкладаў філасофію ў Слуцку і Нясвіжы. Быў рэктарам Навагрудскага і Барскага езуіцкага калегіумаў, Віленскага шляхецкага калегіума. У 1772—74 рэктар Віленскай акадэміі, з 1774 — дэкан тэалагічнага факультэта. У 1755 выдаў у Вільні свой адзіны твор — «Каментарыі па філасофіі...». У ім выкладзены асноўныя філасофскія сістэмы Новага часу і адкрыцці ў прыродазнаўстве, прыведзены каштоўныя звесткі па астраноміі, механіцы і іншых галінах ведаў. Гэты твор доўгі час лічыўся падручнікам па філасофіі.

У вырашэнні светапоглядных праблем С. зыходзіў з неабходнасці ўзгаднення дасягненняў філасофіі і навукі Новага часу са схаластычнымі канцэпцыямі і тэалагічнымі догмамі. Некаторыя палажэнні сярэдневяковай філасофіі арыстоцелізму ён імкнуўся абнавіць і «мадэрнізаваць», але пагаджаўся з тымі, што атрыманы доследным шляхам. Ён пазбягаў агульных тэорый светапогляднага характару, а то і адмаўляў іх. Гэта выявілася ў адносінах да вучэння М.Каперніка, да атамізму, тэорыі першасных і другасных якасцей, праблем душы і інш. У «Каментарыях па філасофіі...» С. заяўляў: «Мы адмаўляем сістэму атамістаў у выкладанні Эпікура і выпраўленую Гасендзі, бо акрамя таго, што Эпікур недастаткова абгрунтоўвае непадзельнасць атамаў, здаецца, што абодва яны не маюць рацыі, калі прыпісваюць ім рухаючую сілу, нібыта ім метафізічна ўласцівую; бо ідэя актыўнай сілы звычайна проціпастаўляецца ідэі інертнай матэрыі — якую б яна ні мела будову і разнастайнасць; выводзіць усе станы толькі з адной будовы часціц было б нават няздручна». Сістэму Х.Вольфа С. называў такой жа далёкай ад ісціны, як і папярэднія сістэмы. Крытыкаваў ён і сістэму І.Ньютана, асабліва яго канцэпцыю пра сілы прыцяжэння і адштурхоўвання, і проціпастаўляў ёй перыпатэтычную канцэпцыю абсалютнай субстанцыянальнай формы. З пазіцый кананізаванага арыстоцелізму С. крытыкаваў філасофію Г.Лейбніца і П.Гесендзі. Гаворачы пра бясконцасць Сусвету, С. падкрэсліваў: «Існуе толькі адзін свет, а не мноства іх, як гэта ўяўлялася Дэмакрыту; і гэты адзіны свет не з'яўляецца бясконцым, як разам з Дэмакрытам думаў Эпікур, не з'яўляецца ён і неакрэсленым, як гэта паказваў Картэзій, змешваючы матэрыю з прасторай; ён абмежаваны пэўнымі межамі сваёй велічыні, заснаваны ў пэўны час». Усё гэта, на яго

думку, было вядома з рэлігійнай літаратуры, пацвярджалася лепшымі старажытнымі філосафамі, выключаючы аднаго Арыстоцеля, «які свету, на яго думку, даў вечнасць, чаго на самай справе не можа быць». Шмат хібаў знаходзіў С. у геліяцэнтрычнай сістэме М.Каперніка і сцвярджаў, што яна супярэчыць «фізічным аргументам і аракулам Святога Пісання».

У гнасеалагічных поглядах С. заўважаецца ўплыў сенсуалізму Дж.Лока. Ён лічыў, што рацыяналізм як метад пазнання не з'яўляецца універсальным, бо сапраўдныя веды даюцца і органамі пачуццяў. Паводле С., пазнанне навакольнай рэчаіснасці пачынаецца ў выніку ўздзеяння аб'екта на органы пачуццяў; узнікненне адчуванняў абумоўлена дзейнасцю нервовай сістэмы і мозга, але ўсякае пачуццёвае ўспрыманне лічыцца не толькі ўспрыманнем знешняга свету, але і «пакутай цела ад таго, што органы пачуццяў змяняюцца пад уздзеяннем знешняга цела». Падобныя погляды выказвалі К.*Нарбут* і Б.*Дабшэвіч*. Паводле С., любое адчуванне ўключае тры элементы: орган пачуццяў, уздзеянне, якое робіцца на яго, і здольнасць да ўспрымання гэтага ўздзеяння. Ён адзначаў, што адчуванні, выкліканыя ўздзеяннем знешніх аб'ектаў на нервовыя канцы, даюць уяўленне пра тое, што знаходзіцца ў знешніх целах і што сваім уздзеяннем можа абумоўліваць якую-небудзь змену ў органах пачуццяў, напрыклад, цяпло, холад, смак і г.д. Такім чынам, механізм узнікнення адчуванняў набываў у С. часткова картэзіянскае тлумачэнне, падобнае да апісання безумоўных рэфлексаў. Адначасова С. падкрэсліваў, што ідэі ні ў якім разе нельга змешваць з матэрыяльным вобразам рэчаў, што гэты вобраз з'яўляецца «цялесным і матэрыяльным» і служыць толькі матэрыялам для стварэння ідэй, якія «чыста духоўныя, бо яны з'яўляюцца чыстым станам розуму». Паводле С., матэрыяльны вобраз — гэта прадукт больш нізкай, падрыхтоўчай ступені пазнання (уяўлення); ідэя — гэта ўжо ўласна разуменне; увесь працэс пазнання — ад уздзеяння канкрэтных рэчаў на органы пачуццяў да разумення — вызначаецца як успрыманне. Матэрыяльны вобраз рэчы, узноўлены ў душы (розуме), адпавядае ўяўленню, ідэя адпавядае ўспрыманню, абодва гэтыя этапы аб'ядноўваюцца ў працэс разумення. С. не быў безагаворачным прыхільнікам тэорыі прыроджаных ідэй. Галоўную задачу пазнання ён бачыў у тым, каб вылучыць з матэрыяльных утварэнняў усеагульнае паняцце сутнасці, дамагаючыся гэтага пастаяннымі пошукамі ісцінных, выразных і пэўных ідэй ці іншых рэчаў. С. перасцерагаў ад легкадумнага, некрытычнага адмаўлення ўсялякай новай ідэі без папярэдняга апрабавання яе розумам. Эклектызм С. найбольш выразна праявіўся ў пытанні крытэрыя ісціны. Так, да дэкартаўскіх рацыяналістычных прынцыпаў выразнасці і дакладнасці ён дадаваў сенсуалістычнае палажэнне аб ролі пачуццяў у дасягненні выразнасці і дакладнасці пазнання, а таксама аўтарытэт Бога. С. лічыў, што нельга абараняць свае погляды, як і думкі іншых філосафаў, калі «гэтаму асабліва супраціўляецца розум», а «аўтарытэт святых айцоў хаця і трэба заўсёды цаніць высока, аднак для таго, хто растлумачвае чыста філасофскія рэчы, ён зусім не абавязковы». У «Каментарыях па філасофіі...» С. відавочная тэндэнцыя да адмаўлення схаластычных аўтарытэтаў, шмат крытычных заўваг зроблена па тэорыі прыроджаных ідэй і інтуітыўнага пазнання. І ў той жа час для С. свет — вынік тварэння Бога, існаванне цел ён тлумачыў як узаемадзеянне матэрыі і формы. Чалавека разглядаў у якасці псіхафізічнага быцця, душу — як асаблівую субстанцыю, а ўзаемадзеянне яе з целам тлумачыў у адпаведнасці з сістэмай «фізічнага ўздзеяння», створанай у Новы час французскім філосафам Турнемінам на аснове картэзіянскага дуалізму духу і матэрыі і таго, што душа размешчана ў адным участку цела — у мозгу. Па прыкладзе некаторых мысліцеляў Новага часу да трох традыцыйных частак логікі (паняцце, суджэнне і вывад) С. дадаваў яшчэ праблему лагічнага метаду, пад якім разумеў пэўны парадак навучання, накіраваны на спасціжэнне ісціны, або саму дзейнасць розуму, што ажыццяўляецца ў адпаведнасці з правіламі метаду. Пры гэтым С. адзначаў, што лагічны метад не з'яўляецца асобнай чацвёртай аперацыяй розуму, якая адрозніваецца ад

траістага спосабу пазнання, як гэта часам прынята лічыць. Лагічны метад С. падзяляў на «сінтэтычны, з дапамогаю якога пазнанне крок за крокам рухаецца ад простага да складанага, ад частак да цэлага, ад адзінкавага да ўсеагульнага і ад прычыны да вываду, і на аналітычны, пры дапамозе якога розум вяртаецца ад складанага да простага, ад цэлага да частак, што быццам вызваляюцца ад нейкіх сувязей». З дапамогаю гэтага метаду, паводле С., ствараюцца надзейныя крытэрыі для разумення ісціны і універсальныя прынцыпы навук.

*Тв.*: Комментарии по философии, или логике, то есть метафизике, общей и специальной физике. Вильно, 1755 // Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971; Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Цукерман А.Я. Философская мысль Белоруссии середины XVIII в. Мн., 1980; Bieliński I. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 1—3. Kraków, 1899—1900; Chmaj L. Kartezjanizm w Polsce w XVII i XVIII w. // Myśl filozoficzna. Warszawa, 1956. 5(25); Wasik W. Historia filozofii polskiej. T. 1. Warazawa, 1958.

## СЛАВІНЕЦКІ Епіфаній (? — 20.11.1657)

Усходнеславянскі пісьменнік, перакладчык, багаслоў, філосаф і вучоны. Яго літаратурная і навуковая спадчына — агульны здабытак культурнай спадчыны беларускага, украінскага і рускага народаў. Пра месца яго нараджэння няма агульнай думкі. У прадмовах да выданняў твораў айцоў царквы, перакладзеных ім, С. пісаў, што яны складзены «тщанием... во философии и богословии изящнаго дидаскала и искуснейшаго во еллинском и славенском диалектах пречестного отца господина иеромонаха Епифания, Киевския страны» (Киевская старина, 1890. Т. 21, 10. С. 3). У каталогу бібліятэкі *Сімяона Полацкага* пад назваю кнігі С. паслядоўнік Сімяона паэт Сільвестр Мядзведзеў напісаў: «от Малыя России». Аднак найбольш кампетэнтны ў біяграфіі С. яго любімы вучань-паслушнік Яўфімій запісаў у рукапісным перакладзе Новага запавету: «... преводу и стяжания многомудрого мужа в философии и Богословіи иеромонаха Епифания Славинецкаго родом Белорусца». Супастаўляючы розныя факты з біяграфіі пісьменніка, у т.л. яго завяшчанне значнай часткі маёмасці Пінскаму манастыру, І.Ротар зрабіў выснову, што радзімай Епіфанія быў горад Пінск. Выхоўваўся пісьменнік у Кіеўскай брацкай школе (пазней — Кіева-Магілянская акадэмія), вучыўся за мяжой, як мяркуюць даследчыкі, у Кракаўскім універсітэце.

У 1649 на запрашэнне расійскага ўрада прыехаў у Маскву на чале групы адукаваных манахаў для выпраўлення, рэдагавання і перакладу з грэчаскай мовы кніг, арганізацыі шко-



*Пінск у 17 ст.*

лы і царкоўна-асветніцкай дзейнасці. У Расіі ён стаў адным з «любамудраў», прыбліжаных да патрыярха Нікана, кіраўніком і выкладчыкам «сямі вызваленых навук» у школе пры Чудаўскім манастыры і галоўным «спраўшчыкам» (фактычна — рэдактарам) перакладных царкоўных кніг, тэарэтыкам ніканаўскай царкоўнай рэформы. Паводле свайго светапогляду С. — адукаваны і аўтарытэтны прадстаўнік «грэкафільскай» партыі, праціўнік заходнееўрапейскага лацінакаталіцкага ўплыву на праваслаўную царкву і ў гэтым плане — апанент Сімяона Полацкага. Аднак адносіны паміж імі былі неадназначныя, нярэдка сяброўскія. З прадмовы да рукапіснага збору твораў С. вынікае, што ідэолаг «лацінскай» (беларускай) партыі Сімяон ставіўся да свайго апанента-грэкафіла як вучань да настаўніка: «Егда они купно случахуся, всегда и везде бываше вопрошати честному Симеону мудрейшаго отца Епифания и многих неудоборазумеваемых вещех» (Тр. Киевской духовной академии. 1861. Вып. 8. С. 400). У адрозненне ад яркага палеміста Сімяона Полацкага, які моцна ўплываў на развіццё літаратуры, кнігадрукавання і грамадскай думкі Расіі, С. быў тыповым «акадэмічным» пісьменнікам. Толькі аднойчы ён уступіў у палеміку, каб даказаць нелегітымнасць пазбаўлення былога патрыярха Нікана епіскапскага сану.

Апрача «выпраўлення» царкоўных кніг, у т.л. Астрожскай Бібліі, ён перакладаў творы айцоў усходняй царквы (Грыгорыя Багаслова, Васіля Вялікага, Іаана Златавуста і інш.), прапагандаваў іх філасофскія і эстэтычныя ідэі. На рускую царкоўна-мастацкую свядомасць моцна паўплываў перакладзены ім трактат Іаана Дамаскіна пра абразы як сімвалічныя вобразы, што адлюстроўваюць першавобразы трансцэндэнтнай божай рэальнасці. Высока цаніў С. і свецкую навуку, сведчаннем чаго з'яўляюцца яго пераклады падручніка па геаграфіі з пераказам геліяцэнтрычнай тэорыі М.Каперніка, кніг А.Везалія па анатоміі, трактата Эразма Ратэрдамскага па педагогіцы («Грамадзянства звычаяў дзіцячых»), а таксама складзены ім славяна-грэкалацінскі слоўнік. Аднак ён выступаў супраць уплыву свецкай навукі, філасофіі і рэалістычнага мастацтва на рэлігію і царкоўную традыцыю, даказваў, што найвышэйшым аўтарытэтам у духоўным жыцці застаецца Святое Пісьмо і вучэнне грэчаскіх айцоў царквы. У прыватнасці, быў супраць, каб мастакі пісалі з лацінскіх і лютэранскіх узораў Спаса, Багародзіцу і святых апосталаў, абараняў традыцыйны візантыйскі стыль у іканапісе. У запісцы цару пра незаконнасць пазбаўлення Нікана архірэйства С. закрануў і філасофскую праблематыку. На яго думку, у свеце матэрыяльных з'яў нішто не вечнае, усё мяняецца, затое ў свеце духоўным, божым дзейнічае закон пастаянства, стабільнасці. Адсюль схільнасць яго да праваслаўнай артадоксіі, непрыманне схаластычнай логікі і «вонкавай» мудрасці ў сферы багаслоўя і веры. Ён прызнаваўся, што сілагізмамі, асабліва лацінскімі, не карыстаецца, таму што Васіль Вялікі патрабаваў пазбягаць іх, а Грыгорый Багаслоў назваў сілагізмы «веры развращением и тайне истощением». У гэтым С. разыходзіўся з больш рацыяналістычным «лацінікам» Сімяонам Полацкім. Скрытая палеміка паміж імі ўзнікла і адносна еўхарыстыі. Захаваўся запіс «разглагольства» двух іераманахаў у форме пытанняў Сімяона Полацкага і адказаў С. (1673). На пытанне, ці сапраўды літургічнае таінства ператварэння хлеба і віна ў цела і кроў Хрыста адбываецца адразу па вымаўленні святаром слоў Хрыстовых на тайнай вячэры, С. адказаў, што пасля гэтых слоў хлеб і віно становяцца толькі праўвобразам цела і крыві, і толькі па малітве святара з просьбай да Бога Айца пасланы на хлеб і віно дары Святога Духа, каб асвяціць і ператварыць іх, хлеб і віно становяцца сапраўдным целам Хрыстовым і сапраўднай яго крывёю. На гэта Сімяон Полацкі дыпламатычна запярэчыў, што вучоная Русь у Кіеве таксама думае, што толькі праз слова Хрыста ператвараецца хлеб і віно ў цела і кроў Хрыстовы, а думка такая не з'яўляецца грэшнай. У адказ С. заўважыў, што кіяўляне вучыліся і вучацца толькі па латыні і чытаюць толькі лацінскія кнігі, таму так мудрагеляць, а па-грэчаску не вучыліся і грэчаскіх кніг не чытаюць, таму і не ведаюць ісціны і

моцна ў гэтым памыляюцца, падпаўшы пад лацінскую ерась. У гэтым светапогляднае разыходжанне паміж «лацiністамі» і «грэкафіламі». Паводле «лацінскай» тэалогіі і філасофіі, што сфарміравалася пад уплывам сярэдневяковага «наміналізму» і філасофіі Арыстоцеля, усе падзеі рэальнай гісторыі, у т.л. царкоўнае мастацтва і рэлігійныя абрады, толькі сімвалічна далучаюць веруючага да пазачасавага і пазапрасторавага божага свету. Іншая канцэпцыя склалася, відаць, не без уплываў платонаўскага і сярэдневяковага «рэалізму», у праваслаўным, славяна-візантыйскім багаслоўі. Паводле айцоў усходняй царквы,ператварэнне святых дароў адбываецца спачатку сімвалічна (хлеб і віно становяцца «правобразам» цела і крыві Хрыста), а пасля (па малітве святара да Бога Айца і Духа Святога) — субстанцыянальна. Адсюль прызнанне рэальнасці цуду, што «адмяняе» законы матэрыяльнай прыроды, логікі (у гэтым выпадку закон тоеснасці). Такая канцэпцыя абумовіла і адпаведную аксіялогію, паводле якой Святое Пісьмо — божае адкрыццё вышэй за навуку, багаслоўе айцоў царквы пераўзыходзіць філасофію і логіку, а непарушнасць іканапіснага канона вышэй за законы развіцця мастацтва. Такая была багаслоўская, філасофская і эстэтычная ўстаноўка С., добрага знаўцы свецкай навукі і філасофіі.

Адносна пакланення абразам погляды С. і Сімяона Полацкага ў асноўным супадалі, бо яны аднолькава грунтаваліся на размежаванні вобразаў і правобразаў, мастацтва і рэальнасці. У маральна-тэалагічным слове «Пра міласэрнасць» С. гаварыў: «Поклоняйся начертанию телесно; умом же твоим поклоняйся первообразному, его же образ видиши начертан, самого же начертаннаго вежде быти на небеси... Елицы же противно хотят поклонятися святым или образам яко богам, сии достойны суть вечнаго огня» (Тр. Киевской духовной академии. 1861. Вып. 10. С. 138). Такую ж тэорыю святасці абразоў развіваў і «лацініст» Сімяон Полацкі. Адукаваныя і ўсебакова адораныя людзі, яны моцна паўплывалі на станаўленне асветніцкага светапогляду на Украіне, Беларусі і ў Расіі. Абодва былі таленавітымі майстрамі маральна-дыдактычнай аратарскай прозы ў жанры царкоўных «слоў» і «казанняў» з характэрнымі для стылю барока вобразнасцю, сімвалізмам, аналогіямі з антычнай міфалогіі, філасофіі, паэзіі. С. адрадзіў сімвалічна-алегарычнае красамоўства, заснаванае ў 12 ст. *Кірылам Тураўскім*. Шматлікія аналогіі з антычнай літаратурай, спасылкі на «Адысею», Плутарха, Плінія, Дэмакрыта і інш. антычных аўтараў, якія пазней напоўняць кнігі аратарскай прозы Сімяона Полацкага, сведчаць пра ўплыў на С. гуманістычнай філалогіі і красамоўства эпохі Адраджэння. Захавалася яго рукапісная паэтычная спадчына — каля 40 сілабічных песняў эпічнага зместу. Паэзія асветніка адметная багатым гукапісам, вытанчанасцю выяўленчых сродкаў, лексічным багаццем. С. і Сімяон Полацкі былі заснавальнікамі дзвюх школ перакладчыцкага майстэрства: першы — паслядоўнік літаральнага, другі — адносна вольнага, сэнсавага перакладу.

Сімяон Полацкі напісаў 5 варыянтаў эпітафіі на смерць свайго настаўніка.

*Літ.*: Певницкий В. Епифаний Славинецкий, один из главных деятелей русской духовной литературы в XVII в. // Тр. Киевской духовной академии. 1861. Вып. 8, 10; Ротар И. Епифаний Славинецкий, литературный деятель XVII в. // Киевская старина. 1890. Т. 21, 10—12. *У.М.Конан.*

## СЛЁЗКА Міхаіл (? — 1667)

Майстар-друкар, пісьменнік, асветнік, адзін з актыўных прадаўжальнікаў асветніцкіх і выдавецкіх традыцый *Ф.Скарыны* і *І.Фёдарава*. Паходзіў з Беларусі. Яго спадчынная маёмасць (2 крамы бацькоў у Навагрудку) загінула ў час пажару 1616, што вымусіла С. пакінуць радзіму. У наступныя гады ён працаваў у друкарнях Вільні і, магчыма, Кіева-Пячэрскай лаўры. У пачатку 1630-х гадоў ён уступіў у члены Львоўскага Успенскага брацтва і ў 1633—37 і 1643—51 узначальваў брацкую друкарню ў Львове, удзельнічаў у выступленнях брацтва супраць нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту ўкраінскага насельніцтва. У 1638 распачаў сваю выдавецкую справу і заснаваў уласную друкарню. За гады дзейнасці С. выдаў каля 50 кніг (амаль трэцюю частку ад усіх, што выйшлі з украінскіх друкарняў) на царкоўнаславянскай, украінскай, лацінскай і польскай мовах, у тым ліку філасофскі

трактат М.Кароны «Уступ да разумення лагічных і філасофскіх тэрмінаў» (1639), кнігі І.Галятоўскага «Ключ разумення» (1663 і 1665), панегірык І.Пракаповіча ў гонар Арсена Жалібарскага (1665), свецкае выданне папулярнага твора М.Жураўскага «Эфемерыды». У прадмове да Апостала 1639 С. выступіў супраць спробы ўлады і царкоўных іерархаў абмежаваць свабоду выдавецкай дзейнасці. Кнігі С. разыходзіліся на Украіне, Беларусі, траплялі ў паўднёваславянскія краіны, Расію. Пасля смерці С. яго друкарня ў 1670 выкуплена Львоўскім брацтвам.

*Літ.:* Исаевич Я.Д. Типография Михаила Слёзки и её роль в межславянских культурных связях // Федоровские чтения, 1973. М., 1976; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в. Мн., 1989. С. 52—54.

## **СМУГЛЕВІЧ** Францішак (6.10.1745 — 18.9.1807)



Жывапісец, графік, педагог, прадстаўнік класіцызму. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і мастака Лукаша Смуглевіча. Творчая дзейнасць звязана з мастацкім жыццём Польшчы, Літвы, Беларусі і Расіі. Жывапісу вучыўся ў бацькі — Л.Смуглевіча і ў Ш.Чаховіча. У 1763—64 у Рыме: вучыўся ў А.Марона і з 1766 у Акадэміі св. Лукі; разам з В.Брэна размалёўваў золатам гроты. У 1784—97 у Варшаве, у 1797—1807 прафесар жывапісу і малюнка ў Віленскім універсітэце. Удзельнічаў у размалёўцы інтэр'ераў Міхайлаўскага палаца ў Пецярбургу (1800—01; не зберагліся). Апошнія гады жыцця правёў у Вільні, адкуль часта выязджаў у беларускія гарады і мястэчкі для выканання заказаў на размалёўку цэркваў і касцёлаў, напісання партрэтаў. Аформіў так званую залу Смуглевіча ў бібліятэцы Віленскага універсітэта (разам з братам Антоніем), выканаў шмат станковых карцін і манументальных размалёвак у храмах Беларусі (Мінск, Гродна, Полацк, Рэчыца і інш.), Літвы і Польшчы. Працаваў у жанрах: гістарычным, батальным, партрэта, стварыў алегарычныя і міфалагічныя кампазіцыі. Сярод твораў: «Смерць Марыі» (1784), «Св. Іаан-Хрысціцель», «Прыгавор аб выгнанні Арыстыда», «Перамога Аляксандра над Дарыем», «Юдзіф», «Бітва каля Берасцечка ў 1651», «Развітанне апосталаў Пятра і Паўла» (1805), «Персідскія паслы ў караля Марока», «Пасольства скіфаў у Дарыя», «Бітва пры Хоціне ў 1673», «Польскія сяляне за сталом», «Літоўскія сяляне», «Прысяга Т.Касцюшкі на Кракаўскім рынку», «Уступленне Баляслава Храбрага ў Кіеў», «Сяляне ў нацыянальным адзенні», «Сцэна з сялянскага жыцця» і інш.



*Віленскі універсітэт. Зала Ф.Смуглевіча.*

Аўтар партрэтаў Ю.Пешкі, Р.Пшаздзецкага, сям'і Тышкевічаў, епіскапа Гедройца, сям'і К.Празор і інш. Афармляў кнігі, выканаў каля 150 малюнкаў. Сярод яго вучняў мастакі І.*Аляшкевіч*, Ю.*Пешка*.

*Літ.:* Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974.

## **СНЯДЭЦКІ** (Sniadecki) Анджэй (30.10.1768 — 11.5.1838)



Хімік, урач, філосаф і асветнік. Брат Я.*Снядэцкага*. Нарадзіўся ў мяст. Жнін Гнезненскага ваяводства (Польшча) у сям'і дробнага прадпрымальніка. Вучыўся ва універсітэтах Кракава, Павіі, Эдынбурга. Больш за 40 гадоў жыў і працаваў у Вільні: у 1797—1822 прафесар хіміі, у 1826—32 — медыцыны ў Віленскім універсітэце, з 1832 прафесар Медыка-хірургічнай акадэміі ў Вільні. У 1816—22 ён рэдагаваў газету «Wiadomosci brukowe» («Вулічныя навіны»), у якой падкрэсліваў цяжкае жыццё сялян, выступаў супраць прыгону. Як вучоны С. быў вядомы ў многіх краінах свету. У сваіх працах па біялогіі, галоўная з якіх «Тэорыя арганічных істот» (2 тамы, 1804 і 1811 на польскай мове), выказаў шэраг эвалюцыйных ідэй. Аўтар падручніка па хіміі. Адзін з першых вучоных Еўропы. С. імкнуўся стварыць, па сутнасці, матэрыялістычную тэорыю пра жыццё. Вялікую ўвагу надаваў ён ролі абмену ў прыродзе. Паводле яго меркавання, гэты універсальны прынцып праяўляецца і ў жывых арганізмах. Даў матэрыялістычнае вызначэнне жыцця: «Жыццё... ёсць пэўны спосаб існавання матэрыі і толькі ў ёй можа мець месца». Цікава С. трактаваў узнікненне і знікненне розных відаў жывёл і чалавека. Гэты працэс ён абумоўліваў як «пастаянныя змены матэрыі». Змены, што адбываюцца на ўзроўні чалавека, С. тлумачыў «грамадскай сувяззю» людзей. Пытанне пра адносіны мыслення да быцця ён таксама вырашаў матэрыялістычна і лічыў, што адчуванні, уражанні і само мысленне ўзнікаюць толькі дзякуючы наяўнасці нервовай сістэмы і мозга ў чалавека. Паводле С., мозг з'яўляецца месцам сканцэнтравання ўсіх нерваў і ўтвараецца з іх злучэння і расшырэння. Аднак лічыў, што адчуванне, уяўленне і ўвогуле ўсё псіхічнае нельга разглядаць толькі як прадукт аднаго мозга. Мозг, усе нервы ён лічыў «адным і тым жа целам, адным і тым жа непадзельным органам, у якога межы тыя ж, што і ва ўсёй машыне». Узнікненне адчуванняў, паводле С., абумоўлена дзеяннем знешніх сіл, бо колькасць адчуванняў прапарцыянальна колькасці знешніх уздзеянняў: «Чым большая колькасць знешніх уздзеянняў дзейнічае на нашы нервы, тым большай колькасцю пачуццяў ці ўяўленняў мы валодаем». Духоўныя здольнасці чалавека ён ставіў у залежнае ад «спосабу, паводле якога арганізоўваецца матэрыя», бо «мозг — гэта орган, у якім у дзіўным выглядзе думка выяўляецца і развіваецца». Свае матэрыялістычныя прыродазнаўчыя погляды С. грунтаваў на багатым фактычным матэрыяле. Ён вобразна паказаў, што найбольш высакародныя ўласцівасці чалавечай натуры ў многім залежаць ад так званага шэрага рэчыва мозга. Праяўленне разумовых здольнасцей індывіда ставіў у залежнасць ад умоў яго жыццядзейнасці, стану нервовай сістэмы і мозга. Паводле С., сіла і хуткасць дзейнасці мозга можа прадставіць адны і тыя ж разу-

мовыя здольнасці ў розных відах ператвараць адны ў другія. Так, нават найбольш разважлівы чалавек, разгарачаны вінам, любоўю ці гневам, перастае быць гэтакім. Прыродазнаўчы навуковы матэрыялізм С. становіцца асновай для цікавых сацыялагічных назіранняў. Ён пільна вывучаў уплыў многіх фактараў на жыццядзейнасць розных класаў і грамадскіх груп. Як і большасць асветнікаў 18 ст., С. зыходзіў з чалавечай прыроды і тэорыі натуральнага права. Дзяржава, паводле яго меркавання, узнікла на дагаворнай аснове з мэтаю абароны правоў і ўласнасці кожнага чалавека. У выніку прыродныя ўласцівасці чалавечай натуры часам скажаюцца ці не задавальняюцца. Прычыны такой з'явы С. бачыў у недахопе асветы. Такім чынам, у асноўных пасылках сваёй сацыялагічнай канцэпцыі ён быў ідэалістам і утапістам. С. сцвярджаў, што канстытуцыя чалавека, яго здароўе, многія хваробы залежаць ад пэўных грамадскіх фактараў. Толькі сацыяльныя ўмовы, а не кліматычныя, дэмаграфічныя і ўвогуле прыродныя, з'яўляюцца галоўным фактарам у фарміраванні асобы і яе жыццядзейнасці. Ён даказваў, што «спосаб жыцця пануючага класа вельмі блізкі ва ўсіх краінах і ва ўсіх кліматычных зонах. Пры наяўнасці ўсіх выгод... ён мяккі, бяздзейны і развязны; суровасць клімату не мае для яго ніякага значэння..., ён мае магчымасць засцерагчы сябе як ад залішняй спёкі, так і ад суровага холаду. Пастаянныя гулянкі, пышнасць..., узвышэнні і адзнакі пашаны, што падаграюць славалюбства, трымаюць нервовую сістэму пастаянна ў стане празмерна павышанай дзейнасці, да чаго далучаюцца і іншыя фактары, што ўзбуджаюць нервовую дзейнасць, а менавіта: тэатр, азартныя гульні, раманы, любоўныя прыгоды, зайздрасць, барацьба за ступень велічы, прагнасць і г.д. Адсюль лёгка вывесці тыя хваробы і немачы, да якіх яны схільныя». С. асуджаў і высмейваў лад жыцця пануючага класа, проціпастаўляючы яму карысную здаровую працу. Але ён не ідэалізаваў і жыццё чалавека працы, бачыў усе яго цяжкасці і бесчалавечныя ўмовы. Праца можа стаць і вялікім дабром, і вялікім няшчасцем, у залежнасці ад грамадскіх умоў. У гэтым С. вельмі падобны да французскіх матэрыялістаў, напр. да Гельвецыя. С. лічыў, што там, дзе існуе прыгнёт і рабства, праца з'яўляецца галоўнай прычынай пазбаўлення цела жыццёвых сіл, а значыць, крыніцай галоўных захворванняў. Таму няшчасны клас народа і дрэнна забяспечанае войска часцей за ўсё з'яўляюцца ўзбуджальнікамі і ахвярамі жорсткіх хвароб. Яго як урача найбольш цікавілі сацыяльныя прычыны многіх хвароб. Але ён не імкнуўся аналізаваць прычыны хвароб, прычыны грамадскай няроўнасці, не прапаноўваў шляхоў іх пераадолення, хоць асвету і навуку лічыў панацэяй ад большасці няшчасцяў. Як вучоны-гуманіст ён спачуваў простаму народу — «ліцвінам», жыццём якіх цікавіўся, імкнуўся словам і справай аблегчыць яго. Дзейнасць С. высока ацаніў акадэмік В.Севяргін: «Прафесар Снядэцкі, адмысловы хімік... Сам аматар гэтае навукі, ён ведае ўсе найноўшыя творы і паўтарае многія з найноўшых доследаў».

*Тв.*: У кн.: Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. М., 1956. Т. 1

*Літ.*: Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971. С. 87—92, 221—223; Strojnowski J. Psychofizjologia Jedrzeja Sniadeckiego. Wrocław. 1968.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## СНЯДЭЦКІ (Sniadecki) Ян (29.8.1756 — 21.9.1830)

Астраном, матэматык, філосаф-асветнік. Брат А.*Снядэцкага*. Нарадзіўся ў мяст. Жнін Гнезненскага ваяводства (Польшча) у сям'і дробнага прадпрымальніка. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, ва універсітэтах Гётынгена, Лейдэна, Утрэхта і Парыжа. Займаў кафедры астраноміі (з 1782) і матэматыкі (з 1791) у Галоўнай школе ў Кракаве. Быў актыўным членам Адукацыйнай камісіі. Адзін з арганізатараў Астранамічнай школы ў Вільні. У 1792—1803 дырэктар Кракаўскай, у 1806—25 астранамічнай абсерваторыі, адначасова рэктар Віленскага універсітэта. Вёў даследаванні Сонца, Месяца і планет, адкрыў (незалежна ад Г.В.Ольберса) малую планету Палас. Яго кнігамі па матэматыцы, астраноміі і геаграфіі, навуко-



вымі працамі па тэорыі верагоднасцей карысталіся ў навучальных установах Беларусі.

У вырашэнні філасофскіх праблем матэматыкі і астраноміі С. трывала стаяў на пазіцыях матэрыялістычнага сенсуалізму, пастаянна падкрэсліваў абумоўленасць і сувязь матэматычных абстракцый з аб'ектыўнай рэчаіснасцю. У сваёй працы «Развашанні пра пачатак матэматычных навук» ён даказваў вялікае значэнне матэматыкі для прыкладных навук і тэхнікі, падкрэсліваў яе грамадскую карысць. Матэматычны апарат, паводле С., неабходны для пошуку агульных прынцыпаў, законаў і бясконцай сувязі з'яў, «усеагульнасць законаў з'яўляецца першай адзнакай навукі, а разам з тым і крытэрыем яе дасканаласці»... Ён лічыў, што вялікія законы, адкрытыя Ньютонам, Кеплерам і Галілеем, не змаглі б стаць здабыткам чалавецтва, калі б гэтыя вучоныя не выкарыстоўвалі матэматыку. Дакладныя веды, на яго думку, развенчваюць забабоны і сляпую веру. У крыху завуаліраванай форме С. на гісторыі развіцця матэматыкі, фізікі і астраноміі паказаў, як навука ўсё больш выцясняе забабоны і веру (г.зн. тэалогію), якія «настойліва прыпісваюць дзеянню розных сіл тыя з'явы, што фізікі тлумачаць праз прыцяжэнне». Яго абурала, што многія «людзі лічаць за лепшае верыць, чым развашаць, таму на шкоду для навукі павялічваецца колькасць тых, хто не ведае, як лячыць хваробы розуму». Вялікія розумы чалавецтва дапамагаюць ісці ўсё далей ад памылак, сляпой веры, вядуць па шляху дакладных, аб'ектыўных ведаў. Да ліку найбольш светлых розумаў у галіне матэматычных навук С. адносіў Дэкарта і Ньютана: «Вялікія людзі, розумам якіх будуць захапляцца найбольш прасвечаныя вякі, адкрылі нам самыя лепшыя сродкі, што садзейнічаюць вялікаму росту матэматычных навук». Штуршок, дадзены гэтымі двума карыфеямі дакладным ведам, выклікаў да жыцця шэраг новых, выдатных адкрыццяў. У Еўропе з'явіліся людзі, якія склалі эпоху ў навуцы: «...Лейбніц, браты Бернулі, маркіз Лапіталь маюць сваімі пераемнікамі Эйлера, Клеро, Д'аламбера, Лагранжа і іншых вялікіх геаметраў нашага стагоддзя».

У лекцыях па астраноміі С. рашуча падтрымліваў і абараняў вучэнне М.Каперніка. У 1802 ён выдаў манаграфію «Пра Каперніка», у якой упершыню ў гісторыі навукі падрабязна раскрыў стан астраноміі да Каперніка, паказаў жыццё астранома, эвалюцыю яго поглядаў і адкрыццяў, прасачыў шлях яго творчых пошукаў, паказаў барацьбу вакол яго навуковай і ідэйнай спадчыны і інш. Ён сцвярджаў, што вучэнне Каперніка ўзнікла з глыбокага засваення і крытычнай перапрацоўкі ўсяго багацця астранамічных назіранняў і адкрыццяў папярэднікаў. На шырокім гістарычным фоне С. паказаў месца і значэнне сістэмы Каперніка, падкрэсліваў, што яго вучэнне трэба ацэньваць з пазіцый тагачаснай навукі, і адзначаў вельмі важную рысу сістэмы Каперніка — яе аб'ектыўнасць, адэкватнае адлюстраванне сапраўдных матэрыяльных адносін сусвету. Добра разумеў С. і ідэйнае значэнне гэтага адкрыцця, бо «замест рэлігіі патрэбна навука, першая стрымлівала і стрымлівае развіццё другой». Тут С. выступаў як вучоны-матэрыяліст і паслядоўнік лепшых традыцый Асветніцтва. Астраном і асветнік М.*Пачобут-Адляніцкі* пісаў пра гэтую кнігу С.: «... Я чытаў яе з бясконцай радасцю, удзячнасцю, хочацца сказаць — з

зачараваннем, якое мне рэдка даводзілася зазнаць».

У сваім творы «Пра філасофію» С. адзначыў 4 асноўныя памылковыя палажэнні філасофіі І.Канта, падкрэсліў цягу Канта да ўскладнення філасофскай тэрміналогіі і структуры філасофскіх ведаў, хоць змест і не патрабаваў гэтага. У працы «Філасофія чалавечага розуму» С. разглядаў праблемы пазнання, падкрэсліваў вялікую і цэментуючую ролю органаў пачуццяў і адчуванняў, спасылаючыся пры гэтым на традыцыі ў навуковай думцы, на Бэкана, Бойля, Ньютана, Лока, Рыда, Дугальда Сцюарта і інш. Ад даследавання ролі і функцый адчуванняў С. перайшоў да больш складаных духоўных з'яў, аналізаваў такія катэгорыі псіхалогіі, як увага, воля, памяць. З пазіцый матэрыялістычнай гнасеалогіі ён разглядаў і праблемы псіхалогіі. У гэтай галіне С. выкарыстоўваў многія даныя сумежных навук і выступаў як вучоны-прыродазнавец, які імкнуўся да рэальных фактаў, пазбягаў схаластычных спекуляцый. Спецыяльны раздзел гэтай кнігі ён прысвяціў аналізу структуры мовы, яе фанетычных, марфалагічных і сінтаксічных асаблівасцей, фармальным заканамернасцям мовы, сувязі сэнсу і знака. Вялікую ролю ён адводзіў знакавасці ў пазнанні ўвогуле і ў моўных формах. Ён лічыў, што свабода знака абмежавана яго стваральнікамі — людзьмі, а знак прызваны верна служыць ім, аблягчаць мысліцельныя аперацыі: «У выкарыстанні чалавечай мовы адбываецца тое ж самае, што і ў алгебры, дзе, устанавіўшы знакі, добра іх зразумеўшы і абазначыўшы імі ўсякія рэчы, вядуць усю разумовую працу ў знаках і заканчваюць яе ў знаках». Цяпер гэта даказана не толькі структурнай лінгвістыкай, матэматычнай логікай выказванняў, тэорыяй функцый сапраўдных пераменных, але ўвасобілася ў машынах-перакладчыках. С. лічыў, што законы ўзаемасувязі слоў і сказаў адлюстроўваюць сапраўдныя адносіны ў матэрыяльным свеце.

Больш за ўсё С. клапаціўся пра выхаванне сапраўдных патрыётаў і грамадзян. У выкананні гэтай задачы ён бачыў асноўную мэту мастацтва. Па тэарэтычных праблемах мастацтва С. напісаў спецыяльныя працы: «Пра літаратуру», «Пра творы класіцызму і рамантызму». У яго поглядах на мастацтва, на прыгожае своеасабліва пераплятаюцца некаторыя грамадзянскія матывы класіцысцкай эстэтыкі і ідэі Асветніцтва. Падкрэсліваў ролю розуму і праўды ў мастацтве, значэнне глыбіні думкі і шырокай адукаванасці ў творчасці мастака.

С. з'яўляецца таксама аўтарам твораў па праблемах лінгвістыкі, гісторыі літаратуры («Конкурс на кафедру красамоўства і паэзіі ў Віленскім імператарскім універсітэце», «Пра польскую мову» і інш.). Уласна філасофіі ён прысвяціў свае прамовы ў Віленскім універсітэце («Прамова на літаратурнай сесіі Віленскага універсітэта 15/27 красавіка 1819 г.», «Філасофія чалавечага розуму, або Разважны вывад пра разумовыя сілы і дзеянні. Выступленне на літаратурнай сесіі Віленскага універсітэта 15/27 кастрычніка 1821 г.», а таксама спецыяльныя працы «Пра метафізіку», артыкулы ў часопісах, асабліва ў «Віленскім весніку».

Творы С. з вялікім інтарэсам чытала моладзь, іх ведалі філаматы і філарэты, сярод якіх было шмат выхадцаў з Беларусі. Пад уплывам яго дзейнасці і творчасці сфарміраваліся такія вучоныя Беларусі і Літвы, як В.Карчэўскі, П.*Славінскі*, А.Шагін, А.*Доўгірд*, М.*Глушневіч*, Я.Фус, П.Смыслоў і інш. Філасофскія ідэі С. («Пра метафізіку», 1814; «Пра філасофію», 1819) былі вядомы і ў Расіі, выклікалі палеміку.

*Тв.*: Wybór pism naukowych. Warszawa, 1954; Pisma filozoficzne. T. 1—2. Kraków, 1958; рус. пер. — у кн.: Избранные произ-



*Магіла Я.Снядэцкага ў Яшунах. З малюнка 19 ст.*

ведения прогрессивных польских мыслителей. М., 1956. Т. 1.

*Літ.:* Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971. С. 56—60, 62—68, 209—215; Balinski M. Pamiętniki o J. Sniadeckim... T. 1—2. Wilno, 1864—65; Straszewski M. Jan Sniadecki. Kraków, 1875; Skorski. Jan Sniadecki. Lwów, 1890; Dur S. Jan Sniadecki. Warszawa, 1956. *Э.К.Дарашэвіч.*

## СОБАЛЬ Спірыдон (? — каля 1645)

Беларускі друкар і асветнік. Нарадзіўся ў Магілёве ў сям'і бурмістра. Відаць, пачатковую адукацыю атрымаў у Магілёве. Актыўная самаадукацыя і творчая праца дазволілі яму стаць адным з самых адукаваных і культурных людзей свайго часу. Усё сваё творчае жыццё С. прысвяціў кнігавыдавецкай дзейнасці і асвеце. Паколькі ў тагачасным Магілёве не было ўмоў для выдавецкай дзейнасці, С. быў вымушаны пачаць кнігадрукаванне ў Кіеве. Тут у 1628 ён адкрыў друкарню і выдаў некалькі кніг маральна-павучальнага і рэлігійнага зместу: «Ліманар, сірэч кветнік» (2 выданні), «Мінея агульная», «Актоіх» (2 выданні), «Апостал» (2 выданні, 1628—39). Гэтыя кнігі прызначаліся пераважна для служак царквы, але іх нярэдка выкарыстоўвалі і настаўнікі свецкіх школ. Вярнуўшыся на Беларусь, С. ў 1630 прыняў удзел у заснаванні друкарні ў Куцеінскім манастыры пад Оршай. Тут ён выдаў кірыліцай «Псалтыр», які называўся «Брашна духоўнае», «Буквар», «Малітвы паўсядзённыя» (1631), «Часлоў» (1632). Усе гэтыя кнігі прызначаліся ў асноўным для навучальных мэт. Напісаны ім і выдадзены «Буквар» («Букварь сиречь начало учения детем, начинающим чтению извыкати») у 1636 быў перавыдадзены ў Магілёве, што пацвярджае яго асаблівае значэнне ў пашырэнні пісьменнасці сярод народа. Дарэчы, С. упершыню ўжыў тэрмін «буквар», а яго дапаможнік па навучанні першапачатковай грамаце называўся «азбука». «Буквар» быў вынікам творчай дзейнасці беларускага асветніка. Ён быў вядомы не толькі беларусам, рускім, украінцам, але і замежным чытачам, пра што сведчаць запісы на яго тытульных лістах. Дакладна невядома, дзе працаваў С. у 1633—34. Але за гэтыя гады ім перавыдадзены ў Кіеве «Ліманар», «Апостал» і «Актоіх». С. працаваў таксама ў адкрытай ім друкарні ў Буйнічах пад Магілёвам, дзе ў 1635 быў выдадзены «Псалтыр». Пасля гэтага ён вярнуўся ў Магілёў і ў брацкай друкарні ў 1637 выдаў «Псалтыр» і «Тастамент цара Васілія». С. быў вядомы не толькі на Беларусі і Украіне. Ён наладзіў дзелавыя сувязі з маскоўскім друкаром В.Ф.Бурцавым, абменьваўся з ім кнігамі; Бурцаў набыў у С. друкарскія прылады. У 1639 С. наважыўся пераехаць у Маскву, каб адкрыць там друкарню і школу для навучання рускіх юнакоў «словолитному делу», грэчаскай, лацінскай, польскай мовам. Але калі ён папрасіў дазволу ў Вяземскай прыказной ізбе, яму было адмоўлена: «Государь указал того могилевца Спи-




*«Буквар» С.Собаля. 1631. Тытульны ліст.*

ридона Соболя из Вязьмы отпустить назад в Литву, а в Москву его отпущать не велел, чтоб в его ученье и в книгах смуты не было...» Пра апошнія гады жыцця С. звестак не захавалася. Відаць, ён пастрыгся ў манахі. Вядома, што сярод манахаў, якія ўступілі ў Магілёўскае брацтва, упамінаецца Сільвестр Собаль, кіеўскі друкар. Буйнейшы кнігадрукар свайго часу, С. надрукаваў 19 кніг, некаторыя з якіх выдаваліся 2—3 разы. Ён быў належным прадаўжальнікам асветніцкай і выдавецкай дзейнасці *Ф.Скарыны* і *І.Фёдарава* .

*Літ.*: Зернов А.С. Белорусский печатник Спиридон Соболь // Книга: Исслед. и материалы. М., 1965. Сб. 10; Мацюк О.Я. Новые документы о типографе Спиридоне Соболе // Федоровские чтения, 1973. М., 1976; Исаевич Я.Д. Преемники первопечатника. М., 1981; Голенченко Г.Я. Новые материалы по истории культурных связей Белоруссии с Украиной и Россией в конце XVI — первой половине XVII в. // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография. Мн., 1983. В. 2; Ботвинник М.Б. Откуда есть пошел букварь. Мн., 1983; Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986.

## **СТРАЙНОЎСКІ** Іеранім (20.9.1752—1815)



Мысліцель і прававед 2-й паловы 18 ст. Нарадзіўся ў вёсцы Ходачкава Крэменецкага пав. (Валынь). Адукацыю атрымаў у навучальных установах ордэна піяраў, у якім быў з 1776 па 1788. З 1776 выкладаў у Варшаўскім калегіуме матэматыку, логіку, метафізіку, а потым натуральнае і палітычнае права, права народаў і палітычную эканомію. У 1780 прызначаецца прафесарам кафедры натуральнага права Галоўнай школы Вялікага княства Літоўскага ў Вільні. З таго часу яго навуковая і педагагічная дзейнасць цесна звязана з гістарычным лёсам Беларусі і Літвы. Ён удзельнічаў у рабоце Камісіі нацыянальнай адукацыі, уваходзіў у склад камісіі па падрыхтоўцы праектаў грамадзянскага і крымінальнага кодэксаў. У 1799—1806 быў рэктарам Віленскай Галоўнай школы, пераўтворанай у 1803 ва універсітэт, з'яўляўся адным з аўтараў статута Віленскага універсітэта. С. абараняў школу ад езуітаў, якія ў 1801 пры падтрымцы расійскага імператара Паўла І імкнуліся ўстанавіць кантроль над адукацыяй па Беларусі і ў Літве. Выступленні С. за свецкі характар адукацыі былі непрыязна сустрэты кансерватыўнай часткай духавенства. Важную ролю адыграў С. і як арганізатар навуковых даследаванняў: ён быў членам Варшаўскага таварыства сяброў навукі і Вольнага эканамічнага таварыства ў Пецярбургу. У апошнія гады жыцця С. адышоў ад актыўнай навуковай і педагагічнай дзейнасці, займаў шэраг царкоўных пасад, а ў 1814 стаў віленскім епіскапам.

Асноўны твор С. «Навука аб прыродным і палітычным праве, палітычнай эканоміі і праве народаў» (Вільня, 1785) неаднаразова перавыдаваўся ў Вільні і Варшаве на польскай мове, а ў 1809 у перакладзе Б.Анастасевіча выйшаў у Пецярбургу на рускай мове, выкарыстоўваўся і як падручнік для вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Апублікаваны таксама шэраг прамоў С. Як і большасць філосафаўасветнікаў таго часу, ён стаяў на пазіцыях дэізму і лічыў Бога творцам і першапрычынай прыроды. Паводле С., пранікненне ў дасканалы механізм прыроды, назіранні за нябеснымі целамі, даследаванні рознага роду ства-

рэнняў, развагі пра будову чалавека вымушаюць «чалавечы розум прызнаць існаванне вышэйшай сілы і мудрасці». Дэізм С. быў своеасаблівай формай секулярызацыі навукі, хоць у яго творах сустракаюцца асобныя элементы рэлігійна-схаластычнага светапогляду, а таксама заявы пра адданасць каталіцкай царкве. У тэорыі пазнання С. прытрымліваўся прынцыпаў сенсуалізму. Ён падзяляў палажэнне Арыстоцеля аб тым, што розум чалавека атрымлівае веды ад органаў пачуццяў, і крытыкаваў схаластаў, якія не разумеюць «гэтай важнай ісціны, якая з'яўляецца істотнай асновай здаровай логікі і метафізікі». Вучэнне Дэкарта аб «прыроджаных ідэях» лічыў памылковым, бо яно стрымлівае развіццё і ўдасканаленне навукі. Асновай сацыялагічнай канцэпцыі С., як і ўсіх тагачасных фізіякратаў, было вучэнне пра натуральны парадак і як вынік яго — натуральнае права. Натуральны парадак рэчаў ён разглядаў як адзінства фізічнага і маральнага парадку, г.зн. як сукупнасць законаў прыроды і грамадства. «З фізічнага парадку рэчаў, — пісаў С., — вынікае, як мы бачылі, маральны парадак і, таксама як першы, ён не можа быць адвольны, зменены ў адпаведнасці з воляй і жаданнем людзей; таксама як і першы, ён не ўстаноўлены людзьмі, а толькі імі пазнаецца...» Людзі, на яго думку, могуць быць шчаслівыя толькі праз глыбокае пазнанне і поўнае захаванне гэтага натуральнага права; адыход чалавека або грамадства ад дакладных і разумных законаў прыроды непазбежна выклікае «пакаранне» — няшчасці, бедствы, беспарадкі і г.д. Натуральныя ж законы, паводле канцэпцыі С., «нічога іншага не выяўляюць, акрамя як натуральныя правы і абавязкі чалавека», да якіх належыць яго імкненне да самазахавання, задавальнення сваіх патрэб у ежы, адзенні, жыллі, прыладах працы, да набыцця зямных даброт і карыстання імі. З натуральных праваў і абавязкаў асобнага індывіда, з прыроднай роўнасці людзей С. выводзіў сацыяльныя правы і абавязкі. У ліку іх ён называў вечныя і нязменныя правы асабістай свабоды, узаемнай дапамогі, прыватнай уласнасці. Ён лічыў, што здабытая сумленнай працай прыватная ўласнасць — краевугольны камень грамадства, а яе недатыкальнасць з'яўляецца найпершым натуральным правам чалавека. Паводле С., ніхто не мае права пазбавіць чалавека яго натуральнай свабоды, ён павінен абараняць ад гвалту сваю ўласнасць і свабоду і, адпаведна, не рабіць замаху на чужую прыватную ўласнасць, не ўжываць сілы ў адносінах да іншых людзей, за выключэннем выпадкаў самаабароны. Прынцыпы натуральнага права С. разглядаў у якасці крытэрыяў «ісціннасці» або «няправільнасці» таго ці іншага сацыяльна-палітычнага ладу. У прыватнасці, ён лічыў, што дзяржава магнацкай алігархіі тагачаснай Рэчы Паспалітай не адпавядае патрабаванням натуральнага права, праграмныя ж устаноўкі шляхецка-буржуазнага блоку ўзводзіў у ранг вечных і нязменных прынцыпаў натуральнага права і ўсяляк іх абараняў. С. паслядоўна абгрунтоўваў залежнасць шчасця народа і разумнае грамадскае ўпарадкаванне ад ўзроўню пашырэння ведаў аб прыродзе і грамадстве. Для ажыццяўлення плана асветы насельніцтва, на яго думку, неабходна: стварыць правільную сістэму навучання юнацтва, усяляк садзейнічаць развіццю навукі і папулярызаваць яе праз выданне кніг, падручнікаў і г.д. Асаблівую стваральную ролю С. адводзіў Усеагульнай інструкцыі для ўсяго народа, якая ахоплівала б усе навукі — фізічныя і маральныя, дапамагала б людзям пазнаць ісціны гэтых навук, сцвярджаць разумныя асновы сацыяльнага жыцця.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

## **СУРАЖСКІ** Васіль (?—?)

Пісьменнік-палеміст 2-й паловы 17 ст. Месца нараджэння невядома. Пасля смерці І.*Фёдарава* да 1598 кіраваў Астрожскай друкарняй, пісаў прадмовы да асобных яе выданняў. У гісторыю палемічнай літаратуры ўвайшоў як аўтар кнігі «Аб адзінай ісціннай праваслаўнай веры і святой саборнай апостальскай царкве» (1588, Астрог), накіраванай супраць уніяцкай прапаганды рэктара Яраслаўскай езуіцкай калегіі Б.Гербеста і П.*Скаргі*. У па-

леміцы са Скаргам у цэнтр увагі С. ставіць пытанні багаслоўска-дагматычнага плана, абвяргае тэндэнцыйнае сцвярджэнне Гербеста і Скаргі пра нізкі інтэлектуальны ўзровень праваслаўных і адсутнасць сярод іх вучоных людзей, якія маглі б разабрацца ў тонкасцях кананічнай і дагматычнай багаслоўскай навукі. Шматлікія цытаты з Бібліі, твораў «айцоў царквы» і вядомых багасловаў сведчаць пра эрудыцыю С. ў царкоўна-кананічнай літаратуры. Твор напісаны на царкоўнаславянскай мове, у якой зрэдку сустракаюцца словы жывой народнай мовы, стыль выкладання цяжкі.

*Літ.*: Возняк М. Історія української літератури. Т. 2, ч. 1. Львів, 1921; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. Т. 1. С. 160—162.

## **СУРТА** Трафім Раманавіч (? — пач. 18 ст.)

Магілёўскі летапісец. Працаваў у Магілёўскім магістраце, быў купецкім старостам, з 1686 неаднаразова выбіраўся гарадскім лаўнікам. У традыцыйнай пагадовай форме склаў першы Магілёўскі летапіс (звесткі за 1526—1701), які ўвайшоў у Магілёўскую хроніку, завершаную Ю.*Трубніцкім* . Гісторыю Магілёва пачаў з 1526, найбольш падрабязна апісаў падзеі сярэдзіны і канца 17 ст. Цікавіўся гісторыяй Польшчы, Расіі, у летапісе выкарыстаў хронікі А.*Гваньіні*, М.*Стрыйкоўскага* і інш. гістарычныя творы. С. належаў да патрыятычна настроенай гарадской арыстакратыі, цесна звязанай з нацыянальна-культурнымі традыцыямі. Прытрымліваўся памяркоўных поглядаў. Асуджаў выступленні магіляўчан супраць гарадскіх улад, у тым ліку бунт 1610, дзеянні украінскіх казакоў на Беларусі.

## **СЦІРПЕЙКА** Ян (Іван; 1760—каля 1817)

Прафесар філасофіі ў Гродне. Месца нараджэння і смерці невядома. Аўтар некалькіх філасофскіх трактатаў. Яго трактат «Лекцыі па эксперыментальнай фізіцы» (1792) — гэта агульнатэарэтычныя і філасофскія разважанні. У 1-й частцы, «Аб матэрыі або ўзнікненні наогул», С. вылучае 2 метады вывучэння матэрыі, яе фізічных якасцей і законаў: філасофскі метад (Methodes Philosophaneli a posteriou), што ідзе ад пазнання асобных прадметаў і з'яў да агульных законаў, і метад a priori, які ідзе ад агульных палажэнняў да выключэнняў. На думку С., 1-ы метад стварыў Ньютан, 2-і Картэзій. С. аддаваў перавагу метаду Ньютана, але не абмяжоўваўся разглядам толькі яго. Ён знаёміў сваіх слухачоў і чытачоў з навуковымі адкрыццямі сярэдзіны 18 ст., у прыватнасці з даследаваннямі Рыхмана і Франкліна ў галіне электрычнасці. У галіне хіміі С. прапанаваў свой эксперымент — своеасаблівае ўзнаўленне доследаў Кавендыша па вывучэнні складу паветра. Разглядаў ён і арыгінальнае вучэнне аб дынамічным атамізме харвацкага вучонага Р.І.Башковіча, які імкнуўся аб'яднаць вучэнне Ньютана пра дзеянне сілы прыцягнення з вучэннем Лейбніца аб актыўнай разнастайнасці субстанцыі. С. змог вылучыць галоўнае ў Башковіча — вучэнне пра непарыўную сувязь матэрыі і руху. Паводле Башковіча, адзначаў С., узаемадзеянне сіл прыцягнення і адштурхоўвання выклікае не толькі рух часцінак па прамой, але іх вярчэнне вакол сваёй восі, таму што часцінка адным полюсам адштурхоўваецца, а другім прыцягваецца. Прыхільнасць С. да вучэння Башковіча — адзін з доказаў абгрунтавання субстанцыйна-дынамічнай тэндэнцыі ў фізіцы Беларусі і Літвы канца 18 ст. *Р.Н.Дожджыкава* .

# Т



## **ТАМАШЭЎСКІ** Міхал Антон Бонча (? — 1813)

Пісьменнік-драматург, перакладчык, кнігавыдавец канца 18 — пачатку 19 ст. Дакладных звестак пра час і месца нараджэння не выяўлена, але яго жыццё і дзейнасць звязаны з Беларуссю. Вядома, што ў 1798—1800 ён быў уладальнікам друкарні ў Гродне. У 1802 заснаваў у Вільні балетную трупу, якая гастраліравала на Беларусі. Свае драматычныя творы пісаў на

польскай мове ў стылі класіцызму. Аўтар драматычных твораў «Сын—суддзёй» (Вільня, 1798), «Ахвяра Мінервы» (Гродна, каля 1800), «Ашчасліўленне народа» (Вільня, 1802) і інш. Пераклаў з рускай на польскую мову п'есу В.Фёдарава «Самазабойства» (Гродна, 1807), вершаваную камедыю В.В.Капніста «Нагаворшчык» (Мінск, 1808).

## ТРУБНІЦКІ Юрый [1680 (?) — 1747]

Магілёўскі летапісец. З 1725 член Магілёўскага магістрата, з 1734 рэгент гарадской канцылярыі. Напісаў адну з частак Магілёўскай хронікі (запісы пра падзеі 1701—46), якую ў 1747 аб'яднаў з летапісам Т.*Сурты*. Асабліва падрабязна апісаў падзеі 1710-х гадоў, перыяду Паўночнай вайны 1700—21, намаляваў яркія вобразы гістарычных асоб таго часу. Пры складанні хронікі выкарыстаў успаміны сучаснікаў і ўдзельнікаў падзей, дакументальныя матэрыялы магілёўскага архіва, гістарычна-літаратурныя крыніцы. Апрача летапісу Сурты, уключыў у хроніку ананімны сатырычны памфлет «Карнавал іншаземны ў Польшчы». У канцы хронікі змясціў «Гісторыю пра рэвалюцыю Шведскага і Дацкага каралеўстваў». Т. вылучаўся шырынёй поглядаў, юрыдычнай дасведчанасцю, смеласцю і сацыяльнай завостранасцю грамадскай пазіцыі, дэмакратызму. Крытычна ставіўся да буйных феадалаў, прадстаўнікоў буржуазіі, ганьбіў іх свавольства і карыслівасць, асуджаў іншаземную інтэрвенцыю і войны, высмейваў ваенна-палітычную бездапаможнасць Рэчы Паспалітай, спачуваў народным масам. Хроніка мае высокую літаратурную каштоўнасць.

## ТРУЦЭВІЧ Іаіль (? — 1654)

Грамадскі і культурны дзеяч, друкар, пісьменнік. Нарадзіўся і правёў дзяцінства і юнацтва, відаць, у Магілёве, дзе, магчыма, атрымаў і адукацыю. У 2-й чвэрці 17 ст. ён быў членам Магілёўскага Богаяўленскага брацтва і ўдзельнічаў у яго рэлігійнай і асветніцкай дзейнасці як ігумен Куцеінскага Богаяўленскага манастыра (Орша). У Магілёве, верагодна, пазнаёміўся з беларускім друкаром і асветнікам С.*Собалем*. У пачатку 1630-х гадоў прымаў удзел у заснаванні Куцеінскай друкарні, з сярэдзіны 1630-х гадоў стаў яе кіраўніком. Тут надрукавана 14 кніг, прызначаных для брацтваў, літургій, свецкага чытання. Распраўсюджваліся гэтыя кнігі таксама на Украіне, у Літве, Расіі. Да большасці нелітургічных выданняў Т. напісаў прадмовы на беларускай і царкоўнаславянскай мовах. Пад яго рэдакцыяй выйшлі «Лексіконъ славенароссkій, імён тольковавіе» П.*Бярынды* (1653), «Трефологіонь» (1647) і інш. Ён быў прыхільнікам грамадска-палітычных і культурных сувязей з Рускай дзяржавай. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Т. садзейнічаў добраахвотнай здачы Магілёва рускім войскам (1654). Памёр у час перавозу Куцеінскай друкарні ў Іверскі манастыр (пад Ноўгарадам).

*Літ.*: Харламович К. Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь. Т. 1. Казань, 1914; Жудро Ф. Иоиль Труцевич, первый игумен кутеинских монастырей // Могилёвские епархиальные ведомости. 1891. №8—11.

*Г.Я.Галенчанка*

## ТЫЗЕНГАЎЗ Антоній (1733—31.3.1785)

Палітычны і грамадскі дзеяч Вялікага княства Літоўскага, асветнік на Беларусі і ў Літве. Нарадзіўся на Гродзеншчыне. З 1764 канюшы літоўскі, з 1765 падскарбі надворны літоўскі, староста гродзенскі. У 1765 па даручэнні караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ён прыняў кіраўніцтва каралеўскімі эканоміямі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Як гродзенскі староста вырашыў упарадкаваць Гродна на ўзор сталіцы дзяржавы. Па яго ініцыятыве ў 1760—80 побач з горадам у в. Гарадніца быў пабудаваны прамыслова-культурны цэнтр з 85 будынкаў рознага прызначэння, што ўтваралі 3 асобныя зоны: адміністрацыйную, вытворчую, навучальную (пазней увайшлі ў межы г. Гродна). У прадмесцях Гродна былі заснаваны і дзейнічалі фабрыкі: суконная, шаўковая, палатняная, камлотная, карункавая, панчошная, капялюшная, карэтная, шаўковых паясоў, ігральных карт, збройнай, гарбарная, а таксама



*Гродна. З малюнка 19 ст.*

завод жалезных і медных вырабаў. Аднак, як і большасць тагачасных прадпрыемстваў, працавалі яны з малым прыбыткам або нават са стратай. Значную ўвагу надаваў Т. і земляробству. Для вывучэння спосабаў павелічэння ўраджайнасці сельскагаспадарчых культур Т. накіраваў свайго аднадумца Даўнаровіча ў Англію вывучаць агратэхніку. Каб падняць узровень жывёлагадоўлі, ён закупляў пародзістыя віды жывёл. Але аграрная рэформа, праведзеная ім у Шавельскай эканоміі, грунтавалася на ўзмацненні паншчыны, што выклікала незадаволенасць сялян, а ў 1769 нават і паўстанне. З намерам пашырэння асветы ў краі Т. заснаваў у Гродне кадэцкі корпус, гандлёвую, землямерную, медыцынскую і інш. школы. У медыцынскай школе на сродкі Т. і падараванні Панятоўскага была створана бібліятэка спецыяльнай літаратуры. Пасля ліквідацыі гэтай школы яе кнігазбор адышоў да Галоўнай школы ў Вільні. Т. быў не толькі буйным фінансістам і адміністратарам, але даволі адукаваным і культурным чалавекам свайго часу. Заснаваўшы дзесяткі мануфактур і навучальных установ, ён стварыў і свой тэатр, у які запрашаў балетмайстраў, замежных артыстаў, музыкантаў, спевакоў і харэографаў, у тым ліку братоў Г. і Л. Петынеці з Неапаля. Для падрыхтоўкі ўласных артыстаў з прыгонных сялян ён стварыў тэатральную школу. У 1772 Т. паслаў для навучання за мяжу прыдворнага капельмайстра Л.*Сітанскага*. Навучэнцамі ў тэатральную школу найчасцей бралі дзяцей прыгонных сялян з яго маёнткаў. Там вучні набывалі акцёрскія навыкі, вучыліся іграць на музычных інструментах. У праграму заняткаў уваходзілі танец, спевы, нотная грамата, тэорыя музыкі і кампазіцыя. Выкладаліся і агульнаадукацыйныя прадметы (пісьмо, арыфметыка, французская і італьянская мовы, маляванне), а таксама рукадзелле, чыталіся лекцыі па агульным выхаванні. Школа давала даволі добрую падрыхтоўку, яе вучні выступалі ў спектаклях тэатра. Выхаванцы гэтай школы артысты балета Е.Валінскі, Д.Пякарская-Сітанская, М.Рымінскі, спявачка М.Сітанская пазней праславіліся ў польскім тэатры. Тэатр, які пачынаўся з невялікага ансамбля інструменталістаў і вакалістаў, да 1778 дасягнуў высокага прафесійнага ўзроўню і стаў шматпрофільны. На яго сцэнах былі ажыццёўлены пастаноўкі оперы А.Грэты «Магніфік», камедыі П.Бамаршэ «Севільскі цырульнік» і інш. Прыдворы аркестр, т.зв. капэла Тызенгаўза, належаў да найбольшых і найлепшых па прафесійным узроўні калектываў падобнага характару ў

Вялікім княстве Літоўскім і славіўся за яго межамі. Так, у 1780 гэтая капэла была ангажыравана ў Нацыяльнальны тэатр у Варшаве. Рэпертуар капэлы ўключаў араторыі, месы, сімфоніі, розныя жанры бытавой музыкі. Пасля адстаўкі Т. тэатральная школа, балетная трупа і частка капэлы былі пераведзены ў г. Паставы.

У 1775 Т. набыў у Вільні друкарню, якой да таго валодаў М.*Пачобут-Агляніцкі*. У гэтай друкарні выдаваліся падручнікі, календары, часопіс «Gazety Wilenskie» («Віленскія газеты»). У 1775—76 Т. арганізаваў першую друкарню ў Гродне і быў адным з яе арандатараў. Частка абсталявання была ўзята з Віленскай друкарні, астатняе закуплена ў Круляўцы (Кёнігсбергу). Першыя выданні друкарні выйшлі на пачатку 1776. Тут друкаваліся арыгінальная і перакладная літаратура, навуковыя працы, падручнікі, стараславянскія, польскія, лацінскія малітоўнікі, «Каляндар гаспадарчы», «Літоўскі веснік», афіцыйныя дакументы і інш., а таксама першае на Беларусі перыядычнае выданне, ініцыятарам якога быў Т., «Gazeta Grodzienska» («Гродненская газета»). Друкарня існавала да 1802.

Няўдалая гаспадарчая палітыка (нерэнтабельнасць многіх мануфактур), інтрыгі магнатаў, незадаволеных актыўнай дзейнасцю Т., сталі прычынай адхілення ў 1780 Т. ад кіравання эканоміяй. Апошнія гады жыцця ён правёў у Паставах.

Т. былі блізкія і зразумелыя ідэі Асветніцтва. У тэатры ён бачыў не крыніцу прыбыткаў, а сродак асветы, інструмент выпраўлення нораваў і ўсталявання роднай мовы. Свае дзеянні ён апраўдваў клопатам пра цывілізацыю тутэйшага краю. Думкі, выказаныя ім пра выхаваўчую ролю тэатра, былі сугучныя палажэнням французскіх асветнікаў, асабліва Д.Дзідро. Але ў адрозненне ад апошняга ён лічыў, што тэатр існуе толькі для прывілеяванай часткі грамадства, шырокіх колаў шляхты, а не для мяшчан, рамеснікаў, гандляроў і неадукаваных сялян. Таму яго тэатр не стаў агульнадаступным, агульнанацыянальным. Каб надаць сваім пачынанням пэўную важкасць, Т. вёў перапіску з Ж.Ж.Русо і прапаноўваў яму пераехаць у Гродна або ў Белавежскую пушчу.

*Літ.*: Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Музыкальный театр Белоруссии. Дооктябрьский период. Мн., 1990; Ги-



*Гродзенскі палац А.Тызенгаўза.*

бянский И.Г. Граф Антоний Тизенгауз и гродненские королевские мануфактуры. Пг. 1916. С. 12—15.

## ТЫЛКОЎСКІ Войцех (1624—95)

Філасаф-тэолаг. Нарадзіўся ў Мазовіі. Скончыў езуіцкую гімназію ў Пултуску. На працягу некалькіх гадоў выкладаў у езуіцкіх калегіях, 4 гады працаваў у Ватыкане. У 1677—81 прафесар Віленскай акадэміі. Пазней кіраваў папскай семінарыяй у Вільні. Належаў да найбольш папулярных езуіцкіх пісьменнікаў таго часу. Валодаў лацінскай, іспанскай, старажытнымі грэчаскай і яўрэйскай мовамі. Напісаў шмат твораў па філасофіі, тэалогіі, прыродазнаўстве. Некаторыя з іх (на лацінскай мове) перавыдаваліся ў Парыжы, Вене, Аўгсбургу і інш. Знешне творы Т. нагадвалі універсальныя даведнікі аб сусвеце. Аднак усё, пра што пісаў Т., зводзілася да ўзвелічэння рэлігіі. Навуцы і розуму ён адводзіў толькі ролю каментарыяў да Свяшчэннага пісання. Найбуйнейшы яго твор — 9-томная «Займальная філасофія», у якім разам з выкладаннем логікі, метафізікі і этыкі ёсць звесткі па гісторыі прыродазнаўства, медыцыне, тэорыі Гарвея, Кеплера і інш. вучоных. Значная частка сабраных тут прыродазнаўчых звестак была безнадзейна ўстарэлая і была звычайнай езуіцкай казуістыкай, прызначанай заблытаць чытача. Т. ўсур'ёз разважаў пра такія псеўдапраблемы, як: ці могуць дрэвы размаўляць і на якой мове, ці могуць існаваць звяры без галавы, ці можа анёл кідаць камяні з неба і інш. Падобны змест і ў іншых яго творах: «Займальная метэаралогія», «Займальная фізіка». Тым не менш яго кнігі неаднаразова перавыдаваліся, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў былі для езуіцкіх прафесараў галоўнымі крыніцамі прыродазнаўчых ведаў. У якасці непарушнай ісціны Т. прапаноўваў чытачам сярэдневяковыя погляды на сістэму нябесных сфер, на Зямлю як цэнтр Сусвету. На яго думку, меркаванні вучоных пра будову Сусвету можна прымаць толькі ў тым выпадку, калі яны блізкія да гэтых поглядаў. Даволі прыхільна ставячыся да М.Каперніка як астранома, Т. абвяшчаў недаказанымі гіпотэзамі яго вучэнне пра рух Зямлі вакол нерухомага Сонца, як і вучэнне Пталамея аб руху Сонца і планет вакол Зямлі. Больш прымальнай гіпотэзай Т. лічыў вучэнне Ціха Браге пра рух Сонца вакол нерухомай Зямлі, а планет — вакол Сонца. Так, у сваёй кнізе «Навуковыя гутаркі, якія змяшчаюць у сабе амаль усю філасофію» (Варшава, 1692) ён сцвярджаў: «Некаторыя вучаць, што ў цэнтры сусвету знаходзіцца Сонца, а Зямля вакол яго рухаецца, але гэтае меркаванне, як процілеглае Свяшчэннаму пісанню, абвергнута царквой у 1616 годзе». Далей тлумачыць, што калі б Зямля круцілася вакол Сонца, то будынкі і людзі адляталі б ад яе, як адлятае ўсё тое, што кладуць на млынавы камень. З мэтай задавальнення попыту шырокіх колаў шляхты на папулярную «навуковую» літаратуру «Навуковыя гутаркі...» выдадзены ім не на лацінскай, а на польскай мове. Гэта выданне, пазбаўленае схаластычных абстракцый, уяўляла «энцыклапедыю» псеўдапраблем. Фрагменты з яе неаднаразова перадрукоўваліся ў календарах. У рэлігійна-палемічных творах Т. абгрунтоўваў і абараняў догматы рэлігіі. У кнізе «Дасканалая мудрасць, заснаваная на божым страху» (Вільня, 1743) Бога ён характарызуе як духоўна-асобную істоту, якая стварыла сусвет і кіруе ўсім, што ў ім адбываецца. Як варыянт касмалагічнага доказу быцця Бога Т. прыводзіць «лагічны» аргумент: існуючы сусвет павінен быць некім створаны. Паводле меркавання Т., Бог увасабляе найвышэйшы ўзровень усіх дасканаласцей: усемагутнасць, бязмежнасць, нязмернасць. Т. абвяргае пантэістычны пункт погляду пра тоеснасць Бога і прыроды. У гэтай кнізе спецыяльны раздзел прысвечаны абгрунтаванню несмяротнасці душы, якую пасля смерці чалавека Бог па сваім жаданні змяшчае ў рай ці ў пекла; Бог вызначае і мэту існавання чалавека, кіруе ім, але чалавеку дае свабоду ў дасягненні «нябеснай мэты». Галоўнай задачай сваіх твораў Т. лічыў навучальнасць. Мараль ён выводзіў з рэлігіі і атаясамліваў яе з «божым законам», які мае на мэце выпраўляць недасканаласць чалавечага роду. У поглядах на гісторыю Т. прытрымліваўся правідэнцыялізму, павод-

ле якога ўся дзейнасць людзей — гэта ажыццяўленне раней прадугледжанага «божага плана». Для Т. характэрны маралізатарскі падыход да гісторыі. Гісторыя і мінулае маюць значэнне толькі таму, што ў іх ёсць божыя прадбачанні сучаснага і будучыні. У кнізе «Крыніца дабрачыннай і палітычнай мудрасці, якая дапамагае пры застольных размовах» (Вільня, 1727), Т. палемізаваў з Н.Макіявелі, які лічыў, што празмерная рэлігійнасць шкодная. «Дысідэнцкіх абвінавачаннях» (перавыдадзена ў Вільні ў 1718) — з рэлігійнымі іншадумцамі, адстойвае прынцыпы каталіцкага веравучэння, абвінавачвае дысідэнтаў у рэлігійнай нецярпімасці, адстойвае дамаганні каталіцкай царквы на вяршэнства ў хрысціянстве і яе права сілай навязаць сваё веравучэнне. Памёр Т. ў Вільні.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971. С. 29—33.



## ФІЛІПОВІЧ Афанасій [1597 (?) — 15.9.1648]

Беларускі пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч. Нарадзіўся на Брэстчыне ў сям'і рамесніка. У дзяцінстве атрымаў даволі добрую адукацыю, што пазней дало яму магчымасць працаваць хатнім настаўнікам. З 1620 працаваў пры двары князя Льва *Сапегі* настаўнікам Я.Лубы, якога польскія прыдворныя колы выдавалі за рускага царэвіча. У 1627 Ф. пастрыгся ў манахі пры віленскім Святадухаўскім манастыры. Жыў у Куцеінскім (пад Оршай), Міжгорскім (пад Кіевам), Дубайскім, Купяціцкім (каля Пінска) манастырах; у 1640—43 ігумен Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце. У 1637—38 ездзіў да расійскага цара ў Маскву. Пра мэту і вынікі свайго візіту ў Маскву напісаў спецыяльную рэляцыю, або, як потым сам назваў яе, «Гісторыю падарожжа ў Маскву». Гэта быў першы публіцыстычны твор Ф., у якім ён у своеасаблівай форме, выкарыстоўваючы арыгінальныя паэтычныя прыёмы, расказаў пра цяжкае становішча праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны ў складзе Рэчы Паспалітай. Лічачы набожнага расійскага цара Міхаіла Фёдаравіча адзінай апорай прыгнечаных праваслаўных, Ф. імкнуўся пераканаць яго ў неабходнасці ваеннага ўмяшання ў справы Рэчы Паспалітай. За актыўнае процідзеянне Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 і рэзкія выпады ў адрас караля на дзяржаўных соймах (1641 і 1643) Ф. саслалі ў Кіеў (1643). Тут у чаканні суда духоўнай кансісторыі з мэтаю свайго апраўдання Ф. напісаў тлумачальную запіску, у якой выклаў мітрапаліту Пятру Магілу прычыны, што прымусілі яго рабіць пэўныя заходы ў абарону праваслаўя. Суд кансісторыі вызваліў Ф. з-пад арышту і адпусціў у Брэст. У кастрычніку 1644 польскія ўлады арыштавалі Ф. як «дзяржаўнага злачынцу» па справе Я.Лубы, выхавацелем якога ён быў. Падставай для арышту паслужыла паведамленне Ф. расійскаму паслу ў Рэчы Паспалітай пра ролю, якую адводзілі Лубу польскія палітыкі. Луба, які ў той час знаходзіўся ў Маскве, быў затрыманы. Польскія ўлады ў адказ затрымалі Ф. як заложніка. Зняволены ў варшаўскай турме, ён напісаў і накіраваў каралю шэраг артыкулаў («Навіны», «Фундамент непарадку касцёла рымскага», «Рыхтаванне на суд», «Парада набожная» і інш.), у якіх з дэмакратычных пазіцый крытыкаваў палітыку Рэчы Паспалітай, царкоўных іерархаў і свецкіх магнатаў, выступаў супраць царкоўнай уніі, за саюз з Расійскай дзяржавай. Выратаванне свайго народа Ф. бачыў у адраджэнні і ўмацаванні праваслаўнай царквы. Сваё зняволенне разглядаў як палітычную акцыю і помсту за нястомную барацьбу ў абарону праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай. Ён лічыў, што менавіта з-за царкоўнай уніі ў краіне беспакарана парушаюцца агульнапрынятыя законы і правы як у свецкім, так і ў духоўным жыцці народа, што неаднойчы станавілася прычынай абвастрэння сацыяльных і рэлігійных супярэчнасцей. У адрозненне ад іншых антыуніяцкіх палемістаў, Ф. не закранаў супярэчлівых пытанняў царкоўна-дагматычнага багаслоўя, бо добра разумеў, што польскія феадалы і

каталіцкая царква пры падтрымцы некаторых праваслаўных іерархаў імкнуліся да уніфікацыі праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў не з рэлігійных, а выключна з палітычных меркаванняў. Яго крытыка уніяцкай і каталіцкай царквы вылівалася ў бязлітаснае выкрыццё кіруючых вярхоў шляхецкай Рэчы Паспалітай.

Нават калі Луба шчасліва вярнуўся з Масквы, Ф. не атрымаў жаданай волі. Яго накіравалі ў чарговую ссылку ў Кіева-Пячэрскі манастыр. На гэты раз і П.Магіла не прыслухаўся да яго тлумачэнняў. На волю Ф. выйшаў толькі ў 1647 пасля смерці мітрапаліта. Свабода яго, аднак, была кароткатэрміновая. Паводле даносу па абвінавачанні ў дапамозе казакам Б.Хмяльніцкага фанатычныя салдаты ваяводы Масальскага пасля жорсткіх катаванняў расстралялі Ф. каля в. Гершановічы пад Брэстам. У зборніку публіцыстыкі Ф. «Дыярыуш» («Дзённік», 1646) сабраны яго падарожныя і тлумачальныя запіскі, успаміны і дзённікі, аўтабіяграфічны нарыс, легенды і містычныя прывіды, пасланні і лісты, выкрывальныя прамовы, канспектыўныя накіды асобных артыкулаў, філасофскія трактаты багаслоўскага характару, а таксама вершы, прысвечаныя барацьбе. Ідэйная насычанасць, каларытнасць і разнастайнасць стылёвых адценняў, багацце апавядальных сродкаў, розных мастацкіх прыёмаў робяць «Дыярыуш» Ф. адным з яркіх помнікаў палемічнай публіцыстыкі 17 ст. У ім знайшлі адлюстраванне пэўныя грані гераічнай барацьбы беларускага народа за свае нацыянальныя і рэлігійныя правы, культуру, звычаі і традыцыі напярэдадні шырокага вызваленчага руху сярэдзіны 17 ст.

*Тв.:* Диариуш // Из истории философской и общественно-политической мысли в Белоруссии: Избр. произв. XVI — начала XIX в. Мн., 1962.

*Літ.:* Коршунов А.Ф. Афанасий Филипович: Жизнь и творчество. Мн., 1965.

# Х 

**ХРАПТОВІЧ** Іаахім Ігнацый Юзаф Літавор (4.1.1729—4.3.1812)



Грамадскі, палітычны і дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, прыхільнік фізіякратызму на Беларусі, публіцыст, паэт, перакладчык. Паходзіў з беларускага магнацкага роду, прадстаўнікі якога адыгралі значную ролю ў развіцці культуры і асветы на Беларусі. Нарадзіўся ў маёнтку паблізу Навагрудка. Вучыўся ў Віленскай акадэміі. З 1765 маршалак Галоўнага трыбунала Вялікага княства Літоўскага, узначальваў дыпламатычныя місіі ў Парыжы і Вене. Адзін са стваральнікаў (1773) і больш за 20 гадоў член Адукацыйнай камісіі (установы па кіраўніцтве народнай асветай), загадваў дэпартаментам акадэміі і школ Вялікага княства Літоўскага. З 1780 кіраўнік каралеўскай групоўкі магнатаў і шляхты ў Вялікім княстве Літоўскім, з 1791 міністр замежных спраў, з 1793 канцлер Вялікага княства Літоўскага. У канцы 18 ст. ён заснаваў

у Варшаве «Таварыства сяброў навукі». Аўтар вершаў на польскай мове: «Гімн да прыгажосці», «Дуб і трысцінка», «Аб каханні», «Адказ Храптовіча Карпінскаму», «Храналогія роду Храптовічаў» (апублікаваны ў 1890—91), артыкула «Паэзія» (1781) і інш. У сваіх радавых маёнтках Шчорсы (Навагрудскі павет) і Вішнева (Ашмянскі павет) замяніў паншчыну чыншам. Пабудаваў у Шчорсах палац, школу, уніяцкую царкву, арганізаваў бібліятэку з архівам (150 адзінак соймавых і соймікавых актаў, каралеўскіх пісьмаў і інш.). Частку кнігазбору ён набыў у бібліяфіла Ю.Залускага (1768), частку ў рымскага кардынала І.Імперыяле. У яго бібліятэцы было больш за 10 тыс. экзэмпляраў кніг, у т.л. творы найвялікшых філосафаў, рымскіх і грэчаскіх класікаў, італьянская і французская класічная літаратура, творы па гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Бібліятэкай Х. карысталіся вучоныя *І.Ялевель*, Ф.Малеўскі, Я. і А. *Снядэцкія* , бываў у ёй А.*Міцкевіч* , бібліятэкарамі працавалі М.*Вольскі* , Я.*Чачот* .

У рэфарматарскай дзейнасці Х. (правядзенне аграрнай рэформы) выявілася імкненне прадстаўнікоў пануючага класа да павышэння прадукцыйнасці працы сялян і адначасова да паслаблення вострых класавых супярэчнасцей. Гэтыя спробы зводзіліся да пошукаў аптымальнага варыянта вядзення маянтковай гаспадаркі ва ўмовах развіцця таварна-грашовых адносін і без карэннай ломкі прыгоннай сістэмы. Больш поўнае ўяўленне пра светапогляд Х. даюць яго творы «Пра штогодняе аднаўленне краіны» і «Пра натуральнае права». У першым творы ён разглядаў праблемы палітэканоміі, у другім, поруч з прававымі праблемамі, выкладаў свае агульнафіласофскія і сацыялагічныя канцэпцыі. Х. прытрымліваўся дэістычнага погляду на свет. Асэнсоўваючы грамадскае жыццё, Х. адзначыў наяўнасць у ім «натуральнага парадку», які ўстанаўлівае правы і абавязкі ўсіх членаў грамадства. Для падтрымкі такога парадку ў супольным жыцці заключаюцца дагаворы. Чым бліжэй закон да натуральнага права, тым больш ён справядлівы. У цэнтры ўсяго знаходзіцца чалавек з яго патрэбамі, інтарэсамі,



*Бібліятэка І.Л.Храптовіча ў Шчорсах. З малюнка 19 ст.*

правамі і абавязкамі. Паколькі задавальненне патрэб чалавека магчыма толькі ў грамадстве, то кожны павінен лічыцца з патрэбамі іншых членаў грамадства. Але людзі значна адрозніваюцца адзін ад аднаго сваім маёмасным становішчам. І тым не менш, як вынікае з натуральнага парадку рэчаў, кожны павінен працаваць на тым месцы, якое яму натуральна наканавана, не імкнучыся пранікнуць у закрытую для яго сферу. Нягледзячы на класавую абмежаванасць поглядаў Х., у яго вучэнні ёсць прагрэсіўныя моманты. Маральны парадак ён ставіць у залежнасць ад фізічнага парадку прыроды. Маральныя законы цалкам адпавядаюць таму, што карысна і неабходна чалавеку ў яго жыцці. Так, «дзеці павінны паважаць бацькоў, бацькі павінны гадаваць дзяцей — гэта вынікае з маральнага парадку, які адпавядае фізічнаму парадку прыроды і, зусім відавочна, карысны роду людскому». Фізіякраты, да іх належаў і Х., грамадства разглядалі як натуральны арганізм, што складае частку прыроды, у якую ўваходзяць чалавек і яго маральныя прынцыпы. Калі ж чалавек вырваны з заканамернай сувязі прыроды (не мае свабоды ці бяспекі або пазбаўлены ўласнасці), ён становіцца ізгоем, бескарысным для сябе і грамадства. «Якія ж ён можа мець абавязкі, не маючы правоў? Ці заставіш яго працаваць? Дык яго самыя карысныя здольнасці розуму, кемлівасць не падпарадкоўваюцца прымусу». Гэта канцэпцыя дае права сцвярджаць, што Х. лічыў чалавека і яго здольнасці

(перш за ўсё разумовыя) галоўным элементам вытворчасці. Сваімі гаспадарчымі рэформамі і вызваленнем сялян ад прыгоннай залежнасці Х. абгрунтоўваў магчымасць здзяйснення расшыранага ўзнаўлення. Ён верыў, што пры належнай арганізацыі грамадскага жыцця ў адпаведнасці з патрабаваннямі «натуральнага права» ўзнікае магчымасць стварэння пастаянна растучай забяспечанасці і асветы для ўсіх. Гэта быў асветніцкі гуманізм і адначасова утапізм. Гуманізм Х. праяўляўся ў павазе да асобы селяніна, прызнанні яго натуральных правоў, ва ўвазе да творчасці народа. Сацыяльныя тэорыі і дзейнасць Х. атрымалі прызнанне і падтрымку. Ураджэнка Навагрудчыны паэтэса Т.Глінская дала высокую (з пункту погляду абстрактнага гуманізму) ацэнку рэформе Х. ў паэме «Шчорсы».

*Тв.*: Prawo natury. Warszawa, 1814.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (До 1917 г.). Мн., 1973. С. 216—218.

*Э.К.Дарашэвіч*



## ЦАДРОЎСКІ Ян Янавіч [3.3.1617—82(?)]

Грамадскі дзеяч, пісьменнік-мемуарыст. Нарадзіўся ў в. Пагост Салігорскага р-на. Вучыўся ў Круляведкім універсітэце (Прусія), з 1636 слухач Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. З 1637 на службе ў Б.Радзівіла, з якім у 1638—39 падарожнічаў па Германіі, Галандыі, Даніі, Францыі, Англіі. Пісаў на польскай мове. Аўтар мемуараў (без назвы), упершыню апублікаваных на рускай мове ў часопісе «Временник императорского Московского общества истории и древностей российских» (1855). Мемуары складаюцца з 2 частак. У 1-й з іх занатаваны сціслыя біяграфічныя звесткі, адлюстраваны гістарычныя і грамадскія падзеі, апісаны дыпламатычныя даручэнні ў час руска-польскай вайны 1654—67, голад 1656 на Міншчыне, расправа католікаў над віленскімі кальвіністамі 1682. Другая частка мемуараў складаецца ў асноўным з мартыралога, дзе прыведзены звесткі пра родных і знаёмых людзей. У цэнтры твора — выключна свецкія падзеі. Аўтар заклікае да верацярпімасці, услаўляе зямное жыццё чалавека.

*Тв.*: У кн.: Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983. С. 23—30, 123—153; Успаміны // Беларуская літаратура. Мн., 1977. *А.Ф.Коршунаў.*

## ЦЯЦЕРСКІ Міхал (? — 12.9.1797)

Беларускі і польскі драматург, педагог. Доўгі час выкладаў рыторыку ў Забельскім дамініканскім калегіуме (цяпер Верхнядзвінскі раён). Тут ён разам з К.*Марашэўскім* і І.*Юрэвічам* стварыў школьны тэатр. Пісаў для гэтага тэатра трагедыі і камедыі, перарабіў камедыю Мальера «Лекар паняволі» («Доктар па прымусу», 1787): увёў у яе арыгінальныя вобразы беларускіх сялян Апанаса і Хведара, напоўніў мальераўскі сюжэт мясцовым беларускім каларытам. Ён аўтар трагедый «Сапар» (1788) і «Фемістокл» (1790), камедый «Шлюб, пастаўлены дагары нагамі штучкамі арлекіна» і «Камедыя» (1790—91), празаічнай часткі тэксту камічнай оперы «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас» (1789). Паводле законаў класіцызму ў трагедыях дзейнічалі людзі высокага паходжання — каралі, князі, палкаводцы. На іх прыкладзе аўтар імкнуўся даць маладому пакаленню ўзоры пераймання, садзейнічаў выхаванню грамадзянскасці, патрыятызму, высокай маральнасці. З асветніцкіх пазіцый аўтар асуджаў у іх дэспатызм, сцвярджаў роўнае права ўсіх людзей на валоданне багаццямі прыроды, праслаўляў свецкія веды і чалавечыя дабрачыннасці. У камедыях ён высмейваў маральныя заганы беларускіх і польскіх федалаў, іх скважнасць і інтэлектуальнае ўбоства.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 320—324.

# Ш

## ШАДУРСКІ Станіслаў (1726—89)

Філосаф. Нарадзіўся непадалёку ад Дзвінска (цяпер Даўгаўпілс, Латвія). Адукацыю атрымаў у езуіцкіх калегіумах Вільні і Оршы. Тры гады выкладаў грэчаскую і лацінскую мовы ў Вільні і Варшаве. У 1752 паступіў у Віленскі універсітэт і неўзабаве накіраваны працягваць адукацыю ў Парыж. Тут, у калегіуме Людовіка Вялікага, 4 гады вывучаў філасофію, прыродазнаўства і матэматыку, наведваў лекцыі прафесара фізікі і натуральнай гісторыі, члена французскай акадэміі навук І.-А.Ноля, на якіх апошні дэманстраваў свае доследы па вывучэнні электрычнасці. Вярнуўшыся на радзіму, Ш. з 1757 выкладаў філасофію ў Варшаўскім шляхецкім калегіуме, а ў 1759—62 быў прафесарам філасофіі Навагрудскага калегіума. У гэты перыяд ён напісаў і апублікаваў усе свае філасофскія творы, прычым найбольш значныя — у Навагрудку. Сярод іх «Прынцыпы філасофіі мыслення і адчуванняў» (1758), «Зачаткі разважанняў у розных дыялогах, а таксама практыкаванняў па логіцы, этыцы і метафізіцы» (1760), «Філасофскія азначэнні агульнай фізікі, выказаныя публічна аўтарам» (1761), «Фізіка, або Філасофія прыроды» (не апублікавана). У 1762—65 Ш. займаў пасаду прыдворнага капелана. Потым да 1771 выкладаў філасофію ў Вільні, Гродне, Браневе, пасля чаго яго выкладчыцкая і навуковая дзейнасць па невядомых прычынах спынілася. У 1773 Ш. выйшаў з ордэна езуітаў.

Ш. — найбольш вядомы прадстаўнік натурфіласофіі 2-й паловы 18 ст. Ён арыентаваўся на навуковыя дасягненні прыродазнаўства, прызнаваў прагрэсіўныя тагачасныя вучэнні і канцэпцыі. У яго тэарэтычнай спадчыне адлюстраваўся працэс распаду схаластычнай філасофіі і станаўлення філасофскай і прыродазнаўчай думкі Новага часу. У фармальнай логіцы, напрыклад, ён разглядаў 3 традыцыйныя для схаластыкі аперацыі розуму — паняцце, суджэнне і вывад, а таксама некаторыя пытанні распрацаванай Арыстоцелем лагічнай тэорыі дэдуктыўнага разважання (сілагістыкі), семантыкі і аналогіі выказванняў. Паводле Ш., у тэорыі пазнання неабходна гарманічна спалучаць рацыяналізм і эмпірызм, а асноўным крытэрыем ісціны павінна быць відавочнасць, не адмаўляючы пры гэтым значэння гістарычнага сведчання, веры і думкі. Разам з метафізікай, фізічнай і маральнай ісцінамі, традыцыйнымі для схаластыкі, ён прапанаваў увесці некаторыя дадатковыя азначэнні, у прыватнасці, паняцце аналагічнай ісціны. У цэлым лагічныя погляды Ш. знаходзіліся на стыку схаластычнай логікі і логікі Новага часу, уплыў якой выяўляўся ў зацікаўленасці мысліцеля-тэарэтыка пазнавальнымі праблемамі, у большай даступнасці зместу і больш простай манеры выкладання. У псіхалогіі пры тлумачэнні ўзаемадзеяння душы і цела ён звяртаўся да «сістэмы фізічных уздзеянняў», спрабаваў вылучыць фізічныя асновы «душы», тым самым атаясамліваючы яе з мозгам. Чалавек у яго працах уяўляецца ў якасці псіхафізічнага быцця, спалучэння матэрыі і духу. Паводле Ш., цела і душа ўзаемазалежныя і ўдзельнічаюць адно на адно. Як і іншыя тагачасныя філосафы, ён лічыў, што нашы адчуванні і іх змест пэўным чынам звязаны са станам успрымаемых аб'ектаў і не з'яўляюцца іх абсалютным адлюстраваннем.

Найбольшы ўплыў на творчасць Ш. зрабілі вучэнне і светапоглядная сістэма Р.Дэкарта. З ім Ш. разыходзіўся толькі ў некаторых прыватных пытаннях, затое падзяляў асноўныя прынцыпы такіх частак яго філасофіі, як матэрыялістычная фізіка, ідэалістычная і дуалістычная метафізіка. Гэта знайшло адлюстраванне ў надрукаванай у Навагрудку яго працы «Філасофскія азначэнні агульнай фізікі». У адпаведнасці з канцэпцыяй Ш., «агульная фізіка» павінна займацца тым, што з'яўляецца агульным і ўласцівым усім відам матэрыяльнай рэчаіснасці, вывучаць сутнасць матэрыі і законаў, якія кіруюць ёю, «прыватная фізіка» — вывучэннем асобных кампанентаў і з'яў матэрыяльнага свету, абапіраючыся галоўным чынам на вопыт і эксперы-

мент. Паводле Ш., фізіка павінна абапірацца на розум, паказанні органаў пачуццяў і эксперыментальныя даныя. Яна «займаецца тым, што не падмяняе розум доследам, а дослед не ўводзіцца ў зман розумам»; аб'ектам яе даследаванняў з'яўляецца ўся матэрыяльная рэчаіснасць, таму фізіка і падзяляецца на шэраг навук: аб небе — ураналогія, атмасферы — аэралогія, зямлі — геалогія, целе — саматалогія. Апошняя навука падрабязна выкладзена ў яго «Філасофскіх азначэннях».

Разглядаючы філасофскія і навуковыя сістэмы розных часоў, Ш. надзвычай крытычна ставіўся да схаластыкі. Не зусім задавальнялі яго і некаторыя філасофскія сістэмы Новага часу. «Мы, — пісаў ён, — належым да школы філасафаў-эклектыкаў, таму што не прытрымліваемся ніводнай з цэласных сістэм. Сістэма Ньютана не ўяўляецца нам прымальнай, пакуль яе прыхільнікі больш ясна не растлумачаць сваю славутую сілу прыцягнення, не задавальняе нас разгляд непадзельных атамаў эпікурэйцамі з іх найдрабнейшымі пылінкамі. Не можам мы лёгка пагадзіцца і з усім, што пастуліравана самім Картэзіем. Да канца не разумеем мы сутнасць манад Лейбніца і тое, чаму яны ўтвараюцца самі з сябе і якім чынам гэтая майстэрня свету будуецца. Ад перыпатэтычнай сістэмы, якая аперыруе абсалютнымі выпадковасцямі, таемнымі якасцямі, бояззю пустаты і матэрыяльнымі субстанцыяльнымі формамі (якія, аднак, не з'яўляюцца матэрыяй), мы адышлі даўно і адрозніваемся ад яе, як неба ад зямлі. У гэтай частцы філасофіі (фізіцы) мы не прытрымліваемся іх сістэмы, таму што фізічныя з'явы яны тлумачаць хутчэй метафізічна, чым натуральным спосабам». З гэтага праграмнага выказвання Ш. вынікае, што ён быў прыхільнікам эклектычнай філасофіі, якая існавала на Беларусі і пасля разлажэння схаластычнай філасофіі як гістарычна непазбежнага этапу ў развіцці духоўнай культуры, асэнсавання аб'ектыўнай неабходнасці сацыяльных пераўтварэнняў і рэформ. Зыходзячы з гэтага, Ш. лічыў магчымым карыстацца рознымі філасофскімі сістэмамі, запазычваючы з іх толькі тое, што ўяўлялася яму дакладным і не выклікала сумнення. Ён не падзяляў матэрыялістычны атамізм Эпікура і ідэалістычную інтэрпрэтацыю атамізму ў вучэнні Г.Лейбніца аб манадах. Ш. адзначаў таксама розныя недахопы ў сістэмах Ньютана, Гасендзі і інш. У сваім адмоўным стаўленні да схаластыкі Ш. быў аднадушны з заснавальнікамі новай заходнееўрапейскай філасофіі Ф.Бэканам і Р.Дэкартам. Крытыкуючы славесную вучонасць схаластыкі і яе рабскую залежнасць ад аўтарытэтаў, Ш. падкрэсліваў факты ігнаравання ёю доследнага вывучэння прыроды: «Жанглiруюць словамі, а не філасофствуюць тыя філосафы, якія, не звяртаючыся да самой прыроды, займаюцца сухімі і плённымі разважаннямі і вырашаюць праблемы пачуццёвага свету выключна метафізічнымі спосабамі; з другога боку, належыць назваць рамеснікамі ў фізіцы тых, хто, аперыруючы звесткамі пра з'явы прыроды, узятымі з навуковых сачыненняў, прымхліва і занадта лёгка давярае гэтым звесткам, не хоча ні сам іх даследаваць, ні іншым праз дослед прапанаваць, а таксама зводзіць іх да адзіных законаў прыроды». Ш. падзяляў пункт погляду Р.Дэкарта пра існаванне двух субстанцый — матэрыяльнай і духоўнай. Дуалізм у вырашэнні праблемы суадносін матэрыі і свядомасці вызначылі яго адмоўныя адносіны да сенсуалізму Д.Лока. Ш. лічыў памылковым вучэнне Лока аб сувязі душы чалавека з яго целам. Адначасова ён спрабаваў аб'яднаць вучэнне Р.Дэкарта аб прыроджаных ідэях са схаластычным палажэннем аб інтэлектуальным пазнанні. Спецыяльна спыняўся Ш. на доказах існавання Бога, выступаў супраць атэізму і пантэізму і ў гэтай сувязі падрабязна разглядаў погляды Б.Спінозы, Д.Берклі і інш. філосафаў. Асаблівай увагі заслугоўваюць яго рацыянальна-эмпірычны погляд на прыродазнаўства, спроба вытлумачыць рэлігійныя догматы з дапамогай законаў механікі, выкладанне законаў дынамікі, статыкі, оптыкі і інш. Філасофія Ш., якую ён сам называў «філасофіяй розуму і адчування», з'яўляецца значным укладам у развіццё навуковай і грамадскай думкі Беларусі, Літвы і Польшчы.

*Тв.:* **Философские положения по общей физике // Памятники философской мысли**

Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991.

*Літ.:* Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII — середине XVIII в. Мн., 1971; Цукерман А.Я. Философская мысль в Белоруссии середины XVIII века. Мн., 1980; Bednazski S. Upadek i odrodzenie szkol jezuickich w Polsce. Krakow, 1933.

## ШЧАВІНСКІ (1577—1671)

Дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Быў маршалкам сойма ў 1616. У тым жа годзе стаў ваяводам берасцейска-куяўскім. Вядомы сваім красамоўствам. Апрача прамоў на соймах надрукаваў «Прамову на пахаванне Андрэя Баболі» (Вільня, 1629).

## ШЧУРАЎСКІ Тыматэвуш (1740—1812)

Місіянер і прапаведнік базыльянскага ордэна. Паходзіў з Валыні. Быў прапаведнікам, потым настаяцелем базыльянскага манастыра ў Вільні. У 1792 заснаваў новы жаночы манаскі ордэн ва уніяцкім манастыры, манашак якога называў ёзафаткамі. Пісаў духоўныя вершы, якія доўгі час спявалі па ўсім Палессі. Аўтар вершаванага дыялога, твораў «Знак блаславення апостальскай навукі» (Вільня, 1780—83), «Бельская місія» (Супрасль, 1792).

# Ю

## ЮРЭВІЧ Ігнат

Драматург, педагог, асветнік 2-й паловы 18 ст. Біяграфічных звестак,у т.л. пра час і месца нараджэння, не захавалася. Вядома толькі, што ў 1780-я гады ён жыў на Полаччыне і працаваў выкладчыкам у Забельскім дамініканскім калегіуме, які ў той час быў значным цэнтрам літаратурна-тэатральнага жыцця краю. Пры калегіуме дзейнічаў школьны тэатр, рэпертуар якога вызначаўся выключнай разнастайнасцю (ставіліся трагедыі, камедыі, аперэты і інш.). У ліку напісаных для тэатра выкладчыкамі калегіума класічных трагедый і камедый на антычныя тэмы былі трагедыя «Крэз» (1789) і камедыя «Пышнагельскі», аўтарам якіх з'яўляецца Ю. У гэтых творах адчуваецца ўплыў на яго асветніцкіх ідэй.

Зыходзячы з прац Герадота, Ю. у трагедыі «Крэз» паказаў бессэнсоўнасць вайны паміж персідскім царом Крэзам і лідыйскім царом Кірам, усла́ўляў мірнае вырашэнне міждзяржаўных канфліктаў. У камедыі «Пышнагельскі» аўтар выкрывае п'янства, марнатраўства, маральнае ўбоства мясцовай шляхты. Свае творы Ю. пісаў на польскай мове, але яна насычана беларусізмамі. Творы Ю. зберагаюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы.

*Літ.:* Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 322, 324—326.

# Я

## ЯГАДЗІНСКІ Станіслаў Серафім (каля 1590 — каля 1644)

Паэт, перакладчык. Нарадзіўся на Гродзеншчыне, у сям'і збяднелага шляхціца. У 1613—18 вучыўся ў Віленскай акадэміі. Менавіта ў гэты перыяд ён пачаў пісаць вершы. Гэта былі панегірыкі, прысвечаныя прадстаўнікам уплывовай беларускай знаці (Г.Валовічу, А. і К.Халецкім; надрукаваны ў друкарні Я.Карцана), эпіталама з нагоды шлюбу К.Халецкага, 2 вершаваныя ўступы да кнігі М.Халецкага «Алегорыя» і інш. Прыхільнасць Халецкіх і іх матэрыяльная падтрымка далі Я. магчымасць паступіць на факультэт права Кракаўскай акадэміі і паспяхова скончыць яго ў 1620. З 1621 ён працягваў адукацыю ў Падуанскім універсітэце, у 1624—25 падарожнічаў па краінах Заходняй Еўропы (Германія, Бельгія і Італія). З 1625 Я. жыў пры двары Радзівілаў у Нясвіжы, наведваў Кобрын, Жыровічы, Гродна. Рабіў для магнатаў геральдычныя знакі. У гэты час пісаў пераважна панегірыкі, у асноўным на лацінскай і польскай мовах, але ў яго творах сустракаецца шмат беларускіх слоў, зваротаў. Яго творчасць зазнала ўплыў рэнесансавай па-

эзіі Я.Каханоўскага. Я. з'яўляецца аўтарам зборнікаў сатырычных эпіграм «Грош» [1618 (?)], «Прыдворныя» (1621), перакладаў на польскую мову «Трыумф кахання» Ф.Петраркі (застаўся ў рукапісе), лібрэта оперы «Вызваленне Руджыера з вострава Альцыны» Ф.Сарачынелі (1628). Яму прыпісваецца аўтарства першага польскага падручніка па каліграфіі («Каліграфія», выд. 1965).

*Літ.*: Парэцкі Я.І. Сатырычныя вершы С.Ягадзінскага // Беларуская літаратура. Мн., 1980. Вып. 8.

## ЯЛЕНСКІ Іосіф Міхайлавіч (1756—23.3.1813)

Публіцыст, прадстаўнік радыкальнага утапізму, адзін з першых шляхецкіх рэвалюцыянераў Беларусі. Нарадзіўся ў маёнтку Свентарэчча Шавельскага пав. (цяпер Літва) у збяднелай шляхецкай сям'і. Дзяцінства яго прайшло ў в. Малыя Прудкі на Мазыршчыне. Скончыўшы гродзенскую землямерную школу І. Тызенгаўза, працаваў пісарам, бухгалтарам, сплаўшчыкам лесу, каморнікам на Мазыршчыне і Полаччыне. На пачатку 1780-х гадоў часта бываў у Пецярбургу. У 1794 там арыштаваны за захаванне «недазволеных» рукапісаў. Імператрыца Кацярына II асабіста займалася яго справай, і яму пагражала смяротная кара. Ад такой кары яго ратаваў толькі пераход у праваслаўную веру. Пад імем Аляксея Я. быў сасланы ў Салавецкі манастыр. Пасля выхаду з манастыра ў 1801 уступіў у секту скапцоў.

Я. — аўтар маніфестаў «Пераклад польскага права, усенародна складзенага» (дапоўнены «Прысягай караля»), «Адозва да народа — агульных сабрацяў нашых» (захаваўся ў рукапісах на польскай мове) і інш., у якіх выступаў супраць прыгоннага права, за роўнасць усіх саслоўяў, намаляваў жудасную карціну паднявольнага сялянскага жыцця, заклікаў народ яднацца і змагацца за «вольнасць», выказваўся за дэмакратычную рэспубліку. Найбольш значны яго твор — «Благавесць да Ісраіля Расійскага» (напісаны ў манастыры на рускай мове з беларусізмамі і паланізмамі), дзе таксама крытыкаваў прыгонніцтва і заклікаў знішчыць яго: «І чаго ж, шаноўныя браты, на працягу больш тысячы гадоў вашай няволі не выпрaоавалі, чаго не перацярпелі... ніхто не можа былога вашага няшчасця апісаць. Напрыклад, не аднаго з вас, няволнікаў, гарачы пан, разззлаваўшыся на каня, чалавека забіў, за зняважлівае абыходжанне з панскім сабакам чалавека замучыў, за нездыманне шапкі перад панам — да смерці засек, за разбіццё шклянкі — зубоў некалькі ці жыццё страціў». У «Благавесці...» выказвалася ідэя пра народ як творцу ўсяго багацця і матэрыяльных каштоўнасцей: «Вашай працай дамы і палацы будаваны, гарады і крэпасці ўмацаваны, ваша сіла ворага з айчыны выцесніла, перамогу атрымала, вашай працай усе сытапузы кормяцца». Выказаў ён і пратэст супраць эксплуатацыі, сілу гневу і лад думак прыгнечанага народа. У пошуках ідэалу грамадскага ўпарадкавання Я. вагаўся паміж старой даніканаўскай Руссю і эпохай кіравання Пятра І. Пры ўсёй неакрэсленасці поглядаў на будучы грамадска-палітычны лад у Расіі ён быў паслядоўны ў адносінах да прыгоннай зямлі, якую лічыў асноўным злом эпохі. Выказваючы ідэю грамадска-камуністычнага ўпарадкавання сацыяльнага жыцця ў краіне, ён прапаноўваў ствараць аб'яднанні, дзе ўсе асноўныя сродкі працы, зямля і вынікі працы належалі б працаўнікам, а фінансы, манетныя двары, мануфактуры былі агульнанароднай уласнасцю. Адукацыю ён лічыў абавязковай для ўсіх членаў абшчыны. На яго думку, пасля ўсталявання ладу «благавесці», г.зн. грамадства ўсеагульнага шчасця і роўнасці, адукацыя стане ўсеагульнай і даступнай. Калі ж хто з-за ляноты ці іншых прычын не захоча вучыцца, да таго меркавалася ўжываць меры маральнага асуджэння. Органы кіравання, суды і «савет старэйшын» меркавалася выбіраць «агульнанародна», прамым галасаваннем. Перавага на выбарах павінна аддавацца мудрым і сумленным людзям. Законы павінны быць простыя, ясныя, а колькасць іх строга абмежаваная, каб «усякі іх лёгка зразумеў». Галоўнай пружынай грамадства павінна стаць строгая мараль. Смяротная кара адмяняецца. Парушальнікаў агульнанародных правіл прадугледжвалася выганяць з абшчыны. У шэрагу сваіх твораў крытыкуе

рэлігіі, хоць падтрымлівае рэлігійна-апазіцыйны рух, у прыватнасці старавераў. Духавенства і афіцыйныя рэлігіі крытыкаваў з пазіцый народнага светапогляду. Лічыў, што духавенства свядома падманвае просты народ, падбухторвае адзін народ супраць другога, клапоцячыся толькі пра свае карыслівыя інтарэсы. На яго думку, варожасць паміж каталіцызмам і праваслаўем адмоўна ўплывала на адносіны паміж польскім і рускім народамі: «...за звычкі спрачаюцца, а ісціну топчуць». Ён верыў у з'яднанне народаў у агульнанароднай Расійскай дзяржаве, дзе яны будуць жыць у сумеснай працы і павазе, адмовяцца ад афіцыйных веравызнанняў на карысць адзіных раннехрысціянскіх ідэалаў, якія Я. спалучаў з асветніцка-дэмакратычнымі ідэаламі: важнасць палітычнага ладу дзяржавы, вялікая роля асветы, пастаянны рост грамадскай вытворчасці і дабрабыту народа, яго духоўнага ўдасканалення. Яго глыбока хвалявала пытанне адзінства славян, асабліва рускіх, палякаў і беларусаў. Ён лічыў, што ім неабходна жыць у дружбе і для гэтага ёсць усе перадумовы ў іх гісторыі і мовах.

*Літ.*: Фруменков Г.Г. Узники Соловецкого монастыря. 4 изд. Архангельск, 1979; Валлич Э.И. Из истории радикальной утопической мысли в России конца XVIII в. // История социалистических учений. М. 1976; Клибанов А.И. Народная социальная утопия в России. Период феодализма. М., 1977; Дорошевич Э.К. Гуманизм в демократической и социально-утопической мысли // Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 299—303; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 229—232.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## ЯСІНСКІ Якуб (Jasinski) (24.12.1761—4.11.1794)

Паэт-рэвалюцыянер, генерал войск Рэчы Паспалітай, удзельнік паўстання 1794. Нарадзіўся ў Венглеве ў шляхецкай сям'і. Бацька Павел у свой час служыў у званні паручніка ў харугве



*Варшава. Замкавая плошча. Мастак Каналета.*

ваяводзіча смаленскага Сапегі, маці — Францішка з роду Касцецкіх. Атрымаў добрую хатнюю адукацыю. У 1773—80 вучыўся ў Варшаўскім кадэцкім корпусе, пасля заканчэння якога прызначаны падбрыгадзірам 4-й брыгады корпуса. У пач. 1789 кароль Станіслаў Аўгуст *Панятоўскі* даручыў Я. і іншым арганізаваць корпус інжынераў літоўскіх у Вільні. З 1792 палкоўнік у інжынерным корпусе. Калі ў маі 1792 пачалася вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, выконваў абавязкі камандзіра корпуса інжынераў пры галоўнай літоўскай дывізіі, удзельнічаў у бітвах пад Мірам, Брэстам. Узнагароджаны залатым крыжам «Віртуці Мілітары». У 1794 узначальваў тайную арганізацыю «віленскіх якабінцаў». У час паўстання ўваходзіў у часовы рэвалюцыйны ўрад Літвы і заходняй Беларусі — Найвышэйшую літоўскую раду; атрымаў званне генерала, камандаваў дывізіяй. Загінуў пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы).

Меў добрыя паэтычныя здольнасці, але літаратуру не лічыў асноўнай сваёй дзейнасцю. Творчасць Я. спачатку развівалася пад уплывам сентыменталізму (жартоўныя эратычныя вершы, ідыліі, папулярныя песенькі, напр., «Ясь і Зося»). З сярэдзіны 1780-х гадоў звярнуўся да сацыяльнай тэматыкі. Яго вершы і байкі набылі палітычны характар, у некаторых творах заклікаў народ да адкрытай барацьбы з феадальнай тыраніяй і выкарыстоўваць вопыт Французскай рэвалюцыі. Асновай значнасці чалавека, праверкай яго маральных якасцей лічыў грамадскую карыснасць. Сваёй творчасцю Я. зрабіў рашучы крок ад асветніцтва да рэвалюцыйнага дэмакратызму. Аўтар іроікамічнай паэмы «Спрэчкі» (1788—92); як і паэма «Цянця», часткова апублікавана ў «Tygodniku Wilenskim» («Віленскі штотыднёвік», 1819), у якой выкрываў ролю рэлігіі ў феадальным грамадстве, яе палітычную і сацыяльную аснову. Верш Я. «Аб сталасці: Да польскіх выгнаннікаў» выдадзены асобна ў Гродне (1793). Творы Я. выдадзены ў Кракаве (1869). А.*Міцкевіч* прысвяціў яму драму «Якуб Ясінскі».

*Літ.*: Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa, etc., 1917.

*А.М.Філатава.*



## БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ

| | |
|---|---|
| **1803—1917 гг.** | Дзейнасць Віленскай навучальнай акругі, у якую ўваходзілі навучальныя ўстановы Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў. |
| **1812 г.** | Вайна Расіі супраць нашэсця войск Напалеона I. |
| **1812—1820 гг.** | Полацкая акадэмія. |
| **1817—1823 гг.** | Дзейнасць тайных студэнцкіх таварystваў філаматаў і філарэтаў у Віленскім універсітэце. |
| **1824 г.** | Выданне «Беларускага архіва старажытных грамат» — першага зборніка дакументаў па гісторыі беларускіх зямель. |
| **1830—1831 гг.** | Вызваленчае паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. |
| **1840 г., 27 жніўня** | Адкрыццё ў мястэчку Горы-Горкі земляробчай школы вышэйшага разраду (з 1848 — інстытут). |
| **1855 г.** | Утварэнне ў Вільні археалагічнай камісіі, якая вывучала старажытнасці на Беларусі і ў Літве. |
| **1863 г., студзень — 1864 г.** | Вызваленчае паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве; на Беларусі ўзначальваў К.Каліноўскі. |
| **1872—1918 гг.** | Дзейнасць у Полацку настаўніцкай семінарыі. |
| **1875—1912 гг.** | Дзейнасць у Нясвіжы настаўніцкай семінарыі. |
| **1890 г.** | Адкрыццё ў Мінску гарадскога тэатра. |
| **1892 г.** | Заснаванне ў Віцебску мастацкай школы. |

# А

## АБІХТ Адольф Іванавіч (1793—3.8.1860)



Вучоны-медык. Нарадзіўся ў сям'і філасофа І.Х.Абіхта. У 1810 скончыў Віленскі універсітэт. Магістр філасофіі (1811), доктар медыцыны (1815). Кіраваў гінекалагічнай клінікай пры Віленскім універсітэце. У 1820 накіраваны на 3 гады за мяжу на падрыхтоўку да прафесуры. Падарожнічаў па Германіі і Францыі, слухаў лекцыі ў Вене і Парыжы. У 1823 атрымаў кафедру галоўнага курса паталогіі ў Віленскім універсітэце. У 1827 прызначаны ардынарным прафесарам. Пасля закрыцця універсітэта з 1832 быў прафесарам Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Лічыўся першым медыцынскім кансультантам у Вільні і Літве. Аўтар прац «Пра атручэнні і спосабы іх лячэння» (Вільня, 1829), «Заўвагі адносна паталогіі, як асновы медыцынскай сістэмы» (1831). Пасля закрыцця акадэміі займаўся лячэбнай практыкай у Вільні.

## АБЛАМОВІЧЫ

Вучоныя. Сыны слонімскага ваяводы. В і к е н ц і й   К а р л а в і ч, доктар медыцыны Віленскага універсітэта (1828). Званне прысвоена за дысертацыю «Абарачэнне». І г н а т   К а р л а в і ч (1787—1848), фізік. Скончыў настаўніцкую семінарыю пры Віленскім універсітэце і ў званні магістра філасофіі накіраваны ў Мінскую гімназію выкладчыкам фізікі. Праз 2 гады яго запрасілі ў Віленскі універсітэт памочнікам загадчыка фізічнага кабінета. З верасня 1813 старшы выкладчык фізікі ў Віленскай гімназіі, з верасня 1817 ад'юнкт-прафесар хіміі ў Віленскім універсітэце. З 1818 удасканальваўся ў навуцы 6 гадоў за мяжой. Пасля вяртання быў выкладчыкам прыродазнаўства ў Валынскім ліцэі, адкуль пераведзены ў Кіеўскі універсітэт св. Уладзіміра, дзе і працаваў да выхаду на пенсію (1837). Памёр ад халеры. І о с і ф   К а р л а в і ч (1803—?), доктар медыцыны Віленскага універсітэта.

## АБРАМОВІЧ Антон Іванавіч (каля 1811 — пасля 1854)

Піяніст, кампазітар, педагог. Нарадзіўся ў Віцебскім павеце. Музыцы вучыўся ў бацькі. У канцы 1832 пераехаў у Пецярбург, дзе ў хуткім часе заваяваў прызнанне як таленавіты выканаўца і высокапрафесійны фартэпіянны педагог. Яго метад навучання на фартэпіяна карыстаўся ў Пецярбургу вялікай папулярнасцю, і многія з яго навучэнцаў дасягнулі значных поспехаў. У 1846 А. зрабіў спробу абагульніць свой педагагічны вопыт і распачаў работу над вучэбным дапаможнікам для піяністаў-педагогаў «Школа для фартэпіяна». Побач з педагагічнай А. актыўна займаўся канцэртнай дзейнасцю, якая атрымала выдатную ацэнку пецярбургскіх музычных крытыкаў. Ён напісаў каля 50 фартэпіянных і вакальных твораў, сярод якіх фантазіі, варыяцыі, паланезы, вальсы, мазуркі, маршы, рамансы, апрацоўкі беларускіх народных песень і інш. Асобнае месца ў творчай спадчыне А. займае фартэпіянная паэма «Беларускае вяселле», дзе ўпершыню ў аснову твора прафесійнага кампазітара пакладзены сю-

жэт вясельнага абраду. Гэты яскравы, каларытны твор не страціў свайго гісторыка-этнаграфічнага і мастацкага значэння і да нашага часу.

*Літ.*: Ахвердава А. Пачынальнікі беларускага піянізму // Мастацтва Беларусі. 1985. №2.

## **АБРАМОВІЧ** Марыян Станіслаў (25.3.1871 — 7.1.1925)



Рэвалюцыянер-народнік, дзеяч культуры Беларусі і Польшчы. Нарадзіўся ў г. Цвер. Скончыўшы гімназію ў Маскве, у 1888 паступіў на матэматычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Яшчэ ў час вучобы ў гімназіі А. пазнаёміўся з сацыялістычным рухам, а ва універсітэце знаходзіўся пад уплывам ідэалогіі «Народнай волі» і партыі «Пралетарыят». З 1888 член студэнцкай арганізацыі «Гурток польскі», быў дэлегатам гэтай арганізацыі на з'езд Саюза польскай моладзі ў Варшаве ў 1889. 9.3.1890 арыштаваны разам з Н.Чарноцкім, Ядвігіным Ш. і інш. за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях і зняволены ў Маскоўскую турму Бутыркі. У турме прыняў удзел у заснаванні Першага беларускага гуртка моладзі ў Маскве, мэтамі якога было «якім бы то ні было спосабам — легальным ці нелегальным — стварыць Беларускае друкаванае слова», «пад час летніх вакацый ісці ў Беларускі народ, будзіць і пашыраць паміж яго нацыянальную свядомасць». Пасля адбыцця турэмнага зняволення выехаў за мяжу, дзе ў розных універсітэтах вывучаў філасофію, наладжваў цесныя кантакты з польскай сацыялістычнай эміграцыяй, прымаў удзел у выданні ў Парыжы зборніка («Пабудка»). Неаднаразова прыязджаў ва Усх. Прусію, дзе друкаваў агітацыйную літаратуру, а потым перапраўляў яе ў Расію. Праз Чарноцкага ён атрымаў у Маскве слуцкі варыянт перакладу на беларускую мову польскай агітацыйнай брашуры «Бацька Шыман». У 1892 А. выдаў у Тыльзіце (Усх. Прусія) гэту брашуру пад назвай «Дзядзька Антон». У 1892 ён арыштаваны ў Варшаве за распаўсюджванне пракламацый. Пасля двухгадовага зняволення ў Варшаўскай цытадэлі асуджаны на 3 гады зняволення ў пецярбургскай турме «Крыжы» і на 6 гадоў пасялення ў Сібіры. А. быў адным з трох вязняў, якія пасля смерці цара Аляксандра III адмовіліся прысягаць на вернасць яго наследніку Мікалаю II. Пасля адбыцця ссылкі ў 1902 жыў на Каўказе, потым пад Харкавам. Па хадайніцтве Пецярбургскай АН яму было дазволена жыць у Пецярбургу, дзе ён працаваў кіраўніком рабочай бібліятэкі «Труд». Пасля ліквідацыі бібліятэкі ў 1908 пераехаў у Вільню, потым у Варшаву, дзе працаваў да 1915 ва Упраўленні чыгунак. За ўдзел у арганізацыі Народнага універсітэта ў Варшаве зноў арыштаваны. У час незалежнасці Польшчы працаваў у архівах Варшавы, быў членам Таварыства былых палітычных вязняў. Меў вялікую бібліятэку, у якой былі рэдкія беларускія выданні. Веды па беларускай мове ўдасканальваў на Навагрудчыне, быў знаёмы з М.*Федароўскім*. Пасмяротна (1930) узнагароджаны Крыжам Незалежнасці.

*Літ.* Скалабан В. Працяг гісторыі з «Дзядзькам Антонам» // Полымя. 1988. №2; Gzarnocki N. Przyczynki do historii PPS // Księga pamiątkowa PPS. Warzawa, 1923; Turonek F. Wokól genezy Dziadźki Antona // Slavia orientalis. 1983. №3.

*М.А.Сакалова.*

## **АБУХОВІЧ** Альгерд Рышардавіч [псеўд. Граф Бандзінелі; 25.7.(6.8).1840 — 10(22).8.1898]

Беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Калацічы Бабруйскага пав. (цяпер

Глускі р-н) у радавітай памешчыцкай сям'і, звязанай далёкім сваяцтвам з італьянскім арыстакратычным родам Бандзінелі (адсюль псеўданім). Вучыўся ў Слуцкай гімназіі. Шмат падарожнічаў, жыў у Жэневе і Парыжы, сустракаўся з вядомымі паліт. дзеячамі (К.Кавур, Л.Мераслаўскі, А.*Чартарыйскі*). За ўдзел у паўстанні 1863—64 сасланы ў Сібір. Адной з найважнейшых прычын няўдачы гэтага паўстання лічыў тое, што землеўласнікі баяліся ўзняць на яго беларусаў-сялян, бо тады б давялося аддаць ім частку зямлі. Пасля адбыцця пакарання і вяртання ў сям'ю А. паставіў пытанне, каб уласную зямлю раздаць былым прыгонным. Супраць узнялася ўся радня і пагражала абвясціць яго вар'ятам. У выніку ён вымушаны быў пакінуць родны дом. Страціўшы маёнткі, займаўся рэпетытарствам у Слуцку, дзе вакол яго ўтварыўся гуртох перадавой беларускай моладзі. Як пісьменнік прытрымліваўся прынцыпаў народнасці літаратуры, пісаў у рэчышчы крытычнага рэалізму. Шмат перакладаў з рускай, польскай і заходнееўрапейскіх літаратур. Разам з Ф.*Багушэвічам* адзін з пачынальнікаў жанру байкі ў беларускай літаратуры. У байках сатыра на пасляэформенную Расійскую імперыю («Старшына»), праблемы свабоды чалавечай асобы («Ваўкалак») і інш. Верш «Дума аб Каралю XII», пабудаваны на кантрастным паказе постацей Карла XII, Мазепы і Пятра I, сведчыць пра неардынарнасць і разам з тым супярэчлівасць яго гістарычных поглядаў. Мемуары (1894, надрук. ў 1916 у газ. «Гоман») вызначаюцца спавядальнасцю, багаццем зместу і стаяць ля вытокаў мемуарыстыкі і мастацкай прозы новай беларускай літаратуры. Адначасова гэта каштоўная гістарычная крыніца, у якой закрануты многія бакі тагачаснага жыцця (дваранскі побыт, становішча сялян, антыпамешчыцкі рух, праблемы роднай літаратуры і інш.). Пахаваны А. ў Слуцку.

*Тв.*: Творы. Мн., 1991.

*Літ.*: История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 372—373; Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984.

*Г.В.Кісялёў.*

## **АВЕНАРЫУС** Мікалай Пятровіч [31.8(12.9).1834 — 4(17).7.1903]

Дзеяч народнай асветы, педагог, археолаг, краязнавец. Нарадзіўся ў Царскім Сяле. Скончыў гімназію і Галоўны педагагічны інстытут у Пецярбургу. Працаваў настаўнікам нямецкай мовы і гісторыі ў 2-й Пецярбургскай гімназіі. У 1862 пасланы за мяжу для азнаямлення з германскімі і швейцарскімі семінарыямі. Пасля вяртання ў 1864 заснаваў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. У 1864—85 працаваў інспектарам Александрыйска-Марыінскага інстытута ў Варшаве, потым беластоцкага настаўніцкага інстытута. У 1860—70 у айчынных і берлінскіх часопісах змяшчаў свае працы па педагогіцы: «Парады педагога-практыка», «Русо і яго Эміль», «Пра рэформу школьнай справы ў Расіі» і інш.; склаў вучэбную карту Еўрапейскай Расіі, пісаў творы для дзяцей. У 1885—90 займаўся раскопкамі курганоў у Барысаўскім і Навагрудскім пав., мураваных магіл у Бельскім і Беластоцкім пав. (цяпер Польшча). Сабраў 125 каменных сякер на Магілёўшчыне, калекцыю свінцовых пломбаў са знакамі Рурыкавічаў у Драгічыне на р. Буг. Апісаў ятвяжскія старажытныя помнікі Віленскага музея, аўтар артыкулаў па нумізматыцы і археалогіі.

*Тв.*: Руководство к воспитанию и элементарному обучению. Варшава. 1874; Дрогичин Надбужский и его древности // Древности Северо-Западного края. Спб., 1890. Т. 1, вып. 1.

*Літ.*: Авенариус Н.П. (некролог) // Ист. вестн. Спб., 1903. №8; Авенариус Н.П. (некролог) // Виленский календарь на 1904 г. Вильна. 1904.

## **АГРЫЗКА** Іасафат Пятровіч (1826—18.3.1890)

Удзельнік грамадскага і рэвалюцыйна-вызваленчага руху 1860-х гадоў, выдавец і журналіст. Нарадзіўся ў Лепельскім пав. Віцебскай губ. ў небагатай шляхецкай сям'і. Скончыў Лепельскае павятовае вучылішча, Мінскую гімназію, Пецярбургскі універсітэт са ступенню кандыдата права (1849). З 1850 на службе ў кадыфікацыйнай камісіі Царства Польскага і міні-



стэрстве фінансаў у Пецярбургу, дзе займаў высокія пасады. У Пецярбургу заснаваў друкарню. У 1859 выдаваў на польскай мове газ. «Słowo» («Слова», забаронена ўрадам). Выдаў некаторыя тамы «Матэрыялаў для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраных афіцэрамі Генеральнага штаба» (па Віленскай, Гродзенскай губ., 1861—63), перавыдаў зб. стараж. законаў Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны «Валюміна легум» (т. 1—8, 1859—60), першы збор твораў М.А.Дабралюбава (т. 1—4, 1862) і інш. У студэнцкія гады ўключыўся ў грамадскі рэвалюцыйны рух, прымыкаў да гуртка З.Серакоўскага, да польскай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Пецярбургу; падтрымліваў цесныя сувязі з М.Г.Чарнышэўскім, з рэвалюцыйным таварыствам «Зямля і воля». У час паўстання 1863—64 прызначаны галоўным прадстаўніком варшаўскага ўрада ў Пецярбургу. 14.11.1864 арыштаваны і прыгавораны да 20 гадоў катаргі. Памёр у Іркуцку.

*Літ.:* Баренбаум И.Е. Иосафат Огрызко (1826—1890). М., 1964; Шалькевіч В. Первый издатель сочинений Н.А.Добролюбова // Неман. 1986. №2; Шостакович Б.С. Сибирские годы Юзефата Огрызко // Ссыльные революционеры в Сибири (XIX в. — февр. 1917 г.). Иркутск. 1974. Вып. 2. *Г.В.Кісялёў.*

## **АДАМОВІЧ** Адам Фердынанд (6.12.1802—30.4.1881)

Вучоны-медык. Нарадзіўся ў Вільні, дзе і атрымаў адукацыю. У 1822 магістр медыцыны ў Віленскім універсітэце на кафедры параўнальнай анатоміі. З яго ўдзелам у 1823 у Вільні створана ветэрынарная школа. З 1826 доктар медыцыны. Заснавальнік музея зоатэрапеўтычных прэпаратаў. Выкладаў у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі з 1838 ветэрынарныя навукі, гісторыю і літаратуру медыцыны. Аўтар прац па ветэрынарыі, параўнальнай паталогіі, гісторыі развіцця, вучэння анатоміі ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім. Вывучаў гісторыю Вільні і выдаў твор «Віленскі аўгсбургскі касцёл...» (1855, Вільня, на польскай мове). Актыўна ўдзельнічаў у жыцці віленскага медыцынскага тава-



рыства, падтрымліваў яго матэрыяльна. Памёр і пахаваны ў Вільні.

## **АДАМОВІЧ** Людвіг Фларыянавіч (1823—87)

Вучоны-медык. Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і Ігуменскага пав. (зараз Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл.). Пасля заканчэння ў 1849 С.-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі служыў да 1861 у Севастопальскім ваенным шпіталі, потым у Мінгрэльскім егер-

скім палку і розных ваенных шпіталях. У 1863 атрымаў ступень доктара медыцыны за дысертацыю «Пра слупняк, асабліва траўматычны».

## АДЫНЕЦ Антон Эдвард (псеўд. Інацэнты Старушкевіч, 25.1.1804 — 15.1.1885)

Польскі паэт, перакладчык, мемуарыст, выдавец. Нарадзіўся ў в. Гейстуны Ашмянскага раёна. Скончыў Віленскі універсітэт (1823) са ступенню магістра права. У Вільні пасябраваў з А.*Міцкевічам*, Я.*Чачотам*, Т.*Занам*, І.*Дамейкам*, І.*Ходзькам*. У 1821 стаў членам таварыства філарэтаў, для якога напісаў «Песню філарэтаў» (перапрацоўка яе — «Песня» Ф.*Багушэвіча* ). У ліст. 1823 — лютым 1824 зняволены ў турму па справе таварыства. У 1825—26 выдаў у Вільні 2-томнік «Паэтычныя творы». Рэдактар альманаха «Мелітэле» (1829). У 1829—37 падарожнічаў па Заходняй Еўропе (часткова з А.Міцкевічам), жыў у Дрэздэне. У 1837 вярнуўся ў Гейстуны. З 1838 у Вільні. У 1841—59 рэдактар газ. «Виленский вестник». У гэты час погляды А. сталі больш правымі: ён удзельнічаў у выданні «Альбома» ў гонар Аляксандра II (Вільня, 1858). З 1866 у Варшаве, супрацоўнічаў у розных газетах і часопісах. У 1884 разам з Дамейкам наведаў Беларусь, пабываў у Крошыне, дзе, магчыма, сустракаўся з П.*Багрымам*. Аўтар мемуарных «Лістоў з падарожжа» (1875—78), «Успамінаў з мінулага» (1884), вершаваных драм «Феліцыта, або Карфагенскія мучанікі» (1849), «Барбара Радзівілянка»(1860). Перакладаў на польскую мову творы Дж.Г.Байрана, А.Пушкіна, Ф.Шылера і інш. *А.В.Мальдзіс.*



*Сядзіба А.Э.Адынца ў Гейстунах. З малюнка 19 ст.*

## АЖЭШКА (Orzeszkowa, дзявочае Паўлоўская) Эліза (6.6.1841—18.5.1910)



Польская пісьменніца рэалістычнага кірунку, палымяны гуманіст і дэмакрат. Нарадзілася ў б. маёнтку Мількаўшчына Гродзенскага павета. Выхоўвалася ў манастырскім пансіёне ў Варшаве (1852—57). Да вяршынь тагачаснай еўрапейскай культуры паднялася дзякуючы самаадукацыі, назаўсёды захавала веру ў навуку і чалавечы розум. Выключную ролю ў фарміраванні яе светапогляду адыгралі нацыянальна-вызваленчая барацьба польскага і беларускага народаў і сялянская рэформа на Беларусі 1860-х гадоў, якія яна назвала «сваімі універсітэтамі». Яны вызначылі і яе пісьменніцкае прызначэнне: «Гэты момант зрабіў рашучы ўплыў на маю будучыню... Гэты момант запаліў ва мне жаданне служыць Радзіме па меры сіл і характару маіх здольнасцей; з яго агню і слёз узнікла ва мне жаданне прынесці хоць маленькую цаглінку для таго выратавальнага моста над безданню, праз які павінен быў прайсці народ... Пазней мяне апаноўвалі ўсякія сумненні, але ў ідэі любасці да Радзімы і абавязку служыць ёй я ніколі не сумнявалася... Усё гэта зрабіў са мной і ва

мне год 1863. Калі б не яго малат і разец, мой лёс быў бы іншы і, відаць, я не стала б пісьменніцай». У час паўстання 1863—64 А. была сувязной партызанскага атрада Р.Траўгута, які дзейнічаў на тэрыторыі Беларускага Палесся, дапамагала медыкаментамі, харчаваннем, хавала ў маёнтку Траўгута пасля разгрому яго атрада, а потым, рызыкуючы жыццём, адвезла яго да граніц Каралеўства Польскага. Перажыўшы горыч задушэння паўстання, яна займалася самаадукацыяй, адначасова рабіла першыя спробы ў мастацкай творчасці. У 1869 пераехала на сталае жыхарства ў Гродна, дзе і памерла.

Літаратурную дзейнасць пачала ў 1866 апавяданнем «Малюнак з галодных гадоў», навеяным успамінамі пра голад беларускай прыгоннай вёскі. У далейшым А. звяртаецца да жанру аповесці і рамана. У артыкуле «Некалькі заўваг аб рамане» (1866) адзначала яго здольнасць да шырокага і поўнага адлюстравання жыцця грамадства. Аднак яе раннія раманы канца 1860-х гадоў: «Апошняе каханне», «У клетцы», «На правінцыі» — даволі маралізатарскія і схематычныя, у вобразах станоўчых герояў — капіталістычных дзялкоў — адлюстраваны ідэалы «варшаўскага пазітывізму» наконт буржуазнага прагрэсу і ўсеагульнага дабрабыту. Рэчаіснасць абвергла іх, а сама пісьменніца пераглядае канцэпцыю «тэндэнцыйнага» рамана, каб стаць мастаком-рэалістам. У яе раманах «Пампалінскія» і «Сям'я Брохвічаў» (абодва 1876) сатырычна паказаны саслоўная фанабэрыя, эгаізм і паразітычнае існаванне шляхецкай арыстакратыі. Прыёмы сатырычнага гратэску сведчаць пра добрае веданне твораў М.Салтыкова-Шчадрына, пазней станоўчы ўплыў на яе творчасць зрабілі Л.Талстой і І.Тургенеў. У 1870-я гады пісьменніца становіцца на чале жаночага руху ў Польшчы, выступае з артыкуламі «Аб жаночым пытанні» і «Некалькі слоў пра жанчын» (абодва 1870), у якіх вылучае дзве асноўныя праблемы: палітычнага і сацыяльнага раўнапраўя жанчын і карэннай змены іх выхавання, падрыхтоўкі да карыснай прафесійнай і грамадскай дзейнасці. Шырокую вядомасць на радзіме і за мяжой атрымаў раман «Марта» (1873), прасякнуты палымяным пратэстам аўтара супраць рабства жанчыны ў тагачасным свеце. Імкненнем актыўна ўплываць на грамадскую свядомасць пазначаны зб. апавяданняў «З розных сфер» (т. 1—3, 1879—82), дзе пісьменніца выступіла ў абарону пакрыўджанай беднаты: «Я хацела ведаць, як жыве, што думае і адчувае чалавек у маленькай хатцы з акенцам ля самай зямлі». 1880-я гады — час найвышэйшага ўздыму творчасці А., калі створаны раманны эпас «Над Нёманам» (1887) і вялізнае эпічнае палат-



*Пахаванне Э.Ажэшкі ў Гродне. Фотаздымак 1910.*

но — аповесці і апавяданні з жыцця беларускага народа. У рамане «Над Нёманам» яна ўзнімае надзённыя праблемы тагачаснай польскай рэчаіснасці. Шляхецкі засценак, што жыве сялянскім жыццём з усёй яго паэзіяй працы, дэмакратычная інтэлігенцыя двара Карчынскіх з моцнымі традыцыямі нацыянальна-вызваленчай барацьбы і група касмапалітаў-арыстакратаў, адарваных ад народнага жыцця, — сюжэтныя лініі рамана, гарманічна сцягнутыя ў адзін вузел. Паводле Ю.Кшыжаноўскага, А. стварыла нацыянальны эпас, «поўны радасці, натхнёнай працы і веры ў чалавека». Палымяным гуманістычным пафасам прасякнуты яе творы пра цяжкае жыццё беларускага народа, раскрыты лепшыя рысы яго нацыянальнага характару, сцверджаны задаткі вялікага развіцця, што тояцца ў прыніжаным, але стойкім і цярплівым беларускім народзе — аповесці «Нізіны» (1884), у якой чуюцца адгалоскі «Мужыцкай праўды» К.*Каліноўскага*, «Дзюрдзі» (1885), «Хам» (1888), апавяданні «Рэха», «Тадэвуш», «У зімовы вечар», «На следстве» і інш. Палемічна завостраная назва аповесці «Хам» абумоўлена гуманістычнай ідэяй сцвердзіць героем жыцця чалавека з народа, які ўвасабляе магутныя сілы, духоўнае багацце, характво беларусаў. Фальклору беларусаў прысвечаны паэтычныя нарысы «Людзі і кветкі па берагах Нёмана» (1888—91). У вуснапаэтычнай творчасці бачыць А. выяўленне духоўнага багацця беларусаў. Пісьменніца збірала і сама рабіла фальклорныя запісы. Бясспрэчнымі доказамі розуму і пачуцця прыгожага ў беларусаў яна лічыла лірычную народную песню, баладу, паэтычныя назвы раслін, народную медыцыну. «Вельмі пашырана думка, — пісала А., — што сяляне зусім абыякавыя да навакольнай прыроды, яе характва і не заўважаюць з'яў, што не ўплываюць на іх штодзённае жыццё. Дзіўна, як такая думка можа існаваць, калі ёсць народная песня, у якой урыўкамі і ў рознай ступені пластычнасці, але густа рассеяны малюнкі прыроды і назіранні над яе з'явамі. Гэтай думцы без сумнення супярэчыць таксама і веданне народам расліннага свету, настолькі дакладнае, што смела можна сцвярджаць: ад самага высокага дрэва да найменшай былінкі, якія растуць на той жа зямлі, што і ён, няма такой расліны, якая ў яго мове не мела б свае назвы, а ўжо ў гэтых назвах выяўляецца назіральнасць, выказаная ў жывапіснай і паэтычнай, іншы раз грубай, але выразнай форме». У 1890-я гады творы А. часткова трацяць вастрыню сацыяльнай праблематыкі за кошт паглыблення маральна-этычных матываў (зборнік апавяданняў «Меланхолікі», 1896), але ў адмаўленні супярэчнасцей капіталістычнай рэчаіснасці і дэкадэнцкага мастацтва яскрава выявіўся рэалізм пісьменніцы. Апошні зборнік навел «Gloria victis» («Слава перможаным!», 1910) услаўляе герояў паўстання 1863—64 і традыцыі нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Апошнія гады жыцця А. цесна звя-



*Дом, у якім жыла Э.Ажэшка ў Гродне. Здымак 1910.*

заны з беларускай мясцовасцю Фларыянаў, дзе ў маёнтку Бохвіца (цяпер землі калгаса імя Ламаносава) у час летняга адпачынку пісьменніца збірала польскую і беларускую інтэлігенцыю, там наладжваліся літаратурныя і музычныя вечары, спектаклі. Падтрымліваючы творчыя сувязі з дзеячамі культуры славянскіх народаў, А. цікавілася беларускай і ўкраінскай літаратурай, вяла актыўную перапіску з І.Франко, сябравала з Ф.*Багушэвічам*, высока ставіла яго творчасць і прапагандавала яе. «Быў у мяне нядаўна пан Багушэвіч, — пісала яна вучонаму-этнографу Я.Карловічу, — і чытаў мне казку — доўгую, поўную фантазіі, якую напісаў па-беларуску. Гэта прыгожы талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на мой погляд, выдатныя. Трэба было б усімі сіламі заклікаць яго да работы ў гэтым кірунку».

Творы А. стаяць ля вытокаў беларускага тэатра. Для беларускай сцэны былі зроблены інсцэніроўкі апавядання «У зімовы вечар» (драм. перапрацоўка Власта — В.Ластоўскага) і аповесці «Хам». Яны ставіліся трупай І.Буйніцкага, шматлікімі самадзейнымі і паўпрафесійнымі гурткамі. Спектаклем «У зімовы вечар» 14.9.1920 адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр, у 1921 у БДТ пастаўлены «Хам» (рэж. абодвух спектакляў Ф.Ждановіч), у 1923 «Рысь» паставіла трупа У.Галубка.

На беларускую мову перакладзены творы «Гэдалі» (Вільня, 1907), «У зімовы вечар» (Вільня, 1927). Асобным выданнем у перакладзе Я.Брыля і Я.Бяганскай выйшла яе кн. «Выбранае» (1975).

У Гродне ў доме, дзе з 1894 жыла А., адкрыта пастаянная экспазіцыя, на будынку — мемарыяльная дошка, пастаўлены помнік, адна з цэнтральных вуліц горада названа яе імем.

*Тв.*: Рус. пер. Соч. Т. 1—5. М., 1953—54.

*Літ.*: Гапава В.І. Эліза Ажэшка: Жыццё і творчасць. Мн., 1969; История польской литературы. М., 1968. Т. 1. С. 503—514; Jankowski E. Eliza Orzeszkowa. Warszawa, 1964. *В.І.Гапава.*

## АЗАРЭВІЧ Дзмітрый Іванавіч (1848—?)

Юрыст, гісторык рымскага права. Нарадзіўся на Беларусі ў сям'і прафесара заканадаўства Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Вучыўся ў Пецярбургскай Анненскай школе, потым у гімназіі. За конкурсную работу ў Пецярбургскім універсітэце ў 1870 атрымаў залаты медаль. У 1872 абараніў магістэрскую дысертацыю і накіраваны за мяжу. Служыў у якасці прафесара ў Дзямідаўскім юрыдычным ліцэі ў Яраслаўлі; у 1877 атрымаў ступень доктара і з 1882 працаваў ардынарным прафесарам Новарасійскага універсітэта, пазней — прафесар Варшаўскага універсітэта.

## АКРЭЙЦ Станіслаў Станіслававіч [псеўд. Арліцкі, Арлінскі; 13(25).8.1836 — пасля 1918]

Рускі і беларускі журналіст, мемуарыст, белетрыст. Нарадзіўся ў сям'і чыноўніка ў г. Арол (паводле іншых звестак — у пас. Павянец Алонецкай губ.). У 1850—60-я гады жыў на Беларусі. Скончыў Віцебскую гімназію (1865), быў вольным слухачом Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Служыў у Магілёве ў палаце дзяржаўных маёмасцей. Дасылаў заметкі ў пецярбургскія часопісы «Искра» і «Экономический указатель», падтрымліваў сувязі з рэдакцыяй «Современника». М.А.Дабралюбаў ухваліў яго праект выдання ў Магілёве час. «Белорусский вестник» (не здзейсніўся). Удзельнік паўстання 1864—64. Потым працаваў у Віленскай публічнай бібліятэцы. У 1867 выдаў у Вільні каляндар для народа. З 1868 у Пецярбургу, сакратар газ. «Новое время», адным з выдаўцоў якой быў А.*Кіркор*. Выдаваў часопісы «Дешевая библиотека» (1871 — студз. 1874), «Всемирный труд» (1872), дзе друкаваліся матэрыялы пра Беларусь (мастацкія творы А., нарысы Ф.М.Рашэтнікава). У 1880-я гады з дэмакратычных пазіцый перайшоў на рэакцыйныя. У сваім часопісе «Луч» адкрыта прапаведаваў шавінізм і антысемітызм. У раманах «Апошнія язычнікі» (1871—72), паэме «Беларуская быль» (1872), кнізе «Старасвецкія памешчыкі. Нарысы Заходняга краю» (1885), аўтабіяграфічнай хронікі «Далёкія гады» (1899) і мемуарных нарысах, надрукаваных у пачатку 20 ст. ў «Историческом вестнике», расказваў

пра Беларусь і Літву 1850—60-х гадоў, норавы прыгоннікаў, грамадскае і культурнае жыццё Віцебска, Магілёва, Вільні, паўстанне 1863—64.

*Тв.:* Уголок восстания 1863 г. // Ист. вест. 1902. №10—11; Мои скитания по белу свету // Там жа. 1908. №12; Воспоминания инсургента // Там жа. 1912. №9—10; Литературные встречи и знакомства // Там жа. 1916. №6—7.

*Літ.:* Добролюбов Н.А. Собр. соч. М., Л., 1963. Т. 6, С. 226, 527—528; Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 141—142, 203; Кузняева С.А. Издательская деятельность С.С.Окрейца и «Белорусский вестник» // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии: (сб. науч. ст.). Мн., 1986. С. 85—97.

*Г.В.Кісялёў, С.А.Кузняева.*

## **АНАЦЭВІЧ** Ігнат Сымонавіч (псеўд. Жэгота з Малой Бераставіцы; 1780—18.2.1845)



Гісторык, археограф і архівіст. Нарадзіўся ў сям'і уніяцкага святара ў в. Малая Бераставіца (цяпер Бераставіцкі р-н). Вучыўся ў Ваўкавыскай і Гродзенскай школах, Беластоцкай гімназіі. Займаўся гувернёрствам. Скончыў настаўніцкі інстытут у Прусіі, потым Кёнігсбергскі універсітэт, у якім застаўся выкладаць рускую і польскую мову. Пазней у час напалеонаўскіх войнаў А. пазнаёміўся з вядомым мецэнатам графам М.П.*Румянцавым*, які запрасіў маладога вучонага ў свой гомельскі маёнтак, дзе мелiся багатая бібліятэка і архіў. Год, праведзены ў Гомелі, А. прысвяціў дэталёваму вывучэнню гісторыі Расіі і Вялікага княства Літоўскага, рабіў выпіскі, даследаваў помнікі і граматы. У 1809 А. паступіў у Віленскі універсітэт, дзе атрымаў званне магістра навук і з 1811 чытаў там лекцыі па ўсеагульнай гісторыі. Нашэсце Напалеона вымусіла А. пакінуць Вільню. Перабраўшыся ў Беласток, ён выкладаў там у мясцовай гімназіі. У 1818 А. выбраны ад'юнктам кафедры гісторыі і статыстыкі Віленскага універсітэта, а з 1821, калі кафедру заняў І. *Лялевель*, застаўся прафесарам кафедры рускай статыстыкі і дыпламатыі. Западозраны ў паланафільстве, вальнадумстве і рэвалюцыйнай прапагандзе, ён быў адхілены ад выкладчыцкай дзейнасці і высланы ў адну з вёсак Ваўкавыскага павета. Дзякуючы заступніцтву Румянцава падазрэнне з яго было знята, але ў Віленскі універсітэт ён не вярнуўся. Пасяліўшыся ў Пецярбургу, цалкам прысвяціў сябе навуковай дзейнасці. Працаваў памочнікам бібліятэкара Румянцаўскага музея і быў членам археаграфічнай камісіі. Шмат працаваў у архівах, рабіў археаграфічныя паездкі па Беларусі і Літве. Аўтар артыкулаў на польскай мове «Накід першабытнай гісторыі Літвы» (1846) і «Накід гісторыі Вялікага княства Літоўскага» (1849—50) і інш. Выдаў некалькі твораў польскага гісторыка Альбетрандзі. Галоўная праца, якой А. займаўся ўсё сваё жыццё, — гісторыя Літвы — засталася ненадрукаванай. Велізарная калекцыя рукапісаў і рэдкіх кніг пасля смерці А. дасталася калекцыянеру К.Свідзінскаму.

## **АНДРЫЁЛІ** Міхал Эльвіра (2.11.1836—23.8.1895)

Мастак, удзельнік вызваленчага руху на Беларусі і ў Літве. Нарадзіўся ў Вільні ў сям'і настаўніка малявання, які паходзіў з Італіі. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у бацькі. Паводле жадання бацькоў паступіў на



медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Аднак прафесія медыка яго не надта вабіла, і ў хуткім часе, пакінуўшы універсітэт, ён паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. Паспяхова скончыўшы вучылішча, у 1857 паехаў удасканальваць майстэрства ў Італію, вучыўся ў Рыме ў акадэміі св. Лукі. Вярнуўся на радзіму, працаваў у Вільні. Тут ён звязаўся з рэвалюцыйнымі коламі, прымкнуў да «чырвоных», удзельнічаў у паўстанні 1863—64. Пасля паражэння паўстання быў арыштаваны, але з турмы ўцёк. Жыў у Парыжы і Лондане. Там стварыў шмат графічных работ і ілюстрацый, у якіх паказаў падзеі 1863, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі. Жывучы ў выгнанні, мастак вельмі сумаваў па роднай зямлі, якая была крыніцай яго творчага натхнення. У 1866 А. вярнуўся на радзіму, але быў схоплены царскімі жандарамі і сасланы ў Сібір. Жыў у Вятцы, дзе стаў настаўнікам будучых рускіх мастакоў В. і А.Васня-



*М.Э.Андрыёлі. Аскет. Карціна. 1883.*

цовых. У 1871 А. вярнуўся са ссылкі, але яму было забаронена жыць у родным краі, і мастак пасяліўся ў Варшаве. Там працягваў мастацкую адукацыю ў школе Герсана, ілюстраваў часопіс «Kłosy» («Каласы») і «Tygodnik ilustrowany» («Ілюстраваны штотыднёвік»). У 1883—86 працаваў у Парыжы. Толькі ў канцы жыцця яму пашчасціла на нейкі час вярнуцца на радзіму.

У сваіх жывапісных і графічных работах А. часта звяртаўся да тых далёкіх часоў сумеснай беларуска-літоўскай гісторыі, калі Вялікае княства Літоўскае яшчэ захоўвала сваю незалежнасць. У 1880-я гады ён стварыў цыкл гістарычных ілюстрацый і эскізаў. Сярод іх «Смерць Кейстута», «Сутычка літвінаў з крыжаносцамі», «Гусляр», «Хрышчэнне літвінаў», «Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў», ілюстрацыі да «Конрада Валенрода» і «Пана Тадэвуша» А.*Міцкевіча*, да твораў Я.*Ходзькі*, У.*Сыракомлі*, Э.*Ажэшкі*, Ю.Славацкага, Ю.*Крашэўскага* і інш. Творы А., выкананыя пад уплывам рамантызму, вызначаюцца тэхнічнай лёгкасцю, дакладнасцю ў адлюстраванні гістарычных падзей, багаццем фантазіі. У многіх з іх А. паспяхова выкарыстоўваў фальклорныя матывы.

*Літ.*: Andriolli — świadek swoich czasów: Zicty i Wspomnienia. Wrocław etc., 1976; Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974. С. 161—167.

## АНІКІЕВІЧ Кірыла Цімафеевіч

Беларускі краязнавец, этнограф і археолаг 2-й паловы 19 — пач. 20 ст. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам народных вучылішчаў у Магілёве і Віцебскай губ. Вывучаў побыт беларускіх сялян, запісваў фальклор, вёў археалагічныя раскопкі, быў пастаянным карэспандэнтам Е.Р.*Раманава* ў час яго работы над «Беларускім зборнікам» (вып. 1—9, 1886—1912) — своеасаблівай энцыклапедыяй побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу. Асноўная праца А. — «Сенненскі павет Магілёўскай губерні» (Магілёў, 1907), ідэйную накіраванасць якой вызначае эпіграф «Хто не хоча ведаць сваёй айчыны, той не заслугоўвае называцца яе сынам». У ёй аўтар даў геаграфічную, гістарычную, эканамічную і этнаграфічную (этнаграфічныя матэрыялы складаюць 3-і раздзел) характарыстыкі Сенненшчыны, прывёў звесткі пра колькасць насельніцтва ў павеце паводле саслоўнага складу, веравызнання і нацыянальнай прыналежнасці, апісаў жыллё, адзенне, сямейнае і грамадскае жыццё, заняткі і стан эканомікі сельскага насельніцтва павета. Прыхільна ставіўся да народа, выхад з цяжкага становішча бачыў у павышэнні яго адукацыі і правядзенні зямельных рэформ у рамках існуючага ладу. Асаблівасць працы ў паказе ўсіх аспектаў побыту і культуры народа ў развіцці, з характарыстыкай тых змен, што адбываліся ў 2-й палове 19 — пачатку 20 ст.

*В.К.Бандарчык.*

## АНІМЕЛЕ Мікалай

Беларускі этнограф сярэдзіны 19 ст. Вольнаадпушчаны селянін Віцебскай губ. Сабраныя ім матэрыялы па праграме Рускага геаграфічнага таварыства склалі большую частку працы «Побыт беларускіх сялян» (Этнографический сборник. Спб., 1854. Вып. 2). Пераважнае месца ў ёй займаюць матэрыялы пра духоўную культуру: абрады і звычаі сямейнага (хрэсьбіны, вяселле, хаўтуры) і грамадскага (каляндарныя святы і абрады, талака) жыцця сялян Віцебскай губ. Найбольш падрабязна ім апісаны парадак узяцця шлюбу і вясельныя абрады. Прыведзены і звесткі пра жыллё, хатняе начынне, гаспадарчыя будынкі, адзенне, стравы, прылады працы селяніна. Пры апісанні сямейных абрадаў і вытворчых заняткаў падкрэсліваў сацыяльную і маёмасную дыферэнцыяцыю сялянства напярэдадні адмены прыгоннага права. Прыхільна ставіўся да селяніна, высока ацэньваў яго працавітасць, маральныя і творчыя якасці. У працы змешчаны таксама прымаўкі, песні, паданні.

*В.К.Бандарчык.*

## АНЦЫПА (Анцыпа-Чыкунскі) Ільдафонс Дзяменцьевіч [1815 (?) — 6.6.1863]

Удзельнік рэвалюцыйнага руху на Беларусі і ў Польшчы. Нарадзіўся ў

в. Мілавань каля Гродна. Вучыўся ў Слонімскім павятовым вучылішчы. Удзельнічаў у паўстанні 1830—31. У эміграцыі (Францыя) быў членам Польскага дэмакратычнага таварыства, выступаў у друку па пытаннях арганізацыі новага ўзброенага паўстання. У час паўстання 1848 камандаваў сялянскім атрадам на Пазнаншчыне. У 1859 вярнуўся ў Расію і жыў пад наглядам паліцыі ў маёнтку брата (Быхаўскі пав. Магілёўскай губ.). 24.4.1863 узначаліў паўстанцкі атрад у Быхаўскім пав. Паўстанцы грамілі валасныя канцылярыі, ссякалі тэлеграфныя слупы, палілі масты і, як сказана ў заключэнні палявога аўдытарыяту, «абвяшчалі вызваленне сялян ад усіх павіннасцей, бясплатнае карыстанне памешчыцкай зямлёй, свабоду і роўнасць». 28.4.1863 яго атрад быў разбіты. А. схапілі і па прыгаворы ваеннага суда расстралялі ў Магілёве.

*Літ.*: В.[Ратч]. Очерки мятежного движения в Могилёвской губернии в 1863 г. Вильна, 1865; Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг. М., 1965 (Восстание 1863 года. Материалы и документы).

*Г.В.Кісялёў.*

## **АСКЕРКА** Аляксандр Уладзіслававіч (1830—11.1.1911)



Грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку, удзельнік паўстання 1863 на Беларусі і ў Літве. Нарадзіўся ў маёнтку Рудакова Рэчыцкага пав. Мінскай губ. Скончыў Пецярбургскі універсітэт. У 1853—57 на вайсковай службе. Як член Мінскага губернскага камітэта па ўладкаванні побыту сялян удзельнічаў у распрацоўцы ўмоў сялянскай рэформы 1861, у рабоце рэдакцыйных камісій ў Пецярбургу; выступаў у друку па пытаннях земскага крэдыту. З 1861 член Віленскай установы па сялянскіх справах, удзельнічаў таксама ў рабоце Віленскай археалагічнай камісіі. У 1862 арганізаваў у Варшаве выданне беларускага буквара-катэхізіса («Лемантар для добрых дзетак каталікоў»). Быў адным з кіраўнікоў партыі «белых» на Беларусі і ў Літве. У канцы лютага 1863 увайшоў у склад паўстанцкага Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы, загадваў там вайсковымі справамі і віленскай гарадской арганізацыяй (начальнік г. Вільні). 31.5.1863 арыштаваны, сасланы на катаргу ў Сібір. З 1872 жыў у Варшаве, працаваў у рэдакцыі часопіса «Ateneum». У 1885—1904 дырэктар філіяла страхавога таварыства ў Вільні. Памёр у Відзах Лаўчынскіх (цяпер Браслаўскі р-н). Пахаваны ў Вільні.

*Літ.*: Beynar L. Działalność Aleksandra Oskierki w Wilnie w latach 1861—1863. // Księga pamiątkowa: koła historyków słuchaczy uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie, 1923—1933. Wilno, 1933.

## **АЎГУСЦІНОВІЧ** Тамаш Мацвеевіч (1809—1891)

Беларускі падарожнік-геабатанік, урач. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў Віленскай губ. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, на медыцынскім факультэце Віленскага універсітэта і ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, якую скончыў у 1835. Даследаваў лекавыя расліны на Украіне. У 1871—76 падарожнічаў па Сахаліне, у Забайкаллі, Прымор'і, басейнах Лены, Вілюя, Віціма і Калымы. Сабраў і перадаў у Галоўны батанічны сад у Пецярбургу каля 40 тысяч узораў флоры Сібіры. У 1874 і 1880 надрукаваў артыкулы пра Сахалін, у якіх апісаў жыццё мясцовых жыхароў.

*Тв.*: Жизнь русских и инородцев на острове Сахалин // Всемирный путешествен-

ник. 1874. №2; Три года в Северо-Восточной Сибири за Полярным кругом // Древняя и новая Россия. 1880. Т. 18, №12. Извлечение из путевых записок пребывания на острове Сахалине // Правительственный вестн. 1879. №276; Заметки об острове Сахалине: (Из путевого журнала...) // Там жа. 1880. №284 — 286.

*Літ.*: Грицкевич В.П. Собиратель гербариев // Грицкевич В.П. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986.

## АЧАПОЎСКІ Міхаіл Мікалаевіч (11.5.1788 — 21.1.1854)



Вучоны-аграном, глебазнавец, асветнік. Нарадзіўся ў маёнтку Пацейкі на Навагрудчыне ў сям'і святара мясцовай грэка-каталіцкай царквы. Пасля заканчэння ў 1808 школы ў Нясвіжы паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта, які скончыў у 1810, а ў 1812 абараніў дысертацыю на тэму «Пра глебы» і атрымаў ступень доктара філасофіі. У 1812—19 працаваў адміністратарам у маёнтках барона А.Рэнэ на тэрыторыі заходняй Літвы і паўночнай Польшчы, дзе ўкараняў прагрэсіўныя метады вядзення сельскай гаснадаркі. Быў праціўнікам прыгонніцтва, паншчыны. У 1819—22 вандраваў па Заходняй Еўропе і вывучаў сістэму гаспадарання ў Англіі, Галандыі, Германіі, Францыі, Швейцарыі. Пасля вяртання з-за мяжы (у 1822—32) прызначаны прафесарам сельскай гаспадаркі ў Віленскі універсітэт. У 1828 — візітатар (інспектар) школ у Вільні, у 1829 — цэнзар. Выконваў гэтыя абавязкі да закрыцця Віленскага універсітэта. Член навуковага камітэта пры Міністэрстве дзяржаўных маёмасцей у Пецярбургу, прамысловага савета, савета народнай асветы, навуковага таварыства пры Горы-Горацкім земляробчым інстытуце і інш. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве, дзе быў дырэктарам Марымонцкага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства (1834—59). Аўтар шэрага навуковых прац, падрыхтаваных у асноўным на матэрыялах Беларусі і Літвы, сярод якіх «Пра глебу, яе апрацоўку і вырошчванне раслін» (першы і адзіны падручнік у школах Беларусі і Літвы да 1901), «Спосаб класіфікацыі глеб» (абедзве выдадзены ў Вільні ў 1825), «Погляд на сучасны стан гаспадарання ў паўночным клімаце» (т. 1—2, 1828—30), «Сельская гаспадарка» (т. 1—10, 1834—44; 2 выд. 1848—49) і дадатак да яе — «Навука аб эканоміі або кіраванні гаспадаркай» (т. 11, выдадзены пасмяротна ў 1856).

*М.І.Дарошка.*

# Б

## БАБРОЎСКІ Павел Восіпавіч [21.3(2.4).1832 — 3(16).2.1905]

Гісторык і этнограф. Нарадзіўся ў маёнтку Вака каля Вільні. Пачатковую адукацыю атрымаў пад кіраўніцтвам свайго дзядзькі М.К.*Баброўскага*. Вучыўся ў Пружанскім дваранскім вучылішчы і Полацкім кадэцкім корпусе (1844—49). Скончыў Дваранскі полк (Канстанцінаўскае ваеннае вучылішча, 1851), Мікалаеўскую акадэмію Генеральнага штаба (1857). У 1853—54 удзельнічаў у вайне з Турцыяй, у 1869—75 на штабных пасадах, у 1875—97 начальнік Ваенна-юрыдычнай акадэміі; генерал ад інфантэрыі. З 1859

кіраваў групай афіцэраў Генеральнага штаба, якая падрыхтавала і выдала «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба. Гродзенская губерня» (ч. 1—2 і дадаткі ў 2 т., 1863). У гэтай працы прыведзены звесткі па гаспадарцы, этнаграфіі, асвеце, пра гарады і найбольш значныя мястэчкі губерні. Багаты гісторыка-этнаграфічны і геаграфічны матэрыял з'яўляецца важнай крыніцай па гісторыі Беларусі. Даследаваў гісторыю летапісаў («Лёс Супрасльскага рукапісу...», 1887; «Яшчэ нататка пра Супрасльскі рукапіс», 1888), уніяцкай царквы («Руская грэка-уніяцкая царква ў цараванне імператара Аляксандра І», 1890), жыццё і навуковую дзейнасць свайго бацькі М.К.Баброўскага. Аўтар гісторыка-краязнаўчых нарысаў пра Гродна, Слонім, Зэльву і інш. Архіў Б. захоўваецца ў Дзярж. публ. б-цы імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу.

*Тв.:* Историко-статистический очерк города Гродны // Памятная книжка Гродненской губернии на 1860 год. Гродно, 1860; Законы движения народонаселения Гродненской губернии в 15-летний период // Тамсама; Несколько слов о Зельвенской ярмарке // Виленский вестн. 1860. №85, 86; Историческая монография города Гродны // Вестн. Западной России. 1866. Т. 3., №7; Г. Слоним и примечательные места Слонимского уезда // Там жа. №12; Упразднение Супрасльской греко-униатской епархии и восстановление Виленской митрополичьей епархии. Вильна, 1890.

*Літ.:* Венгеров С.А. Критико-биографический словарь русских писателей и учёных... Т. 4. Спб., 1895; Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. *В.Ф.Шалькевіч.*

## **БАГАТКЕВІЧ** (Bohatkiewicz) Аляксандр Міхайлавіч [1796—1831(?)]

Бібліёграф і педагог. Нарадзіўся на Віцебшчыне. У 1813 скончыў Пастаўскую павятовую школу, потым Віленскі універсітэт. Ва універсітэце быў членам тайнага студэнцкага таварыства філаматаў, пазнаёміўся і пасябраваў з А.*Міцкевічам*. З 1828 ад'юнкт універсітэта. Працуючы ва універсітэцкай бібліятэцы, склаў каталог нумізматычнай калекцыі, зрабіў апісанні бібліятэк Я.*Снядэцкага* і В.*Герберскага*. З 1829 упершыню ва універсітэцкай практыцы чытаў курс агульнай бібліяграфіі (пад тэрмінам «бібліяграфія» меў на ўвазе комплекс навук пра кнігу).

*Літ.:* Klossowska M. Aleksander Wiktor Bohatkiewicz // Studia o Książce. Wrocław etc., 1971. T. 2.

## **БАГДАНОВІЧ** Адам Ягоравіч (20.3.1862—16.4.1940)

Беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнавец, удзельнік рэвалюцыйнага руху; бацька паэта М.Багдановіча. Нарадзіўся ў г.п. Халопенічы Крупскага р-на ў сям'і былых прыгонных сялян. Пасля сканчэння Халопеніцкай школы на працягу 2 гадоў працаваў памочнікам настаўніка. Доступ у школьную бібліятэку спрыяў пашырэнню яго самаадукацыі і вызначэнню будучай дзейнасці, а кнігі памаглі фарміраванню яго светапогляду. Першай жа школай, што абудзіла пачуцці і фантазіі, развіла цікавасць і адкрыла ў зразумелай для яго форме мноства жыццёвых звестак і маральных разуменняў, была бабуліна хата. Бабуля была таленавітай апавядальніцай і казачніцай, ведала шмат казак і легенд, змест і сэнс якіх значна паўплываў на мастацкі густ, творчыя інтарэсы і жыццёвую пазіцыю будучага асветніка. «Пагібель герояў у барацьбе гэта яшчэ не канец, ... сусветнае жыццё павінна мець свае карэктывы, свае папраўкі і аднаўленне парушанай раўнавагі як вынікаў шаленства, злосці і растаптанай справядлівасці, бо інакш жыццё не мела б сэнсу, а гэта недапушчальна па той прычыне, што ў нас саміх ёсць сэнс» (З успамінаў // Полымя. 1962. №3. С. 162).

Нейкі час Б. працаваў у кандытарскай, стаў майстрам гэтай справы. Але яму хацелася працягваць вучобу, і ўвосень 1879 ён паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. У час вучобы Б. арганізаваў гурток самаадукацыі, у які ўвайшлі найбольш здольныя і актыўныя семінарысты. Гурткоўцы даставалі і чыталі забароненыя да выдачы з бібліятэкі кнігі, абмяркоўвалі прачытанае. Выхадзец з глыбінь сялянскіх мас, жыццё якога самым цесным і непасрэдным чынам было звязана з народам, Б. адразу быў

падрыхтаваны да рэвалюцыйнай дзейнасці. Вялікі ўплыў на яго мелі паэзія М.А.Някрасава, творы І.С.Тургенева, працы М.А.Дабралюбава, М.Г.Чарнышэўскага і А.І.Герцэна. Знаёмства ў родных Халопенічах з нарадавольцам А.І.Хлябцэвічам скончылася тым, што яму наладзілі сустрэчу з кіруючай групай мінскіх нарадавольцаў. І хоць Б. не падзяляў погляду партыі «Народная воля», што мэта апраўдвае ўсялякія сродкі (гал. чынам тэрор), ён вырашыў прымкнуць да гэтага руху. Год заканчэння семінарыі (1882) стаў для Б. годам пачатку актыўнай палітычнай дзейнасці. Атрымаўшы прызначэнне ў сельскую школу ў Ігуменскім павеце, ён па заданні арганізацыі вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод настаўнікаў і сялян. У 1885 Б. перавялі на пасаду загадчыка Мінскага гарадского пачатковага вучылішча. У Мінску ён вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод вучнёўскай моладзі, настаўнікаў, вайскоўцаў, быў сувязным звяном паміж кіраўніцтвам арганізацыі нарадавольцаў і рэвалюцыйнымі групамі. Цяжкая праца ў гарадскім і рамесным вучылішчах, рэгулярныя заняткі ў рэвалюцыйных гуртках падарвалі здароўе Б. Па рэкамендацыі ўрачоў ён пакінуў школьныя заняткі і падаўся на службу ў Сялянскі зямельны банк у Гродне (1892), але не пакінуў ні педагагічнай, ні навуковай дзейнасці. Цяжка ўявіць сабе тую галіну ведаў, якой бы не займаўся Б. Яшчэ ў семінарыі ён збіраў і запісваў народныя казкі, легенды, песні і перадаваў гэтыя запісы *П.В.Шэйну*, які частку з іх выкарыстаў у сваім зборніку. Б. вывучаў фальклор і захапляўся этнаграфіяй. У зборніках Акадэміі навук і інш. выданнях, перыядычным друку таго часу былі апублікаваны яго навуковыя артыкулы і матэрыялы па беларускім фальклоры і этнаграфіі, нататкі пра народную адукацыю, зямельную справу, археалогію, рэцэнзіі на навінкі айчыннай і зарубежнай мастацкай л-ры, пераклады з польскай і французскай моў, арыгінальныя мастацкія творы. Асобным выданнем выйшлі яго кнігі «Пра паншчыну» (1894), «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895). Працы Б. па этнаграфіі былі высока ацэнены буйнымі спецыялістамі.

У 1896 Б. пераведзены ў Ніжні Ноўгарад, дзе працягваў службу ў Сялянскім зямельным банку. Тут ён пазнаёміўся і блізка сышоўся з Максімам Горкім. Гэта дружба станоўча паўплывала на ўзаемнае развіццё іх светапоглядаў і кірункаў грамадскай дзейнасці.

Сімпатыі Б. да сялянства выклікалі незадавальненне мясцовага дваранства. Б. быў абвінавачаны ў прыналежнасці да крайніх левых і падбухторванні сялян супраць памешчыкаў. Пасля працяглага следства Б. пераведзены ў Яраслаўль, дзе і пражыў да самай смерці. Да апошніх дзён ён не выпускаў з рук пяра, быў нястомным працаўніком.

Сваімі багатымі ведамі ён, паводле ўласнага прызнання, быў абавязаны кнізе і настойлівай працы. Ён працаваў над кнігамі няспынна ўсё жыццё, пры любых умовах, працаваў і вучыўся, а адначасова і вучыў іншых. Шматлікія працы Б. на самыя розныя тэмы, значная частка з якіх засталася ў рукапісах, сведчаць пра вялікую эрудыцыю аўтара. Асаблівае месца ў спадчыне Б. займаюць яго аўтабіяграфічныя ўспаміны. Рукапісы Б. зберагаюцца ў Інстытуце літаратуры АН Рэспублікі Беларусь.

*Тв.*: Страницы из жизни Максима Горького... Мн., 1965; Язык земли. Ярославль, 1966.

*Літ.*: Пширков Ю.С. А.Е.Богданович. Мн., 1966; Бачыла А. Дарогамі Максіма Багдановіча. 2 выд. Мн., 1983.

*Г.А.Маслыка.*

## БАГДАНОВІЧ Ангел Іванавіч [2(14).10.1860—24.3(6.4).1907]

Удзельнік рэвалюцыйнага руху, публіцыст, крытык, рэдактар. Нарадзіўся ў г. Гарадок Віцебскай губ. З 1880 вучыўся на медыцынскім факультэце Кіеўскага універсітэта; быў членам нарадавольскага гуртка, вёў прапаганду сярод рабочых. У 1883 высланы ў Ніжні Ноўгарад, дзе пазнаёміўся з У.Г.Караленкам і пачаў супрацоўнічаць у шэрагу волжскіх выданняў. З 1887 жыў у Казані, быў адным з рэдактараў газ. «Волжский вестник». У 1893 у Пецярбургу стаў адным з арганізатараў нелегальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай партыі «Народнае

права». Аўтар яе праграмнага дакумента — брашуры «Надзённае пытанне» (1894), у якім выстаўлялася патрабаванне ўвесці прадстаўнічае праўленне на аснове ўсеагульнага галасавання, свабоды веравызнання, друку, сходаў, недатыкальнасці асобы і палітычнага самавызначэння нацый. З прычыны арыштаў у шэрагу гарадоў у красавіку 1894 пераcталі існаваць цэнтр партыі, друкарня і некаторыя мясцовыя групы. У 2-й палове 1890-х гадоў Б. адышоў ад народніцтва і перайшоў на пазіцыі «легальнага марксізму». У пачатку 1890-х гадоў супрацоўнічаў у час. «Русское богатство». У 1895—1096 ён рэдактар час. «Мир божий», на старонках якога прапагандаваў неабходнасць адукацыі для шырокіх слаёў народа, ідэі В.Р.Бялінскага, М.А.Дабралюбава, М.Г.Чарнышэўскага, выступаў у абарону рэалістычнай літаратуры дэмакратычнага кірунку. Пісаў пра падзеі рэвалюцыі 1905—07. Пасля публікацыі яго артыкула пра Снежаньскае ўзброенае паўстанне 1905 часопіс быў забаронены. З 1906 рэдагаваў часопіс «Современный мир».

*Тв.*: Годы перелома, 1895—1906: Сб. критич. статей. Спб., 1908.

*Літ.*: Корнилович Э.А. Оружием публициста // Корнилович Э.А. Люди революционного подвига. Мн., 1985.

*Э.А.Карніловіч.*

## БАГДАНОЎСКІ Яўстафій Іванавіч (1833—88)

Вучоны ў галіне медыцыны, акадэмік (1880). Нарадзіўся ў в. Падолкава Мсціслаўскага павета Магілёўскай губ. ў сям'і святара. Сярэднюю адукацыю атрымаў ў Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1853 паступіў на казённы кошт у медыка-хірургічную акадэмію, якую скончыў у 1858 з залатым медалём. Быў пакінуты пры інстытуце па ўдасканаленні ўрачоў, дзе пачаў займацца самастойна навуковай дзейнасцю. Абараніў дысертацыю «Пра рэзекцыю локцевага сучлянення» і атрымаў выключныя ступені доктара хірургіі і доктара медыцыны (1861). Для ўдасканалення ведаў пасланы за мяжу. Быў выбраны ад'юнкт-прафесарам акадэміі на кафедры хірургічнай акадэмічнай клінікі. У сакавіку 1868 ардынарны прафесар. У час руска-турэцкай вайны 1877—78 працаваў у дзеючай арміі кансультантам-хірургам ад Таварыства Чырвонага Крыжа. Аўтар шэрага навуковых прац. Быў выдатным педагогам, выкладаў свой прадмет проста і ясна. Меў шмат вучняў і памочнікаў, якія пазней праславілі айчынную медыцыну. Пры рашэнні пытання аб правядзенні аперацыі ён гаварыў сваім вучням: «Пастаў сябе на месца хворага і тады вырашай, што і як яму рабіць: рэзаць або літаваць, кансерваваць ці бравіраваць». Смерць застала яго ў аперацыйнай зале адразу пасля заканчэння аперацыі, якая праводзілася пад яго кіраўніцтвам.

*Тв.*: Опыты переноса костей от одного животного к другому // Медицинский вестн. 1861. №10; Стрельчатое прижигание // Там жа. 1862. №35.

*Г.А.Маслыка.*

## БАГРЫМ Паўлюк [Павел Восіпавіч; 1813 (?) — 1891]

Беларускі паэт-дэмакрат. Нарадзіўся ў в. Крошын Навагрудскага павета (цяпер Баранавіцкі р-н) у сям'і рамесніка. Пачатковую адукацыю атрымаў у Крошынскай парафіяльнай школе. З дзяцінства захапляўся мастацкай літаратурай, асабліва паэзіяй. Рана пазнаёміўся з творамі Гамера і Эзопа, якія ўразілі яго хараством вершаскладання і гуманізмам. Пад уплывам фальклору паэзіі Ю.*Нямцэвіча* і А.*Нарушэвіча*, яе свабодалюбства і антыфеадальнай накіраванасці Б. сам стаў складаць вершы. У іх гучалі замілаванасць да роднага краю, яго прыроды, людзей, боль за іх нялёгкае жыццё пры паншчыне, імкненне да свабоды. Сялянскія хваляванні, што адбыліся ў роднай вёсцы, не пакінулі Б. ў баку, і ён адгукнуўся на гэтыя падзеі сваімі вершаванымі радкамі, чытаў аднавяскоўцам забароненыя вершы іншых аўтараў. Пры вобыску жандармы знайшлі ў Б. спіс ананімнага вершаванага твора «Гутарка пана з хлопам». За распаўсюджванне антыпрыгонніцкіх вершаў ён быў здадзены ў рэкруты і прайшоў доўгі і нялёгкі шлях царскай службы. Вярнуўшыся, працаваў кавалём у роднай вёсцы. Пра яго майстэрства сведчыць вялікая прыгожая выкаваная ім жырандоль (люстра), якая да гэтага часу знаходзіцца ў Крошынскім касцёле. Над яе стварэннем ён працаваў некалькі гадоў. З яго творчай спадчыны да нас дайшоў толькі адзін верш

«Зайграй, зайграй, хлопча малы...», напісаны ім у юнацкім узросце і надрукаваны ва ўспамінах навагрудскага адваката І.*Яцкоўскага* «Аповесць з майго часу» (Лондан, 1854). Вось што піша Яцкоўскі: «... Сенатар і рэктар хвалілі поспехі вучняў, гаворачы, што ксёндз Магнушэўскі робіць паслугу краю. Гэта пахвала тым менш здавалася яму падступнай, што ён у глыбіні душы быў пераканаhistóry ў яе шчырасці. І вось пачаў разважаць, якія ў тых бедных хлопцах схаваны таленты, якім, калі б дапамаглі развіцца, можна было б дасягнуць вялікай карысці, — што адзін асабліва мог бы зрабіцца славутым паэтам, і як доказ выклікаў Пётрака, каб ён прачытаў уласныя вершы на беларускай гаворцы, напісаныя без чыйго-небудзь натхнення і ўзору. Заахвочаны гэтым, Пётрак дастаў сшытак і, не прадбачачы, што можа быць пакараны за тое, за што дабрадушны ксёндз яго столькі разоў хваліў, пачаў чытаць свае журботныя элегіі, з якіх толькі некалькі строф засталося ў аўтара ў памяці, і якія тут прыводзім (паралельна ў кнізе падаецца польскі мастацкі пераклад, апушчаны намі. — Рэд.): Зайграй, Зайграй, хлопча малы, // І ў скрыпачку і ў цымбалы, // А я зайграю ў дуду, // Бо ў Крашыне жыць не буду. // Бо ў Крашыне пан сярдзіты, // Бацька кіямі забіты, // Маці тужыць, сястра плача, // Дзе ж ты пойдзеш, небарача?..

Такія і да таго падобныя чуллівыя нараканні хлопчыка, які меў усяго дзесятак з нечым год, кранулі пачцівага ксяндза, але зусім іншы ўплыў рабілі яны на бессардэчных экзаменатараў, якія, аднак, шэсць ці сем элегій выслухалі з прытворным спачуваннем, паглядаючы толькі адзін на аднага ў найбольш выразных месцах. Пасля прачытання сенатар загадаў аддаць яму сшытак, і абодва паехалі з абяцаннем, што падумаюць пра лёс такога надзвычайнага паэта. Ксёндз яго пагладзіў у знак задавальнення і запэўніў, што гэта яму пойдзе на карысць. Аднак якое ж было яго засмучэнне і роспач, калі праз некалькі дзён бязвінны хлопчык быў забраны паліцыяй у рэкруты, якіх ён так баяўся... Пётрак з Крошына за талент, дадзены яму ад бога, зазнаў самае жорсткае няшчасце!» (J a c k o w s k i J. Powieść z czasu mojego, czyli Przygody litewskie. 2 wyd. Poznań. 1858. S. 257—265. Пераклад з польск.). Верш — сапраўдны шэдэўр бел. лірыкі 19 ст., ён кранае глыбінёй і непасрэднасцю пачуццяў, яркім народна-песенным каларытам, сілай пратэсту супраць прыгону.

Б. памёр і пахаваны ў роднай вёсцы.

*Літ.:* А л е к с а н д р о в і ч С. Незабыўнымі сцежкамі. 2 выд. Мн., 1962.

## БАГУШЭВІЧ Марыя Уладзіміраўна (псеўд. Р э г і н а, В а н д а, В я н е д а; 4.1.1865—1887)



Дзеячка рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і на Беларусі. Нарадзілася ў в. Цапэрка Слуцкага пав. (цяпер Клецкі р-н) у збяднелай дваранскай сям'і са старажытнага роду татарскага паходжання; па маці звязана далёкім сваяцтвам з родам Касцюшкаў. З 1874 жыла ў Варшаве. Вучылася на вышэйшых гуманітарных курсах пры прыватным пансіёне, у 1881 здала экзамен на званне народнай настаўніцы. З вер. 1882 працавала ў Таварыстве Чырвонага Крыжа — дапаможнай арганізацыі партыі «Пралетарыят». Уступіўшы ў пачатку 1884 у «Пралетарыят», узначаліла Таварыства Чырвонага Крыжа. У ліпені 1884, пасля масавых арыштаў сярод кіраўнікоў «Пралетарыяту», разам з беларусамі М.А.Манцэвічам, В.І.Разумейчыкам і іншымі стала на чале ЦК партыі. Пры яе непасрэдным

удзеле да восені 1884 была аб'яднана большасць рабочых гурткоў у Варшаве, адноўлены разгромленыя партыйныя арганізацыі ў Лодзі, Згежы, Тамашаве-Мазавецкім. Распаўсюджвала марксісцкую літаратуру, вяла рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых і інтэлігенцыі, з'яўлялася аўтарам шэрага партыйных дакументаў. Наладзіла работу тайнай друкарні, выданне партыйнай газ. «Proletariat» («Пралетарыят»), дзейнасць пераплётнай, слесарнай, швейнай і іншых майстэрняў, якія працавалі на патрэбы партыі. Устанавіла кантакты з польскай сацыялістычнай эміграцыяй у Жэневе і Парыжы, з дапамогай Разумейчыка, А.Кутасевіча, Г.Аляшкевіча, М.Войніча і іншых аднавіла сувязі з рэвалюцыянерамі Вільні, Беластока, Гродна, Мінска, Магілёва, Брэста, Нясвіжа, Слуцка і інш. 30.9.1885 арыштавана. Пасля зняволення ў Варшаўскай цытадэлі ў 1887 выслана ў Сібір. Па дарозе вяла «Дзённікі». Не даехаўшы да месца ссылкі, цяжка захварэла і памерла ў краснаярскай перасыльнай турме.

*Тв.*: Pamiętnik. Wrocław, 1955.

*Літ.*: Baumgarte L. Dzieje Wielkiego Proletariatu. Warszawa, 1966; Czerepica W. Związki rewolucjonstów Bialorusi i Polski w latach 70—80 XIX wieku. Warszawa, 1985. *В.М.Чарапіца.*



*Жупраны. Помнік Ф.Багушэвічу.*

**БАГУШЭВІЧ** Францішак Бенядзікт Казіміравіч [псеўд. Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава, 9(21).3.1840—15(28).4.1900]

Прадстаўнік грамадскай думкі Беларусі, ідэолаг нацыянальнага адраджэння, вызваленчага дэмакратычнага руху, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

Нарадзіўся ў фальварку Свіраны Віленскага павета Віленскай губ. (зараз Вільнюскі р-н Літвы) у сям'і дробнага шляхціца, матэрыяльнае становішча і ўмовы жыцця якога мала чым адрозніваліся ад побыту навакольных сялян. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Віленскай гімназіі, якую скончыў у 1861. У тым жа годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, аднак праз 2 месяцы быў выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Вярнуўся на радзіму, працаваў настаўнікам у в. Доцішкі. Актыўны ўдзельнік паўстання 1863—64. У адным з баёў быў паранены. Ратуючыся ад рэпрэсій, вымушаны быў хавацца, а потым пераехаў на Украіну. У 1865 яму ўдалося паступіць у Нежынскі юрыдычны ліцэй. З 1868 працаваў у судовых установах Украіны, кароткі час у Валагодскай губ. У 1884 вярнуўся ў Вільню, працаваў прысяжным паверанным у судовай палаце. Асноўнымі кліентамі яго былі сяляне і гарадская бедната. Менавіта ў віленскі перыяд разгарнулася яго літаратурная і публіцыстычная дзейнасць. Пры жыцці паэта пад псеўданімамі былі надрукаваны вершаваныя зборнікі «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891) і «Смык беларускі» (Познань, 1894), апавяданне «Тралялё-

начка» (Кракаў, 1892). З 1898 жыў у в. Кушляны, пахаваны ў в. Жупраны (Ашмянскі р-н).

Яго светапогляд і ідэйныя перакананні сфарміраваліся ў эпоху ўзнікнення і ўзмацнення вызваленча-дэмакратычнага руху, які быў накіраваны супраць феадальна-прыгонніцкіх форм і адносін сацыяльна-палітычнага жыцця, а таксама адлюстроўваў наспелыя патрэбы нацыянальнага адраджэння і развіцця народаў, пазбаўленых у Расійскай імперыі сваіх суверэнных правоў на самастойнае грамадскае і духоўна-культурнае існаванне, адбудову сваёй дзяржавы.

Гістарычная патрэба змен у грамадскім жыцці выспявала паступова, але няўхільна на працягу ўсяго 19 ст., набываючы ўсё больш пэўныя і выразныя формы. Асабліва цяжкімі для Беларусі былі часы панавання рэакцыі пасля задушэння паўстання 1831 і закрыцця Віленскага універсітэта. Афіцыйная ідэалогія «самадзяржаўя, праваслаўя і народнасці» сцвярджала, што такога народа, як беларускі, зусім не існуе, а ёсць толькі заходняя галіна «ўсходнеславянскага племені»; усе іншыя меркаванні лічыліся варожай польскай інтрыгай, накіраванай на адлучэнне «спрадвечных расійскіх земляў». Аднак свабодалюбівыя імкненні не ўдавалася задушыць. Пра гэта сведчыць дзейнасць тайных згуртаванняў 1820—40 гадоў (філаматы, Дэмакратычнае таварыства, Мінская тайная арганізацыя, Брацкі саюз літоўскай моладзі), якія выступалі за ліквідацыю прыгонніцтва і самадзяржаўя. Вызваленчыя ідэі, і найперш ідэя свабоды прыгнечанага сялянства, а таксама ідэя роўнасці і братэрства розных народаў, заклік да ліквідацыі рабства, усталяванага дэспатычнай грамадскай сістэмай, усведамленне неабходнасці барацьбы «ў імя растаптаных правоў чалавека» натхнялі ўдзельнікаў Дэмакратычнага таварыства (1836—38), створанага ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі Ф.*Савічам*. Значна паскорыліся грамадскія працэсы напярэдадні і пасля дэкрэта пра адмену прыгонніцтва.

Эпоха шырокага дэмакратычнага руху, этнакультурнай кансалідацыі беларускага народа на Беларусі пачалася паўстаннем 1863—64. Адным з кіраўнікоў яго стаў К.*Каліноўскі*. Яго рэвалюцыйная дзейнасць, якая была звязана і з польскім вызваленчым рухам, сведчыла пра афармленне на Беларусі самастойнай палітычна-вызваленчай плыні, што адпавядала працэсам выспявання нацыянальнай самасвядомасці. Выразнай прыкметай гэтага стала ідэалагічная праграма беларускіх народнікаў, якія ў 1880-я гады ўпершыню ажыццявілі канкрэтны сацыяльна-палітычны аналіз праблемы нацыянальнага самавызначэння беларускага народа і па праву займаюць пачэснае месца ў беларускім дэмакратычным руху. Менавіта ў 1880-я гады разгарнулася і творчая дзейнасць Б. Яго актыўны ўдзел ў паўстанні 1863—64 — яскравае сведчанне глыбокага духоўнага адзінства з найважнейшымі антыцарысцкімі, антыфеадальнымі і нацыянальна-вызваленчымі мэтамі, за дасягненне якіх змагаўся Каліноўскі. Гэта адзінства ў далейшым пацверджана яго творчай дзейнасцю, дух і пафас якой жывіўся ідэямі свабоды і дабрабыту працоўнага народа. Па глыбіні разумення ўнутраных патрэб народнага жыцця, творчай энергіі іх абвяшчэння і сіле ўплыву на паслядоўнікаў Б. стаў першым сапраўды народным выразнікам тыповых рыс і асаблівасцей нацыянальнай свядомасці, духоўным пачынальнікам і натхняльнікам працэсу нацыянальнага самаўсведамлення і адраджэння прыгнечанага народа, заснавальнікам новай беларускай літаратуры. Ва ўмовах прыгнечання і дыскрымінацыі народа і яго культуры менавіта літаратура была адзіна магчымым сродкам і формай выяўлення сукупнасці грамадска значных ідэй, настрояў і патрэб. У агульным працэсе фарміравання вызваленчых імкненняў творчая дзейнасць Б. — пачатак працэсу эстэтызацыі каштоў-



*Нежынскі юрыдычны ліцэй. З малюнка 19 ст.*

насцей дэмакратычнай ідэалогіі (народ, свабода, чалавек працы).

У публіцыстычных прадмовах і праграмных вершах Б. выказаны асноватворныя прынцыпы ідэалогіі нацыянальнага вызвалення. У прадмове да зборніка «Дудка беларуская» ён пісаў: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «б е л а р у с к а й». Я сам калісь думаў, што мова наша — «мужыцкая» мова, і толькі таго! Але, паздароў божа добрых людцоў, як навучылі мяне чытаць-пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая» (Творы. Мн., 1991. С. 16). Праблему мовы ён вылучае як асноўную праблему нацыянальнага жыцця: «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю..., а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі.» (Там жа. С. 17). Лічыў нацыянальную мову найважнейшай формай выяўлення духоўнасці народа («язык ёсць адзежа душы»), найбольш устойлівай, асноўнай прыкметай нацыі. Беларусь — там, «дзе наша мова жывець», — пісаў Б. Пры абгрунтаванні вызваленчых памкненняў народа Б. звяртаўся да эпохі Вялікага княства Літоўскага, проціпастаўляючы тагачасны росквіт беларускай культуры бяспраўнаму і прыгнечанаму становішчу народа ва ўмовах панавання самаўладдзя.

Пазіцыя Б. як выразніка нацыянальна-патрыятычнай свядомасці ўвогуле адметная сцвярджэннем мовы ў якасці цэнтра духоўнага існавання народа і яго культуры, а таксама імкненнем даць гістарычнае і канкрэтнае этнатэрытарыяльнае абгрунтаванне рэальнай суверэннасці, самастойнасці беларускага народа. Гістарычнае абгрунтаванне ўлічвала як абставіны мінулага культурнага жыцця, так і канкрэтныя ўмовы былога дзяржаўнага існавання. Гэтыя моманты (абарона мовы і каштоўнасцей мінулага, у т.л. фальклору) і сёння застаюцца арганічнымі кампанентамі сучаснай нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Выступаючы ад імя ўсяго працоўнага беларускага народа, Б. быў пераважна ідэалагічным прадстаўніком працоўнага сялянства. З сялянствам, а таксама з дэмакратычнай інтэлігенцыяй звязваў ён свае вызваленчыя ідэалы. У сацыялогіі зыходзіў з факта размежавання грамадства на «панства» — прыгнятальнікаў, антынародны дзяржаўны лад, і народ — людзей працы. Падзел грамадства на процілеглыя супольнасці рабіў на аснове фіксацыі канкрэтных абставін іх рэальнага жыццёвага існавання. «Адзін ходзе ў саеце, у золаце з плеч да ног, а другому, каб прыкрыцца хоць анучай — велькі труд... Адзін мае хатаў многа, а вялікіх — касцёл моў... У другога ў сцяне дзюры, вецер ходзе, дым і снег... Аднаму дзесяткі-служкі зарабляюць сотні-сот..., другі ж сам, аж за дзесятак працуючы, лье свой пот» (Там жа.



*Вокладка кнігі Ф.Багушэвіча «Дудка беларуская». Кракаў. 1896.*

С. 39). Гэта тыпова сацыяльнае размежаванне, якое вядзе і да адпаведнага ацэначнага (маральнага і эстэтычнага) паралелізму: народнага, ісціннага, чалавечага і панскага, пачварнага, драпежніцкага. Разам з тым гэта і вынік перакананняў, у аснове якіх прызнанне антыгуманнай сутнасці рэчаіснасці, антынароднага характару феадальна-прыгонніцкай сістэмы панавання над шырокімі працоўнымі масамі і разуменне неабходнасці іншых высноў грамадскага быцця. Б. — носьбіт пазіцыі, тыповай для прадстаўніка дэмакратычнага руху. Яго дэмакратычная ідэалогія будавалася на адмаўленні каштоўнасцей, уласцівых феадальна-самадзяржаўнаму ладу — дзяржавы, саслоўнай іерархіі, універсальнай ідэалогіі і сцвярджэнні як вышэйшай мэты чалавека сапраўднага суб'екта мыслення, творчасці, грамадскага жыцця. Аснову дэмакратычнага руху складалі антыфеадальны гуманістычны пафас, наспелая грамадская неабходнасць індывідуальна-асабовага разняволення і развіцця. Б. стаў выразнікам тэндэнцый пачатковага перыяду станаўлення вызваленча-дэмакратычнай ідэалогіі.

У спецыфічных умовах Беларусі 2-й паловы 19 ст. патрэбы вызваленчага руху, асветленыя вышэйшымі гуманістычнымі мэтамі, былі непарыўна звязаны з тэндэнцыямі нацыянальнага адраджэння і самавызначэння. Таму ў беларускай дэмакратычнай ідэалогіі дамінавалі (асабліва на пачатковым этапе станаўлення) задачы шырокага, агульнага плана (ліквідацыя эксплуататарскай сістэмы, дасягненне грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай свабоды працоўных мас, нацыянальнае развіццё), а не зыходна ўласцівыя самому духу дэмакратычных імкненняў мэты індывідуальнага, асабістага вызвалення. Ідэя суверэннасці народных працоўных мас (вяршэнства ў сацыяльным жыцці працаўніка, стваральніка ўсіх даброт) атрымала ўсебаковае ўвасабленне ў беларускім дэмакратычным руху. Гэты працэс пазначаны эстэтызацыяй, маральным абгрунтаваннем, выпрацоўкай ацэначных уяўленняў, паводле якіх працоўны народ — вышэйшая каштоўнасць быцця. Упершыню ідэя гістарычнага прадвызначэння працоўнага народа, глыбокае перакананне ў яго сіле і стваральных магчымасцях на ўвесь голас прагучалі на старонках «Мужыцкай праўды» Каліноўскага. Погляд на народ як на фундаментальную, жывую і сапраўдную рэальнасць гісторыі і грамадскага жыцця яскрава выявіўся ў творах Б. Народ і яго стваральная праца — выток і ўвасабленне самой сутнасці жыцця наогул: «Глядзі! Горы паразрыты, а чыгункай свет абвіты: усё з мужыцкай працы...» (Там жа. С. 21). Б. выказваў тыповае для працоўнага сялянскага асяроддзя разуменне свайго прызначэння ў жыцці як работніка-«карміцеля». Вылучэнне канкрэтнага жыццёва-вытворчага аспекту дзейнасці народа «спалучалася ў яго з паказам стваральнага характару працы, у працэсе якой дзейнасць народных мас раскрывалася як сіла, што кардынальна абнаўляе аблічча зямлі. Паняцце «народ» ахоплівае ўсіх людзей працы і найперш сялянства. У Б. гэта не толькі «мужыкі нашы», але і беларусы, беларускі народ. Новыя рысы ў трактоўцы народа знайшлі выразную аналогію ў мастацкай творчасці Б. як увасабленне пачуцця глыбокай любові да роднага краю, вернасці свайму народу і зямлі, на якой нарадзіўся і вырас («Мая хата», «Свая зямля»). Патрыятычнае пачуццё паэт раскрывае як глыбока інтымнае адчуванне арганічнай духоўнай еднасці са сваім народам і як унутраную характарыстыку сапраўднага чалавека: «Каб за край быў умёрці гатоў, каб не прагнуў айчызны чужых» (Там жа. С. 78).

Ідэя гістарычнага прызначэння мас, самастойнасці іх грамадска-палітычнага і духоўнага развіцця для Б. была ідэяй народнай свабоды, такім будучым станам жыцця і чалавечых адносін, які адпавядаў бы сапраўднай ролі народа-працаўніка і стваральніка. Свабоду ён усведамляў найперш як пабудову новага грамадскага жыцця, якая не ведае падначалення адных у імя панавання другіх, нямногіх. Выразны акцэнт ён рабіў не толькі на канкрэтных сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных патрабаваннях, але і на нацыянальна-вызваленчых задачах, у т.л. на духоўна-маральных і культурных фактарах. На яго трактоўцы праблемы свабоды адбіліся тыповыя сялянскія ўяўленні пра свабод-

ную працу на свабоднай зямлі, не пазбаўленыя, аднак, ураўняльнасці і утапізму. Свабоду ён разумеў як сапраўдны чалавечы стан, дасягненне якога несумяшчальнае з тагачаснымі грамадскімі адносінамі. Сутнасць варожага людзям працы грамадства ён раскрываў як сацыяльную, жыццёвую і духоўную няроўнасць, што ахоўваецца ўсім дзяржаўна-бюракратычным апаратам насілля. Таму адзіна магчымай жыццёвай пазіцыяй лічыў пазіцыю непрыняцця і адмаўлення існуючай рэчаіснасці. Толькі свабода пазначана ў яго высокім пафасам паэтызацыі. «Відзеў пташку я ў клетца, як галоўкай потым б'ецца... і сканае... жыць не хоча. Нашто — гадзіну, мядзянку, пусці ў шклянае начынне, — сама сабе без прастанку будзе жаліць, покі згіне!.. Як ужо скаціна тая або гадзіна праклята і та цану волі знае, што ж для нашага-то брата, меўшы розум не скацінны, як знаць волю мы павінны?» (Там жа. С. 53).

Беларускай дэмакратычнай ідэалогіі ўласціва была тэндэнцыя да перадачы агульнага ў форме, набліжанай да наглядна-канкрэтнага. Як і Каліноўскі, Б. сутнасць чалавека ўсведамляў пераважна ў сацыяльна-эканамічным і грамадска-палітычным плане. Чалавек у яго выступаў абагульнена-канкрэтнай праявай сутнасці і памкненняў пэўнай агульнасці. Вобраз чалавека ўзбагачаўся ўнутранымі сацыяльна-псіхалагічнымі вымярэннямі. У яго творах селянін сам выказвае свае адносіны да канкрэтных з'яў рэчаіснасці, сам гаворыць пра свае інтарэсы і патрэбы.

Асаблівасць пачатковага этапу станаўлення беларускай рэалістычнай літаратуры і эстэтыкі 2-й паловы 19 ст. — рэзкае выражэнне крытычнага пачатку, палемічная ўстаноўка на выяўленне сутнасці жыццёвых з'яў і непрыкрытай праўды аб рэчаіснасці. Усведамленне супярэчлівасці быцця, глыбокае пранікненне ў яго дысгарманічную сутнасць абумовілі наватарскія рысы творчай пазіцыі Б. Ён стаў пачынальнікам новага этапу развіцця беларускай літаратуры, эстэтыкі, грамадска-палітычнай думкі. Прынцып рэалізму і народнасці — аснова, фундамент яго творчасці, дэмакратычны характар якой выразна раскрыўся ў падыходзе да народнага



*Жупранскі касцёл.*

жыцця як галоўнага аб'екта мастацкага адлюстравання, вылучэнні ў цэнтр ідэйна-мастацкіх інтарэсаў прадстаўніка народа, чалавека працы. Імкненне садзейнічаць уздыму самасвядомасці працоўнага беларускага народа вызначыла і кірунак дзейнасці Б. ў галіне літаратуры, а таксама разуменне яе грамадскага прызначэння як істотнага фактару нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа. «Смык ёсць, а хтось скрыпку, можа, даробе, а там была «Дудка» — вот і мы зробім музыку...» (Там жа. С. 65). Гэта было не толькі сцвярджэнне патрэбы літаратурна-мастацкага развіцця, але і разуменне факта існавання літаратуры як неабходнай перадумовы паўнакроўнага нацыянальнага жыцця. «Зрабіць музыку» для Б. не проста мастацкая, «чыста» літаратурная ўстаноўка. Лёс беларускай літаратуры неадрыўны ад лёсу працоўнага беларускага народа, і менавіта розум і клопат пра яго будучае гістарычнае жыццё — пафас мастацкай дзейнасці Б. Пра гэта яскрава сказана ў праграмных вершах «Мая дудка» і «Смык». Неадлучнасць ад жыцця і імкненняў працоўнага народа — арганічны фактар існавання паэзіі Б. Яго «дудка» сумная, бязрадасная, як само жыццё народа. Але ў паэзіі Б. заключана вялікая сіла, закліка期 памагчы народу пазбавіцца бяды, галечы, прыгнёту і выйсці на новыя абсягі жыцця. Некаторае адценне утылітарызму ў такім падыходзе да літаратуры якраз было праявай цэльнасці дэмакратычнай народнай пазіцыі Б. Ён ускладаў на літаратуру задачы, што маглі быць вырашаны толькі ў працэсе развіцця ўсіх бакоў духоўнага і матэрыяльнага жыцця народа. Сцвярджэнне велізарнай сілы ўздзеяння і ўплыву мастацкага слова («Смык») было адначасова сцвярджэннем невычэрпнасці стоеных у народзе сіл, што падтрымлівалі веру паэта ў будучыню. Задача стварэння нацыянальнай літаратуры ў Б. непарыўна звязана з усведамленнем яе значнай грамадскай місіі — служэння працоўнаму народу, справе яго вызвалення.

Б. — першы, хто найбольш поўна і паслядоўна выказаў наспелую патрэбу ў існаванні нацыянальнай літаратуры і эстэтыкі. Гэта была першая нацыянальная эстэтыка, якая ставіла ў цэнтры патрэбу пазнання і тлумачэння рэчаіснасці народнага жыцця. Менавіта рэалістычная і дэмакратычная тэндэнцыйнасць абумовіла характар ідэйна-эстэтычнай пазіцыі паэта і сутнасць яе найважнейшых момантаў. Ісціннасць як цэласнасць зыходнай пазіцыі ў Б. неадлучна ад ідэі ўсеагульнага адзінства: «Каб уся зямелька адну праўду мела», каб гэта праўда «людцоў» з'ядняла» (Там жа. С. 30, 29). Паводле Б., ісціннасць несумяшчальная з варожасцю, панаваннем і падначаленнем. Сам дух такога памкнення гарманічна-ўпарадкавальны, г.зн. эстэтычны, глыбінныя асновы яго сацыяльныя і маральныя. Межы ісціннасці ўключаюць пэўныя сацыяльныя сферы грамадскага жыцця — перш за ўсё народ, працоўныя масы, працаўніка як чалавека сапраўднага; усё, што знаходзіцца па-за гэтымі межамі, ёсць няісціннае, пачварнае — жыццё панства, прыгнятальнікаў, тып чалавека-пана.

Імкнучыся зразумець свет у цэласнасці, у яго найбольш істотных праявах, навакольнае ён успрымае як свет невырашальных супярэчнасцей, як свет, што знаходзіцца ў трагічным стане. Важнае месца ў сістэме мыслення і вобразнасці Б. займае прынцып кантрастнага процірастаўлення як форма адлюстравання драматычнай разарванасці рэчаіснасці. Найважнейшыя тыпы проціпастаўленняў у яго творах (мужык — пан, мужык — мноства паноў, мужык — безліч дзяржаўна-бюракратычных устаноў) пераконваюць, што для грамадства, пабудаванага на прыгнёце людзей, уласцівы працэс пастаяннага ўзнікнення і павелічэння зла. І выходзіць, што свет, які бачыць і адлюстроўвае Б., быццам і не зямля пад сонцам і зоркамі. Сонца для паэта — гэта праўда, якую закапалі, схавалі, а таму і свет гэты шэры, без святла. А зоркі? Ды над працаўніком столькі чыноўнікаў, колькі камення ў полі, колькі зорак у небе («Як праўды шукаць»). Аснова гэтага свету, паводле Б., — начальства, бюракратычна-чыноўны апарат, бізун — сімвал насілля, рабства і прыніжэння, слуп — мяжа падзелу, знак няроўнасці («У астрозе»). Універсальнасць панавання стану несвабодыператварае свет у велізарную турму. Турма як самы яркі сімвал несвабоды выступае ў вершаванай апо-

весці «Кепска будзе!» найбольш адэкватным вобразам рэчаіснасці.

Адзінота і безабароннасць чалавека перад жорсткім уціскам абсалютнай дзяржаўнай улады і яе «законнымі прадстаўнікамі» — галоўная тэма разважанняў паэта. Назіраючы жыццёвыя перамены, якія адбываліся на Беларусі ў пасляэформенны час, ён адзначаў, што абвешчаная свабода вяла толькі да павелічэння цяжару на плячах працаўніка. Тут ён падыходзіў да драматычнага пытання: што нясе ход часу, лінія нашай гісторыі — пашырэнне межаў свабоды ці яе звужэнне? Адсюль вытокі трагедыйнай афарбоўкі светапогляду паэта. Не прамая сацыяльная тэндэнцыйнасць, не бяскрыўдны камічна-бытавы жарт, а сапраўдная шырыня мыслення, абарона народа і чалавека, яго гонару і годнасці перад усеабдымнай сістэмай дзяржаўнага падначалення і прыніжэння зрабілі Б. ў свой час «мужыцкім адвакатам», а зараз робяць арганічна сугучным сучаснасці, яе сапраўды трагічным калізіям.

Моцным і шматгранным было ідэйна-творчае ўздзеянне Б. на паслядоўнікаў. Увесь наступны працэс фарміравання дэмакратычнай ідэалогіі, грамадскай і эстэтычнай думкі, новай беларускай літаратуры адзначаны свядомым наследаваннем яго спадчыны. Пра гэта красамоўна сведчыць творчая дзейнасць А.Гурыновіча і Цёткі, Я.Купалы і Я.Коласа.

*Тв.*: Творы. Мн., 1967; Творы. Мн., 1991.

*Літ.*: Карский Е. Белорусы. Т. 3, вып. 3. Пг., 1922; Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. 3 выд. М.; Л., 1924; Барысенка В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957; Майхрович С. Жизнь и творчество Ф.Богушевича. Мн., 1961; Навуменка І. Пісьменнікі-дэмакраты. Мн., 1967; Александровіч С. Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1968; Пачынальнікі (склад. Г.В.Кісялёў). Мн., 1977; Майхрович С. Белорусские революционные демократы. Мн., 1977; Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Ч. 1. 2 выд. Мн., 1989; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. Мн., 1969; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977.

*А.С.Майхровіч.*

## **БАЖАНАЎ** Аляксей Міхайлавіч (1820—6.8.1889)

Вучоны-аграном, эканаміст, асветнік. Скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут (1851). Працаваў выкладчыкам кафедры прыродазнаўчай гісторыі і сельскай гаспадаркі Маскоўскай духоўнай семінарыі (1851—61), загадваў вучэбна-практычным хутарам Маскоўскага таварыства сельскіх гаспадароў. Абараніў магістэрскую дысертацыю «Пра вырошчванне пшаніцы, з апісаннем парод, якія разводзіліся ў Расіі» (1856). Аўтар падручнікаў і навукова-папулярных прац: «Пачатковыя асновы батанікі», «Папулярныя настаўленні аб доглядзе рагатай жывёлы...» (абедзве 1853), «Дапаможнік па развядзенні, гадоўлі і выкарыстанні буйной рагатай жывёлы. Дастасаваны да кліматычных і сельскагаспадарчых умоў Расіі» (1867) і інш. З 1863 прафесар Горы-Горацкага земляробчага інстытута (з 1864 у Пецярбургу), потым Пецярбургскага лясного інстытута. У 1882—83 дырэктар Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства (Ковенская губ.), потым памочнік папячыцеля Віленскай навучальнай акругі. Быў членам-карэспандэнтам вучонага камітэта Міністэрства дзяржаўных маёмасцей і дарадчым членам ветэрынарнага камітэта Міністэрства ўнутраных спраў. Вывучаў стан сельскай гаспадаркі ў Германіі, Англіі, Бельгіі, Францыі, удзельнічаў у Парыжскай сусветнай выстаўцы; пераклаў працу В.Баўмейстара «Аб развядзенні, утрыманні і выкарыстанні свойскіх жывёл» (1865). Меў маёнтак у Гродзенскай губ., дзе эксперыментальна правяраў, а потым пашыраў перадавыя спосабы вядзення сельскай гаспадаркі. Абвяргаў распаўсюджанае тлумачэнне гаспадарчай адсталасці Расіі яе дрэннымі прыродна-кліматычнымі ўмовамі, паказваў перавагі вольнанаёмнай працы ў параўнанні з прыгоннай. Лічыў неабходным пераход ад трохполля да шматполля, прапагандаваў выкарыстанне сельскагаспадарчых машын, распрацаваў методыку разліку іх эфектыўнасці. Выказваўся за наладжванне дзяржаўнай сістэмы страхавання, прадастаўленне сялянам крэдыту, паляпшэнне статы-

стычнага і бухгалтарскага ўліку, развіццё сельскагаспадарчай адукацыі.

*Тв.*: Опыты земледелия вольнонаёмным трудом. М., 1860; 2 изд. Спб., 1861; Что можно заимствовать у иностранцев по части земледелия. Спб., 1863; 2 изд. Спб., 1867.

*Літ.*: Цитович С.Г. Горы-Горецкий земледельческий институт — первая в России высшая сельскохозяйственная школа (1836—1864). Горки, 1960; Бусько В.Н. Экономическая мысль Белоруссии середины XIX — начала XX в.: Очерки. Мн., 1990. С. 41—42, 46—47. *В.М.Бусько.*

## БАКШАНСКІ Юльян (1824—4.4.1863)

Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху, публіцыст. Нарадзіўся ў маёнтку Тупальшчына Свянцянскага пав. (цяпер Смаргонскі р-н). Вучыўся ў Віленскай гімназіі. За сувязь з тайнымі студэнцкімі гурткамі і хаванне забароненых кніг у 1842 сасланы ў Разанскую губ. У 1846 вярнуўся з выгнання і ў сакавіку 1847 напісаў «Адозву да смаргонскіх сялян», у якой заклікаў аб'яднацца з мяшчанамі і салдатамі і выступіць супраць памешчыкаў, выказваў ідэю аб рашаючай ролі народных мас у жыцці грамадства, разглядаў народнае паўстанне як асноўны сродак вырашэння сацыяльных і нацыянальных праблем. Арыштаваны і засуджаны на 12 гадоў катаргі, якую адбываў у Нерчынску да 1858. У 1863 на радзіме арганізаваў і ўзначаліў атрад паўстанцаў і ў сутычцы з урадавымі войскамі загінуў у в. Свечкі. Пахаваны ў в. Плябань Вілейскага пав. (цяпер Маладзечанскі р-н). На магіле помнік.

*Літ.*: Мохнач Н.Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в. Мн., 1971. С. 97—102; Fajnhauz D. Ruch Konspirocyjny na Litwie i Białorusi, 1846—1848. Warszawa, 1965. S. 213—237.

*Н.М.Махнач.*

## БАЛІНСКІ Міхаіл Ігнатавіч (14.8.1794—22.12.1864)



Гісторык і публіцыст. Нарадзіўся ў маёнтку Цярэспаль Полацкага пав. ў сям'і інфлянцкага чашніка. Скончыў Віленскі універсітэт (1818). Вывучаў літаратуру і гісторыю ў І.*Лялевеля* і права ў І.*Даніловіча*. У 1816—22 і 1829—30 супрацоўнік час. «Dziennik Wileński», з 1818 разам з Лялевелем рэдагаваў час. «Tygodnik Wileński» («Штоднёвік Віленскі»). Член таварыства шубраўцаў, адзін з рэдактараў яго газ. «Wiadomości brukowe» («Вулічныя навіны»). У 1818—22 сакратар Віленскага друкарскага таварыства. За ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1830—31 арыштаваны. З 1836 жыў у Варшаве, адзін з заснавальнікаў навукова-літаратурнага часопіса «Варшаўская бібліятэка» («Biblioteka Warszawska»). З 1847 у Вільні, віцэ-старшыня Віленскай археалагічнай камісіі, член Рускага геаграфічнага таварыства. Аўтар публіцыстычных, гістарычных і гісторыка-геаграфічных даследаванняў, прысвечаных Беларусі. Разам з Ц.Ліпінскім выдаў даследаванне «Старажытная Польшча...» (т. 1—3, 1843—50), 3-і том якога падрыхтаваны Б., дзе на падставе багатага дакументальнага матэрыялу пададзена гісторыя населеных пунктаў Беларусі (1846). Асвятляў гісторыю Беларусі як частку гісторыі Польшчы і польскай культуры.

*Тв.*: Historya Miasta Wilnia. T. 1—3. Wilno, 1836—37; Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862; Pamiętniki o Janie Sniadeckim... T. 1—2. Wilno, 1864—65.

*Літ.*: Prasa polska w latach 1661—1864. Warszawa, 1976. S. 122—165; Пичета В.И. Введение в русскую историю: (Источники и историография). М., 1923; Каха-

ноўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI — XIX стст. Мн., 1984. *Дз.У.Караў.*

## БАРАНЕЦКІ Іосіф Васілевіч (1843—6.4.1905)

Прыродазнавец, педагог. Нарадзіўся на Гродзеншчыне ў дваранскай сям'і. Вучыўся ў Беластоцкай гімназіі. У 1860 паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта, але праз год перайшоў на прыродазнаўчае аддзяленне Пецярбургскага універсітэта, якое скончыў у 1866. У 1867—69 працаваў хавальнікам батанічнага кабінета ў гэтым універсітэце. У 1870 абараніў магістэрскую дысертацыю «Даследаванне дыёсмасу ў дачыненні яго да раслін» (1887) і накіраваны на 2 гады за мяжу для ўдасканалення ведаў. Працаваў з вучонымі-біёлагамі ў Германіі. Пасля вяртання ў Расію абараніў у 1873 доктарскую дысертацыю «Аб перыядычнасці сцякання соку травяністых раслін і прычынах гэтай перыядычнасці» і выбраны экстраардынарным прафесарам на кафедры батанікі Кіеўскага універсітэта, з 1877 — ардынарны прафесар. Пасля 30-гадовай службы, у адпаведнасці з патрабаваннямі універсітэцкага статута, пакінуў кафедру і чытаў курс батанікі на медыцынскім факультэце. У 1897 выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук. У 1903 прызначаны дэканам фізіка-матэматычнага факультэта Кіеўскага універсітэта. У 1904 выбраны старшынёй Кіеўскага таварыства даследчыкаў прыроды. Арганізаваў ва універсітэце лабараторыю фізіялогіі і анатоміі раслін. Быў вучоным-індывідуалістам, таму школы вучняў не стварыў. Яго навуковая дзейнасць вялася ў 3 кірунках: вывучэнне здольнасці ганідый лішайнікаў да самастойнага жыцця; фізіялагічныя працы; анатомія раслін. Б. стварыў і ўдасканаліў некаторыя фізіялагічныя прылады. Аўтар «Курса батанікі для студэнтаў медыцынскіх факультэтаў» (1879) і шэрага навуковых публікацый у бюлетэнях Акадэміі навук, працах Кіеўскага таварыства даследчыкаў прыроды і ў іншых выданнях.

*Літ.*: Пуриевич К.А. О.В.Баранецкий // Зап. Киевского о-ва естествоиспытателей. 1910. Т. 20, вып. 4.

## БАРАНОЎСКІ Іван (Ян) Іосіф (1805—88)

Інжынер-вынаходнік, эканаміст і пісьменнік. Нарадзіўся ў мяст. Смілавічы Мінскай губ. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Мінскай гімназіі, затым у 1821 пераехаў у Вільню, дзе слухаў лекцыі па медыцыне і праве. У 1825 скончыў курс Віленскага універсітэта і працаваў у Польскім банку ў Варшаве. Падзеі 1830 (паўстанне) вымусілі яго пакінуць Варшаву і пераехаць у Францыю. Там ён займаўся вынаходніцтвам. За прыстасаванне для друкавання ў некалькі фарбаў ён атрымаў у 1851 залаты медаль на сусветнай выстаўцы ў Лондане. У 1872 перасяліўся ў Лондан і быў там памочнікам сакратара ў «Польскім літаратурным таварыстве». Займаўся лексікаграфічнымі працамі. Склаў «Англа-польскі лексікон» і «Польска-англійскі слоўнік», якія былі выдадзены ў Варшаве адпаведна ў 1883 і 1884.

## БАРДЗІЛОЎСКІ Іван Каятанавіч (26.9.1852—30.11.1903)

Прыродазнавец, педагог. Нарадзіўся ў в. Лучыцы на Мазыршчыне. У 1883 скончыў Кіеўскі універсітэт, у якім з 1884 і да канца жыцця працаваў спачатку лабарантам, потым хавальнікам батанічнага кабінета. Актыўна ўдзельнічаў у працы Кіеўскага таварыства даследчыкаў прыроды, правадзейным членам якога быў з 1886. Яшчэ студэнтам 3-га курса падрыхтаваў працу «Спосаб развіцця ягадных і мясістых пладоў», якая была станоўча ацэнена прафесарам І.В.*Баранецкім*. Даследаваў развіццё некалькіх відаў раслін. Падрыхтаваў да выдання рукапіс працы вядомага батаніка І.Ф.Шмальгаўзена «Флора Паўднёва-Заходняй Расіі» (1886).

## БАРЗДЫНСКІ Авіт Факудзьевіч (1838—72)

Педагог і пісьменнік. Нарадзіўся ў дваранскай сям'і ў Барысаўскім пав. Мінскай губ. Адукацыю атрымаў у Мінскай гімназіі, потым на працягу года слухаў лекцыі ў педагагічным ін-це. У 1862 скончыў курс прыродазнаўчых навук Кіеўскага універсітэта. Працаваў

настаўнікам прыродазнаўчай гісторыі, потым геаграфіі ў петразаводскай гімназіі. Займаўся вывучэннем флоры і фауны Алонецкай губ., чытаў публічныя лекцыі пра будову чалавечага арганізма, якія выклікалі цікавасць і збіралі шмат слухачоў. У 1867 пераведзены ў Кранштат на пасаду выкладчыка і выхаваццеля ў пансіёне пры гімназіі. Займаўся таксама навуковалітаратурнай дзейнасцю. Аўтар прац «Аб складзе графіту, знойдзенага на рацэ Інгулец» (1862), «Матэрыялы для вывучэння рыбалоўства і палявання ў Алонецкай губерні» (абедзве ў 1867), «Прыродазнаўча-гістарычныя нататкі з падарожжа па Алонецкай губерні», некалькіх артыкулаў у часопісе «Семья и школа».

## БАРОЎСКІ Лявон (27.6.1784—4.4.1846)



Літаратуразнавец, тэарэтык паэзіі і красамоўства, педагог, крытык і публіцыст. Нарадзіўся на Піншчыне. Скончыў Пастаўскую гімназію, потым вучыўся ў Віленскім універсітэце. У 1803 атрымаў вучоную ступень кандыдата філасофіі, працаваў сакратаром, бухгалтарам універсітэта (1801—07). У 1807—11 настаўнік рыторыкі і паэтыкі Свіслацкай, а пазней Віленскай гімназій. З 1814 выкладаў літаратуразнаўства і красамоўства ў Віленскім універсітэце. Там атрымаў вучоную ступень магістра філасофіі (1816), званне экстраардынарнага (1821), ардынарнага (1823) прафесара. Доўгі час быў цэнзарам польскіх выданняў у Вільні. Пасля закрыцця універсітэта (1831) стаў прафесарам гісторыі літаратуры і гамілетыкі (навукі пра асновы прапаведніцкага мастацтва) Віленскай духоўнай акадэміі (1833—42). У маладыя гады быў членам таварыства шубраўцаў, а потым уступіў у масонскую ложу.

Сучаснікі характарызавалі Б. як паслядоўніка памяркоўнай асветніцкай ідэалогіі, праціўніка цемрашальства, фанатызму і забабонаў. Як і ўсе віленскія масоны, ён верыў у свабоду і роўнасць усіх людзей. Быў бліскучым лектарам, аўтарам шэрагу прац па педагогіцы. Пераклаў на польскую мову камедыі Мальера «Скупы» і «Жанчыны-філосафы», фрагменты з твораў У.Шэкспіра, Дж.Мільтана і Дж.Байрана; выдаў паэму І.Красіцкага «Манахамахія» са сваімі навуковымі каментарыямі. У 1815—26 супрацоўнічаў у час. «Dziennik Wileński» («Віленскі веснік»), дзе ўпершыню друкавалася яго асноўнае даследаванне «Заўвагі аб паэзіі і рыторыцы ў сэнсе іх падобнасці і розніцы» (асобным выданнем выйшла ў 1820 у Вільні). Аўтар падручніка «Рыторыка ў пытаннях і адказах для павятовых школ» (Вільня, 1824), біяграфіі Э.Славацкага.

Выхоўваўся на літаратурных густах 18 ст. Быў знаёмы з нямецкай класічнай эстэтыкай А.Баўмгартэна, І.Канта, Ф.Шылера і, магчыма, І.Гегеля, хоць у яго «Заўвагах аб паэзіі і рыторыцы...» няма прамых спасылак на іх працы, але ў агульнай канцэпцыі адчуваецца ўплыў гістарызму, прыкметнага ў Шылера і І.Гердэра, а пазней распрацаванага Гегелем. Сваім гісторыка-параўнальным аналізам двух класічных відаў «мастацтва слова» Б. завяршыў традыцыйную для Беларусі і Літвы школьную рыторыку і паэтыку і амаль цалкам пераадолеў іх, наблізіўшы сваю працу да жанру праблемнага гісторыка-тэарэтычнага даследавання. Развіццё навуковай і мастацкай творчасці, на думку Б., абумоўлена геаграфічным асяроддзем і сацыяльна-палітычнай структурай грамадства. Ка-

лі не прама, то ўскосна ён прызнаваў важную ролю эканамічных фактараў у гэтым працэсе. Пра тое сведчыць яго інтэрпрэтацыя змешчанага ў дыялогу Платона «Пір» міфа пра нараджэнне мастацтва ад шлюбу Багацця і Патрэбы: менавіта чалавечыя патрэбы абумовілі назапашванне матэрыяльных багаццяў, выкарыстаных пазней для стварэння навук і мастацтваў. У эстэтыцы і літаратурна-мастацкай крытыцы займаў пазіцыю паміж класіцызмам і рамантызмам. Ад класіцызму, відаць, застаўся ў яго толькі пэўны тып густаў, арыентаваных на ўзоры класічнага мастацтва. Рашучы адыход ад нарматыўна-схаластычных уяўленняў позняга класіцызму найперш адбіўся на даследчым метадзе Б.: мастацкую культуру ён разглядаў не ў статычнай форме раз і назаўсёды дадзенай сістэмы відаў і жанраў, а як гістарычны працэс, ступені якога абумоўлены сацыяльнымі і культурнымі дамінантамі пэўных гістарычных эпох.

У першабытным грамадстве, адзначаў Б., паэзія і красамоўства яшчэ знаходзіліся ў сінкрэтычным адзінстве. Так званы «натуральны» стан жыцця людзей быў, на яго думку, «уласна паэтычным» перыядам гісторыі, калі нічым не стрыманая фантазія стварала міфы і слоўныя вобразы. Чалавецтва ў сваім гістарычным развіцці ведала некалькі тыпаў мастацкай культуры, і кожнаму з іх адпавядала свая марфалогія, у залежнасці ад якой мяняліся суадносіны паміж паэзіяй і красамоўствам. Пад красамоўствам Б. разумеў не толькі вусную прамову, але і розныя жанры мастацкай прозы, публіцыстыкі, навуковай літаратуры. Ва ўсе перыяды гісторыі, на яго думку, вядучым відам мастацтва была паэзія, бо яе выяўленчыя сродкі практычна бязмежныя і заўсёды «пазычаліся» іншымі відамі мастацтва. Старажытнаўсходнія цывілізацыі стварылі яскравыя ўзоры паэзіі і нічога не далі для аратарскага мастацтва, бо пануючыя там дэспатычныя формы кіравання не дапускалі свабоднага абмеркавання дзяржаўных спраў. Гарманічных суадносін паміж паэзіяй і красамоўствам дасягнула антычнасць, калі чалавецтва, на думку Б., уступіла ў росквіт сваіх творчых сіл. Шматграннасць эстэтычных пачуццяў тады выявілася не толькі ў мастацтве слова і скульптуры, але і ў іншых галінах творчасці, якая стала моцным падмуркам для духоўнага прагрэсу ўсіх наступных эпох. Старажытнагрэчаскі эстэтызм, адзначаў Б., быў запазычаны Рымам, але не стаў сутнасцю яго культуры, бо рымскаму генію было больш характэрна «па-мужчынску прысвойваць, чым ствараць». Дамінантай рымскай душы былі ваяўнічасць і дзяржаўная воля з тэндэнцыяй да утылітарызму і функцыянальнасці. Рымскія паэты па сваёй сутнасці хутчэй гісторыкі, а драматургі — аратары; рымскае красамоўства падпарадкавала паэзію. У імператарскую эпоху паэзія дасягнула найвышэйшай ступені чыста вонкавай вытанчанасці і паступова занепадала, ператвараючыся ў сродак для школьных практыкаванняў і падхалімства перад уладай, у забаўку пустой публікі. Дэспатычныя імператары лічылі сябе вялікімі паэтамі, аратарамі і артыстамі, акружалі сябе бяздарнымі алілуйшчыкамі, якія дыскрэдытавалі мастацтва, асуджалі сапраўдныя таленты на пагібель. Састарэлы рымскі свет маглі пераўтварыць толькі новыя, незаняволеныя народы, якіх фанабэрысты рымскі натоўп называў «варварамі».

Насуперак тэарэтыкам класіцызму, якія бачылі ў сярэднявеччы толькі заняпад культуры, Б. ўслед за рамантыкамі здолеў разгледзець у ім прагрэс у паступальным развіцці грамадства. У сярэдневяковай паэзіі, адзначаў ён, узніклі новыя, не характэрныя антычнасці рысы — дух рыцарства, псіхалагізм, высакароднае схіленне перад жаночай прыгажосцю. Пад уплывам хрысціянства ўзмацніўся маральны змест мастацтва. Але ўсё ж сапраўдны густ і прыгажосць адрадзіліся толькі ў эпоху Рэнесанса: яе мастацкая культура разглядалася Б. як сінтэз антычнага эстэтызму і хрысціянскай маральнай узнёсласці, духоўнай напружанасці.

Да тагачаснай мастацкай культуры, у якой пануючым кірункам быў класіцызм, Б. ставіўся вельмі крытычна. Адзначаў, што яна сфарміравалася на аснове наследавання і кіравалася нарматыўна-дагматычнай эстэтыкай. Гэтай штучнасцю і неарыгінальнасцю яна істотна адрознівалася ад антычнага мастацтва, якое арганічна вырасла з міфалогіі, народнай творчасці і мастацка-вобразнай язычніцкай рэлігіі. Творы сістэматызатара старажытнагрэчаскай літаратурна-мастацкай думкі Арыстоцеля, адзначаў ён, садзейнічалі развіццю густаў новага часу, але нарматыўная эстэтыка Буало і іншых тэарэтыкаў класіцызму, якая ўзнікла на іх аснове, «стрымлівала свабоду творчага таленту». Эстэтыка, або навука пра добры густ, пісаў Б., павінна пазбягаць павярхоўных вызначэнняў творчага таленту, арыентавацца на розум і прыроду, «таму што творчая фантазія, калі яна верыць найвышэйшаму закону

красы, можа далёка выйсці за межы мастацкіх форм не толькі італьянскіх і французскіх, але і грэчаскіх» («Заўвагі аб паэзіі...» С. 69—70). Асветніцкі светапогляд Б. выявіўся ў прызнанні неабмежаваных правоў розуму і «натуральных законаў», да якіх прыраўнаваны законы мастацтва. Акцэнт жа на творчую фантазію і безумоўную арыгінальнасць мастацкага таленту зблізкае яго з рамантызмам. Таму зусім не выпадкова два таленавітыя яго вучні Ю.Славацкі і А.*Міцкевіч* сталі пазней заснавальнікамі польскага рамантызму. Прадстаўнікі ранняга беларускага рамантызму — Ян *Чачот*, Ян *Баршчэўскі* і іншыя таксама многаму навучыліся ў Б. Магчыма, В.*Каратынскі*, В.*Дунін-Марцінкевіч*, А.*Вярыга-Дарэўскі* і іншыя пачынальнікі беларускай літаратуры вывучалі эстэтыку і літаратуразнаўства па кнігах.

*Літ.*: Конон В.М. Просветительская эстетика в Белоруссии в XVIII — первой половине XIX в. // Историко-философские исследования: Ежегод. Мн., 1991. Вып. 1.

*У.М.Конан.*

## БАРШЧЭЎСКІ Ян [1794 (паводле інш. крыніц 1790 ці 1796) — 28.2(12.3).1851]



Беларускі і польскі мысліцель, пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Нарадзіўся ў в. Мурагі Полацкага пав. Віцебскай губ. ў сям'і збяднелага шляхціца. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай калегіі, дзе набыў вядомасць чытальніка і вершапісца. Выступаў з уласнымі арацыямі і вершамі, напісаў у класічным стылі паэму «Пояс Венеры» (на польскай мове, не захавалася). Студэнцкія канікулы найчасцей праводзіў у вандроўках па наваколлі возера Нешчарда. Дзякуючы сваёй схільнасці да паэтычных экспромтаў быў жаданым госцем на сямейных урачыстасцях вясковай шляхты. Першыя вядомыя вершы, напісаныя па-беларуску — «Дзеванька» (прысвечаны каханай дзяўчыне Максімавічанцы) і «Бунт хлопаў» («Рабункі мужыкоў», «Размова хлопаў»). Займаўся таксама жывапісам (маляваў пейзажы і карыкатуры, яго мастацкія творы карысталіся папулярнасцю сярод мясцовых жыхароў). Перыяд пасля заканчэння Полацкай калегіі (1820—30-я гады) ахутаны рамантычна-легендарнай заслонай. Вядома, што Б. доўгі час працаваў хатнім настаўнікам і гувернёрам у розных месцах. Потым трапіў у Пецярбург, дзе выкладаў грэчаскую і лацінскую мовы ў некалькіх дзяржаўных установах і сам вывучаў старажытныя літаратуры. Выконваючы даручэнні марскога ведамства, пабываў у Францыі, Англіі і Фінляндыі, падарожнічаў па Полаччыне і Мсціслаўшчыне. У Пецярбургу ён пазнаёміўся з А.*Міцкевічам* і Т.Шаўчэнкам, якія, мяркуючы па ўскосных звестках, высока ацанілі паэтычныя спробы маладога пісьменніка, падштурхнулі яго на шлях прафесійнай творчасці. Ю.Барташэвіч сцвярджаў нават, што А.Міцкевіч уласнай рукой правіў асобныя яго вершы. У 1840—44 выдаваў у Пецярбургу штогадовы альманах «Niezabudka» («Незабудка») з дапамогай літаратурнага гуртка выхадцаў пераважна з Беларусі. Падтрымліваў творчыя сувязі з членамі гуртка і яго карэспандэнтамі — журналістам і крытыкам Р.*Падбярэскім*, літаратуразнаўцам і гісторыкам Ю.Барташэвічам, мастакамі К. і Р.Жукоўскімі, фалькларыстам І.*Храпавіцкім*, пісьменнікамі Л.Штырмерам, В.Рэутам, Т.*Лада-Заблоцкім*, А.Грозам, В.Давідам, С.Ляховічам, А.Гротам-Спасоўскім. Сярод самых блізкіх сяброў Б. пецярбургскага перыяду сучаснікі называлі Г.*Шапялевіча*, знаёмага з паэтам яшчэ з часоў вучобы ў Полацкай калегіі. Рэдкалегія

часопіса мела кантакты з «Дэмакратычным таварыствам» (1836—38), прапагандавала (праз Ф.Лаўцэвіча) забароненыя патрыятычныя вершы. На старонках «Незабудкі» Б. друкаваў пераважна вершаваныя апавяданні. Ад класіцызму паступова перайшоў да рамантызму. У 1843 у часопісе «Rocznik literacki» («Літаратурны штогоднік») упершыню надрукаваны яго беларускія вершы — «Дзеванька», «Гарэліца», апрацаваная народная песня «Зязюля». У 1844—46 выдаў свой галоўны твор — празаічны зборнік «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (т. 1—4, на польскай мове, гравюры Р.Жукоўскага), асобныя часткі якога раней друкаваліся ў часопісе «Rubon» («Рубон»). Матэрыяльную дапамогу ў выданні кніг Б. аказаў віленскі пісьменнік А.Здановіч. Па невядомых прычынах не выйшлі падрыхтаваныя аўтарам 5-ы і 6-ы тамы. Творы, сабраныя ў зборніку, напісаны пад відавочным уплывам беларускага фальклору.

У сярэдзіне 1840-х гадоў [1847(?)] па запрашэнні польскага пісьменніка Г.Жавускага і крытыка М.Грабоўскага Б. пераехаў у г. Чуднаў на Валыншчыну. Пасяліўся ў доме графіні Ю.Жавускай, дзе жыў і вядомы мастак-графік Н.*Орда*. Падтрымліваў блізкія адносіны з польскім паэтам і перакладчыкам К.Пятроўскім і доктарам Г.Кёлерам, збіраў матэрыялы пра археалагічныя аб'екты, падарожнічаў. У 1849 выдаў у Кіеве 1-ю частку зборніка «Проза і вершы» (на польскай мове), куды ўвайшлі балады, паэма «Жыццё сіраты», аповесць «Душа не ў сваім целе». У канцы 1840-х гадоў захварэў на сухоты і пасля працяглай хваробы памёр. Пахаваны ў г.Чуднаў.

Б. займае надзвычай важнае месца ў гісторыі мастацкай культуры беларускага народа. На працягу ўсёй творчасці кіраваўся рамантычна-ўзнёслым пачуццём любові да роднага краю. Як рамантык аддаваў перавагу выключным, святочным і трагічным аспектам вясковага жыцця, чым тлумачацца асобныя праявы стрarашляхецкага кансерватызму, ідэалізацыі мінулай вольнасці і дабрачыннасці. Яго беларускія творы напісаны ў фальклорным стылі, маюць павучальны ці бурлескна-рэалістычны характар. Творы Б.


SZLACHCIC

ZAWALNIA

CZYLI

BIAŁORUŚ

W FANTASTYCZNYCH OPOWIADANIACH

PRZEZ

JANA BARSZCZEWSKIEGO.

Poprzedzone krytycznym rzutem oka na Literaturę Białoruską

PRZEZ

ROMUALDA PODBERESKIEGO.

Z rycinę Rud. Żukowskiego, przedstawiającą główne sceny opowiadań.

PETERSBURG.
W DRUKARNI KAROLA KRAJA.
1844.

*Я.Баршчэўскі. «Шляхціц Завальня» (тытульны ліст). 1844.*

распаўсюджваліся ў рукапісах або вусным шляхам як народныя. Верш «Бунт хлопаў» трапіў у фальклорныя запісы А.*Семянтоўскага* і П.*Шэйна*, зробленыя ў канцы 19 ст. У чытанні і перапісванні гэтага твора абвінавачваўся П.*Багрым*.

*Тв.*: Бел. пер. — Начэпнасць. Вільня, 1917; Чарнакніжнік і змяя, што вылупілася з петушынага яйца. Вільня, 1917; рус. пер. — Очерк северной Белоруссии // Иллюстрация. 1846. 10.

*Літ.*: Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 25—39; Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 39—84.

*Н.В.Тарэлкіна.*

## БАРЫЧЭЎСКІ
(Барычэўскі-Тарнава) Іван Пятровіч (1810—87)

Беларускі археограф, гісторык, этнограф, фальклярыст і перакладчык. Нарадзіўся ў сям'і святара Мінскай епархіі. Выхоўваўся ў Мінскай ду-

хоўнай семінарыі, потым у Кіеўскай духоўнай акадэміі. Пасля заканчэння акадэміі са ступенню старшага кандыдата ў 1833—35 быў выкладчыкам славеснасці ў Арлоўскай семінарыі. Пазней служыў на адміністрацыйных пасадах у ведамствах шляхоў зносін і публічных збудаванняў, дзяржаўных маёмасцей і інш. Навукова-літаратурную дзейнасць пачаў у 1837 артыкуламі ў часопісе «Журнал Министерства народного просвещения», сярод іх «Пра рускі летапіс у Літве, названы Хронікай Быхаўца» (1838), «Першае падарожжа англічан у Расію ў 1553» (1838) і інш. У 1840—41 паявілася яго першая вялікая праца «Аповесці і паданні народаў славянскага племені» (у 2 частках), працягам якой былі «Народныя славянскія апавяданні» (1844). Гэтыя працы ўключалі значную колькасць матэрыялаў, якія публікаваліся ўпершыню. Б. адзін з першых пачаў вывучаць гісторыю і старажытнасці народаў Вялікага княства Літоўскага, напісаў грунтоўныя працы «Даследаванне пра паходжанне, назву і мову літоўскага народа» (1847), «Праваслаўе і руская народнасць у Літве» (1851) і шэраг артыкулаў. Пазней Б. рэдагаваў 5-ы том выдання «Акты Заходняй Расіі». Аўтар шэрага публікацый і артыкулаў па розных галінах ведаў, а таксама зрабіў шмат выкладак па пытаннях гісторыі епархій і іерархаў, апісання манастыроў, гісторыі і старажытнасцей, гісторыі кнігадрукавання, мовазнаўства, статыстыкі, этнаграфіі і інш. Памёр у Выбаргу.

## БАРЭЙКА Аляксандр, гл. *Ходзька* Аляксандр

## БАРЭЙКА Ян, гл. *Ходзька* Ян

## БЕЗ-КАРНІЛОВІЧ Міхаіл Восіпавіч [29.9(10.10).1796—7(19).1.1862]

Беларускі гісторык, краязнавец і этнограф, вайсковы тапограф, статыстык, генерал-маёр рускай арміі. Нарадзіўся ў дваранскай сям'і ў Магілёўскай губ. Скончыў 1-ы кадэцкі корпус (1816). Пад яго кіраўніцтвам у 1831—



47 праводзілася тапаграфічнае і вайскова-статыстычнае вывучэнне Мінскай, Наўгародскай, Віцебскай, Валынскай губерняў і Беластоцкай акругі. У час знаходжання на Беларусі збіраў гістарычны і этнаграфічны матэрыялы, на падставе якіх і выдаў кнігу «Гістарычныя звесткі пра выдатныя мясціны на Беларусі з дадаткам іншых звестак, якія да яе ж адносяцца» (Спб., 1855), дзе таксама разгледжаны пытанні этнічнай тэрыторыі, побыту і культуры беларусаў. Тэрыторыю Беларусі абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губернямі, астатнія землі называў Літвой. Беларусамі лічыў толькі «нашчадкаў крывічоў», гаварыў пра беларусаў як пра асобны народ і ставіў іх у адзін шэраг з суседнімі народамі. Адзначаў згуртаванасць Полацкай зямлі ў 1230—40-я гады ў барацьбе з нямецкай агрэсіяй, даказваў паходжанне вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Віценя з роду полацкіх князёў. Даў даволі аб'ектыўную характарыстыку беларускага народа, апісаў яго цяжкае жыццё, аднак як памешчык-прыгоннік для паляпшэння сялянскай гаспадаркі прапанаваў ссяляць сялян у вялікія вёскі, захоўваць патрыярхальныя сем'і і нават злучаць у адну сям'ю (адзін двор) невялікія сем'і суседзяў. Асобныя раздзелы кнігі прысвяціў апісанню народных абрадаў, звычаяў, вытворчай дзейнасці, народнай метэаралогіі. М.Г.Чарнышэўскі лічыў гэту кнігу «не бескарыснай для тых, у каго пад рукамі няма добрага збору кніг па рускай гісторыі». Аўтар кніг «Віцебская губерня» (1852).

## БЕКАРЭВІЧ Сцяпан Міхайлавіч

Краязнавец і этнограф сярэдзіны 19 ст. Быў свяшчэннікам Нежкаўскай царквы ў Магілёўскім пав., вывучаў сямейны побыт, абрады і вераванні сялян Магілёўшчыны. У газеце «Могилевские губернские ведомости» надрукаваў артыкулы «Сельскія нарысы. Сяло Нежкава» (1864. №31, 33, 45), «Сельскія нарысы. Вясельны абрад у сялян у прыходзе с. Нежкава Магілёўскага павета» (1865. №13), «Погляд на ўласнасць» (1867. №29) і інш.

*Літ.*: Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964.

## БЕЛАБЛОЦКІ Браніслаў (1861—14.4.1888)



Рэвалюцыянер-дэмакрат, сацыёлаг, літаратурны крытык. Нарадзіўся ў в. Астрашын Слуцкага пав. Мінскай губ. ў збяднелай шляхецкай сям'і. Скончыўшы Мінскую гімназію, вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта і адначасова ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Удзельнічаў у рабоце гурткоў «Народнай волі». На фарміраванне яго светапогляду паўплывалі творы А.Герцэна, М.Чарнышэўскага, В.Бялінскага, М.Дабралюбава. З 1882 у Варшаве, супрацоўнічаў з дзеячамі польскай рэвалюцыйнай партыі «Пралетарыят» 1-ы, вёў рэвалюцыйную прапаганду. Друкаваўся ў часопісе «Ateneum» («Атэнэум»), газеце «Przegląd Tygodniowy» («Штотыднёвы агляд»). У літаратурна-крытычных творах падкрэсліваў класавы характар літаратуры, патрабаваў рэалістычнага адлюстравання жыцця народа, заклікаў пісьменнікаў сваёй творчасцю служыць вызваленню працоўных. У сацыялагічных даследаваннях з марксісцкіх пазіцый крытыкаваў т.зв. «арганічную тэорыю грамадства» Г.Спенсера, адзначаў, што рухаючай сілай грамадства з'яўляецца класавая барацьба. Удзельнік гуртка, які перакладаў «Капітал» К.Маркса на польскую мову.

*Тв.*: Szkice społeczne i literackie / Oprac. S. Sandler. Warszawa, 1954.

*Літ.*: Мальдзіс А. Верны вучань рэвалюцыйных дэмакратаў // ЛіМ. 1961. 21 лістап.; Малевич С.А. Вопросы исторического материализма в трудах Людвига Крживицкого. Мн., 1971; Sandler S. U początków marksistowskiej krytyki literackiej w Polsce; Bronisław Białobłocki. Wrocław, 1954; Krzywicki Z. Wspomnienia. T. 2. Warszawa, 1958.

*С.А.Малевіч.*

## БЕРКМАН Юзаф (4.8.1838—19.7.1919)

Удзельнік паўстання 1863—64, жывапісец. Нарадзіўся ў Валожыне ў сям'і ўрача. Скончыў гімназію ў Вільні. Вывучаў медыцыну ў Маскве, вучыўся на матэматычна-прыродазнаўчым факультэце Пецярбургскага універсітэта, адначасова наведваў заняткі ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У кастрычніку 1861 за ўдзел у патрыятычнай маніфестацыі арыштаваны і на працягу 3 месяцаў зняволены ў Петрапаўлаўскай і Кранштацкай крэпасцях. Пасля вызвалення выехаў у Вільню, дзе зблізіўся з братамі *Далеўскімі*, удзельнічаў у друкаванні і распаўсюджванні рэвалюцыйных адозваў. З верасня 1862 працягваў вучобу ў Пецярбургу. З пачаткам паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве вярнуўся на радзіму. Змагаўся са зброяй у руках на Ашмяншчыне, у т.л. ў атрадзе З.Мінейкі. 12.10.1863 у баі каля в. Рудзішкі паранены, трапіў у палон.. Засуджаны да 4 гадоў катаргі. Працаваў на сярэбраных капальнях у Нерчынску. За спробу ўцячы тэрмін пакарання падоўжаны яшчэ на 4 гады. З 1870 жыў у Іркуцку, дзе меў жывапісную майстэрню, у 1877 — у Ніжнім Ноўгарадзе, з 1880 — у Лібаве (Ліепая, Латвія), з 1884 — у Варшаве,

дзе і памёр. Пісаў пераважна сцэны паўстання і жыцця ссыльных паўстанцаў («Труна Серакоўскага», «Смерць Нарбута»). Гэтай жа тэматыцы прысвечаны серыі акварэляў (да Вял. Айч. вайны захоўваліся ў Львоўскай карціннай галерэі). Сярод работ жывапісныя карціны «Коннік з двума канямі», «Тройка» (абедзве 1877), «Чацвёрка» (1914; усе захоўваюцца ў Іркуцкім абласным мастацкім музеі).

## **БЕРМАН** Іаан Андрэевіч (1830-я гады — 16.1.1893)

Беларускі этнограф і краязнавец. Член Рускага геаграфічнага таварыства. Нарадзіўся ў Вільні. Скончыўшы ў 1857 Літоўскую духоўную семінарыю, служыў святарам у Ашмянскім і Кобрынскім паветах. Вывучаў народныя абрады, звычаі, вераванні, збіраў матэрыялы пра народны каляндар і метэаралогію, апісваў святы з пабытавымі падрабязнасцямі іх правядзення. Пра спосабы вылічэння часу расказаў у серыі артыкулаў «Парадак народнага вылічэння часу і святочныя звычаі ў Паўночна-Заходняй Русі» (1869) і «Каляндар па народных паданнях у Валожынскім прыходзе Віленскай губерні Ашмянскага павета» (1874), прывёў прыклад, як непісьменны селянін па памяці вызначаў адрэзкі часу паводле пэўных падзей у яго жыцці ці па святочных цыклах. У артыкуле «Назіранні нашага паўночна-заходняга сялянства адносна надвор'я і ўраджаю» (1870) пералічаны народныя прыкметы, якія дапамагалі ў вызначэнні надвор'я і ўраджаю. Цікавымі з'яўляюцца і прыкметы пра надвор'е, звязаныя з назіраннямі селяніна за паводзінамі раслін, птушак, жывёл. У артыкуле «Чараўнікі і знахары заходнярускага простанароддзя» (1903) падкрэсліў рацыянальнасць і верагоднасць народных прыкмет, адзначаў забабоннасць многіх вераванняў. *В.К.Бандарчык.*

## **БЖАЗОЎСКІ** (Brzozowski) Раймунд (1763—1842)

Вучоны багаслоў і пісьменнік. Нарадзіўся на Беларусі. У 1780 уступіў у езуіцкі ордэн; 6 гадоў быў настаўнікам у ніжэйшых класах езуіцкага вучылішча, выкладаў філасофію, матэматыку і багаслоўе. Два гады быў сакратаром канферэнцый Полацкай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, а потым яе рэктарам (да закрыцця ў 1820). З-за пагаршэння здароўя быў накіраваны на лячэнне ў Неапаль, дзе і памёр. Аўтар шэрага артыкулаў на багаслоўскія тэмы ў часопісе «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік»). Апрацаваў у рукапісе 5-томны «Слоўнік знакамітых польскіх пісьменнікаў».

## **БЖАСТОЎСКІ** Ігнат (1823—75)

Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду (з 1798 графскі), прадстаўнікі якога ў 16—19 ст. адыгрывалі значную ролю ў дзяржаўным і грамадскім жыцці Беларусі, Літвы і Польшчы. Вучыўся ў Мінску, Маскве. Працаваў старшынёй крымінальнага суда ў Магілёве. У маі 1862 удзельнічаў у Віленскім з'ездзе «белых» як прадстаўнік ад Магілёўскай губ. У час паўстання член грамадзянскай камісіі ў Сенненскім пав., магілёўскі паўстанцкі ваявода. Распаўсюджваў сярод сялян нелегальную літаратуру на беларускай і польскай мовах. У чэрвені 1864 сасланы ў Енісейскую губ., дзе і памёр.

## **БІРУТА** [сапр. Даравінская (Derewińska) Амелія; 1863—27.7.1891]

Беларуская і польская фалькларыстка і этнограф. Нарадзілася ў в. Ройсталі, цяпер у межах Вільнюса. Адукацыю атрымала ў Варшаве. Настаўнічала ў Лідскім пав., дзе запісвала беларускі фальклор і праводзіла этнаграфічныя назіранні. Друкавалася ў краязнаўчым часопісе «Wisła» («Вісла»). У 1889 змясціла ў ім нарыс «Дажынкі на Літве», у якім дала апісанне жніўнага абраду з песнямі ў в. Шаўры Лідскага павета, паданні «Сосны ў Лідзе», «Пра касцёл святой Ганны ў Вільні», «Паданне пра Пілакальную гару» (у Ваўкавыскім пав.). У часопісе «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Зборнік паве-

дамленняў па айчыннай антрапалогіі». 1892. Т. 16) пасмяротна апублікаваны «Беларускія песні з Лідскага павета», куды ўвайшлі 24 тэксты пазаабрадавай лірыкі (сямейна-бытавыя, рэкруцкія, любоўныя песні), і ў часопісе «Wisła» (1899. Т. 13) нарыс «Над прускай граніцай» з апісаннем жыццёвага ўкладу літоўцаў паўднёва-заходняй часткі Ковенскай губ. Аўтар манаграфіі «Народ Лідскага павета» («Апісанне Лідскага павета», не зберaглася). Асобныя рукапісы, дакументы, звязаныя з дзейнасцю Б., знаходзяцца ў архівах Вільнюса і Варшавы.

*І.У.Саламевіч, У.А.Васілевіч.*

## БЛУС Франц Феліксавіч (Ілья Піліпавіч)

Паэт, аўтар вершаваных твораў кансерватыўнага кірунку 2-й паловы 19 ст. Нарадзіўся ў Быхаўскім пав. Магілёўскай губ. ў сялянскай сям'і. Паводле некаторых звестак, служыў чыноўнікам на Магілёўшчыне. Заўзяты манархіст і праціўнік вызваленчага руху. У 1862, ва ўмовах рэвалюцыйнага ўздыму, напісаў на беларускай мове, якой добра валодаў, вершаваныя гутаркі «Прамова старавойта да сялян аб свабодзе» і «Прамова старавойта (для чытання маім землякам)», у якіх заклікаў сялян да пакоры і цярпення, славіў цара і сялянскую рэформу 1861, даводзіў справядлівасць сацыяльнай няроўнасці. Гутаркі былі вельмі апаратыўна надрукаваны ў Магілёве і выкарыстаны для спынення сялянскага антырэформеннага руху. Існуюць звесткі, што Б. напісаў яшчэ нейкі твор «супраць агітатараў польскага паўстання». Пасля паўстання 1863—64 працаваў на чыгунцы ў Бузулуку, звольнены, некаторы час жыў у Самары. У той час яго звалі Ілья Піліпавіч. Гэта значыць, што пад гутаркамі 1862 ён паставіў несапраўдныя імя і імя па бацьку (Франц Феліксавіч) або змяніў іх пасля (магчыма, пры пераходзе з каталіцызму ў праваслаўе). У Самары зноў прапанаваў сваё пяро ўраду. На пачатку 1881, незадоўга да забойства Аляксандра II, прыслаў міністру ўнутраных спраў некалькі вершаў на рускай мове, прысвечаных цару, і прасіў надрукаваць іх для чытання на фабрыках і заводах, каб супрацьдзейнічаць агітацыі «дэмакратаў-сацыялаў». Пры гэтым ён спасылаўся на свой беларускі вопыт 1862. Вершы 1881 было дазволена надрукаваць з некаторымі купюрамі (выкінуты радкі пра беднасць і ўціск народа). Далейшы лёс іх, як і самога аўтара, невядомы. Беларускія гутаркі Б. — цікавы дакумент эпохі. Незалежна ад намераў аўтара ў іх адлюстраваны рэаліі тагачаснага народнага жыцця, антыпрыгонніцкія настроі сялянства, яго абыякавасць да рэлігіі і г.д. Некаторыя даследчыкі звязваюць з Б. таксама ананімную празаічную брашуру «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела», выдадзеную ў Магілёве (1861), аўтарам якой лічыцца А.Кісель.

*Г.В.Кісялёў.*

## БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Анатоль Восіпавіч (10.7.1857 — 23.9.1930)

Рэвалюцыянер-народнік. Нарадзіўся ў Віцебску у багатай дваранскай сям'і. Скончыўшы Маскоўскі ліцэй, у 1857 паступіў у інстытут інжынераў шляхоў зносін, у 1876 перайшоў на юрыдычны, потым на прыродазнаўчы факультэт Пецярбургскага універсітэта. Пазнаёміўшыся з Р.П.Ісаевым і І.І.Кабліцам, пачаў вывучаць народніцкую тэорыю, распаўсюджваў сярод студэнтаў нелегальныя выданні. Як прыхільнік рэвалюцыйнай арганізацыі народнікаў «Зямля і воля», падтрымліваў кантакты з А.Дз.Міхайлавым, М.А.Марозавым, С.Л.Пяроўскай. З 1878 арганізоўваў студэнцкія зямляцтвы, якія лічыў зручнай формай рэвалюцыйнай прапаганды, быў адным з кіраўнікоў «Саюза зямляцтваў Пецярбурга». У 1879 увайшоў у гурток «Маладыя землявольцы», які пасля расколу «Зямлі і волі» (жнівень 1879) далучыўся да арганізацыі «Чорны перадзел». У лістападзе 1879 за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях Б.-А. арыштаваны і высланы ў бацькоўскі маёнтак Блонь Ігуменскага павета (цяпер Пухавіцкі раён) з пазбаўленнем права вучыцца ў ВНУ. У 1880 садзейнічаў арганізацыі друкарні «Чорнага перадзелу» ў Мінску (пачала працаваць у 1881). У красавіку 1882 арыштаваны, на працягу 5 месяцаў адбываў зняволенне ў мінскай турме. Стаўшы пасля смерці бацькі ўласнікам маёнтка Блонь, частку даходаў перадаваў на рэвалюцыйныя мэты. Разам з

жонкай В.І.Вахоўскай пры ўдзеле групы народных настаўнікаў (у т.л. А.Я.*Багдановіча* ) арганізаваў у Блоні сялянскі гурток самаадукацыі, спрабаваў стварыць «сацыялістычную арцель», распаўсюджваў нелегальную літаратуру. Арыштаваны ў красавіку 1886 у Канатопе Чарнігаўскай губ., дзе знаходзіўся па справах нелегальнай друкарні. З сярэдзіны 1880-х гадоў дзякуючы Б.-А. і яго жонцы Блонь стала апорным пунктам рэвалюцыянераў розных кірункаў: народнікаў, сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Б.-А. — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі (канец 1890-х гадоў), Блонскай сялянскай арганізацыі. У 1901 арыштаваны разам з сынам Іванам і іншымі, сасланы ва Усходнюю Сібір. У 1904 вярнуўся па амністыі, увайшоў у склад абласнога камітэта Паўночна-Заходняй арганізацыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (у Смаленску), у 1905 кааптаваны ў ЦК партыі эсэраў. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07: быў дэлегатам устаноўчага з'езда (ліпень—жнівень 1905) і Дэлегацкай нарады (лістапад 1905) Усерасійскага сялянскага саюза, 1-га з'езда партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, друкаваў і распаўсюджваў нелегальную літаратуру. У час Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 змагаўся на барыкадах Прэсні ў Маскве. У красавіку 1908 арыштаваны, у лютым 1910 аддадзены пад суд. У студзені 1911 апраўданы, але ў 1912 зноў арыштаваны і прыгавораны да 8 месяцаў зняволення ў крэпасці. У час 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі, працаваў у арганізацыях дапамогі бежанцам. У 1917 у Маскве, гласны гарадской думы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 выбраны членам выканкома Уладзімірскага губернскага Савета сялянскіх дэпутатаў. З 1918 у Мінску, актыўна ўдзельнічаў у кааператыўным руху. У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі знаходзіўся на нелегальным становішчы. З 1926 у Маскве, член Усесаюзнага таварыства палітkatаржан і ссыльнапасяленцаў. Аўтар успамінаў. Актыўнымі ўдзельнікамі рэвалюцыйнага руху былі яго сыны І.А.Бонч-Асмалоўскі і Р.А.Бонч-Асмалоўскі. Малодшы сын Г.А.Бонч-Асмалоўскі — вядомы антраполаг і археолаг.

*Тв.*: Эпоха 1905 г. // Полымя. 1925. 6—7; Ліберальна-апазіцыйны рух на Беларусі // Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культ. рэв. руху. Мн., 1924; Памяти В.И.Бонч-Осмоловской // Каторга и ссылка. 1930. №2.

*Літ.*: Попов И. А.О.Бонч-Осмоловский // Каторга и ссылка. 1931. №4; Савіцкая Л. Група Бонч-Асмалоўскага // Полымя. 1967. №5; Клейн Б. Дело Бонч-Осмоловских // Клейн Б. В годину испытаний: Ист.-лит. очерки. Мн., 1986.

*Б.С.Клейн.*

## **БОРЗАБАГАТЫ** Уладзіслаў Канстанцінавіч (1831—86)

Рэвалюцыянер, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64, мемуарыст. Нарадзіўся ў маёнтку Рутка Навагрудскага пав. ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Мінскай гімназіі. У 1846 прымкнуў да тайнай арганізацыі Братні саюз літоўскай моладзі, дзе спачатку ядналася вучнёўская моладзь, а ў 1848 у яе ўліліся рамеснікі, разначынцы, аднадворцы, дробная шляхта. У ідэйнай праграме саюза былі патрабаванні ліквідацыі ўсіх саслоўных прывілеяў, вызваленне сялян і надзялення іх зямлёй, вызваленне Польшчы і абвяшчэнне яе самастойнай рэспублікай. За ўдзел у саюзе Б. быў выключаны з гімназіі (1849). З 1856 слухаў лекцыі на медыцынскім факультэце Маскоўскага універсітэта, працаваў урачом у Навагрудку. У 1863 Б. прызначаны паўстанцкім камісарам Навагрудскага пав. Быў аднадумцам К.*Каліноўскага*, абараняў інтарэсы сялян, патрабаваў экспрапрыяцыі памешчыцкай зямлі і маёмасці. За ўдзел у паўстанні завочна прыгавораны да пакарання смерцю. З 1865 у эміграцыі, займаўся медыцынскай практыкай. Удзельнік франка-прускай вайны 1870—71. У час Парыжскай камуны быў галоўным медыкам парыжскага шпіталя. Пасля вяртання ў 1874 на радзіму высланы ў Кастрамскую губ., дзе працаваў земскім урачом. Аўтар успамінаў пра паўстанне. Памёр у Любяшове Пінскага пав. (цяпер Валынская вобл., Украіна).

*Літ.*: Восстание в Литве и Белоруссии 1863—64 гг. М., 1965 (Восстание 1863 г. Материалы и документы).

*Г.В.Кісялёў.*

## **БОХВІЦ** Фларыян (7.5.1799 — 9.8.1856)

Філосаф-мараліст, пісьменнік. Нарадзіўся ў мяст. Мір на Навагрудчыне. Бацька яго быў пратэстантам, але значнага ўплыву на сына не меў, затое маці, шчырая каталічка, выхавала яго ў духу сваёй веры, што ў далейшым адбілася на поглядах Б. Пачатковую адукацыю атрымаў у дамініканскай школе ў Нясвіжы. Пасля вучыўся на юрыдычным факультэце Кіеўскага універсітэта. Па заканчэнні універсітэта працаваў адвакатам у Навагрудку. Ажаніўшыся з П.Маеўскай, сястрой маці А.*Міцкевіча*, пасяліўся ў фальварку Васькаўцы, дзе і гаспадарыў да канца свайго жыцця. Заняткі адвакатурай не вельмі яму імпанавалі, і ўвесь свой вольны час ён аддаваў філасофскім і рэлігійна-маральным разважанням, спрабаваў сябе і на літаратурнай ніве. У 1838 ён выдаў сваю першую кнігу «Форма майго мыслення» (без пазначэння прозвішча аўтара). Твор быў прыхільна сустрэты крытыкай, і ў наступным годзе Б. перавыдаў яго пад той жа назвай, але з пазначэннем прозвішча. Пазней выйшлі яго працы «Сутнасць маёй думкі...» (ч. 1—2, 1838—41), «Асновы маіх думак і пачуццяў» (1842), «Думкі аб выхаванні чалавека» (1847).

Са сваіх пазіцый Б. імкнуўся прымірыць філасофію і боскае адкрыццё, рэлігію з навукай. Процілегласць зыходных прынцыпаў абумовіла супярэчлівасць яго філасофскіх і эстэтычна-педагагічных поглядаў. Праграму навучання ён грунтаваў на прынцыпах асветніцтва і рэлігійнай маралі, а галоўнай мэтай выхавання лічыў удасканаленне розуму і пачуццяў. Выказваўся за неабходнасць такой сістэмы выхавання, якая б рыхтавала людзей, карысных для грамадства. Б. быў вельмі таварыскі і гасцінны, у яго доме заўсёды збіралася навакольная інтэлігенцыя. Пахаваны ў в. Дарава Ляхавіцкага р-на. На помніку надпіс: «Твой прыклад няхай паказвае нам шлях праўды».

*Літ.* Мохнач Н.Н. От Просвещения к революционному демократизму. Мн., 1976.

## **БРЖЭСКІ** Мікалай Карнілавіч (1860—9.8.1910)

Эканаміст, публіцыст. Нарадзіўся ў Мінску, дзе скончыў мясцовую гімназію. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Яшчэ студэнтам 4-га курса атрымаў прэмію і залаты медаль за конкурсную працу «Дзяржаўныя даўгі Расіі...». Пасля заканчэння універсітэта ў 1886 атрымаў пасаду ў Міністэрстве фінансаў. З 1891 працаваў рэферэнтам у канцылярыі Дзяржаўнага савета. У 1893 стаў членам тарыфнага і гандлёва-прамысловага камітэта Міністэрства фінансаў і адначасова намеснікам дэпартамента ўскосных падаткаў. Пагаршэнне здароўя і тое, што ён, хоць і быў праваслаўнага веравызнання, у сваім пецярбургскім доме паводзіў сябе як польскі шляхціц, перашкодзіла таленавітаму эканамісту і правазнаўцу ў яго росце па службе. Выбаршчыкі ад Мінскай губерні хацелі выбраць яго сваім дэпутатам у 1-ю Дзяржаўную думу Расіі, але Б. саступіў гэта месца больш вядомым і папулярным кандыдатам. У 1909 Б. ахвяраваў сваю бібліятэку (каля 3 тыс. тамоў каштоўнай літаратуры па фінансавых пытаннях) Віленскаму таварыству сяброў навук, якое аддзячыла ахвярадаўца наданнем яму тытула члена-пратэктара таварыства. Аўтар прац «Падатковая рэформа: французскія тэорыі XVIII ст.» (магістэрская дысертацыя) і «Кругавая парука сельскіх суполак...» (1887, у 1897 за яе Б. прысвоена ступень доктара фінансавага права), нарыса аб прававым становішчы сельскіх суполак. Быў рэдактарам юбілейнага выдання «Стагоддзе Міністэрства фінансаў», у якім змясціў гістарычны агляд заканадаўства аб ускосных падатках. Памёр Б. ў Расіенскім павеце. Пахаваны ў Вільні.

## **БРЭН** Келясцін Іванавіч (1800—17.3.1875)

Беларускі краязнавец, збіральнік фальклору. Нарадзіўся на Брэстчыне. Скончыў Брэсцкае шасцікласнае вучылішча. У канцы 1820-х гадоў вучыўся і працаваў пісьмаводам у Жыровіцкай семінарыі. З 1831 святар у Кобрыне, з 1838 настаяцель царквы ў в. Стары Корнін Бельскага павета Гродзенскай губ. Аўтар працы «Мясцовае этнаграфічнае апісанне Бельскага

павета Гродзенскай губерні...» (нап. ў 1856), у якой адлюстравана матэрыяльная і духоўная культура беларускага насельніцтва на тэрыторыі Падляшша. Складаецца з 6 раздзелаў: «Вонкавы выгляд», «Мова», «Хатні побыт», «Асаблівасці грамадскага быту», «Разумовыя здольнасці, маральныя якасці і адукацыя», «Народныя паданні і помнікі». У працы 38 песень (з іх 14 вясельных), 24 загадкі, 15 прымавак, 2 казкі. Вясельныя песні пададзены ў адпаведнасці з апісаннем вясельных абрадаў, іншы фальклорны матэрыял змешчаны ў дадатку. Ёсць малюнкі адзення, рыбалоўных прылад, жылых і гаспадарчых будынкаў і іх планы. Аўтар параўноўвае штодзённы побыт беларусаў і мазураў, вылучае адметнае і аднолькавае ў іх культуры. Рукапіс зберагаецца ў архіве Геаграфічнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу.

*Літ.*: Лобач М. Па слядах рукапіснага этнаграфічнага апісання Бельскага павета святара Келясціна Брэна з 50-х гадоў XIX стагоддзя // Studia polsko-litewsko-białoruskie. Warszawa, 1988.

*М.С.Лобач.*

## БУДЗІЛОВІЧ Антон Сямёнавіч [12(24).5.1846—12(25).12.1908]

Беларускі і рускі філолаг, гісторык, педагог і публіцыст. Нарадзіўся ў в. Коматава на Гродзеншчыне. Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1866). У 1868 падарожнічаў па славянскіх землях Аўстрыйскай імперыі. Атрымаў ступень доктара славянскай філалогіі, быў прафесарам Нежынскага гісторычна-філалагічнага інстытута, Варшаўскага і Юр'еўскага (Тартускага) універсітэтаў. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1862). З 1907 рэдактар газеты «Московские новости». Даследаваў старажытную славянскую пісьменнасць, вывучаў літаратуру, гісторыю і літаратурныя мовы славянскіх народаў. Выступаў гарачым прыхільнікам славянскага адзінства і лічыў, што агульнаславянскай літаратурнай мовай павінна быць руская мова, на якой размаўляе большасць славянскага свету. Схіляўся да таго, што руская мова мае непасрэдную сувязь з мовай царкоўнаславянскай, а таму з'яўляецца пераемніцай яе правоў і прызначэння. У славістычных даследаваннях асвятляў таксама пытанні беларускай мовы. Аўтар прац «Ламаносаў, як пісьменнік...», «Даследаванне мовы старажытнаславянскага перакладу XIII слоў Грыгорыя Багаслова...» (абедзве 1871), «Аналіз састаўных частак славянскага слова з марфалагічнага пункту гледжання» (1877), «Першабытныя славяне ў іх мове, быце і ўяўленнях паводле даных лексікальных...» (1878—82), «Нарыс царкоўнаславянскай граматыкі...» (1883) і інш.

*Літ.*: Булахов М.Г. Восточнославянские языковеды. Биобиблиогр. словарь. Т. 1. Мн., 1976.

## БУДЗІМІР, гл. *Каганец* Карусь

## БУДЗІНСКІ Канстанцін Андрэевіч (1807—?)

Педагог. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. У 1823 паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. У 1826 атрымаў ступень кандыдата філасофіі. Праз 2 гады вытрымаў экзамен на званне магістра філасофіі (з прычыны закрыцця Віленскага універсітэта атрымаў гэту ступень у 1836 у Кіеўскім універсітэце). Працаваў настаўнікам фізікі і матэматыкі ў Жытомірскай гімназіі, у 1834 прызначаны прафесарам Нежынскага ліцэя на кафедры прыкладной матэматыкі. Адначасова выкладаў чыстую матэматыку і батаніку. Карыстаўся любоўю і павагай сярод студэнтаў. Яго лекцыі вылучаліся яснасцю выкладання і вельмі цаніліся слухачамі. Затым быў настаўнікам-наглядчыкам і выкладчыкам матэматычных навук у лясным і межавым інстытутах. Яго друкаваныя працы не выяўлены.

## БУЛГАК Іасафат (?—1838)

Уніяцкі мітрапаліт. Нарадзіўся на Гродзеншчыне ў каталіцкай сям'і памешчыка. Вышэйшую багаслоўскую адукацыю атрымаў у Рыме, пасля чаго ўступіў у Базыльянскі ордэн і стаў яго дзейным членам. Узведзены ў сан біскупа, кіраваў епархіямі, спачатку Брэсцкай, потым Луцкай. Нягледзячы на процідзеянне белага уніяцкага духавенства, дасягнуў у 1817 пасады

уніяцкага мітрапаліта і, карыстаючыся ўладай, усяляк садзейнічаў узвышэнню Базыльянскага ордэна. Б. меў спакойны, засяроджаны характар і вылучаўся вялікай набожнасцю, быў шчырым прыхільнікам папы і уніі. Гэта, аднак, не перашкодзіла частцы белага уніяцкага духавенства на чале і пад кіраўніцтвам І.*Сямашкі* яшчэ пры жыцці Б. пачаць падрыхтоўчыя работы да аб'яднання беларускіх уніятаў з рускай праваслаўнай царквой. Б. памёр напярэдадні аб'яднання і пахаваны на праваслаўных могілках Сергіевай пустыні паблізу Пецяргофа.

## **БУЛГАКОЎСКІ** Дзмітрый Гаўрылавіч (1845—?)

Беларускі этнограф і краязнавец 2-й паловы 19 ст. Нарадзіўся ў г. Яльцы Арлоўскай губ. Адукацыю атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 1869. Доўгі час працаваў у Пінскім пав. У 1902 адмовіўся ад духоўнага сану і стаў на шлях асветніцкай дзейнасці. Працаваў настаўнікам рускай і царкоўнаславянскай моў у Ваўкавыску і Пінску. Калі быў яшчэ святаром, сур'ёзна захапіўся вывучэннем гісторыі краю, народнай культуры і побыту беларусаў. Шматграннасць яго літаратурнай, навукова-даследчай і грамадска-асветніцкай дзейнасці выявілася ў шматлікіх артыкулах і больш як 30 кнігах, многія з якіх прынеслі яму ў той час поспех і вядомасць. Яго творы змяшчаліся ў «Минских губернских ведомостях», «Виленском вестнике», «Санкт-Петербургских губернских ведомостях» і інш. Аўтар «Гістарычнага нарыса Ваўкавыска», «Дапаможніка па рускім правапісе», прац царкоўнарэлігійнага зместу. Вынік яго збіральніцка-фальклnetwork дзейнасці ў Пінскім павеце — фальклорна-этнаграфічны зборнік «Пінчукі» (Спб., 1890), каштоўная крыніца вывучэння побыту і вусна-паэтычнай творчасці беларусаў 2-й паловы 19 ст. Аўтар гістарычнага даследавання «Хатка Пятра Вялікага і яго святыня у С.-Пецярбургу» (1891), фальклорнай працы «Ніжагародскія легенды» (1896), рамана «Блізняты» (1903), аповесці «У баку ад жыцця» (1909) і інш. Б. вёў актыўную барацьбу з бескультурнасцю і духоўнай абмежаванасцю ў народзе, п'янствам. Характэрнай рысай яго грамадска-асветніцкай дзейнасці была сацыяльная і пацыфісцкая накіраванасць.

## **БУЛГАРЫН** Фадзей Венядзіктавіч [24.6(5.7).1789—1(13).9.1859]



Журналіст і пісьменнік. Нарадзіўся ў маёнтку Пырашава на Міншчыне ў сям'і шляхціца. Пасля таго як яго бацьку за забойства рускага генерала Воранава саслалі ў Сібір, маці з сынам пераехала ў Пецярбург. Тут Фадзей да 1805 вучыўся ў Сухапутным кадэцкім корпусе, потым служыў у Кранштацкім і Ямбургскім уланскіх палках; у 1806—07 удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць французаў, з 1808 — у Фінляндыі. У 1811 звольнены са службы, уцёк у Варшаву і паступіў у армію Напалеона, дзе дaслужыўся да капітана. Удзельнічаў у паходах французаў у Іспанію, Італію і Расію. У 1814 трапіў у палон да прусакоў. Пасля вайны вярнуўся ў Варшаву, у 1819 пераехаў у Вільню, дзе надрукаваў свае першыя творы на польскай мове. У 1820 перабраўся ў Пецярбург, супрацоўнічаў у часопісе «Сын отечества», які выдаваў М.І.Грэч, а з 1822 сам стаў выдаваць часопіс «Северный архив». Імкнуўся зблізіцца з такімі папулярнымі пісьменнікамі, як А.С.Грыбаедаў, К.Ф.Рылееў, В.К.Кюхельбекер, і адначасова з рэакцыянерам Аракчэевым. Галоўным яго выданнем была палітычная і літаратурная газета «Северная пчела»,

якую ён выдаваў у 1825—59. Газета вылучалася бойкасцю стылю і казённа-патрыятычным кірункам. Прадпрымальны Б. увёў жанр газетнага фельетона, змяшчаў рэкламныя аб'явы, меў манапольнае права друкаваць палітычныя весткі. У газеты быў вялікі на той час тыраж — 4,5 і нават 10 тыс. экз.

Разам з Грэчам і В.І.*Сянкоўскім* Б. склаў так званы «часопісны трыумвірат», які цкаваў перадавых рускіх пісьменнікаў. Б. быў праціўнікам «крамольнай» французскай літаратуры, у прыватнасці твораў Гюго і Бальзака. Яго прыхільнасць да «чыстага мастацтва» і нямецкай эстэтыкі мела дылетанцкі і паказны характар. Гэтым ён імкнуўся закамуфліраваць сваю тэндэнцыйнасць. Непрыязна ставіўся да многіх пісьменнікаў, нападаў на іх у друку і нават складаў даносы ў Трэцяе аддзяленне. Сярод яго ахвяр былі А.С.Пушкін, М.В.Гогаль, І.А.Ганчароў, Н.А.Някрасаў, І.С.Тургенеў, В.Р.Бялінскі.

Б. вядомы і як аўтар маральна-сатырычных і гістарычных раманаў: «Іван Выжыгін» (1828), «Мазепа» (ч. 1—2, 1833—34) і інш., якія вялікага поспеху сярод інтэлігентнай публікі не мелі. Ён умела выкарыстоўваў тэндэнцыю пераходу ў рускай літаратуры ад вершаў да прозы, ад рамана да аповесці, ад рамантычных, байранічных герояў да простага чалавека і штодзённай рэчаіснасці. Аднак існінную праўду жыцця і сатыры падмяняў маралізатарскай павучальнасцю ў духу «афіцыйнай народнасці». У сваіх успамінах апісаў падарожжа па Віцебскай і Магілёўскай губ. Пахаваны ў сваім маёнтку Карлава каля Тарту (Эстонія).

*Тв.:* Полн. собр. соч. Т. 1—7. Спб., 1839—44; Воспоминания. Ч. 1—6. Спб., 1846—49.

*Літ.:* Лемке М.К. Николаевские жандармы и литература 1826—1855 гг. 2 изд. Спб., 1909; Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 75—96.

*Г.А.Маслыка*

## БУРАЧОК МАЦЕЙ,
гл. *Багушэвіч* Францішак

## БУЧЫНСКІ Вінцэнцій (17.3.1789—29.3.1853)

Беларускі тэолаг, філосаф, крытык. Нарадзіўся на Беларусі. У 1805—07 вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме, дзе атрымаў ступень магістра філасофіі і доктара тэалогіі і некаторы час выкладаў у ім. Да 1820 быў выкладчыкам рыторыкі і паэтыкі ў школах пры Полацкай акадэміі (Мсціслаў, Віцебск), потым прафесарам філасофіі на факультэце вольных, філасофскіх, натуральных і гуманітарных навук, дзе выкладаў натуральнае права, палітычную эканомію і статыстыку. У Полацку стварыў першы на Беларусі літаратурна-навуковы часопіс «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік») і ўвесь час быў яго рэдактарам (1818—20). У гэтым часопісе Б. надрукаваў свой артыкул «Гістарычнае даследаванне аб слушнасці прысуду, паводле якога быў распушчаны ордэн тампліераў». Забяспечваў друкаванне ў часопісе цікавых матэрыялаў, у т.л. дэмаграфічнага характару, пра Полацк і Полаччыну. Удзельнічаў у палеміцы паміж прафесарамі Віленскага універсітэта і Полацкай езуіцкай акадэміі вакол паэмы Н.Мусніцкага «Палтава» (Полацк, 1803). Выказаў цікавыя рацыянальныя заўвагі, якія былі ананімна выдадзены ў 1818 у Полацку. Пасля скасавання Полацкай езуіцкай акадэміі выкладаў філасофію, тэалогію ў каталіцкіх навучальных установах у Цярнопалі, Грацы, Лінцы, Інсбруку (на той час Аўстрыйская імперыя). Аўтар кнігі «Філасофскія разважанні» (т. 1—3), якая выдадзена ў Вене ў 1843—44. У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстаў прыклады з гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. З 1848 жыў у Бельгіі, выкладаў у Лувенскім універсітэце, дзе і памёр. Пакінуў шмат рукапісаў філасофскага і тэалагічнага зместу, якія амаль не даследаваны.

*Тв.:* Institutiones doctrinae Religionis in quibus principia Philosophica ad veritatem Religionis applicatur. Wiennae, 1842.

*Літ.:* Шалькевіч В.Ф. З гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі ў першай трэці XIX ст. // Весн. БДУ. Сер. 3. 1992. № 2.

## БЫХАВЕЦ Юзаф Уладзіслаў (1778—1845)

Філосаф, пісьменнік, перакладчык.

Нарадзіўся ў Слонімскім пав. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце (1794). Пасля 2 гады правёў у замежнай камандзіроўцы ў Германіі, дзе ўдасканальваў свае веды ў Франкфурцкім-на-Одэры і Кёнігсбергскім універсітэтах. У Кёнігсбергу слухаў лекцыі І.Канта. Пераклаў на польскую мову і выдаў некаторыя яго навуковыя творы («Да вечнага свету», 1796, і інш.). У сувязі са службай у французскім войску ў 1806 прыпыніў заняткі па філасофіі. Вынікам вайсковай службы з'явілася яго праца «Ліст пра вайну і прызначэнне жаўнера» (1809). Пасля звальнення з арміі працаваў чыноўнікам у міністэрстве ў Варшаве. Пераклаў на польскую мову французскае выданне «Цывільная працэдура і матывацыя да кодэкса Напалеона». У 1812 удзельнічаў у вайне супраць Расіі (быў ад'ютантам Мюрата). Пасля вайны нейкі час жыў у Варшаве, а потым пераехаў у Вільню, дзе прысвяціў сваё жыццё навуковай дзейнасці. У 1816 надрукаваў працу «Слова пра філасофію...», каб атрымаць кафедру філасофіі ў Галоўнай школе ў Варшаве, але ў выніку конкурсу гэту пасаду атрымаў іншы вучоны. Б. працягваў сваю асветніцкую дзейнасць. Яго філасофскія погляды фарміраваліся пад уплывам Канта, але сваім ідэалам лічыў яго вучня Ф.Бутэрвека, які пераасэнсоўваў вучэнне Канта ў духу ідэалістычнага антрапалагізму і псіхалагізму. Аўтар працы «Агляд Расіі ў плане гістарычным, статыстычным, матэрыяльным і навуковым...» (1817) і інш., перакладаў Лафантэна, І.Вашынгтона, Гердэра і інш. Памёр і пахаваны ў Вільні.

*Літ.*: Dzieje filozoficznej mysli polskiej. Krakow, 1912.

## БЫЧКОВЫ

Рэвалюцыянеры-народнікі 1870—80-х гадоў, браты.

Я ў г е н  І в а н а в і ч (1858—?). Нарадзіўся ў г. Горкі Магілёўскай вобл. Арганізоўваў у Кіеве ваенныя гурткі нарадавольцаў. 11.4.1881 арыштаваны і сасланы пад нагляд паліцыі ў Падольскую губ.

У л а д з і м і р  І в а н а в і ч (1861—10.8.1883). Нарадзіўся ў г. Горкі Магілёўскай вобл. У 1879 арганізаваў у Кіеве тэрарыстычны гурток нарадавольцаў. Вёў прапаганду сярод рабочых, вайскоўцаў, моладзі, падрыхтаваў замах на жандарскага падпалкоўніка. 11.4.1881 арыштаваны і сасланы ва Усходнюю Сібір. Уцёк з турмы, узначаліў Харкаўскую групу нарадавольцаў. У 1883 спрабаваў арганізаваць уцёкі ссыльных у Томску, пры арышце застрэліўся.

А л я к с а н д р  І в а н а в і ч (1862—27.9.1925). Нарадзіўся ў в. Ябланаўка Лысянскага р-на Чаркаскай вобл. Член Кіеўскай групы нарадавольцаў. 11.4.1881 арыштаваны, сасланы пад нагляд паліцыі ў Магілёўскую губ. У студзені 1882 прыгавораны да катаргі і ссылкі ў Сібір; у студзені 1888 уцёк з турмы. Намагаўся аднавіць «Народную волю». У верасні 1888 зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07, у 1918 член Харкаўскага Савета рабочых дэпутатаў.

# В 

## ВАДКОЎСКІЯ

Дзекабрысты, браты. З дваран Віцебскай губерні.

І в а н  Ф ё д а р а в і ч (1790—?) — палкоўнік, камандзір батальёна ў Сямёнаўскім палку. За спачуванне салдатам у час выступлення палка ў 1820 у Пецярбургу прыгавораны да пакарання смерцю, якое заменена турмой; да 1826 сядзеў у віцебскай турме. У 1829 высланы ў дзеючую армію на Каўказ.

Ф ё д а р  Ф ё д а р а в і ч (1800—20.1.1844) — прапаршчык Нежынскага конна-егерскага палка. Выхоўваўся ў Маскоўскім універсітэцкім пансіёне (1810—12), у прыватных пансіёнах Пецярбурга. Вайсковую службу пачаў у Сямёнаўскім палку (1818), потым служыў у прэстыжным Кавалергардскім палку. У 1824 за «непрыстойныя паводзіны» (жарты ў адрас імператара і складзеную сатырычную песню) пераведзены ў Нежынскі полк. Быў членам Паўночнага і Паўднёвага таварыстваў дзекабрыстаў і падзяляў праграму апошняга — увесці ў Расіі рэспубліканскае праўленне са знішчэннем царскай сям'і. Арыштаваны ў Курску і з

21.12.1825 утрымліваўся ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Асуджаны на вечную катаргу, пазней тэрмін катаргі быў скарочаны да 20, а потым да 13 гадоў. З 1839 на пасяленні ў Іркуцкай губ., дзе і памёр. Аўтар рэвалюцыйных вершаў і музыкі песні «Славянскія дзевы».

Аляксандр Фёдаравіч (каля 1801—пасля 1837) — падпаручнік 17-га Егерскага палка. Выхоўваўся ў Маскоўскім універсітэцкім пансіёне, затым у вучылішчы св. Пятра ў Пецярбургу і прыватных пансіёнах. Вайсковую службы пачаў падпрапаршчыкам у Сямёнаўскім палку. За спачуванне салдатам у час выступлення палка ў 1820 у Пецярбургу пераведзены ў Крамянчугскі полк, потым у 17-ы Егерскі. У 1823 прыняты ў Паўночнае таварыства сваім братам Фёдарам. Арыштаваны ў час паўстання Чарнігаўскага палка пад Новы, 1826, год у Белай Царкве (меў намер па просьбе брата Фёдара падняць свой полк у падтрымку паўстаўшых). Пасля следства высланы ў дзеючую армію на Каўказ. У 1830 звольнены з арміі па хваробе пад строгі сакрэтны нагляд па месцы жыхарства ў Тамбоўскай губ.

## **ВАЙНІЛОВІЧ** Антон Станіслававіч (1801—45)

Рэвалюцыянер-дзекабрыст, удзельнік паўстання Чарнігаўскага пяхотнага палка, падпаручнік Чарнігаўскага пяхотнага палка (1823), палкавы кватэрмайстар. З дваран Гродзенскай губ. Вайсковую службу пачаў у 1816 падпрапаршчыкам Новарасійскага драгунскага палка, у 1819 перайшоў у Чарнігаўскі пяхотны полк, з 29.4.1819 прапаршчык. Членам тайнага таварыства не быў. Аб паўстанні ў Пецярбургу даведаўся ў г. Васількаў, дзе жыў разам з С.І.Мураўёвым-Апосталам. У час паўстання Чарнігаўскага пяхотнага палка выконваў даручэнні яго кіраўнікоў: забяспечваў полк правіянтам, узначальваў авангард палка на маршы і падтрымліваў дысцыпліну сярод салдат. Разам з капітанам Казловым прывёў з в. Снецінка ў Матавілаўку 1-ю грэнадзёрскую роту, але тая ўдзельнічаць у паўстанні адмовілася. У ноч на 2.1.1826 адстаў ад паўстанцаў і з'явіўся да начальства. Камісія ваеннага суда ў Магілёве прыгаварыла яго да пакарання смерцю праз адсячэнне галавы. Але паводле заключэння аўдытарскага дэпартамента Ваеннага міністэрства, канфірмаванага Мікалаем I, быў пазбаўлены чыноў, дваранства і высланы ў далёкія гарнізоны. Некаторы час знаходзіўся ў Сібіры, потым быў пераведзены на Каўказ у Кабардзінскі пяхотны полк. У баях з горцамі паказаў адвагу і воінскае майстэрства, заслужыў чын прапаршчыка Егерскага князя Чарнышова палка. Удзельнічаў у руска-персідскай вайне 1826—28. Потым вярнуўся на Каўказ, дзе і загінуў у адным з баёў супраць горцаў.

## **ВАЙНІЛОВІЧ** Восіп Мікалаевіч [1860—12(24).5.1890]

Рэвалюцыянер-народнік. З дваран. Нарадзіўся ў Віцебску. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі. Быў членам Віцебскага рэвалюцыйнага гуртка. У 1882 паступіў на медыцынскі факультэт Варшаўскага універсітэта. Адзін са стваральнікаў нарадавольніцкага гуртка беларускіх студэнтаў, які цесна ўзаемадзейнічаў з польскай рабочай партыяй «Пралетарыят» у справе сацыялістычнай прапаганды і пры стварэнні нелегальнай друкарні. Яго варшаўская кватэра выкарыстоўвалася нарадавольцамі для канспіратыўных сувязей з «Пралетарыятам», сюды паступалі пісьмы, нелегальнае друкарскае абсталяванне. За ўдзел у выступленнях варшаўскіх студэнтаў (крас. 1883) як «асоба шкоднага кірунку» і «адзін з канаводаў студэнцкіх беспарадкаў» быў выключаны з універсітэта і прыцягнуты да дазнання з устанаўленнем за ім з чэрвеня 1883 тайнага нагляду паліцыі. Жыў у Віцебску, дзе 8.3.1884 арыштаваны, да снежня 1884 знаходзіўся пад вартай. Пасля выхаду з турмы быў пад наглядам паліцыі. Даваў прыватныя ўрокі, займаўся літаратурнай творчасцю.

*Літ.*: Czerepica W. Związki rewolucjonistów Białorisi i Polski w latach 70—80 XIX wieku. Warszawa, 1985.

*В.М.Чарапіца.*

## **ВАЛАТОЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч

Беларускі краязнавец і этнограф 2-й

паловы 19 ст. У 1875 скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю і працаваў у ёй настаўнікам. Доўгі час жыў на Палессі, вывучаў яго гісторыю, побыт і культуру насельніцтва. Свае асабістыя ўражанні і назіранні выклаў у 17 нарысах, апублікаваных у газеце «Русский мир» (1875). У артыкулах акрэсліваў межы беларуска-ўкраінскага Палесся: паўн. — ад Брэста міма Кобрына, Слоніма і Слуцка да вярхоўяў Бярэзіны, Студзёнкі і Друці; паўд. — паблізу Уладава, Ковеля, Клевані да Радамышля і далей па Дняпры да ўпадзення ў яго р. Цэцераў. У нарысах захапляўся прыродай Палесся, называў яго першабытным краем. Пры апісанні побыту і культуры беларусаў адзначаў захаванне перажыткаў язычніцтва, якія яшчэ мала закрануты хрысціянствам. Апісваў каляндарныя святы і абрады беларусаў-палешукоў: Каляды, запусты, Купалле, русальныя абрады; з пазіцый праваслаўя тлумачыў адсталасць і нізкі культурны ўзровень народа. Ярка і каларытна перадаў стараж. легенды, вераванні, знахарства, забабоны. Прывёў каштоўныя звесткі пра спосабы рыбалоўства ў розныя поры года, пра помнік архітэктуры — Кімбараўскі кляштар. 12—17-ы нарысы прысвяціў пераважна каталіцкай экспансіі на беларускім Палессі, апісаў жахлівую дзейнасць езуіцкага ордэна, антыезуіцкія паўстанні ў Мазыры (1581) і Янаве (1657). Яго асобныя нарысы былі перадрукаваны часопісам «Нива».

*Тв.*: В непогоду: (Очерк из жизни Полесья) // Нива. 1879. № 6; Полесские свята: Из очерков Полесья // Там жа. 1880. № 29, 30; Полесские будни // Там жа. 1881. № 2; Полесская поганьщина // Там жа. № 27.

*В.К.Бандарчык.*

## **ВАЛІЦКІ** Аляксандр (27.1.1826—1.6.1893)

Уладальнік мінскай кнігарні, выдавец, музычны крытык і спявак. Нарадзіўся ў Вільні, скончыў філалагічны факультэт Харкаўскага універсітэта. Вучыўся ігры на скрыпцы і фартэпіяна ў Слуцку, з 1847 вывучаў філасофію ў Віленскім універсітэце і браў урокі спеваў у вядомых майстроў мастацтва. Быў добрым выканаўцам песень С.*Манюшкі*, пазней стаў яго першым біёграфам, у 1873 выйшла яго кніга «Станіслаў Манюшка». У 1858—62 супрацоўнічаў са штотыднёвікам «Ruch muzyczny» («Музычны рух»), пісаў для яго карэспандэнцыі пад псеўданімамі А.Жалязняк, С.Паўза і інш., апублікаваў артыкул «Мінская губерня з музычнага пункту гледжання» (1858. № 49). У 1863 заснаваў кнігарню ў Мінску. За ўдзел у паўстанні 1863 быў сасланы ў Тамбоў. Пасля ссылкі з 1867 жыў у Варшаве друкаваў музычныя рэцэнзіі і справаздачы ў штотыднёвіку «Kurier Warszawski» («Варшаўскі веснік»). З 1872 працаваў карэктарам у друкарні В.Аншына. Аўтар некалькіх прац па стылістыцы, у тым ліку «Памылкі ў размове і пісьме...» (1886) і «Падарунак наборшчыку ад карэктара» (1886). Абагульніўшы ў іх вопыт сваёй карэктарскай дзейнасці, выказаў шэраг слушных прапаноў па ўдасканаленні выдавецкай справы, павышэнні ўплыву друкаванага слова на духоўнае і маральнае ўзбагачэнне людзей, развіццё асветы і адукацыі ў краіне. З 1890 да апошніх дзён жыцця быў хавальнікам фондаў бібліятэкі і архіва М.Радзівіла ў Нясвіжы. Кнігарню В. ў Мінску прыняла яго сястра Соф'я Савіцкая, якая валодала ёю на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. У 1882 яна набыла частку кнігарні Э.*Ажэшкі* ў Вільні, у 1890 адкрыла яе філіял у Бабруйску, а ў 1894 з-за фінансавых цяжкасцей абедзве кнігарні прададзены з аўкцыёну. Памёр В. ў Варшаве.

*Літ.*: Książka jubileuszowa «Kuriera Warszawskiego» 1821—1896. Warszawa, 1896; Rudziński W. Stanisław Moniuszko. T. 1—2. Warszawa, 1955—61; Słownik muzyków polskich. T. 2. Kraków, 1967; Słownik pracowników książki polskiej. Warszawa; Lódz, 1972.

## **ВАЛОВІЧ** Міхаіл Казіміравіч [6(18).6.1806—21.7(2.8).1833]

Грамадскі дзеяч, удзельнік вызваленчага руху на Беларусі. Нарадзіўся ў маёнтку Парэчча Слонімскага пав. Гродзенскай губ. ў сям'і слонімскага падкаморага. Удзельнік паўстання 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Пасля разгрому эмігрыраваў у Францыю. У 1833 тайна вярнуўся на радзіму і ўдзельнічаў у новай спробе падняць паўстанне на тэрыторыі Польшчы, Украіны, Літвы і Беларусі. Ство-

раны ім невялікі сялянскі паўстанцкі атрад быў разбіты ўрадавымі войскамі, а сам ён арыштаваны і павешаны ў Гродне. В. крытычна ацэньваў паўстанне 1830—31, якое, на яго думку, не мела «агульначалавечай мэты», бо выражала інтарэсы шляхты. Падышоў да разумення таго, што ў вызваленчай барацьбе асноўнай сілай павінны быць народныя масы, пераважна сялянства. Выступаў за адмену прыгону і бязвыплатную перадачу зямлі сялянам у калектыўную ўласнасць, за права кожнага народа на самастойнае развіццё. Сродкам дасягнення дэмакратычнага і справядлівага грамадскага ладу лічыў сацыяльную рэвалюцыю еўрапейскага маштабу. Вёў агітацыю сярод сялян, імкнучыся прывабіць іх радыкальнай сацыяльна-палітычнай праграмай у духу утапічнага камунізму.

## **ВАЛОДЗЬКА** (Wolodzko) Вацлаў Валеры (псеўд. Кошчыц Вацлаў) (1831—8.4.1904)

Грамадскі і палітычны дзеяч, удзельнік паўстання 1863—64, гісторык, пісьменнік. Нарадзіўся ў Мінскай губ. Вышэйшую ваенную адукацыю атрымаў у Пецярбургу. Служыў капітан-інжынерам у рускай арміі. З канца 1862 у Мінску. На пачатку паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве перайшоў на бок паўстанцаў, удзельнічаў у баях з карнікамі на Міншчыне. З 1864 у Турцыі, дзе пад імем Сагі-бея працаваў інжынерам дарог і мастоў. З 1870 жыў у Львове, займаўся навуковай і грамадска-палітычнай дзейнасцю, пісаў літаратурныя творы. Яго даследаванні «Зыгмунд Серакоўскі — вярхоўны галоўнакамандуючы Жмудзі ў 1863 г.» (1891), «Пярун» і апошнія атрады ў Літве ў паўстанні 1863—1864 г.: З уласных расказаў «Перуна» прысвечаны падзеям на Беларусі і ў Літве ў час паўстання. Найбольшую каштоўнасць маюць яго «Успаміны з паўстання Мінскага ваяводства ў 1863 годзе» (1875), у якіх паказана дзейнасць Мінскай паўстанцкай арганізацыі, характарызуюцца кіраўнікі і ўдзельнікі паўстання К.Пялікша, Б.Свентажэцкі, С.Ляскоўскі, А.Трусаў і інш. У рукапісе засталася яго праца «Паўстанне ў Магілёўскай губерні ў 1863 годзе». Пад псеўданімам Вацлаў Кошчыц апублікаваў гістарычныя раманы і аповесці: «Вернутыя да сапраўднай веры» (1877), «Выбраннікі лёсу» (1881—82), «Вяшчунскія ваенныя паходні» (1898), «паляўнічыя» апавяданні «З літоўскай пушчы» (1877), у якіх апісаў падзеі 1831 і 1863 на Беларусі і ў Літве, адносіны да іх сялян (некаторыя героі гавораць на бел. мове), намаляваў вобразы К.*Каліноўскага*, Р.Траўгута. Пад псеўданімам Сагі-бея выдаў дарожныя нататкі «Усход. Са Стамбула ў Анкару» (1874), «З вандровак па Анатоліі» (1875), раман «Крывавы набытак» (1884), прысвечаны вызваленчай барацьбе албанскага і македонскага народаў супраць турэцкага панавання. У раманах і аповесцях «Сізіфава праца» (1877), «Змагар лёсу» (1883), «Вёска для вёскі» (1888) і іншых выкрываў згодніцтва буйной шляхты, заклікаў палепшыць жыццё сялян.

*Тв.*: Wspomnienia z powstania województwa Mińskiego w roku 1863 // Polska w walce. Kraków, 1875. T. 2.

*А.В.Мальдзіс, В.Ф.Шалькевіч.*

## **ВАНЬКОВІЧ** Валенцій Мельхіёравіч [14.2.1800 (паводле іншых звестак 1799)—12.5.1842]





*Мінская сядзіба Ванькові чаў (да рэстаўрацыі).*

Жывапісец, прадстаўнік рамантызму. Нарадзіўся на Міншчыне ў в. Калюжыца ў сям'і павятовага суддзі. Дзіцячыя гады прайшлі ў в. Сляпянка пад Мінскам. Тут пачалося яго захапленне маляваннем. Пачатковую адукацыю атрымаў у Мінску. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме пры езуіцкай духоўнай акадэміі, потым у Віленскім універсітэце (1818—24) у Я.*Рустэма*. Пасля заканчэння універсітэта В. за дзяржаўны кошт быў накіраваны на вучобу ў Пецярбургскую мастацкую акадэмію і залічаны (1824) на старэйшы курс натурнага класа. Дыпломнай яго работай была карціна гістарычнага зместу «Подзвіг маладога кіяўляніна пры аблозе Кіева печанегамі ў 968 годзе» (1827). Мастак быў адным з трох выпускнікоў, якія за дыпломныя работы атрымалі малы залаты медаль.

В. цікавіўся літаратурай, гісторыяй, добра ведаў лацінскую мову і антычных паэтаў (Гамера, Вергілія) і гісторыкаў (Герадота); Цэзара чытаў у арыгінале. Быў знаёмы з А.С.Пушкіным, напісаў яго партрэт (1826—27, загінуў у час паўстання 1863). Аўтар партрэтаў іншых славутых людзей, у прыватнасці паэта А.Гарэцкага, скрыпача К.Ліпінскага, піяністкі М.Шыманоўскай (1827). У 1828 намаляваў карціну «Міцкевіч на скале Аюдаг», дзе паэт у рамантычнай паставе на фоне хмарнага неба ўдумліва глядзіць удалеч, на плечы накінута чэркеская бурка.

Скончыўшы навучанне, жыў у Мінску. Меў майстэрню ў Сляпянцы, дзе намаляваў партрэт бацькі, аўтапартрэты, а таксама партрэты сваіх блізкіх знаёмых па Віленскім універсітэце: Э. і С.Хамінскіх з Ашмян, К.Пясецкага з жонкай і дзецьмі (1834), К. і А.Тавянскіх (1837). У 1834 стварыў карціну «Напалеон каля вогнішча».

В. высока развіў і тэхніку мініяцюры, пераважна на паперы і косці. У гэтай тэхніцы ім выкананы партрэт



*Дом Ванькові чаў у Мінску.*



Ванькові́ч В.М. Партрэт К.Ліпінскага. 1827.



Ванькові́ч В.М. Партрэт А.Тавянскага. 1837.

графа С.Строганава (1831), аўтапартрэт на табакерцы, партрэты бацькі і сястры. Шмат увагі аддаваў мастак копіям карцін на міфалагічную і рэлігійную тэматыку. Асабліва захапляўся творамі Рафаэля. Яны паслужылі мастаку ўзорам пры напісанні многіх твораў, у прыватнасці карцін «Дзева Марыя Вастрабрамская», што ўпрыгожвае алтар касцёла Севярына ў Парыжы, «Мадонна з дзіцем» («Марыя з дзіцем»), якая знаходзіцца ў Луўры, «Святы Ян-Хрысціцель», што ў свой час была падаравана А.*Міцкевічу*. В. зрабіў некалькі копій з карцін Тынтарэта («Пакланенне трох каралёў»), Чаховіча («Смерць святога Бенядзікта» і «Святая Кацярына»). Вобразы святых у мастака натуральныя. Ён адмовіўся ад іканаграфічнай манеры пісьма пры адлюстраванні біблейскіх сюжэтаў. Прастата партрэтнай кампазіцыі была галоўнай у яго творчасці.

Моцна знясілены працай, не маючы падтрымкі ад мясцовых улад, у 1839 мастак пакінуў радзіму. Памёр у Парыжы, пахаваны на могілках Манмартр. Некаторыя яго карціны захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь і ў Нацыянальным музеі ў Варшаве (Польшча).

*Літ.*: Дробаў Л.Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя. Мн., 1971; Яго ж. Живопись Белоруссии XIX—начала XX в. Мн., 1974.

## **ВАСІЛЬЕВА** Настасся Якаўлеўна

Беларускі этнограф, фалькларыст і краязнавец 2-й паловы 19 ст. У 1874—80 жыла на Палессі, пэўны час працавала валасным пісарам у в. Грабаў (Петрыкаўскі р-н). З 1880 у Бабруйску. Даследавала побыт, матэрыяльную культуру, абрады, фальклор, вывучала гісторыю і этнаграфію вёсак Мазыршчыны. У газеце «Минские губернские ведомости» ў 1877 апублікавала артыкулы «Вясельныя абрады ў раёне Грабаўскай воласці Мазырскага павета», «Кароткі нарыс вёскі Грабава Мазырскага павета», «Сялянскія памінкі ў Мазырскім павеце», «Князь», ці «Жыдвозера» (легенды); у 1878 — «Калядныя святы ў сялян Мазырскага павета», «Нататка пра абшчыннае земляробства ў сялян Мінскай губерні»,

«Нататка, як праводзяць вясну сяляне Мінскай губерні», «Веснавыя песні і абрады ў вёсках Мазырскага павета»; у 1879 — «Легенды і павер'і ў Мінскай губерні», «Нататка пра побыт сялян Мазырскага павета», «Вёска Бяседкі Мазырскага павета». У газеце «Виленский вестник» надрукаваны яе артыкулы «Кірмашы ў Мазырскім павеце» (1879), «Знахары» і «Вытрымкі з жыцця беларускай жанчыны» (1880), «Вёска Грабава» (1881) і інш. Супрацоўнічала з Мінскім губернскім статыстычным камітэтам, Таварыствам аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце, з беларускім этнографам і фалькларыстам П.В.*Шэйнам* і інш. Крытычна ставілася да прыгоннага права і яго перажыткаў, захаплялася народным мастацтвам, выступала за развіццё асветы, раўнапраўе жанчын і інш.

*А.Ю.Лозка.*

## **ВЕРАНІЦЫН** Канстанцін Васілевіч [1(13).6.1834—1904(?)]

Удзельнік літаратурнага жыцця на Беларусі сярэдзіны 19 ст., выкладчык, магчымы аўтар паэмы «Тарас на Парнасе». Нарадзіўся ў в. Астраўляны Віцебскага пав. ў сям'і прыгонных. Прозвішча бацькоў Васільевы. У 1845 ён атрымаў вольную, у 1851 прыпісаўся да мяшчан г. Гарадок і выбраў сабе прозвішча Вераніцын. Вучыўся ў Гарадоцкім прыходскім вучылішчы (скончыў у 1844), Віцебскай губернскай гімназіі (1845—52), Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі (1852—54). У 1857 як пансіянер Вольнага эканамічнага таварыства паступіў у Горы-Горацкі земляробчы інстытут адразу на трэці курс, у 1859 скончыў інстытут са званнем агранома, абараніў дысертацыю «Аб беларускай гаспадарцы». Пэўны час ён кіраваў прыватным маёнткам, збіраўся працаваць у міравых установах Магілёўскай губ., але намер не здзейсніўся. З 1863 служыў у Пецярбургу ў губернскай па сялянскіх справах установе і Галоўным таварыстве расійскіх чыгунак. У 1874—79 працаваў выкладчыкам прыродазнаўства, геаграфіі і гісторыі ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, але з-за хваробы вымушаны быў пакінуць гэту працу. З 1880 зноў Пецярбургу, служыў у апараце міністэрства шляхоў зносін. Жыў у доме, вядомым сваімі літаратурнымі традыцыямі: тут у розныя часы жылі Някрасаў, Тургенеў, Чарнышэўскі. Захоўваў сувязі з Віцебшчынай, куды ездзіў у час адпачынку. У 1900 выйшаў у адстаўку ў чыне стацкага саветніка.

У рукапісных сшытках А.*Рыпінскага* з фальклорнымі і літаратурнымі творамі, якія бытавалі ў 19 ст. на Віцебшчыне, В. прыпісваюцца паэмы «Тарас на Парнасе» (тэкст з паметай: 1855, 15 красавіка, Гарадок) і «Два д'яўлы» (пазначана: 7.4.1860, Масква). Мова і рэаліі сведчаць пра несумненную сувязь «Двух д'яўлаў» з Віцебскам і прыналежнасць абедзвюх паэм аднаму аўтару. В. сапраўды мог быць гэтым аўтарам як здольны разначынец, выхадзец з народа, якому ўдалося атрымаць адукацыю. На жаль, іншых доказаў пра яго аўтарства і матэрыялаў пра яго літаратурную дзейнасць не выяўлена. Вядома толькі, што яго гімназічным таварышам быў таленавіты беларускі паэт Я.П.*Вуль*, што Віцебск у той час быў важным асяродкам беларускай літаратуры і культуры і сама грамадская атмасфера спрыяла, такім чынам, з'яўленню значных твораў.

*Г.В.Кісялёў.*

## **ВУЛЬ** Ялегі Пранціш [сапр. Карафа-Корбут Элегі Францішак Маўрыкіевіч; 9(21).4.1835—1880-я гады]

Беларускі паэт. Нарадзіўся ў Віцебску ў сям'і дробнага чыноўніка. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. У 1856—62 працаваў пісарам у Віцебскай палаце дзяржаўных маёмасцей. За ўдзел у паўстанні 1863—64 разам з бацькам і братам сасланы ў Сібір. Апошнія гады жыў у Варшаве, дзе з В.*Каратынскім* і А.*Плугам* стварыў беларускі гурток. Як паэт фарміраваўся пад уплывам А.*Вярыгі-Дарэўскага*. У 1859 упісаў у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага свой адзіны вядомы на бел. мове верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка» — узор бел. грамадзянскай лірыкі сярэдзіны 19 ст., які яскрава выяўляе талент і дэмакратычныя пазіцыі аўтара. Ад імя прыгоннага бе-

ларускага селяніна В. вітаў творчасць і дзейнасць Вярыгі-Дарэўскага, накіраваную на абарону і асвету працоўнага народа. Верш адметны дасканаласцю формы, паэтычнай сімволікай, натуральнасцю і чысцінёй мовы. Менш арыгінальны яго польскі верш «Нянова думка» (1859), таксама ўпісаны ў «Альбом». Творы В. пры жыцці не друкаваліся. Верш «К дудару Арцёму...» ўпершыню апублікаваны ў «Нашай ніве» (9.11.1912).

*Тв.*: У кн.: Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1977. С. 112—113; Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 262—264.

*Літ.*: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 166—167, 203—207; Каваленка В.А. Вытокі. Уплывы. Пасколанасць. Мн., 1975. С. 122—123.

## ВЯРЫГА Аляксандр Андрэевіч [23.11(5.12).1837—13(26).3.1905]

Хімік, педагог. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта (1860). Быў на вайсковай службе, але хутка выйшаў у адстаўку і міністэрствам народнай асветы накіраваны за мяжу. Вярнуўшыся адтуль у 1866, абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму «Азабензід і яго гамолагі» (Адэса, 1866) і быў прызначаны дацэнтам кафедры хіміі ў Новарасійскім універсітэце. У 1871 абараніў доктарскую дысертацыю і стаў экстраардынарным, а ў 1873 ардынарным прафесарам Новарасійскага універсітэта. Сярод яго вучняў былі стаўшыя потым знакамітымі хімікі, у т.л. М.Дз.Зялінскі. Вялікае значэнне і вядомасць мела яго барацьба з фальсіфікацыяй прадуктаў харчавання ў Адэсе. В. аўтар шэрага навуковых прац па хіміі, сярод якіх «Пра азабензід і прадукты яго злучэнняў» (1870), «Даследаванне адэскіх саляных ліманаў» (1871), «Пра серу ў адэскім каменнавугальным газе» (1874) і інш.

## ВЯРЫГА Браніслаў Фартунатавіч (1860—13.6.1925)

Фізіёлаг, педагог. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1881) і Ваенна-медыцынскую акадэмію (1886). Вучань І.М.Сечанава і І.П.Паўлава. У 1888 абараніў доктарскую дысертацыю. Працаваў у лабараторыях Э.Пфлюгера і І.І.Мечнікава. У 1897—1914 прафесар Новарасійскага універсітэта ў Адэсе, з 1917 — Пермскага універсітэта. Даследаванні В. прысвечаны галоўным чынам электрафізіялогіі; адкрыў і апісаў з'яву катоднай дэпрэсіі (працяглае зніжэнне ўзбуджальнасці, якое развіваецца паўторна следам за яе павышэннем у вобласці прыкладання катода). Устанавіў, што гальванічны ток у залежнасці ад сілы і накіраванасці блакіруе або рухальныя, або адчувальныя нервовыя тканкі. Вывучаючы газаабмен у лёгкіх і тканках устанавіў (1892) уплыў $O_2$ на здольнасць крыві звязваць $CO_2$ (эфект Вярыгі).

*Тв.*: Основы физиологии человека и высших животных. Т. 1—2. Спб., 1905—10.

## ВЯРЫГА (Weryho) Уладзіслаў (9.6.1868—2.8.1916)

Філосаф і этнограф, збіральнік беларускага фальклору. Нарадзіўся ў Пскове, дзе жыла яго сям'я пасля канфіскацыі маёнтка каля Полацка за ўдзел у паўстанні 1863—64. У 8 гадоў страціў бацькоў і застаўся пад апекай бабулі. У 1878 вучыўся ў Пскоўскай, потым у Пецярбургскай гімназіі, якую скончыў у 1885. Некаторы час падарожнічаў па Беларусі і Літве. Вучыўся ва універсітэтах Берліна, Прагі і Берна. У 1892 у Берне атрымаў ступень доктара філасофіі. У 1898—1916 быў рэдактарам часопіса «Przeglad filozoficzny» («Філасофскі агляд»). Пры ўдзеле В. створаны: у 1900 секцыя псіхалогіі на з'ездзе польскіх урачоў у Кракаве, у 1904 Польскае філасофскае таварыства ў Львове, у 1907 Польскае таварыства псіхолагаў у Варшаве.

У выніку вандровак па Беларусі і Літве напісаў кнігу «Беларускія паданні» (Львоў, 1889), дзе змясціў 32 беларускія народныя казкі з Лідскага павета. У прадмове да яе адзначыў, што «мова беларуская, асабліва песні, паданні, прымаўкі і загадкі народу, які на ёй размаўляе, заслугоўвае нашай павагі». У часопісе «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Зборнік паведамленняў па айчыннай антрапа-

логіі». 1889. Т. 13) апублікавана 45 беларускіх народных песень, запісаных ім у Лідскім павеце, друкаваўся ў часопісе «Wisła» («Вісла»). Аўтар працы «Латышскія паданні» (1892).

*А.М.Філатава.*

## ВЯРЫГА-ДАРЭЎСКІ Арцём Ігнатавіч (23.10.1816—1884)



Беларускі пісьменнік, рэвалюцыянер, асветнік. Нарадзіўся ў мястэчку Кублічы Лепельскага павета Віцебскай губ. Паходзіў са збяднелага шляхецкага роду. Адукацыю атрымаў у Забельскай гімназіі. Служыў у розных установах Віцебска. Ажаніўшыся, набыў у Віцебскім павеце маёнтак Стайкі. У 1852 калежскі рэгістратар, у 1885 губернскі сакратар. У 1850-я гады арганізаваў у Віцебску прыватную бібліятэку для гарадской беднаты. У Вільні і Пецярбургу меў сувязі з газетамі «Kurjer Wileński», («Віленскі веснік»), «Słowo» («Слова»). За ўдзел у паўстанні 1863—64 быў сасланы царскімі ўладамі ва Усолле (Усходняя Сібір), з 1868 — на пасяленні ў Іркуцку. Памёр у Сібіры.

Адзіная кніга В.-Д. — аповесць у вершах на польскай мове «Гутарка аб сваяку» — пад псеўданімам «Беларуская Дуда» надрукавана ў 1858. У 1859—61 друкаваўся ў часопісе «Музычны рух» («Ruch muzyczny»), дзе пісаў пра музычнае жыццё Віцебска. На працягу 1858—63 вёў рукапісны «Альбом», у якім пакінулі свае запісы вядомыя пісьменнікі, дзеячы культуры Беларусі і Літвы таго часу: У.*Сыракомля*, В.*Каратынскі*, А.*Кіркор*, М.*Балінскі*, В.*Дунін-Марцінкевіч* і інш. Аўтар паэмы «Ахульга» (тэматычна звязана з барацьбой горцаў пад кіраўніцтвам Шаміля), драмы «Гордасць», камедый «Хцівасць» і «Грэх 4-ы — гнеў», дарожных нататкаў «Гутарка з пляндроўкі па зямлі латышскай» (матэрыялам паслужыла паездка В.-Д. ў т. зв. інфляндскія паветы Віцебскай губ. ў 1859), твораў «Быхаў», «Паўрот Міхалка», вершы «Думка хлопка з аколіц Віцебска на адглос вольнасці» (1858) і інш. Пераклаў на бел. мову паэму А.*Міцкевіча* «Конрад Валенрод». Беларускія творы В.-Д. з-за цэнзурных умоў не друкаваліся, рукапісы амаль усіх іх не знойдзены. Пры жыцці апублікаваны маналог-думка «Салдатка» (урывак з камедыі «Грэх 4-ы — гнеў») і верш «Бялыніцка наша маці!..». У копіі захавалася вершаваная імправізацыя «Літвінам, запісаўшымся ў мой Альбом, на пажагнанне» (нап. 1858). Напісаў баладу пра кіраўніка паўстання на Украіне Э.Ружыцкага, верш, прысвечаны Э.*Жалігоўскаму*, і інш. А.Кіркор называў В.-Д. пасля Дуніна-Марцінкевіча «другім з выдатнейшых беларускіх паэтаў і празаікаў».

*Літ.*: Пачынальнікі. Мн., 1977; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Veryha A. Acta et chronica. Kaunas, 1934.

*А.М.Філатава.*

## ВЯРЭНЬКА Францішак Леапольдавіч (15.3.1862—4.3.1892)

Беларускі краязнавец і археолаг. Нарадзіўся ў маёнтку Пуцілкавічы Барысаўскага павета (цяпер Ушацкі р-н). Скончыў Мінскую гімназію (1881), Варшаўскі універсітэт (1887). У 1886 за навуковую працу па народнай медыцыне ўзнагароджаны залатым медалём. Праводзіў археалагічныя раскопкі на тэрыторыі сучаснага Ушацкага раёна ўздоўж р. Ушача, даследаваў гарадзішчы, выявіў шмат прадметаў матэрыяльнай культуры старажытнасці. У наваколлі в. Пуцілкавічы ў 1887—91 выявіў 9 гарадзішчаў жалезнага веку і каля 50 курганных груп раннефеадальнага часу, даследаваў 36 курганоў,

склаў археалагічную карту ваколіц вёскі (уключала 85 помнікаў). Глыбока вывучаў народны побыт. Аўтар зборніка «Аб народных леках» (выд. ў 1896), матэрыялы для якога сабраў у паўночнай частцы Барысаўскага і заходняй частцы Лепельскага паветаў. Зборнік з'яўляецца самай вялікай працай аб знахарстве, вераваннях, забабонах, прымхах, звязаных з хваробамі чалавека, і аб сродках народнай медыцыны таго часу. В. канстатаваў, што ва ўяўленні беларускіх сялян хваробы і смерць атаясамліваліся з жывымі істотамі. Таму ўсё знахарскае лячэнне зводзілася да прыёмаў, з дапамогай якіх можна было б «выгнаць» хваробу з чалавека.

У рукапісах засталіся падрыхтаваныя да друку яго працы «Курганы ў Пуцілкавічах (1887—92)», «Курганы і два дагістарычныя пасяленні ў Пуцілкавічах», археалагічныя карты, схемы гарадзішчаў, замчышчаў, запісы беларускага фальклору. Частка матэрыялаў захоўваецца ў Кракаўскім археалагічным музеі.

*Літ.:* П о б о л ь Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши. Мн., 1979; Б а н д а р ч ы к В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 266—267.

## **ВЯТРЫНСКІ** Ірадзіён Якаўлевіч

Педагог. У 1814 скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, атрымаў званне бакалаўра, у 1814—22 выкладаў там гісторыю філасофіі, з 1818 ардынарны прафесар. З 1826 цэнзар галоўнага цэнзурнага камітэта. З 1834 дырэктар Магілёўскай гімназіі. Галоўныя яго друкаваныя працы: «Першая песня Энеіды Вергілія» (1820), «Помнікі старажытнай хрысціянскай царквы або хрысціянскія старажытнасці» (1829—45), «Правілы найвышэйшага красамоўства» (1844), «Рускія пісьмы пра шчаслівае жыццё...» (1848).

# Г



## **ГАВОРСКІ** Ксенафонт Антонавіч [1821—17(29).6.1871]



Археолаг, гісторык, выдавец. Нарадзіўся ў Кіеве. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1845). Працаваў выкладчыкам Полацкай духоўнай семінарыі. У 1857—58 рэдагаваў неафіцыйную частку «Витебских губернских ведомостей», у 1862—69 рэдактар-выдавец час. «Вестник Западной России». У пачатку 1850-х гадоў даследаваў 10 курганоў на Полаччыне, упершыню апісаў іх будову. Вывучаў старажытную «Альгердаву» дарогу з Полацка на Вільню, рэшткі старажытных пабудоў Полаччыны, некалькі гарадзішчаў, на якіх апісаў могільнікі больш позняга часу.

*Тв.:* Поездка (14 сент. 1852) из г. Полоцка по направлению, так называемой, Ольгердовой дороги; Археологические разыскания в окрестностях г. Полоцка // Зап. имп. Археологического о-ва. Спб., 1853. Т. 5; Древние акты и документы XVI и XVII века... преимущественно относящиеся до Западного края, с примеч. и объяснен. К.Говорского // Витебские губернские ведомости. 1858. № 3—8, 12—14, 22—28, 35, 38; Исторические сведения о Полоцком Софийском соборе. С двумя отрывками из неизданной истории Полоцкой епархии //

Там жа. № 39—52; Историческое описание полоцкого Борисоглебского монастыря // Вестн. Западной России. 1865. Кн. 5, нояб.

*Г.А.Каханоўскі.*

## ГАЛАМБЁЎСКІ (Gołębiowski) Лукаш (13.10.1773—7.1.1849)



Гісторык, этнограф, архівіст. Нарадзіўся ў в. Пагост на Піншчыне. Навучаўся пры двары Ф.Друцкага-Любецкага ў Пагосце і ў піярскай школе ля Дубровіцы. Удзельнік паўстання А.Т.*Касцюшкі* 1794. З 1790 працаваў бібліятэкарам у польскага гісторыка Т.Чацкага, разам з якім дзеля адшукання і набыцця кніг і рукапісаў наведаў многія кляштары і касцёлы Польшчы. Склаў каталог гэтай бібліятэкі. Пасля смерці Чацкага, бібліятэку якога спадчыннікі прадалі А.*Чартарыйскаму*, Г. працягваў працаваць бібліятэкарам у апошняга ў Пулавах. У 1825 дапамагаў А.Хадкевічу апрацаваць спісы збораў яго бібліятэкі і калекцыі медалёў. У 1831 працаваў бібліятэкарам Публічнай бібліятэкі Варшаўскага універсітэта і адначасова выкладаў там курс бібліяграфіі. У працах «Люд польскі, яго звычаі, забабоны» (1830), «Гульні і забавы розных саслоўяў ва ўсім краі або ў некаторых толькі правінцыях» (1831), «Гісторыя Польшчы» (т. 1—3, 1846—48) апісаў жыццё, побыт, абрады, адзенне, народныя святы і фальклор розных этнічных груп (палякаў, беларусаў, украінцаў, рускіх) Рэчы Паспалітай у межах 1772. Пісаў пераважна на польскай мове, прытрымліваўся кансерватыўных поглядаў.

## ГАЛУХОЎСКІ (Gołuchowski) Юзаф (11 або 14.4.1797—22.11.1858)



Філасаф-ідэаліст, педагог. Нарадзіўся ў Лончках Кукарскіх Тарноўскага павета (Галіцыя). Вучыўся ў Варшаўскім універсітэце, дзе атрымаў ступень магістра права і нейкі час працаваў выкладчыкам. Калі быў у Эрлангене (Германія), блізка пазнаёміўся з Ф.Шэлінгам і трапіў пад уплыў яго філасофіі. У сваёй працы «Філасофія ў яе адносінах да жыцця ўсяго чалавецтва і кожнага чалавека паасобку» (1822, на нямецкай мове; рускі пераклад Д.Веланскага, Спб., 1834) горача ўсхваляў філасофію, навеяную трансцэндэнтальнымі поглядамі Шэлінга. Паводле яго сцвярджэнняў, філасофія ахоплівае ўсе сферы чалавечага жыцця, дае трываласць усім грамадскім і прыватным адносінам, а таму павінна быць прадметам асаблівага клопату з боку дзяржавы. У 1823—24 ён быў прафесарам філасофіі ў Віленскім універсітэце. Яго лекцыі карысталіся незвычайнай папулярнасцю; на іх сы-

ходзілася самая разнастайная публіка. Гэта занепакоіла ўлады, Г. было забаронена чытаць лекцыі, а справу на яго перадалі сенатару М.М.Навасільцаву, якому было даручана расследаванне пра тайныя таварыствы. У праграме чытання, што прадставіў Г., Навасільцаў не знайшоў нічога небяспечнага, але ў пазначанай вышэй працы былі заўважаны заганныя думкі пра «нацыянальную філасофію». Г. разам з І.*Лялевелем*, І.М.*Даніловічам* і М.К.Бароўскім быў звольнены з пасады, і яму загадана выехаць за мяжу. Пасяліўшыся на радзіме, Г. напісаў некалькі твораў па аграноміі і медыцыне, а таксама сваю галоўную філасофскую працу «Разважанні над найгалоўнейшымі праблемамі чалавека...» (т. 1—2, 1861, на польскай мове). У апошнім творы выступіў праціўнікам матэрыялізму, заўзятым паслядоўнікам філасофіі Шэлінга апошняга перыяду. Разглядзеўшы філасофскія сістэмы, Г. прыйшоў да пераканання, што розум зусім не здольны вырашаць самыя важныя і надзённыя пытанні. Паводле Г., вышэйшым органам пазнання з'яўляецца пачуццё. Быццё Бога і бессмяротнасць душы — вось тыя найвышэйшыя задачы, на вырашэнне якіх і накіравана ўвага Г. Туга чалавецтва, якое шукае Бога, праяўляецца ў дапытлівасці, без якой не было б і навукі. Навукі імкнуцца да пазнання прыватных ісцін пры дапамозе розуму, а філасофія імкнецца да сузірання ўсіх ісцін у Богу. Чым мацнейшая любоў да Бога, тым лепш дасягаецца мэта гэтага імкнення. Выказваў таксама ідэі супрацоўніцтва, падтрымліваў прыгон і быў праціўнікам радыкальнага вырашэння сялянскага пытання. Адчувальны яго ўплыў на філаматаў, філарэтаў і інш. таварыствы на Беларусі і ў Літве.

## **ГАЛЬПЕРЫН** Яфім Абрамавіч (каля 1855—?)

Рэвалюцыянер-народнік. Нарадзіўся ў Мінску. Вучыўся ў Мінскай гімназіі (пакінуў з 5-га класа). У 1874 пад уплывам часопіса «Вперёд!» далучыўся да ідэй народніцкага сацыялізму і перайшоў на нелегальнае становішча. У 1875—76 працаваў падзёншчыкам у Смаленскай і Тульскай губ., вёў «лятучую прапаганду» сацыялізму, але расчараваўся ў неўспрымальнасці яе народам. Вярнуўшыся ў Мінск, наладзіў сувязі з землявольскім гуртком М.Л.Велера. У сувязі са «справай Велера» ў 1879 узяты пад тайны нагляд паліцыі. Пасля расколу «Зямлі і волі» прымкнуў да «Чорнага перадзелу» і ўвайшоў у гурток С.Л.Грынфеста. Восенню 1880 камандзіраваны ў Гродна, дзе кіраваў маладзёжным гуртком «Чорнага перадзелу». З дапамогай гурткоўцаў распаўсюджваў у Гродне, ваенным лагеры і навакольных вёсках рэвалюцыйныя лістоўкі, перапраўляў у Мінск для друкарні «Чорнага перадзелу» фарбу, шрыфт і абсталяванне. У канцы 1881 вярнуўся ў Мінск, далучыўся да нарадавольскага гуртка Я.С.Хургіна, працаваў у яго пашпартным бюро. У 1884—85 жыў у Смаленску, дзе зблізіўся з рэвалюцыйнымі коламі. У 1885 вярнуўся ў Мінск, увайшоў у гурток А.І.Гурвіча і вёў прапаганду ў т.зв. «ісакаўскіх» рабочых гуртках. Разам з І.А. і Я.А.Гурвічамі выдаў у Мінску брашуру «Праграмныя пытанні». З 1886 супрацоўнічаў у газеце «Минский листок». Г. фарміраваў у рабочай моладзі рэвалюцыйны светапогляд. Матэрыяльную дапамогу гурткам Г. з 1897 аказваў А.В.*Бонч-Асмалоўскі*. Разам з Бонч-Асмалоўскім, Р.А.Гершуні, К.К.Брэшка-Брашкоўскай і інш. Г. удзельнічаў у стварэнні Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі. У маі 1900 арыштаваны і пасля 14-месячнага зняволення ў Мінскай турме сасланы на 5 гадоў у Сібір. У 1924 напісаў успаміны пра сваю рэвалюцыйную дзейнасць (не апублікаваны, захоўваюцца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь). Далейшы яго лёс невядомы.

*Літ.*: Мещеряков В. Партия социалистов-революционеров. Ч. 1—2. М., 1922; Зіміонка А. Сацыялістычны рух на Беларусі // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культ. і рэв. руху. Мн., 1924; Бич М.О. Левые народники в Минске на рубеже XIX—XX вв. // Докл. к XI конф. молодых учёных БССР (нояб. 1967 г.). Мн., 1967; Лосинский Н.Б. Революционно-народническое движение в Белоруссии, 1870—1884 гг. Мн., 1983.

*М.Б.Ласінскі, М.А.Сакалова.*

## **ГАЛЮН** Сяргей Фёдаравіч (1866—?)

Адзін са стваральнікаў першых са-

цыял-дэмакратычных арганізацый на Беларусі. Нарадзіўся ў Пецярбургу. Скончыў Пецярбургскую Ваенна-медыцынскую акадэмію. З 1892 малодшы ўрач Гродзенскага ваеннага шпіталя. Адначасова адзін з арганізатараў і выкладчыкаў Гродзенскай нядзельнай школы пры Сафійскім брацтве. Выконваў абавязкі бясплатнага ўрача пры мясцовым прытулку і адначасова быў членам гарадской санітарнай камісіі, рабіў усё, каб аблегчыць становішча жыхароў гарадскіх трушчоб. З 1892 член, а з 1893 кіраўнік Гродзенскага рэвалюцыйнага гуртка (1887—94), быў блізкі да марксісцкай ідэалогіі, аб чым сведчаць тэмы яго дакладаў на пасяджэннях гуртка: «Спроба пабудовы гісторыі на прынцыпах гістарычнага матэрыялізму», «Аб некаторых асаблівасцях капіталістычнай вытворчасці і прычынах крызісаў», «Ці магчыма з'яўленне пралетарыяту ў Расіі» і інш. Ён рашуча асуджаў ідэі і тактыку «Народнай волі», сцвярджаў, што такая тактыка супярэчыць палажэнням гісторыі і сацыялогіі і яна няслушная нават з пункту погляду практычнай мэтазгоднасці, таму што выбух 1 сакавіка адсунуў па крайняй меры гадоў на 20 справу поспеху Расіі па шляху прагрэсу. За рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых і хаванне нелегальнай літаратуры 26.6.1894 арыштаваны, 18.10.1895 выключаны з ваеннага ведамства і на 3 гады высланы ў Архангельскую губ., дзе таксама вёў рэвалюцыйную прапаганду. За арганізацыю сярод ссыльных таварыства ўзаемадапамогі ў 1896 прыцягнуты да следства. Уцёк з ссылкі і да верасня 1900 жыў за мяжой. З 1901 земскі ўрач у Варонежскай і Цвярской губ. У сацыял-дэмакратычным руху з 1902 займаў меншавіцкія пазіцыі.

*Літ.*: Бич М.О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг. Мн., 1973.

## ГАМАЛІЦКІ Міхаіл Лявонавіч (22.11.1791—21.1.1861)

Беларускі ўрач, педагог, гісторык. Нарадзіўся ў в. Бялавічы Слонімскага павета (цяпер Івацэвіцкі раён) у сям'і уніяцкага святара. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Жыровічах. У 1809 паступіў у Віленскі універсітэт, пасля заканчэння якога (1815) абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны. На працягу 1816—27 працаваў у гэтым універсітэце, выкладаў фізіялогію. З 1824 прафесар. Як педагог праводзіў заняткі на высокім прафесійным узроўні, вылучаўся грунтоўнымі ведамі і стараннай распрацоўкай лекцыйнага курса. У 1827 па стане здароўя выйшаў на пенсію. Нейкі час займаўся ўрачэбнай практыкай, змяшчаў артыкулы на медыцынскія тэмы ў перыядычных выданнях. Адначасова распачаў вывучэнне мінулага свайго краю на аснове даследавання матэрыялаў віленскіх архіваў, авалодаў ведамі палеаграфіі і археалогіі. Калі выйшла ў свет «Гісторыя Вільні» М.*Балінскага* (т. 1—3, Вільня, 1836—37), Г. змясціў на яе рэцэнзію з істотнымі папраўкамі і дапаўненнямі, якія значна ўзбагацілі змест твора. Даследаваў гісторыю Вільні і заходніх зямель Беларусі, беларускую філалогію і археалогію. У 1857 выбраны членам Віленскай археалагічнай камісіі. Сабраныя матэрыялы паслужылі Г. для напісання працы пра жыццё і дзейнасць вялікага князя літоўскага *Вітаўта* «Fragmenta Witoldowe», якая, аднак, засталася ненадрукаванай. Памёр і пахаваны ў Вільні.

## ГАРАЙН Юльян (1821—28.3.1883)

Пісьменнік, падарожнік. Пісаў на польскай мове. Нарадзіўся ў Радашковічах Маладзечанскага раёна. Скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. У 1840—50-я гады жыў у Мінску. Сябраваў з В.*Дуніным-Марцінкевічам*. На пастаноўку яго «Ідыліі» адгукнуўся артыкулам «Фізіялогія прыказак», апублікаваным у газеце «Dziennik Warszawski» («Варшаўскі дзённік». 1852. № 99—100). Той жа артыкул быў змешчаны ў празаічным зборніку «Страчаныя хвіліны» (Вільня, 1858). Аўтар успамінаў пра У.*Сыракомлю* «З жыцця паэта» (Львоў, 1886), дзе падрабязна апісаў знаходжанне паэта ў Мінску і абставіны яго знаёмства з Дуніным-Марцінкевічам. У 1870-я гады жыў у ЗША, дзе сустракаўся з Г.Сянкевічам і выдаў аповесць «5 П — 1 Р» (Чыкага, 1878). Выкарыстоўваў беларускія на-

роднья паданні, пісаў пра цяжкае жыццё беларускага прыгоннага сялянства (аповесць «Д'ябал фарэйтарам»).

## ГАРАЎСКІ Апалінар Гілярыевіч [18(30).1.1833—1900]



Пейзажыст і партрэтыст, педагог. Нарадзіўся ў маёнтку Уборкі Ігуменскага пав. Мінскай губ. (цяпер Бярэзінскі р-н). Вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1850—54). У 1855—60 на пенсію Акадэміі мастацтваў удасканальваў майстэрства ў Жэневе, Дзюсельдорфе, Рыме і Парыжы. З 1856 быў блізка знаёмы з рускім мастацкім дзеячам Траццяковым, памагаў яму (з братам Іпалітам, таксама мастаком) фарміраваць мастацкую калекцыю. У 1869—71 падарожнічаў па Расіі, Украіне, Беларусі, збіраў матэрыял для сваіх карцін. Часта бываў на радзіме, жыў ва Уборках (1860—80-я гады), зімой выязджаў у Пецярбург, дзе ў 1862—86 выкладаў у рысавальнай школе Таварыства заахвочвання мастацтваў. Творы Г. адметныя жыццёвай праўдай, глыбокай народнасцю, высокім тэхнічным майстэрствам, апяваюць прыгажосць беларускай прыроды, народны побыт: «Балота» (1852), «Пейзаж з ракой і дарогай» (1853), «Вечар», «Краявід у маёнтку Кушалёва-Безбародкі Краснаполіца» (абодва 1854), «Від дубровы каля Бабруйска» (1855), «Ліпы» (1857), «На радзіме» (1860), «Пінскія балоты», «Рака Бярэзіна», «Свіслач» (усе 1868), «Вечар у Мінскай губерні», «Пейзаж з каровамі» (1870-я гады), «Восень», «Час жніва» (1890). Пісаў партрэты, найбольш вядомыя: К.Салдаценкава (1857), жанчыны з палітрай (1867), маці, «Жаночы партрэт» (абодва 1868), Ф.Бруні (1871), М.Глінкі (1878), мастака Л.Ф.Лагорыо (1890-я гады). Высокімі мастацкімі якасцямі вызначаец-



*А.Г.Гараўскі. Вечар у Мінскай губерні. Пачатак 1870-х гадоў.*



*А.Г.Гараўскі. Жаночы партрэт.*

ца карціна «Старая моліцца» (1857). Рабіў замалёўкі народных тыпаў («Селянін», 1888, і інш.). Мастаком быў таксама яго другі брат Гілярый.

*Літ.:* Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX—начала XX в. Мн., 1974; Яго ж. Колькі праўды ў фарбах... // Мастацтва Беларусі. 1983. № 10. *Л.Н.Дробаў.*

## ГАРБАЧЭЎСКІ Іван Данілавіч (1860—1914)

Беларускі настаўнік, краязнавец, гісторык, этнограф, пісьменнік, фальклярыст. Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1877), Віленскі настаўніцкі інстытут (1885). Выкладаў у Далынскім народным вучылішчы (Невельскі павет Віцебскай губ.), Невельскім павятовым вучылішчы. У 1894—98 супрацоўнічаў у газ. «Витебские губернские ведомости». У 1899 пераехаў на Каўказ, потым на Кубань, дзе працаваў інспектарам народных вучылішчаў. З 1912 у Рагачове выкладаў у вышэйшым рамесным вучылішчы. На працягу ўсяго жыцця вывучаў гісторыю, фальклор і побыт беларусаў. У гісторыка-этнаграфічных нарысах на падставе гістарычных звестак, шматлікіх помнікаў, фактаў і легенд даказваў існаванне на тэрыторыі старажытнай Беларусі апрача агульнавядомых яшчэ і мноства карацейшых водных шляхоў зносін («Пра волакі Вялікага воднага шляху з варагаў у грэкі», 1894); апісаў населеныя пункты па Заходняй Дзвіне («Уніз па Дзвіне», 1895), флору і фауну, стан земляробства і жывёлагадоўлі, гандлю, промыслаў і адукацыі ў Лепельскім пав. («Лепельскі павет Віцебскай губерні», 1895), язычніцкія вераванні, рэлігійныя абрады, звычаі продкаў палешукоў («Старына старадаўняя», 1897). Гісторыю ўзнікнення і бытавання беларускай мовы апісаў у працы «Старажытнасць беларускіх песень і іх напеваў» (1896). У сваіх мастацкіх творах падкрэсліваў, што маральнае аблічча людзей, іх сумленне, адчуванне залежаць ад іх адносін да зямлі («Зямля і араты», нап. 1894), а вайсковая служба жахлівай салдацкай муштрай, ганьбай і знявагай чалавечай годнасці ператварае працаўніка-селяніна ў хворага, нямоглага чалавека (аповесць «Не дайшоў да роднай хаты», 1898). Пісаў апавяданні для дзяцей. Прыхільнік стварэння пры школах садоў і агародаў, пчальнікоў, майстэрняў і інш.

*Тв.:* Экономический очерк Невельского уезда. Витебск, 1895; Об устройстве садовых питомников при народных школах // Витебские губернские ведомости. 1894. №74—75.

*Літ.:* Скідан В.І. І.Д.Гарбачэўскі // Беларуская фальклярыстыка. Мн., 1989.

*В.І.Скідан.*

## ГАРБАЧЭЎСКІ Іван Іванавіч (22.9.1800—9.1.1869)

Рэвалюцыянер-дзекабрыст. Нарадзіўся на Магілёўшчыне (паводле іншых звестак у Чарнігаўскай губ.). Выхоўваўся ў Віцебскай гімназіі (1808—17), пасля заканчэння якой паступіў у дваранскі полк. Пасля смерці маці адмовіўся ад невялікага маёнтка і аддаў зямлю ў поўнае бязвыплатнае карыстанне сялянам. У 1820 выпушчаны прапаршчыкам і служыў у 8-й артылерыйскай брыгадзе ў г. Наваград-Валынскі; меў чын падпаручніка. Там стаў членам Таварыства з'яднаных славян, якое ставіла сваёй мэтай знішчэнне прыгоннага права і самаўладдзя, стварэнне дэмакратычнай славянскай федэрацыі ў складзе Расіі,

Польшчы, Багеміі, Маравіі, Венгрыі, Трансільваніі, Сербіі, Малдавіі, Валахіі, Далмацыі і Краатыі (Харватыі). Члены гэтага таварыства былі прыхільнікамі народных рэвалюцый. Пазней яны прынялі праграму Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў і зліліся з ім. Г. вёў агітацыю сярод салдат і афіцэраў, быў прыхільнікам фізічнага знішчэння царскай сям'і. 20.1.1826 ён арыштаваны і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Асуджаны да катаржных работ навечна, спачатку трымалі яго ў Чыцінскім астрозе, потым пераведзены на Пятроўскі завод. У 1832 тэрмін асуджэння скарочаны да 15, пазней да 13 гадоў. Пасля адбыцця пакарання ў 1839 пакінуты на пасяленне пры Пятроўскім заводзе. У 1863 яму было дазволена жыць у Пецярбургу пад тайным наглядам, але Г. не выкарыстаў гэтай магчымасці. Апошні час ён выконваў абавязкі міравога пасрэдніка Пятроўскай горнай акругі. У ссылцы належаў да найбольш дэмакратычнай групы дзекабрыстаў. Выказваўся за падтрымку «Полярной звезды» і «Колокола» А.І.Герцэна. Выступаў з крытыкай рэформы 1861, за больш радыкальнае вырашэнне аграрнага пытання. Памёр і пахаваны ў Пятроўскім заводзе. Аўтар мемуараў «Запіскі. Пісьмы» (М., 1963).

## ГАРБАЧЭЎСКІ Мікіта Іванавіч (1804—7.6.1879)

Вучоны-архівіст, педагог. Нарадзіўся на Магілёўшчыне ў сям'і святара. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1831). З 1831 выкладаў гісторыю, рускую славеснасць і старажытныя мовы ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі, з 1840 у Драгічынскім дваранскім вучылішчы, з 1852 у Віленскай гімназіі. У 1858 пачаў працаваць архіварыусам Віленскага цэнтральнага архіва старажытных грамат, з 1864 член Віленскай археаграфічнай камісіі. Упарадкаваў і сістэматызаваў дакументы па гісторыі Беларусі і Літвы, складаў паказальнікі, слоўнік старажытнай актавай мовы. Пад яго кіраўніцтвам у 1872 выдадзены каталог актавых кніг. Аўтар прац па археаграфіі.

*Тв.*: Краткие таблицы, необходимые для истории, хронологии, вообще для всякого рода археологических исследований... Вильна, 1867; Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской... Вильна, 1872; Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874.

## ГАЎРЫЛЕНКА Максім (Максімільян; каля 1797—пасля 1862)

Удзельнік вызваленчага руху 1830-х гадоў на Беларусі і ў Польшчы. Нарадзіўся ў в. Глушынцы Мінскага пав. (цяпер Дзяржынскі р-н) у сям'і прыгоннага селяніна памешчыка Ваньковіча. У 1824 здадзены ў рэкруты. Знаходзячыся на службе ў царскай арміі, у час паўстання 1831—32 перайшоў на бок паўстанцаў, удзельнічаў у іх дзеяннях у раёне Белавежскай пушчы. Пасля паражэння паўстання з корпусам ген. Рамарына перайшоў у Галіцыю (у той час Аўстрыйская імперыя). Вясной 1833 удзельнічаў у партызанскай экспедыцыі Ю.Заліўскага з Галіцыі ў Каралеўства Польскае, вылучаўся ўмельствам даходліва гутарыць з сялянамі. Схоплены на Люблiншчыне. У паказаннях заявіў, што паўстанцы змагаліся, «каб не было паноў, каб селянін меў свой грунт і нікому за яго не плаціў». Паводле прысуду ваеннага суда ў Варшаве жорстка пакараны шпіцрутэнамі (тройчы прапушчаны праз строй 500 салдат) і сасланы на катаргу ў Сібір. Адбываў пакаранне ў Нерчынскай акрузе, у 1856 знаходзіўся ў Шылцы (цяпер горад у Чыцінскай вобл.). У 1859 вярнуўся ў родную вёску, дзе над ім устаноўлены паліцэйскі нагляд. У 1860 прыпісаны да мінскіх мяшчан, але жыў па-ранейшаму ў Глушынцах, займаўся падзённымі заробкамі.

*Літ.*: Limanowski B. Szermierze wolności. Kraków, 1911; Zalewski L. Z dziejów partyzantki r. 1833 w województwie Lubelskiem. Lublin, 1934; Społeczeństwo polskie i próby wznowienia walki zbrojnej w 1833 r. Wrocław etc., 1984. *Г.В.Кісялёў.*

## ГАЎСМАН Міхаіл Антонавіч (1817—89)

Беларускі гісторык, краязнавец. Скончыў Мазырскую гімназію ў 1834. У 1841—63 працаваў у канцылярыі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу. У 1863 за ўдзел у рэвалюцыйнай

арганізацыі высланы ў Вільню, потым у Валагодскую губ. Паводле царскага маніфеста ў 1867 яму дазволілі жыць у Варшаве. Калекцыяніраваў прадметы старажытнасці, археалагічных раскопак, манеты, пячаткі, медалі, матэрыялы побыту беларусаў. У 1889 у Мінску арганізаваў выстаўку археалагічных матэрыялаў, знойдзеных на Беларусі. У «Минских губернских ведомостях» у 1877—78 надрукаваў гісторыка-краязнаўчыя нарысы пра Тураў, Навагрудак, Заслаўе, Узду, Слуцк, Мар'іну Горку. *А.Ю.Лозка.*

## ГАХОВІЧ Сямён Сафронавіч [2(14).2.1856—?]

Рэвалюцыянер-народнік. Нарадзіўся ў в. Паручына Навагрудскага павета ў сям'і святара. У час вучобы ў Мінскай духоўнай семінарыі пазнаёміўся з народніцкімі ідэямі і ўвайшоў у нелегальны гурток. Ва ўспамінах А.Я.*Багдановіча* ён названы ў ліку «піянераў сацыялістычнай прапаганды» ў Мінску. Пасля заканчэння семінарыі (1878) паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. У народніцкім гуртку быў прыхільнікам палітычнай барацьбы. Летам 1879 набыў вялікую колькасць забароненай літаратуры (брашуры «Казка пра капейку», «Нарысы фабрычнага жыцця», газеты «Вперёд!», «Листок Земли и воли») і прывёз яе ў Мінск з намерам распаўсюдзіць у народніцкім гуртку, што дзейнічаў у духоўнай семінарыі. Аднак кіраўнікі гуртка, верныя прапагандысцкаму кірунку ў народніцтве, адмовіліся ад яе, бо яна не адпавядала іх поглядам. Г. пачаў ствараць сярод семінарыстаў новы гурток, але ён быў разгромлены жандарамі. Г. ўдалося схавацца, а потым уцячы за мяжу. Жыў у Баварыі, Швейцарыі. У 1881 атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, са студзеня 1882 жыў у в. Паручына ў бацькі пад тайным наглядам паліцыі. Па ініцыятыве мясцовага духавенства супраць яго было ўзбуджана новае дазнанне (спынена з-за адсутнасці доказаў). Восенню 1883 прыняты ў Казанскі універсітэт. У 1890 вызвалены з-пад нагляду. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.*: Титлинов Б.В. Молодёжь и революция: Из истории рев. движения среди учащейся молодёжи духовных сред. учеб. заведений, 1860—1905 гг. 2 изд. Л., 1925; Вітkоўскі Я. Рэвалюцыйныя гурткі 70 гг. на Беларусі // Полымя. 1929. № 4; Самбук С.М. Революционные народники Белоруссии (70-е—начало 80-х годов XIX в.). Мн., 1972; Лосинский Н.Б. Революционно-народническое движение в Белоруссии, 1870—1884 гг. Мн., 1983.

*М.Б.Ласінскі.*

## ГАШКЕВІЧ Іосіф Антонавіч (1814—5.10.1872)



Дыпламат, вучоны-мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст, арыенталіст. Нарадзіўся ў Мінскім пав. ў сям'і свяшчэнніка. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, Пецярбургскую духоўную акадэмію (1839). У 1839—49 у складзе Рускай духоўнай місіі ў Пекіне. Даследаваў культуру Кітая, вывучаў кітайскую, карэйскую і японскую мовы. Адначасова займаўся пытаннямі астраноміі і метэаралогіі, сабраў калекцыю насякомых. У якасці драгамана (перакладчыка) суправаджаў на фрэгаце «Палада» дыпламатычную місію Я.В.Пуцяціна ў Японію (1852—55). З яго ўдзелам заключаны руска-японскі дагавор 1855. Па дарозе з Японіі захоплены ў палон англічанамі (з прычыны Крымскай вайны 1853—56), знаходзіўся ў Ганконгу, потым у Англіі. У 1856 вярнуўся ў Расію. У 1858—65 першы расійскі консул у Японіі (на Хакадатэ), адначасова выкладаў у Хакадацкай рускамоўнай школе. Адзін з першых іншаземцаў, якому дазволілі наведаць унутраную Японію, у т.л. двор сёгуна (правіцеля Японіі) у Эда (цяпер Токіо). У 1865 з сям'ёй вярнуўся на радзіму. У 1867

выйшаў у адстаўку і жыў у маёнтку Малі (цяпер Астравецкі р-н), дзе працягваў займацца ўсходняй філалогіяй.

Шматлікія калекцыі флоры і фауны Паўднёвай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, сабраныя ў час падарожжаў, Г. перадаў Заалагічнаму музею АН у Пецярбургу. Выдадзены ім першы ў Расіі «Японска-рускі слоўнік» (1857, разам з Тацібана Каосай) адзначаны медалём Пецярбургскай АН і Дзямідаўскай прэміяй. Яго імем названы апісаныя ім невядомыя раней віды насякомых, заліў у Паўночнай Карэі (пакарэйску Чосанман).

*Тв.:* О корнях японского языка. Вильна, 1899.

*Літ.:* Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968; Яго ж. Аўтар першага японска-рускага слоўніка // Беларусь. 1969. № 9; Яго ж. Беловолосый консул // Неман. 1973. № 1. Яго ж. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986; Гузанов В. Одиссей с Белой Руси. Мн., 1969; Файнберг Э.Я. И.А.Гошкевич — первый русский консул в Японии (1858—1865 гг.) // Историко-филологические исследования. М., 1967.

*А.П.Грыцкевіч.*

## ГЕЛЬТМАН (Heltman) Віктар (23.12.1796—16.7.1874)

Рэвалюцыянер, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Вярховічы Брэсцкага павета Слонімскай губ. (цяпер Камянецкі р-н). Скончыў Свіслацкую гімназію. У 1819 заснаваў у Варшаве рэвалюцыйную студэнцкую арганізацыю «Саюз вольных палякаў», рэдактар яе органа «Dekada Polska» («Польская дэкада»). З удзелам Г. і яго брата Іосіфа ў 1819 створана тайная патрыятычная арганізацыя ў Свіслацкай гімназіі Гродзенскай губ. Удзельнік паўстання 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве, падрыхтоўкі кракаўскага паўстання 1846, рэвалюцыйных падзей у Галіцыі 1848, кіраўнік абароны Дрэздэна ў час рэвалюцыі 1848—49 у Германіі. Адзін з аўтараў маніфеста польскага дэмакратычнага таварыства. Лічыў за неабходнае аб'яднаць барацьбу за незалежнасць Польшчы з барацьбой за ліквідацыю феадальна-прыгонніцкіх адносін рэвалюцыйным шляхам. Памёр у эміграцыі ў Бруселі.

## ГЕРБЕРСКІ Вікенцій (Уладзіслаў) Данілавіч [1784(?)—29.11.1826]

Медык, член шматлікіх вучоных таварыстваў. Пачатковую адукацыю атрымаў у Слонімскай школе. Скончыў Віленскую гімназію і Віленскі універсітэт. У 1804 накіраваны Віленскім універсітэтам у англійскую калонію пад Пецярбургам для практычнага вывучэння сельскай гаспадаркі і ў Пецярбургскі універсітэт для слухання лекцый па фізіцы, хіміі і сельскай гаспадарцы. Вярнуўшыся ў Вільню ў 1806, вывучаў медыцыну. Атрымаў ступень кандыдата філасофіі (1808), магістра медыцыны (1811), доктара медыцыны (1812). З 1813 па 1824 ад'юнкт медыцынскай клінікі і памочнік прафесара Франка. У 1817—23 вывучаў за мяжой афтальмалогію. Пасля вяртання на



*Японія. Фудзіяма.*

радзіму (1823) выкладаў у Віленскім універсітэце тэорыю і клініку. З 1824 экстраардынарны, а потым ардынарны прафесар на кафедры прыватнай тэрапіі і паталогіі і дырэктар клінікі па ўнутраных хваробах. Лячыў і многія захворванні вачэй. Аўтар артыкулаў (у рукапісах) «Аб шпіталях», «Навука аб хваробах вачэй» і інш.

## ГІНДЭНБУРГ Вільгельм Данілавіч [1799—18.2(2.3).1877]

Урач, гуманіст, грамадскі дзеяч. У 1821 скончыў медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта. У 1821—25 урач Мінскай губ. З 1825 павятовы ўрач у г. Ельня Смаленскай губ., дзе адным з яго пацыентаў быў кампазітар М.І.Глінка. З 1833 жыў і працаваў у Мінску; больш за 30 гадоў займаў пасаду акушэра губернскай урачэбнай управы, з 1840 адначасова ўрач мінскай турмы. Адзін з заснавальнікаў Мінскага таварыства ўрачоў, з 1875 яго прэзідэнт. Быў членам Віленскага медыцынскага таварыства. Аўтар артыкулаў, апублікаваных у выданнях таварыства. Выступаў за адкрыццё пры Мінскім таварыстве бясплатнай лячэбніцы. Браў удзел у дзейнасці дабрачынных арганізацый Мінска, ахвяраваў грошы немаёмным хворым, беднякоў лячыў бясплатна. У 1871 грамадскасць Мінска ўрачыста адзначыла 50-годдзе яго медыцынскай практыкі. Памёр у беднасці, быў пахаваны на сродкі, сабраныя ўдзячнымі пацыентамі. На смерць Г. адгукнуўся Ф.М.Дастаеўскі. У Мінскай гімназіі была ўстаноўлена стыпендыя імя Г.

*Літ.:* Дитлов А. Врач из города М. // Неман. 1973. № 1.

*Ф.І.Ігнатовіч.*

## ГІНТАЎТ-ДЗЕВАЛТОЎСКІ Уладзіслаў Люцыян Францавіч (1857—1925)

Дзеяч народніцкага руху. Нарадзіўся ў Дзісенскім павеце Віцебскай губ. У час вучобы ў Віцебскай гімназіі ўдзельнічаў у рабоце вучнёўскага нелегальнага гуртка, за што ў 1877 выключаны з гімназіі. З канца 1878 член аднаго з маскоўскіх гурткоў «Зямлі і волі». У сакавіку 1879 арыштаваны па падазрэнні ў замаху на правакатара Н.Рэнштэйна. У час следства эміграваў за мяжу. У 1880 у Парыжы, прымаў удзел у дзейнасці руска-беларускай і польскай рэвалюцыйнай эміграцыі, быў загадчыкам эмігранцкай бібліятэкі, падтрымліваў цесныя сувязі з радзімай. Яго першыя крокі ў літаратуры падтрымаў І.С.Тургенеў, дапамог змясціць у газеце «Порядок» апавяданне «Пяцьдзесят дзве гадзіны на абломку ў адкрытым моры». У снежні 1881 Г.-Дз. арыштаваны ў Харкаве, але Маскоўскі акруговы суд яго апраўдаў. Пазней абвінавачаны ў палітычнай нядобранадзейнасці і ў чэрвені 1883 высланы на 3 гады ў Заходнюю Сібір, дзе і памёр.

*Літ.:* Деятели революционного движения в России: Биобиблиогр. словарь. Т. 3, вып. 2. М., 1934; Снытко Т.Г. Русское народничество и польское общественное движение, 1865—1881 гг. М., 1969; Троицкий Н.А. Безумство храбрых: Рус. революционеры и карательная политика царизма, 1866—1882 гг. М., 1978.

*В.М.Чараліца.*

## ГІРГАС Уладзімір Фёдаравіч (1835—87)

Мовазнавец-арабіст, педагог. Нарадзіўся ў Гродне. Скончыў усходні факультэт Пецярбургскага універсітэта (1858). Два гады вывучаў арабскую мову ў Парыжы. У 1861—64 вывучаў мову, літаратуру і культуру арабаў у Сірыі і Егіпце, яго «Справаздача» (1864, у рукапісе) пра паездку — адна з першых прац па арабскай дыялекталогіі ў Расіі. Пасля вяртання ў Расію Г. з 1865 дацэнт, а ў 1873—86 экстраардынарны, ардынарны прафесар арабскай мовы і літаратуры ў Пецярбургскім універсітэце. Галоўныя працы Г.: «Нарыс граматычнай сістэмы арабаў» (1873), «Нарыс арабскай літаратуры» (1875), «Арабская хрэстаматыя» (вып. 1—2, 1875—76, разам з В.Р.Разенам), «Слоўнік да «Арабскай хрэстаматыі» і «Карана» (1881). Падрыхтаваў да выдання гістарычныя працы арабскага гісторыка і філолага Абу Ханіфы ад-Дынаверы (Спб., 1888). Памёр і пахаваны ў Кіеве.

*Літ.:* Крачковский И.Ю. В.Ф.Гиргас: (К 40-летию со дня его смерти) // Зап. Коллегии востоковедов. 1928. Т. 3, вып. 1.

## **ГЛІНСКІ** Антон Юзаф (1817—30.6.1866)

Пісьменнік. Нарадзіўся ў маёнтку Шчорсы каля Навагрудка. Працаваў у бібліятэцы Храптовічаў. З 1844 жыў у Вільні, дзе рэдагаваў «Виленские губернские ведомости». З 1863 перакладчык у газеце «Виленский вестник». Быў знаёмы з У.*Сыракомлем*, В.*Каратынскім*, А.*Кіркорам* і іншымі даследчыкамі беларускага фальклору. Аўтар «Польскага казачніка» (т. 1—4, 1853) — зборніка апрацаваных беларускіх народных казак, анекдотаў, апавяданняў з ваколіц Навагрудка (Шчорсы, Нягневічы). Сярод іх казачныя сюжэты, запісы якіх вельмі рэдкія: «Дзяўчынка-кветка», «Прададзены чорту становіцца святарамі», «Маці мяне забіла, бацька мяне з'еў» і інш. У зборнік уключаны таксама пераробкі вядомых вершаваных казак В.А.Жукоўскага і А.С.Пушкіна. На сюжэт казкі пра папараць-кветку з яго зборніка Ф.*Багушэвіч* напісаў верш «Хцівец і скарб на святога Яна» (1887). Зборнік Г. перакладзены на чэшскую, французскую (1864), англійскую (1874) і нямецкую (1878) мовы, на польскай мове перавыдаваўся 11 разоў.

*Літ.:* Krzyzanowski J. Paralele. Warszawa, 1977.

## **ГЛУШНЕВІЧ** (Hłuszniewicz) Міхаіл Восіпавіч (1797—9.7.1862)

Астраном. Нарадзіўся ў Мінску. Навучаўся ў Мінскай гімназіі і Віленскім універсітэце. Магістр філасофіі (1819). Працаваў памочнікам дырэктара Віленскай астранамічнай абсерваторыі. Удзельнічаў ва ўсіх астранамічных і метэаралагічных даследаваннях і назіраннях, што праводзіліся ў абсерваторыі. У 1826 Г. разам з дырэктарам П.*Славінскім* ажыццявілі астранамічныя назіранні для Літоўскага градуснага вымярэння, якое пазней увайшло ў склад вымярэння 25-градуснай дугі мерыдыяна ад Ледавітага акіяна да Дуная. Гэтыя і зробленыя пазней астранамічныя назіранні і вымярэнні Г. былі станоўча ацэнены вядомым рускім астраномам В.Я.Струве. У 1843 Г. прызначаны в.а. дырэктара Віленскай абсерваторыі, дзе ён працягваў апрацоўку назіранняў папярэдніх гадоў і на асабістыя сродкі друкаваў іх вынікі (пераважна на нямецкай мове). У 1848 пайшоў у адстаўку ў чыне тытулярнага саветніка. Памёр у Вільні.

## **ГОЛЬЦ-МІЛЕР** Іван Іванавіч (9.12.1842—17.8.1871)

Рускі паэт і тэатральны рэцэнзент, удзельнік рэвалюцыйнага руху 1860-х гадоў. Нарадзіўся ў сям'і чыноўніка ў г. Іванішкелі (Літва). Потым сям'я пераехала ў Мінск. Ліберальна настроены бацька садзейнічаў выхаванню ў сына цягі да перадавых ідэй эпохі. Скончыў Мінскую гімназію. У 1860 паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйным гуртку П.Р.Заічнеўскага, быў членам цэнтральнага рэвалюцыйнага камітэта, ад імя якога была надрукавана пракламацыя «Маладая Расія», што заклікала да звяржэння манархіі, знішчэння сям'і Раманавых. У ёй адзначалася, што рэвалюцыю павінны здзейсніць інтэлігенцыя і войска. Новая дзяржаўная пабудова меркавалася як федэратыўная рэспубліка — саюз абласцей, што складаліся б з земляробскіх самакіроўчых абшчын. Абвяшчалася права ўсіх народаў на самавызначэнне і незалежнасць Польшчы ад Расіі. 26.8.1861 арыштаваны як удзельнік гуртка. Умела адмаўляў свой удзел у рэвалюцыйнай рабоце і пасля 2 гадоў знаходжання ў турме быў асуджаны да 3-месячнага зняволення ва ўціхамірвальным доме. У ліпені 1863 вярнуўся да бацькі ў Мінск, адкуль быў высланы пад нагляд паліцыі ў г. Корсунь Самарскай губ. У 1865 па хадайніцтве бацькі залічаны ў Адэскі універсітэт, але ў 1866 выключаны і высланы з Адэсы. Праследаванне паліцыі, хвароба і нястача падштурхнулі Г.-М. да спробы самагубства. Памёр ад сухотаў на 29-м годзе жыцця.

Г.-М. друкаваўся ў «Современнике» (1863—65), «Отечественных записках» (1868—69), а таксама ў часопісах «Русское слово», «Вестник Европы», «Модный магазин». М.А.Някрасаў спрабаваў выдаць яго вершы, але сустрэў рашучае процідзеянне цэнзуры (выдадзены толькі ў 1930). У вершах Г.-М. гучаў голас разначынца-рэвалюцыянера, мо-

ладзь спявала яго песню «Слу-хай». У сваёй лірыцы Г.-М. прытрымліваўся лепшых узораў рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі Някрасава і паэтаў яго школы, некаторыя вершы напісаны пад прамым уздзеяннем традыцый Някрасава. Уся лірыка Г.-М. дэмакратычная і рэвалюцыйная. Паэт услаўляў розум, апяваў сурова-мужны патрыятызм, клікаў моладзь да рашучай барацьбы: «Труд, борьба — это наше призванье, и мы сильны для будущих битв» (верш «Бацькам»). Як перакладчык Г.-М. цікавіўся творамі з рэвалюцыйнымі матывамі. Пераклады з Гейнэ, Барб'е, Байрана і інш. друкаваў з 1863.

*Літ.*: Козьмин Б., Лелевич Г. Поэт-революционер И.И.Гольц-Миллер. М., 1930. *Г.А.Маслыка.*

## ГОРСКІ Канстанцін Антоній (13.6.1859—31.5.1924)

Музыкант, кампазітар, педагог. Нарадзіўся ў г. Ліда. Яго брат Ян быў віяланчэлістам, сястра Ядвіга — піяністкай. Вучыўся ў музычным інстытуце ў Варшаве, потым удасканальваў ігру на скрыпцы ў Пецярбургу. Кампазіцыі вучыўся ў М.А.Рымскага-Корсакава. Пецярбургскую кансерваторыю скончыў у 1881 з сярэбраным медалём. У 1885—87 выкладаў ігру на скрыпцы ў Пензе, Саратаве, Тыфлісе, Харкаве, выступаў таксама як саліст і дырыжор. У Тыфлісе быў пэўны час дырэктарам музычнай школы і мясцовай оперы. Там пазнаёміўся і блізка сышоўся з П.І.Чайкоўскім. У 1919 пераехаў у Варшаву, дзе перабіваўся часовымі заробкамі (іграў на скрыпцы ў кінатэатрах). У 1922 атрымаў месца канцэртмайстра ў Пазнанскай оперы. Памёр у Познані.

Аўтар 5 скрыпічных канцэртаў, мазуркі, паланеза, 12 песень на словы М.Канапніцкай, У.*Сыракомлі* і Дубіцкага (выд. ў 1914), фантазіі для аргана, літургічных песень, сімфанічных паэм «На Алімпе» (пад уплывам творчасці Г.Сянькевіча), «Зачараванае кола», оперы «За хлебам» (на тэмы Сянькевіча) і інш.

## ГОРСКІ Станіслаў (6.5.1802—3.5.1864)

Прыродазнавец, медык, педагог. Нарадзіўся ў в. Дворац Кобрынскага павета. Сярэднюю адукацыю атрымаў у навучальных установах Гродна і Свіслачы (1814—20). У Віленскім універсітэце напачатку вывучаў прыродазнаўчыя навукі (вучань С.Б.*Юндзіла*), потым медыцыну (1820—25) са спецыялізацыяй у фармацыі і фармакалогіі. Пасля заканчэння універсітэта атрымаў дыплом лекара І ступені. З 1830 кіраўнік батанічнага саду пры Віленскім універсітэце. Пасля закрыцця універсітэта (1831) выкладаў батаніку, фармацыю і фармакалогію ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1840 напярэдадні закрыцця акадэміі выехаў за мяжу, дзе паглыблена вывучаў батаніку і энтамалогію. Пасля вяртання на радзіму ў 1842 пэўны час працаваў у Паставах у арнітолага К.*Тызенгаўза*. З 1847 зноў за мяжой, працаваў у музеях і бібліятэках Берліна. З 1851 жыў у маёнтку А.Кубліцкага ў Свянцянскім павеце, дзе займаўся батанікай і энтамалогіяй, бясплатна лячыў мясцовых жыхароў. Па падазрэнні ў спачуванні нацыянальна-вызваленчаму руху ў 1863 высланы ў Сібір. У ссылцы скончыў жыццё самагубствам.

Г. вывучаў мясцовую флору і энтамалогію. Адзін з першых апісаў расліннасць Белавежскай пушчы ў 1826. Яго асабліва цікавіла, чым корміцца зубр. Гэтыя матэрыялы выкарыстаў у 1830 Э.Эйхвальд у працах па гісторыі прыроды Літвы, Валыні і Падолля. Асноўным яго клопатам было падтрыманне ў добрым стане і развіццё батанічнага саду ў Вільні. У сваіх публікацыях Г. апісваў многія батанічныя сады Заходняй Еўропы. Ён выступаў за цесныя сувязі з заходнееўрапейскай навукай, забяспечваў гербарыямі і ўзорамі расліннасці Беларусі і Літвы вучоных-прыродазнаўцаў Вены, Неапаля, Палерма, Жэневы, Падуі, Фларэнцыі; падрыхтаваў для дрэздэнскага прафесара Л.Рэйхенвальда ўзоры флоры для яго працы «Германскі гербарый», перадаў гербарыі тутэйшай расліннасці музеям Берліна і Парыжа. Аўтар некалькіх дзесяткаў публікацый па батаніцы і энтамалогіі. Многія адкрытыя ім новыя віды раслін названы яго імем (напр. Copaifera Gorskiana і інш.).

## **ГОФМАН** Пётр Іванавіч (1794—?)

Рэвалюцыянер-дзекабрыст. Паходзіў з дваран Гродзенскай губ. Бацька — суддзя Гродзенскага суда. У 1806—16 выхоўваўся ў павятовым вучылішчы мяст. Шчучын Лідскага павета. У 1817 паступіў у Віленскі універсітэт; у 1819 залічаны юнкерам у Нясвіжскі карабінерны полк, дзе даслужыўся да падпаручніка (1824). Уступіў у тайнае Таварыства ваенных сяброў, створанае М.І.*Рукевічам*, К.Г.Ігельстромам, А.І.Вегеліным. Таварыства ставіла мэтай барацьбу «за вольнасць» і «ўсеагульны дабрабыт», паводле палітычнай ідэалогіі было блізкае да Паўночнага таварыства дзекабрыстаў. 22.3.1826 Г. арыштаваны і знаходзіўся ў Беластоку пад следствам па справе аб выступленні Літоўскага піянернага батальёна. Ваенным судом асуджаны да пакарання смерцю, але па найвышэйшай канфірмацыі пазбаўлены чыноў і дваранства, пасля 6-месячнага зняволення ў Бабруйскай крэпасці накіраваны на службу ў Грузію. Далейшы лёс невядомы.

## **ГРАБНІЦКІ** (Дактаровіч) Адам Станіслававіч [25.12.1857(6.1.1858)—13.10.1941]

Памолаг (вучоны ў галіне садоўніцтва). Нарадзіўся ў маёнтку Цётшы Лепельскага пав. Віцебскай губ. У 1883 скончыў Лясны інстытут у Пецярбургу, у якім з 1883 па 1922 выкладаў садоўніцтва і агародніцтва, прафесар. У 1890—1904 каля мяст. Дукшты (цяпер Дукштас, Літва) заснаваў памалагічны сад, які назваў Раем. У ім было 1197 сартоў пладовых дрэў. Збіраў пладовыя дрэвы, даследаваў іх плоданашэнне, марозаўстойлівасць, урадлівасць. У 1903—06 рэдагаваў дапаможнік па памалогіі «Атлас пладоў» (в. 1—4), у якім апісаў пладовыя дрэвы, пашыраныя ў Расіі, у т.л. на Беларусі і ў Літве. Вылучаў новыя віды народнай селекцыі. Асноўныя працы прысвечаны сортавылучэнню і апыленню пладовых культур. Удзельнічаў у стварэнні Поўнай энцыклапедыі рускай сельскай гаспадаркі. У мястэчку Дукштас Г. пастаўлены помнік.

*Тв.*: Плоды-великаны и их выращивание. П., 1915; Уход за плодовым садом. 7 изд. М.; Л., 1931.

## **ГРУМ-ГРЖЫМАЙЛА** Кандрат Іванавіч (21.9.1794—1874)

Беларускі ўрач і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Магілёве. У 1820 скончыў медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта. З 1823 доктар медыцынскіх навук. У 1821—28 працаваў у ваенным шпіталі ў Магілёве, дзе напісаў дысертацыю «Наогул пра пахвінныя грыжы і новы спосаб іх лячэння шляхам аперацыі». У 1833—68 у Пецярбургу выдаваў медыцынскую газету «Друг здравия», якая адыграла пэўную ролю ў развіцці айчыннай навукі і папулярызацыі медыцынскіх ведаў. Аўтар прац па фізіялогіі і паталогіі дзіцячага арганізма, гігіене, дыетэтыцы і курарталогіі.

*Тв.*: Монография о радикальном лечении пахомошоночных грыж... Спб., 1837; Физиология поэзии и счастья. Спб., 1865.

*Літ.*: Стельмашонок И.М. Кондратий Иванович Грум-Гржимайло // Здравоохранение Белоруссии. 1969. № 10.

## **ГРЫГАРОВІЧ** Іван Іванавіч (26.8.1792—13.11.1852)

Беларускі гісторык, археограф і мовазнавец. Нарадзіўся ў г. Прапойску (цяпер Слаўгарад) Магілёўскай губ. ў сям'і праваслаўнага святара. Яго бацька выкладаў рыторыку ў Магілёўскай семінарыі, потым быў святаром у Рагачове, Прапойску, Гомелі. Маці — пляменніца беларускага архіепіскапа Г.*Каніскага*. Пачатковую адукацыю атрымаў ад бацькі, які асаблівую ўвагу звяртаў на грунтоўнае засваенне грэчаскай і лацінскай моў. У 1802 Г. паступіў у Магілёўскую духоўную семінарыю. Скончыўшы семінарыю ў 1811, працаваў выкладчыкам у Магілёўскім павятовым духоўным вучылішчы (да 1815). На здольнага да навукі юнака звярнуў увагу вядомы збіральнік старадрукаў і мецэнат навукі граф М.П.*Румянцаў* і на свой кошт паслаў Г. для далейшай адукацыі ў Пецярбург. З 1815 Г. — студэнт Пецярбургскай духоўнай акадэміі, дзе найлепшым чынам асвоіў гісторыю і філалогію. У час навучання выконваў даручэнні свайго

апекуна: адшукваў у бібліятэках і архівах рэдкія творы і прапаноўваў іх на выданне ці перавыданне, збіраў патрэбныя для яго звесткі ў рукапісах, перакладаў з лацінскай і польскай моў архіўныя дакументы і лісты. Яго кандыдацкай дысертацыяй стала даследаванне пра наўгародскіх пасаднікаў. Напісаў таксама гістарычныя даведкі пра Васіля Яраслвіча, князя Бароўскага, св. Дзмітрыя Салунскага, пра Ноўгарад-Северскі Праабражэнскі манастыр і інш. Закончыўшы ў 1819 акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя, Г. вярнуўся ў Гомель і заняў месца бацькі — протаіерэя гомельскага кафедральнага сабора. У студзені 1820 ён пасвечаны ў святары, уведзены ў сан протаіерэя гомельскай царквы, адначасова прызначаны рэктарам гомельскіх павятовага і прыходскага вучылішчаў, цэнзарам пропаведзяў Гомельскага духоўнага праўлення. Пры куратарстве Румянцава дысертацыя Г. ў 1821 была надрукавана ў Маскве пад назвай «Гістарычны і храналагічны вопыт аб Пасадніках Наўгародскіх. Са старажытных рускіх летапісаў». У 1824 ён напісаў свой значны гістарычны твор «Беларуская іерархія» і накіраваў яго для ўхвалення ў Сінод, дзе ён праляжаў 170 гадоў (выдадзены ў Мінску ў перакладзе на беларускую мову ў 1992). Г. адшукваў і збіраў таксама дакументы, якія адлюстроўвалі палітычнае і сацыяльна-эканамічнае жыццё Беларусі. З такіх матэрыялаў і склаўся першы ў беларускай навуцы археаграфічны зборнік «Беларускі архіў старажытных грамат» (1824), у прадмове да якога аўтар падкрэсліваў, што гэтыя дакументы «з'яўляюцца крыніцай да гісторыі Беларусі, царкоўнай і грамадзянскай, і ў гэтых адносінах змяшчаюць у сабе шмат вартага і цікавага». У Гомелі Г. зрабіў некалькі навуковых апісанняў рукапісных кніг з бібліятэкі Румянцава: Дабрылава евангелля 1164 г., Кормчай кнігі і служэбніка 14 ст., Лаўрышаўскага евангелля 13 ст. (зараз гэтыя рукапісныя кнігі захоўваюцца ў Расійскай бібліятэцы ў Маскве).

У 1829 Г. пераведзены ў Віцебск, дзе прызначаны рэктарам павятовага і прыходскага вучылішчаў, цэнзарам казанняў, настаўнікам гімназіі. Тут ім зроблена першая спроба навуковага апісання Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку («Весткі пра старажытны храм Хрыста Збавіцеля, пабудаваны ў 12 ст. прападобнай Ефрасінняй паблізу Полацка»).

З 1831 жыў і працаваў у Пецярбургу. Тут ён прадоўжыў працу над 2-й часткай «Беларускага архіва старажытных грамат», у 1834 выдаў кнігу «Перапіска пап з расійскімі гасударамі...», у якой сабраны дакументы знешнепалітычнага характару. Ён падрыхтаваў, напісаў прадмову і выдаў у 1835 творы беларускага архіепіскапа Каніскага, заўважаныя А.С.Пушкіным: «...І.Грыгаровіч, выдаўшы сачыненне вялікага архіепіскапа Беларусі, зрабіў грамадству важную паслугу». У 1837 Г. прынялі ў члены археаграфічнай камісіі, а ў 1838 прызначылі галоўным рэдактарам актаў камісіі. У выніку яго нястомнай працы выйшлі ў свет 4 тамы «Актаў, якія адносяцца да Заходняй Расіі» (т. 1—5, 1846—53). У 1847 Г. распачаў працу над «Слоўнікам заходнярускіх гаворак». Свой падыход да гэтай грунтоўнай працы ён сфармуляваў наступным чынам: «Складальнік слоўніка, як праўдзівы летапісец, павінен запісаць усе словы, якія ўжывае народ у сваім хатнім побыце, у служэнні і ў сваіх малітвах да Бога і ў сваіх законах. Слоўнік ёсць летапіс мовы, і ў гэты летапіс павінны быць унесены ўсе факты, якія былі і ёсць». На жаль, закончыць працу над слоўнікам Г. не ўдалося. Захаваліся рукапісы на літары А, Б, В. Пра сэнс сваёй навуковай дзейнасці Г. пісаў брату Васілю: «... і наша Беларусь не зусім знікне з твару Зямлі, але хай ведае свет, што былі часы, калі яна была больш слаўная і дабрачынная, чым зараз». Дзеці ж напісалі на яго надмагіллі: «Мне здаецца, што недарэмна пражыў».

Архіў Г. захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь.

*Літ.:* Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 16—40; Гуліцкі М.Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX—пачатак XX ст.). Мн., 1978. С. 27—35; Суднік М. Збіральнік беларускіх старажытнасцяў // Беларусь. 1945. № 11—12.

*І.П.Хаўратовіч.*

## ГРЫНЯВІЦКІ Ігнат Яўхімавіч (1856—1.3.1881)

Рэвалюцыянер-нарадаволец. Нарадзіўся ў маёнтку Басін Бабруйскага павета ў сям'і дробнамаянтковых дваран. Студэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута (1875—80) удзельнічаў у польска-літоўска-беларускіх і рускіх рэвалюцыйных гуртках, вёў прапаганду сярод рабочых, збіраў грошы палітычным вязням, фабрыкаваў пашпарты рэвалюцыянерам. З 1879 член партыі «Народная воля». Адзін з заснавальнікаў беларускай фракцыі, нацыянальная праграма якой надрукавана ў 1884 у часопісе «Гомон» (№ 2). У 1880 з А.І.Жалябавым, С.Л.Пяроўскай і інш. ўвайшоў у цэнтральны нарадавольскі гурток прапагандыстаў. Адзін са стваральнікаў, аўтараў і наборшчыкаў нарадавольскай «Рабочей газеты», уключыў у выданне газеты земляка А.С.Барэйшу. Уваходзіў у групу, якая ўсю зіму 1880—81 сачыла за выездамі цара. 26.2.1881 на кватэры Г. адбыўся сход арганізатараў замаху на Аляксандра II. Адзін з 4 выканаўцаў, якім «Народная воля» даручыла тэрарыстычную аперацыю. 1.3.1881 бомбай, якую кінуў Г., забіты цар Аляксандр II, а Г. смяротна паранены.

*Літ.*: Глинский Б.Б. Революционный период русской истории (1861—1881 гг.). Ч. 2. Спб., 1913; Хроника социалистического движения в России, 1878—1887: Официальный отчет. М., 1906. *М.В.Біч.*

## ГУРСКІ (Górski) Валяр'ян (1790—1874)

Педагог, механік. Нарадзіўся ў наваколлі Гродна. Скончыў павятовую школу ў Навагрудку, пасля вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце ў Віленскім універсітэце, дзе ў 1816 абараніў дысертацыю на ступень доктара філасофіі. Для ўдасканалення ведаў за кошт універсітэта накіраваны за мяжу. На працягу 4 гадоў быў у Германіі, Галандыі і Англіі; у Францыі праслухаў курс лекцый у Політэхнічнай школе і на іншых спецыяльных курсах. Пасля вяртання з-за мяжы ў 1821 выкладаў у



*Суд над нарадавольцамі. Ксілаграфія па малюнку Д.Бэра. Канец 19 ст.*

Віленскім універсітэце практычную механіку, а таксама навукі па будаўніцтве дарог, мастоў і каналаў. Сярод яго вучняў быў І.*Дамейка*. Шмат сіл Г. аддаў рабоце кабінета механікі, якім кіраваў да закрыцця універсітэта. У 1821 ён заклаў у Вільні бульвар над ракой Вілейка каля Бекішавай гары. У 1823 па даручэнні ўлад выконваў механічныя і гідралагічныя работы ў Пецярбургу і яго наваколлі. У 1829 збудаваў на рацэ Вілейцы вісячы мост на ланцутах. Пасля закрыцця універсітэта пераехаў у 1832 у Варшаву, дзе атрымаў пасаду ў тэхнічным аддзеле ўрадавай камісіі. Быў членам будаўнічага савета, членам камітэта па пабудове шпіталя, быў рэферэнтам статыстычнай службы. Пасля выслугі пенсіі ў 1850 пакінуў службу і вярнуўся ў Вільню, дзе меў багатую бібліятэку па гісторыі Віленскага універсітэта, якую ў свой час разам з домам атрымаў у спадчыну ад сваяка Палінскага. Шмат працаваў над кнігамі, займаўся бібліяграфіяй. Жыццё не пакінула яму дастаткова вольнага часу для літаратурнай працы, аднак ён змясціў некалькі артыкулаў у віленскіх перыядычных выданнях.

*Літ.*: Bieliński F. Uniwersytet Wileński (1579—1831). Kraków, 1899—1900. T. 3. S. 182—184.

## ГУРЫНОВІЧ Адам Гіляры Калікставіч [13(25).1.1869—23.1(4.2).1894]

Беларускі паэт-дэмакрат, фальклярыст, рэвалюцыянер. Паходзіў са шляхецкага роду татарскага паходжання (герб «Праўдзіц»), вядомага з 15—16 ст. Бацькі, Калікст Іасафатавіч і Элеанора з Сяняўскіх (з гетманскага роду), мелі некалькі дробных фальваркаў. Спачатку сям'я жыла ў Кавалях (цяпер Кавалькі Мядзельскага раёна), пасажным фальварку маці, дзе нарадзіліся Адам і яго старэйшы брат Юзаф. Потым пераехалі ў Крыстынопаль, які быў супольнай уласнасцю Калікста Іасафатавіча і яго брата Абдона. Тут нарадзіліся браты і сёстры Адама. Бацька памёр рана, пакінуўшы маладую ўдаву з шасцю дзецьмі. Вырашана было даць Юзафу вайсковую адукацыю, а Адаму і Яну — практычную (рэальнае вучылішча). Сям'я купіла ў Вільні невялікі дом, з якім і звязана пара духоўнага станаўлення Г. Афіцыйныя поспехі яго ў час вучобы ў Віленскім рэальным вучылішчы (1879—87, уключаючы гадавую спецыялізацыю на механіка-тэхнічным аддзяленні дадатковага класа) былі сярэднія, але ўжо тады ён пачаў цікавіцца беларускім фальклорам, пытаннямі грамадскага жыцця, рабіць літаратурныя спробы. У 1887 Г. паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут і, як і іншыя калегі-разначынцы, упарта пераадольваў матэрыяльныя цяжкасці. Але захварэў на тыф і ў студзені 1888 быў вымушаны часова звольніцца з інстытута і вярнуцца на радзіму. Увосень 1888 зноў паступіў на 1-ы курс. У студэнцкія гады шмат займаўся літаратурай, напісаў свае лепшыя творы. Захапляўся і тэхнічнымі навукамі. Паводле ўспамінаў блізкіх, спецыяльна займаўся паляпшэннем паравозаў і ў гэтым пытанні меў быць, як кажуць, на дарозе да важных і цікавых вынаходак. Адначасова штудзіраваў працы беларускіх фальклярыстаў І.*Насовіча*, П.*Шэйна*, на канікулах папаўняў у ваколіцах Крыстынопаля свае фальклорна-этнаграфічныя зборы. У 1890 ён даслаў узоры сваіх запісаў у Варшаву Я.Карловічу, які быў амаль суседам па Вішневе, і прасіў у яго парады па фальклорна-этнаграфічнай працы. Карловіч у сваю чаргу адаслаў матэрыялы Г. ў Кракаўскую акадэмію навук, дзе яны былі надрукаваны ў 1893 у часопісе «Zbiór wradomości do antropologii krajowej» («Зборнік паведамленняў па айчыннай антрапалогіі») і выдадзены асобна. У той жа час Г. напружана працаваў над пытаннямі грамадскага жыцця, вывучаў перадавую філасофскую літаратуру, у т.л. марксісцкую. Ён прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, у студэнцкім «Гуртку моладзі польска-літоўска-беларускай і маларускай», які ўтварыўся ў 1889 і хутка эвалюцыяніраваў ад зямляцкай арганізацыі культурна-асветнага характару ў бок падпольнай антыўрадавай арганізацыі, цесна звязанай з іншымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі Пецярбурга, сярод якіх былі і групы першых расійскіх марксістаў (у іх складзе блізкія сваякі Ф.*Багушэвіча* муж і жонка Г. і Ю.Ра-

дзевічы). Блізкімі таварышамі Г. па падпольнай рабоце былі Ю.Бурачэўскі, К.Акуліч і І.Непакайчыцкі. Як адзін з кіраўнікоў гуртка ён у лісце да сяброўкі С.Пяткевіч у Цюрых (1892) прасіў арганізаваць дастаўку для гуртка вялікай партыі рэвалюцыйнай літаратуры на беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай мовах, прац Маркса, Энгельса, Пляханава, Ласаля, Лібкнехта. Пісьмо было перахоплена паліцыяй, якая пачала сачыць за членамі гуртка. У 1893 Г. быў арыштаваны ў сваім доме ў Вільні, дзе пры вобыску знайшлі нямала забароненай літаратуры. Яго даставілі спачатку ў Віленскую цытадэль, потым неадкладна адправілі пад вартай у Пецярбург, дзе трымалі ў доме папярэдняга зняволення, а па некаторых звестках у Петрапаўлаўскай крэпасці. У тым жа годзе ён выпушчаны з-за хваробы і высланы пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак Крыстынопаль, дзе неўзабаве памёр ад чорнай воспы.

Як беларускі дзеяч і паэт Г. сфарміраваўся пад уплывам народніцкага «Гомана» і творчасці Ф.Багушэвіча. Пэўны ўплыў на яго мелі таксама традыцыі паўстання 1863, ідэі К.*Каліноўскага* (сярод забраных паліцыяй папер былі нататкі, звязаныя з паўстаннем 1863). Пад уздзеяннем марксісцкай тэорыі ў поглядах Г. знайшлі далейшае развіццё рэвалюцыйна-дэмакратычныя, народніцкія ідэі. У гісторыю роднай літаратуры Г. увайшоў як паэт-рэвалюцыянер, пясняр народнай нядолі, які заклікаў да рашучай барацьбы з панамі і самаўладствам, першы з беларускіх літаратараў звярнуўся да рабочай тэмы. Ён адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай паэзіі. Плённай была таксама спроба пісьменніка ў перакладах з польскіх, рускіх, украінскіх твораў. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы А.Пушкіна, І.Крылова, М.Някрасава, А.Талстога, А.*Міцкевіча*, Э.*Ажэшкі*, Я.Каспровіча, І.Франко. Значная частка творчай спадчыны Г. загінула. Частка рукапісаў і пісьмаў зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь і рукапісным аддзеле бібліятэкі АН Літвы.

*Тв.*: У кн.: Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў. Мн., 1956; Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. 2 выд. Мн., 1988.

*Літ.*: Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 101; Шутовіч Я. Адам Гурыновіч: Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў // Полымя. 1966. № 11; Гілевіч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970. С. 88—89; Семашкевіч Р.М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX—пачатак XX ст.). Мн., 1971; Лойка А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. 2 выд. Ч. 1. Мн., 1989.

*Г.В.Кісялёў.*

# Д



## ДАБРАВОЛЬСКІ Іван Вікенцьевіч (1780—90-я гады—1851)

Скрыпач, дырыжор, кампазітар, фалькларыст, педагог і музычны дзеяч. Выхадзец з Магілёўшчыны. Быў рэгентам хору і капельмайстрам духавой і інструментальнай музыкі магілёўскага епіскапа Анастасія. Каля 1810 разам з капэлай пераехаў у Астрахань, дзе правёў больш за 30 гадоў. З пач. 1840-х гадоў працаваў настаўнікам музыкі ў Гродзенскай гімназіі, узначальваў аматарскі аркестр, які выконваў творы кампазітараў-класікаў. У 1816—18 ён выдаваў «Азиатский музыкальный журнал». Гэта была першая ў Расіі спроба выкарыстання літаграфскага спосабу ў нотадрукаванні, а таксама запісу, публікацыі і апрацоўкі з ужываннем прыёмаў еўрапейскай кампазітарскай тэхнікі музычнага фальклору народаў Сярэдняй Азіі і Каўказа. У часопісе друкаваліся і інструментальныя п'есы для хатняга музіцыравання, у т.л. самога Д. («Паланез» для скрыпкі і інш.).

*Літ.*: Коростин А.Ф. Начало литографии в России, 1816—1818. М., 1943. С. 73—77; Капилов А.Л. Скрипка белорусская. Мн., 1982.

## ДАБРАВОЛЬСКІ Уладзімір Мікалаевіч [30.7(11.8).1856—7.5.1920]

Беларускі і рускі краязнавец, этнограф і фалькларыст. Нарадзіўся ў в.



Красна-Свяцкае Смаленскага пав. ў сям'і дробнага памешчыка. Дзяцінства правёў у вёсцы, сябраваў з сялянскімі дзецьмі, што спрыяла развіццю ў Д. цікавасці да народнага жыцця, назіральнасці. Скончыўшы Смаленскую гімназію, у 1876 паступіў на філалагічны факультэт Маскоўскага універсітэта. Ужо ў студэнцкія гады праяўляў вялікую цікавасць да этнаграфіі, наведваў лекцыі Ф.Буслаева, Ф.Корша, У.Мілера, прымаў актыўны ўдзел у працы этнаграфічнага гуртка. Пасля заканчэння універсітэта (1880) працаваў выкладчыкам літаратуры, логікі і гісторыі ў Смаленскай жаночай гімназіі. Праз 3 гады з-за хваробы выйшаў у адстаўку і, пасяліўшыся ў вёсцы, збіраў і запісваў народныя песні, казкі, легенды, паданні, замовы, прыказкі і прымаўкі, якія пазней увайшлі ў «Смаленскі этнаграфічны зборнік» (ч. 1—4, 1891—1903). Матэрыялы Д. збіраў у асноўным сярод сялян, зусім не карыстаўся апублікаванымі фальклорнымі творамі. Галоўны прынцып, якога ён прытрымліваўся ў сваёй рабоце, — асабісты запіс фальклорных твораў з вуснаў народа з захаваннем асаблівасцей гаворкі. Навуковыя інтарэсы вучонага былі шматграннымі. Ён даследаваў народныя абрады і святы, народны тэатр, вывучаў вераванні народа, збіраў прадметы побыту і інш. Разам з М.Дз.Бэрам ён запісаў больш за 500 мелодый сабраных ім песень (адшуканы 182 запісы; 9 напеваў балад упершыню апублікаваны ў кн. «Балады», кн. 2, 1978). У яго творчай спадчыне артыкулы «Прыказка і загадка» (1898), «Смерць, пахаванне і галашэнні» (1900),«Кросны» (1902), «Адрозненні ў вераваннях і звычаях беларусаў і велікарусаў Смаленскай губерні» (1903), «Юр'еў дзень у Смаленскай губерні» (1908), «Абрады і павер'і, якія датычацца хатніх і палявых работ сялян Смаленскай губерні» (1909), «Смаленскі абласны слоўнік» (1914) і інш., апублікаваныя пераважна ў часопісах «Этнографическое обозрение» і «Живая старина». Прысвяціўшы жыццё навуковай дзейнасці, Д. ўвесь час адчуваў вялікія матэрыяльныя цяжкасці, шукаў работу, якая не перашкаджала б яго збіральніцкай і краязнаўчай дзейнасці. З 1902 служыў інспектарам народных вучылішчаў Разанскай губ., з 1906 — інспектарам народных вучылішчаў у Смаленскай губ. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі выкладаў гісторыю рускага тэатра і этнаграфіі ў Беларускім народным універсітэце (Масква), Віцебскім інстытуце народнай асветы, Смаленскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута. У пачатку мая 1920 па даручэнні Аддзела народнай адукацыі накіраваўся для збірання этнаграфічнага матэрыялу ў вёску. У ноч на 8 мая за 25 вёрст ад Смаленска Д. забіты бандытамі.

*Літ.*: Дмитриев В.В. В.Н.Добровольский: (Краткий биогр. очерк). Смоленск, 1930; Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964.

## **ДАДЭРКА** Якаў Ігнацій (1751—24.12.1829)

Першы мінскі рымска-каталіцкі епіскап. Нарадзіўся на Валыні. Сваё служэнне пачаў у езуітаў, потым доўгі час служыў у Вільні настаўнікам семінарыі, прыходскім святаром, прафесарам права ў акадэміі. З 1792 займаў пасаду епіскапа-суфрагана; 28.4.1798 прызначаны мінскім епіскапам. У 1810 заснаваў у Мінску Таварыства дабрачыннасці, распачаў будаўніцтва дома для бяздомных, сірот, жабракоў і невылечных хворых. У 1812 прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці Полацкай езуіцкай акадэміі. Прыхільнасць Д. на Напалеона І у час Айчыннай вайны 1812, прадузятасць у адносінах да пра-

васлаўнай царквы выклікалі гнеў Аляксандра I, які перадаў Д. на суд мітрапаліта С.І.*Богуш-Сестранцэвіча*. 16.5.1816 Д. быў пазбаўлены пасады і адпраўлены з Мінска на Валынь пад нагляд луцкага біскупа.

## **ДАКУЧАЕЎ** Васіль Васілевіч (1846—1903)



Прыродазнавец, заснавальнік навуковага глебазнаўства, педагог. Нарадзіўся ў в. Мілюкова (цяпер Сычоўскі р-н) на Смаленшчыне. Скончыў аддзяленне прыродазнаўчых навук Пецярбургскага універсітэта (1871). З 1872 хавальнік геалагічнага кабінета універсітэта. У гэтым жа годзе выбраны правадзейным членам Пецярбургскага таварыства даследчыкаў прыроды, у 1873 — мінералагічнага таварыства. З 1874 ён чытаў лекцыі ў Інстытуце цывільных інжынераў. У 1880 як дацэнт, потым (з 1883) прафесар Пецярбургскага універсітэта чытаў курс лекцый па мінералогіі і крышталаграфіі. Вывучаў рыхлыя адклады і будову рачных далін басейна верхняй Волгі, вярхоўяў Дняпра і Заходняй Дзвіны. Вынікі гэтых даследаванняў абагульніў у магістэрскай дысертацыі «Спосабы ўтварэння рачных далін Еўрапейскай Расіі» (1878, Спб), зрабіў выснову пра паслядоўную змену эразійных цыклаў і ўзроставых стадый рэльефу. Манаграфія «Рускі чарназём» (абаронена ў 1883 як доктарская дысертацыя) прынесла Д. сусветную славу і лічыцца асновай генетычнага глебазнаўства. У гэтай працы Д. упершыню вызначыў глебу як асаблівае прыродазнаўча-гістарычнае цела, якое ўтвараецца пры ўзаемадзеянні фактараў глебаўтварэння (мацярынскай пароды, клімату, расліннасці і жывёл, рэльефу і геалагічнага ўзросту краіны), выказаў неабходнасць вывучаць глебы, іх генезіс і ўласцівасці, кіраваць іх урадлівасцю ў непарыўнай сувязі з гэтымі фактарамі, а таксама ўлічваць уплыў на ўрадлівасць глебы гаспадарчай дзейнасці чалавека. У 1882—86 пад яго кіраўніцтвам праведзены даследаванні ў Ніжагародскай губ. для ацэнкі якасці зямельных угоддзяў. У выніку апублікаваны «Матэрыялы да ацэнкі зямель Ніжагародскай губерні» (вып. 1—14, 1884—86), складзены глебавыя і геалагічныя карты. Д. упершыню прапанаваў прыродазнаўча-гістарычны метад банітавання глеб, што мае важнае значэнне і ў сучасных прыёмах якаснай ацэнкі зямель і зямельнага кадастра. У 1886 Д. прапанаваў навуковую класіфікацыю глеб, заснаваную на генетычным прынцыпе. Даследуючы ў 1888—94 глебы, расліннасць і геалагічныя ўмовы ў Палтаўскай губ., Д. зрабіў шэраг важных вывадаў пра заканамернасць генезісу глеб. У 1889 на Сусветнай выстаўцы ў Парыжы яго калекцыя глеб і навуковыя працы адзначаны залатым медалём.

У кнізе «Нашы стэпы раней і цяпер» (1892) Д. прапанаваў план барацьбы з засухамі і комплекс мер уздзеяння на прыроду стэпавай зоны. Ён настойваў на неабходнасці распрацаваць комплекс агранамічных і лесамеліярацыйных мерапрыемстваў, якія б адпавядалі асаблівасцям кожнай зоны. У Новаалександрыйскім інстытуце сельскай гаспадаркі і лесаводства, калі быў дырэктарам, ён заснаваў (1855) першую ў Расіі кафедру глебазнаўства, правёў карэнную рэарганізацыю выкладання і праграмы інстытута, на ўзор якога была рэарганізавана вышэйшая сельскагаспадарчая адукацыя ў Расіі. Яго вучэнне пра шыротныя (гарызантальныя) і вертыкальныя «прыродазнаўча-гістарычныя зоны» стала галоўным зместам навуковай школы ў фізічнай геаграфіі ў Расіі. Д. стварыў вучэнне пра эвалюцыю глеб, разумеючы пад гэтым глебаўтваральныя працэсы «як вечна

зменныя функцыі» прыродных фактараў.

Аблічча Зямлі Д. разглядаў у яго непарыўным развіцці, устанаўліваючы ўнутраныя сувязі паміж асобнымі з'явамі жывой і нежывой прыроды, звязваючы свае даследаванні з патрэбамі сельскай гаспадаркі. Яго ідэі зрабілі ўплыў на развіццё лесазнаўства, меліярацыі, гідрагеалогіі, дынамічнай геалогіі і інш. навук.

*Тв.*: Место и роль современного почвоведения в науке и жизни. Спб., 1899; Учение о зонах природы. М., 1948; Избр. соч. Т. 1—3. М., 1948—49; Соч. Т. 1—9. М.; Л., 1949—61.

*Літ.*: Чеботарева Л.А. В.В.Докучаев // Докучаев В.В. Соч. М., 1961. Т. 9; Соболев С.С. Развитие идей В.В.Докучаева // Там жа; Полынов Б.Б., Крупеников И.А., Крупеников Л.А. В.В.Докучаев: Очерк жизни и творчества. М., 1956; Герасимов И.П. Великий русский ученый В.В.Докучаев: (К 125-летию со дня рождения) // Почвоведение. 1971. № 8. *С.С.Собалеў.*

## ДАЛГОЎ Іван Іванавіч [1857—5(18).10.1911]

Беларускі гісторык, археолаг, краязнавец. Нарадзіўся ў Пецярбургскай губ. Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1880). З 1889 працаваў у Полацкім кадэцкім корпусе. Вывучаў гісторыю Полацка са старажытных часоў, даследаваў археалагічныя помнікі Полаччыны і склаў іх рэестр. Напісаў гісторыю кадэцкага корпуса (1835—90-я гады) і стаў адным з арганізатараў музея ў ім. Абраны правадзейным членам Віцебскай архіўнай камісіі, удзельнік 9-га археалагічнага з'езда (1893).

*Тв.*: Прошлое и настоящее Белоруссии // Витебские губернские ведомости. 1897. № 19; Наш край // Там жа. 1898. № 113—114; Полоцкий кадетский корпус. Витебск, 1899.

*Літ.*: Викентьев В. Памяти И.И.Долгова // Витебские губернские ведомости. 1911. № 229; Леонардов Д. Памяти действительного члена Витебской ученой архивной комиссии И.И.Долгова // Полоцко-Витебская старина. Кн. 1, ч. 2. Витебск, 1911. *Г.А.Каханоўскі.*

## ДАЛЕНГА-ХАДАКОЎСКІ Зарыян Якаўлевіч (сапр. Чарноцкі Адам; 24.12.1784—17.11.1825)

Славяназнавец, пачынальнік беларускай, польскай, рускай і ўкраінскай археалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі. Нарадзіўся ля в. Гайна Лагойскага раёна ў сям'і збяднелага шляхціца Якуба Чарноцкага. Пачатковае навучанне праходзіў у хатняга настаўніка ў маёнтку Лецяшын на Случчыне ў бацькавага сваяка К.Чарноцкага. Потым на працягу двух гадоў вучыўся ў Слуцкім каталіцкім вучылішчы. З усіх навук, што выкладаліся ў вучылішчы, найбольш любіў гісторыю і геаграфію, захапляўся кнігамі па старажытнай гісторыі. У 1801 ён закончыў Слуцкае павятовае вучылішча і пераехаў у Мінск, дзе да 1802 працаваў хатнім настаўнікам і самастойна вывучаў прававыя навукі. У 1802—04 праходзіў юрыдычную практыку ў Навагрудку. У канцы 1805 здаў экзамен па юрыспрудэнцыі і працаваў прыватным адвакатам у Мінску. У 1807 Д.-Х. паступіў на службу да графа Ю.Несялоўскага спачатку намеснікам упраўляючага, потым упраўляючым маёнтка Варонча на Навагрудчыне. Карыстаючыся багатай бібліятэкай і архівам графа, ён многа чытаў і ўдасканальваў свае веды. Моцны ўплыў на фарміраванне яго антыфеадальных поглядаў зрабілі працы французскіх асветнікаў, асабліва Вальтэра, Ж.-Ж.Русо і П.Гольбаха. Навуковыя і перыядычныя выданні, што паступалі ў бібліятэку Несялоўскага, дазвалялі дапытліваму маладому чалавеку знаёміцца з навінамі і быць у курсе навуковага жыцця Вільні, Варшавы, Пецярбурга. Ён даволі грунтоўна ведаў асноўныя працы славянскіх і заходнееўрапейскіх вучоных па старажытнай і заходнееўрапейскай гісторыі, народазнаўстве, вывучаў старажытныя беларускія акты і граматы. Блізкае сяброўства з пляменнікам Несялоўскага, які быў гарачым прыхільнікам Напалеона, ледзь не стала для Д.-Х. фатальным: яго ліст да сябра, дзе выказваліся сімпатыі Банапарту і намер далучыцца да яго войска, быў перахоплены ўладамі, у выніку чаго 24.3.1809 ён быў арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Праз 7 месяцаў Д.-Х. пазбавілі шляхецтва і накіравалі радавым салдатам у расійскае войска з праходжаннем службы ў Омску. Свой шлях у Сібір і

час знаходжання там Д.-Х. выкарыстоўваў для збору звестак пра насельніцтва гэтага краю, яго побыт, вусную народную творчасць, абрады, звычаі, добра авалодаў рускай мовай. Зробленыя ім выпіскі ў запісной кніжцы пазней былі часткова апублікаваны ў віленскім штогодніку «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік») за 1858. У чэрвені 1811 часць, дзе служыў Д.-Х., была пераведзена ў Бабруйск, адкуль ён уцёк, імітаваўшы быццам утапіўся. Апынуўшыся ў Варшаве, ён перайшоў на бок напалеонаўскіх войск. Пасля паражэння Напалеона Д.-Х. мусіў нейкі час хавацца і, каб не быць выкрытым, узяў сабе псеўданім Даленга-Хадакоўскі і да канца жыцця выступаў пад гэтым прозвішчам.

Падарожнічаў па Польшчы, Галіцыі, Палессі. 14.12.1818 упершыню на Беларусі атрымаў ад Віленскага універсітэта адкрыты ліст (дазвол) на права раскопак. Даследаваў гарадзішчы ў Полацку, Віцебску, Тураве, Бабруйскім пав., каля Брэста, Гомеля, Магілёва, в. Старое Сяло (Віцебскі раён) і інш., рабіў запісы фальклору, абрадаў, мясцовых дыялектаў. У найбольш значнай працы «Пра славяншчыну да хрысціянства» (1818) упершыню зрабіў спробу даць малюнак старажытнаславянскага побыту, культуры і народнай творчасці ў дахрысціянскі перыяд, намеціў праграму комплексных даследаванняў славянскіх і суседніх народаў. У «Даследаваннях адносна рускай гісторыі» (1819) крытыкаваў некаторыя палажэнні «Гісторыі дзяржавы Расійскай» М.Карамзіна, удакладніў многія факты, звязаныя з гісторыяй Беларусі (у наступных выданнях Карамзін многія з іх улічыў). Ён абгрунтаваў археалагічную тэорыю гарадзішчаў, прынцыпы збору фальклору і дыялектнай лексікі; вызначыў тэрыторыю пашырэння беларускай мовы, упершыню ў славістыцы паказаў ролю тапанімікі для гістарычных даследаванняў, склаў рэестр агульнаславянскіх тапонімаў, у т.л. беларускіх. Большасць яго прац засталася неапублікаванай: збор беларускіх (каля 500) і рускіх песень, запісы замоў, загадак, слоўнікі, матэрыялы па славянскай этнаграфіі, дыялекталогіі, тапаніміцы, археалогіі. Яго навуковая і збіральніцкая дзейнасць стала ўзорам і праграмай для шэрагу навукова-літаратурных аб'яднанняў на Беларусі. Многія вылучаныя ім славяназнаўчыя праблемы (этнагенез і прарадзіма славян) актуальныя і ў наш час.

Высокі на той час узровень даследаванняў Д.-Х. выклікаў вялікую цікавасць да яго навуковых прац у Расіі 1820—30-х г. Яго працамі захапляліся члены маскоўскага Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх, пісьменнікі, грамадскія дзеячы. Фактычна ён упершыню адкрыў для рускай навукі, што беларуская мова мае даўнюю гісторыю, што ёю карыстаўся не толькі просты народ, але і арыстакратычныя вярхі.

Д.-Х. з'яўляўся членам-карэспандэнтам варшаўскага Таварыства сяброў навук (1819), членам пецярбургскага Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці (1819), маскоўскага Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх (1820).

Апошнія гады жыцця Д.-Х. правёў у Цвярской губ., куды ён, апынуўшыся ў складаным матэрыяльным становішчы, пераехаў па рэкамендацыі сяброў і ўладкаваўся кіраўніком маёнтка памешчыка ў сяле Пятроўскае. Там яго і напаткала заўчасная смерць.

*Літ.:* Аксамітаў А.С., Малаш Л.А. З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоўскага. Мн., 1991.

## ДАЛЕЎСКІЯ

Удзельнікі вызваленчага руху на Беларусі і ў Літве і паўстання 1863—64. З сям'і дробнага шляхціца Дамініка Д., які валодаў фальваркам Кункулка ў Лідскім павеце.

Аляксандр (24.1.1827—26.4.1862), адзін са стваральнікаў Братняга саюза літоўскай моладзі, тайнай арганізацыі на Беларусі і ў Літве ў 1846—49. Напачатку саюз яднаў вучнёўскую моладзь, у 1848 у яго ўліліся рамеснікі, разначынцы, аднадворцы, дробная шляхта. У ідэйную праграму саюза былі ўключаны патрабаванні ліквідацыі ўсіх саслоўных прывілеяў, вызвалення сялян і надзелу іх зямлёю, вызвалення Рэчы Паспалітай з-пад прыгнёту Расійскай імперыі і абвяшчэнне яе рэспублікай. Члены саюза вялі рэвалюцыйную агітацыю ў Лідзе, Навагрудку, Слоніме і інш. гарадах Беларусі, спрабавалі залучыць на свой

бок салдат Бабруйскай крэпасці і Мінскага гарнізона. На 5.4.1849 было прызначана паўстанне. Аднак 27 сакавіка пачаліся арышты. Да следства прыцягнута каля 200 чалавек. Кіраўнікі і найбольш актыўныя члены саюза паўсталі перад судом і былі пакараны. Аляксандр быў прыгавораны да катаргі і да 1858 адбываў пакаранне ў Сібіры.

Апалонія (1841—пасля 1915), жонка З.Серакоўскага. За ўдзел у вызваленчым паўстанні 1863—64 выслана ў Ноўгарад. З 1867 жыла ў Варшаве, вяла грамадскую і літаратурную дзейнасць. Аўтар успамінаў пра паўстанне (рукапіс зберагаецца ў гістарычным архіве Літвы).

Канстанцін (1837—27.5.1871), удзельнік паўстання 1863—64 на Ковеншчыне, камандаваў асобным атрадам. У баях з карнікамі паранены і эмігрыраваў у Францыю. У час Парыжскай камуны 1871 расстраляны версальцамі.

Францішак (1825—25.4.1904), адзін са стваральнікаў (разам з братам Аляксандрам) Братняга саюза літоўскай моладзі. Паводле судовага прыгавору 10 гадоў (1850—60) быў на катаржных работах у Сібіры. Напярэдадні і ў час паўстання 1863—64 адзін з кіраўнікоў партыі «белых», член Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які быў цэнтрам кіраўніцтва паўстаннем у Літве і на Беларусі. У чэрвені 1863 арыштаваны і асуджаны на 20 гадоў катаргі. З 1883 жыў у Варшаве.

Цітус (13.5.1840—11.1.1864), удзельнік рэвалюцыйнага студэнцкага руху ў Маскве і Пецярбургу, дзе вучыўся ва універсітэтах. З лета 1863 найбліжэйшы памочнік К.Каліноўскага па кіраўніцтве вызваленчым паўстаннем на Беларусі і ў Літве. Арыштаваны, расстраляны ў Вільні.

## **ДАМБАВЕЦКІ** Аляксандр Станіслававіч (1840—пасля 1914)

Краязнавец і грамадскі дзеяч. Магілёўскі губернатар у 1872—93, сенатар з 1893. Дбаў пра развіццё сельскай гаспадаркі, будаўніцтва лячэбных устаноў, школ. Ініцыятар выдання і рэдактар калектыўнай працы «Вопыт



апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных, прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах» (кн. 1—3, 1882—84), у якой дадзена характарыстыка асноўных заняткаў насельніцтва, матэрыяльнай і духоўнай культуры жыхароў Магілёўшчыны. У працы змешчана каля 500 калядных (зімовых), веснавых, летніх, вясельных і рэлігійных песень; апісаны помнікі археалогіі, архітэктуры, адметныя мясціны губерні, гісторыя значных населеных пунктаў, гульні, забабоны; прыведзены назвы лекавых раслін. Ініцыятар стварэння губернскага гістарычна-этнаграфічнага музея ў Магілёве (1879). Садзейнічаў У.З.*Завітневічу* і М.В.Фурсаву ў вывучэнні гісторыі і этнаграфіі Магілёўшчыны, археалагічных раскопак у Падняпроўі.

*Г.А.Каханоўскі.*

## **ДАМБРОЎСКІ** Васіль Фёдаравіч (1810—45)

Гісторык, педагог. Паходзіў з Беларусі. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, Нежынскай гімназіі вышэйшых навук (ліцэй Безбародкі). Пэўны час працаваў выкладчыкам гісторыі ў навучальных установах Кіева. У 1838 ад'юнкт, з 1840 экстраардынарны прафесар Кіеўскага універсітэта. З 1843 член камісіі па разборы актаў і архіваў. Публічныя лекцыі Д. (што было навінкай для кіеўскай грамадскасці) прынеслі яму вялікую папулярнасць. Аўтар прац

«Астрожская даўніна» і «Луцк» (у альманаху «Киевлянин» за 1840 і 1841), «Пра ямы да канца XVII ст.» (1841), «Нарыс г. Чарнігава і яго вобласці ў старажытны і новы час» (Кіеў, 1846), «Пра Крамянецкі замак» (1850) і інш.

## ДАМЕЙКА Ігнат Іпалітавіч (31.7.1802—23.1.1889)



Вучоны-даследчык, геолаг. Нарадзіўся ў маёнтку Нядзведка Навагрудскага павета Мінскай губ. З 1812 вучыўся ў манастырскай школе ў Шчучыне. У 1816 паступіў на фізікаматэматычны факультэт Віленскага універсітэта, дзе поруч з прыродазнаўствам вывучаў гісторыю, літаратуру, слухаў лекцыі вядомых прафесараў І.*Лялевеля*, Я.*Снядэцкага* і інш. Ва універсітэце разам са сваімі землякамі А.*Міцкевічам* і Я.*Чачотам* прымаў удзел у тайным таварыстве філаматаў («што імкнуцца да ведаў»), асноўнымі лозунгамі якога было: айчына, навука, дабрачыннасць. У 1822 Д. атрымаў ступень магістра філасофіі. Восенню 1823 разам з іншымі ўдзельнікамі патрыятычна-дэмакратычнага руху арыштаваны і пасля заканчэння следства высланы з Вільні пад нагляд паліцыі ў в. Заполле на Лідчыне, а потым у в. Жыбуртоўшчына паблізу Дзятлава. Яму назаўсёды было забаронена паступаць на дзяржаўную службу і займацца грамадскай дзейнасцю. Жыццё ў глушы было нялёгкім, і Д. ў сваёй гаспадарцы распачаў доследы па вырошчванні жывёлы на навуковай аснове. Пазней Міцкевіч у паэме «Дзяды» паказаў Д. ў вобразе аканома Жэготы (так звалі Д. сябры па універсітэце). Д. прыняў актыўны ўдзел у паўстанні 1830—31 у Польшчы і на Беларусі. Пасля паражэння паўстання разам з сябрамі вымушаны быў эмігрыраваць. У 1832 перайшоў граніцу непадалёку ад Круляўца і быў інтэрніраваны прускімі ўладамі. Вызваліўшыся з палону, Д. ў Дрэздзе сустрэўся з Міцкевічам, і яны выехалі ў Францыю. У Парыжы Д. вучыўся ў Вышэйшай школе горнай справы Сарбонскага універсітэта, займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю, дапамагаў Міцкевічу перапісваць рукапісы паэмы «Пан Тадэвуш». Мэтанакіраваны і поўны энергіі, Д. ў сваіх лістах на радзіму піша, што марна шукае суцяшэнне ў кнігах і навуках. У ліст. 1833 ён разам з Міцкевічам і інш. эмігрантамі падпісаў зварот да былых паўстанцаў, у якім засцерагае іх ад непрадуманых і паспешных дзеянняў. Пасля заканчэння вышэйшай горнай школы Д. займаўся даследаваннямі. У 1837 ён склаў геалагічную, гідраграфічную і гаспадарчую карты зямель былой Рэчы Паспалітай, напісаў геаграфічны каментарый да іх. У 1850 у Парыжы надрукаваны лепшы на той час геаграфічны атлас Польшчы, у якім без пазначэння аўтарства прадстаўлены яго карты і каментарыі да іх. Такім чынам, Д. можна лічыць заснавальнікам фізіка-геаграфічнага раянавання Польшчы, Беларусі і Літвы. У снежні 1837 па рэкамендацыі парыжскіх прафесараў ён прыняў прапанову чылійскага ўрада і падпісаў кантракт на пасаду выкладчыка горнай школы ў г. Какімба на поўначы Чылі і 2.2.1838 адплыў туды. Д. прывёз з сабой багаж з кнігамі і абсталяваннем, за 3 месяцы вывучыў іспанскую мову і з гэтага часу ўсе свае веды, творчы запал і энергію пачаў аддаваць новай радзіме. У Какімба Д. чытаў лекцыі, займаўся з вучнямі. У 1840 у час канікул накіра-

ваўся з геалагічнай экспедыцыяй у горы, дзе адкрыў паклады невядомага навуцы альгамату серабра, які атрымаў назву аркерыт. Ён арганізаваў для моладзі курсы па вывучэнні фізікі і хіміі, заснаваў фізічную лабараторыю, навуковую бібліятэку, стварыў заалагічную калекцыю.

Д. распрацаваў арыгінальную методыку навучання, сутнасць якой у практычным замацаванні ведаў, у паступовым і трывалым засвойванні вучнямі асноўных паняццяў і законаў хіміі, фізікі, геалогіі. Яго вучань Ніколас Нараньо знайшоў багатую срэбраносную жылу, якую назваў імем свайго настаўніка — «Міна дэ Дамейка». У 1845 Д. наведаў паўднёвую ўскраіну Чылі — аўтаномную зямлю Араўканію, дзе знаёміўся з побытам і звычаямі мясцовых жыхароў, сабраў багаты фальклорны матэрыял. Па матэрыялах падарожжа ён напісаў і апублікаваў на іспанскай мове кнігу «Араўканія і яе жыхары», у якой звярнуў увагу грамадскасці на становішча індзейцаў-араўканцаў, што на працягу 3 стагоддзяў не скарыліся іспанскім заваёўнікам і праследаваліся чылійскім урадам. Нягледзячы на абвінавачванні ў несправядлівых адносінах да абарыгенаў, кніга прыйшлася даспадобы чылійцам, была перакладзена на многія іншыя мовы, у 1860 перавыдадзена ў Вільні і распаўсюджвалася на Беларусі і ў Літве. Землякі Д. ўпэўніліся, што былы «мяцежнік», як і раней, змагаецца за свабоду прыгнечаных людзей.

Пасля заканчэння тэрміну кантракта Д. запрасілі на працу ў сталічны горад Сант'яга з мэтай дапамогі ў правядзенні рэформы ва універсітэце, пра што ён раней пісаў міністру адукацыі Чылі. Універсітэт, заснаваны ў 1843, не з'яўляўся вышэйшай навучальнай установай, а выконваў функцыі нагляду і кіравання школамі. Выкарыстаўшы віленскі вопыт, Д. адрэдагаваў праект рэформ універсітэта і школ, прыняў удзел у іх правядзенні. У 1847 ён атрымаў ва універсітэце кафедру хіміі, займаўся навуковай і выкладчыцкай дзейнасцю. Пасля Сусветнай выстаўкі ў Парыжы ў 1867, дзе Д. прадстаўляў маладую прамысловасць Чылі, яго выбралі рэктарам універсітэта. Перыядычна на гэтай пасадзе ён быў у 1867—83. Заслугі «Дона Ігнацыо» (так з павагай называлі яго ў Чылі) перад новай радзімай нельга пераацаніць. У адчыненай паводле яго праекта Горнай школе былі падрыхтаваны першыя нацыянальныя кадры выкладчыкаў, геолагаў, мінералогаў. Яго вучні завяршалі адукацыю ў Еўропе і вярталіся ў Чылі, дзе займаліся педагагічнай і навуковай дзейнасцю, станавіліся вядомымі вучонымі. У сталіцы Чылі Д. арганізаваў службу



*Мядзведкаўскі сядзібны дом. З малюнка 19 ст.*

метэаралогіі, стварыў і рэалізаваў праект новага водаправода. Упершыню ў Лацінскай Амерыцы ён увёў у Чылі метрычную сістэму мер і вагі. Д. займаўся бібліятэчнай справай, стварыў хімічную і горную лабараторыі, тры музеі, у т.л. мінералагічны і этнаграфічны, розныя навуковыя калекцыі.

Для даследавання прыродных багаццяў Чылі і пошукаў новых крыніц сыравіны ён арганізоўваў навуковыя экспедыцыі ў пустыню Атакамі і ў горы, вывучаў вулканы, неаднойчы перасякаў Анды і Кардыльеры. З гэтай жа мэтай ён пабываў у Бразіліі, Уругваі, Перу, Аргенціне і інш. і ўзбагаціў навуку звесткамі пра новыя расліны і мінералы ў гэтых краінах, шматлікія лекавыя крыніцы. З імем Д. звязана распрацоўка навуковай асновы эксплуатацыі прыродных багаццяў. У выніку даследаванняў ён прапанаваў здабываць прамысловым спосабам некаторыя мінералы. Сам займаўся будаўніцтвам шахтаў і капальняў, здаў у эксплуатацыю некалькі капальняў па здабычы медзі, серабра, золата. Яго нават выбіралі вярхоўным суддзёй па горных спрэчках. На Чылійскім узбярэжжы Ціхага акіяна Д. знайшоў значныя паклады салетры і прапанаваў выкарыстоўваць яе на ўгнаенне глебы. Ён першы распачаў картаграфаванне і раянаванне геаграфічных і геалагічных з'яў, у сваіх навуковых працах закранаў праблемы межаў геаграфічных арэалаў.

Д. распрацаваў арыгінальную на той час канцэпцыю пра залежнасць прадукцыйнасці геаграфічнага асяроддзя ад натуральных умоў: тапаграфічнага становішча краіны, геалагічнай будовы нетраў, гідраграфіі, раслiннасці і інш. Свае шматлікія творы, у т.л. падручнікі па хіміі, мінералогіі, фізіцы, Д. пісаў пераважна на іспанскай і французскай мовах. Выдадзены ў Чылі падручнік «Мінералогія» на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў выкарыстоўваўся ў многіх лацінаамерыканскіх краінах. Вынікі навуковых пошукаў і адкрыццяў Д. апублікаваны на розных мовах у 130 яго навуковых працах, якія прынеслі яму сусветную вядомасць і славу. Яны займалі ганаровае месца ў тагачаснай навуцы, сведчаннем чаго з'яўляецца выбранне Д. ганаровым членам шматлікіх навуковых таварыстваў. Яго навуковыя паведамленні абмяркоўваліся на пасяджэннях Парыжскай акадэміі навук, публікаваліся ў навуковых часопісах Еўропы. Д. назаўсёды парадніўся з Чылі, быў жанаты з чылійкай, але ніколі не забываў сваю далёкую радзіму і заўсёды марыў пра яе. Так, апісваючы пейзажы Чылі, ён часам супастаўляў іх з Беларуссю ці адзначаў, што мясцовая рака «не шырэйшая за наш Буг каля Брэста». Толькі амаль у канцы жыцця яму было дазволена наведаць радзіму. У 1884 Д. разам з сынамі прыязджаў у родныя мясціны, наведаў Нядзведку, Мір, Навагрудак, Крошын, пасадзіў у Крошыне дубок, а мясцовы каваль П.*Багрым* высек памятны надпіс на камені. У канцы 1888, наведаўшы іншыя краіны, Д. вярнуўся ў Чылі. Па-



*Парыж.*

мёр Д. 23.1.1889. Дзень яго пахавання быў абвешчаны днём нацыянальнай жалобы. Чылійцы высока ацанілі яго заслугі. Д. быў абвешчаны народным героем. У гонар яго быў выпушчаны памятны медаль (да 30-годдзя яго дзейнасці), прызначана самая высокая ў краіне пенсія. Яго імем названы адзін з партовых гарадоў (Пуэрта-Дамейка), вулканічны ланцуг гор у Андах працягласцю каля 350 км, а таксама адкрыты ім мінерал (дамейкіт) і фіялкавая кветка (віёла дамейкона). У



яго доме быў створаны музей, а ў Сант'яга пастаўлены помнік «Грандэ Эдукатору» («Вялікаму Асветніку»). Аўтар мемуараў «Мае падарожжы» (т. 1—3, 1962—63).

*Літ.*: Клейн Б. «Грандэ Эдукатор» // Неман. 1965. № 6; Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968. С. 96—119; Яго ж. Геолог, минералог и этнограф Игнатий Домейко // Изв. Всесоюз. геогр. о-ва. 1981. Т. 113, вып. 5; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 130—138; Кудаба Ч. Вклад Игнатия Домейко в географию и геологию Белоруссии и Литвы // История геологического изучения территории Белоруссии. Мн., 1976; Brzoza J. Ignacy Domeyko: Powieść biograficzna. Katowice, 1961.

*Т.І.Доўнар.*

## ДАНІЛОВІЧ Ігнат Мікалаевіч [30.7(10.8).1788—30.6(12.7).1843]

Даследчык гісторыі права Вялікага княства Літоўскага, адзін з першых даследчыкаў заканадаўчых і летапісных помнікаў Беларусі; прафесар права (1823). Нарадзіўся ў в. Грынявічы Бельскага павета Падляскага ваяводства. Скончыў Віленскі універсітэт (1812). З 1814 выкладаў права ва універсітэтах Вільні, Харкава, Кіева,



*У Андах (Кардыльеры Паўднёвай Амерыкі).*



Масквы. У 1830—35 працаваў у камісіі М.М.Спяранскага па складанні «Збору мясцовых законаў заходніх губерняў», які меркавалася ўключыць у збор законаў Расійскай імперыі. Як выдатны знаўца феадальнага права, даследчык помнікаў права Вялікага княства Літоўскага, ён падкрэсліваў усебаковую распрацаванасць права Вялікага княства Літоўскага, марыў вярнуць да жыцця мову Статута Вялікага княства Літоўскага 1588, падтрымліваў ідэю аб адзінстве славянскага права. Ён адзін з першых звярнуў увагу рускіх гісторыкаў права на неабходнасць дасканалага вывучэння гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага, на неабходнасць захаваць для нашчадкаў гістарычныя помнікі права. Д. выявіў і апублікаваў новую рэдакцыю Судзебніка Казіміра 1468, спісы Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 на беларускай мове, Супрасльскі летапіс («Летапісец Літвы і руская хроніка», 1827). Склаў «Гістарычны агляд літоўскага заканадаўства» (1857). Сумесна з Д.Абаленскім выдаў «Кнігу пасольскую Метрыкі Вялікага княства Літоўскага...» (т.1, М., 1843). Пасля яго смерці надрукавана «Скарбніца грамат...» (т. 1—2, 1860—62), у якой ён апісаў і пераказаў змест каля 2500 сабраных ім крыніц па гісторыі дзяржавы і права Вялікага княства Літоўскага і суседніх дзяржаў ад выпісак з Герадота да актаў 1569. *Т.І.Доўнар.*

## ДАШЧЫНСКІ Юзаф (1781—1844)

Беларускі піяніст, кампазітар, дырыжор, педагог. Нарадзіўся ў Вільні. З 1813 выкладаў музыку ў Віленскім універсітэце, у 1814 па запрашэнні вядомага на Беларусі меламана і мецэната Л.М.Ракіцкага пераехаў у яго маёнтак Гарадзішча пад Мінскам, дзе да 1844 узначальваў сімфанічны аркестр, даваў урокі фартэпіяннай ігры. Пад кіраўніцтвам Д. ў Гарадзішчы і ў Мінску прагучалі оперы «Аксур, цар Арагуза» А.Сальеры і «Белая дама» Ф.Буальдзьё, выконваліся сімфоніі І.Гайдна, В.А.Моцарта, Л.Бетховена. Д. — аўтар каля 100 музычных твораў, выдадзеных у Маскве, Вільні, Варшаве, Вене, Лейпцыгу. Шырока вядомы былі ў свой час 3 фартэпіянныя канцэрты, фартэпіянны квартэт a-moll, струнны секстэт, меладрама «Эгберт», музыка да камедыі Л.Дмушэўскага «Сядзіба пры дарозе». Лепшыя паланезы Д., як сцвярджалі сучаснікі, не саступалі паланезам М.К.Агінскага і К.Курпінскага.

*Літ.:* J e l s k i M. Kilka wspomnień z przeszlości muzycznej Litwy // Echo muzyczne. 1881. № 23. *А.Л.Капілаў.*

## ДЗМІТРЫЕЎ Міхаіл Аляксеевіч [1832—14(26).5.1873]

Рускі і беларускі этнограф і фалькларыст, педагог. Нарадзіўся ў Пецярбургу. Скончыў Галоўны педагагічны інстытут у Пецярбургу. З 1853 настаўнік дваранскага вучылішча, пазней дырэктар гімназіі ў Навагрудку. У 1867—73 інспектар, потым дырэктар Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Член Рускага геаграфічнага таварыства. Займаўся збіраннем беларускай вусна-паэтычнай творчасці, асабліва тапанімічных і міфалагічных легенд, якія друкаваў у газетах «Виленский вестник», «Минские губернские ведомости», часопісах «Вестник Западной России» і «Вестник императорского Русского географического общества». Апісваў таксама народныя

звычаі, абрады, сялянскі побыт, цікавіўся жывой беларускай мовай — спрабаваў скласці паказальнік слоў і выразаў гаворак Навагрудчыны. У архівах сабраў каштоўныя звесткі пра А.*Міцкевіча*, на радзіме паэта запісваў легенды і ўспаміны пра яго землякоў-сучаснікаў. Выдаў зборнік беларускай народнай паэзіі «Вопыт збірання песень і казак сялян Паўночна-Заходняга краю» (1868) і «Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю» (1869). У «Збор...» уключана 277 сямейна-бытавых, каляндарна-абрадавых і пазаабрадавых песень, 8 казак і апісанні абрадаў. У сваіх публікацыях Дз. нярэдка выкарыстоўваў запісы іншых фалькларыстаў. Шэраг тэкстаў песень у «Зборы...» запазычаны са зборніка Я.*Чачота* «Вясковыя песні...» (1837—46), а апісанне хаўтурнага абраду — з працы А.*Кіркора* «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1858). Частка фальклорна-этнаграфічнай спадчыны Дз. не надрукавана і зберагаецца ў архівах Геаграфічнага таварыства і Бібліятэкі АН у Санкт-Пецярбургу, у Цэнтральным гістарычным архіве Літвы (Вільнюс). *І.К.Цішчанка.*

## **ДОЎГІРД** Анёл (2.12.1776—22.4.1835)

Філосаф, логік, псіхолаг. Нарадзіўся ў маёнтку Юркаўшчына Мсціслаўскага павета. З 1786 вучыўся ў Мсціслаўскай школе езуітаў, потым у школе піяраў у Дуброўне (Магілёўская губ.). У 1791 уступіў у ордэн піяраў у Любяшове (Мінскай губ.) і рыхтаваўся да настаўніцкай дзейнасці ў калегіуме піяраў у Дубровіцы (Валынская губ.), дзе ў свой час выкладаў К.*Нарбут*; магчыма, па яго канспектах і рыхтаваўся Д. Пасля вучобы ў Віленскай акадэміі выкладаў геаграфію, матэматыку, фізіку, французскую мову, паэтыку і рыторыку ў піярскіх вучылішчах: Лідскім (1796), Вількамірскім (1797), Расіенскім (1798—1800), Віцебскім (1801), Шчучынскім (1804—06), Любяшоўскім (1807—08). У 1814—15 выкладаў польскую літаратуру ў Дамбравіцкай піярскай семінарыі. У час захопу Вільні войскамі Напалеона быў капеланам Віленскай гімназіі і сакратаром мясцовага аб'яднання піяраў. У 1816, калі была адноўлена дзейнасць Галоўнай духоўнай семінарыі, Д. выконваў абвязкі яе капелана (да закрыцця універсітэта). Адначасова з 1818 чытаў лекцыі ва універсітэце па логіцы і псіхалогіі, з 1821 — поўны курс тэарэтычнай і практычнай філасофіі. Ужо да таго часу Д. надрукаваў у часопісе «Dziennik Wilenski» («Віленскі дзённік») артыкул пра філасофію кантыянца Ф.Яронскага, манаграфію «Аб логіцы, метафізіцы і маральнай філасофіі» (Вільня, 1821). Захавалася шмат канспектаў у рукапісах, якімі Д. карыстаўся ў час выкладання ў Віленскім універсітэце. Д. падрыхтаваў тры тамы твораў па логіцы, але пры жыцці надрукаваны толькі 1-ы том — «Выклад прыродных правіл мыслення, або Логіка тэарэтычная і практычная» (Полацк, 1828). Захаваліся экзаменацыйныя пытанні Д. па курсе логікі і філасофіі (дарэчы, з адказамі на іх А.*Міцкевіча*). У 1828 ён абараніў доктарскую дысертацыю па тэалогіі «Пра цуды». Паводле сведчання сучаснікаў, студэнтаў і прафесараў, Д. — чалавек мяккі, добразычлівы, верапаслухмяны, хоць і хваравіты, чытаў лекцыі манатонна, але быў вельмі дасведчаны ў навуках, асабліва ў філасофіі.

У яго творчай дзейнасці філасофія і тэалогія амаль заўсёды спалучаліся ці дапаўнялі адна адну. А ў саміх творах яны іманентна былі проціпастаўлены адна адной, хоць сам Д. да гэтага не імкнуўся і толькі ў некаторых выпадках падкрэсліваў, што ў тэалогіі і філасофіі разглядаюцца розныя сферы быцця свету, таму нельга адным падмяняць другое. Гэты светапогляды трагізм паглыбляўся самой эпохай, якая захаплялася натуральнымі навукамі і вуснамі асветнікаў выказвала скептызм да рэлігіі і тэалогіі, нават ставілася да іх варожа. Гэта быў пачатак крызісу тэалагічнага светапогляду, які адлюстраваўся нават у філасофскіх поглядах рэлігійных дзеячаў і мысліцеляў. Таму сістэма поглядаў Д. знешне быццам бы лагічная, але вельмі супярэчлівая ў глыбіні. З пункту погляду элементарнай логікі пабудавана граматна, у ёй усё супадае, але супярэчлівасць выяўляецца ў вышэйшым сэнсе. Спадчына Д. з цягам часу высвечваецца ўсё глыбей і як бы ў новых

ракурсах. У рамках традыцый філасофскай думкі філасофія Д. — нармальная з'ява ў нашай рэгіянальнай культуры і адначасова гэта з'ява па многіх паказчыках арыгінальная. Сваю адзіную сістэму сенсуалістычнай логікі Д. стварыў, ідучы ўслед за такімі карыфеямі гэтага кірунку думкі, як Дж.Лок, Э.Кандыльяк, шатландскія філосафы (Рыд, Сцюарт і інш.), а таксама за айчыннай традыцыяй (Нарбут, браты Снядэцкія). Затое псіхалагічную логіку з дэталёвымі распрацоўкамі і з улікам дасягненняў пачатку 19 ст. ён зрабіў упершыню. У гэтай сістэме логікі падрабязна распрацаваны ўзнікненне і эвалюцыя дзіцячых разумовых здольнасцей. Тут, верагодна, праявіліся практыка яго як настаўніка і педагагічная здольнасць, а таксама яго эрудыцыя філасофска-педагагічнага кірунку. Першай прыступкай у пазнанні, а значыць і ў логіцы, Д. лічыў успрыманне, якое паступова пераходзіць у сукупнасць іх, а потым ва ўяўленне. У гэтым працэсе, на яго думку, вырашальная роля належыць «цьвічэнню», бо гэта тое, што фіксуе адносіны рэчаў у нашай свядомасці.

Падобныя ідэі Д. выказваў яшчэ ў першым сваім артыкуле пра Ф.Яронскага, мабыць, пад уплывам твораў як самога рэцэнзуемага, так і філосафа І.Канта, на поглядах якога Д. заўсёды засяроджваў сваю ўвагу, хоць прынцыпова не пагаджаўся з кантаўскай апрыярыстычна-агнастычнай канцэпцыяй. Гэта парадаксальна, але так. Ужо ў ранніх сваіх творах Д. не пагаджаўся з тымі, хто высоўваў і адстойваў ідэю трансцэндэнтнасці рэчаў. Ён наогул скептычна ставіўся да ідэі трансцэндэнтнасці, што супярэчыць прынцыпу тэалогіі. Але, мабыць, тэалогія і канкрэтная ў тым сэнсе, што яе аргументы залежаць ад эпохі і асобы. Д. не хоча пагадзіцца з Кантам у галоўным сцвярджэнні трансцэндэнтальнага ідэалізму — існуюць рэчы, непадуладныя чалавечаму пазнанню — «рэчы ў сабе», ці ноўмены. Ён сцвярджае: «Паколькі мы давялі, што ўяўленне аб чыстай прасторы з'яўляецца адмоўным адносна ўяўлення поўнай працягласці, то адсюль вынікае, што памылковым з'яўляецца адзін з асноўных прынцыпаў, на якім Кант пабудаваў абгрунтаванне сваёй трансцэндэнтальнай адчувальнасці, сцвярджаючы, што ўяўленне чыстай прасторы з'яўляецца ўяўленнем сапраўды разумовым, свабодным ад усялякіх эмпірычных элементаў і таму ён называе яго ўяўленнем a priori. Д. прааналізаваў супярэчнасці ў канцэпцыі Канта аб ноўменах: калі знешняя рэальнасць паходзіць выключна з чыстай формы, якой нічога падобнага не можа адпавядаць у рэчах у сабе, то гэтыя рэчы, або ноўмены, не могуць быць на самай справе знешнімі адносна чалавечага розуму. А гэта, як заўважыў Д., нонсенс для тэорыі Канта. Кантаўская тэма гучыць у тэкстах Д. як галоўная, а астатнія класікі-ідэалісты — толькі фон (перадумова, падыход, напр., Платон). Асноўная крытыка Д. скіравана на суб'ектыўны ідэалізм, хоць дастаецца і некаторым прадстаўнікам аб'ектыўнага ідэалізму тыпу Платона. Іншых аб'ектыўных ідэалістаў Д. не ўпамінае. Французскіх матэрыялістаў ён называе, але не хваліць і не ганьбіць. У лекцыйным курсе «Філасофія» яны ўпамінаюцца як бы з павагай. І гэта — даніна філасофскай аб'ектыўнасці, заўсёды характэрная для Д., які імкнуўся да стварэння рацыянальна-аб'ектыўнай філасофскай канцэпцыі карціны свету.

Абапіраючыся на класікаў дакладных навук і прыродазнаўства (Бэкан, Капернік, Ньютан, Галілей, Кеплер, Дэкарт і інш.), Д. па сутнасці схіляўся да механістычнай карціны свету, прымаючы за першаэлементы існуючага т. зв. механічныя элементы свету. Такая пазіцыя — адлюстраванне складанасці праблемы, з аднаго боку, і парадаксальнасці аб'яднання розных пачаткаў светапогляду — з другога. Д. прытрымліваўся т. зв. філасофіі здаровага розуму, якая ў цэласнай форме была ў шатландскіх філосафаў (Рыд, Сцюарт і інш.). У адпаведнасці з яе прынцыпамі Д. крытыкуе кантыянства, знаходзячы часам вельмі моцныя аргументы супраць агнастыцызму і апрыярызму, асабліва ў сферы крытыкі трансцэндэнтальнай эстэтыкі Канта («Крытыка чыстага розуму»). Яго крытыка трансцэндэнтальнай дыялектыкі была менш удалай, таму што пераадолець тыя цяжкія праблемы, якія ставіў у ёй Кант, Д. не ўдалося. Але Д. супрацьпастаўляў трансцэндэнтальнаму ідэалізму канцэпцыю здаровага розуму, якая

абапіралася на сенсуалізм, эмпірычную псіхалогію, асабліва дзіцячую механічную карціну свету і т. зв. натуральную тэалогію. Такая амальгама ідэй вельмі спецыфічная. Яна не можа цалкам процістаяць новай філасофскай плыні, што пачынаецца з Канта, але яе аргументацыя часам трапная і ў асобных кірунках дае рацыянальныя і прымальныя для навукі шляхі. Яго структура псіхалагізаванай логікі найбольш падыходзіла для нашай, рэгіянальнай (сумесна з літоўцамі і палякамі) навукі, якая ў канцы 18—пач. 19 ст. стала амаль цалкам натуралізаванай і лічыла за ідэал матэматыку і фізіку. Такая арыентацыя давала ўпэўненасць Д. ў ідэальнай ісціне гэтых навук і дастатковасці іх у абгрунтаванні філасофскага падыходу да вывучэння свету. Д. верыў у цывілізацыйную, гуманістычную ролю дакладных навук і тэхнікі; здаецца, сам Бог, на яго думку, да гэтага вядзе планету Зямля. А тое, што некаторыя вучоныя проціпастаўлялі навуку рэлігіі, ён амаль не заўважаў, не чапаў атэістаў у сваіх філасофскіх творах, а толькі ў асобных тэалагічных працах і пропаведзях.

Асноўным аб'ектам крытыкі Д. стаў Кант, асабліва кантыянства — найбольш модны філасофскі кірунак пач. 19 ст. У палеміцы з імі складаецца яго асабістая філасофія. Не прымаючы суб'екта ідэалізму наогул, Д. лічыў, што «Джон Берклі стаў галавой ідэалістаў, даводзіў у творах, якія сам выдаў, што матэрыяльныя сутнасці не могуць мець ніякай сапраўднай рэчаіснасці. У процілегласць Локу выказваўся таксама Юм, які лічыў немагчымым давесці, што нашым уяўленням адпавядае нешта па-за розумам» («Аб логіцы, метафізіцы і маральнай філасофіі»). У гэтым квінтэсенцыя філасофіі Д.: давесці рэчаіснасць быцця матэрыяльных прадметаў (паводле Д. — «субстанцый»), рэчаіснасць усяго сусвету, створанага Богам. Яго праца так і называецца «Рэчаіснасць чалавечых ведаў» (1839, апублікавана Фіялкоўскім пасля смерці Д.). Д. прытрымліваўся хрысціянскай філасофіі ў яе аснове, але ў дэталях і ў аргументацыі імкнуўся да карыфеяў натуралізму, матэрыялізму і сенсуалізму. Гэты парадокс і ўласцівы яго філасофіі, у якой спалучаюцца розныя і нават процілеглыя пачаткі. Сам Д. лічыў зусім натуральным, што «час, прастора, матэрыяльныя субстанцыі» — аб'ектыўнага паходжання і маюць натуральную рэчаіснасць; ім адпавядаюць першасныя паняцці. «Правілы філасофіі не могуць быць праціўнымі здароваму розуму, а ён вымагае неабходнасці аб'ектыўнага быцця знешніх прадметаў». Існуе закон самога свету і пазнання — тое, што ўспрымае чалавек як аб'ектыўнае, на самай справе такім і з'яўляецца, бо так уладкаваны свет і чалавечае пазнанне, яго розум, а пацвярджэнне гэтаму даецца чалавечай практыкай і навукай. Філасофіі здаровага розуму Д. прытрымліваўся ў розных пытаннях: у метафізіцы, логіцы, маральнай філасофіі, у гісторыка-філасофскіх поглядах. Знойдзеныя яго рукапісы разам з філасофскімі творамі даюць магчымасць рэканструяваць усю філасофскую сістэму Д. Асноўныя яе часткі: гісторыя філасофіі, логіка, метафізіка (ці тэалогія натуральная), маральная філасофія; кожная з гэтых частак падзяляецца на шмат іншых «сваіх раздзелаў». У першым раздзеле ён разглядае і антычную філасофію, і схаластыку, і філасофію новага часу. Адчуваюцца сімпатыі да Ф.Бэкана, Р.Дэкарта, Дж.Лока, Кандыльяка і да карыфеяў прыродазнаўства — Каперніка, Кеплера, Галілея, Ньютана, Лавуазье, інш. У логіцы, якая разглядае асноўныя разумовыя здольнасці чалавека і звязаныя з імі суджэнні, гіпотэзы і г.д., Д. шмат у чым за крытэрый (эталон) зноў бярэ прыродазнаўства. У яго нават ёсць т. зв. «натуральны сілагізм» — адносіны паняццяў адпавядаюць адносінам рэчаў. У яго логіцы значная ўвага аддаецца індуктыўным метадам і сілагізмам, якія добра ілюструюць сувязь індукцыі з прыродазнаўствам. Найбольш цікавы ў гэтых адносінах яго рукапіс «Філасофія» (курс лекцый за 1821—22). Яму належыць распрацоўка прынцыпаў і метадалогіі філасофіі «здаровага розуму» на Беларусі. Філасофія Асветніцтва паўплывала на многія яго філасофскія ідэі, у т.л. і на маральную філасофію, у якой шмат што абапіраецца на эўдэманізм і асветніцкую этыку. Асноўнай мэтай маралі Д. лічыць цягу да шчасця — спружыну паводзін людзей. Таму менавіта першая кампанента маралі — агульная практычная філасофія, што накрэс-

ліvae шляхі да шчасця і тыя агульныя законы, якімі трэба кіравацца; этыка ў строгім яе разуменні выкладае аснову правоў і маральных абавязкаў чалавека; аскетыка растлумачвае, на чым грунтуецца маральная дабрата і як яе набыць. Гэта вышэйшая аснова маралі павінна задавальняць чатыры правілы: быць самадастатковай і не вынікаць ні з аднаго больш высокага правіла; быць дакладнай ці такой, каб з яе вынікалі ўсе астатнія правілы; быць яснай, г. зн. даваць чалавеку безумоўны крытэрый адрозніваць дзеянні «благачэсныя» ад «неблагачэсных»; быць лёгкай, каб без асаблівых цяжкасцей ёй маглі карыстацца ў канкрэтных выпадках. Гэты прынцып павінен улічваць шчасце як мага большай колькасці людзей. Але галоўнае ў ім — голас сумлення. Здаецца, тут у Д. сфакусіраваліся розныя этычныя вучэнні — і хрысціянскае, і асветніцкае: «голас сумлення» павінен працаваць ва унісон з ведамі, бо без іх нельга прызнаць учынак маральным. Адзінства сумлення і даволі глыбокіх ведаў — вось умова сапраўды маральнага акта. Маральны імператыў Д. гучыць так: «Так рабі заўсёды, каб не было сорамна апавядаць усяму свету пра сваё дзеянне і пра пабуджальныя матывы, якія цябе да яго накіравалі».

У Д. больш моцна, чым у Канта, падкрэслены сутнасна маральныя патрабаванні да асобы: асабістая адкрытасць свету як вышэйшы прынцып маралі (у Канта гэта тое, што можна ўзвесці ў агульны маральны закон). Такім чынам, у Д. як бы ўвязваецца асабістае сумленне і карысць (вышэйшая) чалавецтва, многіх асоб ці адной асобы. Тут супадаюць добраахвотнасць (праз поўныя веды) і маральнасць. Таму, на яго думку, маралі трэба вучыць з дзяцінства, растлумачваць сувязі маралі і жыццяў у свеце, і тут вельмі прыдатны асабісты прыклад. Трэба з маленства клапаціцца пра душу, не забруджваць яе. Цікавыя ідэі выказаны Д. у рукапісе «Параўнанне псіхалогіі чалавека і жывёл», дзе ёсць вельмі ўдалыя для таго часу назіранні колькасна-якасных характарыстык псіхалагічнай сферы розных відаў і індывідаў сярод іх. Асобнае месца ў літаратурнай спадчыне Д. займае яго доктарская дысертацыя па тэалогіі «Аб цудах». У яе аснове даследаванне евангельскіх сведчанняў пра цуды самога Ісуса Хрыста і тыя, што адбываліся з ім. Прааналізаваўшы розныя тыпы цудаў і таго, што людзі лічаць цудамі, Д. прыходзіць да высновы, што сапраўднае цуда заўсёды ў сваёй аснове мае дабро і напамінае людзям пра існаванне Бога, накіроўваючы іх да добрых учынкаў. Д. вінаваціў Юма і Канта ў тым, што яны вельмі скептычна ставяцца да рэальнасці цудаў: «Д. Юм памыляўся, — піша Д., — калі гэты ўсеагульны закон прычыннасці зрабіў цалкам эмпірычным...», бо гэта ўсеагульны закон свету і самога мыслення. Не трэба змешваць метафізічны закон прычыннасці і яго эмпірычныя (частковыя) праявы, бо яны не абсалютныя, а верагодныя. Увесь свет так створаны найвышэйшым Розумам, што ёсць законы вечныя, неадменныя, і ў т.л. законы рэальнасці існавання рэчаў і іх прычыннай сувязі. Д. крытыкаваў тых багасловаў, якія сціраюць межы паміж боскім і натуральным, імкнуўся тэарэтычна абгрунтаваць тэалагічную канцэпцыю цуда. Гэтыя намаганні сведчаць не толькі пра супярэчлівасць яго метаду філасофствавання, але і пра тое, што ён цалкам знаходзіўся ў рамках заходнехрысціянскай традыцыі, а яго замілаванне натуральнымі навукамі і іх стваральнікамі не выводзіла яго за рамкі гэтай традыцыі і не выращала тых парадоксаў, якія ўздзейнічалі на Д.-філосафа і прычынялі яму пакуты ў жыцці.

*Тв.*: Antykrytyka. Odpowiedz autora na recenzje jego clzjeła pt. «Przyrodzone myslenia prawidła» wizerenki i roztrazasenia naukowa, t. IX, 1839. S. 131—149; 196—220.

*Літ.*: Дорошевич Э.К. Аниол Довгирд — мыслитель эпохи Просвещения. Мн., 1967; Kaczmarek St. Poczatki kantyzmu i reakcja pvzeciw kantyzmowi w Polsce. Poznań, 1961; Яго ж. Aniol Dowgird filozof nieznany. Ksiązka i Wiedza. Warszawa, 1965; Hempolinski M. U źródel filozofii zdrowego rozsadku. Warszawa, 1966.

*Э.К.Дарашэвіч.*

## **ДОЎНАР** Норберт Вікенцьевіч

Прыродазнавец, педагог 19 ст. Паходзіў з Магілёўшчыны. Выкладаў прыродазнаўчую гісторыю ў Магілёўскай гімназіі. Адначасова рабіў батанічныя і прыродазнаўчыя назіранні, праводзіў доследы ў наваколлях Ма-

гілёва. Вынікі сваёй навуковай дзейнасці ў 1855—58 друкаваў у бюлетэні Маскоўскага таварыства даследчыкаў прыроды (апісаў 865 відаў кветкавых і споравых раслін). У 1862 выбраны правадзейным членам гэтага таварыства. У 1863 пераведзены ў Пецярбург, дзе займаўся педагагічнай дзейнасцю; з 1867 супрацоўнічаў у «Журнале Министерства народного просвещения», у якім апублікаваў шэраг артыкулаў па праблемах адукацыі.

## ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ
### Мітрафан Віктаравіч
### [2(14).6.1867 — 30.9.1934]

Гісторык, этнограф, фалькларыст і літаратуразнавец, доктар гістарычных навук (1905), прафесар (1902). Нарадзіўся ў г. Рэчыца Мінскай губ. (цяпер Гомельская вобл.) у сям'і служачага. Скончыў Рэчыцкае народнае вучылішча і Мазырскую прагімназію. Выключаны з 1-й Кіеўскай гімназіі за ўдзел у тайных гуртках моладзі і хаванне нелегальнай літаратуры. У 1889 здаў экстэрнам экзамен на атэстат сталасці і паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага універсітэта (скончыў у 1894). Пакінуты пры універсітэце для падрыхтоўкі да прафесарскага звання, аднак паліцыя забараніла яму педагагічную дзейнасць у межах Кіеўскай акругі, і ён пераехаў у Маскву, дзе ўладкаваўся на службу ў Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі (з 1898), адначасова выкладаў у гімназіях, супрацоўнічаў у Маскоўскім археалагічным таварыстве (сакратар Археаграфічнай камісіі, рэдактар прац таварыства). З 1899 прыват-дацэнт Маскоўскага універсітэта. У 1901 абараніў магістэрскую дысертацыю і перайшоў на кафедру рускай гісторыі Кіеўскага універсітэта. Адначасова з прафесарскай дзейнасцю ва універсітэце быў дырэктарам створанага ім у Кіеве камерцыйнага інстытута (пазней інстытут гаспадаркі), кіраўніком таварыства аматараў сацыяльных ведаў, таварыства Нестара-летапісца і інш. У 1920—22 выкладаў у Харкаве ў інстытуце народнай гаспадаркі і універсітэце, адначасова быў старшынёй тэхніка-эканамічнага савета Народнага камісарыята рабоча-сялянскай інспекцыі Украіны. З 1922 прафесар і прарэктар Азербайджанскага універсітэта, начальнік упраўлення ў Наркамаце прамысловага гандлю АзССР, дырэктар створанага ім Сельскагаспадарчага і гандлёвага музея Азербайджана. У 1925 пераехаў у Мінск і амаль два гады працаваў у БДУ, Інбелкульце (старшыня гісторыка-археалагічнай секцыі) і Дзяржплане БССР. Апошнія гады яго жыцця звязаны з Масквой (прафесар Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі і Інстытута народнай гаспадаркі імя Пляханава, старшыня гісторыка-эканамічнай секцыі Навуковай асацыяцыі ўсходазнаўства пры ЦВК СССР).

Навукова-літаратурную дзейнасць Д.-З. пачаў яшчэ ў час вучобы ў Мазырскай прагімназіі (1883). Як гісторык знаходзіўся пад уплывам эканамічнага матэрыялізму і ліберальна-дэмакратычнай метадалогіі. Аўтар шматлікіх грунтоўных прац па сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі і Расіі, а таксама па гісторыі дзекабрысцкага руху, якія каштоўныя сваім фактычным матэрыялам. У 1880—90-я гады зрабіў важкі ўклад у Беларускую этнаграфічна-фалькларыстычную навуку: збіраў і выдаваў фальклор, вывучаў і апісваў сямейны побыт, сямейнае звычаёвае права, вясельныя абрады. У публіцыстычных артыкулах выступаў за развіццё беларускай культуры, навукі і літаратуры. Распрацоўваў праграмы этнаграфічнага вывучэння Беларусі. У 1889—90 выдаў два выпускі «Календара Паўночна-Заходняга краю», які з'явіўся своеасаблівым правобразам беларускага навукова-літаратурнага часопіса. Сваімі працамі і публікацыямі пра Баркулабаўскі летапіс, В.*Цяпінскага*, В.*Дуніна-Марцінкевіча*, пра ананімныя творы 19 ст. прычыніўся да станаўлення літаратуразнаўчай навукі Беларусі. Меў цесныя сувязі з гісторыкамі, этнографамі, фалькларыстамі і пісьменнікамі А.Сапуновым, А.Ельскім, Я.Лучынам, Я.Карловічам, У.Стукалічам, Е.Раманавым і інш. У 1900 сустракаўся з Л.Талстым, пакінуў пра гэта ўспаміны. У брашуры «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919, выйшла адначасова па-французску і па-нямецку) даў сваю інтэрпрэтацыю гісторыі Беларусі. Яго грунтоўнае даследаванне «Гісторыя Беларусі», забароненае да выдання ў

1928, выдадзена БелЭн у 1994. Архіў вучонага зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Украіны ў Кіеве, асобныя рукапісы — у Архіве Геаграфічнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу. Бібліятэка Д.-З. (каля 15 тыс. тамоў) у 1926 была набыта для Інбелкульта.

*Літ.:* Даўгяла З.І. Літаратурныя працы доктара рускай гісторыі М.В.Доўнар-Запольскага ў храналагічным парадку за 45 год (1883—1928) // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мн., 1929: Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3. Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 201—215.

*Г.В.Кісялёў.*

## ДРУЦКІ-ПАДБЯРЭСКІ, гл. *Падбярэскі* Рамуальд Андрэевіч.

## ДУБНОЎ Сямён Маркавіч (1860 — ?)

Гісторык і публіцыст. Нарадзіўся ў Мсціславе ў беднай яўрэйскай сям'і. Самавук па адукацыі, набыў вядомасць сваімі даследаваннямі гісторыі яўрэйскіх рэлігійных сектаў: «Сабатай Цэві і псеўдамесіянізм у XII ст.» (1882), «Якаў Франк і яго секта хрысціянствуючых» (1883), «Гісторыя хасідызму і цадзікізму» (1887—93). Апошняя праца заснавана на невядомых да таго часу старадруках і рукапісах. Апрача таго, Д. сабраў і апублікаваў мноства дакументаў, пераважна па гісторыі беларускіх яўрэяў, і склаў агляд крыніц гісторыі яўрэяў у Расіі. Аўтар твораў «Пра вывучэнне гісторыі рускіх яўрэяў» (1891), «Усеагульная гісторыя яўрэяў» (т. 1—4, 1901—13) і інш. Яўрэйскую нацыянальнасць разглядаў як культурна-гістарычную групу насельніцтва.

## ДУБЯГА Дзмітрый Іванавіч [21.9(3.10).1849 — 22.10.1918]

Астраном. Нарадзіўся ў с. Соіна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. Вучыўся ў Гатчынскім інстытуце, потым на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, які скончыў у 1872 са ступенню кандыдата навук, і пакінуты пры універсітэце для падрыхтоўкі да прафесарскай дзейнасці. У 1873 прыкамандзіраваны да Пулкаўскай абсерваторыі, быў звышштатным, у 1878 ад'юнкт-астраномам. У 1881—84 чытаў лекцыі ў Пецярбургскім універсітэце ў якасці прыват-дацэнта. У 1884—1918 — ардынарны прафесар і дырэктар Казанскай абсерваторыі, з 1901 дырэктар заснаванай ім паблізу Казані абсерваторыі імя Энгельгарта. Вядомы яго дысертацыі «Даследаванне арбіты спадарожніка Нептуна» (1878) і «Тэорыя руху планеты Дзіяна» (1800). У 1885 і 1887 пад яго рэдакцыяй выдадзены 2 тамы назіранняў Казанскай абсерваторыі. Аўтар навуковых прац па тэарэтычнай астраноміі, астраметрыі і гравіметрыі.

## ДУДЫШКІН Сцяпан Сямёнавіч [25.12.1820 (6.1.1821) — 16(28).9.1866]

Журналіст, літаратурны крытык. Нарадзіўся ў беднай купецкай сям'і ў Віцебску. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі. У 1837 паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, які скончыў у 1841. Да 1848 служыў чыноўнікам дэпартамента знешняга гандлю. Друкавацца пачаў з 1845. Адна з першых публікацый — артыкул пра філалагічныя назіранні Якава Грыма над галоўнымі славянскімі гаворкамі. Сышоўся з крытыкам В.М.Майкавым і быў ім прыцягнуты да супрацоўніцтва ў часопісе «Отечественные записки». Пасля смерці Майкава з ліпеня 1847 узначальваў аддзел крытыкі і бібліяграфіі гэтага часопіса. Аўтар артыкулаў пра А.Дз.Кантэміра, Дз.І.Фанвізіна, М.Ю.Лермантава, М.В.Гогаля, І.А.Ганчарова, Л.М.Талстога, І.С.Тургенева і інш. Рэдагаваў творы Лермантава (выд. 1860 і 1862). Супрацоўнічаў з рэдакцыяй «Современника». Паводле дагавору з А.А.Краеўскім з 1860 стаў другім, фактычным рэдактарам «Отечественных записок» і быў ім да самай смерці. Прыхільнік тэорыі «чыстага мастацтва» з рысамі памяркоўнага лібералізму. Змагаўся за мастацтва без тэндэнцыйнасці, прытрымліваўся эстэтычнай сістэмы В.Р.Бялінскага, называў яго «магутным рухавіком літаратуры», палемізаваў з М.Г.Чарнышэўскім наконт трактоўкі мастацтва. Літаратурна-крытычная спадчына Д. мае гістарычную каштоўнасць.

*Літ.:* Егоров Б.Ф. С.С.Дудышкин —

критик // Уч. зап. Тартусского ун-та. 1962. Вып. 119. *Г.А.Маслыка.*

**ДУМАШЭЎСКІ** Арнольд Барысавіч (1836—87)

Юрыст. Нарадзіўся ў Магілёве ў сям'і краўца. Дапамагаў бацьку ў яго працы, а з 13 гадоў стаў прыказчыкам у кнігарні. Пісьменнасці навучыўся тайна ад бацькоў у прыходскага дзяччка. У 14 гадоў паступіў у Горы-Горацкі земляробчы інстытут, які скончыў у 1855. Пасля непрацяглай службы пісцом у канцылярыі папячыцельнага камітэта ў Адэсе Д. звярнуў на сябе ўвагу вядомага рускага хірурга М.І.Пірагова, дзякуючы якому паступіў у Рышэльёўскі ліцэй (1859), а праз год перайшоў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Там у 1862 атрымаў ступень кандыдата права і быў накіраваны за мяжу для падрыхтоўкі да прафесарскага звання ў галіне цывільнага права. Пасля вяртання ў Расію служыў у Міністэрстве юстыцыі і ў Сенаце. У 1871 стаў рэдактарам-выдаўцом газеты «Судебный вестник», у якой змясціў шэраг артыкулаў па розных пытаннях практычнай юрыспрудэнцыі. Быў прыхільнікам практычнага кірунку ў вывучэнні права. Лічыў, што рускае цывільнае права пры ўмелым тлумачэнні і гістарычным асвятленні дзеючых крыніц без звароту да традыцыйных інстытутаў рымскага права можа самастойна пeратварыцца ў стройную сістэму норм. З сабранага ім на працягу цяжкага жыцця капіталу ў 56 тыс. руб. ён завяшчаў палову Пецярбургскаму універсітэту на стыпендыі лепшым студэнтам юрыдычнага факультэта (па 300 руб. у год) і 4 тыс. руб. Пецярбургскай кансерваторыі на прэмію за лепшыя рускія застольныя песні. Памёр у Пецярбургу.

**ДУНІН-ГОРКАВІЧ** Аляксандр Аляксандравіч (10.4.1854 — 9.1.1927)

Географ, краязнавец, педагог. Нарадзіўся на Гродзеншчыне. Адукацыю атрымаў у Гродзенскай гімназіі і ў Лісінскай лясной школе. Спачатку працаваў на радзіме, а з 1890 служыў ляснічым у Табольскай губ. і навуковым кансультантам шэрага арганізацый па пытаннях паўночнай гаспадаркі, быў членам Камітэта Поўначы і выкладчыкам у зоаветтэхнікуме. З пераездам у Табольскую губ. ён заняўся ўсебаковым вывучэннем краю. У 1908 кіраваў экспедыцыяй па даследаванні нізоўяў ракі Абі. Актыўна працаваў у Табольскім губернскім музеі. Напісаў шэраг артыкулаў па лесаводстве, краязнаўстве, суднаходстве і інш. Асноўная яго праца — «Табольская поўнач» (1904), дзе прыведзены звесткі пра лясы, межы месцаў росту асобных відаў і парод дрэў, змешчана складзеная ім карта краю з пазначэннем лясоў і тундраў.

**ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ** Вінцэнт [Вікенцій Іванавіч; псеўд. Навум Прыгаворка; 23.1(4.2).1808 (паводле інш. звестак 1807) — 17(29).12.1884]

Прадстаўнік культурна-асветнай плыні ў грамадскай думцы Беларусі, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, заснавальнік нацыянальнай драматургіі і тэатра.



*Помнік В.І.Дуніну-Марцінкевічу ў в. Тупальшчына Валожынскага рвёна.*

Нарадзіўся ў фальварку Панюшкавічы (Бабруйскі р-н) у сям'і дробнага шляхціца. Закончыў Бабруйскую павятовую школу (1824). Вучыўся ў Пецярбургскім (ці Віленскім) універсітэце на медыцынскім факультэце. З 1827 служыў у Мінскай епархіяльнай кансісторыі, Мінскай крымінальнай палаце. У 1840 пакінуў службу, набыў фальварак Люцынка каля г. Івянца. Тут разгарнулася яго культурна-асветная, літаратурная і тэатральная дзейнасць і прайшлі ўсе наступныя гады жыцця. У час паўстання 1863—64 абвінавачваўся ў распаўсюджванні «шкодных для ўрада» ідэй, быў арыштаваны, знаходзіўся пад следствам, потым выпушчаны пад нагляд паліцыі. Пісаў па-беларуску і па-польску. Творчую дзейнасць пачаў з оперных лібрэта, першыя з якіх не захаваліся. У 1846 у Вільні надрукаваны яго драматычны твор «Сялянка» («Ідылія»; пастаноўка ажыццёўлена ў Мінску ў 1852). У 1850-я гады стварыў шэраг паэтычных твораў, вершаваных аповесцей і апавяданняў — «Вечарніцы» і «Гапон» (1855), «Купала» (1856), «Шчароўскія дажынкі» (1857), «Травіца брат-сястрыца» і «Быліцы, расказы Навума» (нап. 1857). Пісаў таксама творы на польскай мове: «Благаславёная сям'я» і «Славяне ў XIX ст.» (1856). У 1859 пераклаў на беларускую мову паэму А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Арганізаваў тэатральную трупу — першы беларускі тэатр, які наладжваў спектаклі ў Люцынцы, а таксама ў Мінску, Бабруйску і інш. месцах. У 1860—70-я гады напісаў камедыі «Пінская шляхта» і «Залёты». Значная частка яго твораў, у т.л. камедыі, не ўбачылі свету пры жыцці аўтара.

Дзейнасць Д.-М. разгортвалася ў перыяд глыбокага крызісу феадальна-прыгонніцкай сістэмы, паступовага, але няўхільнага ўсталявання новых грамадскіх адносін, развіцця на Беларусі дэмакратычнага нацыянальна-вызваленчага руху. Яго светапогляд і творчасць увабралі ў сябе істотныя тэндэнцыі гістарычнага развіцця народа ў гэты пераломны час, адлюстравалі яго драматызм і глыбокую супярэчлівасць. Вышэй за ўсё ставячы агульны дабрабыт народа і грамадства, ён лічыў немагчымым набліжэнне гэтага без пераадолення процілегласці сацыяльных інтарэсаў і без дасягнення сацыяльнай гармоніі ў грамадскім жыцці. Шлях да гармоніі ён бачыў у маральным удасканаленні, асветніцтве, развіцці нацыянальнай культуры. Здзяйсненню гэтай мэты была прысвечана ўся яго творчая дзейнасць. Д.-М. быў сынам свайго часу, яго культурна-асветніцкая праграма не была свабодная ад патрыярхальных ілюзій. Аднак сапраўдная каштоўнасць яго творчасці — у гуманістычным пафасе ўзвышэння працоўнага чалавека, селяніна, усведамленні неабходнасці развіцця нацыянальнай культуры і літаратуры, што адлюстроўвала, хоць не заўсёды выразна, карэнныя патрэбы беларускага народа як паўнацэннага, самастойнага суб'екта гісторыі, грамадскага жыцця, духоўнай творчасці.

У 1-й палове 19 ст. польская культура на Беларусі яшчэ захоўвала пануючае становішча, а абуджаная пад уплывам рамантычнай школы ў польскай літаратуры цікавасць да Беларусі-Літвы мела пераважна мясцова-экзатычны, фальклорна-этнаграфічны характар. У гэтых умовах Д.-М., абставінамі выхавання арганічна далучаны да традыцый польскай літаратуры і эстэтыкі, прыходзіць да сцвярджэння неабходнасці існавання беларускай літаратуры і культуры. Практычнай рэалізацыяй гэтай пазіцыі стала яго літаратурная творчасць на беларускай мове. Такі кірунак памкненняў пісьменніка выходзіў далёка за межы ўласна літаратурных інтарэсаў і набываў надзённы грамадска-палітычны сэнс. Няцяжка было прадбачыць рэзка варожую рэакцыю на спробы творчасці ў галіне беларускай літаратуры з боку польскіх і рускіх шавіністаў, якія — кожны са свайго боку — бачылі ў гэтым праяву сепаратызму. У процівагу экспансіяніцкай палітыцы задушэння любых парасткаў беларускай нацыянальнай культуры дзейнасць Д.-М. была падтрымана дэмакратычнымі прадстаўнікамі польскай культуры (У.*Сыракомля* і інш.).

1-я палова 19 ст. пазначана дастаткова выразнымі сведчаннямі ўзмацнення працэсу этнакультурнай кансалідацыі, самавызначэння беларускага народа і развіцця яго нацыянальнай свядомасці. Па меры разгортвання вызваленчага руху і пашырэння ў ім дэ-

макратычных імкненняў гэтыя тэндэнцыі выяўляліся і ўмацоўваліся. Яшчэ ў межах шляхецкай рэвалюцыйнасці былі вылучаны ідэі свабоды прыгнечанага сялянства, роўнасці і братэрства розных народаў, што ў найбольш радыкальных выразнікаў гэтых ідэй спалучалася з заклікам да барацьбы супраць дэспатычнай грамадскай сістэмы (Ф.*Савіч*). Пісьменніку былі блізкія многія ідэі шляхецкіх рэвалюцыянераў. Аднак ён быў прыхільнікам паступовых пераўтварэнняў, духоўна-маральных сродкаў і спосабаў дасягнення грамадска значных мэт. Яго творчая дзейнасць прыпала на час, калі ў вызваленчым і нацыянальна-адраджэнскім руху ўсё больш важнай станавілася сялянская рэвалюцыйна-дэмакратычная плынь, што паўплывала на характар і кірунак яго творчасці. Новыя, дэмакратычныя тэндэнцыі злучаліся ў Д.-М. з прыхільнасцю да мінулага, да ідэалізацыі яго. Яшчэ захоўваўся стары іерархічна-саслоўны дух, і пісьменнік імкнуўся ўзняць яго на ступень асветніцтва і шчырага клопату пра дабрабыт сялян. Вынікам такога спалучэння стала сцвярджэнне прынцыпу агульнага дабрабыту, які трактаваўся ў абстрактна-пашыраным плане і падпарадкоўваўся ідэі сацыяльнай згоды, маральна-духоўнай кансалідацыі.

Менавіта Д.-М. стаў найбольш значным выразнікам ідэі кансалідацыі ў развіцці працэсу нацыянальнага адраджэння. Гэта ідэя ў многім абапіралася на патрыярхальныя ўяўленні пра сутнасць грамадства і чалавека, аднак змест і кірунак яе мелі найважнейшае значэнне для будучыні нацыі. Прынцыпы адзінства ўсіх сіл і магчымасцей народа, аб'яднання ўсіх пластоў і груп у працэсе сацыяльнай і культурнай творчасці давалі перспектывы сапраўды шырокага і плённага ажыццяўлення нацыянальна-адраджэнскіх тэндэнцый, будучага развіцця народа і яго культуры.

Светапогляд Д.-М. меў пераважна маральна-эстэтычны характар, быў прасякнуты ўстаноўкай на пошукі гарманічных узаемасувязей у сферы сацыяльных адносін, а таксама ў галіне культуры, маралі, нацыянальнага жыцця. Асноваи, на якой магчыма было дасягненне гэтага гарманічнага адзінства, Д.-М. лічыў узровень патрыярхальных адносін. Так выяўлялася арыентацыя на мінулае як крыніцу ідэалізаваных норм адносін паміж людзьмі і імкненне да ідэальнай сучаснасці. Спроба рэстаўрацыі ідэалізаванага мінулага абумоўлівала тэндэнцыю да разумення ім сутнасці быцця як трывала ўсталяванага, гарманічна завершанага.

Ва ўмовах Беларусі сярэдзіны 19 ст. пошукі Д.-М. устойлівай, спакойнай гармоніі былі рэакцыяй на канкрэтна-гістарычную сітуацыю, што склалася ў перыяд крызісу прыгонніцтва. Гуманістычныя рысы такога светапогляду не парушалі яго сузіральнага характару. Аднак пагроза разбурэння звыклых адносін нараджала элементы актыўнасці ў гэтай сузіральнай пазіцыі.

Асаблівае значэнне для пісьменніка набываў прынцып гарманічнага адзінства ў сферы маралі, паколькі эстэтычная ацэнка ў яго творчасці неадлучная ад маральнай. Гэта характарызавала яго пазіцыю як асветніцкую, якой была ўласціва ідэя карыснасці



*Мінскі Пішчалаўскі замак. З гравюры 1-й паловы 19 ст.*




*Вокладка кнігі В.Дуніна-Марцінкевіча «Вечарніцы і Апантаны». Мінск. 1855.*

мастацтва, падыход да яго як да сродку сцвярджэння пэўных маральных норм. З дапамогай мастацтва маральныя ўяўленні і ўзоры ўзвышаліся да ступені эстэтычнага ідэалу. Грамадскія адносіны Д.-М. імкнуўся вытлумачыць праз прызму ідэалізаваных норм патрыярхальнай маралі, таму сацыяльныя адносіны ў яго набывалі аблічча адносін паміж бацькамі і дзецьмі ў вялікай зладжанай сям'і. Прынцып гарманічнага адзінства ў сферы сацыяльнага жыцця вёў да сцвярджэння ідэі класавага салідарызму. Д.-М., безумоўна, усведамляў наяўнасць сацыяльных супярэчнасцей, прызнаваў, што сярод сялян «укаранёны з дзяцінства супраць... паноў погляд» (Тв. Мн., 1984. С. 258), абвострана адчуваў антыгуманнасць грамадскага становішча, калі адны працуюць, а другія толькі карыстаюцца вынікамі працы. Таму відавочнасці сацыяльнага антаганізму ён імкнуўся проціпаставіць культурна-асветную дзейнасць адукаваных паноў (арганізацыя нацыянальных школ, стварэнне літаратуры на беларускай мове), што, на яго думку, здольна ўраўнаважыць існуючую няроўнасць. «Наша нешчаслівае мінулае, — пісаў ён, — давяло вясковы люд да заняпаду... Яшчэ ёсць час, каб нашы грамадзяне спахапіліся і, утвараючы школкі, прытулкі і іншыя магчымыя ахвяры, імкнуліся гэтую малодшую брацію сваю, якая ўмее быць удзячнай, прытуліць да сэрца і для ўсеагульнага дабра з ёй моцна аб'яднацца» (Там жа. С. 482).

Асаблівае значэнне ў ажыццяўленні гэтай мэты ён надаваў літаратуры на беларускай мове, якая, звяртаючыся і да пана і да селяніна, паказвала прыцягальнасць стану грамадства, дзе захаваны формы простых і добразычлівых адносін паміж людзьмі розных сацыяльных станаў.

Гаворачы пра вытокі сваёй літаратурнай дзейнасці, Д.-М. пісаў: «Жывучы сярод люду, які размаўляе па-беларуску, прасякнуты яго ладам думак, марачы аб долі гэтага братняга племені, анямеўшага ў маленстве ад невуцтва і цемнаты, вырашыў для заахвочвання яго да асветы ў духу яго звычаяў, паданняў і разумовых здольнасцей пісаць на яго ўласнай гаворцы» (Там жа. С. 481). Момант «заахвочвання да асветы» і маральнага ўдасканалення пісьменнік падкрэсліваў пастаянна. Абуджэнне народа да духоўнага жыцця ён разглядаў як крок унутранага развіцця, які зробіць рэальным маральныя ўяўленні пра гарманічныя адносіны паміж людзьмі, найперш паміж панам і селянінам. Паводле меркавання пісьменніка, дасягненне гэтай мэты ў большай ступені залежала ад паноў, ад таго, наколькі яны самі стануць носьбітамі лепшых духоўных якасцей і будуць садзейнічаць укараненню гэтых маральных уяўленняў. У прадмове да «Літаратурных клопатаў» Д.-М. малюе ідылічную сцэну, як арыстакратычная, добра выхаваная пані чытае ў святочны дзень кнігу сялянам. Пісьменнік падкрэсліваў навізну самога прынцыпу духоўнага ўзаемадачынення, кантактаў розных сацыяльных пластоў, дзякуючы чаму сяляне даведваюцца, што «паны апісваюць іх звычаі і ахвотна цікавяцца іх доляй» (Там жа. С. 258). Асветніцкі характар яго пазіцыі, яе канкрэтная акрэсле-

насць выяўлены ў дадзеным выпадку асабліва выразна. Глеба духоўнасці ўяўлялася яму нейтральнай і ўсеагульнай, пачаткам вырашэння жыццёвых супярэчнасцей і праблем.

Існаванне літаратуры на беларускай мове абгрунтоўвалася ім задачамі асветніцкімі і «маральнага выпраўлення», што адкрывала шлях да пераадолення сацыяльных цяжкасцей. Ступень яе ўздзеяння вызначала і важнасць ускладаемай на літаратуру ролі. Таму была пастаўлена праблема даступнасці літаратуры. На першы план Д.-М. вылучаў фактар беларускай мовы, неабходнасць захоўваць яе адпаведнасць узроўню духоўнага развіцця чалавека працы (дух народных звычаяў, паданняў). Так пазначалася фальклорна-этнаграфічная арыентацыя літаратуры на беларускай мове, зварот яе да каштоўнасцей народнай культуры.

Пазіцыя Д.-М. як выразніка працэсу станаўлення нацыянальнай самастойнасці беларускага народа не была дастаткова пэўнай. Дваістасць пазіцыі пісьменніка ў нацыянальным пытанні выразна выявілася ў яго двухмоўных творах, у якіх паны гавораць па-польску, а сяляне — па-беларуску. З гэтага вынікае, што беларускую мову ён лічыў сялянскай, простанароднай. Таму і Беларусь уяўлялася яму тэрытарыяльна-этнаграфічнай, а не нацыянальнай цэласнасцю. У «Літаратурных клопатах» адна з частак названа «Падарожжа на Беларусь» — у тую ідэалізаваную краіну, дзе пануюць адносіны братэрства, любві, добразычлівасці. Там «старапольнае» і «беларускае» выступалі як ідэнтычныя, аднапарадкавыя абазначэнні. Нацыянальныя адносіны не ўсведамляліся ім як адносіны народаў, напр. беларускага і польскага. Беларусь, якой ён жадаў яе бачыць, паўставала краем, дзе старапольска-беларускае дваранства аб'яднана з беларускім сялянствам, утвараючы ідэальнае самабытнае адзінства. Такая сацыяльна-нацыянальная ідэалізатарская тэндэнцыя была утапічнай. Сапраўднае ж значэнне атрымала патрыятычная адданасць пісьменніка роднаму краю. Нацыянальная ідэя праяўлялася ў яго як ідэя-мара пра Беларусь. Але і такое яе выяўленне сведчыла пра наяўнасць тэндэнцый да


DUDARZ BIAŁORUSKI, CZYLI WSZYSTKIEGO POTROSZE. PRZEZ Wincentego Dunin Marcinkiewicza. MIŃSK Nakładem i Drukiem J. Bośnera. 1857.

«Дудар Беларускі» В.Дуніна-Марцінкевіча (тытульны ліст). 1857.

кансалідацыі, самавызначэння ўнутраных пачаткаў нацыянальнага жыцця беларускага народа.

Агульная ідэя сацыяльнай гармоніі была цесна звязана з поглядам Д.-М. на лёс культуры. Сцвярджэнне ім самабытнага характару культуры Беларусі грунтавалася ў першую чаргу на рэальных рысах духоўнага багацця беларусаў, увасобленага ва ўсім складзе светапогляду народа, у яго паданнях, песнях, звычаях, побыце. Разам з тым паняцце культурнай самабытнасці неадлучна ад яго ідэалізатарскіх імкненняў. Тэндэнцыя класавага салідарызму абгрунтоўвалася патрэбамі духоўнага і культурнага плана, якія мелі для пісьменніка першаступеннае значэнне. Таму вышэйшай мэтай яго імкненняў становіцца не проста «чыста» сацыяльная тэндэнцыя аб'яднання. Ён меў на ўвазе адукаванае дваранства— носьбіта высокіх духоўных якасцей, узорнага ў маральных адносінах — і далучанае да асветы ў выніку стварэння літаратуры на беларускай мове сялянства, якое захавала лепшыя здабыткі самабытнай народнай культуры.

Праблема культурнай пэўнасці Беларусі вырашалася ім як сінтэз і адзінства дзвюх культур — дваранскай і народнай, першая нясе высокі ўзровень духоўнасці, другая вызначае самабытнасць. Такое адзінства дваранскай і народнай культур павінна было стварыць фундамент, абумовіць характар новай беларускай культуры, дзякуючы якой «мясцовы» патрыятызм перастане адыгрываць другарадную ролю і набудзе самастойнае абгрунтаванне. У гэтым Д.-М. бачыў прызначэнне беларускіх пісьменнікаў. Менавіта гэта думка выказана ў «Літаратурных клопатах»: «Захаваць старыя звычкі прасім вас, паэтаў, вы злучаеце веру продкаў з нашаю асветай» (Збор тв. Мн., 1958. С. 234). Ідэя культурнай самабытнасці мела выразную тэндэнцыю да кансалідацыі, проціпастаўлялася сляпой пераймальніцкай арыентацыі арыстакратычных вярхоў на культуру, мову і норавы Захаду.

Імкненне Д.-М. да сцвярджэння гарманічнага пачатку найбольш поўна выявілася ў яго мастацка-эстэтычных уяўленнях: ідэальнае (узорная норма), камічнае (з выхадам да сатыры) і адмоўна-эстэтычнае (пачварнае, карыкатура). Такая іерархія эстэтычных сфер — водгук эстэтыкі класіцызму з яе строгім размежаваннем высокіх і нізкіх сфер, для якой народнае жыццё было эстэтычна «зніжаным». Значэнне ж эстэтыкі Д.-М. ў тым, што ён спрыяў падняццю «зніжанага» (народнае жыццё) да ўзроўню ідэальнага, хоць адбітак няроўнасці захоўваўся і ў яго сістэме эстэтычных уяўленняў.

У цэлым ідэал Д.-М. можа быць вызначаны як ідэал арганічна-быційнай гармоніі — сімвала прастаты, натуральнасці і чалавечнасці, — які проціпастаўляецца складанасці, маральнаму хаосу гарадскога жыцця і арыентаванасці арыстакратычных вярхоў на Захад. Гэта было проціпастаўленне старога новаму (вёскі — гораду), у аснове якога ляжалі маральныя крытэрыі. Прастата і чалавечнасць звязваліся з ідэалізаванымі патрыярхальнымі адносінамі, узаемная варожасць і маральнае бязладдзе — з новымі павевамі ў жыцці, якімі ахоплены ў першую чаргу горад. Крытыкуючы надыходзячы капіталізм, Д.-М. здолеў убачыць антыгуманную сутнасць меркантыльнага падыходу да жыцця. У гэтым шырокім сацыяльным працэсе ён найперш адчуваў пагрозу прастаце і натуральнасці жыцця, добразычлівасці ў людскіх адносінах. Вёска для пісьменніка была хавальнікам дарагіх яму маральных прынцыпаў (хоць гэта была хутчэй ідэалізаваная, чым рэальная вёска). Зварот да прыроды і вёскі, узбагачаны яго глыбокім патрыятычным матывам, сутучны пачуццю адзінства з родным краем, шлях далучэння да патрэб і інтарэсаў «сялянскага люду» — беларускага народа. З радасным хваляваннем ступае пісьменнік на гэты шлях: «І не дзіўна, што так біцца маё сэрца стала, і не дзіўна, што душу так радасць напаўняла, калі ўбачыў я, як кінуў позірк на дарогу, коней цут і беларуса-фурмана старога» (Там жа. С. 226). Так народнае жыццё ўваходзіла ў сферу ідэальнага, станавілася паўнапраўным аб'ектам мастацкага адлюстравання.

Імкненне Д.-М. да гарманічнага вырашэння грамадскіх супярэчнасцей і праблем пастуліравала раўнапраўе ў яго ідэйна-мастацкай канцэпцыі рэчаіснасці і ў ідэальнай сферы двух бакоў — панства і сялянства, жыцця паноў і народнага жыцця. Ідэальныя вобразы паноў ілюстравалі тэзіс пісьменніка пра добрага пана — клапатлівага бацьку сваіх сялян. Сам пісьменнік адзначаў, што яны не былі рэальнымі вобразамі. Адначасова ўвядзенне народнага жыцця ў сферу ідэальнага мела наватарскае на той час значэнне, прынцыпова важнае для далейшага развіцця беларускай літаратуры. У рэчышчы дыдактычнай накіраванасці Д.-М. стварыў шэраг вобразаў сялян (Ананій у «Вечарніцах», Халімон Накліка ў «Купале»), хавальнікаў патрыярхальнай маралі (даследчыкі справядліва адзначалі аднатыпнасць і слабасць гэтых вобразаў). Сапраўдныя ж мастацкія дасягненні пісьменніка ляжалі па-за межамі такой накіраванасці. Гэта смелы і рашучы чалавек, здольны пастаяць за свае правы Гапон, светлы і чысты вобраз Агаткі з «Купалы» і шэраг інш. вобразаў, у якіх адлюстраваны рэальныя рысы народных характараў.

Стваральная, аб'яднальная тэндэнцыя ў творчасці Д.-М. — найбольш яр-

кае выяўленне памкнёнасці пісьменніка да гарманічнага спалучэння мэты ўсіх яго намаганняў і крытэрый станоўчай эстэтычнай ацэнкі. Прынцыпы класавага яднання і сямейнага адзінства выступалі ў яго як асноўныя тыпы духоўнага і маральнага саюзу — перадумовы ўпарадкаванага жыцця, арганізаванай, гарманічна завершанай рэчаіснасці. Праз прызму гарманічна-маральнага пагаднення пісьменнік паслядоўна праводзіў сяброўства, любоў, сям'ю, класавы мір.

Маральны характар ідэалу, што сцвярджаў Д.-М., выразна высвечваўся тымі патрабаваннямі, якім, на яго думку, павінен адпавядаць сапраўдны чалавек («Залёты»). Сапраўдным чалавекам, высока маральным выступае ў яго адукаваны, гуманны памешчык, які не спяшаецца безразважна пераймаць чужыя норавы і павевы і накіроўвае свае намаганні на дабрабыт роднага краю. Селянін пры гэтым застаецца аб'ектам яго гуманізатарскай і асветніцкай дзейнасці. Пісьменнік рабіў выразны акцэнт на «добрай славе ў людзей», падкрэсліваючы матывы служэння люду, адзначаў, што перш за ўсё трэба бачыць духоўна-маральныя якасці («сэрца»), адукаванасць і «славу ў людзей», а не звяртаць увагу на багацце чалавека. Маральна-эстэтычны дуалізм Д.-М. звязаны з фальклорным прынцыпам «дабро — зло», з выразнай насычанасцю дзвюх асноўных фарбаў-тонаў пры абмалёўцы вобразаў — светлых і цёмных. Добрае ў яго — аб'яднальнае, гарманічнае, г.зн. прыгожае; злое — разбуральнае, дысгарманічнае, а таму адмоўнае, цёмнае, хаатычнае, пачварнае. Сфера адмоўна-эстэтычнага займала ў яго эстэтыцы намнога меншае месца, чым ідэальнае. Адмоўна-эстэтычныя фарбы выкарыстоўваліся пераважна з павучальнай мэтай, каб паказаць, што трэба рашуча адхіляць. Разбуральная тэндэнцыя ў яго творах таксама заўсёды была падначалена гарманічнаму пачатку. Прыклад унутранай маральнай спустошанасці дадзены пісьменнікам у вобразе Сабковіча («Залёты»), для якога грошы сталі адзінай мэтай усіх жыццёвых намаганняў.

Камічнае ў эстэтыцы Д.-М. з'яўлялася прамежкавай сферай паміж ідэальным і адмоўна-эстэтычным, што рабіла немагчымым іх непасрэднае сутыкненне. Гэта сфера была рухомай, гнуткай, здольнай судакранацца са станоўча-эстэтычным і з разбуральным. У цэлым камічнае ў Д.-М. — гэта зніжанае ў параўнанні з ідэальным, і таму з'яўлялася простанародным. Аднак камічнае паступова ператваралася ў форму асваення жыцця народа, спрыяла дыферэнцыяцыі адносна самастойных тыпаў эстэтычнай ацэнкі — сатыры, іроніі, сарказму. Пасля «Ідыліі» («Сялянкі») пачаў пісьменнік узвышаць і ідэалізаваць народнае жыццё, што выходзіла за межы камічнага. На пэўным этапе творчасці Д.-М. (у 1856—57) афармілася тэндэнцыя ставіць прадстаўніка народа ў цэнтры твора, што спрыяла пашырэнню сферы і магчымасцей камічнага. Такія тэндэнцыі яскрава выявіліся ў «Пінскай шляхце», дзе няма эстэтычнай іерархічнай двухпластовасці, як у іншых вадэвілях-фарсах і п'есах Д.-М. На першы план вылучаецца смех, які набывае сілу сатырычнага выкрыцця і накіраваны супраць прадстаўнікоў царскай бюракратычнай сістэмы.

Роля Д.-М. ў развіцці беларускай нацыянальнай культуры вельмі значная. Ён быў адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры; яго творчасць стала важным этапам яе фарміравання ў вельмі неспрыяльных умовах. Народнае жыццё і прадстаўнік працоўнага народа сталі аб'ектам пільнай увагі пісьменніка, што на той час было крокам немалой грамадзянскай мужнасці. Ён настойліва шукаў гарманічныя асновы чалавечага быцця. Можна не пагаджацца з уяўленнямі Д.-М. пра справядлівае ўладкаванне грамадства, аднак трэба аддаць належнае яго настойлівым пошукам дасканаласці і гармоніі, яго імкненню садзейнічаць дабрабыту роднага краю і свайго народа.

*Тв.:* Збор твораў. Мн., 1958; Творы. Мн., 1984.

*Літ.:* Купала Я. «Залёты», аперэтка Вінцука Дуніна-Марцінкевіча // Зб. тв. Мн., 1976. Т. 7; Богданович М. Белорусское возрождение // Зб. тв. Мн., 1968. Т. 2; Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. 3 выд. М.; Л., 1924; Майхровіч С. В.І.Дунін-Марцінкевіч. Мн., 1955; Барысенка В.В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957; Се-

мяновіч А.А. Беларуская драматургія (дакастрычніцкі перыяд). Мн., 1961; Навуменка І. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Мн., 1992; Пачынальнікі. Мн., 1977; Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Ч. 1. 2 выд. Мн., 1989; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Кісялёў Г. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1988; Янушкевіч Я. Беларускі Дудар: Прабл. славян. традыцый і ўплываў у творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1991.

*А.С.Майхровіч.*

## ДЫБОЎСКІ Бенядзікт Іванавіч [29.4(11.5). 1833 — 31.1.1930]

Прыродазнавец, заолаг і ўрач. Член-карэспандэнт АН СССР (1928). Нарадзіўся ў маёнтку Адамарын Вілейскага пав. Мінскай губ. Вучыўся ў Мінскай гімназіі. Медыцыну і прыродазнаўчыя навукі вывучаў у Дэрпце (Тарту), Браславе і Берліне, дзе ў 1860 атрымаў ступень доктара медыцыны. З 1862 экстраардынарны прафесар заалогіі і палеанталогіі ў Варшаве. За ўдзел у нацыянальна-вызваленчым паўстанні ў 1864 асуджаны на 15 гадоў катаргі і сасланы ў Сібір. Але і там ён працягваў навуковую дзейнасць: даследаваў жывёльны і раслінны свет возера Байкал, рэк Амур і Ангара, узбагаціў заалогію шэрагам новых адкрыццяў. У 1877 вярнуўся на радзіму. Неўзабаве, маючы намер вывучаць Камчатку, пасяліўся ў Петрапаўлаўску, дзе займаў пасаду ўрача. З 1882 прафесар заалогіі ў Львове. Тут ён арганізаваў музей заалогіі з камчацкіх экспанатаў. Вывучаў беларускія азёры Любань, Свіцязь, Чорнае і інш. Яго шматлікія артыкулы па заалогіі надрукаваны ў рускіх, польскіх, нямецкіх часопісах. Паводле светапогляду Д. быў рэвалюцыйным дэмакратам, у поглядах на прыроду — матэрыялістам. Змагаўся супраць рэлігійных забабонаў, клерыкалаў і розных рэакцыянераў. Ён адзін з першых у Еўропе стаў прыхільнікам і прапагандыстам эвалюцыйнай тэорыі Ч.Дарвіна. У сваіх працах і лекцыях даказваў, што жывёльны і раслінны свет развіваецца па натуральных законах.

*Літ.*: Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Лаптев С.Н. Материалы к биографии и научно-исследовательской деятельности Б.И.Дыбовского в Восточной Сибири // Изв. Гос. геогр. о-ва. 1939. Т. 71, вып. 6.

## ДЫБОЎСКІ Уладзіслаў Іванавіч (18.4.1838—27.7.1910)

Заолаг, батанік, палеантолаг, мінералог і фалькларыст. Доктар мінералагічных навук (1878). Брат Б.*Дыбоўскага*. Нарадзіўся ў б. маёнтку Адамарын Вілейскага павета Мінскай губ. Скончыў Дэрпцкі (Тартускі) ун-т (1862). За ўдзел у паўстанні 1863—64 прыгавораны да турэмнага зняволення. З 1871 працаваў у Дэрпцкім ун-це. У 1878 пераехаў на Навагрудчыну. Даследаваў выкапнёвыя рэшткі Усходняй Прыбалтыкі, Сібіры, флору і фауну Навагрудчыны і інш. частак Расіі. Збіраў беларускі фальклор. У штогодніку «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» («Зборнік паведамленняў па айчыннай антрапалогіі») апублікаваў «Беларускія прыказкі з Навагрудскага павета» (т. 5, 1881, 768 тэкстаў), «Беларускія загадкі з Мінскай губерні» (т. 10, 1886, 112 тэкстаў).

*А.Ф.Літвіновіч.*

# Е



## ЕЛЬСКІ Аляксандр Карлавіч (псеўд. Бацян з-над Пцічы, Літвін-грамадзянін; 16.6.1834 — 10.9.1916)

Беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф, краязнавец, перакладчык, публіцыст. Брат М.К.*Ельскага*. Нарадзіўся ў в. Дудзічы Ігуменскага пав. Мінскай губ. (цяпер Пухавіцкі р-н) у сям'і памешчыка. Пачатковую адукацыю атрымаў у нямецкай школе ў Лясдэнене (цяпер Калінінградская вобл.). У 1852 скончыў Мінскую класічную гімназію. У 1852—56 быў на вайсковай службе, удзельнічаў у Крымскай вайне. У чыне паручніка выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў в. Замосце (цяпер Пухавіцкі р-н), дзе пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну фальварак. Быў жанаты, меў сына і дачку. У гаспадарцы значную ўвагу ад-

даваў паляпшэнню культуры земляробства, меліярацыі глебы, догляду лесу, развядзенню рыбы, заклаў парк, сад і цагельню. З 1861 быў міравым суддзёй 2-й акругі Ігуменскага пав., у 1882—87 — членам апякунскага камітэта пры рэальным вучылішчы ў Мінску, а з 1901 — ганаровым куратарам павятовага Таварыства ўзаемастрахоўкі ад пажару. Літаратурна-публіцыстычную дзейнасць пачаў з допісаў у газету «Kurier Wileński» («Віленскі веснік», 1860), прысвечаных пераважна вызваленню сялян ад прыгону. Пісаў на беларускай, польскай, рускай мовах. У час паўстання 1863—64 знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1864 заснаваў у Замосці краязнаўчы музей, у якім з часам назапасілася значная колькасць карцін, гравюр, малюнкаў і эскізаў заходнееўрапейскіх і мясцовых мастакоў, зберагаліся асобныя прадметы і лісты А.*Міцкевіча*, А.Т.*Касцюшкі*, калекцыі фарфору, шкла, слуцкіх паясоў, каля 20 тысяч аўтографаў і дакументаў (у т.л. Пятра I, Напалеона, Лютэра, Вашынгтона, А.Міцкевіча і інш.). Бесперапынна Е. папаўняў сваю бібліятэку, пад канец жыцця ў ёй было больш за 10 тысяч кніжных адзінак, сярод іх старадрукі, выданні 17 ст., амаль усе польскія і літоўска-беларускія хронікі, дыярыушы, розныя біяграфічныя даведнікі, энцыклапедыі, атласы, вопісы архіваў і г.д., багатыя матэрыялы па беларусістыцы. Зборамі Е. карысталіся некаторыя вучоныя, Кракаўская акадэмія, музей Румянцава ў Маскве, Маскоўскае этнаграфічнае таварыства, Асалінэум. У кнізе наведнікаў музея меліся запісы на рускай, польскай, французскай, нямецкай, дацкай, беларускай мовах. Е. напісаў больш за 10 тысяч гісторыка-краязнаўчых артыкулаў пра Беларусь для «Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін», «Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі». Ён прымаў удзел у археалагічных з'ездах у Вільні (1893) і ў Рызе (1896). Літаратурна-журналісцкая праца Е. была найбольш актыўная ў 1880-я гады, супрацоўнічаў больш як у 20 перыядычных выданнях. У яго карэспандэнцыях, незалежна ад тэматыкі, заўсёды закраналіся пытанні маральнасці грамадскіх узаемаадносін. З культурна-асветніцкіх пазіцый ім напісаны матэрыялы пра гастролі ўкраінскай трупы М.Старыцкага ў Мінску, пра бібліятэку Храптовічаў у Шчорсах, збіранне беларускага фальклору ў Мінскай губ., «Паўночна-Заходні каляндар» і інш. Е. ведаў і цаніў творчасць В.*Дуніна-Марцінкевіча*, зберагаў у замосцінскім музеі аўтографы яго твораў, прысвяціў яму верш «Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу, беларускаму паэту» (1872), стаў яго першым біёграфам, быў знаёмы з арыгінальнай паэзіяй і перакладамі Я.*Лучыны*, перапісваўся з Ф.*Багушэвічам* і інш. З клопатамі пра маральнае жыццё вёскі і аптымістычным поглядам у будучыню напісаў вершаваныя і празаічныя брашуры «Сынок» (1895), «Выбіраймася ў прочкі» (1896), «Слова аб праклятай гарэліцы і аб жыцці і смерці п'яніцы» (1900), распаўсюджваў іх сярод дваран і сялян у літаграфаваным выглядзе. У сваіх творах «Гутарка аб тым, якая мае быць «Зямля і Воля» сельскаму народу» (1906) і інш. асуджаў асобныя маральныя заганы тагачаснага грамадства, заклікаў да прыватных рэформ, рацыянальнага вядзення гаспадаркі, апраўдваў сацыяльную няроўнасць. Пераклаў на беларускую мову 1-ю частку паэмы А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (1893), рабіў захады, каб арганізаваць папулярныя выданні для народа накшталт перакладзенай ім на беларускую мову працы польскага эканаміста Ю.Супінскага «Сем вечароў». На рускую мову перакладаў даследаванні польскага філосафа Ю.Ахаровіча «Каханне, злачынства і мараль» (1876), «Пра асноўныя супярэчнасці ў нашых ведах пра сусвет» (1877). Выдаў зборнік «100 прыказак, загадак, прыдумак і гавэндаў для пажытку беларускага (крывіцкага) народа» (1908). Гісторыі этнаграфіі, фальклору, мове і літаратуры Беларусі прысвечаны яго працы на польскай мове: «Заўвагі аб сялянскім пытанні» (1884), «Пра беларускую гаворку» (1885), «Беларуская літаратура і бібліяграфія» (1892), «Нарыс гісторыі мясцовай гаспадаркі ў супастаўленні з народнымі звычаямі ад першабытных да астатніх часоў» (1893—97), «Гістарычныя звесткі пра радзівілаўскую ткальню паясоў у Слуцку» (1893), «Гістарычныя звесткі пра фабрыку шкла і аздобных люстэ-

рак ва Урэччы Радзівілаўскім на Літве» (1899) і інш.

Падзвіжніцкая культурная праца, плённыя навуковыя намаганні Е. мелі шырокі розгалас у славянскім свеце, высока цаніліся ў грамадска-культурных колах і ў навуковым асяроддзі. У 1885 яму прысвоена званне члена-супрацоўніка Вольнаэканамічнага таварыства ў Пецярбургу, а ў 1892 — праваздзейнага члена камісіі гісторыі і мастацтва філалагічнага аддзялення Акадэміі навук у Кракаве. Па малюнку І.Урублеўскага быў адліты медаль Е. Пасля смерці Е. большасць экспанатаў яго музея загінула, частка рукапісных і кніжных збораў трапіла ў музеі і архівы Вільнюса, Мінска, Кракава і Варшавы (фонд Прозараў і Ельскіх у Галоўным архіве старажытных актаў).

*У.І.Мархель.*

## **ЕЛЬСКІ** Міхаіл Карлавіч [26.9(8.10).1831 — студз. 1904]



Беларускі скрыпач, кампазітар, музычны пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Дудзічы (цяпер Пухавіцкі р-н). Атрымаў добрае музычнае выхаванне ў сям'і. Ігры на скрыпцы навучыўся ў К.*Кжыжаноўскага* ў Мінску, В.Банькевіча ў Вільні; у 1860-я гады ўдасканальваў музычнае майстэрства ў славутых скрыпачоў А.В'ётана ў Парыжы, К.Ліпінскага ў Дрэздэне. З пачатку 1860-х гадоў выступаў з канцэртамі ў гарадах Польшчы і Германіі. Доўгі час жыў у сваім маёнтку Дудзічы, адкуль часта выязджаў з канцэртамі ў Мінск і Вільню. У 1884 выступаў у Варшаўскім музычным таварыстве, потым зрабіў новае турнэ па Германіі. У 1902 вялікім канцэртам у Дудзічах адзначыў 50-годдзе сваёй канцэртнай дзейнасці. Меў вялікі музычны рэпертуар, асабліва блізкія яму былі творы Дж.Б.Віёцці, В'ётана, К.Ліпінскага, Л.Шпора. Ён аўтар каля 100 твораў, у т.л. 2 канцэртаў, санаты-фантазіі, фантазіі «Вясна», Бліскучай фантазіі на арыгінальныя тэмы, фантазіі на тэмы польскіх народных мелодый для скрыпкі, скрыпічных і фартэпіянных паланезаў, мазурак, мініяцюр (першыя творы — «Скрыпічныя мініяцюры» апублікаваны ў 1852 у Кіеве). Шмат выступаў як музычны публіцыст. У польскіх часопісах «Ruch muzyczny» («Музычны рух»), «Echo myzyczne» («Музычнае рэха») і інш. друкаваў артыкулы і нарысы пра значных тагачасных кампазітараў і музыкантаў-выканаўцаў, у т.л. беларускіх: Ю.*Дашчынскага*, Кжыжаноўскага, К.Стравінскага і інш. Ва ўспамінах Е. шмат цікавых фактаў пра развіццё музычнага мастацтва на Беларусі. Збіраў і запісваў беларускія народныя мелодыі, выкарыстоўваў іх у сваіх творах. Аўтар працы «Народныя танцы Мінскай губерні» (рукапіс зберагаецца ў Варшаўскім універсітэце), якая не страціла пазнавальнага значэння да нашага часу.

*Літ.:* Дамінікоўскі Ф. Кампазітар і скрыпач М.Ельскі // Беларусь. 1946. №8; Капилов А. Скрипач из Дудичей // Неман. 1978. №5.

*А.Л.Капілаў.*

## **ЕРМАКОЎ** Васіль Пятровіч (11.3.1845—16.3.1922)

Матэматык, педагог. Нарадзіўся ў в. Церуха на Гомельшчыне. Пасля заканчэння Кіеўскага універсітэта ў 1868 пакінуты там для падрыхтоўкі на пасаду прафесара матэматыкі. У 1870 адкрыў новую і цікавую прыкмету збежнасці бясконцых радоў і апублікаваў пра гэта артыкулы «Агульная тэорыя збежнасці радоў» (1870), «Новая прыкмета збежнасці і разбежнасці бясконцых знакапераменных радоў» (1872). У 1871 накіраваны па навуковых справах

за мяжу. У 1874 абараніў магістарскую, у 1879 — доктарскую («Інтэграванне дыферэнцыяльных ураўненняў механікі») дысертацыі і прызначаны прафесарам Кіеўскага універсітэта. У 1884 выбраны членам-карэспандэнтам Пецярбургскай АН. Аўтар шматлікіх прац па матэматыцы, якія публікаваліся ў перыядычным друку. У варыяцыйным вылічэнні выказаў думку пра неабходнасць даследавання поўнага прырашчэння інтэграла. Адзін з арганізатараў Кіеўскага фізіка-матэматычнага таварыства (1889). Выдаваў «Журнал элементарной математики» (1884—86).

*Літ.*: Историко-математические исследования. М., 1956. Вып. 9. С. 667—722.



## ЖАЛІГОЎСКІ (Żeligowski) Эдвард Вітальд (псеўд. Антоні Сава; 20.7.1816 — 28.12.1864)

Польскі паэт рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, філосаф, рэвалюцыйны дзеяч. Нарадзіўся ў фальварку Мар'ямпаль Вілейскага пав. Яго дзяцінства і юнацтва прайшло на Беларусі. За ўдзел у падрыхтоўцы паўстання пад кіраўніцтвам Ш.Канарскага ён быў інтэрніраваны; у 1833—36 вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) універсітэце. У 1842 вярнуўся на радзіму. У 1851 сасланы ў Петразаводск, потым у Арэнбург, дзе перапісваўся з Т.Шаўчэнкам і прысвяціў яму верш «Да народнага паэта». З 1858 жыў у Пецярбургу, там з І.*Агрызкам* выдаў газ. «Słowo» («Слова», 1859). З 1860 жыў за мяжой. Супрацоўнічаў у польскім рэвалюцыйным друку, перапісваўся з А.Герцэнам. Апошнія гады правёў у Жэневе. У антыпрыгонніцкай «драматычнай фантазіі» ў вершах «Ёрдан» (1846), яе працягу «Зорскі» (1847, неапубл.; урыўкі ў 1858 чытаў Шаўчэнку, які ў вершы «Перайманне Эдуарду Саве» выкарыстаў прыведзеную ў «Зорскім» беларускую народную песню «Пасаджу каля хаціны»), антыклерыкальнай паэме «Манахі» (1850), зборніку «Паэзія» і нарысе «Сёння і ўчора» (1858) з абурэннем пісаў пра галечу беларускіх сялян, сцвярджаў права беларускага народа на сваю літаратуру, станоўча ацаніў «Ідылію» В.*Дуніна-Марцінкевіча*. Перапісваўся з А.*Вярыгам-Дарэўскім*. На польскую мову перакладаў творы А.Пушкіна, Г.Гейнэ.

*Літ.*: Мартынава Э., Мальдзіс А. Шаўчэнка і Жалігоўскі // Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн., 1964; Хінкулов Л. Тарас Шевченко і його сучасники. Київ, 1962; Його ж. По следам Оренбургской зимы. Челябинск, 1968. *А.В.Мальдзіс.*

## ЖУКОВІЧ Платон Мікалаевіч [26.9(8.10).1857 — 12.12.1919]

Гісторык Беларусі, Польшчы і Украіны 17—18 ст., педагог. Нарадзіўся ў Пружанах у сям'і святара. У 1871 скончыў Кобрынскае духоўнае вучылішча, у 1877 — Літоўскую духоўную семінарыю, у 1881 — Пецярбургскую духоўную акадэмію. Быў вучнем М.В.*Каяловіча*. Выкладаў у Полацкім духоўным вучылішчы, у Вільні, з 1891 — дацэнт кафедры рускай грамадзянскай гісторыі Пецярбургскай духоўнай акадэміі; з 1894 экстраардынарны, з 1901 ардынарны, з 1911 пазаштатны прафесар. Пасля закрыцця Пецярбургскай духоўнай акадэміі працаваў у Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу. У 1918 выбраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук. Аўтар прац «Кардынал Гозій і польская царква яго часу» (1882, магістарская дысертацыя), «Соймавая барацьба праваслаўнага заходнярускага дваранства з царкоўнай уніяй» (вып. 1—6; 1901—12; доктарская дысертацыя) і артыкулаў па гісторыі Беларусі 2-й паловы 18 ст. У «Соймавай барацьбе...» Ж. даследаваў міжнароднае становішча Рэчы Паспалітай і адносіны яе з Расіяй, Швецыяй, Асманскай імперыяй і манархіяй Габсбургаў за 1587—1632; высвятляў пазіцыю беларуска-літоўскай, украінскай і польскай шляхты, казацтва, пратэстантаў, сялянскіх і гарадскіх саслоўяў. З 1914 займаўся даследаваннем становішча насельніцтва, школьнай справы, адміністрацыйнага кіраўніцтва і суда на тэрыторыі Бела-

русі пасля падзелу Рэчы Паспалітай; працаваў над гісторыяй інвентароў і пачатку сялянскай рэформы на Беларусі 19 ст.;складаў бібліяграфію па гісторыі Беларусі.

*Тв.*: Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1914. №2—5, 7; Западная Россия в царствование императора Павла // Там жа. 1916. №6, 8, 10.

*Літ.*: Тураева Е.Ф. П.Н.Жукович // Дела и дни. 1920. Кн. 1.

## ЖУРАЎСКІ Дзмітрый Пятровіч (1810—23.11.1856)

Эканаміст, статыстык. Паходзіў з дробных дваран Магілёўскай губ. У 1829 скончыў Пецярбургскі кадэцкі корпус. З 1831 працаваў у камісіі М.М.Спяранскага па складанні збору законаў Расійскай імперыі. З 1845 у Кіеве на статыстычнай рабоце. Заснавальнік крытычнага метаду ў статыстыцы. Стварыў сістэму статыстычных паказальнікаў і метадаў вывучэння з'яў грамадства і прыроды, склаў праграму вывучэння прадукцыйных сіл Расіі. Аўтар статыстычных даследаванняў, якія фактычна выкрывалі прыгонны лад і аб'ектыўна садзейнічалі яго скасаванню. У пытаннях палітэканоміі набліжаўся да разумення тэорыі працоўнай і прыбавачнай вартасці. Прычыну ўсіх бедстваў народа бачыў у існаваўшых вытворчых адносінах, у размеркаванні прыватнай уласнасці па класах, адкуль вынікала, што галоўным тормазам развіцця прадукцыйных сіл Расіі з'яўляецца прыгоннае права. Асноўнае прызначэнне ўсёй эканамічнай навукі бачыў у забеспячэнні росту народнага дабрабыту. Прагрэсіўныя палітэканамічныя ідэі Ж. абумовілі правільны метадалагічны падыход да статыстычных даследаванняў, а яго статыстычныя працы зрабілі велізарны ўплыў на ўсё далейшае развіццё эканамічнай навукі ў Расіі. М.Р.Чарнышэўскі назваў Ж. вялікім рускім эканамістам.

*Тв.*: Об источниках и употреблении статистических сведений. М., 1946.

*Літ.*: Бусько В.Н. Экономическая мысль Белоруссии середины XIX — начала XX в.: Очерки. Мн., 1990.

# З 

## ЗАБЕЛІН Іосіф Вікенцьевіч (1.4.1834 — 7.12.1875)

Вучоны-медык. Нарадзіўся ў Віцебскай губ. ў сям'і святара. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Полацкай семінарыі (1854). Па заканчэнні з залатым медалём Санкт-Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі (1858) атрымаў званне лекара і ў ліку 10 лепшых выхаванцаў пакінуты на 3 гады на спецыяльных курсах і прымацаваны да 2-га ваенна-сухапутнага шпіталя. Першае яго навуковае даследаванне па фармакалогіі — «Аб уплыве мыш'яковых слояў на метамарфоз рэчываў у арганізме». За наступную працу «Аб фізіялагічным уздзеянні лімонна-кіслага кафеіну» атрымаў ступень доктара медыцыны (1861) і званне дацэнта фармакалогіі. Для спецыялізацыі ў галіне фармакалогіі ў 1862 на 3 гады накіраваны за мяжу, дзе наведваў лепшыя біёлагахімічныя лабараторыі. Пасля вяртання працаваў у Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі прыват-дацэнтам (1864), ад'юнкт-прафесарам (1866), ардынарным прафесарам (1868). Фармакалогія ў той час спалучалася з інш. спецыяльнасцямі, чыталася на лацінскай мове і ўяўляла сабой нешта накшталт фармакапеі з тэарэтычнымі паказаннямі на выкарыстанне лякарстваў. З прыходам у акадэмію З. тут пачаўся новы падыход да фармакалогіі: гэты курс ён зрабіў самастойным, стварыў добрую лабараторыю, увёў лабараторны эксперыментальны метад фармакалагічных даследаванняў. Лекцыі тут упершыню чыталіся на ўзроўні тагачасных еўрапейскіх поглядаў. У 1870 разам з прафесарамі Я.І.*Багданоўскім*, Ф.М.Заварыкіным і М.М.Рудневым ён выдаваў «Журнал для нормальной и патологической гистологии, фармакологии и клинической медицины», а з 1874 рэдагаваў свой часопіс «Современный лечебник», у якім змяшчаў працы, падрыхтаваныя ў фармакалагічнай лабараторыі. Аўтар шматлікіх прац па фармакалогіі: «Аб уплыве кухоннай солі на засваенне арганізмам вапны,

аднаўленне касцявой тканкі і засваенне жалеза», «Аб умовах выдзялення аміяку з лёгкіх» і інш.

## ЗАВАДСКІЯ

Сямейная дынастыя выдаўцоў і друкароў 19 — 1 пал. 20 ст.

Ю з а ф (7 або 15.3.1781—17.2.1838), заснавальнік выдавецкай справы. Паходзіў з Польшчы. У 1803 пераехаў у Вільню. Пэўны час працаваў у кнігарні Я.Ф.Біча. У 1805 заснаваў тут невялікую ўласную друкарню. Па дамоўленасці з адміністрацыяй Віленскага універсітэта ў жніўні 1805 набыў тытул друкара універсітэта і атрымаў субсідыю на ўдасканаленне друкарні. Ён забяспечыў друкарню найноўшым на той час замежным абсталяваннем, у т.л. шрыфтамі розных моў: польскай, рускай, грэчаскай, арабскай, яўрэйскай. У 1807 арганізаваў пры друкарні стэрэатыпнае аддзяленне. У 1808 адкрыў філіял універсітэцкай друкарні ў Гродне, т. зв. «Новую друкарню». Папера на друкарскія патрэбы друкарняў завозілася галоўным чынам з Расіі, а часткова з мясцовых паперняў Свіслачы, Слоніма, Супрасля. У друкарнях З. выдаваліся школьныя падручнікі, календары, малітоўнікі, а таксама навуковыя універсітэцкія выданні. У 1816 З. набыў універсітэцкую друкарню ва ўласнасць і перавёз яе абсталяванне і кнігарню з універсітэцкіх будынкаў у сваё памяшканне на вул. Замкавай. Але абавязкі універсітэцкага друкара ён выконваў да 1826, кнігара — да 1828. У 1810 Юзаф адкрыў таксама філіял у Варшаве. Віленская кнігарня З., у якой было больш за 20 тыс. кніг, лічылася адной з лепшых у краі. Яна забяспечвалася новай і антыкварнай літаратурай з Варшавы, Вены, Лейпцыга, Парыжа, Лондана, Масквы, Пецярбурга і інш. Для лепшага забеспячэння кнігарні і задавальнення попыту чытачоў З. дамагаўся ад кіраўніцтва універсітэта выдання новых кніг і перакладаў, дапаможнікаў для прафесуры, студэнтаў і вучняў, арганізоўваў пункты па продажы кніг пры школах, выдаваў каталогі літаратуры. У яго друкарні выдаваліся творы І.Лялевеля, А.Бекю, Г.Градэка, В.Страйноўскага, А.Міцкевіча, Красіцкага, Заблоцкага, Трамбіцкага, пераклады з Дж.Байрана, Ф.Купера, В.Скота, Т.Таса і інш. У 1805—21 тут выдаваўся «Палітычны каляндар...», друкаваліся «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»), «Tygodnik Wileński» («Віленскі штотыднёвік»), «Wiadomości brukowe» («Вулічныя навіны») і інш. Выданні З. вылучаліся дасканаласцю паліграфіі, багатымі ілюстрацыямі. Гравюры да кніг напачатку заказваліся майстрам з Парыжа, пазней іх рабілі ў літаграфічнай майстэрні універсітэта. Свае выданні З. адпраўляў на продаж апрача Вільні ў Мінск, Варшаву, Кіеў, а таксама ў Францыю і Германію. У 1823—24 ён тайна забяспечваў кнігамі арыштаваных членаў таварыства філарэтаў, якіх трымалі ў Базыльянскіх мурах. Значныя заслугі Юзафа ў галіне развіцця бібліяграфіі. У 1814 ён выдаў «Гісторыю польскай літаратуры» Ф.Бянткоўскага. Праз бібліятэкі краю (а таксама замежныя), кляштары, літаратараў і бібліяфілаў збіраў звесткі для сваёй бібліяграфічнай працы. Аднак выдаць яе не паспеў. З. актыўна займаўся пашырэннем кніжнага гандлю, выказваўся за правядзенне кніжных кірмашоў. Быў членам Віленскага друкарскага таварыства, удзельнічаў у працы Віленскага таварыства дабрачыннасці. Свой асабісты кнігазбор, у т.л. творы Міцкевіча і Снядэцкага, падараваныя яму аўтарамі, перадаў бібліятэцы Радзівілаў у Манковічах на Піншчыне. Пасля смерці яго кніжную справу працягваў старэйшы сын Адам.

А д а м (12.12.1814—5.1.1875), друкар, выдавец. Нарадзіўся ў Вільні. Сын Юзафа. У 1830 паступіў у Віленскі універсітэт, аднак не скончыў яго з прычыны закрыцця універсітэта (1832). У 1830—36 ён дапамагаў бацьку ў выдавецкіх справах. У 1836 і 1837 наведаў друкарні, кнігарні і бібліятэкі Гданьска, Таруні, Кракава, Варшавы, Берліна, Лондана, Лейпцыга, Парыжа, дзе збіраў матэрыялы для бібліяграфічнай працы бацькі. Стаўшы ў 1838 кіраўніком выдавецкай справы, ён працягваў працу над складаннем бібліяграфіі. У 1840—57 выдаў працу А.Б.*Іёхера* «Бібліяграфічна-гістарычны агляд польскай літаратуры і навук» у 3 тамах. Ненадрукаваныя бібліяграфічныя матэрыялы пазней дасталіся К.Эстрайхеру. Да 1843 выдаваў «Навуковыя партрэты і звесткі» (у гэтай серыі выйшла 60 тамоў). На працягу

1840—60 Віленскае выдавецтва і друкарня З. выпусціла ў свет вялікую колькасць выданняў, у т.л. «Літоўскія малюнкі» і «Літоўскія паданні» І.Ходзькі, творы Я.Чачота, Е.Фялінскай, Ю.Крашэўскага, А.Плуга, У.Сыракомлі і інш., «Шэдэўры драматургіі» (т. 1—2, 1844—45, творы Шэкспіра, Сафокла, Гётэ), навуковыя творы Ф.Бабро ўскага, Я.Снядэцкага, М.Балінскага і інш., серыю «Бібліятэка падарожжаў і маляўніча-гістарычных апісанняў розных краёў» (т. 1—11, 1856—64), ноты С.Манюшкі. У 1849—51 тут друкаваўся часопіс «Athenaeum» («Атэнэум»). На працягу 1854—64 З. выдаваў каля паловы друкаванай прадукцыі, што прыпадала на Вільню. У 1863—64 дзейнасць кніжнай фірмы З. неаднаразова рэвізавалася расійскімі ўладамі, а спецыяльная камісія ў 1865 прызнала яе дзейнасць «шкоднай для русіфікацыі краю». З. вымушаны быў абмежаваць колькасць выданняў, асабліва на мовах краю.

Юзаф (23.11.1818—7.4.1886), друкар, выдавец. Нарадзіўся ў Вільні. Сын Юзафа. Скончыўшы Віленскую гімназію, працаваў у фірме бацькі. У 1839 пераехаў у Кіеў, дзе ў 1841 адкрыў кнігарню і склад нот. У 1852 выдаў каталог нот. Паводле пагадненняў з адміністрацыяй Кіеўскага універсітэта на працягу 1850—84 ён выдаў у сваёй друкарні шэраг каштоўных публікацый на польскай і рускай мовах па пытаннях гісторыі, медыцыны, творы мастацкай літаратуры, а таксама ноты. Быў саветнікам Кіеўскай гарадской думы, а ў 1860—63 яе прэзідэнтам. У 1863 у сувязі з антыпольскімі тэндэнцыямі ў Расійскай імперыі ён вымушаны быў прадаць кнігарню. Выдавецкую справу працягваў яго сын Юзаф (каля 1847 — каля 1903).

Фелікс (каля 1824—25.9.1891), друкар, выдавец. Сын Юзафа старэйшага. Нарадзіўся ў Вільні. У 1847 за распаўсюджванне забароненай літаратуры быў высланы на 10 гадоў у Саратаў. Там заснаваў бібліятэку. Пасля вяртання на радзіму супрацоўнічаў з братам Адамам, пасля яго смерці ўзначаліў выдавецкую справу. У 1881 заснаваў кнігарню ў Коўне. Калі ў 1882 у Вільні была ліквідавана кнігарня Э.Ажэшкі, Фелікс прыняў большасць яе выданняў. Ён працягваў выдавецкую справу, нягледзячы на цяжкасці палітычнага характару, што склаліся ў краі. Выдаваў малітоўнікі, календары, дзіцячую літаратуру, невялікімі тыражамі творы І.Ходзькі, М.Дубіцкага, Ю.Крашэўскага і інш., «Даведнік па Вільні і наваколлі» А.Г.Кіркора (1880), некалькі каталогаў наяўнай літаратуры.

Фелікс (1874—1940), друкар, выдавец. Нарадзіўся ў Вільні. Старэйшы сын Фелікса. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Кіраўніцтва выдавецкімі справамі бацькі ўзначаліў у 1895. Пасля 1905 у сувязі са спрыяльнымі зменамі ў палітычным жыцці краіны актывізаваў выдавецкую дзейнасць, забяспечыў друкарню найноўшым абсталяваннем, пашырыў кнігагандлёвыя кантакты з выдавецтвамі Літвы, Беларусі, Украіны, Польшчы і замежжа. Друкаваў працы Віленскага таварыства сяброў навук, у т.л. яго штогоднік, выдаў гістарычныя працы пра Вільню Е.Яленскай, Курчэўскага, Загорскага, «Альбом прыгожых мясцін Вільні» Ю.Славацкага, буквары, спеўнікі. Гэтыя выданні разыходзіліся па Беларусі, Літве і Украіне. У 1908 выдавецкая справа З. была падзелена: кнігарню забраў малодшы брат Адам, у Фелікса засталася друкарня і пераплётная майстэрня. Выдавецтва ў Вільні існавала да 1939. Пасля 2-й сусветнай вайны яно перавезена ў Беласток, дзе некалькі гадоў дзейнічала як выдавецтва Завадскага. *Г.А.Маслыка.*

## ЗАВІТНЕВІЧ Уладзімір Зянонавіч (14.4.1853 — сакавік 1927)

Беларускі археолаг і гісторык. Нарадзіўся ў в. Ліцвяны (цяпер Уздзенскі р-н). Скончыўшы Пецярбургскую духоўную акадэмію (1879), працаваў настаўнікам у Варшаўскім духоўным вучылішчы, з 1894 дацэнт на кафедры грамадзянскай гісторыі Кіеўскай духоўнай акадэміі, прафесар (1904). Вывучаў старажытна-рускую гісторыю. У сваіх працах распрацоўваў пытанні гісторыі рускай народнасці, аналізаваў традыцыі рускіх славянафілаў, раскрываў карані патрыятызму і інш. Вялікае значэнне надаваў асвятленню барацьбы славянафілаў супраць каталіцкай экспансіі і яе наступлення на

самабытную рускую культуру. Аўтар прац «Уладзімір Святы як палітычны дзеяч», «Святаслаў Ігаравіч і гістарычнае значэнне яго волатаўскіх подзвігаў» (абедзве 1888), «Значэнне першых славянафілаў у справе ўсведамлення ідэй народнасці і самабытнасці» (1891), «Пытанне аб народнасці ў яго навуковай пастаноўцы» (1912) і інш. З. займаўся і археалогіяй. Ён асноўны даследчык археалагічных помнікаў усходніх славян на тэрыторыі Беларусі, у прыватнасці курганных старажытнасцей дрыгавічоў. Правёў археалагічныя экспедыцыі ў басейнах Прыпяці, Дняпра, Бярэзіны, вярхоўяў Нёмана. Даследаваў каля 700 курганоў дрыгавічоў у 82 могільніках, найбольш у Мазырскім, Рэчыцкім і Бабруйскім пав. Характэрным для дрыгавічоў лічыў пахавальны абрад трупапалажэння на гарызонце, а выяўленыя ў падкурганных ямах пахаванні адносіў да драўлян і палян, якія перасяляліся на землі дрыгавічоў. Вызначыў межы рассялення дрыгавічоў, іх этнавызначальныя прыкметы. Зрабіў першую спробу гістарычнай інтэрпрэтацыі археалагічнага матэрыялу, сабранага пры раскопках дрыгавічоўскіх курганоў. Вывады З. выкарыстоўвалі ў сваіх працах А.С.Грушэўскі, Я.Ф.*Карскі*, А.А.Спіцын і інш. Памёр і пахаваны З. у Кіеве.

*Тв.*: Из археологической экскурсии в Припятское Полесье. Киев, 1890; Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1891; Формы погребального обряда в могильных курганах Минской губернии // Тр. IX археологического съезда в Вильне. М., 1895. Т. 1.

## **ЗАЛЕСКІ** Браніслаў Францавіч (псеўд. Літвін; 1819 — 2.1.1880)

Польскі і беларускі мастак, пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Рачкавічы Слуцкага р-на. У час вучобы ў Дэрпцкім універсітэце (1840-я гады) удзельнічаў у нелегальных студэнцкіх гуртках. У 1846 арыштаваны, у 1847 сасланы ў Арэнбург, потым у Хіву, Туркестан. У ссылцы пасябраваў з Т.Р.Шаўчэнкам, перапісваўся з ім у 1853—59. Разам з ім удзельнічаў як рысавальшчык у экспедыцыях па Аральскім краі і ў горы Каратау. У 1856 вярнуўся ў Рачкавічы, дзе стварыў шэраг пейзажаў. Жыў у в. Дарава каля Баранавіч, у Мінску, пад Гроднам (1857—59). У пач. 1860-х гадоў эмігрыраваў за мяжу. Жыў у Дрэздэне, Рыме (стварыў афорты «Калізей у Рыме», 1864, «Від Сан-Мало»), з 1862(?) у Парыжы. Памагаў паўстанцам 1863—64 у закупцы зброі. Сакратар Гісторыка-літаратурнага таварыства і рэдактар яго штогоднікаў (з 1866), выпусціў ілюстраванае (22 афорты) выданне «Жыццё кіргізскіх стэпаў» (1865), «Польскія выгнаннікі ў Арэнбургу» (1866), а таксама ўспаміны пра сучаснікаў. Аўтар прац «Адмена прыгонніцтва ў Літве» (1868), «З жыцця літвінкі» (пра мастачку А.Скірмунт, 1876) і інш. Стварыў шэраг малюнкаў пра паўстанне 1863—64 («Серакоўскі ў турме», 1863, і інш.), пейзажаў, у т.л. «Паток у Ціролі». Сябраваў з Ц.Нарвідам, быў адрасатам яго паэтычнага ліста «Да Браніслава З.». Перапісваўся з А.І.Герцэнам. Член-карэспандэнт АН у Кракаве (1873).

*Тв.*: У кн.: Т.Г.Шевченко в воспоминаниях современников. М., 1962. С. 237—241.

*Літ.*: Александровіч С. Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 173—181.

*Л.Н.Дробаў.*

## **ЗАМЫСЛОЎСКІ** Ягор Ягоравіч [6(18).6.1842—9(21).5.1896]

Гісторык, археограф, педагог. Нарадзіўся ў Гродне ў сям'і чыноўніка. У 1862 скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. З 1864 выкладаў у Паўлаўскім жаночым інстытуце, Аляксандраўскім ліцэі і іншых навучальных установах. З 1869 выкладчык Гісторыка-філалагічнага інстытута, а ў 1871 пасля абароны дысертацыі на ступень магістра рускай гісторыі штатны дацэнт у Пецярбургскім універсітэце. У 1878 чытаў курс гістарычнай геаграфіі ў Археалагічным інстытуце. З 1884 пасля абароны доктарскай дысертацыі на тэму «Герберштэйн і яго гістарычна-геаграфічныя звесткі пра Расію» зацверджаны ардынарным прафесарам Пецярбургскага універсітэта, у якім чытаў лекцыі па гісторыі Расіі 17 ст., помніках старажытнага рускага права, гістарыяграфіі і гістарычнай геаграфіі. У 1880—89 выкладаў рускую і ўсеагульную гісторыю для будучага цара

Мікалая II. З 1888 — член-карэспандэнт Акадэміі навук. У 1890 пакінуў службу ва універсітэце з-за хваробы. Апрача дысертацый напісаў шэраг прац: «Летапіс заняткаў Археаграфічнай камісіі» (т. 5—7. 1871, 1875, 1877), «Апісанне Літвы, Самагіціі, Русі і Масковіі Себасцьяна Мюнстэра ў XVI ст.» (1880), «Зносіны Расіі з Польшчай у цараванні Фёдара Аляксеевіча» (1887), «Пра зносіны з Захадам пры Іване Грозным» (1889) і інш. Склаў «Гісторыю расійскіх ордэнаў» (выйшла ў 1899), а таксама тэхнічны слоўнік для карыстання дакументамі часоў царавання Пятра I і вучэбны атлас па рускай гісторыі (апошні некалькі разоў перавыдаваўся). З. — адзін з першых рускіх гісторыкаў, які выказаў думку, што пачатак рубяжа Новага часу для гісторыі Расіі прыпадае на Смутны час. Пазней ён аднёс гэты рубеж да першай трэці 16 ст. У працы «Герберштэйн...» крытычна аналізаваў звесткі Герберштэйна і яго папярэднікаў пра Усходнюю Еўропу. Упершыню адзначыў ролю рускага народа ў геаграфічных адкрыццях сярэднявечча. Ён лічыў, што каланізацыя, рост і фарміраванне дзяржаўных органаў у пэўнай ступені залежалі ад прыродных і геаграфічных умоў, што на працэс феадальнай раздробленасці ўплывалі этнічныя адрозненні. У класавых рухах 17 ст. ўлічваў нацыянальны фактар. Падрабязна даследаваў руска-польскія адносіны ў 1-й палове 17 ст., сувязі Расіі з Англіяй, Даніяй і Швецыяй у 16—17 ст. і прыйшоў да высновы, што ўдзел Расіі ў справах Цэнтральнай Еўропы прасочваецца ўжо з сярэдзіны 16 ст. Сцвярджаў, што 1670—80-я гады, якія прыпадалі на гады праўлення цара Фёдара Аляксеевіча, не былі застойным часам у асвеце і культуры Расіі.

## **ЗАН** Тамаш (21.12.1796 — 19.7.1855)

Паэт-рамантык, удзельнік рэвалюцыйнага руху, даследчык прыроды. Нарадзіўся ў в. Мясота Навагрудскага пав. Мінскай губ. ў беларускай шляхецкай сям'і па прозвішчы Зань. Дзяцінства яго прайшло ў Вязыні, куды ўладкаваўся аканомам яго бацька Кароль пасля ўдзелу ў паўстанні пад



кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. У 1807 паступіў у Мінскую гімназію, пасля хваробы працягваў вучобу ў павятовай школе ў г. Маладзечна. У 1815 паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта і адначасова займаўся на літаратурным факультэце. Чалавек надзвычайнай сілы волі і душэўнай чысціні, З. карыстаўся вялікай павагай сярод студэнтаў і выкладчыкаў, быў кумірам моладзі. Галоўнай мэтай свайго жыцця лічыў падрыхтоўку моладзі да рашучай бітвы з царскім самаўладдзем за вызваленне роднай Беларусі ад дэспатызму. У 1815—20 у час вучобы арганізоўваў тайныя і легальныя гурткі моладзі, стаў кіраўніком патрыятычнага і дэмакратычнага руху, арганізатарам радыкальных згуртаванняў моладзі ў Вільні. Разам з А.*Міцкевічам* і Ю.Яжоўскім быў ініцыятарам стварэння таварыства філаматаў, якое стала ядром іншых прагрэсіўных арганізацый, таварыства філарэтаў (сяброў дабрачыннасці), кіраваў больш шырокім і разгалінаваным згуртаваннем моладзі — таварыствам «прамяністых». Я.*Чачот* прысвяціў яму верш «У дзень урачыстасці ў гонар Тамаша Зана 29 мая 1821 года», дзе ёсць радкі: «О, брацці! Нам заўтра шчаслівае ззяе! Яго перад намі Тамаш расчыняе!». Захаваліся дакументы аб выдачы З. дыплома магістэрскай ступені па

філасофіі, які ён не паспеў атрымаць з-за арышту.

У 1823 пасля арышту на працэсе З. праявіў мужнасць і высакароднасць: каб выратаваць сваіх сяброў па арганізацыі, усю віну за яе дзейнасць узяў на сябе. Пра гэта расказаў А.Міцкевіч у паэме «Дзяды», дзе намаляваў вобраз З.

У 1824 высланы ў Арэнбург, там прабыў 13 гадоў. У час ссылкі аб'ездзіў Урал, Прыўралле, Тургайскі стэп, займаўся даследаваннем нетраў, флоры і фауны. Знайшоў каля Самары нафту, каля Троіцкай крэпасці — медную руду, у Зауральскім стэпе — багатыя паклады золата. Стварыў мінералагічны музей у Арэнбургу. У 1837 З. дазволена пераехаць у Пецярбург, дзе працаваў бібліятэкарам у Горным інстытуце, а ў 1841 вярнуцца на радзіму, дзе ён набыў маёнтак Кахачын каля Оршы і займаўся літаратурнай дзейнасцю.

З. — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, якая спалучае ў сабе рысы асветніцтва і рамантызму. Адыграў значную ролю ў развіцці новага літаратурнага кірунку — рэвалюцыйнага рамантызму. Пісаў на польскай мове, але яго творчасць грунтавалася на родных крыніцах, гісторыі беларускага народа. Адзін з першых звярнуў увагу на народную паэзію, вусную творчасць як на крыніцу абнаўлення і ўзбагачэння літаратуры. З. апяваў прыгажосць роднай Беларусі, уваскрашаў гісторыю беларускага народа. У камедыі «Грэцкія піражкі» (1817) выкарыстаў беларускі фальклор, у паэме «Табакерка» (1818) апісаў беларускае вяселле, свята Купалле, звычаі і абрады беларусаў. Ім напісаны балады і паэмы «Цыганка», «Свіцязь-возера», «Твардоўскі», «Бекіш», лірычныя вершы. Сваёй творчасцю звярнуў увагу на багацце беларускага фальклору, гістарычную пераемнасць і прыгажосць мовы беларусаў. З. аказаў значны ўплыў на паэтычную творчасць А.Міцкевіча, сябраваў з Я.Чачотам, А.*Адынцом* і інш. пісьменнікамі.

*Тв.*: Triolety i wiersze miłosne. Warszawa, 1922; Z wygnania. Wilno, 1929.

*Літ.*: Грыцкевіч В.П. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986. С. 92—131; Калинкович Н. «Дело №26 // Неман. 1990. №4; Цвірка К. Дарогамі Т.Зана // Полымя. 1992. №5—6. *Т.І.Доўнар.*

## **ЗАРАНКА** Сяргей Канстанцінавіч [24.9(6.10).1818 — 20.12.1870]

Жывапісец, педагог. Нарадзіўся ў в. Ляды Дубровенскага р-на. У сярэдзіне 1830-х гадоў вучыўся ў А.Венецыянава, скончыў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў (1834). З 1843 акадэмік. З 1856 прафесар Маскоўскага вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. Лепшыя яго жывапісныя творы адметныя дакладнасцю і матэрыяльнасцю пісьма. Аўтар партрэтаў мастака А.Венецыянава (1830-я гады), спевака В.Пятрова (1840), скульптара-медальера Ф.Талстога (1850), групавых і сямейных партрэтаў. Сярод групавых партрэтаў вылучаецца «Выгляд залы вучылішча правазнаўства з групамі настаўнікаў і выхаванцаў» (1841), з інтэр'ерных карцін — «Унутраны выгляд Марскога Нікольскага сабора» (1843). Як педагог ён распрацаваў сістэму выкладання, пабудаваную пераважна на вывучэнні натуры, дакладнасці ў перадачы бачнага свету. Адыграў вялікую ролю ў выхаванні цэлага пакалення мастакоў-рэалістаў. Сярод яго вучняў вядомыя рускія мастакі В.Р.Пяроў, У.Я.Макоўскі і інш.

*Літ.*: Смирнов Г. С.К.Зарянко, 1818—1870. М., 1951; Алексеева Т. Художники школы Венецианова. М., 1958.

## **ЗАРЭМБА** Мікалай Іванавіч (1821—1879)

Музычны педагог і тэарэтык. Паходзіў з дваран Віцебскай губ. Займаўся музыкай з дзяцінства. Працягваў музычныя заняткі і ў час вучобы ў Пецярбургскім універсітэце. Напісаная ім сімфонія была з поспехам выканана студэнцкім аркестрам. Пасля заканчэння універсітэта З. паступіў на цывільную службу, але ў хуткім часе выйшаў у адстаўку, прадаў свой маёнтак, каб на атрыманыя грошы паехаць за мяжу для грунтоўнага вывучэння музыкі. Займаўся ў вядомага еўрапейскага тэарэтыка музыкі Маркса. Вярнуўшыся ў Пецярбург у 1854, прыняў на сябе кіраўніцтва харавым таварыствам пры лютэранскай Петрапаўлаўскай царкве. У 1859 па запрашэнні А.Рубінштэйна пачаў чытаць лекцыі ў класах пры Імператарскім рускім музычным тава-

рыстве, а пасля пераўтварэння гэтых класаў у 1862 у кансерваторыю прызначаны ў ёй прафесарам тэорыі музыкі. З. вылучаўся як выдатны педагог і добры чалавек. Разам з Рубінштэйнам імкнуўся ўзняць Пецярбургскую кансерваторыю да ўзроўню лепшых заходнееўрапейскіх кансерваторый. Калі ў 1867 Рубінштэйн адмовіўся ад кіраўніцтва кансерваторыяй, З. стаў яе дырэктарам і, не пакідаючы педагагічнай дзейнасці, заставаўся на гэтай пасадзе да 1873. Сярод вучняў З. быў П.І.Чайкоўскі.

## ЗАРЭМБА-КАЛІНОЎСКІ Феліцыян Марцін (4.3.1794 — ?)

Філосаф. Нарадзіўся на Навагрудчыне. Рана застаўся без бацькоў, выхоўваўся ў дзядзькі. Скончыўшы Дэрпцкую (Тартускую) гімназію (1813), паступіў у Дэрпцкі універсітэт і ў 1816 атрымаў ступень доктара філасофіі за дысертацыю «Разважанне аб цэхах рамесных у адносінах палітычных, і ў асаблівасці палітыка-эканамічных, з далучэннем патрэбных гістарычных паведамленняў» (выдадзена ў 1817 у Літве). Пасля заканчэння універсітэта накіраваны на службу ў Дзяржаўную камісію замежных спраў. Аднак пад уплывам кніг містычнага кірунку, асабліва пад уражаннем жыццеапісання Юнт-Шчілінга, адчуў цягу да духоўнага подзвігу. У 1818 ён паехаў за мяжу і ўступіў у члены Базельскай евангельскай місіі. Адтуль накіраваны ў Астрахань, каб прапаведаваць хрысціянства сярод магаметан, потым перабраўся ў Шушу (Азербайджан), дзе місія купіла дом, арганізавала друкарню і выдавала кнігі духоўнага зместу. У 1830-я гады дзейнасць Базельскай місіі ў Шушы спынена і З.-К. пасяліўся і прапаведаваў у Тыфлісе (Тбілісі). Яго пропаведзі вызначаліся арыгінальнасцю, пераканаўчасцю, добра ўспрымаліся слухачамі. Сучаснікі характарызуюць яго як стараннага служыцеля Богу і блізкім, які не ведаў раскошы, быў вельмі патрабавальны да сябе. У чаканні новага прызначэння з Базеля ён быў гатовы ісці хоць на край свету, абы служыць Богу паводле дадзенага абяцання. У 1856 наведаў радзіму, потым жыў у Рэвелі (Таліне), дзе выдаў сваю аўтабіяграфію «Маладыя гады».

*Тв.*: Wie Gott mich führt, so will ich gehen. Reval, 1857.

## ЗДАНОВІЧ Аляксандр (1808—68)

Педагог, пісьменнік. Нарадзіўся ў Ігуменскім пав. (цяпер Чэрвеньскі р-н, Мінская вобл.) у сям'і збяднелага шляхціца. Пачатковую адукацыю атрымаў у Ігуменскай павятовай базыльянскай школе (1825). На працягу 2 гадоў быў прыватным настаўнікам, а зарабіўшы крыху грошай, паступіў у Віленскі універсітэт, які скончыў са ступенню кандыдата навук (1831). З 1834 на працягу 15 гадоў выкладаў лацінскую мову і літаратуру ў старэйшых класах Віленскага шляхецкага інстытута, а пасля ўзначальваў кафедру агульнай гісторыі да закрыцця інстытута ў 1863. Адначасова некалькі гадоў працаваў у рэдакцыі газеты «Виленский вестник» памочнікам рэдактара А.*Адынца*, прымаў удзел у стварэнні слоўніка польскай мовы Аргельбранда, чытаў лекцыі ў жаночых пансіёнах Вільні, у прыватных дамах, выкладаў расійскую гісторыю ў Віленскай каталіцкай семінарыі. Добра ведаў некалькі моў. З 1863 займаўся літаратурнай дзейнасцю, якую спыніла смерць адзінага сына (за ўдзел у паўстанні ён быў пакараны смерцю праз павешанне ў Віленскай турме Лукішкі). Гэта падзея вельмі ўразіла З., паўплывала на яго маральны і фізічны стан і прывяла да заўчаснай смерці. На працягу шматгадовай асветніцкай дзейнасці З. назапасіў багаты вопыт выкладання розных прадметаў, вынікам чаго з'явіўся шэраг складзеных ім дапаможнікаў, у т.л. «Слоўнічак французскай мовы з кароткай інфармацыяй па вымаўленні і размове» (1832), «Французская граматыка для дзяцей» (1830, 1839, 1844), «Этнаграфічная табліца паводле метаду Язвінскага» (1845), «Агульная гісторыя для школьнай моладзі» (1861) і інш. Многія працы З. засталіся ў рукапісах, але яго жонка незадоўга да сваёй смерці прадала архіў і месца знаходжання яго невядома.

## **ЗНОСКА** Ян (1772—1833)

Філосаф, палітэканом, выкладчык, перакладчык. Нарадзіўся на Гродзеншчыне. Вучыўся ў Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага (Віленскі універсітэт), у Т.*Гусаржэўскага*, М.*Вольскага*, Ж.*Жылібера*, І.*Страйноўскага*, слухаў лекцыі Г.Форстэра. Пасля сканчэння універсітэта быў ад'юнктам філасофіі, потым выкладчыкам палітэканоміі, з 1810 прафесар і загадчык кафедры. З. — адзін з першых, хто ў пач. 19 ст. выкладаў філасофію, якая адрадзілася ў Віленскім універсітэце пасля адмены гэтага прадмета ў Галоўнай школе. У духу часу З. аддаваў перавагу філасофіі французскіх асветнікаў, найперш Э.Б.Кандзільяку, «Логіка» якога была падручнікам у школах. Верагодна, ужо тады ён марыў пра поўны пераклад гэтага твора Кандзільяка. Справа ў тым, што ў Кандзільяка ёсць 2 блізкія адзін да аднаго творы «Мастацтва аргументацыі» і «Логіка»; першы больш акадэмічны (перакладзены на польскую мову Гусаржэўскім), другі — бліжэй да выкладання прадмета логікі, яго і пераклаў З. Пераклад, відаць, зроблены па заданні Адукацыйнай камісіі для публічных школ. У прадмове З. пісаў, што гэты твор паказвае найбольш просты шлях пошуку ісціны і навучання ісціне, «пераклад яго... ёсць разам з тым даніна таму дастойнаму захапленню аўтару, якога справядліва лічаць адным з выдатнейшых філосафаў 18 ст...». Далей З. сцвярджае, што амаль усе творы Кандзільяка ў Францыі сталі падручнікамі і што гэта кніга ўбачыла свет дзякуючы намаганням «славутых мужоў, якія клапоцяцца пра пашырэнне сярод народа грунтоўнай асветы». Пра цяжкасці перакладу «Логікі» на польскую мову З. гаварыў наступнае: «Чым больш я пра ўсё гэта думаю, тым мацней адчуваю, што ўзяў на сябе працу, якая не адпавядае маім сілам, і павінен тут прызнацца, што жаданне быць карысным мясцовай моладзі, якая прысвяціла сябе служэнню грамадству, перамагло перакананне ва ўласнай бяздарнасці і асабістыя цяжкасці, з якімі трэба было змагацца, асабліва пры недахопе народнага Слоўніка». Заўвагі З. да гэтага твора сведчаць аб яго прыхільнасці да філасофіі Асветніцтва. Так, разглядаючы тэорыю ісціны, ён падтрымлівае канцэпцыю Кандзільяка і інш. французскіх асветнікаў і лічыць, што яны бліжэй да ісціны, чым Дэкарт і Мальбранш. У іншых заўвагах З. паказаў сваё разуменне сувязі матэматычных дасягненняў Лангранжа і Эйлера ў іх адносінах да аналітычнага спосабу мыслення. Цікавая і яго заўвага пра ўспрыняцце філасофіі Кандзільяка ў мясцовай філасофскай думцы: «Сапраўды філасофскія думкі, выказаныя аўтарам у гэтым раздзеле, як і тыя, што аўтар выказаў у першай частцы, сведчаць пра маральнасць людскіх спраў, выкарыстаны ў польскай літаратуры з усёй паўнатой і для шчасця народа выкладзены дакладна, вычарпальна і грунтоўна ў творы пад назвай «Навука натуральнага права» Страйноўскага, былога прафесара і рэктара Галоўнай школы Віленскай, і ў многіх публічных дысертацыях таго ж аўтара».

Творчая эвалюцыя З. ішла ад філасофіі да палітычнай эканоміі. У 1808 па рэкамендацыі Я.Снядэцкага З. камандзіраваны за мяжу, каб грунтоўна вывучыць палітычную эканомію, бо ва універсітэце меркавалі стварыць адпаведную кафедру. Пры яе стварэнні ў 1810 былі ўлічаны парады выдатнага швейцарскага вучонага, заснавальніка эканамічнага рамантызму С. дэ Сісмандзі (1773—1842). Кафедру ўзначаліў Ш.Малеўскі, а З. праводзіў галоўную працу па распрацоўцы курса, у якім ён аддаваў перавагу ліберальным эканамічным ідэям А.Сміта. У 1811 гэты курс пад назвай «Навука эканоміі палітычнай» быў выдадзены ў Вільні як падручнік па палітычнай эканоміі. Пазней З. надрукаваў «Даследаванне пра палітычную эканомію, яе гісторыю і сістэмы» (1816). У гэтых працах З. знаёміў чытача з ідэямі свабоднай канкурэнцыі, прынцыпамі асабістага прадпрымальніцтва і ініцыятывы. Але ў некаторых пытаннях (напр., нацыянальнага багацця, розных тыпаў працы і інш.) ён ставіўся крытычна да Сміта, кіруючыся тэндэнцыйным каментарыем прафесара Гётынгенскага універсітэта Сарторыуса. У 1810—24 З. загадваў кафедрай палітычнай эканоміі. У 1827 ён выбраны дэканам факультэта. Значная заслуга З. і ў падрыхтоўцы да друку перакладу Статута Літоўскага 1588 г. на рускую мову. З 1822 ён уз-

начальнаў камітэт падрыхтоўкі аўтэнтычнага тэксту і перакладу статута на рускую мову.

*Літ.*: Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971. С. 134—135; Шалькевич В.Ф. Общественно-политические мысли Белоруссии в первой половине XIX века. Мн., 1993. С. 13—14. Ryszard W. Wołoszynski Polsko-rosyjskie zwiqzkim naukach społeznych 1801—1830. Warszawa, 1974. S. 423; Polska mysl filozoficzna: Oświecenie. Romantyzm: Wybrane teksty z historii filozofii. Warszawa, 1964. S. 25; Polska myśl filozoficzna i spoleczna. Warszawa. 1973. S. 599; Filozofia w Polsce: Słownik pisanzy. Wrocław etc., 1791. S. 451; Чепене К., Петраускене И. Издания типографии Вильнюсской академии 1576—1805: Библиогр. Вильнюс, 1979. С. 491; История Вильнюсского университета (1579—1979). Вильнюс, 1979. С. 79. *Э.К.Дарашэвіч.*

## ЗУБКО Антоній (1797—1884)

Рэлігійны дзеяч, мінскі праваслаўны архіепіскап. Нарадзіўся ў в. Белая Лепельскага пав. Віцебскай губ. ў сям'і уніяцкага святара. Страціўшы ў 6-гадовым узросце бацьку, спачатку вучыўся ў мясцовага арганіста, потым у 1809 паступіў у Полацкую семінарыю. У 1816 ён перайшоў у Полацкую езуіцкую акадэмію, якую паспяхова скончыў са ступенню кандыдата філасофіі. Потым навучаўся ў Віленскай семінарыі пры Віленскім універсітэце, дзе ў 1822 атрымаў ступень магістра багаслоўя і прызначаны ў Полацкую семінарыю выкладчыкам логікі, рыторыкі, царкоўнай і ўсеагульнай гісторыі, а таксама маральнага багаслоўя. У 1824 стаў святаром Полацкага уніяцкага кафедральнага сабора. Першы рэктар заснаванай ім Жыровіцкай уніяцкай семінарыі. З 1833 епіскап брэсцкі, вікарый літоўскай уніяцкай епархіі. Блізка сышоўся з І.*Сямашкам*, стаў яго прыхільнікам і дзейным супрацоўнікам па аб'яднанні уніятства з праваслаўем. У 1839 падпісаў акт пра аб'яднанне уніяцкай царквы з праваслаўнай. У 1840 стаў праваслаўным мінскім епіскапам, у 1841 — архіепіскапам. У 1864 выдаў працу «Аб грэкауніяцкай царкве ў Расіі». М.В.*Каяловіч* называў яго «незвычайным прыхільнікам» праваслаўя. Пад канец свайго жыцця перасяліўся ў Жыровіцкі манастыр, дзе і памёр.

## ЗЯНКОВІЧ (Zieńkowicz) Леан (11.4.1808—12.12.1870)

Польскі паэт, публіцыст, мемуарыст. Нарадзіўся ў в. Ляхі Пружанскага р-на. Называў сябе палешуком. Скончыў Свіслацкую гімназію, вучыўся ў Варшаўскім універсітэце. Удзельнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830—32, пасля яго паражэння — у эміграцыі. У 1837 далучыўся да Польскага дэмакратычнага таварыства ў Францыі. У 1839—44 рэдагаваў у Страсбургу і Парыжы сатырычна-палітычны часопіс «Pszonka» («Пшонка»). Аўтар вершаваных твораў «Узнагарода за нявернасць», «Роздум», прац «Польскі народ, або Дакладнае апісанне звычаяў, нораваў, адзення яго і г.д.» (1842, апісвае побыт палешукоў), «Палітычны агляд пісьменства польскай эміграцыі» (1847), «Палітычны агляд гісторыі Польскай дзяржавы» (т. 1—4, 1864—65), «Палітычны агляд польскай літаратуры» (т. 1—2, 1867). Найбольш вядомы яго твор «Вечары ляха з Ляхаў, або Гутаркі пры каміне старога польскага літаратара», у якім разважае пра выхаванне і адукацыю моладзі, успамінае дзяцінства і вучобу ў Свіслачы, расказвае пра беларускіх прыгонных сялян. *А.В.Мальдзіс.*

## ЗЯНЬКЕВІЧ Рамуальд Сымонавіч (1.2.1811—11.9.1868)



Беларускі фалькларыст, этнограф, педагог. Нарадзіўся ў Свянцянскім пав. Віленскай губ. У 1830 скончыў

Віленскі універсітэт. Збіраў беларускія народныя песні. У 1847 у часопісе «Athenaeum» («Атэнэум») у перакладзе на польскую мову надрукаваў «Народныя песні, сабраныя на Піншчыне і перакладзеныя Р.Зянькевічам». У зборніку «Народныя песенькі пінскага люду» (Коўна, 1851) змясціў 219 народных песень, запісаных над Пінай, Прыпяццю і Цной. Каментарыі да гэтых песень расшырыў і з дапаўненнямі апублікаваў у артыкуле «Пра ўрочышчы і звычаі пінскага люду, а таксама пра характар яго песні» ў часопісе «Biblioteka Warszawska» («Бібліятэка Варшаўская». 1852. Т. 4; 1853. Т. 1). У артыкуле даў апісанне працоўных працэсаў, каляндарных і сямейных абрадаў, вераванняў і забабонаў. Упершыню расказаў пра старажытны веснавы абрад куста, пахавальныя абрады, памінальны абрад «дзяды». Звяртаючыся да гісторыі пасялення Палесся, абвяргаў сцвярджэнні пра тое, што ў 6 ст. да н.э. на Палессі жылі будзіны, а славяне з'явіліся там параўнальна нядаўна. Спасылаючыся на прыведзеныя ім назвы ўрочышчаў, абрады, звычаі і вераванні, сцвярджаў, што Піншчына заселена славянамі са старажытных часоў. Цікавіўся археалогіяй, абследаваў гарадзішчы, валы, курганы на Ашмяншчыне, у Тураве, Крэве (арт. «Пра курганы і гарадзішчы Ашмянскага павета», 1848). Пісаў вершы, даследаваў польскую літаратуру, паасобныя праблемы педагогікі. Частка яго рукапіснай спадчыны зберагаецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Літвы ў Вільнюсе.

*І.У.Саламевіч.*



## ІВАНОЎСКІ Ігнат Акінфавіч (1807—86)

Вучоны юрыст, педагог. Выхаванец Мінскай гімназіі. Пасля сканчэння Віленскага універсітэта (1826) працаваў настаўнікам гісторыі і геаграфіі ў Віленскай гімназіі. У 1827 накіраваны ў Маскоўскі універсітэт для дасканалага вывучэння рускай мовы, а з 1828 вучыўся ў прафесарскім інстытуце ў Дэрпце (Тарту). Ступень доктара права атрымаў за дысертацыю «Свабода гандлю». У 1835—1871 загадваў кафедрай агульнанароднага права і дыпламатыі Пецярбургскага універсітэта. У 1863 выбраны дэканам юрыдычнага факультэта. Чытаў курсы міжнароднага і дзяржаўнага права галоўных еўрапейскіх дзяржаў. Выкладаў таксама ў іншых навучальных установах Пецярбурга. У Аляксандраўскім ліцэі чытаў лекцыі па статыстыцы і палітычнай эканоміі. За шматбаковую адукацыю, займальнае выкладанне і красамоўства быў прызнаны бліскучым выкладчыкам. Аўтар прац: «Беглы погляд на навуку дыпламатыі наогул» (1836), «Аб пачатках паступовага ўдасканалення дзяржавы» (1837), «Настаўленне па статыстыцы еўрапейскіх дзяржаў» (1856) і інш., шэрага артыкулаў у перыядычным друку.

## ІВАНОЎСКІ Міхаіл Якімавіч (1823—91)

Царкоўны дзеяч, асветнік. Нарадзіўся на Гродзеншчыне ў сям'і свяшчэнніка. Пасля сканчэння семінарыі паступіў у Пецярбургскую духоўную акадэмію, але з-за хваробы не скончыў яе поўнага курса. У 1844 працаваў настаўнікам у Беразвецкім духоўным вучылішчы Літоўскай епархіі. У 1845 прыняў сан свяшчэнніка. З 1848 па 1863 выкладаў Закон Божы ў Маладзечанскім павятовым вучылішчы для дваран, а з 1864 па 1875 — у зноў адкрытай настаўніцкай семінарыі. Пазней служыў свяшчэннікам у праваслаўных цэрквах у Дзясне, Радаме, Любліне. Надрукаваў «Настаўленне да вывучэння Закона Божага» (1876), у перыядычных выданнях («Литовские епархиальные ведомости», «Журнал Министерства народного просвещения» і інш.) змясціў шмат пропаведзей, артыкулаў і нататак рэлігійнага і гістарычнага зместу.

## ІГНАТОВІЧ Вікенцій Васілевіч (1803—69)

Педагог, асветнік. У 1822 скончыў педагагічны інстытут пры Віленскім універсітэце, а ў 1824 атрымаў ступень магістра і працаваў у Магілёўскай

гімназіі выкладчыкам лацінскай мовы і польскай літаратуры. У 1834 прызначаны наглядчыкам Маладзечанскага павятовага вучылішча для дваран, у 1839 — інспектарам Гродзенскай губернскай гімназіі, а ў 1847 — дырэктарам вучылішчаў Аланецкай губ. З 1849 па 1860 займаў пасаду дырэктара 1-й Пецярбургскай гімназіі, потым служыў у Галоўным кіраўніцтве цэнзуры. З 1867 чытаў лекцыі па педагогіцы ў Імператарскім гісторыка-філалагічным інстытуце. У 1831 склаў польскую граматыку для рускіх; у 1860—62 надрукаваў у «Журнале Министерства народного просвещения» шэраг артыкулаў пра вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Заходняй Еўропе, па пытаннях педагогікі, рэцэнзіі.

## **ІГНАЦЬЕЎ** Руф Гаўрылавіч [7(19).9.1819 — 2(14).1.1886]

Расійскі этнограф, гісторык, археолаг, музыказнавец. Нарадзіўся ў Маскве. Скончыў Лазараўскі інстытут усходніх моў у Маскве, курс Парыжскай кансерваторыі. Член таварыстваў: Маскоўскага археалагічнага, аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, Вольнага эканамічнага, гісторыі, этнаграфіі і археалогіі пры Казанскім універсітэце і інш. Працаваў у Башкірыі. У 1877 па запрашэнні мінскага губернатара В.І.Чарыкава перабраўся ў Мінск і прызначаны рэдактарам неафіцыйнай часткі газеты «Минские губернские ведомости». Прымаў удзел у дзейнасці Мінскага губернскага статыстычнага камітэта, арганізацыі выставак беларускай народнай творчасці, археалагічных знаходак, прадметаў побыту. Раскопваў курганы на Міншчыне, склаў карту археалагічных помнікаў Мінскага пав., запісваў музычны фальклор. 1879 выступаў на Антрапалагічнай выстаўцы ў Маскве з дакладамі, у якіх расказаў пра беларускія народныя казкі, песні, легенды, павер'і, прымаўкі. Запісаў 100 песень з нотамі, апісаў народныя музычныя інструменты, некаторыя археалагічныя помнікі і інш. Аўтар артыкула «Мястэчка Заслаўль, ці Ізяслаў, горад нашчадкаў Рагнеды» (1878). Паводле сваіх поглядаў быў крайнім рэакцыянерам, праводзіў палітыку русіфікацыі краю. Навуковыя даследаванні на Беларусі праводзіў пераважна з мэтай падмацавання сваіх палітычных пераканнняў.

*Тв.*: О памятниках древности Минской губернии // Изв. о-ва любителей естествознания, антропологии и этнографии. Т. 35. Антропологическая выставка, 1879. М., 1880. Т. 3, ч. 1; О памятниках народного творчества в Минской губернии // Там жа. Ч. 1, вып. 1—3.

*Літ.*: Алексеев Л.В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // Сов. археология. 1968. №3; Каханоўскі Г.А. Каб час далёкі не маўчаў. Мн., 1990.

*Г.А.Каханоўскі.*

## **ІЁХЕР** (Jocher) Адам Бенядзікт (23.12.1791 — 3.4.1860)

Польскі бібліёграф і філолаг. Нарадзіўся ў Вільні. Скончыў Віленскую гімназію, потым гісторыка-філалагічны факультэт Віленскага універсітэта, дзе ў 1811 атрымаў ступень магістра. Займаўся педагагічнай і літаратурнай дзейнасцю. Член таварыства шубраўцаў. У 1827 прызначаны памочнікам бібліятэкара Віленскага універсітэта. Прывёў у парадак і апісаў яго нумізматычныя калекцыі, прывезеныя з Крамянецкага ліцэя. З 1830 прафесар лацінскай мовы. Пасля закрыцця універсітэта нейкі час выкладаў у Ковенскай гімназіі; у 1845 вярнуўся ў Вільню і працягваў працаваць над «Аглядам бібліяграфічна-гістарычнай літаратуры і навук у Польшчы», які выйшаў у 1859 у 3 тамах. Праца гэта незавершаная, але тым не менш мае значную навуковую каштоўнасць. Аўтар «Меркаванняў аб кірунках святой веры ў Польшчы» (1857) і некалькіх філалагічных прац: «Гармонія моў, або Зліццё іх у адну, г. зн. польскую...», «Эпілог гісторыі мовы пачатковай і ўступ да яе аднаўлення ў мове славянска-польскай» (Вільня, 1859) і інш.

## **ІСАЕЎ** Рыгор Пракопавіч (10.2.1857 — 25.3.1886)

Рэвалюцыянер-народнік. Нарадзіўся ў Магілёве ў сям'і паштовага служачага. Неўзабаве памёр бацька, і маці вымушана была аддаць сына ў сірочы

дом, дзе ён знаходзіўся да 12 гадоў. У 1868 здольнага хлопчыка прынялі на казённы кошт у Магілёўскую гімназію. Вучыўся ён выдатна і лічыўся ў гімназіі першым вучнем, шмат чытаў. Адчуўшы на сабе цяжар беднасці і сацыяльнай несправядлівасці, ён імкнуўся зразумець вытокі зла і адшукаць шляхі і спосабы яго выкаранення. У ліку забароненых для гімназістаў кніг І. пазнаёміўся з творамі М.Р.Чарнышэўскага, П.Лаўрова і інш., якія сталі першапачатковай школай яго светапогляду і прывялі ў шэрагі рэвалюцыйнага народніцтва. Ён стаў удзельнікам аднаго з магілёўскіх гурткоў, які вёў прапаганду народніцкіх ідэй. У сакавіку 1875 паліцыі стала вядома пра дзейнасць І. і інш. гімназістаў. Пасля следства справу спынілі з-за недахопу доказаў, але І. і яго таварышаў выключылі з гімназіі. Прымаючы пад увагу поспехі І. ў навуках, праз некаторы час педагагічны савет гімназіі дазволіў яму здаць выпускныя экзамены. Паспяхова скончыўшы гімназію, у 1876 ён паехаў у Пецярбург і паступіў на прыродазнаўчы факультэт універсітэта. Каб існаваць і вучыцца, займаўся рэпетытарствам, перапіскай папер, даваў урокі. Народніцкія погляды зблізілі яго з радыкальнымі коламі пецярбургскай моладзі і некаторымі кіраўнікамі тайнага таварыства «Зямля і воля». Улетку 1877 у час канікул ён прыехаў да сястры ў Горацкі пав. Магілёўскай губ., дзе з дапамогай інш. студэнтаў і настаўнікаў сельскіх школ стварыў пункт рэвалюцыйнай прапаганды сярод сялян. Даведаўшыся пра дзейнасць І., улады ўстанавілі за ім паліцэйскі нагляд. Вярнуўшыся ў Пецярбург, І. перайшоў з універсітэта ў медыка-хірургічную акадэмію, бо лічыў, што прафесія ўрача дазволіць яму быць бліжэй да простага народа, прынясе яму большую карысць. Тут ён працягваў рэвалюцыйную работу, удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, супрацоўнічаў з землявольцамі. У сувязі з пагрозай высылкі з Пецярбурга І. перайшоў на нелегальнае становішча. Пасля расколу ў народніцкім руху стаў на пазіцыі прыхільнікаў палітычнай барацьбы. Ён лічыў, што сацыяльнай перабудовы ў Расіі можна дамагчыся толькі праз тэрор, таму ўступіў у тайную тэрарыстычную групу «Свабода або смерць». У жніўні 1879 яго выбралі членам Выканаўчага камітэта «Народнай волі» і ён пачаў рыхтаваць тэрарыстычныя акты, сам удзельнічаў у замахах на цара і яго саноўнікаў, у т.л. 1.3.1881, калі быў здзейснены прысуд «Народнай волі» Аляксандру II. На следстве І. не выдаў тайнаў таварыства, а ў сваім апошнім слове на судзе спрабаваў выказаць мэты і задачы «Народнай волі», але суддзі забаранілі яму гаварыць. Тэкст яго выступлення, аднак, змаглі перадаць на волю, і «Прамова Ісаева» стала шырока вядома ў рэвалюцыйных колах Расіі. 15.2.1882 І. у ліку іншых быў асуджаны да пакарання смерцю, але прашэння аб памілаванні не падаў. Праз месяц пакаранне было заменена Аляксандрам III на пажыццёвую катаргу. У Петрапаўлаўскай крэпасці І. у хуткім часе захварэў на сухоты. У 1884 яго перавялі ў Шлісельбургскую крэпасць, дзе ён і памёр.

*Літ.*: Ласінскі М. Герой «Народнай волі» // Полымя. 1971. №5.



## КАВАЛЕЎСКАЯ Софія (1853—22.2.1918)

Беларуская фалькларыстка, этнограф і пісьменніца. Нарадзілася ў в. Малыя Бакшты Маладзечанскага р-на. Вывучала матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, сабрала калекцыю прадметаў народных рамёстваў, твораў мастацтва, а таксама матэрыялы пра паўстанне 1863—64 на Міншчыне. Аўтар працы «Святкаванне вяселля ў Вілейскім павеце ў ваколіцы Маладзечна і Радашковіч» (1900), дзе разам з апісаннем абраду прыводзяцца ўзоры вусна-паэтычнай творчасці. Выдала кнігу «Мінскія абразкі 1850—1863 гг.» (1912) пра гісторыю Мінскай гімназіі і яе выкладчыкаў, тэатр, памятныя мясціны горада.

*Г.А.Каханоўскі.*

## **КАВАЛЕЎСКАЯ** Соф'я Васілеўна (Корвін-Крукоўская; [3(15).1.1850 — 29.1(10.2).1891]

Матэматык, пісьменніца, публіцыстка, першая ў свеце жанчына-прафесар, член-карэспандэнт Пецярбургскай акадэміі навук. Нарадзілася ў Маскве ў сям'і генерала В.В.Корвін-Крукоўскага, які паходзіў са старажытнага шляхецкага роду з Беларусі. Ранняе дзяцінства і юнацтва правяла ў радавым маёнтку бацькі ў в. Палібіна Віцебскай губ. Атрымала ўсебаковую адукацыю, выдатныя матэматычныя здольнасці выявіліся ўжо ў раннім дзяцінстве. З 1866 у Пецярбургу брала ўрокі матэматыкі ў педагога А.М.Странналюбскага (у той час доступ жанчынам у Пецярбургскі універсітэт быў забаронены). Каб мець магчымасць займацца навукай, у 1868 К. ўзяла з У.А.Кавалеўскім фіктыўны шлюб (пазней гэты шлюб стаў сапраўдным) і ў 1869 паехала ў Гейдэльберг, дзе вывучала матэматыку. З 1870 у Берліне 4 гады працавала ў К.Веерштраса, які даваў ёй прыватныя ўрокі (у Берлінскі універсітэт жанчын таксама не дапускалі). У 1874 на падставе 3 прац К., якія прадставіў Веерштрас, Гётынгенскі універсітэт завочна прысудзіў ёй ступень доктара філасофіі. У 1874 К. вярнулася ў Расію, але месца ў Пецярбургскім універсітэце не атрымала. Амаль на 6 гадоў адышла ад навуковай дзейнасці, займалася літаратурна-публіцыстычнай працай, супрацоўнічала ў газетах. У 1880 пераехала ў Маскву, але здаваць магістэрскія экзамены ва універсітэт ёй не дазволілі. У 1881 К. зноў паехала ў Берлін, потым у Парыж, маючы намер атрымаць месца прафесара на вышэйшых жаночых курсах у Францыі. У 1883, атрымаўшы запрашэнне шведскага матэматыка Г.Мітаг-Лефлера, выехала ў Швецыю, дзе на пасадзе прыват-дацэнта Стакгольмскага універсітэта на працягу 8 гадоў прачытала 12 курсаў. Была членам рэдкалегіі шведскага журнала «Acta mathematica». У 1888 напісала працу «Задача аб вярчэнні цвёрдага цела вакол нерухомага пункта», за якую Парыжская акадэмія навук прысудзіла ёй прэмію. За другую працу на тую ж тэму ў наступным годзе ёй была прысуджана прэмія Шведскай акадэміі навук.

К. — аўтар аповесці «Нігілістка» (1884), драмы «Барацьба за шчасце» (1887, сумесна са шведскай пісьменніцай А.Ш.Лефлер), сямейнай хронікі «Успаміны дзяцінства» (1890), у якой апавядае пра жыццё ў 1860-я гады, пра сваю сястру А.В.Корвін-Крукоўскую, у далейшым удзельніцу Парыжскай камуны, пра Ф.М.Дастаеўскага.

*Тв.*: Научные работы. М., 1948; Воспоминания детства; Нигилистка. М., 1960; Воспоминания и письма. М., 1961.

*Літ.*: Леффлер А. Софья Ковалевская: Воспоминания: Пер. со швед. Спб, 1893; Полубаринова-Кочина П.Я. С.В.Ковалевская: Её жизнь и деятельность. М., 1955; Памяти С.В.Ковалевской: Сб. ст. М., 1951.

## **КАВАЛЕЎСКІ** Аляксандр Ануфрыевіч [7(19).11.1840—9(22).11.1901]



Біёлаг-натураліст, эмбрыёлаг, педагог. Нарадзіўся ў в. Шусцянцы Дынабургскага пав. Віцебскай губ. Брат палеантолага У.А.*Кавалеўскага*. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. Потым вучыўся ў прыватным пансіёне, дзе ў выніку выдатнай падрыхтоўкі вывучыў некалькі замежных моў. Пазней бацька накіраваў яго вучыцца ў корпус Шляхоў зносін. Але, захапіўшыся прыродазнаўствам, К. перайшоў на падрых-

тоўчае аддзяленне Пецярбургскага універсітэта. У 1861, калі з-за студэнцкіх хваляванняў універсітэт быў зачынены, К. паехаў у Гейдэльберг, дзе ва універсітэце слухаў лекцыі па хіміі і надрукаваў 2 навуковыя працы. Але хімія не стала яго стыхіяй. Пазнаёміўшыся з вучэннем Ч.Дарвіна аб самаразвіцці арганічнага свету шляхам натуральнага адбору, К. стаў заолагам і паслядоўным прыхільнікам Дарвіна. У 1862 ён вярнуўся ў Пецярбург, каб здаць экзамены на званне кандыдата навук, і засяродзіў свае навуковыя інтарэсы на найменш вядомай галіне заалогіі — зародкавым развіцці беспазваночных. Тут ён распачаў выкананне самастойна намечанага плана навукова-даследчай работы, разлічанай на многія гады.

Працаваў за мяжой, вывучаў марскую фауну Неапалітанскага заліва, вынікам чаго з'явілася вядомая яго праца «Гісторыя развіцця ланцэтніка» (1865), у якой ён прыйшоў да высновы, што ланцэтнік займае прамежкавае становішча паміж пазваночнымі і беспазваночнымі, і тым самым звязаў два вялікія раздзелы жывёльнага свету. Гэта адкрыццё з'явілася адным з новых доказаў эвалюцыі арганічнага свету. У 1865 за гэту працу ён атрымаў ступень магістра і мог бы заняць месца дацэнта ва універсітэце, але аддаў перавагу даследчыцка-натуралістычнай дзейнасці. У 1867 К. абараніў доктарскую дысертацыю «Анатомія і гісторыя развіцця «Phoronis». Быў абраны прафесарам Казанскага (1867), Кіеўскага (1869), Новарасійскага (1874) універсітэтаў, у 1890 — членам Расійскай АН і прафесарам Пецярбургскага універсітэта. Але прафесарскія абавязкі не астудзілі яго даследчага захаплення. Ён даследаваў прэснаводную фауну воз. Кабан пад Казанню, ездзіў з навуковымі мэтамі ў дэльту Волгі і на Каспій, пабываў у Неапалі, на Сіцыліі, у Егіпце, Алжыры, Аравіі. Пасля вяртання з Аравіі друкаваў (з 1871) у «Мемуарах акадэміі навук» (Пецярбургскай) вынікі шматлікіх даследаванняў. З 1874 жыў у Адэсе, выкладаў у Новарасійскім універсітэце. К. не быў бліскучым лектарам, але мог зацікавіць слухачоў зместам сваіх лекцый. Часта бываў са студэнтамі на экскурсіях і ў экспедыцыях, на Севастопальскай і Салавецкай біялагічных станцыях. У Адэсе ён з'яўляўся папячыцелем гарадскіх школ, быў дырэктарам Севастопальскай біялагічнай станцыі, старшынёй «Таварыства выпрабавальнікаў» (у Адэсе і Пецярбургу). Калі ў канцы мінулага стагоддзя ў Бесарабію была занесена філаксера — няшчасце вінаградарства, ён многа зрабіў для прапаганды барацьбы з ёю. Выязджаў у Францыю, каб вывучыць там вопыт барацьбы з філаксерай і перанесці яго да сябе на радзіму. Аўтар больш як 80 навуковых прац.

*Тв.*: Избранные работы. М., 1951.

*Літ.*: Догель В.А. А.О.Ковалевский (1840—1901). М.; Л., 1945; Мечников И.И. А.О.Ковалевский // Страницы воспоминаний. М., 1946.

## КАВАЛЕЎСКІ Восіп Міхайлавіч (1800—78)



Філолаг, манголазнавец. Нарадзіўся ў Гродне. Навучаўся ў Гродзенскай гімназіі і на гісторыка-філалагічным факультэце Віленскага універсітэта. У 1824 накіраваны ў Казанскі універсітэт для вывучэння мусульманскіх моў (арабскай, персідскай і татарскай). У той час там была створана кафедра мангольскай мовы, для якой не было спецыялістаў нават за мяжой. Было

вырашана знайсці сваіх вучоных, якія б вывучылі гэту мову. Выбар выпаў на К. і А.В.Папова, якіх у 1827 накіравалі ў Іркуцк для заняткаў па авалоданні і ўдасканаленні ведання мангольскай мовы. К. падарожнічаў па Бурацii, а ў 1830 яго прыкамандзіравалі да духоўнай місіі, якая накіроўвалася ў Пекін. Там К. прабыў некалькі месяцаў. Пасля вяртання ў Казань ён прызначаны ад'юнктам, а потым ардынарным прафесарам мангольскай мовы ва універсітэце. У сувязі з поўнай адсутнасцю вучэбных дапаможнікаў К. ў 1835 склаў «Кароткую граматыку мангольскай кніжнай мовы», у 1836—37 — «Мангольскую хрэстаматыю», у 1844—49 — «Мангола-руска-французскі слоўнік». За апошнюю капітальную працу яму прысуджана Дзямідаўская прэмія. Апрача пазначаных прац К. надрукаваў у перыядычных выданнях шэраг артыкулаў на філалагічныя тэмы, пераклаў на польскую мову творы «Аб высокім» Лонгіна і «Метамарфозы» Авідзія. З 1845 працаваў дырэктарам 2-й гімназii і вучылішчаў Казанскай губ. У 1856—60 рэктар Казанскага ун-та. У 1862 пераведзены ардынарным прафесарам і дэканам гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага універсітэта. Памёр у Варшаве.

## КАВАЛЕЎСКІ Уладзімір Ануфрыевіч [2(14).8.1842 — 28.4.1883]



Прыродазнавец, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогii. Нарадзіўся ў в. Шусцянцы Дынабургскага пав. Віцебскай вол. Брат А.А.*Кавалеўскага*. Скончыў Пецярбургскае вучылішча правазнаўства, дзе рыхтавалі вышэйшых адміністрацыйных чыноўнікаў дзяржавы. Яшчэ калі быў правазнаўцам, сышоўся з пецярбургскімі студэнтамі, а праз іх з радыкальнымі рэвалюцыйнымі гурткамі. Накіраваўшыся за мяжу на лячэнне, К. асталяваўся ў Лондане, дзе пазнаёміўся з А.І.Герцэнам, даваў урокі яго малодшай дачцэ. На пачатку лонданскага жыцця К. працягваў яшчэ займацца юрыдычнай навукай, але хутка захапіўся вызваленчым рухам. У пачатку 1863 разам з польскім рэвалюцыянерам П.І.Якабі ён паехаў у Польшчу і прыняў удзел у паўстанні. Рэвалюцыйная дзейнасць К., аднак, не дайшла да ведама расійскіх улад і не пацягнула за сабой адмоўных вынікаў для яго. Пераехаўшы ў 1863 у Пецярбург, К. ўзяўся за пераклады і сам уцягнуўся ў выдавецкую дзейнасць. За 2—3 гады ён выпусціў шмат твораў заходнееўрапейскіх вучоных (Брэма, Фохта і інш.) па фізіялогii, анатоміі, фізіцы, хіміі, заалогii. Але К. не парваў канчаткова з вызваленчым рухам. У сярэдзіне 1860-х гадоў ён зноў накіраваўся ў Заходнюю Еўропу, каб прыняць удзел у вызваленчым паходзе Гарыбальдзі, увесь час знаходзіўся сярод блізкіх памочнікаў кіраўніка паходу, пасылаў карэспандэнцыі ў газету «Петербургские ведомости» пра ход ваенных аперацый. У 1867 узяў фіктыўны шлюб з дачкой генерала Карвін-Крукоўскага Соф'яй Васілеўнай — у будучым знакамітым матэматыкам С.В.*Кавалеўскай*. Мэтай гэтага шлюбу было вызваленне дзяўчыны з-пад бацькоўскай улады і магчымасць атрымаць ёй адукацыю за мяжой. З цягам часу фіктыўны шлюб ператварыўся ў сапраўдны. Вясной 1869 К. разам з С.Кавалеўскай паехаў за мяжу, дзе пражыў 5 гадоў. Яны спыніліся ў Гейдэльбергу: там быў адзіны ў Германii універсітэт, у якім маглі вучыцца жанчыны. Энтузіязм жонкі станоўча паўплываў на К., і ён стаў сур'ёзна займацца прыродазнаўствам, спачатку геалогіяй, а потым палеанталогіяй. За кароткі час з дылетанта, які быў зусім не падрыхтаваны да навуковай дзейнасці, ён стаў не толькі вялікім вучоным, але і наватарам у палеанталогii, з імем якога звя-

зана новая эпоха ў яе гісторыі. У 1872 у Іенскім універсітэце абараніў дысертацыю аб палеанталагічнай гісторыі коней. У 1873 вярнуўся ў Пецярбург, абараніў магістарскую дысертацыю аб анхітэрыі (конь міяцэнавай эпохі; 1875). У 1880 выбраны дацэнтам, а ў 1881 — прафесарам Маскоўскага універсітэта, дзе чытаў лекцыі. У гэты час адно з прамысловых таварыстваў, з якім ён быў звязаны, накіравала яго ў Амерыку. Там ён сустрэўся з буйнейшым палеантолагам Э.Д.Копам. Атрымаўшы тэлеграму аб судовым працэсе супраць прамысловага таварыства, дырэктарам якога ён быў раней, К. вярнуўся ў Маскву і, не дачакаўшыся суда, у ноч на 28.4.1883 скончыў жыццё самагубствам. С.В.Кавалеўская пазней дабілася поўнай рэабілітацыі мужа.

К. працаваў над выкапнёвымі капытнымі, і шэраг яго манаграфій прысвечаны іх сямейству. Яго працы аб гістарычным развіцці капытных жывёл паслужылі асновай новай навукі — эвалюцыйнай палеанталогіі. К. даказаў, што марфалагічныя пераўтварэнні залежаць ад развіцця пэўных функцый, а развіццё функцый ён звязваў са зменамі ўмоў існавання. Развіццё капытных з высокаразвітымі зубамі і рэдукаваным шкілетам ён звязаў з развіццём злакаў і інш. пакрытанасенных раслін у сярэдзіне кайназойскай эры. Першы з палеантолагаў шырока выкарыстаў эвалюцыйнае вучэнне для вырашэння праблем філагенезу пазваночных жывёл. Даследаванні К. прысвечаны юрскаму, мелавому перыядам і кайназою. Ён стварыў першыя палеаграфічныя карты зоагеаграфічных правінцый позняй юры і ранняга мелу. На думку К., продкаў кайназойскіх млекакормячых трэба шукаць у кантынентальных мелавых адкладах. Аўтар прац «Некалькі слоў пра межы паміж юрскаю і мелавою фармацыямі і аб той ролі, якую могуць адыгрываць юрскія адклады Расіі ў вырашэнні гэтага пытання» (1874), «Астэалогія двух выкапнёвых відаў з групы капытных» (1875) і інш. Пераклаў шэраг прац Ч.Дарвіна, Т.Гекслі, Ч.Лаеля. К. валодаў вялікім навуковым кругаглядам і мог шляхам уважлівага вывучэння астэалагічных асаблівасцей выходзіць на шырокія генеалагічныя абагульненні.

*Тв.*:Собрание научных трудов. Т. 1—2. М., 1950—56.

*Літ.*: Борисяк А.А. В.О.Ковалевский. Его жизнь и научные труды. Л., 1928; Давиташвили Л.Ш. В.О.Ковалевский. М.; Л., 1946.

**КАГАНЕЦ** Карусь [К.К., Будзімір, К.Шашаль; сапр. Каставіцкі Казімір Рафаіл Карлавіч; 29.1(10.2).1868—20.5.1918]

Празаік, паэт, драматург, мастак, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў г. Табольск.

Паходзіў са старадаўняга беларускага шляхецкага роду, даводзіўся сваяком Міхалу Апалінару Кастравіцкаму, дзеду французскага паэта Гіёма Апалінэра. Бацька пісьменніка Карл Самуілавіч Кастравіцкі (1813—73) валодаў невялікім спадчынным маёнткам Навасёлкі на Койданаўшчыне, меў аграанамічную адукацыю, любіў музыку. Маці, Юлія, паходзіла з вядомага на Беларусі шляхецкага роду Свентарэцкіх (з-пад Стоўбцаў), скончыла інстытут у Вільні. За ўдзел у паўстанні 1863—64 бацьку (быў членам-рэферэнтам паўстанцкай арганізацыі на Міншчыне) саслалі ў Табольск, а маёнтак канфіскавалі. У Табольску з ім жыла і сям'я, тут і нарадзіўся будучы пісьменнік. У 1870 сям'і Кастравіцкіх дазволена было перасяліцца ў Казанскую губ. (2 гады жылі ў г. Цывільск), а ў 1872 — вярнуцца на радзіму. Пасля вяртання жылі ў в. Засулле (цяпер Стаўбцоўскі р-н), а з 1880 у в. Юцкі (Прымагілле) каля Койданава. Пачатковую адукацю К. атрымаў дома, пасля вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы. Імкнучыся авалодаць жывапісным і скульптурным майстэрствам, у 1890-я гады паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства. Ёсць звесткі, што К. вучыўся таксама ў Пецярбургу. Аднак адукацыю не завяршыў з-за адсутнасці сродкаў і, вярнуўшыся ў Прымагілле, заняўся сялянскай працай. У 1899 К. ажаніўся і асеў на сталае жыхарства ва ўрочышчы Ліссі Норы (Прымагілле). Зямля была малаўрадлівая, таму, каб утрымаць сям'ю, у якой было чацвёра дзяцей, ён вымушаны быў

шукаць дадатковы заробак — працаваў у чайнай у Мінску, у мастацкай майстэрні ў Рызе, Мінскім таварыстве дабрачыннасці, потым служыў дзесятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое—Седльцы. К. — актыўны ўдзельнік і ідэолаг нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай грамады і Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнічаў у іх з'ездах, распрацоўваў праекты праграм і рэзалюцый. У 1904 і 1905 без выніку звяртаўся ў Галоўнае ўпраўленне па справах друку аб выданні ў Мінску беларускай газеты «Палессе» (рэдактарам меўся быць Д.Бохан). Актыўна ўдзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1905—07. За агітацыю сярод сялян Койданаўшчыны 19.12.1905 арыштаваны і да 16.5.1906 зняволены ў мінскую турму. Выпушчаны з турмы да суда, жыў выпадковымі заробкамі. Вясной 1910 Віленская судовая палата на пасяджэнні ў Мінску прыгаварыла К. да года зняволення ў мінскай турме. За турэмнымі сценамі многа пісаў, маляваў, зрабіў ілюстрацыі да твораў Я.Коласа, які знаходзіўся там жа (малюнкі не захаваліся). Пасля выхаду на волю доўга не мог знайсці работы. Толькі ў пачатку 1912 удалося атрымаць пасаду аканома ў фальварку Жортай (цяпер Барысаўскі р-н) у пана Копаця, дзе працаваў да вясны 1918. Старшынстваваў на з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый (Мінск, 25—27.3.1917). Абвастрэнне даўняй хваробы — туберкулёзу лёгкіх — вымусіла пераехаць да брата ў Прымагілле, дзе і памёр. Пахаваны ў в. Навасёлкі каля Койданава (Дзяржынск).

Літаратурную дзейнасць К. пачаў у канцы 19 ст. Самыя раннія з яго твораў, што дайшлі да нас, датуюцца 1893. Артыкулы, апрацоўкі народных легенд друкаваў у газетах «Минкий листок» і «Северо-Западный край», потым супрацоўнічаў з «Нашай нівай». Пры жыцці асобным выданнем выйшлі «Беларускі лемантар» (1906) і вадэвіль «Модны шляхцюк» (1910). Яго творчая спадчына жанрава разнастайная: проза, паэзія, драматургія, публіцыстыка. Большасць яго апавяданняў маюць легендарны каларыт, асаблівую рытмічна-сказавую стылёвую манеру. У іх аснове ляжаць мясцовыя легенды, народныя паданні. Адштурхоўваючыся ад фальклорнай асновы, К. ярка і дынамічна перадае сюжэт, напаўняе творы трапнымі мастацкімі дэталямі. Заўважаецца моцны ўплыў гутарковай мовы. Ёсць у пісьменніка апавяданні, напісаныя на сучасным яму матэрыяле, якія вызначаюцца рэалістычнасцю малюнкаў з побыту плытнікаў і леснікоў, завостранасцю матываў сацыяльнай няроўнасці. Пісаў навукова-папулярныя нарысы для дзяцей, якія ўвайшлі ў школьную чытанку, заказаную К. выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша аконца» (па невядомых прычынах кніга не выйшла). У публіцыстычных артыкулах К. ставяцца праблемы беларускага нацыянальнага адраджэння, пытанні культуры, мовы, асветы. Паэзія К. пераважна публіцыстычная, у ідэйным плане яна пераклікаецца з творамі *Ф.Багушэвіча* і Цёткі. Ужо ў першым вядомым вершы «Наш сымболь» (1893) заклікаў: «За родную краіну, звычай і мову, за гонар груддзю ставайце!» У паэзіі таксама актыўна карыстаўся фальклорнай вобразнасцю, паэтыкай. Гэту яго асаблівасць заўважыў і станоўча ацаніў М.Багдановіч. Значнае месца ў яго творчасці займала драматургія: вадэвіль «Модны шляхцюк» (карыстаўся вялікай папулярнасцю як адзін з першых твораў нацыянальнага тэатральнага рэпертуару), бытавыя драмы «У іншым шчасці няшчасце схавана» і «Двойчы прапілі», няскончаныя гістарычныя драмы «Старажавы курган» і «Сын Даніла». К. вёў таксама актыўную асветніцкую дзейнасць, выступаў як вучоны-мовазнавец, фальклярыст і этнограф, збіраў матэрыялы да слоўніка роднай мовы, складаў беларускую граматыку. Ён быў таленавітым жывапісцам, графікам, скульптарам, займаўся разьбой па дрэве і слановай косці, рабіў палітычныя карыкатуры, упрыгожваў пейзажамі і арнаментам бытавыя рэчы, аформіў вокладку кнігі Я.Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (Пб., 1909). Захаваліся яго цікавыя графічныя малюнкі тушшу і алоўкам: «Маці», «За сахой», «На ростаньках», «Буслы». М.Багдановіч прысвяціў К. верш, у якім высока ацаніў яго літаратурную і грамадскую дзейнасць.

Л.Рагоўскі паклаў на музыку яго верш «О Божэ, Спасе наш». Частка рукапіснай спадчыны К. пасля яго смерці трапіла да Я.Лёсіка, які публікаваў яе ў газеце «Беларусь» (1919) і ў часопісе «Вольны сцяг» (1921). Рукапісы К. захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, асобныя аўтографы і творы мастацтва — у Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі, Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы ў Вільнюсе.

У 1988 на магіле пісьменніка ў Навасёлках пастаўлены помнік.

*Тв.*: Творы. Мн., 1979.

*Літ.*: Каспяровіч М. Карусь Каганец // Маладняк. 1928. №10; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2. Мн., 1969; Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Мн., 1980. Ч. 2. С. 374—379.

*З.П.Мельнікава.*

## **КАЖЫНСКІ** Віктар М. (1812—1870)

Кампазітар, капельмайстар. Нарадзіўся ў Вільні. Аўтар оперы «Вечны жыд», якая мела поспех у Варшаве і Вільні ў 1842. З 1845 капельмайстар Александрынскага тэатра ў Пецярбургу. Пісаў уверцюры, хоры, антракты, песні, фартэпіянныя п'есы і інш. Пакінуў апісанне падарожжа за мяжу, якое ён ажыццявіў сумесна з кампазітарам А.Ф.Львовым.

## **КАЗЛОЎСКІ** Ігнат Ігнатавіч [1846—19.11(1.12).1889]

Філолаг, мовазнавец-славіст. Нарадзіўся ў г. Гродна. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскоўскім універсітэце. Даследаваў праблемы параўнальна-гістарычнага, славянскага і ўсходнеславянскага мовазнаўства. Аўтар прац «Лёс народнай мовы ў Літве і на Жмудзі» (1869), «Аб палеаграфічных асаблівасцях загінуўшага рукапісу «Слова аб палку Ігаравым» (1889), «Аб родным склоне на «я» (1887), «Дзве сінтаксічныя асаблівасці рускай мовы» (абедзве на нямецкай мове, 1889) і інш.

## **КАЙГАРОДАЎ** Дзмітрый Нічыпаравіч (31.8.1846—11.2.1924)

Біёлаг, фенолаг, натураліст-папулярызатар, педагог. Нарадзіўся ў Полацку. У 1856—63 вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе, у 1863—65 — у ваенных вучылішчах. У 1867—73 служыў афіцэрам на парахавым заводзе ў Пецярбургу. Але з ранняга дзяцінства адчуваў вялікую цягу да прыроды, жаданне сур'ёзна заняцца прыродазнаўствам. У 1868 ён паступіў вольным слухачом на лясны факультэт Пецярбургскага земляробчага (пазней леснога) інстытута, які скончыў у 1871 і з 1875 загадваў там кафедрай лясной тэхналогіі і ляснога інжынернага мастацтва, выкладаў гэтыя дысцыпліны студэнтам. У 1882—1905 прафесар Пецярбургскага ляснога інстытута. Для азнаямлення з пастаноўкай лясной навукі ездзіў у Германію, Аўстрыю, Швейцарыю, Францыю, Швецыю. Апошнія гады жыцця працаваў у Лясным аддзеле Дзяржаўнага інстытута доследнай аграноміі над разборам матэрыялаў па феналогіі.

К. увайшоў у гісторыю айчыннага прыродазнаўства як таленавіты папулярызатар-мастак прыродазнаўства, як аўтар навукова-папулярных кніг, што неаднаразова перавыдаваліся: «Гутаркі пра рускі лес» (1879, 1880—81), «З зялёнага царства» (1888), «Збіральнік грыбоў» (1888, 1891), «Нашы веснавыя кветкі» (1910), «Нашы летнія кветкі» (1912) і інш. Яго кнігі, адметныя маляўнічым апісаннем прыроды, садзейнічалі развіццю цікавасці да заняткаў прыродазнаўствам, выхаванню беражлівых адносін да прыроды, яе рацыянальнага выкарыстання. Ён адзін з заснавальнікаў у краіне школьнай экскурсійнай справы і феналогіі. Яго назвалі бацькам рускай феналогіі. К. правёў вялізную колькасць прыродазнаўча-гістарычных экскурсій з выкладчыкамі прыродазнаўства. З 1871 і да самай смерці ён вёў феналагічныя запісы ў наваколлях Пецярбурга. К. першы ў дарэвалюцыйнай Расіі стварыў феналагічную сетку яе Еўрапейскай часткі, што паслужыла асновай яе біякліматычнага раянавання. Склаў ён і серыю феналагічных карт веснавога прылёту птушак «З птушынага царства» (1892).

*Літ.*: Ремизов Г.А. Отец русской фенологии // Земля и люди: Геогр. календарь 1959. М., 1958.

## **КАЛІНОЎСКІ** Віктар Отан Сямёнавіч (21.4.1833 — 6.11.1862)

Археограф, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху 1860-х гадоў. Старэйшы брат К.С.*Каліноўскага*. Нарадзіўся ў в. Мастаўляны на Гродзеншчыне (цяпер у Беластоцкім ваяв., Польшча). 10 гадоў (з 1841) вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. У 1851 у сувязі з пераводам гімназіі са Свіслачы ў Шаўлі (цяпер Шаўляй, Літва) пераехаў у Гродна, дзе ў 1852 скончыў Гродзенскую гімназію і ў тым жа годзе паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. У 1856 нечакана пакінуў вучобу ва універсітэце і перабраўся ў Пецярбург. Як член Віленскай археаграфічнай камісіі выконваў там яе даручэнні па вывучэнні старадаўніх рукапісаў з гісторыі Беларусі і Літвы. Вынікі навуковай працы К. былі выкарыстаны ў публікацыях камісіі. Расійскі гісторык і пісьменнік М.І.Кастамараў ахарактарызаваў К. ў сваіх успамінах як чалавека высокай эрудыцыі, захопленага археалогіяй і гісторыяй свайго краю, якога можна было назваць «хадзячым каталогам самых дробных звестак пра мінулы побыт гэтых мясцін» (К о с т о м а р о в Н.И. Автобиография. М., 1922. С. 259—260). Вядома, што К. вельмі цікавіўся гісторыяй антыфеадальнага паўстання Налівайкі, вызваленчай барацьбы Б.Хмяльніцкага і інш. У 1858—62 ён быў адным з кіраўнікоў рэвалюцыйнай арганізацыі ў Пецярбургу, вербаваў туды новых членаў, наладжваў сувязі з іншымі арганізацыямі, сябраваў з З.Серакоўскім і Я.Дамброўскім. Да навуковай дзейнасці К. імкнуўся далучыць і малодшага брата, на якога ён меў значны ўплыў. Відавочна, што не



*Гарадскі пасёлак Свіслач. Забудова цэнтра ў 2-й палове 19 ст. З малюнка Н.Орды. 1868.*



*Пецярбург. Публічная бібліятэка імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына.*

без яго ўздзеяння фарміраваўся светапогляд будучага кіраўніка паўстання.

Памёр ад сухотаў у фальварку Якушоўка Ваўкавыскага пав.

*Літ.:* К.Калиновский: Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988. С. 102—105.

## **КАЛІНОЎСКІ** Кастусь [Канстанцін Вікенцій Сямёнавіч; псеўд. Яська гаспадар з-пад Вільні, Хамовіч, Вітажэнец і інш.; 21.1(2.2).1838—10(22).3.1864]



*Помнік К.Каліноўскаму ў г.п. Свіслач.*

Рэвалюцыянер-дэмакрат, мысліцель, публіцыст і паэт, кіраўнік паўстання 1863—64 на Беларусі і ў Літве. Нарадзіўся ў в. Мастаўляны Гродзенскага пав. (цяпер Беластоцкае ваяв.). З незаможнага шляхецкага роду. Продкі К. на працягу амаль ста гадоў валодалі маёнткам Калінава ў Бранскай зямлі на сумежжы Расійскай імперыі і Рэчы Паспалітай, але ў 2-й палове 18 ст. маёнтак быў прададзены і Каліноўскія сталі беззямельнай шляхтай. Маці, Вераніка Рыбінская, памерла маладой, калі Кастусю было 5 гадоў. Бацька, Сямён Сцяпанавіч, быў разумным і энергічным чалавекам. У в. Мастаўляны на зямлі памешчыка Радавіцкага ў 1835 ён заснаваў невялікую ткацкую фабрыку (па сутнасці майстэрню), дзе выраблялісі сурвэткі, абрусы і інш. льняныя вырабы, дамогся добрай якасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі. Потым разам з другой жонкай, Ізабелай Лазарэвіч, набыў невялікі фальварак Якушоўка паблізу мяст. Свіслач у Ваўкавыскім пав. Туды ў 1849 перабралася сям'я, а таксама была пераведзена фабрыка. У 1855 бацька дамогся зацвярджэння сенатам Каліноўскіх у дваранскіх правах. Але матэрыяльнае становішча сям'і, у якой ад двух шлюбаў было 18 дзяцей, параней шаму заставалася цяжкім. У 1847 К. паступіў у 1-ы клас Свіслацкай гімназіі, вядомай не толькі педагагічнымі дасягненнямі, але і багатымі традыцыямі ўдзелу навучэнцаў у вызваленчай барацьбе. Вялікі ўплыў на К. зрабіў яго старэйшы брат Віктар. Пасля сканчэння вучылішча (каля 1852) К. тры гады жыў у Якушоўцы, дапамагаючы бацьку па гаспадарцы і займаючыся самаадукацыяй. Віктар, стаўшы студэнтам Маскоўскага універсітэта, клікаў яго да сябе. Да таго ж у краіне пачалося грамадскае ажыўленне, звязанае з паражэннем царызму ў Крымскай вайне і смерцю Мікалая І. У такі час цяжка было ўседзець на вёсцы. У канцы 1855, напярэдадні свайго паўналецця, К. паехаў у Маскву да брата з намерам паступіць ва універсітэт. Але неўзабаве ў братоў змяніліся планы, і летам 1856 яны перабраліся ў Пецярбург. К. паспяхова здаў уступныя экзамены ва універсітэт і стаў студэнтам 1-га курса юрыдычнага факультэта па разрадзе камеральных навук, якія рыхтавалі да гаспадарчай або адміністрацыйнай кар'еры і давалі добрую агульную адукацыю. Апрача юрыдычных навук К. вывучаў рускую і ўсеагульную гісторыю, палітэканомію, статыстыку, логіку, псіхалогію, заалогію, батаніку, сельскую гаспадарку, тэхналогію, архітэктуру, рускую і французскую мовы. Студэнцкія гады мелі вырашальнае значэнне для станаўлення рэвалюцыйнага светапогляду К. Ён захапляўся публікацыямі ў «Современнике» і «Колоколе», творамі рэвалюцыянераў-дэмакратаў, а магчыма, і асабіста быў знаёмы з правадырамі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі М.Чарнышэўскім, М.Дабралюбавым і Т.Шаўчэнкам, які таксама жыў тады ў Пецярбургу. У тыя бурныя часы ў студэнцкім жыцці К. неаднаразова выбі-

раўся бібліятэкарам-кіраўнікам арганізацыі студэнтаў «Огул» — выхадцаў з Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны, узначальваў у «Огуле» найбольш радыкальнае крыло. З утварэннем каля 1858 у Пецярбургу ваеннарэвалюцыйнай арганізацыі Серакоўскага—Дамброўскага браты Каліноўскія сталі яе актыўнымі дзеячамі. Жылі яны ў Пецярбургу на заробкі Віктара, які перапісваў гістарычныя дакументы, і невялікую стыпендыю, прызначаную К. ў 1858. Каб здабыць дадатковыя сродкі, К. займаўся рэпетытарствам, а нярэдка быў вымушаны звяртацца за дапамогай у рэктарат. Вядома таксама, што ён цяжка хварэў, асабліва ў кастрычніку 1859. Тым не менш ён выдатна вучыўся і летам 1860 паспяхова скончыў універсітэцкі курс, а пасля падачы дысертацыі ў студзені 1861 зацверджаны папячыцелем Пецярбургскай навучальнай акругі ў ступені кандыдата правоў. Атрымаўшы ў лютым 1861 дыплом, ён праз 2 тыдні быў ужо ў Вільні, дзе зрабіў безвыніковую спробу ўладкавацца на службу ва ўпраўленне мясцовага генерал-губернатарства. Вяртанне К. на радзіму супала з моцным уздымам вызваленчага руху на Беларусі і ў Літве, выкліканага абвяшчэннем сялянскай рэформы і абвастрэннем палітычнай сітуацыі ў Расіі і Польшчы. К. стаў адным з правадыроў гэтага руху, лідэрам яго дэмакратычнай плыні («чырвоных»). На працягу 1861 ён стварыў на Гродзеншчыне з разначыннай інтэлігенцыі нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю, звязаную з такімі ж арганізацыямі ў Вільні. К. і яго прыхільнікі вялі па вёсках і мястэчках агітацыю сярод сялян, заклікалі іх на барацьбу з памешчыкамі і самаўладствам. Разам са сваім сябрам В.*Урублеўскім*, беларускім паэтам Ф.*Ражанскім* і інш. паплечнікамі па гродзенскай арганізацыі летам 1862 ён распачаў выданне першай у гісторыі Беларусі нелегальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай газеты «Мужыцкая праўда». На працягу 1862—63 удалося выдаць 7 нумароў, аўтарам і рэдактарам большасці з якіх быў К. «Мужыцкая праўда» ўпершыню на беларускай мове несла рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі ў асяроддзе сялянства, рыхтавала яго да паўстання. К. асабіста ўдзельнічаў у распаўсюджванні газеты, дзёрзка раскідваючы яе на дарогах Слонімшчыны. Пасля таго як мясцовыя ўлады аддалі загад пра яго арышт, ён цалкам перайшоў на нелегальнае становішча, хаваючыся пад рознымі прозвішчамі (Макарэвіч, Хамовіч, або Хамуціус, Чарноцкі і інш.). Адначасова з напружанай дзейнасцю на Гродзеншчыне К. падтрымліваў цесныя сувязі з



*Будынак Свіслацкага павятовага вучылішча, дзе вучыўся К.Каліноўскі. З малюнка 19 ст.*

сябрамі-аднадумцамі далёка за яе межамі. Удзельнічаў у рабоце віленскага цэнтра па падрыхтоўцы паўстання ў Літве і на Беларусі — «Камітэта руху», перайменаванага неўзабаве ў Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК), вёў там барацьбу за рэвалюцыйна-дэмакратычную праграму паўстання. З восені 1862 К. — старшыня ЛПК, што сведчыла пра ўзмацненне уплыву рэвалюцыйных дэмакратаў на вызваленчы рух у беларуска-літоўскіх землях. Вядомы прынцыповыя спрэчкі К. і ўсяго ЛПК з рэвалюцыйнымі дзеячамі Варшавы за прызнанне суверэннасці Літвы і Беларусі. Вялікія надзеі К. ўскладаў на супрацоўніцтва з рускімі рэвалюцыянерамі. У канцы 1862 для ўмацавання кантактаў ён прыязджаў у Пецярбург.

Пасля выбуху паўстання ў Польшчы (студзень 1863) ЛПК заклікаў народы беларуска-літоўскага краю да актыўных дзеянняў і абвясціў сябе Часовым рэвалюцыйным урадам Літвы і Беларусі. Выпушчаная К. «Паўстанцкая інструкцыя» патрабавала суровых захадаў супраць памешчыкаў — прыгнятальнікаў народа. Аднак прадстаўнікам ліберальнай плыні ў вызваленчым руху («белым») удалося зрабіць пераварот і, адхіліўшы К. і яго паплечнікаў ад кіраўніцтва паўстаннем, захапіць уладу ў паўстанцкай арганізацыі. З вясны 1863 К. — рэвалюцыйны камісар на Гродзеншчыне, працаваў у Беластоку і Гродне, шмат зрабіў, каб зламаць сабатаж памешчыкаў і ўцягнуць у паўстанне народныя масы. У тым жа годзе разам з паўстанцкім цывільным начальнікам Гродзенскага ваяв. Э.Заблоцкім ён аб'ехаў Слонімскі і Ваўкавыскі пав., апошні раз пабываў у в. Якушоўка, інспектаваў злучаныя сілы паўстанцаў пад Мілавідамі ў Слонімскім пав. (напярэдадні вядомай бітвы) і Брэсцкі атрад за Бутам у Падляшшы. Хутка ў паўстанцкай арганізацыі адбыўся новы пераварот, «чырвоныя» зноў узялі ўладу ў свае рукі, і К. ўзначаліў віленскі паўстанцкі цэнтр. Адной з яго важнейшых канспіратыўных кватэр у Вільні была кватэра Ямантаў на Ратушнай плошчы. Былы студэнт І.Ямант вёў важную перапіску паўстанцаў, а яго сястра Марыля была блізкім сябрам К. За кіраўніком паўстання ўлады арганізавалі сапраўднае паляванне. Але ён працягваў мужную барацьбу, мяняючы аблічча, імёны, адрасы. Паступова кола рэвалюцыянераў звужалася. Былі схоплены і публічна пакараны смерцю найбліжэйшыя яго паплечнікі І.Здановіч і Ц.Далеўскі. Для ўмацавання мясцовай арганізацыі ў Мінск паехаў І.Ямант. У кастрычніку 1863 К. пад імем І.Вітажэнца пасяліўся ў т.зв. Свя-



*Пецярбургскі універсітэт. Гравюра 19 ст.*

таянскіх мурах (комплекс будынкаў былога Віленскага універсітэта), насупраць генерал-губернатарскага палаца, дзе жыў душыцель паўстання Мураўёў-вешальнік. Псеўданім і адрас кіраўніка паўстання выдаў жандарам на допытах у Мінску ўдзельнік паўстанцкай арганізацыі В.Парфіяновіч. У студзені 1864 К. быў арыштаваны ў Святаянскіх мурах і зняволены ў т. зв. Дамініканскі будынак (былы Дамініканскі манастыр). Чалавек вялікай сілы духу, пачуцця ўласнай годнасці і мэтанакіраванасці, К. паводзіў сябе ў час следства і суда вельмі мужна, у турме напісаў і здолеў перадаць на волю «Пісьмы з-пад шыбеніцы» — сваё ідэйна-палітычнае завяшчанне, яскравы мастацка-публіцыстычны твор, дакумент рэвалюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі. Асуджаны царскім ваеннапалявым судом, паводле канфірмацыі Мураўёва ён быў публічна павешаны ў Вільні на гандлёвай плошчы Лукішкі. Цела рэвалюцыянера паводле тагачасных правіл закапалі на месцы пакарання. Пазней яго прах тайна перанеслі на тэрыторыю Віленскай цытадэлі. Лічыцца, што рэшткі К., як і іншых змагароў 1863, пакараных смерцю ў Вільні, пахаваны на вяршыні гары Гедзіміна, якая знаходзілася ў той час на тэрыторыі цытадэлі.

К. вядомы не толькі як рэвалюцыянер-інтэрнацыяналіст, палымяны прыхільнік ідэі рэвалюцыйнага саюзу ўсіх народаў у барацьбе з самадзяржаўем, але і як выдатны знаўца беларускай народнай мовы. Шырока і з вялікім майстэрствам ён карыстаўся ёю ў сваёй публіцыстыцы, садзейнічаў яе літаратурнаму развіццю. Пісаў таксама і вершы. Як родапачынальнік беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі К. зрабіў вялікі ўплыў на ўсю наступную беларускую літаратуру і культуру, садзейнічаў паглыбленню ў літаратуры і мастацтве прынцыпаў рэалізму і народнасці, замацаванню высокіх ідэалаў барацьбы за свабоду. Ідэйныя прынцыпы К. развівалі пасля ў сваёй творчасці Ф.Багушэвіч, Я.Купала, Я.Колас, Цётка і інш.

Друкаваная і рукапісная спадчына К. па аб'ёме невялікая (7 нумароў газеты «Мужыцкая праўда», шэраг рэвалюцыйных інструкцый, заклікаў, загадаў, а таксама некалькі лістоў, у т.л. і вя-




*Мемарыяльная дошка на будынку дамініканскага манастыра ў Вільні, дзе ўтрымліваўся арыштаваны К.Каліноўскі.*

домыя «Пісьмы з-пад шыбеніцы»), тым не менш яна ўтрымлівае ў сабе шэраг глыбокіх ідэй і тэарэтычных палажэнняў. Перш за ўсё ў ёй вострая крытыка феадальна-прыгонніцкіх адносін у Расіі сярэдзіны 19 ст. Развіваючы традыцыі рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў, К. глыбока раскрыў сутнасць прыгонніцкай эксплуатацыі ва ўсіх яе формах, паказаў паразітызм памешчыкаў, выключна цяжкае становішча прыгонных сялян Беларусі. У публіцыстыцы К. адлюстравана цяжкае становішча казённых (дзяржаўных) сялян, якіх бязлітасна эксплуатавалі і прадстаўнікі царскай адміністрацыі, і арандатары маёнткаў. К. рэзка крытыкаваў варожую народу дзяржаўную машыну абсалютызму, дзе велізарны бюракратычны апарат кіраўніцтва непадсправаздачны і бескантрольны, у ім працвітае шырокая сістэма ліхвярства і хабарніцтва. Ён трапна параўноўваў царскіх чыноўнікаў з саранчой, што знішчае на сваім шляху ўсю расліннасць, ператварае аазісы ў пустыню. К. выкрываў суд царскай Расіі, які быў толькі прыдаткам царскай адміністрацыі і цалкам залежаў ад яе; параўноўваў царскія суды з воўчай зграяй, дзе не разбіраюцца па сутнасці, а рвуць на часткі, як могуць. К. паказваў, што на варце інтарэсаў пануючых класаў знаходзіцца армія, якая дапамагае эксплуататарам прыгнятаць народ. Ён настойліва рассейваў царысцкія ілюзіі сялян, пераканаўча да-

казваў, што ўсе беды народа зыходзяць менавіта ад самога цара. К. належаў да тых мысліцеляў, якія выступалі таксама з крытыкай капіталізму. У капіталізме ён бачыў толькі новую сістэму эксплуатацыі чалавека чалавекам. К. быў перакананым праціўнікам эксплуататарскага ладу, прыхільнікам карэннай перабудовы грамадства на новых, справядлівых пачатках. Гэта крытыка садзейнічала класаваму асветніцтву беларускіх сялян, выхоўвала ў іх нянавісць да памешчыкаў і самадзяржаўя, рыхтавала іх да барацьбы за перамогу новых сацыяльных прынцыпаў. К. марыў раздаць усю зямлю сялянам, бо яна «ад дзядоў-прадзедаў» з'яўляецца іх уласнасцю. Ён быў шчырым і гарачым прыхільнікам ідэалаў сялянскага абшчыннага сацыялізму, выдатнымі прадстаўнікамі якога былі рускія рэвалюцыянеры-дэмакраты. К. выступаў за рашучую адмену ў будучым грамадстве ўсіх класавых, нацыянальных і рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў з тым, каб зрабіць галоўным крытэрыем каштоўнасці чалавечай асобы працу, ацэньваць чалавека па яго рэальных справах і заслугах. Гэтай мерай беларускі сацыяліст-утапіст марыў выкараніць з грамадства марнатраўства і паразітызм прывілеяваных класаў і найперш шляхты. Як і іншыя сацыялісты-утапісты, К. лічыў, што новае грамадства павінна быць грамадствам працоўных. Арганічнай часткай сацыяльнай утопіі К. з'яўляюцца яго ідэі аб выхаванні. Ён даў глыбокую, палітычна завостраную крытыку педагогікі, якая склалася ў сучасным яму грамадстве, і падкрэсліваў, што існуючы сацыяльны лад не можа забяспечыць дзецям правільнага выхавання і адукацыі. Больш таго, ён бачыў, што ў тагачасным грамадстве пануючыя класы закрываюць доступ працоўным і іх дзецям да навукі і культуры, не клапоцяцца аб адукацыі і выхаванні сялянскіх дзяцей. К. рашуча выступаў супраць рэакцыйных забабонаў, паводле якіх быццам бы толькі выбраныя здольныя вучыцца і займацца навукай. Галоўнай умовай пашырэння асветы ён лічыў карэнную змену існуючых сацыяльна-палітычных адносін. Пакуль народ не будзе свабодны, не будзе ні справядлівасці, ні багацця, ні навукі. К. выказваўся за ўсеагульную адукацыю і выхаванне, якімі будзе займацца непасрэдна дзяржава, за тое, каб школа фарміравала ў дзяцей высокія грамадскія якасці і гуманістычныя ідэалы. Ён лічыў за неабходнае развіваць асвету і навуку на роднай беларускай мове. Вялікую ролю ў жыцці грамадства адводзіў жанчыне і вырашэнне жаночага пытання бачыў у карэнным пераўтварэнні грамадства.

Значнае месца ў будучым грамадстве К. адводзіў дэмакратычным формам праўлення. Разумеючы прызначэнне дзяржавы ў тагачасным прыгонніцкім грамадстве, ён звязваў вызваленне сялянства і ўсіх працоўных з пераходам дзяржаўнай улады ў рукі народа. Найлепшай формай дзяржаўнай будовы лічыў дэмакратычную рэспубліку. Ажыццяўленне ўсіх сваіх сацыяльных праектаў і планаў К. як прыхільнік рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй Чарнышэўскага і Герцэна звязваў з сялянскай рэвалюцыяй. Ён быў перакананы, што толькі народная рэвалюцыя можа прынесці сялянам жаданую зямлю і свабоду, падкрэсліваў, што свабоду можна заваяваць толькі шляхам узброенай барацьбы. К. ў поўнай меры асэнсоўваў увесь цяжар гэтай нялёгкай задачы, што стаяла перад народам, але лічыў яе цалкам дасягальнай, бязмежна верыў у сілы народа. Бачачы галоўную рэвалюцыйную сілу ў сялянстве, К. разам з тым лічыў магчымым удзел у народнай рэвалюцыі сумесна з сялянамі гараджан і студэнцтва, імкнуўся да саюзу з імі, падкрэсліваў, што ў іх з сялянамі агульныя інтарэсы. Паколькі паўстанне 1863 на Беларусі і ў Літве насіла нацыянальна-вызваленчы характар, К. не выключаў магчы-



*Месца пакарання смерцю К.Каліноўскага ў Вільні.*

масці ўдзелу ў ім асобных памешчыкаў, але на такой ідэйнай платформе, якая б не супярэчыла інтарэсам сялян.

К. быў перакананы, што сапраўднай свабоды і народнага шчасця можна дасягнуць толькі поплеч з народам Расіі, змагаючыся супраць агульных прыгнятальнікаў. Наспелае паўстанне на Беларусі і ў Літве ён разглядаў як частку агульнарасійскай сялянскай рэвалюцыі, якую рыхтавалі рускія рэвалюцыянеры-дэмакраты.

*Тв.:* К.Калиновский: Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988.

*Літ.:* Белы А. Вобраз змагара: (Да 150-годдзя з дня нараджэння К.Каліноўскага). Мн., 1983; Кісялёў Г. Паплечнік Каліноўскага. Мн., 1976; Смірноў А. Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года. Мн., 1959; Шалькевич В. Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Мн., 1988.

*Г.В.Кісялёў, В.Ф.Шалькевіч.*

**КАЛІНОЎСКІ** Юзаф Андрэевіч (1.9.1835—5.11.1907)

N 1.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dziecinki!

Minulo uże toje, kali zdawalo sia usim, szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi,—ciepier nastau taki czas, szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O, zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom, no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj praudy.

niczoho dobraho jak i z pierszaho nie budzie.

Ad maskala i panou nie ma czeho spadziewaci sia; bo jony nie wolności a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć. No nie douho jony nas buduć abdiraci, bo my paznali hdzie siła i prauda i budziem wiedać jak rabić treba kab dastać ziemlu i swabodu. Waźmiem sia Dzieciuki za ruki i dziarżem sia razom! a kali pany schoczuć trymać z nami, tak niechaj że robiać pa świętej sprawiedliwości: bo kali inaczej—tak czort ich pabiery! Mużyk pakul zdużaje trymaci kosu i sakieru, baranić swaho patrapić i u nikoho łaski prasić nie budzie.

Hetu: Mużyckuju Praudu napisau i znou pisaci budzie Jaśko haspadar z pad Wilni

Kasztuje hroszy 5

*К.Каліноўскі. «Мужыцкая праўда». №1 (фрагменты).*

Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 у Літве і на Беларусі, мемуарыст. Нарадзіўся ў Вільні. У 1856 скончыў Пецярбургскую інжынерную акадэмію, інжынер-капітан расійскай арміі. Працаваў у Пецярбургу, падтрымліваў сувязі з Польскай рэвалюцыйнай арганізацыяй, удзельнічаў у гуртку З.Серакоўскага. З 1860 у Брэсце. З чэрвеня 1863 узначальваў ваенную секцыю ў Выканаўчым аддзеле Літвы (Літоўска-беларускі чырвоны жонд), які быў цэнтрам па кіраўніцтве паўстаннем і які з 12.8.1863 узначальваў К.С.*Каліноўскі*. К. стаў бліжэйшым памочнікам К.Каліноўскага, але не заўсёды падзяляў яго погляды, лічыў іх залішне крайнімі, імкнуўся стрымліваць яго. Арыштаваны ў сакавіку 1864 і засуджаны на 10 гадоў катаргі. У 1868 вызвалены. Жыў у Іркуцку, Пермі, Смаленску. У 1874 пераехаў у Варшаву. З 1877 у Галіцыі, манах-кармеліт. Аўтар успамінаў пра паўстанне К.Каліноўскага.

*Тв.:* Wspomnienia 1835—1877. Lublin, 1965.

*Літ.:* Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг. М., 1965 (Восстание 1863 г.; Материалы и документы).

## **КАНТРЫМ** Казімір (1776—11.6.1836)

Публіцыст, рэдактар, бібліятэкар. У 1791 быў вучнем Віленскага трохкласнага вучылішча (інш. звестак пра яго адукацыю не захавалася). Удзельнік паўстання 1794. У 1795—1804 працаваў у розных установах Вільні, у т. л. архіварыусам у судзе, сакратаром віленскага цэнзурнага камітэта, з 1803 у Віленскім універсітэце, дзе займаўся справамі моладзі і пытаннямі навучальнага працэсу. З 1805 быў памочнікам у Г.Гродэка, які загадваў універсітэцкай бібліятэкай. Там атрымаў званне ад'юнкта. У 1808 прызначаны сакратаром універсітэта, таму пакінуў працу ў бібліятэцы, але вярнуўся да яе ў 1814 па ўласнай просьбе. Займаўся ўпарадкаваннем і апрацоўкай бібліятэчных збораў, складаў каталогі, вёў улік літаратуры, якая паступала і была ў карыстанні, супрацоўнічаў з Гродэкам па складанні бібліятэчных статутаў і правіл. У 1806—19 быў супрацоўнікам выдавецкай фірмы Ю.*Завадскага*, вёў наиважнейшую карэспандэнцыю фірмы, рыхтаваў карэктуры выданняў. Разам з Завадскім быў ініцыятарам і заснавальнікам у 1817 Віленскага друкарскага таварыства, сакратаром якога з'яўляўся М.*Балінскі*. Быў сурэдактарам «Dziennika Wileńskiego» («Віленскага дзённіка», 1815—18), «Dziejów dobroczynności» («Спраў дабрачыннасці», 1820—22), заснавальнікам Таварыства шубраўцаў і рэдактарам (пасля Ю.Лахніцкага) іх органа «Wiadomości Brukowe» («Вулічныя навіны»). У 1824 у сувязі з судовым працэсам над філаматамі К. звольнены з універсітэта і перабраўся ў Варшаву, дзе рэдагаваў часопісы «Biblioteka handlowa» («Гандлёвая бібліятэка»); «Wiadomości handlowe» («Гандлёвыя навіны»). Браў удзел у паўстанні 1830—31 на тэрыторыі Літвы.

## **КАРАЛЬКЕВІЧ** Язэп (1835—1910)

Беларускі ўрач, мецэнат, асветнік. Нарадзіўся на хутары непадалёку ад мяст. Зембін на Барысаўшчыне. Бацька яго служыў у двары Манюшкаў (бацькоў С.Манюшкі). Яшчэ падлеткам К. выявіў цягу да ведаў, і бацька, сабраўшы апошнія грошы, вырашыў вучыць сына. К. з залатым медалём скончыў Мінскую гімназію і паступіў на медыцынскі факультэт Харкаўскага універсітэта, дзе прайшоў курс навук пад кіраўніцтвам прафесараў Міцкевіча (родны брат А.Міцкевіча),Валіцкага і інш. У 1857—63 працаваў настаўнікам у г. Маладзечна. Западозраны ў дачыненні да паўстання, быў арыштаваны паліцыяй, адвезены ў Вілейку, дзе доўгі час знаходзіўся пад следствам. Пасля вызвалення з-за недахопу доказаў яго вінаватасці К. вярнуўся ў Харкаў, дзе пэўны час працаваў у хірургічнай клініцы. Амаль 30 гадоў жыў і працаваў у медыцынскіх установах Новачаркаска, зрабіўшы свой дом прытулкам для ўсіх, хто прыязджаў з Беларусі. Вывучыў за свой кошт каля двух дзесяткаў здольных маладых людзей. З ліку яго выхаванцаў выйшлі універсітэцкія прафесары, урачы, юрысты і інш. Пад канец свайго жыцця набыў невялікі кавалак зямлі ў наваколлі Варшавы, працаваў

на ёй, дарма лячыў простых людзей, пашыраў сярод іх пісьменнасць, знаёміў з гігіенай, этыкай.

*Літ.:* Язэп Каралькевіч // Наша ніва. 1912. №43, 44.

## КАРАТЫНСКІ Вінцэсь Аляксандравіч (15.6.1831—7.2.1891)

Паэт, журналіст і перакладчык. Нарадзіўся ў в. Селішча Карэліцкага р-на. Працаваў хатнім настаўнікам каля Любчы (Навагрудскі р-н), сакратаром У.*Сыракомлі* (з 1850). Друкавацца пачаў у 1856. У 1857—58 супрацоўнічаў у часопісе «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»), з 1860 — у газеце «Kurier Wileński» («Віленскі веснік»). У 1862 з М.Лясковым падарожнічаў па Беларусі. З 1866 супрацоўнік «Gazety Warszawskiej» («Варшаўская газета»), з 1886 — часопіса «Tygodnik ilustrowany» («Ілюстраваны штотыднёвік»). У розных перыядычных выданнях друкаваў артыкулы пра Беларусь: «Карціны з берагоў Нёмана», «Некалькі падрабязнасцей пра сям'ю, месца нараджэння і маладосць Адама Міцкевіча», «Канстанцін Тышкевіч» і інш. З беларускіх вершаў вядомы «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела» і прысвечаны А.*Вярыгу-Дарэўскаму* «Далі богто, Арцім...». Аўтар элегіі «Туга на чужой старане» (нап. 1864), якая была пакладзена земляком паэта В.Клімовічам на музыку і стала папулярнай сярод беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі. Мяркуюць, што К. адзін з аўтараў «Гутаркі старога дзеда» і «Гутаркі двух суседаў», надрукаваных напярэдадні паўстання 1863—64. У зборніку вершаў «Чым хата багата, тым рада» (1857) і паэме «Таміла» (1858), выдадзеных у Вільні на польскай мове, паказана жыццё беларускай вёскі. Мяркуюць, што паэма была напісана на беларускай мове, але з-за немагчымасці надрукаваць яе на мове арыгінала перакладзена на польскую мову. У каментарыях да гэтай паэмы К. выклаў свае эстэтычныя погляды. Ён лічыў, што крыніцай мастацтва з'яўляецца грамадскае жыццё, а пісьменнік (мастак) сваёй чулай душой улоўлівае грамадскія думкі, пачуцці, ідэалы і ўвасабляе іх у мастацкіх творах. Мастак, на яго думку, мае права ідэалізаваць гісторыю свайго народа, зыходзячы з высакародных мэт: «Высакародная мэта з'яўляецца праўдзівай, а ўсё, што праўдзівае, тое прыгожае ў эстэтычным значэнні, тое можа быць прадметам мастацкага твора. Мастацтва павінна кіравацца праўдай, змагацца за справу праўды; змагацца за справу вялікай жывой праўды, у процілеглым выпадку яно як з'ява без мэты... стане абыякавым для грамадства. Доказам таму служыць гісторыя ўсёй псеўдакласічнай літаратуры і мноства юбілейных вершаў». Яшчэ К. робіць вывад пра несумяшчальнасць сапраўднай мастацкай творчасці з тэорыяй «мастацтва дзеля мастацтва». Толькі цацкі, лічыў К., робяцца для таго, каб імі гулялі, а творы мастацтва ствараюцца для перадачы дзейснай думкі. Творы мастацтва, сцвярджаў К., складаюцца з 2 элементаў: знешняй формы і ўнутранай сутнасці, зместу, які ў сваю чаргу падзяляецца на свядомае ўспрынящце і інтуіцыю. «Творы мастацтва ёсць увасабленне творчай думкі, якая прымушае да дзейнасці свабоднай воляй чалавека, і таму яно, бясспрэчна, належыць яго духу. А калі належыць яго духу, то тым самым і ўсім яго састаўным і непадзельным часткам, значыць, таксама і сумленню. А сумленне — гэта толькі яшчэ не ўвасобленая тэндэнцыя».

К. — аўтар некалькіх зборнікаў вершаў для народа. У прадмове да аднаго з іх ён адзначаў, што прысвячае сваю працу «простым братам» (сялянам). У шэрагу яго вершаў прагучалі матывы, якія надалей сталі вельмі істотнымі ў беларускай паэзіі: патрыятызм «ліцвіна», «плаксівыя» ноты і абяцанне запець на вясёлы лад, калі над краінай заззяе сонца свабоды.

К. перакладаў на польскую мову творы Ж.П.Беранжэ, А.Пушкіна, М.Лермантава, Л.Талстога, Г.Гейнэ, выдаў збор твораў У.Сыракомлі (т. 1—10, 1872), з А.*Плугам* падрыхтаваў зб. «Выбранай паэзіі» У.Сыракомлі (т. 1—5, 1890).

*Тв.:* Творы. Мн., 1981.

*Літ.:* История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Мархель У.І. Творчасць Вінцэся Каратынскага ў ацэнцы сучаснікаў і нашчадкаў // Белороссика: книговедение, источники, библиогр. Мн., 1980.

## **КАРЖАНЕЎСКІ** Іосіф Іванавіч (19.3.1806—21.5.1870)



Беларускі вучоны ў галіне хірургіі і інфекцыйных хвароб, доктар медыцыны. Нарадзіўся ў Слуцку Мінскай губ. Скончыў Нясвіжскую гімназію, медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта. Працаваў пры універсітэце памочнікам празектара анатоміі. У 1829 абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны. У 1831 пакінуў службу і паехаў у Брэст-Літоўск і Віцебск, дзе прымаў удзел у барацьбе з халерай. У 1832 памочнік празектара хірургічнай клінікі Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1835 экстраардынарны прафесар, выкладаў дэсмургію (раздзел хірургіі — вучэнне аб павязках). У 1837—39 займаўся ў лепшых універсітэцкіх клініках за мяжой і па вяртанні ў 1840 прызначаны экстраардынарным прафесарам і дырэктарам акадэмічнай клінікі. Пасля закрыцця акадэміі ў 1843 застаўся па-за штатам і займаўся практычнай дзейнасцю па хірургіі ў Вільні з 1842. Быў вядомы ў Польшчы як лепшы хірург. Аўтар навуковых прац па пытаннях лячэння сыпнога тыфу, пераломаў, артапедыі, дэсмургіі.

## **КАРПОВІЧ** Станіслаў (24.2.1864—16.6.1921)

Педагог, грамадскі дзеяч, асветнік. Нарадзіўся ў в. Хацішча каля Баранавіч. Пачатковую адукацыю атрымаў у хатніх умовах у маёнтку Крапіўна на Міншчыне, потым вучыўся ў гімназіях Рыгі і Слуцка. Бацькі мелі намер даць яму універсітэцкую адукацыю. Але, сутыкнуўшыся там з казённа-чыноўніцкім прымусам, К. вырашыў лепш заняцца самаадукацыяй. У 1882 ён выехаў на Каўказ, дзе ў наваколлі Тыфліса працаваў бухгалтарам, сакратаром на біржы і інш. У 1884 вярнуўся на радзіму, працаваў настаўнікам у прыватных дамах Вільні, потым у вёсках у розных гаспадароў. З самага пачатку сваёй педагагічнай дзейнасці К. выкарыстоўваў прагрэсіўныя метады навучання моладзі, даваў ёй найноўшыя тэарэтычныя і практычныя веды. Ён распрацаваў асновы самаадукацыі і склаў дапаможнік «Што чытаць» (1890), рукапіс якога быў забаронены цэнзурай і канфіскаваны. Пасля смерці бацькі ў 1892 К. пераехаў у Варшаву, там узначаліў маладзёжныя гурткі самаадукацыі, зблізіўся з варшаўскай інтэлігенцыяй, супрацоўнічаў з мясцовымі перыядычнымі выданнямі, друкаваў у іх свае артыкулы на тэмы самаадукацыі. Часта наведваў Навагрудчыну, аб'язджаў вёскі і сядзібы, наладжваў дыскусіі па пытаннях самаадукацыі, дапамагаў у арганізацыі бібліятэк на Міншчыне. У 1896 разам з М.Баркоўскім заснаваў у Варшаве кнігарню, у якой побач з іншымі выданнямі былі аддзелы нот і школьнай літаратуры. У 1899 К. заснаваў уласнае выдавецтва нот. Яго асноўныя творы па асвеце моладзі: «Навука аб выхаванні» (1902), «Наша літаратура для моладзі», «Скарбы чалавецтва» (абодва 1904) і інш.

## **КАРСКІ** Сяргей

Беларускі этнограф і фалькларыст 2-й паловы 19 ст. Даследаваў побыт і культуру беларусаў Віленскай губ., пераважна Ашмянскага пав. Друкаваўся ў газеце «Виленский вестник» і інш. У арт. «Народныя беларускія вяселлі ў Ашмянскім павеце Віленскай губерні» (1888), «Эканамічны побыт беларусаў Віленскай губерні», «Знешні побыт беларусаў у Віленскай губерні», «Сямейны побыт беларусаў Віленскай губерні», «Дажынкі», «Каляндарныя святы ў беларусаў Віленскай губерні», «Вялікдзень у беларусаў Віленскай губерні» (усе 1891) і інш. падрабязна

разглядаў вытворчую дзейнасць, промыслы, рамёствы, жыллё, адзенне, сямейны побыт, вясельныя і каляндарныя абрады, святы, песні беларусаў. Спачуваў цяжкаму лёсу селяніна, выступаў за развіццё асветы.

## **КАРСКІ** Яўхім Фёдаравіч [20.12.1860(1.1.1861)—29.4.1931]



Філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф. Акадэмік Пецярбургскай АН (з 1916, член-карэспандэнт з 1901), правадзейны член Інстытута беларускай культуры (1922), Чэшскай АН (з 1929). Нарадзіўся ў в. Лаша Гродзенскага пав. ў мнагадзетнай сям'і настаўніка. Яго бацька ў пошуках лепшай долі не раз пераязджаў з месца на месца (вёскі Лаша на Гродзеншчыне, Ятра і Бярозавец на Навагрудчыне, Волма на Міншчыне), што дазволіла будучаму вучонаму з маленства глыбей спазнаць Беларусь і яе духоўную культуру. Пачатковую адукацыю атрымаў у Ятранскім народным вучылішчы. На вучобу ў гімназіі не было сродкаў, таму паступіў у Мінскае духоўнае вучылішча, а потым у семінарыю. Каб матэрыяльна дапамагчы сям'і, у семінарскія часы даваў прыватныя ўрокі. У 1881, закончыўшы вучобу ў семінарыі, паступіў на казённы кошт у Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут (Украіна), дзе ў свой час у колішнім юрыдычным ліцэі вучыўся Ф.*Багушэвіч*. У 1885 пасля выдатнага заканчэння інстытута ўладкаваўся на працу ў Вільні і на працягу 8 гадоў выкладаў рускую і стараславянскую мовы, а таксама рускую літаратуру ў 2-й Віленскай гімназіі. У 1891 здаў у Варшаве магістарскі экзамен, а праз 2 гады за даследаванні беларускай мовы савет Кіеўскага універсітэта прысудзіў яму вучоную ступень магістра рускай мовы і славеснасці (гэта была першая ў гісторыі дысертацыя па беларускім мовазнаўстве). У 1893 ён перабраўся ў Варшаву і надоўга звязаў свой лёс з Варшаўскім універсітэтам, дзе спачатку працаваў выкладчыкам-лектарам, з 1894 — экстраардынарны, а з 1897 ардынарны прафесар кафедры рускай і славянскай моў і рускай літаратуры. За працы па беларусазнаўстве ў 1894 узнагароджаны вялікім залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства. У 1896 за даследаванне «Заходнерускія пераклады псалтыра ў XV—XVII стст.» савет Маскоўскага універсітэта прысудзіў яму вучоную ступень доктара філалогіі. Ён быў абраны членам Археаграфічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства, членам-карэспандэнтам Таварыства аматараў старажытнага пісьменства (1898).

У 1901 за працы ў галіне палеаграфіі Пецярбургская АН адзначыла яго Ламаносаўскай прэміяй. У 1905 ён узначаліў самы значны філалагічны часопіс тагачаснай Расіі — «Русский филологический вестник», дзе змясціў шмат сваіх навуковых прац і бібліяграфічных матэрыялаў. У гэтым жа годзе стаў першым выбраным рэктарам Варшаўскага універсітэта. У 1908 пераабраны на новы тэрмін, але ў 1910 адмовіўся ад гэтай пасады ў знак пратэсту супраць самавольства міністра адукацыі. У 1915—16 працаваў у Растове-на-Доне, куды быў эвакуіраваны Варшаўскі універсітэт, а пасля выбрання правадзейным членам АН (1916) пераехаў у Петраград. Потым перабраўся ў Мінск, дзе яго заспела польская акупацыя. Каб прыцягнуць сусветна вядомага вучонага на свой бок, акупацыйныя ўлады прапанавалі яму пенсію, але, К. адмовіўся і жыў на мізэрныя ганарары, што атрымліваў за

публікацыю ў беларускіх газетах артыкулаў па гісторыі роднай літаратуры і культуры. У снежні 1919 пабываў у Варшаве, адкуль перавёз у Мінск сваю бібліятэку, якую пазней перадаў Беларускаму універсітэту. Пасля вызвалення Мінска (ліпень 1920) вярнуўся ў Петраград, дзе стаў адным з арганізатараў акадэмічнай навукі. Ён быў членам праўлення і прэзідыума АН, дырэктарам Музея антрапалогіі і этнаграфіі, старшынёй Слоўнікавай камісіі, Камісіі па рускай мове, членам камісіі «Навука і навуковыя работнікі», рэдактарам часопіса «Известия Отделения русского языка и словесности» Акадэміі навук, членам акадэмічнага Рэдакцыйна-выдавецкага савета, прафесарам філалагічнага факультэта Петраградскага універсітэта, супрацоўнікам універсітэцкага Навукова-даследчага інстытута. К. шмат зрабіў у гэты перыяд для пашырэння міжнародных сувязей айчыннай славістычнай навукі, удзельнічаў у рабоце 1-га міжнароднага з'езда славянскіх географаў і этнографаў у Празе (1924), выбраны ганаровым членам Таварыства аматараў расійскай славеснасці (1925), Таварыства пісьменнасці і мастацтва ў Ленінградзе (1927).

Ужо ў студэнцкія гады К. выявіў схільнасць да навуковай творчасці. Тады ж ён надрукаваў першыя свае навуковыя працы (рэцэнзіі, фальклорныя запісы з в. Бярозавец) і прыступіў да задуманага яшчэ ў 1881 манаграфічнага даследавання роднай беларускай мовы. У выніку з'явілася яго праца «Агляд гукаў і форм беларускай мовы» (1885), якая адыграла важную ролю ў станаўленні беларускай нацыянальнай культуры. К. зрабіў вялікі ўклад у беларускую і рускую філалагічную навуку. Даследаваў палеаграфію, гісторыю беларускай мовы, дыялекталогію, этнаграфію, вусную народную творчасць, старажытную і сучасную беларускую літаратуру. Сапраўднай энцыклапедыяй беларусазнаўства стала фундаментальная трохтомная праца «Беларусы» (вып. 1—7; 1903—22), у якой на аснове глыбокага параўнальна-гістарычнага даследавання гісторыі мовы, фальклору, пісьменнасці, шматвяковай культуры беларускага народа ўпершыню была навукова абгрунтавана яго нацыянальная самабытнасць як самастойнага славянскага народа. К. аўтар такіх грунтоўных даследаванняў, як «Славянская кірылаўская палеаграфія» (1928), «Руская праўда» паводле старажытнага спісу» (1930) і інш. Пад яго рэдакцыяй выйшлі навуковыя выданні каштоўных помнікаў пісьменства і культуры ў



*Санкт-Пецярбург. Марсава поле.*




*Тытульны ліст кнігі «Беларусы» Я.Ф.Карскага. 1955.*

«Поўным зборы рускіх летапісаў» («Аповесць мінулых гадоў», Суздальскі летапіс). Асобна варта адзначыць уклад К. ў арганізацыю навукі на Беларусі і развіццё беларускай культуры. Яшчэ ў дарэвалюцыйны час ён склаў праграму вывучэння беларускай мовы, супрацоўнічаў з П.*Шэйнам*, М.*Нікіфароўскім*, Е.*Раманавым*, падтрымліваў першыя беларускія выдавецтвы, «Нашу ніву» і навукова-літаратурны гурток студэнтаў Пецярбургскага універсітэта. У савецкі час быў старшынёй камісіі па адкрыцці ў Мінску Беларускага дзяржаўнага універсітэта, правадзейным членам Інбелкульта і ўдзельнічаў у распрацоўцы яго статута.

Ацалела частка асабістага архіва К. Бібліятэка, перададзеная ў 1922 БДУ, зберагаецца асобнай калекцыяй у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (у гады Вялікай Айчыннай вайны часткова страчана). На радзіме К. ў в. Лаша створаны мемарыяльны музей, яго імем названы Гродзенская абласная бібліятэка, вуліца ў Гродне, Лашанская васьмігадовая школа. У 1990 урад Беларусі ўстанавіў 8 стыпендый імя Я.Карскага. Скульптурны партрэт вучонага стварыў М.Рыжанкоў. Пахаваны К. ў Санкт-Пецярбургу.

*Літ.:* Булахов М.Г. Е.Ф.Карский. Мн., 1981. *Г.В.Кісялёў.*

## КАРТАШЭЎСКІ Рыгор Іванавіч (1777—1840)

Дзеяч асветы на Беларусі. Нарадзіўся на Палтаўшчыне ў сям'і двараніна. Да 1791 выхоўваўся ў Харкаўскім калегіуме, у гэтым жа годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага універсітэта. У 1796 накіраваны настаўнікам у Казанскую гімназію. Потым на пасадзе ад'юнкт-прафесара выкладаў курс вышэйшай матэматыкі ў Казанскім універсітэце; быў выхавальнікам будучага пісьменніка С.Т.Аксакава. К. добра ведаў лацінскую, французскую, нямецкую мовы і з 1807 на працягу 22 гадоў служыў на розных пасадах пры Галоўным упраўленні духоўных спраў замежных веравызнанняў. Калі ў 1829 была ўтворана Беларуская навучальная акруга, К. прызначаны туды папячыцелем, адкуль у 1835 звольніўся з-за хваробы. Як службовая асоба К. павінен быў ажыццяўляць на Беларусі русіфікатарскую палітыку царызму ў галіне асветы. Але ім зроблена шмат прагрэсіўнага для развіцця асветы на Беларусі. Дасканала вывучыўшы стан асветы і становішча настаўнікаў у акрузе, К. распрацаваў канкрэтную праграму перабудовы школьнай справы. У лісце ген.-губернатару Хаванскаму ён прапаноўваў стварыць у акрузе ўсеахопную сетку пачатковых рускіх школ ва ўсіх павятовых гарадах, казённых і манастырскіх пасяленнях, панскіх маёнтках, у т.л. ў Суражы, Гарадку, Оршы, Сянно, Бабінавічах, Клімавічах і Беліцы. У асвеце «ніжніх класаў народа» К. найперш бачыў не сродак русіфікацыі, а магчымасць палепшыць іх жыццё. Для пашырэння пісьменнасці

на Беларусі ён лічыў найбольш мэтазгоднымі, таннымі і масавымі школы ўзаемнага навучання, т. зв. ланкастэрскія школы. Падрыхтоўку настаўнікаў ён раіў арганізаваць пры адной з гімназій, а для падрыхтоўкі прыходскіх настаўнікаў стварыць у акрузе педагагічны інстытут. Ад Міністэрства народнай асветы К. настойліва патрабаваў павелічэння зарплаты настаўнікам прыходскіх вучылішчаў, а ад памешчыкаў — садзейнічання ў адкрыцці школ для дзяцей прыгонных. Ён дамогся дазволу ўрада на падрыхтоўку за казённы кошт 50 юнакоў з Беларусі ў Пецярбургскім і Маскоўскім універсітэтах з умовай іх далейшай працы на Беларусі, асабіста ўдзельнічаў у адборы найбольш здольных гімназістаў і пасля дадатковай праверкі іх ведаў і праходжання падрыхтоўчых курсаў пры Віцебскай гімназіі накіроўваў іх на ўступныя экзамены ў Пецярбург і Маскву. Некаторыя з іх пазней сталі вядомымі грамадскімі дзеячамі і вучонымі. У 1834 па яго ініцыятыве ў Віцебску адкрыта першая на Беларусі семінарыя для падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых школ, падрыхтоўчых класаў гімназій і павятовых вучылішчаў. За 5 гадоў існавання гэтай семінарыі падрыхтавана больш як 60 настаўнікаў. Ад чыноўнікаў сваёй акругі К. патрабаваў канкрэтных і дзейсных мер па кіраўніцтве школамі. Ён вывучаў і пашыраў вопыт лепшых настаўнікаў. З яго дзейнасцю як папячыцеля акругі звязаны эпізод у жыцці В.Р.Бялінскага, якому было прапанавана месца настаўніка на Беларусі. На працу тут ён не ўладкаваўся, але ў сувязі з гэтым напісаў адзін з лепшых сваіх педагагічных трактатаў «Мае думкі аб тым, як трэба дзейнічаць настаўніку пры навучанні рускай мове вучняў, якія не могуць размаўляць на ёй, і якія са свайго боку не ведае іх айчыннай мовы». Трактат захоўваецца ў архіўных матэрыялах Беларускай навучальнай акругі.

*Літ.:* Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 176—181.

## **КАСОВІЧ** Ігнацій Андрэевіч (1808—15.10.1878)

Філолаг, прафесар Варшаўскага універсітэта. Нарадзіўся ў Віцебскай губ. ў сям'і свяшчэнніка. Брат К.А.*Касовіча*. Вучыўся ў Галоўнай духоўнай семінарыі Віленскага універсітэта і пасля заканчэння атрымаў ступень магістра багаслоўя. У 1830—32 прыкамандзіраваны да Пецярбургскага універсітэта для ўдасканалення ў лацінскай і грэчаскай мовах. З 1833 прафесар грэчаскай мовы і царкоўнага красамоўства ў беларускай грэкалацінскай семінарыі ў Жыровічах. З 1835 выкладчык у Кромскай, Смаленскай, Маскоўскай гімназіях. З 1849 інспектар у Разанскай, потым ва Уладзімірскай гімназіях. У 1860—62 выкладчык у 6-й Пецярбургскай гімназіі, потым у Ларынскай. У 1870 за твор «Лірычная паэзія Гарацыя» атрымаў у Кіеўскім універсітэце ступень доктара рымскай славеснасці і прызначаны штатным дацэнтам грэчаскай славеснасці Варшаўскага універсітэта. З 1872 ардынарны прафесар. Акрамя дысертацыі надрукаваў «Разважанні аб важнасці грэчаскай мовы», «Грэчаскі дзеяслоў у сваім развіцці» і інш. Шырокай вядомасцю карыстаўся складзены ім (разам з К.Касовічам) «Грэчаска-рускі слоўнік» (т. 1—2, 1847), які Акадэмія навук адзначыла Дзямідаўскай прэміяй.

## **КАСОВІЧ** Каятан Андрэевіч [2(14).5.1814—26.1(7.2).1883]

Першы вучоны санскрытолаг Расійскай імперыі. Нарадзіўся ў Полацку ў сям'і свяшчэнніка. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі, потым на філалагічным факультэце Маскоўскага універсітэта. Быў выкладчыкам грэчаскай мовы ў Цвярской і 2-й Маскоўскай гімназіях. Яшчэ калі быў настаўнікам, пачаў вывучаць і даследаваць яўрэйскую і арабскую мовы, потым санскрыт. Апошняй мовай ён валодаў так добра, што свабодна чытаў санскрыцкія помнікі «Махабхарата», «Рамаяна», Ману законы, рабіў пераклады. Пераклаў «Сунд і Упесунд» (1844), «Сказанне пра Дгруву» (1848), «Васантазена, старажытна-індыйская драма» (1849) і інш. Дзейнасць К. не атрымала падтрымкі ў Маскве, толькі некаторыя славянафілы (А.С.Хамякоў і інш.) паставіліся да яе прыхільна. З 1850 К. у Пецярбургу. Там ён быў рэдактарам навуковых прац пры Публічнай бібліятэцы, а ў 1857 стаў чытаць на гра-

мадскіх пачатках лекцыі па санскрыцкай мове і літаратуры ва універсітэце. У 1854 распачаў выданне «Санскрыцка-рускага слоўніка» (застаўся незакончаным). Сваю прафесарскую дзейнасць К. пачаў уступнай лекцыяй «Аб характарыстыцы старажытнаіндыйскай цывілізацыі і развіцці санскрыцкай літаратуры» (1859). Але на той час у Расіі не было элементарных дапаможнікаў для вывучэння мовы санскрыту. Таму ён выдаў некалькі эпізодаў з «Махабхараты», забяспечыўшы іх рускай транскрыпцыяй і лацінскім перакладам, чытаў публічныя лекцыі пра санскрыцкі эпас. Адначасова К. выкладаў ва універсітэце і зенд (мову аднаго з іранскіх пляменаў), для гэтага зрабіў і выдаў неабходныя пераклады з дапаможнікамі. У Харкаўскім універсітэце К. атрымаў званне ганаровага доктара параўнальнага мовазнаўства, пасля чаго заняў пасаду штатнага прафесара ў Пецярбургскім універсітэце (1865). Апошняй буйной працай К. было выданне збору персідскіх клінападобных надпісаў (1872). У 1874—75 выйшаў яго пераклад «Яўрэйскай граматыкі» Гезеніуса і «Яўрэйскай хрэстаматыі...», якія былі прыняты для настаўлення ў духоўных семінарыях. Разам з братам І.А.*Касовічам* ён выдаў «Грэчаска-рускі слоўнік» (т. 1—2, 1847).

*Літ.:* Бас І. Эцюды пра вучоных // Маладосць. 1971. №8. *Г.А.Маслыка.*

## **КАСОВІЧ** Пётр Самсонавіч (Сямёнавіч; 16.9.1862—13.8.1915)

Фізіёлаг раслін, глебазнавец, педагог. Нарадзіўся ў г. Горкі на Магілёўшчыне. У 1887 скончыў прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага універсітэта. Яго першае навуковае даследаванне «Паходжанне азоту ў раслінах» адзначана залатым медалём. Блізкай па тэме была і яго магістэрская дысертацыя «Да пытання аб засваенні раслінамі свабоднага азоту» (1895). Акрамя універсітэта скончыў Пятроўскую (цяпер Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію (вучань І.А.*Сцебута* і К.А.Ціміразева) і пакінуты пры акадэміі на 3 гады стэпендыятам на кафедры земляробства. З 1891 прыват-дацэнт Маскоўскага універсітэта. Удасканальваў веды ў 1892—94 у навуковых установах Германіі, Галандыі, Бельгіі, Францыі, найбольш у Гётынгене ў сельскагаспадарчай лабараторыі А.Коха і ў Парыжы ў Пастэраўскім інстытуце ў Дзюкло. З 1894 і да канца дзён сваіх прафесар кафедры глебазнаўства ў Пецярбургскім лясным інстытуце. З 1905 па 1911 (з невялікім перапынкам) з'яўляўся выбарным дырэктарам гэтага інстытута. З 1895 член Вучонага камітэта Міністэрства народнай асветы, з 1897 член Вучонага камітэта Міністэрства земляробства і дзяржаўнай маёмасці. Загадваў сельскагаспадарчай хімічнай лабараторыяй пры гэтым міністэрстве, арганізаваў там вялікую лабараторыю па даследаванні глеб. У 1900 заснаваў «Журнал опытной агрономии», у якім змясціў шэраг цікавых прац па батаніцы, глебазнаўстве, аграноміі і інш. Аўтар «Асноў вучэння пра глебу» (1911), «Кароткага курса агульнага глебазнаўства» (1912) і інш.

*Літ.:* Памяти профессора Петра Самсоновича Коссовича: [Сб. ст.]. П., 1916.

## **КАТОВІЧ** Іаан Антонавіч

Віленскі праваслаўны свяшчэннік, археолаг. Звесткі пра месца, час нараджэння і смерці не захаваліся. З 1869 рэдагаваў часопіс «Литовские епархиальные ведомости», у якім змясціў шмат артыкулаў па царкоўных пытаннях. У артыкулах «Богагалоснік, яго значэнне і выкарыстанне ў народзе» (1866), «Пра праваслаўныя цэрквы ў г. Кобрыне» (1869), «Некалькі слоў пра віленскую Кальварыю і пра наведванне яе праваслаўнымі» (1875—79) ёсць звесткі па археалогіі Беларусі і Літвы. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы «Прац дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні» (1893; т. 1—2, 1895—97).

## **КАЧАНОЎСКІ** Уладзімір Васілевіч [1(13).3.1853—11(24).4.1901]

Філолаг, славяназнавец. Нарадзіўся ў в. Вялікі Лес Гродзенскай губ. ў сям'і святара. Скончыўшы Варшаўскі універсітэт, падарожнічаў у навуковых мэтах па славянскіх землях, Грэцыі,

Італіі і паўднёвай Францыі. Пасля вяртання з падарожжа абараніў магістарскую дысертацыю «Нявыдадзены дуброўніцкі паэт А.М.Глегевіч» (1882), у якой паказаў яго значэнне ў развіцці драматургіі ў славян. За час свайго падарожжа па Балгарыі склаў вялікі зборнік песень «Помнікі балгарскай народнай творчасці» (1882), дзе змясціў таксама кароткія нататкі пра асаблівасці народнай мовы, апісанні звычаяў, узоры балгарскай мовы 17—18 ст., збор прымавак і кароткі слоўнік. Пэўны час быў прафесарам у Казані. У 1888 распачаў выданне перыядычнага зборніка «Вестник славянства». Аўтар прац «Візантыйскія летапісы як крыніцы гісторыі паўднёвых славян» (1881), «Аб гісторыі вывучэння рускай мовы» (1886), «А.С.Пушкін як выхавацель рускага грамадства» (1888) і інш.

*Літ.:* Я г и ч И.В. Энциклопедия славянской филологии. Спб., 1910.

## КАЯЛОВІЧ Міхаіл Восіпавіч [20.9(2.10).1828—23.8(4.9).1891]

Гісторык, публіцыст і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў мяст. Кузніца Беластоцкага ваяв. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1855), дзе пасля выкладаў. Асноўныя яго працы прысвечаныя гісторыі Беларусі, Польшчы і Расіі. Аўтар гістарычна-этнаграфічных даследаванняў «Пра рассяленне плямён Заходняга краю Расіі», «Пра этнаграфічны атлас заходніх губерняў» (абодва 1863), «Пра этнаграфічную мяжу паміж Заходняй Расіяй і Польшчай» (1864) і інш. Да працы «Дакументы, якія тлумачаць гісторыю Заходнерускага краю і яго адносіны да Расіі і Польшчы» (1865) дадаў этнаграфічную карту. Закранаў пытанні этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў, рускіх, літоўцаў і інш. Поглядамі блізкі да панславістаў, прыхільнік ліберальна-памяркоўнага кірунку заходнерусізму. Беларуская народнасць, на яго погляд, склалася ў 10—11 ст. з плямёнаў крывічоў і дрыгавічоў і раднілася па веры, мове і этнаграфічных традыцыях з рускімі і ўкраінцамі. К. адзначаў пэўную розніцу паміж усходнімі і заходнімі беларусамі, што тлумачыў вынікамі міжэтнічных кантактаў з літоўцамі і палякамі ў 14—18 ст., а таксама палітыкай акаталічвання і апалячвання ў Рэчы Паспалітай. На яго думку, далучэнне Беларусі і Украіны да Расійскай імперыі ў канцы 18 ст. адрадзіла старарускае адзінства. Адмаўляў за беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі права на нацыянальнае самавызначэнне, пазітыўны ўплыў заходніх народаў і культур на ўсходнеславянскія народы. Выступаў супраць паўстання 1863—64. У 1885—87 апублікаў нататкі пра падарожжа па Беларусі і Літве. Многія працы К. напісаны з тэндэнцыйнай падборкай факталагічнага матэрыялу і суб'ектыўнымі поглядамі на гісторыю ўсходніх славян і іх суседзяў.

*Тв.:* Лекции по истории Западной России. М., 1864; Историческая живучесть русского народа и его культурные особенности. Спб., 1883; История русского самосознания... 3-е изд. Спб., 1901. *І.У.Чаквін.*

## КЖЫЖАНОЎСКІ Канстанцін

Беларускі скрыпач, педагог і кампазітар сярэдзіны 19 ст. Адзін з найбольш аўтарытэтных тагачасных мінскіх музыкантаў. Выкладаў музыку ў мінскай мужчынскай гімназіі і прыватных пансіёнах. Сярод яго вучняў М.*Ельскі.* Выступаў у аматарскіх канцэртах як скрыпач і спявак. Сябраваў з С.*Манюшкам* і В.*Дуніным-Марцінкевічам.* Разам з Манюшкам стварыў музыку да спектакляў тэатра Дуніна-Марцінкевіча «Рэкруцкі набор» (1841) і «Ідылія» («Сялянка», 1852). У сваіх творах выкарыстоўваў народныя песенныя і танцавальныя мелодыі.

## КІРКОР Адам Ганоры Карлавіч [псеўданімы: Я н  с а  С л і в і н а, Я н  В а л і г у р с к і, С а б о р ы і інш.; 21.1.1818 (паводле інш. звестак 1819) — 23.11.1886]

Этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, гісторык, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Слівіна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. (цяпер Манастыршчынскі р-н, Смаленская вобл.). Належаў да небагатага беларускага шляхецкага роду татарскага паходжання. Бацькі яго ў 1830—40-я гады валодалі невялікім фальваркам Грынеў-

шчына (Кіркораўшчына) у Клімавіцкім пав. У 1832—34 К. вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, потым у 2-й Віленскай гімназіі (Віленскі дваранскі інстытут), якую скончыў экстэрнам у 1838. Яшчэ ў гады навучання ў гімназіі зацікавіўся фальклорам і этнаграфіяй і надрукаваў у зборніку лепшых сачыненняў выхаванцаў Беларускай навучальнай акругі (1839) свой першы артыкул «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі». Пад уплывам былога выкладчыка Віленскага універсітэта, знаўца старажытнасцей М.*Гамаліцкага* зацікавіўся гісторыяй і археалогіяй роднага краю. Паступіўшы на службу ў Віленскую казённую палату (1838—64), ён не кідаў і літаратурна-навуковых заняткаў, пісаў тэатральныя рэцэнзіі, выдаваў альманахі «Radegast» («Радэгаст», 1843) і «Pamętniki umysłowe» («Разумовыя дзённікі», 1845—46). Напачатку віленскае асяроддзе не да канца задавальняла яго і ён рабіў спробы перанесці сваю журналісцка-выдавецкую дзейнасць у Адэсу, Кракаў ці Пецярбург. У 1846 у сувязі з вострымі сацыяльнымі канфліктамі ў Галіцыі ўлады даручылі яму сакрэтную місію — разведаць настроі насельніцтва ў заходняй Беларусі, і ён напісаў па гэтых пытаннях цікавую дакладную запіску, адзначыўшы глыбокую варожасць мясцовых сялян да памешчыкаў. Да гэтага ж часу адносіцца яго нешчаслівы шлюб з артысткай Аленай Маеўскай, які прынёс яму ў будучым вялікія расчараванні (у 1857 жонка пакінула яго і паехала ў Польшчу, дзе прыняла актыўны ўдзел у падзеях 1863). З 1849 К. — член Віленскага статыстычнага камітэта, і як сакратар гэтага камітэта (да 1854) ён па сутнасці кіраваў усімі яго справамі. Рэдагуючы губернскія «Памятныя кніжкі» (1850—54) ён пашырыў у іх неафіцыйны аддзел, змясціў багатыя матэрыялы па гісторыі і статыстыцы Віленшчыны, у тым ліку яе беларускіх паветаў. Ён вёў шматлікія археалагічныя раскопкі ў Літве і на Беларусі, раскапаў (часткова сумесна з археолагам Я.*Тышкевічам*) каля 1000 курганоў. Актыўны ўдзел прыняў ён у арганізацыі Музея старажытнасцей у Вільні (1855), стаў яго хавальнікам і сакратаром Археалагічнай камісіі. Выдатны знаўца гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы, ён падрыхтаваў некалькі папулярных даведнікаў па Вільні і яе ваколіцах, друкаваў шматлікія навуковыя матэрыялы ў рускай і польскай перыёдыцы. Асабліва каштоўнай для беларускай навукі была яго праца «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—59), складзеная паводле праграмы Рускага геаграфічнага таварыства. У ёй выказана вялікая павага да духоўнага жыцця працоўнага народа, прыведзена больш за 100 беларускіх песень, 200 прыказак, слоўнік беларускай мовы. У 1857—58 К. выдаваў неперыядычны зборнік «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік»), забаронены за змяшчэнне пісьма вядомага гісторыка (у той час палітычнага эмігранта) І.*Лялевеля*. У 1859 К. заснаваў у Вільні ўласную друкарню (спачатку ў суполцы, потым перайшла ў яго поўную ўласнасць) і выдаў у ёй шэраг навуковых і мастацкіх кніг, у тым ліку творы Ю.І.*Крашэўскага*, У.*Сыракомлі*, Ю.*Ляскоўскага*. З 1860 выдаваў і рэдагаваў галоўную газету літоўска-беларускага рэгіёна «Виленский вестник» (на польскай і рускай мовах), зрабіўшы яе больш змястоўнай і папулярнай. У 1850-я гады вакол К. ўтварыўся гурток мясцовых (беларускіх, польскіх, літоўскіх) літаратараў і культурных дзеячаў. Да яго належалі або падтрымлівалі з ім сувязі пісьменнікі У.Сыракомля, В.*Каратынскі*, В.*Дунін-Марцінкевіч*, А.*Вярыга-Дарэўскі*, А.*Адынец*, І.*Ходзька* і інш., гісторыкі М.*Маліноўскі* і Я.Тышкевіч, журналіст В.Пшыбыльскі, кампазітар С.*Манюшка*. Многія з удзельнікаў гуртка былі звязаны з беларускай літаратурай, у сувязі з чым гурток К. часам называюць першым беларускім літаратурным гуртком, падкрэсліваючы тым самым яго значэнне для станаўлення новай беларускай літаратуры. Паводле няпэўных звестак, сам К. «пісаў для народа папулярныя беларускія брашуркі» (Багдановіч М. Творы. Мн., 1968. Т. 2. С. 226), але сёння навука нічога пра іх не ведае. Затое добра вядома яго сардэчная прыхільнасць да беларуска-літоўскага краю, які традыцыйна ў тыя часы называўся «Літвой», а яго жыхары «літвінамі». «Я літвін, — пісаў К., — ніколі не знішчыць ува мне гэтага пачуцця». У іншых выпадках ён

называў сябе «не прыродным палякам, а беларусам». У 1858 К. разам са сваімі аднадумцамі ўдзельнічаў у т.зв. «Віленскім альбоме», выдадзеным у гонар прыезду ў Вільню цара Аляксандра II. Гэты ўчынак быў расцэнены многімі як адыход ад традыцый вызваленчага руху і выклікаў крытыку ў розных слаях польскага грамадства, асабліва ў эміграцыі. Ліберальная лінія К., накіраваная на супрацоўніцтва з царскімі ўладамі, не раз выклікала крытыку і потым. Цяжкія выпрабаванні выпалі на яго долю ў перыяд паўстання 1863, калі Мураўёў-вешальнікператварыў газету К. ў афіцыйны орган генерал-губернатарскага ўпраўлення. Прыхільнікаў паўстання абурыла дачыненне К. да выпрацоўкі вернападданніцкага адраса мясцовага дваранства цару. Разам з тым К. быў прыцягнуты да следства ў сувязі з удзелам у паўстанні яго жонкі А.Маеўскай, у варшаўскай кватэры якой доўгі час хаваўся кіраўнік паўстанцкага ўрада Р.Траўгут. І хоць следства не знайшло яго віны, тым не менш улады бачылі ў ім праціўніка сваёй русіфікатарскай палітыкі, яму не давяралі, і ён, страціўшы магчымасць працаваць у Вільні, быў вымушаны перабрацца ў Пецярбург, дзе разам з М.Юматавым выдаваў у 1868—71 газету «Новае время», якая праводзіла курс на збліжэнне рускага і польскага грамадства і таксама была на падазрэнні ўлад. Апрача таго, К. апынуўся ў вельмі цяжкім фінансавым становішчы і яму пагражала даўтавая турма. Усё гэта вымусіла яго пакінуць Расію і ўжо ў немаладым узросце асталявацца ў Кракаве (тады Аўстрыйская імперыя). Тут ён працягваў займацца навуковай і журналісцкай дзейнасцю, у розныя часы рабіў няўдалыя спробы выдаваць літаратурна-навуковыя альманахі «Na dziś» («На сёння», 1872), «Teka Krakowska» («Кракаўскі зборнік», 1884). Ён з поспехам як супрацоўнік Кракаўскай акадэміі вёў раскопкі ў Галіцыі, чытаў публічныя лекцыі па літаратуры і археалогіі. З прац гэтага перыяду асаблівую цікавасць маюць «Нарысы сучаснай рускай літаратуры» (1873), дзе падкрэсліваліся яе дэмакратычныя традыцыі, роля ў ёй В.Бялінскага і М.Чарнышэўскага, «Літоўскія абразкі» (1874) і інш. віленскія ўспаміны, «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) з асобным нарысам гісторыі беларускай літаратуры, «Літва і Русь у гістарычных, геаграфічных, статыстычных і археалагічных адносінах» (1875), нарысы гісторыі і культуры Беларусі ў «Жывапіснай Расіі» (т. 3, 1882, перавыданне 1993). Апошнія гады К. цяжка хварэў і жыў у вялікай беднасці.

К. не меў спецыяльнай адукацыі, працаваў у неспрыяльных умовах, але паспеў зрабіць нямала ў розных галінах навукі і культуры. Як даследчык духоўнай культуры беларускага народа і літаратуразнавец, збіральнік літаратурна-культурных сіл ён адыграў прыкметную ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры. Свае зборы і рукапісы ён завяшчаў кракаўскаму Нацыянальнаму музею. Зараз яго архіў захоўваецца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, частка архіва зберагаецца ў Нацыянальным дзяржаўным архіве Літвы ў Вільнюсе.

*Літ.:* Зямкевіч Р. Адам Ганоры Кіркор. Вільня, 1911; Янчук Н. А.К.Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1988.

*Г.В.Кісялёў.*

## КЛІМАШЭЎСКІ Іпаліт (19.1.1802—18.9.1874)

Пісьменнік, педагог, бібліятэкар. Нарадзіўся ў мяст. Капаткевічы на Мазыршчыне. У 1820—22 і 1826—27 вывучаў філасофію ў Віленскім універсітэце. У 1830 ён выдаў «Noworocznik Litewski na 1831» («Літоўскі каляндар на новы 1831»). Прымаў удзел у паўстанні 1830—31. Пасля задушэння паўстання ў 1832 эмігрыраваў у Францыю. У 1841 разам з А.Астроўскім, В.Звіркоўскім і Ф.К.Гадэбскім заснаваў у Версалі таварыства Віленскай бібліятэкі і на грамадскіх пачатках стаў яе першым бібліятэкарам. Бібліятэка прызначалася для эмігрантаў з Польшчы, Беларусі і Літвы. Меркавалася, што яна стане асновай новага кнігазбору Віленскага універсітэта замест закрытага царскімі ўладамі. Атрымала назву Версальска-Віленскай, або Польскай, бібліятэкі ў Версалі. Пачаткам кнігазбору сталі кнігі, падараваныя Астроўскім, Ф.Зельтнерам і інш., збор рукапісаў самога К. і інш. пісьмовых крыніц, якія тычыліся паўстання і жыцця эмігрантаў. На працягу 1841—

43 К. надрукаваў некалькі інфармацыйных паведамленняў пра бібліятэку. Да 1847 у гэтай бібліятэцы было 4 тыс. тамоў, 2 апрацаваныя каталогі. З 1.10.1847 К. пачаў працаваць дырэктарам эмігранцкай школы ў прыгарадзе Парыжа Батыньёлі і адначасова стаў апекуном школьнай бібліятэкі, якая налічвала 2 тыс. тамоў і папоўнілася за кошт падараванняў, у тым ліку з кнізабору Ю.І.*Крашэўскага*. Намаганнямі К. ў 1849 школьная бібліятэка аб'яднана з Версальска-Віленскай і рэгулярна папаўнялася з пазнанскіх кнігарняў; ахвяравалі ёй свае кнігі І.*Лялевель* і інш. У 1865 яна налічвала 21 383 тамы, 5 тыс. малюнкаў і гравюр, 2 тыс. геаграфічных карт і больш за 500 рукапісаў. У 1874 з-за адсутнасці памяшкання бібліятэку вырашылі перавезці ў Польшчу ў г. Курнік да кнігазбораў Дзялынскіх. Пасля смерці К. гэты намер ажыццявіў яго пераемнік А.А.Рупрэхт, які ў хуткім часе і сам памёр. У 1880 бібліятэка перайшла да ўласнікаў Курніка Замойскіх, якія ў 1925 стварылі так званы Курніцкі фонд і перадалі яго дзяржаве. У 1953 гэта бібліятэка ўключана ў склад бібліятэк Польскай акадэміі навук, рукапісы з батыньёльскіх збораў захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве.

*Літ.:* Słownik pracownikow książki polskiej. Warszawa; Łódź, 1972. S. 415—416.

## КОРЗАН Тадэвуш Сільвестр (9.11.1839—8.3.1918)

Гісторык, публіцыст. Нарадзіўся ў Мінску. Скончыў Мінскую гімназію, потым Маскоўскі універсітэт (1859). Працаваў настаўнікам гімназіі ў Коўне, пісаў карэспандэнцыі ў «Колокол» А.Герцэна. У 1861 за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях арыштаваны і высланы ў Арэнбург. Вярнуўшыся са ссылкі, з 1869 жыў і працаваў у Варшаве. З 1902 правадзейны член Акадэміі ведаў у Кракаве. Даследаваў пытанні нацыянальнай і ўсеагульнай гісторыі, тэорыі і методыкі гістарычнага даследавання, гістарыяграфіі, эканомікі Польшчы. Аўтар прац «Унутраная гісторыя Польшчы пры Станіславе Аўгусце» (т. 1—4, 1882—86), «Касцюшка» (1894), «Доля і нядоля Яна Сабескага» (т. 1—3, 1898). Ва ўспамінах пра гімназічныя гады «Мой дагістарычны дзённік» (выдадзены ў 1912) шмат звестак з культурнага жыцця Мінска, беларускіх прымавак. Адзін з раздзелаў гэтых мемуараў («Мінск у сярэдзіне XIX стагоддзя») надрукаваў у «Мінскім календары» (1908).

*Літ.:* Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 180—181.

## КОРСАК Юліян (13.2.1806—30.8.1885)

Паэт і перакладчык. Нарадзіўся ў Слоніме. Вучыўся ў Віленскім універсітэце (1823—26). З 1829 жыў у Пецярбургу. У 1830 вярнуўся ў в. Страла (Дзятлаўскі р-н). Апошнія гады жыцця правёў у Навагрудку. Пісаў на польскай мове. Аўтар кніг «Вершы» (1830, 2-е выданне 1836) і «Новыя вершы» (т. 1—2, 1840), куды ўвайшлі творы з беларускай тэматыкай: «Да Нёмана», «Да І(гната) Д(амейкі)» і інш. Пад уплывам творчасці А.*Міцкевіча* засвоіў рамантычны стыль лірычнай паэзіі, у якой выкарыстоўваў класічныя і беларускія фальклорныя матывы. На польскую мову перакладаў Піндара, Вергілія, Гарацыя, Дантэ, Ф.Шылера, Дж.Байрана, У.Шэкспіра. Некаторыя вершы К. («Пілігрым», «Баркарола») пакладзены на музыку С.*Манюшкам*. У.*Сыракомля* прысвяціў К. артыкул «Нататкі з дзіцячых уражанняў» (1853).

*Літ.:* Korespondencja filomatów. T. 5. Kraków, 1913.

## КРАСІНСКІ (Скорабагаты) Валяр'ян (1795—22.12.1855)

Друкар, гісторык, публіцыст. Нарадзіўся на Беларусі. Адукацыю атрымаў на гісторыка-філалагічным факультэце Віленскага універсітэта (1818—22). З 1822 працаваў асэсарам у Варшаве. У 1828 распачаў выданне універсальнай энцыклапедыі, аснову якой складаў пераклад нямецкага энцыклапедычнага лексікона («Conversations Lexicon»), дапоўненага артыкуламі мясцовай тэматыкі. Для рэалізацыі гэтага прадпрыемства К. набыў неабходнае абсталяванне і заснаваў першую ў Польшчы стэрэатыпную друкарню ў Варшаве. Першым яго вы-

даннем быў «Псалтыр Давіда» ў перакладзе Ф.Карпінскага (1829), потым раманы В.Скота (у серыі «Бібліятэка новых раманаў»), а таксама падручнікі, у тым ліку «Буквар польскі» (1830). Кнігі, што выдаваліся К., адметныя выдатным друкам і нізкім коштам. Усяго К. надрукаваў каля 50 выданняў, якія прадаваліся непасрэдна з друкарні або праз варшаўскія кнігарні ці ў правінцыі. Друкарня выпускала таксама віньеткі і інш. паліграфічную аздобу. Задуманая К. універсальная энцыклапедыя не змагла выйсці ў свет, надрукавана для спробы толькі некалькі сшыткаў 1-га тома, з-за таго што пачалося паўстанне 1830—31. У час паўстання К. выдаў кнігі «Арол Белы і Пагоня» і «Паляк сумленны». У час задушэння паўстання К. выехаў з дыпламатычнай місіяй Часовага ўрада ў Англію і на радзіму не вярнуўся. Без яго ў друкарні выпушчаны «Гімн» і «Ода на вольнасць» Ю.Славацкага і «Гімн да маладосці» А.*Міцкевіча* (1830—31).

## **КРАЧКОЎСКІ** Юльян Фаміч (25.7.1840—25.7.1903)



Беларускі фальклярыст, этнограф, гісторык і педагог. Нарадзіўся ў в. Азяты Жабінкаўскага р-на. У 1861 скончыў Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію. Адмовіўся ад духоўнага сану, працаваў настаўнікам рускай мовы ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, інспектарам народных вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі, дырэктарам Полацкай настаўніцкай семінарыі і Віленскага настаўніцкага інстытута, Туркестанскай настаўніцкай семінарыі. У 1888—1902 старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі. Укладальнік 16-га і 20-га тамоў, аўтар прадмоў да іх і да 25-га тома «Актаў Віленскай археаграфічнай камісіі». У 1900—02 пад яго рэдакцыяй і з яго прадмовамі выйшлі 12-ы і 13-ы тамы «Археаграфічнага зборніка дакументаў». Апублікаваў нарыс пра старажытную Вільню («Старая Вільня да канца XVII стагоддзя», 1893) і зборнік дакументаў пра гісторыю Віленскай навучальнай акругі («Гістарычны агляд дзейнасці Віленскай навучальнай акругі за першы перыяд яе існавання, 1803—1832», 1903). Аўтар першага грунтоўнага даследавання пра радзінны абрад беларусаў і выхаванне дзіцяці («Нарысы быту заходнярускага селяніна», 1869) і фальклорна-этнаграфічнага зборніка «Быт заходнярускага селяніна» (1874), прысвечанага сямейным (пераважна вясельным) і каляндарна-аграрным абрадам беларусаў, у якім акрамя вядомых матэрыялаў выкарыстаны і новыя запісы. К. ў працах па методыцы педагагічнага выхавання ў навучальных установах прытрымліваўся даволі рэакцыйных поглядаў [«Руска-польскія адносіны....», 1896 (пад псеўд. Бібліяфіл)].

*Літ.:* Голуб В. Ю.Ф.Крачковский. Вильна, 1904; Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 118—122; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 110—113.

## **КРАШЭЎСКІ** (Kraszewski) Каятан (11.3.1827—1.7.1896)

Пісьменнік, кампазітар, астраномаматар. Нарадзіўся ў в. Доўгае Пружанскага р-на. Брат Ю.І.*Крашэўскага.* Скончыў Свіслацкую гімназію. У спадчынным (па маці) маёнтку ў Раманове на Падляшшы (цяпер Польшча) заснаваў астранамічную і метэаралагічную абсерваторыю, меў бібліятэку, у якой была значная колькасць старадрукаў, матэрыялы з архіва Сапегаў, кнігі па

прыродазнаўстве, фізіцы, гісторыі, мастацкай літаратуры. К. сабраў значную колькасць гербаў, польскіх хронік і інш., багаты матэрыял часоў праўлення С.А.*Панятоўскага*, поўны камплект твораў Ю.Крашэўскага. Пісаў гістарычныя аповесці, мемуары, абразкі «Брэсцкі канюшыц» (1875), «Патурчэнцы» (1895), «З успамінаў кашталяніца» (1896) і інш., творы пра падзеі, якія адбываліся пераважна на Беларусі. Пісаў камедыі, вершы, займаўся музыкай, стварыў некалькі канцэртаў, санат і мініяцюр для фартэпіяна, у некаторых з іх выкарыстаў народныя матывы. Пасля смерці К. бібліятэка (каля 10 тыс. тамоў) засталася яго сыну Крыштофу, які ахвяраваў частку яе фондаў бібліятэцы імя Лапацінскага ў Любліне, архіўныя матэрыялы — Ягелонскай бібліятэцы.

## **КРАШЭЎСКІ** Юзаф Ігнацы (псеўд. Б.Балеславіта, Др. Амега, К.Пастарнак і інш.; 28.7.1812—19.3.1887)



Пісьменнік, гісторык, выдавец, ілюстратар, бібліяфіл, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і пружанскага харунжага. Дзяцінства правёў у в. Доўгае каля Пружан. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і Віленскім універсітэце. За ўдзел у антыцарскай змове ў 1830—32 зняволены ў турму. Друкавацца пачаў з 1830. На працягу ўсяго жыцця займаўся публіцыстычнай і выдавецкай дзейнасцю. У 1841—51 рэдагаваў віленскі часопіс «Athenaeum» («Атэнэум»), з 1860 у Варшаве, рэдактар газ. «Gazeta Polska» («Польская газета»). Літаратурная спадчына К. складае каля 600 тамоў (проза, паэзія, драматургія, літаратурна-крытычныя артыкулы, працы па гісторыі, філасофіі і інш.). У гісторыю літаратуры ўвайшоў як буйны раманіст, які ў творчай эвалюцыі прайшоў шлях ад рамантызму да рэалізму. Класікі польскага рэалізму бачылі ў ім свайго папярэдніка і настаўніка. Аўтар паэтычнай трылогіі з гісторыі Літвы «Анафеляс» (1840—45), якую рэцэнзаваў Я.Чачот. Цяжкае жыццё беларускага і ўкраінскага сялянства адлюстраваў у творах: «Гісторыя Саўкі» (1842), «Уляна» (1843), «Астап Бандарчук» (1847), «Хата за вёскай» (1853—54), «Ярмола» (1856), «Гісторыя калка ў плоце» (1859), «На Палессі» (1883). Мінуламу Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны прысвечаны раманы «Апошнія з слуцкіх князёў» (1841), «Жыгімонтаўскія часы» (1846), «Залаты яблык» (1853), «Графіня Косель» (1873), «Бруль» (1874), «Старая казка» (1876), «Кароль у Нясвіжы. 1784» (1885) і інш. У камедыях «Пане Каханку» і «Радзівіл у гасціне» апісаў падзеі, што адбываліся ў Нясвіжы. Аўтар навуковых прац «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—50), «Барысаў» (1848), «Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве» (1860) і інш. Свае падарожжы па Беларусі апісаў у нарысах «Пінск і Піншчына» (1837—38), «Успаміны Валыні, Палесся і Літвы» (1840), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» (1841—42), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» (1859—60). Побач з красамоўным апісаннем прыроды ў гэтых працах прыводзяцца каштоўныя звесткі пра жыццё народа, яго заняткі, прылады працы, жыллё, адзенне і ежу. Аўтар добразычліва ставіцца да селяніна, дае яскравыя замалёўкі з тагачаснага жыцця беларуса,

спачувае яго цяжкай долі. К. выступаў пераважна з ліберальных пазіцый, верыў, што класавы мір можа быць дасягнуты праз пашырэнне асветніцкіх і гуманістычных ідэй.

К. валодаў таксама талентам мастака: маляваў тыпы беларускіх сялян, вясковыя будынкі, пейзажы, рабіў ілюстрацыі не толькі да сваіх твораў, але і да твораў інш. аўтараў (К.*Тышкевіча*, У.*Сыракомлі* і інш.), гравіраваў і аздабляў вокладкі да кніг. У час знаходжання на Валыні склаў на французскай мове каталог (застаўся ненадрукаваным) бібліятэкі А.Урбаноўскага, адной з самых значных у гэтым краі. У канцы 1868 К. заснаваў сваю друкарню, у якой на добрым паліграфічным узроўні выдаваў творы польскіх аўтараў і кнігі польскай тэматыкі. Асабістая бібліятэка К. налічвала некалькі тысяч тамоў, сярод якіх былі старадрукі, гістарычная літаратура, багаты збор гравюр (каля 6 тыс.) і малюнкаў. Значныя матэрыялы ён сабраў па гісторыі віленскіх выданняў, дзеячаў кнігадрукавання, кнігарняў і бібліятэк (пазней гэтыя матэрыялы выкарыстаны бібліёграфам К.Эстрайхерам). Кнігі са сваёй бібліятэкі К. ахвяраваў эмігранцкім бібліятэкам у Парыжы і ў інш. месцах. Калекцыя гравюр ім прададзена бібліятэцы Браніцкіх. Пасля задушэння паўстання 1863—64 па загадзе царскіх улад пакінуць межы Расійскай імперыі К. выехаў з Варшавы і да канца жыцця знаходзіўся ў эміграцы ў Жэневе.

*Тв.:* Собр. соч. Кн. 1—52. Пб., 1915.

*Літ.:* Danek W. Józef Ignacy Kraszewski. Warszawa, 1973.

## **КУКАЛЬНІК** Нестар Васілевіч [8(20).9.1809—8(20).12.1868]

Драматург і паэт. Нарадзіўся ў сям'і прафесара Педагагічнага інстытута ў Вільні. Дзяцінства яго прайшло ў маёнтку бацькі ў Віленскай губ., адкуль ён у 1820 пераехаў у Нежын, дзе вучыўся ў мясцовым ліцэі разам з М.В.Гогалем. Быў адным з лепшых навучэнцаў ліцэя, шмат чытаў, пісаў вершы, песні, драмы, займаўся ў самадзейным тэатры. Прымкнуў да гуртка прафесара Белавусава, які ў сваіх лекцыях выступаў супраць самадзяржаўнага дэспатызму. За «крамольныя» паводзіны пры выпуску К. пазбаўлены цывільнага чына 12-га класа і залатога медаля. Быў прызначаны выкладчыкам рускай мовы і славеснасці ў Віленскую гімназію. Праз 3 гады ўладкаваўся на службу ў міністэрства фінансаў, дзе працаваў каля 25 гадоў, па службовых справах часта ездзіў па ўсёй Расіі. У 1836 распачаў выдавецкую дзейнасць: выпускаў «Художественную газету», потым часопісы «Дагерротип» і «Иллюстрация». Быў вельмі пладавітым пісьменнікам, выпускаў штогод дзесяткі драм і раманаў. З гістарычных раманаў К. найбольш папулярныя былі «Эвеліна дэ Вальероль» (1841) і «Альф і Альдона» (1842) пра маральны стан і палітычнае становішча ў Вялікім княстве Літоўскім сярэдзіны 14 ст. Мноства аповесцей і апавяданняў прысвечаны часу праўлення Пятра І. Рэзка адышоўшы ад ліберальных захапленняў маладосці, пачаў усхваляць самадзяржаўную ўладу, народ паказваў як пасіўны безаблічны натоўп. П'есы К. былі забыты яшчэ пры яго жыцці. В.Р.Бялінскі лічыў, што К. меў нейкія літаратурныя дараванні і белетрыстычны талент, але ў яго не было творчых здольнасцей, яго п'есы назваў узорам «абстрактнай ідэальнасці». Некаторыя лірычныя песні К. пакладзены на музыку М.Глінкам («Жаваранак», «Калыханка», «Сумненне» і інш.).

## **КУЛАКОЎСКІ** Ігнат Рыгоравіч (1800—70)



Беларускі грамадскі дзеяч, педагог. Нарадзіўся ў в. Янаўшчына на Гродзеншчыне ў сям'і незаможнага беларускага шляхціца. Скончыў Свіслацкую гімназію ў пач. 1820-х гадоў. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Варшаўскім універсітэце. У 1830-я гады займаў розныя пасады ў Гродзенскай губернскай адміністрацыі, нейкі час служыў у Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў, быў ганаровым наглядальнікам вучылішчаў Гродзенскага пав. К. прыцягнуў да сябе ўвагу вышэйшых урадавых і навуковых колаў сваёй вялікай «Запіскай» у Дэпартамент народнай асветы пра выкладанне гісторыі краю ў вучылішчах Беларусі і стварэнне спецыяльных падручнікаў для беларускага юнацтва. У «Запісцы» ён з горыччу нагадваў пра тое, як цяжка складваўся гістарычны лёс беларускага народа на працягу стагоддзяў у выніку настойлівых акаталічвання, дэнацыяналізацыі і паланізацыі. К. прапанаваў карэнным чынам змяніць змест выкладання гісторыі, літаратуры і мовы ў школах Беларусі, увесці «яснае, сістэматычнае выкладанне ў вучылішчах гісторыі Заходніх губерняў пад выключнай назвай «Гісторыя краю, выкладанне мовы і літаратуры славянскай». На думку К., падручнікі па гэтых праблемах павінны знаёміць вучняў з уласнай гісторыяй беларусаў, на прыкладах тлумачыць ім падабенства гавараў і звычаяў, гістарычную супольнасць з інш. брацкімі славянскімі народамі. Вялікае выхаваўчае і пазнавальнае значэнне К. надаваў вывучэнню старажытнай мовы і літаратуры, якія ён разглядаў як сродак для аднаўлення ўласнай гісторыі Беларусі, вывучэння і развіцця мовы і літаратуры беларусаў. У будучым К. бачыў неабходнасць вывучэння ў школах беларускай мовы, а таксама выданне для краю перыядычнага літаратурнага органа на мове народа. Аднachасова з пазначанай запіскай ён перадаў у дэпартамент падрабязны праект рэарганізацыі жаночай адукацыі на Беларусі, лічыў, што існуючая на той час сістэма не толькі не адпавядае сваім мэтам, але і шкодная. Хоць прапанаваны ім праект быў крокам наперад у галіне жаночай адукацыі ў Расіі, царскія чыноўнікі пакінулі яго без увагі.

## **КУЛЖЫНСКІ** Рыгор Іванавіч [1838—1910(?)]

Беларускі этнограф і фалькларыст. Скончыў Нежынскі ліцэй. З 1861 працаваў настаўнікам гімназій у Свянцянах, Мазыры, Гродне, інспектарам народных вучылішчаў Гродзенскай, з 1869 — Мінскай губ., з 1875 дырэктар народных вучылішчаў Варонежскай губ. Выступаў у абарону царызму і праваслаўя. Надрукаваў артыкулы «Гродзенскія лісты: [Беларускія паданні і песні пра святога Юр'я]», «Сяло Казанскае, былое Куродзічы, Рэчыцкага павета Мінскай губерні» (абодва 1865—66), «Пра зборнік заходнерускіх прыказак і прымавак» (1866), «Нататка пра гісторыю народнай паэзіі», «Пра этнаграфічныя звесткі, што датычацца Заходняй Расіі» (1867), «Пра духоўныя простанародныя песні Паўночна-Заходняга краю», «Мінск губернскі» (абодва 1868), «Сцэны з беларускага побыту», «Батлейка» (абодва 1873) і інш. З 1883 выдаваў у Харкаве часопіс «Благовест», дзе ў 1885—86 апублікаваў «Успаміны пра Паўночна-Заходні край (1861—1874 г.)» і расказаў пра сваю дзейнасць на Беларусі ў 1861—74. Склаў рукапісны зборнік «Песні, казкі і прыказкі Паўночна-Заходняга краю», куды ўвайшло больш за 500 твораў з Гродзенскай, Мінскай і Віленскай губ. (не збярогся), зборнік «Простанародныя беларускія песні, запісаныя ў Мінскай губерні» (16 тэкстаў з нотамі, зберагаецца ў архіве Геаграфічнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу).

*В.І.Скідан.*

## **КУРГАНОВІЧ** Тамаш (1801—65)

Педагог, мовазнавец. Нарадзіўся ў Брэсце. Скончыў курс навук на факультэце літаратуры і прыгожых мастацтваў Віленскага універсітэта ў 1824. Працаваў выкладчыкам старажытных моў у гімназіях Вільні, Коўна, Беластока і Гродна. З 1833 выкладаў польскую мову ў галоўным педагагічным інстытуце ў Пецярбургу. З 1840 у Варшаве, спачатку выкладчык у рэальным вучылішчы, а з 1846 прафесар рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. У 1859 выйшаў у адстаўку. Асноўным прадметам яго навуковых даследаван-

няў была польская мова. Аўтар працы «Параўнанне польскай мовы з іншымі славянскімі мовамі...» (1840). Памёр у Варшаве.

## **КУСЦІНСКІ** Міхаіл Францавіч (28.9.1829—1905)

Археолаг. Нарадзіўся ў маёнтку Завідавічы на Віцебшчыне (цяпер Лепельскі р-н). Скончыў Віленскі дваранскі інстытут, Пецярбургскі універсітэт. У 1850—90 даследаваў археалагічныя помнікі Віцебшчыны, склаў яе археалагічную карту. Падтрымліваў сувязь з археолагамі Пецярбурга і Масквы. Зрабіў для Пецярбургскай акадэміі мастацтваў табліцу з пералікам курганоў і гарадзішчаў па кожным павеце Віцебскай губ. Упершыню на Беларусі пачаў фатаграфаваць працэс раскопак, складаць фотатэку помнікаў старажытнасцей Віцебскай і суседніх губерняў. Першы ў 1874 даследаваў Гнёздаўскія курганныя могільнікі пад Смаленскам, тэрыторыю ў вярхоўях Заходняй Дзвіны, Дняпра і Волгі. Вывучаў Барысавы камяні — манументальныя помнікі эпіграфікі 12 ст. на тэрыторыі Беларусі. У сваім маёнтку Завідавічы стварыў музей, які прыцягваў увагу многіх археолагаў. З 1874 член Маскоўскага археалагічнага таварыства (член-карэспандэнт з 1867). Удзельнік 1-га археалагічнага з'езда ў Маскве (1869), на якім выступіў з дакладам пра раскопкі курганоў на Лепельшчыне.

## **КУТАРГА** Міхаіл Сямёнавіч [6(18).7.1809—26.5(7.6).1886]

Гісторык, педагог. Нарадзіўся ў г. Чэрыкаў Магілёўскай губ. ў сям'і службоўца. Брат С.С.*Кутаргі*. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце і Дэрпцкім прафесарскім інстытуце, дзе атрымаў ступень магістра філасофіі (1832). У 1833—34 удасканальваў веды ў Парыжы, Гейдэльбергу, Мюнхене, Берліне. Пасля вяртання з-за мяжы выкладаў гісторыю ў пецярбургскім універсітэце. За дысертацыю «Пакаленні і саслоўі антычныя» атрымаў ступень доктара філасофіі (1838). З 1844 ардынарны прафесар, ганаровы член Пецярбургскага універсітэта, член шматлікіх навуковых таварystваў, член-карэспандэнт Акадэміі навук. Тройчы наведваў Грэцыю. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі Грэцыі, Персіі, Егіпта, якія пераважна друкаваў у часопісе «Современник». З 1869 па 1874 чытаў гісторыю ў Маскоўскім універсітэце. К. першы ў Расіі вучоны, які займаўся самастойнай распрацоўкай усеагульнай гісторыі. Выдатна ведаючы гістарычныя крыніцы, ён развіваў перадавыя на той час падыходы да іх вывучэння. Яго лекцыі мелі строга навуковы крытычны кірунак. У канцы 1840-х гадоў К. арганізаваў у сваім доме гістарычны семінарый, на якім знаёміў вучняў з прыёмамі гістарычнай крытыкі. Сярод шырокага кола інтарэсаў асноўную ўвагу аддаваў пытанням унутранай гісторыі старажытных Афін. Вывучэнне элінства лічыў неабходным для больш глыбокага асэнсавання гісторыі ўласнай народнасці. Яго галоўныя працы: «Палітычная будова германцаў да VI ст.» (1837), «Гісторыя Афінскай рэспублікі ад забойства Іпарха да смерці Мільцыяда» (1848), «Персідскія войны» (1858), «Пра гістарычнае развіццё паняцця гісторыі ад старажытнай эпохі на Усходзе да нашых часоў» (1868), «Пра навуку і яе значэнне ў дзяржаве» (1873) і інш. Разам з братам С.С.Кутаргам вёў культурна-асветную работу сярод насельніцтва Мсціслава і наваколля. Апошнія гады жыцця правёў у сваім маёнтку ў Борках Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., дзе і памёр.

## **КУТАРГА** Сцяпан Сямёнавіч [12(24).2.1805—25.4(7.5).1861]

Вучоны-прыродазнавец, педагог. Нарадзіўся ў г. Мсціслаў Магілёўскай губ. ў сям'і службоўца. Брат М.С.*Кутаргі*. Падлеткам перабраўся ў Пецярбург, дзе атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1827 паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, дзе здольнасцямі звярнуў на сябе ўвагу, і ў наступным годзе ў ліку 20 студэнтаў з розных універсітэтаў накіраваны ў Дэрпт (Тарту) для падрыхтоўкі на прафесарскія пасады. Абраўшы сваёй спецыяльнасцю заалогію, К. дасканала вывучыў анатомію і фізіялогію, праслухаў поўны курс на медыцынскім факультэце і ў 1832 ат-

рымаў ступень доктара медыцыны. Пасля заканчэння курса зрабіў навуковае падарожжа па Крыме, з восені 1833 заняў кафедру заалогіі ў Пецярбургскім універсітэце, а з 1848 выкладаў яшчэ і мінералогію, геалогію, геагнозію ў Галоўным педагагічным інстытуце. З 1835 да 1848 ён быў цэнзарам Пецярбургскага цэнзурнага камітэта і пэўны час інспектарам прыватных навучальных устаноў Пецярбургскай навучальнай акругі. К. працаваў у эпоху, калі прыродазнаўства займала ў Расіі вельмі сціплае месца і па колькасці навуковых работнікаў і па ўвазе да яго грамадства. З-за непаўнаты калекцый і недахопу памочнікаў К. быў вымушаны выкладаць і такія аддзелы прыродазнаўства, як зоатамія, заалогія, анатомія і палеанталогія. Як таленавіты вучоны, выдатны папулярызатар, педагог і лектар ён узняў гэту галіну ведаў на новую ступень. Не абцяжарваючы слухачоў дэталізацыяй і дробнымі фактамі, К. імкнуўся абудзіць у іх цікавасць і любоў да прадмета, заахвоціць іх да самастойнай працы. К. першы ў Расіі пазнаёміў студэнтаў (1860) з эвалюцыйным вучэннем Ч.Дарвіна. Многія з яго вучняў потым сталі вядомымі натуралістамі. Ён знаходзіў час і для напісання навуковых прац, і для навуковых экспедыцый. У 1840-я гады заняўся палеанталогіяй і геалогіяй і змясціў шэраг спецыяльных прац у заснаваным ім перыядычным выданні «Verhandlungen» («Пасяджэнні») мінералагічнага таварыства, дырэктарам якога ён быў з 1842 па 1861. Сярод яго навуковых прац «Апісанне некалькіх новых відаў акамянеласцей з цясніны Салгіра» (1834), «Палеанталогія Расіі» (1842—46), «Нага і рука чалавека», «Агульны закон паяўлення, існавання і знікнення арганізмаў» (1845—60) і інш. У выніку шматгадовых даследаванняў К. склаў геалагічную карту Пецярбургскай губерні, якая была выдадзена ў 1852 і за якую ён атрымаў Дзямідаўскую прэмію. Разам з братам М.С.Кутаргам ён вёў культурна-асветную работу сярод насельніцтва Мсціслава і наваколля.

## **КУТНЕВІЧ** Васіль Іванавіч (1.1.1787—2.4.1866)

Грамадскі і рэлігійны дзеяч Расіі, асветнік. Нарадзіўся на Магілёўшчыне ў сям'і святара. Вучыўся ў Магілёўскай семінарыі. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію са ступенню магістра, прызначаны бакалаўрам фізіка-матэматычных навук у Маскоўскую духоўную акадэмію, дзе напачатку выкладаў нямецкую мову, потым быў прафесарам матэматыкі, філасофіі і псіхалогіі. Адначасова з'яўляўся членам знешняга акадэмічнага праўлення, акадэмічнай канферэнцыі і цэнзурнага камітэта. У 1818 пасвечаны ў сан дыякана, потым свяшчэнніка, узведзены ў протаіерэі Маскоўскага кафедральнага Архангельскага сабора. У 1825 абраны благачынным крамлёўскіх цэркваў, быў членам духоўнай кансісторыі, правадзейным членам духоўнай акадэміі. У 1832 прызначаны обер-свяшчэннікам арміі і флоту, членам Сінода, членам камісіі духоўных вучылішчаў, абраны ганаровым членам Казанскай духоўнай семінарыі, правадзейным членам канферэнцыі Пецярбургскай духоўнай акадэміі, выконваў абавязкі обер-свяшчэнніка імператарскага Галоўнага штаба. Меў усе адзнакі ордэна св. Аляксандра Неўскага.

# Л



## **ЛАБАДА** Андрэй Мітрафанавіч [14(26).6.1871—1.1.1931]

Фалькларыст, этнограф і літаратуразнавец. Нарадзіўся ў мяст. Свянцяны Віленскай губ. ў сям'і дробнага службоўца. Пасля заканчэння Екацярынаслаўскай гімназіі (1890) паступіў на славяна-рускае аддзяленне гістарычна-філалагічнага факультэта Кіеўскага універсітэта, які скончыў у 1894. Быў вучнем прафесараў П.Уладзімірава, М.Дашкевіча, Ц.Фларынскага. З 1898 прыват-дацэнт, з 1900 прафесар гэтага універсітэта. З 1921 кіраваў Этнаграфічнай камісіяй АН УССР. У 1923—25 віцэ-прэзідэнт АН УССР. У 1925—30 рэдактар часопіса «Етнографічний вісник». У працах «Рускі валатоўскі эпас» (1896), «Рускія быліны пра сва-

танне» (1902—04, магістарская дысертацыя) выявіліся яго ліберальна-буржуазныя погляды. Аўтар прац па гісторыі тэатра і драмы («Народнасць у рускай музычнай драме сто гадоў назад», 1899), этнаграфіі («П.А.Куліш — этнограф», 1918), краязнаўстве («Краязнаўства на Украіне», 1925) і інш. Даследаваў беларускі фальклор («Беларуская народная паэзія і рускі былінны эпас», 1895). У сваіх працах выказваў плённыя думкі пра ўзаемасувязь у славянскім фальклоры. Быў прыхільнікам гістарычнага метаду даследавання, абвяргаў установкі міфалагічнай школы. У параўнальных пошуках звычайна імкнуўся паказваць сацыяльна-гістарычную і культурна-бытавую аснову твораў, прасачыць характар узаемадзеяння ў народнай паэзіі славян.

*Літ.:* Перетц В.Н. А.М.Лобода: Некролог: Список печатных науч. тр. // Изв. АН СССР. Сер. 7. Отд. общ. наук. 1931. №5; Попов П.М. Академик А.М.Лобода як фольклорист // Народна творчість та етнографія. 1959. №2; Музиченко С. Андрій Лобода // Там жа. 1971. №3.

## ЛАВІЦКІ Мацвей (псеўд. Лук'ян Адольф з-пад Бельска; 1816—1900)

Філосаф-дэмакрат, асветнік і публіцыст. Нарадзіўся ў в. Вашкі Гайнаўскага пав. ў дробнашляхецкай сям'і. Вучыўся ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, працаваў лекарам у Коўне і Беластоку. Прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыйна-дэмакратычным руху і ў дзейнасці звязаных з ім тайных таварыстваў, якія абвяшчалі неабходнасць сацыяльна-палітычных змен у грамадстве і вялі асветную работу сярод насельніцтва. У 1840 разам з іншымі членамі студэнцкага «Дэмакратычнага таварыства» ён арыштаваны, у 1841 высланы ў Сібір. Амнісціраваны ў 1858. Супрацоўнічаў у часопісах «Gwiazda» («Звязда») і «Pamiętnik naukowo-literacki» («Навукова-літаратурны дзённік»), якія ў той час былі органамі прагрэсіўнай грамадскай думкі на тэрыторыі Украіны, Беларусі і Літвы. Л. зрабіў значны ўклад у развіццё філасофскай думкі, і найперш у вучэнне пра грамадства і мараль. На фарміраванне яго светапогляду пэўным чынам паўплывалі ідэалогія Асветніцтва і нацыянальна-вызваленчага руху, даследаванні французскіх філасафаў-матэрыялістаў, Гегеля, Шэлінга, Бэкана, Лока і інш. мысліцеляў, але вырашальную ролю, паводле сцвярджэння самога Л., адыгралі рэальныя жыццёвыя фактары: бядотнае становішча прыгонных, жабрацкія ўмовы існавання безмаянтковай шляхты, цяжкая доля салдат. Яму былі блізкія і зразумелыя ідэі сацыяльнай справядлівасці і салідарнасці людзей працы, ідэі свабоды, гуманізму і самакаштоўнасці чалавечай асобы. Зыходным пунктам яго філасофскіх поглядаў быў прынцып «натуральнага права» і «натуральнай роўнасці» людзей, якія служыў і абгрунтаваннем права прыгнечаных народаў на нацыянальную самастойнасць, свабоднае і незалежнае развіццё ў супольнасці інш. народаў. Неабходнасць новага, больш дасканалага правапарадку Л. выводзіў з заканамернага характару развіцця самога грамадства. Пры гэтым ён, як Гегель і інш. мысліцелі 18—19 ст., параўноўваў пэўныя перыяды гісторыі чалавецтва з натуральным працэсам развіцця індывідуума. Сучаснае яму грамадства, сцвярджаў Л., нагадвае 19-гадовага юнака, які развіў і адшліфаваў свае здольнасці і таму можа хутка ісці да сваёй мэты, і ніхто не ў стане стрымаць яго рух. Для Л. «залаты век» — гэта справядлівае грамадства, якое яшчэ будзе. З прыроды самога чалавека ён выводзіў яго схільнасць да маральных паводзін; адсюль аб'ектыўная неабходнасць выхавання высокамаральнай і адказнай асобы. На думку Л., высокія якасці чалавека набываюць сапраўдную каштоўнасць толькі ў рэчышчы яго дзейнасці ў імя грамадскага дабра і шчасця. Таму асаблівая адказнасць кладзецца на тых, хто здольны прадбачыць гістарычны шлях да будучыні і весці людзей да разумення ліберальных прынцыпаў, пашыраючы ў іх асяроддзі адпаведныя думкі і меркаванні. Паводле Л., асветніцтва — галоўны рухавік гісторыі.

Падтрымліваючы пераважна пануючую на той час у навуцы канцэпцыю паступовага і паслядоўнага развіцця, Л. лічыў магчымым і рэвалюцыйны шлях пераўтварэння грамадства. У сваіх па-

казаннях у следчай камісіі ён рабіў акцэнт на мірны, бяскроўны характар рэвалюцыі, хоць адзначаў і пэўную адноснасць такога разумення. Сацыяльныя ісціны, на яго думку, не здзяйсняюцца без ахвяр. Гэта ён лічыў свайго роду доказам ісціны для наступных пакаленняў, якім належыць правесці яе ў жыццё. У выніку Л. прыйшоў да высновы, што сама па сабе ісціна не з'яўляецца сілай, бо на шляху да яе ажыццяўлення не абысціся без сілы матэрыяльнай. Неабходнай умовай дасягнення сапраўднай асветы і вольнасці ён лічыў знішчэнне саслоўных адрозненняў, прадастаўленне ўсім членам грамадства роўных магчымасцей для развіцця здольнасцей, адмаўленне «правамоцнасці» ўсялякіх прывілеяў арыстакратыі. Але грамадства фармальнай роўнасці, на думку Л., гэта толькі крок на шляху чалавецтва да шчаслівай будучыні, а шчаслівыя часы настануць толькі тады, калі гістарычныя паданні данясуць звесткі пра былую некалі няроўнасць каралёў, князёў, графаў, дваран, мяшчан і сялян-рабоў. Л. рашуча адвяргаў крывавыя перавароты і рэвалюцыі тыпу якабінскай дыктатуры за іх жорсткі, антыгуманны характар, лічыў іх з'явай бяссэнсавай з пункту гледжання натуральнага парадку рэчаў. Падтрымліваючы ідэю народаўладдзя і выкарыстання ўсёй паўнаты чалавечых правоў, ён лічыў, што найлепшае ўвасабленне гэтая ідэя знойдзе ў рэспубліканскай форме праўлення. У перыяд агульнанароднага самакіравання на змену кровапралітным войнам прыйдуць дружба і мір. Пытанні ўмацавання дружбы паміж народамі, спынення войнаў Л. разглядаў у непарыўнай сувязі з канкрэтнай праблемай нармалізацыі адносін паміж рускім і польскім народамі, усталяваннем прынцыпаў нацыянальнага раўнапраўя і суверэнітэту. У сваіх працах «Нарыс духу Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі», «Погляд на хрысціянскі свет», «Варыяцыі» і інш. Л. пастаянна звяртаўся да гэтай праблемы, якая хвалявала ўдзельнікаў вызваленчага руху абедзвюх краін. Ён ставіў і імкнуўся знайсці адказ на пытанні: ці ёсць у Расіі сілы, якія могуць быць саюзнікам прыгнечаных народаў у іх змаганні за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, ці можа сама Расія ў будучым стаць краінай, свабоднай ад прыгнёту і дэспатызму, і быць для іншых народаў не катам, а сябрам? Як адзін з ідэолагаў Дэмакратычнага таварыства Л. разглядаў гэтыя пытанні ў плане суадносін процілеглых інтарэсаў нацыі, якая змагаецца за аднаўленне нацыянальнай незалежнасці, і інтарэсаў дзяржавы-прыгнятальніцы. Ён быў перакананы, што ў натуральным развіцці чалавецтва не павінна быць народаў-паноў і народаў-рабоў, што ўсе народы роўныя, а справа вызвалення Радзімы павінна стаць асабістым інтарэсам, асабістай справай кожнага чалавека як члена грамадства. Л. выступаў за стварэнне ўмоў, якія б забяспечылі «роўнае права для ўсіх станаў адукаваць сябе так, каб быць карысным сабе і іншым». У выпрацоўцы пэўных грамадскіх ідэалаў і агульначалавечых каштоўнасцей ён адводзіў важнае месца літаратуры і мастацтву: «Хто творыць толькі дзеля самога мастацтва, — пісаў Л., — той клапоціцца толькі аб сваёй славе, а не аб патрэбах сучаснікаў, таму ўсе яго намаганні — гэта сапраўды пустая забава, мёртвы камень, хоць часам і ўмела адшліфаваны». Нярэдка звяртаўся Л. і да ідэі недатыкальнасці прынцыпаў афіцыйнай хрысціянскай рэлігіі ў стварэнні гарманічных узаемаадносін паміж людзьмі і народамі, а пацвярджэнне таму бачыў у так і не рэалізаваным рэлігійным догмаце аб любові да бліжняга. Ён верыў, што ў будучым настане шчаслівы век агульнага яднання людзей, калі будуць забытыя крывавыя сваркі паміж дзяржавамі і народамі, калі канчаткова спыняцца войны, калі збудуцца спадзяванні ўсіх народаў і ўсталююцца гуманістычныя ідэалы чалавецтва.

*Літ.:* Мохнач Н.Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в. Мн., 1971; Яго ж. От просвещения к революционному демократизму: (Обществ.-полит. и филос. мысль Белоруссии конца 10-х — начала 50-х годов XIX в.). Мн., 1976; Яго ж. Общественно-политическая и этическая мысль Белоруссии начала XIX в. Мн., 1985; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977.

*С.Ф.Дубянецкі.*

## ЛАДА-ЗАБЛОЦКІ (З а б л о ц к і - Л а д а) Тадэвуш Гіляравіч (27.8.1811—жнівень 1847)

Польскі паэт беларускай школы, пісаў на польскай, рускай і беларускай мовах. Нарадзіўся ў в. Лугінавічы (цяпер Сенненскі р-н, Віцебская вобл.) у шляхецкай сям'і. Вучыўся спачатку ў Віцебскай семінарыі пры кляштары базыльян, потым у Віцебскай гімназіі, якую скончыў у 1831. Яго раннія паэтычныя творы заўважыў у 1830 куратар Беларускай навучальнай акругі Р.І.Карташэўскі ў час інспекцыі беларускіх школ і з мэтай дапамагчы маладому таленту звярнуўся да міністра народнай адукацыі з хадайніцтвам залічыць Л.-З. на вучобу ва універсітэт за кошт Беларускай акругі. У 1831 Л.-З. паступіў у Маскоўскі універсітэт і стаў «казённакоштным студэнтам» славеснага аддзялення з умовай, што, скончыўшы вучобу, ён будзе не менш як 6 гадоў служыць настаўнікам на Беларусі. У Маскве Л.-З. ўвайшоў у тайнае студэнцкае таварыства, заснаванае В.Р.Бялінскім і М.Б.Чысцяковым, зблізіўся з радыкальнымі коламі маскоўскай грамадскасці. Наладзіўшы сувязь з землякамі Ю.*Яжоўскім*, Я.Верніко ўскім, Я.Савінічам і інш., ён стварыў тайнае літаратурнае таварыства, мэтай якога было пашырэнне сярод моладзі вальнадумства і патрыятызму. Свае вершы-заклікі антысамадзяржаўнага зместу Л.-З. накіроўваў на радзіму — на Віцебшчыну, Магілёўшчыну, з імі знаёміліся выхаванцы Віцебскай гімназіі. Калі звесткі пра гэта дайшлі да генерал-губернатара Смаленскага, Віцебскага і Магілёўскага князя Н.Н.Хаванскага, той накіраваў рапарт шэфу жандараў графу А.К.Бенкендорфу. За нелегальную дзейнасць і распаўсюджванне патрыятычна-дэмакратычных вершаў Л.-З. выключылі з універсітэта і 29.6.1833 арыштавалі. Для расследавання «злачыннай дзейнасці» Л.-З. даставілі ў Віцебск. Аўтара «абуральных вершаў» Віцебскі суд прыгаварыў да катаржных работ, але цар «змякчыў» прысуд — «адправіць радавым у Каўказскі корпус». З 1837 адбываў ссылку ў Таганрогу, з 1838 — на Каўказе. Тут ён пазнаёміўся з грузінскімі пісьменнікамі Н.Бараташвілі і М.Туманашвілі, азербайджанскім паэтам і асветнікам А.Бакіханавым, з рускімі паэтамі Я.Палонскім, А.Адоеўскім і інш. Падборкі сваіх вершаў Л.-З. змяшчаў у розных перыядычных выданнях. У 1845 з дапамогай Р.Падбярэзскага ён выдаў зборнік «Паэзія». Шмат увагі аддаваў перакладчыцкай дзейнасці. На польскую мову перакладаў англійскіх, французскіх, лацінскіх, грузінскіх, румынскіх, украінскіх паэтаў. У яго перакладзе на французскую мову выдадзены ўкраінскія народныя песні («Украінскія песні», Парыж, 1845), на рускую мову пераклаў «Гісторыю Азербайджана» Бакіханава. У 1846 Л.-З. ўдалося вызваліцца ад салдацкай службы. Быў прызначаны ўпраўляючым Кульпінскімі салянымі промысламі ў Грузіі. Тут ён і памёр ад халеры.

Як рамантык Л.-З. адмаўляў тагачасную рэчаіснасць, у алегарычнай форме заклікаў да барацьбы з самаўладствам. Як паэт-патрыёт беларускай школы апяваў прыгажосць роднай Беларусі. Лепшыя свае творы ён прысвяціў Радзіме, яе людзям, гісторыі і помнікам. Галоўная тэма паэтычных твораў, напісаных на чужбіне, — туга па роднай Беларусі: паэма «Ваколіцы Віцебска», балада «Ляшка», вершы «Да Дзвіны», «Да Лучосы», «Вілія», «Даўжанскае возера» і інш. Нямала твораў прысвяціў Каўказу («Алазанская даліна», «Да бярозкі ў гарах Каўказа»).

У рукапісе захаваліся «Матэрыялы да гісторыі славянскай цывілізацыі і літаратуры», «Погляды на гісторыю грузінскай літаратуры».

*Літ.:* К і с я л ё ў Г. Пра паэтаў і вершы // Полымя. 1971. №8; Г а д ы ц к і К. Творчасць Тадэвуша Лады-Заблоцкага // Там жа. 1992. №10; Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 484—487. *І.П.Хаўратовіч.*

## ЛАПА Міхаіл (Мацвей) Дзям'янавіч [1799(?)—1841]

Дзекабрыст. З шляхецкай сям'і. Бацька валодаў маёнткам Рудабелкі Бабруйскага пав. Мінскай губ. Выхоўваўся ў Магілёўскім езуіцкім пансіёне, потым у прыватным пансіёне ў Пецярбургу. На вайсковую службу паступіў падпрапаршчыкам у гвардзейскі Ізмайлаўскі полк, дзе даслужыўся да падпаручніка (1824). У рух дзекабрыстаў ук-

лючыўся ў 1819 пад уплывам члена рэвалюцыйнай арганізацыі італьянскіх карбанарыяў М.Джылы, які выкладаў яму італьянскую мову. Напярэдадні паўстання на Сенацкай плошчы з іншымі дзекабрыстамі абмяркоўваў план арганізацыі зрыву прысягі Мікалаю І. Арыштаваны 23.12.1825 і паводле прыгавору разжалаваны ў радавыя і накіраваны ў далёкія гарнізоны. Летам 1826 пераведзены ў палявыя палкі на Каўказ, дзе даслужыўся да прапаршчыка. Звольнены ў адстаўку ў 1835 і да смерці жыў у сваім маёнтку Рудабелкі.

## ЛАПО Дзмітрый Еўдакімавіч (кастрычнік 1861 — люты 1936)

Пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік народніцкага рэвалюцыйнага руху. Нарадзіўся ў г. Беліца на Гомельшчыне ў мяшчанскай сям'і. У час вучобы ў Гомельскай прагімназіі зблізіўся з рэвалюцыйна настроенай моладдзю, быў удзельнікам тайных гурткоў самаразвіцця, прапагандаваў антыўрадавыя ідэі сярод рабочых. З 1879 вучыўся ў Кіеўскай гімназіі. Сярод навучэнцаў вылучаўся актыўнасцю і сталасцю, нейкі час быў старшынёй аб'яднанага камітэта рэвалюцыйных груп сярэдніх навучальных устаноў Кіева. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на юрыдычны факультэт Кіеўскага універсітэта. Быў актыўным членам кіеўскай групы нарадавольцаў, уваходзіў у «тэхнічную» падгрупу, якая займалася справамі падпольнай друкарні. Прыязджаючы дамоў, вёў агітацыю сярод рабочых у Гомелі і ў вёсках. У 1885 арыштаваны ў Гомелі і сасланы ў Табольскую, потым у Енісейскую губ. У ссылцы пачаў пісаць свае апавяданні з беларускага жыцця, дзе выкарыстоўваў уражанні дзяцінства і юнацтва. Пасля заканчэння тэрміну ссылкі (1890) вярнуўся ў Гомель і ўключыўся ў работу па ўзнаўленні мясцовых нарадавольскіх арганізацый. З 1892 жыў у г. Чыстапаль Казанскай губ., служыў сакратаром гарадской управы, займаўся прыватнай адвакацкай практыкай, выдаў кнігу па гісторыі Чыстапаля. У 1896 перабраўся ў Краснаярск. Праз 2 гады, здаўшы экзамен у Казанскім універсітэце на званне юрыста, атрымаў месца міравога суддзі пры Краснаярскім акруговым судзе з адкамандзіраваннем у Мінусінск. З 1903 працаваў міравым суддзёй, пракурорам акруговага суда ў Краснаярску. Актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, быў гарадскім сакратаром і гласным думы ў Краснаярску. З 1898 супрацоўнічаў у многіх сібірскіх газетах, дзе пад рознымі псеўданімамі змяшчаў публіцыстычныя артыкулы і допісы. Як член, а потым старшыня вучылішчнай камісіі пры Краснаярскай гарадской управе шмат зрабіў для развіцця ў горадзе асветы, марыў пра ўвядзенне ў Краснаярску ўсеагульнай адукацыі. Займаўся педагагічнай дзейнасцю — выкладаў гісторыю і заканадаўства ў мясцовай гімназіі і гандлёвай школе. Па яго ініцыятыве адкрыты Марцьянаўскі дзіцячы прытулак. Быў членам камітэта Мінусінскага музея. Зімой 1901—02 актыўна дапамагаў галадаючаму насельніцтву Мінусінскай акругі. Як член партыі кадэтаў прымыкаў да так званых «абласнікоў», удзельнічаў у падзеях 1905. Вывучаў побыт і норавы карэннага сібірскага насельніцтва, адстойваў яго правы, прапанаваў стварыць у Томскім універсітэце кафедры стэпавага права і цюрка-мангольскіх гаворак, адкрыць шлях качавым народам да асветы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўключыўся ў культурнае будаўніцтва ў Сібіры, у 1923 склаў асноватворныя дакументы, якія вызначылі нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва народнасцей енісейскай Поўначы. Працу юрыста сумяшчаў з выкладчыцкай работай у Краснаярскім тэхнікуме. Захапляўся краязнаўствам, выступаў з дакладамі ў Сярэдне-Сібірскім аддзеле Рускага геаграфічнага таварыства (быў яго старэйшым членам), з лекцыямі ў рабочых клубах Краснаярска.

Асноўнае месца ў творчай спадчыне Л. займае зборнік «Беларускія апавяданні» (1895). Ва ўключаных у яго творах праўдзіва, з дэмакратычных пазіцый паказана цяжкае жыццё сялян Прысожжа, выкарыстаны гомельскія паданні, апісаны народныя заняткі, звычаі. *Г.В.Кісялёў.*

## ЛАТЫШАЎ Васіль Васілевіч [29.7(10.8).1855—2.5.1921]

Філолаг, археолаг, педагог, доктар

грэчаскай славеснасці. Нарадзіўся ў в. Дзіева Цвярской вобл. Вучыўся ў Гродзенскай гімназіі, у Пецярбургскім гісторыка-філалагічным інстытуце. Выкладаў у Віленскай гімназіі, потым у Пецярбургскім гісторыка-філалагічным інстытуце, з'яўляўся таксама прыват-дацэнтам на кафедры класічнай філалогіі ў Пецярбургскім універсітэце. З 1887—90 узначальваў гімназію пры гісторыка-філалагічным інстытуце. З 1890 памочнік папячыцеля Казанскай навучальнай акругі, з 1893 віцэ-дырэктар дэпартамента Міністэрства народнай асветы. Сваю даследчую дзейнасць засярodзіў на вывучэнні гісторыі старажытнагрэчаскіх паселішчаў на ўзбярэжжы Чорнага мора (Херсанес, Пантыкапея і інш.). З 1900 удзельнічаў у рабоце Археалагічнай камісіі ў Пецярбургу. Аўтар прац «Даследаванне аб гісторыі і дзяржаўным ладзе Ольвіі» (Спб., 1887; доктарская дысертацыя), «Нарыс грэчаскіх старажытнасцей» (1888), «Дзяржаўныя і ваенныя старажытнасці» (т. 1—2, 1897—99) і інш. Вялікае значэнне для навукі меў яго «Збор антычных надпісаў, знойдзеных у Паўночным Прычарнамор'і» (т. 1—2, 4, 1885—1901).

## ЛЕБЕНЗОН Аўраам Бер (Abraham-Dob-Ben-Ha-Kohen; 1787—1878)

Яўрэйскі паэт і тлумачальнік Біблії. Нарадзіўся пад Вільняй. Адукацыю атрымаў у віленскіх яўрэйскіх вучылішчах. Скончыў курс яўрэйскага вучылішча ў Міхалішках на Віленшчыне, потым працягваў вывучэнне кабалістыкі і філасофіі рэлігій, а таксама еўрапейскіх моў, гісторыі, геаграфіі, матэматыкі і славесных навук. У 1808 атрымаў месца яўрэйскага духоўнага суддзі ў Ашмянах, адначасова вучыў яўрэйскіх дзяцей. У хуткім часе пакінуў Ашмяны і пачаў выдаваць Біблію ў Мендэльсонаўскім нямецкім перакладзе з уласнымі каментарыямі. У 1848—64 працаваў старшым настаўнікам яўрэйскай і халдзейскай моў пры Віленскім рабінаўскім вучылішчы. З 1864 займаўся выключна навуковай і літаратурнай дзейнасцю: пісаў вершы на старажытнаяўрэйскай мове. У першым яго зборніку, які выйшаў у 1842, пераважалі лірычныя і дыдактычныя вершы, у некаторых крытыкавалася тагачаснае яўрэйства. Гэтыя вершы на «свяшчэннай мове» выклікалі абурэнне вучоных рабінаў, кнізе абвешчаны «херем» (анафема), і яна была ўраўчыста спалена. Наступныя зборнікі вершаў Л. выдадзены ў 1856 у Вільні. У 1849—53 у Вільні выйшлі яго экзегетычныя працы, у 1858 — новае тлумачэнне да некаторых кніг Біблії, у 1867 — драма «Праўда і Вера». Свае вершы і артыкулы ён змяшчаў у яўрэйскіх газетах. З нагоды каранацыі імператара Аляксандра II напісаў малітву, за што атрымаў брыльянтавы пярсцёнак, а ў 1861 сярэбраны медаль на станіслаўскай стужцы. Л. распаўсюджваў сярод адзінаверцаў яўрэйскую культуру, узначаліў гурток, які адкрыў у Вільні першую рэфармаваную сінагогу. Яго экзегетычныя працы садзейнічалі пашырэнню сярод яўрэяў разважлівага разумення біблейскага тэксту. Пазней вершы Л. атрымалі агульнае прызнанне сярод яўрэяў, бо ажыўлялі старажытнаяўрэйскую мову. Памёр у Вільні.

## ЛЕГАТОВІЧ Ігнат Сямёнавіч (10.8.1796 — 10.10.1867)

Беларускі і польскі паэт, педагог. Нарадзіўся ў в. Малая Капліца Гродзенскага р-на. Скончыў дамініканскую школу ў Гародні і Віленскі універсітэт. У 1817—39 выкладчык лацінскай мовы і літаратуры ў Мінскай гімназіі, у 1839—46 наглядчык павятовых вучылішчаў у Лепелі, Полацку, Вількаміры. Страціўшы зрок, пакінуў службу і пасяліўся ў Мінску. Асноўны жанр яго творчасці — дыдактычныя двухрадкоўі-максімы. Аўтар кніг на польскай мове «Эпіграмы» (Вільня, 1848), «Апафтэгмы» (Вільня, 1854), павучальных кніг для дзяцей і юнацтва. У эпіграмах высмейваў агульначалавечыя заганы. Антыпрыгонніцкія погляды выявіліся ў з'едлівай эпіграме на смерць мінскага губернскага маршалка шляхты Оштарпа, уладальніка маёнткаў у Прылуках і Дукоры (Мінскі пав.), які пры жыцці быў вельмі гасцінным гаспадаром, і здаралася, частыя госці балявалі ў яго тыднямі, што клалася непасільным цяжарам на плечы прыгонных сялян. Таму Л. пісаў:

«Смерць Оштарпа ў Дукоры зробіць змену ўрэшце. Паны п'янстваваць не будуць, мужык пачне есці». Да нас дайшоў і верш Л. на беларускай мове «Скажы, вяльможны пане...», надрукаваны ў віленскім альманаху «Bojan» («Баян», 1838). У вершы ён рэзка асуджаў пануючыя класы, што стала прычынай канфіскацыі альманаха. Л. вядомы таксама як бібліёграф, выдавец гісторыка-літаратурных помнікаў, перакладчык, збіральнік афарызмаў. Меў багаты кнігазбор з унікальнымі выданнямі. Падтрымліваў сяброўскія адносіны з В.*Дуніным-Марцінкевічам.*

## **ЛЕЙКА** Кандрат Тодаравіч (17.9.1860—6.9.1921)

Пісьменнік, педагог. Нарадзіўся ў в. Збочна на Слонімшчыне ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Азярніцкага народнага вучылішча Л. як лепшага вучня накіравалі ў 1876 у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю вучыцца за казённы кошт. У 1879 ён скончыў семінарыю і 5 гадоў працаваў у мяст. Косава (цяпер Івацэвіцкі р-н, Брэсцкая вобл.). Мяркуюць, што тут Л. пачаў пісаць вершы на беларускай мове. У сувязі з абвастрэннем хваробы (рэўматызм) па парадзе ўрачоў у 1884 пераехаў на Харкаўшчыну, дзе і пражыў большую частку жыцця. Працаваў настаўнікам у Лініўскім і Аснавянскім народных вучылішчах. У 1896 пасля здачы экзаменаў на званне настаўніка павятовага вучылішча і сканчэння спецыяльных курсаў у Пецярбургу прызначаны інспектарам Харкаўскага вучылішча сляпых дзяцей. На гэтай пасадзе зарэкамендаваў сябе як вопытны педагог і выдатны спецыяліст. У 1893 выдаў у Харкаве падручнік «Руская азбука». Друкаваўся ў часопісе «Слепец», газетах «Школа и жизнь» (Пецярбург), «Харьковские губернские ведомости», «Южный край» (Харкаў). Працуючы ў вучылішчы, слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце. У 1908 па стане здароўя пакінуў службу ў Харкаве. Некаторы час працаваў выкладчыкам рускай мовы ў Елізаветградскім камерцыйным вучылішчы і прыватнай жаночай гімназіі. З 1911 загадчык вучэбнага аддзела ў Валкаўскім павятовым земстве Харкаўскай губ. Пачынаючы з 1911 яго творы друкаваліся ў «Нашай ніве». У 1912 асобным выданнем у Вільні выйшла п'еса «Снатворны мак». У 1914 па прапанове Я.Купалы пачаў рыхтаваць да друку зборнік сваіх твораў пад назвай «Засеўкі» (уключыў 9 празаічных твораў і вершы), якія не быў выдадзены — перашкодзіла 1-я сусветная вайна. У пачатку 1918 ён быў паралізаваны. Давялося пакінуць службу і пераехаць на Валынь у мяст. Здалбунаў да брата Івана, дзе ён і памёр.

Творы Л. былі высока ацэнены ў свой час М.Гарэцкім. Проза пісьменніка адметная паглыбленнем у сацыяльныя канфлікты, у пытанні агульнакультурнага і нацыянальнага жыцця, у паводзіны чалавека, яго ўнутраны свет. Ён быў не толькі назіральны бытапісальнік, але і лірык, гумарыст, сатырык. У апавяданні «Кульгавы дзед Раман» створаны прывабны вобраз селяніна-працаўніка, раскрыты яго багаты духоўны свет. П'еса «Снатворны мак», заснаваная на фальклорна-казачным сюжэце, лічыцца першай спробай у беларускай літаратуры стварыць драматычны твор для лялечнага тэатра.

*Літ.:* Гарэцкі М. Лейка Кандрат // Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920.

## **ЛЕПЯШЫНСКІ** Васіль Іванавіч (1828—91)

Рэлігійны праваслаўны дзеяч, асветнік. Нарадзіўся ў мяст. Хоцімск Магілёўскай губ. ў сям'і дзячка. Вучыўся ў Мсціслаўскім павятовым духоўным вучылішчы і ў Магілёўскай духоўнай семінарыі. Сярод семінарыстаў вылучаўся глыбокімі ведамі, быў знаёмы з філасофіяй Гегеля, цікавіўся мастацкай літаратурай, самастойна вывучыў французскую мову. Пасля заканчэння семінарыі выкладаў у Мсціслаўскім духоўным вучылішчы, з 1850 — у Гомельскім духоўным вучылішчы. У 1853 паступіў у Кіеўскую духоўную акадэмію і ў 1857 скончыў яе са ступенню магістра. Працаваў настаўнікам Магілёўскага духоўнага вучылішча, потым Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1860 узведзены ў сан свяшчэнніка Магілёўскага кафедральнага сабора. З 1864 член дырэкцыі народных вучылішчаў Магілёўскай губ.,

з 1873 рэвізаваў духоўныя вучылішчы гэтай губерні. З 1884 рэктар Пермскай духоўнай семінарыі. Быў вядомы як выдатны прапаведнік. Яго пропаведзі, простыя і пераканаўчыя, закраналі самыя тонкія чалавечыя пачуцці, рабілі моцнае ўражанне нават на іншаверцаў. Частка яго пропаведзяў надрукавана ў 1882 (Магілёў).

## **ЛУЧЫНА** Янка (сапр. Неслухоўскі Іван Люцыянавіч; 6.7.1851 — 16.7.1897)



Паэт-дэмакрат, мысліцель. Нарадзіўся ў Мінску ў сям'і калежскага асэсара. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, потым паступіў на матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, адкуль перавёўся на механічнае аддзяленне Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, якое скончыў у 1876. У 1877—79 працаваў у Тыфлісе ў галоўных чыгуначных майстэрнях. У апошнія гады жыцця служыў у тэхнічным бюро Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску. У 1886 у газеце «Минский листок» надрукаваны яго верш «Не дзеля славы ці разліку», там жа ўпершыню выступіў з беларускамоўным вершам «Вясновай парой» (1889). Друкаваўся таксама ў «Паўночна-Заходнім календары за 1893 год», польскіх часопісах і штотыднёвіках «Głos Polski» («Польскі голас»), «Kłosy» («Калоссе»), «Kraj» («Край»), «Prawda» («Праўда»), «Życie» («Жыццё») і інш. Першы зборнік вершаў «Паэзія» выдадзены ў 1898 у Варшаве, зборнік беларускіх вершаў «Вязанка» — у 1903 у Пецярбургу. Л. — аўтар польскамоўнай паэмы «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся», згубленых беларускамоўных паэм «Пятруся», «Віялета», «Ганнуся», «Андрэй», шматлікіх вершаў на польскай, беларускай і рускай мовах, двух нарысаў і драматычнага абразка, перакладчык твораў У.*Сыракомлі*, М.Някрасава, І.Крылова, Г.Гейнэ, Гамера. Адметнымі рысамі мастацкай творчасці Л., асновай яго маральна-эстэтычнай пазіцыі з'яўляюцца гуманістычная накіраванасць, дэмакратызм і арганічнае зліццё яго жыцця з жыццём народа. У спакойных, стрыманых творах паэта ўзаемадзейнічаюць рэалістычныя і рамантычныя пачаткі. Ён свядома пазбягаў перанасычанасці паэтычнага радка дэкарацыйна-фальклорнымі элементамі, а больш давяраў арыгінальным вобразна-выяўленчым сродкам. Псіхалагізм і лірызм яго паэзіі супрацьстаяў натуралістычна-бурлескнай традыцыі ў беларускай літаратуры, адкрываў шлях да паглыбленага інтэлектуалізму. Ідэйна-мастацкім арыенцірам яму служылі эпічныя творы А.*Міцкевіча*. Наследаваў ён і традыцыі паэзіі У.Сыракомлі. Зварот да селяніна ў яго творах абумоўлены патрэбамі часу і літаратуры, уплывам папярэднікаў. Сацыяльныя пытанні вёскі Л. закранаў апасродкавана, праз унутраныя перажыванні лірычнага героя. Селянін, паводле Л., не толькі ўвасабляе сабой Радзіму, але як носьбіт лепшых маральных якасцей сімвалізуе крыніцу яе годнага жыцця. Ён лічыў, што шаноўнае стаўленне селяніна да зямлі фарміруе і выяўляе светаадчуванне і светапогляд вяскоўца. З уласцівымі яму мяккасцю і лагоднасцю паэт расказвае пра лёс селяніна-беларуса, яго паднявольнае змрочнае жыццё. Адначасова паэт раіў вяскоўцу больш давяраць сабе, мець свой уласны розум, не спадзеючыся на дапамогу суседзяў. У вершах Л. гучыць элегічна-драматычнае прызнанне ў любові да бацькоўскага дому, да роднай нівы: «І непрыглядную хату з пажыткамі, // І поле скупое, выган без пашы // Мы, апрануўшыся старымі світкамі,

// Любім і цэнім — бо яны нашы». Гэта прызнанне перарастае ва ўсведамленне паэтам свайго абавязку паяднаць мастацкае слова з грамадскімі праблемамі: «Замоўкні ці з песняй інакшай, нанова, // На новыя выйдзі прасторы, // З грамадскім жыццём паяднай сваё слова, // Дай новыя клопаты, узоры». Л. фактычна стварыў сацыяльна-філасофскі і антрапалагічна абумоўлены тып беларуса 19 ст. з яго тонкім складам душы, псіхалагічнай адметнасцю цэласнай асобы (ляснік Грышка ў паэме «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся»). Сіла беларуса, лічыў паэт, у яго цярплівасці, у непахіснасці каштоўнай арыентацыі, у згодзе са сваёй «эмацыянальнай матрыцай», у жыццярадаснасці і аптымізме, абумоўленых пэўнасцю становішча ў сацыяльным і культурна-маральным плане. Паводле разумення Л., супярэчлівасць светапогляду беларуса (вера ў сваю сілу і вера ў прадвызначанасць свайго лёсу) характарызуе яго вялікія духоўныя магчымасці і інтэлектуальныя здольнасці, яго разуменне суб'ектыўнасці і адноснасці чалавечай свабоды. Вясковец, на думку паэта, гэта і магутны пераўтваральнік свету, і бездапаможная ахвяра сацыяльнай несправядлівасці. Сам побыт беларускага селяніна, яго ўнутраны свет, асаблівасці светаўспрымання станавіліся ў Л. прадметам эстэтызацыі. Паводле Л., гераічны характар беларуса з яго паўнатой і напружанасцю жыцця парадніўся ў мірным сутыкненні душы, прыроды і чалавечай духоўнай актыўнасці. Таму ён лічыў чалавека асноўнай субстанцыяй, найважнейшай і абсалютнай каштоўнасцю. Усеагульны недахоп духоўнасці паэт звязваў з людской нядоляю, з вынішчэннем старога ўкладу і нечакана агрэсіўным поступам навукова-тэхнічнага прагрэсу. Але вера ў чалавека, унутраная надзея рабілі Л. аптымістам, садзейнічалі абуджэнню цікавасці да асветніцкага і дэмакратычнага бакоў пазітывізму, прымушалі пярэчыць А.Шапенгаўэру, які бачыў зло ў чалавечай прыродзе. Заклапочаны разбурэннем адвечных традыцый блізкіх да прыроды людзей, Л. ўсё ж не пагаджаўся з песімізмам і безнадзейнасцю Шапенгаўэра, з яго адмаўленнем заканамернасцей у жыцці цэлых пакаленняў, з абстрактным гуманізмам і нявер'ем у шчасце. На думку Л., вылечыць маральна хворае грамадства дапаможа навука, святло якой створыць гармонію ў чалавеку, зробіць яго шчаслівым: «Паверма, шчасце заквітнее на зямлі, // Шумець там жыту, дзе балоты век былі. // Палескай простай грамады нашчадкі ў хатах // За стол шырокі сядуць у бяседзе братняй, // Нарэшце скажуць: «Шчасце і да нас прыйшло!» // Паверма шчыра!... Шапенгаўэру назло!..» Супрацьстаяць эканамічнай адсталасці, падману, панаванню грошай дапаможа, паводле Л., і сапраўднае, высокае мастацтва. Светапогляд Л. грунтаваўся на тэорыі унікальнасці і непаўторнасці кожнай чалавечай істоты. Адначасова ён не адмаўляў падыходаў да гэтай праблемы рацыяналістычнай філасофіі, якая лічыла, што рэчаіснасць падпарадкоўвацца акрэсленым усеагульным прынцыпам розуму, зыходзячы з якіх можна зразумець і інтэрпрэтаваць кожную з'яву прыроды, гісторыі, свету чалавека. У станаўленні светапогляду Л. вялікае значэнне меў натуралізм як рацыяналізаваная форма светасузірання. Беларуская нацыянальная ідэя ў творчасці Л. ўвасобілася як ідэя жыццёва праўдзівая, рацыянальная, гуманістычная, сінтэтычна-нявызначаная, сціплая. Яна амаль цалкам зводзілася ім да нацыянальнага светапогляду, да такога разумення сябе ў свеце, калі сваё светабачанне ўспрымаецца натуральным, аптымальным. Паэту ўласцівыя характэрныя для беларусаў памяркоўныя і зычлівыя адносіны да іншых народаў. Так, у лісце да рэдактара часопіса «Жыццё» З.Пшамыцкага ён пісаў: «Мне здаецца, што трэба выкарыстоўваць і падтрымліваць у рускіх праяўленні добразычлівасці і больш сумленнай, чым звычайна, чалавечнасці да нас, бо асабліва тут, на крэсах, жыць з імі і падтрымліваць зносіны прымушае неадольны лёс». Л. спрыяў фарміраванню традыцыі беларускай культуры абапірацца на волю і моц чалавека, яго самадастатковасць, шанаваць беларускае слова і ўзносіць яго над утылітарнасцю побыту і абстрактнасцю тэорыі, гуманістычнага пафасу і аптымістычнага погляду ў будучыню.

*Літ.:* Майхровіч С. Янка Лучына. Мн., 1952; Мархель У. Крыніцы па-

мяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа. Мн., 1990.

*Л.М.Канапляннік.*

## ЛЮБАШЧЫНСКІ Марк Мікалаевіч (? — 1889)

Дзяржаўны дзеяч Расіі, юрыст. Нарадзіўся ў Віцебскай губ. ў дваранскай сям'і. У 1839 скончыў Пецярбургскі універсітэт і ў хуткім часе паступіў на службу ў Міністэрства юстыцыі. У 1857 яму як обер-пракурору дэпартамента Сената даручаны разбор праекта статута цывільнага судаводства. Крытычныя заўвагі Л. на гэты праект у пэўнай ступені садзейнічалі высвятленню няслушнасці паўмер і непазбежнасці радыкальнай рэформы. Пазней Л. прымаў удзел у складанні судовых статутаў, а пасля іх увядзення атрымаў права на прысутнасць у цывільным касацыйным дэпартаменце Сената. Дзейны ўдзел прымаў Л. ў падрыхтоўцы сялянскай рэформы 1861 як член юрыдычнага аддзела рэдакцыйных камісій. Асобай камісіяй пад яго старшынствам у 1872 праведзена даследаванне валасных судоў. З 1881 член Дзяржаўнага савета па дэпартаменце цывільных і духоўных судоў.

## ЛЮДАГОЎСКІ Аляксей Пятровіч (1840—1882)

Вучоны, аграном, педагог. Выпускнік і прафесар Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Пасля яго закрыцця ў 1864 працаваў ў Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі. У працы «Закон вяртання Лібіха і рацыянальны метад вызначэння памераў угнаення» (1871) пераканаўча даказаў няслушнасць метафізічнага «закону» Ю.Лібіха, паводле якога асноўны прынцып рацыянальнага вядзення сельскай гаспадаркі ў тым, што вяртанне пажыўных рэчываў у глебу павінна раўнящца як спусташэнню. Замест сфармуляванага Лібіхам «закону вяртання» Л. прапанаваў агульны метад вызначэння колькасці ўгнаенняў, т.зв. закон рэнтабельнасці — кіравацца ў сельскай гаспадарцы не «догматам поўнага вяртання», а навуковай тэорыяй земляробства, паводле якой: кожная культурная расліна патрабуе для поўнага развіцця ў глебе большага назапашвання пажыўных рэчываў, чым яна забірае з глебы ва ўраджаі; велічыня ўраджаю вызначаецца тымі пажыўнымі рэчывамі, якія знаходзяцца ў глебе ў найменшай колькасці адносна інш. пажыўных рэчываў; кожнае поле ў стане бясконца вырошчваць адну і тую ж расліну, калі яму вяртаюцца забраныя гэтай раслінай рэчывы; кожная расліна патрабуе вядомых суадносін пажыўных рэчываў (гэтыя суадносіны парушаюцца ў глебе здымаемымі ўраджаямі); усякае ўгнаенне мае на мэце стварэнне ў глебе такіх суадносін паміж пажыўнымі рэчывамі, якія патрабуюцца для раслін, што вырошчваюцца. Гэта можа быць дасягнута выключна шляхам рацыянальнага доследу ў кожным прыватным выпадку.

## ЛЯЛЕВЕЛЬ (Lelewel) Іаахім (22.3.1786—29.5.1861)



Гісторык, вучоны, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і чыноўніка; яго маці Е.Шалюта паходзіла з Беларусі. У 1804—08 вучыўся ў Віленскім універсітэце. У 1815—18 намеснік прафесара гісторыі ў Віленскім, а ў 1819—21 намеснік прафесара бібліяграфіі ў Варшаўскім універсітэтах. У 1821 зноў вярнуўся ў Віленскі універсітэт на кафедру ўсеагульнай гісторыі. З гэтай нагоды А.*Міцкевіч* прысвяціў яму верш. У Віленскім універсітэце ён быў ідэйным натхняльнікам тайнага студэнцкага таварыства філаматаў, што аб'ядноўвала моладзь Беларусі, Літвы і Польшчы. Л. —

адзін з заснавальнікаў і рэдактараў літаратурна-гістарычнага часопіса «Tygodnik Wileński» («Віленскі штотыднёвік»), у якім друкаваліся арыгінальныя творы ўраджэнцаў і жыхароў Беларусі (А.*Адынца*, А.*Ходзькі*, І.*Храптовіча*, Ф.*Булгарына*), беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, у тым ліку «Вясельныя абрады вясковага ладу...» І.*Шыдлоўскага*. У 1824 у сувязі з працэсам філаматаў і філарэтаў Л. звольнены з Віленскага універсітэта і пераехаў у Варшаву, дзе ў 1825 уступіў у Патрыятычнае таварыства. Стаў папулярным за выступленні ў абарону канстытуцыі і ліберальных прынцыпаў, у 1829 выбраны дэпутатам сойма. Як прызнаны ідэолаг вызваленчага руху, у час паўстання 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве ён быў старшынёй Патрыятычнага таварыства, уваходзіў у склад Часовага ўрада (у яго найбольш дэмакратычнае крыло). Л. — стваральнік дэвіза «За нашу і вашу свабоду!», з якім паўстанцы звярталіся да рускіх салдат, прыхільнік надзялення часткі сялян зямлёй, але характар сваёй кансерватыўнай палітыкі змяніць не здолеў. Пасля задушэння паўстання Л. пакінуў краіну. Царскі ўрад завочна прыгаварыў яго да шыбеніцы. Са снежня 1831 Л. у Парыжы, дзе ўзначаліў Нацыянальны польскі камітэт (так званы Лялевельскі), які аб'ядноўваў дэмакратычныя сілы эмігрантаў з Рэчы Паспалітай, наладзіў сувязі з карбанарыямі, членамі тайнага аднайменнага таварыства, якія змагаліся за нацыянальнае вызваленне і канстытуцыйны лад, а таксама з масонамі, на што звярнулі ўвагу французскія ўлады. За рэвалюцыйную дзейнасць, напісаную ім і надрукаваную камітэтам адозву «Да братоў рускіх», якая заклікала да сумеснай барацьбы супраць царызму, высланы з Францыі. З 1833 Л. у Брусэлі. Пасля заняпаду Лялевельскага камітэта спрабаваў (безвынікова) аб'яднаць усе эміграцыйныя дэмакратычныя групы. Стаў ідэйным кіраўніком польскіх дэмакратычных арганізацый «Маладая Польшча», «Аб'яднанне». У 1845 ён сустракаўся з К.Марксам і Ф.Энгельсам, з 1847 быў актыўным удзельнікам інтэрнацыянальнай дэмакратычнай асацыяцыі, рабочай арганізацыі, створанай у Лондане найбольш рэвалюцыйнымі элементамі чартызму. Паступова ад удзелу ў палітычным жыцці адышоў, аднак



*Віленскі універсітэт. Зала І.Лялевеля.*

заўсёды падтрымліваў кантакты з польскімі і замежнымі дзеячамі дэмакратыі, у т.л. з А.І.Герцэнам.

Л. — заснавальнік рамантычнай школы ў польскай гістарыяграфіі. Ён прыйшоў да высновы, што гісторыя — летапіс народнага жыцця. На яго думку, першапачатковым ладам славянства была сялянская абшчына. Лічыў, што перыядызацыя гісторыі Польшчы заснавана на этапах росквіту і заняпаду дэмакратыі. У сваіх творах ён паслядоўна падкрэсліваў ролю народных мас у гісторыі, даследаваў працэс запрыгоньвання польскага сялянства. Яго працы адметныя антыпрыгонніцкай накіраванасцю, варожасцю да нацыяналізму, клерыкалізму, выкрываюць і асуджаюць нацыянальны прыгнёт беларускага і ўкраінскага народаў у феадальнай Рэчы Паспалітай. У сваіх лекцыях Л. глыбока аналізаваў мінулае Беларусі і Літвы. Непасрэдным яго вучнем быў беларуска-польскі пісьменнік Ян *Чачот*. Разам з прафесарам Віленскага універсітэта І.*Даніловічам* вывучаў помнікі беларуска-літоўскага права. У сваёй працы «Гісторыя Літвы і Русі аж да Люблінскай уніі з Польшчай 1569 года» (1839) побач з Вялікім Ноўгарадам Л. ставіў сярэдневяковую «рэспубліку» Полацка, пісаў пра ўсходнеславянскую культуру, пра вялікае значэнне старабеларускай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім, пра беларускіх выдаўцоў і грамадскіх дзеячаў Мамонічаў, пры доме якіх у 1574—1623 у Вільні існавала друкарня, і Заблудаўскую друкарню, у якой выдадзены «Евангелле вучыцельнае» (1569) і «Псалтыр з Часаслоўцам» (1570). З пашанай ставіўся да Ф.*Скарыны*. Пры ўдзеле Л. ў Познані ў 1841 на беларускай мове ўпершыню выдадзены Статут Вялікага княства Літоўскага 1529. Шмат агульнага аб'ядноўвала Л. з беларускім славістам прафесарам Віленскага універсітэта М.К.*Баброўскім*. Перапісваўся ён з мінчанінам Д.*Манюшкам* (дзядзька кампазітара С.*Манюшкі*), мецэнатам М.П.*Румянцавым*, які жыў у Гомелі. У 1821 беларускі гісторык, археограф і мовазнавец І.І.*Грыгаровіч* пераклаў на рускую мову ўрывак з працы Л. пра польскага гісторыка М.Халеву. «Гісторыю Польшчы» Л. на рускую мову перакладаў І.Савініч.

Глыбокія веды, вялікая эрудыцыя, шматлікія працы па палітычнай гісторыі Польшчы са старажытнейшых часоў да 19 ст., даследаванні, прысвечаныя дапаможным навукам гісторыі (геаграфія гісторыі, нумізматыка), зрабілі Л. вядомым еўрапейскім вучоным. Аднак прапанову ўзначаліць кафедру ў Брусельскім універсітэце ён не прыняў. У 1851 стаў членам-карэспандэнтам Літаратурнага таварыства ў Парыжы. Нягледзячы на абмежаванасць сістэмы поглядаў (перавага вырашальнай ролі ідэй, нацыянальных духоўных рыс гістарычнага лёсу нацыі, ідэалізацыя гістарычнага значэння шляхты), яго гістарычна-сацыялагічныя погляды былі асновай фарміравання прагрэсіўнай грамадскай думкі рэвалюцыянераў 1820—60-х гадоў, у тым ліку К.*Каліноўскага*, З.Серакоўскага і інш.

*Тв.:* Polska, dzieje i rzeczy jej. T. 1—20. Warszawa, 1854—68; Dzieła. T. 1—4, 6—8, 10. Warszawa, 1957—69; рус. пер. — У кн.: Избр. произв. прогрессивных польских мыслителей. М., 1956. Т. 2.

*Літ.:* Басевич А.М. Иоахим Лелевель. М., 1961; Попков Б.С.Польский ученый и революционер Иоахим Лелевель: Русская проблематика и контакты. М., 1974; Кеневич С. Лелевель: Пер. с пол. М., 1970; Кісялёў Г. Ён клікаў да свабоды // Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982; Hleb-Koszańska H., Kotwiczówna M. Bibliografia utworow Joachima Lelewela. Wrocław, 1952.

*В.С.Семенякоў.*

## ЛЯСКОЎСКІ Юльян (псеўд. Бандурыст Карабіч, Ю.Карабіч, Марцін Мізэра; 1826 — пасля 1888)

Пісьменнік, журналіст. Нарадзіўся ў в. Новая Жосна Вілейскага пав. Віленскай губ. (цяпер Мядзельскі р-н, Мінская вобл.). Паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду герба «Кораб» (адсюль псеўданім). Пачатковую адукацыю атрымаў у адной з бернардзінскіх школ (відаць, у Будславе). Працаваў канцылярыстам у Вільні. Удзельнічаў у вызваленчым руху, таму ў 1849 вымушаны быў эмігрыраваць, перажыў шмат нягод. У адным з вершаў з сумам згадваў «гэтыя вандроўкі і прыгоды, што зламалі век мой мала-

ды» («Мая ўява», 1858). Твор «Гетманская магіла» (1858), прысвечаны гетману С.Жулкеўскаму, які загінуў у 1620 у бітве з туркамі, сведчыць пра знаходжанне пісьменніка на Украіне (верагодна, у Галіцыі) і ў Румыніі. Нейкі час жыў у Лондане, там у 1855 напісаў паэму «На чужой старане». Паметы пад творамі 1856—60 (Шчучын, Карсы, Осек, Зелюнь, Елень) не ўсе паддаюцца пэўнай прывязцы да канкрэтнага рэгіёна, але частка іх, відаць, звязана з Пазнанскім княствам. Пасля агульнай амністыі ў 1860 вярнуўся з эміграцыі і пасяліўся ў Вільні, дзе знаходзіўся пад наглядам паліцыі. У 1861 удзельнічаў у антыўрадавых дэманстрацыях. Тады за свой кошт у друкарні А.*Кіркора* выдаў кнігу паэтычных твораў на польскай мове «Беларускі бандурыста. Зборнічак вандроўны». Для змешчаных там твораў (паэма «На чужой старане» і інш.) характэрны сувязь з беларускім фальклорам (выкарыстаны часткова і ўкраінскі фальклор), шматлікія беларусізмы і беларускія рэаліі (рэкі Дзвіна, Бярэзіна, Сергуч, вёска Жаркі), патрыятычныя пачуцці, пратэст супраць сацыяльнага прыгнёту. Як паэт-рамантык Л. складваўся пад моцным уплывам заснавальніка ўкраінскай школы ў польскай паэзіі Б.Залескага (на гэты конт у творах Л. ёсць адпаведныя прызнанні). Пра зборнік «Беларускі бандурыста...» выказвалася думка, што ён спачатку быў напісаны на беларускай мове («Наша ніва», 1913, №37). У 1870—80-я гады часта выступаў у польскім друку (пад псеўданімам). На пачатку 1880-х гадоў у Варшаве дапамагаў вядомаму педагогу К.Прушынскаму (родам з Беларусі) у рэдагаванні папулярнага выдання для народа «Gazeta Świąteczna» («Святочная газета»), на старонках якой выступаў супраць эміграцыі сялян у Амерыку. Нейкі час рэдагаваў газету «Echo Łomżyńskie» («Ломжынскае рэха»). Аўтар аповесці «У Амерыку па золата» (1888) пра цяжкае жыццё сялян-эмігрантаў з Польшчы і Беларусі, паасобных вершаў у перыёдыцы, брашур і артыкулаў на эканамічныя і сельскагаспадарчыя тэмы, адметных клопатам пра народны дабрабыт. У артыкуле «Слова пра песню» (1882) выявіў добрае веданне беларускай мовы і фальклору, падкрэсліваў іх багацце і самабытнасць, прывёў тэксты беларускіх (мабыць, уласных) вершаў «Зямелька мая» і «Пад дуду». У пісьме А.*Рыпінскага* А.*Плугу* (1883) названы ў ліку беларускіх пісьменнікаў. *Г.В.Кісялёў.*



## МАКУШАЎ Вікенцій Васілевіч [10(22).10.1837 — 2(14).3.1883]

Гісторык, філолаг, славяназнавец. Нарадзіўся ў Брэсце ў дваранскай сям'і. Скончыў гімназію (1856) і гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта (1860), дзе яшчэ студэнтам выявіў свае здольнасці ў сачыненні на залаты медаль «Сказанні іншаземцаў 6—10 ст. пра побыт і норавы славян». Пасля заканчэння універсітэта паступіў на службу ў Міністэрства замежных спраў (1861), а потым накіраваны ў Дуброўнік як сакратар консульства. Там заняўся вывучэннем гісторыі Дуброўніцкай рэспублікі, у выніку з'явілася праца «Матэрыялы для гісторыі дыпламатычных зносін Расіі з Рагузскай (Дуброўніцкай) рэспублікай» (1865). У 1866 М. выйшаў у адстаўку і цалкам аддаўся навукова-літаратурнай і асветніцкай дзейнасці. Магістарскую дысертацыю «Даследаванні пра гістарычныя помнікі і бытапісцаў Дуброўніка» абараніў у 1867, доктарскую — «Гісторыя вышукванняў пра славян у Албаніі ў сярэднія стагоддзі» — у 1871. Член таварыстваў Пецярбургскага гістарычна-філалагічнага, Балгарскага літаратурнага і Сербскага навуковага. Славяназнаўствам пачаў займацца ў Пецярбургскім універсітэце пад кіраўніцтвам І.І.Сразнеўскага. Здзейсніў паездкі ў Францыю, Германію, Аўстрыю, Сербію, Чарнагорыю, Балгарыю, Румынію (1861, 1868—71, 1880—81). Чытаў у Варшаўскім універсітэце курс гісторыі славянскіх літаратур, вёў спецыяльныя семінары. Асноўным прадметам яго даследаванняў была гісторыя паўднёвых славян і суседніх з імі народаў. Шэраг прац М. прысвечаны ўзаема-

адносінам Расіі і Польшчы ў 18 ст., грамадска-палітычным творам польскай літаратуры 16 ст. Паводле поглядаў на гістарычны лёс славян М. быў блізкі да ідэі славянафілаў і панславістаў. Ён звязваў праваслаўе ў адзінае паняцце са славянскай народнасцю, выказваўся супраць пашырэння каталіцызму на славянскія землі. У манархіі бачыў быццам бы арганічна ўласцівы і найбольш гістарычна апраўданы спосаб праўлення для ўсіх славянскіх краін. Аднак ён не быў прыхільнікам абавязковага аб'яднання славян пад эгідай царскай Расіі. Ускладаючы вялікія спадзяванні на культурна-гістарычнае адзінства славян, М. выступаў за ўсялякае развіццё паміж імі літаратурных, навуковых і культурных сувязей. Вітаючы рост нацыянальнай самасвядомасці ў славянскіх краінах, ён заклікаў аказваць гэтаму працэсу матэрыяльную і дзейсную духоўную падтрымку. Адначасова ён бачыў небяспеку ў нацыяналістычным настроі часткі замежных славян і інтэлігенцыі, якія стымулявалі германа-аўстрыйскія імкненні на Балканах і ў Польшчы. Сабраў у замежных архівах і апрацаваў вялікую колькасць пісьмовых крыніц, дакументаў, самыя старажытныя з якіх узыходзілі да 12 ст. Частку гэтага фонду М. выдаў у 2 тамах (т. 1—2, 1874—82). Другая частка дакументаў засталася неапублікавана. Копіі іх захаваліся ў архіве вучонага (ДБЛ, ф. 156). М. быў публіцыстам і папулярызатарам славяназнаўства, чытаў публічныя лекцыі, змяшчаў артыкулы і нарысы ў перыядычным друку, падтрымліваў пастаянныя сувязі з рускімі і замежнымі гісторыкамі і філолагамі. Шмат сіл і часу аддаваў выкладчыцкай рабоце. Асаблівую ўвагу звяртаў на крытычную ацэнку крыніц і дапаможнікаў, развіццё навыкаў самастойных даследаванняў. Вучнямі М. былі вядомыя славісты У.В.*Качаноўскі*, А.І.*Маркевіч* і інш. Аўтар прац «Артыкулы пра паўднёва-славянскія землі» (1866), «Італьянскія архівы і матэрыялы, якія ў іх захоўваюцца, для славянскай гісторыі» (1870), «Самазванец Сцяпан Малы» (1871), «Сляды рускага ўплыву на старапольскую пісьменнасць» (1876) і інш.

*Літ.:* Флоринский Т.Д. В.В.Макушев // Славянский ежегодник. 1884. Вып. 6; Очерки истории и исторической науки в СССР. М., 1960. Т. 2.

## МАЛІНОЎСКІ Мікалай (18.12.1799—29.6.1865)

Гісторык, архівіст, публіцыст, бібліёграф. Выхаванец Віленскага універсітэта, вучань Э.Г.*Гродэка* і І.*Лялевеля*, член таварыства філарэтаў. Працаваў у Віленскай археаграфічнай камісіі. Пад яго кіраўніцтвам выдадзены шэраг каштоўных помнікаў па гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага: «Гісторыя кароны польскай і Вялікага княства Літоўскага» (Вільня, 1846—49), «Успаміны пра даўнюю Польшчу часоў Жыгімонта Аўгуста» (1847—50) і інш. Сабраў вялікую бібліятэку (некалькі тысяч тамоў), якая пасля яго смерці была набыта Ю.К.Дзялынскім для бібліятэкі ў Курніку.

## МАЛЫШЭВІЧ Павел Паўлавіч (1821—?)

Публіцыст і паэт. Нарадзіўся ў в. Багон Свіслацкага р-на. У 1833—37 вучыўся ў Слонімскім павятовым вучылішчы. У пач. 50-х гадоў пераехаў у фальварак Падгор'е на Міншчыне. Працаваў у Мінскім губернскім праўленні, з 1860 рэдактар «Минских губернских ведомостей» і адначасова начальнік газетнага стала. З 1863 міравы пасрэднік па Навагрудскім пав. Звольнены з пасады і, паводле некаторых звестак, сасланы ў Арэнбург. Пісаў на польскай і рускай мовах. Аўтар рамантычнай паэмы «Спеў зорцы» (на польскай мове), артыкулаў і карэспандэнцый аб грамадска-культурным жыцці Мінска. Зрабіў апісанне абразоў кафедральнага касцёла ў Мінску (1854). Адзін з першых выступіў у друку ў абарону беларускай мовы, змясціў водгук на «Гапона» і «Вечарніцы» В.Дуніна-Марцінкевіча (1855), заклікаў інтэлігенцыю Міншчыны да актыўнага вывучэння роднага краю (Минские губернские ведомости. 1860. №27). Сябраваў і перапісваўся з У.*Сыракомлем*.

## МАЛЫШЭЎСКІ Іван Ігнатавіч [13(25).7.1828—11(23).1.1897]

Гісторык царквы, славяназнавец, асветнік. Нарадзіўся ў мяст. Нягневічы на Навагрудчыне ў сям'і святара. Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, Мінскую духоўную семінарыю (1849) і Кіеўскую духоўную акадэмію (1853), дзе атрымаў ступень магістра. У 1862—97 прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, выкладаў рускую гісторыю і гісторыю рускай царквы. Ступень доктара багаслоўя атрымаў за дысертацыю «Александрыйскі патрыярх Мялецій Пігас» (1873). Правадзейны і ганаровы член шэрага археалагічных, навуковых, дабрачынных і грамадскіх таварыстваў і аб'яднанняў. Сярод яго прац «Творы св. Кірылы Тураўскага з апісаннем яго жыцця» (1878), «Кірыл і Мяфодзій» (1885), «Заходняя Русь» у барацьбе за веру і народнасць» (вып. 1, 1895) і інш. Быў прыхільнікам агульнаславянскага культурнага адзінства пры вядучай ролі Расіі, аднак схільнасцей да рускага панславізму не выказваў. Памёр і пахаваны ў Кіеве.

*Літ.:* Титов Ф. Памяти И.И.Малышевского. Киев, 1898.

## МАНЬКОЎСКІ Ігнат Антонавіч [каля 1765—30.12.1831 (11.1.1832)]

Публіцыст, асветнік, удзельнік літаратурнага жыцця на Віцебшчыне 1-й трэці 19 ст. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Паходзіў з беларускай шляхты. Ранні перыяд біяграфіі не высветлены. Ёсць звесткі, што юнацкія гады правёў у беднасці, вучыўся «ў езуітаў» (мабыць, у адным з езуіцкіх калегіумаў). Меў значныя здольнасці, пастаянна папаўняў свае веды і стаў па-еўрапейску адукаваным чалавекам. У 1783 паступіў на службу ў адну з канцылярый усходняй Беларусі, праз 4 гады — у штат беларускага генерал-губернатара перакладчыкам «па замежнай экспедыцыі». У 1793 прызначаны старшынёй дэпартамента Магілёўскага губернскага магістрата. Калі яму было за 30 гадоў, рамантычнае пачуццё звязала яго лёс з зусім юнай дачкой мясцовага вяльможы А.Макавецкага — Рахіль Антонаўнай. Ганарлівыя бацькі былі супраць яе шлюбу з бедным чыноўнікам. М. паехаў у Пецярбург з пісьмом сваёй абранніцы да цара, здолеў выклікаць прыхільнасць імператара Паўла I, які ўзяўся быць яго сватам і апекуном. Як вясельны падарунак паводле царскіх указаў М. атрымаў у 1797 у пажыццёвае ўладанне казённы маёнтак Буева пад Віцебскам, пазачарговы чын і даволі высокую пасаду саветніка ў Беларускім губернскім праўленні. Праз некаторы час набыў суседнюю з маёнткам вёску Мазалава і разумным гаспадараннем ператварыў яе ва ўзорны маёнтак, які атрымаў назву Мілае. У 1799—1801 быў камянецпадольскім губернскім пракурорам на Украіне, потым на той жа пасадзе ў Віцебску. Памятнымі былі для яго падзеі Айчыннай вайны 1812. Сын яго Антон, яшчэ падлетак, пайшоў добраахвотна ў армію з прывілеяванага пажскага корпуса. Пры падходзе французаў да Віцебска М. эвакуіраваўся з губернскімі ўстановамі ў глыб Расіі (Вялікія Лукі, Луга). Яго жонка на працягу ўсёй акупацыі заставалася ў Віцебску. Маёмасць іх, як і іншых землякоў, была разрабавана акупантамі. Вярнуўшыся ў вызвалены Віцебск, М. з-за адсутнасці губернатара і віцэ-губернатара ўзначаліў губернскую адміністрацыю, прыняў захады, каб хутчэй наладзіць жыццё ў спустошаным краі. У красавіку 1813 ён стаў віцебскім віцэ-губернатарам. Пра вынікі акупацыі Віцебска М. расказаў у лісце ў рэдакцыю пецярбургскага часопіса «Сын Отечества», дзе асуджаў напалеонаўскую агрэсію і наогул усе захопніцкія войны, уславіў подзвіг расійскіх воінаў у барацьбе з ворагам. Як віцэ-губернатар узяў пад сваю абарону герояў вайны — сялян в. Жарцы на Полаччыне, якіх праследавала жорсткая памешчыца. Пасля адстаўкі ў 1817 жыў у сваім маёнтку Мілае, займаўся гаспадаркай, літаратурай і навукамі. Поглядамі быў блізкі да дзеячаў Асветніцтва. У 1830 прыняў удзел у конкурсе, абвешчаным пецярбургскім Вольным эканамічным таварыствам, напісаў вялікі твор, які быў адзначаны медалём і надрукаваны ў часопісе таварыства. У ім М. падсумаваў свой шматгадовы вопыт сельскага гаспадара і глыбокага знаўцы народнага жыцця, патрабаваў паляпшэння бытавых умоў сялянства, выказаў каштоўныя думкі па пытаннях сельскага будаўніцтва, жывёлагадоўлі, ветэрынарыі, саніта-

рыі, аховы прыроды і г.д. Гэты публіцыстычны дакумент быў накіраваны супраць кансерватызму і цемрашальства. М. — адзін з тых беларускіх дваранскіх інтэлігентаў, якія арыентаваліся на супольнасць гістарычнага лёсу Беларусі і Расіі, у яго творах шмат цікавых этнаграфічных назіранняў. Ён захапляўся жывым беларускім словам, папулярызаваў паэму «Энеіда навыварат», трэба думаць, сам пісаў па-беларуску, у сувязі з чым многія землякі і сучаснікі лічылі яго аўтарам беларускай «Энеіды».

*Літ.:* Гарэцкі М. Беларуская «Энеіда» // Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920; Кісялёў Г. Манькоўскі // Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. *Г.В.Кісялёў.*

## **МАНЮШКА** Дамінік (6.7.1788—26.9.1848)

Асветнік. Нарадзіўся на Міншчыне ў сям'і вайсковага суддзі Вялікага княства Літоўскага. Дваюрадны брат кампазітара С.*Манюшкі*. Пасля заканчэння Віленскага універсітэта атрымаў вучоную ступень доктара права. Прымаў удзел у вайне 1812. З 1816 асеў на спадчынным маёнтку Радкаўшчызна ў Ігуменскім пав. Займаў пасаду ігуменскага падкаморага. Прымыкаў да масонскага руху: быў членам ложы «Паўночная паходня». Усё сваё жыццё М. прысвяціў паляпшэнню становішча сялян. Уласны маёнтак і зямельныя ўгоддзі ён аддаў у карыстанне сваім сялянам, пакінуўшы сабе толькі невялікі ўчастак. Кожны селянін атрымаў асобную сядзібу з ворнай зямлёй, лугам і дзялянкай лесу. М. заснаваў у павеце вучылішча, якое складалася з двух аддзяленняў — падрыхтоўчага і вышэйшай школы. У іх выкладалі закон Божы, славянскую, рускую і польскую мовы, арыфметыку, даваліся заняцці па тэхналогіі земляробства, па садаводстве, агранаміі, лесаводстве, пчалаводстве, пачатковыя звесткі з медыцыны, анатоміі і ветэрынарыі. Апрача таго, выкладалася каліграфія, чарчэнне, рукадзелле і розныя рамёствы. У вышэйшых класах найбольш здольным выхаванцам дадаткова выкладаліся геаграфія, гісторыя і каморніцтва. У 1824 у Радкаўшчызне быў заснаваны канвікт (асобы пансіянат) для ўтрымання і выхавання сялянскіх дзяўчынак. Былі абсталяваны аптэка і лабараторыя, а для практычных заняткаў існавалі сады батанічны, пладовыя і агародніннны. Навучанне вялося на працягу 2 гадоў у асенне-зімовы перыяд, а ўлетку выхаванкі праходзілі практыку ў садах вучылішча або на прысядзібных участках сваіх бацькоў. Выдаткі на ўтрыманне вучылішча і канвікта М. рабіў за кошт арэнднай платы, якую ён атрымліваў ад сялян за зямлю, а таксама са сваіх асабістых сродкаў. Не маючы дадатковых даходаў, ён вымушаны быў закласці маёнтак. Вучылішча было закрыта ў 1838, жаночы пансіянат праіснаваў да 1853 дзякуючы матэрыяльнай дапамозе брата Ігната. У канцы жыцця М. пераехаў у Мінск, дзе і памёр. На яго магіле ў прадмесці Камароўкі ўдзячныя выхаванцы паставілі помнік з надпісам: «Ад верных сялян і падданых». Паводле сведчання гісторыка А.*Кіркора*, сяляне з Радкаўшчызны вылучаліся дасведчанасцю, сумленнасцю, працавітасцю, высокай маральнасцю і з вялікай павагай ставіліся да памяці М.

*Літ.:* Живописная Россия...: Литовское и Белорусское Полесье. Репринт. изд. 1882 г. Мн., 1993. С. 325. *Г.А.Маслыка.*

## **МАНЮШКА** Станіслаў (5.5.1819—4.6.1872)



Кампазітар, дырыжор і педагог; класік польскай і беларускай вакальнай лірыкі, стваральнік нацыянальнай класічнай оперы. Нарадзіўся ў фальварку Убель Ігуменскага павета Мінскай губ.



*Варшава. Оперны тэатр.*

(цяпер Чэрвеньскі раён) у шляхецкай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, музычную — у Мінскай музычнай школе Д.*Стафановіча*. 18 гадоў (з 1840 да 1858) працаваў арганістам і дырыжорам у Вільні, а з 1858 і да канца жыцця — дырыжорам опернага тэатра ў Варшаве, з 1864 таксама прафесар Музычнага інстытута. Стварэнне першых вадэвіляў, музычных камедый і камічных опер М. звязана з Беларуссю. У 1834 мінскімі аматарамі пастаўлены адзін з першых яго музычных твораў «Канторскія служачыя»; у 1841 у Гродне, а ў 1843 у Мінску паказаны аднаактовы жарт «Латарэя» (лібрэта Корвін-Мілеўскага). На лібрэта В.*Дуніна-Марцінкевіча* ім напісаны «Рэкруцкі набор» (з К.Кжыжаноўскім; пастаўлена ў 1841 у Мінску), «Спаборніцтва музыкаў», «Чарадзейная вада» (спектакль у Мінску ставіўся 21 раз), «Ідылія» («Сялянка», з К.Кжыжаноўскім; пастаўлена ў 1852 у Мінску; у 1853—55 ставілася ў Бабруйску, Слуцку, Нясвіжы, Глуску і інш.). Прэм'ера камічнай оперы «Ідылія» адбылася 9.2.1852 у Мінскім гарадскім тэатры. Дзякуючы выкарыстанню ў лібрэта беларускай мовы (побач з польскай) і апоры на беларускі фальклор гэтая падзея стала значнай вяхой у гісторыі беларускай музычнай культуры. Упершыню з беларускай тэатральнай сцэны гучалі нацыянальныя мелодыі, прымаўкі і прыказкі. Гэта была не проста творчая смеласць драматурга і кампазітара, якія адважыліся ва ўмовах знявагі да ўсяго беларускага адкрыта заявіць пра свае сімпатыі, а глыбока прадуманая і свядомая акцыя, што адлюстроўвала творчыя, грамадзянскія і ідэйныя пазіцыі аўтараў. Трэба было мець немалую мужнасць, каб у часы Мікалая I так гаварыць аб прыгонніцтве, як у «Ідыліі» В.Дуніна-Марцінкевіча і М. Наогул у творчасці гэтых абодвух аўтараў тэма сацыяльнай няроўнасці заўсёды была ў ліку найважнейшых. Дэмакратычная накіраванасць іх твораў часта служыла прычынай прыдзірак цэнзуры, затрымкі ці забароны выданняў. Іх по-



*Убельская сядзіба. Гравюра. 1872.*

гляды не заўсёды падтрымлівалі і блізкія сябры. Нават У.*Сыракомля*, які хваліў Дуніна-Марцінкевіча за тое, што ён «першы адважыўся стварыць вялікі твор на нашай народнай гаворцы», лічыў яго творы «залішне вострымі», а вядомы варшаўскі музычны крытык Ю.Сікорскі неаднойчы дакараў М. за сацыяльна завостраныя сюжэты, якія надавалі музыцы «непажаданы характар». Спецыялісты папракалі кампазітара і за дэмакратызм яго светапогляду, за цягу да народных крыніц. Ва ўяўленні М. ўсё бяспраўнае і прыгнечанае ўвасаблялася ў вобразах беларускіх сялян. Яго біёграф сцвярджаў: нават працуючы над операй «Парыя», прысвечанай жыццю ніжэйшай касты індыйскага насельніцтва, М. «індускіх парыяў... у думках бачыў апранутымі ў беларускія порткі». Светапогляд М. сфарміраваўся ўжо ў юнацкія гады, што прайшлі на Беларусі. З дзяцінства ён бачыў страшэнную сацыяльную несправядлівасць у адносінах паноў да сялян. Таленавітых і сціплых людзей з народа М. паважаў куды больш, чым фанабэрыстую шляхту, якая мерала чалавечыя якасці велічынёй маёнтка ці старажытнасцю радаводу. З малых гадоў будучы кампазітар адчуў хараство і прывабнасць беларускага фальклору, асабліва беларускай песні. Таму беларускі каларыт дамінуе амаль ва ўсіх яго творах, асабліва ранніх. У прадмове да 1-га выпуску «Хатняга спеўніка» (1844) М. паведамляў, што змясціў у ім «песні прынёманскіх вёсак... у гэтых паэтычных творах найярчэй праявіўся нацыянальны характар і мясцовы каларыт», а «тое, што ёсць у ёй народнага, нацыянальнага, мясцовага, што з'яўляецца водгаласам нашых дзіцячых успамінаў, ніколі не перастае падабацца жыхарам той зямлі, на якой яны нарадзіліся і выраслі». У больш познія гады М. шчодра чэрпаў з крыніцы беларускай народнай творчасці. Так, у оперы «Фліс» («Плытагоны», 1858) Р.Шырма адзначыў «такое багацце песенных і танцавальных народных інтанацый, што часам ствараецца ўражанне, што ты дзесьці пад Слуцкам ці каля Мінска прысутнічаеш на народным свяце».

На працягу ўсяго жыцця М. падтрымліваў цесную сувязь з беларускімі музыкантамі, аказваў ім самую разнастайную падтрымку ў творчай дзейнасці. Ён сам быў настаўнікам ігры на фартапіяна мінскай піяністкі І.Горват, пасылаў розным выдаўцам, у т.л. Ф.Лісту, творы Ф.*Міладоўскага* пісаў артыкулы пра сваіх суайчыннікаў — мінскага фартэпіяннага і арганнага майстра І.Бляўскага, гродзенскую скрыпачку Т.Юзафовіч, рэцэнзаваў іх працы, у прыватнасці кнігу Н.*Орды* «Граматыка музыкі», памагаў набыць музычную адукацыю Каміле *Марцінке-*



*Дом у Мінску (№21/3) на скрыжаванні вуліц Інтэрнацыянальнай і Энгельса), дзе жыў С.Манюшка.*



Смілавіцкая сядзіба.

віч, скрыпачцы Б.Крыгер, наладжваў іх канцэрты. М. рэгулярна дасылаў у Мінск Д.Стафановічу і Ф.Міладоўскаму экзэмпляры сваіх твораў.

Са сталых яго опер найбольш папулярныя «Галька» (1847, пастаўлена ў 1854, 2-я рэдакцыя — у 1859), адметная вострынёй сацыяльна-крытычнага кірунку. У Мінску яна ўпершыню пастаўлена ў 1856; а праз 120 гадоў (1875) зноў пастаўлена на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі. У ліку найбольш значных яго опер: «Графіня» (1859), «Вербум нобіле» («Слова гонару», 1860), «Парыя» (1869), «Страшны двор» (1865). Апошняя опера ў 1952 упершыню ў СССР пастаўлена Дзяржаўным тэатрам оперы і балета Беларусі ў перакладзе на беларускую мову М.Танка. Ён аўтар больш як 300 сольных песень, што ўвайшлі ў 12 «Хатніх спеўнікаў», у іх ліку 12 песень напісаны на вершы Я.*Чачота*; кантаты «Крымскія санеты» на словы А.Міцкевіча. Вытокі музычнай творчасці М. ў польскім і беларускім фальклоры.

*Літ.:* Станислав Монюшко: Сб. ст. М.; Л., 1952; Рудзинский В. Монюшко: Пер. з пол. М., 1960; Яго ж. Монюшко и его связи с русской культурой // Русско-польские музыкальные связи. М., 1963; Мальдзіс А. Станіслаў Манюшка // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; Смольский Б.С. Белорусский музыкальный театр. Мн., 1963. С. 52—63; Бравер Л. Продкі і сваякі Манюшкі // Маладосць. 1967. №9; Фукс М. Манюшка на Беларусі: Пер. з пол. // Полымя. 1967. №6. *І.П.Хаўратовіч.*

## МАРАЛЁЎСКІ Юзаф (5.3.1777—12.8.1845)

Паэт, педагог. Нарадзіўся ў г. Гарадок Віцебскай вобл. (паводле інш. звестак — каля Оршы). Пісаў на польскай, лацінскай, рускай мовах. У 1790 скончыў клас рыторыкі ў езуіцкай калегіі ў Оршы, вывучаў французскую мову ў Полацкай езуіцкай калегіі, лацінскую і польскую літаратуры — у Оршы. З 1794 настаўнік у езуіцкіх калегіях у Мсціславе, Магілёве, Полацку. Быў выхавацелем у езуіцкім пансіёне ў Пецярбургу (1806—10), працаваў у настаўніцкай семінарыі і загадваў манастырскай бібліятэкай у Оршы (1810—14). Сакратар ордэна езуітаў беларускай правінцыі (1814—16), кіраўнік Полацкай акадэміі (1816—18). У 1818 пераехаў на Валынь. Друкаваўся ў час. «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік»), «Вестник Европы». Творчасць М. выяўляла характэрныя рысы літаратуры часоў пераходу ад класіцызму да рамантызму. Адначасова з класіцыстычнымі трэнамі, элегіямі, эпіграмамі, панегірыкамі, наследаваннямі Гарацыю пісаў у перадрамантычным стылі лірычныя песні, у якіх з агульнагуманістычных і хрысціянскіх пазіцый разважаў аб выхаваўчым значэнні паэзіі, выказваў замілаванне да прыроды і роднага краю.

*Тв.:* Wiersze. Wrocław etc., 1983.

*У.І.Мархель.*

## МАРКЕВІЧ Арсен Іванавіч [30.3(12.4).1855—1942]

Літаратуразнавец, педагог, гісторык-славіст. Нарадзіўся ў Брэсце. Скончыўшы гістарычна-філалагічны факультэт

Варшаўскага універсітэта (1876), выкладаў рускую мову і літаратуру ў гімназіях Хелма і Шауляя (1876—83). З 1883 жыў у Сімферопалі, выкладаў у гімназіі, з 1887 быў супрацоўнікам, а пазней старшынёй Таўрычаскай вучонай архіўнай камісіі. У 1884 падарожнічаў у Грэцыю, Палесціну, Егіпет, Турцыю. Яшчэ студэнтам падрыхтаваў першую ў славяназнаўчай літаратуры манаграфію «Юрый Крыжаніч і яго літаратурная дзейнасць» (Варшава, 1876), у якой выкарыстаў усе апублікаваныя да таго часу звесткі пра жыццё і дзейнасць славянскага вучонага. У нарысе «Святыя Кірыл і Мяфодзій, іх жыццё, дзейнасць, заслугі» (Сімферопаль, 1885) у духу афіцыйнага славянафільства апісаў жыццё і асветніцкую дзейнасць гэтых асветнікаў. Некалькі артыкулаў і нарысаў М. прысвяціў знаходжанню ў Крыме А.С.Пушкіна, В.А.Жукоўскага, М.В.Гогаля, П.А.Вяземскага; склаў бібліяграфію літаратуры пра Крым «Таўрыка» (Изв. Таврической уч. архивной комиссии. 1894. №20; 1898. №28; 1902. №32—33). З 1918 працаваў дацэнтам, потым прафесарам кафедры гісторыі Крыма Таўрычаскага універсітэта, быў супрацоўнікам Крымскага Цэнтральнага архіва, з 1923 — старшыня Таўрычаскага таварыства гісторыі, археалогіі і этнаграфіі.

*Літ.:* К столетию со дня рождения А.И.Маркевича // Вестн. древней истории. 1955. №4.

## МАРЦІНКЕВІЧ Геранім Францавіч (14.7.1816 — пасля 1864?)

Паэт, празаік, драматург. Нарадзіўся ў в. Тулава Віцебскага павета. Паходзіў са збяднелага шляхецкага роду Марцінкевічаў герба «Лебедзь» (да другога адгалінавання гэтага роду належаў В.*Дунін-Марцінкевіч*). Вучыўся ў Віцебскім базыльянскім вучылішчы, адкуль з 1832 перайшоў у губернскую гімназію. Паводле архіўных звестак, у 1834 віцебскі павятовы маршалак шляхты прасіў уладкаваць бедных вучняў гімназіі Геранiма Марцінкевіча і яго брата Аляксандра на казённы кошт, але яму было адмоўлена «за недастатковасцю законных дакументаў аб дваранстве». У 1835 М. паспяхова скончыў гімназію і ў тым жа годзе паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Колькі ён там правучыўся — невядома, але закончанай універсітэцкай адукацыі не атрымаў. Каб зарабляць на хлеб, перайшоў на службу ў Віцебскае губернскае праўленне, потым па невядомых прычынах звольніўся. У канцы 1849 «адстаўны канцылярскі служыцель» М. атрымаў ад віцебскага губернатара дазвол зноў паступіць на службу — на гэты раз у дваранскую дэпутацкую зборню. За 11 гадоў даслужыўся да невысокага чыну губернскага сакратара. На пачатку 1860-х гадоў разбіты паралічом. У 1864 у віцебскіх установах вялася перапіска пра афармленне яму пенсіі. Далейшых біяграфічных звестак няма. Падтрымліваў сяброўскія адносіны са сваім земляком і равеснікам А.*Вярыгам-Дарэўскім* і яго братам Сымонам, арганізатарам публічнай чытальні ў Віцебску, у 1843 прысвяціў ім верш «Захад сонца». Літаратурнай дзейнасцю М. пачаў займацца ў 1830-я гады. Супрацоўнічаў у часопісе «Rubon» («Рубон») і інш. рэгіянальных выданнях. У 1845 надрукаваў у віленскага выдаўца Ю.Завадскага томік сваіх польскамоўных паэтычных твораў (тыраж каля 500 экз.). У 1848 выдаў другую кнігу, куды ўвайшлі драма «Час над Дзвіной», паэма «Першае падзенне чалавека», пераклады з І.В.Гётэ і М.Лермантава. Трэцяя яго кніга — стракаты ў жанравых адносінах зборнік «Творы, напісаныя між іншым» (нарысы, замалёўкі, вершы) — выйшла ў 1858. Драма «Падарожны» не была апублікавана. М. быў прагрэсіўным правінцыяльным літаратарам, актыўным удзельнікам літаратурна-культурнага жыцця Віцебска. У сваіх творах выказваў трывогу за лёс народа, спадзяванні на лепшую будучыню, сатырычнымі фарбамі маляваў добра знаёмае яму чыноўніцкае асяроддзе. Ад глыбокай цікавасці да народнай культуры (вядомы яго пераклады на польскую мову беларускіх песень) ён сам перайшоў да творчасці на беларускай мове (камедыя «Аказія падпалкоўніцам» або «Аказія пры палкоўніцах», якая нібыта ставілася на віцебскай аматарскай сцэне А.Вярыгам у 1861—62 і захоўвалася ў маёнтку Селігоры на Лепельшчыне). Даследчыкі ідэнтыфікуюць гэты твор з п'есай

«Адвячорак. Аказія ў карчме пры Фальковічах» (1858), тэкст якой (праз А.*Рыпінскага*, М.Піятуховіча і інш.) у копіі дайшоў да нашага часу і зберагаецца ў ЦДАМЛіМ Беларусі. Асобныя аўтографы твораў М. захоўваюцца ў Вільнюсе.

*Літ.:* К і с я л ё ў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971; М а л ь д з і с А. Пісьмы наводзяць на след // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969.

*Г.В.Кісялёў.*

## **МАРЦІНКЕВІЧ** (па мужу А с і п о в і ч) Каміла Вінцэнтаўна (1837 — пасля 1890)



Беларуская піяністка, кампазітар, педагог, удзельніца рэвалюцыйнага руху на Беларусі ў 1860-я гады. Дачка В.*Дуніна-Марцінкевіча.* Фартэпіяннай ігры вучылася ў Мінскім пансіёне Мантэграндзі. Яркі музычны талент і незвычайнае прафесійнае майстэрства ўжо ў юнацкія гады прынеслі ёй шырокую вядомасць. Вучаніца Д.*Стафановіча,* Каміла з 8-гадовага ўзросту выступала на Беларусі, Літве, Украіне. Значны поспех мелі яе канцэрты з братам Міраславам у 1849 у Кіеве і ў 1850 у Варшаве. Мясцовыя музычныя крытыкі аднадушна адзначалі талент беларускай піяністкі. Станоўчыя водгукі змяшчалі і «Минские губернские ведомости». Побач з творамі Ф.Шапэна і Ф.Ліста яна выконвала ўласныя варыяцыі на тэму песні А.Варламава «Чырвоны сарафан». З іншых яе твораў вядома фантазія «У летуценні мінулага». Удзельнічала ў спектаклях тэатра Дуніна-Марцінкевіча. Выкладала музыку ў прыватных пансіёнах.

На жаль, цяжкае матэрыяльнае становішча сям'і не дазволіла Каміле скончыць кансерваторыю. Прашэнні бацькі на імя імператара Мікалая І і вялікага князя Аляксандра (будучага цара Аляксандра II) накіраваць дачку на вучобу за казённы кошт засталіся без увагі. У знак пратэсту яна амаль цалкам адышла ад канцэртнай дзейнасці і іграла толькі для блізкіх сяброў і знаёмых. Асноўным яе заняткам з сярэдзіны 1850-х г. стала музычна-педагагічная і асветніцкая дзейнасць. На пачатку 1860-х гадоў яна арганізавала ў Мінску і мястэчку Гарадок на Маладзечаншчыне школы для дзяцей беднаты. У гэты ж час яна прыняла актыўны ўдзел у рэвалюцыйна-дэмакратычным руху. У яе дома збіраліся члены мінскай арганізацыі Літоўскага правінцыйнага камітэта. Яна ўдзельнічала ў вулічных дэманстрацыях, вучыла членаў нелегальных гурткоў рэвалюцыйным гімнам, уласным прыкладам натхняла на рэвалюцыйную барацьбу супраць самадзяржаўя. За актыўны ўдзел у дэмакратычным руху праследавалася царскімі ўладамі. У 1863 «як жанчына шкодная і зусім нядобранадзейная ў палітычных адносінах» саслана пад строгі паліцэйскі нагляд у Пермскую губ. Толькі ў 1880 цяжка хворай М. было дазволена вярнуцца на радзіму, дзе яна і памерла.

*Літ.:* А х в е р д а в а А. Пачынальнікі беларускага піянізму // Мастацтва Беларусі. 1985. №2; Б а р ы ш е в Г. Из истории семьи В.И.Дунина-Марцинкевича // Неман. 1961. №1; К і с я л ё ў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 148—174.

## **МАРЦІНОЎСКІ** Антон (10.7.1781—3.1.1855)

Выдавец, публіцыст. Нарадзіўся ў мяст. Радашковічы Маладзечанскага

р-на. Скончыў Мінскую гімназію, Віленскі ун-т (1807). Адзін з арганізатараў і актыўных членаў Віленскага друкарскага таварыства, а таксама літаратурна-грамадскага таварыства шубраўцаў, якое аб'ядноўвала ўраджэнцаў і жыхароў Беларусі і Літвы і мела на мэце маральнае ўдасканаленне людзей праз дасціпнае высмейванне розных грамадскіх і асабістых заган. Члены таварыства выказваліся за прыватныя рэформы, грамадскую роўнасць людзей, выступалі супраць невуцтва, цемрашальства, забабонаў, шляхецкіх нораваў, лічылі, што пашырэннем асветы можна ўплываць на паляпшэнне становішча прыгонных сялян. У 1816—22 рэдагаваў друкаваны орган шубраўцаў сатырычны часопіс «Wiadomości brukowe» («Вулічныя навіны»), у 1817—39 рэдактар-выдавец газ. «Kurier Litewski» («Літоўскі веснік»), у 1819—30 — першага на Беларусі і ў Літве навукова-літаратурнага часопіса «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»). У 1817 заснаваў у Вільні друкарню, дзе выдаў каля 400 назваў кніг па розных галінах ведаў, у т.л. «Летапісец Літвы і хроніку рускую» ў апрацоўцы І.*Даніловіча* (1827), «Гісторыю літоўскага народа» Т.*Нарбута* (т. 1—9, 1835—41), творы І.Красіцкага, Ф.*Княжніна*, І.*Легатовіча* і інш. Аўтар прац па педагогіцы, антыпрыгонніцкай сатыры «Машына для біцця хлопаў» (пад псеўд. П а т э л е, 1817), дзе паказаў бяспраўнае становішча прыгонных сялян; мемуараў (зберагліся ў Р.Зямкевіча, загінулі ў 2-ю сусветную вайну). Адзін са складальнікаў «Збору старажытных грамат гарадоў: Вільні, Коўна, Трокаў...» (ч. 1—2, 1843). Мяркуюць, што ў 1812 ён пісаў на бел. мове адозвы для сялян супраць памешчыкаў.

*Літ.:* Ш у л ь к и н а Г. Виленское типографическое общество // Науч. тр. высших учебных заведений Лит. ССР: Вопр. библиотековедения и библиогр. Вильнюс, 1962. Т. 2.

## **МАСАЛЬСКІ** Эдвард Тамаш (29.9.1799—28.6.1879)

Пісьменнік і публіцыст. Нарадзіўся ў в. Рудаўка пад Нясвіжам у сям'і былога маёра польскай вайсковай брыгады і пісара земскага суда Ануфрыя Масальскага. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. Потым вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Магілёве і ў Полацкай акадэміі. У 1820 паступіў на аддзяленне маральных і палітычных навук Віленскага універсітэта. Там дэбютаваў і як паэт у «Tygodniku Wileńskim»



*Мінскі касцёл і кляштар бернардзінак.*

(«Віленскім штотыднёвіку»). Належаў да тайнага студэнцкага таварыства філарэтаў, якое ставіла сваёй задачай глыбокае авалоданне асновамі навук, пашырэнне асветы сярод насельніцтва, развіццё высокай маральнасці і нацыянальнай самасвядомасці грамадзян, выступала з патрабаваннямі сацыяльных перамен і адраджэння грамадства. У 1823 разам з іншымі членамі таварыства быў арыштаваны. Пасля вымушанага перапынку ў вучобе атрымаў ступень магістра права і філасофіі. З 1832 жыў у Пецярбургу, служыў у Міністэрстве фінансаў, рэдагаваў сатырычны часопіс «Bałamut» («Баламут»). Быў кіраўніком спраў Любамірскіх на Валыні. З 1853 жыў у Варшаве, дзе працаваў у Галоўнай бібліятэцы.

Першым творам М., які звярнуў на сябе ўвагу грамадскасці, быў дыдактычны раман «Пан Падстоліч, або Чым з'яўляемся мы і чым быць можам», які ў 1831—33 быў надрукаваны ў Вільні і Пецярбургу (адначасова выйшаў на рускай мове ў перакладзе Р.Гаеўскага). У гэтым творы М. падняў актуальныя праблемы эканамічнага і палітычнага жыцця краіны, выказаў шэраг каштоўных рэкамендацый па ўдасканаленні практыкі гаспадарання і кіравання. У трох першых частках твора ён раскрыў працэс распаду «паньшчызны» на Беларусі, паказаў цяжкае сацыяльнае становішча сялянства, вынішчэнне маёнткаў шляхты, заняпад рамёстваў і гандлю ў гарадах. У двух апошніх частках стварыў вобраз ідэальнага пана, паказаў узоры рацыянальнай арганізацыі працы і жыцця ў маёнтку Падстоліча. М. з'яўляецца таксама аўтарам прац «Пра славянскія скарбы» (1853), «Звычаі пінчукоў і беларусаў» (не апублікаваны), «Граматыка польскай мовы» (1858), артыкулаў па эканоміцы сельскай гаспадаркі, мемуараў пра сваё знаходжанне на Беларусі (часткова апублікаваны Г.Масціцкім у кнізе «З філарэцкага свету»; Вільня, 1924).

*Літ.:* Towarzystwo Filomatow. Kraków, 1924; Bieliński F. Uniwersytet Wileński (1579—1831). T. 3. Kraków, 1899—1900.

## **МАСАЛЬСКІ** Юзаф Ануфрыевіч (1800 — пасля 1840)

Пісьменнік, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі. Брат Э.*Масальскага.* Нарадзіўся ў в. Белічаны Бярэзінскага раёна. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі, у 1818 скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію, кандыдат філасофіі. Служыў гувернёрам у Ю.Славацкага ў Вільні. У 1823 арыштаваны як член тайнага віленскага студэнцкага таварыства філаматаў. За ўдзел у паўстанні 1830—31 сасланы ў Сібір. Аўтар аповесці «Яцак» (1823), зборніка «Паэзія» (т. 1—2, 1827—28), у якіх пераважае беларуская тэматыка.

## **МАШЧЭЎСКІ** Фадзей (1781—1843)

Рэлігійны дзеяч, езуіт. Паходзіў з Беларусі. Быў місіянерам у Сібіры. Аўтар твора «Вытрымкі з пісьма, якое апісвае падарожжа з Іркуцка да Нерчынска», надрукаванага ў часопісе «Miesięcznik Połocki» («Полацкі штомесячнік») (1818).

## **МІКЕШЫН** Міхаіл Восіпавіч [9(21).2.1835 — 19(31).1.1896]

Мастак-рысавальшчык, скульптар. Нарадзіўся ў в. Платонава Мсціслаўскага павета (цяпер Рослаўскі р-н Сма-



*М.В. Мікешын. Помнік Кацярыне II у Пецярбургу.*



*М.В.Мікешын. Тыпы Магілёўскай губерні. Малюнак.*

*М.В.Мікешын. Запрашэнне Рурыка на царства. Малюнак.*



*М.В.Мікешын. Помнік «Тысячагоддзе Расіі» ў Ноўгарадзе. 1862.*



*М.В.Мікешын. Помнік Б.Хмяльніцкаму ў Кіеве.*

ленскай вобл.) у сялянскай сям'і. У 1852—58 вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Усерасійскую вядомасць яму прынесла работа над помнікам «Тысячагоддзе Расіі», пастаўленым у Ноўгарадзе ў 1862. Паводле яго праектаў над стварэннем паасобных скульптурных постацей помніка працавала творчая група скульптараў (А.Апякушын, М.Чыжоў, І.Шрэдар і інш.). Па яго праектах пастаўлены помнікі ў Пецярбургу Кацярыне II (1873), у Кіеве Багдану Хмяльніцкаму (1888), у Севастопалі В.А.Карнілаву і П.С.Нахімаву і інш. У сваіх творах выступаў выразнікам афіцыйнай ідэалогіі, яго патрыятычны пафас часам спалучаўся з ідэямі самадзяржаўя і праваслаўя. Стылістычна творы М. былі блізкія расійскай акадэмічнай скульптуры 2-й паловы 19 ст. У 1876—77 М. — выдавец часопіса «Пчела». Ілюстраваў творы М.Гогаля, А.Пушкіна, Т.Шаўчэнкі, М.Някрасава. Стварыў шэраг замалёвак з жыцця беларусаў: «Сцэна колішняга рэкруцкага набору. Клімавічы» (1865), «Каханне» (1879), «Паштовая эстафета. Беларусь» (1892), «Банкір і шляхціц», «Жабрачка» і інш. Папулярныя былі яго «смехатворныя лісты», створаныя для выдавецтва І.Сыціна «Народная крыніца», у т.л. ліст «Без музыкі, без дуды ходзяць ногі не туды» (1886).

*Тв.:* Воспоминания художника // Неман. 1969. №11.

*Літ.:* Микешин: (Альбом). М., 1971.

**МІКУЦКІ** Станіслаў Паўлавіч [26.10(7.11).1814—25.8(6.9).1890]

Філолаг, славяназнавец, педагог. Нарадзіўся на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння павятовага вучылішча (1830) быў на вайсковай службе (1838—42), потым жыў у вёсцы, дапамагаў бацькам па гаспадарцы. У 1845 атрымаў пасведчанне настаўніка і на працягу некалькіх гадоў даваў прыватныя ўрокі. Не маючы сродкаў, каб працягваць адукацыю, самастойна вывучаў мовы і рыхтаваўся да паступлення ва універсітэт. Неаднаразова падаваў прашэнне аб прыёме ў Маскоўскі універсітэт і ў 1847 быў залічаны на гістырока-філалагічны факультэт. Яшчэ студэнтам падрыхтаваў шэраг прац па параўнальным мовазнаўстве, частку з якіх паслаў на рэцэнзаванне І.Й.Шафарыку. Натхнёны яго падтрымкай, М. яшчэ з большай зацікаўленасцю пачаў займацца вывучэннем славянскіх і інш. моў. Пасля заканчэння універсітэта (1851) пакінуты ў ім для падрыхтоўкі магістэрскай дысертацыі. У 1850-я гады па заданні Акадэміі навук падарожнічаў па Літве і Беларусі, збіраў матэрыялы для беларускага і літоўскага слоўніка. З 1863 працаваў у Варшаўскай бібліятэцы. У 1873—88 дацэнт на кафедры параўнальнага мовазнаўства Варшаўскага універсітэта, выкладаў славянскае мовазнаўства. Галоўным кірункам навуковай дзейнасці М. было вывучэнне літоўскай і славянскіх моў у параўнанні з іншымі індаеўрапейскімі мовамі. Шмат каштоўнага фактычнага матэрыялу і цікавых назіранняў у яго «Справаздачах...» (1853—56, вынік паездкі па Літве і Беларусі), за якія Маскоўскі універсітэт у 1878 прысудзіў яму ганаровы дыплом доктара параўнальнага мовазнаўства. М. збіраў таксама беларускі фальклор, апублікаваў «Беларускія песні і загадкі, запісаныя ў Віцебскай губерні ў маёнтку Зябкі Дрысенскага павета» (1853). З'яўляецца аўтарам працы «Беларускія словы» (1854).

*Літ.:* Ягич И.В. История славянской филологии. Спб., 1910; Гуліцкі М. Беларускі слоўнік Станіслава Мікуцкага // Полымя. 1971. №8.




*«Паланез» Ф.Міладоўскага. Тытульны ліст.*

## МІЛАДОЎСКІ Фларыян Станіслаў (4.5.1819—8.7.1889)

Кампазітар, піяніст, педагог. Нарадзіўся ў Мінску. Бацька яго паходзіў са старажытнага шляхецкага роду, што некалі валодаў маёнткам Навадворкі ў Навагрудскім павеце. З часам Міладоўскія збяднелі, пераехалі ў Мінск, дзе бацька Фларыяна даваў урокі музыкі. У доме Міладоўскіх часта наладжваліся музычныя вечары, на якія ахвотна збіраліся аматары музыкі. Пачатковую музычную адукацыю атрымаў у бацькі, потым вучыўся ў Вільні (у Ф.Цібэ), Мінску (у Д.*Стафановіча*), Берліне, Вене. У 1829 у Вільні адбыўся першы канцэрт 10-гадовага Фларыяна і меў вялікі поспех. У гэты час М. ўжо напісаў шэраг мазурак, вальсаў, паланэзаў. У пач. 1830-х гадоў з поспехам прайшлі яго сольныя выступленні ў Мінску, Слуцку, Вільні і інш. гарадах. Яго імя стала вядома за межамі Беларусі. У 1836 па запрашэнні графа Б.Тышкевіча ён вучыў музыцы дачок графа ў маёнтку Чырвоны Двор пад Коўнам і адначасова займаў пасаду дырыжора сімфанічнага аркестра. За кароткі час пад яго кіраўніцтвам гэты аркестр стаў адным з лепшых приват-



Зборнік «Польскія песні» Ф.Міладоўскага (тытульны ліст). 1840.

ных аркестраў Еўропы. У Чырвоным Двары М. творча працаваў да 1841, потым па парадзе С.*Манюшкі* паехаў у Берлін, каб завяршыць сваю музычную адукацыю. Там меў асабісты кантакт з Ф.Мендэльсонам, Ф.Лістам, які ўключыў «Экспромт» М. ў складзены ім зборнік «Das Pianoforte». Праз 2 гады М. вярнуўся ў Чырвоны Двор і зноў стаў кіраваць аркестрам. Пасля смерці ўладальніка Чырвонага Двара аркестр быў распушчаны, а М. па запрашэнні С.Манюшкі ў 1851 пераехаў у Вільню. У 1855 ён разам з сям'ёй пераехаў на сталае жыхарства ў маёнтак Мацкі, што на Міншчыне. Адначасова з кампазітарскай творчасцю (аперэта «Канкурэнты») у Мацках М. займаўся і літаратурнай дзейнасцю. У 1857—60 рэгулярна пісаў артыкулы для польскага музычнага часопіса «Ruch Muzyczny» («Музычны рух») па праблемах развіцця музычнай культуры Беларусі, Літвы, Польшчы. Сярод твораў М., акрамя «Канкурэнтаў» [пастаўлены 12(24).2.1861 у Мінску, дырыжыраваў аўтар], 2 месы, «Магніфікат», смыковы квартэт, 3 фартэпіянныя трыо, 2 санаты для фартэпіяна ў 4 рукі, песні, мазуркі, паланезы, накцюрны, багатэлі, выдадзеныя ў Парыжы, Вене, Варшаве, Мінску («Паланез на 4 рукі для Міхася і Іясі», урыўкі з «Канкурэнтаў», зб. «Польскія песні») і Вільні. У 1862 М. эмігрыраваў у Францыю і пасяліўся ў Метцы. 5 гадоў выкладаў ігру на фартэпіяна ў вышэйшай музычнай школе ў Сан-Клеменце. Апошнія гады жыў у Нансі, потым у Бардо, дзе і памёр. М. належаў да той часткі мастацкай інтэлігенцыі, якая закладвала асновы беларускай музычнай культуры, спрыяла ўзнікненню і пашырэнню на Беларусі музычнага прафесіяналізму.

*Літ.:* Ахвердава А. Фларыян Міладоўскі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1980. №3. *В.В.Краснова.*

## МІХАНОВІЧ Ян (1783—1814)

Рэлігійны дзеяч, езуіт. Працаваў выкладчыкам славеснасці ў Полацкім калегіуме. Пакінуў у рукапісах лацінскія вершы, пераклады на польскую мову трагедый Еўрыпіда «Фінікіянкі» і інш. Зроблены ім дакладны пераклад гучнымі вершамі «Арэста» выдадзены ў 1818 у Полацку.

## МІЦКЕВІЧ (Mickiewicz) Адам (24.12.1798—26.11.1855)



Польскі паэт беларускага паходжання. Нарадзіўся на хутары Завоссе на Наваградчыне ў сям'і збяднелага шляхціца, адваката Мікалая Міцкевіча. Міцкевічы былі паланізаванымі бела-

русамі, паэт называў сябе «ліцвінам», хоць творы пісаў на польскай мове. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудскай дамініканскай школе. У 1815 паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Зразумеўшы, што дакладныя навукі не яго прызванне, праз год перавёўся на гісторыка-філалагічны факультэт. Якраз у гэты час у Рэчы Паспалітай пачаўся новы ўздым нацыянальна-вызваленчага руху. Не засталіся ў баку ад падзей і студэнты Віленскага універсітэта. Тут узнікла тайнае студэнцкае таварыства філаматаў (сяброў навукі), адным з кіраўнікоў якога стаў М. Мэтай філаматаў была культурная праца ў масах, выхаванне патрыятызму ў асяроддзі польскай, беларускай і літоўскай моладзі. Першыя яго паэтычныя творы напісаны пад уплывам філамацкіх ідэй. У паэме «Мешка, князь Навагрудскі» (1822), апавяданні «Жывіла», шэрагу вершаў упершыню з'яўляецца прывабны вобраз рамантычнага героя-барацьбіта за свабоду і шчасце народаў Літвы і Беларусі. Азнаёміўшыся з творамі і дзейнасцю вольналюбівага студэнта, прафесура універсітэта палічыла іх «крамольнымі». М. прапанавалі сціплую пасаду настаўніка Ковенскай павятовай школы. Але і на новым месцы М. працягваў кіраваць дзейнасцю філаматаў, якія ў 1821 ператварыліся ў таварыства філарэтаў. Па яго ініцыятыве створаны шэраг масавых арганізацый моладзі, у якіх меркавалася рыхтаваць новыя кадры для філарэтаў. Для некаторых такіх арганізацый, напр., «Саюза сяброў» і «Прамяністых», М. напісаў статуты. На выхаванне маладых патрыётаў была скіравана і яго паэтычная творчасць. У сваёй «Песні» ён заклікаў:

Пра сваю прысягу помні
Кожны дзень і штохвілінна,
Шчырасць, веды і айчына.
Пойдзем хоць цяжкой дарогай,
Калі з братам брат заўсёды;
Будзе табе дапамога
Там, дзе мужнасць, праца, згода!

А ў «Песні філарэтаў» заяўляў: «Спявайма толькі тое, // Што родны склаў народ». Найбольш адкрыты і бунтарны твор гэтага перыяду — «Ода да маладосці» (1820), з якой пазней ішлі ў бой гераічныя паўстанцы 1830, клікала да адкрытага выступлення супраць прыгнятальнікаў нацыянальнай годнасці народа:

У шчасці для ўсіх —
нашы мэты святыя,
Розумам дужыя, у цвеце і сіле,
Разам, сябры маладыя...
І той шчаслівы, хто ў бойцы загінуў,
Лёгшы ў брацкай магіле,
Славу ўздымае краіны.
Разам, сябры маладыя!

Адначасова з вершамі-маніфестамі М. стварыў цыкл рамантычных балад, што ў 1822 увайшлі ў 1-ы том яго тво-



*Школа ў Навагрудку, дзе ў 1807—1815 гг. вучыўся А.Міцкевіч.*



POEZYE

ADAMA MICKIEWICZA.

TOM PIERWSZY.

WILNO.

DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO.

1822.

*Зборнік «Паэзія» А.Міцкевіча. Першае выданне 1822. Тытульны ліст.*



*М.Путкамер (Верашчака).*



*Коўна. З малюнка 19 ст.*

раў. У ліку гэтых балад і сусветна вядомыя «Люблю я!», «Рамантычнасць», «Свіцязь», «Рыбка», сюжэты якіх былі падказаны беларускімі народнымі паданнямі і песнямі, пачутымі ў дзяцінстве на Навагрудчыне,

У перыяд настаўніцтва ў Коўне М. пакахаў прыгажуню М.Верашчаку, з якой пазнаёміўся ў 1818 у час летніх вакацый, калі гасцяваў у маёнтку яе бацькі непадалёк ад Навагрудка. Марыля шчыра адгукнулася на каханне маладога паэта, але ў 1821 вымушана была выйсці замуж за графа Путкамера. Самыя пяшчотныя лірычныя вершы М. прысвяціў свайму першаму каханню. У гэты час памерла горача любімая маці паэта. Перажыванні падарвалі яго здароўе, і ў 1822 ён вымушаны быў узяць на год адпачынак па хваробе. Жыў у Вільні. Тут ён стварыў славутую паэму «Гражына» (1823), у якой ажывае старажытная гісторыя Літвы-Беларусі. Лірызм і патрыятызм увасоблены ў прывабным вобразе навагрудскай княгіні Гражыны, якая ператварыўшыся ў воіна, не ведае літасці, калі яе зямлі пагражае небяспека. У Вільні М. распачаў сваю шматгадовую працу над самым філасофскім творам «Дзяды». Пасля публікацыі «Гражыны» і першых частак «Дзядоў» (1823) варшаўскія крытыкі, незадаволеныя «беларускасцю» яго прац, пачалі злосныя нападкі на М. А на радзіме ўсе былі глыбока ўражаны, з'явілася шмат прыхільнікаў таленту паэта.

У час працы на радзіме М. падаў хадайніцтва пра дадатковы адпачынак і паездку за мяжу. Адпачынак яму далі, а замежную вандроўку не дазволілі. Калі ён у кастрычніку 1823 паехаў у Вільню, яго арыштавала следчая камісія, створаная з мэтай спыніць патрыятычны рух «польскай моладзі ў Літве». У час следства філарэты зрабілі ўсё магчымае, каб адвесці ад М. абвінавачанні, але ён усё ж быў высланы ў цэнтральныя раёны Расіі. 8.11.1824 М. прыбыў у Пецярбург за прызначэннем. У чаканні прысуду М. сышоўся з дзекабрыстамі і атрымаў нават даручэнне зблізіць рускіх патрыётаў з патрыётамі Польшчы, Беларусі і Літвы. Ён актыўна ўдзельнічаў у так званых «руска-польскіх перагаворах» паміж дзекабрысцкім «Паўднёвым» і «Польскім патрыятычным» таварыствамі. Вырашэнне з прызначэннем месца ссылкі зацягнулася, і М. паехаў у Крым, там напісаў паэтычны цыкл «Крымскіх санетаў» і шэраг вершаў. У вершы «Марак» М. зноў выклаў свае погляды на жыццё:

Навошта спагады словы
Плыўцу, што страціў
усе спадзяванні?
Яму лепш бура, яму лепш мукі,
Лепш яму грозны ўдар нечаканы,



*Дом у Вільні, у якім жыў А.Міцкевіч.*

SONETY

ADAMA MICKIEWICZA.

*Quand'era in parte altr'uom da quel, ch'io sono.*
Petrarca.

Z NOTAMI KOMPOZYCYI KAROLA LIPINSKIEGO



LWÓW,
NAKŁADEM KUHNA I MILKOWSKIEGO
KSIĘGARZY WE LWOWIE I TARNOWIE
1827.

*«Санеты» А.Міцкевіча. Першае выданне 1827. Тытульны ліст.*

КОНРАДЪ
ВАЛЛЕНРОДЪ.
ИСТОРИЧЕСКАЯ ПОВѢСТЬ
изъ
литовскихъ и прусскихъ событій.

Адама Мицкевича.

переводъ съ польскаго
Аѳанасія Шпигоцкаго.



МОСКВА.
Въ Университетской Типографіи.
1832.

*Паэма А.Міцкевіча «Конрад Валенрод», перакладзеная на рускую мову. Тытульны ліст.*

Чым недзе ў цішы заламваць рукі,
Глядзець у даль
ды падлічваць раны...

Нарэшце маскоўскі ваенны генерал-губернатар залічыў М. ў сваю канцылярыю. У Маскве М. даведаўся пра паўстанне на Сенацкай плошчы і жорсткую расправу над дзекабрыстамі. Але расіяне сваёй падтрымкай не далі яму аплакваць лёс сяброў-паўстанцаў у адзіноце. Вясной 1826 рэдактар «Московского телеграфа» Н.Палявы ўвёў М. ў маскоўскае літаратурнае асяроддзе і ён стаў частым госцем славутага салона княгіні-паэтэсы З.Валконскай, зблізіўся там з Баратынскім, Веневіцінавым, Вяземскім, Пагодзіным, пазнаёміўся з А.С.Пушкіным. Так пачалося іх доўгае сяброўства. У гэты час Пушкін працаваў над «Барысам Гадуновым» і парады М. яго вельмі цікавілі. Пушкін ухваліў «Крымскія санеты», да яго далучыліся Бялінскі і Вяземскі. Пераклады твораў М. на рускую мову паявіліся ў «Московском телеграфе» і мелі вялікі поспех у расійскай публіцы. Каб больш зблізіць дзве суседнія культуры, М. меў намер пачаць выданне часопіса або газеты на польскай мове, але ўлады адмовілі яму. У гэты час пісьменнік перажыў яшчэ адну драму. У салоне Валконскай ён пазнаёміўся з К.Яніш (пазней вядомая паэтэса Паўлава) і вырашыў ажаніцца з ёй, але яе бацькі адмовілі яму.

Сур'ёзнай працай гэтага часу была паэма «Конрад Валенрод», якую ён пачаў пісаць у Маскве, а скончыў у Пецярбургу. Яго балады «Ваявода» і «Будрыс і яго сыны» («Тры Будрысы») Пушкін пераклаў на рускую мову. У лютым 1829 дзякуючы хадайніцтву В.Жукоўскага, князя Галіцына і Валконскай М. атрымаў дазвол выехаць за мяжу. Больш як 4 месяцы М. вандраваў па Еўропе, пабываў у многіх гарадах Германіі, Чэхіі, Швейцарыі. У час падарожжа ён пазнаёміўся з Гётэ. 18.11.1829 прыбыў у Рым, куды запрасіла яго на сваю вілу Валконская. Тут ён пасябраваў з мастаком К.Бруловым,

дацкім скульптарам Торвальдсенам, амерыканскім пісьменнікам Ф.Куперам. Адсюль ён сачыў за развіццём рэвалюцыйных падзей у Францыі і за ходам паўстання ў Варшаве. Пазней, ужо ў Дрэздэне, ён напісаў вершы пра паўстанцаў «Рэдут Ардона» і «Смерць палкоўніка» (прысвечаны гераіні паўстання Эміліі Плятар). У гэты час М. распачаў працу над галоўным сваім творам — паэмай «Пан Тадэвуш», якую нашчадкі назвалі «энцыклапедыяй жыцця ліцвінаў».

У 1834 М. ажаніўся з Цэлінай, дачкой польскай піяністкі і кампазітара М.Шыманоўскай-Валоўскай, распачаў працу над «Гісторыяй Польшчы», фантастычным творам «Гісторыя будучага», драмамі «Барскія канфедэраты» і «Якуб Асінскі». Ён вельмі сумаваў па сваёй радзіме, куды не мог вярнуцца і адчуваў, як павольна губляе паэтычнае натхненне:

Літва, о айчына мая!
Ты што здароўе...
Як цаніць цябе трэба,
той толькі спазнае,
Хто цябе страціў...

Гэтыя радкі з «Пана Тадэвуша» адпавядалі тагачаснаму душэўнаму яго стану. Каб палепшыць матэрыяльнае становішча сям'і, М. чытаў лекцыі па лацінскай літаратуры ў Лазанскай акадэміі, потым у Парыжы, на кафедры Калеж дэ Франс па гісторыі літаратур славянскіх народаў. Дзякуючы лекцыям М. прагрэсіўная грамадскасць Францыі звярнула ўвагу на духоўную і гістарычную культуру Польшчы і Літвы-Беларусі. Яго лекцыі слухалі Жорж Санд, Сен-Без, гісторык Мікеле. Але хутка М. забаранілі чытаць лекцыі, бо ён неабачліва пахваліў Напалеона.

У 1848, калі хваля рэвалюцый ахапіла Францыю і Італію, М. прыкладаў вялікія намаганні, каб стварыць у Італіі Польскі легіён, які, уліўшыся ў армію Гарыбальдзі, да канца змагаўся супраць агульнага прыгнятальніка — Аўстрыйскай імперыі. Кіруючы легіёнам з Францыі, М. адначасова пачаў выдаваць у Парыжы штодзённую палітычную газету «La tribune des peuples» («Трыбуна народаў»). М. пісаў шмат і вельмі смела. А калі ў адным з артыкулаў у адрас Луі Напалеона прагучала пагроза («Хто, узнесены народам, забудзе, на якіх умовах яму падаравана ўлада, будзе расцэнены народам як здраднік, і даравання яму не будзе»), газета тут жа была забаронена. Еўрапейскія рэвалюцыі 1848—49 пацярпелі паражэнне, але М. не страціў веры. Ён пісаў у гэтыя дні: «Трыумф зла не канчатковы, і ўсё добрае, што засталося ў душах нашых, дачакаецца адраджэння».

У 1854, калі пачалася руска-турэцкая вайна, польскія эмігранты, памятаючы, як Польскі легіён змагаўся супраць Аўстрыйскай імперыі, вырашылі стварыць аналагічнае ваеннае фарміраванне ў Турцыі, каб яно ваявала пад кіраўніцтвам англічан і французаў супраць Расійскай імперыі. Асноўны ініцыятар гэтай акцыі князь Чартарыйскі прапанаваў М. далучыцца да дзейнасці па стварэнні такога легіёна. М. накіравалі ў Істамбул пасланцам ад французскага міністэрства асветы, якое цікавілі справы навуковых і культурных установ у славянскіх краінах



*Лазанскі універсітэт, у якім А.Міцкевіч у 1839—1840 гг. выкладаў рымскую літаратуру.*



*Дом-музей А.Міцкевіча ў Навагрудку.*

пад уладай Турцыі. Там М. дапамагаў польскім патрыётам М.Чайкоўскаму (Садык Паша) і генералу У.Замойскаму, але патрабаваў, каб Польскі легіён дзейнічаў самастойна, а не пад кіраўніцтвам іншаземцаў. Гэта збянтэжыла польскую эміграцыю, а яшчэ больш збянтэжыла тое, што М. адначасова з Польскім легіёнам пачаў ствараць Жыдоўскі легіён. М. рыхтаваў не сутыкненне Расіі з Англіяй і Францыяй, а перш за ўсё «Расіі са сваім абсалютызмам, рэвалюцыі з дэспатызмам». У разгар гэтай справы М. нечакана памёр у Канстанцінопалі (па афіцыйнай версіі, ад халеры). Але існавала меркаванне, што ён быў атручаны прыхільнікамі Чартарыйскага, якія лічылі, што такімі дзеяннямі М. ганьбіць гонар Польшчы. З жалобнымі ўрачыстасцямі цела М. было перавезена ў Францыю і пахавана на парыжскіх могілках у Монмарансі. 4.7.1890 астанкі М. перавезены ў Польшчу і пахаваны ў нішы каралеўскага палаца Вавель у Кракаве побач з А.Т.*Касцюшкам*.

Творчасць М. зрабіла вялікі ўплыў на развіццё беларускай літаратуры. У 1830—40-я гады ў польскай літаратуры склалася т. зв. беларуская школа, прадстаўнікі якой услед за М. пісалі на тэмы з жыцця беларускага народа. Высока ацэньваючы фальклор Беларусі, М. пісаў пра цяжкі лёс беларусаў: « У іх казках і песнях ёсць усё...



*Дом-музей А.Міцкевіча ў Навагрудку. Фрагмент экспазіцыі.*



*Курган Бессмяротнасці на ўшанаванне памяці А.Міцкевіча ў г.Навагрудак.*

Усю сваю гісторыю на зямлі яны прайшлі ў страшэннай галечы і прыгнёце». Беларускую мову М. называў «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш змененай ...гэта найбольш багатая і найбольш чыстая гаворка, якая даўно з'явілася і цудоўна распрацавана». Пад уплывам М. літаратурную дзейнасць пачыналі Я.*Баршчэўскі*, А.*Рыпінскі*, У.*Сыракомля* і інш. Дабратворны ўплыў яго адчулі В.*Дунін-Марцінкевіч*, А.*Вярыга-Дарэўскі*, В.*Каратынскі*. У М. вучыўся творчаму асваенню вобразаў і матываў беларускага фальклору Ф.*Багушэвіч*. Тыпалагічныя сувязі з рамантызмам М. выявіліся ў паэмах «Сон на кургане», «Курган» і некаторых вершах Я.Купалы. Тыпалагічна блізкія да «Пана Тадэвуша» паэма Я.Коласа «Новая зямля». У 1920-я гады рамантычным пафасам М. цікавіліся маладнякоўцы У.Дуброўка, Я.Пушча, М.Лужанін, Ю.Гаўрук, П.Трус і інш. Міцкевічаўскія традыцыі народнасці, рэалізму і рамантызму развівалі М.Танк, А.Куляшоў, В.Таўлай, П.Пестрак, Ю.Гаўрук, М.Лужанін, П.Панчанка, Я.Семяжон і інш.

*Тв.:* Dzieła. T. 1—16. Warszawa, 1949—55; бел. пер. — Выбр. тв. Мн., 1955; «Зямля навагрудская, краю мой родны...». Мн., 1969; рус. пер. — Собр. соч. Т. 1—5. М., 1848—54; Стихотворения. Поэмы. М., 1968; Пан Тадевуш, или Последний наезд на Литве. М., 1985.

*Літ.:* Горский И.К. Адам Мицкевич. М., 1955; Живов М.С. Адам Мицкевич: Жизнь и творчество. М., 1956; Лойка А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура. Мн., 1959; Манькоўскі П. Ці быў атруты Адам Міцкевіч? // Голас часу. Лондан, 1993. №1; Рыльский М.Ф. Поэзия Адама Мицкевича. М., 1956; Żołkiewski S. Spor o Mickiewicza. Wrocław, 1952; Kronika życia i twórczości Mickiewicza. Warszawa, 1966.

*И.А.Масляніцына.*

## МУРЗАКЕВІЧ Мікалай Нічыпаравіч (1806—83)

Гісторык, археолаг, асветнік. Нарадзіўся ў Смаленску ў сям'і царкоўнага дзеяча беларускага паходжання Н.А.*Мурзакевіча*. Выхоўваўся ў Смаленскай духоўнай семінарыі, потым вучыўся на маральна-палітычным аддзяленні Маскоўскага універсітэта, слухаў лекцыі М.Т.Качаноўскага і М.П.Пагодзіна. Быў прафесарам рускай гісторыі, потым дырэктарам Рышыльеўскага ліцэя ў Адэсе. У час паездак па паўднёвай Расіі вывучаў яе гісторыю, археалогію і этнаграфію, рабіў раскопкі і пошукі ў мясцовых архівах. Да ліку яго знаходак адносяцца пскоўская судная грамата (выдадзена ў 1847 і 1869), арыгіналы лістоў царэвіча Аляксея Пятровіча (выдадзены ў 1849), некалькі варыянтаў «Рускай праўды» і інш. М. быў заснавальнікам, сакратаром і віцэ-прэзідэнтам адэскага таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх, членам многіх айчынных і замежных таварystваў і акадэмій. Вывучаў нацыянальна-асветніцкі рух у Балгарыі, быў адным з першых настаўнікаў балгарскіх выхаванцаў у Рышыльёўскім ліцэі і гімназіі пры ліцэі. Навукова-педагагічная дзейнасць М. мела важнае значэнне для развіцця балгарскай асветы. У «Запісках» таварыства, што выходзілі пад яго рэдакцыяй, змясціў каля 130 артыкулаў па нумізматыцы, гісторыі і археалогіі, друкаваўся і ў іншых перыядычных выданнях. Аўтар прац «Геаграфічная карта старажытных элінскіх паселішчаў на берагах Чорнага і Азоўскага мораў» (1836), «Гісторыя генуэзскіх паселішчаў у Крыме» (1837) і інш. Цікавая яго перапіска з М.П.Пагодзіным, М.С.Варанцовым і інш. Памер і пахаваны ў Адэсе.

**МУРЗАКЕВІЧ** Нічыпар Андрыянавіч (1769—1834)



Рэлігійны дзеяч, гісторык. Паходзіў з Беларусі. Бацька М.Н.*Мурзакевіча*. Працаваў свяшчэннікам у г. Смаленску. Вывучаў даўніну Смаленска і наваколляў. Аўтар «Гісторыі губернскага г. Смаленска ад старажытных часоў да 1804 г.» (Смаленск, 1804). У 1877 у Пецярбургу надрукавана яго біяграфія пад назвай «Гісторык г. Смаленска» з дадаткам дзённіка М. і яго лістоў.

**МУХЛІНСКІ** Антон Восіпавіч [1808—13(25).10.1877]

Вучоны-арыенталіст. Нарадзіўся на Навагрудчыне ў сям'і дробнага шляхціца. Пачатковую адукацыю атрымаў у Маладзечне. Пасля заканчэння Віленскага універсітэта (1826) слухаў лекцыі па ўсходніх мовах у Пецярбургу. У 1832 накіраваны ў Турцыю і Егіпет, адкуль прывёз некалькі рукапісаў, у т.л. твор арабскага географа Ахмеда эль-Каціба, выдадзены ім у 1860 і 1861. З'яўляўся прафесарам арабскай і турэцкай моў і славеснасці ў Пецярбургскім універсітэце, выкладаў гісторыю і геаграфію Турцыі. Апрача артыкулаў у «Библиотеке для чтения» В.І.*Сянкоўскага*, у «Энцыклапедычным слоўніку» (1861—63) і ў польскіх часопісах, надрукаваў працы: «Даследаванне пра паходжанне і стан літоўскіх



*Смаленскі крэмль. Здымак канца 19 ст.*

татар» (1857), з якой пачалося вывучэнне беларускіх тэкстаў, напісаных арабскім пісьмом, «Выбар турэцкіх артыкулаў для пачатковага перакладу з граматычным разглядам» (1858), «Асманская хрэстаматыя...» (1858—59), «Слоўнік выразаў, якія прыйшлі ў нашу мову з моў усходніх» (1858, на польск. мове). Памёр у Варшаве.

## МЫСАЎСКОЙ Міхаіл Паўлавіч (псеўд. М. Ржевусский, М. Ольшанский, М.П., М.М., Петр Чёрный; 1856—?)

Расійскі журналіст, публіцыст і крытык. Нарадзіўся ў Саратаўскай губ. ў сялянскай сям'і. Працаваў чорнарабочым гомельскіх чыгуначных майстэрняў, служыў у арміі. Пасля дэмабілізацыі быў рабочым на дрывяных складах, канторшчыкам, лінейным наглядчыкам, памочнікам начальніка матэрыяльнай службы Лібава-Роменскай чыгункі. Сведчанні пра школьную адукацыю не выяўлены. У 1886—1902 супрацоўнічаў у газ. «Минский листок». У чэрвені 1902 выкупіў у І.П.Фацінскага права на выданне гэтай газеты. Адказваючы на ананімныя абвінавачванні ў адрас выдаўца і рэдактара «Минского листка», М. паслаў у Галоўнае ўпраўленне па справах друку сведчанне былога рэдактара Фацінскага пра свой ранейшы ўдзел у рэдагаванні газеты, а таксама пасведчанне папячыцеля Віленскай навучальнай акругі на права публічнага чытання лекцый, у т.л. па гісторыі заходнееўрапейскай і рускай літаратуры. Пра сябе ён пісаў, што «хоць і не атрымаў вышэйшай школьнай адукацыі, аднак набыў яе самастойна».

У кастрычніку 1902 М. ператварыў «Минский листок» у новую газету «Северо-Западный край» ліберально-дэмакратычнага кірунку, якую ў 1904—05 выкарыстоўвалі сацыял-дэмакраты для прапаганды марксісцкіх сацыяльна-палітычных ідэй. 15.5.1905 на старонках газеты з'явіўся праграмны беларускі верш «Мужык» — першы друкаваны твор Янкі Купалы. Губернскія ўлады некалькі разоў папярэджвалі рэдактара, што адхіляць яго ад рэдагавання газеты, калі яна і надалей будзе прытрымлівацца «шкоднага кірунку». У чэрвені 1905 выхад «Северо-Западного края» быў прыпынены рашэннем міністра ўнутраных спраў, а ў ліпені 1905 М. быў арыштаваны і сасланы ў Архангельскую губ. У выніку рэвалюцыйнага руху і Маніфеста імператара Мікалая II «Аб удасканаленні дзяржаўнага парадку» газ. «Северо-Западный край» была аднаўлена, а яе рэдактар пасля амністыі ў лістападзе 1905 вярнуўся ў Мінск і ўступіў у Мінскую арганізацыю РСДРП. Аднак у снежні гэтага ж года газета зноў забаронена на аснове правіл «аб надзвычайнай ахове», і М., каб пазбегнуць арышту, тайна выехаў з Мінска. Паводле сведчання І.Ф.Масанава, у 1913 М. супрацоўнічаў у газ. «Голос Москвы» і «Московское утро». Далейшы яго лёс невядомы.

М. — аўтар шматлікіх артыкулаў у газ. «Минский листок» за 1902 («Факты і думкі», 11—20 ліп.; «Мастак-грамадзянін», 23 ліп.; «Праўда» ў адлюстраванні М.Горкага», 31 ліп.; «Часопісны агляд», 1 жн. і інш.), «Северо-Западный край» за 1902 (перадавіцы і часопісныя агляды, цыкл арт. «Факты і думкі», «Сімвалізм і мастацтва», 5 ліст. і інш.), аглядаў пад назвай «Штрыхі» і дакладаў на літаратурных вечарах Мінскага таварыства прыгожых мастацтваў («Эдгар По як пачынальнік сучаснага сімвалізму і новых літаратурных плыняў», «Літаратурная гутарка» і інш.). У гэтых выступленнях раскрыўся яго талент папулярызатара рускай літаратуры, асветніка-дэмакрата і крытыка фармалізму ў мастацкай культуры пач. 20 ст. У эстэтыцы і літаратуразнаўстве М. — прыхільнік эвалюцыйнай тэорыі, паводле якой «мастацкая творчасць заўсёды служыць выражэннем духоўных запатрабаванняў чалавека ў яго сацыяльным і духоўным асабістым жыцці; таму зразумела, што ў меру эвалюцыі чалавецтва эвалюцыяніруе і сама гэта творчасць» («Минский листок», 18.12.1901). Гэта асабліва адчувалася ў пачатку нашага стагоддзя, калі, паводле М., «тое, што яшчэ нядаўна трактавалася толькі ў сацыяльных медыцынскіх творах як пачварная фізіялагічная з'ява, цяпер паказваецца ў мастацкай літаратуры з

бляскам дэкадэнцкага адлюстравання...» («Северо-Западный край», 2.11.1902). Барацьбу розных плыняў у мастацтве разглядаў у рэфератах, падводзячы вынікі дыскусій у Мінскім таварыстве аматараў прыгожых мастацтваў, адным з арганізатараў і кіраўнікоў якога ён быў. На старонках мінскіх перыядычных выданняў пісаў пра творчасць А.Пушкіна, М.Някрасава, М.Горкага, Л.Андрэева, скульптара М.Антакольскага. Аўтар нарысаў і апавяданнаў пад назвай «У няволі» (1905).

*Літ.:* Конан У.М. Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.). Мн., 1968. С. 18—24; Яго ж. Проблемы искусства и эстетики в общественной мысли Белоруссии начала XX в. Мн., 1985. С. 15—23; Рожин Н.В. Газета «Северо-Западный край»: Очерк обществ.-полит., филос. и эстет. позиции, 1902—1905 гг. Мн., 1970. С. 4—7, 29, 102—103, 109—110, 139; Александровіч С.Х. Пуцявіны роднага слова: Прабл. развіцця бел. літ. і друку другой паловы XIX — пач. XX ст. Мн., 1971. С. 167—173; Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972. С. 212—250.

*У.М.Конан.*

## МЯРЖЫНСКІ Сяргей Канстанцінавіч (1870 — 29.3.1901)

Дзеяч рэвалюцыйнага руху, адзін з першых марксістаў на Беларусі. Нарадзіўся ў Мінску ў сям'і чыгуначнага служачага, двараніна з Ігуменскага павета. Скончыўшы рэальнае вучылішча ў Мінску, у 1891—95 вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Тут ён вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод студэнтаў, быў у ліку заснавальнікаў марксісцкай студэнцкай арганізацыі (1891—92), уступіў у Кіеўскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа», выступаў супраць народніцтва, змагаўся з «эканамістамі». Адным з пашыраных відаў дыскусіі з народнікамі было абмеркаванне рэфератаў, з якімі найбольш часта выступаў М. як прызнаны тэарэтык. Ён актыўна прапагандаваў навінкі марксісцкай літаратуры і матэрыялы практычнай дзейнасці падпольных арганізацый. Паводле сведчання ўкраінскага рэвалюцыянера І.Н.Машынскага, у Кіеў М. прывёз «гэта апошняе слова грамадскай думкі з паўночнага захаду, з Мінска». Не скончыўшы з-за хваробы (туберкулёз) універсітэт, у 1895 вярнуўся у Мінск. Працаваў у Мінскай кантрольнай палаце, потым памочнікам кантралёра ў аддзеле кантролю Лібава-Роменскай чыгункі. Дарэчы, там жа працаваў і П.В.Румянцаў — гаспадар кватэры, на якой у 1897 адбыўся I з'езд РСДРП. У 1895 ён узначаліў адзін з гурткоў чыгуначных рабочых, заснаваны С.*Трусевічам* у 1894. Пазней увайшоў у кіруючае ядро Мінскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. У перыяд станаўлення рабочага руху М. быў актыўным прапагандыстам твораў К.Маркса і Ф.Энгельса. Выкарыстоўваючы службовае становішча чыгуначнага служачага, ён наладзіў практычную работу па сувязі Мінскага і Кіеўскага падполляў, шырокія сувязі і дружалюбныя адносіны з кіеўскімі сацыял-дэмакратамі, што было дзейсным фактарам супрацоўніцтва беларускіх і ўкраінскіх рэвалюцыянераў. Асобнай старонкай яго біяграфіі з'яўляецца знаёмства (ліп. 1897) з украінскай паэтэсай Лесяй Украінкай, з якой ён падтрымліваў дружалюбныя адносіны да канца жыцця і на творчасць і ідэйную эвалюцыю якой аказаў вялікі ўплыў. Яна неаднойчы прыязджала да М. ў Мінск. Два апошнія месяцы яна правяла ля ложка паміраючага сябра і ў дзень яго смерці напісала сваю паэму «Апантаная». Імем М. ў Мінску названы вуліца і завулак.

*Літ.:* Иосько М.И. К.Маркс, Ф.Энгельс и революционная Белоруссия. 2 изд. Мн., 1985. С. 243—265.



## НАВАДВОРСКІ Вітольд Уладзіміравіч [2(14).6.1861 — 24.11.1923]

Гісторык, педагог. Нарадзіўся ў Ігуменскім павеце (цяпер Чэрвеньскі р-н) Мінскай губ. Скончыў Полацкую ваенную гімназію (1878) і гістарычна-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта (1885). Выкладчык гісторыі ў 1-м кадэцкім корпусе (з 1885),

прыват-дацэнт Пецярбургскага універсітэта (1904—06), экстраардынарны прафесар па кафедры ўсеагульнай гісторыі Нежынскага гістарычна-філалагічнага інстытута князя Безбародкі (з 1906), прыват-дацэнт Кіеўскага універсітэта (з 1908), прафесар Кіеўскага камерцыйнага інстытута (з 1909) і Віленскага універсітэта (1921—23). Спецыялізаваўся па гісторыі Польшчы 16 ст. і польска-рускіх адносін. Пісаў на польскай і рускай мовах. Яго асноўная праца «Барацьба за Лівонію паміж Масквой і Рэччу Паспалітай (1570—1582)» была надрукавана ў Пецярбургу ў 1904. Аўтар манаграфій, артыкулаў, рэцэнзій, а таксама артыкулаў пра князёў Друцкага-Любецкага і А.*Чартарыйскага* для «Рускага біяграфічнага слоўніка» (т. 6, 22), пра Царства Польскае, Чатырохгадовы сойм і пра шляхту для «Энцыклапедычнага слоўніка» Ф.А.Бракгаўза і І.А.Эфрона. Належаў да ліберальна-буржуазнага кірунку ў рускай гістарыяграфіі.

## **НАГУМОВІЧ** Леў Якаўлевіч (1792—1853)

Вучоны-медык, асветнік. Нарадзіўся ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае езуіцкае вучылішча, Віленскі універсітэт. Доктар медыцыны (1812). Служыў у Фанагарыйскім грэнадзёрскім палку, удзельнічаў у Айчыннай вайне 1812 у бітвах пры Барадзіне, Малым Яраслаўцы, пад Люцэнам, Кульмам, Лейпцыгам, у 1814 разам з палком уступіў у Парыж. У Парыжскай медыцынскай акадэміі прачытаў сваю працу «Аб выкарыстанні фосфару пры лячэнні перамежнай гарачкі», за якую выбраны членам-карэспандэнтам гэтай акадэміі і ўзнагароджаны сярэбраным медалём. З 1818 ардынатар Беларуска-Магілёўскага ваеннага шпіталя. Як ваенны медык прымаў удзел у турэцкай (1828), польскай (1831) і венгерскай (1848) кампаніях. У 1830 працаваў у камісіі па барацьбе з халерай у Саратаве. У 1852 паводле прашэння звольнены з арміі і неўзабаве прызначаны ганаровым членам Ваенна-медыцынскага навуковага камітэта. Быў таксама вядомы як актыўны папулярызатар медыцынскіх ведаў. Заслугоўвае ўвагі яго праца «Настаўленне для лячэння агнястрэльных ран па правілах, якія прапануюць славутыя хірургі ў Еўропе» (1822). Яму належаць 1, 7, 8-ы раздзелы «Трактата аб павальнай заразнай хваробе, якая называецца халера» (1831). Супрацоўнічаў у часопісах «Военно-медицинский журнал», «Друг здравия» і інш.

## **НАРБУТ** Тэадор [Фёдар Яўхімавіч; 28.10(8.11).1784—14(26).11.1864]



Гісторык і археолаг. Нарадзіўся ў маёнтку Шаўры Лідскага павета (цяпер Воранаўскі р-н). Скончыў Віленскі універсітэт (1803) і ў тым жа годзе прыняты ў Пецярбургскі корпус кадэтаў. У 1804 удзельнічаў у рабоце камісіі па распрацоўцы праекта рэгуляцыі Нёмана. Удзельнік руска-пруска-французскай (1806—07) і руска-шведскай (1808—09) войнаў (капітан рускай арміі і ваенны інжынер). Мяркуюць, што Н. аўтар праекта Бабруйскай крэпасці і ўдзельнік яе будаўніцтва. З 1812 жыў у сваім маёнтку і займаўся даследаваннем гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Адзін з першых на Беларусі вызначыў, што курганы — месцы старажытных пахаванняў. Вёў раскопкі ў Падняпроўі, пазней — на радзіме. У 1820 адкрыў ямнае пахаванне недалёка ад в. Шаўры

Лідскага павета. Апісаў руіны крэпасці на Нёмане каля в. Лыскава Гродзенскага павета. Сцвярджаў, што дрыгавічы невядомага паходжання жылі каля Кіева. Памылкова адносіў яцвягаў да скіфскіх плямён. Геральдыку Беларусі не лічыў вельмі старажытнай, паколькі аналагічная была і ў суседніх народаў. Даследаваў Лідскі замак і выказаў меркаванне аб прызначэнні яго пакояў. Збіраў і вывучаў помнікі археаграфіі. Адшукаў у Старым Быхаве адну з першых хронік 16 ст. і зрабіў з яе выпіскі пра пахавальны абрад. На яго думку, багатым насыпалі больш высокія курганы, а бедным і, паводле хронікі, злым і скупым — меншыя. Аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (т. 1—9, 1835—41; апісаў падзеі да 1569), якая напісана з феадальна-манархічных пазіцый. Вялікае княства Літоўскае 16 ст. лічыў залатым векам у гісторыі Беларусі і Літвы. Адмоўна ставіўся да палітыкі польскіх феадалаў у Вялікім княстве Літоўскім, але адводзіў вялікую ролю каталіцкай царкве і польскай культуры ў жыцці Беларусі і Літвы. Апублікаваў шэраг гістарычных крыніц, у тым ліку «Хроніку Быхаўца» (1846). Меў багатую калекцыю археалагічных матэрыялаў. Аўтар артыкулаў у перыядычным друку пра Ліду, Навагрудак і інш. Займаўся пытаннямі старажытнай міфалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі. *Г.А.Каханоўскі.*

## **НАРБУТ** Юстын (каля 1773 — 1845)

Гісторык. Паходзіў з Беларусі. Сваяк Казіміра *Нарбута*. Вучыўся ў Віленскім універсітэце. У час паўстання А.Т.*Касцюшкі* камандаваў у яго войску палком пяхоты. У баі пад Соламі (25.6.1794) яго палку процістаялі намнога большыя сілы царскага вайсковага злучэння пад камандаваннем Л.Бенігсена. Даследчыкі яго біяграфіі лічаць, што менавіта ён быў тым Нарбутам, які, прадстаўлены Якубам *Ясінскім*, атрымаў 27.8.1794 патэнт на званне палкоўніка міліцыі Лідскага павета. Пасля задушэння паўстання Н. пастаянна жыў у Лідскім павеце ў спадчынным маёнтку, у 1820 быў членам межавога суда ў павеце. Апошнія гады жыцця прысвяціў вывучэнню гісторыі краю. У 1818 у Гродне надрукавана яго першая праца «Нарысы каранёў народу літоўскага», якая ўключала гістарычныя звесткі і мясцовую міфалогію. Невялікі тыраж гэтай кнігі хутка разышоўся, і ў 1820 пад той жа назвай выйшла яе 2-е выданне. У Вільні надрукавана яго праца «Гісторыя ўнутраная літоўскага народа з часоў Яна Сабескага і Аўгуста II...» (т. 1—2, 1843). Ёсць меркаванне, што яна падрыхтавана ім на заказ прадстаўнікоў роду Сапегаў, таму што амаль цалкам прысвечана гісторыі заўзятай барацьбы паміж біскупам Канстанцінам Бжастоўскім і гетманам Казімірам Сапегам (1693—1701). У рэцэнзіі на гэтую кнігу Ю.І.*Крашэўскі* абвінавачваў аўтара ў невыкарыстанні важных гістарычных крыніц і тэндэнцыйнасці, таму вобраз Сапегі атрымаўся залішне станоўчы, а Бжа-



*Бабруйская крэпасць. З карціны мастака Залескага.*

стоўскага — адмоўны. Памёр Н. у Вільні, дзе і пахаваны.

Літ.: Грыбкоўскі В.П., Гапоненка В.А., Кісялёў У.М. Прафесар электраграфіі і магнетызму: Якуб Наркевіч-Ёдка. Мн., 1988.

## НАРКЕВІЧ-ЁДКА Якаў Антонавіч (8.1.1848—19.2.1905)

Прыродазнавец, медык. Нарадзіўся ў маёнтку Над-Нёман на Уздзеншчыне. Паходзіў з роду Т.Касцюшкі. Атрымаўшы адукацыю ў Мінскай гімназіі (мяркуюць, што вучыўся таксама ў Маскве і Парыжы), зарэкамендаваў сябе здольным піяністам і выступаў з канцэртамі ў краінах Еўропы і Азіі. Пакінуўшы музычныя заняткі, вярнуўся ў радавы маёнтак і заняўся навуковымі даследаваннямі. Свае даследаванні прысвяціў вырашэнню наспелых прыкладных задач. Пачаў ён з таго, што авалодаў прыёмамі лячэння людзей, а таксама жывёл. Н.-Ё. ўжываў перадавыя на той час прыёмы, выкарыстоўваў вакцыны, сывараткі. У сваім маёнтку ён арганізаваў санаторый «Над-Нёман». Распрацаваў методыку лячэння нервова хворых электрычным токам (электратэрапія), выкарыстоўваў кумысалячэнне, святлолячэнне, гімнастыку, мясцовыя мінеральныя воды. У сваім маёнтку ён таксама стварыў метэаралагічную станцыю першага разраду (1886) — на той час адзіную на поўначы Міншчыны. Станцыя была абсталявана найноўшай апаратурай, у т.л. вынайдзенай Н.-Ё. Атрыманыя звесткі паведамляліся ў айчынныя і замежныя цэнтры. Праз сістэму маланкаадводаў Н.-Ё. вёў барацьбу з градам, чым садзейнічаў ахове палёў. За заслугі ў галіне метэаралогіі ў 1890 ён узнагароджаны сярэбраным медалём Рускага геаграфічнага таварыства. За навуковыя працы ў 1890 зацверджаны членам-супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу. Неаднаразова выязджаў за мяжу з навуковымі дакладамі. Быў ганаровым доктарам Віленскага медыцынскага таварыства, членам многіх іншых еўрапейскіх і расійскіх таварыстваў, меў дыплом прафесара электраграфіі і магнетызму. Памёр у Вене ў час чарговай паездкі з паведамленнямі пра вынікі навуковых даследаванняў. Пахаваны ў сваім маёнтку.

## НАСОВІЧ Іван Іванавіч [26.9(7.10).1788—26.7(6.8).1877]

Мовазнавец-лексікограф, фалькларыст, этнограф. Нарадзіўся ў в. Грабівец Быхаўскага павета Магілёўскай губ. (цяпер Чавускі р-н) у сям'і псаломшчыка. Адукацыю атрымаў у Магілёўскай гімназіі, потым у Магілёўскай духоўнай семінарыі. Там ён грунтоўна авалодаў старaславянскай, лацінскай, грэчаскай і французскай мовамі, вывучаў польскую і старажытнаяўрэйскую мовы, што, пры дасканалым валоданні беларускай і рускай мовамі, адкрывала яму шырокія перспектывы даследчыка ў галіне мовазнаўства. З 1812 Н. працаваў выкладчыкам рускай мовы і славеснасці вышэйшага аддзялення Аршанскага духоўнага вучылішча, выкладчыкам, рэктарам Мсціслаўскага духоўнага вучылішча (1813—22), загадчыкам, наглядчыкам, выкладчыкам Дынабургскай гімназіі, Маладзечанскага, Свянцянскага дваранскіх вучылішчаў (1822—43). Пераезды па службе, а таксама падарожжы па Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губ. далі яму магчымасць глыбока пазнаёміцца з народнай творчасцю, сабраць багаты лексічны, фразеалагічны і фальклорны матэрыял з розных рэгіёнаў Беларусі. Таму, выйшаўшы ў 1843 у адстаўку і пасяліўшыся ў Мсціславе, ён заняўся навуковай работай. У выніку цеснага супрацоўніцтва з Археаграфічнай камісіяй, этнаграфічным аддзяленнем Рускага геаграфічнага таварыства, Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Пецярбургскай Акадэміі навук ён распачаў падрыхтоўку першага гістарычнага слоўніка беларускай мовы пад назвай «Алфавітны паказальнік старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі», выдадзеных у 1853 годзе, рукапіс якога завяршыў у 1867. У ім ён даў тлумачэнне і лексікаграфічную інтэрпрэтацыю 13 тыс. слоў (Уваpаўская прэмія 1867, рукапіс захоўваецца ў бібліятэцы Расійскай АН у Санкт-Пецярбургу).

Значнае месца ў яго творчай спадчыне займаюць фальклорна-этнаг-

СЛОВАРЬ

БѢЛОРУССКАГО НАРѢЧІЯ.

1870.

*Слоўнік беларускай мовы. Тытульны ліст. 1870.*

рафічныя працы, у якіх аналізуецца і асэнсоўваецца жыццё і побыт народа, яго духоўны свет і мараль, звычаі і павер'і, практычная мудрасць і вусная паэтычная творчасць. Здабыткам беларускай фалькларыстыкі сталі яго зборнікі «Беларускія прыказкі і прымаўкі» (1852), «Беларускія прыказкі і загадкі» (1868), «Зборнік беларускіх прыказак» (1867). У апошнім ён змясціў каля 3500 прыказак, прымавак і блізкіх да іх прыгаворак, праклёнаў, скорагаворак і інш., тонка прааналізаваў змест і сэнс «маральна-практычнай філасофіі простага народа», мудрых гаспадарчых і прыродных назіранняў. У многіх выпадках ён высвятляў паходжанне, прыводзіў эквіваленты з рускай, а часам і іншых моў. За гэты зборнік яму прысуджаны залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства, ён абраны членам гэтага таварыства па аддзяленні этнаграфіі. У зборніку «Беларускія песні» (1873), акрамя 350 тэкстаў песень, даследчык змясціў шэраг артыкулаў, прысвечаных песеннай культуры беларусаў. Падрыхтаваны Н. зборнік, у якім былі сабраны беларускія вусна-паэтычныя творы (байкі, легенды, павер'і, быліны, анекдоты і інш.), не быў выдадзены і сёння лёс яго невядомы. Да гэтых зборнікаў Н. пісаў прадмовы, дзе выказваў свае погляды на беларускую народную вусна-паэтычную творчасць народа, рабіў фанетыка-граматычныя і лексічныя каментарыі, тлумачэнне пасобных выразаў і слоў.

Значную ўвагу надаваў Н. пытанням гісторыі, асабліва старажытнай гісторыі Беларусі. У гісторыка-лінгвістычным даследаванні «Аб плямёнах да часоў Рурыка, што засялялі беларускую тэрыторыю» ён даводзіў, што назвы плямён «дрыгавічы», «радзімічы» і «крывічы» паходзяць ад беларускіх народных слоў. Ён пераклаў з лацінскай мовы 3-томную працу А.Тэйнера «Старажытныя помнікі, што асвятляюць гісторыю Польшчы і Літвы», у якой адлюстраваны ўзаемадачыненні Польшчы і Вялікага княства Літоўскага і праліта святло на гісторыю беларускіх зямель у часы з 1217 па 1696. Н. аўтар грунтоўнай (каля 1000 старонак) гісторыка-мемуарнай працы «Успаміны з майго жыцця», дзе дадзена шырокая панарама тагачаснага грамадства, раскрыты духоўныя інтарэсы і маральнае аблічча беларускай інтэлігенцыі з канца 18 да сярэдзіны 19 ст. Значнае месца ў гэтым творы адведзена педагагічным ідэям самога Н., які больш як 30 гадоў працаваў на ніве асветы (рукапіс захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я.Коласа АН Беларусі).

Асноўнае месца ў навуковай спадчыне Н. займае тлумачальна-перакладны «Слоўнік беларускай мовы», над якім ён самаадданa працаваў 16 гадоў (скончыў у 1863, выдадзены ў 1870, факс. выд. 1983). Гэта навукова-лінгвістычны летапіс народа і часу, самы поўны на той час збор лексікі і фразеалогіі жывой беларускай мовы, які ахоплівае больш за 30 тыс. слоў. У гэтым арыгінальным і непаўторным творы засведчаны стан і ўзровень развіцця беларускай мовы сярэдзіны 19 ст., данесены нашчадкам лексічныя скарбы і фразеалагічнае багацце нацыянальнай мовы. Матэрыялы для слоўніка Н. чэрпаў з гаворак Магілёўшчыны, Міншчыны, Віцебшчыны, Гродзеншчыны, некаторых паветаў Прывіленскага краю — г. зн. усяго моўнага ландшафту тагачаснай Бела-

русі. Аўтар свядома не ўключаў у рэестр словы, агульныя для беларускай і рускай моў. Для пацвярджэння ўжывальнасці слоў і дакладнасці тлумачэння іх семантыкі выкарыстоўваў самы аўтарытэтны ілюстрацыйны матэрыял — народныя песні, прыказкі, выслоўі, фразеалагізмы. Многія словы ўзяты са старабеларускіх пісьмовых помнікаў. Усе значэнні слоў і словазлучэнняў раскрываюцца аўтарскімі тлумачэннямі і цытатамі з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы; часам даецца этымалогія слоў. Такім чынам, у «Слоўніку...» шырока выкарыстана жывое народнае беларускае слова, да гэтага часу ён з'яўляецца унікальным творам у беларускай лексікаграфіі. У 1881 выдадзены «Дадатак да беларускага слоўніка І.І.Насовіча» (каля 1 тыс. новых слоў).

*Літ.:* Шейн П. И.И.Носович: (Краткий биогр. очерк) // Изв. Отд-ния рус. яз. и словесности имп. Академии наук. 1900. Т. 5, кн. 3; Гуліцкі М.Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1978. С. 50—83; Цішчанка І. Першапраходзец // Полымя. 1983. №10; Суднік М.Р. І.І.Насовіч і яго слоўнік // Насовіч І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983. *І.П.Хаўратовіч.*

## НЕЗАБЫТОЎСКІ Аляксандр (2.10.1819—21.3.1849)

Пісьменнік, філосаф, гісторык. Нарадзіўся ў в. Смалічы Нясвіжскага р-на (паводле іншых звестак 15.9.1818 у в.Зубкава Навагрудскага р-на) у сям'і прэзідэнта Мінскага губернскага межавога суда Хрыстафора Незабытоўскага. Вучыўся ў прыватных пансіёнах у Варшаве, у 1835—38 на матэматычным факультэце Дэрпцкага універсітэта. У 1839—42 служыў у канцылярыі Ігуменскага маршалка. У 1844—47 наведаў Францыю, Аўстрыю, Італію, Іспанію, Партугалію, Англію. Гэта падарожжа ім было зроблена дзеля лячэння, знаёмства са славутымі мясцінамі Міжземнамор'я і авалодання замежнымі мовамі. Але перш за ўсё ён меў намер надрукаваць за мяжой свае рукапісы (нелегальна правёз іх праз мяжу), каб давесці свету свае погляды на жыццё, на актуальныя грамадска-палітычныя і эканамічныя праблемы, выступіць у абарону дэмакратыі і нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў царскай Расіі. Н. выдаў ананімна 2 кнігі ў Вільні і 5 у Парыжы (яго аўтарства ўстаноўлена толькі ў 1960). Таленавіты публіцыст і празаік, дасціпны крытык і ўдумлівы філосаф, ён выступіў у сваіх творах як перакананы дэмакрат і заўзяты вораг дэспатызму і царскай манархіі, смелы вальнадумец і атэіст. Н. заклікаў народ на барацьбу супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, патрабаваў скасавання паншчыны, адмаўляў існаванне Бога. Шырокі водгалас меў крытычны нарыс Н. на курс лекцый А.*Міцкевіча* «Славянскія літаратуры», дзе ён упершыню выступіў супраць клерыкальна-месіянскіх ідэй паэта, а таксама супраць кансерватыўна-рамантычнай плыні ў тагачаснай польскай паэзіі. Н. — аўтар кнігі мемуараў «Мае запіскі» (Парыж, 1845), прысвечанай паўстанню 1830—31, у якой ён называе сябе ліцвінам (беларусам).

За спробу перавезці з-за мяжы свае і чужыя нелегальныя выданні Н. быў арыштаваны, сядзеў у пінскай, мінскай і віленскай турмах, засуджаны да пазбаўлення дваранскіх і маёмасных правоў і 20-гадовай катаргі ў сібірскіх рудніках. Памёр да выканання прыгавору.

*Тв.:* Rozamunda. Wilno, 1844; Barbara. Wilno, 1844; Jadwiga. Paryż, 1845; Rêves d'amour, de gloire et de liberté. Paris, 1845; Katarzyna Wielka. Paryż, 1846.

*Літ.:* Александровіч С.Х. Вольнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі: З гісторыі бел.-пол. літ. і грамад.-паліт. сувязей у 40-я гады XIX стагоддзя. Мн., 1975. *С.Х.Александровіч.*

## НІКІФАРОЎСКІ Мікалай Якаўлевіч [5(17).5.1845—28.5(10.6).1910]

Беларускі этнограф-фальклярыст, асветнік. Правадзейны член таварыства аматараў прыродазнаўства і этнаграфіі маскоўскага універсітэта (з 1890), рускага геаграфічнага таварыства (з 1897). Нарадзіўся ў в. Вымна на Віцебшчыне ў сям'і дзяка мясцовай царквы. Пачатковую адукацыю атрымаў у прыватнай сельскай школе. З 1855 на працягу 6 гадоў вучыўся ў Віцебскім духоўным вучылішчы. У 1861 як лепшы вучань прыняты на казённае ўтрыманне ў Віцебскую духоўную семінарыю, якую скончыў у 1867. Прапанову прадоўжыць адука-



цыю ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі не змог прыняць з-за адсутнасці сродкаў і вымушаны быў шукаць працу. Пасля перападрыхтоўкі ў кастрычніку 1867 прызначаны настаўнікам народнага вучылішча ў в. Лоўжа. Пазней працаваў настаўнікам у гімназіі ў Віцебску і Віцебскай губ., у Свіслацкай і Маладзечанскай семінарыях. З'яўленне ў Віцебску этнографа П.В.*Шэйна* ўзмацніла цікавасць Н. да вывучэння побыту, культуры і творчасці беларускага народа. Больш як 20 гадоў Н. быў карэспандэнтам Шэйна, а з 1890-х гадоў выступаў з самастойнымі працамі. Апублікаваў каля 20 даследаванняў па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Віцебшчыны, якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў, іх вуснапаэтычнай творчасці. Грамадскаму побыту і сацыяльна-эканамічнаму становішчу розных слаёў і груп насельніцтва Віцебшчыны Н. прысвяціў серыю публікацый у часопісе «Этнографическое обозрение» пад агульнай назвай «Нарысы Віцебскай Беларусі» (ч. 1—8, 1892—99): «Старцы», «Дудар і музыка», «Памагатыя жыхара», «Падданыя памагатыя», «Пітушчыя і прапойцы», «Гульні і гуляючыя», «Бабы, або жонкі», «Збегі, прочкі, вонкі, ухадалы». Пытанні грамадскага побыту насельніцтва закранаў у працы «Старонкі з нядаўняй мінуўшчыны горада Віцебска» (1899). Ён аўтар першай спецыяльнай працы па матэрыяльнай культуры і вытворчай дзейнасці сельскага насельніцтва «Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку (Этнаграфічныя звесткі)» (1895). У 1-м раздзеле гэтай кнігі «Ежа, едзіва, паядуха, прорава, жратва, момна» даў грунтоўную характарыстыку харчавання і класіфікацыю страў, іх прыгатаванне, гатункі хлеба; паказаў змены ў народнай кулінарыі пасля адмены прыгоннага права. У 2-м раздзеле разглядае адзенне і абутак, іх асобныя часткі, пакрой матэрыялаў, спосабаў нашэння ўпрыгожанняў і інш. Апісаў працоўныя працэсы ад апрацоўкі лёну да пашыву адзення. У 3-м раздзеле Н. грунтоўна апісаў сельскія паселішчы, сядзібы, жыллё і гаспадарчыя будынкі, іх будаўніцтва і прызначэнне, інтэр'еры жылых памяшканняў, жыццёвыя працэсы і побытавыя абставіны. У апошнім раздзеле даў характарыстыку земляробства, промыслаў і рамёстваў, прылад працы, прадметаў хатняга ўжытку і інш. Сярод яго фальклорных збораў: «Беларускія песні-частушкі» (1911), «Простанародныя загадкі» (1898), «Напаўпрыказкі і напаўпрымаўкі, якія ўжываюцца ў Віцебскай Беларусі» (1910—13), «Напаўпрыказкі — напаўпрыслаўкі» (1928). Пра вераванні, забабоны, абрады, паданні працы Н. «Простанародныя прыкметы і павер'і, прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны» (1897, 2307 запісаў), «Нячысцікі: Збор простанародных у Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу» (1907). Сваімі даследаваннямі па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Беларусі Н. абараняў свой народ ад розных фальсіфікатараў гісторыі (польскіх нацыяналістаў і рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў), якія адмаўлялі яго права на самастойнае нацыянальнае развіццё.

*Літ.:* Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964.

*В.К.Бандарчык.*

## **НЯМЦЭВІЧ** (Niemcewicz) Юльян Урсын (16.2.1758—21.5.1841)

Польскі пісьменнік і публіцыст, гісторык. Нарадзіўся ў в. Скокі Брэсцкага р-на. Вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме, Варшаўскім кадэцкім корпусе (1770—77). У час вызваленчага паўстання 1794 ад'ютант і сакратар



А.Т.*Касцюшкі.* За ўдзел у паўстанні быў зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. З 1796 у ЗША. У 1807 вярнуўся на радзіму, падарожнічаў па Беларусі (1809, 1816, 1819). Удзельнік вызваленчага паўстання 1830—31. У 1833 у эміграцыі. Прытрымліваўся памяркоўна-рэфармісцкіх поглядаў, у літаратуры — эстэтыкі класіцызму. У адным з першых сваіх мастацкіх твораў — палітычнай камедыі «Вяртанне пасла» (1790) — выказаўся за сацыяльныя рэформы ў Рэчы Паспалітай, вызваленне сялян ад прыгону. Аўтар зборнікаў «Літоўскія пісьмы» (1812), дзе адлюстравана мясцовая беларуская тэматыка, і патрыятычнага палітычнага цыклу «Гістарычныя песні» (1816), раманаў «Два паны Сяцехі» (1815), «Ян з Тэнчына» (1825) і іншых твораў. У кнігах «Дзённікі маіх часоў» (выд. 1848), «Гістарычныя падарожжы па польскіх землях, што адбыліся ад 1811 да 1828 гг.» (выд. 1858) апісаў Брэст, Гродна, Навагрудак, жыццё беларускіх сялян. Выдаў «Збор гістарычных мемуараў пра старажытную Польшчу» (т. 1—6, 1822—33), у які ўключыў «Дыярыушы» С. і Б. Маскевічаў. У сваім маёнтку Урсынаў каля Варшавы сабраў значную бібліятэку (4 тыс. тамоў), у асноўным з гістарычных кніг, польскай мастацкай літаратуры і рукапісаў. Пасля паўстання 1830—31 бібліятэка канфіскавана і прададзена з таргоў у Познані; пазней частка кніг трапіла ў кнігазбор Пазнанскага таварыства прыяцеляў навук. З 1827 Н. быў старшынёй Варшаўскага таварыства прыяцеляў навук, якому аказаў фінансавую падтрымку і для якога склаў праект бібліяграфічнага каталога польскай літаратуры ад даўняга часу да сучаснасці. У 1838 заснаваў Польскую бібліятэку ў Парыжы, завяшчаў ёй рукапісы сваіх твораў.



*Маёнтак у в. Скокі, дзе нарадзіўся Ю.У.Нямцэвіч. З малюнка 19 ст.*

*Літ.:* Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968. С. 76—95.



## ОРДА Напалеон (11.2.1807—26.4.1883)



Кампазітар, піяніст, педагог, пісьменнік, мастак, творчасць якога звязана з Беларуссю і Польшчай. Нарадзіўся ў в. Варацэвічы Пінскага павета Мінскай губ. (цяпер Іванаўскі р-н) у сям'і інжынера-фартыфікатара. Пачатковую адукацыю атрымаў у бацькоў. У 1823 скончыў Свіслацкую гімназію і паступіў у Віленскі універсітэт. У 1827 выключаны за ўдзел у тайным студэнцкім таварыстве «Заране». Удзельнік паўстання 1830—31. Пасля яго задушэння эмігрыраваў. Жыў у Аўстрыі, Швейцарыі, Італіі, Францыі. З 1833 у Парыжы, удасканальваў майстэрства ігры на фартэпіяна ў Ф.Шапэна, сябраваў з А.*Міцкевічам*. У 1838 выдаў «Альбом твораў польскіх кампазітараў», даход ад выдання якога аддаў на дапамогу бедным суайчыннікам. Выдаў свае творы для фартэпіяна (паланэзы, вальсы, мазуркі, серэнады), ухваленыя Шапэнам і Ф.Лістам, а таксама рамансы і песні на словы С.Вітніцкага і А.*Плуга*. Там атрымаў мастацкую адукацыю ў студыі П.Жэрара. У сярэдзіне 1840-х гадоў быў дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы.

У 1856 вярнуўся на радзіму, жыў у Варацэвічах, у Гродне (1862—63), потым перабраўся на Валынь, быў хатнім настаўнікам. Лепшыя яго музычныя творы, асабліва паланэзы, вылучаюцца маштабнасцю, разнастайнасцю і багаццем фактуры, віртуозным стылем, меладычнасцю; заўважаецца імкненне да «паэмнасці», што характэрна для эвалюцыі гэтага жанру ў сярэдзіне 19 ст. У некаторых творах пераважае песенны, лірычны пачатак. Стварыў і ў 1873 выдаў «Граматыку музыкі», высока ацэненую С.*Манюшкам*. Як мастак найбольш вядомы сваімі замалёўкамі архітэктурных помнікаў і мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю славутых людзей на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Польшчы, Літвы. Для іх стварэння ён шмат падарожнічаў па краіне. Замалёўкі рабіў алоўкам, акварэллю, сепіяй. Яго пейзажы адметныя паэтычнасцю і рамантычнай узнёсласцю. Архітэктурныя замалёўкі вызначаюцца строгай дакументальнасцю, таму маюць вялікую каштоўнасць для гісторыі архітэктуры. Толькі на Беларусі ім зроблена больш як 200 такіх малюнкаў. У гэтай серыі малюнкі беларускіх гарадоў Гродна (больш як 20 малюнкаў), Віцебска, Полацка, Мінска, Магілёва, Навагрудка, Пінска, Нясвіжа, Камянца, Сянна, Чашнікаў, Гомеля, Свіслачы, Друі, Асвеі, Пружан і інш. Гістарычную каштоўнасць маюць замалёўкі помнікаў, якія не захаваліся да нашага часу або часткова разбураны ці перабудаваны: замкаў у Крэве (Смаргонскі р-н), Гальшанах (Ашмянскі р-н), Міры (Карэліцкі р-н), Геранёнах (Іўеўскі р-н), Смалянах (Аршанскі р-н), Навагрудку, Пінску; Камянецкай вежы, Горы-Горацкага земляробчага інстытута, дома-крэпасці ў Гайцюнішках (Воранаўскі р-н); сядзіб і палацаў у Бешанковічах, Лагойску, Пружанах, Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н), Завоссі, Паланэчцы, Тутанавічах (Баранавіцкі р-н), Убелі (Чэрвеньскі р-н), Мядзведцы (Карэліцкі р-н), Хальчы (Веткаўскі

р-н), Скоках (Брэсцкі р-н), Раманаве (цяпер в. Леніна Горацкага р-на), Закозелі (Драгічынскі р-н), Моладаве (Іванаўскі р-н), Дукоры (Пухавіцкі р-н), Жамыслаўлі (Іўеўскі р-н), Ружанах (Пружанскі р-н), Жылічах (Кіраўскі р-н), Станькаве (Дзяржынскі р-н), Прылуках і Астрашыцкім Гарадку (Мінскі р-н), Высокім (Камянецкі р-н). Сярод замаляваных ім помнікаў культавага дойлідства: Сафійскі сабор і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Барысаглебскія цэрквы ў Навагрудку і Гродне; манастыры Ляшчынскі (пад Пінскам), базыльянскі ў Жыровічах (Слонімскі р-н), Троіцкі ў Слуцку; кляштары ў Полацку, Нясвіжы, Смілавічах (Чэрвеньскі р-н); касцёлы і кальвініцкія зборы ў Свіслачы, Кобрыне, Іванаве, Ішкалдзі (Баранавіцкі р-н), Гнезне (Ваўкавыскі р-н), Койданаве (цяпер г. Дзяржынск), Фашчаўцы (Шклоўскі р-н), Сар'і (Верхнядзвінскі р-н), Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н), Варанянах (Астравецкі р-н), Ружанах (Пружанскі р-н), Жалудок (Шчучынскі р-н) і інш. Паводле яго малюнкаў і акварэляў у 1873—83 мастаком А.Місуравічам створаны і выдадзены ў Варшаве літаграфіі (260 графічных аркушаў у 8 серыях). Вялікая колькасць малюнкаў О. зберагаецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве.

*Літ.:* Дробаў Л.Н. Напалеон Орда — мастак і збіральнік // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. №3; Якімовіч Ю.А. Беларуская архітэктура ў малюнках Напалеона Орды // Мастацтва Беларусі. 1983. №7; Ахвердова Е. Друг Мицкевича и Шопена // Неман. 1983. №6; Яе ж. Пачынальнікі беларускага піянізму // Мастацтва Беларусі. 1985. №2; Katalog rysunków architektonicznych ze zbiorów Museum Narodowego w Krakowie. Warszawa, 1975; Kaczanowska M. Napoleon Orda twórca widoków architektonicznych: Zarys życia i twórczości // Rocznik Museum Narodowego w Warszawie. Warszawa, 1968. T. 12.

*І.П.Хаўратовіч.*

# П

## ПАГАРЭЛЬСКІ Платон Мікалаевіч (1800—52)

Матэматык, педагог. Нарадзіўся ў Віцебскай губ. ў шляхецкай сям'і. Скончыўшы Віцебскую гімназію, вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Маскоўскага універсітэта, па сканчэнні якога ў 1822 атрымаў пасаду выкладчыка матэматыкі ва Універсітэцкім высакародным пансіёне. У 1827 абараніў дысертацыю «Пра спосабы вызначэння ўдзельнай вагі цел...» на ступень магістра фізіка-матэматычных навук. У 1829 старшы выкладчык фізікі і матэматыкі ў Маскоўскай губернскай гімназіі, з 1830 выкладаў аналітычную геаметрыю ў Маскоўскім выхаваўчым доме і ў жаночым аддзяленні Сіроцкага інстытута. Выкладанне матэматыкі на той час ускладнялася



*Н.Орда. Гейстуноўская сядзіба.*

адсутнасцю ў Расіі належных падручнікаў. П. пераклаў на рускую мову і дапоўніў «Курс чыстай матэматыкі...», складзены французскімі матэматыкамі Алезам, Білі і інш. для ваенных школ. Гэты дапаможнік атрымаў у Расіі шырокае распаўсюджанне і пазней неаднаразова перавыдаваўся. У 1836 П. прызначаны інспектарам Маскоўскай губернскай гімназіі. На гэтай пасадзе ён палепшыў якасць навучання новым замежным мовам у гімназіі. З 1839 П. — дырэктар зноў створанай Маскоўскай рэальнай гімназіі, а ў 1841 атрымаў пад сваё кіраўніцтва маскоўскія гарадскія і павятовыя вучылішчы і пачатковыя школы. Нязначныя матэрыяльныя сродкі, што выдзяляліся для новай гімназіі, рабілі становішча яе кіраўніка даволі складаным. Але дзякуючы іх рацыянальнаму выдаткаванню П. адолеў наладзіць працу. Для падрыхтоўкі выкладчыкаў па прадметах, якім не навучалі ў айчынных універсітэтах, П. накіраваў двух кандыдатаў у замежныя універсітэты. Для бібліятэкі гімназіі былі набыты найноўшыя і лепшыя творы, для вучэбных кабінетаў — мадэлі, машыны і інш. абсталяванне. Пры гімназіі быў адкрыты педагагічны клас, дзе праходзілі перападрыхтоўку тыя, хто жадаў атрымаць пасаду настаўніка пачатковых школ. З дапамогай экзаменаў і выпрабавальных урокаў П. адбіраў з ліку прэтэндэнтаў лепшых настаўнікаў. У выніку яго дзейнасці ўзровень выкладання ў пачатковых школах Масквы і наваколля значна павысіўся і Міністэрства народнай асветы патрабавала, каб пецярбургскія пачатковыя школы працавалі на ўзор маскоўскіх.

## **ПАГОСКІ** Аляксандр Фаміч (1816—74)

Педагог, пісьменнік, выдавец. Паходзіў з дваран Віцебскай губ. З маленства выхоўваўся ў арыстакратычнай сям'і былога магілёўскага губернатара І.Маркава. У 1829 паступіў у Вышэйшае вучылішча ў Пецярбургу, якое, аднак, у хуткім часе пакінуў. 16-гадовым юнаком быў залічаны на вайсковую службу. У 1843 выйшаў у адстаўку ў чыне падпаручніка і нейкі час працаваў камісіянерам у Дэпартаменце карабельных лясоў. Частыя службовыя раз'езды па Расіі далі яму магчымасць блізка пазнаёміцца з побытам рускага народа і назапасіць багаты матэрыял для творчай работы. Пасля скасавання дэпартамента П. ў 1859 звольнены з пасады і цалкам аддаўся літаратурнай і асветніцкай дзейнасці. Яшчэ ў 1858 яго запрасілі для выдання часопіса «Солдатская беседа», які ён рэдагаваў да 1863. У 1862 П. распачаў выданне часопіса «Народная беседа». Невялічкага фармату кніжкі часопіса апрача белетрыстычных твораў змяшчалі інфармацыю пра сучасныя падзеі грамадскага жыцця, афіцыйную хроніку і г.д. — даступнае народнаму разуменню чытанне. Сярод супрацоўнікаў часопіса і яго аўтараў былі А.М.Майкаў, М.А.Някрасаў, А.Сляпцоў і інш. пісьменнікі. У 1867 П. заснаваў новы часопіс — «Досуг и дело», які меў значны поспех (выдаваўся і пасля смерці рэдактара). У сваіх творах, напісаных жывой народнай мовай, праводзіў думку пра неабходнасць пісьменнасці і адукацыі для простага чалавека. Асвету ён лічыў галоўным звяном, што звязвае ўсіх людзей. Аўтар п'ес «Нядольны чалавек», «Лёгкая дабаўка», «Чаму быць, таго не мінуць» і інш. Поўны збор твораў П. выйшаў у 4 тамах у 1899—1901.

## **ПАДАБЕДАЎ** Іван Карнілавіч (? — 20.11.1860)

Музыкант, педагог. Нарадзіўся ў Шклове ў сям'і музыканта Карнілы Падабедава, прыгоннага графа С.Г.Зорыча. Сам быў прыгонным у нашчадка Зорыча Ф.Чарноевіча. У 1827 адпушчаны на волю і з гэтага часу 33 гады працаваў першым салістам-віяланчэлістам у тэатрах Пецярбурга. З 1834 адначасова выкладаў у Тэатральнай школе, з 1838 навучаў музыцы выхаванцаў Паўлаўскага корпуса. За беззаганую службу ў 1849 удастоены ганаровага патомнага грамадзянства. Дзве яго дачкі — Надзея і Кацярына — сталі драматычнымі артысткамі і з поспехам выконвалі першыя ролі ў драмах, камедыях і вадэвілях пецярбургскіх тэатраў.

*Літ.:* Александров К. Белорусская артистическая династия // Неман. 1981. №5.

## ПАДАЛІНСКІ Міхал (1783—1856)

Гравёр, педагог. Нарадзіўся на Аршаншчыне. Скончыў Віленскі універсітэт. З 1822 выкладаў малюнак у гімназіі, потым у Віленскім універсітэце. З 1830 працаваў у Мінскай гімназіі. З мастацкай спадчыны П. захаваліся афорты — партрэты канцлера Вялікага княства Літоўскага Л.Сапегі (паводле жывапіснага арыгінала 17 ст.), прафесараў Віленскага універсітэта В.Герберскага, І.Франка, В.Пелікана.

## ПАДБЯРЭСКІ (Друцкі-Падбярэскі) Рамуальд Андрэевіч (1812 ці 1813 — 10(22).10.1856)

Выдавец, публіцыст, фалькларыст. Нарадзіўся ў Вільні ў збяднелай шляхецкай сям'і. У 1830 скончыў Віленскую гімназію і рыхтаваўся да паступлення ў Віленскі універсітэт, але свой намер не змог ажыццявіць з тае прычыны, што па рашэнні царскіх улад універсітэт быў закрыты. У 1836 паступіў на юрыдычны факультэт Маскоўскага універсітэта, у якім вучыўся да 1840 і адначасова выконваў абавязкі адміністратара літоўскай ганддёвай суполкі ў Маскве. Там ён зблізіўся і падтрымліваў цесныя сувязі з славянафіламі А.А.Краеўскім і Ю.Ф.Самарыным, пад іх уплывам зацікавіўся рускай народнай творчасцю, перакладаў на польскую мову байкі і публікаваў іх у часопісе «Athenaeum» («Атэнеум»). У 1841 пакінуў Маскву і пераехаў у Пецярбург, дзе пазнаёміўся з Т.Шаўчэнкам. У Пецярбургу ён кіраваў дзейнасцю беларускага гуртка, сваёй грамадскай і выдавецкай дзейнасцю памагаў гуртаваць культурныя сілы Беларусі. У 1847 П. вярнуўся ў Вільню. Тут ён выдаваў літаратурна-навуковыя альманахі «Rocznik literacki» («Літаратурны штогоднік». Т. 1—4. Пб.; Вільня, 1843—49) і «Pamiętnik naukowo-literacki» («Навукова-літаратурны дзённік». Т. 1—6. Вільня, 1849—50), у якіх публікаваліся беларускія аўтары і матэрыялы, звязаныя з Беларуссю. Выступаў і сам у друку з допісамі пра культурныя падзеі, водгукамі на творы мастацтва, літаратурна-крытычнымі артыкуламі. У артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (1844) П. ўпершыню зрабіў агляд новай беларускай літаратуры. Ён аўтар фалькдорнаэтнаграфічнага нарыса «Беларускае вяселле» (1848), «Пісьмаў пра Беларусь» (1844). Выдаў зборнік вершаў Т.*Лады-Заблоцкага* «Паэзія» (1845), апублікаваў «Дыярыуш» С.Бельскага (Athenaeum. 1842. Т. 4). Вывучаў помнікі старажытнасці і гісторыі Беларусі. За антыўрадавую літаратурную дзейнасць у 1850 арыштаваны і высланы ў Архангельскую губ. Памёр у высылцы.

*Літ.:* Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 27—40.

## ПАДЧАШЫНСКІ Карл Іванавіч [7.11.1790—23.3(7.4).1860]

Архітэктар, педагог. Нарадзіўся ў в. Жырмуны Гродзенскага ваяводства (цяпер Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл.). Вучыўся ў Віленскім універсітэце, потым у Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. У 1817—19 працягваў вучобу ў Парыжы. У 1819—31 узначальваў кафедру архітэктуры Віленскага універсітэта, прафесар. Працаваў на Беларусі, у Літве і Польшчы. Паводле яго праектаў пабудаваны сядзібныя палацы ў в. Жылічы (1825) Магілёўскай вобл., у в. Яшуны (цяпер Літва; 1824—28), у Тускулёнісе (цяпер у межах Вільнюса, 1825); касцёл евангелічных рэфарматаў у Вільні (1830—35), гімназіі ў Слуцку (Мінская вобл.) і Камянец-Падольску (Хмяльніцкая вобл., 1829). Супрацоўнічаў з В.Стасавым пры будаўніцтве ў Пецярбургу палаца генерал-губернатара (1825—32). Рэканструяваў у Вільні інтэр'еры залаў бібліятэкі і прафесарскай чытальнай залы Віленскага універсітэта, капліцу кафедральнага сабора. Пабудовы П. адметныя элементамі позняга класіцызму. Аўтар падручніка «Асновы архітэктуры для акадэмічнай моладзі» (т. 1—3. 1828—57), публікацый і артыкулаў па праектаванні і архітэктуры.

## ПАКРОЎСКІ Фёдар Васілевіч (1855—13.8.1903)

Педагог, археолаг. Нарадзіўся ў в. Падпольскае Кастрамской вобл. Скончыўшы Пецярбургскую духоўную ака-



дэмію (1879), працаваў выкладчыкам Мінскага (1879), потым Віленскага духоўных вучылішчаў (з 1880). У 1884—1902 — хавальнік Віленскага музея старажытнасцей, склаў яго фондаапісанне. Праводзіў археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Кастрамской губ. Склаў археалагічныя карты Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губ. З 1893 член-карэспандэнт археалагічнага таварыства. Прымаў удзел у падрыхтоўцы і правядзенні 9-га археалагічнага з'езда ў Вільні (1893), на якім выступіў з паведамленнем «Курганы на мяжы сучаснай Літвы і Беларусі» (надрукавана ў «Працах дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні, 1893». Т. 1, 1895) і дакладам пра археалагічную экспедыцыю ў наваколлі Радашковіч. Аўтар працы «Да даследавання басейна Віліі ў археалагічных адносінах» (М., 1899).

## **ПАЛІНСКІ-ПЁЛКА** Міхаіл Мадэставіч (4.5.1785—19.8.1848)

Педагог, матэматык. Нарадзіўся ў Мінскай губ. ў дваранскай сям'і. Выхоўваўся ў Жыровіцкай гімназіі. У 1804 паступіў у настаўніцкую семінарыю пры Віленскім універсітэце. У 1808 скончыў яе, атрымаў ступень магістра філасофіі і выкладаў асновы матэматыкі студэнтам Віленскага універсітэта. З 1810 настаўнік матэматыкі і логікі ў Мінскай, з 1813 — у Віленскай гімназіях. У 1815 абараніў ступень доктара філасофіі. З 1816 выконваў абавязкі экстраардынарнага прафесара на кафедры алгебры і матэматыкі Віленскага універсітэта. У 1817 камандзіраваны на 2 гады за мяжу для ўдасканалення ведаў у матэматыцы. У 1819 прызначаны экстраардынарным, а ў 1822 — ардынарным прафесарам вышэйшай і прыкладной матэматыкі. З 1828 да 1832 дэкан фізіка-матэматычнага факультэта і прэфект настаўніцкай семінарыі пры Віленскім універсітэце. Пасля закрыцця універсітэта быў старшынёй часовага камітэта для ўладкавання ўсіх універсітэцкіх спраў. З 1836 у адстаўцы. Жыў у Вільні, дзе і памёр. Аўтар прац «Пачаткі плоскай трыганаметрыі», «Аб геадэзіі» (абедзве 1816), «Пачаткі геаметрыі для юнацтва» (1817), «Пра анабаптыстаў у Францыі» (1819) і інш. Быў членам Лукскай, Падуанскай і Фларэнцыйскай акадэмій, Парыжскага філаматычнага і Варшаўскага таварыстваў сяброў навук.

## **ПАЛОНСКІ** Леанід Аляксандравіч (1833—?)

Публіцыст, пісьменнік. Паходзіў з дваран Віленскага пав. Скончыў Пецярбургскі універсітэт. Служыў у канцылярыі ваеннага міністэрства, потым у канцылярыі міністра народнай асветы. Добра валодаў некалькімі замежнымі мовамі, вёў аддзел замежнай палітыкі ў шэрагу пецярбургскіх перыядычных выданняў. П. першы ўвёў у «Санкт-Петербургских ведомостях» штотыднёвы фельетон сталічнага жыцця (пісаў пад псеўданімам Іван Любіч). Вёў аддзел «Унутранага агляду» ў часопісе «Вестник Европы». Агульны кірунак гэтых «аглядаў» быў ліберальны. Са студзеня 1880 пачаў выдаваць уласную апазіцыйную да ўрада палітычную газету «Страна», якая двойчы была папярэджана за артыкулы пра неабходнасць памілавання М.Г.Чарнышэўскага і ў сувязі з замахам на жыццё Аляксандра II. У студзені 1883 газета часова прыпынена з забаронай выхаду яе надалей без папярэдняй цэнзуры, але так і не была адноўлена. З кастрычніка 1884 вёў «Унутраны агляд» у газеце «Русская мысль», у 1893—95 у часопісе «Северный вестник». Аўтар аповесцей, артыкулаў на гістарычныя і эканамічныя тэмы. Быў карэспандэнтам фран-

цузскіх газет «Temps» («Час»), «Revue Universelle» («Сусветны часопіс»). З канца 1880-х гадоў змяшчаў артыкулы на польскай мове ў пецярбургскай газеце «Kraj». Яго артыкул «Міцкевіч у рускай літаратуры» змешчаны ў выдадзеным гэтай газетай «Міцкевічаўскім зборніку».

## ПАЛЮТА Георгій Антонавіч (1820—?)

Вучоны медык, фалькларыст, педагог. Нарадзіўся ў Гродне, дзе скончыў гімназію і пачаў практычнае вывучэнне фармакалогіі. У 1838 паступіў у Віленскую медыка-хірургічную акадэмію, пасля закрыцця якой працаваў у Харкаўскім універсітэце. У 1849 атрымаў тут званне лекара, а крыху раней — ветэрынара. У 1851 П. прызначаны ад'юнктам Харкаўскага ветэрынарнага вучылішча па фізіялогіі і фармакалогіі, абараніў дысертацыю на званне магістра ветэрынарных навук. З 1873 ардынарны прафесар Харкаўскага ветэрынарнага інстытута. П. шмат разоў быў у навуковых камандзіроўках па Расіі і за яе межамі, вывучаў пашы хатняй жывёлы, даследаваў раслінасць і мясцовасці, з якіх распаўсюджваліся павальныя хваробы. У 1878 экспанаваў на Парыжскай выстаўцы калекцыю шкодных насякомых, выяўленых у авечай воўне. П. — член многіх камітэтаў і медыцынскіх таварыстваў; з 1887 старшыня халернага камітэта ў Харкаве, створанага па яго ініцыятыве. Аўтар навуковых прац «Хлараформ як проціяддзе супраць стрыхніну» (1852—54), «Хінін як засцерагальны сродак ад халеры» (1873), «Аб лячэнні халеры» (1889) і інш.

## ПАПОЎ Аляксандр Нічыпаравіч (каля 1840—18.8.1881)

Хімік, педагог. Нарадзіўся на Віцебшчыне. У 1865 скончыў Казанскі універсітэт. Вучань А.М.Бутлерава. Напачатку працаваў лабарантам у Казанскім універсітэце, потым прафесарам хіміі Варшаўскага універсітэта. Аўтар працы «Пра вокіслы кетонаў» (Казань, 1869). Эксперыментальна даказаў, што ўсе 4 адзінкі валентнасці вугляроднага атама тоесныя. Вывучаючы акісленне арганічных злучэнняў хромавай сумессю, П. прапанаваў метады вызначэння хімічнай будовы кетонаў, кіслот, спіртоў і вуглевадародаў (т. зв. «правіла Папова»).

*Літ.:* Б ы к о в Г.В. Очерк жизни и деятельности А.Н.Попова // Тр. Ин-та истории естествознания и техники. 1956. Т. 12.

## ПАРЦЯНКА Канстанцін Іванавіч (1793—1841)



Вучоны-медык, хірург, педагог. Нарадзіўся ў Мінскай губерні. Вывучаў медыцыну ў Віленскім універсітэце. У 1818 атрымаў ступень доктара медыцыны і працаваў ардынарным прафесарам і доктарам хірургічнай клінікі ў Віленскім ун-це. З 1822 у якасці ад'юнкта чытаў лекцыі па дэсмургіі (вучэнне аб медыцынскіх павязках), з 1824 — па агульнай тэрапіі і асновах медыцыны. З 1832 дырэктар хірургічнай клінікі. Мноства яго дробных артыкулаў па медыцыне надрукавана ў тагачасных польскіх газетах.

## ПАСТАРНАЦКІ Іван Раманавіч (1848—87)

Вучоны-медык, псіхіятар. Нарадзіўся ў Мінскай губ. ў сям'і святара. Вучыўся ў Кіеўскай гімназіі. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Пецярбургскай

медыка-хірургічнай акадэміі (1872). Служыў у варшаўскіх шпіталях, дзе займаўся псіхіятрыяй. Абараніў доктарскую дысертацыю (1876), у якой прааналізаваў новыя даследаванні па лакалізацыі мозга і абнародаваў уласныя назіранні адносна рухальных цэнтраў галаўнога мозга. У 1880 накіраваны для ўдасканалення за мяжу. У 1882 выбраны прыват-дацэнтам медыцынскага факультэта Варшаўскага універсітэта, потым атрымаў пасаду экстраардынарнага прафесара кафедры псіхіятрыі. Аўтар многіх прац на медыцынскія тэмы, у т. л. «Пра ўплыў алкаголю на арганізм чалавека» (1874), «Анатамічныя асновы вучэння пра душэўныя хваробы» (1882), «Прагрэсіўны параліч звар'яцелых», «Маральнае лячэнне псіхіятраў» (1883—87) і інш. Памёр у Варшаве.

## **ПАЎЛОВІЧ** Марцін Антоні (9.11.1789—24.7.1830)

Геолаг, асветнік. Нарадзіўся ў мястэчку Лагішын на Піншчыне ў сям'і кавалерыйскага паручніка. Навучаўся ў Віленскай гімназіі. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце. У 1808 атрымаў ступень кандыдата філасофіі. Працаваў настаўнікам Віленскай гімназіі, потым у Віцебску. У 1817 пераехаў у Варшаву. Дзеля грунтоўнага вывучэння мінералогіі і геалогіі Варшаўскі універсітэт накіраваў яго ў Парыж і Фрыбург. Пасля вяртання ў Варшаву П. прывёў у парадак мінералагічны кабінет універсітэта, потым загадваў ім. Для ваяводскіх гімназій склаў 12 калекцый мінералаў. Адначасова быў выкладчыкам мінералогіі ў Варшаўскім ліцэі, а потым прафесарам Аляксандраўскага універсітэта. Аўтар «Трактата аб уласцівасцях і зачатках базальтаў» (Варшава, 1822), апісання падарожжа ў Італію ў часопісе «Dziennik Warszawski» («Варшаўскі дзённік», 1825), артыкулаў у перыядычным друку. У 1829 выдаваў часопіс «Pamiętnik fizycznych, matematycznych i statystycznych umiejętnosci...» («Веснік фізічных, матэматычных і статыстычных ведаў»). Памёр у Варшаве.

## **ПАЎЛОВІЧ** Эдвард Баніфацы Францавіч (псеўд. Эдвард з-над Свіцязі, Ясенчык; 7.6.1825—10.2.1909)

Мемуарыст, мастак, асветнік. Нарадзіўся ў мяст. Тургелі (цяпер Літва). Дзяцінства правёў на Навагрудчыне. Вучыўся ў Жыровічах, Слоніме, Слуцку. У Вільні браў прыватныя ўрокі малявання ў К.І.*Русецкага* і К.Рыпінскага. У 1853 скончыў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. У 1853—56 падарожнічаў па Заходняй Еўропе, вынікам чаго стала брашура «Колькі слоў літвіна» (Парыж, 1857), у якой адстойваў правы беларускага сялянства на асвету. З 1859 выкладаў у Навагрудскай гімназіі, заснаваў у Навагрудку жаночы пансіён, нядзельную школу для простанароддзя, у 1860 — самадзейны тэатр, дзе быў рэжысёрам, дэкаратарам і акцёрам. Пісаў карэспандэнцыі ў віленскія, варшаўскія і парыжскія газеты. За ўдзел у паўстанні 1863—64 сасланы ў Петразаводск, потым Аланец, Екацярынаслаў. З 1867 зноў у Навагрудку. З 1870 у Львове. Падрыхтаваў і выдаў там каталогі фондаў музея Любамірскіх. У мемуарных творах «Успаміны з-над Віліі і Нёмана» (1882), «Успаміны. Навагрудак — турма — выгнанне» (1887), «З падарожжа па Літве» (1890), «З успамінаў. Год 1846» (1898), «З жыцця літвіна» і «Мае ўспаміны з часоў настаўнічання на Літве колькі дзесяткаў год назад» (1904), «Двое памятных сутак у Мінску, 1863 год» (1906) і інш. прыведзена багата звестак пра культурна-грамадскае і літаратурнае жыццё Беларусі 1840—60-х гадоў, пра побыт беларусаў, пра беларускага паэта Ф.*Савіча*. Аўтар працы «Погляд на становішча польскага выяўленчага мастацтва ў параўнанні з зарубежным мастацтвам» (1881). Як мастак працаваў пераважна ў жанры партрэта («Аўтапартрэт», 1853, і інш.), рабіў замалёўкі Навагрудка і яго ваколіц, маляваў абразы. Архіў П., у т.л. перапіска з жыхарамі Беларусі, зберагаецца ў бібліятэцы Польскай АН (Вроцлаў).

## **ПАЎСТАНСКІ** Адам Казіміравіч (1768—1848)

Педагог, правазнаўца. Паходзіў з Беласточчыны. Адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце. Тут жа ў 1797 абараніў ступень доктара філасофіі і прызначаны ад'юнктам. З лістапада 1798 выкладаў польскае і літоўскае цывільнае і крымінальнае права і судаводства. У 1802 атрымаў ступень доктара кананічных і рымскіх правоў. У 1804 прызначаны ў Камісію па складанні законаў, у 1808 — начальнікам аддзялення ўкраінскіх, польскіх і літоўскіх законаў, дзе працаваў да лютага 1821. Пазней займаў пасады прэзідыяльнага сакратара ў Міністэрстве юстыцыі Царства Польскага, прарэктара ліцэя св. Ганны ў Кракаве, старшыні Віленскага цэнзурнага камітэта. У 1823—38 працаваў дырэктарам вучылішчаў Беластоцкай вобласці. Член Навуковага таварыства пры Ягелонскім універсітэце, ганаровы член Віленскага універсітэта. Пасля выхаду ў адстаўку працаваў у Беластоцкім павеце, дзе і памёр.

Аўтар перакладу Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 на рускую мову, прац пра архівы Польшчы (Кракаў, 1824, 1825) і «Заўваг, якія адносяцца да бібліяграфіі Статута Літоўскага» (Вільня, 1829).

## **ПЕЛІКАН** Вацлаў Вацлававіч (11.9.1790—21.6.1873)

Медык, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў Слоніме ў шляхецкай сям'і. Скончыў курс філасофскіх навук у інстытуце пры Віленскім універсітэце (1809), Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію (1813). Працаваў рэпетытарам на кафедры хірургічнай паталогіі і клінікі ў Віленскім універсітэце. Багаты вопыт і выдатныя веды па хірургіі далі падставу для вызвалення П. ад экзаменаў і абароны дысертацыі на ступень доктара медыцыны і зацвярджэння міністрам асветы (1816). Працаваў прафесарам кафедры тэарэтычнай і практычнай хірургіі і хірургічнай клінікі Віленскага універсітэта (з 1817), у 1826—31 быў рэктарам, пазней — інспектарам Міністэрства ўнутраных спраў у Пецярбургу (1831—37), старшым урачом Маскоўскага ваеннага шпіталя (1838), дырэктарам медыцынскага дэпартамента Ваеннага міністэрства (1846). П. распрацоўваў пытанні ўдасканалення ваенных урачоў у хірургіі, нарыхтоўкі медыкаментаў з мэтаю эканоміі сродкаў гаспадарчым спосабам, перагледзеў і дапоўніў каталогі лекаў для шпіталяў і войск. У 1851—64 быў прэзідэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, у 1865—70 — старшынёй дзяржаўнага медыцынскага савета. У 1824 ён старшыня асобага камітэта для складання праекта новага статута вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі і новага статута Віленскага універсітэта, у 1829 — старшыня Галоўнай духоўнай семінарыі і Віленскага цэнзурнага камітэта. Быў абраны ганаровым членам Віленскага і Варшаўскага медыцынскіх таварыстваў, Курляндскага таварыства славеснасці і навук. Аўтар артыкулаў «Міялогія для навучэнцаў» (1823), «Аб прымяненні электрычнасці ў медыцыне», прац па лячэнні анеўрызмаў і інш., змешчаных у віленскім часопісе «Dziennik medycyny, chirurgii i farmacji» («Дзённік медыцыны, хірургіі і фармацэўтыкі»). Выдаў дапаможнік па анатоміі. Памёр і пахаваны ў сваім маёнтку Пеліканы ля возера Палік (Барысаўскі раён). *М.І.Дарошка.*

## **ПЕЛІКАН** Яўген Вацлававіч (1824—6.5.1884)

Урач, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Вільні. Сын В.*Пелікана.* Атрымаў добрую хатнюю адукацыю, авалодаў французскай, нямецкай, англійскай і італьянскай мовамі. У 1845 (паводле іншых звестак у 1846) скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Працаваў у Маскоўскім ваенным шпіталі, Медыцынскім дэпартаменце Ваеннага міністэрства, Пецярбургскім ваенна-сухапутным шпіталі. У 1847 абараніў доктарскую дысертацыю і праз год прызначаны ад'юнкт-прафесарам кафедры акушэрства ў Імператарскай медыка-хірургічнай акадэміі, дзе чытаў лекцыі па дзіцячых хваробах. У 1850 зацверджаны ад'юнкт-прафесарам кафедры акушэрства, жаночых і дзіцячых хвароб гэтай акадэміі. З 1848 загадваў рэдакцыяй «Военно-медицин-

ского журнала». У 1850 стаў выдаўцом газеты «Друг здравия». Па хадайніцтве канферэнцыі акадэміі ў 1853 прызначаны прафесарам кафедры судовай медыцыны, медыцынскай паліцыі і гігіены, выкладаў у акадэміі да 1858 судовую медыцыну і таксікалогію, удзельнічаў у распрацоўцы навуковых пытанняў па гэтых дысцыплінах, увёў у акадэміі навукова-доследны спосаб выкладання таксікалогіі. З мэтаю пашырэння ведаў і практычнага вопыту П. часта ездзіў у камандзіроўкі ў Маскву, на Каўказ, у Дынабург, Варшаву; у 1855 працаваў з прафесарам М.І.Піраговым на перавязачных пунктах Пецяргофа і Араніенбаўма. У 1861 прызначаны дырэктарам Медыцынскага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў. Працягваў навуковыя заняткі, чытаў лекцыі, у якасці прафесара-кансультанта працаваў пры Пецярбургскай бальніцы для чорнарабочых, друкаваў артыкулы пра свае даследаванні па таксікалогіі і судовай медыцыне. П. клапаціўся пра павышэнне ўзроўню адукацыі ўрачоў, пра паляпшэнне іх матэрыяльнага становішча, побыту, прымаў удзел у вырашэнні розных санітарных пытанняў. У 1860 паводле яго праекта ў Пецярбургу адкрыты Камітэт грамадскага здароўя. Публікацыі П. заснаваны на шматлікіх фізіялагічных доследах, садзейнічалі развіццю таксікалогіі, судовай медыцыны, эпідэміялогіі, далі пэўны матэрыял па фізіялогіі, хіміі. Яго найбольш грунтоўныя працы: «Некалькі пытанняў з нагоды распаўсюджвання халеры ў 1847» (1847), «Уступныя лекцыі па судовай медыцыне» (1853), «Аб гігіенічным прыгатаванні мяса, булёну і хлеба...» (1855), «Таксікалогія цыяністых металаў» (1865), «Паталагічная анатомія некаторых новаўтварэнняў» (1861), «Аб значэнні прыродазнаўчых навук для юрыспрудэнцыі» (1868) і інш. Перакладаў з французскай і іншых моў. Сабраў вялікую бібліятэку, якая пасля яго смерці перададзена Ваенна-медыцынскай акадэміі.

*Літ.:* Европин А.К. Исторический очерк кафедры судебной медицины с токсикологией. Спб., 1898. С. 121—141; Языков Д.Д. Обзор жизни и трудов покойных русских писателей, умерших в 1884. Спб., 1888. Вып. 4. С. 69.

## **ПЕТРАЖЫЦКІ** Леў Іосіфавіч (13.4.1867—15.5.1931)

Прававед і сацыёлаг, адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў псіхалагічнай школы права. Нарадзіўся ў радавым маёнтку Калантаева Віцебскай губ. Скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага універсітэта і семінарыю, заснаваную ў Берліне з мэтай падрыхтоўкі прафесараў рымскага права для Расіі. Доктар юрыдычных навук з 1857. У 1898—1918 кіраваў кафедрай энцыклапедыі і філасофіі права ў Пецярбургскім універсітэце. Актыўна ўдзельнічаў у акадэмічным саюзе і партыі Народнай свабоды; быў дэпутатам 1-й Дзяржаўнай думы і за падпісанне Выбаргскай адозвы быў прыгавораны да трох месяцаў турэмнага зняволення. З 1918 узначальваў кафедру сацыялогіі Варшаўскага універсітэта. Памёр у Варшаве.

Шырокая эрудыцыя, багацце думак і тонкая крытычнасць яго твораў, на якія звярнулі ўвагу нават еўрапейскія вучоныя, спалучаліся са страснасцю і непахіснасцю ў абароне сваіх поглядаў. Уласную канцэпцыю П. будаваў толькі на грунце звычайнай жыццёвай этыкі і псіхалогіі, якія, на яго думку, могуць даць заканадаўцу сродкі ўздзеяння на паводзіны грамадзян. На яго думку, рэальна існуюць толькі псіхалагічныя працэсы, астатнія ж сацыяльна-гістарычныя ўтварэнні з'яўляюцца толькі знешняй праекцыяй — «эмацыянальнымі фантазіямі». Лічыў нездавальняючым падзел псіхічных з'яў на пазнанне, пачуццё і волю, бо першыя два феномены — пасіўныя і толькі трэці — актыўны. Таму П. ўвёў паняцце эмоцый, якія маюць двухбаковы, актыўна-пасіўны характар (напр., голад, смага і г.д.). Паводле П., эмоцыі кіруюць чалавечымі паводзінамі. Сярод розных эмоцый асноўную ролю ён адводзіў эмоцыям этычным, якія падзяляюцца на маральныя і прававыя. Маральныя эмоцыі ён лічыў імператыўнымі, гэта значыць абавязковымі, прававыя характарызаваў як неабходную сувязь абавязку і права. Развіццё права, маралі, эстэтычных з'яў і нават пераход ад прававой сістэмы рабства да права свабоднай працы і канкурэнцыі тлумачыў «прагрэсам народнай псіхікі».

У сваіх творах па тэорыі і філасофіі права П. падзяляў права на інтуітыўнае і пазітыўнае. Да апошняга ён адносіў права, якое пануе ў гэты час у грамадстве, а частку яго, што прызнаецца дзяржавай, называў афіцыйным правам. Замест падзелу на прыватнае і публічнае права П. прапанаваў адрозніваць сацыяльна-службовае права, або права цэнтралізацыі, звязанае з уяўленнем пра грамадскае служэнне, і права дэцэнтралізацыі, свабоднае ад ідэі сацыяльнага служэння. Адсюль вынікала асаблівае значэнне той звычайнай палітыкі права, якая заклікана ачысціць псіхалогію людзей ад антысацыяльных схільнасцей і накіроўваць іх паводзіны ў бок агульнага дабра. Менавіта палітыка права можа весці чалавецтва ў тым кірунку, куды яно рухаецца бессвядома, эмпірычна. Паводле П., дзяржава, як і ўсе іншыя грамадскія адносіны, служыць праву, г. зн. агульнаму дабру, забяспечвае ажыццяўленне пэўнай сістэмы прававых норм і змяняецца ў адпаведнасці з яе патрэбнасцямі.

*Тв.:* Права добросовестного владельца на доходы с точки зрения догмы и политики гражданского права. Спб., 1897; Акционерная компания. Спб., 1898; Очерки философии права. В. 1. Спб., 1900; О мотивах человеческих поступков... Спб., 1904; Основы эмоциональной психологии. Спб., 1906; Введение в изучение права и нравственности. Эмоциональная психология. 3 изд. Спб., 1908; Теория права и государства в связи с теорией нравственности. Т. 1—2. Спб., 1909—10.

*Літ.:* Социологическая мысль в России. Л., 1978; З о р ь к и н В.Д. Позитивистская теория права в России. М., 1978.

## **ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ** Іван Міхайлавіч

Духоўны пісьменнік, педагог, гісторык магілёўскай епархіі, этнограф. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Казанскай духоўнай акадэміі. Выкладаў у Магілёўскай духоўнай семінарыі. Аўтар артыкулаў «Пра мнагажонства ў старажытных яўрэяў» (1884), «Феадосій Васілевіч, епіскап магілёўскі» (1887), «Гістарычныя звесткі аб стане праваслаўя ў магілёўскай епархіі пасля смерці епіскапа магілёўскага Феадосія Васілевіча з 1678 да 1699 гг.», «Серапіён Палхоўскі, епіскап магілёўскі, 1699—1704 гг.» (абодва 1888), «Сільвестр II, кн. Святаполк Чацвярцінскі, епіскап магілёўскі» (1893).

## **ПЕТРАШКЕВІЧ** (Pietraszkiewicz) Ануфрый (1793—7.12.1863)

Паэт. Нарадзіўся ў Шчучыне. Скончыў павятовую школу ў Шчучыне, Віленскі і Варшаўскі універсітэты. У 1816 кандыдат, у 1821 магістр філасофіі. У 1822—24 працаваў у архіве Радзівілаў у Вільні. Адзін з заснавальнікаў тайнага студэнцкага таварыства філаматаў, распрацаваў структуру арганізацыі «Прамяністых», за што высланы ў Маскву (у 1825—31 працаваў бібліятэкарам ва універсітэце), потым — у Табольск (1832—60). У 1860 вярнуўся ў Вільню. У часопісе «Tygodnik Wileński» («Віленскі штотыднёвік», 1817. №61, 68) надрукаваў сентыментальныя вершы і гістарычныя думы ў духу рамантызму («Вёска», «Беспадстаўная скарга», «Роздум ля развалін замка Гедзіміна» і інш.). Аўтар вершаванай фальклорна-этнаграфічнай замалёўкі «Ідылія Купала», заснаванай на беларускіх народных легендах і абрадах. Збіраў матэрыялы пра таварыства філаматаў (выдадзены ў 1913—34 і ў 1973 як архіў філаматаў). Сябраваў з Я.*Чачотам*, падтрымліваў сувязі з А.*Міцкевічам*, Т.*Занам*. Апошні расказаў пра яго ў аповесці «Свет і каханне».

*Літ.:* Na zesłaniu. Wrocław, 1973.

## **ПЛУГ** Адам (сапраўднае прозвішча П я т к е в і ч Антоні Антонавіч; 23.10.1823—2.11.1903)

Пісьменнік і журналіст. Нарадзіўся ў в. Замосце Слуцкага павета ў шляхецкай сям'і. У 1831 яго бацька атрымаў пасаду падлоўчага ў радзівілаўскіх уладаннях, і сям'я Пяткевічаў пераехала ў в. Жукаў Барок (цяпер Стаўбцоўскі раён). У 1835—42 П. вучыўся ў Слуцкай гімназіі. У час летніх канікулаў у 1840 пазнаёміўся з сынам арандатара суседняга прынёманскага фальварка Залуча Людвікам Кандратовічам, які пазней выступаў у літаратуры пад псеўданімам *Сыракомля*. Ма-

ладыя людзі адразу ж адчулі ўзаемную прыхільнасць, памкнуліся адзін да аднаго, і іх першыя спробы пяра выліліся ва ўзаемных паэтычных прысвячэннях («Гара Замчышча» П. і «Залом» Сыракомлі). Скончыўшы гімназію, П. працаваў хатнім настаўнікам на Падоллі. У 1845—46 вучыўся на філасофска-літаратурным факультэце Кіеўскага універсітэта. Недахоп матэрыяльных сродкаў вымусіў П. спыніць вучобу і вярнуцца да настаўніцкай працы ў Джурыне (Падолле), дзе ўсё больш і больш увагі стаў надаваць мастацкай творчасці — пісаў паэтычныя гутаркі-ўспаміны («Жукаў Барок», «Родная песенька» і інш.) і рамантычна-дыдактычную прозу («Споведзь», «Дзетазабойца» і інш.), скіраваную сваім зместам да мясцін маладосці (дэбют П. ў друку адбыўся толькі ў 1847). У 1849 П. напісаў на беларускай мове 4 апавяданні і адну легенду. У 1856 ён прыязджаў у Вільню, быў у Мінску, пазнаёміўся з В.*Дуніным-Марцінкевічам*, у кастрычніку наведаў Сыракомлю ў фальварку Барэйкаўшчына. Ажаніўшыся ў 1857 з Людвікай Сержпутоўскай, узяў у арэнду в. Паток каля Вінніцы, але ў 1859 адмовіўся ад арэнды і пераехаў у Жытомір. Там разам з жонкай заснаваў мужчынскую гімназію з пансіёнам, аднак у 1861 улады пазбавілі іх правоў утрымліваць гэтую асветную ўстанову. У 1862 жонка П. была арыштавана за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях і зняволена ў Оўручы, а ў 1864—66 і сам П. знаходзіўся пад арыштам у Жытоміры, потым у Кіеве. Не маючы магчымасці з-за палітычнай ненадзейнасці знайсці працу на больш-менш працяглы перыяд, ён часта мяняў месцы жыхарства, займаўся гувернёрскай працай. Асаблівую вастрыню яго сацыяльная неўладкаванасць набыла пасля смерці жонкі (1868). У снежні 1874 П. прыняў прапанову выдаўца В.Левенталя пераехаць у Варшаву і супрацоўнічаць у новым часопісе. З 1875 да 1879 быў сурэдактарам, а ў 1879—90 рэдактарам часопіса «Kłosy» («Каласы»), дзе друкаваў шмат матэрыялаў пра Беларусь. Калі часопіс спыніў сваё існаванне, П. стаў галоўным рэдактарам «Вялікай усеагульнай ілюстраванай энцыклапедыі» (1891—1903), адначасова працаваў літаратурным кіраўніком часопіса «Wędrowiec» («Вандроўнік», 1894—99), уваходзіў у склад газеты «Kurjer Warszawski» («Варшаўскі веснік», 1899—1903), шмат зрабіў для развіцця польскай журналістыкі і выхавання літаратурнай моладзі. У Варшаве П. быў членам многіх дабрачынных, навуковых і літаратурных таварystваў і камітэтаў, прычыніўся да арганізацыі беларускага літаратурна-асветніцкага гуртка. У варшаўскім касцёле св. Крыжа ў 1905 устаноўлены бюст П.

*Літ.:* Мальдзіс А. Адам Плуг // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. *У.І.Мархель.*

## ПЛЯТЭР Эмілія Францаўна (13.11.1806—23.12.1831)

Беларуская фальклырыстка, удзельніца паўстання 1831 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Нарадзілася ў Вільні. Мела добрую хатнюю адукацыю. Жывучы на Віцебшчыне ў сваякоў, збірала і апрацоўвала беларускія народныя песні. Віртуозна валодала жанрам галашэнняў, выконвала на фартэпіяна народныя мелодыі, захаплялася беларускай харэаграфіяй, сама танцавала народныя танцы. Спрабавала пісаць беларускія вершы, у тым ліку стылізаваныя пад народныя галашэнні. Як сведчаць сучаснікі, яна ўсёй душой імкнулася да беларускага ладу, ведала яго бядоты і нястачы і спачувала яму, спявала яго песні, шчодра плаціла за дастаўку фальклорных матэрыялаў. У 1829 разам з маці зрабіла падарожжа ў Варшаву і Кракаў. У час паўстання 1831 разам са сваяком Ц.Плятэрам арганізавала атрад паўстанцаў, сярод якіх была значная колькасць дзяўчат. У ліку іншых паўстанцкіх груповак атрад прымаў удзел у бойках супраць царскіх войск (пад Радзівілішкамі, Вільняй, Шаўлямі і ў інш. месцах). За смеласць і рашучасць П. у баявых дзеяннях камандаванне паўстанцкімі сіламі прызначыла яе ганаровым камандзірам роты ў пяхотным палку і прысвоіла званне капітана. Пры адыходзе паўстанцаў у Прусію захварэла і памерла.

Слава аб подзвігах П. разышлася па краінах Заходняй Еўропы, у Францыі яе параўноўвалі з Жаннай д'Арк. Яна апета ў многіх творах літаратуры і мастацтва, паэту А.Міцкевічу яе вобраз

паслужыў прататыпам гераіні ў вершы «Смерць палкоўніка» (1832). Імем П. называўся жаночы батальён у дывізіі Войска Польскага часоў 2-й сусветнай вайны.

*Літ.:* Bruchnalski W. Emilia Platerówna jako folklorystka // Lud. 1906. T. 12.

## ПРАХАЎ Адрыян Віктаравіч (16.3.1846—14.5.1916)

Гісторык мастацтва, археолаг і мастацкі крытык, педагог. Нарадзіўся ў Мсціславе. У 1867 скончыў гістарычна-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта і ў хуткім часе пасланы за мяжу. Слухаў лекцыі ў Мюнхене, вывучаў творы выяўленчага мастацтва ў Парыжы, Лондане, Берліне, Вене, у гарадах Італіі. За дысертацыю «Аб рэстаўрацыі групы ўсходняга франтона Эгінскага храма ў Афінах» (1870) атрымаў у 1873 ступень магістра і пасаду дацэнта Пецярбургскага універсітэта, дзе выкладаў гісторыю мастацтваў. З 1875 выкладаў таксама гісторыю і тэорыю прыгожых мастацтваў у Акадэміі мастацтваў. У 1875—78 рэдагаваў ілюстраваны часопіс «Пчела». У 1879 абараніў доктарскую дысертацыю «Дойлідства старажытнага Егіпта». Захапіўшыся вывучэннем старажытных помнікаў хрысціянскага перыяду ў Расіі, П. у 1880—82 даследаваў і замалёўваў рэшткі мазаікі і насценнага жывапісу ў Сафійскім саборы і фрэскі Кірылаўскай царквы ў Кіеве. З 1886 даследаваў Успенскі сабор у г. Уладзіміры-Валынскім і іншыя старажытныя храмы Валыні, адкрыў і скапіраваў цікавыя фрэскі ў царкве Міхайлаўскага манастыра ў Кіеве. У 1881—82 вандраваў па Егіпце, Сірыі, Грэцыі і Еўрапейскай Турцыі, у 1886—87 зноў наведаў Італію і Блізкі Усход. У 1887—97 на кафедры гісторыі прыгожых мастацтваў Кіеўскага універсітэта. У 1884—86 кіраваў унутраным аздабленнем Уладзімірскага сабора ў Кіеве, у 1896 паводле ўласнага малюнка аднавіў ракію для захоўвання мошчаў Феадосіі Угліцкай у Чарнігаве. У 1897 вярнуўся ў Пецярбургскі універсітэт. Аўтар прац «Крытычныя даследаванні па гісторыі грэчаскіх мастацтваў» (1872), «Крытычныя назіранні за помнікамі старажытнага мастацтва...» (1879), «Кіеўскае мастацтва X, XI, XII ст. ...» (1883, каталог выстаўкі) і інш.

## ПРЖАВАЛЬСКІ (Прывальскі) Мікалай Міхайлавіч [31.3(12.4).1839—20.10(1.11).1888]

Падарожнік і географ, даследчык Цэнтральнай Азіі, асветнік, ганаровы член Пецярбургскай Акадэміі навук (з 1878), генерал-маёр. Нарадзіўся ў в. Кімбарава Смаленскай губ. ў сям'і дробнага памешчыка, які паходзіў з Віцебшчыны. У 1855 П. скончыў гімназію ў Смаленску і паступіў на вайсковую службу. У 1861—63 ён слухач Акадэміі Генеральнага штаба ў Пецярбургу. У гэтыя гады ім складзены «Ваенна-статыстычны агляд Прыамурскага краю», які стаў падставай для абрання П. ў 1864 членам Рускага геаграфічнага таварыства, з якім у далейшым была звязана ўся яго дзейнасць. У 1864—67 выкладаў геаграфію і гісторыю ў юнкерскім вучылішчы ў Варшаве. Знаёмства ў 1867 з П.П.Сямёнавым-Цян-Шанскім паўплывала на фарміраванне П. як вучонага з шырокім кругаглядам. На працягу 1867—88 П. ажыццявіў 5 вялікіх экспедыцый: у 1867—69 Усурыйскую, у 1870—73 Мангольскую, у 1876—77 Лабнорскую і Джунгарскую, у 1879—80 першую Тыбецкую, у 1883—85 другую Тыбецкую. Раптоўная смерць перашкодзіла П. здзейсніць пачатую ім у 1888 першую экспедыцыю па Цэнтральнай Азіі.

Галоўная заслуга П. — даследаванне Цэнтральнай Азіі. Ён некалькі разоў перасёк Манголію, быў у Паўночным Кітаі, у пустынях Гобі, Алатаня і Ардоса, у гарах Наньшаня, Куэнь-Луня, Тыбета. У Заходнім Кітаі ён даследаваў Цайдам, пустыню Такла-Макан і бясссцёкавае блукаючае возера Лабнор, Джунгарыю і горы ўсходняга Цянь-Шаня. У выніку падарожжаў П. зроблена шмат выдатных навуковых адкрыццяў. Усе свае маршруты П. паклаў на карту; даў характарыстыку прыродных умоў буйных фізіка-геаграфічных абласцей Цэнтральнай Азіі па элементах: рэльеф, клімат, рэкі і азёры, раслінны і жывёльны свет. П. даказаў, што пустыня Гобі не ўзвышша ў адносінах да навакольных гор, а велізарная чаша з няроўным дном. Вы-

значыў, што паўночная мяжа Тыбецкага нагор'я фактычна знаходзіцца на 300 км далей на поўнач. П. ўпершыню абследаваў і зрабіў апісанне хрыбтоў Куэнь-Луня, вызначыў, што Наньшань з'яўляецца не адным хрыбтом, а сістэмай. Ім адкрыты і ўпершыню апісаны хрыбты Бурхан-Буда, Гумбальта, Рытэра, Аркатаг (Пржавальскага) і інш. Ён дасягнуў вярхоўяў вялікіх кітайскіх рэк Янцзыцзян і Хуанхэ, даў першую кліматалагічную характарыстыку Цэнтральнай Азіі; паведаміў шмат новых звестак па біялогіі і экалогіі расліннага і жывёльнага свету Цэнтральнай Азіі; сабраў і сістэматызаваў выдатныя калекцыі флоры і фауны, гербарыі з 15—16 тыс. раслін, з якіх еўрапейскімі батанікамі ўпершыню апісаны 218 новых відаў і 7 родаў; апісаў вялікую калекцыю жывёл (702 млекакормячыя, 5010 птушак, 1200 паўзуноў і земнаводных, 643 рыбы), у якой былі дзесяткі новых відаў, у тым ліку дзікі вярблюд і дзікі конь, які стаў вядомы як конь Пржавальскага. Зробленыя ім астранамічныя і метэарагалічныя назіранні, заалагічныя і батанічныя зборы апрацоўваліся шматлікімі вучонымі. Даследаванні П. адкрылі новы перыяд навуковых экспедыцый у Цэнтральную Азію. Працы П., напісаныя з вялікім літаратурным талентам, у кароткі час набылі шырокую вядомасць, былі перакладзены і выдадзены на многіх замежных мовах і атрымалі сусветнае прызнанне: П. быў узнагароджаны медалямі шматлікіх рускіх і замежных навуковых таварыстваў, абраны ганаровым членам Рускага геаграфічнага таварыства (1870).

У 1891 у яго гонар Рускае геаграфічнае таварыства ўстанавіла сярэбраны медаль і прэмію імя П.; у 1946 устаноўлены залаты медаль імя П., які прысуджаецца геаграфічным таварыствам. Імем П. названы горад, у якім ён памёр (б. Каракол), адкрыты ім хрыбет у сістэме Куэнь-Луня, ледавік на Алтаі, мыс на востраве Ітуруп (Курыльскія астравы), мыс воз. Бенета (Аляска) і шэраг відаў жывёл і раслін, якія ён адкрыў у час падарожжа па Цэнтральнай Азіі.

*Тв.:* Монголия и страна тангутов. Трехлетнее путешествие в Восточной нагорной Азии. М., 1946; От Кульджи за Тянь-Шань и на Лоб-Нор. М., 1947; От Кяхты на истоки Желтой реки: Исслед. северной окраины Тибета и путь через Лоб-Нор по бассейну Тарима. М., 1948.

*Літ.:* Мурзаев Э. Н.М.Пржевальский. 2 изд. М., 1953; Битюков Г.С. Великий путешественник и географ Н.М.Пржевальский. Фрунзе, 1962.

## ПРЫБЫТАК (Пржыбытак) Станіслаў Аляксандравіч (1852—?)

Медык, хімік, педагог. Скончыў Мінскую класічную гімназію (1869), Пецярбургскі універсітэт (1874), Ваенна-медыцынскую акадэмію (1877). Прымаў удзел у вайне супраць Турцыі як палкавы ўрач. За дысертацыю «Некаторыя прадукты акіслення шмататамных спіртоў» атрымаў ступень доктара медыцыны. У 1881—89 лабарант аддзялення анатамічнай хіміі Пецярбургскага універсітэта. У 1889 атрымаў ступень магістра хіміі і выбраны на пасаду ад'юнкт-лабаранта ў Імператарскай ваенна-медыцынскай акадэміі. З 1891 выкладчык акадэміі, загадчык гарадской санітарнай лабараторыі ў Пецярбургу. Аўтар шматлікіх артыкулаў па хіміі ў перыядычным друку: «Аб арганічных двухвокісах» (1887, магістэрская дысертацыя), «Даследаванне хімічнага саставу лістоў каўказскіх чарніц» (1889), «Аб дыоксіадыпінавай кіслаце» і інш.

## ПТАШЫЦКІ Іван Львовіч (1854—?)

Вучоны-матэматык. Брат С.Л.*Пташыцкага*. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Віленскай гімназіі, вышэйшую — у Пецярбургскім ун-це, дзе стаў магістрам (1881), а потым доктарам (1888). У 1880—90 быў выкладчыкам Пецяргофскай прагімназіі, у 1882—97 — прыват-дацэнтам Пецярбургскага універсітэта. З 1890 чытаў вышэйшую матэматыку ў Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі, з 1897 экстраардынарны прафесар Пецярбургскага універсітэта. Аўтар прац «Пра інтэграванне ў канчатковым выглядзе ірацыянальных дыферэнцыялаў» (1881), «Пра інтэграванне эліптычных дыферэнцыялаў» (1888) і інш.

## **ПТАШЫЦКІ** Станіслаў Львовіч (12.4.1853—20.12.1933)

Філолаг, гісторык. Брат І.Л.*Пташыцкага*. Нарадзіўся пад Масквой. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. У 1878 скончыў Пецярбургскі універсітэт і быў прызначаны перакладчыкам пры Сенаце. У 1883—84 знаходзіўся ў камандзіроўцы за мяжой, дзе вывучаў славянскую філалогію і архіўную справу. У 1884 прызначаны начальнікам архіва Метрыкі вялікага князя літоўскага і зрабіў апісанне гэтага архіва (1887). З 1894 прыват-дацэнт Пецярбургскага універсітэта на кафедры славянскай філалогіі. Яго навуковыя працы па польскай гісторыі і літаратуры, гісторыі Вялікага княства Літоўскага і гісторыі ўзаемаадносін Польшчы з Расіяй: «Іван Фёдараў, маскоўскі кнігадрукар. Знаходжанне яго ў Львове» (1884), «Апісанне кніг і актаў Літоўскай метрыкі» (1887), «Да пытання пра выданні і каментарыі Літоўскага статута» (1893), «Сярэдневяковыя заходнееўрапейскія аповесці...» (1897) і інш. Выдаваў помнікі старажытнай польскай і рускай пісьменнасці, сярод якіх «Зборнік узораў славяна-рускіх старадрукаў» (1895). Выступаў з артыкуламі ў перыядычным друку.

## **ПЯТКЕВІЧ** Антоні, гл. ***Плуг* Адам**

## **ПЯТНІЦКІ** Іван Канстанцінавіч (1856—?)

Духоўны пісьменнік, выдавец. Адукацыю атрымаў у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Працаваў выкладчыкам у Магілёўскай духоўнай семінарыі, быў рэдактарам «Могилевских епархиальных ведомостей». Аўтар працы «Тупічэўскі манастыр Магілёўскай епархіі» (Магілёў, 1889) і інш. Пад яго рэдакцыяй выдадзены «Словы і прамовы Георгія Каніскага, архіепіскапа магілёўскага» (Магілёў, 1892). Пад назвай «Рускі сектант у сваёй гісторыі» апублікаваў раскольніцкі рукапіс секты вандроўнікаў, або бегуноў, са сваёй прадмовай, пасляслоўем і заўвагамі (1884).

# Р

## **РАБІНОВІЧ** Ізраіль Міхаіл (?—1893)

Вучоны талмудыст, філолаг. Нарадзіўся на Гродзеншчыне. З 1865 жыў у Парыжы. Аўтар артыкулаў па філалогіі і гістарычных даследаванняў. На падставе аналізу зместу Талмуда напісаў таксама некалькі твораў па крымінальным і цывільным талмудычным праве: «Права крымінальнае Талмуда» (1876), «Права цывільнае Талмуда» (1877—80, на франц. мове).

## **РАВІНСКІ** Вікенцій Паўлавіч (1786—1855)

Паэт і драматург, найбольш верагодны аўтар беларускай паэмы «Энеіда навыварат». Нарадзіўся ў Духаўшчынскім раёне Смаленскай вобл. Прафесійны ваенны, палкоўнік. Удзельнік войнаў з французамі 1805—07, Айчыннай вайны 1812, паходу рускай арміі ў Еўропу. У 1816 выйшаў у адстаўку. У 1826—33 быў на цывільнай службе ў Арэнбургскай губ., у Пензе і Кастраме. Сістэматычнай адукацыі не атрымаў, але самастойна набыў разнастайныя веды: валодаў французскай і нямецкай мовамі, цікавіўся гісторыяй і літаратурай. Поглядамі быў блізкі да дзекабрыстаў. Як дасціпны чалавек згадваецца ва ўспамінах земляка — кампазітара М.Глінкі. Ананімная пародыйна-сатырычная паэма «Энеіда навыварат» — адзін з першых буйных твораў беларускай літаратуры новага часу — магла быць ім напісана ў вёсцы ці тады, калі ён стажыраваўся ў Смаленскай удзельнай канторы (пасля 1812, але не пазней як у пачатку 1830). Большасць сучасных даследчыкаў лічаць, што гэты твор належыць менавіта пяру Р. Паэма напісана ў жанры травесці (г. зн. набліжана да пародыі), парадзіруе паэму «Энеіда» старажытнарымскага паэта Вергілія і прымыкае да травесційных «Энеід», якія пачынаючы з 17 ст. ўзнікалі ў многіх еўрапейскіх літаратурах як дэмакратычная рэакцыя на класіцызм. Найбліжэйшымі ўзорамі для аўтара, вера-

годна, былі адпаведныя ўкраінскі (І.Катлярэўскага) і рускі (М.Осіпава) творы. У сваіх папярэднікаў аўтар запазычыў сюжэт (прыгоды легендарнага героя Энея — заснавальніка дзяржавы ў старажытным Лацыуме), але стварыў арыгінальны твор, напоўнены рэаліямі беларускага жыцця часоў прыгонніцтва. Паэма мае выразную дэмакратычную накіраванасць. Трыянцаў — спадарожнікаў Энея — аўтар надзяляе рысамі прыгонных сялян, паказвае іх кемлівымі, працавітымі і жыццелюбівымі. Пад выглядам старажытных антычных багоў (Юнона, Эол) і некаторых іншых персанажаў (Дыдона) выводзяцца памешчыкі-прыгоннікі і іх памагатыя. Са шчырым захапленнем апавядае аўтар пра таленавітае ўсёўмельства прыгонных, імкнецца да праўдзівага паказу іх жыцця, дэманструючы дасканалае веданне беларускага фальклору, вялікія выяўленчыя магчымасці беларускай мовы. Паэма адыграла вялікую ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры і ўваходзіць у скарбніцу беларускай паэзіі.

Р. з'яўляецца таксама аўтарам вершаванай камедыі «Шлюб па няволі», сатыры на аракчэеўскія парадкі «Вялікі муж субардынацыі», вершаў, у якіх высмейвалася самадурства паноў, апісаліся камічныя эпізоды з жыцця памешчыкаў, даваліся нататкі па гісторыі. Тэксты гэтых твораў распаўсюджваліся ў рукапісах і цяпер невядомыя.

*Літ.*: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971; Яго ж. Пошукі імя. Мн., 1978.

## **РАВІЧ** Іосіф Іпалітавіч (сапр. прозвішча Гіршовіч Мойша) [4(16).4.1822—9(21).9.1875]

Вучоны-ветэрынар, педагог. Нарадзіўся ў Слуцку. У 1850 скончыў курс ветэрынарнага аддзялення Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі са ступенню ветэрынара. У 1856 на званне магістра ветэрынарных навук абараніў дысертацыю «Пра востры рэўматызм суставаў у коней». У 1859 па выніках конкурсу прызначаны прыват-дацэнтам акадэміі на кафедры зоапаталогіі і зоафізіялогіі, а ў наступным годзе накіраваны на 2 гады на вучобу за мяжу. Пасля вяртання выбраны экстраардынарным, а ў 1867 ардынарным прафесарам. У 1871 узначаліў створаны па яго прапанове часопіс «Архив ветеринарных наук». У 1872 прызначаны загадчыкам ветэрынарнага аддзялення акадэміі. Галоўныя навуковыя працы: «Агульная зоапаталогія» (1861), «Курс вучэння пра павальныя і заразныя хваробы свойскай жывёлы», «Поўны курс іпалогіі» і інш. Шэраг яго артыкулаў надрукаваны ў тагачасным перыядычным друку.

## **РАДЗЕВІЧ** Міхаіл Васілевіч (1838—пасля 1917)

Літаратурны і тэатральны крытык, педагог, этнограф. Нарадзіўся ў Мазыры ў сям'і святара. У 1859 скончыў Пецярбургскую духоўную семінарыю, потым 2 гады вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Не скончыўшы яе курс, перайшоў у Пецярбургскі універсітэт. У 1862 атрымаў пасведчанне на званне настаўніка рускай мовы і славеснасці ў жаночых гімназіях. З мая 1864 працаваў у навучальных установах Віленскай навучальная акругі; выкладаў рускую мову, славеснасць і харавыя спевы ў віленскіх мужчынскай і жаночай гімназіях. У пачатку 1870 прызначаны інспектарам Віленскай дырэкцыі народных вучылішчаў, у 1873 — справаводам дэпартамента народнай асветы ў Пецярбургу; курыраваў жаночыя навучальныя ўстановы Расіі, быў членам асобага аддзела навуковага камітэта міністэрства, які разглядаў кнігі, выдадзеныя для народнага чытання. За 16 гадоў працы даслужыўся да даволі высокага звання сапраўднага стацкага саветніка. З 1889 узначальваў Варшаўскую дырэкцыю народных вучылішчаў. У 1894 выйшаў у адстаўку і займаўся літаратурнай дзейнасцю. Апошнія звесткі пра яго датаваны 1917. Далейшы яго лёс невядомы.

У 1860-я гады выступаў як публіцыст рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку. Свае артыкулы публікаваў у часопісе братоў Дастаеўскіх «Время», у часопісах сатырычным «Искра» і тэатральным «Русская сцена». У публікацыях побач з літаратурнымі ставіў актуальныя педагагічныя праблемы. Быў прыхільнікам ідэй рускага педаго-

га К.Дз.Ушынскага, якога лічыў перакана765ным змагаром за прагрэсіўнае выхаванне і адукацыю. У сваіх артыкулах, нарысах і замалёўках разглядаў пытанні навучання, выхавання і адукацыі («Купцы — рэфарматары гімназій», «У народнай школе», «Некалькі слоў пра настаўніцкія інстытуты» і інш.). Аналізаваў і крытыкаваў сістэму фізічнага пакарання, што ўжывалася ва ўсіх тагачасных сярэдніх і ніжэйшых навучальных установах. Лічыў, што пакаранне прыносіць шкоду, бо зневажае асобу выхаванца, вядзе да дэгуманізацыі адносін дарослых і дзяцей. Кара — гэта знявага, крыўда, а «ці можа знявага выхоўваць, узнімаць духоўна?» Востра крытыкаваў існуючую сістэму ўнутрышкольнага рэжыму. У артыкуле «Беларускія народныя школы» (1871) намаляваў тыповую для ўсіх пачатковых школ Беларусі карціну ўбоства, паказаў беднае, напаўгалоднае, жабрацкае жыццё вучняў, а таксама цяжкае незабяспечанае жыццё сельскіх настаўнікаў, лёс якіх — працавітае жыццё і галодная жахлівая старасць. У педагагічных артыкулах Р. падкрэсліваў у сялянскіх дзяцей такія станоўчыя якасці, як шчырасць, сумленнасць, сціпласць, здольнасці, дапытлівасць, зацікаўленасць у авалоданні ведамі. Лічыў, што ў маральным выхаванні вучняў першарадную ролю адыгрывае разумны парадак у навучальнай установе, узаемаадносіны педагогаў і выхаванцаў, дзейнасць і паводзіны самога педагога.

*Літ.*: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 211—216.

## **РАДКАВЕЦ** Ігнацій Іванавіч (1849—?)

Беларускі фалькларыст, этнограф. Нарадзіўся ў в. Аголічы Петрыкаўскага р-на. Вучыўся ў Петрыкаўскім народным вучылішчы. Працаваў пісарам у ваенным ведамстве, з 1878 валасным пісарам у в. Грабаў, Дзякавічы і мяст. Лельчыцы. У 1889 запісаў вясельны абрад у в. Дзякавічы Мазырскага пав. і тэксты песень, звязаных з ім (надрукаваны ў кнізе П.В.*Шэйна* «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю», 1902, т. 3). Адзін з карэспандэнтаў Шэйна, у архіве якога (Санкт-Пецярбург) захоўваюцца і іншыя запісы Р. *А.Ю.Лозка.*

## **РАДЧАНКА** Зінаіда Фёдараўна [1839—5(18).3.1916]

Фалькларыст і этнограф. Нарадзілася ў в. Старыя Дзятлавічы Гомельскага р-на. На працягу ўсяго жыцця збірала матэрыялы духоўнай культуры беларускага народа, запісвала фальклор, асаблівасці беларускіх гаворак. Склала «Зборнік маларускіх і беларускіх песень Гомельскага павета, запісаных для голасу з акампанементам фартэпіяна» (1881), у які ўключыла 30 песень з напевамі. Самы багаты па колькасці твораў (676 песень) зборнік «Гомельскія народныя песні (беларускія і маларускія). Запісаны ў Дзятлавіцкай воласці Гомельскага павета Магілёўскай губерні... з дадаткам 83 мясцовых прыказак» (1888), у прадмове да якога апісаны абрады і звычаі сялян, іх матэрыяльная культура. Першая з даследчыкаў 19 ст. адзначыла двухгалоссе ў спевах беларусаў. У 1887 выбрана правадзейным членам Рускага геаграфічнага таварыства.

*Тв.*: Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилёвской губернии Гомельского уезда Дятловицкой волости (180 песен). Спб., 1911.

## **РАЖАНСКІ** Фелікс (?—пасля 1903)

Паэт, мемуарыст, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху 1860-х гадоў. Працаваў каморнікам у маёнтку Вялікая Бераставіца на Гродзеншчыне. У 1861 увайшоў у Гродзенскую паўстанцкую арганізацыю К.*Каліноўскага.* Адзін з заснавальнікаў нелегальнай друкарні. Удзельнічаў у выданні і распаўсюджванні газеты «Мужыцкая праўда». У 1863 у паўстанцкіх атрадах В.*Урублеўскага.* Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў у Кракаў. Аўтар паўстанцкіх песень на беларускай мове «Гэй-га разам, хлопцы...», «Ах ты, мая чарнабрыва...» (апубл. ў 1865 былым паўстанцам І.Арамовічам), успамінаў «З Гродзенскага ваяводства» (1903), якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі рэвалюцыйнага руху 1860-х гадоў на Гродзеншчыне,

змяшчаюць важныя факты з біяграфіі К.Каліноўскага.

## РАМАНАЎ Еўдакім Раманавіч (11.9.1855—20.1.1922)

Этнограф, фалькларыст і археолаг. Нарадзіўся ў мяст. Нова-Беліца (цяпер у межах Гомеля) у сям'і мяшчан. Скончыў Гомельскую прагімназію (1870), курсы настаўнікаў рускай мовы і гісторыі (1872). Працаваў настаўнікам (з 1872), інспектарам народных вучылішчаў Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай губ. (1886—1906), членам Часовай камісіі па ўладкаванні Віленскай публічнай бібліятэкі і музея (1906—16). На працягу 1897—1903 працаваў рэдактарам у газеце «Могилевские губернские ведомости», з 1910 — загадчыкам секцыі этнаграфіі і археалогіі Паўночна-Заходняга аддзялення Рускага геаграфічнага таварыства. З 1917 жыў у Стаўрапалі. Р. вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў: жыллё, адзенне, сямейны побыт, народныя абрады, вераванні, дзіцячыя гульні, нар. каляндар і медыцыну. Аўтар больш як 200 прац па этнаграфіі, фальклоры, гісторыі, археалогіі і мове беларусаў, сабраў і надрукаваў больш як 10 тыс. фальклорных твораў. Галоўная фальклорна-этнаграфічная праца Р. «Беларускі зборнік» (вып. 1—9, 1886—1912) з'яўляецца своеасаблівай энцыклапедыяй побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу. У 1886—94 вёў археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Магілёўскай і Віцебскай губ. Ён склаў археалагічныя карты Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губ., сабраў звесткі пра больш за 1000 гарадзішчаў на Беларусі, выявіў шмат стаянак першабытнага чалавека, вёў антрапалагічныя даследаванні. Каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага р-на Р. адкрыў помнік эпіграфікі 12 ст. Барысаў камень. У 1900 Р. выдаў зборнік «Тарас на Парнасе і іншыя беларускія вершы» (дапоўненае выданне выйшла ў 1902), у 1901 апублікаваў (са скарачэннямі) працу А.*Меера* «Апісанне Крычаўскага графства 1786 г.». Папулярызаваў творы В.*Дуніна-Марцінкевіча*, Ф.*Багушэвіча*. За вялікі ўклад у развіццё навукі Р. быў выбраны правадзейным членам Рускага геаграфічнага таварыства (1886), таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (1888), Маскоўскага археалагічнага таварыства (1890), Віцебскага статыстычнага камітэта (1891) і інш.

*Тв.*: Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский. Могилев, 1898; Могилевская старина. Вып. 1—3. Могилев, 1900—03; Учебник русской грамматики. 4 изд. Могилев, 1904; Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вып. 1—2. Вильна, 1911—12; Первоисточники для истории Могилевского края. Вып. 1. Одесса, 1916; Беларускія народныя казкі: (Са зборнікаў Е.Р.Раманава). Мн., 1962.

*Літ.*: Бандарчык В.К. Е.Р.Раманаў. Мн., 1961.

*В.К.Бандарчык.*

## РЖАВУСКІ Адам Станіслававіч (10.8.1760—12.1.1825)

Дзяржаўны дзеяч, дыпламат, паэт. Нарадзіўся ў Нясвіжы. У 22 гады выступаў на польскім сойме і звярнуў на сябе ўвагу глыбокім веданнем спраў і красамоўствам. У 1788 накіраваны пасланнікам Рэчы Паспалітай у Данію, дзе з поспехам выканаў сваю місію. Праз 2 гады за выдатную палітычную дзейнасць атрымаў званне сенатара польскага сената і кашталяна. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай, калі значная яе частка далучана да Расійскай імперыі, Р. ў чыне правадзейнага стацкага саветніка быў прызначаны старшынёй цывільнай палаты ў Брацлаўскай губ. У 1808 кіеўскае дваранства абрала яго сваім губернскім маршалкам, а ў наступным годзе ён атрымаў права прысутнічаць у сенаце. Перасяліўшыся ў Пецярбург, Р. прымаў удзел у масонскім руху: быў вялікім намесным, майстрам вялікай ложы «Астрэі» і ложы «Белага арла». Напісаў некалькі твораў палітычнага характару, якія засталіся пераважна ў рукапісах. З іх найбольш вядомыя «Запіска аб праўленні караля Станіслава-Аўгуста», «Размовы пра царства мёртвых», «Заўвагі на польскія законы», папраўкі да твораў генерала Дзюмур'е «Аб канфедэрацыі ў Бары». Вядомы і як аўтар лірычных вершаў. Перакладаў элегіі і трагедыі Тыбула. Памёр у сваім маёнтку ў Паграбішчах на Нясвіжчыне.

## **РОМЕР** Альфрэд Ізідар (16.4.1832—24.1.1897)



Жывапісец, графік, медальер, мастацтвазнавец, этнограф. Нарадзіўся ў Вільні. Адукацыю па жывапісе атрымаў у К.І.*Русецкага*, потым вучыўся ў Парыжы ў Л.Бана і А.Аляшчынскага, у Мюнхене — у А. фон Рамберга (1869—74). З канца 1850-х гадоў жыў у маёнтку Крэўна (цяпер Літва). За ўдзел у паўстанні на Беларусі 1863—64 адбываў турэмнае зняволенне. Пасля вызвалення працаваў у Мюнхене, Кракаве, Парыжы, прымаў актыўны ўдзел у іх мастацкім жыцці. З 1874 жыў у маёнтку Каралінава (цяпер Пастаўскі р-н), з 1884 у Кракаве. Маляваў партрэты, пейзажы, тэматычныя кампазіцыі з жыцця народа і на рэлігійныя сюжэты. Яго работам уласцівы дакладны выразны малюнак, свабода і натуральнасць кампазіцыі: партрэты маці (1872), бацькі, жонкі, Э.Ромера (1873), М.Ромера, аўтапартрэты, партрэты К.Русецкага, К.Эстрэйхера, Ф.Даноўскага, У.Лушчкевіча, скульптара Яцунскага, жывапісца Швайніцкага і яго жонкі, карціна «Паўстанец 1863 года» (1886) і інш. Стваральнік бронзавых медальёнаў з партрэтнымі выявамі, гравюр з выявамі сялян, архітэктурных помнікаў, карыкатур. Гістарычную і мастацкую каштоўнасць маюць этнаграфічныя замалёўкі сялянскага побыту беларусаў: кампазіцыі «Сялянская хата», «Сялянская дзяўчынка», «Каля карчмы», «Сялянскі двор», «Перад вакзалам», замалёўкі народных касцюмаў. Зрабіў шэраг размалёвак у праваслаўных і каталіцкіх храмах у в. Камаі (Пастаўскі р-н) і Пінску. Вывучаў народнае прыкладное мастацтва Беларусі, падрыхтаваў навуковую публікацыю пра слуцкія паясы.

*Літ.*:Д р о б о в Л.Н. Живопись Белоруссии XIX—начала XX в. Мн., 1974. С. 207—210.

## **РУКЕВІЧ** Міхаіл Іванавіч (1796—30.8.1841)

Рэвалюцыянер, дзекабрыст, адзін з арганізатараў выступлення Літоўскага піянернага батальёна. Паходзіў са шляхты Беластоцкай вобласці. Служыў кватармайстрам у 1-м палку гвардыі Красінскага, у 1815 выйшаў у адстаўку па хваробе. Скончыў Віленскі універсітэт са ступенню кандыдата юрыспрудэнцыі (1820). У лістападзе 1823 арыштаваны па справе аб тайных таварыствах у Віленскім універсітэце, але з-за недахопу доказаў на пачатку 1824 вызвалены. Разам з К.Г.Ільгестромам заснаваў у 1825 тайнае рэвалюцыйнае т-ва «Ваенных сяброў», у склад якога ўвайшлі афіцэры і салдаты Літоўскага корпуса, передавая шляхта і моладзь навучальных устаноў Гродзенскай губ. і Беластоцкай вобл. Таварыства мела на мэце барацьбу за «вольнасць» і «ўсеагульны дабрабыт». 24.12.1825 члены таварыства сарвалі прысягу Мікалаю I у піянерным батальёне. 15.1.1826 арыштаваны і знаходзіўся ў Беластоку пад следствам. Ваенным судом прыгавораны да пакарання смерцю, але па найвышэйшай канфірмацыі 15.4.1827 пазбаўлены дваранства і высланы на 10 гадоў катаржных работ і на пастаяннае пасяленне ў Сібір. Катаргу адбываў разам з іншымі дзекабрыстамі ў Чыце і Пятроўскім заводзе. У 1832 накіраваны на пасяленне ў Іркуцкую губ. Па справе Р. да следства прыцягваліся і яго сёстры Карнелія і Ксаверыя, якія былі пакараны пазбаўленнем дваранства і ссылкай у Сібір, пазней замененай на 6-месячнае знаходжанне ў Брыгіцкім дзявочым кляштары.

**РУНКЕВІЧ** Сцяпан Рыгоравіч [11(22).1.1867—?]

Гісторык рускай царквы, асветнік. Нарадзіўся на Беларусі ў сям'і протаіерэя Мінскай епархіі. Скончыўшы Пецярбургскую духоўную акадэмію, выкладаў у ёй, быў сакратаром Сінода. Яшчэ студэнтам прымаў удзел у дзейнасці студэнтаў-прапаведнікаў і вёў народныя рэлігійна-павучальныя чытанні ў цэрквах, грамадскіх і прыватных залах, начлежных дамах. Вынікам гэтай дзейнасці з'явіліся яго нарысы «Студэнты-прапаведнікі» (Спб., 1892) і серыя твораў «Народная акадэмія», у якой меркавалася выдаваць па даступнай цане лепшыя пропаведзі і ўрыўкі з твораў сучасных і старажытных царкоўных пісьменнікаў (у 1895—96 выйшла 5 кніжак). Апрача таго, Р. выдаў «Матэрыялы для гісторыі Мінскай епархіі» (вып. 1—5. Мн., 1892—94), «Кароткі гістарычны нарыс стагоддзя Мінскай епархіі...» (Мн., 1893), «Гісторыю Мінскай архіепіскапіі (1793—1832 гг.)» (Спб., 1893, магістарская дысертацыя), «Жыццяпісы заходнярускіх уніяцкіх мітрапалітаў» (т. 1. Спб., 1897), «Рэлігійныя матывы ў творах А.С.Пушкіна» (Спб., 1899). Друкаваў артыкулы ў часопісе «Минские епархиальные ведомости». У сваіх працах і публікацыях па гісторыі уніяцкай царквы і Мінскай епархіі праваслаўнай царквы ў 18—19 ст. разглядаў пытанні гісторыі Польшчы напярэдадні яе падзелу, яе ўзаемаадносіны з Расіяй. Р. цікавілі не толькі палітычныя, юрыдычныя і культурныя аспекты гэтай праблемы, але і пытанні царкоўнага землеўладання. Асабліва падрабязна распрацавана ім пытанне пра вяртанне уніятаў у праваслаўе. Хоць Р. прытрымліваўся ў цэлым афіцыйнага пункту гледжання, ён выкарыстаў вялікі архіўны матэрыял, прасачыў гэты працэс літаральна ў кожным прыходзе.

*Літ.*: Афанасьев Н.И. Современники. Т. 2. Спб., 1910.

**РУСЕЦКІ** Канут Іванавіч (1801—21.8.1860)

Жывапісец, педагог, прадстаўнік класіцызму. Нарадзіўся ў в. Сцебекяй каля Панявежы (цяпер Панявежыс, Літва). У 1818—21 вучыўся ў Віленскім універсітэце ў *Я.Рустэма*, Дж.Саўндэрса, К.*Ельскага*, М.*Падалінскага*, у 1821—22 — у Парыжскай Акадэміі мастацтваў у Г.Лецьера, у 1823—25 — у Рымскай Акадэміі мастацтваў у В.Камучыні, Б.Торвальдсена і А.Гро; у 1826—31 працаваў у Рыме як стыпендыят Віленскага універсітэта. З 1820 удзельнічаў у мастацкіх выстаўках. З 1831 жыў у Вільні: у 1834—39 выкладчык жывапісу і малюнка ў шляхецкім пансіёне, у 1839—48 — у шляхецкім інстытуце. З 1840-х гадоў жыў і працаваў на Беларусі. Маляваў партрэты, пейзажы, працаваў у акварэлі. Напісаў шэраг пейзажаў ваколіц Навагрудка, Ашмяншчыны, Белавежскай пушчы, у якіх этнаграфічная дакладнасць выдатна спалучаецца з выразнай манерай пісьма. Найбольш значныя творы: «Італьянец, які ўсміхаецца» (1823), «Клятва карбанарыяў» (1826), «Уцёкі ў Егіпет» (1828), аўтапартрэт, партрэт сына — Б.Русецкага (1843), «Жняя» і «Партрэт бацькі» (1845), «Літоўка з вербамі» (1847), «Паляванне на зуброў» (1844—51), «Панарама горада Вільні» (1850), «Літоўская рыбачка» (1856), «Млын Патоцкага ў Паплавах» (1855), «Селянін з мётламі» (1851, акварэль), «Пейзаж са скачкамі», «Вербная нядзеля».

*Літ.*: Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX—начала XX в. Мн., 1974. С. 109—111.

**РУСТЭМ** Ян [1762—9(21).1835]

Жывапісец, рысавальшчык, педагог. Нарадзіўся ў Стамбуле (Турцыя). Яго творчасць звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Літвы. Вучыўся ў Варшаве ў Я.П.Норбліна і М.Бачарэлі, у Германіі (1788—90). У 1798—1832 выкладаў у Віленскім універсітэце (з 1811 прафесар). Рэарганізаваў сістэму навучання ў Віленскай мастацкай школе, якая ў 1797—1832 існавала пры універсітэце і была цэнтрам мастацкіх ведаў краю. Падрыхтоўка ў гэтай школе давала магчымасць таленавітай моладзі Беларусі, Літвы і Польшчы паступаць у мастацкую акадэмію. Апрача таго, уведзеная Р. сістэма мастацкага навучання садзейнічала развіццю рэалізму ў мастацтве 19 ст. Як прыхільнік перадавых



дэмакратычных ідэй Р. імкнуўся вызваліць жывапіс ад уплыву класіцызму, які скоўваў мастацкую індывідуальнасць, тармазіў развіццё рэалізму. Ён дамогся дазволу прымаць у школу здольных вучняў незалежна ад іх сацыяльнага паходжання. Так, у 1820—22 у школе вучылася 45 жывапісцаў і 16 скульптараў, сярод якіх было шмат выхадцаў з Беларусі. Выхаванцамі школы былі мастакі І.*Аляшкевіч*, В.*Ваньковіч*, *Я.Дамель*, Н.*Орда*, К.*Русецкі*, І.*Хруцкі* і інш. Светапогляд мастакоў — выхаванцаў школы фарміраваўся пад уплывам перадавых дэмакратычных ідэй таго часу, іх творы былі сугучныя прагрэсіўным тэндэнцыям эпохі, адлюстроўвалі нацыянальныя асаблівасці, культурныя традыцыі, побыт народаў краю. Сам Р. працаваў пераважна ў жанры партрэта. У яго творах прыкметны ўплыў рамантызму, класіцызму, сентыменталізму. Творчай манеры Р. ўласцівы ўстойлівасць кампазіцыйных прыёмаў, дакладны малюнак, стрыманасць колераў. Ён аўтар шматлікіх аўтапартрэтаў, партрэтаў Т.*Зана*, А.Снядэцкага (1816), Я.Снядэцкага (1819) і інш., кампазіцый «Турак з канём» (1791), «Бабуля з унучкай» і інш., акварэляў «На рынку» і інш. Намаляваў мініяцюрныя партрэты А.Т.*Касцюшкі*, *Я.Лялевеля*. Творы Р. зберагаюцца ў музеях Літвы, Польшчы, Германіі.

*Літ.*: Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX—начала XX в. Мн., 1974. С. 22—25.

## **РУТКОЎСКІ** Антоні (1805—14.8.1873)

Педагог, бібліятэкар. Нарадзіўся на Міншчыне. Удзельнік паўстання 1830—31 (узнагароджаны крыжам «Віртуці Мілітары»). Пасля задушэння паўстання быў вымушаны эмігрыраваць за мяжу і жыў у Парыжы. Пэўны час зарабляў сабе на жыццё, працуючы шпалершчыкам, настаўнічаў у эмігранцкіх школах. З 1843 на пасадзе намесніка загадчыка польскай бібліятэкі ў Парыжы, у 1854—66 — бібліятэкар кнігазбору У.Чартарыйскага, што размяшчаўся ў адным з парыжскіх гатэляў. Апрацоўваў вывезеныя з Польшчы рукапісы і каштоўныя старадрукі Пулаўскай бібліятэкі. Клапаціўся аб іх захаванні і рэстаўрацыі, склаў інвентар рукапісаў, кніг, карт і музейных экспанатаў. Папаўняў бібліятэчныя зборы антыкварыятам. Не заўсёды з ведама ўладальніка бібліятэкі даваў магчымасць карыстацца зборамі пабочным чытачам і даследчыкам, забяспечваў іх літаратурай аб родным краі, падтрымліваў кантакты з французскімі навукоўцамі.

## **РЫПІНСКІ** (Радван) Аляксандр Феліксавіч (каля 1811—1886)

Паэт, фалькларыст, кнігавыдавец, мастак. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Паходзіў са старадаўняга беларускага шляхецкага роду. У маленстве выхоўваўся ў дзедаўскім маёнтку Стайкі каля Віцебска. У раннім юнацкім узросце, пазнаёміўшыся з беларускімі народнымі песнямі і казкамі, пачаў весці фальклорныя запісы (згублены ў час паўстання 1831), захапіўся вершаскладаннем і перакладамі. Найбольш раннім вершам лічыцца запіс 16-гадовага юнака на тытульным лісце ў рукапісным зборніку яго школьнага таварыша Гайкі з Пнёва (на польскай мове). У 1827 пераклаў на польскую мову «Русалку» А.Пушкіна. Пасля заканчэння Віцебскай гімназіі ў 1829—30 ву-

чыўся ў Дынабургскай (цяпер Даўгаўпілс, Латвія) школе прапаршчыкаў. Значнай падзеяй гэтага перыяду лічыў знаёмства з В.Кюхельбекерам, які адбываў пакаранне ў Дынабургскай крэпасці. Разам з сябрамі Р. наведваў зняволенага дзекабрыста, дапамагаў яму перапісваць літаратурныя творы, дастаўляў у крэпасць літаратуру. Аддадасць ідэалам барацьбы Р. адкрыта выявіў у момант, калі ён, слухач школы прапаршчыкаў, атрымаў загад выступіць супраць паўстанцаў у 1831, але замест гэтага сам стаў актыўным змагаром. Калі паўстанне было задушана, ратуючыся ад катаргі, разам са сваім атрадам перайшоў у Прусію. У 1832 напісаў развітальны верш «Да Польшчы на апошняй мяжы княства Пазнанскага каля Мальбурга (у дарозе да Францыі)».

У 1832—46 жыў у Парыжы. Там абраны членам французскай Акадэміі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, рамёстваў і гандлю. У суполцы з Ф.Ходзькам адкрыў мастацкі магазін. У 1839 на пасяджэнні Польскага літаратурнага таварыства ў Парыжы прачытаў першы даклад па беларускай этнаграфіі і фальклоры, а ў 1840 на падставе ўласных лекцый выдаў асобнай кнігай фалькларыстычнае даследаванне «Беларусь (Колькі слоў пра паэзію простага люду той нашай польскай правінцыі, пра яго музыку, спевы, танцы і інш.)», дзе ўпершыню сістэматызаваў вусную творчасць беларускага народа па жанрах і тэматыцы. У кнізе вялікая колькасць абрадавых твораў (адноўленых па памяці, а таму не заўсёды дакладных), даюцца апісанні і характарыстыка абрадаў, уключаны звесткі па гісторыі літаратуры і музычнай культуры Віцебшчыны, змешчаны народныя рэлігійныя песні кніжнага паходжання («Стары Восіп барадаты», «О, мой божа, веру табе»), уласныя творы, стылізаваныя пад народныя песні. Агульная канцэпцыя кнігі вызначаецца пэўнай супярэчлівасцю: аўтар заклікае да вывучэння народнасці і ў той жа час прызнае яе выключна як польскую, прысвячае сваё выданне «першаму з мужыкоў беларускіх, які навучыцца спачатку чытаць, а затым гаварыць і думаць папольску». Да парыжскага перыяду адносіцца яго блізкае знаёмства з А.*Міцкевічам*, якое грунтавалася на адзінстве грамадзянскіх і эстэтычных ідэалаў. Польскі даследчык Ф.Герман сцвярджаў, што «любасць да Беларусі была адным з тых фактараў, якія спрыялі збліжэнню Міцкевіча з Рыпінскім, а потым трываламу іх сяброўству». Магчыма, па парадзе А.Міцкевіча, Р. падрыхтаваў да друку ўспаміны з часоў паўстання 1831 (у 1836 у Парыжы выдадзены іх фрагменты «Паўстанне Вілейскага, Завілейскага і Дзісенскага паветаў») і стварыў навуковую распрацоўку «Выпісы польскіх гарадоў і вёсак, упомненых у творы Нарбута «Гісторыя старажытнай Літвы» (з дадаткам «Спіс польскіх рэк»).

У 1846 Р. пераехаў у Лондан і займаўся там выдавецкай і творчай дзейнасцю, выкладаннем моў, матэматыкі і малявання. Быў шырока вядомы як мастак, афармляў уласныя кнігі, выявіў выключныя здольнасці да мастацкай фатаграфіі, стаў адным з піянераў фотамастацтва. Разам з І.*Яцкоўскім* у 1852 заснаваў у прыгарадзе Лондана Тотнэме вольную друкарню, у якой у 1853 выдаў зборнік сваіх польскамоўных вершаў «Паэзія», дзе змясціў і беларускую рамантычную баладу «Нячысцік» (у 1853 выйшла асобным выданнем у Познані), у 1854 — зборнік «Сяржант-філосаф». У 1853 Р. звярнуўся ў Пецярбургскі цэнзурны камітэт з просьбай надрукаваць «Нячысціка» ў любой друкарні Расіі, але балада была прылічана да забароненых твораў, паколькі яе аўтар быў вядомы царскім уладам «як пісьменнік, адданы бунтарскім ідэям». У лонданскай друкарні Рыпінскага—Яцкоўскага з кастрычніка 1852 друкавалася польская эмігранцкая газета «Democrata Polski» («Польскі дэмакрат»), у 1854 надрукавана кніга І.Яцкоўскага «Аповесць майго часу, або Літоўскія прыгоды» з вершам П.*Багрыма* «Заграй, заграй, хлопча малы...».

Пасля царскай амністыі ў 1859 Р. вярнуўся на радзіму. Пад строгім наглядам паліцыі жыў у в. Кукавячына на Віцебшчыне, якая належала яго брату, пазней туліўся ў сваячкі ў маёнтку Страганы. Працаваў над гісторыяй беларускай літаратуры, стварыў шэраг біяграфій пісьменнікаў-беларусаў (55 прозвішчаў), напісаў жыццяпісы Я.*Баршчэўскага*, Г.*Марцін*-

*кевіча*, В.*Рэута*, Ф.*Рысінскага*, Т.*Лады-Заблоцкага* (не захаваліся). Перапісваўся з пісьменнікам і публіцыстам А.*Плугам*, зрабіў два запісы ў «Альбоме» А.*Вярыгі-Дарэўскага* — паэтычны і празаічны, маральна і матэрыяльна дапамагаў маладым мастакам і літаратарам з Беларусі і Літвы. Канчаткова ўсвядоміў сябе нацыянальным культурным дзеячам, пра што сведчаць радкі з ліста да А.Плуга, датаванага 1883: «Можа, дарэмна мы горнемся да гэтай няшчаснай Польшчы, як народжаныя на Русі, якую і даўней, здаецца, ужо называлі польскай Сібір'ю». Гісторыка-літаратурную вартасць меў асабісты архіў Р., багаты фактычнымі звесткамі пра беларускую культуру 18—19 ст., які, на жаль, не захаваўся.

У гісторыю беларускай культуры Р. ўвайшоў як збіральнік, знаўца і прапагандыст нацыянальнага фальклору і этнаграфіі, выдавец, вакол якога кансалідавалася беларускае эміграцыйнае асяроддзе, адзін з першых даследчыкаў літаратуры Беларусі, спрабаваў упарадкаваць нормы беларускай арфаэпіі. Паэзіі Р. ўласціва фальклорна-рамантычная скіраванасць у спалучэнні з дыдактычнасцю і сентыментальным стылем. Ён адзін са стваральнікаў жанру балады ў беларускай літаратуры.

*Літ.:* Пачынальнікі. Мн., 1977; Гілевіч Н. З клопатам пра песні народа. Мн., 1970; Каханоўскі Г. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Майхровіч С. Беларуская літаратура XIX стагоддзя // Полымя. 1952. № 9; Яго ж. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957. *Н.В.Тарэлкіна.*

## **РЫСІНСКІ** Францішак [?—1830(?)]

Польскі і беларускі паэт. Біяграфічных звестак пра яго амаль не захавалася. Відаць, паходзіў з беларускай шляхты. На пачатку 19 ст. быў старшынёй цывільнай палаты ў Віцебску. Пісаў эпіграмы, іранічна-філасофскія і гумарыстычныя вершы на польскай і, як сведчаць сучаснікі, на беларускай і рускай мовах. Творы Р., прысвечаныя пэўнай рэальнай асобе, карысталіся вялікай папулярнасцю, распаўсюджваліся на Віцебшчыне ў спісах, завучваліся на памяць, але пры жыцці аўтара нідзе не друкаваліся. Частка іх трапіла ў архіў Ф.*Карпінскага*, частку сабраў полацкі маршалак шляхты С.Грабніцкі. Найбольш верагодна, што Р. належаць макаранічныя беларуска-польскія вершаваныя мініяцюры «Плач пакінутага каханай» і «За пекнай паненкай аж душа сумуе», таксама шырока вядомыя ў свой час у Віцебска-Полацкім рэгіёне і прыведзеныя па памяці А.*Рыпінскім* у кнізе «Беларусь» (Парыж, 1840). *У.І.Мархель.*

## **РЫТАЎ** Міхаіл Васілевіч [4(16).1.1846—17.4.1920]



Вучоны памолаг, педагог. Нарадзіўся ў г. Наваміргарад (Украіна). У 1878 скончыў Маскоўскі ун-т. З 1879 выкладаў у Горы-Горацкай земляробчай школе, з 1919 прафесар Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Пражыў у Горках каля 40 гадоў. Апрача выкладчыцкай дзейнасці вёў вялікую навуковую работу. Ён пашыраў тут эксперыментальную базу для правядзення даследаванняў па батаніцы і раслінаводстве, стварыў батанічны сад, які захаваўся да нашага часу, на ўласныя сродкі заклаў пладовы гадавальнік. Р. вылучаўся шырокім тэарэтычным і філасофскім падыходам да вырашэння спецыяльных праблем, актыўнай абаронай матэрыялістычных пазіцый прыродазнаўства, адзінства тэорыі і практыкі. Ён быў перакананым прыхільнікам і прапагандыстам ідэй Ч.Дарвіна

аб зменлівасці арганізмаў пад уздзеяннем умоў жыцця і стваральнай ролі адбору. На аснове прызнання вызначальнай ролі ўмоў жыцця для фарміравання арганізмаў, іх зменлівасці і спадчыннасці Р. распрацоўваў спосабы акліматызацыі раслін, падкрэсліваў важнасць для гэтага ўмоў надвор'я, глебы, тэрмінаў сяўбы, святла і інш. фактараў; лічыў, што для павышэння ўрадлівасці вялікае значэнне мае вывядзенне новых гатункаў. Працуючы над тэарэтычнымі асновамі пладаводства, ён імкнуўся да практычнага выкарыстання вынікаў даследавання, адгукаўся на запатрабаванні сельскагаспадарчай практыкі, быў цесна звязаны з пладаводамі і садаводамі-практыкамі. Аўтар амаль 1000 кніг, дапаможнікаў і артыкулаў па пытаннях памалогіі, раслінаводства і інш.

*Тв.*: Краткий учебник огородничества и плодоводства... Ч. 1—2. Спб., 1895—96; Общее учение о возделываемых растениях. М., 1896; Избранные труды. М., 1956; Русские яблоки. М., 1960.

## **РЭУТ** (Газдава-Рэут) Вінцэнты [Вікенцій Уладзіслававіч; 1812(?)— пазней 1883]

Фалькларыст, пісьменнік, прадстаўнік рамантызму. Нарадзіўся на Віцебшчыне, жыў у маёнтку Мосар у Полацкім павеце. У 1827—34 дробны чыноўнік у Віцебску, у 1839—42 полацкі павятовы прадвадзіцель дваранства (маршалак). Збіраў і публікаваў беларускі фальклор, шырока выкарыстаў яго ў вершаванай аповесці «Жонка» (1844). Свае творы і фальклорныя запісы друкаваў у альманахах «Niezabudka» («Незабудка»), «Rocznik literacki» («Літаратурны штогоднік»), «Rubon» («Рубон»). У публіцыстычных артыкулах заклікаў развіваць на Беларусі прамысловасць. У паэме «Летуценнік» (1849) выказаў сімпатыі да вызваленчай барацьбы грэчаскага народа. Прыхільна ставіўся да паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі, у Літве, за што прыцягваўся да следства і быў пад наглядам паліцыі. Пакінуў запіс у «Альбоме» А.І.*Вярыгі-Дарэўскага*. У пісьме да І.*Легатовіча* расказаў пра сувязі беларусаў, што жылі ў Пецярбургу, з Т.Шаўчэнкам.

*Літ.*: Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мн., 1964. С. 31; Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 39; Пачынальнікі. Мн., 1977.

# С



## **САБАЛЕЎСКІ** Людвік (8.9.1791—10.7.1830)

Філолаг, бібліёграф. Нарадзіўся ў Вільні. Вучыўся на філалагічным факультэце Віленскага універсітэта пад кіраўніцтвам Г.*Гродэка*. Атрымаўшы ў 1811 ступень магістра, працаваў настаўнікам гімназій у Коўне і Беластоку. У 1817 накіраваны Віленскім універсітэтам за мяжу на 2 гады для ўдасканалення ведаў, каб потым заняць прафесарскую пасаду. Практыкаваўся галоўным чынам у Парыжы. Адначасова займаўся бібліяграфіяй і апрацаваў «Каталог твораў па гісторыі польскай літаратуры» Ф.Бянткоўскага (т. 1—2, 1819). У 1819—21 выкладаў лацінскую мову ў Віленскім універсітэце. Для запланаванага выдання «Універсальная польская літаратура» збіраў матэрыялы па бібліяграфіі ў 1819 у бібліятэцы А.*Храптовіча* ў Шчорсах, у бібліятэцы А.К.*Чартарыйскага* ў Пулавах, потым у Кракаве, у 1821—23 у бібліятэках Вены. Вынікам гэтых пошукаў з'явіўся 5-томны збор бібліяграфічных рукапісаў. Апублікаваў «Гістарычна-крытычныя звесткі да твораў польскай літаратуры...»(т. 1—3, 1820—21). Сабраў таксама матэрыялы для дадаткаў да працы Бянткоўскага і «Слоўніка польскіх паэтаў» М.Юшчынскага (1820). Матэрыялы С. пасля яго смерці купіў і апрацаваў Ю.*Завадскі*, які пазней перадаў іх А.*Іёхеру*; імі карыстаўся і К.Эстрайхер. У 1825 С. ў складзе камітэта вывучаў стан бібліятэкі Віленскага універсітэта, а ў маі 1826 быў прызначаны прэфектам гэтай бібліятэкі. С. быў дасканалым майстрам філалогіі: у сваіх бібліяграфічных працах даваў поўныя звесткі, анатацыі і ўсебаковыя крытычныя ацэнкі публікацый, якія ён разглядаў.

## **САБОЛЬШЧЫКАЎ** Васіль Іванавіч [13(25).1813—19(31).10.1872]

Архітэктар і бібліяфіл. Нарадзіўся ў Віцебску. Пасля заканчэння мясцовай гімназіі служыў у Віцебскім губернскім праўленні. Прыроджаная дапытлівасць прывяла яго ў 1830 на службу ў Пецярбург, дзе ў вольны час самастойна вывучаў замежныя мовы, чытаў навуковыя кнігі. Пасля доўгіх намаганняў трапіў на службу ў Публічную бібліятэку. Гэтай культурнай установе была прысвечана яго дзейнасць да канца жыцця. Кіраўніцтва бібліятэкі высока цаніла стараннасць і веды С. і карысталася імі. Яго намаганнямі ў бібліятэцы было арганізавана вялікае аддзяленне замежных твораў пра Расію. Адначасова з працай у бібліятэцы С. наведваў як вольны слухач класы Акадэміі мастацтваў і вывучаў там архітэктуру. Паводле яго праекта была ўзведзена чытальная зала — адна з самых значных у тагачаснай Еўропе. Пасля пажараў 1862 капітальна перабудаваў амаль увесь будынак бібліятэкі. Пасля паездкі за мяжу (1858) выдаў твор «Агляд вялікіх бібліятэк у Еўропе...» (1860), у якім выклаў найлепшы спосаб утрымання і каталагізацыі значных кнігасховішчаў і прапанаваў вельмі зручную сістэму, якая была прынята ў Публічнай бібліятэцы. У кнізе «Пячное майстэрства», выдадзенай у 1865, прапанаваў новыя канструкцыі печаў, мадэлі якіх былі высока адзначаны на Парыжскай сусветнай выстаўцы 1867. У 1870 С. надрукаваў разважанне пра тое, што трэба рабіць у дамах, каб пазбегнуць вільготнасці. У часопісах і газетах друкаваў артыкулы і нататкі, у якіх папулярызаваў архітэктурныя звесткі пра паляпшэнне зручнасці жылля ва ўмовах паўночнага клімату. У апошнія гады жыцця працаваў архітэктарам і хавальнікам аддзела прыгожых мастацтваў Публічнай бібліятэкі. Паводле яго праекта ў 1872 у Пецярбургу пабудавана рымска-каталіцкая кансісторыя з царквой у раманскім стылі.

*Г.А.Маслыка.*

## **САВЕТАЎ** Аляксандр Васілевіч [12(24).11.1826—24.11(7.12).1901]



Вучоны, аграном, педагог. Нарадзіўся ў с. Гульнева Дзмітраўскага р-на Маскоўскай вобл. Пасля заканчэння ў 1850 Горы-Горацкага земляробчага інстытута працаваў у ім выкладчыкам. У 1853—55 камандзіраваны ў Германію, Бельгію і іншыя краіны Еўропы для вывучэння сельскай гаспадаркі. У 1855—57 ён узначальваў у інстытуце кафедру сельскагаспадарчай тэхналогіі, чытаў лекцыі па аграхіміі. З 1859 загадчык кафедры сельскай гаспадаркі Пецярбургскага універсітэта. У гэтым жа годзе за працу «Пра развядзенне кармавых траў у полі», якая была падрыхтавана і напісана ў Горы-Горках, яму прысуджана ступень магістра сельскай гаспадаркі, у 1867 за працу «Аб сістэмах земляробства» — ступень доктара сельскай гаспадаркі (першы ў Расіі). У 1888—1900 працаваў дэканам фізіка-матэматычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Асноўныя працы прысвечаны сістэмам земляробства і севазваротам. Распрацоўваў рацыянальныя спосабы вядзення сельскай гаспадаркі, абгрунтаваў мэтазгоднасць пасеваў бабовых і злакавых кармавых траў. З 1860 кіраваў сельгасаддзелам Вольнага эканамічнага таварыства, быў рэдактарам яго «Прац...». У 1885—96 (разам з В.В.*Дакучаевым*) і ў 1898—1900 (разам з

М.П.Адамавым) выдаваў «Матэрыялы па вывучэнні рускіх глеб». С. стаяў на перадавых пазіцыях агранамічнай навукі свайго часу, да вырашэння прыродазнаўчых праблем падыходзіў гістарычна. Адстойваў прыярытэт рускага земляробства ў практыцы травасеяння, выступаў як прыхільнік прагрэсіўнай ідэі адзінства арганічнай і неарганічнай прыроды, падкрэсліваў стваральную ролю раслін у працэсе глебаўтварэння. Палявое травасеянне ён разглядаў не толькі як крыніцу, але і як найважнейшы фактар паляпшэння фізічных якасцей глебы і павышэння яе ўрадлівасці. Добра ведаючы стан сельскай гаспадаркі і навукі за мяжой, С. ніколі не прапаноўваў слепа капіраваць чужы вопыт, а падкрэсліваў неабходнасць выпрацоўкі ўласных метадаў вядзення гаспадаркі, якія дапасоўваліся да эканоміі і адпаведных глебавых і кліматычных умоў пэўных раёнаў.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 378—380.

## **САВІЧ** Францішак (1815—46)

Грамадскі дзеяч, змагар за ідэалы свабоды і сацыяльнай справядлівасці. Нарадзіўся ў в. Вяляцічы Пінскага павета Мінскай губ. ў сям'і уніяцкага святара. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, потым скончыў Пінскае павятовае вучылішча (1833). На выхаванне С. ў духу асветніцкіх традыцый моцна паўплываў выхавальнік вучылішча і апякун пасля смерці яго бацькі Ф.Махцінскі. Яшчэ ў вучылішчы ў С. былі верныя сябры-аднадумцы, з якіх склаўся правобраз будучага тайнага таварыства. З 1833 С. вучыўся за казённы кошт у Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Ён быў здольным і старанным студэнтам, захапляўся тэатрам, паэзіяй. Пад уплывам любімага паэта А.Міцкевіча складаў вершы ў форме гутарак, галоўнымі героямі якіх былі простыя людзі. С. наведваў лекцыі і ў духоўнай акадэміі. Ён карыстаўся аўтарытэтам у акадэмічнага кіраўніцтва, за тое, што заступаўся за больш бедных тавары-



*Горы-Горкі. З малюнка 19 ст.*

шаў, быў празваны «дэмакратам». У асяроддзі тагачаснага студэнцтва распаўсюджвалася і чыталася забароненая палітычная і антырэлігійная літаратура, ствараліся тайныя таварыствы і гурткі, фарміраваліся і раслі дэмакратычныя і рэвалюцыйныя настроі як водгук на нядаўна задушанае паўстанне 1830—31. На фарміраванне ідэйных асноў сацыяльна-палітычнай пазіцыі С. вырашальны ўплыў зрабілі польскія рэвалюцыянеры Я.Чынскі і Ш.Канарскі — прыхільнік сацыяльнай праграмы расійскіх дзекабрыстаў.

У ідэйнай і практычнай дзейнасці С. кіраваўся прагрэсіўнымі ідэямі грамадскага развіцця розных краін у адносінах да рэальных умоў Беларусі. Ён стаяў ля вытокаў зараджэння рэвалюцыйнага дэмакратызму на Беларусі, прадстаўнікамі і выразнікамі якога пазней былі К.*Каліноўскі* і Ф.*Багушэвіч*. Жыццё і дзейнасць С. прыпадае на перыяд царавання ў Расіі Мікалая I, калі тут панавалі прыгонніцкія парадкі, лютавала цэнзура, абвастрыліся сацыяльныя і нацыянальныя супярэчнасці, паглыбляючы крызіс феадальнай сістэмы. Пасля задушэння ў 1825 паўстання дзекабрыстаў рэакцыя ўзяла верх ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Карнымі мерамі ўраду ўдалося задушыць выступленні супраць царызму і прыгнёту ў розных сацыяльных пластах грамадства, што яшчэ больш узмацняла антыпрыгонніцкія настроі ў перадавой часткі грамадства, паскарала фарміраванне ідэалогіі рэвалюцыйнага дэмакратызму і нацыянальна-вызваленчага руху. С. быў адным з пачынальнікаў і прадстаўнікоў радыкальнага кірунку гэтага руху, арганізатарам «Дэмакратычнага таварыства» сярод студэнцкай і разначыннай моладзі.

У выніку пакутлівых пошукаў ісціны і шляхоў сацыяльнага пераўтварэння С. прыходзіць да ідэі антыпрыгоннай рэвалюцыі. Яшчэ студэнтам 3-га курса С. са сваімі аднадумцамі (10 чалавек) стварыў тайную арганізацыю «Дэмакратычнае таварыства», напісаў для яго статут «Прынцыпы дэмакратызму», які складаўся з уводзін, 8 частак і заключэння. Ва ўводзінах да статута былі сфармуляваны мэты арганізацыі: барацьба з беззаконнем, выхаванне моладзі ў духу сумленнасці і грамадскай карысці, спачуванне абяздоленым незалежна ад нацыянальнай, рэлігійнай і саслоўнай прыналежнасці; рэкамендавалася жыць сціпла, змагацца з недахопамі, весці здаровы лад жыцця, набываць грунтоўныя веды і авалодваць рамяством. Таварыства было тайнае, старанна законспіраванае, падзялялася на дзесяткі. Прыём у яго вёў адказны за дзесятку (солтыс). Кожны, хто ўступаў, браў новае імя, даваў прысягу (кляліся «прысвяціць свае сілы барацьбе за шчасце айчыны і адзінства народаў»), плаціў узносы. Для сувязі існавала сістэма пароляў (Вільня — «маці», Віленская губ. — «халупа» і інш.). Для барацьбы з паліцыяй была створана спецгрупа. Не дазвалялася захоўваць зброю і забароненую літаратуру, парушальнікаў статута штрафавалі. За 2,5 года існавання таварыства праграмныя мэты і гуманістычныя прынцыпы яго ўдакладняліся і канкрэтызаваліся. Таварыства расло колькасна, пашыралася геаграфічна. Аснову яго складалі студэнты-медыкі, уваходзіла таксама і моладзь са шляхты, духавенства, рамеснікаў і інш. У таварыстве панаваў дух інтэрнацыяналізму. У адносінах да сацыяльна-палітычных задач не было аднадушша. Адны аб'ядноўваліся вакол С. (радыкалы), другія пазбягалі палітычных праблем, стаялі на пазіцыях большай памяркоўнасці. С. адстойваў неабходнасць барацьбы з царызмам і дэспатызмам, аб'яднанне розных апазіцыйных слаёў усіх народаў краю (беларусаў, палякаў, рускіх, украінцаў, яўрэяў). Вострая крытыка царызму і прыгонніцтва была накіравана на перабудову жыцця грамадства на аснове «мужыцкай праўды». У пач. 1837 С. наладзіў непасрэдныя кантакты з Канарскім, былым кіраўніком паўстання 1830—31, і распачаў сумесную дзейнасць па здзяйсненні галоўнай мэты таварыства — падрыхтоўкі паўстання сялян супраць прыгонніцтва. Але ў канцы мая 1837 Канарскі, а потым і С. былі арыштаваны. Па справе Канарскага была створана «Віленская следчая камісія па злачынцах» пад старшынствам віленскага віцэ-губернатара князя Трубяцкога, празванага «Чорным д'яблам». У сваіх мемуарах «Споведзь грэшніка, які каецца» (хоць у іх не было ніякага раскаяння) С. пісаў: «Са звярыным крыкам «лжэш, свіння»

кідаўся ён [Трубяцкой] на вязняў у час допыту, біў... пакуль ахвяра не траціла прытомнасць». За 8 месяцаў следства С. не страціў прысутнасці духу. У турме ён звязаўся з тайнай арганізацыяй рускіх афіцэраў, якую ўзначальваў А.Караваеў (спрабаваў арганізаваць уцёкі вязняў). Але адзін з членаў таварыства не вытрымаў катаванняў і назваў усіх, хто быў звязаны з Канарскім. Пачаліся новыя арышты. Канарскі і С. узялі на сябе ўсю віну, але адмаўлялі ідэю падрыхтоўкі ўзброенага паўстання, спасылаючыся на статут. Абвінавачванне ў падрыхтоўцы паўстання не атрымала дакументальнага пацвярджэння. Ваенна-палявы суд 31.1.1839 прыгаварыў Канарскага да расстрэлу, трое з 24 арыштаваных (С., Я.Загорскі і К.Рапчынскі) высланы радавымі на Каўказ без права выслугі, астатнія — з правам на атрыманне армейскіх чыноў.

Пазней сябра і аднадумца С. пісьменнік М.Лавіцкі пісаў Рапчынскаму на Каўказ, што студэнты захоўваюць вернасць ранейшым ідэалам, дзейнічаюць, чытаюць творы С.: «Ты, Франц і Ян жывяцё з намі... Вашы імёны незабыўныя. Яны належаць гісторыі і заўсёды будуць свяціць як ясныя, светлыя зоркі... Слава Вам... няшчасныя людзі, Вялікія людзі».

Далейшы лёс С. быў не менш трагічны. Шлях на Каўказ ён прайшоў пешшу, хварэў, лячыўся. За спробу ўцячы быў накіраваны на перадавую, затым у крэпасць на Каспіі Кізляр. Ва ўспамінах ён пісаў: «Думкі пра вызваленне ніколі не пакідалі мяне.. Уцёкі лічыў адзіным сродкам яго выканання». У 1839 у Адэсе арыштавалі Лавіцкага, у якога былі знойдзены дадатковыя «кампраметуючыя» матэрыялы, у т.л. «шкодныя вершы Савіча і Рапчынскага», рукапіс Лавіцкага «Нарыс духу Віленскай акадэміі», дзе была апісана рэвалюцыйная дзейнасць С. і створанага ім таварыства. Мікалай I загадаў даставіць С. з Каўказа. На беразе Церака жандары знайшлі адзенне і запіску С., што ён утапіўся. На самай справе той з падробленымі дакументамі накіраваўся пешшу праз Малдову ў Румынію. Восенню 1841, вывіхнуўшы нагу, пад імем доктара Гельгега зрабіў прыпынак каля мяст. Яніпшаль Жытомірскага пав. і заняўся лекарскай практыкай. Хутка распаўсюдзілася чутка пра добрага доктара. Улады Яніпшаля запісалі яго ў аднадворцы, што дало магчымасць аформіць замежны пашпарт. Але абавязак доктара прымусіў яго застацца для барацьбы з эпідэміяй халеры. Свае «Успаміны» ён не закончыў, але пра жыццё паспеў расказаць польскаму паэту А.Гразе, яму ж перадаў і незакончаны рукапіс «Споведзі...», які праз 30 гадоў быў апублікаваны. Памёр С. у 1846, пахаваны ў Астражку на Украіне.

Галоўнай сілай у рэвалюцыйна-дэмакратычнай барацьбе С. лічыў народ (сялянства). Гэта адрознівала яго ад папярэдніх рэвалюцыянераў-дваран і шляхты, якія ігнаравалі народ. Ідэйнай асновай праграмы «Дэмакратычнага таварыства» было натуральнае права і прыярытэт розуму, свабода, братэрства і сацыяльная справядлівасць. С. і сябры па таварыстве ставілі за мэту ўзняць на ўзброеную барацьбу сялянства як пераважную большасць насельніцтва краю. Але, зыходзячы з асветніцкіх традыцый, С. і яго аднадумцы лічылі, што дастаткова толькі раскрыць сялянству яго прыгнечанае становішча, як яно пачне барацьбу. С. крытыкаваў антыгуманны і амаральны характар прыгонніцтва, прыгнёту, прыніжэння і здзекаў памешчыкаў над сялянамі, асуджаў такі стан рэчаў, патрабаваў скасаваць ганебнае права аднаго чалавека панаваць над другімі. У доказе натуральнасці і антыграмадскасці прыгонніцкіх адносін С. апеляваў да ідэі роўнасці сацыяльных правоў усіх людзей. Крытыкуючы саслоўную няроўнасць, ён сцвярджаў, што годнасць людзей не залежыць ад іх сацыяльнай і іншай прыналежнасці, а вызначаецца здольнасцямі і талентам, асабістымі якасцямі. Выступаючы за роўнасць усіх, за справядлівы грамадскі лад, С. адмяжоўваўся ад утапічна-схематычнага разумення роўнасці людзей як абсалютнай роўнасці. «У прыродзе няма лікургавай роўнасці. Няма яе і ў людзей, і ў прыродзе, няма яе паміж членамі адной сям'і!» У адрозненне ад многіх сваіх папярэднікаў члены таварыства не ідэалізавалі грамадства, дзе роўнасць абмяжоўвалася толькі роўнасцю ўсіх перад законам, хоць на той час і гэта патрабаванне было прагрэсіўным. Яны

марылі пра рэспубліканскі лад замест манархіі, калі «не будзе ні заможных, ні бедных, ні цароў, ні слуг, усе будуць браты, будуць людзі». Пры гэтым яны лічылі, што не варта шукаць узоры для пераймання, а трэба ісці сваім шляхам. «Ні Злучаныя амерыканскія штаты, ні Швейцарыя не павінны служыць нам узорам у імкненні да багаславеннай садружнасці». Для С. характэрна адданасць ідэалам інтэрнацыяналізму, ідэям братэрства ўсяго чалавецтва. Гэтыя ідэалы знайшлі адлюстраванне ўжо ў арганізацыйных правілах членства ў «Дэмакратычным таварыстве», у прынцыпах, якія вызначалі кірунак барацьбы. Ідэя братэрства народаў лічылася адной з найважнейшых духоўных каштоўнасцей, убіраючы ў сябе гістарычны вопыт і асветніцкую ідэю роўнасці. С. сцвярджаў, што «ўсе нацыі роўныя, і ніхто не павінен адчуваць нянавісць адзін да аднаго, нягледзячы на нацыянальныя адрозненні (рускі, паляк ці яўрэй)». Абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў адбывалася ў абставінах двайнога нацыянальнага ўціску і прыгнёту (рускага і польскага). Тым не менш С. і яго аднадумцы не паддаліся ўплыву сляпога нацыяналізму і не адмяжоўваліся ад дэмакратычных сіл Польшчы і Расіі. Пры абмеркаванні нацыянальных пытанняў яны рабілі ўпор на тое, што іх радніла і аб'ядноўвала. Яны не толькі тэарэтычна стаялі на пазіцыях адзінства, але і ажыццяўлялі яго на справе. Адзінства брацкіх народаў у барацьбе за сацыяльна-палітычныя свабоды, супраць царскага дэспатызму знайшло сваё адлюстраванне ў кароткім закліку таварыства — «За нашу і вашу свабоду!». У процівагу пазіцыям улады і царквы рэвалюцыйны пратэст С. лічыў высокамаральным дзеяннем, бо менавіта дэспатызм насаджае ў грамадстве амаральнасць: нізкапаклонства перад высокапастаўленым чыноўніцтвам, пагоню за тытуламі, прадажнасць, хабарніцтва, бяздушнасць у адносінах да слабых і бедных. Знявага народа і доўгая яго няволя вядуць да з'яўлення і ў яго асяроддзі ганебнай маралі. Адносіны членаў таварыства да рэлігіі былі неадназначныя. Адны лічылі яе галоўнай жыццёвай сілай, адводзілі ёй асаблівую ролю ў маральнай сферы, другія аспрэчвалі гэтыя тэзісы, выказвалі перакананне, што развіццё чалавечага грамадства звязана з вызваленнем з-пад улады царквы і рэлігіі. Але ўсе яны сыходзіліся ў асуджэнні духавенства за сувязь з самадзяржаўем, лічылі, што царква скампраметавала сябе абаронай дэспатычнай улады, асвячэннем прыгонніцтва, амаральнага і антыгуманнага ладу, маральным асуджэннем барацьбітоў за свабоду і справядлівасць. Дэмакратычныя і рэвалюцыйныя ідэі С. і створанага ім «Дэмакратычнага таварыства» не спынілі свайго існавання і пасля таго, як члены таварыства раз'ехаліся па розных гарадах Расіі. Студэнты-медыкі выпуску 1839 кляліся захаваць вернасць дэмакратычным традыцыям. С. не дажыў да адмены прыгоннага права, але яго ідэі і прынцыпы барацьбы знайшлі сваіх прадаўжальнікаў, напрыклад, дзейнасць Ю.*Бакшанскага*. Жыццё і дзейнасць С. — яскравы прыклад сапраўднага служэння народу, вызвалення яго ад дэспатызму і насілля і ў першую чаргу ад цяжкага прыгону.

*Тв.*: У кн.: Helenijusz E. Wspomnienia , lat minionych. Pamietnik Sawicza. Kraków, 1876. T. 2.

*Літ.*: Мошковский К. Очерк духа Виленской Академии от учреждения оной до 1839 г. // Русский архив. 1909. Кн. 1, вып. 4; Смірноў А.Ф. Франц Савіч. Мн., 1961; Мохнач Н.Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в. Мн., 1971. С. 18—51. *К.С.Пракошына.*

## САВІЧ-ЗАБЛОЦКІ Войслаў [Суліма-Савіч-Заблоцкі Вайніслаў Казімір Канстанцінавіч; псеўданімы: Грамадзянін з Белай Русі, Граф Суліма, Павел Завіша, Pawel Zawicza, Полоцкий Гаврило; 15.3.1850 (паводле іншых звестак 1849)—пасля 1893]

Паэт, празаік, публіцыст. Нарадзіўся ў маёнтку Панчаны Дзісенскага пав. Віленскай губ. (цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл.) у багатай памешчыц-

кай сям'і. Бацька яго памёр рана, і С.-З. выхоўваўся ў дзеда ў маёнтку Мікалаева Гарадоцкага пав. (цяпер Шумілінскі р-н). Дзед не звяртаў на ўнука асаблівай увагі і не мог плённа ўплываць на яго. Той рос на руках у дваровых, што спрыяла яго збліжэнню з народам. Паміж дзедам і маці за С.-З. ішла з пераменным поспехам упартая барацьба, звязаная з пэўнымі маёмаснымі інтарэсамі. Вучыўся С.-З. ў Віленскай гімназіі і ў замежных універсітэтах (Прага, Лейпцыг, Страсбург). Відаць, гэта было кароткачасовае навучанне са статусам вольнага слухача. С.-З. рана пранікся ідэямі вызваленчага руху і нацыянальнага абуджэння беларускага народа. Паводле яго ўласных слоў, у 1868 ён увайшоў у нацыянальна-асветную суполку «Крывіцкі вязок», што ўтварылася ў Пецярбургу і займалася выданнем беларускіх кніг, збіраннем фальклору, падрыхтоўкай слоўніка і г.д. Улады забаранілі суполку, а яе ўдзельнікаў абвінавацілі ў «сацыялізме і прапольскіх сімпатыях». С.-З. апынуўся пад наглядам паліцыі ў Варшаве, дзе надрукаваў на польскай мове сатырычную паэму «Праўдападобная гісторыя» (1871) і гістарычныя творы пра Каперніка (1873). Адначасова яго вабіла беларуская паэзія. У 1873 ён даслаў у пецярбургскі часопіс «Вестник Европы» тры свае лірычныя вершы разам з пісьмом, у якім гаварыў пра старажытнасць беларускай мовы і неабходнасць яе літаратурнай распрацоўкі на новым этапе. У пісьме таксама паведамляў пра намер выдаць «Пісьмы з Варшавы» на рускай мове. З самага пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці С.-З. зарэкамендаваў сябе як пісьменнік трохмоўны (беларуская, польская і руская), што было характэрным для беларускіх літаратараў 2-й паловы 19 ст. Пра наступны перыяд свайго жыцця ён пісаў у аўтабіяграфічнай нататцы, называючы сябе ў трэцяй асобе: «Сатыры і імправізацыі зрабілі яму шмат ворагаў у Заходнім краі, прытым фінансавае становішча яго ў выніку марнатраўства маці моцна пахіснулася. Гэта прымусіла яго ў 1875 выселіцца за мяжу, дзе ён да 1888 жыў, знаходзячыся то ў Аўстра-Венгрыі, то ў Германіі, то ў Егіпце, то ў Францыі» (Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 452). У гэты перыяд С.-З. актыўна супрацоўнічаў у многіх французскіх, нямецкіх і польскіх газетах і часопісах. Матэрыяльнае становішча яго было надзвычай цяжкае. З архіўных матэрыялаў і іншых крыніц вядома, што ў 1875—76 ён жыў у Галіцыі, у Львове пазнаёміўся з польскім рэвалюцыянерам Б.Ліманоўскім, супрацоўнічаў там з выдаўцом часопіса «Ruch literacki» («Літаратурны рух»), колішнім паўстанцам 1863 А.Гілерам, у Тарнове рэдагаваў польскую газету «Gwiazda» («Зорка»). У 1876 «за сацыялістычныя прошукі» яго выслалі з Кракава ў Познань. У тым жа годзе ён напісаў у Празе польскамоўную паэму «Аповесць пра мае часы», прысвечаную Беларусі напярэдадні паўстання 1863. У 1880-я гады ён жыў у Парыжы, спрабаваў выдаваць там газету на французскай мове, чытаць лекцыі пра славянства на рускай мове. У 1882 у сувязі з юбілеем польскага паэта Б.Залескага падараваў яму верш «Беларуская пея» (песня), а ў 1883 мовазнаўцу Л.Нядзвецкаму — свой рукапісны зборнік «Вязанка эпі-



*Познань.*

грамаў» (складаўся з твораў, напісаных у Швецыі, Аўстрыі, Егіпце, на Корсіцы). У 1885 надрукаваў у Познані гістарычную аповесць «Полацкая шляхта». У 1885—86 супрацоўнічаў з варшаўскай газетай «Chwila» («Хвіліна»). У той жа час выдаў у Парыжы брашуру «Яшчэ Польшча не загінула, пакуль існуе Расія», чым выклікаў вялікую незадаволенасць польскай эміграцыі. Летам 1887, калі жыў у вялікай беднасці ў Брусэлі (Бельгія), папрасіў дазволу ў царскага ўрада вярнуцца з эміграцыі. У канцы снежня 1887 вярнуўся на радзіму, дзе за ім быў устаноўлены тайны нагляд. У 1888—89 працаваў у рэдакцыі газеты «Виленский вестник». У 1889—91 жыў у сваёй цёткі ў маёнтку Губіна Лепельскага павета, вёў перапіску з мовазнаўцам Я.Карловічам, рускім гісторыкам К.Бястужавым-Руміным. Летам 1891 агледаў метэаралагічную станцыю вядомага вучонага *Я.Наркевіча-Ёдкі* ў маёнтку Над-Нёман (цяпер Уздзенскі р-н), але візіт, як пісала прэса, закончыўся сутыкненнем з гаспадаром. У тым жа 1891 прыехаў у Мінск, пасяліўся ў Нова-Маскоўскай гасцініцы, перапісваўся са славістамі П.Кулакоўскім і А.Будзіловічам. У лістападзе 1891 апынуўся ў Пецярбургу «з намерам далучыцца да праваслаўнай царквы, веравызнання яго беларускіх продкаў». Там пазнаёміўся з гісторыкам і выдаўцом М.Сямеўскім і пакінуў аўтабіяграфічны запіс у яго вядомым альбоме «Знаёмыя. Кніга аўтографаў». У 1892 у часопісе «Благовест» надрукаваў нарыс «Шчаслівейшая Марыся» з серыі «Беларускія нарысы». Апошні вядомы дакумент, звязаны з С.-З. — адрасаванае яму пісьмо рэдактара «Биржевых ведомостей» М.Коншына ад 3.2.1893, у якім газета адмовілася надрукаваць яго пераклад з польскай мовы пад назвай «Пятруша» нібыта з-за нелітаратурнасці яго мовы.

Жыццё і творчасць С.-З., яго супярэчлівыя ідэйна-грамадскія пошукі адлюстроўваюць нялёгкія шляхі станаўлення беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры таго часу. Яго беларускамоўная творчасць знайшла належнае месца на старонках гісторыі роднага пісьменства. Асобныя рукапісы і дакументы зберагаюцца ў архівах і бібліятэках Мінска, Вільнюса, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Львова, Польшчы.

*Літ.*: Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 451—462. *Г.В.Кісялёў.*

## САПУНОЎ Аляксей Парфенавіч (27.3.1851—2.10.1924)



Гісторык, археограф, краязнавец. Нарадзіўся ў мяст. Усвяты Веліжскага павета Віцебскай губ. ў купецкай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў у павятовым вучылішчы. З 1862 вучыўся ў Аляксандраўскай гімназіі ў Віцебску, пасля заканчэння якой у 1869 паступіў на гістарычна-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Пасля заканчэння універсітэта (1873) пакінуты на кафедры. У 1873—96 працаваў настаўнікам лацінскай і грэчаскай моў у Віцебскай гімназіі. Дaслужыўся да стацкага саветніка, меў ордэны св. Станіслава III і II ступені і св. Ганны III і II ступені. З 1896 працаваў архіварыусам Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў. З 1897 выкладчык Маскоўскага універсітэта. З 1901 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта. У 1907 выбраны дэпутатам ад Віцебскай губерні ў Дзяржаўную думу 3-га склікання, дзе падтрымліваў правае крыло акцябрыстаў. У 1913 С. прызначаны сакратаром Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, з 1918 загадчык секцыі дэмаграфіі ў губернскім статыстычным

бюро, з 1919 — у Віцебскім губернскім архіве. Актыўна ўдзельнічаў у стварэнні Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея і Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, адзін з ініцыятараў адкрыцця Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута, у якім выкладаў з 1911 да 1922, з 1913 — прафесар. Быў ганаровым членам шматлікіх вучоных камісій і навукова-культурных таварystваў у Віцебску, Магілёве, Маскве, Пецярбургу; ганаровы грамадзянін г. Веліж.

Першая праца С. «Гістарычныя звесткі аб Віцебскім замку» надрукавана ў «Памятной книжке Витебской губернии на 1881 г.». Пры жыцці выдадзены 72 яго працы, сярод якіх зборнікі гістарычных матэрыялаў, актаў і дакументаў, навуковыя даследаванні і ўступныя артыкулы да гістарычных зборнікаў, артыкулы і творы, разлічаныя на шырокае кола чытачоў. С. даследаваў гісторыю, літаратуру, этнаграфію, археаграфію, архітэктуру, фальклор Беларусі, пераважна Падзвіння, выявіў і зрабіў палеаграфічныя апісанні старажытных рукапісных помнікаў, апісаў Барысавы камяні, архівы Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Мінска. У ліку яго твораў: «Полацкі

*«Витебская старина» (вокладка). Т. 4. Віцебск, 1835.*



*Віцебск у 19 ст.*

Сафійскі сабор» (1888), «Дзвінскія або Барысавы камяні» (1890), «Рака Заходняя Дзвіна: Гісторыка-геаграфічны агляд» (1893), «Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісенскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні» (1896, разам з Друцкім-Любецкім), «Помнікі часоў старажытных і найноўшых у Віцебскай губерні» (1903), «Універсітэт у Полацку» (1908) і інш. Самая буйная праца С. — зборнік дакументаў «Віцебская даўніна» (т.1, 4, 5, 1883—88).

*Літ.:* Стукалич В.К. А.П.Сапунов: К 25-летию его учёной и литературной деятельности. Витебск, 1905; Падліпскі А. Летапісец Віцебшчыны. Мн., 1993.

*А.М.Філатава.*

## САСНОЎСКІ Антон Юр'евіч (1775—1852)

Рэлігійны дзеяч. Паходзіў са старадаўніх чарнігаўскіх дваран, выхаванец бельскага вучылішча і супрасльскай епархіяльнай семінарыі. Быў членам Супрасльскага капітула, драгічынскім протапрэсвітэрам, брэсцкім канонікам, дэпутатам Драгічынскага павятовага суда, віцэ-старшынёй Брэсцкай кансісторыі (прызначаны на гэту пасаду неўзабаве пасля таго, як вытрымаў экзамен на багаслоўскім факультэце Віленскага універсітэта), афіцыялам віленскай мітрапаліцкай кафедры, старэйшым саборным протаіерэем. У 1838 С. прызнаны «нядобранадзейным» і сасланы ў Кастрамскую губерню, але ў тым жа годзе памілаваны і неўзабаве адноўлены ў званні. Правёў больш за 30 гадоў у жорсткай барацьбе з базыльянамі. Змог дамагчыся пэўнага паляпшэння ў становішчы белага праваслаўнага духавенства, напісаў шэраг праектаў, частка з якіх атрымала заканадаўчую санкцыю і садзейнічала павелічэнню колькасці грэка-уніяцкіх семінарый і вучылішчаў. Быў знаўцам гісторыі царквы і заканадаўства Вялікага княства Літоўскага, любіў даўніну, збіраў народныя песні і апавяданні і дасылаў іх у Імператарскае геаграфічнае таварыства. У «Актах Віленскай археаграфічнай камісіі» (т. 16, 1889) надрукаваны яго «Адказы Брэсцкага капітула», у якіх выкрываў факты незаконнага спагнання каталіцкім духавенствам царкоўнай дзесяціны з беларускіх уніятаў.

*Літ.:* Боровский П.И. А.Ю.Сосновский. Вильна, 1890.

## СЕМЯНТОЎСКІ (Семянтоўскі-Курыла) Аляксандр Максімавіч (1821—93)



Археолаг, краязнавец, этнограф, фалькларыст. Паходзіў з Расіі. «У неспакойны час паўстання» 1863—64 накіраваны на Беларусь для яе русіфікацыі. Аднак у адрозненне ад іншых чыноўнікаў-каланізатараў С. хутка асіміляваўся і з вялікай энергіяй узяўся за даследаванне краю. Да прыезду на Беларусь ён збіраў украінскі фальклор і ў 1851 выдаў зборнік «Маларускія і галіцкія загадкі». У Віцебскай губ. С. працаваў сакратаром губернскага статыстычнага камітэта і адначасова быў рэдактарам неафіцыйнай часткі газеты «Витебские губернские ведомости», пазней — рэдактарам «Памятной книжки Витебской губернии». У 1864 С. падрыхтаваў працы «Статыстычны нарыс Віцебска» і «Сінельна-набойная вытворчасць у г. Віцебску». Асноўнай этнаграфічнай працай С. пра побыт і культуру беларусаў з'яўляецца «Этнаграфічны агляд Віцебскай губерні» (Спб., 1872). У прадмове да яе аўтар пісаў: «Ніколі этнаграфія як навука не звяртала на сябе столькі ўвагі вучоных і наогул адукаваных людзей, як у другой палавіне бягучага стагоддзя, калі да спраў дзяржаўнай палітыкі далучылася

складанае пытанне аб нацыянальнасці». С. рэзка крытыкаваў «Погляд на гісторыю і этнаграфію заходніх губерняў Расіі» Ф.Р.Эркерта (1864), які сцвярджаў, што веравызнанне найбольш яскрава вызначае рысы, якія адрозніваюць адну народнасць ад другой. На канкрэтных статыстычных даных і прыкладах з жыцця акаталічаных на тэрыторыі Віцебскай губерні беларусаў, латышоў, эстонцаў і іншых народнасцей, якіх Эркерт залічыў у палякі, С. навукова аргументавана падышоў да вызначэння этнічнага складу насельніцтва. Ён лічыў, што галоўнымі акалічнасцямі трэба лічыць родную мову, мінулы гістарычны лёс і сучасны лад жыцця, а таксама нацыянальную самасвядомасць народа і яго культуру.

У поглядах С. часам заўважаўся пэўны адбітак вялікадзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да беларусаў (нібыта беларус па сваіх інтэлектуальных і фізічных якасцях стаіць ніжэй за рускіх), аднак у асноўным ён прыхільна ставіўся да беларускага народа пры апісанні яго побыту і культуры, падкрэсліваў цяжкае матэрыяльнае становішча, не вінаваціў у гаротным лёсе, ускладаючы віну на прыродныя ўмовы пражывання і фізічную прыроду насельніцтва. У працы «Аб мерах і вазе, якія выкарыстоўваюцца цяпер і ўжываліся ў старыя гады ў Віцебскай губерні» (1878) С. ахарактарызаваў 53 меры вагі і падкрэсліваў важнасць вывучэння такіх адзінак народнай метралогіі для даследавання побыту народа. Мясцовым уладам ён рэкамендаваў хутчэй уводзіць адзіныя меры і вагу, бо разнабой стварае ўмовы для падману сялян рознымі перакупшчыкамі. Праца С. «Беларускія старажытнасці» (вып. 1, Спб., 1890) прысвечана апісанню старажытных помнікаў і археалагічных знаходак. У ёй ёсць таксама падрабязнае апісанне абрадаў пахавання і памінак.

*Літ.*: Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964. С. 122—126.

## **СЕРДЗЮКОЎ** Іван Іванавіч (12.11.1803—14.10.1886)

Эканаміст-наватар, этнограф, фальклярыст. Нарадзіўся на Палтаўшчыне. Вучыўся ў Канатопскім вучылішчы і Чарнігаўскай гімназіі, быў вольным слухачом Харкаўскага універсітэта. Служыў у канцыляры́і ваеннага губернатара. У 1842 г. пераехаў у жончын маёнтак Кудрычы на Мсціслаўшчыне, дзе заняўся ўпарадкаваннем гаспадаркі. Шмат увагі аддаваў увядзенню новага паляводства, паляпшэнню ворнай зямлі, выкарыстоўваючы мінеральныя і арганічныя ўгнаенні, праводзячы меліярацыйныя работы; разводзіў прадукцыйныя пароды жывёлы. З прыхільнасцю ставіўся да прыгонных сялян, клапаціўся аб паляпшэнні ўмоў іх жыцця, заахвочваў пашыраць гаспадарку, дапамагаў матэрыяльна, імкнуўся выправіць маральна. У сярэдзіне 1840-х гадоў пачаў змяшчаць у пецярбургскім перыядычным друку артыкулы эканамічна-гаспадарчага характару, у якіх дзяліўся вопытам па гадоўлі жывёлы, апрацоўцы і ўгнойванні глебы, уборцы збожжавых культур, доглядзе пчол, вырабе палатна. Вёў актыўную перапіску з такімі ж, як сам, дапытлівымі гаспадарамі ў розных кутках Беларусі і Расіі. Запісваў народныя прыкметы. Пакінуў цікавыя звесткі пра тагачаснае жыццё і гаспадарчыя заняткі. На пачатку 1850-х гадоў паступіў аканомам у калужскія маёнткі князёў Качубеяў. Шмат зрабіў па ўпарадкаванні спраў і пашырэнні княжацкіх уладанняў, але неўзабаве вымушаны быў пакінуць службу. Вярнуўшыся ў вёску, аддаўся гаспадарчым і грамадскім справам. Пісаў артыкулы аб паляпшэнні гаспадарак, народнага дабрабыту, крытыкаваў несправядлівасць, хабарніцтва, прапанаваў скасаваць прыгон і дазволіць усім, хто жадае, набываць памешчыцкія маёнткі. Свае прапановы дасылаў у рэдакцыі часопісаў, у Вольнае эканамічнае таварыства, міністру фінансаў, у асобую заканадаўчую камісію. Многія яго праекты былі ажыццёўлены. Пасля адмены прыгоннага права першы на Мсціслаўшчыне склаў з сялянамі дагавор, выдзеліў ім па 5 дзесяцін зямлі на душу (замест чатырох, вызначаных палажэннем). Магілёўскі губернатар прызначыў яго міравым пасрэднікам у павеце. На гэтай пасадзе ён настойліва абараняў інтарэсы сялян, дамагаўся ад памешчыкаў уступак, пераадольваў іх упартасць. У артыкуле «Сялянскае

жыццё і звычаі ў Мсціслаўскім павеце» С. паказаў глыбокае веданне сялянскага жыцця і побыту: дэталёва апісаў жыллё і яго начынне, гаспадарчыя будынкі, ежу, вопратку, прылады працы, грунтоўна расказаў пра збожжавыя культуры, бульбу, іх догляд і ўборку, асаблівасці жывёлагадоўлі. Падрабязна апісаў сялянскую сямейную абраднасць — вяселле, радзіны, хрэсьбіны, пахаванне, памінкі, прывёў фальклорныя тэксты. У апошнія гады працаваў над складаннем маларускага слоўніка (праца засталася ў рукапісе). У маладосці С. пісаў вершы, аповесці, камедыі. Ён быў чалавекам бескарыслівым, высока цаніў незалежнасць, з годнасцю адстойваў уласныя погляды на жыццё. Пахаваны на кудрыцкіх могілках.

*Тв.*: О хлебокошении // Земледельческая газ. 1848. № 51—52; Хозяйственные расчёты и ценность произведений // Там жа. № 99—100; Испорченное и поправленное хозяйство // Там жа. 1849. № 8—9; Народные приметы погоды и метеорологии // Там жа. № 34; Климатология Мстиславского уезда Могилевской губернии // Там жа. 1850. № 65; Очерки хозяйства моего // Тр. имп. Вольного экономического о-ва. 1850. № 4; Хозяйство в имении Кудричи // Эконом. 1850. № 11—18; Автобиографическая записка И.И.Сердюкова // Киевская старина. 1896. № 11—12.

*Літ.*: Юрчанка Г. Асветнік з Кудрыч // Полымя. 1990. № 6.

## СЕЎРУК Людвіг Сцяпанавіч (1807—52)

Вучоны-медык, педагог. Нарадзіўся ў маёнтку Канстанцінава ў Рэчыцкім пав. Мінскай губ. ў дваранскай сям'і. Атрымаў хатнюю пачатковую адукацыю. У 1823 паступіў на юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта, але неўзабаве перайшоў на фізічнае, потым на філалагічнае і ўрэшце на медыцынскае аддзяленне, якое і скончыў. Яшчэ студэнтам быў памочнікам паталагаанатама і набыў багаты практычны вопыт у гэтай галіне медыцыны. У 1831 прызначаны ардынатарам у ваенны шпіталь. З 1834 — першы выкладчык паталагічнай анатоміі ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1838 атрымаў ступень доктара медыцыны. З 1840 ардынарны прафесар на кафедры анатоміі Маскоўскага універсітэта. Чытаў лекцыі, вёў практычныя заняткі. Адначасова працаваў урачом пры двюх маскоўскіх бальніцах. Аўтар прац «Аб сутнасці халеры» (1849), «Аб уздзеянні маслянай кіслаты на жывёльны арганізм» (1852), «Прапіламін пры раматусе» і інш., артыкулаў у дадатку да перакладу «Настаўленне па анатама-паталагічнай анатоміі і дыягностыцы» (1853) і інш.

## СІЛІВАНОВІЧ Нікадзім Юр'евіч [12(25).12.1834—1919]

Жывапісец, педагог. Нарадзіўся ў в. Цынцавічы Вілейскага пав. Мінскай губ. (непадалёк ад Маладзечна) у сялянскай сям'і. У 1854 скончыў Маладзечанскае павятовае 5-класнае вучылішча, дзе атрымаў агульную і спецыяльную адукацыю. Першыя крокі ў выяўленчым мастацтве зрабіў у жанры партрэта. У гэтым жанры спецыялізаваўся і ў час навучання ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, куды паступіў у 1859. У 1863 атрымаў званне свабоднага мастака і вярнуўся ў родную вёску. У 1864 па запрашэнні Лідскага павятовага праўлення пачаў афармляць храмы: пісаў іконы, а таксама партрэты царкоўных і інш. дзеячаў. За работы, прадстаўленыя акадэмічнаму савету, у 1866 атрымаў званне класнага мастака 3-й ступені. Захапіўшыся мазаікай і маючы намер удасканаліць майстэрства ў гэтай галіне, ён паступіў вучнем у мазаічны



*Санкт-Пецярбург. Ісакіеўская плошча.*

клас Акадэміі мастацтваў, пасля паспяховага завяршэння якога ў 1870 залічаны выкладчыкам гэтага класа з прысваеннем звання класнага мастака 2-й ступені. Удасканальваючы майстэрства ў галіне партрэта, С. паглыбляў псіхалагічную і сацыяльную характарыстыку. Яго партрэты пачалі нагадваць побытавыя карціны, якія выразна паказвалі сімпатыі мастака да простага народа. У 1874 С. атрымаў званне класнага мастака 1-й ступені. У пачатку 1870-х гадоў удзельнічаў у афармленні Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу, дзе ён сумесна з мазаістам Іванам Лаврэцкім выканаў у тэхніцы мазаікі «Тайную вячэру» для галоўнага іканастаса. За гэтую работу ў 1877 С. прысвоена званне акадэміка і ён прызначаны старшым мастаком-мазаістам. Вольныя ад працы ў Акадэміі дні С. выкарыстоўваў для падарожжаў па роднай Беларусі, адкуль кожны раз прывозіў багаты матэрыял для побытавых кампазіцый. Творчасць мастака развівалася ў пераходны перыяд ад класіцызму да рэалізму, што знайшло адлюстраванне ў яго работах. Ён унёс у гісторыю беларускага жывапісу свежы дэмакратычны струмень. У Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі і Дзяржаўным мастацкім музеі Літвы захоўваюцца выкананыя ім партрэты «Стары пастух», «Аўтапартрэт», «Партрэт жонкі», «Партрэт сына», «Рустэйкайтэ», «Партрэт мужчыны», «Партрэт жанчыны», «Павятовы староста», жанравыя кампазіцыі «У школу», «Дзеці ў двары», «Салдат і хлопчык».

*Літ.*: Д р о б а ў Л.Н. Беларускія мастакі XIX ст. Мн., 1971; Я г о ж. Паходзіў з дзяржаўных сялян // Мастацтва Беларусі. 1985. № 8.

## **СІНЦОЎ** Іван Фёдаравіч (1845—?)

Геолаг, палеантолаг, педагог. Паходзіў з Беларусі. Пасля заканчэння Саратаўскай гімназіі паступіў у Казанскі універсітэт, які скончыў у 1868 і застаўся ў ім працаваць. З 1869 як прыват-дацэнт выкладаў там геалогію. У 1871 абараніў ступень магістра і перайшоў на працу ў Новарасійскі універсітэт у Адэсе. У 1872 абараніў доктарскую дысертацыю і, атрымаўшы званне прафесара, выкладаў геалогію і палеанталогію. З 1901 быў на дзяржаўнай службе чыноўнікам па асобых даручэннях, загадваў водазабеспячэннем вінных складоў. Далейшы лёс невядомы.

С. быў адным з лепшых на той час знаўцам мезазойскіх утварэнняў Паволжа і найноўшых адкладаў на поўдні Расіі, напісаў каля 50 навуковых прац, сярод якіх «Геалагічны нарыс Саратаўскай губерні» (1870), «Геалагічны нарыс Бесарабскай вобласці» (1873), «Геалагічнае даследаванне Адэскага павета», «Аб адэскіх апоўзнях», «Пра адэскія буравыя свідравіны...» і інш.



*Н.Ю.Сілівановіч. Дзеці ў двары. 1870-я гады.*

## **СКРАБЕЦКІ** Леан (?—?)

Музыкант, педагог, дырыжор, кампазітар 19 ст. З сярэдзіны 1850-х гадоў жыў і працаваў у Магілёве. Выступаў у канцэртах як выканаўца на фартэпіяна і фісгармоніі, дырыжыраваў аркестрам мясцовых аматараў музыкі, навучаў ігры на розных інструментах. У канцы 1868 пераехаў у Віцебск, у 1869 — у Мінск, дзе дырыжыраваў Мінскім гарадскім аркестрам. У 1876—80 адзін з дырыжораў музыкальнага таварыства ў Растове-на-Доне. Стваральнік фартэпіянных і вакальных твораў, якія друкаваліся ў Вільні і Варшаве; аўтар артыкулаў пра музычнае жыццё Магілёва ў часопісе «Ruch muzyczny» («Музычны рух»). Супрацоўнічаў з рэдакцыямі газет «Могилёвские губернские ведомости» и «Донская пчела».

## **СЛАВІНСКІ** Пётр (10.7.1795—30.6.1881)



Астраном, педагог. Нарадзіўся ў в. Кена Віленскага пав. У 1815 скончыў Віленскі універсітэт, дзе ў 1818—19 і 1823—32 выкладаў астраномію. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН, прафесар (1826). У 1825—43 дырэктар Віленскай астранамічнай абсерваторыі. Вывучаў рух астэроідаў, планет і Месяца, удзельнічаў у правядзенні геадэзічных работ у Літве і на Беларусі. Аўтар падручніка па тэарэтычнай і практычнай астраноміі (Вільня, 1826). Першы ў Літве і на Беларусі пачаў разглядаць жыццёвыя працэсы з пазіцый матэрыялізму.

## **СЛОНІМСКІ** Зіновій (Хаім Зэлік) Якаўлевіч (1810—?)

Вучоны, вынаходзец, пісьменнік. Нарадзіўся ў Беластоку. За вынаходніцтва лічыльнай машыны ў 1845 атрымаў Дзямідаўскую прэмію. Калі ў 1844 быў у Берліне, на таленавітага вынаходніка звярнулі ўвагу вядомыя вучоныя, у т.л. А.Гумбальт, які прадставіў яго прускаму каралю. Меркавалася забяспечыць С. матэрыяльнымі сродкамі, каб ён змог пасяліцца ў Берліне і потым заняць кафедру матэматыкі ў адным з прускіх універсітэтаў, але сямейныя абставіны перашкодзілі. С. прыдумаў таксама маленькую прыладу для складання і адымання, якая была больш зручная для ўжывання, чым звычайныя рускія лічыльнікі. У 1859 надрукаваў «Апісанне спосабу перадачы дзвюх розных дэпеш і ў той самы час прыём дзвюх іншых дэпеш па адным праваднiку». Свае працы ён пісаў пераважна на старажытнаяўрэйскай мове. Матэматычныя здольнасці і вынаходніцтвы, якімі ён у маладосці ўражваў вучоных-тэарэтыкаў, не знайшлі належнага прымянення часткова з прычыны неспрыяльных умоў тагачаснага выхавання і побыту, а таксама з-за спецыфічных асаблівасцей яго характару. Ён вырас у артадаксальнай сям'і з яе старазапаветнымі звычкамі і побытам, таму знаёміцца з кнігамі замежных аўтараў мог толькі патаемна. Каб займацца любімай справай, вымушаны быў развесціся з жонкай і пераехаць з Беластока ў Варшаву. Многія са сваіх вынаходстваў ён так і не змог укараніць у вытворчасць, а яго задумкі былі выкарыстаны замежнымі вучонымі.

У 1861 С. заснаваў у Варшаве навукова-папулярную газету на старажытнаяўрэйскай мове «Гацэфіры» («Світанак»). Яе выданне спынілася ў сувязі з падзеямі 1863. Да пачатку 1870-х гадоў С. быў інспектарам равінскага ву-

чылішча ў Жытоміры, пасля чаго аднавіў выданне газеты спачатку ў Берліне, потым у Варшаве. Надрукаваў у ёй шмат артыкулаў па розных пытаннях прыродазнаўства. Асобна ім выдадзены працы «Аб бессмяротнасці душы», «Асновы яўрэйскага календара» (абедзве 1852), «Геаметрыя» (1866) і інш. *Г.А.Маслыка.*

## СЛУПСКІ Аляксандр Іванавіч [4(16).4.1864—каля 1907]

Беларускі літаратар, гісторык і археолаг. Нарадзіўся ў Слуцку. Скончыў Мінскую гімназію, Пецярбургскі універсітэт (1887). У 1880—90-я гады друкаваў гісторыка-краязнаўчыя і літаратурна-крытычныя артыкулы ў перыядычных выданнях Мінска. У «Паўночна-Заходнім календары на 1888 год» апублікаваў гістарычны нарыс «Ізяслаўль і Тураў...». Пад яго рэдакцыяй у Мінску выдадзены «Паўночна-Заходні каляндар» на 1892 і 1893, дзе С. змясціў і свой «Народны каляндар», складзены на аснове беларускіх народных прыкмет, абрадавых песень і прыпевак, артыкулы «Гісторыя Мінска» і «Легенда пра Магілёў». У артыкуле «Стары Мінск» (1890) прывёў біяграфічныя звесткі пра В.Дуніна-Марцінкевіча. З 1893 працаваў на Урале. У 1901—05 член Пермскай губернскай архіўнай камісіі. Вывучаў архітэктуру і археалогію Паўночнага Урала («Архітэктурныя помнікі Салікамска», 1902; «Падземныя хады Салікамска», 1904; «Да пытання аб маскоўскім і ноўгарадскім уплыве ў архітэктурных помніках Салікамска і Чэрдыні», 1905).

## СМАЛЕНСКІ Перац Майсеевіч (8.3.1840 або 1842—20.1.1885)

Яўрэйскі пісьменнік, публіцыст, выдавец. Нарадзіўся ў в. Манастыршчына Магілёўскай губ. Атрымаў талмудычную адукацыю ў шклоўскім ешыбоце і з 15 гадоў працяглы час вандраваў па краіне, пераважна пехатой. Быў пеўчым у сінагагальным хоры, потым выконваў абавязкі памочніка кантара, настаўніка і інш. У 1862 трапіў у Адэсу, дзе працягваў самаадукацыю і выступіў у часопісе «Гамейліц» («Абаронца») з крытычнымі артыкуламі і аповесцямі. У 1868 пераехаў у Вену, выдаваў штомесячнік «Гашахар» («Заранак»), у якім змясціў некалькі сваіх артыкулаў. У іх адстойваў яўрэйскую самабытнасць, ідэю нацыянальна-палітычнага адраджэння яўрэйскага народа, адначасова актыўна змагаўся з цёмнымі бакамі яўрэйскага жыцця. З 1878 выдаваў штотыднёвую газету «Гамабіт» («Назіральнік»). Яго твор «Блукаючы па жыццёвых шляхах» (1871), які часткова мае аўтабіяграфічны характар, дае яскравы малюнак жыцця ў мяжы аселасці. Лічыўся стваральнікам тагачаснай яўрэйскай публіцыстыкі і крытыкі.

## СМАРОДСКІ Аляксандр Паўлавіч (1850—?)

Педагог, пісьменнік, краязнавец. Скончыў Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут. Працаваў выкладчыкам Мінскай гімназіі, потым быў сакратаром Мінскага губернскага статыстычнага камітэта. Пачынаючы з 1880-х гадоў актыўна заняўся вывучэннем і сістэматызацыяй мінулага і сучаснага Мінскай губ., у выніку напісаў шэраг прац, якія сталі пэўным укладам у справу развіцця археалогіі і гістарычнага краязнаўства на Беларусі. Галоўныя з яго выданняў: «Дзесяць гадоў у жыцці Мінскай гімназіі» (1886), «Прастора і гарады Мінскай губерні» (1888), «З нагоды 50-годдзя ўз'яднання уніятаў з праваслаўнай царквой», «Асушэнне Палесся» (абедзве 1889), «Саматужныя промыслы ў Мінскай губерні» (1890), «Мінскі тэатр і яго мінулае» (1891), «Летапіс горада Мінска» (1891 і 1892), «Стагоддзе Мінскай губерні» (1892), «Дзевяты археалагічны з'езд у Вільні» (з бібліяграфічным паказальнікам твораў, артыкулаў, нататак, што адносяцца да прадмета археалогіі па Мінскай губ., 1893), «Геаграфія Мінскай губерні» (1894).

## СПАСОВІЧ Уладзімір Данілавіч (16.1.1829—26.10.1906)

Юрыст, публіцыст, літаратуразнавец. Нарадзіўся ў г. Рэчыца Мінскай губ. ў сям'і медыка. Вучыўся ў Мінскай гімназіі. Пасля заканчэння юрыдычна-

га факультэта Пецярбургскага універсітэта (1849) у 1851 абараніў на кафедры міжнароднага права магістарскую дысертацыю. У 1857—61 быў прафесарам крымінальнага права Пецярбургскага універсітэта. У знак пратэсту супраць жорсткай расправы над удзельнікамі студэнцкага руху пакінуў у 1861 працу ва універсітэце і выкладаў крымінальнае права ў вучылішчы правазнаўства. За кнігу «Падручнік крымінальнага права» (1863) С. прысуджана вучоная ступень доктара права. У працах па тэорыі судова-крымінальных доказаў ён абагульніў і прааналізаваў дзеючыя крымінальна-прававыя нормы і першы выступіў з рэзкай крытыкай «Улажэння аб пакараннях крымінальных і папраўчых 1846 г.». Лічыў, што пакаранне не павінна быць помстай і застрашваннем, а выкарыстоўваецца дзяржавай з папераджальнай і выхаваўчай мэтамі. Выступаў супраць цялесных і асабліва жорсткіх пакаранняў, у т.л. супраць смяротнай кары. Адну з прычын злачыннасці бачыў у недасканаласці дзяржаўных і грамадскіх устаноў, нізкай культуры народа. С. быў упэўнены, што заканадаўца павінен клапаціцца аб умацаванні пачуцця ўласнай годнасці чалавека, аб павазе і цярплівасці ў адносінах да чужых перакананняў і поглядаў. Ідэі С. былі прызнаны небяспечнымі, і па распараджэнні цара Аляксандра I яго «Падручнік крымінальнага права» быў забаронены.

С. падвергнуў крытыцы фармальную тэорыю доказаў і выказаў думку, што тэорыя доказаў з'яўляецца галоўнай у сістэме судаводства і складае аснову ўсяго крымінальнага працэсу, самую істотную яго частку, якая абумоўлівае формы судаводства і канструкцыю судовых органаў. Распрацаваў і абгрунтаваў уласную класіфікацыю судовых доказаў. У сваіх навуковых даследаваннях тэарэтычна даказаў неабходнасць перагляду ўсёй сістэмы судовага ладу і судаводства. Ён патрабаваў заканадаўчага замацавання і ўвядзення ў практыку судаводства прынцыпаў незалежнасці суда ад адміністрацыі, нязменнасці суддзяў, заснавання інстытутаў адвакатуры і пракурорскага нагляду, увядзення спаборнага, вуснага і галоснага судаводства, роўнасці перад законам з адменай усялякіх перавaг, у т.л. перавагі мужчыны над жанчынай. С. лічыў неабходным увесці выбарныя пасады суддзяў з вызначаным узроставым і маёмасным цэнзам. У навуковым артыкуле «Аб мове ў галіне судаводства» выказаў думку, што рускія судовыя чыноўнікі павінны валодаць мовай таго народа, сярод якога працуюць. Быў ідэйным натхняльнікам судовай рэформы ў Расіі. Ён не прымаў непасрэднага ўдзелу ў яе правядзенні, але большасць яго прапаноў і навуковых распрацовак былі ўлічаны і леглі ў аснову Судовых статутаў 1864.

У 1866 у сувязі з судовай рэформай перайшоў у адвакатуру і стаў адным з першых у Расіі прысяжных павераных. Дзякуючы сваім прафесійным ведам, шырокай эрудыцыі і бліскучым здольнасцям прамоўцы ён стаў адным з лепшых расійскіх адвакатаў. Калегі называлі яго «каралём адвакатуры», «першым адвакатам Пецярбурга». Асабліва ахвотна ён выступаў абаронцам па палітычных справах. Апазіцыйна настроены да самадзяржаўна-памешчыцкіх парадкаў у Расіі, ён прымаў удзел амаль ва ўсіх буйнейшых палітычных працэсах свайго часу (у справе нячаеўцаў, у «працэсе 193-х» і інш.). Як судовы прамоўца вызначаўся тонкім аналізам абставін справы і асобы абвінавачанага, майстэрскай распрацоўкай доказаў. Паводле зместу сваіх судовых прамоў С. быў, як адзначаў А.Ф.Коні, не толькі абаронцам, але і мысліцелем, для якога прыватны выпадак служыў асновай для ўзняцця агульных пытанняў і іх ацэнкі з пункту гледжання палітыка, маралiста і публіцыста.

С. — аўтар навуковых прац па міжнародным праве, крымінальным і крымінальна-працэсуальным праве, польскім і еўрапейскім рамантызме, руска-польскіх літаратурных сувязях. Пісаў на рускай і польскай мовах. Усе яго навуковыя працы прасякнуты гуманізмам, павагай да асобы чалавека, да чужых думак і перакананняў. Ён зрабіў значны ўклад у распрацоўку праблем псіхафізіялогіі, выказаў і абгрунтаваў шэраг цікавых ідэй на пасяджэнні псіхіятрычнага таварыства пры Ваенна-медыцынскай акадэміі, членам якога быў. С. належаць навуковыя працы па гісторыі («Жыццё і

палітыка маркіза Веляпольскага», 1882), мастацтвазнаўстве (разам з А.Пыпіным напісаў «Агляд гісторыі славянскіх літаратур», 1865) і інш. Аўтар літаратуразнаўчых і крытычных артыкулаў, прысвечаных творчасці А.С.Пушкіна, М.Ю.Лермантава, А.*Міцкевіча*, Г.Сянкевіча, У.Шэкспіра і інш.

Працы С. ў 10 тамах былі выдадзены ў 1882—1902. С. паслужыў правобразам абаронцы Міці Карамазава ў рамане Ф.Дастаеўскага «Браты Карамазавы».

*Тв.*: Соч. Т. 1—10. 2 изд. Спб., 1913; Pisma. T. 1—9. Peterburg, 1892—1908; Семь судебных речей по политическим делам (1877—87). Спб., 1908.

*Літ.*: Кони А.Ф. В.Д.Спасович // Собр. соч. М., 1968; Т. 5. Его ж. Отцы и дети судебной реформы. Спб., 1914; Виленский Б.В. Судебная реформа и контрреформа в России. Саратов, 1969.

*Т.І.Доўнар.*

## СТАНКЕВІЧ Іван Мікалаевіч (1829—92)

Вучоны-медык, педагог. Паходзіў з Беларусі. Медыцынскую адукацыю атрымаў у Кіеўскім універсітэце. У 1860 абараніў доктарскую дысертацыю «Гісталогія сухажылляў у нармальным і паталагічным стане» і прызначаны дацэнтам кафедры паталагічнай анатоміі і паталагічнай фізіялогіі Кіеўскага універсітэта. З 1864 дацэнт, потым ардынарны прафесар кафедры фармакалогіі Харкаўскага універсітэта. Быў вядомы ў Харкаве не толькі як выдатны педагог і лектар, але і як чулы і кваліфікаваны ўрач. Аўтар прац «Крытычны разгляд разважанняў Вермана «Аб вочным люстэрку» (1860), «Аб будове і развіцці пахвінных грануляцый» (1861).

## СТАФАНОВІЧ Вікенцій Рыгоравіч [4(16).8.1804—?]

Беларускі музыкант, дырыжор, педагог, папулярызатар музычнай культуры. Брат Д.Р.*Стафановіча*. З 1837 кіраўнік Мінскага гарадскога аркестра, пры якім арганізаваў музычную школу для сірот і дзяцей беднякоў і навучаў іх ігры на розных інструментах. Удзельнічаў у пастаноўцы аперэт «Рэкруцкі набор» (1841) і «Сялянка» («Ідылія», 1852) С.*Манюшкі* і К.*Кжыжаноўскага* на лібрэта В.*Дуніна-Марцінкевіча*.

## СТАФАНОВІЧ Дамінік Рыгоравіч [Восіпавіч; 10(21).5.1797—каля 1870]



Беларускі музыкант, педагог, дырыжор, папулярызатар музычнай культуры. Брат В.Р.*Стафановіча*. У 1820—37 кіраўнік Мінскага гарадскога аркестра. У 1848—65 выкладаў музыку і харавыя спевы ў Мінскай гімназіі і прыватным узорным жаночым пансіёне. Пачынальнік беларускага піянізму, адзін з актыўных прапагандыстаў музычнага мастацтва на Беларусі, які садзейнічаў пашырэнню музычнай адукацыі на беларускіх землях. У гісторыю сусветнай музычнай культуры ён увайшоў як таленавіты педагог, настаўнік выдатнага кампазітара С.*Манюшкі*. Паводле сведчання самога Манюшкі, уплыў на яго з боку С. быў ці не самы значны: «Настаўнікамі фартэпіяннай музыкі былі: ... у Мінску — мой бясцэнны Дамінік Стафановіч... закаханы ў сваё мастацтва... ацаніў маю такую ж любоў да музыкі, здолеў так умела скіраваць яе ў маю карысць, што з таго часу музыка зрабілася для мяне самай важнай мэтай». Хоць вучань хутка пераўзышоў свайго настаўніка ў выканаўчым майстэрстве, але С. умеў прапанаваць Манюшку адпаведныя творы і зацікавіць яго незнаёмымі песнямі і тым самым умацаваць імправізатарскі талент юнака. Сярод вучняў С. вялікай папулярнасцю на Беларусі і за яе межамі карысталіся піяніст і кампазітар Ф.*Міладоўскі*, піяністка і педагог Каміла *Марцінкевіч*.

*Літ.:* Ахвердава А. Пачынальнікі беларускага піянізму // Мастацтва Беларусі. 1985. № 2.

## **СТУКАЛІЧ** Уладзімір Казіміравіч (10.11.1856—18.10.1918)



Літаратуразнавец, гісторык, краязнавец. Нарадзіўся ў г. Якабштаце Курляндскай губ. (цяпер г. Екабпілс, Латвія) у небагатай дваранскай сям'і. Неўзабаве пасля яго нараджэння сям'я пераехала ў Віцебск, дзе С. скончыў губернскую гімназію. У 1879—83 вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Потым працаваў у казённай палаце ў Слоніме, Гродне, Віцебску. У 1886 за дысертацыю «Юрыдычнае становішча гарадскіх абшчын у Заходняй Русі» яму нададзена званне кандыдата юрыдычных навук. Нейкі час працаваў у Віцебску памочнікам прысяжнага паверанага, але адвакацкая дзейнасць яго не задавальняла, і ў 1898 ён перайшоў у казённую палату, дзе з 1906 узначальваў яе 2-е аддзяленне. Пачатак яго літаратурнай дзейнасці прыпаў на першыя 3—4 гады пасля сканчэння універсітэта. У 1886—1900 друкаваўся ў часопісе «Русский курьер» пад псеўданімам Веневіч. Аўтар артыкулаў «Кароткая нататка аб беларускай гаворцы» (1895), «Да пытання пра арганізацыю універсітэта ў Віцебску» (1903), даследаванняў «А.П.Сапуноў. Да 25-годдзя яго навуковай і літаратурнай дзейнасці» (1905), «М.Я.Нікіфароўскі, 1845—1910 гады» (1910) і інш. Быў знаёмы з І.Я.Рэпіным. Перапісваўся з Г.І.Успенскім, сустракаўся з ім у Віцебску (1890).

С. актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці дарэвалюцыйнага Віцебска, быў адным са стваральнікаў і членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Падтрымліваў ідэю аб адкрыцці універсітэта ў Магілёве, заклікаў мясцовыя ўлады і інтэлігенцыю хадайнічаць аб адкрыцці універсітэта ў Віцебску. У рэцэнзіі на працу рускага эканаміста М.Кавалеўскага «Эканамічны лад Расіі» выказаў думку, што ў земляробстве не заўсёды прыдатная капіталістычная арганізацыя з яе канцэнтрацыяй вытворчасці. У якасці прыкладу спасылаўся на Данію, Швецыю і Галандыю, дзе ў сельскай гаспадарцы пераважала дробнае земляробства і невялікія памеры асобных гаспадарак, а вынікі ў развіцці земляробства былі станоўчыя. Абгрунтоўваў непажаданасць выкаранення рэшткаў патрыярхальнага побыту без уліку векавых традыцый народа.

*Літ.:* Падліпскі А.М. Летапісец Віцебшчыны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1978. № 1; Бусько В.Н. Экономическая мысль Белоруссии середины XIX—начала XX в. Мн., 1990. С. 71—72.

## **СУДЗІЛОЎСКАЯ** Яўгенія Канстанцінаўна (1854—?)

Рэвалюцыянерка-народніца. Нарадзілася ў Магілёве. Сястра М.К.*Судзілоўскага*. Вяла рэвалюцыйную агітацыю разам з С.Л.Пяроўскай, В.М.Фігнер і інш. дзеячамі «Народнай волі», удзельнічала ў рэвалюцыйных акцыях. У жн. 1874 арыштавана і каля 2 гадоў знаходзілася ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Пасля «працэсу 193-х» выслана пад нагляд паліцыі ў бацькаў маёнтак Фастава Мсціслаўскага пав. Пасля 1892 жыла ў Кіеве, Арлоўскай і Смаленскай губ., працавала ў нядзельных школах, арганізацыях Чырвонага Крыжа, вяла рэвалюцыйную работу. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў эміграцыі.

## **СУДЗІЛОЎСКІ** Мікалай Канстанцінавіч (псеўд. Русель; 15.12.1850—30.4.1930)



Грамадска-палітычны дзеяч, філосаф і прыродазнавец, удзельнік грамадскіх рухаў Беларусі, Расіі, Швейцарыі, Англіі, Францыі, Румыніі, Балгарыі, ЗША, Японіі, Кітая і інш. З яго імем звязаны вядомыя дасягненні ў галіне хірургіі, тэорыі туберкулёзу і іншых хвароб. С. — першы падарожнік-географ, які грунтоўна пазнаёміў расійскіх чытачоў з флорай і фаунай астравоў цэнтральнай часткі Ціхага акіяна; аўтар публіцыстычных твораў, высока ацэненых М.Горкім, У.Г.Караленкам, Рабіндранатам Тагорам, цікавіўся філасофіяй і сацыялогіяй, ведаў 8 еўрапейскіх моў, а таксама японскую і кітайскую. Яму як спецыялісту ў галіне этнаграфіі, энтамалогіі, хіміі, біялогіі, аграноміі былі прысвоены ганаровыя званні члена Амерыканскага таварыства генетыкаў, навуковых таварыстваў Японіі, Кітая і інш.

Нарадзіўся С. ў Магілёве, у беларускай шляхецкай сям'і, якая валодала маёнткам у в. Фастава Мсціслаўскага павета. Дзяцінства яго прайшло ў доме бацькі, калежскага асэсара, сакратара Магілёўскай палаты цывільнага і крымінальнага суда. Ён быў старэйшым з 8 дзяцей. Скончыўшы Магілёўскую гімназію, С. паступіў на юрыдычны факультэт Кіеўскага універсітэта. Пасля 1-га курса перавёўся на медыцынскі факультэт. Прасякнуты ідэямі народнікаў, ён стварыў народніцкі гурток, ездзіў у Швейцарыю, каб пазнаёміцца з лідэрамі рэвалюцыйнай эміграцыі Лаўровым, Бакуніным і некаторымі дзеячамі І Інтэрнацыянала. Пасля вяртання з-за мяжы кіраваў Кіеўскай камунай студэнтаў. Зімой 1874 С., захоплены народніцкай ідэяй «хаджэння ў народ», ездзіў у Херсонскую губ., потым у г. Нікалаеўск Самарскай губ. з мэтай стварыць там яўкі, месцы збораў і за-



*Румынія. Адзін з будынкаў універсітэта ў г. Клуж.*



Балгарыя. Унутраны двор Рыльскага манастыра.

бяспечыць работу прапагандыстаў. У канцы мая 1874 царская ахранка натрапіла на адрасы явак, прозвішчы рэвалюцыянераў і шыфры гэтых народніцкіх гурткоў. Пачаліся павальныя арышты. Выдаўшы сябе за нямецкага каланіста, С. эмігрыраваў. У Лондане ён удзельнічаў у рабоце эміграцкіх арганізацый, сустракаўся з кіраўнікамі І Інтэрнацыянала, у тым ліку з Ф.Энгельсам і К.Марксам, якога характарызаваў як «Дарвіна сацыялогіі», таму што ён выкарыстаў тэорыю эвалюцыі ў галіне грамадскіх з'яў. Летам 1875 С. накіраваўся ў Румынію, каб адтуль наладзіць перасылку нелегальнай літаратуры ў Расію. Па шляху ў Бухарэст ён застаўся ў Жэневе, дзе завяршыў медыцынскую адукацыю, напісаў тэзісы доктарскай дысертацыі «Пра антысептычны метад лячэння ў хірургіі». У Румыніі С. разам з малдаўскім народнікам Н.П.Зубку-Кадрану і балгарскім эмігрантам Хрыста Боцевым кіраваў работай мясцовых рэвалюцыянераў. Арганізаваныя з яго дапамогай рэвалюцыйныя гурткі ў Бухарэсце, Ясах, Галаце і інш. гарадах сталі пачаткам румынскага сацыял-дэмакратычнага руху. У гэты перыяд сфера рэвалюцыйнай дзейнасці С. ўключала і Балканы. Ён актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы антытурэцкага Красавіцкага сялянскага паўстання ў Балгарыі ў 1876. У час руска-турэцкай вайны 1877—78 С. працаваў ваенным хірургам. Расія, якая выступіла ў абарону балгар, паводле дагавору з Румыніяй перапраўляла праз гэту краіну свае войскі ў Балгарыю. Калі з фронту пацягнуліся абозы з параненымі, С. лячыў іх. За выратаванне сотняў хворых і параненых румынскі ўрад узнагародзіў С. залатым медалём. Адначасова ён працягваў займацца прапагандай сярод салдат і афіцэраў сацыял-дэмакратычных ідэй, перапраўляў нелегальную літаратуру ў Расію. У канцы 1879 С. наладзіў у Ясах выпуск газеты «Бесарабія», а ў 1880 выдаў брашуру «Псіхіятрычнае даследаванне з некаторымі каментарыямі адносна здаровых ідэй» (на румынскай мове). Выказаныя ім намеры «звязаць румынскі рух роднаснымі сувязямі з расійскім» напалохалі румынскія ўлады, і яго разам з іншымі расійскімі сацыялістамі выслалі ў Канстанцінопаль. Адтуль ён у маі 1881 перабраўся ў Жэневу, потым — у Парыж, дзе ўзнавіў былыя сувязі з расійскімі палітычнымі эмігрантамі Пляханавым, Засуліч, Аксельродам, Ігнатавым і інш. У 1882 С. накіраваўся ў Плоўдзіў. Ва Усходняй Румыніі ён працаваў урачом і аказваў матэрыяльную і ідэйную падтрымку жэнеўскай групе «Вызваленне працы». Пасля ўз'яднання ў 1885 Усходняй Румыніі з Балгарыяй значна ўзмацніўся аўстрафільска-русафобскі настрой балгарскіх нацыяналістаў, што вымусіла С. пераехаць у ЗША. З 1887 ён займаўся лячэбнай практыкай у Сан-Францыска, дзе карыстаўся любоўю і павагай у мясцовага насельніцтва, быў выбраны віцэ-прэзідэнтам Грэка-руска-славянскага таварыства. Тут надрукаваў некалькі артыкулаў па медыцынскай тэматыцы. Уступіўшы ў канфлікт з прадстаўніком свяцейшага Сінода ў ЗША епіскапам Уладзімірам, С. напісаў у 1889 брашуру «Жыцціе праасвяшчэннага Уладзіміра, былога епіскапа Алеуцкага і Аляскінскага, цяпер вікарнага епіскапа Варонежскага», у якой абвінаваціў свяшчэннаслужыцеля ў хабарніцтве і маральнай разбэшчанасці. Епіскап у

адказ публічна пракляў свайго выкрывальніка. Каб даказаць сваю невінаватасць, «злачасцівы нігіліст Мікола Судзілоўскі» падаў на яго ў суд, а матэрыялы, што выкрывалі амаральную дзейнасць епіскапа, накіраваў у Пецярбург. Епіскап быў адклікаы і пераведзены ў Варонеж, а з міністэрства ўнутраных спраў Расіі паступіла тэлеграма: «Анафема, выказаная Уладзімірам над Мікалаем Руселем, прызнана Сінодам несапраўднай і неіснуючай. Можна аб'явіць у газетах». Пасля 5-гадовага жыцця ў Каліфорніі С. пераехаў на Гавайскія астравы. Жыў у сельскай акрузе, потым у сталіцы Ганалулу і займаўся ўрачэбнай практыкай па хваробах вачэй. Высокую ацэнку гавайскай грамадскасці атрымалі выдадзеныя С. у 1896 брашуры «Наша палітыка аховы здароўя» і «Як жыць на Гавайскіх астравах. Нарыс асабістай гігіены», у якіх крытыкаваў плантатараў, заклікаў да паляпшэння ўмоў працы на плантацыях, звяртаўся да ўрачоў, каб яны аказвалі насельніцтву рэальную дапамогу. З абурэннем пісаў С. пра праяўленні тут адкрытага расізму, які быў асновай палітыкі белых плантатараў у адносінах да карэннага насельніцтва. Пасля захопу ў 1898 Гавайскіх астравоў, шчыры прыхільнік гавайскага народа, непахісны праціўнік гвалтоўнага пераварoту супраць туземнага насельніцтва, С. рашуча ўключыўся ў барацьбу за незалежнасць мясцовых жыхароў палінезійцаў-канакоў. Актывісты партыі незалежных вылучылі яго кандыдатуру ў сенат ад вострава Гаваі. У 1900—01 С. быў сенатарам, а потым і прэзідэнтам сената — калегіяльнай урадавай установы гэтай калоніі ЗША. Выконваючы перадвыбарныя абяцанні, С. адмяніў уведзены амерыканцамі маёмасны цэнз, паставіў перад парламентам задачу «рэфармаваць традыцыйныя ўстановы былой канстытуцыйнай манархіі і пазнейшай плутакратычнай алігархіі ў дэмакратычную рэспубліку...». У 1902 С. падаў у адстаўку, але сканцэнтраваў намаганні на пытаннях развіцця незалежнага ад метраполіі мясцовага самакіравання, стварэння справядлівай падатковай сістэмы, карэннай рэформы аховы здароўя і санітарнай службы, пашырэння крэдытавання народных школ і культурных устаноў. Пасля выхаду ў адстаўку з паста сенатара Гавайскага парламента С. пераехаў у Кітай. У Шанхаі ён вёў падрыхтоўчыя работы па вызваленні палітычных катаржан з сібірскіх турмаў і перапраўцы іх у Кітай. Але вайна Расіі з Японіяй (1904) вымусіла яго вярнуцца на Гаваі. Тут ён напісаў брашуру «Да афіцэраў рускай арміі», у якой заклікаў армію быць на баку народа ў яго барацьбе за эканамічныя і палітычныя інтарэсы. Пасля Крывавай нядзелі ў Расіі С. актывізаваў сваю грамадска-палітычную дзейнасць. У маі 1905 ён пераехаў у Японію, арганізаваў там камітэт дапа-



*Вялікая Кітайская сцяна.*

могі расійскім ваеннапалонным, вёў сярод ваеннапалонных асветную і прапагандысцкую работу, а найбольш палітычна актыўных аб'ядноўваў у рэвалюцыйныя гурткі. Абапіраючыся на садзейнічанне праваслаўных японцаў, ён ствараў у буйных лагерах ваеннапалонных школы для непісьменных салдат, выступаў перад імі з палітычнымі прамовамі, распаўсюджваў рэвалюцыйныя выданні. Штотыднёвіку «Япония и Россия», які выкарыстоўваўся для асветы ваеннапалонных, ён надаў агульнадэмакратычны характар і рэвалюцыйную накіраванасць. Нагасакская група сацыялістаў, натхнёная С., наладзіла выпуск рэвалюцыйнай газеты «Воля». У выніку з'явілася магчымасць друкаваць у дадатку да гэтай газеты заклікі, лістоўкі, зборнікі і нават кнігі, якія распаўсюджваліся ў Расіі, Японіі, Кітаі, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Балгарыі, на Гаваях і ў іншых краінах. У вусных і пісьмовых зваротах С. заклікаў салдат, калі яны вернуцца на радзіму, змагацца са зброяй у руках супраць самадзяржаўя.

Сабраўшы свае артыкулы са штотыднёвіка «Япония и Россия» і газеты «Воля», выдаў іх у 1906—07 асобнымі кніжкамі.

С. адчуваў уздзеянне розных плыняў у расійскім палітычным руху, але сам не належаў ні да адной партыі. Ён змагаўся за тое, каб адкінуць вузкапартыйныя рамкі, аб'яднаць усе здаровыя сілы Расіі ў барацьбе супраць самадзяржаўя. Ён атрымліваў карэспандэнцыі ад эсэраў, меншавікоў, бальшавікоў, бундаўцаў, польскіх сацыялістаў, цікавіўся публікацыямі і выданнямі народніцкага, сацыял-дэмакратычнага і буржуазна-ліберальнага кірунку. Заклікаючы да звяржэння царызму, С. падкрэсліваў, што гэта не самамэта, бо для лепшага жыцця неабходна заваёўваць эканамічную свабоду, дамагацца карэнных змен у эканамічнай галіне. У артыкуле «Браць прыклад ці ствараць» С. пісаў: «Мы пераконваемся, што свабода, рэспубліка і дэмакратыя не магчымы без свабоды, рэспублікі і дэмакратыі эканамічнай». Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў яго трактоўцы — гэта асаблівая, самабытная рэвалюцыя як у нацыяльным, так і сацыяльна-эканамічным плане, якая павінна прывесці не толькі да змены саслоўяў, што стаяць на чале ўлады, але і да радыкальнай мадэрнізацыі адносін у сферы прамысловай і сельскай гаспадаркі. У гэтай сувязі С. спецыяльна аналізаваў зямельнае пытанне. Нават зараз яго аграрныя погляды маюць безумоўную каштоўнасць. У працы «На палітычныя тэмы» ён разглядаў зямлю як прадукт грамадства, валодаць якім павінен народ, а распараджацца — абшчына, якую абмяжоўвае дзяржава. Але абшчыннае землекарыстанне, на яго думку, зробіцца выгадным толькі тады, калі будзе падмацавана правам уласнасці. Ён лічыў, што вытворчыя і інш. сельскагаспадарчыя асацыяцыі тыпу фермерскіх аб'яднанняў вядуць да падзелу працы, даюць магчымасць замяніць ручную працу машыннай, павышаюць яе эфектыўнасць. Такім чынам, дэмакратычная зямельная абшчына, у якой на добраахвотнай аснове асацыіруюцца індывідуальныя зямельныя ўласнікі — гэта найлепшая форма арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

Меў С. і свой погляд на нацыянальнае пытанне. Ён лічыў, што нацыянальная свабода, нацыянальны росквіт магчымы толькі на аснове эканамічнай свабоды, бо эканоміка — базіс усебаковага развіцця любога народа. Кожны народ мае права на сваё індывідуальнае развіццё ў межах чалавечай супольнасці. Але паколькі ў свеце няма этнічна чыстых нацый, як і няма на Зямлі, ахопленай цывілізацыяй, месцаў з этнічна аднародным насельніцтвам, то дужа цяжка ўстанавіць унутраныя нацыянальныя межы, напр., Польшчы, Беларусі і Маларасіі. Але гэтыя абставіны не павінны быць падставай для таго, каб новае дзяржаўнае будаўніцтва не лічылася з этнасам: «Менавіта этнаграфія і эканоміка павінны служыць асновай палітычнага падзелу». Свабодным нацыям неабходна забяспечыць магчымасць самавызначэння, уключаючы аддзяленне, хоць права на аддзяленне нельга блытаць з яго мэтазгоднасцю. І калі ў Расійскай імперыі пераможа дэмакратыя, а эканамічныя, палітычныя, нацыянальныя свабоды стануць рэальнасцю, на яго думку, мала ў каго ўзнікне неабходнасць у аддзяленні. Затое калі якая-небудзь нацыя захоча рэалізаваць сваё

права, то большасць не павінна гэтаму перашкаджаць. «Мы ведаем, — пісаў С., — што гэта аддзяленне будзе толькі часовым», што настане час, калі і яны, і іншыя народы самі «пастукаюць у нашы дзверы і папросяць доступу».

Прыхільнік рэвалюцыйна-дэмакратычных перамен у грамадстве, С. падтрымліваў рэгулярныя кантакты з віднымі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі, якія адстойвалі ідэі сацыяльных пераўтварэнняў, ён перапісваўся з Горкім, Караленкам, Сунь Ят-сенам і інш. Знаёмства з тэорыяй і практыкай марксізму, ідэі якога мелі шырокае хаджэнне ў 2-й палове 19 ст.—пач. 20 ст. напачатку схіляла і С. да думкі, што «анёлам-збавіцелем», здольным «адрадзіць чалавецтва да новага жыцця, з'яўляецца навуковы сацыялізм». Але далёка не ва ўсім ён падзяляў марксісцкія ўяўленні адносна метадаў, форм і мэтазгоднасці актыўнага класавага ўмяшання ў прыродазнаўчагістарычнае развіццё грамадства. Тым не менш ён гатовы быў аддаць даніну радыкальна-валюнтарысцкім устаноўкам «самага рэвалюцыйнага» вучэння ў свеце. У сваёй працы «На палітычныя тэмы» ён сцвярджаў: «Чалавек не мае патрэбы слепа падпарадкоўвацца якім бы там ні было законам не толькі прыроды, але і грамадскага развіцця», бо «абапіраючыся на свае веды і веды тых і другіх, ён можа карыстацца імі ў сваіх антрапатэалагічных мэтах, накіроўваючы сваё жыццё і развіццё паводле свайго ўласнага меркавання, адпаведна сваім жаданням і ідэалам». Аддаючы належнае марксізму, С. ясна бачыў і тое, што вучэнне гэта адлюстроўвае далёка не ўсю ісціну. У марксісцкай дактрыне ён бачыў толькі адно з многіх сацыялістычных вучэнняў, эфектыўнае з пунтку погляду канструявання шляхоў і сродкаў рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадскіх устояў. Лічыў, што гэта вучэнне трэба злучыць з іншымі тэорыямі, і найперш з народніцтвам. У чыстым выглядзе марксізм прыдатны хіба што ў Германіі ці іншых развітых краінах Еўропы і Амерыкі. У расійскіх умовах яго выкарыстанне магчыма толькі ў перапрацаваным выглядзе. Падводзячы вынікі сваёй крытыкі марксісцкіх прэтэнзій на манапольнае



*Японія. Узбярэжжа вострава Хонсю.*

валоданне ісцінай, С. пісаў: «Трэба знаходзіцца пад моцным «унушэннем» з боку Маркса, каб бачыць містыцызм ва ўсім, што не згодна ставіць эканоміку ў аснову асноў усіх гістарычных з'яў». Перакананы прыхільнік актыўнага ўмяшання «інтэлектуальнага чалавецтва» ў стыхійны працэс чалавечай гісторыі з мэтай яе дэмакратызацыі, С. заклікаў вучыцца дэмакратыі ў Захаду, дзе яна стала не толькі аб'ектыўным фактарам, але і свядомым перакананнем мас. У азіяцкі ж лад Расіі гэта заходняя дэмакратыя ўмешваецца з 2 бакоў: буржуазна-капіталістычнага і пралетарска-сацыялістычнага. Тым не менш звычкі, густы, ідэалы як рускага буржуа, так і рускага пралетарыя далёкія ад заходніх каштоўнасцей. Таму «адзіным рашэннем» задачы дэмакратызацыі Расіі «з'яўляецца толькі свядомая змена гэтага ладу іншым».

Удумваючыся ў спецыфіку расійскай гісторыі, С. задаваў сабе пытанне: ці не знішчылі стагоддзі рабства і азіятчыны здольнасць рускіх да сістэматычнай гістарычнай творчасці? Аналіз гісторыка-культурных асаблівасцей расійскай рэчаіснасці, здавалася, падштурхоўваў С. да думкі, што рускія засвойвалі пераважна розум «драхлеючага» Усходу, і гэта з'яўляецца адной з прычын іх гістарычных няўдач, дзіўнай паглыбленасці ў псіхічную спячку. Руская душа зрабілася полем саперніцтва 2 пачаткаў — усходняга і заходняга, кансерватыўнага і актыўнатворчага. У кнізе «Думкі ўголас» гэта яго меркаванне прымае форму пакутлівага роздуму. Разладжанасць і неўпарадкаванасць расійскага жыцця, абыякавасць да будучыні, няўстойлівасць, нястрыманасць, імпульсіўнасць, нечаканыя выхадкі і нічым нематываваныя ўчынкі, недахоп паслядоўнасці і кардынаванасці, абломаўшчына і карамазаўшчына рускай душы, па назіраннях С., «народжаны шасцівекавым мангольскім ігам, потым нямецкім прыгнётам і прыгнётам рускіх цароў і князёў». Гэтыя рысы — вынік «сацыяльнага клімату», ненармальных грамадскіх умоў. Але было б несправядліва і аднабакова, мяркуе С., «перакладваць усю віну на драпежнікаў і гвалтоўнікаў». Вінаваты і тыя, хто, няхворы і няслабы, церпіць над сабой насілле. С. лічыў, што сацыяльная рэвалюцыя ў Расіі будзе толькі тады мець поспех, калі сам народ убачыць жывы сэнс, каштоўнасць і карысць пераўтварэнняў свайго рэальнага і будучага жыцця. Каб пазбавіцца ад «псіхічнай імпатэнцыі», рускі дух павінен выкараніць яд, якім атруцілі расійскую гісторыю татара-манголы, немцы, уплыў якіх пранік «у фалдах чыноўніцкіх мундзіраў з Германіі ...пад выглядам заходняй культуры і заходняй асветы», а таксама візантыйцы і алкаголь.

Складанасць паслядоўнага дэмакратычнага ўладкавання рускага жыцця яшчэ абумоўлена тым, што заходняя і ўсходняя культуры апынуліся процілегла накіраванымі. Таму, відаць, немагчымы перанос заходніх сацыяльных і культурных стэрэатыпаў на расійскую глебу. У гістарычнай сітуацыі, калі дзве вялікія культурныя хвалі злучыліся, «як не быць буры, этнаграфічнаму, эканамічнаму і палітычнаму канфлікту па ўсёй лініі сутыкнення». Каб пазбегнуць катастрофы, патрэбны вялікай трываласці амартызатар. Паводле С., ролю такога амартызатара здольна адыграць амерыканская цывілізацыя, якая, натхнёная заходнім геніем, заклікае ўсходнія грамадствы сваё жыццё і сваю гісторыю ствараць, прытрымліваючыся прынцыпаў дэмакратыі і свабоды асобы.

Уяўленні пра авангардны шлях заходняга свету С. суадносіў са сваімі філасофскімі перакананнямі ў духу спіназізму. Развіваючы пантэістычны погляд на рэчы, ён пісаў пра Сусвет як вялікую раку, не пасіўную і мёртвую, а напоўненую жыццём, чуллівасцю і творчай энергіяй, якая бесперапынна рухаецца і цячэ з вечнасці мінулага ў вечнасць будучага. Людзі — толькі кроплі ў неабсяжным патоку Сусвету, кроплі, што адрываюцца ветрам як пырскі ад агульнай масы ў кароткачасовае індывідуальнае існаванне. «Значэнне асабістага жыцця складаецца толькі ў магчыма больш поўным і сучасным адлюстраванні Вялікага Цэлага», якое з'яўляецца «адным арганізмам, адной бязмежнай і вечнай істотай з душой і целам».

С. сцвярджаў, што было б няправільна лічыць «матэрыю мёртвай», а быццё пазбаўленым універсальнай

структурнай арганізацыі. Сусвет змяшчае ў сабе «ўсе прадметы божага і чалавечага паходжання». Навука, рэлігія, мастацтва даўно аднадушныя ў тым, што мы звязаны з Сусветам нябачнымі повязямі, што Універсум валодае непарыўнай працягласцю і арганічнай цэласнасцю, то само па сабе, у адрыве ад Цэлага наша індывідуальнае жыццё на Зямлі эфемернае і ўяўнае. Абапіраючыся на ідэю «Вялікай Рэальнасці», вечнай і адзінай, якая ўвасабляе нейкі ўсеабдымны сэнс і каштоўнасць быцця, С. змог даць арыгінальны, і сёння актуальны, філасофска-футуралагічны нарыс будучага развіцця чалавецтва. Паводле яго меркавання, зямная цывілізацыя павінна перайсці да новай фазы сваёй эвалюцыі, калі індывідуальнасць сальецца і атаясаміцца з Цэлым, калі чалавек вызваліцца ад уяўлення, быццам яго індывідуальнасць ёсць нешта адарванае, безумоўна адменнае ад Цэлага і тым самым дасягне нірваны Захаду. «Паглынанне свету ў чалавечай душы, як у фокусе, з'яўляецца тым, што можна назваць нірванай Захаду ў адрозненне і процілегласць нірване Усходу, нірване будызму, дзе, наадварот, Вялікі Свет паглынае чалавечую душу, як акіян кроплю».

Такім чынам, калі грамадства хоча захаваць здольнасць да гістарычнай творчасці і прагрэсу, яму трэба арыентаваць псіхічную канстытуцыю сваіх членаў на нормы паводзін у межах дэмакратыі і свабоднага выбару, вучыць іх ствараць каштоўнасці жыцця так, як гэта ўмее рабіць Захад. Для гэтага грамадства павінна імкнуцца ўкараняць дэмакратыю замест усходняй дэспатыі і аўтарытарызму, развіваць самадастатковую свабодную асобу замест абязлічаных шрубак таталітарнай дзяржавы, нарэшце, замацоўваць веру ў чалавека, яго маральную і асабістую годнасць замест веры ў стыхію і абсурд існавання.

У пачатку 1912 С. пры дапамозе палітэмігрантаў з Расіі купіў невялікі зямельны ўчастак на востраве Мінданао (Філіпіны). Акрамя медыцынскай практыкі ён тут займаўся грамадскай і асветнай дзейнасцю: стварыў бібліятэку і клуб тубыльцаў, займаўся публіцыстыкай. У канцы 1912 газета «Мінданао геральд» («Веснік Мінданао») надрукавала серыю яго артыкулаў пад агульнай назвай «Амерыканская ідэя на Далёкім Усходзе». У кожнай з 9 публікацый («Заходні і ўсходні чалавек», «Паўднёвы чалавек», «Амерыканскі індывідуалізм», «Чалавек і долар» і інш.) С. апісвае яшчэ адзін «райскі куток», які з'яўляецца такім толькі для заможных. Ён не проста заклікае белых плантатараў, фабрыкантаў і гандляроў не пагарджаць жыццём і культурнай тубыльцаў, а прапануе разгорнутую праграму школьнай адукацыі філіпінцаў, арганізацыі дзяржаўнай аховы здароўя, кардынальных эканамічных рэформ.

У 1915 С. пасяліўся ў Нагасакі. Сацыялістычны настрой «практычнага рэвалюцыянера» к гэтаму часу значна аслабеў. Ён адхіліў прапанову Дж. Кенана разгарнуць антываенную сацыялістычную прапаганду сярод рускіх палонных і сканцэнтраваў увагу на тэарэтычных праблемах развіцця грамадскага працэсу, што знайшло адлюстраванне ў зборніку артыкулаў «Усход і Захад», выдадзеным у Японіі на англійскай мове. Цяпер гуманістычна-пацыфісцкая пазіцыя выцесніла класавы падыход да гісторыі грамадства. Радыкалізм класавай барацьбы ён больш не лічыў панацэяй ад сацыяльных няшчасцяў. У брашуры «Здалёк» С. пісаў: «Будзем верыць, ... што можам па-чалавечаму мірна і добраахвотна вырашыць будучыя вялікія пытанні, унесці свае карэктывы і папраўкі ў натуральны працэс...» Замест ідэі сацыялістычнай рэвалюцыі С. прапануе лозунг стварэння «Злучаных Штатаў Еўропы», разглядаючы яго як найпершы пастулат трывалага міру, як умову далейшых эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў.

Лютаўскія падзеі 1917 у Расіі выклікалі ў С. радасць. Ён быў шчаслівы, што дажыў да падзення Расійскай Бастыліі, да часу, які паклаў канец манархічнаму кіраванню, падвёў рысу пад старым светам, барацьбе супраць якога ён прысвяціў больш за 40 гадоў жыцця. Цяпер можна было вярнуцца на радзіму. Але кастрычніцкі пераварот перакрэсліў усе яго надзеі і быў успрыняты ім як зігзаг гісторыі, адхіленне ад прыроднага руху эвалюцыйнага працэсу. 6.8.1918 С. выступіў у газеце «Новости жизни» з артыкулам

«Адкрытыя словы», у якім характарызаваў бальшавікоў як начотчыкаў Маркса. Паводле яго меркавання, пасля звяржэння царызму левыя партыі ўчынілі бойку за ўладу, а краіна ў выніку пакацілася ў бездань, «стары эканамічны, сацыяльны, палітычны ўклад» разваліўся, а беспарадак і анархія перараслі ў грамадзянскую вайну. Упёршыся вачыма ў «сусветную пралетарскую рэвалюцыю, страціўшы веру ў сябе... мы спусташаем сваю краіну, забіваем сваіх братоў і сясцёр».

У пачатку 1921 С. з сям'ёй пасяліўся ў кітайскім горадзе Цяньцзынь, працаваў урачом, шмат часу аддаваў публіцыстыцы. Свае артыкулы і брашуры ён публікаваў у Кітаі, краінах Еўропы, Амерыкі. Паступова яго крытыцызм у адносінах да савецкай улады аслабеў, паявіліся прымірэнчыя настроі. Ён вагаўся і разважаў, што, магчыма, для Расіі «плавільны кацёл бальшавізму з'яўляецца адзіным лякарствам». Каб аблегчыць становішча галадаючых суайчыннікаў, С. стварыў і ўзначаліў першы ў Азіі «Камітэт дапамогі галадаючым Расіі». У 1921—22 пры яго садзейнічанні такія ж камітэты створаны ў Пекіне, Харбіне, Мукдэне, Ханькоў. У канцы жыцця ён нават думаў пра вяртанне на радзіму, перапісваўся з сябрамі і родзічамі ў Маскве і Беларусі, але мара яго не збылася.

Нашчадкам ён пакінуў прыклад практычнага стаіцызму і свядомага следавання інтарэсам Цэлага. Як асабістае яго крэда і парада жывым гучаць яго словы: «Вы баіцеся смерці, прагнеце бяссмерця?.. Жывіце жыццём Цэлага. Калі вас даўно не будзе, — яно застанецца. Знішчэнне палохае, толькі пакуль вы адчуваеце сябе асобна».

*Тв.*: К офицерам русской армии. Нью-Йорк, 1905; В плену на память о войне и плене. Кобе, 1906; Последовательная демократия. Нагасаки, 1907; На политические темы. Нагасаки, 1907; Мысли вслух. 2 изд. Нагасаки, 1916. Национальность и национализм // Рус. слово. 1922. 21 марта.

*Літ.*: Иосько М.И. Николай Судзиловский-Руссель. Мн., 1976; Клейн Б.С. Доктор Руссель // Неман. 1969. 1—2; Грицкевич В.П. Добрый русский доктор на Гавайях // Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968; Мельников М.Ф. Из семьи соколиной. Мн., 1973. С. 4—17.

*В.П.Оргіш.*

## СУЛІМА-САВІЧ-ЗАБЛОЦКІ, гл. *Савіч-Заблоцкі* Вайніслаў Казімір Канстанцінавіч.

## СЦЕБУТ Іван Аляксандравіч (12.2.1833 — 20.10.1923)



Вучоны аграном, адзін з заснавальнікаў навуковага раслінаводства, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў г. Вялікія Лукі Пскоўскай вобл. Пасля Пецярбургскай гімназіі ў 1850 залічаны студэнтам Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Скончыў яго ў 1854, пакінуты выкладчыкам гэтага інстытута і адначасова памочнікам кіраўніка фермы. У 1860 пасля вяртання з працяглай замежнай камандзіроўкі атрымаў званне прафесара. Акрамя сельскагаспадарчых дысцыплін выкладаў палітэканомію. Імкнуўся абудзіць жывую ініцыятыву ў навучэнцаў, стварыў семінары, на якіх чыталіся, абмяркоўваліся і крытыкаваліся студэнцкія сачыненні. Лічыў, што ў навучальным працэсе «справа не ў тым, каб многаму навучаць, а ў тым, каб добра навучаць», што сельскагаспадарчая школа павінна навучыць сваіх выпускнікоў пры любых абставінах практычна разбірацца ў самых складаных агранамічных працэсах. Не выпадкова вучоны прапанаваў увесці ў вышэйшых навучальных установах курс гісторыі і геаграфіі сельскай гас-



*Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія (б.Горы-Горацкі земляробчы інстытут).*

падаркі. Пераканааы дарвініст, С. адстойваў ідэю развіцця культуры раслін, выступаў супраць містыкі ў навуцы. За час знаходжання ў Горы-Горацкім інстытуце зрабіў шмат для папаўнення і абагачэння сельскагаспадарчага музея рознымі калекцыямі. У 1865—75 прафесар Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі ў Маскве. Тут ён чытаў лекцыі, займаўся арганізацыяй дапаможных устаноў пры акадэміі сельскагаспадарчага музея, доследнага поля і агранамічнай лабараторыі, дзе студэнты маглі самастойна займацца даследаваннямі. Прапагандаваў укараненне дасягненняў агранамічнай навукі ў практыку сельскай гаспадаркі. Аўтар прац «Вапнаванне глебы» (1865, доктарская дысертацыя), «Асновы палявой культуры і меры да яе паляпшэння ў Расіі» (2 выд., т. 1, ч. 1—2, 1882—84) і сааўтар «Настольнай кнігі для рускіх сельскіх гаспадароў» (т. 1—3, 1875—90), якая доўгі час служыла даведнікам па аграноміі. Выступаў у абарону жаночай сельскагаспадарчай адукацыі. Пры яго непасрэдным удзеле былі арганізаваны спецыяльныя жаночыя курсы (Сцебутаўскія курсы). Быў адным з арганізатараў і рэдактараў (1869—70) часопіса «Русское сельское хозяйство».

*Тв.*: Избр. Соч. Т. 1—2. М., 1956—57.

*Г.А.Маслыка.*

## СЫРАКОМЛЯ Уладзіслаў (сапр. Кандратовіч Людвік; 29.9.1823 — 15.9.1862)



Беларускі і польскі паэт-гуманіст, пісьменнік, публіцыст. Нарадзіўся ў фальварку Смольгаў Бабруйскага пав. Мінскай губ. Яго бацькі Аляксандр Каятан Кандратовіч і Вікторыя Златкоўская паходзілі з паланізаванай беларускай шляхты. Дзяцінства С. прайшло ў вандроўках па арандаваных бацькам фальварках Смолічы, Яськавічы, Кудзінавічы, Мархачоўшчына на Міншчыне. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. У 1833 пачаў вучобу ў Нясвіжскай дамініканскай школе. Калі праз 3 гады яе зачынілі, пераве́ўся ў дамініканскую школу ў Навагрудку. Скончыў у 1837 гэту школу, дапамагаў бацькам па гаспадарцы і пачаў пісаць вершы. У 1840—44 працаваў у канцыляры кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. Тут ён атрымаў магчымасць знаёміцца з класічнай літаратурай, перыёдыкай, архівам Радзівілаў, з мясцовымі эрудытамі — выпускнікамі Віленскага універсітэта, карыстацца іх кнігазборамі, наведваць літаратурныя вечарыны. Апрача таго, ён занатоўваў у дзённіку мясцовыя паданні, апавяданні пра мінулае Нясвіжа і яго саноўных гаспадароў, якія «свае імёны то золатам, то крывёю запісалі ў памяць народа». Усё гэта дапамагло С. сфарміраваць сваё светаразуменне і стаўленне да гістарычных падзей і рэ-

чаіснасці. У адным з першых сваіх вершаваных пасланняў знаёмай ён намаляваў карціну цяжкага, гаротнага становішча селяніна, падкрэсліваў яго душэўную прыгажосць і дабрыню:

З палацаў, пыхлівых адвечна,
Красуня, сыдзі ў маю хатку,
Але прыхапі ўсё ж манаткі,
Бо ў мяне напаткаеш галечу.
Святая ўсюды пустота,
Ды нават не думай аб хлебе,
Бо верны каханак мо лепей
Карміць цябе будзе пяшчотай.

У 1844 С. ажаніўся з 16-гадовай Паўлінай Мітрашэўскай, а пасля вяселля звольніўся са службы і стаў арандаваць фальварак Залучча ў Навагрудскім пав. Тут цалкам раскрыўся яго паэтычны талент, тут упершыню ён зведаў радасць літаратурнай славы. Яго вершаваная гутарка «Паштальён», надрукаваная ў віленскім часопісе «Athenaeum» («Атэнэум», 1844, т. 6) і перакладзеная ў скарочаным варыянце Л.Трэфалевым, стала папулярнай рускай народнай песняй («Калі я на пошце служыў ямшчыком...»). У згаданым часопісе друкаваліся і іншыя яго вершы і празаічныя творы. Яны пачалі выдавацца і асобнымі зборнікамі, хадзілі ў рукапісах, завучваліся на памяць. Ужо ў падзагалоўку «Паштальёна» — «народная гутарка» — вызначыўся асноўны жанр яго паэтычных твораў, героем якіх звычайна быў беларускі селянін або шляхціц. Паэт падкрэсліваў адзінства сваёй творчасці з народам, яго інтарэсамі і спадзяваннямі. «Не я пяю, — пісаў ён, — а люд божы...» У гэты час убачылі свет яго гутаркі «Хадыка», «Высакародны Ян Дэмбарог», шэраг вершаў. Паэт Кандратовіч, які ўзяў сабе псеўданім Уладзіслаў Сыракомля (ад радавога герба), займаўся таксама і перакладамі з латыні, публіцыстыкай, пісаў «Гісторыю літаратуры ў Польшчы».

Творчасць С. адметная палымяным патрыятызмам, глыбокім веданнем гісторыі Бацькаўшчыны, характару, звычаяў, асаблівасцей нацыянальнай псіхалогіі беларусаў. У сваіх творах ён апяваў хараство наднёманскіх краявідаў, падкрэсліваючы, што яны даражэйшыя за славутыя замежныя. Яго вабілі і гістарычныя падзеі, што сведчылі пра патрыятызм продкаў, пра іх імкненне да свабоды і шчасця, гатоўнасць ахвяраваць сабой дзеля вызвалення Айчыны. Гэты матыў прагучаў у яго творах «Соф'я, княжна Слуцкая», «Марцін Студзенскі». Гораду Нясвіжу і яго былым уладарам паэт прысвяціў 6 санетаў, якія аб'яднаў у цыкле «Успаміны пра Нясвіж» (1844). У адным з іх пад назвай «Труны Радзівілаў у езуіцкім касцёле» гаварылася:

Былі й яны людзі —
тут блюзніць не буду,
Ды што, каб яны раптам
з трун паўставалі,
Зноў падалі б ніц
каля іх з перапуду?
Яны ж бы на вас
і зірнуць не жадалі...

У 1856 С. зноў вярнуўся да гэтай тэмы. У вершы «Ілюмінацыя» ён расказаў пра гісторыю, пачутую ад старой гараджанкі: калі адна з жыхарак Нясвіжа, у якой захварэў на воспу сын, адмовілася ў дзень імянін Радзівіла выставіць палаючую паходню, панскі служка павыбіваў у яе хаце вокны, выгнаў гаспадыню на вуліцу і прымусіў яе выконваць загад:

Там венгерскае п'юць,
забаўляюцца госці
У раскошы, у багацці,
А тут пале святло
і па сыне галосіць
Змізарнелая маці.

Выказваючы спачуванне і сімпатыю да беднага люду, прапаведуючы дабро і гуманізм, паэт параўноўваў сябе з вясковым лірнікам, які «ў дарагой старонцы будзе граць людзям». Ён лічыў неабходным дапамагчы народу ўсвядоміць, што ён сам гаспадар на сваёй зямлі. Адзін з яго герояў-сялян гаварыў: «Я край мой кармлю адвеку і маю права звацца чалавекам». Паводле С., вялікую ролю ў выхаванні самасвядомасці і годнасці нацыі павінна адыграць гістарычнае асветніцтва. Таму шэраг яго празаічных і навуковых твораў прысвечаны менавіта праблемам гісторыі, этнаграфіі і мовы беларусаў. Сярод іх «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» (1853), «Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў Мінскай правінцыі» (1856), «Мінск» (1857), «Нёман ад вытокаў да вусця» (1861), нататкі аб мінулым Нясвіжа

для кнігі М.Балінскага «Старажытная Польшча», шматлікія артыкулы ў перыядычным друку. Характэрнай рысай творчасці С. быў і своеасаблівы рамантызм — без узрыўных вулканічных пачуццяў і ўзлётаў, такі, які «моцна трымаўся зямлі». Шырока выкарыстоўваў паэт сюжэты і вобразы беларускага фальклору. Асабліва моцна захапіў яго лірызм беларускіх народных песень, уплыў якіх адчуваецца ў вершах «Крук», «Груган», «Жніўная песня», «Доля» і інш. У апошнім з іх С. з горыччу і надзеяй пісаў:

Дзе ты лешшая, дзе доля?
Прыбудзь — хай пазнаем,
Прымем хлебам, прымем соляй.
Шчыра прывітаем.

У 1852 у С. на працягу тыдня раптоўна памерлі тры малалетнія дачкі, і ён не меў «сілы праз свае горкія ўспаміны жыць далей у вёсцы, у мясціне, дзе калісьці жыццё працякала больш шчасліва». Таму паэт вымушаны быў пераехаць у Вільню. Аднак і тут не прыжыўся і ў 1853 пераехаў у фальварак Барэйкаўшчына, што размяшчаўся паміж Вільняй і Ашмянамі. Пражыў ён тут амаль 10 гадоў, але родная гэта арандаваная сядзіба так і не стала:

Тут не мае ні дом, ні глеба,
Што родзіць хлеба небагата.
Мае тут толькі сонеч неба,
Якая ўзносіцца над хатай.

Паэт шмат падарожнічаў па Беларусі, Літве і Польшчы. З друку выйшлі 6 тамоў яго перакладаў паэтаў-лацііістаў 16—18 ст., некалькі зборнікаў паэм-гутарак, «Гісторыя літаратуры ў Польшчы...» (т. 1—2, 1850—52), паэма «Маргер» (1855). У тэатры была пастаўлена яго п'еса «Хатка ў лесе». У гэты ж час адбыліся падзеі, якія прынеслі яму адначасова і радасць, і буйныя непрыемнасці, непаразуменне знаёмых і сяброў: ён закахаўся ў актрысу Гелену Маеўскую, якая пасля сустрэчы з ім пакінула свайго мужа, этнографа і гісторыка А.*Кіркора*, і выехала за мяжу. Калі Маеўская выступала ў Познані, С. ездзіў на сустрэчу з ёй. У час спектакля актрыса, каб болей пабыць з каханым, наўмысна параніла сябе кінжалам. Весткі аб гэтым «грахоў-



*Смольгаўская сядзіба, у якой нарадзіўся У.Сыракомля.*

ным» каханні выклікалі ханжаскае незадавальненне шырокіх колаў грамадскасці. Каб апраўдацца, С. напісаў паэму «Стэла Фарнарына», у якой апавядалася пра каханне Рафаэля да дачкі лекара Стэлы, каханне, якое натхніла мастака на стварэнне «Сікстынскай мадонны». Паэму сустрэлі варожа, шляхта забараняла сваім дочкам не толькі чытаць яе, але нават браць у рукі. У Познань С. ездзіў не толькі з-за каханай. Ён наладжваў сувязі з патрыятычнымі коламі Прусіі і Аўстрыі, абмяркоўваў магчымасць сумесных дзеянняў. Гэтым жа мэтам было прысвечана падарожжа ў 1861, калі паэт з чужым пашпартам прыехаў у Варшаву. На зваротным шляху яго арыштавалі. Праўда, сябры хутка дамагліся вызвалення С. як хворага на сухоты. Сілы паэта былі падарваны, і ён памёр на 40-м годзе жыцця. Памяці С. прысвяцілі свае вершы Я.Лучына, А.*Плуг*, Я.Купала. Яго вобраз выведзены ў аповесці А.Мальдзіса «Восень пасярод вясны» (1984). У Барэйкаўшчыне створаны музей-бібліятэка С., яго імем названа вуліца ў Нясвіжы.

*Тв.*: Poezje. T. 1—10. Warszawa, 1872; Wybór poezji. Wrocław, 1970; бел. пер. — Выбр. тв. Мн., 1966; рус. пер. — Избр. произв. М., 1953; Добрыя весці. Мн., 1993.

*Літ.*: Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе: З гісторыі бел. літаратуры, мастацтва і культуры. Мн., 1969; Цвірка К. Слова пра Сыракомлю. Мн., 1975; Мархель У. Лірнік вясковы. Мн., 1983; Яго ж. Вяшчун славы і волі. Мн., 1989; Fornalczyk F. Hardy lirnik wioskowy. Poznań, 1972. *М.К.Багадзяж.*



*Магіла Сыракомлі ў Вільні. З малюнка 19 ст.*

## **СЯМАШКА** Іосіф (25.12.1798—1868)



Царкоўны дзеяч, мітрапаліт літоўскі. Нарадзіўся ў в. Паўлаўка Ліпавецкага павета (Украіна) у сям'і небагатага дваран іна, які потым стаў уніяцкім святаром. Атрымаўшы хатнюю адукацыю, вучыўся ў Няміраўскай гімназіі. У 1816 ад Луцкай уніяцкай епархіі накіраваны ў Галоўную семінарыю Віленскага універсітэта. Вярнуўшыся ў Луцк (1821), пасвячоны ў святары і стаў членам духоўнай кансісторыі. У 1822 С., які добра ведаў рускую мову і заканадаўства, накіраваны ад епархіі ў

Пецярбург прысутнічаць ва уніяцкім дэпартаменце рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. Там ён хутка стаў адыгрываць кіруючую ролю, падтрымліваў меры па заснаванні духоўных семінарый для адукацыі уніяцкага духавенства і па скасаванні базыльянскіх кляштараў. Дакументальна вывучыўшы гісторыю уніяцтва былой Рэчы Паспалітай, С. склаў запіску пра свой намер аб'яднаць уніятаў. Гэта запіска і пратакол аб патрэбах уніяцкай царквы ў Расіі былі ўхілены. Паводле царскага загаду ад 22.4.1828 пры ўдзеле С. былі заснаваны самастойныя грэка-уніяцкая калегія, некалькі духоўных семінарый для уніяцкага духавенства, паменшана колькасць уніяцкіх епархій, перафарміраваны склад уніяцкіх кансісторый, базыльяне пастаўлены пад кантроль епархіяльнай улады, каталікам прапанавана пакінуць базыльянскі ордэн. У 1829 С. пасвячоны ў сан епіскапа Мсціслаўскага і вікарыя Беларускай епархіі, прызначаны старшынёй Беларускай кансісторыі. У 1832 С. стаў архіепіскапам літоўскім і разгарнуў актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы да аб'яднання уніяцкай царквы з праваслаўнай. У 1835 С. прызначаны членам асобага сакрэтнага камітэта, створанага для кіравання уніяцкімі справамі, і членам камісіі духоўных вучылішчаў, якой падпарадкоўваліся ўсе уніяцкія духоўна-адукацыйныя ўстановы. Сваімі дзеяннямі С. дасягнуў таго, што ў 1837 уніяцкая царква была падпарадкавана обер-пракурору Сінода, а ў сак. 1839 на Полацкім саборы далучана да праваслаўнай царквы. У 1840 С. нададзены сан архіепіскапа Літоўскага і Віленскага. Перасяліўшыся ў 1844 з Пецярбурга ў Жыровіцы, ён выклапатаў устанаўленне другога вікарыяцтва Літоўскай епархіі і перавёў у Вільню літоўскае праваслаўнае епархіяльнае ўпраўленне разам з семінарыяй. Каб умацаваць пазіцыі на землях былога Вялікага княства Літоўскага, ён насаджаў тут «праваслаўна-уніяцкі элемент», апраўдваючы гэта намерам пазбегнуць магчымасці новага польскага паўстання, процідзейнічаў увядзенню ў прыходскіх школах (тут існавала больш за 200 царкоўнапрыходскіх школ і вучылішчаў) польскай, беларускай і літоўскай моў. Ён аказваў матэрыяльную падтрымку праваслаўнаму духавенству, якое пацярпела ў час паўстання 1830—31, аднавіў і пабудаваў некалькі цэркваў. За шчырую антыуніяцкую дзейнасць узнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра II ступені. Памёр і пахаваны ў Вільні.

У сваіх «Запісках» (т. 1—3, 1883) акрамя ўласнага жыццеапісання даў ацэнку пераломнаму моманту ў адносінах паміж уніяцкай, праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі, апісаў свой удзел у падзеях 1839, даў характарыстыку многім тагачасным дзеячам, з якімі яго зводзіў лёс. Да «Запісак» прыкладзены і дакументы, што тычацца гісторыі праваслаўнай і уніяцкай цэркваў.

*Літ.*: Православная богословская энциклопедия. Спб., 1906. Т. 7. Киприанович Г.Я. Жизнь Иосифа Семашко, митрополита литовского... Спб., 1893; Коялович М. О почившем митрополите литовском Иосифе. Спб., 1869.

## **СЯМЕЎСКІ** Васіль Іванавіч (6.1.1849 — 4.10.1916)

Гісторык, эканаміст. Нарадзіўся ў Полацку ў дваранскай сям'і. Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1872). З 1882 прафесар, з 1889 доктар гістарычных навук. Вывучаў гісторыю сялянства 18—19 ст. і рабочага класа ў Расіі, вызваленчы рух дзекабрыстаў і петрашэўцаў. Адзін са стваральнікаў партыі народных сацыялістаў (1906), член яе ЦК. У 1913—16 адзін са стваральнікаў гістарычна-літаратурнага часопіса ліберальна-народніцкага кірунку «Голос минувшего». Аўтар прац: «Сяляне ў цараванне імператрыцы Кацярыны II» (т. 1—2, 1881—1901), «Сялянскае пытанне ў Расіі ў XVIII і першай палавіне XIX ст.» (т. 1—2, 1888), «Рабочыя на сібірскіх залатых промыслах» (т. 1—2, 1898), «Палітычныя і грамадскія ідэі дзекабрыстаў» (1909), «М.В.Буташэвіч-Петрашэўскі і петрашэўцы» (ч. 1, 1922).

С. — стваральнік школы эканамістаў-гісторыкаў, якія вывучалі сацыяльна-эканамічнае развіццё сялянства па першакрыніцах, і першы ўвёў у навуковы ўжытак велізарныя архіўныя матэрыялы аб умовах і ладзе жыцця рускага сялянства. Ён заклаў асновы вывучэння гісторыі прамысловай працы ў краіне. Асвятляючы цяжкае

жыццё рабочых, прыходзіў да думкі пра непазбежнасць рэвалюцыі ў Расіі. Верыў у народніцкія ідэі. Эвалюцыю сацыяльных ідэй разглядаў у адрыве ад эканамічнага развіцця краіны, перабольшваў уплыў заходніх мысліцеляў на рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, не заўважаючы таго, што іх светапогляд фарміраваўся перш за ўсё на аснове вывучэння рэальнай рэчаіснасці, а не на вучэннях А.Сміта, Д.Рыкарда, П.Прудона і іншых філосафаў і эканамістаў. У цэлым светаўспрыманне С. супярэчлівае і неадназначнае: ён лічыў сябе вучнем А.Герцэна і М.Чарнышэўскага і ў пачатку 1880-х гадоў выступаў з рэвалюцыйна-народніцкіх пазіцый, але потым больш схіляўся да ліберальнага народніцтва, заігрывання з самаўладдзем.

*Літ.:* Бусько В.Н. Экономическая мысль Белоруссии середины XIX — начала XX в.: Очерки. Мн., 1990. С. 85—86.

## СЯНКОЎСКІ Восіп Іванавіч [літ. псеўданім Барон Брамбеус; 19(31).3.1800 — 4(16).3.1858]



Пісьменнік, мовазнавец, журналіст, падарожнік. Нарадзіўся ў маёнтку Антакаль паблізу Вільні ў шляхецкай сям'і. Вучыўся ў мінскім калегіуме, потым у Віленскім універсітэце. Пад уплывам Г.*Гродэка*, І.*Лялевеля*, Я.*Снядэцкага* захапіўся гісторыяй, арыенталістыкай. У 1819—21 зрабіў падарожжа ў Турцыю, Сірыю, Егіпет. Быў паліглотам: апрача польскай, беларускай і рускай моў ведаў яшчэ арабскую, турэцкую, французскую, нямецкую, англійскую, італьянскую, ісландскую, баскскую, персідскую, навагрэчаскую мовы, вывучаў мангольскую і кітайскую. Служыў у Калегіі замежных спраў. У 1822 атрымаў кафедру арабскай і турэцкай славеснасці ў Пецярбургскім універсітэце. Яго лекцыі карысталіся поспехам. Але ў 1830-я гады ён захапіўся журналістыкай і выйшаў у адстаўку ў 1847. У 1820-я гады С. зблізіўся з Ф.В.*Булгарыным*, М.І.Грэчам і А.А.Бястужавым. Друкаваўся ў «Северном архиве», «Северной пчеле» і «Полярной звезде». У 1828—33 служыў цэнзарам. У сваіх артыкулах, што прыцягнулі ўвагу грамадскасці, ён высмейваў становішча рускай сатыры і наогул літаратуры. У 1834—56 выдаваў «Библиотеку для чтения», якая замацавала ў гісторыі рускай журналістыкі тып «энцыклапедычнага» часопіса. С. ўвёў цвёрдую пааркушную аплату за працу. Часопіс выходзіў дакладна ў тэрмін, меў вялікі тыраж. Але, паводле сведчання А.В.Дружыніна, С. не любіў рускую літаратуру і пагарджаў ёю. А.С.Пушкін, В.А.Жукоўскі і іншыя вядомыя паэты хутка адхіснуліся ад яго часопіса. Рашучыя ўдары па прэстыжы часопіса нанеслі ў 1840-я гады «Отечественные записки», якія ўзначальваў В.Р.Бялінскі. Фактычна С. аб'яднаўся з Булгарыным і Грэчам супраць прагрэсіўных пісьменнікаў. Адначасова С. нападаў на французскую літаратуру, абвінавачваў яе ў амаральнасці, бо яна спарадзіла Марата і Рабесп'ера. Яго палохалі праўдзівыя карціны народнага ўздыму, ён адмоўна выказваўся пра рэвалюцыйных дзеячаў, польскіх паўстанцаў. У сваіх белетрыстычных творах і водгуках на творы іншых пісьменнікаў прапагандаваў «свецкую аповесць», сваёй фантастыкай і балбатнёй імкнуўся адвесці чытача ад надзённых тэм. Віднае месца займаў С. ў гісторыі арыенталістыкі. Яго нарысы пра паэзію і мову аравіцян, пра Егіпет, Малую Азію маюць пазнавальнае значэнне. С. ўдзельнічаў у стварэнні «Энциклопедического лексикона» Плюшара, пісаў і рэдагаваў для яго артыкулы на розныя тэмы. Пад канец жыцця фактычна адышоў ад літаратурных

спраў, займаўся астраноміяй, музыкай, фатаграфіяй. Пахаваны ў Пецярбургу.

*Тв.*: Собр. соч. Т. 1—9. Спб., 1858—59.

*Літ.*: Каверин В.А. Барон Брамбеус. М., 1966. *Г.А.Маслыка.*



## ТАПЧЭЎСКІ Фелікс Феліксавіч (псеўд. Хвэлька з Рукшэніц; 1838—17.12.1892)

Беларускі паэт-дэмакрат. Нарадзіўся ў б. фальварку Лёсава Ушацкага р-на ў дваранскай сям'і. Скончыў Лепельскае дваранскае вучылішча. Працаваў канцылярскім чыноўнікам у Віцебскім земскім судзе, адкуль выйшаў у адстаўку ў 1861. Працаваў валасным пісарам у Лепельскім павеце. У лютым 1864 быў арыштаваны, як мяркуюць даследчыкі, за сувязь з паўстанцамі 1863—64. Апошні час жыў і працаваў аканомам у маёнтку Вухвішча (Полацкі р-н). Яго творы распаўсюджваліся ў рукапісах. Шэраг вершаў («Саўсім не тое, што было», «Грошы і праца», «Ігрышча» і інш.) зберагліся ў рукапіснай «Беларускай хрэстаматыі» Б.І.Эпімах-Шыпілы. У сваіх творах Т. высока ставіў чалавека працы, асуджаў з пазіцыі патрыярхальнага сялянства буржуазныя адносіны ў грамадстве, высмейваў шляхецкую культуру. Змрочнай сучаснасці паэт проціпастаўляў ідэалізаваныя дакапіталістычныя парадкі, калі людзі не адчувалі сілы грошай. Адзіны выхад да лепшай будучыні бачыў у маральным самаўдасканаленні, звароце да патрыярхальнай дабрачыннасці. Творчасць Т. ў некаторых выпадках сугучная паэзіі Я.*Багушэвіча*.

*Тв.*: У кн.: Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1971. С. 259—269.

*Літ.*: История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 373—374.

*Г.А.Маслыка.*

## ТАТУР Генрых Хрыстафоравіч (1846—1907)

Археолаг, гісторык, краязнавец, калекцыянер. Нарадзіўся ў Мінску. Член Мінскага статыстычнага камітэта, павятовы маршалак дваранства. З 1874 вёў археалагічныя раскопкі ў Мінскай губ., склаў яе археалагічную карту з апісаннем помнікаў. У 1884—85 заснаваў часовы археалагічны музей у г. Беразіно, дзе ў наваколлі вёў раскопкі (Калюжыцы, Крушына, Курганне, Русалішча і інш.). Толькі за 1890 ён даследаваў 120 курганоў каля Дулебаў і Няюнішчаў Ігуменскага павета, у 1892 — 40 курганоў каля Станькава, у 1893 — 40 курганоў каля в. Прылукі Мінскага павета. У выніку паездак па Міншчыне Т. падрыхтаваў вялікі альбом археалагічных помнікаў (1893). Стварыў у Мінску багаты прыватны музей па гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі і унікальную бібліятэку (калекцыі рукапісная кнігі і старадрукаў, у т.л. «Біблія» Ф.Скарыны, беларускага жывапісу). Аўтар прац «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, ранейшай сталіцы ўдзельнага Тураўскага княства», «Гісторыя Станькава», «Гісторыя Заслаўя» (захаваліся ў рукапісах). Пасля смерці яго зборы былі прададзены, многія вывезены за мяжу. Выказваўся за стварэнне агульнанацыянальнага музея і адкрыццё публічнай бібліятэкі ў Мінску. *Г.А.Каханоўскі.*

## ТРУСАЎ Антон Данілавіч (27.5.1835—каля 1886)

Рэвалюцыянер-дэмакрат, удзельнік паўстання 1863—64 і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Нарадзіўся ў г. Барысаве ў сям'і служачых. Вучыўся ў Маскоўскім універсітэце (1854—56, 1860—61). У пачатку 1860-х гадоў блізкі да гуртка П.Р.Заічнеўскага, які быў заснавальнікам якабінскага (бланкісцкага) кірунку ў расійскім рэвалюцыйным руху; быў паслядоўнікам М.Г.Чарнышэўскага і К.Каліноўскага. У 1861—62 ён жыў і рыхтаваў паўстанне ў Мінску. У 1863 узначаліў мінскі паўстанцкі атрад, з якім далучыўся да атрада С.В.Ляснеўскага і ўдзельнічаў у баях супраць карнікаў на тэрыторыі Мінскай губ. Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў. Да 1869 жыў у Парыжы, працаваў наборшчыкам, быў звязаны з французскімі сацыялістамі. У 1869 адзін з заснавальнікаў Рускай секцыі I Інтэрнацыянала — рэвалюцыйна-дэмакратыч-

най арганізацыі расійскіх эмігрантаў-народнікаў, мэтай якой было звязаць расійскі вызваленчы рух з еўрапейскім. У 1871 уваходзіў у жэнеўскі камітэт дапамогі парыжскім камунарам. Ён адзін з арганізатараў друкарні часопіса «Народное дело», які стаў друкаваным органам Рускай секцыі I Інтэрнацыянала. Пазней Т. быў загадчыкам друкарні, а з 1873 — яе ўладальнікам. Друкарня выпусціла ў свет каля 150 кніг, брашур, перыядычных выданняў рэвалюцыйнага зместу. У 1884 цяжка хворы Т. прадаў друкарню групе «Вызваленне працы» і вярнуўся ў Мінск, дзе жыў пад наглядам паліцыі.

Погляды Т., у цэлым народніцкія, развіваліся пад уплывам марксізму. Ён быў знаёмы з асноўнымі дакументамі марксізму, выказваў думку пра неабходнасць сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы сялян і рабочых.

*Літ.*: Кісялёў Г.В. Сейбіты вечнага. Мн., 1963; Шпадарук И.П. Борцы за народное дело. Мн., 1968.

## **ТРУТНЕЎ** Іван Пятровіч [1827—5(18).2.1912]



Жывапісец, педагог і асветнік. Нарадзіўся ў г. Ліхвін Калужскай губ. ў сялянскай сям'і. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Строганаўскім вучылішчы ў Маскве. У 1850—58 вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, дзе атрымаў званне мастака 1-й ступені. У 1866 ён арганізаваў і 46 гадоў узначальваў Віленскую рысавальную школу. Адкрыццё гэтай школы было выклікана выключна практычнымі меркаваннямі — патрэбай фабрычнай вытворчасці ў кадрах, якія валодалі б прыкладным маляваннем і чарчэннем. Аднак дзейнасць Віленскай школы далёка сягнула за межы першапачатковага прызначэння. Пры ёй быў створаны клас жывапісу, які даваў магчымасць аматарам прыгожых мастацтваў развіваць і ўдасканальваць свае здольнасці. Сістэма навучання ў школе грунтавалася на прынцыпах рэалізму. Т. руплівa аберагаў вучняў ад уплыву фармалістычнага мастацтва. Ён пастаянна клапаціўся аб папаўненні Віленскага музея старажытнасцей лепшымі ўзорамі рэалістычнага жывапісу. Погляды і перакананні Т. знайшлі адбітак у творчасці многіх яго вучняў. Большасць з іх пасля заканчэння школы працавалі настаўнікамі малявання ў павятовых і губернскіх гарадах Беларусі. Т. прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці краю. Ён быў у ліку заснавальнікаў віленскага мастацкага гуртка (1901), у склад якога ўваходзілі многія беларускія мастакі, вывучаў помнікі мясцовай даўніны, рабіў шматлікія замалёўкі і акварэлі помнікаў архітэктуры ў Полацку, Віцебску, Мсціславе і ў іншых гарадах Беларусі. У 1855 за карціну «Благаслаўленне сына ў апалчэнне» Т. адзначаны малым залатым медалём, а ў 1857 за карціну «Хрэсны ход на Вадохрышча ў вёсцы» (варыянт гэтай карціны захоўваецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі) — вялікім залатым медалём. У 1868 яму прысвоена званне акадэміка. Атрымаўшы права на замежную камандзіроўку, ён наведаў Вену, Дрэздэн, Парыж, Антверпен, Дзюсельдорф, Брусель, 2 гады жыў у Італіі і, не дачакаўшыся канца пенсіянерства, вярнуўся на радзіму. Т. клапаціўся пра ўладкаванне лёсу сваіх выхаванцаў. Карыстаючыся асабістымі сувязямі ў Акадэміі мастацтваў, ён садзейнічаў залічэнню на «казённы кошт» у вучні Акадэміі многіх выхадцаў з Беларусі. Паводле традыцыі былыя вучні пасля дасягнення пэўных поспехаў у жывапісе прысылалі ў Віленскую школу

І.П.Трутнеў. Ручай.



І.П.Трутнеў. Віленскія пакутнікі.

першыя свае працы, якія экспанаваліся на пастаянна дзеючай мастацкай выстаўцы пры Віленскім музеі старажытнасцей. Многія з іх былі адзначаны ўзнагародамі і заахвочваннямі (напр., па выніках юбілейнай выстаўкі 1894 у сувязі з 25-годдзем школы). Працаваў Т. пераважна ў гістарычным і бытавым жанрах. Сярод яго твораў «Народная школа», «Унутранасць партэрнай у Антверпене» (1868), «Літоўская пагранічная карчма» (1889), «Віленскія пакутнікі Антоній і Іаан», «Сляпы кабзар». Пісаў таксама партрэты і абразы.

*Літ.*: Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в. Мн., 1974. С. 137—144, 161—164.

## ТШАШЧКОЎСКАЯ (Трашчкоўская) Зоф'я Адамаўна (1847—7.10.1911)

Паэтэса, перакладчыца. Нарадзілася ў в. Дарагавіца Слуцкага павета ў сям'і дробнага шляхціца Адама Манькоўскага. Даводзілася пляменніцай А.Раецкаму, швагру У.*Сыракомлі*. З У.Сыракомлем пазнаёмілася яшчэ ў дзяцінстве, у час вучобы ў Вільні часта наведвала яго дома. У 1862 паэт падараваў ёй аўтограф верша «Да панны Зоф'і Манькоўскай», чым благаславіў пачынаючую 15-гадовую паэтэсу «спяваць пасля яго на сіратлівай Літве». Пазней выйшла замуж за афіцэра расійскай арміі Трашчкоўскага, жыла ў Зарайску, Ноўтарадзе, удзельнічала ў руска-турэцкай вайне 1877—78. Друкавацца пачала ў 1887. Усе публікацыі падпісвала крыптанімам Адам М-скі (скарочанае прозвішча бацькі). Падтрымлівала творчыя сувязі з В.*Каратынскім* і Я.*Лучынам*, сябравала з паплечнікам К.Каліноўскага Ф.Зянковічам. Апошнія гады правяла ў роднай в. Дарагавіца, дзе паглыбілася ў спасціжэнне беларускай народнай песні (цыкл «Дарагавіцкія песні»). У 1890 выдала зборнік польскамоўнай паэзіі «Адзін з многіх». У польскамоўных вершах шырока выкарыстоўвала беларускі фальклор і лексіку. Як паслядоўніца Сыракомлі ў сваіх творах звярталася да гераічнага мінулага роднага краю (нізка «Былыя акорды»), выказвала замілаванне да блізкіх з дзяцінства мясцін («З жыцця і тугі», «Выня»), захапленне сялянскай трывалсцю і спачуванне сацыяльна абяздоленым. Абвострана-гуманістычнае светаўспрыманне і дэмакратызм поглядаў Т. спрыялі яе звароту да арыгінальнай («Божа, наш бацька») і перакладной («Каліна» Т.Ленартовіча, «Казак» Я.Чачота і інш.) беларускамоўнай творчасці. Перакладала на польскую мову творы англійскай, партугальскай, французскай, чэшскай паэзіі. Пахавана на могілках в. Бабоўня Капыльскага р-на.

*Літ.*: Казбярук У. Беларускія вершы Адама М-скага // Маладосць. 1971. №12; Мархель У. Лірнік вясковы: Сыракомля ў бел.-пол. літ. узаемадзеянні. Мн., 1983. С. 156—159.

## ТЫЗЕНГАЎЗ Канстанцін (3.6.1786—16.3.1853)

Прыродазнавец, асветнік. Нарадзіўся ў мяст. Жалудок на Гродзеншчыне. Прымаў удзел у вайне 1812 супраць Напалеона. Пасля вайны цалкам аддаўся навуковай працы ў галіне арніталогіі. Аўтар твораў на польскай мове «Асновы арніталогіі, або навукі пра птушак» (1841) і «Усеагульная арніталогія, або Апісанне птушак усіх частак свету» (1843—46). Т. захапляўся жывапісам, быў вучнем мастака Я.*Рустэма*. Меў у Паставах сваю карцінную галерэю. Апрацаваў ілюстрацыйны матэрыял да кнігі У.Тачаноўскага «Заалогія польскіх птушак» (1862). У сваім маёнтку ў Паставах стварыў арніталагічны музей, у якім было некалькі тысяч узораў птушак з Беларусі, Літвы і Украіны. Пры музеі была значная бібліятэка, якая складалася з кніг па арніталогіі, а таксама рэдкіх помнікаў польскага пісьменства, каштоўнага збору гравюр і сямейнага архіва, дакументы якога пачыналіся ад 13 ст. Пасля смерці Т. справу па падтрыманні музея і бібліятэкі і іх папаўненні прадаўжаў яго сын Рэйнольд (1830—80). У 1856 экспанаты арніталагічнага музея адышлі паводле волі нябожчыка Віленскай археалагічнай камісіі, пры якой быў створаны арніталагічны кабінет. Бібліятэка засталася ў Паставах у нашчадкаў. У 1914 сямейны архіў Т. перададзены ў бібліятэку ардынацыі Пшаздзецкіх у Варшаве. У час 1-й сусветнай вайны бібліятэка Т. перавезена з Паставаў у Смаленск. Далейшы яе лёс невядомы.

**ТЫШКЕВІЧ** Канстанцін Піевіч (17.2.1806—13.7.1868)



Археалаг, гісторык, этнограф, фалькларыст; адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Член Маскоўскага археалагічнага таварыства (1864). Нарадзіўся ў мястэчку Лагойск Мінскай губ. Брат Я.П.*Тышкевіча*. Скончыў Віленскі універсітэт (1828). У 1828—36 працаваў у міністэрстве фінансаў Царства Польскага ў Варшаве. Удзельнік вызваленчага паўстання 1830—31. З 1836 жыў у Лагойску. Заснаваў тут фабрыку льняных і баваўняных вырабаў, дзе ткалі паясы, абрусы, сурвэткі, ручнікі і інш. Але галоўным яго заняткам стала вывучэнне помнікаў старажытнасці краю. Разам з братам Яўстафіем ён раскопваў курганы, могільнікі і іншыя помнікі археалогіі. Ім даследавана каля 200 курганоў і гарадзішчаў жалезнага веку, замчышчаў ранняга сярэднявечча ў Мінскай губ. Вынікі сваіх даследаванняў ён публікаваў у польскім штотыднёвіку «Przyjaciel ludu» («Сябра народа»), у газеце «Новое время», якую выдаваў у Пецярбургу ў 1668—71 А.*Кіркор*. Т. першы сфармуляваў канкрэтныя задачы раскопак, склаў тапаграфічныя планы гарадзішчаў і замчышчаў, атлас старажытных гарадзішчаў, першы класіфікаваў знаходкі паводле тэхнікі апрацоўкі, матэрыялаў выканання і звёў іх у табліцы, першы звярнуў увагу на ганчарныя клеймы курганных гаршкоў, што дало магчымасць больш дакладна сістэматызаваць археалагічныя знаходкі. Багатую бібліятэку і калекцыю мастацкіх твораў у сваім радавым маёнтку ў Лагойску ён значна папоўніў, у т.л. калекцыяй унікальных старажытных рукапісаў і археалагічных матэрыялаў, выяўленых у час раскопак. У выніку гэты своеасаблівы цэнтр гістарычнай і археалагічнай навукі браты Тышкевічы пе-



*Лагойскі парк. З малюнка Н.Орды. 19 ст.*

ратварылі ў 1842 у Лагойскі археалагічны музей — першы на Беларусі музей старажытнасцей. Пазней ён стаў асновай для стварэння музея старажытнасцей у Вільні. Наогул браты Тышкевічы далі прыклад не толькі навуковай і творчай сумленнасці, але і рэдкай духоўнай еднасці. У 1856 Т. арганізаваў экспедыцыю ўздоўж р. Вілія, у час якой сабраў багаты этнаграфічны, фальклорны і археалагічны матэрыял. Вынікам гэтага стала выдадзеная ў 1871 (пасмяротна) краязнаўчая манаграфія «Вілія і яе берагі». Адзін з раздзелаў гэтай кнігі «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі» (1865, перавыдадзена ў 1868) прысвечаны унікальным знаходкам старажытнага пісьменства славян-ятвягаў 10—14 ст., што былі выяўлены ў 1864 на р. Бут каля г. Драгічын. У 1859 ён выдаў працу «Гістарычныя звесткі пра старажытныя замкі, гарадзішчы і курганы ў Літве і Літоўскай Русі», у якой увёў у навуковы ўжытак нямала раней не вядомых навуцы археалагічных матэрыялаў. Пісаў пра фальклор беларусаў, пра іх нацыянальную самабытнасць і гістарычную непаўторнасць Беларусі.

*І.П.Хаўратовіч.*

## **ТЫШКЕВІЧ** Яўстафій Піевіч (18.4.1814—8.9.1873)



Беларускі археолаг, гісторык, этнограф, краязнавец, музеязнавец; адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі. Ганаровы член Пецярбургскай акадэміі навук, член Дацкага таварыства аматараў паўночных старажытнасцей, Стакгольмскай Каралеўскай акадэміі выяўленчага мастацтва і старажытнасцей, Лонданскага археалагічнага інстытута. Малодшы брат К.П.*Тышкевіча.* Нарадзіўся ў Лагойску. Амаль палавіна гісторыі гэтага старажытнага горада непарыўна звязана з графскім родам Тышкевічаў (з 1528), які даў беларускай зямлі шмат таленавітых людзей: дзяржаўных і ваенных дзеячаў, суддзяў, святароў, літаратараў, архітэктараў, эканамістаў, інжынераў і інш. Яго бацька П.Ф.Тышкевіч (1756—1858) поруч з эканамічнымі клопатамі пра графства шмат рабіў дзеля памнажэння культурнай спадчыны радавога Лагойска: пісаў сямейную хроніку, папоўніў мастацкую галерэю і бібліятэку, іграў на скрыпцы і флейце, арганізоўваў камерныя і сольныя канцэрты, быў выдатным рэзчыкам па дрэве і адмысловым інкрустатарам, дапамагаў сваім сынам Яўстафію і Канстанціну ў іх навуковых пошуках. Паводле сведчання сучаснікаў, у тагачаснай Лагойскай галерэі было больш за 200 карцін італьянскага жывапісу, вялікі збор этрускіх ваз, больш за 1000 медалёў і манет, мноства старадаўніх рукапісаў і карт, старажытныя крыжы, кальчугі, шчыты, мячы, коп'і, бердышы, калекцыя льняных вырабаў Лагойскай фабрыкі. Удзячнасцю і прызнаннем яго заслуг у навуцы было выбранне ў 1856 П.Ф.Тышкевіча ў 100-гадовым узросце ганаровым членам Віленскай археалагічнай камісіі (выпадак унікальны). Расказы бацькі былі першай школай гістарычнага выхавання сыноў.

З 1824 Яўстафій вучыўся ў Віленскай гімназіі пад апекай прафесараў універсітэта Я.Вашкевіча і К.Асмалоўскага. Перапыніўшы тут вучобу, ён у 1831 скончыў Мінскую гімназію. Потым амаль 2 гады вучыўся самастойна, «дабіраючы» веды ў пецярбургскіх бібліятэках. З 1833 Т. служыў у Ордэнскім капітуле канцылярыі віленскага, потым кракаўскага генерал-губернатара. З 1840 ён ганаровы апякун школ, маршалак шляхты Барысаўскага

павета, на свае сродкі пабудаваў у Барысаве павятовае вучылішча; у 1848—54 — куратар Мінскай гімназіі. Але асноўным яго заняткам была навука. Пачынаючы з 1837 ён кожнае лета даследаваў курганы на Лагойшчыне, Барысаўшчыне, Міншчыне, у Друцку, Лідзе, Крэве, Міры, Гальшанах і інш. Не зважаючы на свае графскія тытулы, браты Яўстафій і Канстанцін, а часам і бацька, бралі ў рукі рыдлёўкі і з дапамогай навакольных сялян раскопвалі старажытныя курганы. Часам, пераапрануўшыся ў простае сялянскае адзенне, яны хадзілі па вясковых хатах, каб паслухаць і запісаць народныя песні, легенды, паданні, шчырую гутарку сялян пра побыт, паўдзельнічаць у абрадах. Захоплены загадкамі старажытнага свету, Т. вырашыў грунтоўна разабрацца ў тыпах гістарычных помнікаў на роднай зямлі і высветліць, ці ёсць у іх заканамернасць і сувязь з культурай плямён, што некалі жылі на Беларусі. Гэта захапленне археалогіяй прыйшло да яго ў 20-гадовым узросце. Як і большасць археолагаў, свае даследаванні ён пачаў з курганоў. Іх раскопкі напачатку ён вёў траншэйным спосабам. Але хутка пераканаўся ў бесперспектыўнасці такога метаду і стаў выкарыстоўваць перакрыжаваны спосаб даследавання. Раннія яго публікацыі былі пераважна апісальнымі. Пазней набыты вопыт даваў упэўненасць у аналізе высноў і ацэнак. Па самых, здавалася, нязначных дэталях пахавальнага абраду ён вызначаў час узнікнення помніка, а па знаходках у пахаваннях даваў характарыстыку старажытнай эпохі. Накоплены матэрыял і вопыт дазволілі яму выкарыстоўваць параўнальна-тыпалагічны метад, які пазней быў удасканалены і ўзбагачаны. У выніку даследаванняў сотняў крывіцкіх курганоў і аналізу іх пахавальнага інвентару ён першы адзначыў іх этнавызначальныя прыкметы — скроневыя кольцы ў жанчын. Тым самым даў ключ для вызначэння тэрыторыі рассялення крывічоў. Аналіз пахавальнага інвентару дазволіў зрабіць яму вывады і пра гандлёвыя сувязі крывічоў з аддаленымі землямі, дзе рамяство было на больш высокім узроўні; што мясцовае насельніцтва забяспечвала жалезам не толькі сябе, але і вывозіла яго; што мясцовыя прылады працы і вырабы былі на ўзроўні тагачасных вырабаў суседніх краін. А з гэтага вынікала, што ў часы так званай ваеннай дэмакратыі тут не было таго варварства, пра якое сцвярджалі некаторыя гісторыкі. Канстатуючы багаты і бедны інвентар курганных пахаванняў, ён зрабіў вывад пра сацыяльную няроўнасць тагачаснага грамадства. Аналізуючы пахавальны абрад славян і іх суседзяў (літоўцаў, латышоў), ён прыйшоў да высновы пра іх



*Астрашыцкі гарадок. Палацавы комплекс. З малюнка Н.Орды.*

блізкасць (трупаспаленне, падабенства інвентару і яго размяшчэнне). Гэтыя яго высновы, падмацаваныя пазнейшымі археалагічнымі даследаваннямі, і сёння з'яўляюцца пануючай думкай пра адзінства паходжання славянскай і балцкай культур на Беларусі. Тэрмін «гарадзішча» і вытворныя ад яго (гарадок, гародня, горад) ён лічыў славянскімі і выказаў думку, што самі гарадзішчы не абавязкова з'яўляюцца абарончымі ўмацаваннямі, а хутчэй абрадавымі. Замкі ён лічыў абарончымі аб'ектамі і іх этымалогію выводзіў ад слова «замыкаць». Т. зрабіў дэталёвае апісанне каменных прылад працы і ў дадатку да кнігі «Археалагічныя даследаванні» змясціў іх малюнкі. У 1842 выдаў кнігу «Погляд на крыніцы мясцовай археалогіі, або Апісанне некаторых помнікаў старажытнасцей у Заходніх губернях Рускай дзяржавы». Каб папоўніць свае веды па старажытнай гісторыі і пазнаёміцца з метадамі даследаванняў замежных калег у археалогіі, Т. у 1843 накіраваўся на стажыроўку ў Данію, Фінляндыю, Швецыю. Гэта быў першы і адзіны выпадак у 1-й палове 19 ст., калі беларускі вучоны-археолаг паехаў за мяжу пераймаць вопыт калег. Метад вядомага дацкага археолага К.Томсена падзелу старажытнасцей на тры эпохі-вякі (каменны, бронзавы, жалезны) Т. узяў на ўзбраенне пры сваіх даследаваннях і пры сістэматызацыі старажытнасцей у Лагойскім музеі (з 1842), а пазней і ў Віленскім музеі старажытнасцей. Вынікам паездкі за мяжу стала яго своеасаблівая кніга-справаздача «Лісты пра Швецыю» (т. 1—2, 1846). Вярнуўшыся з замежжа, выдаў сваю працу «Археалогія ў Літве» (1872), у якой акрэсліў шырокі абсяг для даследаванняў помнікаў Беларусі.

Вынікам яго дзейнасці на Барысаўшчыне стала грунтоўнае «Апісанне Барысаўскага павета...» (1947). Для гэтай кнігі Т. некалькі гадоў збіраў першакрыніцы па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, літаратуры, мастацтве, археалогіі, тапаніміцы, фальклоры, шукаў памочнікаў-сааўтараў. Сярод іх былі К.Адамовіч, П.Чачот, З.*Даленга-Хадакоўскі*, Ф.Чаховіч, В.Твардоўскі, Я.Ванькові́ч, К.Тышынскі, В.Гарноўскі і, вядома, брат Канстанцін. Амаль 10 гадоў ён ствараў гэту унікальную краязнаўчую кнігу, дзе кожны факт, кожная дата выве́раны, дабрасумленна прааналізаваны і аргументаваны. Працуючы ў галіне археалогіі, этнаграфіі і краязнаўства, Т. грунтоўна займаўся і фальклорам. Пры апісанні вяселля, абрадаў (Дзяды, Каляды, Радаўніца, Спас) і ўсяго цыкла гаспадарчага гадавога календара беларусаў ён імкнуўся растлумачыць сувязь язычніцкіх абрадаў, элементы якіх замацаваліся і ў хрысціянскіх вераваннях. Малюючы народныя ўрачыстасці, Т. падкрэсліваў, што багатае духоўнае жыццё беларускага селяніна часта не супадае з матэрыяльным. У яго запісах сабрана каля 450 прымавак і прыказак. Ён сцвярджаў: «Народная паэзія дае нам магчымасць пазнаць пачуцці народа, а прымаўкі — пазнаёміцца з яго розумам». Падборкі беларускіх прымавак і прыказак з каментарыямі вучоных неаднаразова змяшчаў у часопісе «Biblioteka Warszawska». Трапнымі беларускімі прымаўкамі і прыказкамі, легендамі і паданнямі Т. праілюстраваў і сваю кнігу «Узоры хатняга сумеснага жыцця ў Літве» (1844, дапрацаваны варыянт у 1864), дзе выклаў свае погляды на культуру шляхты ранейшых стагоддзяў. У кнізе «Нашы краі» Т. змясціў нарыс пра магната Радзівіла. У 1850 ён выдаў у Вільні працу «Археалагічныя даследаванні помнікаў мастацкіх рамёстваў і да т.п. ў старажытнай Літве і Літоўскай Русі». З 1847 Т. працаваў у Мінску як член камісіі па зборы і выданні старажытных актаў, грамат і прывілеяў 16—18 ст. гарадоў Мінскай губ. У 1855 ён арганізаваў і ўзначаліў Віленскую археалагічную камісію. Запаветнай яго марай было стварыць у Вільні — цэнтры беларуска-літоўскага краю — першы грунтоўны музей старажытнасцей на аснове экспанатаў, сабраных у Лагойскім археалагічным музеі. У 1845 частку сваёй лагойскай калекцыі ён перавёз у Вільню пад выглядам выстаўкі, якую пасля ператварыў у прыватны музей, а потым, з дазволу ўлад, — у музей, што размясціўся ў старажытнай зале Віленскага універсітэта. Яго выбралі старшынёй гэтага музея. Музей актыўна папаўняўся экспанатамі з Мінска, Магілёва, Віцебска, Оршы, Навагрудка, Крэва, Ліды, Пінска, Браслава, Паставаў і інш. Т. ахвяраваў музею

сваю бібліятэку (3 тыс. кніг) і разам з братам Канстанцінам — археалагічную калекцыю з 2 тыс. адзінак. За 2 гады калекцыя музея дасягнула 10 тыс. экспанатаў. У 1856 музей быў афіцыйна адкрыты. Каталог музея рыхтаваў А.*Кіркор*. Навуковая грамадскасць, прызнаючы заслугі Т., абрала яго ганаровым членам Пецярбургскай імператарскай акадэміі навук. Але казённая адміністрацыя, напалоханая вызваленчым паўстаннем 1863—64, пачала разглядаць музей як адзін з цэнтраў «польскай інтрыгі», і паводле загаду генерал-губернатара М.Мураўёва ён быў афіцыйна забаронены ў 1864. Спыніла дзейнасць і Віленская археалагічная камісія. «Шкодныя» экспанаты музея адпраўлялі ў Маскву. Т., вызвалены ад усіх пасад, абражаны і зняважаны, у 1865 пакінуў Вільню. Пазней дзякуючы старанням беларускага археолага І.І.Луцкевіча частка збораў Т. адшукана і ўвайшла ў фонд Беларускага музея ў Вільні (1921—45). Т. перапісваўся з многімі выдатнымі дзеячамі краю, у т.л. з паэтам і ўсходазнаўцам А.Ходзькам (Барэйкам), А.Кіркорам. У канцы жыцця Т. стварыў альбом «Магілы сямейства Тышкевічаў», выдадзены асобнай кнігай у 1873 у Вільні. З літаратурных твораў Т. захаваліся вершы, стылізаваныя пад фальклор, аповесць «Нашы краі» (1871), успаміны пра В.*Ваньковіча*, Я.*Рустэма*, І.*Ходзьку* і інш. У рукапісах засталіся яго працы «Зельнік барысаўскіх ваколіц», «Матэрыялы да нашай гісторыі», асобныя матэрыялы па археалогіі, збор дакументаў і інш. Як запавет чытаюцца словы вучонага:

«Абавязак кожнага адукаванага і ўлюбёнага ў свой край чалавека — старацца растлумачыць усё, што падпала пад сумненне і складае матэрыял для айчыннай гісторыі. Здагадвацца, шукаць, а адкрытае перадаваць людзям — значыць падаваць руку дапамогі тым, хто прысвяціў жыццё сваё і здароўе навукам для дабра грамадскага».

*Літ.*: Каханоўскі Г.А., Кахаsuccesноўскі А.Г. Руплівец нашай старасветчыны: Яўстах Тышкевіч. Мн., 1991.

*І.П.Хаўратовіч.*

# У



**УРОНЧАНКА** Міхаіл Паўлавіч [1801 — 14(26).10.1855]

Геадэзіст, перакладчык. Нарадзіўся ў мяст. Копысь на Магілёўшчыне ў сям'і святара. Скончыў Магілёўскую гімназію, потым вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, які не скончыў. Быў на вайсковай службе. У 1823 займаўся геадэзічнымі здымкамі ў Літоўска-Віленскай губерні, а ў 1824 накіраваўся ў Дэрпт (Тарту), дзе слухаў лекцыі ва універсітэце. З 1828 рабіў геадэзічныя здымкі ў Малдавіі і астранамічныя вызначэнні месцаў у Балгарыі і Румыніі. У 1834—36 вывучаў тэрыторыю Малой Азіі, вынікам чаго з'явіліся справаздачы з мноствам карт і планаў, а таксама кніга «Агляд Малой Азіі ў цяперашнім яе стане» (ч. 1—2, 1838—40). У 1837 прызначаны членам камісіі па кіраўніцтве Закаўказскім краем. У 1843—46 старшыня камітэта па асвеце яўрэйскага насельніцтва. З 1847 займаўся трыянгуляцыйнымі здымкамі ў Новарасійскім краі. У 1848 рэвізаваў яраслаўскі Дзямідаўскі ліцэй. У літаратуры вядомы перакладамі класікаў: «Гамлет» (1828) і «Макбет» (1837) Шэкспіра, «Манфрэд» Байрана, «Дзяды» А.Міцкевіча (абедзве 1828), «Фауст» Гётэ (1844) і інш.

**УРУБЛЕЎСКІ** Валерый Антоній (15.12.1836—5.8.1908)



Дзеяч польскага, беларускага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Нарадзіўся ў мяст. Жалудок Лідскага павета (цяпер гар. пасёлак у Шчучынскім раёне) у сям'і польскага па паходжанні безмаянтковага шляхціца Антона Урублеўскага і Разаліі з роду Юраўскіх. Бацька яго працаваў лесніком, потым скарбнікам у графа Тызенгаўза. Скончыўшы ў 1853 Віленскую гімназію, паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут. У час вучобы ўдзельнічаў у студэнцкім руху, быў членам нелегальнага рэвалюцыйнага гуртка, якім кіравалі польскія рэвалюцыянеры-дэмакраты З.Серакоўскі і Я.Дамброўскі. Пад уплывам твораў А.І.Герцэна, М.А.Дабралюбава, рэвалюцыйнай публіцыстыкі «Колокола» і «Современника» погляды У. набылі яскрава выяўлены антыпрыгонніцкі і антыманархічны характар. У 1861 У. накіраваны інспектарам лясной школы ў в. Саколка Гродзенскай губ. (цяпер Польшча). У 1861—62 ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі на Гродзеншчыне, вёў прапаганду сярод навучэнцаў школы. Разам з К.*Каліноўскім* рэдагаваў, друкаваў і распаўсюджваў нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную газету «Мужыцкая праўда». У 7 нумарах выпушчанай імі газеты бязлітасна і паслядоўна выкрывалася антынародная палітыка царызму, паказваўся грабежніцкі характар сялянскай рэформы 1861. Газета заклікала народ пакончыць з верай у добрага цара і развенчвала царысцкія ілюзіі, даволі пашыраныя сярод тагачаснага сялянства. Яна даводзіла, што працоўны народ можа спадзявацца толькі на ўласныя сілы і на дапамогу сваіх шчырых сяброў і добразычліўцаў-рэвалюцыянераў. Заклікала падтрымаць прагрэсіўны нацыянальна-вызваленчы рух, але не забываць пры гэтым і свае класавыя задачы. У час паўстання 1863—64 У. кіраваў паўстанцкімі атрадамі. Ён быў прыхільнікам левага крыла «чырвоных» — найбольш актыўных барацьбітоў, якія прытрымліваліся рэвалюцыйных поглядаў, — апоры на сялянскія масы, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, роўных правоў усіх народаў краю. У час бою з казакамі 7.8.1864 У. быў пасечаны шаблямі. Крыху падлячыўшыся, ён эмігрыраваў у Францыю. У Парыжы кіраваў дэмакратычнымі арганізацыямі беларуска-польскіх эмігрантаў. Калі 18.3.1871 у Францыі адбылася рэвалюцыя і быў створаны першы ў гісторыі чалавецтва рабочы ўрад Парыжская камуна, У., як і многія іншыя яго суайчыннікі, актыўна падтрымаў рэвалюцыйныя памкненні парыжан. У гэтым выступленні ён бачыў «сацыяльную рэвалюцыю, якая пры поспеху можа перавярнуць увесь парадак, што існуе цяпер у Еўропе...». У званні палкоўніка (атрымаў напярэдадні паўстання) У. прапанаваў камунарам свае паслугі і план ваенных дзеянняў. Неўзабаве яму бы-



*Парыжская камуна 1871. Паўстаўшыя на вуліцах Парыжа.*



*Лондан. Парламент.*

ло прысвоена званне генерала і ён узначаліў адну з трох рэвалюцыйных армій, якая абараняла паўднёвую частку Парыжа. У баях У. паказаў сябе ўмелым, разважлівым і прадбачлівым палкаводцам і змагаўся на чале арміі да апошняга дня існавання Парыжскай камуны. Версальцы завочна прыгаварылі яго да пакарання смерцю. З фальшывым пашпартам У. пераехаў у Англію, дзе блізка пазнаёміўся з К.Марксам і Ф.Энгельсам. У гэты ж час здароўе яго ў выніку шматлікіх раненняў моцна пахіснулася, яму з цяжкасцю ўдалося пазбегнуць ампутацыі рукі. Падлячыўшыся ў бальніцы Лонданскага універсітэта, У. ўступіў у I Інтэрнацыянал. У кастрычніку 1871 яго выбралі членам Генеральнага савета I Інтэрнацыянала, сакратаром-карэспандэнтам для Польшчы. Ідэі Інтэрнацыянала У. прапаведаваў у эмігранцкай арганізацыі «Люд польскі», створанай у Лондане па яго ініцыятыве. У 1871—72 У. быў старшынёй судовай («трацейскай») камісіі, якая разбірала канфлікты паміж членамі I Інтэрнацыянала. Актыўна падтрымліваў Маркса і Энгельса ў барацьбе з рэфармізмам, дробнабуржуазным сектанцтвам, анархізмам. Пасля распаду I Інтэрнацыянала і арганізацыі «Люд польскі» (1876) У. перабраўся ў Жэневу. У 1878 ён нелегальна прыязджаў у Расію (Адэса, Пецярбург), сустракаўся з народнікамі-землявольцамі. Калі французскі ўрад абвясціў амністыю ўдзельнікам Парыжскай камуны, у 1885 У. пераехаў у Францыю і пасяліўся ў г. Ніца. У 1901 французскі ўрад нават прызначыў яму пенсію. Апошнія гады жыцця ён правёў ва Уарвілі (каля Парыжа) у хаце былога камунара земляка Г.Геншынскага. Да канца жыцця захаваў вернасць ідэям сацыялізму. Пахаваны ў Парыжы на могілках Пер-Лашэз, ля сцяны Камунараў. На надмагільным помніку надпіс: «Гераічнаму сыну Польшчы — народ Парыжа».

*Тв.*: У кн.: Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. М., 1958. Т. 3.

*Літ.*: Абрамавичюс В.Е., Дьяков В.А. Валерий Врублевский. М., 1968; За нашу и вашу свободу: Герои 1863 г. М., 1964; Кісялёў Г.В. Паплечнік Каліноўскага. Мн., 1976; Лурье А.Я. Валерий Врублевский, генерал Парижской коммуны (1863—1908) // Лурье А.Я. Портреты деятелей Парижской коммуны. М., 1956.

*М.К.Багадзяж.*

**УРУБЛЕЎСКІ** Зыгмунд Фларэнцы (28.10.1845—19.4.1888)



Фізік, педагог. Нарадзіўся ў Гродне. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. За ўдзел у паўстанні 1863 быў сасланы ў Сібір (у Томск). У 1869 вярнуўся ў Варшаву. У 1874 абараніў у Мюнхене дысертацыю на ступень доктара філасофіі. Некалькі гадоў працаваў у розных лабараторыях Германіі і Францыі. З 1882 прафесар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Член-карэспандэнт АН у Кракаве. Ганаровы член таварыства імя Каперніка ў Львове. Даследаваў пытанні дыфузіі газаў у вадкіх і цвёрдых рэчывах. У 1883 разам з польскім фізікам К.Альшэўскім упершыню атрымаў вадкі кісларод. З дапамогай яго як ахаладжальніка ператварыў у вадкасць азот і вокіс вугляроду. Упершыню вызначыў крытычныя тэмпературы вокісу вугляроду (1883), кіслароду і азоту (1885—88). Працы У. канчаткова абверглі метафізічнае вучэнне аб так званых «пастаянных газах» (г.зн. несціскальных) і далі пачатак шырокім даследаванням у галіне звадкавання газаў.

**УРУБЛЕЎСКІ** Эдуард Антонавіч (1848—92)

Хімік-арганік, педагог. Нарадзіўся ў Гродне. Скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, у якім з 1875 працаваў прафесарам, выкладаў хімію. Правёў шэраг даследаванняў, якія садзейнічалі ўстанаўленню структуры будовы бензолу. Адзін з заснавальнікаў і актыўных членаў Расійскага фізіка-хімічнага таварыства. Аўтар прац «Гіпотэза Кекуле аб будове духмяных злучэнняў і яе праверка» (1876), «Аб некаторых злучэннях талуолавага рада» (1879) і інш.

# Ф



**ФАЙНІЦКІ** Іван Якаўлевіч [29.8(10.9).1847—1913]

Юрыст-крыміналіст, педагог. Нарадзіўся на Магілёўшчыне. У 1868 скончыў Пецярбургскі універсітэт. Чытаў лекцыі ў прававым вучылішчы. З 1871 штатны дацэнт Пецярбургскага універсітэта, дзе працаваў да канца жыцця. У 1871 абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму «Ашуканства паводле рускага права», у 1881 — доктарскую на тэму «Ссылка на Захад». У 1873—76 чытаў лекцыі ў вучылішчы правазнаўства і ў Аляксандраўскім ліцэі. З 1876 таварыш обер-пракурора сената, з 1900 — сенатар. Па яго ініцыятыве ва універсітэце абсталяваны кабінет і музей крымінальнага права, у 1877 створана юрыдычнае таварыства, у 1895 арганізавана група Міжнароднага саюза крыміналістаў, членам якой Ф. быў з 1889, старшынёй з 1905. Ф. ўдзельнічаў у стварэнні новага ўлажэння (член рэдакцыйнай камісіі). У 1903 абраны ў гласныя С.-Пецярбургскай гарадской думы. Аўтар «Курса рускага крымінальнага судаводства» (Спб., т. 1—2, 1884—97) — першага па часе навуковага выкладу асноў крымінальнага працэсу, зборніка «Вольнай часінай» (т. 1—2, 1898—90) і інш. У сваіх творах Ф. выказаў погляд на пакаранне як меру барацьбы са злачыннасцю. Дзякуючы Ф. праблемы пакарання і выпраўлення злачынцаў ва ўмовах папраўчых установ упершыню ў Расіі сталі разглядацца як самастойная прававая навука. Ф. быў прадстаўніком сацыялагічнай школы кры-

мінальнага права; па палітычных перакананнях — манархіст. Памёр у Пецярбургу.

*Тв.*: Учение о наказании в связи с тюрьмоведением. Спб., 1889; Курс уголовного права. Часть особенная — Посягательства на личность и имущество. 7 изд. П., 1916.

## **ФАЛЬКОЎСКІ** Якаў Забядэвуш (24.4.1775—2.9.1848)

Асветнік-дабрачынец, адзін з пачынальнікаў на Беларусі і ў Польшчы навучання глуханямых дзяцей мове жэстаў. Нарадзіўся на Беласточчыне. Належаў да ордэна піяраў, быў рэктарам школы ў мяст. Шчучын Гродзенскай губ. У 1802 Ф. ўпершыню распачаў абучэнне мове жэстаў глуханямога ад нараджэння 7-гадовага хлопчыка. Для ўдасканалення такога навучання ў 1815 ён накіраваўся з трыма глуханямымі хлопчыкамі ў Вену і прысутнічаў на занятках у інстытуце Мая, дзе глуханямых дзяцей вучылі мове жэстаў. Пазней ён наведваў і іншыя еўрапейскія ўстановы навучання глуханямых. У 1817 Ф. адкрыў у Варшаве першую польскую школу для глуханямых, дзе іх навучалі мове жэстаў і розным рамёствам. Па яго ініцыятыве пры дапамозе дзяржавы і прыватных асоб быў пабудаваны інстытут для глуханямых. Ф. — аўтар працы «Пра пачатак і дзейнасць інстытута глуханямых» (Варшава, 1823). У знак павагі і ўдзячнасці за дабрачыннасць у Варшаўскім касцёле св. Аляксандра Ф. пастаўлены мармуровы помнік (1874), а ў інстытуцкім садзе — бюст, зроблены выхаванцамі гэтай установы (1875).

## **ФАЛЬКОЎСКІ** Якуб (свецкае імя Шыман Тадэвуш; 28.10.1778 — 22.11.1836)

Педагог, літаратуразнавец і тэолаг. Нарадзіўся ў Падляшскім ваяводстве Беластоцкага павета ў шляхецкай сям'і. Спачатку вучыўся ў Брэсце. Пазней скончыў Віленскую гімназію (1797) і адразу ўступіў у дамініканскі ордэн прапаведнікаў, атрымаўшы імя хрысціянскага апостала Якуба Завядзея. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце (1803—06). Пэўны час быў прапаведнікам і прафесарам маральнай тэалогіі ў Полацку, прэфектам і настаўнікам літаратуры ў Гродне (1817). З Гродна выязджаў у Расію да каталіцкага мітрапаліта. Выступаў з евангельскімі пропаведзямі на Беларусі, Украіне, у Літве і Латвіі. Быў ігуменам кляштара св. Якуба на Лукішках (Вільня) і інш. кляштараў. Апошнія гады жыцця (1832—36) правёў у Забельскім кляштары. Планаваў выдаць 12 тамоў сваіх казанняў на польскай мове пад назваю «Новая прапаведніцкая бібліятэка». Першыя два тамы «Нядзельных казанняў» (1832) апублікаваны ў друкарні піяраў і 3—6-ы тамы пад назваю «Прапаведніцкія творы» (1827—29) у друкарні І.Завадскага. У Гродне надрукаваны яго прывітальныя прамовы з нагоды ўступлення на пасаду гродзенскага губернатара і інш. творы красамоўства, оды «На дзень нараджэння найяснейшага цара Аляксандра І» (1816), на імяніны гродзенскага губернатара і віцэ-губернатара.

Сярод рукапіснай спадчыны Ф. захаваліся 3 тамы «Збору розных твораў». У 3-м томе гэтага рукапісу сістэматызаваны курс пад назваю «Усеагульная літаратура» («Literatura powszechna»), які, відаць, ён чытаў у Гродзенскай гімназіі. У ім ёсць наступныя раздзелы: значэнне паняцця літаратуры; вынаходства алфавіта; спосабы пісьма і вынаходства паперы; вынаходства друкарні; класіфікацыя і роды навук; храналагічныя звесткі; пачатак грамадскіх навук; гісторыя літаратуры; да пытання пра вольныя навукі ў жыцці грамадства; пра пачатак прыгожых навук; пра паэзію і інш. Аўтар дае вызначэнні ўсім родам і жанрам літаратуры, далучаючы да яе таксама гуманітарную навуку.

Паводле свайго светапогляду і метаду выкладання Ф. быў асветнікам-гуманістам акадэмічнага складу, лаяльным да царскага ўрада. На яго думку, літаратура (пад гэтым паняццем разумелася амаль уся гуманітарная культура) — аб'ект вывучэння «прыгожых навук» і падзяляецца на рэлігійную (гісторыя царквы, аскетычная мараль, пропаведзь і г.д.) і свецкую (філасофія, «сем вольных навук», прыгожыя мастацтвы). Акрамя таго, ён падзяляў літаратуру на тэарэтычную (тэорыя красамоўства, крытыка, дыпламатыя, палітыка, права і інш.) і практычную —

разнастайныя звесткі і вынаходствы. Паводле традыцыйнай рыторыкі пад «літаратурай» разумелася любое лагічна сканструяванае, пісьмовае ці вуснае, маўленне.

Раздзел «Пра паэзію» ўяўляе сабой дыдактычныя ўводзіны ў тэорыю мастацкай літаратуры. Творчасць паэта, на яго думку, рэалізуецца, калі ён гаворыць толькі ад сябе, калі ж гаворыць іншыя, аўтар апісвае тых, хто выказваецца. Гаворка ідзе пра лірычны, эпічны і драматычны роды літаратуры. Ф. абгрунтоўваў класіфікацыю «паэзіі» (мелася на ўвазе ўся мастацкая літаратура) на жанры (элегіі, оды, песні, эпіграмы, байкі, сатыры, загадкі, шарады і інш.), падрабязна аналізаваў драматургію (трагедыі і камедыі), закрануў вытокі тэатральнага мастацтва, рабіў экскурсы ў гісторыю антычнага і новаеўрапейскага тэатра, вызначаў яго эстэтычныя нормы, у т.л. класічныя «тры адзінствы» (месца, часу і дзеяння). Выхаваўчае прызначэнне тэатральнага мастацтва — перамога дабра над злом, трыумф маральных імператываў. У гэтым аўтар спасылаўся на тэорыю катарсісу Арыстоцеля. Росквіт старажытнагрэчаскай трагедыі тлумачыў адпаведнасцю літаратуры айчыннай гісторыі і вольналюбівым характарам народа, якому падабалася глядзець «на прыніжэнне ўлады, на падзенне тыраніі». Камедыя, на думку Ф., адлюстроўвае заганы народаў, саслоўяў, асобных людзей, яна адначасова вучыць і выхоўвае іх. Камедыёграф павінен валодаць пачуццём гумару, тым «камедыйным духам», які надае аблічча і душу яго твору. Аўтар падрабязна, у духу класіцызму, апісаў змястоўныя і фарматворчыя адрозненні камедыі ад трагедыі. У свой рукапіс ён уключыў нарыс па гісторыі драматургіі, ахарактарызаваў творчасць Эсхіла, Сафокла, Арыстоцеля, Менандра, Сенекі, Расіна, Плаўта, Карнеля, Мальера і інш. Адзначыў геній У.Шэкспіра, які сфармуляваў прынцыпы тэатральнага мастацтва, што захаваліся да нашага часу.

Ёсць у рукапісах Ф. раздзелы пра оперу і балет, пра пантаміму і інш. тэатральныя мастацтвы. Курс лекцый Ф., сістэматызаваны і аформлены ў рукапісную кніжку, мог служыць падручнікам па літаратуразнаўстве і мастацкай культуры ў Гродне, Вільні і іншых гарадах Беларусі і Літвы.

*Літ.*: Конон В.М. Рост национального самосознания и белорусское искусство // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

*У.М.Конан.*

## **ФАМІН** Аляксандр Аляксандравіч (1868 — ?)

Педагог, гісторык літаратуры. Нарадзіўся ў Віцебску. Адукацыю атрымаў на славесным аддзяленні гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага універсітэта. Працаваў дырэктарам жаночага камерцыйнага вучылішча ў Варшаве. Першай яго працай было даследаванне рускай камедыі канца 18 ст. на аснове твораў малавядомых і забытых пісьменнікаў. Частка гэтай работы пад назвай «Старое ў новым» змешчана ў часопісе «Русская мысль» (1893, №2). 8 гадоў ён працаваў над складаннем даведніка і паказальніка да 2-га выд. «Анежскіх былін, якія сабраў А.Ф.Гільфердзінг». Надрукаваў артыкулы «Становішча рускай жанчыны ў сям'і і грамадстве паводле твораў А.М.Астроўскага» (1899) і «Артысты, публіка і тэатр у А.М.Астроўскага» (1901). Падрыхтаваў да друку перапіску братоў Тургеневых з В.А.Жукоўскім.

## **ФЕДАРОВІЧ** Вацлаў Пятровіч (25.9.1848—25.1.1911)

Краязнавец, калекцыянер, юрыст. Член-карэспандэнт Кракаўскай АН. Нарадзіўся ў Магілёве. Скончыў Маскоўскі універсітэт. З 1872 працаваў адвакатам у Саратаве, Балашове, Царыцыне, Ерэване. З 1884 жыў і працаваў у Віцебску. Намеснік старшыні Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Дапамагаў у раскопках археолагам, у т.л. М.Ф.*Кусцінскаму*, калекцыяніраваў зброю, археалагічныя, нумізматычныя, сфрагістычныя, этнаграфічныя матэрыялы. Набыў у сваю калекцыю матэрыялы віцебскіх калекцыянераў Бергнера і Валковіча. У яго бібліятэцы (больш за 1 тыс. тамоў) былі кнігі па гісторыі Беларусі і Літвы, беларускія і літоўскія выданні 18—19 ст. Свае артыкулы па гісторыі краю друкаваў у «Витебских губернских ведомостях».

Складальнік і ініцыятар выдання літаратурна-краязнаўчага зборніка «З ваколіц Дзвіны» (Віцебск, 1912). Распрацаваў статут Беларускага вольнаэканамічнага таварыства. У 1920 на базе яго калекцый арганізаваны своеасаблівы музей старажытнасцей імя В.Федаровіча, які ў 1924 стаў часткай Віцебскага абласнога краязначага музея.

*Літ.*: Каханоўскі Г.А. Вандраванні // Маладосць. 1984. №10. *Г.А.Каханоўскі.*

## ФЕДАРОЎСКІ (Federowski) Міхал (1.9.1853—10.6.1923)



Фальклaрыст, этнограф, археолаг, калекцыянер. Нарадзіўся ў Варшаве. З малых гадоў выхоўваўся без бацькі, які як удзельнік паўстання 1863—64 вымушаны быў жыць у эміграцыі. Ф. скончыў у 1870 Варшаўскую прагімназію. У 1873—74 быў вольным слухачом агранамічнага факультэта Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой. Нейкі час працаваў аграномам у магнацкіх маёнтках пад Варшавай. У 1875—77 даследаваў польскі фальклор і этнаграфію, вынікам чаго з'явілася манаграфія «Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы...» (т. 1—2, 1888—89). У 1877 Ф. пераехаў у Пружанскі павет Гродзенскай губ. На Беларусі ён пражыў амаль 30 гадоў і ўвесь час прысвяціў даследаванню духоўнай і матэрыяльнай культуры насельніцтва краю, збіраў кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, займаўся археалагічнымі раскопкамі курганоў, могільнікаў і старажытных паселішчаў у Пружанскім, Беластоцкім, Бельскім, Ваўкавыскім, Гродзенскім, Слонімскім паветах Гродзенскай губ., у Вілейскім і Лідскім паветах Віленскай губ. і ў Навагрудскім і Слуцкім паветах Мінскай губ., збіраў матэрыялы для стварэння археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі. Ім сабрана каля 5 тыс. беларускіх нар. песень, каля 10 тыс. прыказак, сотні казак, паданняў, вобразаў нар. міфалогіі, прымхаў, парад па народнай медыцыне. Акрамя таго, Ф. заахвочваў да збірання фальклору мясцовых карэспандэнтаў — больш за 1,5 тыс. беларускіх песенных і танцавальных мелодый для яго запісалі Я.Карловіч, Л.Патул, І.Грачык. Публікацыю сабраных тут фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў ён пачаў з 1987 у працы пад назвай «Люд беларускі». Пры яго жыцці выйшлі толькі тры тамы з запланаваных ім 14 (1897—1903); наступныя 5 тамоў (т. 4—8) выдадзены ў 1935—81. Сярод ненадрукаваных рукапісаў Ф., якія зберагаюцца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта, у Навуковым архіве Польскага этнаграфічнага таварыства ў Вроцлаве і архіве Польскай акадэміі навук, вялікая колькасць беларускіх фальклорных запісаў, апісанні фізічных і духоўных рысаў народа, рамёстваў, промыслаў, заняткаў насельніцтва і інш. На аснове гэтых матэрыялаў Ф. марыў выдаць асобны том пад назвай «Матэрыяльная і духоўная культура беларускага народа і шляхты». Сярод нататкаў да гэтага тома шматлікія апісанні абрадаў гадавога цыкла (калядныя, веснавыя, юраўскія, купальскія, жніўныя і інш.), вясельных, хрэсьбінных, пахавальных абрадаў і звычаяў, грамадскіх, сямейна-бытавых звычаяў, тапаграфічна-этнаграфічныя запісы, запісы пра выяўленыя ім дагістарычныя стаянкі і іншыя археалагічныя помнікі на Беларусі, звесткі пра знахарства, лячэнне, рэлігійныя погляды беларусаў; 4283 аркушы моўных запісаў вучонага, які вельмі пільна занатоўваў лексіку мясцовых гаворак, маючы намер выдаць іх як дапаўненне да «Слоўніка беларускай мовы» І.І.*Насовіча.*

З 1905 і да канца сваіх дзён Ф. жыў

у Варшаве. Але і тут ён падтрымліваў добрыя сувязі з беларускімі карэспандэнтамі, з віленскімі калекцыянерамі і антыкварамі, з дапамогай якіх склаў багатую бібліятэку кніг і рукапісаў, калекцыі твораў жывапісу і графікі, археалогіі і нумізматыкі. Ён прымаў удзел у фарміраванні калекцый Тышкевічаў і Д.Віткі-Яжэўскага, пасрэднічаў у набыцці А.Чалоўскім матэрыялаў з архіваў родаў Грабоўскіх, Пацаў, Пацеяў, Сапегаў, Храптовічаў і інш. Па даручэнні калекцыянера К.Пржыбыльскага адшукваў для яго бібліятэкі старадрукі, што захаваліся ў Варшаве і Вільні. У час 1-й сусветнай вайны частку сваіх збораў Ф. вымушаны быў прадаць праз антыкварную краму; 350 кніг і часопісаў ён ахвяраваў Інстытуту антрапалагічных навук Польшчы; астатнія кнігі, рукапісы і калекцыі завяшчаў прыяцелям-калекцыянерам С.Дэмбу, М.Абрамовічу, Я.Гамаліцкаму і інш.

Ф. быў членам Львоўскага этнаграфічнага таварыства (1896), Антрапалагічнай камісіі Акадэміі ведаў у Кракаве (1899), Польскага краязнаўчага таварыства, Кракаўскага нумізматычна-археалагічнага таварыства, Тавары-

ZAKŁAD SŁOWIANOZNAWSTWA POLSKIEJ AKADEMII NAUK

MICHAŁ FEDEROWSKI

LUD BIAŁORUSKI

MATERIAŁY DO ETNOGRAFII SŁOWIAŃSKIEJ
ZGROMADZONE W LATACH 1877—1905

TOM VI

*Pieśni*

WARSZAWA 1960
PAŃSTWOWE WYDAWNICTWO NAUKOWE

*«Люд беларускі». Т. 6 (тытульны ліст).*

ства сяброў навук у Вільні і інш. Аўтар прац у галіне калекцыяніравання і бібліяфільства: «Архіў Чарнадворскі» (1910), «Самуэль Гефт — бібліяфіл» (1911), «Графічныя зборы Дамініка Віткі-Яжэўскага ў Глыбокім» (1912) і інш.

*Літ.*: Саламевіч Я. Міхал Федароўскі. Мн., 1972; Kozerska H. Michał Federowski, etnograf i zbieracz dokumentów historycznych na Białorusi Zachodniej (1853—1923) // Slavia Orientalis. 1957. R. 6.

## **ФІЯЛКОЎСКІ** Антоній (1796—1883)

Рэлігійны дзеяч, магілёўскі рымска-каталіцкі архіепіскап, мітрапаліт усіх рымска-каталіцкіх цэркваў у Расіі. Нарадзіўся на Віцебшчыне. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі, у галоўнай духоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце, быў пасвячоны ў ксяндзы. Прафесар багаслоўскіх навук і царкоўнай гісторыі ў Віленскай епархіяльнай семінарыі і ў Віленскім універсітэце, а пасля закрыцця апошняга — у Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі; быў яе рэктарам да 1842. Садзейнічаў пашырэнню рускай мовы сярод каталіцкага насельніцтва, прымаў удзел у складанні першага каталіцкага катэхізіса на рускай мове. Клопатамі Ф. ў Пецярбургу былі заснаваны мітрапаліцкая царква і епархіяльная семінарыя, якой ён завяшчаў усю сваю багатую бібліятэку.

## **ФРЫЧЫНСКІ** Якуб Побуг

Рэжысёр і акцёр 18 ст. Харунжы, камендант нясвіжскага кадэцкага корпуса кн. М.К.*Радзівіла* Рыбанькі. Акцёр і рэжысёр тэатра Ф.У.*Радзівіл*, абавязковы ўдзельнік у 1746—53 спектакляў у Нясвіжы і Альбе. У камедыі Ф.У.Радзівіл «Дасціпнае каханне» выканаў ролю Дзіяны. Навучаў кадэтаў сцэнічнаму мастацтву, рыхтаваў іх да выступлення ў драматычных і балетных спектаклях тэатра Ф.У.Радзівіл. Удзельнічаў у арганізацыі друкарні 1750 у Нясвіжы. У 1754 у Жоўкве (Несцераў, Украіна) выдаў «Камедыі і трагедыі» Ф.У.Радзівіл.

*Літ.*: Teatr Urszuli Radziwiłłowej. Warszawa, 1961. S. 193—196.

## **ФУРСАЎ** Мацвей Васілевіч [? — 25.5(8.6).1901]

Археолаг, краязнавец, педагог. Член-карэспандэнт Маскоўскага археалагічнага таварыства (1893). Сапраўдны стацкі саветнік. Працаваў настаўнікам гісторыі, дырэктарам Магілёўскай класічнай гімназіі, рэдактарам неафіцыйнай часткі «Могилёвских губернских ведомостей». У перыяд падрыхтоўкі да 9-га археалагічнага з'езда (Вільня, 1893) арганізоўваў экспедыцыі ў басейне Дняпра і вёў археалагічныя раскопкі; даследаваў рэшткі мамантаў у Аршанскіх вапнавых капальнях (1892). Разам з С.Ю.Чалоўскім склаў карту археалагічных помнікаў Магілёўскай губ. На 9-м археалагічным з'ездзе выступіў з рэфератам і прадставіў фатаграфіі старажытных цэркваў, гістарычных прадметаў, валуноў з геральдычнымі знакамі з лесу каля мястэчка Пятровічы Клімавіцкага павета, факсіміле старажытных рукапісаў і інш. Апісанні гэтых знаходак змешчаны ў «Памятнай кнізе Магілёўскай губерні». Адзін з аўтараў кнігі «Спроба апісання Магілёўскай губерні» (кн. 1—3, Магілёў, 1882—84), у якой ахарактарызаваны асноўныя заняткі, матэрыяльная і духоўная культура насельніцтва Магілёўшчыны, апісаны помнікі археалогіі, архітэктуры, адметныя мясціны губерні і інш.

*Тв.*: Исторический очерк Могилёвской губернии. Могилёв, 1882; Дневник курганных раскопок, произведённых по поручению г. начальника Могилёвской губернии А.С.Дембовецкого в течение лета 1892 г. в уездах Рогачёвском, Быховском, Климовичском, Чериковском и Мстиславльском. Могилёв, 1892 (разам з С.Ю.Чалоўскім); Поселения Смоленских кривичей в пределах Могилёвской губернии // Могилёвские губернские ведомости. 1895. №70; Описание Могилёвского музея. Могилёв. 1898.

*Г.А.Кахаоўскі.*

## **ФЯЛІНСКАЯ** (Felińska) Ева (26.12.1793 — 20.12.1859)

Пісьменніца, мемуарыстка, удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі. Нарадзілася ў вёсцы Узнога на Случчыне (зараз Клецкі раён). Рана засталася без бацькоў і выхоўвалася пад апекай народнай маці. Хатнюю адукацыю атрымала ў сям'і багатых сваякоў, з 11-гадовага ўзросту

навучалася музыцы, добра ведала французскую мову. У сталым узросце прымкнула да тайнай арганізацыі Ш.Канарскага «Садружнасць польскага народа» і стварыла яе філіял «Жаночае таварыства». За ўдзел у вызваленчым руху саслана царскімі ўладамі ў г. Бярозаў (зараз Цюменская вобл.), дзе знаходзілася на працягу 1839—41, а потым у Саратаў (1841—44). Падзеі гэтых часоў і свае ўражанні Ф. апісала ў «Дзённіку...», які быў апублікаваны ў віленскім часопісе «Athenaeum» («Атэнэум», 1846) і, паводле сведчання тагачаснай літаратурнай крытыкі, стаў упрыгожаннем гэтага часопіса. У «Дзённіку...» апісаны паўстанне хантаў і ненцаў супраць царызму, прырода і побыт паўночных жыхароў, выкарыстаны іх фальклор. У аповесцях Ф. «Пляменніца і цётка» і «Пан дэпутат» (1834), «Герсылія» (1849), ва «Успамінах аб жыцці» (1856, 1859—60) і інш. творах яна каларытна апісала жыццё розных слаёў беларускага грамадства, асабліва шляхты. Яе «Успаміны...» па праву з'яўляюцца найбольш каштоўным творам па гісторыі нораваў на Беларусі, Валыні і ў Літве канца 18 — пачатку 19 ст.

*Тв.*: Wspomnienia z podróży do Syberyi, pobytu w Berezowie i w Saratowie. T. 1—3. Wilno, 1852—53.

*Літ.*: Грицкевич В. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986. С. 185—203, 298.

# Х

## ХАМІНСКІ Францішак Ксаверы (? — 9.6.1809)

Пісьменнік, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся на Слонімшчыне (?) у сям'і шляхціца. Займаў пасады старосты пінскага, ваяводы мсціслаўскага (з 1788), маршалка мінскага (1793—1807). Прыбліжаны гетмана М.К.Агінскага, ездзіў з яго даручэннямі ў якасці дыпламата ў Заходнюю Еўропу. У 1797 арыштаваны па падазрэнні ў антыцарскай змове. Пісаў на польскай мове. Аўтар класіцыстычных вершаў, публіцыстычнага «Адказу» (1792). Перакладаў на польскую мову творы Гарацыя, Ж.Расіна, Ж.Дэліля, П.Карнеля. Лічаць, што большасць паэтычных твораў, якія прыпісваюцца Агінскаму, стварыў менавіта Х. і апублікаваў іх пад псеўданімам «Слонімскі грамадзянін» у зборніках «Гістарычныя і маральныя аповесці» (1782) і «Байкі і небайкі» (1788).

## ХАРЛАМПОВІЧ Канстанцін Васілевіч [18(30).7.1870—23.3.1932]

Гісторык, педагог. Нарадзіўся ў в. Рагачы Бярозаўскага раёна. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1894). З 1899 прыват-дацэнт, у 1909—21 прафесар Казанскага універсітэта. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1916), акадэмік АН Украінскай ССР (1919). Даследаваў гісторыю праваслаўнай царквы ў Расіі, на Беларусі і Украіне, асвету на Беларусі і ў Расіі 16—17 ст., становішча беларускіх і ўкраінскіх меншасцей у Польшчы, узаемасувязі ўсходнеславянскіх літаратур. Сярод твораў Х. «Да гісторыі заходнярускай асветы: Віленская брацкая школа ў першае паўстагоддзе свайго існавання» (Вільня, 1897); «Заходнярускія праваслаўныя школы XVI і пачатку XVII ст...» (Казань, 1898); «Заходнярускія царкоўныя брацтвы і іх асветніцкая дзейнасць у канцы XVI і пачатку XVII ст.» (Спб., 1899). Яго працы напісаны з ідэалістычных пазіцый, але змяшчаюць каштоўны фактычны матэрыял.

## ХОДЗЬКА (Барэйка) Аляксандр (30.8.1804—27.12.1891)

Паэт, фалькларыст, славіст, усходазнавец. Нарадзіўся ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Сын Я.*Ходзькі.* У 1825 скончыў са ступенню кандыдата філасофіі Віленскі універсітэт, у 1829 — вучэбнае аддзяленне жывых моў пры Азіяцкім дэпартаменце міністэрства замежных спраў у Пецярбургу. У 1823—24 за ўдзел у таварыстве філарэтаў быў арыштаваны. У час вучобы ў Пецярбургу зблізіўся з А.*Міцкевічам*, А.Пушкіным, В.Жукоўскім. У 1829 выдаў зборнік «Паэзія», некаторыя песні і балады якога заснаваны на беларускім фальклоры. З 1842 у Пары-

жы, у 1857—83 прафесар славянскіх літаратур універсітэта Калеж дэ Франс. Папулярызаваў славянскія мовы, фальклор, перакладаў са славянскіх моў на ўсходнія мовы. Запісваў успаміны Міцкевіча, памагаў яму выдаць іх. Перапісваўся з А.*Кіркорам*, К. і Я.*Тышкевічамі*. Першы з еўрапейцаў апісаў і прааналізаваў фальклор туркменаў, эпас Кёр-Аглы, вершы туркменскіх паэтаў Махтумкулі, Кемінэ і інш.

*Тв.*: Дерар, восточная повесть в стихах. Спб., 1839; Specimens of the popular poetry of Persia. London, 1842; Grammaire de la langue persane. Paris, 1883.

*Літ.*: Грицкевич В.П. Вклад воспитанника Вильнюсского университета Александра Ходзько в развитие востоковедения // Научные труды высших учебных заведений Литовской ССР. История. Вильнюс, 1980. Т. 20, вып. 1.

## **ХОДЗЬКА** Дамінік Цэзары (1800—63)

Літаратар, фальклярыст, этнограф. Нарадзіўся ў маёнтку Яварова Віленскага павета. У час вучобы ў Віленскім універсітэце быў членам таварыства філарэтаў, зблізіўся з Я.*Чачотам*, Т.*Занам*. Настаўнічаў у Вільні, на Случчыне. Быў членам Віленскай археалагічнай камісіі. У 1845 апублікаваў успаміны і нататкі пра жыццё і дзейнасць К.Брадзінскага, Л.*Бароўскага*, Ю.*Крашэўскага*, Я.*Ходзьку* і інш., у 1862 — урывак «Збору некаторых успамінаў... да гісторыі Віленскага універсітэта. I. Віленская акадэмія ў часы езуітаў». Аўтар працы пра рэкі Беларусі і Літвы (рукапіс перадаў Віленскай археалагічнай камісіі). Супрацоўнічаў з А.*Кіркорам*, Я. і К. *Тышкевічамі*. Упершыню распрацаваў біяграфію З.*Даленгі-Хадакоўскага*, якую надрукаваў у польскай энцыклапедыі Я.Глюксберга, потым у часопісах «Athenaeum» («Атэнэум», 1842, т. 1, 4) і «Teka Wileńska» («Віленскі зборнік, 1857, №2).

## **ХОДЗЬКА** Ігнат (29.9.1794—1.8.1861)

Пісьменнік, мемуарыст. Нарадзіўся ў в. Заблошчына Віленскага раёна. У 1810—14 вучыўся ў Віленскім універсітэце, які скончыў са ступенню кан-



*Маёнтак Дзевятня, дзе жыў і памёр І.Ходзька. З малюнка 19 ст.*

дыдата філасофіі. У 1814 член таварыства шубраўцаў і масонскай ложы ў Мінску. З 1855 член Віленскай археалагічнай камісіі. Большую частку жыцця правёў у маёнтку Дзевятня (Смаргонскі раён). Пісаў на польскай мове. У ранніх апавяданнях («Прыгонны», 1829, і інш.) выявіў крытычныя адносіны да існуючых парадкаў, пазней перайшоў на кансерватыўныя пазіцыі. Пісаў вершы («Дамок майго дзядулі», «Баруны» і інш.). Аўтар «Літоўскіх малюнкаў» (1840—63), «Мемуараў скарбніка» (1844), «Літоўскіх паданняў» (1852—60), у якіх апісаў беларускія мясціны, жыццё і побыт насельніцтва Беларусі. У сваёй творчасці выкарыстоўваў беларускія паданні, песні, жарты, анекдоты. Напісаў псіхалагічную навелу «Двор на Антокалі» (1850), нарыс пра старажытнасці краю «Новыя дзённікі скарбніка» (1862). Падтрымліваў сувязі з Я.*Тышкевічам*, У.*Сыракомлем*, Ю.*Крашэўскім*, А.*Кіркорам* і інш. Пакінуў запіс у «Альбоме» А.*Вярыгі-Дарэўскага*. У.Сыракомля напісаў пра яго нарыс «Жыццё і творы Ігната Ходзькі» (1862).

## **ХОДЗЬКА** Леанард (6.11.1800—12.3.1871)

Выдавец, гісторык, публіцыст, бібліёграф. Нарадзіўся ў в. Аборак Маладзечанскага раёна. У 1816—17 вучыўся ў Віленскім універсітэце. Член таварыства філарэтаў. Зблізіўся з А.*Міцкевічам*, Я.*Чачотам*, Т.*Занам*. З 1819 сакратар кампазітара М.К.*Агінскага*. У 1822 эмігрыраваў за мяжу, з 1826 жыў у Парыжы. Удзельнічаў у



*Залеская сядзіба. З малюнка Л.Ходзькі. 1822.*

палітычным жыцці эміграцыі. Пісаў на польскай і французскай мовах. Аўтар паэмы «Залессе» (1821), у якой услаўляў прыгажосць наваколля маёнтка М.К.Агінскага Залесся (каля Смаргоні), збіраў яго малюнкі. Выдаў зборнікі твораў Міцкевіча (1828), І.Красінскага (1830), мемуары Агінскага (т. 1—4, 1827—28), працы па гісторыі, геаграфіі, статыстыцы, у т.л. «Польшча» (1836—41), у якой шмат беларускіх матэрыялаў. Аўтар біяграфіі А.Т.*Касцюшкі* (1837), «Папулярнай гісторыі Польшчы» (1863). Сабраў 125 тамоў дакументаў па гісторыі Польшчы, Беларусі, Украіны і інш.

## ХОДЗЬКА (Барэйка) Ян (псеўд. Ян са Свіслачы; 24.6.1777 — 10.11.1851)

Пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Бацька А.*Ходзькі*. З 1793 быў цывільна-вайсковым камісарам Ашмянскага павета, з 1795 асэсарам суда ў Паставах, з 1798 падсудкам, з 1808 падкаморым Вілейскага павета, з 1811 старшынёю Галоўнага цывільнага суда ў Мінску, інспектарам школ у Віленскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях. Адзін з арганізатараў масонскіх ложаў у Мінску і Вільні. Прытрымліваўся памяркоўна-асветніцкіх поглядаў. Прыхільнік асветы для народа. За сувязь з таварыствам філаматаў у 1826 зняволены. За ўдзел у паўстанні 1830—31 сасланы на Урал (1830—34). Пісаў на польскай мове. Друкаваўся ў часопісе «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»), альманаху «Rubon» («Рубон») і інш. Класіцыст, потым псеўдакласіцыст-маралізатар. Аўтар камедыі «Вызваленая Літва, або Пераход Нёмана» (1812), трагедыі «Кракус» (нап. 1816), аповесцей «Пан Ян са Свіслачы» (1821), «Брат і сястра» (1845), трактата «Аб эксдывізіях, або Аб судовым падзеле маёнтка даўжніка на карысць крэдытораў» (1816), успамінаў і артыкулаў па гісторыі Міншчыны, адметных жывасцю апавядання і значнай колькасцю беларусізмаў. П'есы Х. ставіліся ў Мінску на аматарскай сцэне ў 1812.

*Тв.*: Pisma rozmaite autora «Pana Jana ze Świsłoczy». T. 1—12. Wilno, 1837—42.

*Літ.*: Chodźko D. Jan Chodźko: Obrazek życiorysowy // Teka Wileńska. 1858. №5; Turska H. Język Jana Chodźki. Wilno, 1930.

## **ХРАПАВІЦКІ** Ігнат Яўстахавіч (31.7.1817 — 25.12.1893)

Паэт, фалькларыст, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Каханавічы Верхнядзвінскага раёна. Пісаў на польскай мове. У 1840-я гады актыўна супрацоўнічаў у альманаху «Rubon» («Рубон»), першы нумар якога пачынаўся з яго праграмнага верша «Дзвіна». У гэтым вершы гучаў заклік да абуджэння ад спрадвечнага сну, каб крочыць да новага лепшага жыцця. У тым жа альманаху (1845, т. 5) Х. надрукаваў працу «Погляд на паэзію беларускага народа» (з дадаткам назіранняў над асаблівасцямі беларускай мовы на матэрыяле гаворкі Віцебшчыны), якая была першай гісторыка-параўнальнай характарыстыкай беларускай фальклорнай спадчыны, а таксама нізку рамантычных вершаў, пераклады на польскую мову беларускіх народных песень (1843, т. 3), некаторыя гістарычныя дакументы. Рыхтаваў да друку «Поўны беларускі песнязбор», распрацаваў для яго класіфікацыю, назапашваў тэксты. У 1850 разам са сваімі аднадумцамі С.Убры і Ю.Шчытам распрацаваў праект скасавання прыгоннага права і правёў яго на губернскім дваранскім з'ездзе, пасля чаго доўгі час не прымаў удзел у грамадскім жыцці. З 1880 прадвадзіцель дваран (маршалак) Віцебскай губерні.

*Літ.*: Дорошевич Э., Конон В. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972; Салавей Л.М. Ігнат Храпавіцкі — беларускі фалькларыст // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. №4.

## **ХРАПТОВІЧ** Адам (19.3.1768—25.12.1844)

Асветнік, мецэнат мастацтваў і навукі; ганаровы член Віленскага універсітэта. Нарадзіўся ў сям'і І.Л.*Храптовіча.* Быў візітатарам школ Віленскай акругі, старшынёй Таварыства дабрачыннасці, намеснікам старшыні Друкарскага таварыства ў Вільні. Удзельнік паўстання А.Т.*Касцюшкі* 1794. У сваіх уладаннях адмяніў цялеснае пакаранне для прыгонных сялян, зменшыў падаткі з іх. Пры яго маёнтку ў Шчорсах існавала буйная пачатковая школа ўзаемнага (т.зв. ланкастэрская) навучання, у якой па стане на 1822 займалася 350 вучняў з асяроддзя прыгонных сялян. У гэтай школе дзеці сялян разам з элементарнай адукацыяй набывалі некаторыя навыкі прадукцыйнай, рамеснай працы. Х. значна памножыў заснаваную ў Шчорсах бібліятэку свайго бацькі, давёўшы яе кнігазбор да 20 тыс. тамоў, сярод якіх былі творы антычных аўтараў, французскай і італьянскай класічнай літаратуры, працы па гісторыі Польшчы, Беларусі, Літвы, рукапісы. У бібліятэцы працавалі даследчыкі І.*Лялевель*, Я. і А.*Снядэцкія*, У.*Сыракомля*, Ф.Малеўскі і інш. Наведаў яе і А.*Міцкевіч* (сцвярджаюць, што менавіта тут ён ствараў сваю паэму «Гражына»). Бібліятэкарамі ў Шчорсах у розныя часы працавалі Ф.Баброўскі, А.Ю.Глінскі, Я.*Чачот*. Будучы апекуном Галоўнай Віленскай школы, Х. ахвяраваў для яе бібліятэкі калекцыю гравюр (каля 1100). Пасля смерці Х. (памёр ён і пахаваны ў в. Вішнеўка на Ашмяншчыне) бібліятэкай валодалі спадчыннікі. У 1913 бібліятэка з Шчорсаў была перададзена на часовае захоўванне Кіеўскаму універсітэту. Асноўная частка бібліятэкі так і засталася ў Кіеве і цяпер знаходзіцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Украіны.

# Ц



## **ЦВЯТКОЎСКІ** Самсон

Педагог і асветнік 2-й паловы 18 ст. Месца нараджэння невядома. Працаваў дырэктарам Галоўнага народнага вучылішча ў Магілёве. У прамове на адкрыцці вучылішча 28.3.1789 Ц. абгрунтаваў неабходнасць мудрага кіраўніцтва, шырокай асветы народа, удасканалення грамадства і самога чалавека, выклаў праект стварэння адукаванага грамадства. Ён адзначаў, што ва ўсіх старажытных і новых народаў асвета лічылася асноўнай апорай агульнага дабрабыту. Чалавек, якім кіруе святло навукі, ніколі не зробіць нічога такога, што пярэчыла б яго асабістаму сумленню ці несла б шкоду Айчыне. Уся дзейнасць Ц. была прысвечана пашы-

рэнню перадавой навукі і культуры. Бібліятэку вучылішча ён укамплектаваў творамі рускіх і заходніх асветнікаў.

*Літ.*: Асвета і педагагічная думка ў Беларусі са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985. С. 214.

## ЦІХІНСКІ Язэп [? — 1921(?)]

Лексікограф. Жыў і працаваў у маёнтку Прусін на Магілёўшчыне. Амаль 40 гадоў свайго жыцця прысвяціў распрацоўцы і складанню 16-томнага «Беларуска-польска-рускага слоўніка», які так і застаўся нявыдадзеным. Частка яго рукапісу (7108 старонак) зберагаецца ў бібліятэцы АН Літвы (частка на літары В, Н, О, Р страчана ў гады 2-й сусветнай вайны). Рукапіс слоўніка памерам у 636 аўтарскіх аркушаў уключае каля 200 тыс. агульнаўжывальных слоў, уласных асабовых імён, назваў дзяржаў, гарадоў і мясцовасцей. У слоўніку змешчаны таксама пашыраныя запазычанні з іншых моў. Пры перадачы слоў вытрыманы найважнейшыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы (аканне, яканне, дзеканне, цеканне), адлюстравана афіксальнае словаўтварэнне. Слоўнік Ц. адыграў важную ролю ў стварэнні перакладных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў, складальнікамі якіх былі М.Багікаў і С.Некрашэвіч. Працу Ц. высока ацаніў М.*Федароўскі*. У 1909—12 Ц. друкаваў допісы ў газеце «Наша ніва» пад псеўданімам Язэп Бурачок.

## ЦЫТОВІЧ Іосіф Парфір'евіч [1811(?) — 26.7(7.8).1870]

Публіцыст і педагог. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю. З 1835 працаваў настаўнікам моў у Віцебскім і Полацкім духоўных вучылішчах, з 1844 — у дваранскім вучылішчы і гімназіі, наглядчык павятовага вучылішча ў Панявежы (Літва). У 1843 апублікаваў у пецярбургскім часопісе «Маяк» артыкул «Словы два пра мову і пісьменнасць Белай Русі», у якім ставіў пытанне пра неабходнасць развіцця беларускай літаратуры і ў якасці прыкладу «гнуткасці і паслухмянасці» беларускай мовы прывёў верш «Чалом, чалом, ацец, татулька!..». У нарысе «Адзін дзень у Беларусі» (1845) даводзіў старажытнасць беларускай мовы, яе каштоўнасць для навукі, заклікаў да вывучэння гісторыі і фальклору Беларусі. Аўтар працы «Некалькі слоў адносна развіцця рускай мовы ў Жмудзі, або Самагітыі» (1851, рукапіс зберагаецца ў архіве Рускага геаграфічнага таварыства, Санкт-Пецярбург). У пытаннях грамадскага жыцця прытрымліваўся даволі кансерватыўных поглядаў.

*Літ.*: Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1977. С. 8—12.

## ЦЭРАСКІ Вітольд Карлавіч (9.5.1849—29.5.1925)

Астраном, педагог. Нарадзіўся ў Слуцку ў сям'і настаўніка геаграфіі. Бацька яго памёр, пакінуўшы сям'ю ў складаным матэрыяльным становішчы. Дзякуючы намаганням маці Ц. пасля сканчэння Слуцкай гімназіі, дзе ён паказаў выдатныя вынікі і схільнасць да дакладных і прыродазнаўчых навук, асабліва да астраноміі, паступіў на вучобу ў Маскоўскі універсітэт. Ужо з 2-га семестра ён працаваў ва універсітэцкай абсерваторыі назіральнікам. Скончыў універсітэт у 1871 і быў залічаны на пасаду пазаштатнага асістэнта, а з 1878 — астранома абсерваторыі. У 1882 Ц. абараніў дысертацыю на ступень магістра астраноміі і пачаў выкладаць гэты прадмет у Маскоўскім універсітэце. У 1883 практыкаваўся ў абсерваторыях Германіі, слухаў лекцыі нямецкага прыродазнаўца Гельмгольца і іншых вучоных. У 1887 абараніў у Пецярбургскім універсітэце ступень доктара астраноміі, а ў 1889 стаў прафесарам. Праз год Ц. прызначаны дырэктарам астранамічнай абсерваторыі Маскоўскага універсітэта і працаваў на гэтай пасадзе да 1916. Член-карэспандэнт Расійскай АН (1914) і член многіх астранамічных таварыстваў Расіі. З-за пагаршэння здароўя Ц. пакінуў работу ў абсерваторыі і пераехаў у Крым, дзе яго і застала Кастрычніцкая рэвалюцыя. Не маючы падтрымкі з боку ўлад, Ц. апынуўся ў вялікай нястачы і існаваў выключна за кошт невялікіх дапамог ад сяброў з-за мяжы. У 1922 яму назначылі дзяржаўную пенсію. У 1923 ён пераехаў да сына ў Падмаскоўе. У маі 1924 навуковая грамадскасць Расіі шырока адзначыла 75-годдзе Ц., які да апошніх сваіх дзён не спыняў навуковай дзейнасці.

Ц. быў адным з пачынальнікаў інструментальнай фотаметрыі і заснавальнікам маскоўскай школы фотаметрыстаў, ён распрацаваў методыку фотаметрычных назіранняў і дамогся высокай для свайго часу дакладнасці вызначэння бляску зорак. На працягу 1875—1903 ён дакладна вымераў бляск больш як 500 зорак, адным з першых вызначыў у 1903 зорную велічыню Сонца. У 1885 ён адкрыў існаванне т.зв. серабрыстых воблакаў, якія свецяцца, і сумесна з А.А.Белапольскім устанавіў, што яны знаходзяцца на вялікай вышыні над Зямлёй (каля 80 км). Па яго ініцыятыве з 1895 распачата сістэматычнае фатаграфаванне неба з мэтай адшукання і даследавання пераменных зорак на атрыманых фотаздымках. У 1895 на аснове доследаў з плаўленнем металаў у фокусе ўвагнутага люстэрка Ц. ўпершыню ўстанавіў ніжнюю мяжу тэмпературы Сонца 3500 °С. Цікавіўся гісторыяй астраноміі, асабліва 16 і 17 ст., спецыяльна наведаў мясціны, дзе жылі і працавалі М.Капернік (апублікаваў пра яго артыкул) і Ц.Браге. Лекцыі Ц. як вучонага і педагога вызначаліся высокім прафесіяналізмам і даходлівасцю. Ён пабацькоўску ставіўся да сваіх вучняў, быў спагадлівым да людзей.

*Тв.*: Избранные работы по астрономии. М., 1953.

## ЦЯПЛІНСКІ Марцін [псеўданім Ossoryja; 1810(?)—3.8.1847]

Паэт, фалькларыст. Нарадзіўся ў фальварку Крупава (паводле іншых звестак Цяшэйкава; цяпер Зэльвенскі раён). За ўдзел у паўстанні 1830—31 быў у ссылцы на Каўказе (1831—33). Друкавацца пачаў з 1837 на польскай мове. Свае рамантычныя вершаваныя творы і пераклады змяшчаў у віленскім альманаху «Biruta» («Бірута»), часопісах «Athenaeum» («Атэнэум»), «Wizerunki i roztrząsania naukowe» («Навуковыя агляды і развагі»). Збіраў і выкарыстоўваў у сваёй творчасці беларускія паданні, песні, прымаўкі, прыказкі. Падрыхтаваныя да друку 3 тамы «Паэзіі» засталіся ў рукапісе (не выяўлены). Меркаваў арганізаваць выданне альманаха «Наднёманскі снапок».



## ЧАЛОЎСКІ Сымон Юльянавіч [1853(?) — пасля 1915]

Археолаг, краязнавец. Нарадзіўся на Магілёўшчыне. У 1888 скончыў Маскоўскі універсітэт. Працаваў у Клімавічах міравым суддзёй па сялянскіх справах, член павятовага з'езда дваранства, кіраваў прытулкам сірот, быў чыноўнікам па асобых даручэннях Магілёўскага губернатара А.С.*Дамбавецкага*. У 1890-я гады вёў археалагічныя даследаванні ў Падняпроўі. Разам з М.В.*Фурсавым* абследаваў археалагічныя помнікі ў Быхаўскім, Клімавіцкім, Мсціслаўскім, Рагачоўскім, Чэрыкаўскім паветах і склаў карту археалагічных помнікаў Магілёўскай губ. Сярод адкрытых ім помнікаў гарадзішча і 20 курганоў у Хоцімску. У Мсціславе знайшоў старажытную гравюру абразоў Тупічэўскай Маці Божай (1711), гравіраваную дошку з выявай сям'і святых і інш. матэрыялы. Удзельнік 9-га археалагічнага з'езда ў Вільні (1893).

*Тв.*: Дневник курганных раскопок, произведённых по поручению г. начальника Могилёвской губернии А.С.Дембовецкого в течение лета 1892 г. в уездах Рогачёвском, Быховском, Климовичском, Чериковском и Мстиславльском. Могилев, 1892 (разам з М.В.Фурсавым); Дневник курганных раскопок, произведённых по поручению г. начальника Могилевской губернии А.С.Дембовецкого в течение июня 1893 года в 3-х уездах Могилевской губернии. Могилев, 1893.

*Г.А.Каханоўскі.*

## ЧАПСКІ (Гутэн-Чапскі) Эмерык [5(17).11.1828—23.12.1896(4.1.1897)]

Дзяржаўны дзеяч, калекцыянер, нумізмат. Нарадзіўся ў в. Станькава Стаўбцоўскага пав. (цяпер Дзяржынскі раён). Скончыў Віленскую гімназію, Маскоўскі універсітэт. Удзельнік Крымскай вайны 1853—56. З 1863 віцэ-губернатар Ноўгарада, з 1865 віцэ-губернатар Пецярбургскай губ., з 1875 дырэктар Лясного дэпартамента Міністэрства дзяржаўнай маёмасці. У

*Прылуцкі палацава-паркавы комплекс. З малюнка Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.*

1879—94 жыў у радавым маёнтку Станькава, дзе заснаваў музей, сабраў калекцыі — нумізматычную, археалагічную, іконаграфічную, мастацкіх карцін, малюнкаў, гравюр, зброі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У яго бібліятэцы (каля 20 тыс. тамоў) былі рэдкія кнігі (Брэсцкая біблія 1563, кнігі з аўтографамі А.*Міцкевіча*, Я.*Тышкевіча*, А.*Ельскага*), калекцыі рукапісаў



*Палац у Прылуках.*



*Станькаўскі сядзібна-паркавы ансамбль. Будынак бібліятэкі Чапскіх.*

(аўтографы С.*Манюшкі*, Ю.*Нямцэвіча*, А.*Адынца*). У 1894 частка калекцыі перавезена ў Кракаў, дзе склала аснову музея імя Чапскага. Аўтар даследаванняў па нумізматыцы «Каталог калекцый польскіх медалёў і манет» (т. 1—5, 1871—1916; 2-е выд., 1957), «Удзельныя, велікакняжацкія і царскія грошы Старажытнай Русі» (1875). А.Ельскі прысвяціў Ч. брашуру-некралог (1896).

*Літ.*: Мальдзіс А.І. Выдадзена нашымі сябрамі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1980. №4.

## ЧАРНОЎСКАЯ Марыя

Беларуская фалькларыстка і этногаф пачатку 19 ст. Жыла ў Вільні. У в. Губеншчына (цяпер Крычаўскі р-н Магілёўскай вобл.) запісвала беларускія песні і абрады. Аўтар артыкула «Элементы славянскай міфалогіі, што захаваліся ў звычаях вясковага люду на Белай Русі» ў часопісе «Dzennik Wileński» («Віленскі дзённік», 1817, т. 6); у перакладзе на рускую мову артыкул друкаваўся ў «Вестнике Европы» (1818, ч. 102) і «Северном архиве» (1822, ч. 4). Упершыню дала ў арыгінальным вымаўленні беларускія народныя песні з нотамі і навуковым каментарыем, апісала Купалле, Радаўніцу і іншыя святы, вобразы народнай міфалогіі, стравы, адзенне, сялянскі побыт беларусаў. Звярнула ўвагу на самабытнасць духоўнай культуры беларускага народа, пры гэтым падкрэсліла, што яе галоўным носьбітам з'яўляецца сялянства — захавальнік старадаўніх традыцый. У цэнтр мясцова-краязнаўчай праблематыкі яна ставіла фальклорна-этнаграфічны аспект.

*Г.А.Каханоўскі.*

## ЧАРНОЦКІ Адам, гл. *Даленга-Хадакоўскі* З.Я.

## ЧАРТАРЫЙСКІ (Чартарыскі) Адам Юрый (14.1.1770 — 15.7.1861)



Палітычны дзеяч Польшчы і Расіі, асветнік. Паходзіў з магнацкага (княжацкага) роду Вялікага княства Літоўскага, прадстаўнікі якога ў 15—18 ст. займалі вышэйшыя дзяржаўныя і адміністрацыйныя пасады ў княстве. Нарадзіўся ў Варшаве ў сям'і Адама Казіміра Ч., кандыдата на трон Рэчы

Паспалітай у 1763—64, стрыечнага брата караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Імкнучыся даць сваім сынам Адаму і Канстанціну добрую адукацыю, бацькі запрашалі ім лепшых еўрапейскіх педагогаў, выпраўлялі ў падарожжы па Еўропе. У Англіі Ч. старанна вывучыў дзяржаўнае заканадаўства. Удзел у ваенных дзеяннях у 1792 супраць Расіі прымусіў Ч. эмігрыраваць зноў у Англію. Даведаўшыся пра паўстанне Т.Касцюшкі, ён наважыўся вярнуцца на радзіму, але ў Бруселі быў арыштаваны аўстрыйскімі ўладамі і таму не змог далучыцца да паўстання. Аднак пасля паўстання маёнткі Чартарыйскіх былі канфіскаваны. Імператрыца Кацярына II абяцала вярнуць іх нашчадкам, калі маладыя Чартарыйскія прыедуць да яе як заложнікі. У 1795 абодва браты прыехалі ў Пецярбург. Адам Ч. зблізіўся з будучым імператарам вялікім князем Аляксандрам Паўлавічам, паміж імі склаліся добрыя сяброўскія адносіны. Гэта выклікала падазрэнне імператара Паўла I і Ч. быў выдалены з Пецярбурга: імператар прызначыў яго паслом у Сардзінію. Пасля смерці Паўла I Аляксандр I вярнуў Ч. ў Пецярбург на працу ў так званым «тайным камітэце», з якім імператар раіўся аб задуманых ім пераўтварэннях. У 1803 Аляксандр I прызначыў Ч. папячыцелем Віленскай навучальнай акругі і памочнікам дзяржаўнага канцлера С.В.Варанцова. Акруга падпарадкоўвала навучальныя ўстановы Валынскай, Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Кіеўскай, Магілёўскай, Мінскай і Падольскай губерняў і мела пэўную самастойнасць. На яе не пашыраўся агульнарасійскі школьны статут 1804. Навучальным і адміністрацыйным цэнтрам акругі быў Віленскі універсітэт, дзейнасць якога ў 1-й чвэрці 19 ст. ўплывала на развіццё народнай адукацыі на Беларусі. Ч. займаўся справамі асветы ў акрузе да 1823 і зрабіў шмат карыснага для краю.

Пасля хваробы і адстаўкі Варанцова ў 1804 Ч. стаў міністрам замежных спраў Расіі, з 1805 — членам Дзяржаўнага савета і сенатарам Расіі. Заключэнне Расіяй саюзу з Аўстрыяй і Англіяй і абвяшчэнне вайны Напалеону было справай Ч., які распрацаваў смелы план перабудовы Еўропы. Паводле гэтага плана павінна была аднавіцца і польска-літоўская дзяржава ў дынастычнай уніі з Расіяй у межах 1772. Накіроўваючыся на тэатр ваенных дзеянняў, Аляксандр I заехаў у рэзідэнцыю Чартарыйскіх у Пулавах. Гэта давала вялікую надзею польскаму грамадству на аднаўленне Польшчы. Але пасля паражэння рускай арміі пры Аўстэрліцы імператар паставіўся абыякава да Ч. і яго планаў. У пачатку 1807 Ч. пакінуў пасаду міністра, але застаўся ў Пецярбургу і меў пэўны ўплыў на імператара, які прыслухоўваўся да яго парад. У 1810 Ч. канчаткова пакінуў Пецярбург і прысвяціў сябе кіраўніцтву Віленскай навучальнай акругай. Добрыя адносіны з Аляксандрам I, аднак, не спыніліся, паміж імі вялася перапіска, а пасля перамогі над Напалеонам Ч. зноў наблізіўся да імператара, дапамагаў яму ў час Венскага кангрэса 1814—15. Аднак імператар не выказваў яму ранейшай прыхільнасці, а следства М.М.Навасільцава па справах акругі, у якой назіралася адкрытая паланізацыя беларускай моладзі, зусім спыніла давер да Ч. Ён склаў з сябе паўнамоцтвы папячыцеля акругі, пераехаў у Пулавы і там займаўся навукай і літаратурай. Паўстанне 1830—31 зноў паклікала яго на палітычную арэну: Ч. заняў пасаду прэзідэнта сената і кіраўніка Часовага ўрада Рэчы Паспалітай. Са жніўня 1831 і да канца свайго жыцця Ч. ў эміграцыі. Яго дом у Парыжы стаў цэнтрам кансерватыўнай партыі эмігрантаў. Ч. быў пажыццёвым прэзідэнтам літаратурнага і гістарычнага таварыстваў, кіраваў іншымі ўстановамі, арганізаванымі кансерватыўнай партыяй, якая бачыла ў асобе Ч. будучага караля Польшчы.

На працягу ўсяго жыцця Ч. збіраў кнігі і рукапісы, якімі папаўняў радавую бібліятэку ў Пулавах. Яго намаганнямі ў 1810 у Стакгольмскай Каралеўскай бібліятэцы і універсітэце Упсалы набыты зборы кніг і рукапісаў айчыннай тэматыкі. Ён адшукваў кнігі ў кляштарах, архівах, набыў бібліятэку саксонскага пасла ў Пецярбургу, частку бібліятэкі Т.Чацкага і інш. У 1824 бібліятэка ў Пулавах налічвала каля 2 тысяч рукапісаў і каля 40 тысяч кніг. Частка бібліятэкі Ч. ў 1831 вывезена ў Пецярбург. У эміграцыі Ч. стаў

адным з заснавальнікаў у 1838 бібліятэкі эмігрантаў у Парыжы. Ён аўтар твораў на польскай і французскай мовах «Мемуары князя Адама Чартарыйскага» (2-е выд., 1877), патрыятычнай элегіі «Бард польскі» (1840), «Жыццё Юльяна Урсіна Нямцэвіча» (1860) і інш.

## **ЧАЧОТ** Атон Антонавіч (1842—1924)

Урач-псіхіятр, педагог, адзін з заснавальнікаў расійскай псіхіятрыі. Нарадзіўся ў дваранскай сям'і ў Магілёўскай губ. Скончыў Віцебскую гімназію. Медыцыну вывучаў у Маскоўскім універсітэце і Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1866 паступіў урачом у псіхіятрычную бальніцу св. Міколы Цудатворца, у 1881—1901 дырэктар гэтай бальніцы, якая была яшчэ і базай для падрыхтоўкі ўрачоў-псіхіятраў, лекараў і навуковых супрацоўнікаў. У 1876 Ч. абараніў дысертацыю на ступень доктара медыцыны па тэме гальванізацыі сімпатычнага нерва і тэрапеўтычнага яго значэння, у 1882 атрымаў званне прыват-дацэнта медыцынскай акадэміі па нервовых і псіхічных хваробах. Некалькі гадоў быў выкладчыкам нервовых хвароб на жаночых медыцынскіх курсах. Апошнія гады жыцця актыўна ўдзельнічаў у даследаванні і распрацоўцы фактараў каўказскіх курортаў. Як аматар прыроды і падарожжаў з'яўляўся членам Расійскага геаграфічнага таварыства. Друкаваныя яго працы прысвечаны пераважна судова-медыцынскім праблемам і практычнай псіхіятрыі. Рукапіс ненадрукаванай працы Ч. пра жыццё і дзейнасць «бацькі расійскай псіхіятрыі» Яна Балінскага, вучнем якога ён сябе лічыў, загінуў у час Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917.

Ч. належаў да тых вучоных і практыкаў, якія першымі ў Расіі ўзнялі псіхіятрыю на высокі ўзровень. У ліку выхаванцаў Ч. былі вядомыя пазней прафесары М.М.Папоў з Казані і І.А.Сікорскі з Кіева.

## **ЧАЧОТ** Ян Антоні Тадэвушавіч (7.7.1796—23.8.1847)



Паэт, фалькларыст і драматург. Нарадзіўся ў в. Малюшычы Навагрудскага пав. ў сям'і арандатара Тадэвуша Чачота і Клары Гасіцкай. Маленства прайшло ў маёнтку графа Тызенгаўза, дзе яго бацька быў аканомам. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудскай дамініканскай школе, у старэйшых класах якой зблізіўся і на ўсё жыццё пасябраваў з А.*Міцкевічам*. У 1815 паступіў на аддзяленне маральных і палітычных навук Віленскага універсітэта. Але не маючы сродкаў на плату за навучанне праз год пакінуў вучобу і ўладкаваўся ў Віленскае бюро па ўпарадкаванні архіваў князёў Радзівілаў. Душою і справамі ён заставаўся з універсітэцкімі сябрамі, і калі ў 1817 у асяроддзі віленскіх студэнтаў нараджаецца тайнае таварыства філаматаў, Ч. у 1818 становіцца яго членам. Ледзь не з дзяцінства ён спрабаваў сябе ў паэзіі. У філамацкі перыяд захапіўся стварэннем вершаў на роднай мове, і яго творы карысталіся вялікім поспехам на пасяджэннях таварыства. На паэтычным турніры, які адбыўся 21.12.1818, Ч. прызнаны трэцім паэтам пасля А.Міцкевіча і Т.*Зана*. У 1819 ён напісаў некалькі беларускамоўных імянных вітанняў і драматычных сцэнак, заснаваных на беларускім фальклоры, у т.л. «Да пакіньце ж горла драць», «Едзеш, міленькі Адам». У яго творчасці адчувальны моцны ўплыў асветніцкіх ідэй сентыменталізму. У вершах і баладах ён адстой-

ваў інтарэсы самага бяспраўнага класа тагачаснага беларускага грамадства — сялянства, заклікаў паважаць простага мужыка, паляпшаць яго дабрабыт, крытыкаваў жорсткасць прыгоннікаў, выказваўся за адмену прыгоннага права («Узногі»). Але супярэчлівасць яго класавых поглядаў выяўлялася ў тым, што вырашэнне праблем беларускага селяніна ён бачыў пераважна ў дабраце і іншых маральных вартасцях пана. Паэт заклікаў паноў зацікавіцца характвом народных абрадаў, песень, паданняў, прыглядзецца да іх стваральніка — селяніна і спрыяў паляпшэнню яго долі. Прасякнутыя сапраўднай народнасцю і павагай да мужыка-беларуса, яго песні і балады зрабілі важкі ўплыў на творчасць Міцкевіча. Адначасова з беларускімі вершамі Ч. працягваў пісаць і на польскай мове. У гэты час ён стварыў лібрэта аперэты «Малгажата з Зембаціна», вершаваную гісторыю Літвы і Польшчы, рамантычныя балады «Свіцязь-возера», «Мышанка», «Навагрудскі замак», «Калдычэўскі шчупак». У аснове яго балад былі паданні, якія паэт чуў у дзяцінстве на Навагрудчыне. Гэтымі творамі ён праславіўся як паэт-фальклярыст і ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры. У 1821 таварыства філаматаў пераўтварылася ў патрыятычнае таварыства філарэтаў, яно было больш законспіраванае, але і гэта не выратавала яго членаў ад арыштаў і рэпрэсій, якія пачаліся ў 1823. Пасля выкрыцця царскімі ўладамі віленскіх студэнцкіх згуртаванняў у 1823 Ч. зняволены ў Віленскую турму, потым сасланы на Урал, дзе адбываў турэмнае зняволенне ў крэпасці Кізіл, у 1825 пераведзены ў Уфу, у 1831 — у Цвер. Толькі праз 10 гадоў паэту дазволілі вярнуцца на Беларусь. На радзіме ён працаваў сакратаром кіраўніцтва Бярэзінскім каналам, бібліятэкарам у графа Храптовіча. Са ссылкі Ч. вярнуўся цяжка хворым, але знайшоў у сабе сілы зноў займацца творчай справай. Ён вывучаў фальклор, збіраў і перакладаў беларускія народныя песні. У в. Бортнікі на Навагрудчыне ён запісаў і склаў цэлы зборнік беларускіх народных песень (не захаваўся). На працягу 1837—46 сабраў і выдаў у Вільні 6 фальклорных зборнікаў «Сялянскія песні», куды ўвайшло каля 1000 песень у перакладзе на польскую мову і ў арыгінале, уласна беларускія вершы, а таксама прыказкі і прымаўкі, слоўнік беларускай мовы (200 слоў). Амаль кожны з гэтых зборнікаў адкрываўся прадмовамі, у якіх аўтар з глыбокай сімпатыяй адзначаў асаблівасці фальклору і мовы беларускага народа. Ч. перакладаў на польскую мову творы з англійскай, французскай паэзіі. Ён аўтар кніг «Аповесці для маладых дзяўчат» (Вільня, 1845) і «Некаторыя заўвагі, якія асабліва датычацца стылю трэцяй песні «Анафеляс», з «Вітаўтавых баёў» П.Крашэўскага» (Вільня, 1846).

*Літ.:* Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. *І.М.Масляніцына.*

## ЧЫЖ Уладзімір Фёдаравіч (1855—?)

Медык, педагог. Нарадзіўся ў Смаленскай губ. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Полацкім кадэцкім вучылішчы. Скончыў курс у Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі (1878), працаваў у псіхіятрычнай клініцы, дзе падрыхтаваў і абараніў доктарскую дысертацыю. Потым вучыўся за мяжой. У 1885 атрымаў месца старшага ўрача бальніцы св. Панцеляймона каля Пецярбурга. З 1888 чытаў лекцыі па судовай псіхіятрыі ў Пецярбургскім універсітэце, а ў 1891 прызначаны прафесарам у Юр'еў (Тарту). Апублікаваў шматлікія навуковыя працы па псіхіятрыі і псіхалогіі ў рускіх і замежных спецыяльных часопісах, а таксама асобныя выданні: «Дастаеўскі як псіхапатолаг» (1844), «Лекцыі па судовай псіхапаталогіі» (1890) і інш.

## ЧЫР'ЕЎ Сяргей Іванавіч (1850—?)

Фізіёлаг, педагог. Нарадзіўся ў Віцебску. Вучыўся ў мясцовай класічнай гімназіі і адначасова ў землямерна-таксатарскіх класах, што былі пры гімназіі. Разам з атэстатам гімназіі атрымаў званне каморніка-таксатара. У 1868 паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта, які скончыў у 1871, і пакінуты там для падрыхтоўкі на прафесара. Але кар'ера матэматыка яго не вабіла, і ў 1872 ён паступіў у Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію, дзе ад-

начасова працаваў асістэнтам пры кафедры фізіялогіі. У 1875 Ч. скончыў акадэмію і залічаны на ваенна-медыцынскую службу. У 1876 абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Залежнасць сардэчнага рытму ад ваганняў унутрысасудзістага ціску». У 1876—79 знаходзіўся ў замежнай камандзіроўцы, працаваў у лепшых фізіялагічных лабараторыях і наведваў клінікі нервовых хвароб Германіі, Францыі, Англіі і Аўстрыі. Пасля вяртання з-за мяжы прызначаны клінічным прафесарам пры Мікалаеўскім ваенным шпіталі ў Пецярбургу (1880). У наступным годзе атрымаў званне прыват-дацэнта на кафедры фізіялогіі здаровага чалавека ў Кіеўскім універсітэце. Аўтар прац «Аб каардынацыі руху жывёл» (1880), «Фізіялогія чалавека» (1899) і шэраге артыкулаў у спецыяльных рускіх і замежных часопісах.

## ЧЭРСКІ Іван Дзяменцьевіч [3(15).5.1845 — 25.6(7.7).1892]

Геолаг, палеантолаг і географ. Нарадзіўся ў фальварку Свольна Віцебскай губ., з дваран. У 1857—59 вучыўся ў гімназіі, у 1859—63 у дваранскім інстытуце ў Вільні. За ўдзел у паўстанні 1863—64 здадзены ў салдаты і высланы ў Омск, дзе і пачаў займацца геалагічнымі і палеанталагічнымі даследаваннямі. У 1869 вызвалены ад вайсковай службы, да 1883 — палітычны ссыльны. Праводзіў даследаванні ваколіц Омска, вывучаў будову берагоў Байкала, склаў першую геалагічную карту яго ўзбярэжжа, даследаваў басейн р. Селенга і Ніжняя Тунгуска. У 1885 амніціраваны і па запрашэнні Пецярбургскай АН пераехаў у Пецярбург, па дарозе зрабіў маршрутнае геалагічнае даследаванне паштовага тракту ад Іркуцка да Урала. У 1891—92 даследаваў басейны Калымы і Індыгіркі. У экспедыцыі памёр, пахаваны ў пас. Калымскім каля вусця р. Амалон. Выказаў ідэю эвалюцыйнага развіцця рэльефу, прапанаваў адну з першых тэктоніка-палеагеаграфічных схем унутраных раёнаў Сібіры. Узнагароджаны 3 залатымі медалямі Рускага геаграфічнага таварыства. Яго імем названа сістэма горных хрыбтоў у Якуціі, Магаданскай вобл., хрыбет у Забайкаллі.

*Тв.:* Неопубликованные статьи, письма и дневники // Статьи о И.Д.Черском и А.И.Черском. Иркутск. 1956.

*Літ.:* Алдан-Семенов А.И. Черский. М., 1962 (Жизнь замечательных людей); Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Мн., 1968. С. 187—205.

# Ш



## ШАЛКОВІЧ Сямён Вуколавіч (1840—86)

Пісьменнік, археограф. Паходзіў з Беларусі. Адукацыю атрымаў у Мінскай духоўнай семінарыі і Кіеўскім універсітэце (1863). Настаўнічаў у Вільні. У 1870 прызначаны членам Віленскай археаграфічнай камісіі. Прымаў удзел у складанні зборніка палеаграфічных здымкаў са старажытных гравюр і актаў, што захоўваліся ў Віленскім цэнтральным архіве. Быў карэспандэнтам рускіх перыядычных выданняў «Московские ведомости» і «День». Аўтар прац «Зборнік артыкулаў, якія тлумачаць польскія справы адносна Заходняй Расіі» (Вільня, 1885—87), «Аб межах Польскай Кароны і Вялікага княства Літоўскага» (1885) і інш.

## ШАПЯЛЕВІЧ Гаўдэнтый (Радзіслаў Іасафатавіч, 1800—46)

Паэт. Нарадзіўся ў Магілёўскай губ. Выхоўваўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі (1820). Выконваў абавязкі павятовага суддзі, потым служыў у Пецярбургу. Пэўны час займаўся разборам фонду бібліятэкі Полацкай езуіцкай акадэміі. З 1830 выкладчык у Віцебскай гімназіі, адкуль быў звольнены ў сувязі са справай Т.*Лады-Заблоцкага* (1834). Ш. належаў да групы тагачасных пісьменнікаў, якія аднолькава добра валодалі рускай і польскай мовамі, цікавіліся народнай творчасцю і даўніной. На рускай мове напісаў шэраг вершаў у рамантычна-баладным стылі («Мальвіна» і інш.) для часопіса «Альманах муз» (1830—40-я гады), празаічныя творы змяшчаў таксама ў часопісе «Вестник Европы». Нізка яго

польскіх вершаў і празаічныя творы надрукаваны ў штогодніку «Niezabudka» («Незабудка»), заснаваным у Пецярбургу *Я.Баршчэўскім*. Асобным выданнем выйшла дасканалая формай і мовай паэма «Псіхея» (1843). Апошняя яго паэма «Вар'ятка» (выдадзена толькі невялікая частка) сведчыць пра сталасць аўтара як паэта.

*Літ.*: Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 62, 66, 79, 81.

## ШАПЯЛЕВІЧ (Лазарэвіч-Шапялевіч) Леў Юльянавіч [1(13).10.1863 — 28.1(10.2).1909]

Гісторык літаратуры, археолаг. Нарадзіўся ў Віцебску. У 1882 скончыў Віцебскую гімназію, у 1887 Харкаўскі і Новарасійскі універсітэты. З 1892 магістр усеагульнай літаратуры, з 1896 доктар філалогіі, дацэнт, прафесар Харкаўскага універсітэта. Даследаваў заходнееўрапейскую літаратуру: «Эцюды пра Дантэ» (1891), «Дантаўская трылогія» (1892), «Кудрунапа Адраджэнню» і «Першы публіцыст у Еўропе Эразм Ратэрдамскі» (1895), «Нашы сучаснікі» (1899), «Нарысы з гісторыі сярэдневяковай літаратуры і культуры» (1900), «Жыццё Сервантэса» (1901), «Дон Кіхот» (1903) і інш. З 1900 праводзіў раскопкі старажытнаславянскіх курганоў у Гарадоцкім, Невельскім, Себежскім паветах. Пры даследаванні крывіцкіх курганоў выявіў каштоўныя знаходкі, якія паступілі ў Эрмітаж, гістарычныя музеі ў Маскве і Харкаве, музей Віцебскага статыстычнага камітэта.

*Літ.*: Седов В.В. Восточные славяне в VI—VIII вв. М., 1982. С. 159, 297.

## ШПІЛЕЎСКІ Павел Міхайлавіч [псеўданімы Драўлянскі, Знаёмы чалавек, Барон Ікс; 31.10(12.11).1823 — 17(29).10.1861]

Беларускі этнограф, пісьменнік, публіцыст і тэатральны крытык. Нарадзіўся ў в. Шыпілавічы Бабруйскага павета ў сям'і святара. У 1843 скончыў Мінскую духоўную семінарыю, у 1847 — Пецярбургскую духоўную акадэмію. Працаваў настаўнікам славеснасці Варшаўскага павятовага вучылішча, з 1853 — пакаёвым наглядчыкам Галоўнага педагагічнага інстытута ў Пецярбургу, з 1855 — настаўнікам школы пры экспедыцыі нарыхтоўкі дзяржаўных папер.

Яшчэ ў час навучання ў семінарыі ў яго выявілася цяга да вывучэння роднага краю. У 1845 ён паслаў у Аддзяленне рускай мовы Расійскай акадэміі



*Мінск. З малюнка 19 ст.*



*Мінск. Від з левага берага р.Свіслач. Пачатак 20 ст.*

навук складзены ім слоўнік беларускай мовы, а праз год пачаў друкаваць даследаванне «Беларускія народныя павер'і» (1846—52) — частку рукапіснай працы «Слоўнік і караняслоў беларускай гаворкі». У 1853 Ш. накіраваўся ў экспедыцыю па Беларусі. За тры гады ён аб'ездзіў Гродзенскую, Віцебскую і Мінскую губ., што дало яму багаты матэрыял па вывучэнні краю. Свае назіранні і ўражанні Ш. друкаваў у часопісе «Современник» у 1853—55 пад назвай «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» (13 гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысаў). У «Падарожжы...» аўтар прыводзіў гістарычныя звесткі пра населеныя пункты, якія яму давялося наведаць, шмат увагі аддаваў іх этнаграфічнаму апісанню (побыт сялян, іх адзенне, жыллё, абрады, кірмашы і святы, песні, казкі і паданні). У 1853—56 Ш. надрукаваў працу «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках», якая ўключала 16 нарысаў з багатым этнаграфічным матэрыялам. У нарысы Ш. ўключыў шэраг перапрацаваных і перакладзеных ім на рускую мову беларускіх казак («Сястра-чараўніца», «Залаты шчупак», «Чароўная кветка» і інш.), шырока і грунтоўна адлюстраваў побыт беларусаў («Калядныя вячоркі», «Ігрышчы», «Радзіны, хрысціны», «Пахаванні і памінкі», «Валачобнікі» і інш.), змясціў многія дзесяткі бел. народных песень і іншых вусных твораў з падрадковым перакладам на рускую мову. Працы Ш. ўпершыню пазнаёмілі ў папулярнай форме шырокія колы грамадскасці Расійскай імперыі з побытам і вусна-паэтычнай творчасцю беларускага народа. Яго нарысы былі з цікавасцю сустрэты чытачамі, крытыкай і вучонымі, станоўчую ацэнку ім даў М.Г.Чарнышэўскі. У 1855 асобнай кнігай выйшла яго дзіцячая аповесць «Цыганё», у 1857 надрукаваны драматычны твор «Дажынкі». У розных перыядычных выданнях («Пантеон», «Сын Отечества» і інш.) ён змясціў некалькі артыкулаў пра тэатральнае і літаратурнае жыццё Расіі, па гісторыі Беларусі.

Грамадска-палітычныя погляды Ш. фарміраваліся пад уплывам рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі таго часу. Ш. абурала тое, што тагачасныя вучоныя зусім мала звярталіся да вывучэння свайго народа. У сваіх творах ён праводзіў і адстойваў ідэю самабытнасці і самастойнасці беларускай мовы, якую ён лічыў сваёй роднай, падкрэсліваў цесную гістарычную сувязь беларускага і рускага народа. Ён спагадліва ставіўся да сялян і адзначаў іх станоўчыя маральныя якасці: працавітасць, кемлівасць, сціпласць, бескарыслівасць. У процівагу рэакцыйнай публіцыстыцы пра забітасць і асуджанасць на выміранне беларускага народа ён сцвярджаў, што яго землякі

імкнуцца да авалодання ведамі, навукай, мастацтвам. Выказваў цікавыя думкі пра пашырэнне ведаў сярод простага народа. Заўчасная смерць на 38-м годзе жыцця спыніла плённую дзейнасць таленавітага асветніка.

*Літ.*: Кузняева С.А. Русская дореволюционная печать и советское литературоведение о Павле Шпилевском // Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография. Мн., 1981.

## ШУКЕВІЧ Вандалін Аляксандравіч (10.12.1852—1.12.1919)

Археолаг, антраполаг, краязнавец і этнограф. Нарадзіўся ў в. Нача Лідскага пав. Віленскай губ. (цяпер Воранаўскі раён Гродзенскай вобл.). Адукацыю атрымаў у Вільні. З 1872 жыў у Начы, дзе заснаваў агранамічны гурток маладых гаспадароў. З 1883 даследаваў курганныя і бескурганныя могільнікі каля вёсак Нача, Пузелі (Пузельская гара), Апонаўцы, Гаворскія, Тоўцішкі і інш. Толькі на тэр. Лідскага пав. даследаваў 120 каменных магіл, да 1915 абследаваў 170. Першы з беларускіх археолагаў раскапаў 16 курганоў і 376 каменных магіл тыпу жальнікаў 13—14 ст. Вёў раскопкі каля Віцебска, Лепеля, Радашковіч, воз. Дрысвяты. Апублікаваў працы «Музей Федаровіча» (1900), «З мінулага Літвы» (1906), «Успаміны з года 1863» (1907), «Даўнія каралеўскія лясы ў Літве» і «Двары, замкі і палацы» (1911), «Нарысы з Белай Русі» (1912), «Возера Дрысвяты» (1913) і інш. Першы з беларускіх археолагаў пачаў рабіць аналізы старажытных знаходак сумесна са спецыялістамі-хімікамі. Запісаў шмат легенд і паданняў пра помнікі даўніны. Імкнуўся прасачыць эвалюцыю абраду пахавання ад эпохі латэну да часоў Вялікага княства Літоўскага. Першы ўзняў праблему даследавання Чорнай Русі як гістарычнай з'явы, надаваў асаблівае значэнне геаграфічнаму фактару яе засялення, спрабаваў даць прыкладную храналогію змены культур гэтага рэгіёна. Удзельнічаў у рабоце 9-га Археалагічнага з'езда ў Вільні (1893). Быў членам Віленскага таварыства сяброў навукі, Варшаўскага краязнаўчага таварыства, член-карэспандэнт Кракаўскай АН. Частку матэрыялаў са сваёй багатай археалагічнай калекцыі перадаў у музеі Кракава, Пецярбурга, Масквы, Вільні. Пахаваны на радзіме.

*Тв.*: Wykopaliska w pow. Lidzkim. Tygodnik ilustrowany. 1885. №1; Реферат об археологических местностях в Лидском и Трокском уездах // Тр. Виленского отд. Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893; Kurhany kamienne w powiecie Lidzkim (gub. Wileńska) // Światowit. 1899. T. 1, 1902. T. 4.; Przedmioty bronzowe znalezione nad Niemnem i Mereczankam // Там жа. 1899. Т. 1.

*Літ.*: Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; (Спицин А.А.) Раскопки В.А. Шукевича // Известия имп. Археологической комиссии. Спб., 1909. Вып. 29.

*Г.А.Каханоўскі.*

## ШЧАРБОВІЧ-ВЕЧАР Людамір Людвіг (1842—?)

Педагог, публіцыст. Паходзіў з Мінскай губерні. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскоўскім універсітэце. Быў выкладчыкам гімназій у розных гарадах Польшчы. Галоўныя яго творы: «Еўрыпід-жанчыненавіснік» (1868), «Парменід — філосаф з Элеі» (1869), «Мастацтва кахання, даследаванне рымскай літаратуры» (1872), «Пытанні і кірункі» (1874), «Некалькі праблем» (1875).

## ШЫМАНОЎСКІ Аляксандр Нічыпаравіч (1850—1918)

Этнограф і фалькларыст. Нарадзіўся ў в. Чэрнін Светлагорскага раёна. Скончыў Мазырскую гімназію і Пецярбургскі універсітэт (1874). З 1874 працаваў настаўнікам у Кішынёве. Аўтар рукапіснага зборніка «Мінская губерня і яе народная творчасць у сувязі з апісаннем народных свят і абрадаў» (1898, зберагаецца ў архіве Расійскага геаграфічнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу), у якім сабраны каштоўны матэрыял па беларускай фалькларыстыцы і этнаграфіі, выкладзены погляды Ш. на народную творчасць. У зборнік уключаны разнастайныя па тэматыцы песні: бытавыя, салдацкія, гістарычныя, жніўныя, карагодныя, пра каханне; абрадавыя і

каляндарна-абрадавыя песні прыводзяцца разам з апісаннем абрадаў і каляндарных свят. Шырока прадстаўлены казкі, павер'і, загадкі, прыказкі, гаспадарча-этнаграфічныя назвы і інш. У кнізе шмат унікальных твораў, лепшыя з іх запісаны з захаваннем асаблівасцей беларускай мовы. Выдаў кнігу «А.С.Пушкін. Аб знаходжанні яго у Кішынёве ў сувязі з папярэднім і апошнім жыццём» (Кішынёў, 1900).

*Літ.:* Скірдан В.І. Па слядах збіральніка фальклору // Полымя. 1977. №3.

## ШЫМКЕВІЧ Фёдар Спірыдонавіч [16(28).2.1802 — 3(15).4.1843]

Мовазнавец, педагог. Нарадзіўся ў Магілёве. У 1827 скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. Стварыў першы ў гісторыі айчыннай лексікаграфіі этымалагічны слоўнік рускай мовы «Караняслоў рускай мовы, параўнаны з усімі найгалоўнейшымі славянскімі гаворкамі і з дваццаццю чатырма замежнымі мовамі» (ч. 1—2, 1842). Даследаваў старарускія летапісы і іншыя помнікі рускай, беларускай і ўкраінскай моў і літаратур, вынікам чаго сталі яго працы «Погляд на расійскія летапісы ў філалагічных адносінах» (надрукаваны пад псеўданімам Фёдар Касцеша), «Апісанне рукапісаў, якія знаходзяцца ў бібліятэцы Кіеўскай акадэміі» (абедзве 1830). Сярод рукапіснай спадчыны Ш. слоўнікі беларускай, украінскай, сербахарвацкай, верхнялужыцкай, гоцкай і славенскай моў, «Нямецкая граматыка» і інш.

## ШЭЙН Павел Васілевіч [1826—14(27).8.1900]

Этнограф і фальклярыст, педагог. Нарадзіўся ў Магілёве. Вучыўся ў нямецкім вучылішчы пры лютэранскай царкве св. Міхаіла ў Маскве. З 1851 працаваў выкладчыкам у розных павятовых вучылішчах і гімназіях Тулы, Віцебска (1865—73), Калугі і інш. З 1881 у Пецярбургу. Збіральніцкую дзейнасць пачаў у сярэдзіне 1850-х гадоў. Выдаў напісаную пад уплывам міфалагічнай школы «Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці» (Віцебск, 1867) — адну з першых спе-



цыяльных фальклорных праграм у Расіі — і разаслаў яе па Беларусі. Меў шырокую сетку карэспандэнтаў, сярод якіх былі А.Я.*Багдановіч*, Я.Ф.*Карскі*, Ю.Ф.*Крачкоўскі*, Я.*Лучына*, М.Я.*Нікіфароўскі*, З.Ф.*Радчанка* і інш. Зрабіў некалькі паездак па Беларусі, самую вялікую ў 1877. Найбольш поўны беларускі матэрыял прадстаўлены ў кнізе «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 1—3, 1887—1902). У кнізе змешчаны апісанні хрэсьбін, калядных, масленічных, купальскіх, жніўных, вясельных, пахавальных абрадаў беларусаў з песнямі і фальклорнымі тэкстамі, міфалагічныя і бытавыя казкі пра жывёл, легенды, паданні, анекдоты, прыказкі, прымаўкі, загадкі, звесткі пра матэрыяльную культуру беларусаў (жыллё, адзенне, ежу, заняткі) і інш. Складальнік зборнікаў «Рускія народныя песні» (1870), «Беларускія народныя песні...» (1874), «Велікарос у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і да т.п.» (т. 1, вып. 1—2, 1898—1902). Тэксты адметныя высокімі паэтычнымі якасцямі, многія вылучаюцца сацыяльнай вастрынёй. Архіў Ш. зберагаецца ў Архіве Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу.

*Літ.:* Новиков Н.В. П.В.Шейн. Мн., 1972.

## ШЭМЕШ Адам (1808—64)

Жывапісец-партрэтыст і мастацтвазнавец. Нарадзіўся ў Слуцкім пав. Мінскай губ. ў сям'і старасты. Мастацкую адукацыю атрымаў у Віленскім універсітэце (1826—31). Пасля заканчэння яго вярнуўся ў Мінск. Тут актыўна займаўся творчай і грамадскай дзейнасцю. У гэтыя гады ім напісаны партрэты У.*Сыракомлі* і С.*Манюшкі* . Паводле сцвярджэння гісторыка М.*Балінскага*, у гэты час Ш. ствараў гістарычныя і бытавыя кампазіцыі, у якіх вобразы дробнай шляхты і простага народа былі «паказаны вельмі праўдзіва». Ш. быў вялікім паклоннікам паэзіі А.*Міцкевіча*. На мясцовым матэрыяле ён рабіў ілюстрацыі да паэмы «Конрад Валенрод» і іншых твораў паэта. Ш. меў аўтарытэт у моладзі. За парадамі да яго звярталіся жывапісцы Я.*Дамель*, В.*Ванькові*ч, М. Кулеша і інш. За прагрэсіўныя думкі і выказванні Ш. цярпеў ганенні з боку царскага ўрада. У 1842 ён высланы ў Расію. У 1846 вярнуўся ў Мінск, потым жыў у Вільні. У Мінску намаляваў некалькі партрэтаў дзеячаў культуры, у т.л. адну з лепшых сваіх работ — партрэт Е.Фялінскай. Ш. зрабіў некалькі кампазіцый на рэлігійныя тэмы. Ён аўтар шэрага артыкулаў, «Успамінаў пра Віленскую мастацкую школу», «Успамінаў пра Дамеля» і інш., апублікаваных у 1840-я гады ў віленскім час. «Athenaeum» («Атэнэум»). Ш. пакінуў праўдзівае, гістарычна дакладнае апісанне мастацкага жыцця Беларусі 1-й паловы 19 ст.

*Літ.:* Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1989. Т. 3. С. 85—86. *В.В.Краснова.*

# Э

## ЭЛЬКІНД Аркадзь Данілавіч (1869—?)

Антраполаг. Нарадзіўся ў Магілёве. Адукацыю атрымаў у Маскоўскім універсітэце. Аўтар даследавання «Прывісленскія палякі. Антрапалагічны і краніялагічны нарыс» (1896) і вялікай працы «Яўрэі» (1903).

# Ю

## ЮНДЗІЛ Станіслаў Баніфацый (6.5.1761—18.4.1847)



Прыродазнавец, адзін з першых даследчыкаў расліннага і жывёльнага свету Беларусі. Нарадзіўся ў в. Ясенцы Лідскага пав. (цяпер Воранаўскі раён). Пачатковую адукацыю атрымаў у бацькоўскім доме. Потым вучыўся ў піярскай школе ў Лідзе, пасля заканчэння якой вырашыў прысвяціць сябе служэнню рэлігіі. У 1799 атрымаў права выкладаць і 2 гады працаваў настаўнікам у піярскіх школах мяст. Расены і ў Вільні. У 1781—82 быў слухачом 2-гадовага курса філасофскіх навук у Вільні, адначасова наведваў публічныя лекцыі па хіміі ў Віленскай акадэміі. У 1783 пасвячоны ў святары. У 1785 перасяліўся ў мяст. Шчучын і ў мясцовым вучылішчы займаў пасады галоўнага наглядчыка і выкладчыка. У вучылішчы ён увёў лекцыі па батаніцы, заснаваў пры ім невялікі батанічны сад. У 1786 яго адклікалі ў манастыр выкладаць логіку і метафізіку. Неўзабаве ўладальнік Шчучына Сцыпіён запрасіў Ю. ў свой маёнтак для выхавання сыноў. На гэтай службе Ю. меў даволі вольнага часу, каб займацца самаадукацыяй і навукай. Ён перакладаў з італьянскай мовы

на польскую, у т.л. працу Дж.Бекарыі аб штучнай і прыроднай электрычнасці, збіраў у наваколлі Вільні, Ліды і Шчучына ўзоры мясцовых флоры і фауны (сабраныя ім багатыя калекцыі загінулі ў час паўстання 1830—31). Удасканаліўшы веды ў прыродазнаўчых навуках, Ю. пачаў чытаць лекцыі па заалогіі ў піярскіх школах. Але яго педагагічная дзейнасць ускладнялася адсутнасцю неабходных дапаможнікаў і падручнікаў. Гэта і падштурхнула яго да складання адпаведных настаўленняў, у якіх даў звесткі пра лекавыя расліны Беларусі, Літвы і Польшчы і іх выкарыстанне. Да гэтага настаўлення дадаваўся навуковы трактат па батаніцы, бібліяграфічны нарыс і біяграфія натураліста К.Лінея. Другой працай было «Апісанне літоўскіх раслін паводле сістэмы Лінея» (Вільня, 1811), за якую кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ўзнагародзіў Ю. залатым медалём «Merentibus» (Ю. быў першы, каго ўзнагародзілі гэтым медалём). Другі такі медаль Ю. атрымаў за даследаванне «Аб саляных радовішчах і солі ў Стоклішках» (Вільня, 1792), якое ён прадставіў каралю разам з пробамі солі, атрыманай шляхам вымарожвання з вады. У 1792 ён прызначаны экстраардынарным прафесарам натуральнай гісторыі ў Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага і яму былі выдаткаваны сродкі на паездку за мяжу з мэтаю ўдасканалення ў навуках. У Кракаве і Вене Ю. слухаў лекцыі па хіміі і мінералогіі, знаёміўся з аўстрыйскай флорай, пабываў у наваколлі Карпат, азнаёміўся з акадэмічным батанічным садам у Вене і шэрагам іншых добраўпарадкаваных садоў. Адтуль ён накіраваўся ў Саксонію, дзе вывучаў мінералогію і знаёміўся з мясцовымі горнаметалургічнымі заводамі, наведаў Прагу, Дрэздэн і інш. У 1793 ён аглядаў руднікі і горныя заводы ў Венгрыі, знаёміўся з Венскай ветэрынарнай школай, на ўзор якой меў намер стварыць школу ў Вільні. Калі Ю. сабраўся вяртацца ў Вільню, палітычныя абставіны тут ускладніліся (трэці падзел Рэчы Паспалітай). Астаўшыся ў Вене без матэрыяльных сродкаў, ён заняўся прыватнымі ўрокамі па батаніцы і мінералогіі, паралельна 2 гады вывучаў ветэрынарыю. Атрымаўшы ў 1797 паведамленне аб прызначэнні яго экстраардынарным прафесарам на кафед-



*Батанічны сад Віленскага універсітэта. Малюнак К.Рачынскіса.*

ры натуральнай гісторыі ў Віленскай акадэміі, ён у кастрычніку таго ж года вярнуўся з Вены ў Вільню, дзе і заставаўся да канца свайго жыцця. Тут ён заняўся арганізацыяй батанічнага саду і мінералагічнага кабінета пры Віленскай акадэміі, абсталяваў прыродазнаўча-гістарычны кабінет, экспанаты для якога паступілі з калекцый і ўзораў, падараваных Ж.*Жылібертам*, Г.Форстэрам і былым вялікім гетманам літоўскім М.*Агінскім*. У 1798 яму прысвоена ступень доктара філасофіі. У 1799 Ю. выдаў падручнік «Прыкладная батаніка» (Вільня). Калі ў 1799 педагагічная камісія прыняла рашэнне пра заснаванне батанічнага саду і даручыла Ю. ўзначаліць яго, ён ахвотна згадзіўся і выконваў гэтыя абавязкі 27 гадоў. У 1800 атрымаўшы ступень доктара багаслоўя, паралельна займаў пасаду цэнзара духоўных кніг; ад прапанаванай яму пасады віленскага кафедральнага каноніка адмовіўся з-за занятасці навуковымі працамі. У 1801 ён апублікаваў у Вільні «Дысертацыю пра саранчу і сродкі яе знішчэння», у 1807 — падручнік «Заалогія» (ч. 1—3). У 1802 ён прызначаны ардынарным прафесарам Віленскай акадэміі. У 1824 выйшаў у адстаўку, але прадаўжаў навуковую дзейнасць, быў членам многіх навуковых таварыстваў. У ліку першых на Беларусі і ў Літве Ю. тлумачыў працэсы жыцця з матэрыялістычных пазіцый.

## ЮРКЕВІЧ Іван Іванавіч (?—1876)

Рэлігійны і грамадскі дзеяч, асветнік. Нарадзіўся ў Мінскай губ. ў сям'і святара. У 1832 паступіў у Літоўскую духоўную семінарыю ў Жыровічах, а ў 1837 — у Пецярбургскую духоўную акадэмію, пасля заканчэння якой у 1841 прызначаны настаўнікам царкоўнай гісторыі і кананічнага права ў Магілёўскай семінарыі. У 1842 абараніў дысертацыю на ступень магістра «Аб прычынах падзелу паміж Усходняй і Заходняй цэрквамі». У 1844 пераведзены ў Літоўскую духоўную семінарыю, дзе выкладаў свяшчэннае пісанне і герменеўтыку. З 1845 сакратар семінарскага праўлення (з захаваннем пасады настаўніка), з 1847 — член камітэта, заснаванага пры праўленні семінарыі для збору этнаграфічных матэрыялаў на беларускіх землях і накіраванне іх у Рускае геаграфічнае таварыства. У 1857 на яго ўскладзены абавязкі выкладчыка яўрэйскай мовы ў семінарыі, а з 1860 ён выкладаў і псіхалогію. У 1860-я гады змясціў у «Литовских епархиальных ведомостях» вялікі гістарычны нарыс пра Літоўскую духоўную семінарыю. У свой час быў вядомы як выдатны знаўца свяшчэннага пісання і высокакваліфікаваны выкладчык. У 1870 выйшаў у адстаўку. Памёр ад сухот.

У артыкуле «Астрынскі прыход Віленскай губерні Лідскага павета» (1853) апісаў хатні і грамадскі побыт, адзенне, абрады беларускіх сялян. Іх сацыяльнае становішча Ю., аднак, характарызаваў з суб'ектыўных рэакцыйных пазіцый; лічыў, што беднасць сялян тлумачыцца не іх сацыяльным прыгнётам, а дрэннымі прыроднымі ўмовамі, прычыну хвароб бачыў толькі ў дрэнным санітарным стане вясковага жылля. Беларускую мову разглядаў як мешаніну рускай і польскай, але больш блізкай да рускай.

## ЮЦЭВІЧ Людвік Адам Дзям'янавіч (псеўд. Людвік з Покева, 15.12.1813—12.3.1846)

Літоўскі і беларускі этнограф і фалькларыст. Нарадзіўся ў в. Пакевіс Кельмескага раёна Літвы. З літоўскай шляхты. Скончыў Віленскую духоўную акадэмію ў 1836. Працаваў хатнім настаўнікам і гувернёрам (1831—34), у 1837—42 вікарый Свянцянскага і Свядосцкага прыходаў. У 1842 афіцыйна адрокся ад духоўнага сану, пераехаў на Беларусь. З 1843 выкладчык Лепельскага дваранскага вучылішча. Аўтар артыкулаў «Камяні літоўскіх багінь» (1836), «Вялікія горы і гарадзішчы ў Літве» (1837), кнігі «Выслоўі і думкі» (1837, у дадатку да кнігі выказаў свае адносіны да народнай мовы і нацыянальнай культуры). Матэрыяльнай і духоўнай культуры літоўскага і беларускага народаў прысвечаны працы «Другая гара» (фрагменты з рукапісу «Даследаванні даўніны літоўскай і беларускай»), «Гульні і за-

бавы літоўскага народа на Жмудзі», «Літоўскія звычаі, дапасаваныя да пэўных дзён года» (усе 1839), «Прыказкі літоўскага народа», «Рысы Літвы», «Інструкцыя Якуба Сабескага...» (усе 1840), «Некалькі слоў да пана Крашэўскага...» (1841). У 1842 выдаў кнігу этнаграфічных, гістарычных і геаграфічных нарысаў «Паданні Літвы». У дадатку прывёў звесткі пра гісторыю семінарыі ў Жмудзі, судовыя прыгаворы чараўнікам, змясціў вясковыя песні. У зб. «Літоўскія песні ў перакладзе Людвіка з Покева» (1844) уключыў 35 песень, да некаторых з іх напісаў каментарыі. Адна з самых значных і грунтоўных прац — «Літва з пункту погляду рэштак старажытнасці, звычаяў і нораваў» (1846). У ёй вялікі і разнастайны матэрыял пра народную міфалогію, адносіны чалавека да прыроды, звычаі, забавы, язычніцкія перажыткі, побыт, народную медыцыну і інш.

*С.Ф.Цярохін.*



## ЯЖОЎСКІ Юзаф (1798—1855)

Удзельнік вызваленчага руху на Беларусі і ў Літве ў пачатку 19 ст., філосаф. Дакладных звестак пра яго паходжанне і месца нараджэння не выяўлена. Вучыўся ў Віленскім універсітэце і сур'ёзна рыхтаваўся да кар'еры выкладчыка філасофіі. У час вучобы ва універсітэце Я. — адзін з заснавальнікаў (1.10.1817) і на працягу 6 гадоў прэзідэнт таварыства філаматаў. Першапачатковай мэтай таварыства быў намер накіроўваць аднадумцаў на інтэнсіўную навуковую дзейнасць, удасканаленне ў мастацтве пісьменніцтва, аказанне дапамогі адзін аднаму ў авалоданні навукамі. Праект статута таварыства, над якім працавалі Т.*Зан* і А.*Міцкевіч*, пашыраў сферу дзейнасці таварыства іператвараў яго ў арганізацыю, якая б аб'ядноўвала шырокія колы моладзі. Але на сходзе членаў-заснавальнікаў зацверджаны варыянт статута, прапанаваны Я., арыентаваны на стварэнне па сутнасці закрытага, нешматлікага таварыства. У ходзе практычнай дзейнасці філаматы выпрацавалі праграму палітычнай барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, наладзілі канспіратыўныя сувязі з арганізацыямі дзекабрыстаў, выступалі супраць феадальных абсалютысцкіх парадкаў, выказваліся за адмену прыгонніцтва, за паляпшэнне і пашырэнне асветы. Дзякуючы развітой сістэме разгалінаваных арганізацый філаматы на працягу некалькіх гадоў сваёй дзейнасці здолелі паўплываць на ўсе актыўныя элементы студэнцтва, на сярэднія школы ў іншых гарадах Літвы і Беларусі, прапагандавалі сярод насельніцтва свабодалюбівыя ідэі. Палітычнае абуджэнне і рост нацыянальнай самасвядомасці выклікалі патрэбу ў вывучэнні гісторыі краю, народнага побыту, этнаграфіі, статыстыкі. Але ў Віленскім універсітэце ў час рэктарства Я.*Снядэцкага* яўна наглядалася недаацэнка гуманітарных навук (з 1807 па 1815 на кафедры гісторыі нават не было прафесара). Зыходзячы з такой сітуацыі, Я. падкрэсліваў, што для членаў таварыства асабліва актуальнымі павінны быць не фізічныя і іншыя прыродазнаўчыя, а гісторыка-філасофскія навукі, бо толькі яны здолеюць дапамагчы выявіць прычыны, што прыводзяць да ўзнікнення дэспатызму і ўмацавання яго ўлады, вызначыць сродкі, накіраваныя на яго знішчэнне. Статут на 1822—23 абавязваў філаматаў мець пры сабе творы філосафаў, палітыкаў, маралістаў, гісторыкаў і, вывучыўшы іх сістэмы, вылучаць з іх неабходныя кірункі дзейнасці. Добра вывучыўшы філасофію І.Канта, Я. шукаў у яго творах адказ на хвалюючыя пытанні: пра месца чалавека ў свеце і яго прызначэнне. Прытрымліваўся поглядаў І.Канта. Апіраючыся на кантаўскае даследаванне спецыфікі маралі, а таксама яго крытыкі этычнага натуралізму, Я. крытычна ставіўся да разумення прыроды маральнага пачуцця Гельвецыем і адстойваў прынцып нязводнасці маральнага матыву да «натуральных» схільнасцей. Ён выступаў супраць утылітарысцкай трактоўкі гэтага пытання ў этыцы французскага мысліцеля, лічачы, што «нельга выводзіць з адной крыніцы пачуцці маральныя і фізічныя». Бясспрэчна, пад уплывам Канта Я. парваў з асветніцкім

уяўленнем пра «залаты век» натуральнага стану. На яго думку, чым даўжэй грамадства будзе знаходзіцца ў стане дзяцінства, тым больш у будучым яно зазнае бедстваў. Падтрымліваў ён і ідэю развіцця народаў і ўдасканалення грамадства. Лісты Я. (да А.Міцкевіча і інш.) — каштоўная крыніца як для высвятлення філасофскай арыентацыі іх аўтара, так і для характарыстыкі «філасофскай сітуацыі», што склалася ў Вільні ў канцы 1810 — пачатку 1820-х гадоў. Таварыства філаматаў было раскрыта ўладамі ў 1823, і члены яго, у т.л. Я., зазналі рэпрэсіі.

*Літ.*: Мохнач Н.Н. От Просвещения к революционному демократизму. Мн., 1976; Яго ж. Общественно-политическая и этическая мысль Белоруссии начала XIX в. Мн., 1985.

## ЯКУБОВІЧ Максімільян Юр'евіч (1784—1853)

Філолаг, філосаф, педагог. Паходзіў з Валыні. Вучыўся ў Віленскім універсітэце, пасля заканчэння якога і атрымання ступені магістра філасофіі (1811) працаваў настаўнікам у Луцку, а ў 1812 — у Паставах, дзе выкладаў у мясцовым вучылішчы. З 1813 выкладаў польскую, грэчаскую і лацінскую мовы ў Свіслацкай гімназіі. У 1818 выкладчык лацінскай мовы і старажытнай літаратуры ў Варшаўскім ліцэі. З 1819 настаўнік лацінскай славеснасці Гродзенскай гімназіі. У 1824 пераведзены на тую ж пасаду ў Валынскі ліцэй. Падрыхтаваў падручнікі па польскай і лацінскай мовах. У 1834 зацверджаны ардынарным прафесарам рымскай славеснасці ў Кіеўскім універсітэце. З 1835 дэкан 1-га аддзялення філасофскага факультэта, адначасова выкладчык грэчаскай мовы і славеснасці. У 1839 пераведзены на пасаду ардынарнага прафесара ў Маскоўскі універсітэт, выкладаў лацінскую мову і гісторыю рымскай літаратуры, нумізматыку. Пасля выхаду ў адстаўку вярнуўся ў Вільню. Паводле сваіх поглядаў Я. быў тыповым прадстаўніком філасофіі каталіцызму, выступаў супраць атэізму і язычніцтва. Як высокаадукаваны педагог карыстаўся заслужаным аўтарытэтам. Аўтар працы «Хрысціянская філасофія жыцця ў параўнанні з пантэістычнай філасофіяй нашага веку» (ч. 1—3. Вільня, 1853). Апошнія гады жыцця правёў у Жытоміры, дзе займаўся даследаваннем праблем маральнай філасофіі, аднак апрацаваць і выдаць гэтыя творы не паспеў.

## ЯЛЕНСКАЯ (па мужу Дмахоўская, Jeleńska-Dmochowska) Эма (29.2.1864—24.1.1919)

Беларуская фалькларыстка і этнограф, польская пісьменніца. Нарадзілася ў в. Камаровічы Петрыкаўскага раёна. Пад уплывам Я. Карловіча зацікавілася побытам і духоўнай культурай беларускага народа. У сваёй асноўнай этнаграфічнай працы «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце» [часопіс «Wisła» («Вісла»). 1891. Т. 5, кн. 1, 2] грунтоўна апісала жыццёвы ўклад, працоўную дзейнасць і эстэтычныя погляды палескіх сялян. Запісала 11 сшыткаў народных песень, склала 2 рукапісныя зборнікі казак (62 творы), сабраных у Мазырскім і Навагрудскім паветах (выд. 1976, пад назвай «Беларускі казачны эпас»), а таксама «Песні, прыслоўі і загадкі з Камаровіч». У парыжскім часопісе «La tradition» («Традыцыя», 1894—95, т. 8) змясціла даследаванне «Палескі фальклор» і 8 беларускіх народных песень у перакладзе на французскую мову. Аўтар раманаў і аповесцей. Вяла асветніцкую дзейнасць на Віленшчыне, адкрывала школы, перасоўныя бібліятэкі.

*Літ.*: Васілевіч У.А. «Паненка» з вёскі Камаровічы // Работніца і сялянка. 1986. №2.

*У.А.Васілевіч.*

## ЯЛЬНІЦКІ Канстанцін Васілевіч (1840—1917)

Педагог-метадыст, асветнік. Паходзіў з Беларусі. У 1868—71 выкладчык славеснасці ў Мазырскай гімназіі. Пасля сканчэння ў 1872 вышэйшых педагагічных курсаў працаваў выкладчыкам у Сібірскай ваеннай гімназіі, а ў час летніх канікулаў кіраваў педагагічнымі курсамі для настаўнікаў пачатковых школ у шэрагу губерняў Расіі, у т.л. ў Мінскай і Магілёўскай губ. У 1908 вярнуўся на Беларусь, выкладаў у педагагічным класе Парыцкага жаночага духоўнага вучылішча, а ле-

там 1909 кіраваў педагагічнымі курсамі ў Мінску. Аўтар шматлікіх вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў па педагогіцы, гісторыі педагогікі, методыцы рускай мовы. Аўтар больш як 400 прац па педагогіцы і артыкулаў па методыцы выкладання, якія публікаваліся ў спецыяльных часопісах Расіі, Віленскай навучальнай акругі, выходзілі асобнымі выданнямі. Найбольш вядомыя кнігі Я.: «Я.А.Каменскі і яго педагагічныя ідэі» (1893), «Выхаванне і навучанне ў сям'і і школе» (1898), «Звычкі і іх значэнне ў выхаванні» (1899), «К.Дз.Ушынскі» (1903), «Асновы пачатковага школьнага выхавання і навучання» (1904), «Курс дыдактыкі» (1909) і інш. Ён выказаў шэраг важных меркаванняў па пытаннях дыдактыкі, першапачатковага навучання грамаце, падрыхтоўкі народных настаўнікаў. Асноўныя яго метадычныя працы прысвечаны навучанню пісьму і чытанню. Заслугоўваюць увагі працы Я. па пытаннях педагагічнай падрыхтоўкі настаўнікаў, адукацыі жанчын і, у прыватнасці, падрыхтоўкі іх да выкладчыцкай і педагагічнай дзейнасці. Лічыў, што народны настаўнік «павінен мець тыя станоўчыя якасці, без якіх яму немагчыма асвятляць жыццёвы шлях іншых»; што поспех настаўніка залежыць ад зацікаўленасці яго ў сваёй дзейнасці. Падкрэсліваў, што настаўнік павінен з любоўю ставіцца да дзяцей, але не песціць іх, кіравацца ў сваёй дзейнасці веданнем і педагагічным тактам, з'яўляцца для вучняў узорам працавітасці, быць у пэўнай меры строгім, але справядлівым, не патураць капрызам дзяцей, а заўсёды праяўляць самавалоданне. Ён асуджаў любыя меры пакарання, якія прыніжаюць годнасць вучня. Рэлігію Я. адносіў да найважнейшых сродкаў маральнага выхавання, а закон божы лічыў неабходным прадметам школьнага курса. Высока цэнячы дасягненні рускай педагогікі, ён рабіў намаганні для пашырэння яе ідэй, а метадычныя рэкамендацыі К.Дз.Ушынскага лічыў асноўным кірункам для настаўнікаў пачатковых школ. Многія працы Я. перавыдаваліся па некалькі разоў, некаторыя перакладзены на балгарскую мову. Падручнікамі Я. шырока карысталіся ў навучальных установах Беларусі пачынаючы з 1880-х гадоў.

*Літ.*: Асвета і педагагічная думка ў Беларусі. Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985. С. 394—396.

## ЯН СА СВІСЛАЧЫ, гл. *Ходзька* Ян

## ЯНКОЎСКІ (Jankowski) Плакід (псеўд. John of Dycalp; 20.9.1810—11.3.1872)

Пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Вайская Камянецкага раёна. У 1818—24 вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, Брэсцкай школе базыльян, у 1830 скончыў Віленскі універсітэт. Выкладаў у Жыровіцкай духоўнай семінарыі. Быў уніяцкім, потым праваслаўным святаром. З 1858 жыў у Жыровічах. Пісаў на польскай і рускай мовах. Аўтар кніг прозы «Засценак» (1841), «Хвіля» (1842), «Апавяданні» (1843), «Складзеная аповесць» (1843, з Ю.І.Крашэўскім), «Універсітэцкія ўспаміны» (1849), «Крыніцы» (1853), «Адась» (1856), «Фанабэрыя пана старосты Канеўскага» (1873), камедыі «Прадчуванне» (1842), нататкаў «Пра Ігната Шыдлоўскага» (1898) і інш. У газеце «Виленский вестник», альманаху «Rocznik literacki» («Літаратурны штогоднік»), часопісах «Литовские епархиальные ведомости», «Ondyna Druskienickich źródeł» («Андына») надрукаваны яго працы «Пушкін на Елісейскіх палях» і «Разалія Шэйнер» (1844), «Мясцовыя забабоны і прымхі» (1863), «Сялянская праўда» (1865), «Карэспандэнцыі з Слоніма» (1867). Творчасць Я. жанрава разнастайная, багатая эстэтычнымі адценнямі гумару, але ідэйна супярэчлівая. У творах спалучаюцца анахранізм аўтарскага светаўспрымання і разам з тым спачуванне беларускаму селяніну, прыхільнасць да старых традыцый і адначасова крытыка шляхты, вернападданніцкая русафільская пазіцыя і мясцовы патрыятызм. У 1842 Я. намагаўся арганізаваць выданне альманаха «Літвіны». На польскую мову перакладаў творы У.Шэкспіра, І.Гётэ, А.Манцоні і інш.

*Літ.*: Charkiewicz W. Placyd Jankowski (John of Dycalp): Zycie i twórczość. Wilno, 1928.

## ЯНУШКЕВІЧ Адольф Міхал Валяр'ян Юліян (9.6.1803—6.6.1857)

Падарожнік, пісьменнік. Нарадзіўся ў Нясвіжы. Брат Я.*Янушкевіча*. Вучыўся ў дамініканскай школе ў Нясвіжы, у 1823 скончыў філалагічны факультэт Віленскага універсітэта. Быў членам таварыства блакітных (блізкія да філарэтаў). У 1823—26 жыў у Камянцы, быў дэпутатам цывільнай палаты ў Галоўным судзе. Падарожнічаў па Італіі, Германіі, Францыі, сустракаўся з А.*Міцкевічам*, Ю.Славацкім (падаў яму ідэю напісаць рэвалюцыйна-патрыятычны верш «Песня літоўскага легіёна» як водгук на паўстанне 1830—31; напісаны ў 1831), І.Гётэ. У 1830 вярнуўся на радзіму. У час паўстання 1830—31 быў адным з кіраўнікоў легіёна Літвы, Валыні, Падоліі і Украіны. У 1832 сасланы ў Сібір. Падарожнічаў па Сібіры, Казахстане, Кіргізіі. У 1856 вярнуўся на Беларусь у маёнтак бацькоў Дзягільна (Дзяржынскі раён). У студэнцкія гады пісаў на польскай мове сентыментальныя вершы (дума «Мелітон і Эвеліна», 1821), у ссылцы перакладаў «Гісторыю заваявання Англіі нарманамі» А.Цьера. Яго падарожныя нататкі сабраў брат Яўстафій, выдаў Ф.Вратноўскі пад назвай «Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў» (кн. 1—2, Парыж, 1861). У дзённікавых запісах і лістах раскрыўся яго талент апавядальніка і сумленнага даследчыка. У іх апісаў побыт казахаў, іх духоўную культуру, выступаў як абаронца казахаў ад самавольства баяў і царскай адміністрацыі. Я. паслужыў прататыпам рэвалюцыянера Адольфа ў паэме Міцкевіча «Дзяды».

*Тв.*: Рус. пер. — Дневники и письма из путешествия по казахским степям. Алма-Ата, 1966.

*Літ.*: Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 138—143.

## ЯНУШКЕВІЧ (Januszkiewicz) Яўстафій (26.11.1805—1874)

Кнігавыдавец, публіцыст, мемуарыст. Нарадзіўся ў в. Прусы Салігорскага раёна. Брат А.*Янушкевіча*. Вучыўся ў дамініканскай школе ў Нясвіжы, скончыў Віленскі універсітэт. З 1826 адвакат, сакратар камісіі па спадчыне Радзівілаў, уваходзіў у склад рэдакцыі часопіса «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»). Адзін з арганізатараў паўстання 1830—31 на тэрыторыі Ашмянскага, Слуцкага і Навагрудскага паветаў. Пасля задушэння паўстання эмігрыраваў у Францыю, дзе ўдзельнічаў у заснаванні польскай эміграцкай прэсы ў Парыжы, у выданні твораў А.*Міцкевіча*, З.Красінскага, Ю.Славацкага, І.*Лялевеля*, рабіў выпіскі для лекцый Міцкевіча па гісторыі славянскіх літаратур, стэнаграфаваў іх. Аўтар «Успамінаў з часу аблогі Парыжа» (1871), «Нататак і ўспамінаў пра жыццё А.Міцкевіча» (1859), «Апошніх хвілін Іаахіма Лялевеля» (1861). Славацкі прысвяціў яму вершы «З ліста да кнігара», «Мой Яўстаф».

## ЯНЧУК Мікалай Андрэевіч [17(29).11.1859—6.12.1921]



Вучоны-славіст (этнограф, фалькларыст, антраполаг, літаратуразнавец), пісьменнік. Нарадзіўся ў в. Корніца Седлецкага ваяводства (Польшча). У 1885 скончыў Маскоўскі універсітэт і працаваў настаўнікам. З 1892 памочнік бібліятэкара Румянцаўскага музея, захавальнік Дашкаўскага этнаграфічнага музея ў Маскве. У 1889—1903 сакратар аддзела этнаграфіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім універсітэце, заснавальнік і кіраўнік (з 1901) музычна-этнаграфічнай камісіі пры

аддзеле. Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў часопіса «Этнографическое обозрение», дзе друкавалася шмат беларускіх матэрыялаў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі чытаў курс беларускай і ўкраінскай літаратур у Маскоўскім універсітэце, удзельнічаў у рабоце камісіі па арганізацыі Беларускага універсітэта, у 1921 прафесар кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі БДУ. Вывучаў побыт і народную творчасць усходніх славян. Адзін з першых на навуковай аснове збіраў і вывучаў беларускі музычны фальклор і даў аб'ектыўную эстэтычную ацэнку беларускаму песеннаму меласу. У этнаграфічна-фальклорнай працы «Маларускае вяселле ў Корніцкім прыходзе Канстанцінаўскага павета Седлецкай губерні» (1886) шмат звестак для параўнальнага вывучэння побыту беларусаў і ўкраінцаў, апісанні вясельных абрадаў нярэдка суправаджаюцца тлумачэннямі. У працу ўключана 35 запісаў мелодый народных песень (9 вясельных, астатнія лірычныя, жартоўныя). У каментарыях да іх прыведзены звесткі па матэрыяльнай культуры жыхароў Корніцы. У 1886 Я. наладзіў экспедыцыю ў Мінскую губ. для этнаграфічных і антрапалагічных даследаванняў. Па матэрыялах экспедыцыі напісаў працу «Па Мінскай губерні» (1889), дзе адлюстраваў жыццё беларусаў, іх духоўную культуру (пераважна вераванні), у дадатку змясціў 158 беларускіх народных песень (пераважна абрадавых) і 33 нотныя запісы песенных мелодый. Вёў арганізацыйную работу па вывучэнні Беларусі, перапісваўся з многімі беларусазнаўцамі. Разам з М.М.Харузіным склаў «Праграму для збірання этнаграфічных звестак» (1887), якая складалася з 10 раздзелаў і ахоплівала найважнейшыя галіны побыту народа, яго абрады, звычаі, вераванні і забабоны. У «Этнаграфічным нарысе Беларусі» (1918—20) зрабіў выснову, што беларускі народ па сваёй культуры стаіць на адным узроўні з суседнімі народамі і мае права на самастойнае існаванне. Аўтар прац па антрапалогіі (сярод іх «Некаторыя даныя да пытання аб антрапалагічным тыпе беларусаў», 1890), літаратуразнаўстве, мастацкім перакладзе, апрацовак народных песень, у т.л. беларускіх, арыгінальных музычных твораў. Літаратурныя творы пісаў на рускай мове і палескай гаворцы.

*Тв.*: А.К.Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; О мнимонародных белорусских песнях исторического и мифологического содержания // Сборник Харьковского историко-филологического общества. Харьков, 1909. Т. 8; у кн.: Александровіч С.Х., Александровіч В.С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытыч. матэрыялаў. Мн., 1978.

*Літ.*: Шаров Н.В. Н.А.Янчук // Труды БГУ. 1922. №2—3; Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; Петровская Г.А. Не погасла звезда: Жизненный и творческий путь Н.А.Янчука. Мн., 1987; Нісневіч С. Да гісторыі збірання, вывучэння і выкарыстання беларускіх народных напеваў // Музыка нашых дзён. Мн., 1971.

## **ЯРАШЭВІЧ** Іосіф Бенядзіктавіч (1793—1.2.1860)

Беларускі і польскі гісторык, этнограф, юрыст. Нарадзіўся ў г.Бельск-Падляскі Беластоцкага ваяводства. У 1815 скончыў Віленскі універсітэт. У 1815—26 выкладаў у Крамянецкім ліцэі (Цярнопальская вобл.). Прафесар права Віленскага універсітэта (1826—31). Пісаў на польскай мове. Друкаваўся ў часопісе «Athenaeum» («Атэнэум»), «Pamiętnik Warszawski» («Варшаўскі дзённік») і інш. Аўтар навуковых прац «Пра ўплыў хрысціянскай рэлігіі на цывілізацыю славян» (1826), «Пра стан цывілізацыі Літвы перад і пасля заснавання акадэміі», «Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі ад найстаражытнейшых часоў да канца XVIII стагоддзя» (т. 1—3, 1844—45), «Матэрыялы да статыстыкі і этнаграфіі Гродзенскай губерні: Бельскі павет» (1848), публікацыі пра Бельск, Драгічын, Супрасль і інш. Апіраючыся на звесткі М.*Стрыйкоўскага*, А.С.*Нарушэвіча*, Т.*Нарбута*, вывучаў паходжанне плямён, што жылі на Беларусі, фальклор і этнаграфію беларускага насельніцтва. У сваіх працах часта зыходзіў з паланізатарскіх пазіцый.

*Г.А.Каханоўскі.*

## **ЯСЕВІЧ** Казімір Антонавіч (1813—88)

Мастак, педагог. Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і ў Віленскай губ. З дзяцінства захапіўся жывапісам, зай-

маўся ім пад кіраўніцтвам вопытнага настаўніка, а дасягнуўшы 18-гадовага ўзросту, сам быў прызначаны выкладчыкам малявання ў губернскай гімназіі і гарадскім вучылішчы ў Магілёве. У 1833 паступіў у Акадэмію мастацтваў, якую скончыў у 1836 са званнем вольнага мастака, а за натурны партрэт каноніка Гінцілы адзначаны сярэбраным медалём. У 1859 за мастацкія творы, шматгадовую працу ў галіне жывапісу і выхаванне шэрага мастакоў атрымаў званне акадэміка. Нягледзячы на недастатковую матэрыяльную забяспечанасць сваёй вялікай сям'і, Я. на працягу 30 гадоў бясплатна здаваў сваю кватэру для заняткаў вучылішчу жывапісу, а таксама ўтрымліваў за свой кошт 3 вучняў акадэміі. Сам Я. выкладаў маляванне ў дзвюх пецярбургскіх гімназіях. Акрамя партрэтнага жывапісу Я. займаўся рэстаўрацыяй старых карцін (аднаўляў карціны ў Эрмітажы, у палацах членаў царскай сям'і, у галерэях вядомых калекцыянераў), маляваў абразы для храмаў. З яго твораў найбольш адметныя карціны «Тая, што напалохала птушак», «Марскі бераг» і «Ноч пры месячным асвятленні». Апошнія гады свайго жыцця адышоў ад заняткаў мастацтвам. Памёр у вялікай нястачы.

## ЯСІНСКІ Юзаф (2-я палова 18 ст. — 1833)

Медык, антраполаг, асветнік-гуманіст. Паходзіў з Беларусі. Скончыў медыцынскую школу ў Гродне, потым Віленскі універсітэт (1789). Меў навуковую ступень доктара філасофіі, медыцыны і хірургіі. Працаваў урачом у магнатаў Абуховічаў, пасля ў Навагрудку, дзе і памёр. Я. аўтар кнігі «Антрапалогія пра фізічныя і маральныя ўласцівасці чалавека» (напісана ў 1810, выдадзена ў 1817 у Вільні). Ён адзін з першых на Беларусі выклаў антрапалогію як вучэнне пра чалавека цалкам з выкарыстаннем анатоміі, фізіялогіі, медыцыны, філасофіі. Быў прыхільнікам віленскай эвалюцыйнай школы і лічыў, што фізічнае і біялагічнае існаванне чалавека падпарадкавана натуральна-арганічнаму цыклу. Пры вытлумачэнні эвалюцыі ўсяго жывога застаўся на пазіцыі паміж дэізмам і прыродазнаўчым навуковым матэрыялізмам. У трактоўцы праблемы грамадства і маралі ўспрыняў шэраг ідэй Асветніцтва, у тым ліку дагаворную тэорыю паходжання дзяржавы, натуральнае права і інш. Паводле яго сцвярджэння, маральныя, грамадзянскія і палітычныя законы вынікаюць з натуральнага права. Мараль разглядаў як валявую сферу. Таму дабро, зробленае пад прымусам, ён не адносіў да ісцінна маральнага. Найвышэйшым кантралёрам маралі лічыў Бога, без ідэй якога немагчыма сумленне. Веды таксама не гарантуюць выключэння зла, маральнасць падтрымлівае толькі наяўнасць вышэйшага суддзі — Бога. Услед за Ж.-Ж. Русо ён адрозніваў звычаі ад законаў (першыя ўласцівы нецывілізаваным народам, другія — асветным) і пагаджаўся з Мантэск'е, што законы больш уласцівы сферы дзяржаўнай і грамадскай, а звычаі — асобаснай. Імкненне людзей да супрацоўніцтва і сумеснага жыцця Я. тлумачыў не толькі натуральным жаданнем цесных сувязей, але і страхам перад сіламі знішчэння, бо страх заўчаснай смерці ўласцівы ім таксама, як і вышэйшым жывёлам.

*Літ.*: Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977. С. 136—138.

## ЯСТРЖЭМБСКІ Іван Фердынанд Львовіч (1814 — пасля 1883)

Эканаміст, рэвалюцыянер-петрашэвец. Паходзіў з дваран Мінскай губ. Скончыў Харкаўскі універсітэт (1841), выкладаў палітэканомію і статыстыку ў Інстытуце корпуса інжынераў шляхоў зносін і Тэхналагічным інстытуце ў Пецярбургу. З восені 1848 удзельнік гуртка петрашэўцаў — групы маладых утапічных сацыялістаў і дэмакратаў, якія імкнуліся да перабудовы самаўладнай і прыгонніцкай Расіі. На сходах гуртка Я. чытаў лекцыі па палітэканоміі, у якіх крытыкаваў антынавуковую тэорыю народанасельніцтва Т.Р.Мальтуса, прапагандаваў ідэі Ш.Фур'е і іншых перадавых заходнееўрапейскіх эканамістаў. На фарміраванне яго філасофскіх поглядаў уплываў А.І.Герцэн. У галіне палітэканоміі па асобных палажэннях ён

прытрымліваўся тэорыі Ф.Ж.Б.Сея, лічачы зямлю, працу і капітал крыніцамі багацця і вартасці. Крытыкаваў польскага эканаміста Цяшкоўскага за яго сцвярджэнне, быццам крэдыт можа прынесці палёгку і ўратаванне ад нарастаючага паўперызму народа. Стаяў за свабодны гандаль, падтрымліваючы ў гэтым А.Сміта і Д.Рыкардо. Прызнаваў уплыў прамысловасці на рост дабрабыту і моцы дзяржавы, аднак галоўным адмоўным вынікам прамысловага развіцця лічыў утварэнне пралетарыяту. Менавіта паўперызм, на яго думку, абумовіў пашырэнне сацыялістычных і камуністычных ідэй на Захадзе. Паводле Я., «вопыт і тэорыя даказалі немагчымасць перамагчы паўперызм рознымі мерамі, якія прапаноўвалі палітыка-эканомы: грамадская дабрачыннасць, ашчадныя касы, тэхнічная адукацыя». Да сацыялістаў Я. адносіў тых, хто прапанаваў палепшыць становішча працоўных без ліквідацыі прыватнай уласнасці. Ён пісаў пра неабходнасць замены свабоднай канкурэнцыі салідарнасцю інтарэсаў розных класаў і ўсталявання гармоніі паміж імі, крытыкаваў П.Прудона за яго патрабаванне ліквідаваць зямельную ўласнасць і аддаваў перавагу вучэнню Фур'е, які прыватную ўласнасць пакідаў у недатыкальнасці. Як і большасць петрашэўцаў, ён адхіляў сістэму камунізму, які адмаўляў усякую ўласнасць. Разам з тым Я. крытыкаваў капіталізм за тое, што ён выклікае збядненне пэўных слаёў насельніцтва. Наконт тэорыі народанасельніцтва Мальтуса выказаў думку, што сродкі, прапанаваныя для вырашэння гэтай праблемы, бесчалавечныя. Наогул жа эканамічныя патрабаванні Я. не выходзілі за межы задач буржуазнага развіцця Расіі і адлюстроўвалі асаблівасць расійскага вызваленчага руху, калі ва ўмовах абвастрэння крызісу прыгонніцтва дваранская рэвалюцыйнасць саступіла месца разначынскай.

2.5.1848 Я. быў арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. 3.1.1850 прыгавораны да смяротнай кары, але ў той жа дзень паводле канфірмацыі на Сямёнаўскім пляцы ў Пецярбургу пакаранне заменена на 6 гадоў катаргі. Сасланы ў Табольскую губ. У 1857 яму дазволена вярнуцца на радзіму, але да 1872 быў пад наглядам паліцыі. У 2-й палове 1850-х гадоў як інжынер удзельнічаў у будаўніцтве шашы Масква—Варшава на тэрыторыі Магілёўскай губ. Аўтар мемуараў.

*Тв.:* Мемуар петрашевца // Минувшие оды. 1908. №1.

*Літ.:* Бусько В.Н. Экономическая мысль Белоруссии середины XIX — начала XX в.: Очерки. Мн., 1990. С. 15—16.



*Санкт-Пецярбург. Петрапаўлаўская крэпасць.*

## ЯСТРЭБСКІ

(Я с т р ж э м б с к і) Мікалай Фёдаравіч (10.7.1808—74)

Інжынер, педагог, гісторык навукі і тэхнікі. Нарадзіўся ў Рэчыцкім павеце ў сям'і межавога суддзі. Пачатковае выхаванне і адукацыю атрымаў дома. У 1830 скончыў матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Вырашыўшы прысвяціць сваё жыццё інжынернай дзейнасці, ён паступіў у Пецярбургскі інстытут корпуса інжынераў шляхоў зносін. Па заканчэнні ў 1832 інстытута Я. пакінуты ў ім у якасці рэпетытара, а ў 1837 прызначаны памочнікам прафесара на кафедры будаўніцтва і практычнай механікі. Адначасова ён выкладаў практычную механіку ў Тэхналагічным інстытуце і механіку ў 2-м кадэцкім корпусе, быў актыўным супрацоўнікам «Журнала Главного управления путей сообщения и публичных зданий», у якім змясціў шэраг навуковых артыкулаў і перакладаў. Апублікаваў укладзены ім «Курс практычнай механікі» (т. 1—2, 1837—38), за які быў адзначаны Дзямідаўскай прэміяй. У 1843 Я. прызначаны сакратаром канферэнцыі інстытута шляхоў зносін, памочнікам рэдактара «Журнала... путей сообщения...», а ў 1844 — прафесарам механікі і складання заводскіх праектаў. Пасля 15-гадовай службы пры інстытуце шляхоў зносін Я. прызначаны начальнікам Магілёўскай акругі шляхоў зносін, дзе праслужыў 14 гадоў. За гэты час пад яго кіраўніцтвам была добраўпарадкавана Кіеўская шаша да Магілёва і ад Магілёва да Бабруйска, праведзена шаша ад Магілёва да Доўска, перабудавана Бабруйская плаціна, распрацаваны праекты мастоў цераз Заходнюю Дзвіну ў Віцебску і цераз Дняпро ў Магілёве, у Магілёве пабудаваны паравы млын. Пасяліўшыся канчаткова ў Магілёве, Я. загадваў гэтым млыном. Незадоўга да смерці выдаў новую працу «Галоўныя асновы двайной бухгалтэрыі». Быў вялікім аматарам мастацкай літаратуры і гарачым прыхільнікам літаратурнага таленту М.В.Гогаля. Памёр і пахаваны ў Магілёве.

*Літ.*: Г у с а к А.А. Практычная механіка і «Мёртвыя душы»: Мікалай Ястрэбскі. Мн., 1992.

## ЯЦКО Мікалай Геранімавіч (1855—?)

Беларускі этнограф, фалькларыст. Нарадзіўся на Бабруйшчыне, вучыўся ў Бабруйскай прагімназіі, Слуцкай класічнай гімназіі (з 1872). Працаваў настаўнікам у мяст. Колбча Ігуменскага павета (1887—92), быў карэспандэнтам П.В.*Шэйна*. У яго «Матэрыялах для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» змясціў артыкулы «Вярцеп на калядныя святкі», «Хаджэнне са звяздою перад новым годам», «Знахары», «Супраць залому», фальклорныя творы, запісаныя ў Рэчыцкім і Ігуменскім пав., некаторыя міфічныя казкі і казкі пра жывёл, шмат замоў, гульняў і інш.

*А.Ю.Лозка.*

## ЯЦКОЎСКІ Ігнат (?—1873)

Пісьменнік, мемуарыст; удзельнік паўстання 1830—31. Нарадзіўся ў Навагрудку і працаваў там адвакатам. Пасля задушэння паўстання з 1831 знаходзіўся ў эміграцыі ў Лондане, удзельнічаў у польскіх эмігранцкіх арганізацыях. Быў кампаньёнам А.*Рыпінскага* па выдавецкай справе. У 1857 вярнуўся на радзіму, выступаў у друку з публіцыстычнымі творамі, успамінамі, вершамі. Аўтар публіцыстычных кніг «Палітычныя творы» (Лондан, 1853), «Трохгадовае знаходжанне на Усходзе» (Лондан, 1857). У кнізе мемуараў «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (выйшла ананімна, 1-е выд. Лондан, 1854; 2-е выд. Познань, 1858) паказаны побыт і звычаі жыхароў Беларусі, расказана пра хваляванне сялян у мястэчку Крошын Навагрудскага павета ў 1828. Гэта кніга — адна з асноўных крыніц звестак пра беларускага паэта Паўлюка *Багрыма* і яго творчасць. У ёй Я. упершыню апублікаваў верш Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...».

*Літ.*: Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 186—191.

*Г.В.Кісялёў.*

# УРЫЎКІ І ФРАГМЕНТЫ З ТВОРАЎ МЫСЛІЦЕЛЯЎ І АСВЕТНІКАЎ



## АДАМ РЭЙНАЛЬД

### СТАТУТ СЛУЦКАЙ ШКОЛЫ **СА «ЗВАРОТА ДА ЧЫТАЧА»**

...У гэтай школы ёсць усё, што неабходна для дасягнення найвышэйшай ступені ўдасканалення. Тое, што іншым ліцэям здабыло славу і значэнне, ёсць у дастатку і ў нас. Чысціня неба, урадлівасць глебы, багацце лясоў, садоў, рэк, лугоў у гэтым ласкавым клімаце настолькі вялікія, што можна падумаць, быццам шчодрымі рукамі самой прыроды, музамі і грацыямі ўсё гэта ад самага пачатку было выхавана і ўпрыгожана. Да гэтага трэба дадаць таленавітасць жыхароў..., якая ні ў чым не саступае харастау і заміласанню мясцовасці. Вельмі чалавечныя іх адносіны да чужаземцаў... і яны гатовы ў любы час і ў любым месцы прыйсці на дапамогу як вучням, так і настаўнікам. Гэтую гуманнасць насельніцтва яшчэ больш дапаўняюць іншыя незлічоныя годнасці, якімі добрае неба абдарыла гэты край. У такіх умовах лёгка развіваюцца вялікія таленты, а ім часцей за ўсё спадарожнічаюць бязлітасныя багіні Галеча або Беднасць...

У школе ажыццяўляецца рух наперад не толькі для знешніх даброт жыцця, але, галоўным чынам, да ўнутранага, духоўнага развіцця. Да гэтага заклікае стараннасць вучоных: яны трывала стаяць на дазорнай школьнай вежы, пастаянна руплівa і зорка сочаць за бестурботнай і санлівай моладдзю, клапоцячыся аб яе карысці... Прыходзьце ж усе, каму дарагая радзіма, хто правільна ацэньвае мэтанакіраванасць сваіх учынкаў! Нікому не закрыты шлях! Адчынены дзверы, што вядуць да нашых грацый і муз, для ўсіх сумленных і шчырых людзей. Узрост, становішча, веравызнанне не маюць для нас ніякай розніцы. Месца на гэтых школьных зэдлях прадстаўляецца бедняку не менш, чым Крэзу, католіку не менш, чым прыхільніку Рэфармацыі. І ўрэшце,

хай нікога не адштурхне ад нашага парога разыходжанне ў рэлігіі, хай не адарве ад валодання даступным шчасцем з-за беспадстаўнага страху... Мы ўжо даўно навучаны вопытам, што рэлігія — прадмет пераканання, а не насілля, і што замахваюцца на нябесныя замкі з безразважнай дзёрзкасцю тыя, хто распаўсюджвае зман сваёй веры на свядомасць і на закон...

*Друкуецца па кн.: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 95 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# АЛІЗАРОЎСКІ ААРОН

## ПРА ПАЛІТЫЧНУЮ СУПОЛЬНАСЦЬ ЛЮДЗЕЙ

### Кніга ІІ. Грамадства

### Глава VII. Аб законах

Закон, як яго вызначае Саламон, ёсць святло і шлях жыцця.

1. Як кажа святы Фама (Аквінскі), гэта норма і мера, якімі або кіруюцца, або іх не зневажаюць, а таксама прадпісанне практычнага розуму да кіраўніцтва дзеяннямі людзей.

2. Як кажуць іншыя, закон з'яўляецца руплiўцам найвышэйшай мудрасці, ахоўнікам сумленнасці, крыніцай выхавання, тварцом правасуддзя, вынаходцам і знаўцам сумленных нораваў, правіцелем гарадоў, вестуном справядлівасці, настаўнікам жыцця і душой усёй дзяржавы. Усе кнігі мудрацоў усхваляюць дзяржаўныя законы, калі яны справядлівыя і адпавядаюць законам прыроды і найвышэйшага розуму, калі яны нешматлікія і ясныя для разумення. Каб ажыццяўлялася іх прызначэнне, якім з'яўляецца дабрачыннасць дзяржаў, законы недастаткова запісаць на паперы і ў кнігах, іх трэба выконваць на практыцы.

Далей (як кажуць юрысты) пад пастаянным кантролем павінны знаходзіцца ўсе законы наогул і асабліва тыя, парушэнне якіх прычыняе дзяржаве самую вялікую шкоду...

*Друкуецца па кн.: Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 131—139 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# БОХВІЦ ФЛАРЫЯН

## З КНІГІ «ДУМКІ АБ ВЫХАВАННІ ЧАЛАВЕКА»

Выхаванне павінна фарміраваць маладых людзей для таго, каб у будучым яны сталі грамадзянамі, здольнымі да розных відаў дзейнасці, якой будуць займацца адпаведна са сваімі прыроджанымі здольнасцямі або па збегу акалічнасцей.

Час маладосці трэба прысвяціць вучобе, фарміраванню і падрыхтоўцы сябе да заняцця пэўнага месца ў ланцугу дзеянняў, карысных грамадскаму арганізму. Вучыцца трэба не толькі ў маладосці, але і ўсё жыццё, узбагачаючы памяць і практыкуючы розум. Гэта ісціна, у якой у наш час ужо ніхто не сумняваецца, нягледзячы на лямант фанатыкаў. Аднак узнікае пытанне: чаму вучыцца, якой адукацыі прысвяціць маладосць? Адказ, прынамсі, на сённяшні дзень можна атрымаць вельмі лёгка, а менавіта: шкада маладосці на вывучэнне толькі адной чужаземшчыны, на вывучэнне толькі ўсяго французскага, вельмі яшчэ любімага, на ўрывачныя веды, нахапаныя з замежнай літаратуры, заснаванай на мастацтве расчуліць пачуцці выдуманымі вобразамі, недарэчнымі ў сваёй неадпаведнасці прыродзе і жыццю. Шкада здароўя і прыроднай сціпласці маладых людзей, страчаных на вывучэнне модных замежных танцаў і салонных манер, што выклікаюць пажадлівасць.

...Калі мяне спытаюць яшчэ раз: якім павінен быць гэты шлях? Замест адказу я б кожнаму параіў, каб ён сам шукаў адказ на гэта пытанне. Кожны хоча даведацца, што яму трэба рабіць на гэтым свеце, каб адпавядаць мэце свайго існавання. Кожны жадае распаўсюджваць веды як мага шырэй, пакінуць па сабе памяць у выглядзе прыгожых здзяйсненняў. Не кожны, праўда, гатовы на ахвяры ў выглядзе працы і нягод, якімі аплачваецца святло навук і маральная годнасць. Але кожны чалавек без выключэння, калі б гэта набывалася лёгка, хацеў бы мець вялікія веды і добрае імя.

Такім чынам, гэта паўсюднае імкненне і ёсць адказ: ... трэба вучыцца таму, што сапраўды развівае нашы веды, што робіць нас карыснымі грамадству на розных пасадах і ў розных жыццёвых абставінах; нам трэба ву-

чыцца таму, што цікавіць чалавецтва, што растлумачвае сэнс яго існавання.

*Друкуецца па кн.: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 170—71. (Пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі.)*

# БУДНЫ СЫМОН

## АБ СВЕЦКАЙ УЛАДЗЕ З ПАСВЯЧЭННЯ (урывак)

Перша за ўсё трэба асцерагацца, каб зайздрасць, сварка або якое-небудзь іншае пачуццё не давялі нас да запальчывасці, бо слушная тая думка, хоць і філасофская, што пачуцці шкодзяць разважанню (affectus officiunt indicio). Такія пачуцці ўсе мы ганьбім, але сказаць па праўдзе, рэдка хто іх можа стрымліваць. Лютэр і яго прыхільнікі ганьбілі іх у папы і яго ліслівцаў, але самі паводзілі сябе не лепш супраць Цвінглі, Эхалампадыуса і яго вучняў, калі абзывалі іх прыналежнікамі (sacramentazzami), летуценнікамі-утапістамі (szwermerami), асламі, сабакамі і іншымі непрыстойнымі словамі, і, што яшчэ горш, Лютэр асудзіў іх як ерэтыкоў. Хоць яны па ўзаемнай згодзе на сінодах некалькі разоў выказваліся за тое, каб лічыць адзін аднаго братамі і гэта пісьмова пацвярджалі, аднак гэтыя абяцанні і пісанні доўга не пратрымаліся: у хуткім часе Лютэр са сваімі прыхільнікамі асудзіў гэтых набожных людзей як нявартых звання братоў. Так, у спрэчцы непрыстойна паступіў гэты святы муж, які валодаў ад Бога такім вялікім дараваннем, што асабіста выкрыў папу і яго памылкі.

... А што рабілі мілыя цвінгліяне? Маючы рацыю ў сваёй спрэчцы з Лютэрам і яго вучнямі, яны паводзілі сябе прыстойна, ціха, цярпліва да таго часу, пакуль не распачалі спрэчкі з катабаптыстамі (catobaptistos) адносна другога прычасця, выявіўшы пры гэтым яшчэ большую жорсткасць. Апошнія ў выніку сваёй некультурнасці (хоць я іх не ва ўсім апраўдваю) не змаглі падмацаваць свае погляды Свяшчэнным пісаннем; цвінгліяне ж сталі прыносіць іх у ахвяру Нептуну і распраўляцца з імі шляхам розных відаў пакарання. Такім жа ў далейшым аказаўся і Кальвін, муж высокаадукаваны і ў асабістым жыцці вельмі сціплы. Ён ганьбіў

жорсткасць як папы, так і лютэран, але сам не быў пазбаўлены таго, за што ён ганьбіў іншых: Мігеля Сервета ён асудзіў як ерэтыка за тое, што той пісаў і выступаў супраць траістасці Бога, і падбухторваў жэнеўскія ўлады да таго, каб яго спаліць. Прыхільнікі Сервета былі злосныя на Кальвіна за гэта (сапраўды ім не было за што яго дзякаваць) і празвалі яго другім папам. Але самі яны, як толькі ўсемагутны Бог даў ім магчымасць умацавацца праз нейкага Паруту ў Маравіі, нашага любага Гжэгажа Паўла ў Польшчы і Францыска Давіда ў Венгрыі, узяліся за тое самае, у чым папракалі Кальвіна. Яны накінуліся на нас і на навуку, якую мы выкарыстоўваем, са з'едлівымі пісаннямі і нават асудзілі нас як ерэтыкоў. Калі б яны змаглі, то нас зусім бы зжылі з гэтага свету і выгналі з гэтай дзяржавы. Калі хто сумняваецца, хай чытае кнігі Пятра з Ганёндза, якія ён выдаў супраць нас напярэдадні сваёй смерці (дзе нас называе эбіянітамі), і там пабачыць, што я не памыляюся і не паклёпнічаю.

... Трэба, каб у нас ужо была свабода весці гутарку пра боскія справы не толькі вучоным, але і простым людзям, не толькі настаўнікам, але і вучням, не толькі пастырам, але і авечкам або слухачам, не толькі багатым, але і бедным — абы было правільна, каб ва ўсіх нашых царкоўных зборах (zborzech) была свабода размаўляць пра святыя справы, пра справы выратавання, веданне якіх неабходна ўсім вернікам. А была ж некалі такая свабода ў той ізраільскай абшчыны, а затым і ў хрысціянскай.

... Дзе няма гэтай свабоды, там яшчэ пануе калі не папства, то папскае рабства.

... Паглядзім, ці ёсць гэта свабода ў нас у абшчыне. Калі па праўдзе, то я яе зусім не бачу. Гэта не патрабуе доказаў і добра відаць на прыкладзе той свабоды, якую мы маем па пытанні ўлады (urzebu): можа вернік займаць пасаду ці не. Пасля таго, як двое або трое паміж сабой вырашылі, што на падставе кніг Пятра Гёзкі з Ганёндза гэта недапушчальна, яны ўжо не прыслухоўваюцца ні да чыіх парад (хай будзе гэта прарок або апостал) і не дапускаюць да прычасця тых, хто разумее інакш. Яны выганяюць іх са сваіх сходаў, не даказаўшы памылковасці поглядаў (прыхільнікаў свецкай улады).

*Друкуецца па кн.: Из истории философской и об-*

*шчественно-палітычнай мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 69—70 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

## ВОЛАН

### ПРА ГАСУДАРА І ЎЛАСЦІВЫЯ ЯМУ ДАБРАЧЫННАСЦІ

#### Глава V

#### Гасудару больш за ўсё патрэбна справядлівасць — самая прыгожая з усіх дабрачыннасцей

Ва ўсіх сваіх дзеяннях гасудар павінен паводзіць сябе так, каб усё жыццё было зладжанай гармоніяй дабрачыннасцяў. І мне здаецца, што справядлівасці тут належыць першае месца. Гэта ж таго, хто ёю надзелены, менавіта таму называюць добрым і прыстойным чалавекам. Справядлівасць зводзіцца галоўным чынам да таго, каб ніхто не цярпеў шкоды, а, наадварот, той, хто мае патрэбу ў дапамозе, хутка атрымаў яе... Гэта чалавечая супольнасць, мір і спакой паміж людзьмі будуць захаваны максімальна, калі кожны атрымае магчымасць быць цэлым і здаровым, і шчасце адных не будзе будавацца на няшчасці другіх. Толькі тыя, хто ўсяляк імкнецца да назапашвання багаццяў, хто траціць іх на ўзвядзенне дарагіх пабудоў або на шыкоўнае жыццё з усімі задавальненнямі і выхвальны паказ свай раскошы, не так ужо лёгка могуць стрымацца ад нанясення крыўды і часта запускаюць свае рукі ў маёмасць тых, хто ім падпарадкоўваецца. Прагнасць, што імкнецца атрымаць як мага больш, цягне сляпыя чалавечыя розумы на чужое дабро і ператварае тое, што набыта працай іншых, у сваю ўласнасць. Урэшце чалавек, забыўшыся пра ўсякую чалавечнасць, вырараджаецца ў дзікага звера і люта рве чалавечую супольнасць, у якой усе ўзаемазвязаны. Ад гэтакай чумы гасудару трэба быць як мага далей. І ён павінен не толькі стрымліваць сябе ад нанясення крыўды іншым, але таксама стрымліваць прагнасць сваіх пракуратараў, якія кіруюць яго маёмасцю і вядуць яго справы. Дык жа той, хто можа, але не перашкаджае здзяйсненню несправядлівасці, ён віна-

ваты ў такой жа ступені, як бы сам рабаваў маёмасць грамадзян і спусташаў іх багацце.

... Гасудару не трэба паддавацца пачуццям любві або нянавісці да каго-небудзь, калі неабходна дзейнічаць хутка і настойліва, каб ратаваць больш слабых ад несправядлівасці. ... Ён павінен усведамляць, што народжаны не для ўласнага ўзбагачэння. Усе багацці, якімі ён распараджаецца, яму належыць накіроўваць на карысць грамадства і дзяржавы. Большай пахвалы ў справядлівасці годны той, хто захоўвае непарушнасць устанаўленняў і законаў краіны, і, паколькі ў іх закладзены даброты дзяржавы, не дазваляе ніякаму ліхадзею парушаць іх. ... Але перш за ўсё трэба ахоўваць тыя законы, якія забяспечваюць у дзяржаве ўсеагульны спакой, замацаваны гэтымі законамі, яе ніткамі, і ўсімі ўхвалены дзеля таго, каб кожны жыў ціха і мірна, без усялякага страху перад небяспекай. Бо там, дзе адпушчаны цуглі для нястрымных людзей настолькі, што адны беспакарана ўчыняюць над другімі ўсё, што ім уздумаецца, — то гэта ўжо не дзяржава, не грамадства, а зграя разбойнікаў ці нейкая жывадзёрня, дзе кожны грызе кожнага.

... Не менш ён абавязаны клапаціцца і аб тым, каб сярод людзей захоўваўся давер, які некаторыя мудрацы зусім правільна называлі фундаментам справядлівасці. Ніколі не зможа ўсталявацца трывалы мір і трывалае грамадства сярод тых людзей, якія не прытрымліваюцца пастаянства ў сваіх словах і справах і, старанна працуючы языком, зусім не клапоцяцца, што да яго патрэбна далучыць яшчэ і давер.

*Друкуецца па кн.: Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 49—51 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

## ЗАЛУСКІ ЛУКА

### АГУЛЬНАЯ ФІЛАСОФІЯ

#### Частка першая. Этыка

#### Пра шчасце

3. Акадэмікі і перыпатэтыкі мяркуюць, што адны даброты ўласцівы душы (гэта мастацтва,

навукі, мудрасць і іншыя дабрачыннасці), другія — целу (гэта здароўе, сіла, прыгажосць), іншыя ж — вонкавыя (гэта багацце, слава, пашана, улада). Аднак больш суровая Стоя не дапускае, каб даброты цела і вонкавыя дабрачыннасці ўваходзілі ў гэты пералік. Кіраўнік Стоі (Зянон з Кіціёна) зусім справядліва гневаецца на стваральніка ліцэя (Арыстоцеля Стагірыта) за тое, што ён лічыў, нібыта адсутнасць знатнасці, багацця, нашчадкаў, высакароднага паходжання і прыгажосці шкодзіць шчасцю, і што не можа быць шчаслівым той, хто брыдкі з твару, невысакародны, адзінокі і бяздзетны. Наўрад ці такія меркаванні можна лічыць велікадушнымі і мужнымі, якімі б ісціннымі яны ні былі. Абыякавым я хутчэй бы назваў усё гэта, а не дабротамі. Адны з іх маюць перавагу і высокую каштоўнасць, як, напрыклад, разважнасць розуму; другія ж пазбаўлены каштоўнасці, як тупасць і хваравітасць; іншыя ж ні тое ні другое, і іх не павялічыш і не зменшыш, як, напрыклад, паходку.

4. Звычайна прынята падзяляць даброты на ганаровыя, карысныя і прыемныя. Яны павінны быць падзелены тройчы, каб першыя былі тыя, на што накіравана жаданне, быццам да мяжы, якой стане жаданая рэч сама па сабе — гэтыя мы называем ганаровымі. Другімі ж будуць тыя, што выступаюць як бы сродкам, дзякуючы чаму дасягаецца нешта — гэтыя мы называем карыснымі. І ўрэшце, трэцімі будзе тое, што накіроўвае рух; гэткімі з'яўляюцца спакой і задавальненне, якія настаюць пасля дасягнення мэты; такія даброты называюцца прыемнымі.

5. Даброты і выбраная мэта — матэрыяльна або фундаментальна для тварэння адно і тое ж. Бо тое не з'яўляецца дабротамі, што не мяркуецца як мэта хоць бы атрыбутыўна. Таму сродкі ні ў якой меры не з'яўляюцца мэтай, але існуюць дзеля мэты, якой будзе шчасце чалавека як яго найвышэйшая асалода і канчатковая мэта. У тым жа, што шчасце чалавека заключаецца ў дасягненні найвышэйшай асалоды, ніхто да гэтага часу не сумняваўся. Я жадаў бы, аднак, звярнуць тваю ўвагу на тое, што я тут не разважаю як філосаф і разглядаю чалавека ў тым толькі стане, які мы лічым станам чыстай прыроды (і які яму ўласцівы ад прыроды інтэлектуальнай), а не

больш высокім, пакідаючы гэты ўзвышаны стан тэалагічнаму разгляду.

6. Даброты, якія прыносяць чалавеку найвышэйшую асалоду, абавязкова павінны быць стабільнымі, яны не павінны залежаць ад зменлівага, поўнага выпадковасцей, а выпадковасці адбываюцца без папярэдняга розуму, і чалавеку трэба дабівацца сваіх даброт праз розум. Няшчасныя тыя, хто сваё шчасце давяраюць зямлі ці скарбонцы... Чалавек у значнай ступені мыслячая, а не пачуццёвая істота, і душа аб розуме чалавека сведчыць больш, чым цела; дык жа і аб прыродзе рэчы больш кажа форма, чым матэрыял. Таму хай я буду зняволеным, прыкаваны да ложка, пакутаваць ад ліхаманкі, а ўсё ж у лепшай сваёй частцы я чысты і магу быць шчаслівым...

9. Адшукванне дзяржаўных пасад вядзе цябе да ганаровых званняў, але зусім не да шчасця... Небяспечная рэч — гонар, і тым больш небяспечная, чым ён вышэй.

*Друкуецца па кн.: Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 94—95 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі)*

# ЗІЗАНІЙ СТАФАН

## «ГРАММАТІКА СЛОВЕНСКА...»

### Урывак з «Паслання старанным вучням ўсім аматарам славянскай мовы, мілагучнай і распаўсюджанай...»

Як пішуць філосафы, ва ўсякай навуцы ёсць два бакі: ведаць належнае і расказваць, гэта значыць — недастаткова толькі ведаць патрэбны прадмет, але неабходна пра яго і іншым паведамляць. Гэта і дзве місіі навукі, якія і я, займаючыся навуковай працай, лічыў вельмі неабходнымі. Перш за ўсё дзеля любві да братоў сваіх я рашыўся на справу звыш маіх сіл — зноў напісаць і выпусціць з друку першую сярод сямі навук — граматыку найласкавейшай нам славянскай мовы, добра вывучыўшы якую кожны можа ўпэўнена чытаць і без сумнення разумець кнігі на славянскай мове і правільна пісаць, паколькі яна (граматыка) ключ да разумення, яна пазбаўляе ад двухсэнсоўнасці і развейвае ўсякія сумненні і ў той жа час упрыгожвае і асвятляе чалавечы

розум. Дзякуючы ёй рыторыка і славеснасць разам з чыстай філасофіяй і прыродазнаўчым багаслоўем стварае словы, без якіх не здзейсніць належным чынам ніякай справы. Дарэчы, калі хто і чытае без ведання граматыкі, то з-за шматлікіх сумненняў, напэўна, не перакананы ў правільным разуменні. Па той жа прычыне кепска кожнаму, хто не навучыўся чытаць, бо, як піша Катон, чытаць без разумення — значыць выклікаць да сябе пагарду і кпіны, а каб не даваць для гэтага падставы, грунтоўна бярыцеся за навуку і спаборнічайце адзін з адным у дабрачыннай працы. Адкінуўшы зайздрасць і нянавісць прэч, прыхільна прыміце маю сціплую працу і, аддаўшы хвалу Богу, накіроўвайце сябе на большае...

*Друкуецца па кн.: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 108 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

## КАНІСКІ ГЕОРГІЙ

### СА «СЛОВА ДА НОВАВЫБРАНЫХ СУДДЗЯЎ»

(урывак)

З сёлетняй вясны зноў расквітнеў і наш горад Магілёў. А якой кветкай ? — Вашага сходу, высакароднае спадарства беларускае. І вясна гэтая тым нам шчаслівая, што вяртаецца хіба толькі праз тры гады. За дзяржавай Польскай выбіраліся, праўда, суддзі на кожны год, але на адзін толькі трыбунал, а не ва ўсе судовыя ўстановы, ды і тыя вёсны і лета штогоднія не прыносілі грамадству пладоў, а хіба што калючкі. Трыбунал Радзівілаўскі, як самі ведаеце, быў калючкай для партыі Чартарыскіх, а Чартарыскі трыбунал узаемна калоў партыю Радзівілаў, адны другіх грызлі, ды самі ж другімі і паядаліся. Зараз хоць раз у тры гады, але ж усе ўстановы, вышэйшыя і ніжэйшыя, абнаўляюцца і адбываецца выбранне не партыі для партыі, а наогул усіх на агульную карысць. І робіцца гэта пад такім пунктам погляду, які партыі ненавідзіць не менш, чым разадранне ўласнага свайго цела, які згоду грамадства любіць і карысць яго назірае не горш, чым згоду свайго цела і душы, з пункту

гледжання, кажу, сапраўднага намесніка і прыхільніка не толькі сваёй гасударыні, але і маткі-апякункі свайго народа.

Але што тычыцца судзейскага звання, тут пладамі, якіх Бог чакае ад суддзяў, з'яўляюцца: правасуддзе, майстэрства ў законах, пастаянная руплівасць, абачлівасць і разважлівасць пры разглядзе ўсіх акалічнасцей, нягледзячы на асобу, не баяцца магутных, ненавідзець хабарніцтва, не аддаваць перавагу сваяцтву і сяброўству, веру ад праўды бы родных сясцёр не аддзяляць, грымець на льсціўцаў, адносіцца паблажліва толькі да тых, хто каецца, дзеля праўды церпіць і тое, што наступіць ад супраціўнікаў. Гэтыя плады ў суддзяў для Бога самыя салодкія і вечна пры іх павінны быць. Хай не закране іх ні чарвяк, не спячэ іх гарачыня, не замарозіць сцюжа. Яны і ў гэтым жыцці весяляць сумленне суддзі, суцяшаюць у журбе, ахаладжаюць у спёку навалы, абаграваюць у сцюжу надыходзячага канца жыцця. Але ж мы нярэдка іншыя падносім яму плады, замест спелых і салодкіх — няспелыя і горкія, замест чыстых і здаровых — гнілыя і чарвяком паточаныя, замест плода — калючкі. І што да суддзяў, дык гэта: неправасуддзе, нязнанне і неруплівасць спазнаць законы, лянота ў справе, хабарніцтва, патуранне сябрам і сваякам, раўнівасць праз веру сляпая, ад беднасці сляпая, якая не заўважае таго, што сапраўдная вера ад праўды ніколі не хоча аддзяліцца... Гэтыя і падобныя да іх плады не толькі не назапашваюць сваім стваральнікам, але ідуць побач з імі ў апошні смяротны час, цяжкі і пазбаўлены ўсякага таварыства. Слухаючы гэта, паважаныя новавыбраныя чыны, вы маеце падставу і радавацца, паколькі на вас выпаў не толькі выбар людскі, але і Божы, таму патрабуецца заўжды прыносіць Богу плод салодкі, жаданы грамадству, ды і вам самім вельмі карысны. Бойцеся замест пладоў салодкіх і спелых прыносіць гнілыя, аскоміну замест асалоды, калючкі замест пладоў, людскія слёзы замест удзячнасці, праклёны замест вечнага ўспаміну, боязь і жах смерці замест уцехі, замест удзячных прыхільнікаў пасля смерці — стваральнікаў цяганіны, замест заступнікаў на судзе — падбухторшчыкаў, замест апраўдання ад Бога — асуджэнне, замест раю на небе — агонь пякельны. І для таго, стоячы зараз як бы на скрыжаванні і маючы перад сабой дваякі шлях, прамы і крывы,

царскі і зладзейскі, закону і беззаконня, — ідзіце першым, кіруючыся сумленнем хрысціянскім, здзейсніце непапраўленае, паскорце завалакічанае, дайце кожнаму праўду і задавальненне, вытрыце слёзы ўдоў і сірот, суцешце бязвінна пакрыўджаных.

*Друкуецца па кн.: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

## СЛОВА СВЯТОГА КІРЫЛЫ АБ КНІЖНЫМ ЧЫТАННІ І НАВУЦЫ

Паслухайце, братове, і ўразумейце, дзеці, як належыць нам вераваць у адзінага Бога, у Тройцы існага, — у Бацьку і сына і Духа Святога, — і спадзявацца на яго аднаго, і павучацца, схіліўшыся да святых кніг — Евангелля, Апостала, Парамійніка, Псалтыра і іншых, а да адрочаных кніг не звяртацца ніколі. Адрочаныя ж: Астраномія і Зоралік, Соннік, Зёльнік, Чароўнік, Птушыныя Чары, Громнік, Каляднік і Жэрабнік. Бо прароцтвы лжывыя ў іх, на святых паклёпы ўзводзяцца. Кнігамі гэтымі д'яблаў прывабліваюць і гутараць з імі. У параўнанні са святымі кнігамі гэтыя маняць і невукаў дураць. А ім падобныя кнігі халдзейскія і элінскія байкі — таксама кашчунныя. А калі запытае які вар'ят, чаму святыя трымалі гэтыя кнігі, — ты адказвай: святыя мелі розум добры і некрывадушны, дадзены ім ад Бога; чытаючы гэтыя кнігі, жылі не паводле вучэння іх, а па слову прарока і апосталаў. Ерэтыкі ж і святыя кнігі чыталі, але, не маючы добрага розуму ад бога, — здрадзілі і сталі адступнікамі Божымі, і ўсмярдзела душа іх ад гэтага смуроду, зруйнаваўся прастол, на якім спачываў іхні розум, і не стала месца яму, і ён ад іх збег, а ўсяліўся ў іх д'яблавы розум. І распладзілася ў ерэтыках вучэння д'яблава, і пачалі зневажаць яны Бога, не разумеючы кніжных прыпавесцяў, не слухаючы разумных, не прымаючы правільнага вучэння і настаўнікаў ненавідзячы, якія навукай сваёй прыводзілі іх да вечнага жыцця (а той, хто не слухае і не скараецца, — ідзе да вечнай пакуты). Яшчэ раней Павел-апостал наказваў аддаць непакорлівых і непаслухмяных д'яблу на катаванне. А святыя бацькі, не здолеўшы розум вар'яцкі і непакор-

ны гэтых ерэтыкоў наставіць вучэнню кніжнаму, — не аддавалі іх сатане на пакуту, а праклінаалі, бо ведалі, што той іх не пакарае, а чакае іх вечная мука, калі будуць скаваны яны разам з д'яблам — настаўнікам іх, бо ён — непакорны настаўнік для ўсіх непакорных. Так піша і Павел да святых, епіскапаў і святароў: «Калі хто спакусіцца невуцтвам кніжным, навучыце таго; калі ж не паслухае вас і не скарыцца пасля першага і другога пакарання — хай будзе пракляты!» Калі ж зараз многія марнасловы не скараюцца і пасля сотага — што станецца з тымі! Хіба не будуць яны разам з праклятымі?

Мы ж, братове, станем пакорлівыя і паслухмяныя, будзем выконваць Боскія наказы кніг святых, у мудрасць іх паглыбляючыся; не п'яным розумам, а цвярозым ушануем жыццё з усімі ўміронымі праведнікамі дзеля Хрыста Ісуса, Госпада нашага, якому ўзносім хвалу.

## КІРЫЛЫ МАНАХА ВЕЛЬМІ КАРЫСНАЕ ПАВУЧАННЕ

Калі ўбогі прагне і жадае дзеля Хрыста, то на нябёсах ён узбагаціцца і натоліцца міласцю Божай і райскімі стравамі. Калі хто смуткуе тут, абгавораны і зняслаўлены, зганьбаваны і выгнаны за праўду, — анёлы на небе таго ўшануюць, і з праведнікамі будзе ён радавацца і весяліцца. Калі чалавека якога тут ненавідзяць і б'юць за Хрыстова імя, — таго ўзлюбіць Бацька Усявышні на небе, і будзе той радавацца з анёламі, спачываючы ў раі.

Але зацяты п'яніца і нікчэмны абжорца дарма будзе прагнуць і жадаць райскае ежы. Калі хто быў тут неміласэрны, не даў прытулку вандроўніку і не злітаваўся над бедным — той ад Бога на небе міласці не атрымае, і не прымуць анёлы яго ў Нябеснае Царства. Калі чалавек жыў тут у блудзе юрлівым — там не ўбачыць ён аблічча Божага і не атрымае Нябеснага Царства, а зрынуты будзе ў вогненную раку. Калі не пакаюцца ад усяго сэрца з верай і плачам тыя, хто ў гэтым жыцці грашыў непатрэбна, тых асудзяць няўмольна ў дзень Страшнага судзішча. Гора будзе ўсім тым, хто не трымаўся кніжнай мудрасці і наказаў духоўных бацькоў; гора тым, хто пад гульні і скокі апіваўся вінюм; гора будзе жалейнікам і гора тым, хто іх слухаў, бо ўзвялічвае д'ябла — губіць усіх хрысціян.

*Друкуецца па час.: Спадчына. 1990. 2. Пер. на бел. мову А.Мельнікава.*

# МАЙМАН САЛАМОН

## СПРОБА ТРАНСЦЭНДЭНТАЛЬНАЙ ФІЛАСОФІІ

### Заключная заўвага

1. Эмпірыкі. Яны не жадаюць apriori згаджацца ні в якім матэрыяльным або фармальным прынцыпам. Для іх усе нашы (таксама і найбольш простыя) паняцці і (найбольш агульныя) меркаванні (не выключаючы нават палажэння аб супярэчнасці) a posteriori з'яўляюцца менавіта абстрагаванымі ад пачуццёвых прадметаў і разнастайных адносін, што ўспрымаюцца намі; і як, напрыклад, чырвонае з'яўляецца абстракцыяй пачуццёвай рэчы менавіта чырвонага колеру, так і для іх адзінства — гэта абстракцыя нейкай рэчы, адзінай у сваім родзе, і да т.п. Усе рэчы, што мы называем інтэлектуальнымі, не з'яўляюцца для іх рэальнымі, а толькі лагічнымі аб'ектамі, якія ёсць не што іншае, як розныя спосабы разглядання рэчаў, дадзеныя разам з рэчамі. І сапраўды яны неабвержныя, бо як іх абвергнуць? Тым, што паказаць, быццам іх устанаўленне памылковае, г.зн. мае ў сабе яўныя супярэчнасці? Яны не жадаюць прызнаць стан супярэчнасці. Але яны не заслугоўваюць таксама таго, каб быць абвергнутымі, бо яны ж сцвярджаюць нішто. Я павінен прызнаць, што не магу зразумець такога характару мыслення. Тое, што любыя дзве лініі, якія перасякаюцца ў акружнасці, падзяляюцца на прапарцыянальныя часткі, што асімптота [прамая] пры бясконцай яе працягласці ніколі не дакранаецца да крывой і г.д.; карацей кажучы, тое, што рэч не бывае адначасова сапраўднай і несапраўднай, магчымай і немагчымай — усё гэта цалкам палажэнне індукцыі! Інтарэс розуму павінен паводле гэтага сцвярджэння поўнасцю адпасці, бо ў адпаведнасці з ім розум сам цалкам знішчаецца. Гэтыя паны не прызнаюць за сабой большай здольнасці, апрача свайго роду інстынкту, які яны называюць judicium practicum (практычнае меркаванне) і чакаюць падобных выпадкаў, якія ўласцівы жывёлам у

больш высокай ступені. Аднак пра гэта дастаткова!

2. Эмпірычныя дагматыкі і рацыянальныя скептыкі. Яны сцвярджаюць, што аб'екты нашага пазнання нам дадзены a posteriori, аднак формы іх знаходзяцца ў нас priori. Калі б мы не існавалі разам з гэтымі формамі, то аб'екты ўсё ж маглі існаваць (хоць у іншым выглядзе, чым мы іх уяўляем). Калі б гэтыя аб'екты не існавалі, то ўсё ж мы змаглі б існаваць (нейкім невядомым для нас спосабам). Далей яны сцвярджаюць, што нам уласціва здольнасць уяўляць не толькі гэтыя формы самі па сабе як аб'екты, але таксама пазнаваць іх як формы ў аб'ектах. Гэта пазнанне, аднак, адбываецца не шляхам непасрэднага ўспрымання, а толькі праз успрыманне схемы ці прыкметы ў аб'ектах, таму мы з дапамогай разважання пра тое, што гэтыя формы ўласцівы гэтым аб'ектам, адначасова самі дасягаем усведамлення гэтых формаў. Таму мы не можам выкарыстоўваць формы гэтых аб'ектаў у сабе пастолькі, паколькі яны маюць гэтую прыкмету. Агульнае выкарыстанне гэтых формаў рэчаў у сабе і без гэтай прыкметы не служыць таму, каб гэтакім шляхам вызначыць нешта ў аб'ектах, а толькі для таго, каб надаць розуму дасканаласць і сістэматычнае адзінства. Гэта кантыянская сістэма. Яна не толькі правамерная, але ў найвышэйшай ступені спрыяе інтарэсу розуму, бо хоць яна абмяжоўвае розум, але ўсё ж гэта прыкмета такой уласцівасці, што яна можа спыніцца толькі сумесна з розумам (бо яна з'яўляецца формай a priori).

3. Рацыянальныя дагматыкі і эмпірычныя скептыкі. Яны сцвярджаюць, што як формы, так і аб'екты нашага пазнання знаходзяцца ў нас a priori і што гэта здольнасць заключаецца не толькі ў тым, каб пазнаваць дадзеныя аб'екты праз мыслімыя намі формы, але і ўзнаўляць самі аб'екты праз гэтыя формы. Пачуццёвыя аб'екты з'яўляюцца цьмянымі ўяўленнямі гэтых аб'ектаў розуму. Калі розум карыстаецца сваімі формамі пачуццёвых аб'ектаў (я маю на ўвазе сінтэтычныя, што падлягае сумненню), то гэта адбываецца не непасрэдна, а праз аб'екты розуму, якія іх прадстаўляюць (тое, што, аднак, гэтыя формы адпавядаюць аб'ектам, не патрабуе ніякай прыкметы, як непасрэднае ўспрыманне). Яны паслядоўна пашыраюць выкарыстанне розуму больш, чым першыя. З другога боку, аднак,

яны ставяць пад сумненне сам факт, г.зн. тое, што розум валодае гэтымі формамі або выкарыстоўвае іх; яны прызнаюць толькі адзіную форму, менавіта, тоеснасці і супярэчнасці, якой яны прыпісваюць аб'ектыўную рэальнасць; другім формам, наадварот, яны ўпэўнена прыпісваюць толькі суб'ектыўную рэальнасць. Яны, аднак, з-за сваёй усеагульнасці адносна нас служаць так, быццам маюць аб'ектыўную рэальнасць, таму інтарэсы розуму ніякім чынам не нясуць страт. Калі мяне спытаюць, хто яны, гэтыя рацыянальныя дагматыкі, то ў цяперашні час я не змагу назваць нікога, акрамя самога сябе. Я мяркую, што гэта з'яўляецца сістэмай Лейбніца, калі яе правільна разумець.

*Друкуецца па кн.: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI — начала XIX в. Мн., 1962. С. 391—393 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# МЯЛЕШКА ІВАН

## ПРАМОВА ІВАНА МЯЛЕШКІ

Найяснѣй (шій) милостивый король, и на меня ласкавыя паны братія! Выѣхавши зъ дому Богу-мъ ся помолилъ, чтобы къ вамъ здоровъ пріѣхаль да вашу милость здоровыхъ огляделъ, и привиталь. Пришло менъ зъ вами радыты, а я не гетакихъ зъѣздахъ няколи не бывалъ и зъ королемъ его милостію николи не засѣдалъ; только за покойниковъ князевъ нашихъ, которые королевали, что воеводами бывали, сентенцій гетакихъ не бывало, попросту правымъ сердцемъ говорили; политики не знали, а правдою въ ротъ, яко солію въ глаза, кидывали. Скоро жъ короли больше Нѣмцевъ якъ насъ улюбили, заразъ што нашіе старшіе собрали, то все Нѣмцомъ роздали нашіе господары. Пручъ Зыгмунта короля (того ничего въ люды личыть, бо той Подлясье и Волынь вынищылъ, Ляхомъ мянуючися), але Зыгмунда Первого, солодкая памѣтъ іего, бо бой Нѣмцевъ якъ собакъ не любилъ, и Ляховъ зъ ихъ хитростьми велмѣ не любилъ, але Литву и нашу Русь любительно миловалъ, и гораздо лучей за іего мѣвалися, хотя въ такъ дорогихъ свитахъ не ходывали; другіе безъ ногавицъ какъ Бернардыны гуляли, а сорочки ажъ до костокъ, а шапки

ажъ до самого пояса нашивали. Дай Боже и зновъ такой годыны прыждаты и теперъ. Я самъ коли по домовому уберусь, то еи мосць пани Мстиславска малжонка моя натѣшыться и посмотрѣть на меня не можеть.

Надто уже насмотрыуся на всего гето, милостивые паны братія, и на тые нудные Нѣмецкіе штуки, што на врады; а колижъ то у нихъ бывало: въ сукняхъ перѣстыхъ ходять, то нигити! Да уже у насъ змѣешалися, и попольску такъ умѣють говорыты, и все лихое короліомъ паномъ Рѣчи Посполитой какъ могуть было баламутять. А коли самъ Нѣмчина иде, или жонка его поступае, то черезъ скурку скрыпить, шелестить и дорогимъ пижмомъ воняеть. Коли жъ до тебе паничыкъ прыѣде, частуй же іего достаткомъ, да и жонку свою подлѣ іего посады; а онъ сыдыть какъ бѣсъ надувшыся, махаеть шапкою или капелюшемъ, и зъ жонкою нашептываетъ, да и в лодонь скребеть! Да коли жъ бы я гетого чорта кулакомъ в морду, или по лицамъ, по хриптѣ, такъ кобы король іего милость не слыхалъ? Нехай бы морды такой поганой не надымалъ.

Помню я короля Генрыха, которій зъ заморской стороны Нѣмецкой былъ, да зрозумъвъ, што мы іему не много давали шыбинковаты, а Нѣмцы іего не вельми перекрывали, такъ и онъ, познавши, што то не штука, да и самъ, никому не оказавшися прочъ поѣхаль ажъ у свою сторону, ажъ за море скикнулъ.

Кажучы правду, не такъ виноватъ король, якъ гетые радные баломуты, што пры нимъ сидятъ да крутятъ. Много тута гетакихъ есть, што хоть наша костка, однако собачымъ мясомъ обросла и воняетъ; тые-то насъ деруть и за ихъ баламутнями нашые не пожывятся, Ръчу Посполитую губятъ, и Волынь съ Подлясемъ пропалъ! Знаю, намъ приступило, што ходимъ какъ подваренные, бо ся ихъ боимо. А коли бъ гетакого бѣса кулакомъ въ морду, забывъ бы другый мутыты!

И то, милостивые панове, не мала шкода, слуги ховаемъ Ляхи: давай же іему сукню хвалендышовую, корми жъ іего тлусто; а зъ нихъ службы не пытай, — и только убравшися, на высокихъ подковкахъ до дѣвокъ дыбле и ходыть, а зъ великого кубка трубить: ты пане за столъ, а слуга собъ за столъ; ты борщикъ, а слуга за пукатую штуку мяса; ты за фляшку, а онъ за другую, а коли слабо держышъ, то онъ и ту зъ рукъ вырветь! Только пильнуеть: скоро зъ дому ты, то онъ моучкомъ прыласкается до

жонки. И такого чортополоха зъ Нѣмцами выгнаты, што до насъ влѣзли противъ праву нашему.

Але зарадно поговорылисмы о разныхъ нашихъ интересахъ. И гетая не малая штука — кони дрыганты на стайни держати: давай же имъ въ лѣто и въ зимѣ овесь и съено, подстелай же што ночъ, ховай же для нихъ слугу Ляха, конюшню и маштелѣра; а з нихъ жадной службы не пытай. А коли жъ еще Ляхъ какъ жеребецъ ржеть коло дѣвокъ какъ дрыгантъ коло кобылъ, прыйми жъ къ нему двоихъ Литвиновъ на стражъ; бо и самъ дѣдко не упильнуетъ!

И гетая на свѣтѣ дурнина: годынникъ мнѣ притрафилося на тандетѣ въ Кіевѣ купиты; далисьмы за іего тры копы грошы, а якосьмы послали до Вильна на направу, ажъ онъ на пятую копу крутылъ злодѣй заморщыкъ! Добры-то нашъ годынникъ пѣтухъ, што нехыбне о полночи какарѣкаеть.

И то вельми страшная шкода — гологузые куры ховать: ихъ достаткомъ варыты. А за моей памети прысмаковъ гетыхъ не бывало; добра было: гуска съ грыбками, кашка зъ перчыкомъ, печонка зъ цыбулькою или зъ чоснықомъ, а коли на перепышные достатки — каша рыжовая зъ шафраномъ. Вина венгерского не зажывали передъ тымъ — малмазыю скромно піяли, медокъ и горѣлочку дзюбали. А грошы подостаткомъ мѣвали, муры муровали и войну славную крѣпко и лучей держали, какъ теперь.

И то не доречы: въ богатыхъ сукняхъ нашые панъ ходять: не знали передъ тымъ португале или фортугале, а подолокъ рухается, а около подолка чепляется; а дворанинъ въ ножку, как соколъ, загледаеть, штобъ гдѣ щипнуты солодкого мяса. Я тоже радиль бы, нехай бы бѣложонки нашые въ запинаные давные убералися козакинки, шнурованные назадѣ носили распорки, а къ тому штобы зъ нѣмецка заживали плюндрыки: не такъ бы скоро любительну скрадывали бредню. А теперъ хотя зъ рогатынею на вартѣ стой, въ жывые очи такого бѣса не упильнуешъ.

Ды бы о чомъ радыты, не знаю; то только вашей милости припоминаю, штобы завсегда, сколько сенаторовъ и поновъ Литовскихъ, при коронѣ іего милосты было, былъ бы и я. Только кролевщизны не маю, бо передъ другими не схопылъ.

А штожъ есмо сказали, то всіе правда. И

Аннульку, королевну еи милость, миленко, въ ручку поциловали, какъ другые младшие сенаторщыки. Давно о томъ радилъ весь повѣть не только въ Смоленску, але въ Мозыру, кого бъ мудрого до васъ на тотъ зъѣздъ выбраты и сентенцыи выправиты; мене вядомого до вашей милосты, штобъ Господь Богъ... умѣты передъ королемъ іего милостью и вами, панове братіа, одкрыты нашые врады. Сказалъ би кто зъ васъ лутше, только не баламутячы; то я на томъ перестану.

*Друкуецца па кн.: Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Мн., 1961. Ч. I. С. 316—319.*

# НАРБУТ КАЗІМІР

## ЛОГІКА, АБО НАВУКА РАЗВАЖАННЯ І РАЗУМНАЙ РАЗМОВЫ...

### Прадмова

#### 3. **Пра логіку наогул**

Логіка — гэта навука, якая вучыць, як спасцігнуць і спазнаць ісціну, або, што адно і тое ж: гэта мастацтва правільнага мыслення:...

Логіка падзяляецца на прыродную (прыроджаную) і штучна вынайдзеную, або тэарэтычную. Людзі ў сваіх думках ці ў выкарыстанні розуму захоўваюць пэўныя законы, хоць звычайна іх ясна і не ўсведамляюць. Суджэнні аб прадметах і высновы звычайны чалавек выказвае ў адпаведнасці з прыродным (прыроджаным) парадкам, нават знаходзіць у суджэннях іншых памылкі, не ўсведамляючы і не ведаючы, з дапамогай якіх законаў ён гэта робіць, бо ніколі не вывучаў логікі. Такім жа чынам просты народ правільна называе словы і рэчы, звязвае, узгадняе і захоўвае часы, не ведаючы ніякіх граматычных правілаў. Значыць, прыроджаная логіка — ёсць выкарыстанне розуму без яснага ўсведамлення правілаў, неабходных для гэтага...

Логіка прыроджаная ў сваю чаргу падзяляецца на чыста прыроджаную і набытую частым выкарыстаннем розуму, бо здольнасць выкарыстання сіл душы вынікае з дваістай крыніцы: з прыроднай схільнасці і частага практыкавання, што не толькі ў логіцы, але і ва ўсіх

іншых навуках назіраецца. Напрыклад, у мастацтве спеваў мы набываем лёгкасць не толькі ад частага практыкавання, але і ад прыроджанай здольнасці да спеваў...

5. Таму што логіка з'яўляецца... навукай, яна абавязана даць абгрунтаваныя правілы, якія яна прапаноўвае, і паказаць, што яны прыводзяць наш розум да пазнання ісціны і перасцерагаюць яго ад памылак... Наш розум мае пэўныя, уласцівыя яму законы, якімі кіруецца ён у сваіх дзеяннях. Напрыклад, лягчэй набывае веды аб прадметах адзінкавых і больш лёгкіх, а потым пераходзіць ужо да больш складаных...

*Друкуецца па кн.: Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 293 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# САПЕГА ЛЕЎ

## ЗВАРОТ ЛЬВА САПЕГІ ДА ЎСІХ САСЛОЎЯЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

[З нагоды выдання Статута
Вялікага княства Літоўскага 1588 года]

Усім саслоўям Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, падканцлер Вялікага княства Літоўскага, староста слонімскі, маркоўскі і мядзельскі шчырую і зычлівую працу ахвяруе.

Мудрацы розных часоў лічылі, што ў кожнай дзяржаве прыстойнаму чалавеку даражэй за ўсё на свеце яго свабода. Няволя ж настолькі агідная, што ад яе трэба пазбаўляцца ўсімі сродкамі. Таму людзі, якія паважаюць сябе, не павінны шкадаваць ні маёмасці, ні нават свайго жыцця, каб не трапіць пад жорсткую ўладу няволі. А тыя, хто зрабіўся паднявольным, але мае свабодалюбівы незалежны характар, таксама не павінны цярпець над сабой непрыяцеля. І не толькі нейкага чужаземца, да якога трапілі ў палон, але і свайго тутэйшага. Дзеля гэтага і створаны законы — тыя аброць і цуглі, якія будуць стрымліваць кожнага нахабніка ад усялякага гвалту і самавольства і не даваць яму магчымасці здзекавацца над слабейшымі і бяднейшымі ды прыгнятаць іх; каб не мог багаты і магутны паводзіць сябе так, як яму пажадаецца. Цыцэрон вучыў, што карыстацца свабодай можа той, хто стане нявольнікам закону. А для прыстой-

нага чалавека няма большай асалоды, як жыць у сваёй Айчыне ў поўнай бяспецы, ні з кім не біцца і не сварыцца і каб ніхто яго не зняславіў ці пакалечыў або паквапіўся на яго дабро. Нічому іншаму не будзе абавязаны такі чалавек, адно толькі закону, пад аховай якога ён можа жыць спакойна, не адчуваючы над сабой ні гвалту, ні паклёпу. Галоўнай мэтай законаў ва ўсім свеце з'яўляецца падтрыманне ў грамадстве такога становішча, каб кожны мог захоўваць у непарушнасці добрае імя, здароўе і маёмасць і не цярпець з боку іншых ніякой шкоды. У гэтым і заключаецца наша свабода, якой мы ганарымся перад іншымі хрысціянскімі народамі, ды і гаспадара над сабой маем такога, які кіруе намі паводле законаў нашых, а не з асабістага нораву. Таму і карыстаемся гонарам сваім прыстойным, свабодна жывем і маёмасцю валодаем. А калі б хто ў гэтых нашых вольнасцях пачаў крыўдзіць нас і здзекавацца, то ўжо мы яго не за гаспадара лічылі б, а парушальнікам нашых правоў і вольнасцяў і мы б яго нявольнікамі сталі. І сапраўды, дзякуй Богу, пад панаваннем іх міласці каралёў і вялікіх князёў нашых карыстаемся мы і ўладай і вольнасцямі нашымі, ствараем свае законы, каб найбольш іх ва ўсім захаваць, каб не толькі сусед ці іншы які аднапляменнік, але і сам Гаспадар вяршэнства над намі не меў, за выключэннем таго, што дазволена законам. Таму і маем мы гэты скарб [законы], якому няма цаны. Кожнаму прыстойнаму чалавеку належыць яго ведаць і, будучы дасведчаным у ім, стрымліваць сябе ў сваіх учынках, дзейнічаць у адпаведнасці з пісаным законам і нікога не крыўдзіць, а калі б сам кім быў пакрыўджаны, ведаў, дзе абарону і лекі ад крыўды сваёй шукаць. Бо як адзін рымскі сенатар, не ведаючы законаў сваёй краіны, браўся судзіць сабе падобнага, так і кожны жыхар заслугоўвае ганьбавання, калі сваімі вольнасцямі пахваляецца, а карыстацца законам і разумець яго як асабістую засцярогу не жадае. Любому народу сорам не ведаць сваіх законаў, а нам жа асабліва, бо законы нашы выкладзены не на нейкай чужаземнай мове, а на сваёй роднай, і мы маем магчымасць звярнуцца да іх у любы час і даведацца, якім менавіта законам бараніцца супраць усялякай крыўды. Паколькі раней існавала цяжкасць у тым, што з-за складанага перапісвання і траты на гэта шмат часу не кожны мог мець Статут, я на патрэбу жы-

хароў нашых і на карысць дзяржавы адважыўся, не шкадуючы сваіх выдаткаў, сістэматызаваць законы і надрукаваць іх, каб потым кожны мог, калі захоча, мець іх пад рукамі.

Прашу зрабіць ласку, гэтую працу ўдзячна прыняць ад мяне, а маючы свае вольнасці добра ахаванымі, сачыць, каб у суды і трыбуналы выбіраліся людзі не толькі дасведчаныя і добрыя, але набожныя і дабрадзейныя, якія б не для ўласнай выгады і на шкоду чалавеку з-за сваёй хцівасці і за хабар законы парушалі, а выключна прадугледжаным парадкам дзейнічалі, зберагаючы святую праўду і справядлівасць, а свабоду, якой карыстаемся, у непарушнасці захавалі. З тым ласцы і міласэрнасці вашай дабрадзейнасці брацкай даручаю.

*Друкуецца па кн.: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Каментарыі. Мн., 1989. С. 47—48 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# СКАРУЛЬСКІ АНТОН

## КАМЕНТАРЫІ ПА ФІЛАСОФІІ, АБО ЛОГІЦЫ, ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ МЕТАФІЗІЦЫ, АГУЛЬНАЙ І СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ФІЗІЦЫ

### Логіка

### Прызначэнне і аб'ект логікі

1. Найважнейшае прызначэнне навукі логікі, якая рыхтуе розум да супастаўлення ведаў аб рэчах, заключаецца ў тым, каб, пастаянна звяртаючыся да таго ж розуму, а менавіта да паняцця, суджэння і высновы, сачыць, каб тыя аперацыі розуму, што сапраўды могуць быць выкарыстаны, ужываліся ў адпаведнасці з правіламі лагічнага майстэрства.

### Аб ідэях

2. Ідэя, або паняцце, — назва, якой новыя [філосафы] паспяхова замяняюць тэрмін «выявы розуму», азначае нешта іншае, чым вобраз прадмета, схаваны ў розуме, з дапамогай якога таксама і проціглы прадмет выяўляецца ў розуме, прычым адно і тое ж паняцце называецца і фармальным, бо яно прадпісвае думку, і

аб'ектыўным, бо само з'яўляецца вобразам прадмета, да якога яно звернута.

3. Кожны, хто зверне на яго свой розум, не стане адмаўляць, што такога роду вобразы знаходзяцца ў розуме, і не зблытае яго са звычайнымі паняццямі розуму, тым больш не зблытае з суджэннем і высновай. Паколькі прызначэнне паняццяў заключаецца ў тым, каб адлюстроўваць змены, што адбываюцца ў прадметах, трэба адрозніваць кожныя веды як ад ідэй падобнага роду, так і ад саміх рэчаў, якія разглядае розум...

## Аб суджэнні

7. Суджэнне з'яўляецца аперацыя розуму, а не волі, як мяркуе Картэзій. Яно з'яўляецца простым [актам], г.зн. з яго дапамогай мы ствараем паняцці, сцвярджаючы нешта або адмаўляючы.

8. Найважнейшай уласцівасцю суджэння, што адносіцца да ведаў і даследуецца логікай, з'яўляецца ісціна або мана.

## Аб выснове

13. Асобным відам параўнання з'яўляецца выснова: бо калі адным памкненнем думкі мы не зможам спасцігнуць усю прыроду рэчы, то мы з дапамогай сярэдняга вядомага [тэрміну] набліжаемся да пазнання прыроды і стану невядомай рэчы і такім чынам пранікаем у таямніцы гэтай невядомай рэчы. Такое пазнанне ажыццяўляецца найбольш паспяхова, калі прытрымлівацца наступнага лагічнага правіла: рэчы, якія ва ўсіх адносінах тоесныя нейкай трэцяй рэчы, тоесныя і паміж сабой; параўнаўшы два паняцці з трэцім, якое называецца сярэднім тэрмінам, мы зробім выснову, што яны па сваёй прыродзе або звязаны, або незалежныя.

*Друкуецца па кн.: Памятники философской мысли Белоруссии XVII — первой половины XVIII в. Мн., 1991, с. 209—210 (Пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# СНЯДЭЦКІ ЯН

## ПРАДПІСАННЕ, ПАВОДЛЕ ЯКОГА ПАВІННЫ ЗНАХОДЗІЦЦА ПАД ПУБЛІЧНЫМ І ХАТНІМ НАГЛЯДАМ ВУЧНІ МІНСКАЙ ГІМНАЗІІ ВІНЦЭСЬ І ЮЗАФ ТЫШКЕВІЧЫ

(урывак)

Добрыя норавы павінны прывівацца маладым не толькі праз навучанне, але і выпрацоўкамі ў іх звычкі да добрых спраў, а таксама праз глыбока ўражальныя вобразы, якія выклікаюць агіду да ўсяго таго, што супярэчыць справядлівасці, ісціне, грамадскаму парадку і годнасці чалавека. У грамадскі парадак уключаюцца таксама і дзяржаўныя законы. Хатні выхавальнік, паўтараючы з дзецьмі тое, што яны вучаць у школе, найбольшую ўвагу павінен звяртаць на іх справы і ўчынкі, імкненні і характар. Пад характарам тут разумеецца тое, што з'яўляецца вынікам фізічнай канстытуцыі дзіцяці.

Вывучаючы прадмет «навука маралі» паслядоўна ў розных класах, школьнік вучыцца быць добрым дзіцем, добрым бацькам, добрым падданым, добрым сябрам, добрым сваяком, добрым суседам і да т.п., але разам з тым неабходна старацца ўдала падабранымі прыкладамі з гісторыі краіны і яе звычаяў, спасылаючыся на цікавыя прыгоды, выклікаць агіду да хібаў, якія ганьбяць, знішчаюць айчынную мараль, а менавіта: да п'янства, хцівасці, пагоні за спадчынай з дапамогай юрыдычных хітрыкаў, парушэння спакою суседзяў, шулерства, скнарнасці ці марнатраўства. У знакамітых сем'ях нашых дзве заганы: бяздзейнасць і агіда да заняткаў і працы, — а таму асновай добрага выхавання павінна стаць працавітасць. Другой маральнай заганай з'яўляюцца сямейныя сваркі, пры якіх зусім немагчыма стаць сумленным чалавекам. Для таго, хто збяднее, будзе абцяжараны даўгамі і гатовы шукаць паратунку несумленнымі шляхамі, істотнай умовай прыстойнасці з'яўляецца беражлівасць, гаспадарлівасць, неперавышэнне выдаткаў над прыбыткамі. А для такога спосабу жыцця патрэбна змоладу прывіваць дзецям любоў да парадку. Калі дзеці дзякуючы добраму пачатковаму выхаванню паводзяць сябе прыстойна,

трэба сачыць, каб яны не паддаліся кепскаму прыкладу, кепскай кампаніі і г.д. Маральныя прынцыпы і выказванні застануцца марнымі і імі (дзецьмі) незразумелымі, калі не будуць умела дастасаваны да іх уласных спраў і правіннасцей, іншых, чаму яны самі былі сведкамі. Калі ж дзіця ў чым-небудзь правінілася, тады асабліва трэба сачыць, каб гэтага не паўтарылася...

У школах павінна быць паўсюдна забаронена вучням дарыць адзін аднаму падарункі, дробныя рэчы і кнігі і самім нічога не прымаць без дазволу. Хатні выхавальнік павінен таксама настойліва перасцерагаць ад таго, што можа весці да махлярства і іншых адхіленняў. Хатні выхавальнік павінен здабыць сабе давер, прыхільнасць і павагу сваіх вучняў. Дабіваючыся гэтага, ён будзе асцерагацца нават выпадковага ўчынку, які выкліча іх асуджэнне. І гэтымі намаганнямі можна многага дасягнуць у фарміраванні і выпраўленні недахопаў дзіцяці.

У кожным зручным выпадку трэба выхоўваць у дзіцяці пачуццё асабістай годнасці, заснаванае на тым, каб не рабіць нічога, што выклікала б пагарду іншых людзей.

Пераважнай здольнасцю дзяцей з'яўляецца памяць, якую трэба пастаянна развіваць. Вывучэнне моў для дзяцей не ўяўляе асаблівай цяжкасці, дарослым жа гэта значна цяжэй. Таму дзяцей належыць вучыць мовам змоладу, а менавіта — роднай, лацінскай, рускай і французскай.

Найбольшым шчасцем чалавека, якое да таго ж з'яўляецца ўмовай развіцця яго разумовых здольнасцей, адукацыі, ёсць здароўе; неабходна берагчы здароўе дзяцей, асцерагацца ператамлення, каб гэта не паўплывала на фізічнае развіццё дзіцяці. Дзеці павінны пастаянна быць у руху, з імі трэба часта гуляць, даваць ім бегаць. Для здароўя неабходна ахайнасць, трэба сачыць, каб дзіця часта мяняла бялізну, прычэсвалася — да ўсяго гэтага трэба прывучыць з самых ранніх гадоў.

*Друкуецца па кн.: Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986. С. 164—165 (пер. на бел. мову Г.А.Маслыкі).*

# ЧАЧОТ ЯН А.

## ПРА БУДУЧАЕ ПРЫЗНАЧЭННЕ ТАВАРЫСТВА ФІЛАМАТАЎ, ПРА ВАРЫЯНТЫ ЯГО СЁННЯШНЯЙ БУДОВЫ, ПРА ТОЕ, НАКОЛЬКІ АДПАВЯДАЮЦЬ ЯНЫ НАШЫМ МЭТАМ

*З прамовы на пасяджэнні таварыства філаматаў 7 мая 1821 г.*

Усведамляючы важнасць гэтага пытання, нічога ў свеце не хацеў бы большага, чым вырашыць яго, даць на яго адказ. Але, на жаль, сілы, відаць, не адпавядаюць жаданню. Ведаю, што для лепшага адказу трэба разабрацца ў сённяшнім стане таварыства і ўсіх паасобку яго членаў, на якіх трымаецца яго будынак, і ў стане ўтвораных ім саюзаў і сувязяў, а потым ужо, ведаючы нашы сілы і метады работы, належыць вырашыць, што кожны і ўсе мы разам павінны зрабіць, каб таварыства і яго саюзы былі, як той гадзіннік, у якім усё ўзаемазвязана, у якім кожная спружына, кожнае колца, няспынна рухаючыся, служыць адной мэце — толькі такі гадзіннік можа адбіць некалі гадзіну шчасця для краю...

Задачы будучага таварыства вельмі шырокія. Пры дапамозе асветы і згуртавання суайчыннікаў яно павінна рабіць дзейсны ўплыў на грамадскую думку, рабіць усё для шчасця і вызвалення айчыны. Але не пра гэтыя задачы і ўсё звязанае з імі ў таварыстве пакуль што трэба гаварыць; трэба яшчэ арганізавацца і замацавацца ў тым пункце апоры, з якога мы павінны ўзняць польскі свет, трэба яшчэ паправіць тое, што ў ім сапсавалася; думаць, як тое, што ўжо ёсць у нас у руках, утрымаць і развіваць далей; як зрабіцца нам самім заўсёды дзейснымі і працавітымі, каб у распачатай вялікай справе нават хвіліны дарэмна не страціць.

Як бачым, аслабнуў рух у таварыстве. Мы крычалі адзін на аднаго, а віна была агульная. Трэба, аднак, папытацца: чаму аслабнуў? Можа, мы сталі менш стараннымі? Ці меней любім айчыну і таварыства? Ці мы навуку не рушылі ўперад? А мо, наадварот, і тое, што ведалі, забыліся? Ці не можам цяпер навуко-

вага артыкула альбо хоць бы верша так, як раней, напісаць? А мы ж, здаецца, не меней старанныя, не меней здольныя; наадварот, усяго гэтага ў нас пабольшала. Але, пакольki невялікія ў нас сілы, якія да таго ж хутка і досыць шырока расплыліся, не дзіва, што ўнутры мы мусім станавіцца на калені перад абліччам гэтых абавязкаў, якія нічым амаль не адрозніваліся ад тых абавязкаў, што даводзіцца выконваць па-за таварыствам, наадварот, ад таго, што яны болей былі сканцэнтраваныя, здаваліся меншымі. Статуты таварыства

ў сэнсе навуковасці перабольшылі нашыя магчымасці, не адпавядаюць нашым сілам, бо вымагаюць таго, каб кожны быў сапраўдным вучоным, таму яны ніколі не могуць быць цалкам выкананы. Які ж сёння я прынясу на пасяджэнне вершык, якое прачытаю навуковае даследаванне? Не вартае яно таго, каб выносіць на таварыства, нават прыяцелі будуць пагарджаць імі, толькі перад філарэтамі магу з імі паказацца. Якую ж я тады прынясу таварыству ў навуковым сэнсе карысць? Сухія ў нас навуковыя пасяджэнні, і калі б крытыка шчаслівa ўвайшла ў філарэцкія саюзы, тады б не было прычыны шкадаваць навуковых пасяджэнняў, якія нічым іншым не адрозніваліся дасюль ад цяперашніх філарэцкіх. Пакольki таварыства жыло толькі навуковасцю, няма нічога дзіўнага, што яно ўпала ва ўнутраную бяздзейнасць пасля таго, як разладзіўся навуковы парадак...

Што да адбору членаў, то тут трэба б нам паболей строгасці — каб у таварыства прымаліся толькі сапраўды годныя людзі, дзейныя, з высакародным сэрцам, разумныя, людзі, якія любяць айчыну, старанныя і цвёрдыя; мы не будзем тады мець патрэбы ў пошуках спосабаў хавацца адзін ад аднаго.

Варта б было нам пастанавіць, каб той, хто не быў прыяцелем, а тым самым філарэтам, нічым не праявіўшы сябе, не мог бы быць і філаматам. Няхай бы там быў перыяд пробы; каб мы не прымалі ў таварыства, як раней, малавядомую асобу. Наконт членаў, якіх раней называлі карэспандэнтамі. У статутах сказана, што толькі пасля 4 месяцаў член таварыства можа стаць правадзейным. Гэты пункт неабавязкова выстаўляць перад усімі, для большай карысці яго трэба б не агалошваць. Карэспандэнцтва можа быць апошняй ступенню і выпрабаваннем нашых братоў; перайшоўшы яе,

яны становяцца заканадаўцамі таварыства і ўсіх саюзаў, удзельнікамі ўсіх яго пачынанняў, а пазней і выканаўцамі найшырэйшых мэт. Можа, каму-небудзь гэта ступень будзе вельмі цяжкай, а калі выразна скажаш яму, што тады і тады яе можна прайсці, усялякая затрымка ў любога можа распаліць толькі непатрэбную прэтэнзію, будзе яго раздражняць. Няхай самі правадзейныя члены вызначаюць, праз які час пераводзіць карэспандэнта ў правадзейныя члены. Трэба, каб карэспандэнт ведаў, што ён можа быць выбраны, але калі канкрэтна, не ведаў.

## ДУМКІ ДЛЯ НІЖЭЙШАГА КЛАСА

1. Шчасце — гэта найвышэйшая мэта ўсіх імкненняў чалавека; шчасце — ва ўнутранай задаволенасці ад сваёй працы, учынкаў і побыту; асабістае шчасце — у шчасці грамадскім: дбаць пра грамадскае дабро — значыць памнажаць і дабро ўласнае.

2. Хто дбае пра грамадскае дабро, інакш кажучы пра шчасце, асвету і славу краю, хто рады прысвяціць яму самога сябе, аддаць яму ўсе здольнасці, сілы і маёмасць — з'яўляецца сапраўдным грамадзянінам.

3. Сапраўдны грамадзянін паводзіць сябе не толькі згодна ўстаноўленым грамадскім законам, але і згодна законам сумлення, маралі і рэлігіі; улада законаў знаходзіць чалавека дома і па-за домам, але ўнутры чалавека няма моцнай спружыны для кіравання яго ўчынкамі; дык вось — там, дзе ўлада законаў і сораму слабыя, там пачынаецца ўлада сумлення і рэлігіі.

4. Рэлігія не толькі аб'ядноўвае людзей з творцам, яна не толькі ўцеха і вышэйшая асалода для сэрцаў, знясіленых пад цяжарам няшчасцяў і чалавечых заган, але і шчыт супраць варожых грамадству яго членаў, яна — краевугольны камень, на якім абапіраюцца мараль і тленнае шчасце.

5. Рэлігіі і маралі варожыя: абыякавасць да ўшанавання Бога, непавага да месцаў гэтага ўшанавання, распаўсюджанне поглядаў, якія падрываюць асновы рэлігіі, распуста і адступленне ад звычаяў, усялякага роду празмернасці.

6. Маральная распушчанасць, празмернасці і раскоша ў задавальненні жыццёвых патрэб, што прыводзяць да жудасных вынікаў, нара-

джаюць агіду да шлюбу, якая вельмі часта назіраецца сёння. Праз гэта псуюцца дарэшты не толькі пачцівасць, мараль, не толькі церпіць ад гэтага рэлігія, але, што вынікае адсюль, церпіць увесь люд, які ўсё больш прыкметна робіцца слабейшым, бяднейшым, становіцца няздатным як трэба працаваць для дабра краю, а значыць, і для дабра кожнага паасобку.

7. Ашчаднасць з'яўляецца маткай выгоды, парадку і багацця, словам, дамашняга і грамадскага шчасця, з'яўляецца рысай сапраўднага грамадзяніна, бо яна вядзе да прыстойнага карыстання дастаткамі, з якімі трэба дзяліцца і з іншымі, яна працівіцца ўсякім празмернасцям і раскошы — самай галоўнай прычыне дэмаралізацыі. У нас, дзе празмернасці гэтыя не толькі не даюць карысці, не павялічваючы мясцовую прамысловасць, але выразна шкодзяць, бо гэта ж марнуюцца апошнія сродкі, якія можна было б укласці ў развіццё земляробства. Ашчаднасць вельмі пажаданая, яна той адзіны бальзам, што столькі можа загаіць ран і падмацаваць грамадскі дух.

8. Той, хто прысвячае сваю працу — фізічную ці разумовую — свайму краю, усё робіць для яго дабра, з'яўляецца адначасова карысным грамадству чалавекам і паважаным грамадзянінам. Адсюль вынікае, што гэтак жа, як да веравызнанняў, заўсёды павінна быць цярпімасць да працоўнага класа — рамеснікаў ці прадстаўнікоў любой іншай працы: трэба быць нецярпімымі толькі да гультаёў, якіх мы павінны схіляць да працы.

9. Асвета краю — найважнейшая спружына яго шчасця. Асвета пашыраецца праз павелічэнне кола тых, хто ўмее чытаць; таму трэба заснoўваць школы Ланкастэра, падтрымліваць навуковыя ўстановы, заахвочваць тых, хто пасылае дзяцей і моладзь у школы і ва універсітэт, пашыраць чытанне і друкаванне карысных кніг, раздаваць іх у школах у якасці прэмій, дапамагаць тым, хто хоча вучыцца, падтрымліваць мастацтва, рамёствы, заснoўваць і развіваць фабрыкі, асабліва паперні, суконныя і ткацкія фабрыкі, што найлягчэй можна ажыццявіць у краі.

10. Ва універсітэце яшчэ вельмі многія без ніякіх вынікаў прысвячаюць сябе прыродазнаўчым і матэматычным навукам, у той час, як так патрэбныя чыноўнікам і грамадзянам навукі права і адміністрацыі ляжаць у нас аблогай. Тых, што не маюць такіх здольнасцей,

каб, працуючы над фізікай ці матэматыкай, маглі прынесці карысць навуцы і краю, і тых, што не прысвячаюць усё сваё жыццё гэтым навукам, а вывучаюць іх толькі для таго, каб набыць званне, трэба адгаворваць ад гэтага адзінага іх імкнення і схіляць да вывучэння права, палітычнай эканоміі, гісторыі, урэшце, аграноміі, на якую, не пакідаючы ўпарта вывучаць свае прадметы, маюць найбольшае права і якой як жыхары аграрнага краю хутчэй за ўсё павінны сябе прысвячаць.

11. Залішне мяккае і камфортнае выхаванне з'яўляецца пачаткам распешчанасці, слабавольля і іншых заган, як фізічных, так і маральных, якія сярод нашай моладзі аж занадта часта назіраюцца. Трэба імкнуцца палепшыць дамашняе выхаванне, трэба, каб кожны развіваў свае фізічныя сілы, а для гэтага карысны: заняткі з палашом, конная язда, плаванне і іншыя практыкаванні.

12. Мала гаварыць пра станоўчыя якасці чалавека і вучыць ім; трэба самому даваць ва ўсім прыклад у паводзінах. Бо ніхто так не схіляе да ліхога людскія сэрцы і розум, як ліхія ўчынкі тых, хто воляй лёсу закліканы вучыць просты люд і паляпшаць разбэшчаны свет, хто на словах прапаведуе дабрачыннасць, а ў жыцці заграз у распусце.

## ДУМКІ, ЯКІЯ ПАВІНЕН ПАШЫРАЦЬ ВЫШЭЙШЫ КЛАС

1. Грамадскае шчасце залежыць як ад добрых грамадзян, так і ад добрага ўрада.

2. Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць кепскага ўрада там, дзе большасць — добрыя грамадзяне.

3. Найлепшы ўрад будзе там, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнем народа, а не з волі, капрызу і сілы аднаго.

4. Умацаванне добрых можа перамагчы любое ліха, супроць грамадскай думкі зброя і любая сіла — нішто.

5. Строгія спосабы ўціску грамадскай думкі не павінны аслабляць сэрца і схіляць да адрачэння перакананняў, а павінны павялічваць супраціўленне гэтаму ўціску, яшчэ больш умацоўваць перакананні, актывізаваць пошукі спосабаў, пры дапамозе якіх можна хавацца ад праследаванняў.

6. Масоны зусім не такія, за якіх імкнецца

выдаваць іх фанатычная стараннасць. Ведалі яны патрэбу рэлігіі і ўрада і супроць іх не выступалі. Але калі б прагнулі хоць пазнаць, які ўрад лепшы, і калі б рабілі тое, што кожны сапраўдны грамадзянін павінен рабіць, ужо і гэта гаварыла б пра іх добрыя якасці. З таго, што ў іх былі тайныя згуртаванні (з дазволу ўрада), не вынікае, што яны рабілі змовы супроць веры. У цяперашні час увайшло ў практыку ўсё самае лепшае таіць як мага лепей. Таму не трэба, як звычайна ўсюды робяць, папракаць каго-небудзь за гэта, кажучы: калі не было нічога ліхога, нашто ж тады таіцца? Намер быў прыцягваць людзей да ўсеагульнага братэрства і ўзаемадапамогі: няўжо ж гэта можа быць нечым кепскім у вачах рэлігіі і з пункту гледжання маралі? (№3 — робіцца гэта, каб хутчэй выхоўваць пачуццё таварыскасці).

7. Рэлігія, якой так павольна паддаюцца простыя сэрцы, мае тое няшчасце, што вельмі часта з'яўляецца страшнай зброяй фанатызму і ўціску; пад яе маскай, з крыжам у адной руцэ і са зброяй у другой ідуць, аслепленыя чаканымі прыбыткамі, чалавеканенавіснікі, каб абдурваць і занявольваць легкаверных і цёмных мужыкоў.

8. Духоўніку, які лічыць, што, выйшаўшы за брамку, ён ужо аказваецца не на свеце, а выракшыся прыемнасцей быць мужам, бацькам, думае, што ён ужо не грамадзянін зямлі, а жыхар нейкага пераднеб'я, адкуль можна кідаць кулі на разбэшчаны свет, на асвету, філасофію, трэба далікатна напомніць, што ён жыве на зямлі, што са светам сувязей не парваў, корміцца хлебам, які дае зямля і праца суайчыннікаў і што задача яго — не замахвацца на асвету і філасофію, не ведаючы, што яны такое, а пашыраць святло навук, каб не сляпых, а адукаваных схіляць хутчэй да чыстай маралі і рэлігіі. У той жа час трэба патроху выступаць супроць бясшлюбнасці духоўнікаў, якая з'яўляецца найгалоўнейшай прычынай непрыстойнасці, эгаізму і варожасці да свету.

9. Вайсковае саслоўе, хоць яго — няшчасце роду людскога і найболей псуе мараль, хоць яно прычыняецца да абязлюджвання краю, павінна ў першую чаргу папаўняцца разумнымі грамадзянамі, паколькі цяпер, як відаць, пераважвае іншыя саслоўі: ніякія змены ў ім не могуць адбыцца, пакуль яно будзе складацца з наёмнікаў. У войска, значыцца, трэба

прывабліваць тых, хто сядзіць па дамах без работы і хто здатны да вайсковай службы, мае да яе схільнасць.

10. Ні асвета краю, ні земляробства не можа больш хуткімі тэмпамі рухацца наперад, пакуль не будзе ліквідавана ганебная, замшэлая на працягу вякоў і абраслая забабонамі перашкода — няволя сялян, якая супярэчыць законам прыроды, цвярозаму розуму і нават чыстым эканамічным разлікам і выклікае сорам у сэрцах людзей...

11. Моладзь часта бывае неспакойная, бо запалена рэвалюцыйным духам, ці залішне гарачая: яна рада была б пазбавіць заможных іх багацця, яна лічыць, што далёка не ўсім трэба аддавацца навукам, яна сваімі паводзінамі правацыруе праследаванне ўрада на сябе і грамадзян... Вельмі мала моладзі ідзе вучыца ва універсітэт: з універсітэцкай акругі, дзе налічваецца ў школах больш 20 тысяч, набываць вышэйшыя навукі прыязджае ледзьве 700 чалавек; там з ахвотаю і карысцю бяруцца вывучаць навукі, хоць менш здольным яны даюцца з цяжкасцю; больш заможная моладзь, дрэнна выхаваная пры дапамозе крыкаў бацькоў, аказаўшыся ў горадзе, лайдачыць і кладзе пляму на універсітэт; праследаванні ўлад зыходзяць не так ад тутэйшай моладзі, як хутчэй ад духу ўрада, які ўсюды адным і тым жа спосабам прыціскае моладзь, мяркуючы, што ў моладзі больш сіл і супраціўлення, чым сярод іншых грамадзян, а прыціскаючы моладзь, прыціскае асвету.

12. Сказанае аб неабходнасці падмацоўваць словы сваім прыкладам у адносінах да ніжэйшага класа і тут трэба захаваць. Дадам яшчэ важнае пажаданне, каб, пашыраючы вышэйпрыведзеныя думкі, звярталася большая ўвага на час, месца і спосаб іх распаўсюджвання, каб пераказ гэтых думак меў больш вынік і не прынёс шкоды таму, хто іх пераказвае, бо такое на цяперашні час вельмі лёгка можа здарыцца.

*Друкуецца па кн. Чачот Ян. Наваградскі замак: Тв. Мн., 1989 .*

# ЛЯ ВЫТОКАЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ



У канцы 20 ст. гісторыя дала Беларусі і беларусам новую магчымасць і рэальную перспектыву стаць гаспадарамі свайго лёсу. З часу ўтварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь вызначальнымі кірункамі грамадскага развіцця сталі арыентацыя на каштоўнасці агульначалавечай значымасці, пераадоленне ідэалагічнага і эканамічнага ізаляцыянізму, сцвярджэнне прынцыпаў дэмакратызму, стварэнне прававой дзяржавы і сацыяльна арыентаванай эканомікі. А каб выйсці са стану нацыянальнага анабіёзу і стаць нацыяй, якой у поўнай ступені ўласціва ўсведамленне ўласнай годнасці і самастойнага прызначэння, наспела неабходнасць больш поўнага і глыбокага асваення пластоў свайго мінулага, свайго гістарычнага падмурка ва ўсіх галінах, асабліва духоўнай.

Увесь папярэдні гістарычна-культурны і грамадска-палітычны шлях Беларусі аб'ектыўна сведчыць пра яе арганічную ўключанасць у рэчышча найважнейшых працэсаў, уласцівых еўрапейскай супольнасці народаў. Антыфеадальны і дэмакратычна-вызваленчы рух быў тыповай адзнакай у жыцці ўсіх еўрапейскіх народаў. Ён арганічна ўключаў у сябе фарміраванне нацыянальнай свядомасці, развіццё нацыянальных культур, складанне нацыянальнай дзяржаўнасці. Народам Заходняй Еўропы на гэта спатрэбілася амаль 4 стагоддзі. Падобныя тэндэнцыі грамадскага развіцця ўласцівы і еўрапейскаму Усходу. Але тут яны заўсёды былі кампраміснымі, недастаткова выразнымі, стрымліваліся абсалютысцкай уладай, укаранёнасцю феадальна-патрыярхальных асноў, варожых фарміраванню асобы і развіццю падначаленых народаў.

Духоўна-культурнае станаўленне Беларусі пазначана яскравымі сведчаннямі глыбокага ўспрыняцця гуманістычнай ідэалогіі — пашырэннем у канцы 15—16 ст. ідэй Адраджэння, у 2-й палове 18—пачатку 19 ст. — філасофіі і ідэалогіі Асветніцтва, узнікненнем у 19 ст. дэмакратычнага вызваленчага руху, фарміраваннем ідэалогіі нацыянальнага адраджэння і развіцця. Але драматычныя абставіны гіста-

рычнага лёсу і само геапалітычнае становішча Беларусі на сумежжы заходняга і ўсходняга арэалаў еўрапейскай цывілізацыі, ператварэнне яе этнічна-прыроднай прасторы ў поле пастаяннага змагання паміж моцнымі суседнімі дзяржавамі не давалі магчымасці здзейсніць ідэю незалежнасці, нягледзячы на існаванне ў 13—17 ст. Беларуска-літоўскай дзяржавы, абвяшчэнне ў 1918 Беларускай Народнай Рэспублікі, а ў 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Вяртанне да сваіх духоўных вытокаў, як і ўсведамленне характару свайго індывідуальнага гістарычнага шляху, звязана з непасрэдным далучэннем да ўсяго багацця агульначалавечай культуры. Прыняцце Беларуссю хрысціянства стала пачаткам новай культурна-гістарычнай эпохі. Менавіта на светапоглядным падмурку хрысціянства ўзніклі старажытныя беларуская культура і філасофская думка. Перадумовай іх фарміравання былі шырокія культурныя сувязі з Візантыяй, Балгарыяй і заходнееўрапейскімі краінамі. Гэты фактар адкрытасці і свабоднага ўзаемадачынення культур розных народаў уласцівы для ўсёй эпохі фарміравання і развіцця старабеларускай культуры 10—17 ст.

Універсалізм хрысціянскага гуманізму, пазбаўлены саслоўных, карпаратыўных, класавых і групавых абмежаванняў, быў прыцягальным і абумовіў яго духоўную ўплывовасць. Гэта сусветная гуманістычная тэндэнцыя дастаткова хутка замацавалася ў старажытнабеларускай культуры і набыла адзнакі ўстойлівай нацыянальнай традыцыі, вызначыла яе ўзнёслы ўнутраны пафас і натуральнае імкненне да адухоўлення рэчаіснасці і чалавека. Маральная сіла ідэйнай традыцыі выразна выявілася ўжо ў самаадданай культурна-асветніцкай дзейнасці і творчасці Кірылы Тураўскага і Ефрасінні Полацкай, крыніцай натхнення якіх было народжанае хрысціянствам імкненне да сцвярджэння ў жыцці высокіх ідэальных мэт.

Глеба гуманізму жывіла і высокі ўздым беларускай культуры ў эпоху Адраджэння і рэфармацыі 16—17 ст., калі інтэнсіўна развіваліся розныя сферы нацыянальнай духоўнай творчасці — літаратура, выяўленчае мастацтва, архітэктура, мова, летапісанне, грамадска-палітычная, прававая і філасофская думка, беларускае кнігадрукаванне, заснавальнікам якога быў выдатны асветнік і

мысліцель Францішак Скарына. Яго шматгранная энцыклапедычная дзейнасць дала пачатак развіццю ў нацыяльнай культуры і філасофскай думцы трывалай асветніцка-гуманістычнай плыні, стала ўзорам высакароднага служэння сваёй Айчыне, ідэалам свабоды, узаемаразумення паміж людзьмі і народамі.

Асветніцтва Ф.Скарыны несла яскравыя прыкметы рэнесансавай эпохі, уласцівы ёй дух крытыцызму і тэндэнцыю да абгрунтавання неабходнасці свабоднага развіцця чалавечай асобы. Канкрэтная рэалізацыя гэтай патрэбы і наданне дзейснага імпульсу рэальным працэсам эмансіпацыі заканамерна бачыліся ім у далучэнні шырокіх пластоў грамадства да агульначалавечых культурных здабыткаў.

Гуманістычная хрысціянская традыцыя Беларусі развівалася і ўмацоўвалася на працягу многіх стагоддзяў і стала адным з найбольш важных духоўных здабыткаў нацыянальнай духоўнай культуры. Рупліва працавалі на культурнай ніве выдатныя беларускія асветнікі 16—17 ст. Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Мялецій Сматрыцкі, Сімяон Полацкі і інш. Немалаважным у падтрымцы і развіцці гэтых традыцый быў удзел выдатных дзяржаўных мужоў — вялікіх князёў, палкаводцаў, мецэнатаў, дзейнасць якіх спрыяла ўсталяванню агульнадзяржаўных прававых, асветных і культурных прынцыпаў у краіне. Аднак разрыў паміж высокай кніжнай хрысціянскай культурай, носьбітамі якой яны з'яўляліся, і наяўнасцю т. зв. культуры калектыўнага мыслення выявіўся ў шэрагу фактараў, што з цягам часу прывяло да заняпаду старабеларускай культуры. Таму сёння такім актуальным стала ўсведамленне яе сутнасці і маральна-выхаваўчай накіраванасці.

Упэўненасць у магчымасцях чалавечага розуму як надзейнага сродку пазнання рэчаіснасці — глеба і выток рацыяналізму, які параўнаўча рана выявіўся ў старабеларускай культуры. Імкненне да філасофскага, рацыяналістычнага асэнсавання рэчаіснасці хутка набыло ўласцівую яму тэарэтычную форму аргументацыі і выкладання. Пра гэта пераканаўча сведчыць наяўнасць якасна адметных этапаў і стадый фарміравання старабеларускай культуры. Яшчэ на пачатковым этапе культурнага асветніцтва вядомы мысліцель і пісьменнік 12 ст. Клімент Смаляціч наперакор артадаксальным прыхільнікам рэлігійных догматаў

яскрава дэманстраваў узоры рацыяналістычнага асэнсавання светапоглядных уяўленняў з выкарыстаннем антычнай філасофскай спадчыны. Новыя абрысы і формы рацыяналізм паступова набываў з канца 14 ст., у перыяд узмацнення протарэнесансавых тэндэнцый, што найбольш поўна выявілася ў эпоху гуманістычнага і рэфармацыйнага руху 16—17 ст. У творчасці Ф.Скарыны, М.Гусоўскага, С.Буднага, В.Цяпінскага і іншых асветнікаў-гуманістаў рацыяналізм, свабода думкі ўсебакова выяраліся высокімі маральнымі крытэрыямі і ідэаламі Адраджэння і гарманічна спалучаліся з імі.

Менавіта ў рэфармацыйным асяроддзі вядуцца рацыяналістычныя пошукі і ўзнімаюцца праблемы нацыянальнага самавызначэння, гучаць заклікі да шанавання і развіцця ўласных нацыянальных духоўных каштоўнасцей як асновы захавання самастойнасці народа. В.Цяпінскі быў першым, хто ўзняў голас у абарону беларускай мовы, культуры нацыянальнай школы, і яму па праву належыць пачэсная роля выразніка гістарычнай неабходнасці свабоднага і незалежнага нацыянальнага развіцця.

Калі ў творчасці энцыклапедычна адукаванага пісьменніка і мысліцеля 17 ст. Сімяона Полацкага элементы рацыяналізму не выходзілі за межы рэлігійна-правідэнцыялісцкага светапогляду, то дзейнасць К.Лышчынскага сведчыла пра рэдкі для той эпохі крок разрыву з пануючымі ўяўленнямі і адкрытае сцвярджэнне прынцыпаў свабоднага філасофскага рацыяналізму.

Пошук рацыяналістычных сродкаў асэнсавання рэчаіснасці быў шляхам падрыхтоўкі і ўсталявання аб'ектыўнага навуковага пазнання, шляхам да новага светапогляду, што прывяло ў эпоху Асветніцтва (канец 18—пачатак 19 ст.) да інтэнсіўнага развіцця прыродазнаўчых ведаў і сцвярджэння магчымасцей у раскрыцці таямніц прыроды і грамадства. Філасофія і ідэалогія Асветніцтва абудзілі цікавасць да жыцця і культуры розных народаў, іх духоўна-нацыянальнай індывідуальнасці, што спрыяла разгортванню этнанацыянальнай ідэнтыфікацыі і фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці.

Маральны пафас хрысціянскага гуманізму і сцвярджэнне ім духоўнай суверэннасці чалавека непазбежна скіроўваліся на праблему ўпарадкавання сацыяльна-палітычных адносін.

У хрысціянскім жыццевучэнні мараль і маральнасць разглядаліся як нормы і законы чалавечага жыцця, адпаведныя ідэям дабра і справядлівасці. «Прирожены закон» Ф.Скарыны ўжо грунтуецца на універсальным маральным прынцыпе, паводле якога чалавек павінен паводзіць сябе ў адносінах да іншых так, як ён сам хацеў бы, каб яны паводзілі сябе ў адносінах да яго. Неабходнасць жа «закону напісанага», паводле Ф.Скарыны, выклікана шматлікімі парушэннямі «закону прыроджанага», права прызначана абараняць чалавека і грамадзянскую супольнасць ад рабаўніцтва, несправядлівасці і знявагі.

Пільная ўвага Ф.Скарыны да праблемы нарматыўна-прававога ўладкавання грамадскага жыцця, яго імкненне сцвердзіць высокае маральна-гуманістычнае прызначэнне права спрыялі развіццю палітыка-прававой думкі Беларусі, што было звязана з патрэбамі заканадаўчай практыкі 16 ст. і яе тэарэтычным абгрунтаваннем. Паяўленне Статутаў Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і асабліва Статута 1588, якія складзены пад кіраўніцтвам Л.Сапегі, было падзеямі выключнай важнасці і дасягненнем грамадскай нацыянальнай думкі. У тлумачэнні Л.Сапегі сутнасці права адчуваюцца тыповыя рэнесансава-гуманістычныя тэндэнцыі. Гэта найперш рацыяналістычнае разуменне прыроды прававых норм, якія былі «правдивым розсудком а мудрым умыслу человечего бачання», скіраваны на маральныя мэты і прынцыпы, на неабходнасць усталявання ў грамадстве дабрачыннасці і справядлівасці. Прапанаваная Л.Сапегам агульная трактоўка права як створанага дзяржавай судовага парадку для абароны грамадства ад насілля і свавольства, аховы добрай славы, здароўя і маёмасці кожнага чалавека была прасякнута ідэямі дэмакратызму. Усталяванне ў дзяржаве права і законнасці атаясамлівалася Л.Сапегам з грамадзянскай вольнасцю і свабодай для чалавека. З пачуццём патрыятычнай гордасці ён адзначаў, што кожнаму народу сорамна сваё права не ведаць, асабліва нам, «которые не обчым яким языком, але своим власным права списаные маем». З цягам часу традыцыя статутаў пашырыла свае гістарычныя абсягі, уключыла высокую адухоўленасць памкненняў мысліцеляў эпохі Асветніцтва ў рэфармаванне грамадства з улікам натуральных правоў чалавека на жыццё і свабоду, узбагацілася каштоўнасцямі сацыяльнай і нацыянальнай роў-

насці, выпрацаванымі ідэолагамі нацыянальнага вызвалення.

Складаныя абставіны палітычнага становішча Вялікага княства Літоўскага, якое, баронячыся ад агрэсіі з усходу, вымушана было пайсці на федэратыўнае аб'яднанне з Польшчай (1569), абцяжарваліся ідэалагічнымі супярэчнасцямі, звязанымі з пашырэннем каталіцызму на беларускіх землях, разгортваннем антырэфармацыйнага руху, а потым і заключэннем Брэсцкай царкоўнай уніі 1596. Атмасфера вострай ідэалагічна-рэлігійнай барацьбы вызначыла духоўнае аблічча ўсяго 17 ст. і абумовіла драматычныя калізіі жыцця і творчасці Мялеція Сматрыцкага, Лаўрэнція і Стэфана Зізаніяў, Афанасія Філіповіча, Сімяона Полацкага. Іх імёнамі старабеларуская культура як духоўна-светапоглядная з'ява і самабытная форма творчасці завяршала свой гістарычны шлях. Гэты працэс быў паскораны дэнацыяналізацый вярхоў беларускага грамадства, яго вышэйшых адукаваных пластоў, што трагічна адбілася на далейшым лёсе народа. 18—пачатак 19 ст. быў на Беларусі часам сумеснага існавання і своеасаблівага ўзаемадзеяння разнастайных духоўных тэндэнцый — ад схаластычных да аб'ектыўна-рацыяналістычных, якія спрыялі ідэалогіі Асветніцтва. Менавіта ў асветніцкім асяроддзі выспявалі ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння.

На працягу 19 ст. з гістарычнай непазбежнасцю развіваліся і ўзмацняліся тэндэнцыі дэмакратычнага вызваленчага руху, этнакультурнай кансалідацыі беларускага народа, фарміравання беларускай нацыі. Пачынаецца эпоха нацыянальнага Адраджэння, станаўлення і развіцця новай беларускай культуры. Гэтая эпоха натхніла на самаадданую творчую і рэвалюцыйную дзейнасць славутую плеяду выразнікаў карэнных нацыянальных інтарэсаў беларускага народа — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янку Лучыну, народнікаў-гоманаўцаў, Адама Гурыновіча, Цётку, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Антона Луцкевіча, Власта Ластоўскага, Максіма Гарэцкага і многіх інш. Сваёй творчай дзейнасцю яны сцвярджалі карэнныя ідэі і прынцып нацыянальнай свядомасці — разуменне ўласнага гістарычнага шляху беларускага народа. Іх гістарычнае, культурнае і этнатэрытарыяльнае абгрунтаванне рэальнай суверэннасці, сама-

стойнасці беларускага народа да сённяшняга дня захоўваюць сваю актуальнасць і застаюцца духоўным падмуркам сучаснай нацыянальнай свядомасці беларусаў. У адрозненне ад старабеларускай культуры, якая абапіралася на універсальныя светапоглядныя здабыткі хрысціянства, новая беларуская культура ўзнікла на трывалай фальклорнай аснове і была пераважна сялянскай па сваіх каранях. Яна мела выразны канкрэтна-сацыяльны кірунак і змест, была прасякнута ідэямі свабоды і сацыяльнай роўнасці, што і абумовіла характар яе гуманізму — народніцкага, нацыянальна-вызваленчага. Пакладзеныя ў падмурак новай беларускай культуры каштоўнасці сапраўднага, паўнакроўнага жыцця, свабоды, працы чалавека былі тыповымі гуманістычнымі каштоўнасцямі эпохі вызваленчага дэмакратычнага руху, эпохі разняволення нацый, фарміравання чалавечай асобы.

Духоўныя традыцыі — гэта крышталізацыя найважнейшых здабыткаў той культуры, якая была спадарожнікам і вынікам намаганняў народа, яго лепшых прадстаўнікоў у мінулыя часы. Адначасова гэта прадбачанне сённяшняга і будучага. Зараз яны могуць надзейна абапірацца на гуманістычныя традыцыі, прасякнутыя стваральным пафасам, праслаўленнем духоўнай сутнасці чалавека, на дасягненні культуры, заснаванай на павазе да права і законнасці, на рашучым непрыняцці дэспатызму, прымусу і гвалтоўнасці, на плён культуры свабоднага чалавечага розуму, на вызваленчы пафас дэмакратычных ідэй роўнасці і незалежнасці ўсіх народаў, іх суверэнных правоў на ўласнае самавызначэнне і развіццё.

Этычны універсалізм старабеларускай культуры і сацыяльная гуманістычная накіраванасць нацыянальнай культуры Новага часу сёння павінны быць аднаўлены ва ўсім багацці іх зместу і разнастайнасці форм, набыць новую форму універсальнасці, культурнай усеагульнасці. Такія намаганні могуць быць плённымі толькі ў кірунку выпрацоўкі гуманістычных дэмакратычных здабыткаў — палітычных, грамадзянскіх, духоўных. Галоўнымі сярод іх з'яўляюцца ўсведамленне сутнасці свабоды як найважнейшай вартасці грамадскага быцця, сцвярджэнне каштоўнасці чалавека як галоўнай мэты намаганняў і клопату нацыянальнай дзяржавы, усіх грамадскіх інстытутаў насуперак пануючай у таталітарным грамадст-

ве абсалютнай перавагі агульнадзяржаўнага над індывідуальным. Праблема заключаецца ў тым, каб рэалізаваць гуманістычныя ствараль-ныя патэнцыі нацыянальнай грамадскай свядомасці, садзейнічаць яе развіццю, забяспечваючы тым самым агульны прагрэс беларускай дзяржавы і беларускага народа.

*А.С.Майхровіч,*
доктар філасофскіх навук.

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**АБЫВАЦЕЛІ** (абывата лі) — пастаянныя жыхары пэўнай мясцовасці. У 16—18 ст. у прававых актах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай так называлі шляхціцаў.

**АДУКАЦЫЙНАЯ КАМІСІЯ** (Эдукацыйная камісія) — установа па кіраўніцтве народнай асветай у Рэчы Паспалітай з сярэдзіны 18 ст.

**АКАНОМ** — кіраўнік маёнтка.

**АКЦЯБРЫСТЫ** («Саюз 17 кастрычніка») — партыя буйных памешчыкаў і гандлёва-прамысловай буржуазіі ў Расійскай імперыі, створаная ў лістападзе 1905 пасля апублікавання царскага маніфеста 17 кастрычніка (рус. октября, адсюль і назва).

**АЛІГАРХІЯ** — палітычнае і эканамічнае панаванне групы найб. магутных асоб, рэжым, пры якім палітычная ўлада належыць вузкай групе найбольш багатых асоб.

**АМАЛЬГАМА** — сумесь, злучэнне чагонебудзь разнароднага.

**АМБІВАЛЕНТНАСЦЬ** — дваістасць, супярэчлівасць пачуццяў, эмоцый, якія адчувае чалавек да аднаго і таго ж аб'екта.

**АНАБАПТЫСТЫ** — адна з плыняў рэлігійнай рэфармацыі, пераважна ў Германіі.

**АНАФЕМА** — адлучэнне ад царквы; пракляцце.

**АНТАБЛЕМЕНТ** у архітэктуры — бэлечнае перакрыцце пралёта або завяршэнне сцяны.

**АНТАЛОГІЯ** — 1) раздзел філасофіі, які вывучае фундаментальныя прынцыпы найб. агульнай сутнасці і катэгорыі існуючага. 2) Зборнік літаратурна-мастацкіх твораў розных аўтараў.

**АНТРАПАЦЭНТРЫЗМ** — рэлігійна-ідэалістычны погляд, паводле якога чалавек — цэнтр сусвету і канчатковая мэта ўсёй светабудовы.

**АНТРЭПРЭНЁР** — уладальнік ці арандатар прыватнага відовішчнага прадпрыемства, найчасцей — тэатра.

**АНТЫДОТУМ** — проціяддзе.

**АНТЫКВА** — лацінскі шрыфт прамавугольнай вугластай формы.

**АНТЫНОМІЯ** — супярэчнасць паміж двума палажэннямі, якія ўзаемна выключаюць адно аднаго.

**АНТЫТРЫНІТАРЫІ** — прыхільнікі хрысціянскай «ерасі», якая абвяргае догмат пра божую *тройцу* — 3 іпастасі Бога (Бог-айцец, Бог-сын, Бог Дух Святы).

**АПАФЕГМАТЫ** — старажытныя зборнікі трапных і павучальных выслоўяў або павучальных апавяданняў.

**АПОКРЫФ** — твор з біблейскім сюжэтам, змест якога не зусім адпавядае афіцыйнаму веравучэнню і не ўключаны царкоўнікамі ў *канон*.

**АРДЫНАТАР** — уласнік *ардынацыі*.

**АРДЫНАЦЫЯ** — непадзельная і неадчужальная ўласнасць пэўнага магнацкага роду ў Рэчы Паспалітай.

**АРТАДОКСІЯ** — кірунак, якога няўхільна прытрымліваецца пэўнае вучэнне, светапогляд.

**АРФАЭПІЯ** — раздзел лінгвістыкі, які вывучае правільнае літаратурнае вымаўленне.

**АРХІБІСКУП** — старшы біскуп, адна з вышэйшых ступеняў у іерархіі каталіцкай царквы.

**АРХІДЫЯКАН** — старшы дыякан, тытул святара пры храме, які валодае пэўнымі правамі нагляду за прыходскімі святарамі.

**АРХІЕРЭЙ** — агульная назва вышэйшых праваслаўных свяшчэннаслужыцеляў (епіскап, архіепіскап, мітрапаліт).

**АРХІМАНДРЫТ** — старшы манаскі сан 2-й ступені свяшчэнства (перад епіскапам); звычайна гэты сан мае настаяцель мужчынскага манастыра, рэктар духоўнай навучальнай установы.

**АРЫФМАЛОГІЯ** — чыстая матэматыка.

**АРЭАЛ** — вобласць пашырэння на зямной паверхні якой-небудзь з'явы, відаў жывёл, раслін і інш.

**АСВЕТНІЦТВА** — эпоха; ідэалагічная плынь і філасофская канцэпцыя, прыхільнікі якой зыходзілі з прыярытэту асветы, навукі і розуму ў жыцці асобы, грамадства, дзяржавы.

**АСКЕЗА** — лад жыцця, які адпавядае патрабаванням аскетызму (крайняя ступень устрымання і адрачэння ад жыццёвых даброт).

**АСТРАМЕТРЫЯ** — раздзел астраноміі, які займаецца вызначэннем дакладнага месцазнаходжання нябесных цел і іх змен з цягам часу.

**АСТЭАЛОГІЯ** — раздзел анатоміі, які

вывучае будову і форму касцей у сувязі з іх функцыямі.

**АТАМІЗМ** — вучэнне аб перарывістай дыскрэтнай будове матэрыі.

**АТЭІЗМ** — бязбожжа; гістарычна разнастайныя формы адмаўлення абвяржэння рэлігійных уяўленняў і культаў, сцвярджае самакаштоўнасць быцця свету і чалавека.

**АЎДЫТАРЫЯТ** (п а л я в ы  а ў д ы т а р ы я т) — надзвычайная судовая ўстанова, якая разглядала справы ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў 1847—48 у Польшчы, Літве і на Беларусі.

**АЎТАКЕФАЛІЯ** — самастойная царква, арганізацыйна незалежная ад аднайменнай царкоўнай арганізацыі, што знаходзіцца ўнутры або за межамі гэтай краіны.

**АЎТАРЫТАРЫЗМ** — антыдэмакратычная сістэма палітычнага панавання; антыправавая канцэпцыя і практыка ўладарання; рэжым беззаконня, гвалтоўнай улады, не абмежаванай правам, найчасцей звязанай з дыктатурай адной асобы.

**БАКАЛАЎР** — 1-я вучоная ступень у многіх заходнееўрапейскіх краінах.

**БАРОКА** — стыль у еўрапейскім мастацтве, які змяніў у 16 ст. стыль рэнесансу; вылучаўся дэкаратыўнасцю і пышнасцю.

**БЕЛАЕ ДУХАВЕНСТВА** — ніжэйшыя служыцелі праваслаўнай царквы ў прыходскіх цэрквах; складаецца з жанатых асоб (у адрозненне ад чорнага духавенства вышэйшага і манахаў, якім не дазваляўся шлюб).

**«БЕЛЫЯ»** — кансерватыўна-ліберальная партыя ў нацыянальна-вызваленчым руху напярэдадні і ў час паўстання 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Выступалі супраць узброенага паўстання народа, спадзяваліся праз палітычныя камбінацыі дамагчыся ўступак ад царскіх улад і аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.

**БЛАГАЧЫННЫ** — памочнік епіскапа ў праваслаўнай царкве, які наглядаў за духавенствам некалькіх цэркваў ці манастыроў.

**БЛАНКІЗМ** — плынь у французскім рэвалюцыйным руху, звязаная з імем Л.А.Бланкі, які адмаўляў класавую барацьбу.

**БРАЦТВЫ** — нацыянальна-рэлігійныя арганізацыі беларускага і ўкраінскага насельніцтва ў 16—18 ст.; праваслаўныя і уніяцкія брацтвы існавалі пры цэрквах і манастырах, каталіцкія — пры касцёлах і кляштарах.

**БУРМІСТР**, б у р г а м і с т р — выбарная асоба, якая ўзначальвала мясцовае самакіраванне ў гарадах, дзе дзейнічала *магдэбургскае права.*

**БУСОЛЬ** — вугламерная прылада, якая служыць для вымярэння магнітнага азімута на мясцовасці; выкарыстоўваецца пры кіраванні артылерыйскім агнём.

**ВАЛОКА** — 1) зямельная мера на Беларусі ў 15 — пачатку 20 ст. 2) Адзінка абкладання сялян Вялікага княства Літоўскага феадальнымі павіннасцямі ў 16—18 ст.

**ВІЗІТАТАР** — інспектар.

**ВОЙСКІ**, в а й с к о в ы — ад'ютант *гетмана.*

**ВОЙТ** — службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, якая ўзначальвала мясцовае кіраванне або самакіраванне.

**ГАЛОЎНАЯ ШКОЛА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА** — назва ў 1773—96 Віленскай акадэміі, заснаванай у 1579; у 1796—1803 — Галоўная Віленская школа, з 1803 — Віленскі універсітэт.

**ГАМІЛЕТЫКА** — раздзел багаслоўя, у якім разглядаюцца тэарэтычныя і практычныя пытанні царкоўнай прапаведзі.

**ГАНЗЕЙСКІ САЮЗ** — гандлёвы і палітычны саюз паўночных нямецкіх гарадоў на чале з г. Любек у 14—16 ст.

**ГАРАДЗЕЛЬСКАЯ УНІЯ 1413** — саюз Вялікага княства Літоўскага з Польшчай.

**ГАРАДНІЧЫ** — 1) начальнік горада ці замка на Беларусі ў 15—18 ст. 2) У царскай Расіі (да 1862) кіраўнік гарадской адміністрацыі.

**ГЕАГНОЗІЯ**, г і с т а р ы ч н а я  г е а л о г і я — навука, якая вывучае помнікі жыцця на Зямлі.

**ГЕКЗАМЕТР** — вершаваны памер антычнай сістэмы вершаскладання.

**ГЕНЕАЛОГІЯ** — радавод; дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае паходжанне і родныя сувязі гістарычных асоб, радоў, прозвішчаў; галіна ведаў па складанні радаводаў.

**ГЕРМЕНЕЎТЫКА**, э к з е г е т ы к а — тэорыя, практыка і мастацтва тлумачэння тэксту старажытных літаратурных твораў (класічнай старажытнасці, Бібліі і да т.п.).

**ГЕТМАН** — начальнік войска ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Польшчы ў 15—18 ст. (вялікі кароны, літоўскі, яго намеснік — польны), на Украіне ў 16—17 ст. — начальнік рэестравых казакоў.

**ГІМНАЗІЯ** — сярэдняя агульнаадукацыйная навучальная ўстанова.

**ГЛАГОЛІЦА** — адна з дзвюх старажытных славянскіх азбук у 10—11 ст.; ад кірыліцы адрознівалася формаю літар.

**ГНАСЕАЛОГІЯ** — тэорыя пазнання; раздзел філасофіі, які вывучае крыніцы,

сродкі і ўмовы праўдзівасці навуковага пазнання.

**ГНАСТЫЦЫЗМ** — рэлігійна-філасофская плынь ранняга хрысціянства, якая ўяўляе мешаніну з хрысціянскіх рэлігійных догматаў, грэчаскай ідэалістычнай філасофіі і ўсходніх рэлігій.

**ГРАВІМЕТРЫЯ** — навука пра вымярэнне сілы цяжару ў розных пунктах паверхні зямлі, планет і іх спадарожнікаў.

**ГРАТЭСК** (у мастацтве, тэатры, літаратуры) — выявы людзей або прадметаў у перабольшаным, пачварна-камічным выглядзе, дзе кантрастна спалучаецца рэальнае і фантастычнае, трагічнае і камічнае, прыгожае і агіднае.

**ГРОСМАЙСТАР** — кіраўнік духоўна-рыцарскага ордэна ў сярэднявеччы.

**ГУГЕНОТЫ** — прыхільнікі кальвінізму ў Францыі ў 16—18 ст.

**ДАГМАТЫЗМ** — мысленне застылымі нязменнымі формуламі без уліку канкрэтных умоў, месца і часу.

**ДВАІСТАЯ ІСЦІНА** — канцэпцыя ў сярэдневяковай філасофіі, паводле якой дапускаецца супярэчнасць паміж філасофскай ісцінай і ісцінай тэалогіі.

**ДЗЕДЗІЧЫ** — асобы, якія атрымалі ў спадчыну маёнткі ад дзядоў і прадзедаў.

**ДЗЯМІДАЎСКАЯ ПРЭМІЯ** — ганаровая навуковая ўзнагарода на сродкі П.М.Дзямідава, якую прысуджала Пецярбургская акадэмія навук у 1832—65 за апублікаваныя працы па навуцы, тэхніцы, мастацтве.

**ДРАГАМАН** — перакладчык пры дыпламатычных прадстаўніцтвах і консульствах на Усходзе.

**ДРЭВАРЫТ** — гравюра на дрэве.

**ДУАЛІЗМ** — філасофскае вучэнне, якое зыходзіць з прызнання двух пачаткаў — духа і матэрыі; двайстасць.

**ДЫДАКТЫКА** — раздзел педагогікі, які выкладае тэарэтычныя асновы адукацыі і навучання.

**ДЫСІДЭНТ** — раскольнік, які адступае ад догматаў пануючай царквы; у Рэчы Паспалітай так называлі і праваслаўных.

**ДЫСТРЫКТ** — адміністрацыйная і судовая акруга ў некаторых краінах.

**ДЫЯЛЕКТЫКА** — вучэнне пра найбольш агульныя законы развіцця прыроды, грамадства і мыслення; пра заканамерныя сувязі, станаўленне і развіццё быцця, пазнання і метад мыслення, заснаваны на гэтым вучэнні.

**ДЫЯРЫУШ** — жанр гістарычна-дакументальнай прозы ў старажытнай беларускай літаратуры, у якім падзеі жыцця выкладаліся ў храналагічнай паслядоўнасці; дзённік.

**ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ** — страта нацыянальных асаблівасцей у культуры, мове і да т.п.

**ДЭПАРТАМЕНТ** — назва аддзела ў вышэйшых адміністрацыйных і судовых установах у дарэвалюцыйнай Расіі.

**ДЭСПАТЫЗМ** — форма самадзяржаўнай неабмежаванай нічым улады.

**ЕЗУІТЫ** — члены манаскага каталіцкага ордэна «Таварыства Ісуса», заснаванага ў 1534 І.Лаёлам для барацьбы з Рэфармацыяй.

**ЕПАРХІЯ** — царкоўна-адміністрацыйная адзінка на чале з архіерэем (епіскапам) у праваслаўных цэрквах.

**ЕШЫБОТ** — вышэйшая яўрэйская школа, заснаваная для вывучэння талмуда. Упершыню паявіліся ў Вавілоне, потым у Егіпце, адкуль перайшлі ў Іспанію, Францыю, Германію, з 1550 у Польшчу, на Беларусь.

**ЖАЛЬНІК** — могільнік 13—18 ст., дзе кожная магіла абкладзена камянямі.

**ЖОНД НАРАДОВЫ** — цэнтральны калегіяльны орган паўстанцкай улады ў час нацыянальна-вызваленчага руху ў 1830—31, 1846 і 1863—64.

**ЖЫЦІЕ** — від рэлігійнай літаратуры; апавяданне пра жыццё духоўнай ці свецкай асобы, кананізаванай хрысціянскай царквой.

**ЗАСЦЕНАК** — паселішча хутарскога тыпу дробнай шляхты, якая арандавала землі за межамі (за сценамі, адсюль і назва) надзельных і абшчынных зямель.

**ЗЯМЯНЕ** — катэгорыя ваеннаслужылага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім; тое, што і шляхта.

**ІЕРАМАНАХ** — манах-святар.

**ІКАНАБОРСТВА** — сацыяльна-палітычны і рэлігійны рух у Візантыі ў 8—9 ст., накіраваны супраць культу абразоў.

**ІМАНЕНТНЫ** — унутрана ўласцівы якому-небудзь прадмету ці з'яве, што вынікае з іх прыроды.

**ІНКАРПАРАЦЫЯ** — далучэнне, уключэнне чаго-небудзь у адно цэлае, аб'яднанне.

**ІПАЛОГІЯ** — навука пра каня, яго анатомію, фізіялогію і інш.

**КААД'ЮТАР** — духоўны сан у каталіцкай царкве, намеснік кіраўніка епархіі.

**КАБАЛІСТЫКА** — ненавуковыя высновы, зробленыя на падставе выпадковых прыкмет або штучна падабраных фактаў.

**КАДЭТЫ** — выхаванцы кадэцкага корпуса — закрытай сярэдняй ваенна-навучальнай установы для падлеткаў.

**КАЗАННЕ** — прамова святара ў канцы

літургіі; від царкоўна-рэлігійнай прапаведніцкай літаратуры.

**КАЛЕ́ГІУМ** — езуіцкая навучальная ўстанова ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

**КАЛЕ́ЖСКІ АСЭ́САР** — грамадзянскі чын 8-га класа ў дарэвалюцыйнай Расіі.

**КАЛЕ́ЖСКІ РЭГІСТРА́ТАР** — самы малодшы цывільны чын 14-га класа ў дарэвалюцыйный Расіі.

**КАЛІ́ЗІЯ** — сутыкненне супрацьлеглых сіл, поглядаў, імкненняў, інтарэсаў.

**КАЛЬВА́РЫЯ** — каталіцкія могілкі.

**КАЛЬВІНІ́ЗМ** — адно з пратэстанцкіх вучэнняў, якое ўзнікла ў 16 ст. ў Швейцарыі (ад прозвішча Ж.Кальвіна).

**КАМЕРГЕ́Р** — прыдворнае званне старшага рангу ў заходнееўрапейскіх манархічных дзяржавах і ў царскай Расіі.

**КАМО́РНІК-ТАКСА́ТАР** — землямер, землеўпарадчык.

**КАМПЕ́ДЫУМ** — сціслы выклад асноўных палажэнняў якой-небудзь навукі.

**КАНВЕ́НТ** — сход.

**КАНВІ́КТ** — пансіён, інтэрнат.

**КАНГРЭГА́ЦЫЯ** (у каталіцкай царкве) — 1) аб'яднанне манаскіх суполак, якія падпарадкоўваліся пэўнаму статуту. 2) Рэлігійная арганізацыя (брацтва), якой кіруе манаскі ордэн.

**КАНО́Н** — царкоўнае ўстанаўленне, правіла.

**КАНО́НІК** — у каталіцкай царкве святар, які падпарадкоўваецца пэўнаму статуту, але не дае манаскага зароку.

**КАНСІСТО́РЫЯ** — 1) у праваслаўнай царкве ўстанова пры архіерэі з царкоўна-адміністрацыйнымі і царкоўна-судовымі функцыямі. 2) У каталіцкай царкве нарада пры папе рымскім. 3) У пратэстантызме царкоўна-адміністрацыйны орган.

**КАНСТЫТУ́ЦЫЯ** — 1) асноўны закон дзяржавы. 2) Пастанова вальнага сойма Рэчы Паспалітай.

**КА́НТАР** — царкоўны пеўчы ў пратэстанцкіх цэрквах і сінагогах.

**КАНФЕ́СІЯ** — веравызнанне, прыналежнасць да пэўнай рэлігіі.

**КА́НЦЛЕР** — у Вялікім княстве Літоўскім начальнік канцыляры вялікага князя, хавальнік вялікай дзяржаўнай пячаткі.

**КАНЮ́ШЫ** — службовая асоба, якая адказвала за велікакняжацкія табуны і стайні, пазней ганаровы тытул у Вялікім княстве Літоўскім.

**КАПЕЛА́Н** — 1) святар каталіцкай капліцы-капэлы. 2) Святар у арміі.

**КАПІТУ́Л** — 1) калегія святароў пры біскупе ў каталіцкай царкве. 2) Агульны сход членаў манаскага або духоўна-рыцарскага ордэна.

**КАПУ́ЦЫН** — член каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў 16 ст. як адгалінаванне ордэна францысканцаў.

**КАРДЫНА́Л** — вышэйшае (пасля папы) духоўнае званне ў каталіцкай царкве.

**КАРМЕЛІ́ТЫ** — члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў час крыжацкіх паходаў у 12 ст. ў Палесціне на гары Кармель (адсюль назва).

**КАРПАРА́ЦЫЯ** — таварыства, саюз, групоўка асоб, аб'яднаных агульнасцю прафесійных або саслоўных інтарэсаў.

**КАРТЭЗІЯ́НСТВА** — кірунак у філасофіі і прыродазнаўстве 17—18 ст., тэарэтычнай крыніцай якога былі ідэі французскага філасофа-дуаліста Р.Дэкарта (лацінізаванае імя Cartesins Картэзій, адсюль і назва).

**КАСМАЛО́ГІЯ** — галіна навукі, якая вывучае Сусвет як цэлае і касмічныя сістэмы як яго часткі.

**КАСМАПАЛІТЫ́ЗМ** — ідэалогія сусветнага грамадзянства ў эпоху Адраджэння і Асветніцтва, накіраваная супраць феадальнай раздробленасці і вызвалення асобы ад феадальных пут.

**КАТЭХІ́ЗІС** — кароткае выкладанне хрысціянскага веравучэння ў форме пытанняў і адказаў.

**КАШТАЛЯ́Н** — камендант замка, памочнік ваяводы ў Вялікім княстве Літоўскім.

**КІРЫ́ЛІЦА** — адна з дзвюх (разам з глаголіцай) славянскіх азбук.

**КІПРЭГЕЛЬ** — геадэзічны інструмент.

**КЛІР** — агульнае найменне служыцеляў якой-небудзь царквы.

**КЛЮ́ЧНІК** — службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім; выконваў функцыі вартаўніка, замыкаў на ноч гарадскую браму і зберагаў ключы ад яе.

**КЛЯ́ШТАР** — каталіцкі манастыр.

**КОНТРРЭФАРМА́ЦЫЯ** — царкоўна-палітычны рух у Еўропе сярэдзіны 16—17 ст. на чале з папствам, накіраваны супраць *Рэфармацыі.*

**КОНТЭРФЕ́КТ** (польск.) — партрэт; карціна.

**КРА́ЙЧЫ** — службовая асоба, якая наразала (кроіла) закускі і адказвала за сервіроўку стала вялікага князя; пазней ганаровае званне ў Вялікім княстве Літоўскім.

**КРЫТЫЦЫ́ЗМ** — крытычная філасофія, асновай якой з'яўляецца крытыка пазнавальных здольнасцей чалавека.

**КРЫТЫ́ЧНЫ РЭАЛІ́ЗМ** — кірунак у мастацтве.

**КРЭАЦЫЯНІ́ЗМ** — кірунак у прыро-

дазнаўстве, паводле якога ўзнікненне Сусвету, Зямлі і жыцця ёсць вынік «божага тварэння».

**КСІЛАГРА́ФІЯ** — гравіраванне па дрэве.

**КУРФЮ́РСТ** — у Свяшчэннай Рымскай імперыі князь (духоўны ці свецкі), за якім было замацавана права выбіраць імператара.

**ЛАНКА́СТЭРСКАЯ ШКО́ЛА** — навучальная ўстанова з метадам узаемнага навучання; настаўнікі прыцягвалі да выкладання найбольш падрыхтаваных вучняў старэйшых класаў.

**ЛАТЭ́Н** — археалагічная культура кельцкіх плямён у заходняй і цэнтральнай Еўропе (5 ст. да н.э. — 1 ст. н.э.).

**ЛА́ЎНІК** — 1) прысяжны засядацель, член магістрата ў гарадах з магдэбургскім правам у Вялікім княстве Літоўскім. 2) Службовая асоба ў вёсцы, уведзеная паводле «Уставы на валокі» 1557.

**«ЛЕГА́ЛЬНЫ МАРКСІ́ЗМ»** — ідэйная плынь расійскай інтэлігенцыі ў 1890-я гады.

**ЛЕКСІКАГРА́ФІЯ** — раздзел мовазнаўства, што займаецца тэорыяй і практыкай складання слоўнікаў.

**ЛІ́БЕРУМ ВЕ́ТА** — звычай у праве Рэчы Паспалітай, паводле якога ўсякі дэпутат сойма ці сойміка мог выказаць нязгоду з любой пастановай, што азначала спыненне пасяджэння і скасоўвала ўсе рашэнні, прынятыя на гэтым пасяджэнні.

**ЛІТУРГІ́Я** — хрысціянскае набажэнства (у праваслаўных — абедня, у católікаў — меса), у час якога адбываецца прычашчэнне.

**ЛІЦЭ́Й** — у дарэвалюцыйнай Расіі прывілеяваная навучальная ўстанова, якая рыхтавала вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў.

**МАГІ́СТР** — 1) найвышэйшая службовая асоба ў духоўна-рыцарскім ордэне. 2) Вучоная ступень у англа-амерыканскай і дарэвалюцыйнай расійскай сістэме вышэйшай адукацыі.

**МАГІСТРА́Т** — выбарны адміністрацыйны і судовы орган самакіравання ў гарадах з магдэбургскім правам Вялікага княства Літоўскага.

**МА́КСІМА** — кароткае выслоўе, якое ў дакладнай форме фармулюе маральнае ці жыццёвае правіла.

**МАНІ́ЗМ** — спосаб разгляду разнастайнасці з'яў, зыходзячы з адзінай асновы (субстанцыі) усяго існуючага.

**МАРГІНЕ́С** — поле на старонках кнігі, рукапісу.

**МАРКГРА́Ф** — уладар феадальнага княства (маркграфства) у сярэдневяковай Германіі.

**МАРША́ЛАК** — 1) вышэйшая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. 2) Назва павятовага і губернскага прадвадзіцеля дваранства пасля далучэння Беларусі да Расіі.

**МАСО́НЫ** — члены рэлігійна-філасофскага таварыства, што ўзнікла ў 18 ст. ў Англіі, пазней пашырыла сетку сваіх ячэек (ложаў) і ў іншых краінах свету.

**МАСТАЎНІ́ЧЫ** — службовая асоба, якая сачыла за станам дарог, мастоў, грэбляў у Вялікім княстве Літоўскім.

**МАТРЫКУ́Л** — афіцыйны спіс асоб пэўнага стану (напр., студэнтаў універсітэта, шляхецкіх прозвішчаў).

**МЕДЗЯРЫ́Т** — гравюра на медзі.

**МЕ́ЛАС** — меладычны пачатак музыкі ў старажытнай Грэцыі.

**МЕНТАЛІТЭ́Т** — склад розуму; псіхалогія, светаўспрыманне, светаадчуванне.

**МЕСІЯНІ́ЗМ** — рэлігійная вера ў прышэсце Месіі — выратавальніка, які павінен з'явіцца з неба для ўсталявання «царства божага» на Зямлі.

**МЕТАФІ́ЗІКА** — спосаб мыслення, які ў процілегласць дыялектыцы лічыць сутнасць рэчаў, прадметаў і з'яў нязменнымі.

**МЕ́ТРЫКА ВЯЛІ́КАГА КНЯ́СТВА ЛІТО́ЎСКАГА** — дзяржаўны архіў Вялікага княства Літоўскага 14—18 ст.

**МЕ́ЧНІК** — службовая асоба, якая адказвала за ўзбраенне велікакняжацкага войска, пазней ганаровае званне ў Вялікім княстве Літоўскім.

**МІМЕ́СІС** — тэрмін старажытнай грэчаскай філасофіі, які характарызуе сутнасць чалавечай творчасці, у т.л. мастацтва, як перайманне рэчаіснасці навакольнага свету.

**МІНІ́СТР** — кіраўнік міністэрства, член урада. У гэтым выданні пратэстанцкі святар.

**МІТРАПАЛІ́Т** — вышэйшы сан праваслаўных і каталіцкіх епіскапаў (біскупаў).

**НАБІЛІТА́ЦЫЯ** — наданне права на высакародства, што давала доступ да найвышэйшых дзяржаўных пасад.

**НАВІЦЫЯ́Т** — выпрабавальны тэрмін, царкоўнае паслушэнства.

**НАЙВЫШЭ́ЙШАЯ ЛІТО́ЎСКАЯ РА́ДА** — рэвалюцыйны ўрад Літвы і Беларусі ў час паўстання 1794.

**НАМЕ́СНІК** — у Вялікім княстве Літоўскім прадстаўнік вялікага князя, якому належала ўся адміністрацыйна-гаспадарчая і судовая ўлада на тэрыторыі былых самастойных княстваў.

**НАМІНАЛІ́ЗМ** — кірунак сярэдневяковай схаластычнай філасофіі, які ў процілегласць рэалізму адмаўляў рэальнае існаванне агульных паняццяў.

**НАТУРФІЛАСОФІЯ** — філасофія прыроды, абстрактнае тлумачэнне прыроды, якая разглядалася ў яе цэласнасці.

**НЕСЦЯЖАЦЕЛЬСТВА** — рэлігійна-палітычная плынь у рускай дзяржаве канца 15 — пачатку 16 ст.; прапаведванне аскетызму.

**НІВЕЛІР** — прылада для вызначэння адносных вышынь розных пунктаў зямной паверхні.

**НІРВАНА** — паняцце ў будыйскай рэлігіі, якое азначае найвышэйшы стан і найвышэйшую мэту чалавечага імкнення — паўнату ўнутранага быцця, адсутнасць жаданняў, абсалютную адлучанасць ад навакольнага свету.

**НОЎМЕН** (у філасофіі Канта) — непазнавальная «рэч у сабе».

**НУНЦЫЙ** — папскі пасол.

**ПАДКАМОРЫ** — у Вялікім княстве Літоўскім службовая асоба, якая разглядала спрэчкі ў падкаморскім судзе.

**ПАДКАНЦЛЕР** — службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім; намеснік канцлера.

**ПАДЛОЎЧЫ** — службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім; намеснік лоўчага.

**ПАДСКАРБІ** — вышэйшая службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім: загадваў дзяржаўным скарбам.

**ПАДСТАРОСТА** — намеснік старосты.

**ПАДСУДАК** — памочнік суддзі ў Вялікім княстве Літоўскім.

**ПАЗОВА** (позва, позыў да права) — пісьмовы выклік у суд у Вялікім княстве Літоўскім.

**ПАЛЕАГРАФІЯ** — гісторыка-філалагічная дысцыпліна, якая вывучае развіццё пісьменства.

**ПАНЕГІРЫК** — літаратурны жанр: хвалебная прамова ці літаратурны твор (ода).

**ПАНСЛАВІЗМ** — ідэя аб'яднання славянскіх народаў пад вяршэнствам рускага цара ў канцы 18 — пачатку 20 ст.

**ПАНТЭІЗМ** — рэлігійнае і філасофскае вучэнне, якое атаясамлівае Бога і сусветнае цэлае.

**ПАНЫ-РАДА** — найвышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім.

**ПАРАЛАГІЗМ** — тэрмін логікі, які абазначае ўсякі лжывы доказ; сінонім *сафізму*.

**ПАСОЛ** соймавы — дэпутат, прадстаўнік павятовай шляхты Вялікага княства Літоўскага на агульным (вальным) сойме.

**ПАСПАЛІТАЕ РУШЭННЕ** — усеагульная мабілізацыя, апалчэнне, агульны паход у Вялікім княстве Літоўскім.

**ПАТРЫСТЫКА** — сукупнасць тэалагічных, філасофскіх і палітыка-сацыялагічных дактрын хрысціянскіх мысліцеляў 2—8 ст., т. зв. айцоў царквы.

**ПАТРЫЯРХ** — найвышэйшая духоўная асоба ў праваслаўнай царкве.

**ПАТЭНЦЫЯ** — наяўнасць сіл, матэрыяльных сродкаў і іншых магчымасцей, неабходных для якіх-небудзь дзеянняў.

**ПАЎПЕРЫЗМ** — галеча працоўных мас як вынік узрастаючай эксплуатацыі.

**ПАФАС** — гарачае пачуцце, уздым.

**ПАЭТЫКА** — раздзел літаратуры, што вывучае структуру літаратурных твораў і сістэму эстэтычных сродкаў, якія ў іх выкарыстоўваюцца; сістэма мастацкіх сродкаў, характэрных для паэта, кірунку, эпохі.

**ПЕРЫПАТЭТЫКІ** — вучні або паслядоўнікі школы Арыстоцеля — найбуйнейшага цэнтра антычнай навукі.

**ПІСАР** — у Вялікім княстве Літоўскім службовая асоба, якая вяла справаводства ў дзяржаўных установах.

**ПІЯРЫ** — члены каталіцкага манаскага ордэна, заснаванага ў 1597 у Рыме. У Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім паявіліся ў 1642, мелі тут свае школы.

**ПЛУТАКРАТЫЯ** — дзяржаўны лад, пры якім палітычная ўлада фармальна і фактычна належыць вярхам пануючых класаў.

**ПНЕЎМАТАЛОГІЯ** — раздзел метафізікі, які складаецца з тэалогіі, псіхалогіі і касмалогіі (паводле Б.Дабшэвіча).

**ПРАВА НАРОДАЎ** — галіна рымскага права, якая склалася на аснове звычаяў, у працэсе зносін Рыма з іншымі народамі і міжнароднага выкарыстання.

**ПРАВІДЭНЦЫЯЛІЗМ** — тэалагічнае вытлумачэнне гістарычнага працэсу як ажыццяўленне задумы Бога.

**ПРАВІНЦЫЯ** — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі ў 18 ст.

**ПРАГІМНАЗІЯ** — 4-класная навучальная ўстанова ў дарэвалюцыйнай Расіі.

**ПРАГМАТЫЗМ** — суб'ектыўна-ідэалістычнае філасофскае вучэнне, якое атаясамлівае рэчаіснасць з «вопытам», што задавальняе суб'ектыўныя інтарэсы асобы.

**ПРАГМАТЫКА** — кірунак *семіётыкі*, які вывучае адносіны паміж знакавымі сістэмамі і тымі, хто імі карыстаецца.

**ПРАЗЕКТАР** — урач паталагаанатамічнага аддзялення бальніцы.

**ПРАКУРАТАР** — прафесійны юрыст, прадстаўнік, даверaная асоба.

**ПРАМЯНІСТЫЯ** — легальная патрыя-

тычная арганізацыя студэнтаў Віленскага універсітэта ў 1820-я гады.

**ПРАПЕДЭЎТЫКА** — уводзіны да якой-небудзь навукі, падрыхтоўчы ўступны курс.

**ПРАСОДЫЯ** — лінгвістычная сістэма вымаўлення націскных і ненаціскных, доўгіх і кароткіх складоў у мове.

**ПРАТАПОП** — старшы праваслаўны святар.

**ПРАЦЭС 193-х** — адзін з буйнейшых палітычных судовых працэсаў у Расіі, які адбыўся 30.10.1877—4.2.1878 у Пецярбургу над часткай удзельнікаў «хаджэння ў народ».

**ПРЫВІЛЕЙ** — у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай заканадаўчы акт, якім вялікія князі ці каралі надавалі асаблівыя правы пануючаму класу, пэўным рэгіёнам, гарадам, асобам.

**ПРЫСЯЖНЫ ПАВЕРАНЫ** — адвакат на дзяржаўнай службе пры акруговым судзе або судовай палаце ў Расіі ў 1864—1917 г.

**ПРЫТЧА** — маральнае або рэлігійнае павучанне; малы дыдактычна-літаратурны жанр.

**ПРЭДЫКАТ** — лагічны выказнік; тое, што ў суджэнні выказваецца пра суб'екта.

**ПРЭЛАТ** — назва вышэйшага духоўнага саноўніка ў каталіцкіх і пратэстанцкіх цэрквах.

**ПРЭСВІТЭР** — святар; у пратэстантызме — выбраны кіраўнік абшчыны, які кіруе ёю разам з пастарам.

**ПРЭФЕКТ** — выкладчык багаслоўя.

**ПФАЛЬЦГРАФ** — у Франкскай сярэдневяковай дзяржаве — каралеўскі суддзя; у Германіі — уладарны князь.

**РАДА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА**, п а н ы - р а д а — найвышэйшы орган дзяржаўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім.

**РАКАКО** — стылявы кірунак у еўрапейскім мастацтве 1-й паловы 18 ст., у якім панаваў грацыёзны, вычварны арнаментальны рытм.

**РАЦЫЯНАЛІЗМ** — філасофскі кірунак, які прызнае розум асновай пазнання.

**РОТМІСТР** — камандзір пешай або коннай роты ў войску Вялікага княства Літоўскага.

**РЫГАРЫЗМ** — строгае правядзенне якога-небудзь прынцыпу ў дзеянне, паводзіны і думку.

**РЫТОРЫКА** — навука пра аратарскае мастацтва.

**РЭАЛЬНАЕ ВУЧЫЛІШЧА** — сярэдняя навучальная ўстанова ў дарэвалюцыйнай Расіі, у якой даваўся значны аб'ём ведаў па прыродазнаўчых навуках (матэматыцы, фізіцы, біялогіі).

**РЭГЕНТ** — 1) кіраўнік царкоўнага хору. 2) Асоба, якая ажыццяўляе ўладу ў дзяржаве ў выпадку вакантнасці прастола, малалецтва, хваробы манарха.

**РЭНЕСАНС**, А д р а д ж э н н е — перыяд у культурным і ідэйным развіцці краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы 14—16 ст.

**РЭФАРМАЦЫЯ** — шырокі грамадскі рух у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе 16 ст., які меў антыфеадальны і антыкаталіцкі характар.

**РЭФЕРЭНДАРЫЙ** — саноўнік у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

**РЭФЛЕКСІЯ** — 1) роздум, аналіз уласнага псіхічнага стану. 2) Форма тэарэтычнай дзейнасці чалавека, накіраваная на асэнсаванне ўласных дзеянняў і іх законаў.

**САКРАЛЬНЫ** — свяшчэнны, рытуальны; тое, што адносіцца да рэлігійных культаў і рытуалаў.

**САНСКРЫТ** — літаратурная мова старажытнай Індыі.

**САПРАЎДНЫ СТАЦКІ САВЕТНІК** — цывільны чын 4-га класа ў дарэвалюцыйнай Расіі.

**САЦЫНІЯНСТВА** — рэлігійна-філасофскі рух 16 — 1-й паловы 17 ст. ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім; заснавальнік Ф.Соцын (адсюль назва).

**СЕКУЛЯРЫЗАЦЫЯ** — 1) вызваленне грамадскай і індывідуальнай свядомасці ад уплыву рэлігіі. 2) Ператварэнне дзяржавай царкоўнай уласнасці ў свецкую.

**СЕМ ВОЛЬНЫХ НАВУК**, «с е м в о л ь н ы х м а с т а ц т в а ў» — вучэбныя прадметы сярэдневяковай школы і падрыхтоўчых факультэтаў універсітэтаў: граматыка, рыторыка, дыялектыка, арыфметыка, геаметрыя, астраномія і музыка.

**СЕМАНТЫКА** — раздзел мовазнаўства, які вывучае значэнне слоў.

**СЕМАСІЯЛОГІЯ** — раздзел мовазнаўства, які вывучае значэнне слоў і выразаў і змену гэтых значэнняў.

**СЕМІЁТЫКА** — комплекс навуковых тэорый, што вывучаюць розныя ўласцівасці знакавых сістэм.

**СЕМІНАРЫЯ** — сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова для падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых школ (настаўніцкая семінарыя) або служыцеляў царквы (духоўная семінарыя).

**СЕНСУАЛІЗМ** — кірунак у тэорыі пазнання, паводле якога асновай і галоўнай формай пазнання з'яўляецца пачуццёвасць.

**СЕНТЫМЕНТАЛІЗМ** — плынь у еўрапейскай і амерыканскай літаратуры і мастацтве 2-й паловы 18 — пачатку 19 ст.,

якая абвяшчала культ натуральнага пачуцця, прыроды, ідэалізавала патрыярхальнасць.

**СЕНТЭ́НЦЫЯ** — выслоўе маральнага характару, павучанне.

**СЕПАРАТЫ́ЗМ** — імкненне да аддзялення, адасаблення.

**СІГНЕ́Т** — друкарская або выдавецкая марка на кнізе; знак на творы мастацтва, які азначае прыналежнасць яго пэўнаму мастаку.

**СІЛАГІ́ЗМ** — форма дэдуктыўнай лагічнай пабудовы; разважанне, якое складаецца з дзвюх пасылак і высновы.

**СІНКРЭТЫ́ЗМ** у ф і л а с о ф і і — змяшанне, неправамернае зліццё разнародных элементаў, супярэчных поглядаў, не сумяшчальных адзін з адным.

**СКАТЫ́ЗМ** — філасофская школа 14—15 ст., што аб'ядноўвала вучняў і паслядоўнікаў Дунса Скота. Адметнай рысай яго вучэння былі палажэнні пра аднайзначнасць быцця і пра фармальнае адрозненне.

**СКЕПТЫЦЫ́ЗМ** — філасофская пазіцыя, якая вылучаецца сумненнем у існаванні якога-небудзь надзейнага крытэрыя ісціны; у 16—18 ст. сінонім вальнадумства, крытыкі рэлігійных і філасофскіх догм.

**СОЙМ**, с е й м — саслоўна-прадстаўнічы орган у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

**СО́ЛТЫС** — сельскі стараста ў Польшчы.

**СТАІЦЫ́ЗМ** — 1) кірунак антычнай філасофіі, прадстаўнікі якога ваганіся паміж матэрыялізмам і ідэалізмам, ураўноўвалі ўсіх людзей (вольных і рабоў, грэкаў і варвараў, мужчын і жанчын). 2) Стойкасць і мужнасць у жыццёвых выпрабаваннях.

**СТАРО́СТА** — службовая асоба, якая кіравала адміністрацыйнай акругай у Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай.

**СТА́ЦКІ САВЕ́ТНІК** — цывільны чын 5-га класа ў царскай Расіі.

**СТО́ЛЬНІК** — дварцовы, які адказваў за сервіроўку стала вялікага князя, пазней прыдворны чын у Вялікім княстве Літоўскім.

**СТРА́ЖНІК** — службовая асоба ў войску Вялікага княства Літоўскага.

**СТЫХА́Р** — царкоўнае адзенне рэлігійных служак і святароў.

**СТЭХІЯЛО́ГІЯ** — навука аб хімічных злучэннях.

**СУБРЭ́ТКА** — сцэнічнае амплуа; у камедыях 17—19 ст. бойкая, дасціпная служанка, даверанная асоба, пасвячоная ў сакрэты сваёй гаспадыні.

**СУГЕСТЫ́ЎНАСЦЬ** у п а э з і і — уздзеянне на ўяўленні, эмоцыі і падсвядомасць чытача праз аддаленыя тэматычныя, вобразныя, рытмічныя, гукавыя асацыяцыі.

**СУПЕРІНТЭНДА́НТ** — у пратэстантаў духоўная асоба, якая ўзначальвае царкоўную акругу.

**СУФРАГА́Н** — біскуп без епархіі.

**СФРАГІ́СТЫКА** — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае пячаткі і іх гісторыю.

**СХАЛА́СТЫКА** — сярэдневяковая рэлігійная філасофія, заснаваная на спалучэнні царкоўных догматаў з рацыяналістычнай методыкай; характэрная фармальна-лагічнымі праблемамі і хітрыкамі, абстрактнымі і беспрадметнымі разважаннямі.

**СХІ́ЗМА** — тэрмін, якім абазначаўся раскол у хрысціянскай царкве; у Рэчы Паспалітай схізматыкамі называлі праваслаўных.

**ТАЛЕРА́НТНАСЦЬ** — цярпімасць да чужых поглядаў, паводзін, веравызнання.

**ТАЛМУ́Д** — збор дагматычных, рэлігійна-этычных і прававых палажэнняў іудаізму, што склаліся ў 4 ст. да н.э. — 5 ст. н.э.

**ТАМІ́ЗМ** — вучэнне Фамы (лацінскае Toma, адсюль назва) Аквінскага і заснаваны ім кірунак каталіцкай філасофіі, які спалучаў хрысціянскія догмы з метадам Арыстоцеля; у 13 ст. заняў пануючае становішча ў схаластыцы.

**ТАСТАМЕ́НТ** — завяшчанне, распараджэнне пра асабістую маёмасць на выпадак смерці.

**ТАТАЛІТАРЫ́ЗМ** — дзяржаўны лад, пры якім у краіне знішчаны дэмакратычныя свабоды, а ўся ўлада засяроджана ў руках якой-небудзь адной групы (групоўкі), партыі.

**ТРАВЕСЦІ́** — сцэнічнае амплуа актрысы, якая выконвае ролі падлеткаў, хлопчыкаў, дзяўчынак, а таксама роля, якая патрабуе пераапранання актрысы ў мужчынскае адзенне.

**ТРАНСЦЭНДЭНТА́ЛЬНЫ** ў с х а л а с т ы ц ы — гранічна агульнае паняцце.

**ТРЫБУНА́Л ВЯЛІ́КАГА КНЯСТВА ЛІТО́ЎСКАГА** — вышэйшы апеляцыйны суд дзяржавы.

**ТРЫЯНГУЛЯ́ЦЫЯ** — вымярэнне мясцовасці праз геадэзічныя пункты; метад стварэння апорнай геадэзічнай сеткі і градусных вымярэнняў.

**ТЫРАНІ́Я** — форма дзяржаўнай улады, устаноўленай шляхам насілля і заснаванай на аднаасобным праўленні.

**ТЭІ́ЗМ** — рэлігійны светапогляд, які зыходзіць з разумення Бога як абсалютнай асобы, якая існуе па-за сусветам, ва-

лодае абсалютным розумам і воляй, стварыла сусвет і кіруе ім.

**ТЭОЛАГ** — багаслоў.

**УНІЯ** — 1) саюз дзяржаў. 2) Аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў пад вяршэнствам рымскага папы пры захаванні традыцыйных праваслаўных абрадаў і набажэнства.

**ФАРЭЙТАР** — фурман, які кіруе шматконнай запрэжкай, седзячы на адным з коней.

**ФАЦЭЦЫЯ** — жанр кароткага апавядання тыпу анекдота; вядомы ў заходнееўрапейскай літаратуры з 12—13 ст.

**ФІЗІЯКРАТЫ** — прадстаўнікі класічнай палітэканоміі 2-й паловы 18 ст. ў Францыі, прыхільнікі свабоднага гандлю.

**ФІЛАГЕНЕЗ** — працэс гістарычнага развіцця свету арганізмаў, іх відаў, родаў, сямействаў, класаў, тыпаў.

**ФІЛАМАТЫ** — тайная арганізацыя студэнтаў Віленскага універсітэта ў 1817—23; спалучала ідэі асветніцтва з нацыянальна-вызваленчымі імкненнямі.

**ФІЛАНТРОПІЯ** — дабрачыннасць, дапамога немаёмным.

**ФІЛАРЭТЫ** — філіял арганізацыі філаматаў.

**ФУНДАЦЫЯ** — ахвяраванне (зямельных угоддзяў, грошай, каштоўнасцей) манастырам, цэрквам і іншым установам; дарунак.

**ФУНДУШ** — фонд.

**ХАСІДЫЗМ** — рэлігійна-містычная плынь у іудаізме, што ўзнікла ў 1-й палове 18 ст. сярод бяднейшых слаёў яўрэйскага насельніцтва Валыні, Падолля, Галіцыі, як выраз пратэсту супраць засілля ў абшчынах равінаў і багацеяў.

**ХАРУГВА** — 1) баявы сцяг у войсках Вялікага княства Літоўскага. 2) Вайсковая адзінка (полк) у Вялікім княстве Літоўскім.

**ХАРУНЖЫ**, х а р у ж ы — службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім; хавальнік дзяржаўнага або павятовага сцяга; вёў улік і мабілізацыю ваеннаабавязаных.

**ХІЛІЯЗМ** — рэлігійна-містычнае вучэнне пра тысячагадовае зямное «цараванне» Хрыста, якое павінна настаць перад «канцом свету».

**ЦАДЗІКІЗМ** — гл. *Хасідызм.*

**ЦЕРАСПАЛОСІЦА** — размяшчэнне зямельных участкаў адной гаспадаркі палосамі ўперамежку з чужымі ўчасткамі.

**ЦІВУН** — службовая асоба дваровай або мясцовай адміністрацыі ў Вялікім княстве Літоўскім.

**ЧАШНІК** — дварцовы ці прыдворны чын, які адказваў за напіткі, што падаваліся да велікакняжацкага стала ў Вялікім княстве Літоўскім 15—16 ст.

**ЧЫНШ** — грашовы або натуральны пабор з феадальна-залежных сялян на карысць землеўласніка ў Вялікім княстве Літоўскім 14—18 ст.

**ЧЫРВОНЫЯ** — дэмакратычная плынь у нацыянальна-вызваленчым руху ў Польшчы, Літве і на Беларусі напярэдадні і ў час паўстання 1863—64.

**ЧЭЛЯДЗЬ** — залежнае насельніцтва; слугі і работнікі, якія жылі пры дварах феадалаў у Вялікім княстве Літоўскім.

**ШЛЯХТА** — прывілеяванае саслоўе ў Польшчы, Літве, на Беларусі і Украіне ў 13 — пачатку 20 ст.

**ШУБРАЎЦЫ** — члены літаратурна-грамадскага таварыства ліберальна-асветніцкага кірунку, якое існавала ў Вільні ў 1817—22.

**ЭГАІЗМ** — самалюбства; паводзіны, якія цалкам вызначаюцца думкай пра ўласную карысць і выгаду.

**ЭКЗАТЭРЫЧНЫ** — у рэлігійных абрадах тое, што прызначана для ўсіх, у т.л. і для непасвячоных.

**ЭКЗЭГЕТЫКА** — гл. *Герменеўтыка.*

**ЭКЛЕКТЫКА** ў м а с т а ц т в е — фармальнае злучэнне розных стыляў.

**ЭКУМЕНІЗМ** — рэлігійны рух (пераважна ў пратэстантызме) з мэтай стварэння сусветнага аб'яднання цэркваў.

**ЭЛЕГІЯ** — лірычны верш, прасякнуты журботнымі настроямі.

**ЭМПІРЫЗМ** — вучэнне, якое прызнае дослед адзіным сродкам пазнання.

**ЭПАС** у т э о р ы і л і т а р а т у р ы — апавядальны жанр (апавяданне, аповесць, раман, эпапея).

**ЭПІГРАФІКА** — дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем старажытных надпісаў на камянях, скалах, на гліняных, металічных і іншых вырабах.

**ЭПІКУРЭІЗМ** — вучэнне старажытнага грэчаскага філосафа Эпікура, заснаванае на разумным імкненні чалавека да шчасця.

**ЭПІТАЛАМА** — вясельны верш, песня, якія выконваюць на шлюбных урачыстасцях.

**ЭРЦГЕРЦАГ** — тытул аўстрыйскіх прынцаў.

**ЭТНАС** — народ, нацыянальная супольнасць; від устойлівай групоўкі людзей, які ўзнік гістарычна (племя, народнасць, нацыя).

**ЭТЫМАЛОГІЯ** — раздзел мовазнаўства, які займаецца вывучэннем першапачатковай словаўтваральнай структуры слова і высвятленнем элементаў яго старажытнага значэння.

**ЭТЫЯЛО́ГІЯ** — вучэнне аб прычынах захворвання.

**ЭЎДЭМАНІ́ЗМ** — этычны кірунак, які лічыць шчасце, асалоду найвышэйшай мэтай чалавечага жыцця.

**ЯНСЕНІ́ЗМ** — рэлігійна-філасофская плынь у каталіцызме, пачатак якой паклаў у 17 ст. галандскі багаслоў У.Янсеній. Рэзка супрацьпастаўляючы сапраўды веруючых мноству тых, хто фармальна прымаў царкоўнае вучэнне, ён сцвярджаў, што Хрыстос праліў сваю кроў не за ўсіх людзей.

**ЯСА́К** — у Расіі 15—20 ст. натуральны падатак з народаў Сібіры і Поўначы, пераважна пушнінай.

Склаў *Г.А.Маслыка.*

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК


Абіхт А.І. *338*
Абламовічы *338*
Абрамовіч А.І. *338—339*
Абрамовіч Адам *164*
Абрамовіч М.С. *339*
Абрамовіч Я. *41*
Абуховіч А.Р. *339—340*
Абуховіч М.Л. *164—165*
Абуховіч П.К. *165*
Абуховіч Т.Г. *165—166*
Авенарыус М.П. *340*
Агінскі Б. *166*
Агінскі М. Казімір *166—167*
Агінскі М. Клеафас *167—168*
Агрызка І.П. *340—341*
Агрыпа В. *41*
Адам Р. *168—169, 615—616*
Адамовіч А.Ф. *341*
Адамовіч Л.Ф. *341—342*
Адынец А.Э. *342*
Ажэшка Э. *342—345*
Азарэвіч Дз.І. *345*
Акрэйц С.С. *345—346*
Алелькавіч А. *41—42*
Алізароўскі А. *169—170, 616*
Альгерд *42—44*
Альшэўскі Я. *170—171*
Аляксандр *44*
Аляшкевіч І.І. *171—172*
Амельяновіч В.М., гл. *Цяпінскі В.М.*
Анацэвіч І.С. *346*
Андрушкевіч Ф. *172*
Андрыёлі М.Э. *346—348*
Анікіевіч К.Ц. *348*
Анімеле М. *348*
Анісіфар *45*
Анцута Е.К. *172—173*
Анцыпа І.Дз. *348—349*
Арля-Ашмянец Ф.Ф. *173*
Арцемій *45*
Аскерка А.У. *349*
Аскерка С.М. *173—174*
Астравіцкі П.К. *45—46*
Астрожскі К.К. *46—48*
Аўгусціновіч Т.М. *349—350*
Аўрамій Смаленскі *12*
Аўраамка *48—49*
Ачапоўскі М.М. *350*
Баболя А. *174*
Баброўскі М.К. *174—176*
Баброўскі П.В. *350—351*
Багамолец Ф. *176*
Багаткевіч А.М. *351*
Багдановіч А.Я. *351—352*
Багдановіч А.І. *352—353*
Багданоўскі Я.І. *353*
Багрым П. *353—354*
Багуслаўскі К. *176—177*
Багушэвіч М.У. *354—355*
Багушэвіч Ф.Б.К. *355—361*
Бажанаў А.М. *361—362*
Базілевіч М. *177*
Базылік Ц. *49—50*
Бака Ю. *177*
Бакшанскі Ю. *362*
Балінскі М.І. *362—363*
Бандзевіч А. *177—178*
Баранецкі І.В. *363*
Бараноўскі І.І. *363*
Бардзілоўскі І.К. *363*
Барздынскі А.Ф. *363—364*
Бароўскі Л. *364—366*
Барташэвіч А. *178*
Бартольд К. *178—179*
Баршчэўскі Я. *366—367*
Барычэўскі І.П. *367*
Барэйка А., гл. *Ходзька А.*
Барэйка Ю.
Барэйка Я., гл. *Ходзька Я.*
Без-Карніловіч М.В. *368*
Бекарэвіч С.М. *369*
Бекеш К. *50—51*
Бекю А. *179*
Белаблоцкі А.Х. *180*
Белаблоцкі Б. *369*
Берант А. *180*
Беркман Ю. *369—370*
Берман І.А. *370*
Бжазоўскі Р. *370*
Бжазоўскі Т. *180—181*
Бжастоўскі І. *370*
Бжастоўскі П.К. *181*
Бжастоўскі Ц.П. *181—182*
Білевіч Т. *182*
Бірута А. *370—371*
Бісіс С. *182—183*
Блус Ф.Ф. *371*
Богуш Ф.К.М. *183*
Богуш-Сестранцэвіч С.І. *183—185*
Бонч-Асмалоўскі А.В. *371—372*

